УДК 94(476)(082)

Укладанне, прадмова і каментар *Міхася Скоблы*

Навуковыя рэдактары:
*Арсень Ліс*, доктар філалагічных навук, прафесар
*Аляксей Пяткевіч*, кандыдат філалагічных навук, прафесар

Укладальнік і выдавецтва выказваюць шчырую падзяку
лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь
паэту *Уладзіміру Някляеву* за дапамогу ў выданні

Трэці выпуск беларускага біяграфічнага альманаха «Асоба і час» цалкам прысвечаны постаці Ларысы Геніюш (1910–1983). Да ўвагі чытача — невядомыя творы паэткі, успаміны пра яе, унікальныя архіўныя дакументы, багаты эпісталярый, рэдкія фотаздымкі… Выданне прымеркаванае да 100-годдзя Л. Геніюш.

Гукавы дадатак да альманаха ўтрымлівае ўнікальныя запісы голасу Ларысы Геніюш.

**ISSN 2218-2039**

# ХВАЛА АРХІВАМ, альбо ЗАЛАТЫЯ КАПАЛЬНІ ФОНДА 31

11 красавіка 1983 года ад дома № 7 па вуліцы Савецкай у Зэльве ад’ехаў рафік, пад завязку наладаваны пакаўнымі мяхамі. Валюхаючыся на брукаванцы яшчэ польскіх часоў, няспешна прамінуў старыя могілкі, аўтастанцыю і схаваўся, як за брустверам, за высокай насыпной дамбай, што мелася неўзабаве запыніць хуткаплынную Зальвянку. Сталічныя нумары на мікрааўтобусе падказвалі, што ў далёкую дарогу ён выправіўся няйначай як па пільнай патрэбе, па нейкі важны груз, які і мусіў даставіць у Мінск.

Пра важнасць груза ведалі не толькі пасажыры мікрааўтобуса — на слонімскай шашы сталічных гасцей спынілі міліцыянты. Прымусілі з’ехаць з дарогі ў лес, доўга распытвалі, правяралі дакументы. Паспрабавалі ўчыніць перагрус, але мяхі нечакана аказаліся апячатанымі. Старшы па званні міліцыянт нервова круціў у руках прад’яўленае яму чырвонае пасведчанне з надпісам «Саюз пісьменнікаў СССР», звязваўся з начальствам па рацыі. Нарэшце атрымаў каманду адпусціць затрыманых.

Так быў уратаваны і вывезены ў бяспечнае месца — у бібліятэку Акадэміі навук — архіў Ларысы Геніюш. Архіў, які яшчэ пры жыцці паэткі не даваў спакою пільнавокім і чуйнавухім таварышам. Ініцыятарам і самым актыўным удзельнікам выратавальнай экспедыцыі ў Зэльву быў Адам Іосіфавіч Мальдзіс. Прамарудзь ён дзень-другі — і архіў трапіў бы ў рукі другіх «даследчыкаў», якія ўжо атрымалі заданне, не зважаючы на пратэсты сына паэткі, Юркі Геніюша, перагрэсці ў апусцелай хаце ўсе паперы і знойдзеную (абавязкова!) антысаветчыну тэрмінова даставіць у спецкабінет на спецпрагляд. Не паспелі.

Сем мяхоў геніюшаўскага архіва былі дастаўленыя ў Мінск і здадзеныя ў аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў акадэмічнай бібліятэкі. Сёння фонд 31 (такую назву і нумарацыю архіў атрымаў пасля апрацоўкі) — адзін з самых багатых пісьменніцкіх фондаў у Беларусі. А па колькасці неапублікаваных тэкстаў, відаць, не мае сабе роўных. У гэтым фондзе, як у залатых капальнях, даследчыкі знаходзяць усё новыя і новыя скарбы, якім канца-краю няма. Вось ужо дванаццаць гадоў я працую з геніюшаўскай спадчынай, але яшчэ не ўсе справы прагледзеў, а часам і прагледжаныя адкладваліся да лепшых часоў, для больш засяроджанага чытання.

Як жа памыляўся Барыс Леанідавіч Пастарнак, калі кідаўся ў вершаваную дыдактыку: «Не надо заводить архива, над рукописями трястись». Архівы заводзіць трэба. І рукапісы зберагаць неабходна. Яны — дакументы часу, ягоныя метрыкі і пашпарты.

Шкада, што не ўсе сучаснікі выдатных людзей ды іх нашчадкі гэта разумеюць. Памятаю, як перажываў Янка Брыль, калі пасля смерці ягонага чэшскага сябра Вацлава Жыдліцкага згубілася ў Празе палова іх сяброўскай перапіскі за сорак гадоў.

Увогуле, захаванасць эпісталярыяў беларускіх пісьменнікаў нельга назваць здавальняючай. Прывяду некалькі прыкладаў. У час Максіма Багдановіча яшчэ амаль не было тэлефонаў у грамадскім карыстанні. Людзі часта пісалі лісты, існавала пэўная эпісталярная культура, блізкая і нашаму паэту. Думаецца, што за сваё кароткае жыццё ён напісаў

нямала лістоў, паколькі падоўгу жыў у расстанні з роднымі і блізкімі. Але варта адгарнуць трэці том багдановічаўскага Збору твораў, каб пабачыць — да нас дайшлі толькі 19 лістоў паэта, прычым палова з іх аднаму адрасату — у рэдакцыю «Нашай Нівы».

Усяго 2 лісты налічвае эпісталярная спадчына Алеся Гаруна. 9 лістоў засталося пасля Цёткі. 27 лістоў увайшло ў кнігазбораўскі аднатомавік (фактычна — поўны збор твораў) Уладзіміра Жылкі. 97 лістоў — выяўлены эпісталярый Максіма Гарэцкага. Купалазнаўцы адшукалі 140 лістоў Янкі Купалы — улучна з тэлеграмамі, жартоўнымі вершаванымі экспромтамі і рэкамендацыямі ў Саюз пісьменнікаў…

Страчана больш, чым захавалася. Ды што казаць пра асобныя лісты, калі бясследна гінулі цэлыя архівы. А часам — і іх уладальнікі.

На жаль, загінуў і чэшскі архіў Ларысы Геніюш, пра што яна з вялікім смуткам неаднаразова прыгадвала ў лістах да сяброў. Затое з эпісталярнай спадчынай паэтцы пашанцавала як нікому. На момант падрыхтоўкі гэтага альманаха ў маім кампутары ў адпаведную тэчку лёг геніюшаўскі ліст з парадкавым нумарам 1000, дасланы мне краязнаўцам Міхасём Верацілам з Краснасельскага, што на Ваўкавышчыне. І гэта толькі частка ліставання паэткі. Разведаныя запасы эпісталярных радовішчаў Ларысы Геніюш даюць падставы гаварыць і пра дзве, і пра тры тысячы яе лістоў.

Пражскі архіў загінуў, зэльвенскі — ацалеў. І персанальны выпуск «Асобы і часу» стаўся магчымым найперш дзякуючы фонду 31, які проста ў ідэальным стане захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай Акадэміі навук імя Якуба Коласа. Альманах складаецца з шасці раздзелаў.

У раздзел пад назвай *«Свая туга, свае шляхі ў крылатых…»* увайшлі вершы, апавяданні і ўспаміны Ларысы Геніюш. Са змешчаных тут 23 тэкстаў 12 друкуюцца ўпершыню. Астатнія перадрукоўваюцца з маладаступных крыніцаў — пераважна з берлінскай газеты «Раніца», пачытаць якую можна толькі ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь (дзе рарытэтнага выдання таксама няма, але ёсць мікрафішы). Надрукаваныя ў «Раніцы» ў 1941–1944 гадах вершы пазней ніколі не перадрукоўваліся, рэпублікацыя ў нашым альманаху фактычна вяртае іх у кантэкст геніюшаўскай творчасці, узбагачае нашы веды пра пачатак творчага шляху паэткі.

Раздзел *«Лісты з Зэльвы»* працягвае наша знаёмства з неабсяжнай эпісталярнай спадчынай Ларысы Геніюш. У альманаху ўпершыню друкуюцца 185 лістоў паэткі. Сярод яе сталых карэспандэнтаў — Васіль Быкаў, Алесь Белакоз, Мікола Прашковіч, Зоська Верас, Язэп Найдзюк, Данута Бічэль, Міхась Вераціла, Валянціна Трыгубовіч, Міхась Чарняўскі… Асабліва актывізаваўся збор геніюшаўскага эпісталярыю пасля таго, як выйшла ў свет падрыхтаваная аўтарам гэтых радкоў ёмістая кніга «Каб вы ведалі» (2005), куды ўвайшлі 355 лістоў. Укладальнік стаў атрымліваць геніюшаўскія інскрыпты ад знаёмых і незнаёмых людзей, якія часам таксама падказвалі магчымыя месцы захавання каштоўнай карэспандэнцыі. «Эпісталярны эпас Геніюш» (паводле Алеся Разанава) працягвае і сёння інтэнсіўна папаўняцца. Сведчанне гэтаму — і новы выпуск «Асобы і часу».

Мемуарны раздзел *«І духу магутныя чары…»* склалі ўспаміны тых людзей, якія добра ведалі Ларысу Геніюш, як правіла, бывалі ў яе зэльвенскай хаце, сяброўства з якімі паэтка неаднаразова засведчыла пісьмова. На жаль, у альманаху не ўдалося змясціць усе ўспаміны — на гэта проста не дазваляў ягоны аб'ём. Думаецца, наспеў час выдаць адмысловы зборнік. Пры складанні альманаха мне давялося адкласці тыя ўспаміны, якія дубляваліся альбо неаднойчы публікаваліся ў перыядычных ці кніжных выданнях.

Гэтак, існуе каля дзясятка апісанняў пахавання Ларысы Геніюш. Усе яны — каштоўная крыніца інфармацыі для будучых пакаленняў геніюшазнаўцаў, але і паводле тых успамінаў і фотаздымкаў, якія трапілі ў альманах, мы можам з пэўнасцю сцвярджаць, што 9 красавіка 1983 года ў Зэльве адбыўся цуд: на жалобнае шэсце, адпрэчыўшы страх, выйшлі тысячы людзей. Гэтым яны засведчылі сваю павагу да апальнай паэткі, свой прыхаваны да пары да часу беларускі патрыятызм.

*«Такіх людзей, як Вы, Бог сее нячаста...»* — пісаў Ларысе Геніюш з далёкага польскага Злотава Зыгмунт Абрамовіч — славуты Антон Забель, тэатральны актор яшчэ галубкоўскага закліку. Ягонымі словамі і названы раздзел, дзе сабраныя 92 лісты, адрасаваныя паэтцы. Усе яны публікуюцца ўпершыню, за выняткам лістоў Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча, з якімі зацікаўлены чытач ужо меў магчымасць пазнаёміцца на старонках часопіса «Дзеяслоў». Раздзел цалкам скампанаваны з матэрыялаў фонда 31, які надзвычай багаты на эпісталярныя знаходкі. Прыкры факт: у ім да гэтай пары застаюцца ляжаць некранутымі сотні лістоў Міколы Ермаловіча, Зоські Верас, Паўліны Мядзёлкі, Міколы Прашковіча. Ліставанне кожнага з іх можа скласці асобную кнігу, і кніг гэтых пералічаныя асобы заслугоўваюць. Змешчаныя ў альманаху лісты Максіма Танка, Юльяна Пшыркова, Фёдара Янкоўскага, Яўгеніі Янішчыц, Ніны Мацяш ды іншых выдатных дзеячаў беларускай культуры яскрава паказваюць, якім высокім аўтарытэтам была для іх Ларыса Геніюш — паэтка з незаплямленым сумленнем, чый голас абуджаў і яднаў нацыю.

Пасля выхаду ў свет кнігі «Невадам з Нёмана» некаторым сябрам Ларысы Антонаўны падалося, што з яе імя нарэшце знятае табу, а яе творчасць будзе ўлучаная ў кантэкст афіцыйнай літаратуры. Натхнёны добрымі пераменамі ў літаратурным лёсе паэткі літаратуразнаўца-медыявіст Мікола Прашковіч, адклаўшы ўбок прадмовы і пасляслоўі Францішка Скарыны, якімі займаўся грунтоўна, напісаў вялікі аглядны артыкул пра творчасць Ларысы Геніюш і занёс у часопіс «Полымя». Там артыкул доўга чыталі, нарэшце паклікалі аўтара і прапанавалі ўдвая скараціць тэкст. Прашковіч спачатку заўпарціўся, пасля згадзіўся. Скарочаны варыянт таксама доўга ляжаў у рэдакцыі, нарэшце не пайшоў у друк і ён. Расчараванаму аўтару нічога не заставалася, як паслаць першапачатковы варыянт артыкула ў Зэльву, дзе ён быў успрыняты з удзячнасцю і не выклікаў нараканняў з боку патрабавальнай да сваіх нешматлікіх крытыкаў паэткі. Больш за сорак гадоў «Шлях паэта» чакаў на сустрэчу з друкарскім варштатам — і дачакаўся. Разам з другімі матэрыяламі забыты твор Міколы Прашковіча склаў раздзел альманаха *«Шляхі і раздарожжы»*.

Чытачы геніюшаўскай «Споведзі», безумоўна, памятаюць поўныя драматызму старонкі жыцця Ларысы і Янкі Геніюшаў у паваеннай Празе, калі іх, чэхаславацкіх грамадзянаў, вераломна кінулі за краты і рыхтавалі да выдання ў сталінскі СССР. Гэтыя падзеі знайшлі адлюстраванне ў раздзеле *«Гавораць дакументы»,* дзе апублікаваныя ўнікальныя матэрыялы з пражскіх архіваў, адшуканыя там даўнім сябрам Беларусі Францішкай Сокалавай. Чаму савецкія спецслужбы цягам трох гадоў дамагаліся дэпартацыі Ларысы Геніюш, парушаючы пры гэтым усе магчымыя законы і міжнародныя канвенцыі? (Прыкладам, Геніюшаў патрабавалася выслаць з ЧССР як былых савецкіх грамадзянаў, што было відавочнай хлуснёй.) Адзін з магчымых адказаў на гэтае пытанне дае змешчаны ў пачатку раздзела тастамент Васіля Захаркі, паводле якога паэтка Ларыса Геніюш станавілася сакратаром Рады БНР, а значыць — і палітычным праціўнікам савецкай улады. А завяршае дакументальны раздзел некралог Ларысы Геніюш, апублікаваны 15 красавіка 1983 года ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Ён быў адзіным

ў Беларусі афіцыйным водгукам на смерць паэткі (за мяжой яны працягвалі з'яўляцца яшчэ даволі працяглы час; скажам, некралог за подпісам Янкі Запрудніка быў надрукаваны ў № 310 нью-ёркскага «Беларуса»). Зямны Ларысы Геніюш закончыўся на зэльвенскіх могілках, якія сёння ператварыліся ў месца паломніцтва беларусаў з усяго свету.

Спецвыпуск альманаха «Асоба і час» выходзіць да 100-годдзя з дня народзінаў паэткі. Нерэабілітаванай уладамі, але ўзведзенай у почат святых у дзясятках тысячаў беларускіх сэрцаў. Сэрцаў, якія вычувацьмуць яе скрыжальнае духаўздымнае Слова і ў імклівых рытмах XXI стагоддзя — першага стагоддзя вечнасці Ларысы Геніюш.

Выказваю падзяку за спрыянне пры падрыхтоўцы альманаха сп. Аляксандру Стэфановічу — загадчыку аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук, сп. Ганне Запартыка — дырэктару Беларускага дзяржаўнага музея-архіва літаратуры і мастацтва, сп. Францішцы Сокалавай — супрацоўніцы Нацыянальнай бібліятэкі Чэхіі, сп. Святлане Рапецкай — дырэктару Гродзенскага музея Максіма Багдановіча, сп. Вользе Клімуць — дырэктару Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея і ягонаму заснавальніку — сп. Алесю Белакозу, сп. Вользе Гулевай — супрацоўніцы Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, а таксама сп. Валянціне Трыгубовіч (Мінск), сп. Аляксею Каўку (Масква), сп. Мікалаю Гулінскаму (Гродна), сп. Сяргею Шапрану (Мінск).

*Міхась СКОБЛА*

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ ПАКАЗНІК

## КНІГІ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Ад родных ніў: вершы. — Прага, 1942. Факсімільнае перавыданне — Слонім, 1995.

Невадам з Нёмана: вершы і паэма / прадмова Юльяна Пшыркова. — Мінск, 1967.

Казкі для Міхаські: вершы для дзяцей. — Мінск, 1972.

Добрай раніцы, Алесь: вершы для дзяцей. — Мінск, 1976.

На чабары настоена: вершы / прадмова Дануты Бічэль. — Мінск, 1982.

Dziewiać wiershaū. — Biełastok, 1987.

Белы сон: вершы і паэмы / укладанне і прадмова Барыса Сачанкі. — Мінск, 1990.

Вершы: рукапісны зборнік (1945–1947) / прадмова Арнольда Макміліна. — Лондан, 1992.

Маці і сын: вершы / прадмовы Дануты Бічэль, Сакрата Яновіча. — Беласток, 1992.

Споведзь / падрыхтоўка тэксту, прадмова і каментары Міхася Чарняўскага. — Мінск, 1993.

Выбраныя вершы / укладаньне, падрыхтоўка тэкстаў і камэнтары Міколы Раманоўскага. — Мінск, 1997.

Выбраныя творы: вершы, паэмы, проза, лісты / Укладанне, прадмова і каментары Міхася Скоблы. — Мінск, 2000.

Ластаўка: вершы для дзяцей / укладанне Уладзіміра Мазго. — Мінск, 2000.

Гасціна: вершы і паэмы / укладанне Зінаіды Пазняк. — Мінск, 2000.

Каб вы ведалі: з эпісталярнай спадчыны (1945–1983) / укладаньне, прадмова і камэнтар Міхася Скоблы. — Мінск, 2005.

## ПУБЛІКАЦЫІ

**1940**. «Вясна» // Раніца, 28 красавіка; «Беларуска» // Раніца, 12 траўня; «Вецер вербаю калыша…» // Раніца, 4 жніўня; «Вяселле» // Раніца, 18 жніўня; «Захад» // Раніца, 25 жніўня; «Там толькі», «Па-над Вэлтаваю», «Жнівом», «Ноч», «Кволай краскай», «Вячэрняя містэрыя», «Танцуе дождж», «За прасніцай», «Дываны», «На чужыне», «Маці сына калыхала…» // Раніца, 29 верасня; «О, краіна шчасця, родная матулька…» // Раніца, 15 кастрычніка; «Марш» // Раніца, 30 кастрычніка.

**1941**. «Лён», «Заглядзеўся раз на дзяўчыну пан…», «Не суніме», «Не веру», «Над рэчкаю», «Малюе восень», «Нейк сумна», «Пакінь, пакінь, вецер…», «Мінулыя дні», «Чужына», «Спатканне», «Астры» // Раніца, 5 лютага; «Дзяды», «Калі вецер», «Майму сыночку», «Чужына» // Раніца, 25 лютага; «Мяцеліца», «Вясна», «Лятуць гусі» // Раніца, 10 красавіка; «Краю мой родны…» // Раніца, 20 красавіка; «Места», «Навучыла маці», «Бабулька» // Раніца, 30 красавіка; «Забэйдзе-Суміцкаму» // Раніца, 10 траўня; «Рагнеда» // Раніца, 30 траўня — 20 чэрвеня; «На начлезе» // Раніца, 10 чэрвеня; «Дзявочае сэрца», «Скажы» // Раніца, 10 ліпеня; «Братом-палонным», «Калісьці», «Уздымам сэрц нашых шуміць Белавежа…» // Раніца, 10–20 жніўня; «Бывай, дарагая мне Прага…», «Раніца», «Моладзі» // Раніца, 10 верасня; «Дзеду, дзеду, саколіку…», «Ой пайду я…»,

«Адказ», «Сядзіць Зося на ўзгорку…» // Раніца, 20 верасня; «Зорка», «Князь Усяслаў Чарадзей» // Раніца, 30 верасня — 10 кастрычніка; «Мой лён і сны», «Калыхала маці сына…» // Раніца, 20 кастрычніка; «Думы», «Хрызантэмы» // Раніца, 30 кастрычніка; «Аўтабіяграфія», «Думы мае, думы», «Нішто так няміла», «Як хмарны дзень», «Залаціста ўсміхаюцца далі…», «Бы нязжатае калоссе, бы ўдава…», «Хай угору», «Маладыя крыллі», «Не зязюлька куе», «Гэй з-пад рук, з-пад дзявочых», «Дзявочае сэрца», «Было свята» // Раніца, 30 лістапада; «Беларуская маці» // Новая дарога, 27 снежня.

**1942**. «Вышыла восень», «Маё сэрца», «Краіне» // Раніца, 10 студзеня; «Была ў дзеда дудка» // Раніца, 25 студзеня; «Зімою» // Раніца, 1 лютага; «Крыллем віхор», «Паход», «Не сумуйце», «Сыплюцца слёзы», «Наш сцяг», «Толькі вецер», «Загад», «Доля», «Ці за рокат гучных громаў…», «То не яснага сонца праменні…» // Раніца, 15 лютага; «Родная мова», «Ужо даволі», «Нёмне» // Раніца, 29 сакавіка — 5 красавіка; «Тры дарогі» // Раніца, 12 красавіка; «Над азёрамі», «Там, дзе гай бярозавы», «Вечар над Прагаю» // Раніца, 10 ліпеня; «Не жаль нам юнага жыцця», «Градам слоў б’еш у сэрца маё…» // Раніца, 26 ліпеня; «У ночы тужліва-бяззорныя…», «Сэрцайка згубіла», «Вёў Ігнаська коні» // Раніца, 23 жніўня; «Новы дзень» // Раніца, 27 верасня; «Запяі мне песню», «Цягнікі і рэкі» // Раніца, 4 кастрычніка; «Вее вецер» // Раніца, 11 кастрычніка; «Хачу», «Пара коней», «Іду паволі», «Пасей палоску», «Каб была я птушкай…» // Раніца, 18 кастрычніка; «Вясна», «Наш сцяг», «Калі вецер», «Як хмарны дзень…», «Маё сэрца», «Не сумуйце», «Беларуска», «Думы», «Спатканне» // Беларуская газета, 25 кастрычніка; «Пажары», «Восень чароўная, восень янтарная» // Раніца, 15 лістапада; «Над празорай крыніцай» // Раніца, 22 лістапада; «Не кранай майго сэрца…» // Раніца, 29 лістапада; «Белы парус» // Раніца, 6 снежня; «Спі, мой сыночку», «Дуды» // Раніца, 25 снежня.

**1943**. «Блудны сын» // Раніца, 17 студзеня; «Арол» // Раніца, 24 студзеня; «Вярба косы апусціла» // Новая дарога, 7 лютага; «Над Зальвянкай» // Раніца, 15 жніўня; «Пяць сыноў» // Раніца, 5 верасня; «Над Зальвянкай» // Беларуская газета, 8 верасня; «Наша жыццё» // Раніца, 24 кастрычніка; «У полі буйное калышацца жыта…» // Новая дарога, 26 снежня.

**1944**. «Любы, сцішаны тон» // Беларускі работнік, 30 красавіка; «У буру», «Вясняны подзьмух», «Наша душа» // Раніца, 30 красавіка; «Адвечны гай» // Беларускі работнік, 14 траўня; «Беларуская зямля» // Новая дарога, 25 чэрвеня; «Кліч Пагоні», «Дзе ты, кут далёкі?», «Маёй песні» // Раніца, 30 ліпеня; «На варце» // Раніца, 6 жніўня.

**1945**. «Новы год» // Беларускія навіны, № 1.

**1948**. «Непасланаму» // Сакавік, № 1.

**1949**. «Пяць сыноў», «Зямля», «На прадзедаў зямлі» // Баявая ўскалось, № 1; «Кліч Пагоні», «Іду супраць долі свае нецвяроза…» // Баявая ўскалось, № 2.

**1950**. «Кір», «Поўны тугі, поўны красы» // Баявая ўскалось, № 3.

**1953**. «Яшчэ не час», «Удар», «Чужыя хвоі» // Наперад, № 25; «Вецер гойдае», «Кір», «У асенні дзень» // Наперад, № 26.

**1954**. «Маёй песні», «Ёсць край адзін», «Над Зальвянкай», «Доля не кунежыла мяне», «На варце», «Дзе ты, кут далёкі?», «Замуж», «У буру» // Бацькаўшчына, 27 сакавіка.

**1955**. «Маёй песні», «Ёсць край адзін», «Над Зальвянкай», «Доля не кунежыла мяне», «На варце», «Дзе ты, кут далёкі?», «Замуж», «У буру» // Ля чужых берагоў: альманах твораў беларускіх эміграцыйных пісьменнікаў. — Мюнхен.

**1963**. «Зямля», «Сягоння сонца ткала дываны…», «Усю ноч аж да ранка…» // Голас Радзімы, № 38; «Іду адна, а прада мною — ноч…», «Дзень яшчэ дагарэць не паспеў…», «Прыпала сонца прагнымі губамі…», «На начлезе», «Зорка», «Дзявочыя думкі» // Полымя, № 4.

**1967**. «Мая мова» // Дзень паэзіі — 67; «На магілах не сеюць пшаніцы…», «Дануце Бічэль», «Усё пургою, усё з тугою…», «Куфар» // Полымя, № 2; «Зубры», «Акварэль» // Літаратура і мастацтва, 10 лютага; «Твой век праедзе на машынах…» // Літаратура і мастацтва, 28 лістапада.

**1968**. «Дзед Мароз», «Курка», «Певень» // Вясёлка, № 2; «Гасціна», «Торбачка», «Дамоў», «Сарока», «Вайна», // Полымя, № 8.

**1971**. «Юным не спіцца…», «Восенню», «Не затрымаць цябе, вясна ў далонях…» // Дзень паэзіі — 71.

**1972**. «Дзед» // Зорка Венера: лірыка кахання. — Мінск; «Хмель» // Гродненская правда, 2 декабря.

**1974**. «Каляда, ўрачыста крочыць свята…», «Снег навокал, на сэрцы мне сумна…», «З Новым годам, са святам, браты на чужыне…» // Беларус, студзень.

**1975**. «З Новым годам, суродзічы, да вас сэрцам ірвуся…», «У снягах белапенных…» // Беларус, люты.

**1979**. «І ў сэрцы надзея, як промні», «Зноў вясны пераможнай напеў…», «Вянуць ружы мае на кустах…», «Мінуў час непаўторна…», «Благаславенны край наш, ад азёраў сіні…», «З мінулага», «Хай славіцца наш беларускі род…», «З самых юных дзіцячых гадоў…», «Іду скрозь зялёныя шолахі дрэў…», «Мудрасць спелую сівых вякоў…», «Славяцца людзі гуманнасцю спраў…», «Не хочацца больш чуць пра кроў…» // Літаратура і мастацтва, 14 верасня.

**1980**. «Гартаваны працоўнымі днямі…», «Баразна», «Лес», «Гэткі сон, болем хат не разбуджаны…», «Люты», «Хтось адыходзіць ад нас назаўсёды…», «Сын і матуля», «Вечаровая песня» // Маладосць, № 6; «Мая крыніца», «Белавежа», «Унуку», «Зелена», «Даўно за поўнач, а мне не спіцца…», «Жменя калосся ў покуці», «Лепш не кліч у свет мяне з сабою…», «Раніца, як марыва, травы у расе…», «Я не спяшаюся» // Полымя, № 7; «Сустрэча» // Гродненская правда, 31 мая; «Каложа» // Тамсама, 30 августа; «Конь буланы, сядзёлка…», «Гравюра» // Тамсама, 4 октября; «Зубры», «Капуста», «Вавёрка», «Чмель» // Ніва, 2 лістапада.

**1981**. «Над старымі друкаванымі кнігамі» // Дзень паэзіі — 81; «На роднай зямельцы усе мы не госці…», «Ад моцнага ветру павеву…», «Змагаешся з цемраю, дык і жывеш…» // Голас Радзімы, 13 жніўня; «На сонечных гонях», «Жаўранак», «Пралеска раскрылася ў жмені…» // Гродненская правда, 9 мая; «Дом дзяцінства», «Зэльва» // Тамсама, 4 июля; «Мне патрэбны вецер малады…», «Даўно за поўнач, а мне не спіцца…» // Тамсама, 5 сентября; «З моладдзю», «А маладосць цвіла вясною…» // Тамсама, 24 октября; «Цішыня. Толькі месяц двухрогі…», «Нам марыць належыць тады, калі марыцца…» // Літаратура і мастацтва, 17 ліпеня.

**1982**. «Мастакі», «Пачуццяў буры не стрымаць…», «Хвалі жытнія аж да сяла…» // Гродненская правда, 8 мая; «Вечарам» // Тамсама, 26 июня.

**1983**. «Вочы мае, поўныя жывой красы…», «Запаветная мара ўсіх часоў…», «Навокал снег, бы сівізна на скронях…», «Воблік сёлаў, родны прыпын…», «Моцны дух наш —

дарагое рэчыва…», «Так многа ведаў, мудрасці на свеце…», «У жыцці добрае і паганае…», «У чыстым полі злосная завея…», «Мы доўга глядзелі на Край наш праз слёзы…», «Праходжу, навокал змагання сляды…», «Бацькаўшчына, зямля дарагая…», «На працягу шматлікіх вякоў…», «Не згінай мяне, я не сагнуся…» // Літаратура і мастацтва, 11 сакавіка; «Год і яго род» // Ніва, 2 студзеня; «На каньках» // Тамсама, 27 лютага.

**1985**. «У жыцці ў цябе ўдараў нямала…», «Жменя калосся у покуці», «Хлеб», «Баравікі», «З каменьчыкаў імя не выкладаю…» / публікацыя Дануты Бічэль // Беларусь, 1985, № 8; «З беларускай тугою ў сэрцы…», «Над маёй галавой праляцяць самалёты…», «Ужо гасне дзень, я па зямлі ступаю…», «Гадавалі і пралі матулі…», «Мы як зубры…», «За вокнамі гасне дзень…» // Літаратура і мастацтва, 23 жніўня; «Добрай раніцы, Алесь!» // Вясёлка, № 8; «Унукі», «У бабулі», «Козачка», «Бабуля і ўнучка», «Бусел», «Куранята» // Ніва, 7 красавіка; «Алёнка-дакторка», «Пра зайкаў» // Тамсама, 4 жніўня.

**1987**. «Не знаю», «Кахаць», «Не хачу быць тваёю жонкаю…», «За Урал сонца ўпала, бы зарава…», «Гнаны холадам, гнаны ветрам…», «Можна сэрца жывое пакласць на агонь…», «Я з вамі ў няволі, я з вамі усцяж…» / публікацыя Вячаслава Адамчыка // Літаратура і мастацтва, 25 снежня.

**1988**. «Луг прайсці і ног не замачыць…», «На магілу зэка», «У горы я над тваімі ранамі…» / публікацыя Дануты Бічэль // Полымя, № 4; «Замерзлымі пальцамі», «Стукачы», «Мы — народ» / публікацыя Міколы Ермаловіча // Беларусь, № 6; «Гордым крокам ступай па зямлі…», «На зямельцы дзядоў нашых, прадзедаў…», «Імгла былога, дымок успамінаў…», «Сцішаным сэрцам я чую — бурліць…», «Нас, забітых, загнаных на свеце…», «Памутнелыя вочы ў тузе…», «Што ж табе, ўнуку, я ў спадчыну дам…» // Дзень паэзіі — 88 / публікацыя Дануты Бічэль.

**1989**. «Маёй Бабусі» / публікацыя Барыса Сачанкі // Спадчына, № 2; «Вы і я — гэта словы і словы…», «Не чакай у трывожным бяссонні…», «Востры сум пранізаў наваколле…», «Калі ноччу дарогай заснежанай…», «Трапечацца сэрца у путах…», «Помню Прагу, вясняныя святы…», «Шырокім размахам хвалюючых крыл…», «Імя тваё ў дні пакутна-нявольныя…», «Даль халодным Уралам сінее…», «Адзінока іду ў нязнанае…» / публікацыя Васіля Супруна // Літаратура і мастацтва, 3 лютага; «Доля», «Забэйду-Суміцкаму», «Па-над Вэлтаваю», «Мяцеліца», «Кволай краскай», «Маёй песні», «Ёсць Край адзін», «Над Зальвянкай», «Дзе ты, кут далёкі?» / публікацыя Барыса Сачанкі // Полымя, № 10.

**1990**. «Споведзь» / публікацыя Міхася Чарняўскага // Маладосць, № 1–6; «Пад нашым небам, чыстым і сінім…», «Ні таннасць напеваў чыжых, учарашніх…», «Сёння аб сцежках нялёгкай долі…», «Ляцяць гады, як ластаўкі…», «Ты, зямля, майго бацькі зямля…», «Калі бачу лютую няпраўду…», «Апошні дотык рук на твары чую…», «Сціхлі ўсхліпы суровых завей…», «Крывёй напоўніліся поймы рэк…», «Пакуль аж смерць мне не закрые вочы…», «Мой род», «Час невясёлы, лёс такі прэсны…», «Уладзіміру Кавалёнку», «На працягу шматлікіх вякоў…», «Беларусь — мая ясная, сіняя казка…», «Праплылі хмары шырака і ўздоўж…», «Ціха ад дрэваў лёг цень на страху…», «Вецер нівы калыша, сіні лён, цёмны лес…», «Хлопчык маленькі, ты — быццам світанне…», «Йду шляхамі крутымі…», «Сярод халуёў і духоўных калекаў…», «Раніца, як марыва…», «Сонейка ў небе і вецер-гусляр…» / публікацыя Барыса Сачанкі і Міхася Чарняўскага // Літаратура і мастацтва, 1 чэрвеня; «Даўніна» / публікацыя Барыса Сачанкі і Міхася Чарняўскага // Полымя, № 7.

**1991**. «Партызаны» // Наша Ніва, № 1.

**1992**. «Неўміручасць даўніх пакаленняў…», «Далі ёсць далі, і лёс наш круты…», «То не гоман чужы і грымотны…», «Сонца ўзышло асенняе…», «Не жыццём напоўнены дзень да краёў…» // Літаратура і мастацтва, 28 лютага; «З самых юных дзіцячых гадоў…», «Жмені не варт бацьвіннай вялай нацi…», «Каб бярозу гэтак сцінaлi…» / публікацыя Уладзіміра Мазго // Полымя, № 8; «Святы Вечар», «З намі Бог», «Каляды», «Кружыць снег над палямі, над хатамі…» // Роднае слова, № 12; «Чуеш, браце, вецер дзіка вые…», «Вецер думы навеяў аб полі…», «Ты такой не сустрэў», «Ізноў ты выходзіш», «Я знаю» / публікацыя Васіля Супруна // Дзень паэзіі — 92.

**1993**. «Жыровічы» / публікацыя Уладзіміра Ягоўдзіка // Звязда, 6 красавіка.

**1994**. «Страх — за праўду кінуцца ў бой…», «Край мой любы, птушка падбітая…», «Край мой любы, войнамі змучаны…», «Мова», «Йду па Менску, нідзе свае мовы не чую…», «Кажуць — добра, а мне нядобра…», «Надоі, адкормы, ўраджаі…», «Хоць душа твая гордая ў ранах…», «Топчуцца коні тэўтонаў…» // Беларуская мінуўшчына, № 1; «Край па-святочнаму ў белі снягоў…», «З родных гнёздаў, з каханай старонкі…», «Сэрца да Краю звернена…», «Снег пластом. Паімчаліся сані…» / публікацыя Міхася Скоблы // Хрысціянская думка, № 1.

**1995**. «Воля — не тое, што рукі развяжуць…», «Едзем ноччу, а снег — як дым…», «Усю ноч аж да ранка…», «Начная акварэль» // Беларусь, № 1; «Зашчымела мне сэрца ў грудзёх…», «Сілаю ў сеці злоўлена…», «Прачнулася ў няволі цемнаты…», «Над народам зноў чужыя босы…», «Ужо вятры мяне наскрозь прадзьмулі…», «Жыровічы», «Моладзі», «Ужо даўно адабраў тамагаўкі…», «Гаварыць па-беларуску — гэта модна…» // Роднае слова, № 8.

**1996**. «Сто ранаў у сэрца» / публікацыя Яніны Кісялёвай // Голас Радзімы, 5–19 снежня.

**1997**. «Кусочак неба», «Удар», «Чужыя хвоі», «Цуд», «Б'юць хвалі», «Яшчэ не час», «Як вернае сэрца», «Воля», «Зямля», «Сонца», «Кір», «Дзяды», «Ударыў вецер» // Беларуская маладзёжная, 17 студзеня; «Мінулае і сучаснае», «Успаміны», «Крынкі», «Яшчэ незабытае», «Жлобаўцы», «Манюты» / публікацыя Яніны Кісялёвай // Маладосць, № 1; «Дзед Павел», «Рэвалюцыя», «У Гудзевічах», «Леся Украінка» / публікацыя Яніны Кісялёвай // Маладосць, № 2.

**1998**. «Без любові ў жыцці, як без сонейка…», «Святы Калядны вечар…», «Каляда, ноч плыве ў задуменні…» / публікацыя Міколы Раманоўскага // Літаратура і мастацтва, 9 студзеня; «Вязніцы і краты, кайданы і дрот…», «Чуеш, браце…», «Краіна любая, не плач слязьмі крывавымі…» / публікацыя Васіля Супруна // Пагоня, 5 сакавіка; «Беларуская маці», «Краіне», «Не жаль», «Хачу», «Пажары», «Дуды», «Шмат вёснаў», «Новы дзень» / падрыхтоўка да друку Міхася Скоблы // Літаратура і мастацтва, 20 сакавіка.

**1999**. «Рагнеда» / падрыхтоўка да друку Міхася Скоблы // Спадчына, № 2; «Маўчыць зямля, замучаных магілы…», «Разліся, мова, як мора…», «Самагон, манаполька рэкамі…» / публікацыя Міколы Канаша // Народная воля, 7 ліпеня.

**2000**. «Лёт намечаны сэрцам…», «Сытасць, сытасць — жывёлаў мэта…», «Імя тваё», «Мой род стары, як вырубаны лес…», «Гаварыць па-беларуску — гэта модна…» / публікацыя Лявона Юрэвіча // Полымя, № 1; «Млын», «Йду слядамі дзядоў…», «Плача ноч сузор'ямі…», «Ўставала сонца, як хвост паўліні…», «Забалела падбітае сэрца…», «Жаночае амаль не знаю кволі…», «Янычары», «Мне не ўдалося узляцець пад неба…», «Дваццаць пяць год», «Пасадзіла дрэўца на чужым загоне…», «Апяклі

мяне росы раннія…», «Пурга» / публікацыя Міхася Скоблы // Літаратура і мастацтва, 4 жніўня.

**2001**. «Пяро маё, цяжкое ад адчаю…», «Адна ёсць толькі ў свеце Беларусь…», «Стома дня, бляск вачэй маіх сумны…», «Мой дом», «Наш шлях», «У Вільні», «На дварэ стыне позняя восень…», «Край у глыбокай, асенняй трывозе», «Дзень сінялобы стукае ў акно…» / публікацыя Міхася Скоблы // Пагоня, 9 жніўня; «Памёр паэт сягоння ціхай ноччу…», «Я ідалам ні дарам, ні за грошы…», «Чало ў поце, далоні ў працы…», «Сонца. Надзейны і праведны шлях…», «Пара коняў», «Спі, мой сыночку», «Зацвітаюць чаромхаю вёсны…», «Пасадзіла дрэўца на чужым загоне…» // Тамсама, 16 жніўня.

## АРТЫКУЛЫ ПРА ТВОРЧАСЦЬ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

*Мальдзіс Адам.* Іскрыцца паэзіяй невад // Звязда, 1968, 14 сакавіка.

*Трыгубовіч Валянціна*. Натхняе родная зямля // Голас Радзімы, 1981, 13 жніўня.

*Петкевич Алексей*. Чувство отчей земли // Гродненская правда, 1982, 7 августа.

*Пісьмянкоў Алесь*. Ад родных ніў // Літаратура і мастацтва, 1982, 3 снежня.

*Тарасюк Любоў.* Маці беларуская // Літаратура і мастацтва, 1991, 26 красавіка.

*Арочка Мікола.* Спавяданне беларускай ідэі // Полымя, 1992, № 1.

*Барадулін Рыгор.* Унучка Францішка Скарыны, або Зэк № 287 // Полымя, 1992, № 10.

*Тычына Міхась*. Паміж молатам і кавадлам // Першацвет, 1994, № 3.

*Скобла Міхась*. Палімпсесты Ларысы Геніюш // Літаратура і мастацтва, 1998, 20 лютага.

*Бадак Алесь*. Госця з будучыні // Полымя, 1998, № 2.

*Петрушкевіч Ала*. Кветкі журбы // Маладосць, 1999, № 3.

*Загорская Марина*. «Як жыць, дык жыць для Беларусі» // Белорусская деловая газета, 2000, 18 марта.

*Лужанін Максім*. Зямлі адвечнай дачка // Культура, 2000, 19–25 жніўня.

*Федута Александр*. Несгораемые слова Ларисы Гениюш // Народная воля, 2000, 20 верасня.

*Гілевіч Ніл*. І яна перамагла // Літаратура і мастацтва, 2001, 27 красавіка.

*Марціноўскі Пятро*. Зубры і зубраняты // Газета Слонімская, 2001, 9 жніўня.

*Рублевская Людмила*. Поедет ли поэзия на бал? // Советская Белоруссия, 2003, 17 мая.

*Бічэль Данута*. З крынічкі напаі мяне святое // Куфэрак Віленшчыны, 2004, № 1.

*Бічэль Данута*. Яднала мінулае і будучыню // Наша вера, 2004, № 4.

*Чыгрын Сяргей*. Яе мудрасці хапала на ўсю Беларусь // Ніва, 2008, 24 жніўня.

*Рагойша Вячаслаў*. Невядомы аўтограф Ларысы Геніюш // Краязнаўчая газета, 2009, сакавік.

## ХАЙ УГОРУ

Хай угору, хай у зоры
разьвіваецца наш сьцяг!
Не стрымае болей вораг
нашай нацыі размах!

Мы на плечы маладыя
барацьбы ўзялі цяжар;
за куты дзядоў сьвятыя
нам жыцьця свайго ня жаль.

Мы ня знаем, што нядугі,
мы ня знаем, што спачын;
рукі, моцныя ад плуга,
праўду выкуюць у чын.

Нашы сэрцы — ўздым адвечны,
адраджэнскі ў іх спахват,
наш народ стаіць, як веча —
каля брата шчыльна брат.

Не загінем, жыць мы будзем
дружнай, цеснаю сям'ёй;
справядлівасьць нам здабудзе
Бог караючай рукой.

Крыўды зьлічым мы народу
і за дань сваёй крыві
пойдзем мы па нагароду
для Краіны, для жывых.

Хай угору, хай да зораў
разьвіваецца наш сьцяг!
Не стрымае болей вораг
нашай нацыі размах!

*1941*

## КАБ БЫЛА Я ПТУШКАЙ

Каб была я птушкай, каб я мела крыльлі,—
праляцела б далі, праляцела б мілі,

закрычала б ціха ў полі над лясамі,
дзе сумуе мілы днямі і начамі.

Для яго з-пад сонца роднае старонкі
запяяла б міла, запяяла б звонка.

Чаму я ня вецер, вольны, нестрыманы,
каб ляцець, дзе ходзіць мілы ля кургана,

калі дзень на захад схіліцца, самлеўшы,
каб разьвеяць думы, запяяць, пацешыць?

Чаму я ня месяц, што блукае ў зорах,
каб сьвяціць праз вокны, калі будзе хворы,

калі сэрца ноччу жалем закрынічыць,
цалаваць, лялеяць мілае аблічча,

маладую голаў на грудзёх кунежыць
і пяяць аб ласцы, як пралескі, сьвежай?

Чаму я ня хмарка, што, як сон дзявочы,
быццам тыя думы, паплыве, дзе хоча?

Я плыла б за мілым, дзе б ішоў з адвагай,
пакрапіла б сьцежку, пагасіла б смагу…

*1942*

## НАД АЗЁРАМІ

Сонца на небе расплавіла сталь —
льецца на захад чырвонаю лавай…
Вецер, спужаўшыся, перастаў
вольхам шумлівым чубы кучаравіць.

Толькі хвалююцца грудзі азёр,
кранутых водблескам даляў чырвоных.
Доўгія цені ткуць сумны узор
на таямніча-зацішных загонах.

Быццам на вочы упорыста сон —
ноч на зялёныя ўзгоркі ўсплывае…
Марай прыходзіць з далёкіх старон,
цёмнаю хусткай палі закрывае.

Толькі на водаў бліскучы крышталь
месяц тужліва-задуманы сьвеціць…
Недзе гартуе расплаўлену сталь
ў новае раньне прабуджаны вецер.

*1942*

## ВОСЕНЬ

Восень чароўная, восень янтарная,
зь лісьцямі сумна спадаеш далоў,
гасьнеш, бы ў сэрцы парывы бунтарныя,
гасьнеш, як казка нязьдзейсьненых сноў.

Лісьце, як краскі расьцьвіўшага маку,
полымем ясным на доле гарыць.
Заўтра над ім ужо будзеш ты плакаць,
хмарамі сонца закрыўшы ўгары.

Восень нясталая, восень хімэрная,
сонечным сяньня лялееш цяплом,—

заўтра ж ад гора заплачаш бязьмернага,
горка заплачаш аб тым, што прайшло.

Веру — была гэта казка манлівая:
гульні вясьняныя лета зь сярпом,
дні каласістыя, водгульлі жніўныя,
межы, пахучыя ў ноч чабаром.

Казкі вясьняныя, шэпты упойныя,
ў шэрым тумане ўзьнімаюцца ўвысь;
сны медунічныя ў ноч неспакойную
зь лісьцем пажоўклым спадаюць на ніз.

*1942*

## НАША ЖЫЦЬЦЁ

Вы кажаце мне, што мы ў тумане
схаваліся ў шэрыя хаты,
а вы ў гарадох, у прыгожых мурох
жывеце запраўды багата?

Што слаба ямо, што носім ярмо,
ня маем высокай культуры?..
Па сьмерці ж і вас адразу ў той час
таксама схаваюць у муры.

Раней ці пазьней муры час згрызе,
і ўсё, што ўздымалася ўгору,
абернецца зноў ля Божых тых слоў
у пыл і бязвартасны порах.

А што да ярма, дык ня носім дарма —
мы часу свайго дачакаем,
і той, хто другім каваў ланцугі,
сам рукі ў кайданы схавае.

Мы можам пражыць і на польнай мяжы,
ня трэба нам цьвёрдых каменьняў.
Нам могуць да хат кусты заглядаць
цьвітучай асьвежаны пенай.

Еш болей ці менш — усё роўна памрэш,
нічога табе не паможа.
Пі квас ці каньяк, а гэтак ці так
у землю сырую паложаць.

Адзіны канец — пад сумны капец,
да сонейка ўжо не устанеш…
Адное, што есьць, — то памяць і чэсьць
Із сэрцаў, адданых каханьню.

Калі, Беларусь, я нарэшце памру
ці ў буйным змаганьні загіну,

прыкрый мяне ты пяском залатым,
парослай травою-пярынай.

Хай ветры шумяць тваё мне імя,
хай гул тваіх сёлаў даносяць.
А памяць маю хай толькі ў гаю
аплаквае сумная восень…

*1943*

## РАДЗІМЕ

У полі буйное калосіцца жыта,
у красках ірдзіцца узорысты луг,
сінее даль, тонкай імглою спавіта,
бары векавыя гамоняць наўкруг.

А вецер разносіць пах кволае мяты
ды чэша зялёныя косы бяроз…
Калісьці за праўду сурова расьпяты,
там ціхія сёлы вартуе Хрыстос.

Уздымуцца гордыя славай курганы,
і вежы сьвятыняў пабожна стаяць,
у неба малітвай звон б’е ўсхваляваны —
вось гэта Радзіма сьвятая мая!

Мы песьцім вякамі барозны загонаў,
мы потам зьліваем буйное зярнё
і зь верою моцнай, бяз стомы і стогну
ідзём безупынна за верным канём.

Ізь ветрам калышуцца песьнямі нівы,
сінее тужліва лясоў нашых шоўк…
З надзеяю сочым бег рэкаў імклівых
ды вольнае хвілі чакаем здалёк.

Хай іншыя славяць высокія горы,
хай тужаць за хваляй сінявых мароў, —
мы ж нашыя далі, мы ж нашы прасторы
кахаема верна за гоман бароў.

*1943*

## ВЯСЬНЯНЫ ПОДЗЬМУХ

Вясьняны подзьмух з поля мімалётна
вярбінам песьню заіграў на струнах.
Абняў бярозу квола і пяшчотна,
прыгладзіў грыву смарагдовай руні.

Калі ляцелі у паднеб’і птушкі,
ім сонца бляскам залаціла крыльлі.

Іх прывітала ў белай хусьце груша,
гаі насустрач ім загаманілі.

Над хаты шэрай саламяным чубам
іх барана гасьцінная чакае.
Там бусел белы закружыўся люба,
адчуўшы сэрцам, што у родным Краі.

Каштаны лісьцем шапацяць шаўковым,
зара ад ясных і пахучых сьвечак
дрыжыць у сіні неба васільковай,
а рой пчаліны славіць зь ёю вечнасьць.

І лёгкім плюскам хвалі пераліўнай
б'ючы гульліва аб зялёны бераг,
імкнецца рэчка ля вясёлыхніваў,
схаваўшы вочы за туманам шэрым.

І чуецца маломy салавейку —
як на імхі зялёныя на ўзьлесьсі
тужлівасьць тонаў разьліла жалейка,
ў грудзёх вясьнянай не стрымаўшы песьні.

*1944*

## АДВЕЧНЫ ГАЙ

Купаўся у сонцы расплаўлены дзень,
вялікі, бясконцы гай горда гудзеў,
шум пенна-зялёны імчаў па палёх,
у неба ўзьлятала буйное гальлё.

Ці мала нягод гай адвечны стрываў,
ды, пружачы грудзі, вякі прастаяў.
Сьцярог ён зямельку, дзе продкаў сьляды,
з апекай стаяў ля дубкоў маладых.

Калі яго буры глумілі ўначы,
ён раны зялёныя сонцам лячыў.
І месяц, і зоры, і дзень, што сьвітаў,
і цёмныя хмары ён горда вітаў.

Аж раз ашалела віхор зашугаў,
зьнянацку захоплены гай застагнаў,
а вецер гнуў дзіка камлі, як шчыты,
падважваў карэньне у нетрах густых.

Праз ноч мацаваліся зь сілай дубы,
віхор іх у сэрцы адважныя біў,
за хваляю хваля, няроўны быў бой,
шумеў гай трывожна зялёнай ліствой.

Чырвоным сьвітанкам на грудзі зямлі
дубы, як ваякі, ахвярна ляглі.

З пабоішча толькі адзін маладняк
твар гожа-зялёны да сонца узьняў.

Над сьвежай магілай пакрышаных дрэў
ён з новаю сілай наноў зашумеў,
каб вораг на сьлед наш сьвяты не ступіў,
ён землю карэньнем мацней абхапіў.

Упіўшыся прагна у свой чарназём,
ён дужаў камлямі, ўздымаўся гальлём
і зноў расшумеўся. Зь мінулых вякоў
сабраў усе казкі і песьні дзядоў,
шумеў іх нашчадкам у жоўтых палёх
і родную землю карэньнем сьцярог.

*1944*

## НАША ДУША

Бесканчальная зелень Краіны,
навісь сіняя лёгенькіх хмар.
Да цябе па начах успаміны
распаляюць каханьне у жар.

Надарваная ўпорыстым боем,
палітая атрутай душа
ўжо прывыкла ўспамінаў сувоем
боль чужыны ліхой заглушаць.

Не жахліва-крывавае сёньня,
не блуканьне нявольных у цьме —
іншы тон у народным прадоньні
заварожвае сілай мяне.

І ня словы тугі пад прымусам,
калі вырве з грудзей іх ня наш, —
ёсьць другая душа ў беларуса,
як чароўны, нязнаны міраж.

Хто у хаце на сьвет не радзіўся,
у разоры за плугам ня йшоў,
сумам песьні радзімай ня ўпіўся,
той ня знае душы крывічоў.

Яна ў звычаях тоіцца, ў песьнях
між сваімі ўзрастае з нутра,
старадаўнімі нотамі песьціць
самабытны, сьвятарны наш Край.

Кожным гукам пяшчотнае мовы,
быццам матчына сэрца, мяккім,
а салодкім, як мёд наш ліповы…
Захавалі мы скарб свой вякі.

І хоць вораг, здаецца, так блізка,
што душу нат патрапіць дастаць,
нашых тайнаў яму ад калыскі
да магільных капцоў не спазнаць!

Сёньня дзьверы прад намі ўжо насьцеж
хваляй новых адчынены дзён.
Ды ўсё ж буду, як прадзеды, прасьці
гэту нітку старых верацён.

Кожны час, цераз боль і нягоды
у змаганьні наўпрост ідучы,
буду весьнюю душу народа
на пажарышчы дзён сьцерагчы.

*1944*

## НА ПАРОЗЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Я іду нецьвярозай хадою,
на нагах — пыл вялікіх дарог.
Паўстае, быццам сон, прада мною
каласістае збожжа ў палёх.

Штосьці ўдарыла ў грудзі прыбоем,
шапку ціха з чупрыны я зьняў,
пакланіўся разгойданым хвоям
і сьлязой родны кут прывітаў.

Ды, прыпаўшы да чыстай крыніцы,
гэтак нізка я голаў схіліў,
што грудзямі нат мог прытуліцца
да пахучай радзімай зямлі.

Пах барознаў пагораных чую.
Ціхі жаль праступае з нутра,
быццам маці я гладжу старую
ці мяне туліць-песьціць сястра.

Борзда ўстаў я, а поле у красках,
і насустрач ка мне зазьвінеў
рэхам сьвежай вясьнянае ласкі
нейкай дзеўчыны гожае сьпеў.

І, узьняўшы, як красачка, голаў,
насустрэч маіх радасных сьлёз
усьміхнулася ціха і квола
з-пад бялявых заплеценых кос.

Мой каптан быў падзёрты, убогі,
рвала бура яго ці адна…
Я спытаўся — кудэмі дарога?
Неяк ціха спытала: «Ты наш?

Шмат дарогаў ляжыць прад табою,
розны іхні кірунак і бег,
ды якою ні пойдзеш сьцягою,
ўсюды шчыра спаткаюць цябе.

Быццам птушак з далёкага краю
напярэдадні яснай вясны,
Беларусь, наша Маці, вітае
ўсіх, што ёй дарагія, сыны».

Я іду да тых стрэх саламяных,
чую крыльле, як быццам я — птах.
Рад бярозаў ад гоняў аўсяных
мне вясёлы паказвае шлях.

*1944*

## ВЕЦЕР ГОЙДАЕ

Вецер гойдае лёгка каромыслам,
зь вёдзер плёскае сіньню вада.
Ля калодзежа дзеўка саромiцца —
просіць хлопец вадзіцы падаць.

А вада серабрыцца крынічная,
адбівае дзяўчынанькі твар.
Дзіўна сэрцы пяюць пераклічкамі,
і вада не пагасіць іх жар…

З вачэй, небам пагодным напоўненых,
з вуснаў сьпелых — пахучых малін,
ніці доўгія, ніці чароўныя
сэрца хлопцу тугой спавілі.

Нават конь не заглушыць капытамі,
не суцішыць і вецер тых дум,
дзе краса і вада недапітая
серабрыцца крыштальна ў саду.

Не бяроза, вятрамі расчэсана,
не пакінуты ветлівы сад, —
толькі сінія вочы пралескамі
дзіўнай смагаю вабяць назад.

Калі выйдзе дзяўчынанька сумная,
над крыніцай галоўку нагне,
вочы сьмелыя ў твары задуманым
толькі бачыць скрозь сьлёзы на дне.

І пытаецца птушак над сёламі,
і пытаецца вольных вятроў,
калі рук сваіх лільлямі кволымі
сакалу згасіць смагу ізноў.

Калі сочнымі вуснаў малінамі
пацалунак памкнецца аддаць,
калі слова пачуе адзінае,
што умее, што будзе кахаць…

Над палямі, лясамі, загонамі,
над гасьцінцаў шырокай стугой
паплылі хмары ўсьцяж перагонныя,
і дзявочыя вочы з тугой…

## ЧУЖЫНЕЦ

Не далоня з далоняй, ня тварам у твар,
нат ня словам ласкава-пявучым,
мы сустрэліся сцежкамі мар
ў дні суровыя — ці ж неразлучна?

Маё імя? Скажу вам, яно — быццам чад,
як хвалюючы шум кіпарысаў,
як бунтарная песня заржаўленых крат,
маё гордае імя — [Ларыса].

Усё ж сэрца ад нейкага страху дрыжыць,
уніз веі апалі бясшумна.
Першы раз у жыцьці нехта сьмелы й чужы
забірае мне вольныя думы.

Не скажу табе болей — пашто табе знаць
боль сучаснага, радасьць былога.
Я аддам табе ўсё, што магчыма аддаць
ў гэту ноч, не крануўшы сьвятога.

Хочаш — дам табе ўзьвівы шалёнай тугі,
солад слоў беларускіх пяшчотных,
і цяпло, што сагрэе ў абдымках пургі,
хмель пачуцьцяў свае адзіноты.

Хочаш — дам табе ўсё, што уздумаеш сам,
нават часьць успамінаў балесных,
толькі вернага сэрца табе не аддам
і братам калісь пісаных песьняў.

Між табою і мной шлях нявольны ляжыць,
і драты горай дзеляць, як далі.
Ўсё ж хацела б знайсьці ў тваім сэрцы чужым
тое ўсё, што ў маім патапталі.

* * *

Быццам з гробу, вяртаюся з Поўначы.
Што памерла — я ці любоў?
Я жыву. Гэта вера бяспомачна
ўпала ніцма ў магільны роў.

У жыцьці няма праўды нязбытнае,
безнадзеі няма ў жыцьці.
Падымайся, ўставай, падбітая,
трэба крыху яшчэ прайсьці…

* * *

Верны Нёман, легендай авеяны,
знае толькі адно русла.
Што народам у душы засеяна,
тое ў песьнях маіх прарасло.

## ГЛЯДЖУ НА КРАЙ

Гляджу на Край, і мы — як пагарэльцы,
усё спаліў чужы ліхі агонь.
Толькі ў грудзях абвугленыя сэрцы
жывуць яшчэ, шукаюць зноў свайго.
Трасем вякі, каб не сатлець дарэшты.
Мінуласьць наша — не туманны сон.
На папялішчах тлеюць галавешкі
яшчэ дзяржаўных яшчэ слаўных дзён!
Ля вогішчаў крывёй пажары гасім,
ля нашай праўды стаімо насьмерць.
Калі сыны жыцьцём бароняць ўласным
свой любы Край, — народу не сатлець!

## РАЗМОВА

На полках — кнігі як папала,
бадзёры дух, чало бяз хмар.
А са сьцяны глядзіць Купала,
і ён у хаце гаспадар.

— Скажы мне, класік, чарку — можна?
Ты не дазволіш — не крану.
— Пі, сынку, толькі асьцярожна,
ў бяседзе чарачку адну.

— Парадзь, Купала, я кахаю,
ўжо ценем прад табой стаю…
— Я табе й гэта дазваляю,
кахай, сынок, але — сваю.

— Шляхоў так многа, разгубіўся —
па гэтым бегчы ці па тым?
— Пастой, ля сёлаў прыпыніся,
ідзі, сынок, шляхом маім.

*1968*

## УЛАДЗІМІРУ КАРАТКЕВІЧУ

Нападаў сьнег, мяккі і нетрывалы,
ляжыць на дрэвах, лепіцца да ног.
Дзяńькоў зімовых засталося мала,
вясну збудзіла сонейка ў палёх.

Пішэце мне, як ваша рунь, усходы
на родзячай скарынаўскай ральлі?
Як ладзіце з жыцьцёваю нягодай?
Каму з герояў зноў жыцьцё далі?

Якіх яшчэ стварылі спадкаберцаў
народных спадзяваньняў, сьмелых мар?
Чыі цяпер далі ім душы, сэрцы?
Што скажа вамі створаны змагар?

Што шэпча ноч, што белы дзень прыносіць,
што вам навеяў вецер з-над Дняпра?
Ужо даўно сьвітаньне пачалося,
і на загон выходзіць вам пара.

Я вам жадаю засяваць шырока,
хай сьпее ў сэрцы залаты ўраджай,
ахопіць вашай песьняй сінявокай
азёрны, сьпеўны, найдарожшы Край!

*[1960-я]*

## МІКОЛУ ЕРМАЛОВІЧУ

Восень прыйшла ў навакольле,
падае лісьце да ног.
Дзе вы, мой сябра Мікола,
крывіч зь незабытых эпох?

Душа ваша праўды шукае —
благаслаўляю яе.
Мінуласьць ў агні не згарае,
Мінуласьць ў зямлі не гніе!

Вялікая праўда ня гіне.
Зноў вуснамі верных сыноў
загаварылі магілы
даўно адышоўшых дзядоў.

Блякнуць чужыя прывычкі
наша суседзкім лічыць.
Жыцьме народ крывіцкі,
гісторыя не маўчыць.

Цемра яе не забрала,
бо сэрца народа — ня рэч.

Гісторыя ўздыме забрала,
і праўда выцягне меч!

Восень, і сыплецца долу
золата з мокрых галін.
Дзе вы, мой сябра Мікола,
адданы зямлі нашай сын?

Мы з вамі — праўд вечных ахова,
крывіцкіх, якім не сатлець.
На варце гісторыі, слова
стаяць будзем верна, на сьмерць!

Дожджык пасыпаўся кволы,
ліпкая гліна ля ног.
Дзякуй вам, сябра Мікола,
за праўду далёкіх эпох!

*[1970-я]*

## БАБА ВОЛЬГА

Яшчэ даволі грэе асеньняе сонца, асабліва калі затуліцца ад ветру. Каля хлеўчыка сядзіць на пянёчку баба Вольга і корміць сваіх куранятак. Яна ўжо згорбленая крыху, старэнькая і чорная, як галачка. Вялікія кураняты, яе сардэчныя сябры, ня проста бягуць да яе рук, але даверліва скачуць ёй на плечы, на прыпол, а часам і на галаву ў белай хустачцы. Ціхенька ўсьміхаючыся, шэпча ім нешта баба Вольга, а яны, здаецца, у душу ёй улезьлі б — не адагнаць.

Чарнявая, сьціплая жанчына, доўга яна працавала ў Зэльвенскім камунхозе, пераважна на вуліцах мястэчка, цяпер ужо на пэнсіі. Свая кватэра, гарод, хлевушок, куры — цяпер адзінае заняцьце бабы Волі, за ўслужнасьць і сьціпласьць усе яе вельмі паважаюць, нават хлапчаняты з панадворка, шустрыя і вясёлыя падшыванцы, стараюцца не зрабіць крыўды ні ёй, ні яе куранятам. Аднойчы толькі п'яны Сончык, нейкі начальнік ад камунхозу, прычапіўся да бабусі, каб раскідаць яе хлевушок. Не на жарты разгневалася на яго баба Вольга, і калі ўжо не было іншай рады, каб ад яго адчапіцца, яна апавясьціла яму выразна і галасна, што і яна — партызанка! На Сончыка гэта падзейнічала, кінуў ён хлевушок і бабу ў спакоі, а я ўсё шукала адпаведнай аказіі, каб пагаварыць зь ёю пра яе партызанскія подзьвігі…

Баба Вольга аказалася цікавым субяседнікам. Сама яна з Клепачоў, што ля Бяздоннага возера. Возера гэтае хоць і мае дно, але людзі назвалі яго Бяздонным. Дзіўнае возера, паводле цьверджаньняў бабы Вольгі, на яго месцы было некалі мястэчка. Яшчэ і цяпер, калі станеш на гары ціхім ранкам, то знаць дарогі як выразныя, якія некалі сыходзіліся ў тым мястэчку. А яшчэ раней, як апавядае баба Воля, у час патопу сьвету, калі было страшна і вельмі раўла скаціна, жыла ля тага возера вельмі прыгожая дзеўка — каса даўгая заплецена, сама — як вярба. Пашкадаваў яе Бог і сказаў ёй ісьці і не аглядацца назад. Дзяўчо, аднак, не вытрывала, аглянулася і ў той момант стала каменнай плітою, на якой добра яшчэ знаць было яе заплеценую касу. Калі ставілі Азярніцкую царкву, дык вязьлі тую глыбу, але коні яе не ўзялі, тады запрэглі двое валоў, і імі зацягнулі тую глыбу «з патопу» на падмуроўку для царквы. З тых часоў засталіся яшчэ даўнія даўгія магілы на могілках і высокія пліты на іх, якія, на жаль, сяньня гінуць. Вельмі хочацца бабе

Вользе завезьці мяне ў Клепачы і Караліно ды паказаць тыя могілкі і Бяздоннае возера, але нам ужо цяжка туды дабірацца. Коней цяпер няма, а пехатою ня зойдзем.

Асабліва страшна было ў гэтых мясьцінах у вайну. У сяле Івашкевічы разьбілі немцы царкву, ля якой брод. Стаяла гэта царква на горцы, а брод там плыткі — усяго па калені вады. Там заўсёды бывалі баі, бо калі ўзарвуць зэльвенскі мост, дык застаецца той брод адзінай пераправай для войска. Цэлую ноч часамі там біліся. Даставалася і людзям — гдзе каго заб'юць, гдзе каго раняць, хоць і хаваліся, уцякалі ў лясы. Калі ўсе ўцякалі, Оля заўсёды заставалася ўдома.

Шкадавала кабылы, каб не забралі. Бывала, праседзіць пад стрэшкай і пару начэй. Гаспадарка была ў іх харошая, было многа работы, але было і дабро.

У вайну тыя мясьціны поўныя былі партызанаў, а так, як ім ня толькі трэба было аружжа і моладзь, але таксама і нешта есьці, дык баба Вольга і яе дзьве сястры, якія жылі разам, аказвалі ім велізарную паслугу, кормячы іх, перахоўваючы, апранаючы. Трэба было і хлапцоў накарміць, і коням даць аўса, ды добра насыпаць, а ўсё самі, бо хлопцы зморацца і ледзь часамі папрыходзяць. А баба Вольга варыла, не шкадавала. Была сьвіньня 12 пудоў, дык кумпякі зьелі начыста і сала таксама. Ня толькі партызанаў, але і коней іх трэба было добра хаваць, бо кожны дзень у сяло заглядалі немцы. Ня сьпяць, бывала, маладзіцы, а ўсю зіму вяжуць шкарпэткі партызанам, гатовяць рукавіцы і цэлыя сувоі сваіх тканых палотнаў аддаюць ім на белыя халаты — для маскіроўкі. Ратавалі людзі адныя адных як маглі, але ня раз наеліся страху, і сьмерць ля іх вісела на валаску. Аднойчы нейкія Плаўскія ехалі ў Бязводнае да Карэйваў у госьці, расказвае баба Воля. Былі якраз Коляды, вязьлі з сабою тыя людзі гарэлку і розную закуску, да таго ж былі па-сьвяточнаму апранутыя, і сам пан Плаўскі меў на сабе новыя, людзкія боты. Запынілі іх партызаны, а былі добра намерзшыся і галодныя. Забралі ім тую выпіўку і закуску, а калі той пан агрызнуўся, сьцягнулі яму хлопцы і боты і так, босага, пусьцілі.

Якраз у той час, каб ня ведалі ні партызаны, ні немцы, закалолі сёстры сабе падсьвінака. Гэта без дазволу немцаў каралася сьмерцю, таму рызыка была вялікая. Швагер бабы Вольгі пасьпеў паршучка толькі асмаліць і ўцягнуць у гумно, як бачыць — ідзе той Плаўскі, адно ў шкарпэтках. Усе так і памлелі, бо былі пэўныя, што ён данясе немцам аб тым, што на яго напалі, тыя пачнуць шукаць партызанаў і знойдуць паршука. Так ці іначай — павесяць! Толькі той швагер загадаў прынесьці балею, каб выпускаць кішкі, аж тут — немцаў гібель, правяраюць пашпарты. Швагер глянуў, перакаціў паршука ў прыстаранак і жыве як на воласе. Уцякаць няма куды, відно праз ваконца, як яны лазяць.

— Ну, думаем, — кажа баба Воля, — запаляць — дык жывымі згарымо, сьледу не застанецца.

Стаіць той швагер, рукі ў крыві, а страх аж пад валасы бярэ, а немцы стадамі ходзяць. Прыйшлі пад гумно, пастаялі, патрапяталіся па тым месцы, гдзе смаліўся паршук, а тут каровы рыкаюць — ні поена, ні кормлена. Як толькі адчыняць гумно — будзе магіла. Але на гэты раз пранясло. Адвяла нейкая сіла немцаў ад гумна, а пасьля і ад вёскі. Прывалаклі таго паршука ў хату, толькі папрасілі чужога чалавека тыя кішкі вывярнуць, бо швагру са страху адабрала і рух, і мову. Хутка пасеклі тое мяса і ў склеп, тады толькі крыху дух адкаціўся. Бо іначай, гады, жывое душы не ўпусьцілі б. Так было ў Ваўчках, то толькі гаспадыня шмарганула поначы немцам пад ногі і так выратавалася, і сяньня жыве, а ўсіх у хаце пабілі.

Не шкадавалі сёстры лясным змагаром ні малака, ні скваркі, ні аўса для коней, і гэта ведалі ня толькі партызаны, але, як кажа баба Вольга, і нейкі п'янюга з Росьцевіч, солтыс. Вось ён і назначыў трох сёстраў вывезьці ў Нямеччыну.

— Пасля добры Бог прыбраў яго, і ногі памерзьлі, — кажа Вольга. — А пакуль што — кідай хату, чатыры каровы, сьвіньню, адзежу і едзь! Страшна!

На вываз назначылі, безумоўна, немцы, той з Росьцевіч толькі данёс. Пайшлі бедныя сёстры да сваяго солтыса ў Воўчках, а той аж плача з гора — нічым дапамагчы ня можа, але кажа: ня едзьце, хавайцеся. А гдзе тут схавацца?

— Ну, то ў лесе, то ў стрэсе, то ў яме, — кажа солтыс. — Толькі барані Бог на вочы ім не пападайцеся! Як пакажаце голаву, то адно гаўкнеце і будзе па вас.

І так было: быдла і сьвіньня засталіся ў хлявах. Ноччу па чарзе сёстры прыходзілі дамоў, даілі каровы, кармілі сьвіньней, а цэлымі днямі — то ў лубіне, то ў лесе. Холад асеньні, і дождж, і страх, а бедныя бабы ляжаць у барознах. Нападалі, бралі сілком людзей і часта бясправаўна зусім. Калі набліжаліся немцы, заўсёды нехта папярэджваў, крычаў: людзі, уцякайце! Людзі ўцякалі, пад поўнач сядзелі ў лесе, а хто выходзіў — таго забівалі.

Часам выходзіў той солтыс з Ваўчкоў да немцаў і казаў:

— Позна прыехалі, панове, усе людзі на полі.

Тады назьбірае яец у старушак, якія засталіся ўдома і ў Германію непрыгодныя, дасьць немцам гарэлкі і гэтак адправіць зь сяла.

Так круціліся, выкручваліся тыя тры сястры, ніколі ня думаючы, што выжывуць. Часта даводзілася заліваць агонь у печы і бегчы ў лясы. Часта хадзіць з партызанамі. Нейк выратаваліся, таму нічога не шкадавала баба Вольга людзям у лесе, хоць было іх вельмі многа — адныя пойдуць, другія прыйдуць. Некаторыя былі і ня людзкія. Раз быў мароз на дварэ, а яны захацелі ноччу курынага супу і прыехалі па курэй, дык змусілі бабу Вольгу лавіць іх поначы. Як нарабілі тыя куры крэчу — ледзь немцаў не прыклікалі. *Тады паадрывалі тыя партызаны ім галавы, папрывязвалі да сёдлаў і паперліся ў лес**.

Пакінулі той крывавы курыны сьлед аж да лесу. Назаўтра сьнегам прыйшлося засыпаць тыя сьляды, галоўнае — ад свае хаты. Немцы так і падглядалі, так і шнырылі па сяле. Толькі ня ўсе партызаны былі сапраўднымі, гдзе каторыя толькі падрабляліся пад іх. Каб прыйшлося сеяць, дык сеяць не было б чым — увесь авёс пааддавала баба Вольга партызанскім коням. І палотны аддала, і ўсё, што мела. За вайну столькі нацярпелася страху, а тут п’яны Сончык выганяе яе з хлеўчыка! Вось тут і ўспомніла старэнькая баба Вольга і свой уклад у слаўны партызанскі рух.

Сама баба Вольга была з харошай, слаўнай сям’і Ракевічаў, а таму, што замуж ня выйшла, дык і цяпер носіць гэтае прозьвішча. Вельмі слаўным, паводле слоў бабы Вольгі, быў яе дзядзька, бацькаў брат Мікола Ракевіч. Яшчэ за цара ўзялі яго ў салдаты, гдзе праслужыў 6 гадоў у Варшаве. Навучылі яго там крыху вэтэрынарам, абцёрся па сьвеце, вылюдзіўся і так чарнявы, высокі, стройны і прыгожы вярнуўся дамоў у Клепачы. Быў ён гонарам для сям’і і марай вясковых прыгажунь.

У Клепачах у той час была яшчэ карчма. Арэндаваў яе і млын у другім канцы сяла яўрэй Гіршка. А так, як Гіршка быў чалавекам кемлівым, дык меў там і прадуктовую, і прамтаварную, па-сяньняшняму кажучы, краму. Людзі несьлі яму ўсе свае заробкі, жанчыны — за соль, за паркаль, за хусткі і пацеркі, а мужчыны — часта-густа за гарэлку. Спрадвеку пілося на Беларусі, і мала хто тую карчомку мінаў. Сустракаліся там суседзі, абгаворваліся справы, а калі гралі скрыпка і бубен, дык і скакалася аж да раніцы.

Некалькі часу пабыў, пагаварыў з родам Мікола Ракевіч, а пасьля і ён зайшоў у карчомку выпіць чарачку, сустрэцца з равесьнікамі, а як давядзецца, паскакаць і зь дзяўчатамі. Спрытна ўвіхаўся ля сваіх гасьцей стары Гіршка, падаючы селядцы, куханы і гуркі п’яным ужо дзядзькам на закуску, а гарэлку разьлівала ў чаркі, падносіла і прадавала бутэлькамі Груня — Гіршкава дачка. Была гэта стройная, румяная і бялявая дзяўчына, на яўрэйку зусім не падобная. Наліла яна чарку і Міколу Ракевічу, але, калі падняла на яго свае прыгожыя вочы, дык ужо не здолела іх адарваць ад твару чарнявага, вясёлага

і задорнага дзецюка. Задрыжала ў руцэ дзяўчыны бутэлька з гарэлкай, цякла яна на стол паверх чарак, і мудрая Роха, Груніна маці, хуценька замяніла дачку, а тая пабегла ў бок музыкаў, гдзе ўжо сабраліся і сьпявалі дзяўчаты і хлопцы.

Груня вырасла ля гэтых людзей і песьні іх ведала і любіла. Голас у яе быў чулы і звонкі, і хутка яна сваім чароўным сьпевам зьвярнула на сябе ўвагу маладога госьця. Асабліва пяяла і скакала ў гэты вечар карчмарова дачка. Вадзіў яе ў танцы Мікола і дзівіўся сам сабе: як лёгка з гэтай Груняй танцаваць, як прыемна весьці размову! Выпіўшы не адну чарку, не раз прыціскаў у танцы Мікола прыгожую Груню і лавіў шчасьлівы яе погляд, слухаў дзявочы, крыху сарамлівы, сьмех. Роха і Гіршка цешыліся зь вясёлай кампаніі і з добрага торгу, ды і са свае дачкі. Адзіная дачка ў бацькоў вырасла — як ружа! Вялікі пасаг для яе, які яны прыдбалі за ўсё жыцьцё свае працы, дазваляў ім марыць аб багатым зяцю — добрым купцу альбо нават і рабіне. Колькі разоў, запальваючы сьвечкі на шабас, марыла Роха аб зяцю шэйнэ-марэйнэ і аб вялікай колькасьці маленькіх унучанят, якія часамі прыяжджалі б са сваёю багата і модна апранутай мамаю да іх на вялікія сьвяты. Якія халы тады яна ім сьпякла б!

Гіршка прагна лічыў сялянскія капейкі — павялічэньне будучага пасагу, а Груня тым часам закружыла ў нястрыманым танцы галоўку сваю і Міколаву. Многа працы ў старой Рохі, але яна не магла нацешыцца, як яе дарагая дачушка замест памагаць ёй бяжыць у млын. Знача — памагае бацьку, даглядае там за памолам, каб быў большы гешэфт і прыбывала залатых манетаў у іх тайным, запаветным сховішчы. А Груня тым часам ляцела птушкай у бок Міколавай хаты. Важна, з дастойнасьцю выходзіў да яе чарнявы хлопец, і яны, аб усіх забыўшыся, шчасьліва праводзілі вясьняныя дні. Сапраўднаму каханьню хопіць голасу любага, яго прысутнасьці, махлярства тады не становіцца грэхам, а гарачыя пацалункі і салодкія прызнаньні — тым болей.

Час ляцеў, круціўся млын, і цяжкі жарнавы камень жыцьця па-свояму перамолваў людзкую долю. Няміла паглядалі Ракевічы на такія залёты. Хоць прыгожая і багатая была Груня, але ажаніцца ў той час зь яўрэйкаю было і сорамна, і нельга. Усе, хто няхрышчаны, лічыліся настолькі меней цэннымі людзьмі ў паняцьці беларусаў, што злучыць з такой асобай свой лёс не прыходзіла проста ў галаву.

Калі хто зь беларусаў і браў выхрышчаную яўрэйку за жонку, то яўрэі гэтага не рабілі ніколі. Яны жылі строга ізаляванай масай, трымаліся веры сваіх продкаў, вялікую ўвагу прысьвячалі грошам і знатнасьці і жаніліся выключна між сабою.

Груня ўжо настолькі пазнала і пакахала Міколу, што жыцьцё безь яго было б для яе бязвартасным.

— Як жа я вазьму цябе, галубка, — угаворваў яе Мікола, — задзяўбуць людзі і цябе, і мяне, зганьбяць чужыя, выракуцца свае.

— Не, мне без цябе ня жыць, — плакала Груня. — Сьвет жа харошы, Мікола, давай уцячэм, каханы. Як найхутчэй і як найдалей уцячэм, і ніхто нас ня знойдзе. У нас столькі багацьця, столькі прыхаванага золата — на два вякі нам з табою хопіць.

Мікола як мог бараніўся. Ён гатоў быў ажаніцца ўжо з Груняю насуперак волі сваіх і ўзяць яе як стаіць, без пасагу, але Груня яму пярэчыла. Яна баялася беднасьці, ведала цану грошай і ўсё ж пастанавіла ўзяць сваю долю з бацькавых скарбаў.

Быў ужо позьні перадшабасны час. Роха доўга чакала дамоў дачушкі, нарэшце, па-сьвяточнаму апрануўшыся, пайшла яе сустракаць. Маладыя якраз ішлі, абняўшыся. Груня даказвала хлопцу, што забярэ ўсё бацькава золата, бо яно так ці інакш належыць толькі ёй. Мікола пярэчыў. Амаль дзікі крык Рохі, яе плач і галошаньне выклікалі з млына Гіршка, і бедныя бацькі павялі, наракаючы, сваю еданачку дамоў. Роха, кажуць, рвала на сабе валасы, яна хацела вывезьці дачку з Клепачоў, але тая ўперлася і паспрабавала пераканаць сваіх бацькоў у велічы свайго каханьня да Міколы. Яна прысягнула ім, што

будзе толькі ягонай жонкай. Бацькі ведалі чыстую і пэўную ў сваіх пераконаньнях натуру Груні і нават не спрабавалі болей яе ўгаворваць.

Некалькі дзён чакаў Мікола на сваю каханую, нарэшце ўпрасіў брата пайсьці паглядзець, што там робіцца ў сям'і карчмара. Калі брат прыйшоў, яго дапусьцілі да Груні. Яна ўжо не сьпявала, як заўсёды. Ляжала, жоўтая, са скрыўленым ад болю тварам, відно было, што змагаецца з сабою, каб не крычаць.

— Што сталася з табою, Груня? — запытаўся праз сьлёзы Ракевіч.

— Мяне маці напаіла сяньня чаем, — застагнала дзяўчо, — і я ведаю ўжо, што памру. Ах, каб убачыць Міколу!

Міколы болей яна ня ўбачыла, незадоўга сканала на руках у бацькі. Пасьля гэтага карчмары пакінулі вёску, і болей аб іх не было чуваць. Мікола Ракевіч выехаў у Сухумі, там ажаніўся, працаваў вэтэрынарам, купіў сабе дом і болей ніколі ўжо не вярнуўся на Бацькаўшчыну.

Час ужо збурыў той млын на невялікай рэчачцы ў Клепачах, многа ўцякло вады і крыві з той пары, і людзі сталі інакшымі. Толькі цені Груні і Міколы яшчэ пакутуюць на беразе Бяздоннага возера, якое і гэтую тайну вялікага людзкога каханьня схавала на сваім дне, як і многа чаго іншага, пра што ўжо ніхто не раскажа. У бабы Вольгі Ракевічавай ужо апухлі ногі і вельмі стала ёй дакучаць сэрца. Амаль сілай завяла я яе ў амбуляторыю. Ужо тыдзень, як даюць ёй уколы глюкозы. Стала ёй крыху лепш. Так хочацца, каб яшчэ пажыла…

## ДЫВАН ЗЬ СЯМ'І ГЕНІУШАЎ

Гэты дыван прынесла ў пасагу майму сьвёкру Пятру Станіслававічу Геніушу ягоная маладая жонка Эмілія Палубінская. Паходзіла яна з маёнтка Бобра, што на Сакольшчыне. Сяньня гэтая частка беларускай зямлі належыць да ПНР. Бацькі Эміліі Палубінскай былі людзьмі багатымі. Была ў яе нават у свой час гувэрнантка. Аднойчы завітаў да іх прыгожы юнак Пётра Геніуш. Служыў ён, як у той час казалі, гарадавым. Маладыя сябе вельмі пакахалі, але Пётра Геніуш быў зь вельмі беднай сям'і, меў ён усяго паўучастка (гэта нешта каля чатырох гэктараў) і ня быў адпаведнаю параю для багатай шляхцянкі. Я добра ня ведаю, як гэта адбылося, але малады Геніуш украў тое дзяўчо, прывёз у Зэльву, гдзе яны і пажаніліся. Мелі яны ўсяго аднаго сына, гэта быў будучы мой муж Янка Геніуш. Бацькі выракліся прыгожай Эмількі, і яна вандравала са сваім мужам, гдзе яму назначалі працу. Доўгі час працаваў ён у Крынках, гдзе і нарадзіўся мой муж.

Падобныя дываны ткалі і ў нас. Мне выткалі такога з датаю 1931 г. Ён застаўся недзе ў Чэхаславаччыне. Гэтага дывана 1900 г. меў мой муж як беларускі студэнт у Празе. Стыпэндыя была малая, і вось аднойчы мой муж панёс сваяго дывана ў лямбард. Моцна былі патрэбныя грошы. Яму далі за гэты дыван болей, як некалі давалі за залаты гадзіньнік. Чэхі пазналі, што гэта тканая рукамі рэч вельмі вартасная ў паняцьці сапраўды інтэлігентных і разумных людзей.

Дывана гэтага, старога ўжо, муж прывёз дамоў. Пасьля вайны памерла яго харошая маці, і самотна дажываў свой век стары тата. Нас не было. Уміраючы, пераказаў ён сваю скромную маёмасьць нейкаму Архімовічу з Зэльвы з тым, што ён нам усё верне альбо, калі б мы не вярнуліся дамоў, аддасьць нашаму сыну Юрцы Геніюшу. У 1956 годзе мы вярнуліся дамоў. Архімовіч пры дапамозе нячэсных людзей забраў нашую хату і рабіў усе стараньні, каб выжыць нас з Зэльвы. У зэльвенскай міліцыі быў сьпісак усёй маёмасьці, але мы баяліся яго патрабаваць. Стары дыван валяўся, як ануча, якую Архімовічы выкінулі. Яны забралі ўсе рэчы, нават маю шлюбную сукенку і вэлян, якія тут засталіся. Забралі мае рукапісы і вельмі вартасныя, унікальныя беларускія і іншыя кніжкі. Адну зь іх, «Шляхам жыцьця» Янкі Купалы, выданую ў Пецярбурзе ў 1913 г.,

аддаў нам М. Голуб — настаўнік зэльвенскай школы. Архімовічы далі нам пару старых місак, зь якіх кормяць сабак. Мы бачылі ў іх свой посуд, але, радыя, што жывымі нарэшце вярнуліся дамоў, махнулі на ўсё рукою. Дарэчы, на кніжцы «Шляхам жыцьця» быў надпіс — «Даражэнькаму татачцы. Вялікдзень, 1924 год» і подпіс мужа.

Пры дапамозе Менскай пракуратуры, да якое я зьвярнулася, знайшоўся тэстамэнт, якім Пётр Геніуш пакінуў Архімовічу хату і ўсе рэчы да павароту ў родную хату сына, нявесткі ці ўнука. Адна толькі маладзенькая камсамолачка-адвакат чэсна дапамагла нам, застрашаным і зьняважаным сям'ёй Архімовічаў, перабрацца ў сваю хату, гдзе я сяньня і жыву. Архімовічы выехалі ў Польшу, а патоптаны імі дыван трапіў у Гудзевіцкі музэй.

## [БЕЖАНСТВА І ВЯРТАНЬНЕ НА РАДЗІМУ]

На Гродзеншчыне, ля старога і невялікага мястэчка Воўпа, у дзьвюх вярстах ад яго, у фальварку маяго бацькі Жлобаўцы я нарадзілася. Было гэта 27 ліпеня (па старому стылю) 1910 г. Жлобаўцы ляжалі паміж сялом Палаўкамі і некалі вялікім маёнткам пана Вайчынскага Длугаполем. Кусок гэтае зямлі, дрэвы, якія на ёй расьлі, і людзі, большасьць слугі нашыя ці работнікі зь сяла, ды нашая сям'я былі той глыбокай любасьцю, зь якое пачынала я вырастаць у чалавека. Была ў нас невялікая хата і тоўстыя, магутныя бярвеньні на новую. Жлобаўцы купіў ад графа Красінскага (здаецца) мой дзед Павел Францавіч Міклашэвіч, які жыў у сваім маёнтку Гудзевічы, каб аддзяліць маіх бацькоў і даць ім магчымасьць самастойна гаспадарыць і жыць.

Нарадзілася я хваравітай, слабой пасьля сьмерці старэйшай двухлетняй сястронкі Ліды, першай і вельмі каханай дочкі маіх бацькоў. Я зусім не была падобная на тое харошае дзіцятка, і мама, здаецца, мяне не любіла. Часта ўспаміналі дома, як я ні з таго ні зь сяго пачынала плакаць: «А хто ж мяне пацалуе і пашкадуе»… Цалавала і шкадавала мяне няня. Стары воўпянскі фэльчар яўрэй парадзіў выводзіць мяне на паветра, каб выжыла. Вось я і памятаю тыя прагулкі. Высокі, плячысты бацька вядзе мяне, нагінаючыся, і баіцца, як пасьля расказваў, каб вецер не падхапіў мяне і не панёс. Памятаю маму прыгожую, няню старэнькую і вялікага сабаку Азу, якая ўсадзіла галаў у збанок і ашалела. Яе прыстрэлілі, і гэта была вялікая падзея.

Аднойчы ноччу разьбегліся нашыя коні. Ніхто ня спаў, была на дзядзінцы і я. Было даволі сьветла і росна, воблачкі віднеліся толькі ўгары, і я сапраўды ўбачыла на адном зь іх два пуцатыя, малыя анёльчыкі, якія падперлі бародкі і пaглядалі ўгору. Магчыма, я іх бачыла на абразку, і такія здаліся мне на пакаценькім, сьветлым воблачку ноччу.

Пасьля, памятаю, быў плач — адыходзіў на вайну тата. Пасьля ў стадоле і на дядзінцы было многа салдат. Нарэшце запраглі вазы, палажылі дабро на іх, парабілі буды, пасадзілі дзяцей, а было ў мяне ўжо дзьве сястрычкі, і паехалі мы ў бежанцы. Памятаю папасы, начлежныя вогнішчы ў лесе і многа харошых людзей. Асабліва адну круглатварую, старэйшую жанчыну, якая ўсіх частавала печанымі грушамі і сумна расказвала, што са страху перад наступаючаю вайною нічога іншага не пасьпела ўзяць са свае маёмасьці, акрамя гэтэых грушаў, якія выграбла зь печы і цяпер імі частавала людзей. Я доўга пасьля думала, якая добрая тая цётка…

Мы прыехалі у г. Белгарад, гдзе на рынку былі горы памідораў і многа цудоўных лялек, але тата быў на фронце, і мама іх нам не купляла. Як жа хацелася мець тую лялькy! На нас казалі: «беглецы», «беженцы», і мне было ўстыд і злосьць, што нас шкадавалі і што мы не такія людзі, як усе. Пасьля памятаю ноч, цягнік, «карзіны», «карзінкі», мы, маленькія і мама. Так мы прыехалі ў г. Лазавую на Ўкраіне, гдзе пасьля і жылі.

Адна з татавых сёстраў, цётка Оля, была замужам за нейкім Маврыкіным, начальнікам «почт и телеграфов» на станцыі Лазавая. Другая цёця, Вера, была замужам за

сьвяшчэннікам Карабчуком і жыла недзе на сяле недалёка. У Лазавой пасяліўся і мой дзед з татавай мачыхай, і старэйшая татава сястра з мнагалікай сям'ёй — тоўстая і важная цётка Маня. Тады, безумоўна, я не разумела, што ўсе яны паўцякалі ў бежанцы і сабраліся ў Лазавую. Чатыры сыны дзедавы былі на вайне. Мой дзед родам быў з Крынак каля Беластоку. Бацька яго меў участак зямлі і быў царкоўным старастаю ў Крынках. Называўся Францішак — пэўна, быў уніят. Быў у дзеда адзін брат Сьцяпан і многа сёстраў, колькі — нават ня ведаю.У той час жанчыны ня вельмі прыходзіліся на ўвагу як пры падзеле маёмасьці, так і наагул.

Паншчыны дзед мой адрабляў усяго 6 дзён, бо яе ліквідавалі. Час было яму йсьці ў маскалі, як тады называлі армію. Прадзед Францішак вельмі любіў маяго дзеда Паўла, а прабабка — другога сына, Сьцяпана. Вось і пачаліся нязгоды ў хаце — каго аддаць у маскалі. Сьцяпан ня вельмі надаваўся, быў у яго адмарожаны палец на назе, і таму ён лічыўся бракоўны. Усё ж царкоўны староста настояў на сваём, і Сьцяпан павандраваў у сьвет, гдзе яшчэ болей падвучыўся грамаце, быў у войску пісарчуком. Тым часам ажанілі маяго дзеда з шаснаццацілетняю Марфаю з Чамяроў. Дзеду Паўлу было лет 18.

Бабка мая была зь лесуноў, дзяржаўных прыгонных, якім пры ліквідацыі паншчыны далі вялікія надзелы зямлі — аж па 40 дзесяцін. Ня ведаю, ці ў бабкі былі браты, але было ў яе многа сёстраў. Бабка добра памятала паўстаньне. Лясун дзед Чамер многа памагаў паўстанцам. Аднойчы, расказваў тата з апавяданьняў бабкі, раненька прыйшлі да іх паўстанцы, змучаныя і акрываўленыя, яны палілі дакумэнты ў печы, відно, былі акружаныя ці паўстаньне канчалася. Бабка тады была невялічкай. Тата часта ўспамінаў бабкіну сястру Паўлінку. Была яна вельмі прыгожая, вясёлая, хораша сьпявала. Аднойчы, а было ёй усяго 16 лет, спадабаў яе нейкі дзяцюк, здаецца, нават шляхціц, прытым рыжы… Прыехаў ён да Паўлінкі ў сваты. Тая весялушка высьмеяла яго, ды і бацькам ён быў недаспадобы, і так шляхцюку адказалі. Было дзіва, калі празь некалькі дзён прыехаў ён зноў на панадворак. Спыніў каня пасярэдзіне дзядзінца і, скінуўшы на зямлю бочку піва, пачаў паволі зьбіваць зь яе абручы, нешта пры гэтым мармычучы. Бочачка рассыпалася, піва разьлілося, а няўдалы дзяцюк завярнуў каня і паехаў, не аглядаючыся.

Не пасьпеў сустрэцца год з годам, як мілая Палінка-вясялушка пачала таўсьцець… Выдалі яе замуж за нейкага ўдаўца ў Крынкі, гдзе жылося ёй цяжка.

Дзед мой нечаму стаў зноў праваслаўным. Стала яму цесна на бацькавай зямлі і пачаў ён думаць, як прыдбаць яе болей. Прадаў сваяго паўучастка, чэсна пакінуўшы другую палавіну брату, пазычыў грошай у Віленска-Тульскім банку і затаргаваў каля Крынак маёнтачак Астапкаўшчыну, нешта болей, чымсьці 200 дзесяцін. Як расказвалі, бабка Марфа па-свояму гаспадарыла, выганяла на балоцейка целятка і вельмі шкадавала сваяго Паўлюля, якому нарадзіла 16 дзяцей, зь якіх толькі 8 засталося жыць. Дзед Павел быў невысокага росту, плячысты, дужы, з барадою, а чатыры сыны былі як дубы, адзін ад другога прыгажэйшы, здаравенныя, як мядзьведзі. Было і чатыры дачкі.

Дзеда Паўла аддалі некалі да дзяка вучыцца, але доўга яму вучыцца не давялося, бо за мае памяці ледзь-ледзь крывенька падпісваўся, але быў на рэдкасьць чэсны і разумны чалавек. Любіў зямлю, марыў аб ёй. Калі выдаў замуж сваю старшую дачку Маню за нейкага Трафімука з Магілёўшчыны, дык адразу памог ёй купіць невялікі маёнтачак Ярылаўку каля Бераставіцы. Недзе старая назова ад бога Ярылы захавала сьляды старой веры беларусаў, захаваўшы ў той час амаль паганскія абычаі нашых продкаў. Пан, расказвала цётка, выяжджаючы зь Ярылаўкі, адвозіў шмат тоўстых, пераплеценых у скуру тамоў, але маім сваякам тады гэта былі рэчы зусім лішнія, нецікавыя.

У Лазавой мы жылі на акраіне горада, займалі кусок мураванай хаты, у якой жылі й іншыя цікавыя людзі. Перад домам з зарослым бур'яном вялікім панадворкам расьсьцілаўся стэп, на небакраі віднеліся курганы, а за глыбокім ярам, парослым кустарнікам, быў гай.

Лясоў там не было. Недалёка ад нас была «Заечая балка», гдзе часта ў рэвалюцыю чуліся стрэлы, там расстрэльвалі праціўнікаў рэвалюцыі. А рэвалюцыя была ў разгары. Аднойчы перад нашым домам паявіўся запылены, мажны, высокі салдат — гэта быў наш тата! Прыйшоў з невялічкім салдацкім куфэркам, радасна туліў і абдымаў нас.

У нас пачалося зусім іншае, бясьпечнейшае, цікавае жыцьцё. Хутка пасьля таты вярнуўся з вайны і татаў брат дзядзька Павел, і мы жылі разам. Прыходзілі, прыяжджалі людзі, якія расказвалі аб тым, як усё разрушана і зьнішчана, як утапілі Распуціна і б'юць буржуяў. Пачынаўся памалу голад. Часта зьбіраліся ў нас сваякі, доўга гутарылі пры чаі. Успаміналі. У той час дзед Павел, акрамя Астапкаўшчыны, якую аддаў старшаму сыну Рыгору, меў ужо прыгожыя Гудзевічы. Многа гутаркі вялося, як разбудоўваць, асушаць, што сеяць на якіх участках. Дзед надзвычайна быў гаспадарны. Часам успаміналі, як зьбіраліся ўсім родам у Крынкі, каб сьвяткаваць Дзяды. Было гэта глыбокай восеньню, насольвалі кадушку бараніны, прывозілі бочкі піва, гарэлку. Маліліся супольна па дзьве нядзелі, паміналі дзядоў, выстаўлялі ім ежу за вокны, шчодра частаваліся самі. Успаміналі суды. Справа ў тым, што калі вярнуўся з маскалёў дзедаў брат Сьцяпан, ён захацеў ад дзеда Паўла палову яго зямлі, якую той прыдбаў за гэты час. Дзед жа мой пакінуў яму палавіну ўчастка і зусім ня меў намеру дзяліцца. Вось і пачалі судзіцца. Каб не пасты і малітвы мамы, успамінае цёця Оля, непрыкметна пераходзячы на родную мову, напэўна, засудзілі б беднага тату ў Сібір. Судзіліся, расказвалі, браты на жыцьцё і сьмерць. Маецца быць суд, адзін на той суд едзе, другі йдзе пехатою. Той, каторы едзе, запрашае брата сесьці на воз. Брат сядае, абодва ўсю дарогу маўчаць.

Дзеда маяго часта пыталіся людзі: як гэта ён з мужыка зрабіўся панам? «Пасьвіў аднойчы авечкі і знайшоў вялікі скарб», — адказваў дзед, сьмеючыся ў бараду. Па-моему, гэта няпраўда. Ён умеў прадаваць і купляць, што і рабіў. За гэтую незвычайную для беларусаў рысу характару і паважалі яго крынкаўскія яўрэі. Калі патрабаваў, дык любую колькасьць грошай пазычалі яму без расьпісак і вэксалёў. Але былі і такія яўрэі, якія зайздросьцілі яму. І вось яны разам з братам Сьцяпанам хацелі засудзіць дзеда. Суд быў нячэсны, і справа выглядала паважна. Яўрэі нагла сведчылі супраць дзеда. Суд доўга цягнуўся, і вось перад самым яго канцом прыйшоў да дзеда адзін жыдок і параіў: «Паночку, нашыя жыдкі зусім не баяцца прысягаць на вашае Эвангеліе, а вось вы загадайце, каб прынесьлі са школы (бажніцы) Талмуд, і пабачыце, што на гэтую кнігу яны крыва не прысягнуць ніколі. Так дзед і зрабіў. Усе адмовіліся ад ілжывых сьведчаньняў, і дзед Сьцяпан прайграў справу. Безумоўна, уся заслуга была прысьвечана бабусі Марфе — за яе пасты і малітвы.

Дзед Павел купляў многа зямлі. Я аднойчы заглянула ў Гродне ў гіпатэчныя кнігі пачатку стагодзьдзя, дык там, амаль на кожнай пятай страніцы, былі купчыя маяго дзеда. Ён, як аказалася, выкупляў ад царскага ўраду землі былых паўстанцаў на сваё імя. Цэлыя маёнткі! Тыя людзі па-ранейшаму карысталіся гэтай зямлёй, толькі што для пэўнасьці пісалася яна на дзедава імя. Я памятаю, як за Польшчы адзін з такіх паноў, Сегень, прадаваў сваі землі, фактычна мусіў гэта рабіць мой дзед, бо ж усё было на яго імя. За ўсе гэтыя працэдуры і клопаты падараваў той Сегень дзеду Паўлу харошага, арабскага каня.

Дзед мой быў вельмі чэсны чалавек. Пасьля Першай сусьветнай вайны я спаткала ў яго маладую дзяўчыну, яна выходзіла замуж, і дзед адлічыў ёй 200 руб. золатам. Калі яна яшчэ была дзіцём, бацька яе, паміраючы, уручыў маяму дзеду тыя грошы, і вось перахаваў ён іх праз усю вайну і, згодна з воляю сваяго памершага друга, аддаў тыя грошы дзяўчыне, калі яна выходзіла замуж. Адну толькі ведаў мову — беларускую, еў усё жыцьцё драўлянаю лыжкаю і не любіў цягнікоў. Езьдзіў, звычайна, параю коней, грызучы па дарозе сухі сялянскі сырок. Апранаўся салідна, багата, але па-мужыцку.

## ДЗЕНЬ НАРАДЗІНАЎ

Нарадзілася я 27 ліпеня па старому стылю, дык фактычна гэта недзе аж у жніўні. Удома ў нас ніякіх днёў народзінаў не сьвяткавалі. Урачыста адзначалі толькі татавыя імяніны на Антона (13 чэрвеня) ды маміныя — на Юр’я, бо на гэты дзень прыпадала Аляксандра. Мама вельмі была шчасьлівай, што імяніны яе супадалі з імянінамі любімага ўнука ды раньняй вясной.

Найболей урачыста ў нас сьвяткавалі Пятра і Паўла, адзначаючы шырока і ўрачыста дзедавыя імяніны ў Гудзевічах. Дні нарадзінаў навучыліся мы сьвяткаваць у Празе. Чэхі перанялі гэты неславянскі звычай ад немцаў, а мы — ад іх. Былі гэта заўсёды невялікія, мілыя падаркі, кветкі і, як правіла, торцік ды пышны абед. Гады ляцелі, і ня вельмі заўважна праходзілі сьвяточныя дні.

Болей запамяталася пражская паліцэйская вязьніца ў 1948 годзе. Мы ўжо праданыя. Нас застаецца толькі выдаць ці перадаць у рукі савецкім уладам. Палякі пасьпелі забраць з Прагі нашага сына, расьцягнулі рэчы на кватэры і любімыя кнігі, лісты маі, вершы… Цень наш толькі блукаў па каморах, каб 13 жніўня перайсьці ў рукі савецкай улады і трапіць у кацёл зьнявечанага месіва людзкога жыцьця, долі, праўды-няпраўды, адчаю і сьмерці, толькі не вызваленьня…

У чэхаў не было яшчэ вязьніцаў, прыспасобленых для палітычных зьняволеных, таму сядзелі мы разам з чэскімі сакаламі, якія дамагаліся дэмакратычных спраў, спэкулянткамі, зладзейкамі і прастытуткамі, якія аказаліся часта вельмі шляхотнымі і, выходзячы зь вязьніцы, ня раз дапамаглі нашым чэскім сяброўкам навязаць лучнасьць, з кім было трэба. Надзоры адносіліся да нас спагадліва, з адчуваньнем віны перад намі за горкі наш лёс, хоць яны былі тут найменей вінаватыя. Готвальд проста зрабіў такі «дар» нашым з жывых людзей, прытым — са сваіх грамадзянаў.

Вось адчыніліся дзьверы камэры, і асьцярожна падаў мне надзор кусочак белай кардонкі, на якой была хараша вылепленая кветачка з хлеба, ляжала цукерачка і было напісана пару ласкавых слоў ад мужа, які сядзеў празь сьценку, і часамі мне здавалася, што чутно яго кашаль.

Розна праходзілі гэтыя дні мне ў лягеры. Аднойчы раніцай, калі ўсе зьняволяныя йшлі брыгадамі на сьнеданьне, нашыя беларускі завярнулі ў наш барак. Падышоўшы да маіх нараў, яны сардэчна павіншавалі мяне і палажылі перада мною — торт! Гэта цуда было спрытна зьлеплена з сушанага хлеба, цукру, вады і крыху маргарыну, было прыгожае і апэтытнае тады для нас, як і ўсё, што надавалася да ежы. У гэты дзень нас пакідалі ў зоне, мяне — падсобнікам печніка, бо рамантавалі сушылку. Печы ў нас адумыслова навучылася папраўляць і рабіць Галя Уолес. Гэтая прыгожая дама з высокай прычоскаю, жонка аднаго з супрацоўнікаў амэрыканскага пасольства ў Маскве. Мая сяброўка вельмі спрытна абыходзілася з глінай і цэглай і тым самым абараняла сябе ад лютых марозаў, цяжкіх зямельных прац і ад канваіраў з сабакамі ў тундры. Дзяўчаты пайшлі на работу, а я — у распараджэньне Галі. Сустрэцца мы меліся вечарам, пасьля работы, тады і зьесьці знамяніты торт, запіваючы гарачай вадой з бачка, нечым запраўленай на рыжы колер, што мы горда называлі гарбатай.

Не пасьпелі мы з Галяй нанасіць і як сьлед разьмяшаць пясок і гліну, як па лягеры прабегла трывожная вестка, што будзе ў нас агульны, генэральны шмон (вобыск). Гэтыя атракцыі былі ў нас часта, але прывыкнуць да іх мы ніяк не маглі. Гэта быў напад азьвярэлых нелюдзяў, заўсёды нагласьць і поўнае бяспраўе, што датычыць рэчаў зьняволеных. А тут торт! Не пасьпела я што прыдумаць, як у наш барак ужо бег адзін з найболей страшных, як з выгляду, так і па сутнасьці, надзірацель Кір’янаў. Я хуценька пазьбірала ложкі ў дзяўчат і ўваткнула іх у букет іван-чаю, які стаяў на адзіным нашым стале, а той торт палажыла на нейчыя верхнія нары і прыкрыла сваім ручніком. Нары ўгіналіся, і не было нават познатку, што там нешта ляжыць.

Уляцеў Кір'янаў, вырачыў і так страшныя зегры і, крычачы не сваім голасам (сьмерч!), пачаў шастаць па тумбачках, забіраючы ўсё ў кішэні, а пасьля прыняўся за нары. Падыме тыя нары і з трэскам іх лясьне аб папярэчкі, гэта каб вытрасаліся блашчыцы, якіх было паўнютка ва ўсіх лягерох, і ня мерзьлі яны, не парыліся і не здыхалі. Падышоў ён да нараў з тортам, як падыме іх, як лясьне, дык ён і падскочыць, а я стаю, заміраю зь нейкай жудасьці з аднаго выгляду таго нелюдя. З нараў блашчыцы не пасыпаліся, на шчасьце, і зусім добра перанёс гімнастыку знамяніты торт, праўда, быў ён мала мякчэйшы за цэглу.

За Кір'янавым надыходзіла хмара надзораў з начальствам, і ўжо пачынаўся сапраўдны шмон, гдзе перартрасалася, раскідалася ўсё да нітачкі. Я ў пярэпалаху схапіла з нараў той торт і, акрыленая цудоўнай думкай, заперла яго ў карыта з глінай, адгарнула раствор і яго там паставіла, на карыта паклала дошку, а на яе — цагліны. Такім чынам, ледзь жывая, дачакалася сваіх дзяўчат. Аказалася, што пару дзён яны ня елі свае рыбы, назьбіралі крыху цукру, і так мы сардэчна і дружна частаваліся чым Бог даў, і са смакам жавалі той цудам уцалелы, любоўна і ахвярна зроблены дзяўчатамі торт.

А гэта было ўжо пазьней, і нам давалі выхадныя. Была нядзеля, цёпла было і хораша — нават у тундры. Цьвіў іван-чай. Ціха сядзела сабе я на нарах і думала, якая ж адлегласьць дзеліць мяне ад сына, ад мужа, ад сяброў і наагул ад сваіх людзей. У гэты дзень асабліва нейк было сумна. І раптам у наш барак пачалі сыходзіцца людзі. Ішлі яны ня ўсе разам, ішлі неяк нацыямі, і не бракавала прадстаўнікоў ні ад каго! Нашу т. зв. сэкцыю барака (пакой для 50–60 чалавек) заставілі ўсю іван-чаем. Усе нешта мне напісалі, панарысоўвалі. Мілыя літовачкі нарысавалі Нёман, а над ім — маяго сына, аднаго і сумнага… Хто што мог і прыдумаў, той пісаў, рысаваў і нёс, і так да вечера. Акрамя пайкі, нічога ў мяне не было, але, калі нехта прыносіў цукеркі, мы іх дзялілі між сабою, як і добрыя словы, пацалункі, удзячнасьць.

Доўга не магла я заснуць з таго ўражаньня ад сяброўства дарагіх дзяўчат. Назьбіралася добрая пачка іх мілых слоў, і я назаўтра занесла яе і схавала да сваіх рэчаў у капцёрку, мне шкада было, каб іх не забралі надзоркі. Між гэтымі карткамі быў і верш, які прыслалі сябры. Яны нічога ня ведалі аб дні маіх нарадзінаў і таму з папрокамі для дзяўчат, што не паведамілі раней, прыслалі той верш для мяне на іх імя. Называўся ён «Нявольная маці нявольных сыноў», быў вельмі хораша, вельмі патрыятычна напісаны. Там расказвалася, як некалі яны мяне панясуць на руках у гэты дзень… Я разам схавала і верш.

Не прайшло і пару дзён, як ноччу напалі на мяне надзоры і, сьцягнуўшы мяне з нараў, пачалі забіраць усе шматочкі папераў, нават газэтаў. Загадалі мне тады сярод ночы ісьці ў капцёрку. Я спрытна выклала ім усе віншаваньні, толькі адолела заціснуць у руцэ верш ад сяброў і кінула яго ў кут са старым канвэртам.

Надзорка яго забрала. Пасьля месяца вярнулі мне крыху тых віншаваньняў, але далёка ня ўсе. Адна яўрэйка, Камунэла Маркман, дачка нейкага расстралянага наркома з Грузіі, напісала мне сабраныя выказваньні аб паэзіі многіх паэтаў і надпісала: «Паэт — паэту». Забралі і гэта. Выклікаў мяне «оперуполномоченный» і доўга пытаўся, хто напісаў той верш? Я сказала, што ня ведаю — пісана ня мне…

— А каму, каму? — енчыў на ўвесь лягер рыжы той пёс.

— Ня мне, — кажу, — але аба мне!

Змоўк, пакруціў галавою, забраў сабе, што хацеў, безумоўна, і той верш, кінуў мне рэшту і яшчэ болей умацаваў нагляд нада мною, пакуль не забралі мяне ў штрафны лягер пад Варкуту…

Розна праходзілі дні маіх нарадзінаў. Аднойчы я забылася пра яго, мне напомнілі грузінкі зь яўрэйкамі, якія запрасілі мяне на вельмі нялягерныя ўмовы, на багатую гасьціну і падаравалі сшыткі — рэч там вельмі дэфіцытную. Ня маючы ніякай дапамогі, ніякіх пасылак, я старалася пазьбягаць падобных сьвятаў, за якія не магла аддзякаваць тым людзям, якія заўсёды аказваліся сэрцам у падобныя дні.

Чалавек — твор да крайнасьцяў розны, бываюць такія тыпы, у каторых, здаецца, ніколі не было душы і сумленьня, ніякая цеплыня ня мае доступу да іх фанатычна заскарузлага нутра, але большасьць людзей стараецца ўтрымацца на ўзроўні хрысьціян, і такія найлепшыя. Асабліва ўкраінкі, тыя найбяднейшыя, зь цёмных вёсак. Я не сустракала геройства, людзкасьці і мудрасьці большай, як у гэтых жанчын. Яны інстынктам пазнаюць людзей і шчодра плацяць даверрам за даверра. Яны непахісныя ў сваім каханьні да Украіны, на тэму якой няма ў іх двух паняцьцяў і ніякіх супярэчных меркавань. Мараль іх задзіўляюча стойкая, такія не прададуць! Як жа і чым мне падзякаваць ім у жыцьці за іх даверра да мяне ў пару найцяжэйшую? За той хлеб, які яны мне клалі пад падушку, за іх дарагое сяброўства? У 60 гадоў многа не заплянуеш. Нясплачаны доўг мой каханьня да шчырых украінцаў пакідаю сябрам маім і ўсім шчырым нашым беларусам.

Ня хочацца ўспамінаць аднаго такога дня. Гэта было на Інце. На гэты раз павялі нас далёка ад лягера. Было сонечна, даволі хораша, і я разьдзяляла сваю адзіноту зь небам і расьліннасьцю тундры і думала, думала аб сваім дзіцяці. Часамі заплюшчвала вочы і бачыла яго, здаецца. Дзень маіх нарадзінаў — каторы? — ня ведаю… Хіба ж гэта было важна — каторы — у той час, калі ніхто не лічыў гадоў нашых, і йшлі яны на звалку адзічэлай сталіншчыны. У той дзень нам загадалі лезьці ў ледзяную ваду рэчкі Інты і там пхаць і гнаць рукамі па рэчцы кілямэтраў з 10 бярвеньні, якія застраглі там і не маглі зрушыцца зь месца. Бярвеньні не былі тоўстыя, але было іх шмат, і вада нам была па грудзі.

Мы клялі Сталіна, і вельмі нам хацелася прагнаць яго голага па лядзяной вадзе. Жаль, не збылося гэта… Я адхварэла той дзень і ўспамінаю яго з жудасьцю.

## ЦІХІ КУТОЧАК

Гаспадарка стаяла наводселі. Шырокі двор амаль упіраўся будынкамі ў высокую і цёмную сьцяну лесу, і са сваімі дрэвамі, сам у форме чатырохкутніка, хораша рысаваўся сярод камяністага поля. З правага боку, але ўжо воддаль, весела трапятаў гольлямі на вятры малады беразьняк, які цягнуўся далей пры дарозе, зялёны і кволы. Дом быў невялікі і збудаваны крыху на шляхоцкі манер — на высокай падмуроўцы, з ганачкам і шырокімі вокнамі. Гумно і хлявы былі з харошага лесу, грунтоўныя, новыя. Пагоркам уздымаўся крыты дзярном склеп, а дзеравяная студня з разгойданым жураўлём так і клікала, каб зачэрпаць вадзіцы. Вокал ляжала зямля няшчодрая, але дбайна апрацаваная, амаль выпешчаная плугам і бараною. Ня так яшчэ даўно рос тут адвечны лес, які пан збыў за танна купцам, а карчавішча, пясчанае і камяністае, купіў некалі малады Іван. Ужо некалькі гадоў ляжаў той Іван побач на могілках, а яго калісьці працавітая і маладая, а цяпер старэнькая і ўдвая згорбленая жонка, рупліва заглядала ў хлеў і сьвінарнікі, найболей давяраючы ўласнаму воку. Век спорылася дабро пад яе гаспадарлівым і пільным поглядам, і бабка Наталя добра ведала гэта.

Зямля хутара, ад сялібы зьбягаючы з горкі, адным сваім бокам упіралася ў гасьцінец, ля якога здалёк зелянелі сялянскія могілкі. Бабка Наталя часта паварочвала туды галаў, ціха і люба ўспамінаючы адышоўшага гаспадара. Вернае каханьне маладосьці, умацаванае даўгім чаканьнем на любага і завершанае шчасьлівым супружжам, здавалася, жыло ў яе добрых і поўных тугі і ціхага жалю вачах. Яна ўжо не была на хутары поўнаю гаспадыняй. Ад часу, калі ажаніўся сын, правіла ўсім нявестка — быстрая, вясёлая і вельмі працавітая жанчына. Бабка даглядала толькі за ўсім ды радзіла часамі дзецям. Расла ўжо харошая ўнучка — шчырая пацеха і памочніца бабінай старасьці.

У гаспадарцы памагаў парабак Апанас — хмуры і здаравенны, акуратны ў працы, але грубы ў сужыцьці зь людзьмі, скупы і карысьлівы. На жаль, кінула яго жонка, забраўшы дачушку, не стрывала вечнага холаду і варожасьці яго адносінаў нават да найбліжэйшых. Слухаў ён болей гаспадыню, чымсьці гаспадара, бо тая больш разумела толк у працы, і ахвотна даглядаў і карміў дзьве цяжкія і сытыя бэльгійскія кабылы, якія бабка Наталя

сама выгадавала ад пакінутай у вайну немцамі рыжай і цяжкай Герты. Былі гэта ўжо Герціны ўнучкі, але вельмі хараша прыжыліся ў нас і насілі з годнасьцю беларускія імёны. Была і служанка — стройная і прыгожая Вольга з сынком Валодзькай, дзеля якога яго маці плацілі за працу напалову меней. Але ён пра гэта ня ведаў. Цікава глядзеў карымі вачанятамі на сьвет і часта лупцаваў сваю равесьніцу, бабіну ўнучку Ліду. Бабка Наталя яго не любіла, не магла сьцярпець, каб нейкі чужы бастручок ды зачапаў яшчэ яе яснае сонейка. Ліда была адзінай дачкой у іх, яе вельмі даглядалі і песьцілі.

Валодзьку бабіна злосьць мала палохала, прыгожы і хараша апрануты, ён яшчэ адчуваў сябе роўным з усімі, ля каго жыў. Найболей кахаў сваю стройную маці, якая, уніжаная і пакрыўджаная лёсам, то біла яго бязь літасьці, то горача туліла да сэрца і, схаваўшыся ад людзей, выцалоўвала сінячкі на яго каленцах. Найважнейшай асобай на хутары быў бабкін сын — малады і прыгожы Аляксандар Іванавіч. Вучаны і бывалы, вярнуўся ён пасьля вайны на радзіму, а так, як ня быў ні палякам, ні нават каталікам, дык не знайшлося яму нігдзе месца. Ня ўмеючы і не прывыкшы рабіць, ён узяўся за бацькаву гаспадарку. Пры дапамозе жонкі, Вольгі і Апанаса гаспадарка пайшла зладжана, жылося не сказаць каб асабліва раскошна, але ў дастатку, і, выкраіўшы гадзінку-другую часу, можна было пачытаць і газэтку.

Давялося мне ў іх пагасьціць. Была восень. Таёмна і глуха шумеў побач лес, безупынна сплывалі па шыбах кроплі дажджу, і доўга-доўга цягнуліся сумныя вечары. Я моцна падружылася з бабкай Наталяй. Маладая гаспадыня хутара, дарэчы, мая сваячка, болей мне падыходзіла па веку для сяброўства, але сэрца людзкое кіруецца сваімі законамі, часам і насуперак усякай лёгіцы. Бабусі было пад 80, але розум быў у яе вельмі ясны і памяць адумысловая. Яе постаць была згорбленая не ад хваробы, а ад цяжкое працы. Поле сваё выкарчавала яна ўласнымі рукамі. Іван паехаў ды паехаў, а яна ўсё сама — працавала з ахвотаю, з толкам, можа, толькі крыху зашмат.

Ад раніцы да позьняга вечара звінеў на хутары голас Вольгі. Сама яна ня ведала ліку песьням, якімі цешыла сваю душу. Слухаеш, бывала, слухаеш, ды два разы той самай не пачуеш. Сьпявала яна нейк сумна, прачула і хараша. Ніколі не чутно было, каб весела падцінала ці высьпеўвала брындушкі, як другія дзяўчаты. Яе песьні былі старыя, зьмястоўныя, невясёлыя, часам неспакойныя, як тая восеньская ноч, зь вельмі тужліваю нотай.

Гаспадыня была прыгожая, маладая, дбайная ў гаспадарцы, сьпявала таксама, але не падчас працы, як Вольга, а вечарамі, калі прыходзілі госьці. Сьпявала звонка і галасна, толькі песьні яе былі ведамыя, чужыя ды даўно ўжо абрыдлыя. Не было ў іх той ноты з шырокага поля і з долі нашай народнай. Была яна пані і ўпарта адракалася ад усяго сялянскага нават у крыві сваіх продкаў. Ростам нечаму лічылася тады ўпадабненьне да пануючых на нашых землях чужынцаў. Бабка была зусім інакшая, строга сьцерагла ў хаце добрыя старыя звычаі, не шкадавала людзям яды, шчодра адзначала сьвяты, дбала аб адпачынку Астапа і Вольгі. Часта пранікнёна заглядала мне ў вочы і, падышоўшы сутоньнем, гладзіла па галаве, як маленькую.

Добра нам было, калі гаспадары ад’язджалі з хаты. Вольга грэла ваду, я памаленьку распранала бабусю, мыла ёй галаў і плечы, клала чыстую, кужэльную, з даўгімі рукавамі і каўнерчыкам, кашулю, зачэсвала, уплятала ў валасы белыя касьнічкі. Дайсьці ў царкву бабуся ўжо не магла, заўсёды, чысьценькая і прыбраная, малілася ўдома. Доўга і прачула паўтарала словы знаёмых малітваў, а пад канец пачынала маліцца па-польску:

— Поментай абысь дзень сьвенты сьвеціл, поментай абысь ксендзу дзесенцінэн давал.

Тут я ўжо не вытрымлівала ды пыталася:

— Бабусенька, а навошта па-польску, ды яшчэ пра тую дзесяціну, гэта ж ня Богу!

— А гэта, дзеткі даўно было. Некалі мы былі вуніяты, а калі тую вунію забаранілі, то падзялілі і малітвы. Хлапцоў вучылі маліцца па-руску, а нас, дзяўчат, па-польску.

— А ўсё ж, бабуся, гэта дзесяціна ксяндзу — не малітва, а вяротны грэх.

— Не кажы, не кажы, дзеткі, не гняві Бога, так мяне з маленства навучылі і так ужо буду маліцца, пакуль памру.

Дарма было бабусі растлумачваць сутнасьць і розьніцу касьцельных і Божых запаведзяў, я толькі прыкрывала ёй згорбленыя худзенькія плечы, і мы засыналі.

Сярэдначы вярнуліся гаспадары з гасьцямі і доўга спалі, а быў рашчынены хлеб, і Вольга бедавала, што з усёй працай сама ня справіцца. Я ахвотна ўстала ёй памагаць. Зьнялі мы з печы дзежку, рошчына хораша падышла і апала, заставалася толькі замясіць. Апанас акурат гатовіў мяшанку коням, рабіў ён гэта з толкам, браў муку, запарваў яе, мяшаў.

— Давай, Апанас, — кажа Вольга, — сьпячэм сяньня добры хлеб, высеем муку і замесім, а вотрубі ты возьмеш коням.

— Добра, — буркнуў Апанас, бо, паводле загаду гаспадыні, хлеба не высявалі, бо быў бы надта няспорны, хутка яго зьелі б.

Вольга шпарка ўвіхалася ля печы, бабуся абірала бульбу, а я мясіла цеста на хлеб. Мясіла хораша, на ўсе бакі дзежкі, ад сьцен адбірала замешанае цеста, выскрэбвала нажом, высыпала мукою, аж Вольга дзівам дзівілася, скуль так усё ўмею. А цеста расло пад рукамі. Нарэшце я загладзіла яго зьверху, бокам далоні зрабіла пасярэдзіне крыж і накрыла дзежачку векам.

Сьпяклі мы хлеб — не ад'есьціся, яшчэ ніколі, як казалі, тут такога не было, але не быў бы то Апанас — назаўтра ўжо прадаў нас гаспадыні. Доўга было мне непрыемна перад Галенай, бо ўсю віну я ўзяла на сябе. Праўда, надта яна не злавалася, бо вельмі ўжо хвалілі яе тыя госьці за духмяны хлеб. Яны цэлы дзень гралі ў прэфэранса, а калі пачулі сьпеў Вольгі, пачалі выпытваць пра яе.

Была яна родам недзе каля Вілейкі, адзіная дачка багатага і гордага гаспадара. А быў там бацюшка і ў яго — нейкі недавучка брат. Закахаўся той брат у прыгожую, хораша заўсёды ў царкву прыбраную Вольгу, першую сьпявачку і танцорку ў сяле, і пачаў да яе заляцацца. А Вольга была вокам у галаве старога бацькі і яго шчырым памочнікам. Яна і касіла, і баранавала за бацькам, калі ён сеяў, даглядала кароў, умела абыходзіцца з коньмі. Валодзя і быў сынам таго дзецюка. Гаспадар устаў і павёў гасьцей у каморку, гдзе ўжо соладка спаў малы шалапут.

— Глядзеце, — сказаў ён, — які хлопец, адразу відно, што шляхотнае, панскай пароды.

— Да, да, — пацьвярджалі госьці, — на мужыка ён і не падобны.

Доўга пасьля пры стале ўчарашнімі мужыкамі вялася гутарка аб менейцэннасьці мужыцкай пароды…

А Валодзя спаў, падобны, як дзьве кроплі вады, да маці зь яе белым тварам, карымі вачанятамі і русымі валасамі. І ня сьнілася малому нават, што той кляты недавучка выманіў яго маці з роднага гнязда і павалок па сьвеце, а пасьля кінуў і яе, і яго. Не пасьмела гордая гаспадарская дачка вярнуцца дамоў са сваім няшлюбным сынам, можа, даравалі б бацькі, але ніколі не даравалі б людзі, а няславы сьцярпець яна не магла.

Так і йшла са службы на службу. У адных паноў далі ёй крыху адзеньня па сваіх дзецях для хлопчыка, і пакуль яно не падралася, Валодзя заўсёды быў — як маленькі прынц, як тое пешчанае панскае дзіця. Вольга сьпявала, яе звонкі голас прабіваўся аж на гасьцінец, спыняў і зачароўваў людзей. Траплялiся ёй і добрыя хлопцы, але ні з кім яна не хацела гутарыць пра каханьне. Неразумнае жаночае сарца, яно было вернае таму нядобраму чалавеку, які кінуў яе з сынам на няпэўныя і неспакайныя хвалі тагачаснага быту.

Не хапала, бывала, ёй грошай, бо трэба ж было і апранацца, выручаў яе тады Апанас, у якога капейка заўсёды вялася. Ён прагна паглядаў на Вольгу, яе маладосьць — песьні знайшлі дарогу і да яго заскарэлага сэрца. Разьлічваў, што, пазычыўшы грошы, аднойчы прытуліць за іх і яе, на нейкі час, вядома. Меў права цяпер яе прасьледаваць сваімі няўмелымі, грубымі заляцаньнямі. Вольга наперад выбрала ўжо ўвесь свой невялікі заробак, прыхоўваць грошы яна ня ўмела. Прыйшла ёй пара разьлічвацца, так ці іначай,

з Апанасам. Тады дастала яна з убогага сундучка свой адзіны скарб — белую крамную простыню і аддала яму за паўцаны. Сумна сьпяваючы, пайшла аходжвацца ў двор, а Апанас доўга трымаў у руках тую простыню, аж урэшце схаваў яе ў свой набіты адзеньнем куфэрак і злосна яго замкнуў. Вольга свой доўг заплаціла.

Паехала аднойчы пані Галена далёка да сваякоў. Мы з бабкаю заўсёды мелі, аб чым гутарыць, яна яшчэ прала кудзелю. Вольга ткала ў 12 нічальніц ручнікі, а я забаўлялася з малымі ды сукала цэўкі, а вечарамі пісала лісты.

Раз нейк над вечар выйшла я, каб дагледзець, ці ўсё ў парадку, пазачыняць хлявы, прыкрыць матаю дзьверы склепу, бо пачаліся маразы. Мне захацелася паглядзець на лес, і я пайшла сабе пад засьнежанымі лапамі хвояў, моцна задумаўшыся аб сваім жыцьці. Пачуўся здалёк галагончык, і неўзабаве насустрач мне выехалі зграбныя саначкі, у якіх сядзелі вазьніца і малады пан. Яны ехалі да нас. Шукалі менавіта мяне. У той час людзі езьдзілі ў сваты, дык вось, не знайшоўшы мяне ў бацькоў, гэты чалавек ехаў паглядзець на мяне, хоць пазнаёміцца. Прыйшлося мне сесьці побач, і так мы пад’ехалі пад наш ганак.

Вярнуўся ўжо ад суседзяў гаспадар і ветліва запрасіў госьця ў хату. Там мы і даведаліся прычыну прыезду важнага госьця. Бабка вельмі гэтым пранялася, безь нявесткі яна адчула сябе поўнай гаспадыняй і ўсё пастанавіла зрабіць па-свойму. Абамлела б пані Галена, каб убачыла, якую ярую напасьць зрабіла бабулька на яе зімовыя запасы. Нават мае шчырыя просьбы апомніцца не прывялі яе да цьвярозага розуму. Яна накрыла багата, як ніколі дагэтуль, стол, а госьць заставіў яго бутэлькамі віна і гарэлкі. Я міла ўсьміхалася да госьця, а ў думках бачыла пані Галену — чырвоную ад ярасьці за бабусіну сваволю. А пакуль што Вольга весела прыслугоўвала, зьвінелі чаркі, цякла гутарка, і ў маладога бурлілі пачуцьці. Чаркі куляў ён у сябе адна за другою і весела ды са смакам расказваў пра сваю маёмасьць і старое шляхоцкае паходжаньне. Жыў ён па-свойму.

— Хамаў трэба біць, — казаў, — і меней карміць, каб не бунтавалі, проша пана, на Крэсах…

Яго прагныя рукі пачалі шукаць маіх далоняў, а сам ён прасьпяваў нешта і выкрыкнуў: «Горка!». Мне ўжо было горка сапраўды. Дзядзькі маі яшчэ ўсё выпытвалі ў яго пра сям’ю і пра гаспадарку, а ён ламаў сабе галаў, як называецца тая артыстка ў кіно, да якое я вельмі падобная.

Калі мы з бабусяй Вольгай улажылі ўсю п’яную кампанію, накармілі вазьніцу і паглядзелі, як стаяць каровы на ацёле, было ўжо далёка за поўнач. Вольга даўно прымасьцілася ля Валодзі і спала, а мы ўсё сядзелі. Нарэшце яна ўважліва паглядзела мне ў вочы і спыталася, што я думаю наконт гэтага свата. Я нечаму маўчала, тады ўстала бабуся Наталя і аж пабажылася, што яна нават цяпер, у сваі гады, не пайшла б за такога…

Сум прабег ёй па твары, і яна пачала мне расказваць аб сваім жыцьці. «Як магла забраць зямля такога чалавека, як мой Іван? — гаварыла з горыччу. — Я і сяньня люблю яго і не забудуся, пакуль не памру».

Даўно, даўно некалі пакахаў яе той Іван, але бабуся была са слаўнейшага роду, дык усё адкладаў са сватамі, аж прыйшло яму йсьці ў войска. Служылі тады па 6 гадоў. Паплакалі яны, разлучаючыся, і прысягнулі абое быць вернымі і дачакацца сустрэчы. Так і пайшоў Іван у маскалі, пакінуўшы сваю дзевятнаццацігадовую дзяўчыну ў сьлязах. Ішоў час, да прыгожай і слаўнай Наталі пачалі езьдзіць сваты, а яна ўсё просіць бацьку: «Ах, татачку, пашкадуйце мяне, не выдавайце замуж!». Ніхто ня мог сьцяміць, чаму ганьбавала дзецюкамі, аж нарэшце яна сама прызналася бацьку і расказала пра Івана. Журыў ён яе за тое, што ў час, калі забіралі Івана, не сказала яму аб гэтым. Быў жа ён тады старастам і напэўна яго абараніў бы…

Чакала цярпліва маладая дзяўчына, гады йшлі, людзі яе палохалі, што ня вернецца. Былі сьлёзы, былі дакоры сям’і, але былі і надзеі… Іван вярнуўся. Зажылі яны шчасьліва. Іван навучыўся грамаце ў маскалях, і паставілі яго ўраднікам ці ня ў Зэльве

толькі. Насіў, як казала бабка, нейкую партупею і прыгожы мундзір. Бывала, казала, зловіць чалавека з пакражаю, убачыць, што бедны, прыкажа вярнуць крадзенае людзям і пусьціць на волю. Любілі яго ўсе людзі і благаслаўлялі.

А іначай быў строгі. Раз пакралі цыганы коней у далёкім сяле. Пераапрануўся Іван у звычайнае адзеньне і паехаў адзін возам шукаць нейкага сьледу. Ехаў доўга, а ўвечары даганяе яго чалавек коньмі і просіць, каб дазволіў іх прывязаць да драбаў. «Вяжы, — кажа Іван, — а сам сядай побач ды паедзем, бо сьпяшаюся». Пачалі гутарыць, ажно ён бачыць — цыган! Слова па слове і дадумаўся мудры стражнік, каго вязе. Так і прывёз і здаў яго куды трэба і пазнаходзіў усе коні.

Толькі бяда — умiралі ім дзеці. Выгадаваліся толькі апошнія двое — дачка і сын. Абое вучаныя, дачка далёка замужам за харошым чалавекам. Пра дачку я ўсё знала, часта пад дыктоўку бабусі пісала ёй падрабязныя лісты аб жыцьці на хутары, аб здароўі і мацерынай тузе па ёй…

Яшчэ раднейшай стала мне бабка Наталя за тую ноч. Назаўтра з Богам адправілі мы таго свата, зноў шчодра і багата накрыўшы стол, бо так наказваў гонар сям'і, да якой у той час прыяжджалі госьці…

Бабуся посьціла і Піліпаўку, і Вялікі пост, і была рада, што я датрымоўвала ёй у гэтай кампаніі. Алей тады зь льнянога семя рабілі самі, рабілі на зіму запас сушаных грыбоў, яблыкаў і грушаў. Была капуста і цьвёрдыя, духмяныя, квашаныя гуркі. Селядцы бралі з расолам, зь якога гатавала бабка Наталя воляк да паранай бульбы, а часам пражыла і таўкла льняное семя, і ў гэта мачалі сыпкія картофліны і елі са смакам, запіваючы макавым малаком зь мёдам. На салодкім адвары з сушаных яблыкаў часам варылі ячменную кашу, парылі яе ў печы напалову зь яблыкамі, пяклі бабку. Часам па пятніцах посьціла і гаспадыня, але сын бабусін ня посьціў ніколі і толькі пасьмейваўся з нас. Апанас і Вольга елі засквaранае і забелянае, посьцілі толькі па ўласнай ахвоце перад самым Вялікаднем.

Бабуся ніколі не была бяз працы, змарнаваны час лічыла за грэх. То прадзе, то дзярэ пер'ечка на падушкі, то абірае памаленечку бульбу, толькі б нечым у хаце дапамагчы. Але найболей памагала радаю, разумным словам. Памагала ўсім. Са мной ніколі не спыняла гутаркі пра Івана, яго розум, велікадушнасьць. Хоць сама карчавала адвечныя пні і ператтварала зьдзічэлую пасеку ў прыгодную для ворыва зямлю, гадавала на продаж жывёлу і сьвіньню, каб вывучыць дзяцей, усю заслугу за гэта прыпісвала толькі сваяму навечна пакаханаму мужу. Другога такога і пасьмертна магутнага пачуцьця я больш у жыцьці не сустрэла.

Усё ўмела і ўсё магла дарагая бабка Наталя — і выпесьціць кволае целятка, і выхадзіць раненую сьветлагрывую Герту, з чыёй скуры рымар даўно пашыў хамуты і набэдрыкі, але дочкі якой дружна цягнулі плугі пад папар. Здолела яна прывабіць і маю неспакойную душу ў ціхім куточку свае сялібы, ля сьцяны высокага лесу, які старажыў яе старасьць.

Давялося праяжджаць мне тудэмі. Няма ўжо сьлядоў той ціхай сялібы, няма і ўспаміну аб ёй. Не выпадала мне, затрымаўшы кампанію, зьлезьці з машыны ля сялянскіх могілак, на якіх, напэўна, да сяньня стаіць памятнік, пастаўлены дзяцьмі Івану Ляўцэ з чулым надпісам на роднай мове. Ці і бабуся ля яго прылегла — нават ня ведаю. Ня ведаю таксама, што сталася ў жыцьці з Вольгаю і яе маленькім сынком. Часам думаецца, што вярнуліся яны да бацькавага сэрца, ля якога заўсёды цёпла і бясьпечна.

Лёс паадносіў і вецер разьвеяў тугу, думы, гора іх і падзеі жыцьця, як і многіх пакаленьняў гэтай зямлі, на якой яны радзіліся і ўміралі. Лічу сябе заўсёды часткай душы іхняй і таму не сыходжу зь іх благаславеннага беларускага сьледу.

# ЛІСТЫ З ЗЭЛЬВЫ

## З ЭПІСТАЛЯРНАЙ СПАДЧЫНЫ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Зэльва, 15/XI, 75 г.

Шчыра паважаныя Саша і Вера.

Ліста Вашага і газэту атрымала.
Прыміце ад мяне самыя глыбокія спага-
-даньні і спачуваньні у прычыне сьмерці
Вашай дарагой Маці. Няхай зямелька
гудзевіцкая будзе Ёй лёгкай, добрая
памяць аб Ёй, працавітай, сардэчнай,
разумнай, спрыяючай людзям і [illegible]-
-най [illegible]! Я чула,
што Яна была хворая (ведала гэта ад
Віявы), але аб сьмерці Яе даведалася
ўпершыню. Здаецца мне, што я з Ёю
не нагаварылася досыць аб усім, здаецца
будзённым [illegible] і звычайным, а ў
сапраўднасьці глыбокім, вечным і
неразгаданым. Сільная была і рэалістычна
думаючая Ваша Маці. Такая засталася
у Вас абоіх і ў сваіх унуках і ласкава
да мяне. Як жа шкада, што не давялося
нават развітацца з Ёю... Што ж, такое

## 1. ЯНКУ ГЕНІЮШУ

*Зэльва, 14 сьнежня 1961 г.*

«Старулька» мілая!

Мерзьнеш? Ах, як я шкадую, што не паслала табе цёплай шапкі і тых тваіх цёплых чаравікаў! Няхай быў бы ты меней прыгожы, але ўсё ж было б цяплей. Не магу пакінуць хлопчыка. Учора цягала з сабою, але сяньня захаладно. Мы і так былі зь ім на рынку. Хацела пакінуць у Канюш[эўскіх], то прасіўся: «Бабацька, мілянька, лёдненька, халёсенька, вазьмі». А калі гэта не памагло, дык: «Ты будзесь баяцьця сяма, цябе ўклядуць, масіна заедзе маю бабусеньку…» Я ўжо ня вытрымала, як найцяплей апранула наша золатка, і мы купілі крыху мяска на рынку, хлеба і за аднаго рубля — цацачкаў. Усё ж спадзяемся, што ты нам нешта прывязеш, улічваючы, што пеўнік — ня так ужо важна, асабліва для Міхаські, хаця ён і са сьвістам. Найважнейшае тое, каб ты мне не сядзеў галодны! Ніякія цацачкі нас не пацешаць, калі прыедзеш зноў худы і страшны.

Што да капронавых падушак, то найлепшая падушка — са старамоднага гусінага пер'я. Апошняе — гэта ўсё эрзацы, якія надаюцца ўсюды, але не пад чулае кволае вуха. Такія падушкі для людзей у падарожжа, але нам гэта не прадбачыцца. Нават Міхаська, выслухаўшы ўсё напісанае аб др. Айб[аліце], пастанаваіў, што ў Афрыку не паедзе, што ўдома — куды лепей.

Валя едзе вечарам машынаю да маці, клікала яго жартам. Ён так гэтым праняўся, што ледва заснуў. «Бабусенька, я не паеду, я не хацю да бабы Юлі!» Я яго супакоіла, і вось цяпер 4-тая гадзіна, і ён смачна сьпіць. Якое шчасьце, што ёсьць торф! У хаце — цеплыня, і абед неблагі — зарэзалі петушка. Адно толькі хочацца, каб і Юра, і дзедзічак — усе былі сыты. Ты, пэўна, ужо атрымаў таго ліста, гдзе пішу, што Валі ізноў адмовілі ў выезьдзе. Сяньня мы паслалі ў польскае пасольства ў Маскву. Яны як не памогуць, то хоць парадзяць, што рабіць, куды зьвяртацца. Быў ліст ад Юры, якога Міхаська пасьпеў «пляцітаць», пасылаю яго табе.

Чакаем цябе ўсім сэрцам! Ужо ніколі болей цябе не пушчу ад нас, маё ты харошае, дарагое шчасьцечка… Як ты там з хустачкамі? У гэтую пагоду яны табе асабліва патрэбныя. Усё баюся, ці хоць не галадаеш… Валя дала мне 10 руб. (новымі), я іх не хацела браць, але пасьля была змушана, і вось яны ўжо растварыліся, як тая кропля ў моры маіх хатніх выдаткаў. І скуль яны, гэтыя выдаткі, бяруцца? Розных адрасоў так многа, каму пісаць, што не пасьпею на пошту.

А цяпер цалую цябе шчыра і моцненька. Сябры да нас не прыехалі на Акцябрскія, бо думалі, што будзе ў нас прафэсар. Пэўна, заглянуць на Новы год. Наш кніжны магазін зачынены ўжо трэці месяц, кажуць, таму, што няма «Ив[ана] Петр[овича]», які даваў ім таргаваць… Лічу ўжо дні да тваяго прыезду. Валя стараецца мне крыху памагаць.

Абавязкова пашлі наваг[однія] навіны Новікавай Веры Максімаўне, бо яна часта прыходзіць наведаць мяне і Міхаську. Шура ўжо адбілася ад усіх нас у карысьць «сыночка». Гаварыла, што чакае цябе. Хутчэй прыяжджай.

Міхаська ўстаў і просіць, каб цябе пацалаваць і «паськадаваць».

Цалую цябе яшчэ і яшчэ раз. Будзь здаровенькі.

Твая *Ларыса*.

## 2. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 28 сакавіка 1964 г.*

Паважаны сябра!

Дарма Вы трывожыліся! Бачыце, як аднагалосна адобрылі Вашу дысэртацыю! Знача — ёсьць у Вас даныя дзеля гэтага, і немалыя, відаць. Няма толькі ўпэўненасьці, і то дзякуючы Вашай скромнасьці. Я з усяго гэтага вельмі цешуся, вітаю Вас з посьпехамі і жадаю далейшых!

Вельмі цікавіць мяне № 5 «Полымя», магу спадзявацца, што гэта будзе добрая рэч. Я доўга Вам не пісала, даруйце! Калі будуць ізноў перабоі ў нашым ліставаньні, то проста па-сяброўску пішэце самі… Дзякую за прывітаньні на 8 Сакавіка. Вельмі міла прывітаў мяне і Ваш «сябра-нясябра». Думаю, што навесну адведае нас. Вось каб Вы ведалі, як я часам баюся людзей і ўцякаю ад сустрэч! Гэта бывае трагікамічна. Раз, ня так даўно, трэба было напружаньня ўсёй інтуіцыі, інтэлекту і нэрваў, каб яшчэ раз пазьбегчы таго, што мне не па нутру. Нават Валодзя аб гэтым ня ведае, нават Вы, напэўна, не заўважылі гэтага з маіх лістоў. Горай тое, што гэта ўсё адбіваецца на маім сэрцы, а яно, зразумела, моцна надтрэснутае. Я ж ня ведаю, сябра, ня знаю, хто Вы, можа, і ў гэтым выпадку і Вы мне сказалі б, як адзін зь сяброў…

Мне прыпомнілася акупацыя, час, калі друкаваліся маі вершы. На бяздушныя старонкі чужога зьместу клаліся жывыя крывінкі маяго беларускага сэрца, і далей, і далей, аж немцы агледзеліся, і пачалося… Справа стаяла на вастрыі нажа. Нягледзячы на ўсё, я не напісала нічога і не сказала нічога, што нязгодна было б з маім сумленьнем. Пасьля ўперліся дастаць мяне ў Менск, грызіў мне лягер, але ня выйшла… Божа, як успомню, дык мне з усяго гэтага страшна. Многа людзей ратавала мяне бескарысна, а мой сьледавацель-жыд у Менску зь ярасьцю сьцьверджваў, чаму гэта ў Чэхах і на Беларусі — нігдзе ня змогуць знайсьці сьведку супраць мяне… Мяне ня білі, толькі штурхалі пасьля ў Комі ў лягерах на работах. Ах, што я пішу ізноў… Ня варта аб гэтым.

Жыцьцё цікавае, падабаецца мне, як піша Валодзя К[араткевіч] у «Маладосьці» аб Шаўчэнцы. Няма яму цаны, гэтаму нашаму сябру. Ён — гэта нейкае цуда, а не чалавек, хаця і ня піша мне нічога, часамі толькі ад сяброў даведваюся, што ён жыў-здароў, працуе. Я так цешуся, што ён у нас ёсьць!

Ціхамірава я не чытала, але абавязкова перагляну тое, аб чым Вы ўспамінаеце. Падабаецца мне «Альпійская баляда» Быкава, хаця там крыху і шарахаватая мова. «Птушкі і гнёзды» падабаюцца меней, хаця мова там жывая і сочная. Калі Руневіч — гэта фатаграфія, — згаджаюся, але калі гэты тып перадавога інтэлігента з Заходняй Беларусі, то ён неглыбокі, павярхоўна беларускі і нецікавы. Паднявольны народ дае альбо шушамець, альбо герояў выразных. У Руневіча (па-маяму) — ані познатку адвечнай народнай беларускай культуры, ані зацікаўленьня нашым адраджэньнем: Багушэвічам, Багдановічам, Каліноўскім і т. д. Няма там нават аб’ектыўнай і сьмелай ацэнкі рэчаіснасьці таго часу.

У Быкава — іначай. Яго герой — гэта хлопец дасканалы. Беручы пад увагу яго невялікую асьвету, асяродзьдзе і яго харошае жыцьцё, відно, што такім, якім ён быў, зрабіла яго вёска, сям’я, наш народ. Ён увабраў у сябе і дабрату, і сьмеласьць, і розум, і ахвярнасьць, і мяккасьць, і чуласьць, і ўсё тое найлепшае зь вяковай глыбокай культуры сваяго народу. Ён думае, параўноўвае, рве сваім розумам цемру, сьмела аглядаецца назад, робіць вывады. Горыч яго жыцьця, яго сьмерць кладецца адказнасьцю на тых, якія так нялюдзка зьнішчылі яго, як і на тых, якія юнасьць яго і маленства абабралі з найпатрабнейшага, ня кажучы ўжо аб простых чалавечых радасьцях.

Нешта мусяе быць сярэдняе, гуманнае, такое людзкае: каб яго каханая Джулія магла шчасьліва і свабодна жыць у яго сяле, побач зь ім, калі б ён выжыў… Іван — гэта розум

і роздум, а можа, і чын, гэта дабрата творчая, гаючая, будуючая, злучаючая і па сьмерці ў адно. Хочацца мне прачытаць, што напішаце Вы, чакаю на № 5 «Полымя».

Мой муж ня можа жыць бяз просьбаў. Ён вельмі хоча, каб Вы папыталіся ў сяброўкі Гарэцкай, ці ёсьць у яе яшчэ «Антон», і каб яму прыслалі. Гэта малапраўдападобна, але ўсё ж папытайцеся, калі ласка. Пасьля нейкае кіеўскае акадэмічнае выданьне аб нейкім «юдаізьме». Толкам ня знаю, што гэта, а яго няма ўдома. А апошняе — гэта ўсе Скарыны, якія Вам трапяцца пад руку (партрэты ці статуэткі). Дазваляю Вам адказаць Івану Пятровічу: «Прашу, пакіньце мяне ў спакоі». Але напісаць Вам мушу, бо не адчэпіцца.

Яшчэ раз жадаю посьпехаў, шчасьлівай абароны свае дысэртацыі і ўсяго, усяго сьветлага. І ад мяне адна інтымная просьба, толькі між намі. Вот жа, каб былі ў кампаніі з В[алодзем] К[араткевічам] і замнога выпівалі, лёгка і далікатна адвярнеце яго руку ад чаркі і ўвагу ад бутэлькі. Сьцеражэце яго і цанеце, а цяпер — бывайце.

*Л. Г.*

P. S. Ваш апошні ліст быў вельмі цікавы. Вы наогул маладзец (за дысэртацыю)!

## 3. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 26 лістапада 1964 г.*

Паважаны і дарагі сябра!

Дзякую Вам за мілую і радасную вестку, на якую мы вельмі чакалі. Шчыра вітаем Вас з пасьпяховай абаронай дысэртацыі і жадаем Вам, як і ў папярэднім лісьце: плоднасьці ў працы, вытрываласьці і вялікіх навуковых узвышшаў. Жадаем Вам і асабістага шчасьця ў жыцьці, безь якога жыцьцё ёсьць не паўнавартаснае. Безумоўна — здароўя, безумоўна — радасьці са зьдзяйсьненьня Вашых грамадзкіх дум і спадзяваньняў. Я вельмі цешуся, што становішча Ваша цяпер болей паважнае і паважанае, і ёсьць вялікае поле для працы. Будуць рукапісы — дык будзе і магчымасьць друкаваць іх! За гэта я не баюся. Шчасьлівай дарогі да родзічаў! Яны Вас чакаюць, дачакацца ня могуць. Памятайце, што абмануць іх нельга, а то надта глыбока засумуюць.

Раджу ў пятніцу выехаць нанач, то сьвята канстытуцыі стане даўжэйшым. Быў ліст ад Юры. У іх усё ў парадку. Юрка глядзіць тэлевізар і дасканаліцца ў гульні ў шахматы, а экзамены? — тыя чакаюць… Гэтак жа і піша… Муж нейк аслабеў. Хварэе, учора ледзь падняўся на дзяжурства. Сяньня ажыў пад уплывам Вашага ліста і ўжо пабег у кіно! Жыве эмоцыямі! Цешуся, што хоць уволю нагутарыцца, а пасьля будзе ўсё перадумваць ды пераказваць мне вечарамі.

Я чуюся добра, але да крайнасьці адзінока. Думаю ісьці ў больніцу на працу як сястра-гаспадыня. Мне гэта бясконца прапануюць. Будзе хоць не такое пустое існаваньне. Хочацца зь некім аб гэтым пагутарыць. Што ўжо перакладзена на ўкраінскую, дык няхай і друкуецца, калі Вы так хочаце… На драбніцы тут не залежыць. Зь цікавасьцю прачытала ў «Полымі» артыкул Янкі Скрыгана пра З. Азгура. Вельмі тонка і вельмі талкова напісана.

У мяне асабіста многа гора, і шчупальцы васьмінога захапілі шмат дарагіх маяму сэрцу людзей. Малой дзяўчынкай і маладой дзяўчынай я верыла, што зло не паўнаўласнае, што ёсьць сілы, якія яго спыняюць, і гэта збывалася ў мяне на вачах. Цяпер не збываецца. Што ж магло так зьмяніцца з адвечнай справядлівасьці?

Хочацца гутарыць, бясконца гутарыць і шукаць нейкага сэнсу сваіх сяньняшніх дзён. Адна радасьць — што дарагія сябры растуць, уздымаюцца, твораць за нас, за тых, што не пасьпелі дасказаць недасказанага, што не змаглі… Шляхі Вашы няхай будуць раўнейшымі, а дні Вашы — зусім бясхмарнымі! Пішэце нам, абяцанага заўсягды датрымоўвайце! Пакуль бывайце здаровыя! Да сустрэчы!

*Ларыса Геніюш.*

## 4. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 24 кастрычніка 1965 г.*

Добры дзень, сябра Мікола!

Атрымалі ўчора Вашага ліста. Добра што хоць не забываеце. У нас нявесела. Сталася найгоршае з таго, чаго я баялася: захварэў Іван Пятровіч. Яго проста даканалі. Учора ледва прыйшоў з работы. Ня спаў цэлую ноч, мала гаворыць, нічога ня есьць. Тэмпэратуры няма. Відно — нейкае нэрвовае расстройства. Яму крыўдна за той пяцілетні стаж, ды ня так за стаж, як за прадуманы садыстычны зьдзек над ім. Жыцьцё было залішне цяжкае, каб усё перанесьці, а тут і сын… Не здае экзаменаў, за год ні слова бацьку не напісаў.

Просіць мяне пад'ехаць у Гродна, але надта баюся яго аднаго пакідаць, яшчэ што станецца з гора… Не, я ня плачу, я буду ўсімі сіламі яго ратаваць! Я думала, што мяне даканаюць раней, ажно зь ім горай… Амаль год, як яго кожны дзень расьпякалі і лаялі, уніжалі. Цяпер спынілася гэта, але прыдумалі вось гэты стаж. Заўтра ізноў прыдумаюць нешта іншае, але даканаюць чалавека дарэшты…

Горай нам цяпер. Там чалавек спадзяваўся, што на волі — нейкая людзкасьць і справядлівасьць, а тут няма на што спадзявацца — усё хлусьня… Я ня ведала, што такія мучыцелі існуюць, нас выхоўвалі зусім іначай. Ня ведаю, што рабіць. Хочацца з Вамі пагутарыць, бо цяжка… Заўтра паеду ў Гродна.

Ваша *Л. Г.*

## 5. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 31 кастрычніка 1965 г.*

Добры дзень, сябра Мікола!

Чыталі ўжо ў «ЛІМе», ды і сяньня атрымалі Вашага ліста аб абмеркаваньні Валодзінага рамана. І радасна да болю, і крыху трывожна… Абое мы плакалі… Увесь час, нягледзячы на свае невясёлыя справы, думкамі былі з Вамі. Цешымся, што нарэшце Вас убачым! Усіх, хто з Вамі прыедзе да нас, прымем ад шчырага сэрца. Вельмі хочацца бачыць Вас і Валодзю [Караткевіча], і Мішу [Чарняўскага], і сябру Арсена [Ліса], і ўсіх… Які дарагі прафэсар Пшыркоў, што і ён выступіў, а Сушынскі… Як гэта ўсё дарага і як добра.

У нас па-старому: трывожна і неспакойна. Іван Пятровіч яшчэ не зусім здаровы. На працу ходзіць. У «Зьвязду» яшчэ пакуль пісаць ня будзем. Абмяркуем усё з Вамі, як прыедзеце. Гэты наш мучыцель — жулік немалога маштабу, усе запалоханыя. Ён нас перакрычыць. Бярэ ўсё нагла і «на горла». Начальства яшчэ пакуль яму верыць. Хто можа сумнявацца ў тым, што чалавек з вышэйшай асьветай здольны толькі лгаць. Гэта чалавек страшны, і ня толькі для нас. Б'е ён, здаецца, на наша зьняволеньне і думае, што тут нас «зьесьць». Учора ветліва паведаміў мужу, што пастанавіў «задержать зарплату» яму, але Ларыса Антонаўна нажалілася ў Гродна… Ад яго можна ўсяго спадзявацца, можа і ня выплаціць.

На кастрычніцкія сьвяты мы папрасілі і сваіх сяброў з Гродна. Дануся [Бічэль], аднак, прыехаць ня зможа. Вельмі ўжо дрыжаць абое над хлопчыкам, а ён весела брыкаецца і сьмяецца сабе. Трудна зразумець, што ў Данусі ў сэрцы, але думы — адно, а доля — другое… Што б ні было, усё выльецца ў вершах. Недзе так і трэба…

Сябра Мікола, мы Вам бесканечна ўдзячныя за Вашыя лісты. У гэтыя дні яны — адзіная і вялікая падтрымка для нас. Пішу Вам усё як сыну і чакаю лістоў ад Вас як ад

найраднейшага. Дзякуем Вам, дарагі наш, добры і верны сябра… Спадзяюся, што з Вашым прыездам муж крыху ажыве, ачуняе, а то ўсё думае, думае, мала есьць і не асабліва гаворыць. Мы вельмі хацелі б бачыць сябру Траяноўскага. Просім, каб абавязкова да нас заехаў. Буду ратаваць Івана Пятровіча да апошняга. Юрка ня піша… Чакаем Вас, дарагія сябры. Вельмі чакаем.

Вашыя *Геніюшы*.

## 6. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 18 лістапада 1965 г.*

Добры дзень, сябра Мікола!

Ня ведаю, чым гэта паясьніць, што мы да сяньня нават ня ведаем, як Вы заехалі, ці шчасьліва? Калі мы чым Вас абразілі (што сабе не ўяўляю), дык калі ласка, даруйце. Калі Вы хворы ці зламалі руку, ці нагу, ці шыю, дык няхай за Вас паведаміць нам аб гэтым нехта зь сяброў. Мы Вам казалі, што Вы нам дарагі і блізкі чалавек — гэтых слоў мы многім не гаворым.

Вашыя сябры *Геніюшы*.

## 7. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 29 лістапада 1965 г.*

Добры дзень, сябра Мікола!

Спадзяюся, што Вы ўжо атрымалі сваю сетачку, краватку і пару слоў ад мяне. Напішыце. Муж ад 24 лістапада ў дарозе. Учора тэлеграфаваў з Масквы, што «всё будет хорошо». Відно, што прыйшлося яму затрымацца. Апошні час стала крыху лягчэй. Думаю, што паездка мужа ў Міністэрства аховы здароўя СССР выясьніць дарэшты ўсе супярэчнасьці. Калі сустракаю сваіх знаёмых, дык заўсягды Вас успамінаем вельмі цёпла і з любоўю. Роза ўсё паўтарае: «Непрыемна, ну і непрыемна…», — і заўсягды пры гэтым усьміхаецца. Людзей радуе, западае ім у памяць і ў душу, калі нехта шчыра да іх адносіцца і спагадае іх гору. Усе вельмі хочуць бачыць Вас ізноў у Зэльве, але я кажу, што няма ў Вас грошай, каб разьяжджаць. Хаця сама вельмі хацела б Вас ізноў пабачыць, асабліва цяпер, калі ў мяне столькі вольнага часу і я чалавек. А то ўсё — скрутак нэрваў, заведзеная машына, гаспадыня і г. д.

На дварэ пасьля марозікаў сьлякаць і вогкасьць, а ў хаце — цёпла і любата. Што раблю? Вось пішу ўжо пятага ліста, крыху чытаю, сплю і т. п. Прыходжу ў норму. Думаю, што муж, едучы назад, пабачыцца з Вамі ў Мінску. Затрымаецца ён у Станіслаўчыкаў. Іх бацька тут чуецца штораз горай. Хоча ў больніцу — яго не кладуць. Лекары да яго не прыяжджаюць, і ён вельмі чакае прыезду Івана Пятровіча. Была ў мяне маці Мікалая, бядуе.

Пасылаю Вам аднаго ліста, якога перапісваць ня хочацца. Схавайце яго ў сябе альбо лепш адашліце мне назад. Мілая і разумная гэта наша «бусьліха зямная» (зь яе апошняй паэмы). Мне сумна бяз Вашых лістоў. Буду чакаць навінаў і некалі ізноў Вашага прыезду, але ўжо на даўжэйшы час. Падалі на вызаў для Юры. Вельмі я рада, што ён нарэшце напісаў бацьку, жаль толькі, што на гэта трэба было яму захварэць. Калі б бачылі мужа, то скажыце яму, што зь Вярхоўнага суду зь Мінску ўсё яшчэ няма адказу, можа, няхай зойдзе і папытаецца асабіста.

Лістоў і цікавых спраў покуль таксама няма. Калі засталіся грошы, дык няхай мне купіць жалязко да прасаваньня, бо нашае сапсавалася, а ў Зэльве добрых няма. Я чула,

што глаўурач ізноў нешта «варушыцца» супроць нас, няхай Іван Пятровіч выясьніць усё ў Мінску. Дахаты можа не сьпяшаць. Ён жа так любіць горад, няхай пагляне, паслухае, калі ўжо выехаў з хаты. Супольныя знаёмыя кланяюцца Вам, чакаюць ізноў у Зэльву! Як Ваша праца? Прывітаньні сябрам! Бывайце.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 8. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 6 сьнежня 1965 г.*

Добры дзень, сябра Мікола!

Муж прыехаў раней, чымсьці Ваш ліст. Ён прывёз самае галоўнае: паперу з дазволам на працу і другую аб тым, што залічваецца яму поўнасьцю чэхаславацкі стаж. Атрымала ліста ад Данусі. Не высылаю Вам яго. Падобнай памылкі ў жыцьці болей не зраблю… Хацелася, каб Вы былі ў курсе спраў, арыентаваліся і думалі, як і што зрабіць, каб яе друкавалі і г. д. Хоць што Вы сказалі Валодзі аб неабдуманых словах сябры Эрыка… Божа, як гэта Вы маглі зрабіць!.. Як? Я спадзяюся, што нашыя шчырыя гутаркі з Вамі ня сталіся яшчэ агульнай «таямніцай» усіх сяброў… Прашу Вас аб гэтым! Яшчэ прадчасна гаварыць аб усім! Вельмі прашу, вярніце мне Данусінага ліста.

*Ларыса Геніюш.*

P. S.: Прашу Вас аб адной ласкавасьці. Хачу падзякаваць сябру Зянону за ягоны дар. Зрабеце гэта ад майго імя, бо, на жаль, болей супольных знаёмых зь ім у нас няма. *Л. Г.*

## 9. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 10 сьнежня 1965 г.*

Добры дзень, дружа Мікола!

На гэты раз усё Вам дарую, нават тое, што ляжалі «крыжам»… Памятайце толькі аб тым, што дароўваю гэта апошні раз! Крычаць на Вас маю права, бо Вы — сябра нашай сям’і, але на гэтай падставе і ўсё дароўваю. Як Ваша самапачуцьцё? Гдзе праводзіце свой час па-за бібліятэкай? Калі хочаце ўжо нешта пакахаць, то лепш дзяўчыну, чымсьці тую клятую чарку! Вы згодны? І наагул, зь вялікай ахвотаю я Вас ажаніла б, а то бяз догляду растраціце здароўе і сілы, вельмі патрэбныя старажытнай беларускай літаратуры. Гэта нельга! Мой абавязак крычаць на Вас! Вы загневаліся? — Як уважаеце, але Ваша шчасьце, што ад маіх слушных закідаў і папрокаў дзеліць Вас адпаведна вялікая колькасьць кілямэтраў. Годзе.

Цяпер апошнія паведамленьні. Да мяне пачалі вельмі прыхільна адносіцца прадстаўнікі нашых гродзенскіх урадаў. Учора ў дзьвюх з паловай гадзіннай гутарцы з трэцім сакратаром Гродзенскага абкома партыі мы закранулі многа актуальных праблемаў цікава і творча. Рэзультат такі, што ўключацца ў працу трэба. Ведаю, што Вы бясконца радыя. Я меней. Я не асабліва веру ў свае сілы і ў свой верш, які, на жаль, не мадэрны і ня вельмі сучасны. Пісаць, аднак, буду. І, калі дадуць магчымасьць, буду друкавацца. Гэты факт, аднак, забараняю Вам замочваць нават сухім вінам! За кару дазваляецца Вам піць кэфір у любой колькасьці!

Як здароўе? Як чуюцца сябры? Хачу, каб Вы зразумелі, што даравалць Вам было мне нялёгка… Ну, давайце руку на сяброўскую згоду, а то Іван Пятровіч амаль што плача па Вас. Бывайце!

Вашыя *Янка* і *Ларыса Геніюшы*.

## 10. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 4 студзеня 1966 г.*

Сябра Мікола!

Што з Вамі? Гдзе Вы? Ці атрымалі хаця мае навагоднія прывітаньні? Ваш апошні ліст быў бяз нумару, але гэта быў 7-мы! Да нас гінуць лісты нават з Чэхаславаччыны! Часта іх бяруць лістаношы, калі прыгожая марка, бо надта крычымо за ліста бяз марак. Сяньня (толькі!) атрымалі навагоднія прывітаньні ад сябры Арсена. Канверт цэлы, у клеі… Але, можа, ён сам так заклеіў? Зьмятую, страшную паштоўку дасталі ад Юры… Ну што ж, яшчэ ўсё ў нас не спраўляецца пошта.

Мы жывы-здаровы. Хачу вельмі ведаць, як з горлам у сябра Арсена? Ці гэта нічога паважнага? Кляну сябе, кляну. Мая мама адмыслова лячыла нават ТВС горла — зельлечкам! Я памятаю крыху яго. Але чаму ж я тады не паглядзела добра? Якая я была «люнатычка» (так мяне дзеля вечнай задумёнасьці лаяў і мой муж…). Хутчэй пішэце мне, як тое горла? Прыслаў Валодзя толькі паштоўку. Ён піша, што я, недзе, усё ведаю ад сябра Міколы! Вы, недзе, безнадзейна закахаліся, мой сябра, бо толькі ў такім становішчы людзі забываюць сяброў.

Як там Майхровіч і С°? Дзіўна тое, што ліцьвіны маюць права гаварыць пра дзяржаўнасьць таму толькі, што перадралі назову, а мы, славяне, чыя фактычна дзяржава была, ня маем права гутарыць аб ёй! Як быццам мінуласьць перашкодзіць нам быць чэснымі сябрамі супольнай дзяржавы, калі ўжо такі сяньня час абагульненьня народаў! Не разумею сэнсу прыніжэньня народу насуперак праўдзе. Кожны чалавек выбірае што лепшае і жыве як прадукт свайго асяродзьдзя. Ці ж можна кідаць каменьні ў людзей і не прызнаваць іх толькі таму, што яны былі не такімі, як нехта недзе? Усё гэта мне не падабаецца і вельмі.

Дык хутчэй пішэце, а не — дык сядзьце на аўтобус і за пару гадзін будзеце ў нас. Яшчэ раз з Новым і шчасьлівым 1967 годам!

*Ларыса Геніюш.*

## 11. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 19 верасьня 1966 г.*

Даражэнькі сябра!

Што там ізноў страслося? Пераглядаю напісанае Вамі ў «Ніве» і нічога не магу зразумець… Пасьля такой разумнай гутаркі, аб якой Вы нам успаміналі, такія недзе неразумныя напады на Вас. Ці гэта што іншае? Чаму ж словам хаця не пазначылі, у чым тут справа? Я думала, Вы нам ня пішаце, бо ў Вільні, а я сама ўсё чакала ліста ад Вас. Праўда, неяк непакоілася. Добра, аднак, што не пісала Вам, бо думкі, якія мяне трывожылі і трывожаць, пакуль што не на часе…

Зь нецярпеньнем чакаю далейшых спраў і лічу, што, напісаўшы С[акрату] Я[новічу] адкрытага ліста, Вы зрабілі добра, так павінен паясьніць запутаныя факты нашай гісторыі кожны аб'ектыўны знаўца гэтай справы. Я знаю, што Вы такжа не далі б скрыўдзіць ці карожыць гісторыі СССР ці гісторыі яе рэвалюцыйнага руху. Зразумейце, Вы вучоны, і што б з Вамі ні рабілі невукі, Вы мусіце бараніць аб'ектыўнасьць, каб навука ў СССР, у любой галіне, была на вышыні абсалютнай праўды! Памятайце аб тым, што, дбаючы пра прэстыж навукі, гэтым самым дбаеце аб прэстыжы дзяржавы! Наша дзяржава настолькі магутная, што апірацца ёй на нейкія няпраўды ці няяснасьці — няма патрэбы! Мы паволі адыходзім ад сярэдневяковага захопленьня войнамі, нам ня так важна, каб

нас баяліся, нам важна, каб нас шанавалі! Людзі думаюць, а праўда — яна сьвеціцца, як брыльянт, ня гіне і ня гасьне! Зь ею не ўстыдно за сучаснасьць і за мінуласьць. Дык вось, трымайцеся гэтай праўды і нікога ня бойцеся! Шлях вельмі цяжкі, я знаю, але для сапраўднага Грамадзяніна і Чалавека шлях, нязгодны зь яго сумленьнем, ёсьць непрыемлімы!

Што ж там усё ж нарабілася? Нам баліць сэрца за Вас, як за найраднейшага, мы будзем вельмі перажываць і непакоіцца, пакуль не даведаемся, у чым справа. Крытыка Ваша на хрэстаматыю была добрая, канструктыўная, зьмястоўная. Ліст Сакрату быў талковы і моцны, хаця, па-маяму, мог быць яшчэ больш абгрунтаваны. На гэта, аднак, патрэбна было болей месца. Дзякую Вам за гэтага ліста, за тое, што Вы адзін не прайшлі міма крыўдных для нашага народу і недастойных «разважаньняў» Сакрата. Вялікае Княства Літоўскае — беларуская, славянская дзяржава, і заціраць гэта — знача, уніжаць свой род і суродзічаў! Каму гэта выгадна? Знача — думалі, працавалі, біліся і ядналіся зь людзьмі, і былі, і ёсьць, і будзем вернымі супольнай справе і нашай зямлі! Кожны чацьверты з нас, загінуўшы ў апошняй вайне, — гэтаму сьведка!

Вось і не сумуйце, няхай не баліць. Не шкадуйце нічога, што зроблена, бо шляхотныя і аб'ектыўныя людзі ёсьць усюды, і яны не дадуць нам загінуць!

У нас халадно, моцна адчуваецца восень. Крыху ізноў нядобра стала са здароўем. Хадзіла па грыбы два дні па лесе, па якіх 12–15 км, і нічога. А вось села ў хаце — і ўсё баліць.

Калі б Вы ведалі, як жа нам хочацца Вас бачыць! Каб хаця крыху Вы пабылі ў нашай хаце…

Ад Юры няма нічога. Піша адзін сябра, што, пачакаўшы, праз Саюз пісьменьнікаў, буду езьдзіць да сына і ўнукаў у любы час. Добра было б гэта. Але калі такое робіцца з Вамі, дык я сабе думаю: ці ня лепей мне зрабіцца мышкай і схавацца ў сваю норку, далей ад падобных «катоў».

Свае думкі аб «Ніве» я Вам амаль высказала і гатова ў любы час разьдзяліць з Вамі ўсе Вашы непрыемнасьці, дарагі сябра Мікола!

Сяньня адзявала Вашу хустачку, і было мне ў ёй добра і цёпла. Адзявала і думала аб Вас, а тут ліст, ажно замерлі мы з Іванам Пятровічам. Каля Вас «весела», няма чаго сказаць. Нейкая «кітайская культурная рэвалюцыя» ці якая іншая бяда… Галаве сваёй ня дам рады: што гэта можа быць? Аднак Вы ня бойцеся, збавіліся мы ад розных «культаў», лакіровак, ачкаўціраце льстваў, дык збавімся з часам і ад гэтай бяды! Час назад не пляцецца, а хутка і адчувальна шугае наперад. А мы зь ім, з часам!

У гэтым годзе ў нас няма ні картофлі, ні парасяці, таму крыху лягчэй. Ня трэба сумаваць. Няўдачы гартуюць. Шчыра, па-сяброўску цалуем Вас, і з тае прычыны, што пятляюць за Вамі ўсякія абэцадарскія і шабуні, уздымецеся вышэй за іх у сваёй харошай і творчай працы для Радзімы.

Вашыя *Генію*ш*ы*.

## 12. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 20 лютага 1967 г.*

Дарагія сябры!

Здаецца, незадоўга — еду! Грошай пакуль — ні каплі! Усяго накупляла ўнукам. М[аксім] Т[анк] піша сяньня, што срочна высылаюць за «Полымя». Справа ў тым: хуценька, мыталям (як у нас кажуць) купеце мне 3 ці 4 краваткі і хутчэй іх прышлеце! Вельмі прашу. Грошы Вам вышлю, бо так ці іначай, пакуль іх не атрымаю зь Мінска, не змагу паехаць.

Разумееце? Краваткі (галстукі) беларускія, вузел у іх дзеравяны ці плястмасавы, тканыя, здаецца. Такія прасіў Юра. Хутчэй высылайце. Пасьля нядзелі, 26.II, хачу ўжо ехаць.

З пашанаю да Вас — *Ларыса Геніюш*.

P. S. З Польшчы напішу. А Вы мяне чакайце! Не забывайце і Івана Пятровіча. Не ажанецеся безь мяне! Кланяйцеся ўсім знаёмым. Усё думаю пра Мальдзісаў — такіх харошых.

## 13. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 24 лютага 1967 г.*

Даражэнькі сябра Мікола!

Атрымалі Вашага ліста. Нейкі ён крыху сумны. Добра, што прапусьцілі альбом «Гродна». Я думала, што «зьядуць» яго. Карпюк страціў надзею. А «Полымя» харошае. Падборка — на ўзроўні таксама. Цешуся, што там і верш Данусі.

Сябры мае каханыя, купеце тыя 3–4 краваткі! Шубку магу купіць толькі сама. Я хацела толькі ведаць, ці яны ёсьць і па сколькі? Але, пэўна, прыехаць па яе ўжо не пасьпею. Цяпер чакаю зарплаты (мужавай) ці ганарара і дакумэнтаў. Ехаць трэба! Іван Пятровіч ляжыць, бедны. Зваліў яго грып. Чуецца надта кепска. Я ледзь-ледзь трымаюся. Што да дзіцячых вершаў, дык усе іх пашлю Вам. Калі б былі добрыя, дык можаце іх даць куды ў дзіцячы часапіс. Спачатку перагледзьце самі і памяркуйце зь сябрам Арсенам. Я хацела ўжо іх не перапісваць, але цяпер пашлю іх Вам. А што калі я памру па дарозе, праўда?

Цешуся, што сябра Арсен ужо ў Саюзе. Апярэдзіў мяне. Я пэўная, што Саюз ад гэтага памацнее! Яшчэ туды трэба Прашковіча з часам. Аб гэтым ужо трэба думаць. Калі пасьпею, дык прыеду па шубку, самі ня зможаце купіць. Але вось краваткі хутчэй купляйце і высылайце! За грошы хоць ня бойцеся. Зараз Вам іх і адашлю.

Не сумуйце, сябра Міколачка, усё ўладзіцца, усё будзе добра. Я Вам куплю нейкую драбнічку, хоць сьвісточак, ці пеўнічка, ці алавічок, толькі ж Вы не сумуйце. Пра Зізанія — добра! Зусім добра! Я вельмі хачу, каб Вы ў такіх справах гутарылі з М[аксімам] Т[анкам] і, калі трэба, на яго крыху аперліся. Не саромцеся, гэта ж для навукі. Я вельмі часта нагадваю аб Вас гэтаму чалавеку. Так, як Вы заслугоўваеце — з найлепшага боку і шчыра! Янка просіць альбом. Калі маеце цікавыя маркі, прышлеце мне іх.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 14. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 21 красавіка 1967 г.*

Сябра Мікола, дарагі, добры дзень!

Заўтра тыдзень, як я ўжо дома! Яшчэ ўсё нездаровая, яшчэ не прыйшла да сябе. Вельмі просім, каб Вы прыехалі да нас на май. Не абяцаю вялікага сьвята, бо нейк ня маю сілаў, але гарэлка будзе ды закуска будзе таксама. Добра было б — з Валодзем. Прывязла Вам ручку ад Юры на 4 колеры, а Валодзі ад сябе — на 3 колеры.

Хочацца Вас бачыць. Муж кажа, што я на 10 гадоў пастарэла. Мне здаецца, што я на 20 гадоў пастарэла, а на 100 гадоў паразумнела. Дзеці — як дзеці, усё аб іх раскажу пры сустрэчы. Вельмі харошыя ўнукі. Уражаньняў многа. Розных. Прывязеце мне крыху насеньня «метеол» — гэта проста мацейка пахучая, і астраў, калі можна — белых, пачачку. Болей нічога. Хіба калі хто дасьць, дык які корчык геаргіны, бо мае той год памерзьлі і ўжо прыгожых ня маю.

Што новага ў Вас? Аб сабе буду толькі расказваць Вам асабіста. Трэба каб Алесь Траяноўскі пісаў свае заметкі ў «Ніву». Вельмі сябры аб гэтым прасілі. Сардэчнае вітаньне яму ад нас! Ледзь жыву — так мне не спадабалася ў Польшчы. Ці атрымалі маяго ліста зь Беластоку? На май, можа, скочым з Вамі (калі б захацелі) да Сашкі Б[елакоза]. Я так па Вас стаскавалася, так хачу бачыць Вас у новым касьцюме!

Юрку таксама крыху апранула (за яго ж грошы), а то хадзіў зь дзірою на нагавіцах — праседжанай. Зь Юркам бяда — хворы, п'е і грубіяніць. Нейкая помесь лекара з арангутангам. Жах! Вам — воз прывітаньняў. Чакаем Вас зь нецярпеньнем. Прывітаньні ўсім.

*Ларыса Геніюш.*

P. S. Максіму Танку ўсё не пішу. Усё не зьбяруся з думкамі, яшчэ я ня я…

## 15. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 18 жніўня 1967 г.*

Паважаны сябра Мікола!

На днях выслала Вам ліста, спадзяюся, Вы яго атрымалі. Перадусім да Вас просьба: неяк скрытна напішэце Сашы Б[елакозу] і супакойце яго адносна п. Алеся. Я мела неасьцярожнасьць завезьці п. А[леся Траяноўскага] у Гудзевічы. Езьдзілі мы матацыклам с. Марціноўскага. Сябрам п. А[лесь] не спадабаўся ды крыху іх, здаецца, сваімі поглядамі напалохаў. П[ану] А[лесю] аб гэтым не кажэце, але напішэце Сашы, каб спаў спакойна. Гэта важна.

На днях мы чулі «Нямецкую хвалю». Вельмі доўга і абгрунтавана гаварылі пра Васіля Б[ыкава], зазначаючы, што гэта беларускі пісьменьнік. Параўноўвалі яго («Мёртвым не баліць») з Рэмаркам і нават з Гэмінгуэем! Слухаць было прыемна.

У нас пайшлі слухі, што Вы кожны вечар не прыходзіце, а амаль прыпаўзаеце дамоў п'яны… Выглядае ўсё гэта і трывожна, і жудасна. Саша да нашага прыезду ня браў гарэлкі ў рот! Будзьце мужчынам, с. Мікола, і грамадзянінам народу, якому патрэбныя ўсебакова цьвярозыя людзі!

Вы для нас — як друг і амаль як сын, таму мы з мужам маем права прасіць і вымагаць ад Вас, каб Вы абсалютна кінулі піць гарэлку! Гэта няцяжка. Мы, старыя, цярпелі куды цяжэй…

Краўцовыя крыху гневаюцца, што Вас нідзе не маглі бачыць. Яны шукалі с. Любу Грынчык (бяз Вас) і нідзе яе не знайшлі. Яна для іх — міт… Прасілі, каб Вы хоць даведаліся, ці Коля прыняты ў інстытут, ды каб хутчэй паведамілі нам. Не забудзьце перадаць ад нас прывітаньні с. Грынчыку, Валодзі [Караткевічу], Мальдзісу і ўсім знаёмым. З п. Алесем [Траяноўскім] і Іван Пятровіч аднойчы чуць не пасварыўся. Можа, мы яго добра ня ведаем? Мы не асабліва яго палюбілі. Не кажэце яму гэтага. Гэта між намі.

Ад Юры, нашага сына, усё няма лістоў. Памятаеце, два гады таму назад я Вам пісала, як прыйшлі маладыя людзі па кветкі да мяне? Іх калега і брат быў забіты ў Менску і кінуты ў сажалку. Ён быў студэнтам. Давалі мне тады грошы за кветкі, і я ім сказала, што беларусы не бяруць у горы нейкай узнагароды. Яны тады сказалі мне, што і яны беларусы. Як жа я была прыемна зьдзіўлена, калі яны зьявіліся ізноў і на гэты раз гутарылі толькі па-беларуску. Я ім дала кветак, на гэты раз — для нованароджанага.

Пішэце, калі ласка! Прышлеце ліста цераз Ніну. Напішэце мне асабіста, ці добра знаеце п. Алеся і што аб ім думаеце?

Ці атрымалі ліста ад нас трох — Данусі, п. Оксаны [Сенатовіч] і мяне?

*Л. Г.*

## 16. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 7 верасьня 1967 г.*

Даражэнькія!

Атрымала Вашыя лісты. Сардэчна Вам дзякую за мілую Вашу ўвагу. Надта я Вас палюбіла і буду старацца адведаць Вас як найхутчэй. У канцы месяца — апошні тэрмін здаць мне да друку сваю біяграфію, пасьля пабяліць на зіму хату, выбраць гладыёлусы, выкапаць юргіні, прыкрыць ружы, ну і тагды ехаць да Вас. Так я сабе гэта пляную.

Апошнія дні гасьціла ў мяне сястра, якая прыехала з Польшчы на Украіну да свае хрышчонай маці, нашай цёткі. Былі ўспаміны, гутаркі, а найболей — грыбы! Людзі ў нас не памятаюць такога грыбнога году. Адзін раз я палічыла сваі грыбы, было 105. Болей не лічыла, бо было не палічыць. Людзі іх насілі салявымі мяхамі, але гора было ў тым, што ў нас не было нігдзе банак, крышак і воцату! Многія марынавалі цытрыновай кіслатой — папсавалі «грыбэ» (так кажуць на маёй радзіме…). У мяне была эсэнцыя. Я з 8-мілітровай банкі выкінула гуркі і запоўніла яе цудоўнымі баравічкамі. Насушыла. Мне баляць ногі, і я ледва іду зь лесу, але сястра мая бегала ў лес кожны дзень. То прыносіла белыя з зарасьняў дуба і арэшніку, то ізноў аж вішнёвыя — з сасьнячку. Я насаліла рыжыкаў і цяпер ужо думаю ўзяцца за біяграфію. А тут насьпеў мой вінаград! Яго столькі, што ня зьесьці, і трэба зрабіць віно. Цьвітуць юргіні, розныя, цудоўныя астры і рэшта гладыёлусаў. Яшчэ цьвітуць агеньчыкі, ляўкоі, табачок, гарошак, ружы і г. д. Памідоры маі (і ўсіх!) папсаваліся, пачарнелі. Я пасьпела іх крыху закансэрваваць і зрабіла 10½-літровак тамату.

Сястра ўжо паехала. Так сумна, што ў нас няма сваяго, бацькавага дому, і трэба ўсёй сям’і негдзе бадзяцца па сьвеце. Дом — гэта сьвятая і вялікая рэч! Я вырасла на аднасельлі і найлепей чуюся сярод палёў і лесу. Я так цешуся, што і Вам гэта падабаецца! Насеньне памідораў мне ня шлеце, шчыра дзякую. У нашай кватэры няма сонца, і расада вельмі пагана расьце. Сёлета я купляла гатовыя саджанцы раньніх памідораў, яны былі салодкія, круглыя, мясістыя, раньнія, і мы зь іх вельмі скарысталі.

Шышэяў я знаю. Ня ведаю, ці яны мяне клянуць ці благаслаўяць, бо пажаніліся яны крыху па маяму жаданьню. Многія там так мяне паслухалі. Я іх там сватала, бо час ляціць, і гады ідуць, дык няхай будуць беларускія сем’і. Былі там добрыя сябры, былі і злыя правакатары. Сяньня я іх усіх крыху баюся. Людзі мяняюцца, і я абманулася ў іхняй шчырасьці. Яны прынесьлі мне многа прыкрасьці, не зразумелі мяне ці ня ў сілах былі зразумець. Усе «там» хацелі быць «дзеячамі», і гэта было мне незразумела. Я была вязьнем, над якім вельмі зьдзекаваліся. Я была вельмі ветлівай, але нязломна цьвёрдай у сваіх пераконаньнях гуманнасьці, справядлівасьці і дэмакрацыі. Мяне мучылі, сям’ю маю мучылі ў другім месцы. Я шкадавала ўсіх сяброў, а найменей шкадавала сябе. Трэба было крыху наадварот… Не люблю людзей-вязьняў, якія маюць іншыя інтарэсы, важнейшыя для іх за інтарэсы Радзімы…

Глеба Багдановіча добра знае мой муж — з Варкуты, цэніць яго. Сябру Мартынчыка цэніць меней. Знае яго зь дзяцінных гадоў, разам канчалі гімназію, разам былі ў зьняволеньні, гдзе людзі «абнажаюцца»… Я не люблю с. Мартынчыка і ведаю чаму… Я суровая да сябе і да людзей. Але вось Вас люблю шчыра, нават ня бачыўшы Вас. Гену Кісялёва знаю завочна ад А. Ліса, М. Прашковіча, Ул. Караткевіча і інш. Вельмі люблю Караткевіча і ягоную маці, яны ў нас бываюць. Вось бачыце, колькі ў нас супольных знаёмых!

Што да Клімовіча, то ён часткова мае рацыю, я не магу бескрытычна ўспамінаць жыццё, не магу! Мы з Вамі аднолькава любім расьліны і зямлю. Маі харошыя кветкі памагаюць мне жыць. Дзіўлюся Клімовічам, што яны мне пра Вас нічога нават не ска-

залі, калі я была ў Вільні! Акрамя іх, п. Марысі і мастака Сергіевіча, я так нікога там і не пазнала. Я вынесла ўражаньне, што беларуская Вільня пачынаецца і канчаецца кустом Клімовіч-Шутавічанкі… Вось за гэта я злая! Вельмі-вельмі хачу абняць Вас, даражэнькія, і пастараюся прыехаць і знайсьці Вас у лесе. Крыху баюся ездзіць сама (не дарэмна…), таму «завярбую» на гэта каго-небудзь са сваіх сяброў! Дай Бог Вам добрае здароўе, я прыеду да Вас напэўна! У нас ёсьць два ўнукі: Міхаська і Алесік, якому трэці годзік, а Міхаська ўжо пойдзе ў другі кляс. Ён харошы, разумны хлопчык.

Дабранач, маі даражэнькія, вельмі-вельмі мне хочацца з Вамі сустрэцца. У нас кончыліся дажджы, і грыбоў ужо менш. Цалую Вас сардэчна — Ларыса Геніюш.

Прывітаньні Вам ад Янaчкі, маяго мужа.

У Сочы апынуўся нехта Муха-Міхалоўскі. Кажа, што быў у Празе. Многіх лае. Выдае сваі ўспаміны. Ці знае яго Клімовіч? Успаміны таго Мухі маецца рэдагаваць Караткевіч… Мне ён не падабаецца…

*Л. Г.*

## 17. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 3 кастрычніка 1967 г.*

Даражэнькія!

Я і муж шчыра вітаем Вас з Днём Вашага слаўнага 75-годзьдзя! Жадаем Вам і рэшту жыцьця пражыць у карыснай працы для нашага народу, так, як сяньня. Болей яшчэ, чымсьці некалі, нам патрэбныя вялікія, шчырыя людзі! Цалуем Вас і па-сяброўску шчыра абдымаем! Даруйце, што са спазьненьнем, але мы жывем адзінока, як ваўкі, і не заўсёды бываем у курсе культурных падзеяў. Вы ж мне аб гэтым не напісалі…

Ці Вы атрымалі маяго ліста аб маім знаёмстве з др. Галубянкай-Бучынскай і інш.? Вельмі рада, што пабачыла Вас хоць на абразку ў «Літаратуры і мастацтве». Зь вялікай цікавасьцю прачытала вашыя цёплыя і сардэчныя ўспаміны аб М. Багдановічу. Які ён быў шляхотны, высокаэтычны чалавек! Жаль, што паехаў ён у Ялту і быў толькі адзін з кніжкаю «з друкарні пана Марціна Кухты»… Ня грэе наша Бацькаўшчына сваіх найлепшых дзяцей. Сірочы лёс і Яе, і наш…

Я пісала Вам пра свой паранены палец. Ён зажывае, і я бялю хату… Хата ў нас вялікая і старая. Змагаюся з парахнёю. Цяжка бяліць негаблёваную столь і бэлькі, ды пры тым вапнаю. Маю крыху практыку. Калі я ўжо даходзіла на цяжкіх зямельных работах (па 14 г. у суткі, без выходных!) ды дамярзала, мяне далі ў брыгаду штукатураў. Нялёгка было тынкаваць столь і сьцены, але гэта было ўжо пад нейкай стрэхаю, а не ў пустой тундры, гдзе нават абагравалкаў ніякіх нам не давалі…

Цяжка мне крыху, але ў нас на такую справу не наймеш нікога… Надта мне хочацца Вас бачыць, але ехаць сама баюся, баюся… Я амаль не выяжджаю з Зэльвы, бо і людзі зьмяніліся. Глядзіш на іх і думаеш, ці яны людзі… Але я да Вас нейк даеду. Чакаю цяпер Валодзю Караткевіча з маці. Зь ім мы нешта і абмяркуем. Вельмі цешуся, што Валодзя ўжо здаў у друк першую кнігу рамана «Каласы пад сярпом тваім».

Ці Вы чыталі ў «Полымі» стацьцю Янкі Скрыгана аб мове? Абавязкова прачытайце! Пані Смоліч заяжджае ў Менск і бывае ў Караткевічаў. Я яе запрашала да нас, але для яе гэта далёка і цяжка. Цяпер яна, здаецца, у дачкі. Маю біяграфію сябры перарабляюць…

Ці Вы здаровыя? Так хочацца мне Вас бачыць. Дай Бог Вам добрага здароўя і многа сілаў. Цалую Вас. Муж мой шле Вам сваі прывітаньні.

*Ларыса Геніюш*

## 18. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 3 кастрычніка 1967 г.*

Даражэнькія!

Як жа Ваша здароўе? Ці Вам лепей? Можа, маі лісты Вас непакояць? Я прачувала, што Вы нездаровыя, і сяньня ўжо Вам паслала ліста. Яшчэ раз вітаем Вас са слаўнай датай Вашага шляхотнага жыцьця! Цешуся, што сябры сабраліся да Вас у гэты дзень, што мянчане ў час Вас павіншавалі! Дай Вам Бог добрага здароўя і яшчэ доўгага і плённага жыцьця! На ўвагу са стараны сяброў і на нашу любоў Вы вельмі заслужылі! Я так рада за Вас! Толькі будзьце здаровымі!

Ужо вечар, муж лёг адпачываць, а я стамілася крыху. Нарэшце прыйшоў да нас сябра майстар! Гэта Павел-баптыст, які паправіў нам печ! Добрыя людзі «ўкралі» для мяне аж 5 кафель! Цэгла ў мяне была, і вось — печ, печ на цэлую зіму! Застаецца дастаць (украсьці?) яшчэ вапны на адзін пакой і «выенчыць» недзе пару банак фарбы на падлогу! Гэта «радасьці» маяго існаваньня, але цёпла будзе нам, і гэта галоўнае!

Павел, які доўга і шчодра «азараў» нас праменьнямі свае веры (па-расейску!), нарэшце пайшоў дамоў. Я, даслоўна, дарвалася да паперы, каб пагутарыць з Вамі. Як жа баюся за Ваша здароўе! Хутчэй бы прыехалі нашы дарагія Караткевічы, і я адразу ўцяку да Вас! Я проста прыеду да Клімовічаў і скажу, каб везьлі мяне да Вас! З Вамі разам наведаем і другіх сяброў апрача Сергіевіча, бо там я ўжо была! З мужам прыехаць мне ня ўдасца, ён выбіраецца ў санаторыю, чуецца вельмі пагана. Холаду не баюся, баюся болей гарачыні (8 ½ гадоў поўначы…).

Што да С. Яновіча, то злашчасны яго артыкул, здаецца, быў напісаны для выклíканьня дыскусіі. Так я магла зразумець зь яго слоў. Будучы ў сына, я ахвотна прыняла Сакратава запрашэньне. Жонка яго — мілая беларуска, але два харошыя хлопчыкі «mówią tylko po polsku»… Не, гэтага не магу зразумець! У маяго беднага, хворага і часта п’янага сына і то хлапчаняты шчабечуць па-беларуску…

Гэта цікава таму, што сына я вывезла з бацькаўшчыны, калі яму было 1 ½ году. У 12 год яго жыцьця ён застаўся адзін у сьвеце. Быў у Польшчы, на вуліцы, у вязьніцы. Хуліганіў, маліўся, галадаў, працаваў, піў, але гутарыць і піша па-беларуску, нават друкуецца… Так што можна не забыцца роднай мовы нават у гееньне…

І мне ня вельмі падабалася беластоцкая наша інтэлігенцыя. Ня ўсіх я бачыла, але сьвятога агню каханьня да свайго народу нігдзе не адчула… Іх мала, прытым вялікі і прываблівы ўплыў палякаў… Пагутарым аб гэтым шырэй, калі прыеду. Сябра Ластаўка і мне ня піша. Ён — чалавек вартасны! Я прывыкла да вялікіх перабояў у яго карэспандэнцыі. Каб нешта паганае, дык сябры напісалі б. Трэба проста яшчэ раз напісаць яму, што я і зраблю.

Што да Вашага ўнука, дык я веру, што да 20 гадоў жыцьця ён зусім нармальна зможа расказаць выбранай дзяўчыне аб сваіх пачуцьцях! Гэта пройдзе. Трэба крыху папрацаваць. Я радзіла б нават лекцыі фанэтыкі. Што да Вашага батанічнага слоўніка, дык спадзяюся, што я яго знайду яшчэ недзе ў нетрах бібліятэкі кс. Адама [Станкевіча]! Я паспрабую «падлізацца» да Шутовічаў, гэта была б вялікая радасьць для Янкі.

Што да пальца, дык на мне ўсё зажывае, «як на сабацы». Рэзаць яго, безумоўна, я не дазволіла. Калі пачаў нарываць, і я баялася, што зьлезе ногаць, я проста ўзяла напільнічак ад манікюру, і покуль мой муж хроп, я сьпілавала ногаць над трэскаю, пракалола яго, і калі выйшаў гной, я проста разрэзала яго тоненькімі нажнічкамі. Муж мужна выхапіў пінцэтам трэску. Я падкурыла палец ганучай, пасмаравала ёдам, і вось ужо нават і не закручваю… Усе дзівяцца, бо выглядала ўсё грозна! Нават муж «ня грыз» мяне на гэты раз за ўпартасьць!

Калі я была на поўначы, то ў мяне там было безьліч і літоўскіх сяброўак. Гэта былі харошыя дзяўчаты. Часамі прападала мая пайка хлеба. Я пасьля знаходзіла яе, а ў ёй кусочак «лашэнюкас»… Аднойчы на наш Вялікдзень яны зрабілі мне сьвята са сваіх пасылак… У ачох стаіць маленькая студэнтка Стасяле, як залезшы з ножкамі на маі нары, падтрасае мне стружкі ў сеньніку, сьцеле… Памятаю толькі Біруту Стумбрысте і Зосю Будрасте, другія прозьвішчы вылецелі ўжо з галавы. Каб хоць адну зь іх убачыць! Падзякаваць за іх «жамайцішка донос»… А колькі памаглі мне сапраўды ўкраінкі, а колькі болі і даносаў прынясьлі мне маі землякі… Іх змушалі, і я разумею, але бачыць іх мне ня хочацца, я не магу… Безумоўна, ня ўсе, былі там і сапраўдныя людзі, якімі некалі мы будзем ганарыцца.

Хочацца мне вельмі, вельмі да Вас, бо ўжо столькі ўсяго сабралася ў сэрцы! Я знаю др. Усевалада Караля з Баранавіч. Ён у нас бывае. Галубяначка была вельмі ціхая, такая лагодная. Яна цалавала мяне і плакала.

Трымайцеся, даражэнькія! Я хутка прыеду! Цалуем Вас разам з мужам. Прывітаньні Вашай сямейцы.

Старайцеся болей ляжаць! Добра, каб Вам зрабілі некалькі ўколаў глюкозы. Не праймацеся асабліва жыцьцём. Моцненька цалую Вас — *Ларыса*.

## 19. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 7 кастрычніка 1967 г.*

Даражэнькія!

Абодва Вашыя лісты я атрымала. Нашыя з Вамі лісты разьмінуліся. Сяньня для мяне цяжкі дзень, і я вельмі злосная. Усё цераз тую сваю біяграфію. Я дагаварылася з Прашковічам, што пашлю яму чарнавік, ён адпаведна яго падрэдагуе, дасьць перапісаць (за мой кошт) і аддасьць гэта ўсё Янку Казеку. Ён гэту біяграфію даваў Караткевічу, той пісаў мне сваі заўвагі аб ёй, меркаваліся, што і як зьмяніць і г. д.

А сяньня піша Прашковіч, што нічога ў ёй ня правіў, акрамя інтэрпункцыі, і канцоўкаў гдзе якіх слоў, і так аддаў — і не Казеку, а Бажку! Справа ў тым, што калі я дайшла да часу маяго зьняволеньня, я напісала такія злосныя фразы, што ніяк нельга іх друкаваць… Пісала сябром, думала яны зьменяць усё па-сваяму, змякчаць, бо для мяне гэта немагчыма… Занёс, бачыце, і аддаў у друк тады, калі ўсе рэдактары клянуць мяне за адзін почырк! Пашто тады было абяцаць?

Сяньня няма сяброў, і я часта не адказваю на лісты людзей, а тут, здаецца, харошы чалавек, і зрабіць мне такое! Безумоўна, папрасіла рукапіс назад і не хачу ніякіх біяграфіяў! Надта не люблю абманвацца ў людзях. Прашковіча не хачу болей бачыць на вочы. Некалі быў у мяне сябра, якога я бачыла мімалётна толькі раз у жыцьці, мы ўвесь час перапісваліся. Называўся ён Вітаўт Тумаш. Гэта быў інтэлігентны, харошы сябра, які лаяў мяне за кожны няўдалы верш, вучыў і крычаў на мяне, але як жа па-сяброўску памагаў мне ў кожнай справе! Гэта ён рэдагаваў «Ад родных ніў».

Наагул, у мяне былі харошыя сябры, верныя, іх слова было ўжо справай. А тут, няма слова, людзі трэплюцца толькі. Слаўны пакуль што адносна мяне адзін Максім Танк. Напісала сяньня Прашковічу апошняга ліста, выказала яму ўсё, што сказаць было трэба! Муж паехаў з раніцы ў Слонім, і вось ужо 11 гадзін вечара, а яшчэ няма ўдома. Слабы, стогне, а калі недзе ехаць, гойсаць па сьвеце, то — гатоў хоць на Марс! Пісаў Прашковіч, што карэктура маяго зборніка будзе 10 кастрычніка, і тады зь ею маюцца прыехаць Караткевіч. Ня ведаю, ці разам мы зможам у Вільню… Бачыце, ён (Валодзя) мусіць здаць у друк другі том раману «Каласы пад сярпом тваім» (пішуць

зь Менску), а ён ня здаў яго! Затрымка за ім! Сябры ня могуць змусіць яго прысесьці за працу. Папівае, між намі кажучы… Першы том здаў пад акампанэмэнт маіх лаянкаў. Цяпер дык ужо і накрычаць не пасьмею! Тут чакаюць яго, просяць у школу, па яго прыедуць і г. д.

Залатая ў яго мама, толькі так яго любіць, што ўсё яму дароўвае і бачыць у ім толькі добрае і вялікае. Сапраўды, гарэлка — гэта нейкая нацыянальная хвароба беларусаў. Вельмі ад яе пакутуе сям'я маяго сына, ды і ён сам. З-за яе я сапсавала адносіны з многімі людзьмі. Усё крычу на іх, даказваю, сваруся…

Заўтра бялю апошні пакой і, калі пасьпею, сені, але на душы ў мяне чорна. Калі будзе прадаўжацца такі настрой, як жа паеду ў Вільню? Добра хоць што Вы паздаровелі. Так хочацца пабачыць Вашыя кветкі. У мяне стаіць букет вяргіняў. Цьвіце алісум, гарошак і адзін гладыёлус. Безумоўна, юргіні, і цыніі, і ляўконія і г. д. Сыплецца лісьце пад ногі, хутка зіма. Мае ружы парасьлі да неба. Што з імі рабіць? Можа, пасьцінаць напалову, а то няма як прыкрыць на зіму. Добрая зямля ў нас, і даволі было вогкасьці ў гэтым годзе.

Вельмі мілая Ваша фатаграфія з Гальяшом Леўчыкам. Муж мой знаў яго і ягоную жонку. Вельмі было жаль, калі згарэлі ў Варшаве ўсе яго кнігі і наагул літаратурныя скарбы. Яго жонку немцы забілі ў Слоніме падчас аблавы, а калі ён памёр, я і ня ведаю. У раённай слонімскай газэце быў раз яго верш «Хто адрокся сваіх». Якое цяжкае жыцьцё нашай інтэлігенцыі… Няўжо гэтак будзе заўжды?

Муж мой працуе як скурна-вен. спэцыяліст. Да яго прыходзяць на агляд настаўнікі. Да аднаго зь іх аказаўся муж па-беларуску, дык той сказаў яму, што ненавідзіць гэтую мову і гэты народ… «А чаму Вы тады тут працуеце, чаму можаце навучыць, ненавідзячы?» — папытаўся муж. «Меня партия послала сюда, я сам не ехал», — такі быў адказ…

Была выстаўка расьлінаў і гародніны са школьных участкаў раёну. Толькі адна школа зрабіла надпісы па-беларуску… Ствараецца ўражаньне, што ўсе-ўсе дырэктары камандзіраваныя, як той, вышэйуспамянуты…

Ужо позна, а мужа маяго ўсё няма, пэўна, заначуе. Толькі заўтра трэба яму на работу, а на ноч — на дзяжурства… Прабачце, што столькі сваіх жаляў Вам напісала, але мне з Вамі так добра гаворыцца… Як цешуся, што сябры не забыліся пра Вас, пісаў мне сяньня аб гэтым і Прашковіч.

Бывайце, даражэнькія! Цалую Вас моцна. Вітайце ад мяне сваю сям'ю.

Ваша *Ларыса Геніюш.*

## 20. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 7 кастрычніка 1967 г.*

Сябра Мікола!

Не разумею Вас зусім! Я заўсягды лічыла Вас сваім другам, ганарылася гэтым і зрабіла б для Вас усё, што ў маіх сілах. А Вам цяжка было нават перарабіць (канцоўку!) ды даць перапісаць тую маю біяграфію! Пашто Вы яе аддалі спадару Бажку? Пашто? Я ж Вам паслала (на адрас Валодзі) ліста сябра Казекі, гдзе ён просіць тую біяграфію. Сьпяшаецца. Вы нават не чыталі тае біяграфіі, а аддалі Валодзі! Пашто тагды пісаць, каб Вам яе выслаць? Што гэта Вам, смешкі?! Што Вы мне нарабілі! Як Вы маглі яе ў такім выглядзе даць! Гэтага нават вораг мне не зрабіў бы! Пашто абяцалі, пашто, пашто?

Што да спадара Татура, то дзякуй Вам, час, калі трэба было да яго зьвярнуцца, даўно прайшоў! Гэта мой апошні да Вас ліст. Вы — несалідны чалавек. Калі нехта бярэ Вашыя лісты і носіць іх месяцамі, і робяцца яны агульнавядомаю сэнсацыяю… Хто Вы, сябра Мікола? Як цяжка губляць веру ў людзей! Я ж пыталася, ці магу Вам паслаць папраўленую біяграфію, я ж не паслала яе Вам сама… Як можна так абяцаць і плюнуць пасьля на справу! Напісалі б, што ня маеце часу ці ахвоты. Ці наагул з гэтым ня хочаце нічога супольнага мець… Я ж Вас лічыла сябрам і другам! Што тут за людзі, што за сябры, на каго тут можна спадзявацца? Бог з Вамі! І Вы аддалі яе з тым «грузінскім пастухом»? О Божа! Ці ў Вас ёсьць грам розуму ў галаве? Ці Вы сапраўды не маглі напісаць нейкую лагаднейшую канцоўку, Вы, які болей арыентуецца ў абставінах і ў духу сяньняшніх дзён? Я ж, як воўк, жыву далёка ад людзей і пішу толькі аб тым, што мне баліць. Вельмі прашу Вас апошняй просьбай адаслаць мне ўсе мае лісты, каб яны не былі чытаньнем для ўсіх! Ліст пра сябра Татура быў заказны, тэрміновы і, што галоўнае, — сяброўскі…

*Ларыса Геніюш.*

## 21. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 23 кастрычніка 1967 г.*

Дарагія і каханыя!

Так доўга няма вестачкі ад Вас, у чым справа? Ці здаровы Славік, як яго грып? Як Ваша здароўе? Як памідоры? Ці атрымалі маяго апошняга ліста? Я Вас прашу даравацъ мне, што не змагу прыехаць да Вас да 1 лістапада, ды і пасьля няхутка, бо муж 10 лістапада паедзе ў санаторыю, хаты ніяк нельга пакінуць. Справа ў тым, што мае госьцікі маюць прыехаць 24 кастрычніка, а ці прыедуць? Прызнацца Вам, я крыху злая ўжо: «Альбо грай, альбо грошы аддай»…

Карэктуры мае «nie ma i nie widać». Біяграфію с. Казека даў перадрукаваць, паправіў, крыху — Прашковіч, крыху — ён. Прыслалі мне рукапіс і тое папраўленае. Вымагаецца ад мяне мажорная канцоўка. Я ж ужо так злая на ўсё гэта, што адраклася таго друкаваньня зусім. Напісала ветлівага ліста і толькі папыталася: каму выслаць грошы за перапісаньне тэксту? Чакаю громаў на сваю голаў, на ўсякі «пажарны» канцоўку прыдумала, калі будзе неабходна — вышлю.

І сяньня няма ліста ад Вас… Што з Вамі? Пісаў с. Ластаўка, ён жыў-здароў! Усё аб Бычкоўскім здаў у Гродзенскі музэй, цераз каго — мне няведама.

14-я гадзіна, муж паабедаў, зараз пойдзе ізноў на працу, а я махану ў лес, хоць правее вецер, а то ня сьпіцца нейк, мала бываю на паветры. Геаргіны яшчэ на кустах, кухні так і не памалявала. Надта сьмех з Прашковіча: божыцца, клянецца ў лісьце, што ўсё «вогненнае» ў рукапісі абсалютна выкрасьліў («Што Вы, Л. А., я так пакінуў?»). А тут рукапіс перад вачыма, і каб хоць адно слова выкрасьленае! Я ня гневаюся, ён мілы і часьнейшы за другіх, гэта, мусіць, мая асоба наганяе такі «ужас», што людзі пачынаюць хлусіць… Гляджу ў люстра — здаецца, рогаў няма. Мяне можна абмануць толькі раз, болей ня ўдасца!

І так, да наступнага ліста! Хутчэй пішэця! Цалую Вас, прывітаньні хатнім! Славік, як твой двухмэтровы куст памідораў? Ці не пагнілі? Бывай, зубраня, недзе добра табе з бабусенькай. А цяпер давай лапку, да сустрэчы, сэр!

*Ларыса Геніюш.*

## 22. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 24 кастрычніка 1967 г.*

Даражэнькія і каханыя!

Быў сяньня ліст ад Вас. Богу дзякаваць, што хоць здаровыя. Было мне сяньня крыху цяжка, і вось напісала Вам аб сваім жыцьці, але лічу, што гэта «бабская», сьлюнцявая слабасьць, толькі таму пішу Вам ліст другі. Той ня нішчу, можа, некалі дам Вам яго…

Гасьцей маіх няма, пэўна, няма карэктуры, бо яны безь яе не паедуць. Валодзя — грамадзкі рэдактар маёй кнігі. Хоць Бажко пісаў, што і М[аксім] Т[анк] — мой рэдактар, знача — два. Волі лёсу аддамо мой прыезд да Вас. Я вельмі хачу бачыць Вас, знача — убачу. Можа, жаль, што адраклася ад той біяграфіі? Прачытаўшы Вашага ліста, думаю, што трэба друкаваць, калі нешта друкуецца. Я. Казека прасіў матэрыял аб арх. Дубейкаўскім, думаю таму, што перайшоў цяпер працаваць у энцыкляпэдыю, дык дзеля яе. Нічога аб Казеку ня ведаю, ня бачыла яго ў жыцьці, а зь лістоў робіць уражаньне саліднага і сумленнага чалавека. Пагледзімо, як ён аднясецца да гэтай маёй справы, ці вытрымае застацца джэнтэльмэнам?

Вось цікава… Я ўжо так прывыкла дзяліцца з Вамі сваім жыцьцём і толькі дзіўлюся, як гэта мы не сустрэліся раней, і дзякую Богу, што хоць цяпер знайшліся…

Што да Клімовіча, то ён харошы, але крыху дзіўны. Да мяне ён ня піша дзеля М[аксіма] Т[анка], ён усё на мяне за яго крычаў, але я жыву сваім розумам. Паспрабуйце яму паясьніць, у чым справа, і ён, напэўна, згодзіцца. Яму здаецца, што толькі ён мае патэнт на ўспаміны аб сябры, альбо, можа, баіцца, каб не зьняважылі, зь сяньняшніх пазыцыяў падыходзячы, памяці харошага чалавека… Былі мы зь ім на магіле Дубейкаўскага і іншых беларусаў. Я завалакла іх нават на гару Гедыміна (чаму зьдзівіўся і сам сябра Адольф), хадзілі па горадзе і езьдзілі ў Павільнюс. А вось да Вас яны мяне і не завялі… Праўда, мне ў іх і зь імі было надзвычай прыемна і добра.

Каля нас — музычная школа, цяпер прыслалі туды маладога настаўніка — Вовку. Гэта валжанін, малады яшчэ, але вельмі разумны і харошы хлапец. Калі іду да калонкі па воду, дык забірае маі вёдры і сам яе прыносіць. Усё хоча мне ў нечым памагчы. Са сваім прафэсарам, які знае мяне, зрабілі мне з сука ласіную галоўку, вельмі хораша. Сяньня ён быў абураны. У зэльвенскай жыхаркі, гдзе ён на кватэры, папрасіў, каб яму запяялі беларускую песьню, безумоўна народную, і маці з дачкою засьпявалі яму: «Чёрный кот»… Хахаталі мы зь ім гадзіну. Людзі дэзарыентаваныя, адурэлі, атупелі…

У нас дзіва: афішы для кіно пачалі пісаць па-беларуску. Сяньня фільм «Недостойная женщина» напісалі — «Нявартая жанчына». Ці няма ў нас іншага слова? Як Вы пераклалі б слова «достойный»? Замучыла я сяньня сваю памяць і іншага слова, чымсьці «вартасны» — «нявартасны», не магу прыдумаць. Як кажуць сяляне? Вось цьвік мне ў голаву сяньня. «Нявартасны» — гэта ня тое.

Добра, што ўсё ў парадку з Вашымі ўспамінамі. Можа, яшчэ што ўдасца надрукаваць? Было б добра! Ах, як жа мне хочацца да Вас, каб Вы ведалі… Крыху жаль Прашковіча, але я заўважыла ў ім, што любіць кідацца словамі, а пасьля выкручваецца ад абяцанага. Праўда, ён многа працуе, але хай тады меней абяцае…

Піша Казека, што я сваі ўспаміны вельмі прэтэнцыёзна назвала: «Сто ранаў у сэрца»… Гэта маладзенькі наш Юрка Голуб прыпёр мне кош баравікоў і пішчыць: «Я сам, я сам прыдумаю назву для Вашых успамінаў, толькі Вы мяне абавязкова паслухайце». Вось ён і прыдумаў… Харошы ён паэт і вельмі здольны, толькі навучыўся піць замнога, але мяне баіцца крыху.

Юргіні маі цьвітуць, а як хораша! Ёсьць у мяне такія чырвоныя ліхтарыкі, як яны называюцца? Я сяньня ашчасьлівіла (не безінтэрасоўна!) маю знаёмую такім букетам…

Заўтра зьбіраемся па зялёначкі. Учора я крыху прынесла і замарынавала 2 літры, бо смажаных муж ня любіць. Вельмі цьвёрдыя, здаровыя, а надгрыбніцы — як баравікі. Была я толькі з краю лесу гадзінку.

Як Вы соліце рыжыкі? Мая мама іх ня мыла, толькі абцірала і так саліла. У мяне яны вельмі плесьняюць, ды вада высыхае. У шкляным слоіку — лепшыя. Яшчэ адна справа: маі ружы вышэй за мяне, а шырокія, што ня ведаю, як я іх і прыкрыю, сёлета крыху паабцінала. Як нізка можна іх абцінаць? Надта ж пакалола рукі. А пабегаў на іх — гушчар! Я адно што люблю кветкі, а так мала ім магу памагчы… У мяне 12 кустоў півоняў (8 гатункаў). Толькі белага і ліловага туліпана ня маю… Вельмі прыгожы ў мяне аранжавы сталетні мох.

Да сустрэчы лістоўна… Не сумуйце, я прыеду да Вас, як толькі змагу, а цяпер цалую Вас — Ваша *Ларыса*.

Славіку ад мяне вітаньне! Муж Вам кланяецца шчыра-шчыра, а абое мы вітаем Вашу сямейку.

## 23. АЛЕСЮ БЕЛАКОЗУ

*Зэльва, 21 сакавіка 1968 г.*

Дарагія!

Даруйце, што не пісала. Хварэю, ляжу, пішу праз туман галаўнога болю, катару, грыпу. Нічога я Вам не перапісала, бо ня маю на гэта часу. Знайшла стары сшытак, гдзе пісала «Гудзевічы», гэта Вам і пасылаю. Вось прыеду да Вас, дык усё там паперапісваю як належыць. Цяпер болей ляжу, як хаджу.

Што новага ў Вас? Нядаўна быў у нас А. Карпюк. Быў вельмі мілы. Меў да нас (да мяне) свае справы. Паехаў, здаецца, не зусім задаволены. Прыяжджаў да нас, каб мы бралі грамадзянства. Я ўзяла б з гонарам, але ж не з судзімасьцю! Рэабілітацыі ж — не даюць! Вось я была злая! Але Аляксей Нікіфаравіч тут ні пры чым. Толькі хто яго паслаў?

Саша, я чула, што Вы пісалі нешта аб зборніку ў мастоўскай «Зары над Нёманам». Як яе дастаць? Калі Вы мне яе прышлеце, то я Вам прышлю зэльвенскую «Працу», гдзе піша І. Багіна: «Паэзія прыгажосьці і чысьціні». Ці чыталі рэцэнзію ў «Зьвязьдзе» за 14 сакавіка 1968 г.? Пісаў яе А. Мальдзіс. Прашковіч напісаў аж на 30 старонак машынапісу. Не прынялі ў «Полымі» — завялікая праца як на рэцэнзію. Прыслаў яе мне. Некалі ўсё гэта пойдзе ў Ваш Гудзевіцкі архіў.

Як жывецца, дружа? Мне ня вельмі. Яшчэ нават ганарару не атрымала. Здаецца, што ў красавіку будзе нешта ў «Полымі». Украінцы прыслалі «Ленінську молодь» са Львова. Вельмі хораша пераклалі: «Маці мая сялянская, маці мая славянская…». Ёсьць там і Дануся, і Валя Коўтун, і стацьця аб усіх нас.

Юра кінуў гарэлку! О, Сашанька, хай хоць не назаўсёды… Летам чакаем іх да нас.

Як дзеткі, як Міхасічак? Надта хочацца усіх іх убачыць. Прыеду вясной на дзедаву магілку. Мне некалі М[аксім] Т[анк] пісаў, што гутарыў недзе ў Вашай справе. Вось ён паехаў у Маскву, а тыя і напалі на Вас! Але нічога, ён вернецца!

Учора быў мужаў начальнік з Гродна — Капітонаў. Выеў старому Івану Пятровічу душу! І гдзе такія водзяцца?

Калі б мелі хвіліначку часу, дык прыедзьце! Мы Вас чакалі на 8 Сакавіка. Гасьцей у нас амаль не было.

Вільня непакоіцца Вашым маўчаньнем.

Цалуем Вас усіх. Пішэце.

Вашы *Геніюшы*.

## 24. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 22 сакавіка 1968 г.*

Дарагі сябра Мікола!

Учора атрымала Вашага ліста. Добра, што папыталіся аб грашах, толькі жаль, што не папыталіся суму. Яны, здаецца, зрабілі ўжо поўны разьлік. Я іх разумею, яны плацяць тым, хто блізка жыве ды ім надакучае, а я вось ежджу сабе ды маўчу. Што да сябра Адама, то я на яго рэцэнзію не магу гневацца. Я проста падзіўляю яго вялікія здольнасьці, дыплямацыю закругленьня тэмы! Рэцэнзія цудоўная! Знаеце, паэтычныя, эмацыянальныя натуры, я ж увесь гэты час не хацела друкавацца дзеля загубленай сям'і. Гэта здавалася мне несумленным, неэтычным. Пасьля я пачала думаць, прыглядацца, і вось гэты верш быў вынікам маіх назіраньняў, супастаўленьнем душы людзкой з прыродай, бо ж і мы — яе частка. Я пастанавіла пісаць, працаваць, і вось урываюцца словы Адама (якраз на гэты верш!): «дароўваць нельга»! І чамусьці яны закранулі маё, асабіста маё сумленьне. Увесь боль лавінаю на мяне нахлынуў, усталі ўсе трупы нашай сям'і! Я з гэтага захварэла. Крыху хаджу, але ўсё болей ляжу. Вось трэба было мне стрымацца, але я такая экспансіўная і таму напісала Адаму аб гэтым. Гэта прайшло амаль… Час жа зьмяніўся! Людзі ўжо становяцца лепшымі, а трэба, каб яны былі яшчэ шляхотнейшымі, каб думалі, умелі цаніць людзей і вартасьці жыцьця. Нешта абарвалася, нешта «трэснула» ў сэрцы. Але думаю, што гэта пройдзе.

Што да Прусевіча, дык, відавочна, яму зноў намылю галаву. У Гродзенскай вобласьці поўна каросты! Поўна і ў нас! Лячыць яе цяжка без мэдыкамэнтаў! Іх не выпісваюць, бо кажуць, што абласны дэрматоляг баіцца адкрыць сапраўдную сутнасьць справы тут. Вось гэты абласны дэрматоляг, нейкі Канцэвіч, — чалавек неімаверна грубы і агранічаны, ненавідзіць Івана Пятровіча. Усё яго «шпіляе», што ён хацеў быць «прэзыдэнтам», а гдзе і чаго, і калі — дык сам ня ведае! Ён яго гэтым ужо задзёўб. Я, безумоўна, паслала б яго к чорту, бо гэта ня мае дачыненьня ні да «грыбкоў», ні да «ганакокаў» ці каросты. Прытым гэта наглае махлярства. Вось нам сказалі, што падобнымі навасьцямі пампуе яго Прусевіч! Зусім магчыма, Прусевіч гэты ўмее туды-сюды хвастом круціць. А той «дзеяцель» і начуе ў Прусевічаў, і разам яны хлешчуць гарэлку.

Учора Іван Пятровіч амаль не прапаў дзеля іх. Тут трэба зрабіць гасьпіталізацыю хворых, ізаляваць іх ад хатніх, а гдзе іх класьці? Усё пачалося з абшчажыцьцяў і інтэрнатаў. Вось наша трагедыя. Кожны лічыць сябе ў праве некага «есьці», даядаць нават старога чалавека, а каб гэтую энэргію скіраваць супраць каросты, то ў іх няма на гэта розуму! Што яны ведаюць пра нас? А «ядуць» поедам, і каму ня лень. Гэта трагедыя той першай генэрацыі зь сяла, якая дарвалася да карыта і не разумее, што справа агульная, грамадзкая, творчая, для народу — куды важней. Няма ў іх сьвятога гарэньня ні для камуністычнай, ні для народнай ці матчынай, ці культурнай працы, а вось некага «есьці» — майстры. Які гнус! Кожнаму хочацца хоць уявіць сябе панам… Астаткі праклятай паншчыны і няволі… А калі такая справа — то што ўбіў (прыказам), то і ўехаў! Гнілыя гэта стаўпы, а на іх апіраюцца. Калі ўжо чалавек зьдзекуецца над слабейшым — гэта марадзёр, не баец.

Даруйце, што зноў Вашу харошую душу трывожу сваім болем. Але ня вытрываць, бацька пару дзён ужо ледзь жывы ад усіх гэтых прыемнасьцяў. Не ўспамінайце аб гэтым у лісьце, бо будзе злавацца, што напісала. Па-моему, патрэба нам сільнага, роўнага для ўсіх права, каб яно было для людзей найбольшым начальнікам, і каб яго шанавалі. Недысцыплініраванасьць тут разглядаецца як нейкае ліхарства і звычайна ўспрымаецца як натуральнае, можа, таму, што законы чужыя, ня нашыя, няма адказнасьці за свой народ!

Што да кніжкі на 70-ты год, то каб гэта была праўда! Трэба тады брацца за працу. Падабаецца мне наш першы сакратар, толькі баюся, каб і ў ім не памыліцца. Але, здаецца, сплетняў ня слухае і глядзіць у корань рэчы. Да яго, аднак, не зьвяртаюся, бо што яшчэ тут са сваімі справамі дурыць ім галаву. М[аксім] Т[анк] у Маскве, я ведаю. Вернецца недзе ў канцы месяца. Цяжка перажыў сьмерць бацькі і вельмі хараша напісаў мне гэта. Я паслала ім спагаданьні. І яму ня хочацца дурыць галавы са сваімі асабістымі справамі.

Міколачка, яшчэ адна просьба: здаецца, у красавіцкім «Полымі» будуць мае вершы. Вось каб Вы непрыкметна даведаліся, ці гэта праўда і якія вершы? Гэта з тых, якія забраў Вялюгін, але ён забраў іх многа. Безь мяне манаграфію пісаць аба мне Вам нельга! Таму Вы мусіце пасяліцца на нейкі час у нас! Вось будзеце насіць ваду! Што да Валодзі, то пакіньце яго самому сабе! Калі будзеце зь ім цацкацца, ён будзе рабіць Вам на злосьць, каб даказаць сваю самастойнасьць! Калі ж застанецца сам з сабою — адумаецца! Я веру ў яго розум! Патураць жа яму ў яго капрызах і п’янцы — гэта ня чэсна! Гэтым яму не паможаш. Надзежду Васільеўну нельга было адну пускаць у такую дарогу!

Што да сястры, то вельмі добра! Трэба сьцягваць сваіх дамоў, памагаць ім жыцьцё нейк уладкаваць. Оксана Лучук прыслала нам газэту «Ленінська молодь» зь Львова. Там маленькая стацья Лучука аб беларускіх жанчынах. Традыцыя: Цётка, Геніюш — Бічэль… І тры вершы: Данусін «Зубр», Валі Коўтун — маленькі, і мой — «Маці мая сялянская», вельмі добра перакладзены І. Гнацюком. Не пісалі ні слова, бо і пашто?

Падабаецца мне наш талковы Сяргей П[анізьнік], ці атрымаў ён маю кніжку? Гэтую, што я яму пакідала, я аддала на сяло. Сьмешна, мае вершы з прыемнасьцю слухаюць старыя бабусі! Пазнаюць сябе! Аб іх жа ніхто яшчэ не пісаў любоўна, усё больш-менш абыякава… Учора хараша напісаў у «Працы» рэцэнзію на мой зборнік Багіна. Ён быў у нас на 8 Сакавіка, мы былі яму вельмі радыя. Юра кінуў піць гарэлку, у яго, здаецца, справы нядрэнна ідуць, але баюся, што нявестка папсуе ўсё сваімі капрызамі альбо дэрэктывамі… У Юркі, адчуваецца, няма радасьці з маёй кніжкі, але ёсьць стымул дагнаць старую маму! Вось ён усіленна ўзяўся за працу, баюся, каб не занядбаў сваіх хворых.

Вось узялася за гутарку з Вамі! Гэта таму, што нельга мне выходзіць з хаты, трэба ляжаць! Я зноў аб Валодзі. Трэба, каб да яго ў паважных справах, вельмі паважных, зьвяртаўся Адам і вельмі паважна патрабаваў, менавіта патрабаваў, спаўненьня сваіх сяброўскіх просьбаў! Ён вельмі яго паважае і павінен лічыцца. З Вамі ён лічыцца мала, бо ведае, што Вы яму ўсё і так даруеце ад захапленьня яго «геніем». А раман украінцам трэба паслаць абавязкова. Што рабілі яны зь Лісам у Вільні? Я чула, што ёсьць на Арсена матрыманіяльныя надзеі ў Война-Войцікавых… Няхай не сьпяшаецца. Няхай лепш возьме сялянскую харошую дзяўчыну і выхоўвае яе паводле сваяго густу.

Два выхадных — гэта шчасьце для Івана Пятровіча. Ён цяпер ачуняў! У нас яшчэ вельмі халадно, асабліва мне, хворай. Адаму я напісала даўгога другога ліста і спадзяюся, што ён мяне зразумеў. Я нават мінутачкі на яго ня гневаюся, бо за што ж! Я і сама супроць усіх фашызмаў. Ён у гэтым выпадку праў. І я права, калі падумаць аб усім перажытым… Гэта часам прабіваецца праз усе лёгікі, крычыць… Рэцэнзія яго — сапраўды высокай вартасьці. Гэта цэлая, закругленая, закончаная рэч. А за словы «страсны, бескампрамісны патрыятызм» я ня маю для яго слоў падзякі…

Міколачка, бывайце, пішэце нам. Думайце аб Валодзі, наглядайце за ім! Вось і ўсё, даражэнькі. Пацалуйце ад мяне ўсіх Мальдзісаў і шчыра падзякуйце Адаму за дружбу…

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 25. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 26 сакавіка 1968 г.*

Міколачка, даражэнькі клапатлівы мой сябра!

Мяне ж не ўключылі ў 69-ты год! Уключылі толькі дзіцячую кніжку! Там, казаў А. Бажко, малавата вершаў! Вы яшчэ запытайцеся, але гэта так! Там усялякія перамены: адно гаворыцца, другое робіцца! Вершаў у мяне крыху ёсьць, часьць забраў А. Вялюгін, і часьць тут. Ёсьць яшчэ і старыя, якія прывезла з Польшчы. І М[аксім] Т[анк] мне нічога пра дарослы зборнік не ўспамінаў, толькі пра дзіцячы. Магчыма, дарослы будзе на 70-ты год (мне споўніцца 60!). А пра рэдактара, пэўна, будзе клапаціцца М[аксім] Т[анк], як ён і сказаў.

Што да Валодзі, то я на яго ня гневаюся, паважаю ягоную творчасьць, але ні за якія скарбы сьвету не хачу харошаму чалавеку накідаць «катаржную працу», не расплаціўшыся яшчэ за папярэднюю… І Вы на маім месцы не змаглі б так зрабіць! Вы — шляхотны і горды таксама! Я рада, што мы з Вамі пагадзіліся, што ёсьць на сьвеце Панізьнік, Семашкевіч, Сакрат і др. Мне добра.

Сяньня выклікалі мяне ў райком партыі. Выклікаў першы сакратар, перад якім ляжала мая кніжка. Пры гутарцы быў Багіна — як рэдактар і адзін супрацоўнік райкома. Гутарка была цікавая. Наш сакратар разгарнуў перада мною пляны пад'ёму калгасаў, разбудовы пасёлка і г. д. Павіншаваў са зборнікам. Вы ўсе мяне пацяшаеце, што зборнік мой мае посьпех. О, харошы сябра, Вы стараецеся зрабіць мне радасьць, і я Вам дзякую.

М[аксім] Т[анк] паехаў яшчэ на адзін месяц у Маскву. Пацешыў мяне, што ў дзіцячым зборніку будзе яшчэ большы тыраж і самыя ўдзячныя чытачы. Ці атрымалі 3 руб.? С. Панізьнік прыслаў дзьве мае кніжкі, каб адну зь іх яму падпісаць. Я мела яму кніжку, толькі хацела пасланць не праз пошту. Я ня знаю, ці выйдзе яшчэ некалі мая «дарослая» кніжка. Здаецца, будзе падборка ў «Полымі» зь вершаў, якія ўзяў з сабою А. Вялюгін. Думаю, што Вы можаце зьвярнуцца да яго ў «Полымя» ў справе сваяго артыкула. Артыкул Ваш вельмі мяне цікавіць, вельмі.

Сьцяпану Міську пажадайце трывалага шчасьця! Ім бы цяпер яшчэ кватэру! Вельмі разумна зрабіў, што ажаніўся. Бярэце зь яго прыклад. Ваша вясельле справім па-сялянску ў Зэльве. Маладзец хлопец, што і сяброў паклікаў, гэта па-беларуску. Прыходзяць лісты, людзі горача дзякуюць за кніжку. Я ў такія хвіліны шчасьлівая! Бывайце, сябра Мікола! Дзякую Вам за весткі.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

Крыху я нездаровая, часта баліць галава. У Олі Іпатавай — сынок! Цікава, ці возьмуць у друк Ваш артыкул? Перажываю. Бывайце. Пішэце мне! *Л. Г.*

## 26. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 4 лютага 1969 г.*

Дарагі сябра Мікола!

Пішу, ня ведаю каму… Сяньня наагул, ведаеце, сустрэнеш чалавека і глядзіш на яго: чалавек ён ці ўжо не чалавек? Даруйце мне такія словы, але ў жыцьці залежыць многа і ад «цаны». У нас па-ранейшаму. Вам у адказ на Вашага ліста я ўжо паслала 3 лісты! Спадзяюся, што Вы іх атрымалі і ў курсе ўсіх маіх спраў. Думаем выпрацаваць пенсію і тады ехаць да сына. А наконт друкаваньня і ўсіх «прыемнасьцяў», з гэтым зьвязаных, дык я ўхіляюся. Мне апошні час пагана з сэрцам, замнога «прыемных» эмоцыяў грамадзкага характару. Такія заўсёды дзеюць на мяне горай як аса-

бістыя. Хачу яшчэ тры гады жыць! Трэба мне гэта! Вось і ўхіляюся да хатняга спакою, каб паразмышляць.

У Гродне — як заўсёды, ня ўсё ў іх ясна. Вам пакуль што вераць (зыходзячы з тых меркаваньняў, што людзей даюць у «мясарубку» і многім ламаюць хрыбет). У Ваш «касьцяк» яшчэ верым! Яшчэ раз прашу ня гневацца. Вось калі сустрэнеце таго Казіка, якога ў нас пазналі, дык адразу давайце яму ад варот паварот! Ён ужо быў у нас з зусім канкрэтнымі пытаньнямі, ну і я па-своему яму адказала! Болей ня маем вялікіх ахвотаў зь ім сустракацца. Жыць трэба, працаваць трэба побач ды маўчаць патрэба.

Чакаю візыту Данусі і Васіля, але гэта будзе, калі яна вернецца з Масквы. Трэба нейк абмеркаваць, каб Вы з Ірай К[рэнь] і яны зьехаліся да нас у адну пору дзеля гутаркі. Дануся думае, што нас усіх пасадзяць, і толькі пыталася ў мяне, ці Сіняўскі з Даніэлем сядзяць разам? Эрык — як ноч, ні прывету ні добрага слова, строга тактоўна і афіцыйны. Вырвалася ў Данусі, што яны часта спрачаюцца на «палітычныя тэмы»… Адразу прыбегла О. І. Пачала пра тое, што нейкі Сінілін (ці як яго там) гаварыў ёй аб тым, што савецкая ўлада ўсё дала, зрабіла, пабудавала — і тут супраць яе! Я ёй пастаралася давесьці, што мы нічуць ня супраць улады, і каб пытаньне мовы з гэтым ня зьвязвала, ды што на будоўлях я сапраўды бачыла не начальства, а нашых беларускіх рабочых, якіх рукамі ўсё і зроблена… Бог зь ёю!

Ульяновіч (3-ці сакратар абкома) усім цьвердзіць, што зборнік Геніюш «народ отверг!» Нешта на граніцы фантазіі і шызафрыніі ў яго! Такі ж ён у адносінах і да Васіля… Чула, што Сашу Б[елакоза] выклікалі ў Масты ў ваекамат. Там яго «спавядалі» каля трох гадзін. Пра што гутарылі — добра ня знаю. Відно, пускалі цераз «мясарубку». Думаю, хрыбет у яго пакуль што ўцалеў!

Акалачваюцца тут Юрка зь Семашкевічам. Да нас не заходзяць. Юрка раз заглянуў зь недаверам, але вельмі хутка выскачыў назад… Пасьля той кніжкі Семашкевічу няёмка і паказвацца на вочы. Пісала П. Мядзёлка, што хварэе. Як хлапчаняты? Данута ўсьцешылася! Яна цьвердзіць, што ўжо час на гэта, каб аб нас загаварылі! Што ж, пацярпець прыйдзецца.

У Гродне чула, што адзін са студэнтаў зьвярнуўся да прысланага таго «Мураўёва» па-беларуску, а ён накрычаў на яго і забараніў болей гутарыць «на этом болгарском наречии». Так гавораць, а ці праўда? Хоць гэта зусім у іхнім духу. Добра, што адведалі Іру К[рэнь], так і далей яе не забывайце. Ніна Л[ойка] ужо два разы пасьля Вашага ад’езду была ў Менску, зьбіраецца зноў. Яны з Жэняй Янішчыц адведалі Сяргея П[анізьніка] (!), гдзе Ніне ўдалося дабрацца да дзёньніка хлопцавага… Няхай Сяргей ведае аб гэтым і маўчыць! Прашу аб гэтым вельмі! Другі раз такія рэчы трэба прыхоўваць. Я, напрыклад, на старасьць гадоў не разумею, як гэта чытаць чужое? Юрка нічога аб Алесю і Віктару «ня ведаў»…

Што да грамадзянства, дык пашто яно мне? Ня трэба абразіць Максіма Танка, але ня трэба і таго грамадзянства, бо тады зьядуць з патрахамі. Жаль будзе, калі нас вынішчаць па аднаму, як у 37-м годзе, і мы ніякай карысьці не прынясём Радзіме. Будзьце асьцярожныя, бо Вы што «балтанеце», а ліхі чалавек яшчэ палову прыдумае, і зноў Вам ня бачыць таго павышэньня! Беларусамі нам быць ніхто не забароніць, але, відаць, гэта вельмі непажадана для іх. І чаго іх прундзіць? Здаецца, ужо ўсё адабралі, засталіся рэшткі мовы, адбяруць яе, дык тады, напэўна, пачнуць адбіраць людзям жыцьцё? Усё магчыма. Гэта проста нейкае ненасытнае людаедзтва. Людзі хворыя нэрвова, на жалудкі, на ракі і іншую нечысьць — усё з прычыны вось падобнага людаедзтва! Ніхто ня ведае, за што да яго ўчэпяцца.

Былі студэнты з Гродна. У Мэдінстытуце на Новы год усе біліся! Адзін студэнт паласнуў другога па шыі скальпэлем. Нейкі баксёр павыбіваў другім зубы, двох адвязьлі ў больніцу з патрасеньнем мазгоў! Наканец, адзін зь іх павесіўся! Гэта Харкевіч, хлапец

з Брэстчыны, пакінуў маці і дзьве сястры. Гэта ўсё — «нармальна», а вось калі хлапцы думаюць і загавораць па-беларуску, дык іх адразу на «мураўёўскія» мэтады! Ну і ну! Ну і лёгіка, ну і будучыня людзей! Адным словам — лёгікі тут ніякай, і па-добраму іх не пераканаеш, бо відно, што робіцца ўсё навыварат назнарок! Паганая гэта прыкмета, можна чакаць непрыемных падзеяў наагул.

Бывайце. Вітайце сяброў, цалуйце Валянціну.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 27. АЛЕСЮ БЕЛАКОЗУ

*Зэльва, 8 лютага 1969 г.*

Паважаны Саша!

Прабачце ласкава, што яшчэ раз да Вас зьвяртаюся. Справа ў тым, што на днях я атрымала ліста і вершы з Курылавіч, ад нейкай вучаніцы Людмілы. Згубіўся канвэрт, і ня ведаю, каму маю заадрасаваць ліста. Не адказаць жа моладзі на вершы — няёмка. Пасылаю Вам гэтыя вершы і маяго ліста ў Курылавічы. Вершы пакіньце сабе, ліста ласкава перашлеце Вы ці нехта з вучняў. Прызнаюся, што і ліст, і вершы мяне крыху зьдзівілі.

Чула, што Вы жывяце шчасьліва, як сыр у масьле, надта Вам весела бывае… На днях была ў Гродне. Усе нашыя знаёмыя хварэюць на грып. Карпюка ня бачыла, затрымалася ў Данусі. Чула, што хворы і Мікола П[рашковіч]. Фатаграфію з П[аўлінай] М[ядзёлкай] дам Вам пры сустрэчы, яна не зьмяшчаецца ў нармальны канвэрт.

Прыяжджаў і выступаў у нас у школе Панізьнік (былі з Міколам П.). Мікола быў з намі. Мяне не запрасілі, дырэктар гэта матываваў тым, што мае ўсе вершы пра прыроду і пра каханьне (?!), і няма нічога для выхаваньня моладзі. Гэты дырэктар нейк восеньню выступіў з прапановаю, каб школы на вёсках у нашым раёне перавесьці на расейскую мову. Яму гэта не ўдалося. Прозьвішча яго Сончык, а сам ён паходзіць зь сяла з-пад Слоніма.

У нас перад 50-годзьдзем БССР былі час ад часу хоць кінаафішы па-беларуску, цяпер няма і гэтага. У Гродне дык страх людзям па-беларуску аказацца. Нешта Дануся купляла ў кіёску, дык мела непрыемнасьць за родную мову.

У Менску нецікава. Пісаў Мікола, што Яраца і Разанава хочуць выключыць з унівэрсытэту. Яны — лепшыя студэнты, але загадана ставіць ім «двойкі». А. Лойка не паслухаўся загаду і паставіў ім ацэнкі, на якія заслугоўвалі. Чула, што мае за гэта непрыемнасьці. Усяго не напішаш…

Муж хварэў і яшчэ ўсё ня можа прыйсьці да сябе, аслабеў. Юра кліча нас да сябе назаўсёды. Думаем аб гэтым.

Як у Вас, ці здаровыя дзеці? Напішэце абавязкова, ці атрымалі маяго ліста. І зрабеце, калі ласка, з маім лістом у Курылавіцкую школу, што будзеце лічыць патрэбным.

Бачыла Пётру М[арціноўскага].

З прывітаньнем да Вас усіх — *Ларыса Геніюш*.

## 28. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 9 лютага 1969 г.*

Міколачка!

Дык Вы хворы? Справа такая: уставаць адразу нельга! Трэба гэты грып вылежаць і вылежаць добра! У Гродне лечацца ад яго гарэлкаю зь перцам, абавязкова зь перцам. Насыпце ў чарачку молатага перцу і заліце гарэлкай, пасьля хлебаніце і ляжце ў пасьцель. Кажуць, гэты, ня вельмі прыкры для Вас, сродак лячэньня абсалютна памагае!

Такая курацыя, аднак, дазваляецца толькі пры грыпе! Гэты грып цяжкі, таму што доўга цягнецца, нядзелямі.

Муж крыху паправіўся, лепей есьць, весялей ходзіць на працу, а то я ўжо баялася за яго. У Вас вельмі высокая была тэмпэратура! Імунітэт у Вас, гляджу, толькі ад каханьня. Ніяк Вас нельга ажаніць! А як добра, калі пры хваробе нехта апякуецца, памагае. Сябра Арсен — зусім ня тое. Чым ён Вас хоць карміў і паіў у час хваробы? Ці клікалі лекара? Як чуецеся цяпер? Наагул, што ў Вас новага? Як хлапчаняты? Я гэта ўсё адхварэла таксама.

Ці пані Алеся Смоліч у Менску? Вельмі непакоіцца аб ёй, што ня піша, Л. А. Войцік. Калі б бачылі Алесю Ігнатаўну, дык няхай хутчэй ёй напіша. Янка недзе вычытаў, што ў Вільні выйшла па-расейску кніжка аб Кітабах. Не дае спакою! Ці ёсьць яна там у Вас у продажы? Міколачка, родненькі, купеце яе для спакою ў хаце.

Вось у мяне цяпер ворагаў! Нічога — Бог ня выдасьць, сьвіньня ня зьесьць! Пасылаю Вам выразку з газэты «Гродненская правда» аб Цыгельніцкай, цешчы Карпюка. Дзіўлюся, за што ядзяць Карпюка, калі ў яго такая цешча? Відно, «ядзяць» ужо самі сябе… А жыдкі зусім няблага спраўляюцца ў «ЛіМе» на сваю карысьць! Баюся, як бы нам замест Я. Купалы не прыпадносілі Шолама-Алейхема, ці як там ён называецца… Ну што ж, і гэта пажытак, іхняя пара…

Ніна ўжо вярнулася зь Менску, Сяргей ёй памог. Дзеўка з каханьня пачала курыць, як комін. Казала: «Я за Прашковіча век не пайшла б» і г. д., а бедная Людка крыху нахіліла сваю птушыную галоўку і кажа: «А я пайшла б». «За старога?» «Угу». Так мне шкада зрабілася мілай Людкі, што той Прашковіч нават не пазірае на яе.

Адным словам, я цяпер зачыніла добра дзьверы, амаль нікому іх не адчыняю і вышываю. Сапраўды, толькі вышываю, але яшчэ думаю. Пішэце хутчэй аб сваім здароўі! Як чуецца сябра Арсен? Напэўна, і ён захварэў! Глядзеце яго. Глядзеце сябе добра абодва, бо гэты грып пакідае сьляды на здароўі! Бывайце! Пішэце нам, папраўляйцеся.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

Ці ўсе мае лісты атрымалі? Ужо болей ня буду пісаць такім болем. У нас — віхры, лёд — як шкло, ідзеш і коўзаешся і падаеш (я — не!). Надта хочацца зноў пабачыць Вас асабіста. Муж Вас шчыра абдымае, як сына.

## 29. АЛЕСЮ БЕЛАКОЗУ

*Зэльва, 24 лютага 1969 г.*

Дарагі Саша!

Толькі што атрымала Вашага ліста. Поўнасьцю разумею Ваш сум і боль. Як заўсёды, асабліва прыкра, што начальства над беларусамі ня ведае беларускіх мясцовых паэтаў і іх дзейнасьці, ня кажучы ўжо пра беларускую культуру ў цэлым. Што ж, зьява для нас звычайная…

Ад сэрца раджу Вам зьвярнуцца як найхутчэй у нашае ЦК. Я прывыкла бачыць там сапраўды інтэлігентных людзей, якія думаюць, разьбіраюцца ў культуры і правох народу. Ім усё дакладна і напішэце. Яны ніколі ня будуць нішчыць Вас за Вашу любоў да мовы народу, зь якога Вы зроджаны! Я ўпэўненая ў гэтым, Саша. Усё, што тут робіцца паганае, — гэта справа мясцовых, ня нашых уладаў. У нас у Зэльве яшчэ даволі разумныя хлопцы, а вось аб іншых гэтага не скажу. Каб Вы займаліся п’янствам, распустай і т. п., яны Вам ахвотна даравалі б, а так як Вы займаецеся справай беларускай культуры, то гэта для іх «дывэрсія»!

Адраджэньнем сваёй культуры можна займацца ўсім народам, але ня нам — народу, які меў паўмільёну партызанаў, у якога кожны чацьвёрты чалавек загінуў падчас

вынішчальнай вайны! Вось таму і трэба зьвярнуцца ў ЦК — што яны адкажуць? Калі сапраўды нам нельга карыстацца роднай моваю — дык падумаем, але хай хоць дадуць магчымасьць Вам спакойна працаваць і жыць, бо іначай замучаць Вас тыя загуменныя «дзеяцелі». Вы зьяўляецеся савецкім чалавекам, і, наколькі я ведаю, уся Ваша праца цесна зьвязаная з духам і праграмай сяньняшніх дзён, дык такога цынічнага беспадстаўнага зьдзеку над сабой у нашы тэхнічныя, ленінскія, касьмічныя, перадавыя і г. д. дні цярпець нельга! Баяцца няма чаго. Няхай баіцца і дрыжыць той, у каго сумленьне ў гразі і нашых крыўдах, хто прыпыняе ўсё чалавечае, передавое ў школе і жыцьці! Няма двух паняцьцяў дабра і зла!

У нас нічога асаблівага. Я проста перастала думаць аб усякай брыдзе, якую ганю з хаты. Разьвялося было тут усякіх дарадцаў і спачувальнікаў, хвіліны спакойнай ня мела. Пакуль яшчэ тут адна г*а*дзіна лазіць, але і яна — да пары. Гэты смурод пазнаю адразу, як тых шашкоў!

Глядзеце сябе, ня зьвязвайцеся з усялякай брыдою, якая толькі апаганіць Вас ці справакуе. Будзьце сабою — такім, як і былі, харошым, чэсным чалавекам і беларусам! Я прайшла не праз такія мучэньні, і гдзе б ні была — паўсюль спаткаю сяброў. Гэта важна! Быць сапраўднымі людзьмі нам ніхто не забароніць, і лепш згінуць, чымсьці стаць недастойным вялікіх мучэньняў нашага народу! Забудзьцеся на час аб любімай працы, паглядзеце, што яны будуць чаўпсьці, як нішчыць, глуміць да пустэчы…

Пакіньце сабе копію заявы ў ЦК, бо яна можа не дайсьці — давядзецца пасылаць другі раз. На людзей ня гневайцеся, яны толькі людзі, герояў амаль не бывае… Можа, тое і выратавала наш народ, што ён хаваецца ў сябе, ухіляецца ад шалёных людзей, зь якімі нельга гаварыць, бо Бог зацьміў ім розум. Інчай ужо даўно мы не існавалі б фізычна.

Нядаўна адзін такі мне даказваў, што я адна бараню нашую мову і г. д. Я слухала, пільна вывучаючы яшчэ адзін мэтад халуйства, на гэты раз вельмі ўжо наглага. Спакой у нас цяпер — бязь нечысьці ў хаце! Нават смаркатых мужавых сваякоў прыйшлося гнаць, як сабакаў, за нагласьць…

Рабеце так, Саша, і Вы, а там прыйдзе адказ з ЦК. Чаго ім ад мяне трэба? Жыцьця проста не давалі, а я — усё далікатна, кармлю і паю на ўбогую мужаву ставачку, сабе на крыўду!

Добра было б, каб Вы да нас пад’ехалі, бо хочам выяжджаць да сына, ня ведаем, як і што рабіць з хатаю. Муж перанёс вельмі цяжкую грыпу і наагул ледзь ходзіць на працу. Дзеці цяпер жывуць згодна, унукі здаровыя. Так што, даражэнькі, не праймайцеся. Людзі думаюць і ўсё бачаць, горай ня будзе.

Добра, што Вашыя малыя здаровыя, у гэтым і нашае шчасьце. Зінаідзе Львоўне перадайце ад мяне самыя шчырыя спагаданьні з нагоды сьмерці маці. Шлем з мужам усім Вам прывітаньні, усіх цалуем, жадаем добрага здароўя і спакою ў Вашай добрай, гасьціннай і нам спрыяючай хаце. Заглянеце да нас хоць на пару гадзін.

З павагаю да Вас — *Янка* і *Ларыса Генiюшы*.

## 30. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 13 траўня 1969 г.*

Дарагі сябра Мікола!

Дзякую за ліста! У нас усё па-ранейшаму. Сяньня пахаладала, і я баюся, каб не было прымаразкаў — шкада расьлінаў. Са здароўем мужа крыху лепш, павесялеў, не такі падражнены і злосны, і таму жыць стала лягчэй. Горай, што баляць ногі. Вось дажджліва, і яны важаць па пуду кожная і прытым баляць. Я памятаю, некалі, калі ў мяне былі куры і парасяты, хацела, каб у мяне забалелі ногі і каб мяне палажылі хоць на месяц

у больніцу, гдзе я магла б пісаць і пісаць. Вось цяпер баляць тыя, лёгкія некалі і быстрыя ногі, і ня пішацца ніяк…

Чакаем Вас абавязкова зь Ірай у любы дзень, у любы час. Хачу бачыць Вас у маі: і Іру, і Вас — бадзёрымі, здаровымі. Дануся не прыяжджае, ня піша. Бог зь ёю… Паўліне Вікенцьеўне я нічога не пісала. Паступаю па-хамску. Жанчына яна харошая, але ня любіць яе Іван Пятровіч, і калі б яна сюды прыехала, ён захварэе! Зноў будзе падражнены, нэрвовы, ня будзе есьці, спаць. Таму лепш не пішу. Старасьць бывае капрызная. Вас ён ня можа дачакацца, а П. В. сваімі поглядамі і выказваньнямі нагнала на яго страх і настарожанасьць. Я цяпер, галоўным чынам, гляджу яго здароўя і спакою. Няхай яму будзе дома, як ён хоча!

Зацьвілі ўжо тулiпаны (пачалі цьвісьці), нарцызы. Бацька паглядае на іх, цешыцца, маладзее. Жаль мне Паўліну В., але кожны бачыць сябе, а хворага, старога, ледзь тэпаючага на працу Івана Пятровіча, яго капрызаў і сапраўдных патрэб рады не заўважаць. Вы свой у нас, як родны і спрыяючы, і гэта — другая справа. Такая ж і Іра. Надта, надта хачу яе бачыць. А Вы не ўстыдайцеся ехаць з дамаю! Яна — як найлепшы друг, толькі глядзеце, каб ёй было выгодна! Сашы Б[елакоза] ня бачу, нічога ён ня піша. Прашу Вас ласкава, напішэце Л. А. Войцік. Справа ў тым, што Юля Бібіла прыслала ёй нешта выдрукаванае Бядуліхай па-расейску і сапраўды непрыемнае…

Як Вашае здароўе? Нядаўна я напісала Вам ліста аб «Работніцы і сялянцы», ці атрымалі? Прыціхла наша вялікая проза, маўчыць і сапраўдная паэзія… Што ж, гэта нейкія «прымаразкі» для душы чалавечай, нейкае вяртаньне назад, калі маладосьць рада вылятаць упярод! Меню можна прапанаваць толькі для жалудка, розум людзкі — болей складаная і патрабавальная стыхія. Што ж, яна прарвецца вялікаю праўдаю, сугучнаю заўтрашняму дню, які наканаваны сьвету.

Бывайце здароў, Міколачка! Калі б ведалі, як нам хочацца хутчэй Вас убачыць. Вітайце сяброў.

Вашыя *Генiюшы*.

Нічога з сабою не бярыце, усё ў нас ёсьць! Бульба ёсьць і да бульбы знойдзем! Воўка капаў гарод, пацеў і кажа: «А чаму мянчане нічога ня робяць?» — «Нічога, — кажу, — будуць вось дровы пілаваць, як прыедуць». Так што трымайцеся! Нават у дождж прыяжджайце. Нават у прымаразкі, будзем сядзець у хаце!

## 31. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 11 верасьня 1969 г.*

Даражэнькія!

Прабачце за маўчаньне. Ня маю хвілінкі вольнай. Ня ведаю, што я за чалавек! Усё ў мяне поўныя рукі працы, а галава — клопатаў! Пайшлі дажджы, і ў нас — баравікі. Праўда, я па іх не хаджу, бо ногі не дазваляюць, але нехта прынясе, дык перабіраю, сушу, марыную! Да Белакозаў ледзь дабралася, і то з нагодаю. Ехала туды машына (аўтобус Акадэміі навук БССР). Там мы і заначавалі. Бачыла Юлю Бібіла з профілем Екацярыны Вялікай. Стрыманую, разумную. Напісала ёй толькі сяньня, калі яна ўжо пасьпела мне прыслаць два цудоўныя паясочкі. А то я ёй завезла розных нітак, а яна хацела ірыс, дык пасылала яго ў Менск з Зэльвы. У пятніцу (мінулую) прыехаў Мікола Прашковіч зь Іраю Крэнь і яшчэ адным сябрам. Было вельмі весела. Елі пераважна грыбы ў розных камбінацыях: рыжыкі на холадна са сьмятанаю, масьлячкі гарачыя таксама са сьмятанаю, марынаваныя баравікі, рыжыкі ў муцэ і масьле і г. д. А таксама — бульбу, цяляціну, гуркі, памідоры. Нешта зь яблыкамі і г. д. І яны дамоў павезьлі баравікі, нават жывыя!

Паслала я Вам тыя макі, нейкую лілію, якая сьмярдзіць часныком і цьвіце першая перад туліпанамі, ну і туліпаны. Харошыя даволі — тыя чырвоныя, зь Менску, і аранжавыя. Сяньня сьвята, і прытым поснае. Першы раз, як я тут, зазванілі званы. Я стаяла ў цэркві, і паліліся сьлёзы… У нас беднавата ў крамах, вельмі гэта адчуваецца. Ніякіх каўбас, нічога, седзімо на галодным пайку ці, лепш сказаць, на грыбах.

Прашковіч стаў салідны, паправіўся, а Іра К[рэнь] — цудоўная жанчына, цяпер працуе ў Энцыкляпэдыі БССР над слоўнікам. Гэта такія госьці, па якіх баліць сэрца, калі яны ад'яжджаюць. Пагутарылі крыху, былі ў лесе, бо пагода стаяла адумысловая.

У нас усё па-ранейшаму. Муж чуецца няблага, і я ня горш. Мучуся з нагамі, калі непагода, аж енчу. Юра ў Баўгарыі, можа, ужо вярнуўся. Пішэце, што добрага ў Вас? Цалую Вас шчыранька. Ад мужа прывітаньні Вам і ўсім хатнім.

Кланяюся ўсім — *Ваша Ларыса Геніюш*.

## 32. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 15 кастрычніка 1969 г.*

Даражэнькія!

Дзякую за ліста. За вакном — чырвоная восень, і халадок затуманеных раніцаў прабіваецца ў хату. Днямі сонечна, цёпла. Людзі носяць кашалі зялёнак. Для ног маіх хадзіць у лес задалёка. Ёсьць у мяне рыжыкі, ёсьць і зялёнкі, але крыху. Хопіць для нас. Рыжыкі люблю салёныя, сырыя, у сьмятане. Маюць асаблівы смак і вельмі добрыя з бульбай. А бульбы хапае. Меней мяса. Амаль што зусім няма яго ў нас. Во дажыліся. Ляжыць у краме каўбаса зь Дзярэчына. Летам пасьля яе хварэлі, і цяпер (людзі) купляюць яе з мусу вельмі ўжо неахвотна.

Лётаюць тры спутнікі, і сытае начальства сабе думае, што гордасьць зь іх подзьвігу насыціць працоўных… Які рэгрэс у росьце прадуктаў і іх асартымэнту! Засьмярдзіць толькі часамі марская рыба на прылаўках, ды зьявіцца крыху посных, марскіх кансэрваў. Можа, хто і прывык да гэтае стравы, але людзі з палёў да яе не прывыклі. Селядцоў і тых няма. Шчасьце, што ёсьць малако, толькі мужоў нашых яно не насыціць. Мы неяк даем сабе рады, ды нам шмат і ня трэба.

Учора напісала Вам вельмі даўгога ліста. Пастанавіла яго не высылаць. Ліст поўнасьцю аб П[аўліне] М[ядзёлцы]. Мне здаецца, што Вы ўсе маеце нейкі жаль да мяне, што мы не маглі ўзяць да сябе гэтую сапраўды харошую жанчыну. Бачыце, я яе адшукала сама, вярнуўшыся з Поўначы, каб пераказаць ёй усё, што ведала аб яе мужу. Жывым я яго ня бачыла, была на крэмацыі. Усё гэта аказалася нямілым, непатрэбным П[аўліне] М[ядзёлцы]. Яна мне востра адказала (ёсьць той ліст), што яна камуністка і г. д. Я нічога супраць ня мела. Я ёй адказала, што знаю яе прачысты камуністычны твар і бачу, але гэта ня знача, што мусім усе адракацца ад сваяго мінулага. Няма на сьвеце абсалютных праўд, і асабліва мы, беларусы, арыентаваліся на розныя напрамкі, бо даўно ня мелі свабоды. За гэта нельга нам узаемна сябе нішчыць, калі вельмі ахвотна, з прычынай ці без прычыны, робяць гэта з намі чужыя.

П[аўліна] М[ядзёлка] перастала пісаць нам, і раптам, пасьля стольких гадоў, у жыцьці нас ня бачачы ў вочы, прыехала да нас (раней нашыя запросіны адкідала), каб з намі жыць… Раптам зьявіліся «вялікае» пачуцьцё і намаганьні мяне перавыхаваць, уплынуць і г. д. Я чалавек іншага складу. Боль, мукі і бязьмерная любоў да маяго народу выхавалі маі сталыя погляды. Я веру ў Боскую мудрасьць Хрыстовай навукі, уздымаючай дух чалавека да вышыні багоў, і нікому не дазволю іроніі і атэістычных кпінаў над тым,

у што веру! Для мяне рэлігія — гэта ня ксёндз, а Хрыстос, і таму паводзіны духавенства ніколі ня ўплынуць на словы: «Любі бліжняга сваяго, як самога сябе». Даруй нават ворагу! Гэта нялёгка, але гэта мудра.

Чалавек з духу, і поўнае карыта, здольнае задаволіць любую жывёліну, для чалавека неабходны, але як жа малы працэнт таго, чаго сяньня ён патрабуе! Бізун і сіла нікому ўжо не імпануюць. Розум шукае, грызе навуку, а дух чалавечы хоча быць дасканалым! Гуманнасьць — гэта ўжо амаль фізыялягічная патрэба людзей. Вось гэту чалавечнасьць я шукаю ў душы нашага народу, гэтую вякамі з сужыцьця людзей створаную натуральную гуманнасьць, якая дае нам права раўняцца з самымі сільнымі. Я маю сваі ідэалы, а таварыства П[аўліны] В[ікенцеўны] — гэта ў нашым выпадку не абыякавыя таварыскія адносіны між людзьмі, а эгаістычная накіраванасьць чалавека рабіць па-сваяму парадкі ў чужой душы. Усё гэта не для мяне хаця б таму, што ў мяне ёсьць людзі, якім я ўсім сэрцам абавязана дапамагчы і ня маю магчымасьці. Гэта, напрыклад, быўшая ігуменьня быўшага Васільянскага манастыра ў Львове Маці Марта. Ёй многа за 80 год. Колькі ж хрысьціянскай любові і помачы бачыла я, чужая ёй, зь яе, амаль сьвятых, ласкавых заўжды для мяне рук!

А маі няшчасныя, разгубленыя і амаль загубленыя сёстры! А муж, штораз слабейшы! А сын у страху перад паважнай апэрацыяй, гдзе на валаску жыцьцё?! Ёсьць аб чым думаць. А галоўнае — нельга памерці, не сказаўшы людзям усяго, што на сэрцы паэта. На гэта патрэбны спакой і духовая раўнавага. Жаль мне А. В., як і яе памершага брата. Але калі ў чалавека рак, дык зь яго адыходам у вечнасьць блізкія звыкаюцца ўжо загадзя. Юля Бібіла далікатна сказала мне аб адзіноцтве і самотнасьці жыцьця П[аўліны] М[ядзёлкі]. Дзіўна толькі, чаму яна і другія ёй блізкія людзі не разьдзеляць з П[аўлінай] М[ядзёлкай] яе адзіноцтва ды не памогуць па-свойму? Людвіка Антонаўна, калі б маглі, дык запытайцеся ласкава ў П[аўліны] М[ядзёлкі], ці атрымала яна ад нас сваі фатаграфіі, якія некалі нам прыслала, а цяпер іх зажадала назад? Я іх выслала заказным. Матэрыяльна чалавек забясьпечаны, мае сваю хату і тут, і нейкі куточак у Маскве, мае столькі сяброў і знаёмых, дык лічу, што маё сумленьне [будзе] у парадку, калі болей займуся справамі творчасьці, так труднай і так нам патрэбнай сяньня.

Вось усё, што ў гэтым выпадку магу Вам сказаць. Спадзяюся, што ліст мой Вас ня ўразіць, пішу Вам ня фальш, а тое, што ведаю і што бачу. Бывайце здаровыя, кланяйцеся ласкава ўсім хатнім. Буду рада, калі хоць крыху мяне зразумееце і адчуеце варункі маяго жыцьця.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 33. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 18 кастрычніка 1969 г.*

Даражэнькія!

Пішу Вам трэцяга ліста. Адзін ня высланы, другі ўжо пайшоў, а вось і трэці. Толькі што атрымала ліста ад П[аўліны] М[ядзёлкі]. Я ёй напісала ўсё больш-менш шчыра, і вось атрымала адказ. Перапісваю яго без камэнтарыяў — гэта нешта, як тая Бядуліха на Ваш спакой.

*Ларыска!*

*Фота разам зь лістом тваім атрымала. Дзякую! Ты пішаш, што апошні мой ліст «кароткі і горкі». Ну што ж, калі мае празьмерна салодкія лісты выклікалі ў цябе ня толькі ташноту, але і падазронасьць, што мяне хтосьці падаслаў да вас*

*з мэтай перавыхаваньня. Аднак перш за ўсё я адкажу на тваё пытаньне, чаму так палярна зьмяніліся мае адносіны да вас і пачуцьці.*

*Да таго, як трапіў мне ў рукі твой зборнік «Невадам зь Нёмана», я мала ведала аб табе. А тое, што мне даводзілася чуць аб табе ад людзей, якія цябе ведалі, пераканала мяне, што мы з табой ня знойдзем агульнае мовы. Таму і перарвалася наша ліставаньне на некалькі год. Але, пазнаёміўшыся з тваёй паэтычнай творчасьцю, душа мая да глыбіні ўскалыхнулася, і ты стала для мяне роднай, блізкай, як ніхто з маіх сяброў. Я паверыла, што з «Трох дарог» ты сапраўды выбрала «трэцюю сьцежку». А выходзіць, што я памылілася, выходзіць, што ты выбрала нейкую* чацьвертую. *Адно — з-пад пяра, штосьці іншае — у чыне. Ня ведаю, якіх «сяброў» ты маеш на ўвазе, якія быццам падаслалі мяне да вас з мэтай перавыхаваць. Калі тыя, якія топчуць нашу родную мову (а гэта з тваёй хваравітай падазронасьцяй і ня дзіва, што так думала), дык скажу адно: для такіх ні твая паэтычная творчасьць, ні ўсе мы разам з табой не патрэбныя, і ніхто зь іх не зацікаўлены ў вашым перавыхаваньні. Я ўжо пісала табе, што і ў думках маіх не было такой мэты, бо лічу, што гэта і немагчыма, і непатрэбна. Я толькі, як і М[аксім] Т[анк], хацела, каб ты мела матэрыяльна забясьпечаны быт з мэтай захаваць тваё таленавітае пяро для нашага народу. А на* чацьвертай сьцежцы *— я ў гэтым пераканана — зломіцца тваё пяро, і твой голас ня дойдзе да нашага народу. Дарэмна ты ўсё думаеш, што мяне пакрыўдзіла твая адмова майго гасьцяваньня (хоць у адным з папярэдніх лістоў, калі памятаеш, ты і запрашала мяне прыехаць — «будзеш сядзець у нашым садзіку...»). Я разумела, што ў цяжкіх варунках быту і, тым больш, маральных, — не да гасьцей. А неаднаразовае падкрэсьліваньне «важнасьці» маёй асобы нясмачна пахне. Калі хочаш ведаць, мяне пакрыўдзіла тое, што ты назвала мяне «чужым чалавекам», і што за пасылкі, пасланыя ад чыстага сэрца, ты хацела заплаціць мне грашыма! Гэта ўжо зьнявага для мяне! «Колькі табе заплаціць за тваё шчырае сэрца?» Ах, Ларыска, Ларыска! Як жа балюча ты мяне сьцебанула! Даруй, што напсавала табе нэрвы сваімі лістамі. Больш гэтага ня будзе. Жадаю шчасьця на* чацьвертай сьцежцы*! Паўліна.*

Вось Вам ліст даслоўна. Падкрэсьліла словы я сама. «Тры дарогі» — гэта першы верш у зборніку «Невадам зь Нёмана», а чацьвертая сьцежка — фантазія заслужанай дзяячкі беларускай культуры — П. Мядзёлкі! У 37 г. падобныя сьцежкі для нашых пісьменьнікаў радзіліся толькі ў галовах ведаеце чыіх, і канчаліся яны таксама ведаеце як... Гэта не адзіны і не дзясяты ў маім цяжкім жыцьці выпадак падобных правакацый, і цяпер не дзівецеся, што я баялася. Я баюся тут амаль усіх. А матэрыяльныя выгоды? Божа, гэта ўсё ня тое, дзеля чаго жыву. Знача, калі не хачу зь нічога карыстаць, не падлізваюся, ня гнуся ўдвая, дык — і «чацьвертая сьцежка», якая зломіць пяро! Яго ж ужо зламалі! Толькі душы маёй ніхто яшчэ не сагнуў. Пяро замоўкла. Дзіва няма тут ніякага...

Людвіка Антонаўна, няўжо Вы нічога не разумееце? Я знаю толькі адно: перад іх хітрасьцю я дзіця, але і баранюся па-дзіцячаму: «Адыдзі ад мяне, бо я не люблю цябе, не давяраю». Ці не здаецца Вам, што я на гэты раз не зусім памылілася?

Напішэце мне, ці атрымалі гэтыя абодва лісты. Аб браце, бачыце, нават і ня ўспомніла! Ды ёй і не да яго.

Бывайце! Пішэце хутчэй — Ваша *Ларыса*.

## 34. МІКОЛУ ПРАШКОВІЧУ

*Зэльва, 29 сьнежня, 1969 г.*

З Новым годам, дарагі сябра Мікола!

Жыць Вам шчасьліва, жыць Вам доўга! Лісты Вашыя атрымалі. Дзякуем. Што Вы мяне палохаеце? Што там «добрага»? Абавязкова папярэдзьце! Гэта важна.

У хаце цёпла. Я ў мароз — герой, бо ногі тады не баляць. Вось сяньня пацяплела, і ўжо адчуваецца. Іван Пятровіч слабее з кожным днём. Нічога яму не баліць. Я думаю, што тая энцыкляпэдыя яго паставіць на ногі. Жыве і трымаецца лякарствамі. А цяпер яшчэ тыя адчоты! Так ці іначай, а працуе ён апошні год. Далей нельга. Сіл няма. Жудасна гэта ўсё. І калі тое жыцьцё праляцела?

Юра болей месяца нічога ня піша. Непакоімся. Баімося за яго здароўе, за дзетак. Жаль, што Вы не сабраліся за гэтыя дні ў Зэльву. Я нават не магу зразумець, чаму Вы цяпер так рэдка ў нас бываеце? Вы ж — ня госьць! Вы —зусім свой!

Жаль таго рэктара з Брэста. Я чытала нэкралёг. Жаль, вялікі жаль П. Глебкі. Яго, беднага, абвінавачвалі, што ён мне памог з друкаваньнем, а я яго нават у вочы ня бачыла! Няхай жа лёгкай будзе яму зямелька наша, а мы яго не забудзем.

Навін у нас — ніякіх! Мілай неспадзеўкай быў артыкул Валодзі ў «Маладосьці» і Зянонавыя здымкі там жа. Маладзец усё ж Валодзя [Караткевіч]! Дай Бог яму ўспамятацца ад той чаркі. Валя ўжо няхай застаецца. Шкада мне Надзежды Васільеўны. Лісты яе горкія між радкоў. Што да ўкраінцаў, дык я згодна з Вамі. Я іх проста лічу братамі — гдзе якіх, адношуся, як да сваіх. Яны мне ў горы і памаглі нямала, асабліва маральна. Мяне ўжо тут сьнягі засыпалі вышэй галавы — і фактычна, і пераносна. Але павее свой вецер і страсяне зь мяне той сьнег.

Здалёк часамі пішуць, і я ім — крыху. Лякарства ад ног ня трэба было слаць. Вы ж ня лекар, не тэрапэўт, а можа, Вы — знахар? Вось было б цікава! Дзякую за лекі наперад! За тое, што крыху аб нас думалі. Вельмі рада за Янкоўскага. Я зрабілася — як вожык, словы мае — як голкі: калі нешта ня нашага бога, дык баранюся — як мога!

Спраў у мяне да Вас многа, але гэта ўсё пасьля. Нічога, Міколачка, не сумуйце. Добра, што купілі падаркі дзеткам, будзе ім радасьці! Гадуйце іх на сваіх людзей — чэсных і сільных. Бывайце, дружа! Пішэце.

*Ларыса Геніюш.*

## 35. ЛЮДМІЛЕ БАКУНОВІЧ

*Зэльва, 18 лютага 1970 г.*

Людачка дарагая!

Даруйце, мая харошая, што даўно не пісала. Бывае markdown рознае. Калі будзе магчымасьць — буду пісаць, але часта лістоў ад мяне не чакайце. Старасьць, недамаганьні, ды і ня толькі. Харошую картачку і ліста, у якім апісваеце свой працоўны дзень, і таго, у якім пішаце, што атрымалі маю кніжку, — усе маю, усё шчасьліва дайшло! Раней былі хустачкі, аб якіх я Вам ужо пісала. Яшчэ раз шчыра за іх дзякую. Мыта было: за адну 7 руб., за другую — 14, як ведаеце. Адну зь іх пакінула сабе.

Дзякую за добры водзыў аб кніжцы. Яна мне ня вельмі падабаецца. Я хацела б лепшую, лепшую! Мала напісана, слаба напісана, а канец дзён — недалёка.

Дзякую Вам за памяць. Мы Вас называем «глыточак паветра», бо Вы такая бадзёрая, шчырая і ўжо даўно — як свая.

У нас і сяньня мароз! А завеі былі, а сьнягі — як ніколі. Я не наракаю — на тое зіма. У хаце цёпла, і гэта важна. Выгодаў у нас ніякіх, але ў гарадах яны ёсьць. Я гэтага не

заўважаю, бо вельмі люблю, як гарыць у печцы жывы агонь і разыходзіцца цяпло па хаце. Многа чытаю цяпер, мала пішу, а вечарамі муж слухае радыё. Тэлевізара ня маем, ды муж яго і ня любіць.

Жыцьцё заўсёды цікавае, нават у тым, што ёсьць сонца, прырода, свая зямля пад нагамі, часам добрыя людзі. Вельмі цешуся заўсёды з Вашых вестак, з харошых слоў і паштовак. Цешуся, што на адлегласьці можам гутарыць па-беларуску з Вамі, цешуся, што Вам добра, што Вы — харошыя людзі. Я доўга жыла ў чужыне, у Празе, і мне сьнілася заўсёды сяліба маіх бацькоў. Калі хочаце, Людачка, мы Вам пашлем вызаў, і Вы прыедзеце да нас. Нам — нельга.

Тут многа новага на сяле і ў гарадах, а ў грунце — народ той самы, наш, працавіты. Пішыце нам, Люсенька, калі будзе магчыма — адкажу Вам хоць коратка. Прывітаньні Вашаму мужу. Цалуйце дзетак, вітайце бацькоў. Цалуем Вас сардэчна, усяго Вам добрага, дарагая!

*Геніюшы*.

## 36. ЛЮДМІЛЕ БАКУНОВІЧ

*20 лютага 1970 г.*

Дарагая Людачка!

Дзякую за памяць. Даруйце маё доўгае маўчаньне, часам ня пішацца — так бывае. Мы больш-менш здаровыя, мужу цяжка хадзіць і цяжка дыхаць, хоць і кінуў курыць, але іншае ўсё — добра. Марозы трываюць, сьнягі ляжаць, і запасы торфу ў хляве ўмяншаюцца. Думаю, аднак, што яго хопіць. Хопіць і дроў, якія, хораша парубаныя, вельмі цікава трашчаць вечарам у печы. І ў нас ёсьць машына для мыцьця бялізны, праўда, не такая камплікаваная, як у Вас, і воду трэба насіць, але ж зь ёю лягчэй! Пачынаю любіць машыны — памочніцы ў хаце!

Кладу Вам у лісты карткі. Мне здаецца, што так яны лепш даходзяць, а яны і ў нас бываюць харошыя. Цешуся, што Вам добра жывецца, землякі маі дарагія. Гэта ж і ня дзіва — працавітых і добрых людзей цэняць усюды, а хто ж болей працавіты ад нас? Калі хустачкі сапраўды столькі ў Вас каштуюць, то ня буду пярэчыць. Нам жывецца няблага, але ведаеце, бывае, што і фінансы пяюць рамансы, бо працуе ў сям’і адзін чалавек. Добра тым, у каго працуе сям’я. Варункі працы для лекараў у нас інакшыя. А наша хатка?

Нада мною столь з дошак і бэлек
пралягла на бярвеньнях тугіх,
стырчаць гакі старых калыбеляў,
ноч мінуласьць калыша на іх…

Усе нашую хату любяць, яна заўсёды гасьцінная. У 1968 г. былі ў нас дзеці з унукамі, дык Алесік схаваўся, каб ня ехаць, і так енчыў, і так плакаў, каб застацца «ў хаце», што ўсе глядзелі на яго і плакалі. Прытуліла я яго да сябе і так завезла ў Гродна, там разьвіталіся.

Юра і нам піша мала. Пасылачка з кніжачкай, кажуць, ішла нармальна, бо так бывае звычайна. На днях я Вам напісала. Жыцьцё часам прыносіць непрыемнасьці, толькі я ўжо прывыкла. Часамі — баранюся, часамі — маўчу. Час ад часу буду аказвацца, а Вы не забывайцеся аб нас! Муж памятае Вас яшчэ невялічкай кругленькай танцаўшчыцай, жаль, што я Вас ня бачыла. Шлеце нам сваі фатаграфіі, даражэнькая, любім глядзець на Вас.

Дзякую за пасылкі ўнукам. Выйшла энцыкляпэдыя, 1-ы том. Калі зможам, дык ці выслаць яе Вам? Цалуем Вас і абдымаем, вітаем Вашых бацькоў і сяброў.

Шчыра Вашы — *Геніюшы*.

## 37. УЛАДЗІМЕРУ БАКУНОВІЧУ

*Зэльва, 21 лютага 1970 г.*

Паважаны і дарагі сябра Валодзя!

Думаю і думаю над Вашым лістом. Знача — сапраўды, у час, калі мне было вельмі трудна, нехта аба мне думаў. Растуць маі памятнікі — прыгожыя і жывыя! Як жа на сьвеце дзіўна! Я заўсёды адчуваю вялікую настарожанасьць і адзіноту, а тут нехта жывы і харошы прадоўжыць памяць аба мне. Няхай Бог благаславіць Вас усіх за гэта. Ваш ліст — як сыноўскі, можа, гэтага сяньня найболей нам трэба. Як жа харошай мусяе быць Ваша маці!

У Вас не магу быць, дарагія, але цяплей мне ад Вашых слоў. Цешуся, што Люда мае такога друга, а дзеткі — такога тата.

Нам добра, сябра Валодзя. Сяньня прыйшла чорная, квяцістая хустачка ад Вас. Дзякую, дзякую, але адначасна прашу, каб часта не пасылалі. Гэта з розных меркавань. Мне дорага глядзець на рэчы ад Вас, і я ўжо ад іх не адракуся, але вельмі прашу — няхай гэта будзе для Вас нячаста, бо тады мне будзе цяжка. Ямо і мы добра, і ў хаце цёпла. Як друкавалася, дык купілі трохі адзеньня, купілі халадзільнік, зьбіраемся дастаць, калі надарыцца, газавую плітку на балон. Пэнсію далі б мне, каб я была меней прынцыповай і болей пакорлівай.

Бачыце — тут і мая віна. Хачу, каб Вы мяне зразумелі, як і я — Вас. Хочацца сказаць Вам, што няма на сьвеце большага багацьця і шчасьця, як дзеці, хіба толькі — унукі. Я спадзяюся, што ўнукі маі з Вамі некалі сустрэнуцца, і Вы будзеце другам для іх. На здымачках вы ўсе такія харошыя, і мы радуемся, гледзячы на Вас. А ёлачка — як у нас. Недзе цацкі на ёлку ў цэлым сьвеце аднолькавыя. Сьнягі і ў Вас, і відно, што дом Ваш — мураваны. Як жа ахвота зайсьці да Вас у госьці!

Ведаю — трэба пісаць нешта на ўспамін людзям, унукам маім, маім жывым «помнікам», Вашым дзетачкам і ўсім сябрам. Сын просіць апісаць мінуўшчыну, сівую даўніну і падзеі нашага роду. Быў у нас сяньня харошы чалавек, гісторык, пераглядаем цяпер яго працу. На дварэ цяплей, што вельмі важна.

Усяго добрага Вам, Людачцы, дзеткам, ялінкам ля хаты і Вашаму дому. Сардэчнае прывітаньне перальмальніцам імя майго, толькі б ня долі… Шчасьця Вам і посьпехаў ва ўсіх Вашых пачынаньнях!

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 38. ЛЮДМІЛЕ БАКУНОВІЧ

*Зэльва, 24 сакавіка 1970 г.*

Люда!

А я думала, што Вы захварэлі! О, дзіця маё, як я рада, што зноў — ліст ад Вас! Я крыху хварэю, каторы ўжо дзень як баліць галава. Ад Вашага ліста крыху перастала, і муж сьмяецца зь мяне. Бываюць дні, калі асабліва адчуваецца адзінота.

Душу часамі ірве неспакой,
нялёгка мне, не пярэчу,
і ўсё ж бяру долю жаночай рукой,
як калісьці каня — пад вуздэчку!

Не хачу, каб Вы пра мяне забыліся. Памятайце хоць у адзін вясьняны Дзень, і я буду адчуваць гэта!

Прыйшла пасылачка: цудоўны галубы свэтрык — мне ў абцяжку (12 руб. 50 кап. мыта), хустачка з турэцкім узорам (14 руб. мыта) і чорная, прыгожая, у кветкі (7 руб. мыта). Дзякую шчыра за ўсё. Болей не пасылайце, бо мне сорам за кошты для Вас.

Толькі пішыце, пішыце абавязкова! На пасылачку доўга ўзіраліся, нам радасна бачыць нешта ад Вас, як Вашу любоў, дарагія. Усё прыгожае, але болей ня трэба коштаў, я не прывыкла да гэтага, Люда.

Юра піша, Валя маўчыць, унучкі нават дзеда не павіншавалі з днём народзінаў, але вечарам выклікалі да тэлефону і гутарылі крыху на пошце. Надта мілы Алесік, а Міхаська — ужо паважны, думае, многа чытае. Ёсьць дні, калі я думкамі з Вамі, Люда, поўнасьцю, мая харошая. Сьнягі таюць, сонейка весялейшае, так чакаецца кветак! Занясу ліста на пошту і крыху лягу. Нешта сталася, і парашкі ад галавы не памагаюць.

На другой фатаграфіі — я ў белым касьцюме, муж і наш сябра Прашковіч Мікола, каля больніцы. Як далёка да Вас, маі родныя, я так хацела б пачуць Ваш голас, пабачыць танцы, пабыць з Вамі хоць адзіны вечар.

Бывайце, маі ўсе родныя і дарагія! Цалую Вас, Людачка, абдымаю.

Заўсёды Ваша — *Ларыса Геніюш*.

## 39. АЛЕСЮ БЕЛАКОЗУ

*Зэльва, 28 траўня 1970 г.*

Паважаны Саша!

Даруйце, што са спазьненьнем адказваю на ліста. Цешуся, што Ваш шляхотны пачын — этнаграфічны музэй у Гудзевічах — нарэшце здабыў сымпатыю загадчыка аблана і (о, дзіва!) нават райана! Нядаўна ж той «знаўца» мастацкіх вартасьцяў еў Вас поедам за той музэй… Прыкра, што высокапастаўленыя дзядзькі нават не пабачылі Вас, не пагутарылі з Вамі! Во — міністры! Баюся, што надыдзе час, і прагалосяць, што музэй паўстаў дзякуючы «камуністычнаму натхненьню і партыйным намаганьням» таго самага загадчыка райана… Падобнае было і з Гродзенскай абласной больніцай! Але Вы, Саша, сваю справу рабеце. Ваеншчына, наагул вайна і яе культ — рэчы ці зьявішчы часовыя. Яны зусім не гармануюць з разумным і творчым сацыялізмам, ды і залішне небясьпечныя ў наш час. А вось стваральная мірная праца побач з гераізмам, якая характарызуе наш народ зь вякоў, яго дасягненьні ў галіне рознай творчасьці — гэта карыснае, шляхотнае, і жыць будзе вечна.

Пакуль памятае мой муж, дык пісалася — Буйло, а я большасьцю чула — Буйлянка. Ці пісалася некалі — Буйла, мы дакладна ня ведаем. Пра гэта трэба папытацца ў Войцікавых.

Што датычыць «ідэёвай творчасьці» Вашага выкладчыка гісторыі, дык мяне гэта не зьдзіўляе, гэтыя культуртрэгеры тут амаль усе такія. Мае гэта і дадатны бок, бо дазваляе народу бачыць і другі бок мэдалю — якраз найменей цікавы. Забіць той нехрыст нікога не заб’е, але непрыемна, што брэша. У нас бывалі выпадкі забойстваў сялян. Адзін такі «настаўнік» застрэліў жанчыну каля стогу. Яна ўпала на калені, злажыла рукі, каб не страляў, але ён забіў яе. Засталося двое дзетак. Вучыў ён дзяцей у Дзешкавічах ці Азярніцы. Апраўдваўся, што быў п’яны, не пазнаў, думаў — ліса.

Калі я працавала ў больніцы, дык прывязьлі жанчыну з прастрэленай рукой. Была — як шкілет. Немцы забілі яе чатырох братоў, яна гадавала сына аднаго зь іх. Напрадвесьні ў іх даходзіла з голаду карова, а нашы людзі ня могуць глядзець на пакуты жывёлаў. Падстрэліў яе брыгадзір каля стогу, і нічога яму не было. Жанчыну мы выхадзілі, але

яна ня мела, гдзе падзецца, і вельмі прасіла, каб я ўзяла яе да сябе. На гэта не згадзіўся муж… Часам яна прыходзіць.

Аднаго чалавека зьбіў машынай і не падняў першы сакратар райкому Бардзялёў. Яго перавялі на дырэктара школы ў Ліду.

Было страшна, але цяпер у нас строгі і вельмі разумны начальнік міліцыі, і падобнага ўжо не чуваць. Ён Вашага п'яніцу-гісторыка пераканаў бы хутка, што забіць беларуса ім сяньня бяскарна ня пройдзе! Як можа Ваша начальства ня бачыць такога жудаснага явішча? Што за дзікія тэндэнцыі — бяскарна забіваць калгасьнікаў?! Няхай спусьцяць яму нагавіцы, насякуць крапівою — дык умомант працьверазее…

Але ратавацца трэба. Заўсёды варта востра рэагаваць на падобныя дзікасьці. Трэба памятаць адно: у сьвеце, які наступіць пасьля нас, будуць жыць нашыя дзеці і ўнукі, на якіх нам залежыць болей, як на сабе, таму трэба выхоўваць мужных і чэсных людзей і выкарчоўваць усякае насільле і наглае хуліганства! Між іншым, цяпер гэткае хуліганства — па ўсім сьвеце, і толькі той народ дасягне вышыні сваяго разьвіцьця, які навучыць сваіх грамадзян шанаваць законы разумнага грамадзтва пачынаючы зьверху. Няхай законы будуць роўнымі для ўсіх. Можна і трэба дароўваць памылкі, але сыстэматычнай дурасьці, ды яшчэ настаўнікам, дароўваць нельга! Людзі забыліся, што за хлеб трэба плаціць сумленнай працай, а не як хто патрапіць. Прыклады такія, як паводзіны Вашага гісторыка, згубныя для моладзі. У нас нявесела. Бачыліся ў Бераставіцы з сынам. Зноў ня ладзіць з жонкай. Жывуць асобна. На наступны год прасілі вызавы — кожнаму асобна. Мяне гэта насьцярожыла. І вось нявестка заявіла, што да нас ехаць не жадае і ўнукаў на мае 60 год не прывязе. Мы і з гэтым згадзіліся. У кожным выпадку прасілі сына, каб не ўніжаўся і не прасіў яе. Разводу яна яму даць ня хоча. Шарашка гэтая нам ужо надаела, шкада толькі, бязьмерна шкада дзяцей. Сын нам ня піша, а мы тэлефанавалі і ўсё гэта пачулі ад яе. Я заўсёды яе падтрымоўвала, але калі пабачыла сынава жыцьцё ў сям'і, дык мароз мне прайшоў па скуры… Найбольшае няшчасьце людзей — іх сьлепата і дурасьць!

Бачылі ў Бераставіцы Петрашэвіча зь нейкім паэтам Насутаю, які напісаў вельмі харошую песьню, а Петрашэвіч напісаў да яе музыку. Песьня ім удалася, яны мне яе прасьпявалі дуэтам. У Менску тую песьню габрэі (а яны там загадваюць муз. культурай) не прынялі. Вось нашая доля…

Зноў быў ліст з Ізабэліна, той чалавек гатоў нам усё аддаць, а муж — узяць… Я ўзяла партрэты Я. Купалы, Танка, Шаўчэнкі, Цёткі, а ён аддаваў горы абразоў і кніг. Мне цяжка туды ехаць, хацелася б, каб такія людзі не паміралі, а ён бядуе, што ўсё пагіне, а мы маладшыя за яго на 15 гадоў. О, Божа…

Але Вас, Саша, я туды абавязкова завалаку, абмяркуем гэтую справу. Вартасных арыгіналаў там няма, але ёсьць кусок вялікай працы разумнага і глыбока культурнага зьбіральніка сьвядоцтва культурнай вартасьці чалавецтва.

Іду лячыць зубы. Напішэце, ці дайшоў ліст. З маім здароўем горай, і ня дзіва — пасьля такіх «радасьцяў».

Саша, дазвольце Вам, як вельмі блізкаму чалавеку, даць раду: ніколі не змушайце сілаю піць гасьцей. Запрашайце іх есьці. Ваша гасьціннасьць, шчодрасьць і дабрата б'юць з Вас крыніцаю. І хай так будзе — толькі не ў пытаньні гарэлкі. Пасьля сьмерці апошнім часам ажно двух нашых харошых паэтаў з-за яе я ёй аб'яўляю вайну! Будзьма цьвярозымі, Саша!

Прывітаньне ад нас усім Вашым.

Копію ліста пакінула, калі б не дайшоў, то пашлю другі.

З пашанай — *Ларыса Геніюш*.

## 40. ЛЮДМІЛЕ І УЛАДЗІМЕРУ БАКУНОВІЧАМ

*Зэльва, 16 чэрвеня 1970 г.*

Даражэнькія!

Ліст Ваш дайшоў. Што ж, хто нарадзіўся — той мусіць і памерці. Няхай лёгкай будзе зямелька чужая сяброўскім касьцям. Прашу Вас, як дзяцей сваіх, перадаць удаве і сыну памершага мае шчырыя спачуваньні. Мне гэтага зрабіць нельга пакуль. Дзіўна тое, што я гэта амаль ведала. Усё хаджу і чую сьпеў: «Надгробное рыдание творяще песнь — алилуя» і г. д. Кажу мужу: «Нехта памёр», а сама падумала — хто? Клопатаў Вам хапае, выдаткаў — таксама, але ўдаве памагчы неабходна.

Хтосьць адыдзе, нехта разьвітаецца,
застанецца жменя сумных слоў.
І буслы ня ўсе дамоў вяртаюцца
з тых далёкіх, не сваіх краёў…

Нялёгка мне сяньня. Шмат што ў жыцьці мае дачыненьні да маей душы і асобы… Лапату, Валодзя, трымаю на гэты раз дабравольна, люблю квітнеючую зямлю, але я кіну яе, не сумуйце. Excedrin яшчэ маю. Ад таго лякарства крыху лепш, але калі дождж — дык ня ведаю куды тыя ногі і падзець. Excedrin буду браць у канцы ліпеня, каб не стагнаць тады і быць здаровай. Юра прыедзе 20 чэрвеня. Званіў, што Валя свой вызаў парвала. Можа, яна яго толькі мучыць гэтым, а можа, і праўда. Вельмі перажывае за зацемку ў «Ніве». Піша, што гэта некім зроблена няпроста. Жаль — званіў бацьку, п’яны, знача — і гэта не памагло. Адрас Юры: Woj. Bialostockie, m. Grodek, Osrodek Zdrowia, Jerzy Geniusz. Там ён працуе. Зь яго ліста відно — сыдуцца зноў. Я ім цяпер не пішу, проста не магу — гарох аб сьцяну…

Сяньня рана кінула ліста ў Кенгурыю, ня ведала яшчэ аб сьмерці… Многа прыпамінаецца. Было небясьпечна. Такі лёс і мой, і іншых людзей. Добра, што мама Ваша пабачыла Вас. Не забудзьцеся прыслаць мне здымкі Ларысаў. Пацалуйце іх ад мяне. Сваю маму пацалуйце таксама.

Вы харошы, Валодзя, што напісалі. Пішэце да мяне цяпер нармальна. Што робіць Людміла, чаму маўчыць? Юрцы напішэце лагодна, бо ён зусім папсаваў нэрвы, жаліўся нам у лісьце. Таму я і не пішу, бо цацкацца з дурнямі ня ўмею…

Мы пакуль здаровыя. У нас былі беспрарыўныя дажджы. Мужу прызначылі 54 руб. пэнсіі, ён яшчэ будзе працаваць, і мне ўстыд за гэта. Бывайце! Цалую ўсіх Вас.

*Ларыса Геніюш.*

Люда, пішэце, darling! Мне ўжо сумна бяз Вашых лістоў. Як маюцца дзеткі?

## 41. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 12 жніўня 1970 г.*

Дарагая Людвіка Антонаўна!

Дзякую Вам за памяць, за прывітаньні і за кніжку зь Вільні. Гэтыя дні — ужо за мною. Гасьцей было няшмат, прывітаньняў яшчэ меней, толькі ад найбліжэйшых. Многа было кветак. Людзі іх прыносілі і клалі моўчкі, як на магілу. Зь Вільні прывіталі мяне толькі Вы адна. Шышэі не заехалі, а нічога ім ня сталася б, быў жа др. Кароль — павіншаваў мяне асабіста і жывы застаўся, і працуе. Яму я асабліва ўдзячная. Рабілася тут рознае, але некаторыя людзі прыехалі хоць вечарам, хоць на гадзінку. Сын ад’ехаў, яго выслалі перадчасна з Зэльвы, бо самавольна паехаў

у Менск, што робіць тут кожны, хто прыедзе. Нас з мужам цягалі ў міліцыю за гэта, асабліва мяне, што і падкрэсьлівалі нават з насалодай. Так і жывем, немаведама што будзе заўтра. А я ўсё яшчэ прачу, мыю, салю гуркі і вару зь яблыкаў джэмы. Навошта? А можа хто прыедзе ды зьесьць, бо мы амаль нічога не ямо. Плакала я, калі прыйшла нейкая дзяўчынка і прынесла мне прывітаньні і падарак аж недзе з Лос-Анджэлесу — ад свае сястры, што за Найдзюком Чаславам. Тая прасіла знайсьці мяне ў гэты дзень. Чужыя людзі гатавалі і падавалі. Было за 40 асоб, а так дык цэлы тыдзень ехалі пакрысе.

Як Вам жывецца? Як здароўе? У нас дажджы, макрэча, пахаладала. Сябра Прашковіч быў у нас болей тыдня і вельмі, вельмі мне дапамог. Гэта сапраўдны сябра. Белакозаў не было, хоць пісалі ім і тэлеграфавалі. Яны былі радыя пазьбегчы непрыемнасьцяў і дакору з боку начальства. Мне лягчэй, што ім гэта ўдалося зрабіць, толькі сустракацца больш зь імі ня хочацца. Вось і ўсё. Бывайце здаровыя, я ня ведаю, ці хутка Вам зноў напішу.

Прывітаньні ад мужа. З павагай — *Ларыса Геніюш.*

## 42. ЛЮДМІЛЕ І УЛАДЗІМЕРУ БАКУНОВІЧАМ

*Зэльва, 31 жніўня 1970 г.*

Даражэнькія Люда, Валодзя і дзеці!

Дзякую за ліста. Вельмі дзякую за здымачак мілай Ларысы — маяго «помнічка». Жадаю Ёй доўга і шчасьліва жыць! Вельмі яна мілая, і я гляджу на яе, як на сваячку. Сваякоў у мяне асабіста вельмі мала. Зь вялікага роду нас засталася шчуплая жменька, і то па сьвеце.

Нэкралёг атрымала, але я ўжо ведала аб гэтай сьмерці. Які жаль. Я прыехала ў Прагу ў канцы 1937 г. Памершы быў ужо інжынэрам, але бяз працы. Быў высокі, мажны, бедна апрануты, бледны. Я зь ціхай радасьцю старалася заўсёды нечым кожнага пакарміць, пачаставаць. Мае вочы бачылі наскрозь іх гордасьць, іх голад і іх нязьмерны патрыятызм. Аднойчы памершы паглядзеў на нас і сказаў: «Лепш дайце мне карону…» Відавочна, яна была яму вельмі патрэбнай. Муж даў яму нейкія грошы, а мне болем шчыміла сэрца, што ён будзе есьці заўтра, пазаўтра і калі зноў да нас прыйдзе.

Мы жылі даволі бедна, муж за грашы замяшчаў (нелегальна) аднаго спэцыяліста. Для чужынцаў у той час умовы ў Празе былі неспрыяльныя. З памершым мы часта гутарылі. Ён быў вельмі адукаваны і душой чысты, прачысты чалавек. Жыў толькі Радзімай, марыў аб Ёй. Пасьля ён зарабіў недзе крыху грошай, і мы куплялі яму кашулі. Жылі мы — як родныя, цесна і дружна і вельмі перажывалі за лёс сяброў. Я была тады яшчэ маладая, туліла да сэрца сына і думала, думала, як сказаць словы, якія перапоўнілі сэрца ўспамінамі, крыўдамі, болем, надзеяй? Я змагла сказаць многае, жаль, не магу цяпер…

Які шчасьлівы Ваш дзедзік, што змог столькі часу правесьці са сваімі пацехамі. Уяўляю, як ім было радасна і цікава разам! Так, напэўна, як і Людзе з мамаю. Што Валодзя патраціў долары — ня жаль, бо пабыў ён са сваімі. Плакала, напэўна, тая шчасьлівая мама, вітаючы і праважаючы яго. Добра было б і дзетак і Люду завезьці да іх, і я спадзяюся, што нейк гэта будзе. Як здароўе бацькоў, Людачка, як рукі Вашай мамы, ці паправілася яна? Бацькі ж Вашы яшчэ маладыя.

У нас пачалася восень. Залатая. Лета было дажджлівае, а цяпер — сонейка, і мы лёгка апранаемся. Я нашу Вашу сукеначку і цешуся, што яна — якраз. Муж мой працуе.

Юра піша, і я ня ведаю, як дасьць ён рады ў жыцьці. Дзяцей ён любіць вельмі, да Валі зусім зьняверыўся. Аб зацемцы ў газэту пастаралася яна. Памагчы яна ня здольная, шкодзіць — вялікі майстар.

Цалуем Вас і абымаем.

Вашыя *Геніюшы*.

Калі б Вы ведалі, як часта мы Вас успамінаем! Столькі ў Вас добрага і шляхотнага, і мы гэта над усё цэнім. Цалуем Вас. *Л.*

## 43. ЛЮДМІЛЕ БАКУНОВІЧ

*Зэльва, 27 кастрычніка 1970 г.*

Людачка, дарагая!

Пішу да Вас вельмі ахвотна. За ўсё, за ўсё вельмі Вам дзякую. Вы ж першая мне напісалі, шукалі мяне. Як жа не любіць Вас, харошая мая танцаўшчыца маленькая, якой ня можа забыць мой муж, і калі дастане нешта зь літаратуры, вартае ўвагі, дык адразу дзеліцца з Вамі! Дзеванька Вы наша мілая, каб Вы ведалі, як мы з Вамі разам перажываем за брата і за дзіцятка — за маленькага Расьціслава, чыё імя я люблю найболей, бо так называўся каханы мой брат.

Юра пісаў, што ня ўсё можна было лажыць у пасылку. Там яшчэ — сумачка, вышытая ў Менску. Яшчэ мелася ехаць у Канаду Соня, сястра Міколы Н[ікана], але ёй адмовілі. Яна мелася гдзе-што ўзяць з сабою са скромных падаркаў. Нам крыху сорамна, але што вартае ў нас ёсьць удома — дык гэта ад Вас, таму і ня ведаем, што паслаць Вам, дарагія. Бачу, што Вы ня ўсе маі лісты атрымалі. Юра прывёз мужу рыжанькую кашульку, якую муж надта любіць, і зялёны ясны джэмпэр, які нашу я. Зялёную кашульку-гольфік і белы свэтар ён пакінуў, з нашага дазволу, сабе. Надта ён цешыцца зь іх, і я радая. Было дзьве сукеначкі, трыкатажную я дала Соні Н. (сястры Міколы Н.) — няхай будзе сваім, калі на мяне замалая. Яна насіла яе ўсё лета! Не скідала! Чорны свэтрык нашу, хоць крыху вузкаваты. Спаднічку дала адной вельмі цудоўнай і вартай жанчыне. Для дачушкі. Пальто і боцікі таксама нашу і дзякую, дзякую. Белую блюзку шырокую прыладзіла сабе і вельмі палюбіла. У гарачыню было халадней у ёй! Аднойчы пісала і папэцкала яе чарнілам. Аж заплакала, але якое было маё дзіва, калі тое чарніла адмылася! Адразу! Во — дзіва! Станічкі ляжаць, чакаюць, пакуль схуднею. Маечку белую муж носіць, а матроскую мы падаравалі. Яе носяць брат і сястра. Сястра носіць, як сукеначку міні, пад паясок. Носяць — як радасьць! Вось кожнаму па каплі радасьці.

Гэта ня я люблю квяцістыя хустачкі! Іх любяць нашы жанчыны — толькі б пабол ей кветак! Людачка, Вы мне хустачкі шлеце, толькі каб не дарагія, лепш не сэзонныя, такія, што ў Вас танныя. Нячаста, але шлеце, аб гэтым прашу Вас. Я маю зь іх радасьць, і мне, пэўна, гэта патрэбнае. А пра лякарства напішэце Юры — які там састаў, можа, ён мне ў Польшчы такое дастане? З нагамі, наагул, стала лягчэй, але яшчэ не зусім добра. Разумееце, Зэльва — гэта амаль вёска, і варункі ня лепшыя.

Цалуем Вас усіх шчыра і сардэчна. Дай Бог Вам шчасьця, мая Людачка! Усяго, усяго Вам добрага!

*Ларыса Геніюш*.

Лялькі тут ёсьць імпартныя, нямецкія, але мы хацелі сваю — з косамі і сінімі вачамі, акуратнейшую. Жаль, што я не змагла Паўлінцы-ляльцы зрабіць бел[арускі] касьцюм.

## 44. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

Зэльва, 25 лістапада 1970 г.

Дарагая Данухя!

У нас, як у нас — ціха і неспакойна… Дзякуй за ліста. У «Жовтень» нічога пісаць ня буду. Калі мой ліст да іх дайшоў, то яны аб гэтым ведаюць. Кніжкі Вашыя ў парадку. Я іх прышлю праз мужа, калі паедзе здаваць адчоты. Нічога ня ведаю, чаму такая напасьць на сябра зь «Нівы»… Божа, Божа: «Они взбесились…»

Юра ня піша. П'е зноў, як бобік… Сьвіньня ён, і больш нічога! Жаль дзетак і сапраўды жаль мне ўжо і Валянціны. Няма розуму, лічы — калека! Ты недзе глядзіш цяпер «Сагу аб Фарсайтах», ці гэта ўжо было? Я яшчэ тыдзень сьмяялася з тае Фаі… Во, балбесы! Ты мне словам ня ўспомніла, што робяць тыя «герої» ў Менску? Ці хутка выйдзе Міколава кніжка пра Скарыну? Нам жа зь іх ніхто ня піша! Я ўшаноўваю іх пярэпалах і век ім слова ўжо не напішу!

Данухя, я паслала А[ляксею] М[іхайлавічу] нейкую сваю малую паэмку на тэму легенды аб крадзенай нітачцы і тканым за ноч ручнічку. Ці ён атрымаў? Пытаюся таму, бо часам робяцца дзівы, як на тыя мае 60 гадоў… Няхай ён сабе яе пакіне, толькі шчыра напішы мне свае заўвагі. Ёсьць там многа з тых думак, якія твораць бяссоньне.

Муж слабее нейк, каб зайсьці ў баню ці на працу — бярэ таблетку… Аднойчы ледзь ачуняў ад валакардзіну… Такія справы. Пагода як у нас, так і ў Вас, няпэўная. Шэра, мокра, нявесела. У Аляксея Міхайлавіча пытайся аб тым лісьце! Называецца паэмка «На пераломе дзён». Ну, бо пасьля пачаліся мы ўжо «приобщаться к культуре»…

Пазвані яму і напішы мне адразу. Я хацела яе паслаць у Беласток на 15-годзьдзе «Нівы». Ці варта? Верш там ня Твой, і Ты будзеш з гэтага толькі іранічна пасьміхацца, ведаю Цябе… Што да Олінага Юркі. Дык пакінь іх самім сабе, можа, разьбяруцца. Оля такая маладая. Няўжо сьвет клінам сышоўся, і яна ўжо нікога ня знойдзе?

А Валерык — маладзец! Кожнаму цікава маляваць, і ён не вінаваты! Знача, для Вікі трэба купіць другі партфэлік, болей модны — і ўсё… Мая кніжачка ня выйдзе, а я, дурань, Цябе паслухала і падпісала тую ўмову! О, неба, кусаю сябе цяпер за пяткі… Навошта мне гэта было рабіць?.. Як Эрык? Не марозь яго пад тым коцам! Жаль яго мамы, добрай бабы Казі, бо Ты лепшая за ўсіх другіх.

Цалую Вас шчыра. Правітаньні Вам ад Івана Пятровіча.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

P. S. Толькі што атрымала тэлеграму зь Вільні аб сьмерці сябра Адольфа Клімовіча. *Л*.

## 45. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 29 лістапада 1970 г.*

Шчырапаважаная Людвіка Антонаўна!

Вярнуўшыся зь Вільні, атрымала ліста ад Вас. Шчыра дзякую. Пішаце праўду: «Пакуль ня лёг — быў актыўны, рабіў што мог і як мог для Бацькаўшчыны». Жаль, вялікі жаль, што нікога, акрамя Сергіевічаў і Багдановічаў, не давялося мне бачыць на ягоным пахаваньні. Нават на імшы ў касьцёле, якая была вельмі ўрачыстай. Былі палякі, былі і літоўцы, якія на два дні адпрасіліся з працы, каб пахаваць, фактычна, чужога ім чалавека. Зь якой прагай выглядала я беларусаў…

Нейкі грамадзянін Кратовіч (ён быў з жонкаю) даў нам тэлеграму. Я неяк дасталася ноччу ў Вільню з адной думкаю — каб не спазьніцца… «Баяліся прывітаць мяне

з 60-лецьцем?» — кажу п. Вэраніцы [Клімовіч]. «Баяліся…» — шчыра адказвае. А я вось не баюся, бо ня страх хаваць добрых людзей. Лёс нашага народу цяжкі і складаны, і дзякуй кожнаму, хто дапамог яму паводле сілаў сваіх і магчымасьцяў устаць з забыцьця. На шляхах не залежыць, а залежыць на чэснасьці і на шчырасьці беларускай. Калі ўстаюць зь нявολі, дык шляхі не разглядаюцца вокам судзьдзяў — толькі вокам патрыётаў…

Муж мой на пахаваньні ня быў. Ён ня здужаў бы перанесьці дарогу і пахаваньне. Я ў Вільні чулася адумыслова, а ўдома раскісла зноў.

Усяго Вам добрага, Людвіка Антонаўна. Дзякуй Вам за тое, што хоць Вы ўспомнілі добрым словам памершага, і я веру, што каб былі сілы, дык і асабіста аддалі б апошнюю пашану яго целу. Што ж, спачывае ён на роднай зямлі ля сэрца свае сялянскае маці. Вярнуўся малы сіротка, які некалі выйшаў у сьвет па навуку і праўду для сваяго роду. Няхай жа лёгкай будзе яму родная зямелька!

Яшчэ раз дзякую Вам за ліста, з павагай да Вас — *Ларыса Геніюш*.

## 46. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 14 сьнежня 1970 г.*

Дарагая Людвіка Антонаўна!

Дарма Вы так загневаліся на мяне за апошняга маяго ліста. Вы яго ласкава прачытайце яшчэ раз — ці ёсьць там папрок адносна Вас і Шнаркевічаў, якіх я зусім ня знаю асабіста, толькі ведаю, што гэта старыя і хворыя людзі? Чаму ж Вы лічыце толькі сябе дастойнымі беларусамі? Я ж знаю там іншых — маладых і шляхотных людзей, якія гутараць па-нашаму, ёсьць нашы і будуць такімі вечна! Можа, яны не прыйшлі на пахаваньне зь якіх-небудзь паважных прычынаў, можа, таму, што не лічылі патрэбным прыйсьці, і за гэта папрок ім, але казаць, што іх няма, як Вы гэта пішаце, нельга! Яшчэ старыя рымляне казалі: «De mortius aut bene, aut nihil»… І сяньня ў нас ніхто не прасьледуе ішоўшых за гробам, тым болей у Вільні… Таму няхай яны пойдуць адведаюць удаву і хоць гэтак зложаць пашану с.п. Адыйшоўшаму, бо ня бачыць іх там, гдзе вельмі хацелася бачыць, — сумна… Гэта памылка малодшых, і нам, старым, сьлед на гэта ўказваць і прыгадваць людзям, што памрэ кожны, хто нарадзіўся! Як жа казаць, што іх няма, калі я зь імі гутарыла, гдзе каторых ведаю даўно, іншых — нядаўна, а аб другіх чула ад людзей і ад мужа! У нас нядаўна, на днях, хавалі настаўніка, і мы ішлі туды ўсе — і чужыя. Можа, у Вас іначай, тады прабачце, але ў нас тут — так!

Што да папроку Вашага, што некаторыя людзі (ня Вы, безумоўна) хаваюць дарагіх сэрцу «за дзякуй», то калі гэта датычыць мяне, дык Вы, дарагая Людвіка Антонаўна не памыліліся! Я даўно ўжо адчуваю гэтае «дзякуй», пачынаючы ад 25-ці гадоў зьняволеньня, якое разгарнула гэты чорны ружанец, і канчаючы Вашым апошнім лістом.

З пашанаю да Вас — *Ларыса Геніюш*.

## 47. ЛЮДМІЛЕ БАКУНОВІЧ

*Зэльва, 11 студзеня 1971 г.*

Даражэнькая Люда!

Учора атрымала ад вас мілую картку аб тым, як зьбіраецеся сьвяткаваць Новы год, а сяньня — хустачку і рукавічкі! Мыта — 9 руб. Баюся, што дзед мне не аддасьць рукавічкі, а хустачка — што трэба! Прыгожая! Дзякуй! Сяньня ўжо выслала Вам «авиа» [поштай] 4-ы нумар «Помнікаў…»! Харошы нумар! Мне асабліва спадабалася аб нашых летапісах, на падставе якіх аўтар разбурае адзін «міф». Добра!

Пісаў Юра, нават папытаўся — як у нас з апалам на зіму? Знача — хлопец сталее, разумнее! А з апалам нядрэнна: выпісалі нам 3 куб. дроў — грабу, які і сыры гарыць. Ёсьць торф. Добры чалавек нам гэтыя дровы бензапілой папілаваў. У хаце цёпла, калі няма ветру, бо дзіры ўжо, хата куды старэйшая за нас. А я гдзе што пазабівала фанерай, а на дварэ абклала дзіры цэгламі і зацэмэнтавала. Во — які я майстар! Галоўнае — цэлая страха! Рабіць тут капітальны рамонт не аплаціцца, бо ўсё трэба новае. Як дастану фарбы, дык заўсёды пабялю яе і пафарбую падлогі, а вокан не дастаем двайных, бо ўжо зусім рассыпаюцца. Хата чакае — пакуль памрэм (ня толькі хата…), а мы яе любім — старую, сялянскую, абшырную, гдзе ёсьць месца на ўсе мужавы кнігі і для шчырых людзей, калі яны нас адведаюць.

Муж мой, на жаль, ня ўмее трымаць малатка, ён зусім «інтэлектуал» і крычыць на мяне вясною: «Маці, не гарадзі сама плот, не рабі ўстыду, не касі панадворак!» Я сьмяюся, бо хто ж зробіць, калі ў кожнага свае справы? Не, не прападу нігдзе і ніколі, бо ўсё ўжо даводзілася рабіць. Толькі б таблеткі…

Людачка, ці атрымалі мой здымак-паштоўку? Ну — пазналі мяне? Як Анечка, як дзеткі ў новым годзе? Як прайшлі сьвяты? Рая мне напісала апошняга ліста 12 сьнежня, што зь ёю, ці не хварэе? Папытайцеся ў яе, Людачка! Кладу ў ліст дзьве марачкі з нашымі клясыкамі. Людачка, і я вельмі люблю архэалёгію, гісторыю і нашую мінуўшчыну, а «Песьняю пра зубра» М. Гусоўскага я захопленая да сьлёз. Я наагул толькі гэтым і дышу…

Мне нялёгка жывецца, ведаеце самі, але мне бывае добра, калі нешта добрае зробіцца для нашай Радзімы. Я магу нічога ня бачыць кругом і адчуваць толькі нашую мінуўшчыну. Я вельмі люблю хутар маіх бацькоў, часта хаджу да знаёмых і здалёк на яго паглядаю…

І Вас люблю ўсіх — вельмі, вельмі… Божа мой, усяго Вам ня скажаш, што на сэрцы. Цалуем абое Вас усіх, чакаем лістоў.

Вашы *Геніюшы*.

## 48. ВАЛЕРЫЮ ПАЛІКАРПАВУ

*Зэльва, 17 траўня 1971 г.*

Шчыра паважаны Валеры Канстанцінавіч!

Дзякуй Вам, што памятаеце пра нас! Дзякуй за ўсё: і за ласкавы прыезд да нас, і за «Помнікі» (жаль, што не дасталі яшчэ № 1 за гэты год…), і за экслібрысы, вельмі харошыя і зьмястоўныя па-нашаму. Мы так зразумелі, што можам іх пакінуць сабе, што і зрабілі.

Сьвята Перамогі, дзякуючы Вам, сталася для нас сапраўдным сьвятам. Іначай заўсёды ў гэты дзень сумую. Па загінуўшых братах.

Не пасьпелі мы пагутарыць аб Кандзінскім. Мяне цікавіць Ваш погляд. Адсутнасьць эстэтыкі і духовай узьнёсласьці ў мастацкіх творах мне не падабаецца. Рэалізм, натуралізм, думку наагул дае само жыцьцё. Мастацтва мусяе гэта ўсё хоць крыху накіроўваць да дасканаласьці.

Дзякуй за вестку аб БелСЭ. Хоць, шчыра Вам прызнаюся, я да гэтага пытаньня адношуся даволі абыякава. Цяпер у нас зацьвілі туліпаны і хораша. У нас засталося цудоўнае ўражаньне аб Вас усіх, і мы вельмі ўдзячныя Вам за мілы візыт. Валі маё вялікае дзякуй за дапамогу — плюс да ўсяго. Цешыць мяне, што яна па-жаночаму мілая, па-гаспадарску спрытная, па-сучаснаму разумная і прагрэсіўная прытым, што робіць яе цікавай.

Пасылаем Вам падпісаныя кніжкі і Беларускі каляндар на 1971 г. Над беластоцкай «Ніваю» згушчаюцца хмары… Жаль было б гэтую харошую газэту.

Дзякуй Вам яшчэ раз за добрае слова аб нас і просім даравацъ нам сялянскую скромнасьць нашых парогаў. Усіх Вас сардэчна вітаем і просім аб нас памятаць і надалей.

З павагай да Вас — *Янка* і *Ларыса Генюшы*.

## 49. ВАЛЕРЫЮ ПАЛІКАРПАВУ

*Зэльва, 31 траўня 1971 г.*

Шчыра паважаны Валеры Канстанцінавіч!

Мілай, вельмі жаданай і вартаснай для нас неспадзеўкай быў ліст ад Вас, экслібрысы і «Помнікі». Ня ведаю, як і дзякаваць. Муж вельмі пераживае, што забыўся Вам палажыць каляндарыум. На стале засталося — два! Цяпер, пасьля Вашага ліста, знайшлі мы яго і каляндар, што ж, радыя — высылаем. Добра, што захаваўся! Экслібрысы ўсе цікавыя. За іх Вам асабліва дзякуй. Мы думалі, што купім «Помнікі» ў кіёсках. На жаль, іх мы нідзе не знайшлі. Выпісалі ж толькі для сябе.

Я паважна прыхварэла, нешта пагана з сэрцам. П'ю лекі і адчуваю, як губляю сілы. Вас мы сардэчна запрашаем да нас у любы час. Мы пераважна седзімо ўдома, і Вам, і Вашым сябрам будзем заўсёды радыя.

Месяц няма ў нас і кроплі дажджу. Кветкі цьвітуць, бо палівaю. Муж чуецца падобна, як я. Гэта пачалося ў нас нейк раптам. Што да Энцыкляпэдыі, дык тут ёсьць несправядлівасьць і тэндэнцыя… А наагул, дык гэта — драбніцы. Болей шкада мне маэстра, ён, як кожны артыст, дбае аб рэкламу.

У нас ізноў ціха. Гутарым з кнігамі, прыходзяць лісты. Як нейкі складаны красворд, трывожыць мяне Кандзінскі. Аб такім хацелася б пагаварыць з Вамі.

Шчасьлівага Вам вандраваньня! А за абяцаны экслібрыс — дзякуй! Цікавіць ён мяне сваім эвэнтуальным зьместам. Гэта няпроста.

Шчыра вітаем усіх нашых знаёмых ад Вас. Усіх родзічаў дарагога Галубка.

За павагай да Вас — *Генюшы*.

## 50. ВАЛЕРЫЮ ПАЛІКАРПАВУ

*Зэльва, 16 жніўня 1971 г.*

Паважаны сябра!

Дзякуй Вам вялікае за «Помнікі»! Мы ўжо ў даўгу перад Вамі, аж сорамна. Ласкава даруйце, што так Вас эксплюатуем. Няма, бачыце, іншай рады.

Вельмі радыя, Валеры Канстанцінавіч, што Вы паступілі ва ўнівэрсытэт. Жадаем Вам памысна яго скончыць. А гасьцей мы чакаем, калі яны Вашыя знаёмыя і хоць крыху падобныя «зьместам» на Вас.

Муж быў у санаторыі ў Палангзе. Яго пуцёўка аказалася звычайнай курсоўкай, і гэта было даволі непрыемна. Загарэў ён, папраўіўся крыху, пасварыўся зь летувісамі. Ён папытаўся ў бібліятэцы часопісаў па-беларуску, дык яму адказалі, што іх няма, бо беларусы адмаўляюцца ад свае мовы. На гэта дзядок адпаліў: «Мы ня толькі не адмаўляемся ад нашай мовы, але і ад нашай старой сталіцы не адмаўляемся»…

Адным словам, яго болей туды пасылаць нельга. Дзед неўгамонны. Удома чуецца горай. Мы абое часам чуемся ўдома пагана і ня ведаем нават чаму? Гарачыня крыху мучыць. Крыху — самотнасьць. Нашыя дзеці і ўнукі ў Баўгарыі, недзе на Залатых Пясках. Мы вельмі радыя, што яны адважыліся на такі рэйс, а галоўнае — на такі кошт… Яны ў нас ашчадныя… Абодва ўнукі зь імі. Пісалі пакуль што з Прагі. У Поль-

шчы моцна хворая мая сястра, і гэта кладзецца глыбокім сумам на маі дні. Што ж, непазьбежнасьць…

Пісалі мне з Гродна пра «Песьняроў» (Оля Іпатава), што яны быццам ужо пераходзяць на лаціна-амэрыканскую тэматыку ў сваім рэпэртуары, і Мулявін ад іх адышоў… Як добра, што яны разам! Чаму ж мне так напісалі? Ці былі на гэта падставы? А здымачак іх з надпісам буду вельмі чакаць і загадзя Вам за гэта дзякую.

Мы Вас часта ўспамінаем, хацелі б яшчэ пабачыць Вас у сябе. Шчыра вітаем Вашу мілую сяброўку Валю і Вашых сяброў.

Са шчырым прывітаньнем да Вас і сапраўднай удзячнасьцю — *Генiюшы*.

## 51. ВАЛЕРЫЮ ПАЛІКАРПАВУ

*Зэльва, 7 верасьня 1971 г.*

Шчыра паважаны Валеры Канстанцінавіч!

Атрымалі Вашага ліста і «Помнікі». Дзякуй вялікае за ўсё. Пётра Яфімавіч, на жаль, нічога нам не пісаў, і мы тут, бы ў мяшку, зусім бяз вестак!

Найвялікшае дзякуй за «Песьняроў». Вельмі яны нам дарагія, і свае першыя ўражаньні ад сустрэчы зь імі (на здымачку!) я крыху запісала ў кніжцы. Цяжка выказаць словам усю радасьць ад іх! Як жа жадаем ім посьпеху ў іх працы, у іх жыцьці! Гнуткія кружэлкі з запісам трох іх песьняў мы тут дасталі. Цяпер рассылаем іх, нашых саколікаў, сваім сябрам. Часамі — вельмі далёка…

Я іх ніколі ня бачыла, чула толькі з кружэлкі. Тэлевізара ў нас няма, а радыё не заўсёды слухаю. У Гродна пад’ехаць мне трудна (з розных меркаваньняў…), але спадзяюся на лёс, які не заўсёды сьляпы, што і мне дазволіць некалі іх паслухаць і ўбачыць. Мы з мужам будзем спадзявацца на гэта, як і на абяцаны візыт нашых мастакоў.

У нас, як і раней, толькі дождж цяпер замест сьпёкі. Дзеці і ўнукі шчасьліва вярнуліся з Балканаў, мы ўжо выслухалі па тэлефоне іх уражаньні і захапленьні. Найбольш спадабалася ім у Празе. Там у нас ёсьць сябры.

Нам так сорамна за тыя «Помнікі», якія Вы пасылаеце, бо ня ведаем, як і чым Вам аддзякаваць. Я радзіла мужу паслаць Вам «Острова в океане» Э. Гэмінгуэя. Ён думае, што гэта ў Баранавічах ёсьць. А іншую рэч, вельмі вартасную і цікавую, ён так палажыў, што ня знойдзе. Дзеля гэтай прычыны аж згубіў настрой. Мы выпісалі цяпер аж трое «Помнікаў», але спатрэбіліся і Вашыя.

Мы нічога ня ведаем пра Вас, пра Вашую сямейку і т. п. Проста нам здаецца, што Вы харошы, чэсны і разумны чалавек, які найболей любіць exlibrysy. Калі будзе ў Вас магчымасьць нас адведаць, — будзем радыя. Засылаем сардэчныя прывітаньні ўсёй Вашай харошай, творчай грамадцы. Усяго Вам добрага.

Вашыя *Генiюшы*.

## 52. ВАЛЕРЫЮ ПАЛІКАРПАВУ

*Зэльва, 26 кастрычніка 1971 г.*

Шчыра паважаны Валеры Канстанцінавіч!

Дзякуй Вам за ліста, за буклет, за памятку. Крыху я затрымалася з адказам і прашу прабачэньня. Гэмінгуэя Вам высылаем, радыя, што купілі яго ў запас, а то болей іх няма. Аб кніжцы Дробава (у апрацоўцы Караткевіча) пісалі мне зь Менску. На жаль, гэтай кніжкі мы нават ня бачылі, і тут яе няма. Дасталі толькі кружэлку нашых «Песьняроў».

Там восем песьняў. Захапілі нас. Мяне асабліва — «А ў полі вярба пахілёная». Так прачула перадаць гэтую песьню можа толькі беларус з крыві і косьці Наднямоньня.

Я ўсё не магу пазбавіцца ад уражаньня. А які акампанэмэнт! Так калі не пяяў, дык адчуваў, напэўна, той, хто стварыў яе, яна проста зашчыра выканана, ажно страх… Няхай жа ім будзе ўдача, нашым саколікам. «Сьпявайце, хлопцы, сьпявайце». Які падтэкст… Якое мастацтва трывалае!

Народная душа аж дрыжыць на іх вуснах, трапяткая, жывая, спрадвечная і вечная. Якое ж цуда — гэтыя хлопцы! Я часта чула Забэйду-Суміцкага. Такое вялікае мастацтва, цудоўны славянскі тэнар (болей камэрны), чуласьць, адчуцьцё, народнасьць! Але такое нешта да болі жывое, народнае, здаецца, я змагла толькі адчуваць, але ніколі мне гэтага не ўдалося ўвабраць у словы. Гэтакая чулая, глыбокая, сьпеўная, да канца адданая ў сваёй чысьціні і ахвярнасьці толькі любоў мая да Бацькаўшчыны…

Няхай яны ня дзякуюць мне за тую кніжачку, надпіс на ёй — гэта ня трэба! Яны нашкодзілі б сабе, і гэта Вы добра ведаеце самі… Няхай пяюць шчасьліва і як найдаўжэй. Гэта ажываюць скарбы, утаптаныя ў жвір прыдарожны, творацца вартасьці.

У нас па-ранейшаму. Муж працуе. Мяне пакрысе кусаюць. Урэшці рэшт я прывыкла. У дзяцей нашых пакуль што ўсё добра. Унукі прыслалі здымкі з падарожжа.

За вокнамі восень — улюбёная мая пара году. Услухваюся ў вятры і так забываюся пра рэчаістасьць. Жаль нам вельмі цёшчы Пятра Яфімавіча, але і мы ўжо накіроўваемся ў тым напрамку. Такі закон жыцьця.

Усяго Вам добрага ад нас абоіх. Вітайце ласкава сваіх сяброў, якія наведалі нас.

З павагай да ўсіх Вас — *Ларыса Геніюш*.

## 53. ВАЛЕРЫЮ ПАЛІКАРПАВУ

*Зэльва, 1971–1972*

Шчыра паважаны Валеры Канстанцінавіч!

Віншуем Вас з надыходзячым Новым годам! Ці атрымалі Вы ад нас Гэмінгуэя і што ў Вас чутно? У нас — па-ранейшаму. Вельмі перажываем за «Песьняроў». Мне здаецца, гаспадары былі негасьціннымі… Ну, а «Песьняры», гэтыя «партызаны», здаецца, — адзіныя мужчыны ў Белай Русі, якія здольныя за сябе пастаяць… Дэталяў ня ведаю, толькі тое, што з газэт, зь «ЛіМа». Бог няхай ім дапаможа! І мастацтву!

Усяго Вам найлепшага! Шчасьця, здароўя, посьпеху!

Вашыя *Геніюшы*.

## 54. ВАЛЕРЫЮ ПАЛІКАРПАВУ

*Зэльва, 10 сакавіка 1972 г.*

Шчыра паважаны сябра!

Дзякуй Вам вялікае за кнігу, якую Вы нам прыслалі на Каляды. Цудоўна напісана пра нашых мастакоў, чыталі з насалодаю.

Не пісала Вам і не прашу даравання. Гэта рабілася з думкай аб Вас. Вельмі была я ўварушана тым, што Вы памяталі аб нас і на 8 сакавіка. Як хораша напісалі прадмову, проста дзякуй Вам за гэта! Цешыць мяне, што некалі нас наведаеце. Вашая ўвага для нас цяпер была асабліва вартаснай. Акрамя ўсяго іншага, мы цяпер пад уплывам апэрацыі страўніка, якую мае перанесці наш сын у пачатку красавіка. Гэта паважная апэрацыя.

Сяння адмовілі яму ў вызаве, у паездцы да нас. Дазволілі прыехаць толькі нявестцы (сав. грам.) і ўнукам (польскія грамадзян.). Ведаю, што сын будзе вельмі перажываць. Падобныя садыстычныя «хады канём», самыя прадуманыя і самыя балючыя, нацэленыя, як звычайна, у мяне. Муж — ён абыякавы да ўсяго, што не яўляецца кнігаю ці яго ўласнай асобай.

Нявестка просіць, каб я прыехала на час апэрацыі, і я яе разумею. Разумею таксама, што ніхто нікуды мяне ня пусціць, і мне тут разарвецца сэрца… Стараюся трымацца. Крыху цяжка таму, што прычапілася да мяне паганая заморская грыпа. 8 сакавіка мы ляжалі абое…

У суботу, 5 сакавіка, я была ў Гродне. Данута Бічэль узяла білеты на «Песьняроў» і мяне запрасіла. Канцэрт мне амаль спадабаўся. Толькі тое, што тав. Яшкін паўтараў песьні спачатку па-расейску, рабіла ўражаньне, што беларускія артысты прыехалі не ў спрадвечна беларускае Гродна, а ў Кітай ці Банглядэш! Яшкін крыху вульгарызаваў, напрыклад, «Скрыпяць мае лапці» і інш.

Не падабалася мне і даволі выйгрышная ў мала патрабавальнай публікі песьня аб «званочку на падалочку». Гэта парушыла тое цудоўнае ўражанне, якое застаецца па песьнях «Александрына», «А ў полі вярба», «Купалінка». Ня вельмі ўдачны (ні клясычны, ні мадэрны) быў іх новы, самастойны рэпэртуар. Былі гэта малацікавыя мэлёдыі і такія словы, якіх ня мог падкрэсьліць у сваёй адумысловай дыкцыі нават адумысловы саліст.

Наагул, канцэрт быў добры, вельмі добры. Я не зьвярталася да іх, бо білет быў. Нешта ім усё пісала Дануся, а што — ня ведаю.

Доўга пасядзелі мы вечарам, хораша паразмаўлялі. Назаўтра я вярнулася дамоў і вось захварэла. Муж мяне гоніць у пасьцель, але я па-бабску ўсё Вам пішу, усё выкладаю. Лягчэй мне.

Пад дрэвамі з размоклай зямлі выглянулі першыя пралесачкі, але зноў скурчыліся, памерзьлі. Хацелася б бачыць «Партрэт дачкі» Станюты ў колерах. Мне вельмі падабаецца «Усьмешка» — і абаяльнасьць у ёй душы жаночай, і спосаб рысунку.

Пытаецеся, што чытаю? Апошняе прачытанае — «Сельские рассказы» Бялова. Перад тым — «Аэрапорт» (з ангельскае) у «Иностранной литературе» і апошняя, ужо пасьмертная, аповесьць Рэмарка. Раджу Вам прачытаць гэта. Бялова мы купілі, а тое — з журналаў.

Што Вы зрабілі з кнігамі, як разьмясьцілі? У Польшчы гэта робяць на ўсіх сьценах, вось прыблізна так. Полкі прыбіваюцца даволі высока, а падстаўкі на вазоны, каваныя з чорнага жалеза, напамінаюць Сярэднявечча. Прабачце, рысунак мой тут няўдалы. Гэтак можна зрабіць ва ўсіх пакоях. Галоўнае — ці Вы ня мерзьлі? Ці працуе ліфт? Проста дзіўлюся, як Вас высока пасялілі. Ці ўдалося здабыць для музея тыя паясы слуцкія з арнатаў? Аб Вашых намаганнях у пошуках музэйных экспанатаў я чытала нават у «Голасе Радзімы». Аб сваёй кніжцы я нічога ня чула. Я думаю, што Вы проста хочаце мяне пацешыць, але гэта ня трэба. Я ж сільная.

Мне вельмі цікава, якія экспанаты Вы знайшлі на гарышчах? Напэўна, старыя шляхоцкія граматы. У нас, як Вам ведама, усё загінула, але застаўся стары дыван мужавай маці. Яго нават ніхто не хацеў украсьці. Мы ўцешыліся, бо гэты дыван вандраваў з мужам у Прагу, і калі было трудна з капейкаю, дык за яго вельмі добра плацілі ў лямбардзе (ручная праца). Я паглядзела — на ім выткана «1900 год». Абяцала яго ў Гудзевіцкі музэй. Мужа маці была зь вельмі багатых памешчыкаў Палубінскіх, а тата быў з Зэльвы.

8 сакавіка скончылася мужу ўжо 70 гадоў, і я хачу, каб ужо ішоў на пэнсію, бо ледва ходзіць. Ён мяне ня слухае. Як маюцца, што пішуць, чым жывуць дарагія сябры? Усім ім шлю шчырыя прывітаньні.

Яшчэ раз дзякуй Вам за памяць, за ўвагу. Прабачце, мой ліст крыху з тэмпэратурай. Баліць горла. Усяго Вам добрага.

З павагай да Вас — *Ларыса Геніюш*.

## 55. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 9 сьнежня 1972 г.*

Данусенька, дарагая!

Учора была Твая зьдзіўляючая цікавасьцю вобразаў і глыбокім зьместам паасобных вершаў «Доля», сяньня — ліст. Усё так патрэбнае, за ўсё Табе дзякуй! Муж хоць ажывае крыху, калі ёсьць ліст. Ляжыць — і яму ня лепей. Я ўжо на гэта ня так рэагую, бо ня лепей і мне самой.

Юрцы Г. нічога не кажэце. Чалавек жа ня можа быць іншым, якім ён ёсьць. Гэта яго такая натура, а можа, крыху і наш страх перад людзьмі яго пакрою. І мы не былі асабліва мілымі да яго. Добра, што А[ляксей] Н[іκіфаравіч] К[арпюк] выйшаў на «сьвет божы». Я так за яго перажываю заўсёды. А Цябе чакаем — як збавеньня! Здаецца, каб хто з добрых людзей хоць дзьверы адчыніў — і то было б лягчэй нам. Янačка ўжо ўставаў, спрабавай схадзіць у амбуляторыю, то ледзь яго прывяла дамоў, быў белы, што мел, а я ўся лякацела.

Вершы Твае — цудоўныя, Ты — наш філёзаф у міні-спадніцы! Ёсьць непараўнальныя пэрлы, як «Нёман», як апошнія звароткі ў кніжцы… Кніжка харошая выйшла. Дзякуй за сардэчны надпіс!

А цяпер як адхукаць сваяго дзеда? Як яго выратаваць? Пішу гэта зусім паважна… Не ўспамінай мне таго майго «шэдэўру» ў «Гродзенскай праўдзе», бо хвароба мая пагоршыцца. Ужо поўдзень, а я ўсё не магу прыйсьці як сьлед да сябе, хістаюся. Хачу расхадзіцца нейк, каб устаць.

Жадаю Табе посьпехаў розных. За кніжку дзякуй — неблагі «дыванчык» у нашую скрыню.

Не рэабілітуй мне В. В. — таго верша не магу яму даравацць. Ёсьць у мяне на гэтую тэму верш, але такога ён не надрукуе, на жаль…

*Ларыса Геніюш*.

## 56. ВАСІЛЮ БЫКАВУ

*Зэльва, 1972–1973 г.*

Даражэнькія! Шчыра вітаем Вас з наступаючым Новым годам і са сьвятам старым і адвечным на нашай зямлі — Калядамі! Няхай Вам усім будзе заўсёды добра!

Я ня гневаюся на Вас, дарагі Васіль Уладзіміравіч, але верш быў недасканалы…

Сталася. Была ўжо хацела клікаць Вас — так было пагана з мужам. Зьбіраўся ў камандзіроўку ў Гродна і захварэў раптам. Грып-не-грып… Цягнецца гэта да сяньня, колюць яго, усё лечаць. Крыху лепей. На работу лазіць, ня слухаецца.

А Вы зусім забыліся пра нас, хоць заглянулі б калі ў хату, праяжджаючы міма. Хоць і не ў Саюзе я, але Ваш абавязак — не пакідаць мяне адну назаўсёды, ды яшчэ ў такім горы. Адхукала мужа, можа, і выратую яго.

Вітайце Надзежду Андрэеўну, сыноў. «Доля» Данусі такая харошая! Як там у Вас? У дзяцей нашых усё добра. Юра задумаў рабіць дактарат.

Усяго Вам добрага — *Геніюшы*.

## 57. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 21 лютага 1973 г.*

Дарагая Дануся!

Чытала ліста і ледзь ня плакала… Шкадую Валерыка. Гэта такое наіўнае, залатое, не самастойнае птушаня. Чаму так далёка яго завезьлі? Гэта ў Вас адзіная інфэкцыённая больніца? Дзетак так далёка ад мам! Неверагодна! Ня меней жаль Цябе, дарагая. Я разумею, што значыць хворы сын, яшчэ такое роднае, маленькае… Ці доўга ён там будзе? Няхай частуе сяброў, нічога, абы толькі быў крэпенькі! Вер у яго «мужнасьць». Усё ж нейкі догляд там ёсьць. Галоўнае — каб не перастыў, а з жаўтачкі, напэўна, ужо папраўляецца. Вазі болей кампотаў (ці яны ў цябе ёсьць?), цукеркаў, асабліва шакаладных, ня трэба! Як ён выглядае? Адным словам — трымайцеся! Абое!

Што хочаш аб маіх вершах, тое і гавары з Валодзяй. Ты дрэннага ня скажаш, паганага нам не пажадаеш! Маладцы хлопцы, што выступяць і заробяць. Жыць жа нейк трэба! Сяньня я атрымала 15 руб. з Украіны. Як прыдаліся! Мала і засталося! Дзедзіку выцягнулі траячку з кішэнькі ў бані, дык я была рада гэта папоўніць! Задаволена сьмяўся. Нейк трымаецца, усё чытае «Хрыста» памаленьку, з роздумам, з камэнтар'ем.

Можа, яны заедуць у Зэльву? Гэта было б няблага! Чым хата багата, ды пагутарылі б. Ліста маяго з панядзелка Ты, напэўна, ужо атрымала. За «Вясёлку» дзякуй! Грошай лішніх не бывае ніколі… Напішы, як выступалі тыя два тузы — салідная фірма, калі гавораць ці пішуць. Я ўсё аб адным, аб Валерыку, і болей перажываю за Цябе, чымсьці за яго, беднага. Адчуваю, што мучышся. Калі ён не сумуе, дык і гэта ўжо добра!

Аб Алесіку я Табе ўжо пісала. Паправіўся, а галасок — як нітачка… Пакуль павырастаюць! Прачытала сяньня ў Паўстоўскага, што ёсьць багема «французская, которая всё-таки создавала людей, а остались следы богемщины сивушной, российской, безнравственной, плодящей неуважение друг к другу»… Гэта са стацьці «О детской литературе». Разумны і сумленны чалавек!

Пішы мне аб Валерцы! Няхай усё ў Вас будзе добра.

Вашыя *Геніушы*.

Даходжу да высновы, што кожнае дзіця — гэта непадзельная ўласнасьць мацеры, ну і бабы зь дзедам… Цалую Вас усіх. *Л*.

## 58. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 22 сакавіка 1973 г.*

Дарагая Дануся!

Спадзяюся, што ў Вас усе здаровыя, і Ты маеш ужо сваяго Валерыка ля сэрца. Трэба яму яшчэ трымаць дыету, і гэта, напэўна, ня так лёгка. Муж ляжыць, нешта яму нядобра. Учора езьдзіў па шчанючка (за 20 руб.), але гаспадары раздумалі і не далі яму тую малую аўчарачку. Мой дарагі Яначка так расстроіўся, што меў з гэтага тэмп. 37,5°. Тузіка ўжо ў нас няма, а маюцца прыехаць унукі. Можа, Вы там напытаеце якога ваўка ці аўчарку? Я зусім не жартую. Дзед захварэў! У яго ўжо такая натура — любоў да кніг і да сабак.

Ня ведаю, як ужо Табе і дараваць Тваё маўчаньне. Век Табе не пісала б, каб ня справа. Адзін сябра, чэх, які пераклаў ужо Валодзіна «Дзікае паляваньне караля Стаха», зрабіў пераклад і «Дануты» А[ляксея] Н[ікіфаравіча] К[арпюка]. Сябра гэты пасьля інфаркта і ўжо трапіў пад клясыфікацыю «j» (яшчэ ёсьць «L» і «B») «падазроных і нявывераных». Ён ужо здаў «Дануту» ў выдавецтва, але баіцца, бо калі А[ляксея]

К[арпюка] выключылі сапраўды з СП, дык і перакладчыку нездабраваць. Чакае зьвестак.

Напішы мне як найхутчэй, як маюцца справы з дарагім нашым А[ляксеем] К[арпюком], і памяркуйцеся там, што рабіць. Проста чалавек баіцца, што яму могуць забараніць выдаваць творы нашых таленавітых пісьменьнікаў, разумееш?

Добра было б, каб Ты да нас пад'ехала на гадзінку. Мы заўсёды радыя Цябе бачыць, а сонейка — цудоўнае, а подых — вясьняны! Даруй, што прашу Цябе аб гэтым, дарагая, хоць ведаю, як Табе вырвацца з дому. Як здароўе Эрыка, бабусі і Вікі? Ці спакой і згода? Маўчы, Данусенька, і ўсё перанось, бо слова дае слова, і ўсё — толькі псаваньне нэрваў.

Чула, што ў «ЛіМе» тры паэтэсы — Вярба, Іпатава і Баравікова — сварацца. А гэта тое, чаго нам ня трэба! Няхай усюды — мір! Нэрвы, нэрвы трэба сьцерагчы перадусім! Аб маёй «махеры» — ні слыху, ні дыху… Што ж, мне жаль з многіх меркаваньняў.

Унукі і дзеці віншавалі нас з 8 сакавіка. Болей не пісалі. Нейкі цудоўны дзядзька з Гомельшчыны радзіць мне есьці мёд і напісаў, якія вітаміны прымаць. Раней радзіў мне бег трушочкам…

Жэня з Андрэйкам у красавіку ўжо едуць да таты. У мяне густа беляхцяць падсьнежнікі.

Цалуем Цябе і абнімаем. Тваі *Геніушы*.

Цалуй хатніх! Пішы, як Твой тата? Наагул — акажыся. *Л.*

## 59. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 24 сакавіка 1973 г.*

Мілая Данусь!

Учора напісала Табе ў справе перакладу «Данутьі» А[ляксея] Н[ікіфаравіча] К[арпюка] праз Вацлава Ж[ыдліцкага]. Хутчэй адкажы мне на гэтыя пытаньні. Ці многа Ты маіх вершаў паслала ў «Вясёлку»? Справа ў тым, што яны могуць з часам надрукаваць толькі «Зубры» і «Зайчык». Сяньня мне гэта напісалі. Так, гэтыя драбніцы найболей падыходзяць для «Вясёлкі».

Меў Юра ў палове сакавіка пераслаць мне чорныя туфелькі праз Гродна, але ні туфляў, ні вестак ад іх — нічога! Выйшла з друку «Літаратурная Беласточчына» — вельмі маленькая, але даволі мілая кніжачка. Ці маеш яе? Я ўсё спадзяюся, што дастане мне яе «дарагі Міколачка», але цяпер, калі ён ужо старшы супрацоўнік АН ды яшчэ ўласьнік новых апартамэнтаў, дык недзе начыста забыўся аб усім, з гэтымі фактамі не зьвязаным!

Як сын? Як гэты непаседа? Ці прыйшоў крыху да нормы? Слухалі мы перадачу праз радыё аб найнавейшых досьледах аб пытаньні зубоў! Дык галоўнае — не даваць дзецям салодкіх рэчаў! Як найменей цукеркаў! Чысьціць зубкі рана і ўвечары. Салодкае раскладаецца і адрагу псуе карнявішчы зубоў і эмаль!

Як чуешся? Чаму ні слаўца няма ад Цябе? Іван Пятровіч ізноў мне тут тэмпературыў. А сяньня ўцёк у Ваўкавыск па кніжныя навінкі. Як даедзе туды і назад — дык баюся думаць…

Олю Корбут і яе сяброўак прымаў Ніксан у Белым доме, гаварылі. Во маладзец! Усяго Вам добрага! Пішы.

*Ларыса Геніюш.*

Як чуецца Твой тата?

## 60. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва 26 сакавіка 1973 г.*

Дарагая Данусенька!

Учора атрымалі ліста ад Цябе і радыя, што хоць хлопчык удома. З ангінаю нейк справішся. Цешыць тое, што Віка — выдатніца, а што ў пестуна «3» са сьпеву, дык ён жа Табе не Каруза! Нат не Забэйда, а будучы інжынер! Глупства гэта!

Падабаецца мне, як Б[ондараў] у «Літ[ературной] газете» хораша напісаў пра Васіля! Толькі цяпер я зразумела глыбокі сэнс яго аповесьці. Гэта такая славянская вернасьць і ўпартасьць. Немец сказаў бы: «Такое ня сплаціцца…»

Спадзяюся, што два маі апошнія лісты Ты атрымала. Дай як найхутчэй адказ! Можаш — Жэні.

За добрыя навіны зь Менску — дзякуй! Міколачка надаслаў мне ўчора 10 «Казкаў» і 2 «Беласточчыны». Каб хоць слаўцо напісаў. Дзякуй за маю будучую дзіцячую (кніжку), але глядзі, дзяўчо, каб не дала там зашмат чужых словаў! Далучаю Табе аднаго ліста (вярні мне яго), каб разумела, у чым справа. Напрыклад, «кашуля, вышытая ў рагулі»! Трэба — «у рагулькі», такія кветачкі, якія цьвітуць разам з валошкаю ў жыце, а рагулі — гэта ж проста каровы! Можа, гэта і не твая віна, ну, але так выйшла. Даруй, што гэта пішу, ня «пстрыкай» і не хрысьці мяне няўдзячніцай, бо гэта я толькі абмяркоўваю з Табою тое, што належыць нам абмяркоўваць.

У чым езьдзіла ў Менск? Як выглядала? Гэта для беларускай паэтэсы вельмі важна!

Што да дарослага зборніка, то такая (між намі) мяне ахапіла неахвота ні жыць, ні тварыць… Але гэта ўсё пры сустрэчы. І чаму Ты так далёка забралася? Я пасьля зноў крыху ўстрапянуся. Нічога. Паехаць мне ў Менск проста нельга. Муж у суботу паехаў (папоўз) у Ваўкавыск у кнігарню, дык нейкі, на вока п’яны, так да яго і да яго кніжак нагла ўчапіўся, што бедны дзед ледзь не зьвярнуўся да міліцыянера, толькі яго нігдзе не было. Справа ясная, мне такое здараецца на кожным кроку. Дарога ў Менск далёкая…

Лячы сваё маленства, і я гэтак хукаю на сваяго дзедуся…

Цалую Вас усіх сардэчна.

*Ларыса Геніюш.*

## 61. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 3 красавіка 1973 г.*

Дарагая Дануся!

Твой ліст прыйшоў пасьля маяго апошняга да Цябе, яны разьмінуліся. Вельмі цешуся, што кніжка тая выйдзе па-чэску. Добра, што ўжо бегае па двары Валерык. Толькі добра яго апранай! Вясна заўсёды з капрызамі. Дасталі вызаў і выслалі дзецям. Прытым выслаў ім муж некалькі пачкаў кніжак, а ад іх няма ліста ад 8 сакавіка! Каб ня тая машына, дык не бяда, а так думаецца.

Знайшла нейкі стары «гераічны» верш, які вельмі падабаўся Алесіку, дык і яго Табе пасылаю. Ці не загневалася Ты за ліста таго незнаёмага дзядзькі, зь якім, між іншым, я згодна! Ліста адашлі, а гэты дзядзька нейкі вельмі цікавы чалавек.

Я крыху працавала ў гародчыку, загарэла. Былі з мужам на адным слаўным балі. Было 50 гадоў нашай знаёмай і 25 гадоў іх супружжа. Яны зрабілі нам многа добрага, і нельга было да іх не пайсьці. Былі гадзінку. Баль быў у вялікай залі нашай зэльвенскай сталовай. Калі адыходзілі, схапіў мяне нехта ў танец — на 7-м дзясятку! У плашчы! Адным словам — яшчэ жыву!

Пісаў Міколачка — яшчэ ўсё не ў кватэры! Нэрвуецца, бедны, і піша вельмі абыякава, збольшага… Болей — ніякіх вестак, а гэта для мужа горай, як хвароба.

Жэні напісала зараз жа. Яшчэ ад яе ліста няма. У канцы месяца яна ад'яжджае да мужа. Пішу, а ў сьцяне стукатня чортавая… Ты ж чула? Сяньня —дзень бяз сонейка, і мне нейк нявесела.

Як даеш рады ўдома? Будзь добрай, добрай і яшчэ раз добрай! Як жа хочацца Цябе бачыць… Цалую Цябе моцненька. Цалуй дзетак, кланяйся бабусі і мужу. Напішы, як Валерык.

Твая *Ларыса Геніюш*.

На днях быў у нас Бітэль зь Лідчыны. Выпілі чарку. Малую, бо ў яго быў інфаркт. *Л.*

## 62. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 12 траўня 1973 г.*

Даражэнькая Дануся!

Вельмі хацелася мне Вас пабачыць, але, пэўна, з гэтага нічога не атрымаецца. Нельга бяз догляду пакінуць ні мужа, ні Альму. Сяньня даждліва, няма работы ў гародзе, дык ёсьць што рабіць удома. Вару, кармлю, мыю. Крыху чытала мужу. Прытым захварэла наша бязьдзетная сваячка (мужава), і туды трэба падбегчы. Сьвяты прайшлі традыцыйна, даволі адзінока, што мне не перашкаджае. Позна зацьвітаюць туліпаны, але будзе іх многа. Сяньня дажджом ужо прыходзілі па букет. Змокла.

У дзяцей, як быццам, усё добра. Прыедуць у ліпені ці жніўні — залежыць ад водпуску. Яшчэ не віншавала Караткевічаў з навасельлем. Хацелася б зрабіць гэта асабіста, але немагчыма. І як Надзежда Васільеўна будзе ўзьбірацца на 5-ты паверх — не ўяўляю…

У мяне нейкі абсалютны занік памяці. Мусіць таму, што думкі не выліваюцца на паперу і засланяюць мне ўсю навакольную рэальнасьць… Бродзіць нешта ўсё, бродзіць…

Разумею Твой страх за здароўе сына. Пакінь усё догляду, прыродзе, часу. Ён харошы, разумны хлопчык, толькі не прыйшло яму ў галоўку, што ёсьць наўкол рамкі, нават у першай яго клясе. Здаецца гэта яму нелягічным, і ў яго ўяве было іначай. Вучыцца ён будзе ўсё лепей і лепей. Пачне разумець жыцьцё. Добра, што Віка — выдатніца. Хоць гэта Табе — маслам па сэрцы. Не сказала б, што Валерык горшы!

Тваіх «Доляў» было ў нас толькі 5. Расхваталі. Ад фізычнай працы атупела начыста і ня ведаю нічога, што робіцца ў беларускім сьвеце. «ЛіМ» гаворыць вельмі ж ужо мала.

Нейк апошні час ня так далягаюць думкі і боль аб маёй сям'і. Падзіўляю вытрывальасьць сваяго мужа, але часам мне здаецца, што эгаіст ён, «крэпасьнік» нейкі — і болей нічога… Гэта што датычыць мяне…

Бульбы мы не садзілі. Калі бачу прагныя вочы людзей, якія тут змагаюцца за соткі (даюць па 5 сот. на сям'ю), дык робіцца мне страшна. Людзі так прагнуць кусочка зямлі, яе так многа ў нас і так нікчэмна мала для тых, хто прагне засадзіць яе сам ці засеяць. Разглядаю гэта як атавізм нейкі, векавую цягу да ніваў. Пакуль гэта ахалоне, перабродзіць у душах, але стануць яны пустыя, бяздомныя, выхалашчаныя з усяго.

Яблыні — у квеце! На ўсё гэта сыпле дождж. Відно, зацягнёны будзе. Вельмі пахнуць на стале нарцызы. Нейкае дзяўчо надумалася маляваць мяне на выстаўку партрэтаў — пад калгасьніцу, бо іначай сяньня ня модна, не папулярна… Думаю, як выкруціцца з гэтай авантуры. Нешта тут сьмярдзіць. Намалюе мяне пад Пікасо, зробіць нос на лобе і скажа, што гэта я, менавіта…

Міколачцы напісала, адказала на тры лісты, рада, што хоць цяпер ён — поўны пан у сваім уладаньні. Мне адыходзяць ногі, былі папухлі. Лістоў ніадкуль няма, тая «махера»

загінула, пэўна. Мне гэта так абыякава сяньня. Былі ў нас нейкія селькоры і ўсьведамлялі мяне, што цяпер Расея, Беларусь і Украіна — адно, і толькі так трэба падыходзіць да справы. Падзякавала. Трэба бяліць хату, і баюся, што ізноў апухнуць ногі.

Альма расьце, я, на жаль, ня маю ніякіх пэдагагічных здольнасьцяў, каб зрабіць зь яе дзіва. Яна проста есьць, брэша, лашчыцца і меней робіць «лужачкаў», як рабіла. Вельмі прыгожая, муж нейк сказаў — «бажэсцвенно!» Адным словам — сабачая Афрадзіта!

Можа, нашую сваячку трэба будзе везьці ў Гродна (у яе цукроўка). Дык калі возьме з сабою — прыеду. Аўтобусам, сама баюся.

Неба ўсё яшчэ ня выплакалася. Сваруся з мужам, каб схадзіў у лазьню — цяжка яму дайсьці туды. Успамінаюцца Прага і кватэра з выгодамі. Такая прыдалася б на старасьць…

Жэня паехала, бо ня піша. Чакала Сяргея.

Напішы мне, Данися, хоць нейкія навіны зь вялікага сьвету, а то толькі: бульба, соткі, бульба, гароды, і часта немаведама што варыць. Напішы аб усіх. І аб тых, аб кім не пытаюся. Вось мой дзед, калі хацеў трапіць у Гродна з Гудзевіч, дык сядаў на параконны, хораша выcланы воз, і толькі ўзіраўся на палі па дарозе, а колькі перадумваў!

Няхай хораша растуць Твае дзеткі і пішуцца дасканаласьці! Цалую і абнімаю ўсіх у Вашай хаце! Да сустрэчы, Данися!

*Ларыса Геніюш.*

Ад мужа ўсім прывітаньні.

## 63. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 29 траўня 1973 г.*

Дарагая Данися!

У нядзельку быў ліст ад Цябе, у панядзелак — ад Вікі. Як хораша піша дзяўчынка! Адкажу ёй пасьля. Сьпяшаюся сяньня, мыю бялізну, машынай, праўда, але воду трэба насіць. Кветкі былі выключна для Вас, а прывітаньні — усім. Іх жа была жменька. Я думала, што нарву вядро кветак і тады прывязу ўсім, а гэты чалавек узяў толькі букецік, ён вельмі хацеў пабачыць Цябе, бо любіць Тваю паэзію, ды і тая «любоў» была болей для Цябе, мая Ты харошая «Адзінота». Што ж, паэты заўсёды — «адзіноты»! Яны — ня цеста, а тыя дрожжы, ад якіх трэба, каб хадзіла цеста! Дзеці — гэта таксама твае паэмы, прытым, вартыя!

У пятніцу будзе Юра ў Вільні з экскурсіяй. Валя піша, каб ехала туды, каб ён ня выпіў там лішняе чаркі, бо сябры там — ёсьць! Ня ведаю, ці можна яму будзе адлучацца ад экскурсіі, ці здароўе і абставіны дазволяць мне паехаць. Хочацца бачыць сына, і гэта Ты як маці ведаеш… Але тыя абставіны, абставіны… Слабыя мы з маім дзедам ужо. Маліся за мяне вершамі, я адчую Твае думкі. А кветачкі сапраўды былі толькі для Вас… Жаль, што не прыехалі да нас — вось была б радасьць!

У нядзельку былі Мартынчыкі ў нас (рэнтгенолаг з Гродна). Пасядзелі, папалуднавалі, было вельмі міла.

Юра зноў папівае, а яму нельга — вось маё гора… Віленчукі пішуць, клічуць — дык, пэўна, паеду. Альма расьце, разумнее, і дзеці нашыя чакаюць болей спатканьня зь ёю, як з намі.

Вось і ўсё, дарагая! Пацалуй Віку і ўсіх-усіх — і тых, што ўдома, і тых, што ў сэрцы і ў розуме. Яначка ўсіх вітае.

Ваша *Ларыса Геніюш.*

Пры першай магчымасьці, калі зможаце, дык прыяжджайце. Вось зараз будуць півоні. Цалую. *Л.*

## 64. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 5 ліпеня 1973 г.*

Дарагая Данусю!

Вельмі непакоюся, чаму Ты ня едзеш. Напэўна, дрэнна з бабусяю, ці якія іншыя клопаты. Дастаўца кветак вельмі рад са сваёй функцыі, бо паважае таленты і з радасьцю сьпяшае з добрым.

Учора быў харошы ліст ад Вікі. Яна піша фантастычную повесьць з асяродзьдзя сваёй клясы! Вельмі было міла яго чытаць, бо напісаны ліст харошай моваю, без памылак. Чакаю Цябе. Сябрам прывітаньня не перадавай. Я ня думала, што так мала значу для іх. Столькі часу ніхто нават не аказаўся. Робяць яны гэта толькі «па загаду», а бяз гэтага я абыдуся. Я не бяру пад увагу А[ляксея] М[іхайлавіча] П[яткевіча], бо ён — чалавек спрыяючы і харошы.

Моцна хварэла, тэмпэратурыла, а цяпер толькі загойваю пабітую руку, палец на назе і ўсе сінякі. 10 ліпеня чакаю сястру з сынам (стрыечную) з Сочы. Хачу паехаць з імі ў Гудзевічы на дзень. Іначай я ўдома. Калі б Ты прыехала, дык дзянёк магла б тут пабыць зь дзедам і безь мяне.

Нікога ня бачу, ніхто ня піша. Ад дзяцей ужо месяц як няма лістоў. Часам урываюцца людзі, якіх бачыць ня хочацца, ну, але я цяпер не цырымонюся зь імі. Дык бяры пруточкі і едзь да нас. Мне зьвяжаш хустачку, а сабе — што хочаш!

Цалуем Вас і жадаем усяго-усяго найлепшага.

*Геніўшы.*

P. S. Гдзе Валерычак? Можа, захопіш яго з сабою? Яшчэ раз цалую. *Л.*

## 65. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 9 жніўня 1973 г.*

Дарагая Данусю і дзеткі!

Дзякуй вялікае за ліста. У мяне галава аж трашчыць, а ногі — зусім не маі. Не даю ўжо рады справіцца з усімі сваімі клопатамі, а іх — безьліч. Учора Валя зь дзяцьмі паехалі да сваёй сястры ў Гомель, і мы тут засталіся толькі зь Юраю. Муж бярэ водпуск з 20 жніўня. Унукі павырасталі, але дзяцінныя, як ім і належыць быць. Віск-піск, тупат, сьмех і брэх Альмы, але калі вяртаюцца зь ёю з рэчкі, дык ляжа, бедная, і ледзь сапе — так яе заганяюць. Цяпер ляжыць і грызе костачку.

Часта Вас успамінаем і зайздросьцім, што маеце столькі баравікоў! Мілая Віка, насушы мне іх хоць жменьку! У нас няма каму па іх зьбегаць, бо лес далёка, а ў нас усе — «гультаі». Раз хадзіў у лес Міхасік, і мы елі смачны грыбовы суп. Я ўсё вару, пяку, смажу, мыю і зноў вару. Кармлю сваю сямейку. Валя крыху памагае, але крышачку… Грошы плывуць з маіх рук, як вадзіца… Алесь накрывае мне стол, кладзе вілкі і нажы і чакае «бусі ад бабусі». Хачу напісаць вершык. «Добрай раніцы, Алесь» — вось так, думаю, і назаву тую кніжачку. Міхаську купілі гантэлі, якія ён сам выбраў. Алесю — гадзіньнічак, які ён адразу замяніў на Міхасёў стары, бо там была сэкундная стрэлка. Юра чуецца добра. Часта зь ім гутарым. Адным словам, усё ў нас добра.

А калі Табе пасьпеў напісаць В. Ш.? Няхай ён будзе такі шчыры, палкі і харошы, як ён ёсьць, але на Палесьсі Табе, мая галубка, пакуль што няма чаго рабіць. За некалькі дзён зноў вернуцца ўнукі, больш закаханыя ў Альму, як у сваю бабусю, і калі я вытрымаю (не звалюся) да канца, то можа, і адведаю Вас разам зь імі. Многа з іх радасьці, многа сьмеху. Ядуць з апэтытам, асабліва ўсё печанае. Вечарам, калі думалі, што я сьплю, дык

Алесь пытаецца ў Міхася: «Ці ты маліўся Богу?» А Міхась кажа: «Алесік, папрасем у Бога, каб мама дазволіла ўзяць Альму ў Беласток». Алесь кажа: «Няўжо ж Бозенька будзе слухаць аб сабаццы?» Міхась: «Усё ж папрасем, можа, паслухае». Алесь: «Хутчэй паслухае маму, бо яна добрая, а ты, Міхасік, курыў папяросы на колёніі (піянэрскі лягер), дык цябе не паслухае…»

Я прашу Міхася, каб пайшоў у кіно з намі, а ён кажа: «Мне збрыдла і кіно, і горад, я лепш хачу быць на паветры з вамі». Алесь: «Бабуся, ён толькі ходзіць на *"*love story*"*» (гісторыя каханьня). Міхась яму — па носе, а мне тлумачыць: «Бабусенька, там *"*sceny łożkowe*"* ў нас павыкідалі…» Адным словам, у нас бывае і сьмешна, і цікава.

Пакуль цалую Вас усіх. Прывітаньні ад нас.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

*Допіс рукою Юркі Геніюша:*

Данусясь, золатца маё!

Прыехала б да нас хоць на пару гадзін. Мая шлюбная «каралева» пачала, ведаеш, задавацца. Здаецца ёй, разумееш, што яна — адзіная прыгожая жанчына на зямлі і ў ваколіцах. Мару пра тое, каб яна глянула на цябе і апусьціла носа. Не гаворачы пра тое, што і сам зіркаю на цябе з насалодай.

Цалуй дзяцей, вітай знаёмых, памятай пра нас.

*Юрка*.

## 66. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 9 жніўня 1973 г.*

Паважаны сябра Міхась!

Гэтым лістом хачу падзякаваць Вам за мілую ўвагу да маёй асобы, за Вашую тэлеграму зь віншаваньнем. Хочацца сказаць Вам, што прыйшла яна днём раней, што прынясьлі яе ў хвіліну, калі ў нас за сталом сядзелі нашыя дарагія мастакі і іншыя сяброўкі і сябры, якія заехалі да нас, скончыўшы агляд і апісаньне ўсіх мастацка-вартасных аб'ектаў Гродзеншчыны. Было іх 14 асоб, і сярод іх дзьве масквічкі — рэстаўратаркі нашых старых абразоў, якія шмат зрабілі для нас карыснага (для мастацтва). Днямі раней прыехала Данута Бічэль, і так, за імправізаваным сталом (гасьцей не чакалі), мы віталі дарагую тую кампанію не бяз чаркі і не бяз песьні! Масквічак ушанавалі і сваё ім хараша і зь любоўю прадставілі.

На нас глядзеў, акрамя іншых партрэтаў, і Ваш Несьцерка, а Вашую тэлеграму даручылі ўголас прачытаць Віктару Шматаву — нашаму харошаму мастаку і кіраўніку гэтае выправы. Гэта было так хораша, што я проста пішу Вам аб гэтым. Песьні былі старыя, палескія, вельмі родныя. Хвілінкай маўчаньня ўшанавалі і сьмерць Мулявіна (брата). Была такая мастачка Нора Вецер — галасістая, цікавая, прыгожая жанчына. Былі толькі пару гадзін, на жаль. Назаўтра ліў дождж, людзі мяне віншавалі, але мы не прымалі гасьцей, і Дануся паехала да дзяцей, якія ў яе бацькоў у Біскупцы, на Лідчыну.

Ад 2 жніўня ў нас — дзеці і ўнукі. Цяпер застаўся толькі адзін Юра, бо нявестка з хлопцамі паехалі ў Гомель да сястры на пару дзён. Я бязбожна змучаная, бо хочацца памагчы яшчэ той хворай сваячцы мужа. Хаджу і хістаюся, бо дзьве рукі мала, каб усё было ўдома як след. Як Вы тады заехалі? Мы шкадавалі, што Вас не пакінулі, але на гэта былі свае меркаваньні… Болей думалася пра Вас.

Дзеці нашыя, асабліва ўнукі, захопленыя Альмай, якая стала ручной і паслухмянай. Цягалі яе на рэчку на спацыр, і яна прыходзіла, ужо не буяніла і толькі ледзь сапла ад

стомы. Сын сядзіць і ўсё піша фэльетоны ў «Ніву». Хлопцы павырасталі, але Алесь — як мурашачка, худзенькі і невялічкі. Міхасёк ужо вышэйшы за мяне, цікавы і вельмі харошы хлопец. Будуць яны ў нас недзе да 26–27 жніўня.

Як маецца Слава? Салідны і харошы ён чалавек. Пры нагодзе чакаем Вас зноў, толькі цяпер мне не да партрэту — надта многа спраў. Хлопцамі няма што хваліцца — гэта крык, віск-піск і бегатня. Часам толькі паважнейшыя гаворкі зь Міхасём. Ды, урэшці, самі іх пабачыце.

Прывітаньні ад нас для Любы і Славы. Яго эскіз Шматаву вельмі спадабаўся. Вось і ўсё покуль, дарагі наш сябра Міхась. Няхай усё ў Вас будзе добра.

З павагаю да Вас — *Ларыса Геніюш*.

P. S. Прывітаньні ад мужа і сына. Стараемся цяпер, каб яны крыху паправіліся. Падаем толькі піва! (Гэта на загад нашай нявестачкі…) *Л.*

## 67. АЛЕСЮ БЕЛАКОЗУ

*Зэльва, 17 верасьня 1973 г.*

Дарагі і паважаны Аляксандар Мікалаевіч!

Даруйце мне ласкава, што ўсё не магу споўніць сваяго слова — прыехаць да Вас. Было тут розна, але ніяк нельга было мне, гаспадыні, адарвацца ад хаты. Цяпер яшчэ цяжэй, бо хварэе мой муж. Не ляжыць, упарта ходзіць на працу, зь якое ледзь вяртаецца, цяжка дыхаючы. Пакінуць яго нават на дзень — нельга. Сын аказаўся для нас чужым, ледзь не варожым чалавекам. Мы думаем, што болей яны да нас не прыедуць. Вам гэта паясьняць ня трэба. Пакуль мы ўдваіх з мужам, а калі нешта станецца аднаму з нас, дык гэта будзе, сапраўды, трагэдыя.

Сяньня ў Зэльве новы анэкдот! Хахочуць тутэйшыя начальнікі з прычыны, што ў суботу, 15 верасьня, на адкрыцьцё Народнага Дому культуры дэманстрацыйна не паслалі запрашэньня Ларысе Геніюш. Бяруцца за бокі! Поўнасьцю іх разумею. Лішні раз плюнуць на беларускую паэзію ці ўнізіць яе для нелюдзяў і беларусаедаў — асаблівая насалода! «Невадам зь Нёмана», бачыце, для іх не культура. Былі тут прадстаўнікі іншай культуры, да позьняе ночы гудзеў іх п’яны хор з новага рэстарана: «Шумел камыш…»

Сяньня быў тут адзін тып, які паясьніў мне, што я не ў Саюзе беларускіх пісьменьнікаў і т. п. Як быццам пяро маё ад гэтага будзе пісаць па-расейску, калі я ўступлю ў той Саюз…

Зразумейце, мне за сябе ня крыўдна, але ж мы на сваёй зямлі, і надрукаванае наша слова ёсьць і застанецца праяваю нашай культуры, і адкідаць і паганіць яго — нельга!

Муж дастаўся туды нейк «зайцам» (устыд мне за яго). Казаў, што ня чуў там мовы нашага народу, ніхто зь *іх* на ёй ня выступіў. Нейкі артыст сьпяваў толькі «Спадчыну», і ансамбль — яшчэ пару песьняў. Адным словам, так хахатала п’янае начальства, што, казалі, сумна было на іх паглядаць… Недзе так жа хахаталі тыя, якія далі мне 25 гадоў катаргі за мае вершы. Дахахаталіся.

Дарагі Саша, мучыць мяне сумленьне, што паехалі Вы галодны (о Божа!). Я ўсё не ўставала, бо хацела, каб Вы адпачылі, а Вы сарваліся і віхрам зьніклі! О дзіва, і я так Вам некалі зраблю! Ну, дыван дык прывязу сама, але пад’есьці трэба было. Ці хоць жывы заехалі? Недзе Вера на мяне злуецца, што выправіла Вас галодным. О, горачко маё…

Шлю Вам крыху ўспамінаў, якія датычаць Гудзевіч. Перапісваць ня хочацца… Няхай усё будзе так, як ёсьць. Гэтак было 50 лет таму назад. А колькі людзей, пакаленьняў жыло там раней за нас — гэтага нам не даведацца… Напішэце, ці атрымалі.

Учора зрабілі мне заўвагу, чаму пішу толькі пра Гудзевічы, лепш напісала б пра Зэльву… Дзеду мой дзеду, я ўсё на тваіх сьлядах…

Калі зможаце, дык прыедзьце да нас зь Вераю на 8 Сакавіка. Нікога ў нас ня будзе. Пішэце, як маецеся.

Ваша, заўсёды Гудзевіцкая — *Ларыса Геніюш*.

P. S. Паведамце, ці атрымалі ліста. Яшчэ раз пераканалася ў нізасьці Г.

ГУДЗЕВІЧЫ

Першая сусьветная вайна выгнала нас з родных мясьцінаў у глыбіню Расеі. Вярнуліся дамоў у 1919 г. Усюды былі калі не руіны, дык пустыя, безь дзьвярэй, хаты, з вокан якіх расла крапіва, а печы разбурылі злыя людзі. Так было і ў Жлобаўцах, гдзе я нарадзілася. Таму маі бацькі аддалі мяне ў Гудзевічы да дзеда, гдзе я пачала хадзіць у школу. Вучні былі рознага веку — і малыя, і большыя, як і ў кожны пасьляваенны час. Школа была на тым жа пляцы, што і сяньня, толькі была меншая, ніжэйшая. Вучылі нас толькі па-польску, і першыя гады вершы мы вучылі на памяць, зусім не разумеючы іх зьместу. За сьценамі школы пачынаўся родны, блізкі сэрцу беларускі сьвет.

Жанчыны церлі вечарамі лён. І я таксама хацела быць, як яны, працавітай, і доўга, і старанна церла маленькую жменьку, аж яна зіхацела, як шаўковая. Вечарамі доўга пралі ў дзеда на кухні кудзелю. І я сэрцам лавіла песьні і казкі жанчын. У маяго дзеда тагды служыў стары Журко. І ягоная жонка расказвала, як аднойчы нехта шлёпаў у пасталах у сенях. Яна цьвердзіла, што гэта сьмерць па некага прыходзіла. Назаўтра памерла старая бабулька ў чвараку. І я доўга баялася, думаючы, што сапраўды сьмерць — гэта явішча з касою ды ў пасталах.

Гдзе цяпер вёска, было ў Гудзевічах многа цэлых і разваленых мураваных будынкаў. Гэта, як мне казалі, быў маёнтак нейкай графіні, якая за ноч прайграла яго ў карты. І мой дзед купіў маёнтак за танныя грошы. Казалі, што тая графіня прасіла маяго дзеда Паўла, каб вярнуў ёй Гудзевічы. Ён не вярнуў, бо вельмі любіў зямлю ды лічыў, што зямля на тое, каб на ёй сеяць і жаць хлеб, а не гуляць на яе ў карты. Графіня была старая і памерла, але мне ўсё здавалася, што яна начамі ходзіць у мурох, і я крыху баялася. Сяньня я сьмяюся, калі прыгадваю тое мінулае.

Гудзевічы мяне заўсягды вельмі цікавілі. Я любіла гэтую мясьціну, асабліва людзей, якія там жылі і былі вельмі працавітыя ды гутарылі выключна па-беларуску.

Сёньня Гудзевічы зусім інакшыя, чымсьці былі некалі. Мне толькі жаль, што зьнішчылі там сады і дрэвы.

## 68. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 7 кастрычніка 1973 г.*

Дарагая Дануся!

Ліста Тваяго, пісанага 1 верасьня, мы атрымалі 4 верасьня. Вельмі дзякуем за памяць. Разумею Твае абавязкі адносна найбліжэйшых і таму непакоюся за Твае нэрвы. Не магу зразумець бабы Казі, бо Вы з Эрыкам — адно суцэльнае, і гэта трэба ёй нарэшце зразумець. У Эрыка таксама нэрвы ня з дроту. Ці нельга паслаць бабусю недзе хоць на месяц на курорт, напрыклад, у Рось, у дом адпачынку? Можа, яна змучылася ля хатняй працы? Старайся ўступаць, сьцеражы спакой у хаце.

Проста дзіва, як малы Валерык навучыўся дэклямаваць такі даўгі і паважны верш. Падзіўляю яго і разам кажу яму — дзякуй!

Той надпіс азначае: Іісус Назаранскі (з гор. Назарэту), Цар Іудзейскі. Гэтак было напісана, здаецца, на крыжы ў час расьпяцьця. Сябру Васілю дзякуем за прывітаньні. Мы заўсёды аб ім памятаем. Здароўе мужа паправілася крыху, але, як кажуць спэцыя-

лістыя, дык уся яго сардэчная мышца ўжо вельмі «дряблая». Гэта пагана, і палёгка невялікая і часовая. Паглядаю на яго з болем сэрца.

Юра пісаў раз. Была ў іх наша сваячка з Зэльвы, і вельмі крыўдна, што ён не прыслаў бацьку, так моцна хвораму, ні лекаў, якія там лепшыя, ні цукерачкі, ні прывітаньня. У лісьце толькі хваліць сябе. Бог зь імі. Нельга нэрвавацца мужу, нават заводзіць новыя сяброўствы. Нельга рухацца хутка, трэба трымацца кансэрватыўных, старых знаёмстваў, каб не парушыць псыхічнае раўнавагі. Сьпіць даволі добра і есьць — магчыма. Зайздросьціць здаровым людзям і як лекар вельмі добра разумее небясьпеку свае хваробы. Дзіва тут няма, ды як магло быць іначай?

Здаецца, і мне ня будзе лепей, бо чуюся штораз горай. Пагода апошніх дзён крыху дадала ёй сілаў. Жаль, жаль беднай «мамы біскупцкай», але ж там Рэня, ды і Галя, напэўна, ня так ад іх далёка. А як маецца дзед Яська? Парадзь яму глыбока ўдыхаць паветра на двары і крыху пагаладаць. Пры задышцы гэта лепей за лекі. Кажуць, трэба піць падарожнік (запарыць) і яшчэ зельлячко «маці і мачыха», яно прадаецца ў аптэцы.

Не магу зразумець Г. Мне хацелася верыць, што ён пры Вас зьмяніўся на лепшае. На жаль — ні Богу сьвечка, ні чорту качарга…

Тая наша сваячка (мужава) прадала хату, паехала да сястры і ўжо памерла. На пахаваньне я не змагла паехаць. У нядзелю памерла і жонка нашага бацюшкі, нагла, ад сэрца. Усё гэта нейк несамавіта. Тая сваячка многіх ашукала, была вельмі прагнай на грошы, асабліва перад сьмерцю, але людзі сабраліся на багаслужэньне па ёй, а пасьля і на чарку. Яшчэ ёсьць такія харошыя, залатыя людзі ў нас, проста высакародныя ў сваёй старой мудрасьці і дабрыні.

У нас па-ранейшаму: лісты лічаныя, амаль іх няма… Цудоўна толькі вырасла Альма. Калі б Ты да нас ехала, дык купі мне пару пачкаў перцу зерняткамі і зьмелянага, бо ў мяне ўсё выйшла, а такое ў нас не прадаецца. Бульбы крыху купіла, крыху мне ўсыпалі — на зіму хопіць.

Зь Менску — ні слова… Пісала Надзежда Васільеўна, што сябра Мікола меў нейкія клопаты. Міхасю В[ераціла] ляжаць у нас кніжкі, падпісаныя нашым Юркаю, няхай заедзе. Ці чытаеш «Ніву»? У кожнай амаль друкуецца Юрка. Падпісваецца — Ларс. Піша ня дрэнна, а вось паводзіны… Найгорай тая небясьпека паганага здароўя і хуткага, непамерна, п'яненьня. Як ратаваць? Валя зноў жаліцца на гэта. Здаецца, што «хвароба» — хранічная… Дзетак жаль вельмі.

Часам нехта ўмее піць, можа піць, ведае меру, а тут ні адно, ні другое, ні трэцяе. Загубіць ён бацьку дарэшты. Не абыякавыя для яго паводзіны адзінага сына і воблік яго маральны… Што ж, і гэта «прыкладам» будзе калісьці…

Пасылаю Табе пару вершаў. Няхай будуць у Цябе ля той нявыданай дзіцячай. Прашу, пішы нам часамі. Калі б змагла вырвацца, дык прыедзь так, каб перагаварыць.

Цалуем Цябе і дзетачак. Не забудзься мае грыбы! Шчыра вітаем усіх Тваіх хатніх.

Твае *Геніушы*.

## 69. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 28 кастрычніка 1973 г.*

Даражэнькая Данулся!

Адразу Табе адказваю. Так я занепакоілася Тваёю хваробаю. Ты мне аб усім амаль напісала. А што было з Табою? Справа ў тым, што калі гэта грып, дык глупства, але каб не пачалася якая іншая хвароба, напрыклад, сэрца. Каб вылечыцца адразу грунтоўна і не пакутаваць пасьля. Напішы нам, не забудзься, на што хварэла.

Мы цяпер ужо абое чуемся дрэнна, ну але ж нам хварэць — ужо найвышэйшы час. Зь літаратурных навінаў апошніх часоў ведаю толькі, што наш паэт Нядзьведзкі, пішуць, п'яны трапіў пад машыну і загінуў. Нейк неверагодна! Так балюча чуць аб падобным! Нейк замнога няшчасных выпадкаў над нашымі таленавітымі хлопцамі…

Што да той пляменьніцы, дык я Цябе разумею. Сям'я Ваша — сям'я нэрвовых інтэлектуалаў, гэта вельмі інтымная рэч! Таму чужы чалавек, які з вамі ня зжыўся, — гэта вялікі неспакой у хату. Вы вельмі сардэчныя, хоць неспакойныя і вельмі чулыя на ўсякія такія парушэньні Вашай сямейнай гармоніі. Гэта зусім нармальна. Вельмі коратка мы жывем, каб ускладняць нам яшчэ жыцьцё патрэбнымі і непатрэбнымі абавязкамі да ўсіх сваякоў. Маці — гэта другая справа. Тут ужо нейк трэба разумна гадзіцца! Часам трэба і Табе ўступіць, а іначай няма патрэбы заўсёды сябе няволіць, ды і дзяўчо няхай прывыкае жыць самастойна. Галоўнае — трэба берагчы Вам свае нэрвы. Сяньня яны хворыя ва ўсіх.

Нашыя дзеці ня пішуць зусім, і мы паняцьця ня маем, што там у іх робіцца. А кніжачку, мусіць, выдамо, бо на яе вельмі чакае Алесік, і будзе яму крыўдна, што Міхась мае кніжку, а ён — не…

Я таксама ў сваёй балючай гордасьці бываю часта эгаістычнай, а гэта нельга. Пашлі, Дануся, гэтую кніжку і назаві «Добрай раніцы, Алесь». Перарабі там гдзе-што неабходна. Можа, пасьля збярэм з Табою і дарослую кніжку. У гэтай справе заходзіў да нас у канцы жніўня, будучы ў Зэльве, і А. М. Пяткевіч. Ён вельмі салідны чалавек, і я абяцала яму аб гэтым падумаць. Я якраз застанавілася над тым, што ня ўсе ж у нас людзі паганыя, што належыць нам добрае сеяць, каб не скамянець, не атупець, не адзічэць! Гдзе каму бывала лёгка? Жаль, што мы, гродзенцы, ня маем сваяго часопісу, хоць маленькага! Табе, напрыклад, няма гдзе «выбіцца» літаратурна, выгаварыцца, ды і другім.

Падабаюцца мне Твае вершы ў «Маладосьці», толькі здымачак нейкі «ня Твой», хоць вельмі арыгінальны. Можаш уявіць сабе, колькі новых талентаў змаглі б мы абудзіць на Гродзеншчыне, маючы свой часопіс — такі чалавечы, салідны, верны ўсім прынцыпам соцрэалізму, але не казённы! Такі спэцыфічна гродзенскі, крыху гістарычны і крыху сялянскі, сучасна-ўрачысты, актуальны, цікавы!

«ЛіМ» так абыякава ставіцца да творчасьці вобласьцяў, а раённыя газэткі, як напрыклад, наша зэльвенская «Праца», да нейкай творчасьці ў народзе ня ставяцца ніяк! Плян і праца, праца і плян, а каб даць людзям глыток нейкага прыгаства, нейкую думку, якая выходзіць па-за межы кіраўніка, дык гэта гвалт адразу! А людзі ж ня толькі працуюць і ядуць, яны яшчэ адчуваюць і думаюць, і трэба, каб яны нейк расьлі! Нейкі шаблён усюды, нейкая інтэлектуальная і творчая бязьдзейнасьць пры наяўным існаваньні творчых сілаў у народзе…

Жаль, што ня можаш да нас прыехаць, але я Цябе разумею, бо дзеці — гэта важней за ўсё! Як цяпер здароўе Валерыка? Альма цяпер сядзіць зачыненая ў склепе, і гэта на пару тыдняў. Справа ў тым, што ў яе паявілася шмат «кавалераў», але такіх малых, рыжых і гадкіх, што мы яе на гэты пэрыяд проста ізалявалі. Ёй яшчэ няма году — гэта адно, а другое, калі ўжо патомства, дык каб было адпаведнае. Альма — як зьвер, вырываецца, злуецца, але мяне яна слухае, баіцца і пакуль што сядзіць адна. Я ня ведала, што такі клопат будзе зь ёю. Заўчора ноччу надта яна шкрабалася ў дзьверы, дык я ўстала яе выпусьціць. Адчыніла дзьверы — а тут усе сабакі на ганку! Вось так з нашай красуляй Альмай.

Лістоў — ніякіх. Жывем — як у каменным веку. Дзевятнаццаты век, пра які чытаю, здаецца шчытам прагрэсу! Я рада, што сябра Эрык — перадусім сем'янін, бо гэта галоўнае. Ад мілай, цёплай атмасфэры ў хаце ў вялікай меры залежыць і Вашае здароўе.

Я і муж цалуем Вас усіх па чарзе і жадаем Вам здароўя і шчасьця.

Вашыя *Геніушы*.

## 70. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 15 лістапада 1973 г.*

Дарагая Дануся!

Столькі ў мяне неадкладнай карэспандэнцыі, а Табе я нечаму пішу адразу. Ты ў папярэднім лісьце пісала, што тыдзень хварэла, і не далі Табе паляжаць. Вось таму мы і непакоіліся аб Тваім здароўі. Іван Пятровіч ляжыць, і я рада, што хоць на вачах у мяне. Усё хочацца яму ўставаць, працаваць, бегчы… Розум па-ранейшаму ясны, і толькі тое сэрца моцна надгрызенае жыцьцём. Дзіву няма. Гэту ноч мы абое ня спалі. На дварэ сяньня сьнег, чыстае паветра, і ў такі час лягчэй яму дыхаецца.

Мне прыкра, што маеш яшчэ клопаты з маёй кніжкай. Можа, лепш ня трэба было і чапаць гэтай справы. Мароз мне ходзіць па скуры, калі прыгадаю ўсё, што тут у Зэльве з намі чаўплі… Прышлі мне адзін экзэмпляр гэтай кніжкі. Я хачу яго выслаць Алесіку.

Дзеці ня пішуць зусім, і мы з гэтым згадзіліся. Часам піша мне даволі трывожныя лісты Н. В. Караткевіч, і вельмі лагодныя, гаючыя — Л. А. Войцік. Крыху ўлёгся мой страх за мужа. Ляжыць на вачах, дык здаецца — утрымаю яго, вымалю ў лёсу. Забягаў тут нейкі хлысьцік і вельмі ганіў А. Вярцінскага. Я спыталася ў яго — за што? Адказаў, што той носіць шапку ня так, як трэба, і яшчэ нейкія дурніцы. Ня быў, бачыш, прыгатаваны, гад, на такое пытаньне. Навучылі толькі, што гэты чалавек дрэнны, паганы, далей ад яго! Ужо ня першы раз гэта чую, і мне дзіва, бо таго Вярцінскага я ў вочы ня бачыла, але не пераношу, калі судзяць паэтаў!

Як маюцца мастакі? Аб іх, як аб Марсе, нічога ня чула! Былі і загінулі бясьсьледна! Цікава, як адпачывалася Васілю? Шмат не магу зразумець, у тым ліку і такія абыякавыя адносіны да Тваёй сяброўскай шчырасьці адносна яго. Сьніўся мне, разам сядзелі на лаве, глядзелі тэатр, і я ўзяла яго за руку, каб было яму бясьпечней, спакайней. Хацелася б глянуць яму ў вочы. Што з А[ляксеем] Н[ікіфаравічам]? Выглядае, што быў пісьменьнік — і няма! Ці Ты яго калі бачыш?

Бывай, Дануся! Яначка ўжо ўстаў — годзе лістоў! Вельмі любіць, калі я ля яго, калі не адыходжу. Старайся нейк ладзіць з бабусяю, і мы ж — не ангелы! Ногі ў цяпле трымай, насі шалік.

Цалуем Вас усіх — *Геніўшы*.

Як Валерычак? Было зь ім клопату мінулай зімою. Добра хоць сьцеражы цяпер! Маладзец — Віка! Цалуй іх ад нас. *Л.*

## 71. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 25 лістапада 1973 г.*

Дарагі сябра Міхась!

Пасылаю Вам кніжкі з аўтографамі сына для Вас. Здольны і вартасны ён хлапец, але бывае не пад сілу несьці яму імя сваёй маці… Таму няшчасны. Магчыма, таму і п’е. Гэта для нас вельмі цяжка, бо пасьля апэрацыі засталося яму ўсяго 1/3 страўніка, і другой апэрацыі ўжо быць ня можа… Ды наагул, чалавек сяньня мусяе быць цьвярозы, цьвярозы і яшчэ раз цьвярозы! Нельга прапіць нам і гэтым зьнявечыць вартасьць Беларуса, усе шляхотныя свомасьці яго натуры, узгадаваныя праз ужо сьведамае існеньне нашага народу ад часоў старога Полацкага княства. Я вельмі суровая і вельмі патрабавальная ў гэтых адносінах, у першую чаргу да сваіх.

Муж цяжка хварэў (сэрца), але ўпарта працуе яшчэ, бо лічыць, што калі застанецца ўдома, дык доўга не пажыве. Я лічу, што доўга не пажыве на рабоце, гдзе апошні час

ядуць яго поедам і робяць яму такія правакацыі, ад якіх і сьмешна і гадка. Яго бацькі — гэта не «паны» Міклашэвічы (мой род). Маленькі надзел і хатка, якую бачылі конік і карова, і босы бацька некалі — вось з чаго з пакутай і амаль цудам удалося стаць лекарам чалавеку. Першым лекарам у малой, захалуснай Зэльве. «Віна» яго ў тым, што ніколі не хацеў і ня мог згадзіцца, каб зямля яго продкаў стала — як другая Прусія… Адзін зь лепшых скурна-вен. лекараў у Празе (у сэрцы Эўропы) цярпеў у Зэльве адны пакуты і такія ўніжэньні, што сорамам мне залівае твар за людзей, якія здольныя былі і ёсьць так мучыць гэтага выдатнага лекара і дасканалага чалавека.

Годзе аб гэтым… Нейк жывем, людзей, як агню, баімося! Дзеці ня пішуць, бо так ім лягчэй жыць… Галавы не схіляю і спакойна наглядаю за падзеямі. Усяго добрага Вам і Вашай сямейцы.

*Ларыса Геніюш.*

Ласкава паведамце нас адразу, ці атрымалі кніжкі. Гэта вельмі важна, бо лісты мае да людзей часта не даходзяць.

З павагай да Вас — *Ларыса Геніюш.*

Прывітаньні ад мужа. *Л.*

## 72. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 6 сьнежня 1973 г.*

Дарагі сябра Міхась!

Вялікае дзякуй за ліста, які мяне крыху зьдзівіў. Я проста так пранялася хваробай мужа, неспакойнасьцю нашага існаваньня, што абсалютна забылася пра мінулае. Ня трэба, па-мойму, кранаць яго. Гэта ўсё надта балюча. Са мною тварылі такое, за што цяпер многім устыдно, і таму я ніколі не забываюся пра сваё мінулае, але ніколі яго не кранаю. Пакідаю гэта дасьледчыкам пасьля свае сьмерці. Няхай яно так і будзе. Хочучы мець такія рэчы, як мае ўспаміны, Вы бярэце на сябе непасільнае, і таму я болей думаю пра Вас, як Вы сам пра сябе. Пра мяне нельга пісаць не аб'ектыўна, і таму гэта сяньня не актуальна.

Была ў Беластоку адна знаёмая. У дзяцей пакуль што ўсё добра. Юра ўзяўся за розум, многа працуе, карыстаецца вялікім аўтарытэтам, толькі дзівацтвы яго ня маюць меры. Цяпер узяўся за калекцыянаваньне лямпаў старых, розных газовак, самавараў і іншай рухлядзі. Валя, яго прыгожая жонка, у адчаі ад такога хламу ў малагабарытнай кватэры. Яны ўжо маюць свой гараж, і машына ўжо не стаіць на вуліцы. Гэта жанчына і другія знаёмыя назвалі Міхася — «як вясьняны дзень»! Так, наш Міхась вельмі высокі, стройны, выспартаваны і надта мілы. Чымсьці прыгожы. Абодвы яны падобныя на дзеда ў маладосьці. Алесь вельмі худзенькі.

Сваіх гродзенскіх сяброў я так мала знаю, што сапраўды, цяжка мне іх характэрызаваць. Мы сустракаемся раз у год, а то і меней. Судзячы іх па іхнай творчасьці, толькі магу сказаць, што ўсе яны вельмі вартасныя адзінкі. Хочацца толькі, каб народ наш па-сапраўднаму іх ацаніў, а іх нейк заціраюць, і напрыклад, у школах Гродзеншчыны іх ня ведаюць амаль! I нашая грамадзкасьць за малымі выняткамі паняцьця ня мае аб іх! У Эўропе болей ведаюць пра Васіля Быкава, як на яго радзіме… Так, гэта ёсьць палітыка…

Вось і забылася пра св. Губэрта (Hubertus). Дык кажуць, быў некалі багаты рыцар, які вельмі любіў паляваньне. Увесь свой вольны час ён гэтым толькі займаўся. Глуміў неімаверную колькасьць дзічы, асабліва аленяў. Аднойчы, калі ён сам выбраўся на паляваньне, дык насупраць яго выйшаў зь лесу цудоўна-прыгожы белы алень. На яго галаве

пасярод кароны высокіх рогаў красаваўся белы крыж. Рыцар упаў на калені і з таго часу перамяніў вобраз сваяго жыцьця. Стаў скромным, да сьвятасьці добрым і ласкавым да людзей, вельмі набожным. Ён так дасканала жыў рэшту сваяго жыцьця, што каталіцкі касьцёл прызнаў яго сьвятым. Вось па нацыянальнасьці ня ведаю, хто ён быў. Здаецца, падкрэсьліваю, здаецца, — француз ці італьянец. Як трапілася гэтая легенда ў наш герб Гродна — таксама ня ведаю. Хацела запытацца аб гэтым у сваіх знаёмых мянчан, але яны ўсе, даслоўна, усе ўжо даўно перасталі пісаць мне. Я веру ў іх сяброўства паміма ўсяго!

Муж працуе далей. Яму загадалі ніколі не сядзець у пальце ў кабінеце, у якім амаль не паляць… У кожным выпадку некалі гэта быў адзін зь цяплейшых кабінетаў, а цяпер — найболей халодны. Пры хранічным васпаленьні лёгкіх гэта трагедыя для мужа, але ён упёрся і ніяк ня хоча пакідаць працу. Цьвердзіць, што ўдома, безь людзей і бяз працы, хутчэй памрэ…

Хадзімо, жывем, як над нейкаю прорваю, ніколі ня пэўныя, што прыдумаюць супраць нас заўтра. А фантазія ў гэтых людзей працуе толькі ў адным напрамку — крыўды людзкай і зла. Мяне проста палохае такая нядобразычлівасьць сярод беларусаў. Болей «ядуць» адныя другіх, чымсьці ўзаемна сабе паважаюць, і загнаць, заесьці досьмерці чалавека — гэта для іх, як насалода! Заўважце сам, якая нянавісьць, якое нейкае недаверра, «палітыкаваньне» сярод людзей, і як усе злыя і настарожаныя. Гэта не сумяшчаецца з паняцьцем «чалавек»!

Людзі адурэлі ад гарэлкі! Што нашыя вядучыя лекары чаўплі тут з маім мужам, дык ніколі не змаглі б зрабіць гэтага, каб былі проста некалі вясковымі дзецюкамі! Народная наша культура настолькі этычная, што ні яны сабе, і ніхто зь людзей не дараваў бы ім уніжэньня старога, харошага чалавека і зьдзеку над ім. Такога я ў нас не памятаю!

І я крыху прыхварэла. Вельмі хачу дажыць да вясны. Надта люблю сваі кветкі. Вітайце ад нас сваю мілую сямейку. Не забывайцеся пра нас.

Вашыя *Л.* і *Я. Геніўшы*.

## 73. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 15 студзеня 1974 г.*

Дарагая Данусі!

Перадусім дзякуй Табе вялікае за мілы візыт, ды яшчэ ў такую мілую пору зімовую і наагул. Шкада, што не напісала, ці ня доўга чакала на аўтобус і ці ня зьмерзла. Муж зноў перастыў да немагчымасьці. Пару дзён паляжаў, пахукала на яго, падлячыла, і зноў павалокся зарабляць на хлеб надзённы. Нейк доўга сяньня яго няма на абед. Непакоюся.

Ад дзяцей — вестачкі ніякай, толькі што «Ніва», а ў ёй — Ларс. Галоўнае маё цяпер заняцьце — гэта насіць торф, паліць у печы. Елачку ўжо выкінулі, бо пачала асыпацца. У апошнюю суботу былі ў нас Мартынчыкі, абое з Гродна. Гэта лекар. Прыяжджалі «волгаю», і жаль, што Ты іх ня ведаеш, а то ўзялі б і Цябе, бо месца там было даволі. Пагутарылі крыху, паабедалі. Доктар выпісаў пару рэцэптаў мужу. Мы былі задаволеныя, бо яны з мужам ведаюць сябе яшчэ з пачатковай школы.

Як маюцца дзеткі? Яшчэ раз падзякуй Віцы за мілыя малюнкі. Валерыку — таксама. Ці доўга гасьцілі ў Вас сваякі? Як настрой і здароўе бабусі? Вітай іх усіх ад нас. Аб Эрыку нават не пытаюся, бо яму хварэць наагул нельга і не выпадае, ну а аб гэтым, што ён разумны, тактоўны, далікатны і наагул амаль дасканалы, мы ведаем ад Цябе.

Усяго добрага, Данусенька! Цалуем Цябе сардэчна — *Геніўшы*.

P. S.: Быў мілы ліст ад Н. В. Караткевіч. Гэта Куцьця — дзясятыя ўгодкі нашага знаёмства зь Ею! Як яна ўсё ведае, усё памятае! Валодзя нездаровы, пісала. Цалую. *Л.*

## 74. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 23 студзеня 1974 г.*

Паважаны сябра Міхась!

Дзякуй вялікі за ліста. Пісаў і нам Слава. Не адказвалі яму, каб не пашкодзіць. Вы пішаце аб людзях з трыма клясамі школы. Такія яшчэ не бываюць найгоршымі, калі ад народу ў спадчыну ім засталося сумленьне. Мы мелі тут заўсёды найбольшыя прыкрасьці і ўніжэньні ад людзей з вышэйшай асьветаю, якія ў сэнсе культуры зусім адарваліся ад народу. Гэта такія наваяўленыя «ўсясільныя» інтэлігенты, якім здаецца, што начальнік — гэта ня розум, такт, закон, дыскусія, агульны рост і патрабавальнасьць, а начальнік — гэта бізун! Цяпер, безумоўна, «маральны бізун», што не лягчэй. Шнырыць, шпіляць, караць, уніжаць, нішчыць — мэтад не найлепшы. Тут нейкае ўпадабаньне ў людзях, якія крычаць і якія дрыжаць. Ці ня лепей, каб адныя і другія думалі?

Працуючы некалі сястрой-гаспадыняй у больніцы, я пераканалася, як многа можна зрабіць з нашымі людзьмі справядлівасьцю і добрым словам, даверам да іх! Былі выняткі, безумоўна, але гэта быў пераважна ня наш элемэнт. Яны, на жаль, задавалі тон, вечныя актывістыя.

Я не хачу ніякага партрэту! Цяпер — не! Муж — таксама. Твар мой, стары сяньня, — тэма для мастака нецікавая. Ды і другое нам у галаве. Вам, маладым, старасьці не зразумець заранья. Мы, сябра Міхась, ня думаем блага пра Вас! Ніколі! Але здаецца, што шмат ёсьць сяньня ў нашым народзе і каінаў, і іудаў. Як не падавяцца яны гэтым сыцейшым куском з чалавечай бяды і крыўды?

Бацькаўшчына — гэта нашая тэрыторыя, народ, яго лепшыя дзеці, за якіх ня сорамна перад людзьмі, ну і ўлады. Мерай велічы народу ў паняцьці сьвету — ня моц яго, а чалавечнасьць! Народ у сваёй масе разумны заўсёды, гуманны, і ня ім панукаць бесталкова, а слухаць яго трэба!

Муж доўга ляжаў. Цяпер ходзіць крыху, але ў выходныя не ўстае. Упарта мяне ня слухае і робіць, што знае. Кажа, што ня хоча паміраць лежачы… Жыцьцё — цікавае да апошняй хвіліны, калі чалавек яшчэ ў віры жыцьця.

Будзьце здаровы, сябра Міхась. Вітайце сваю сямейку. Кланяйцеся Славе.

З павагай да Вас — *Геніюшы*.

На сьвята была ў нас Данута Бічэль, але ўсяго дзянёк. Гутарылі мала, бо гатовіліся да сьвят і сьвяткавалі! *Л.*

## 75. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 17 лютага 1974 г.*

Дарагая Дануся!

Пішу Табе і лісты адкладаю ў бок… Нейк ня так кладуцца думкі на паперы. Муж далей ходзіць на працу. На днях варочаецца тая паганая «цаца» ізноў да яго на падсуседзі. Зьвяртаўся да начальства, але не схацелі нават гутарыць зь ім. Абразіўся. Доўга давялося мне разважаць яго, супакойваць. А тут — навалам вяртаюцца ўспаміны мінулага, і ад іх нялёгка.

Дзякуй за клопаты аб здароўі. Трымаемся нейк. Будзе пагана, дык прыеду да Вас. Змагаюся з грыпам гэтым азіяцкім, але і ён паслабеў крыху ад сучасных лекаў і ня так ужо далягае. Усё нейкае ненармальнае сёлета, нават вясна. З усіх нас найлепей чуецца Альма — як львіца.

Муж напісаў Юрцы ліста, і разок мы ім званілі. Ад іх вестак няма. Я крыху іх разумею, але не апраўдваю. Цешуся, што нейк ладзіш з бабусяю, і трэба так далей.

Маці ёсьць маці, і старасьці можна многа даравяць, але я асабіста раджу Вам — ніякіх сваякоў болей у хату! Вы абое — нэрвовыя інтэлігенты, маеце свае справы, дзетак, свой рытм жыцьця, і парушаць яго нельга. Маці трэба глядзець і дагледзець, трэба дапамагчы і сваякам, але ня браць больш нікога ў сям'ю! Сьведама барані спакой сваёй хаты, нават калі б на Цябе крыўдавалі.

А як там Твае ў Біскупцах? Яны, мусіць, толькі ведаюць — Вам памагаць. Добра, што маеш з кім пагутарыць. Я баюся, што гэта толькі ілюзія сяброўства. Як успомню апэрацыю Тваю і тое, што ніхто Цябе нават не адведаў, дык аж уздрыгануся. Тое, што ходзіце ў госьці, дык мне вельмі падабаецца. Даўно пара! Вам будзе цікавей і лягчэй. Не забывайцеся і да сябе паклікаць добрых людзей хоць на каву… Як дзеткі? Глядзі Валерыка, каб не перастыў, бо надвор'е дрэннае.

Мы жывем, як у сярэднявеччы — лісты і весткі толькі праз ганца! Людзі гневаюцца, і той напісаў, і той, кажуць, чакаюць адказу, а лістоў тых я і ня бачыла! Хачу проста зьвярнуцца ў ЦК! Карыта ёсьць карыта, яно для сьвіней, але для людзей ёсьць інтэлектуальныя і духовыя патрэбы, і пазбаўляць іх — гэта ёсьць такія тортуры, як і фізычныя!

Чула, што нашыя К-чы — маладцы! Пішы, Дануся, цалуй сваіх хатніх. Канчаю ліста, бо баюся за свае нэрвы. Няхай усё ў Вас будзе добра!

Вашыя *Геніўшы*.

## 76. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 18 траўня 1974 г.*

Дануся!

Прабач ласкава за клопаты, якія я даставіла Табе сваім лістом. Бачыш, я ў сваёй вечнай наіўнасьці лічыла Цябе сваім харошым другам і таму зьвярнулася з просьбаю праз Цябе. Я ня ведала, што Табе баліць нага, і гэта мяне, да пэўнай меры, тлумачыць. З Вамі ўсімі наагул парвалася ў мяне сувязь (як і з усімі) і таму, што з Вас усіх я Цябе апошні раз бачыла, Табе і напісала. У мяне пашана да людзей, сяброўства і праўды не мяняецца ў ніякіх абставінах! Таму зьдзівіў мяне Твой ліст, аж хочацца плакаць… Яшчэ раз прашу прабачэньня за сваю просьбу. Ня трэба мне пісаць аб выніку. Каб не было Табе лішніх турбот. Як будзе — так будзе, ліст дайшоў — і гэта галоўнае! Жадаю табе росту і посьпехаў.

З павагай — *Ларыса Геніюш*.

P. S.: Шчырае-шчырае дзякуй за ўсё добрае. Зразумей, як мне цяжка некага аб нечым прасіць. Сама памагаю ахвотна, а прасіць цяжка. *Л. Г.*

## 77. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 5 ліпеня 1974 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Даўно няма вестак ад Вас, непакоюся. Як маецеся, як чуецеся, ці не прастылі, не прамоклі бясконцымі дажджамі? Нас дык заліло начыста. Нічога ня будзе — ні гародніны, ні садавіны. З хлебам — дык ня ведаю, я малы экспэрт. На салому жытца добрае, палягло многа.

Крыху адарваліся ад тэлевізара. То ўрачыстасьць — трыццацігодзьдзе вызваленьня Беларусі, то прыезд прэзыдэнта Ніксана, то цяпер касманаўты. Усё цікава, усё актуальна. Падабалася мне, як Рычард Ніксан сказаў у Менску, што ведаў пра Беларусь толькі

тое, што «адтуль маленькая Ольга Корбут», а тут даведаўся пра стольскіх герояў і прыгожых, геройскіх жанчын. Кажуць, што мылі Менск, чысьцілі, пуцавалі. На ўрачыстасьць вызваленьня пераважна ліў дождж. Усе корчыліся, хаваліся пад парасоны, толькі наш Машэраў стаяў вытрывала, і відно было, што некалі быў партызанам, ведаў цяжкасьці лёсу, і капрызы пагоды яму не навіна. Праўда, ён ня лысы, мае харошую чупрыну, бо каб дождж сёк па лысіне, дык, можа, і ён ня ўстояў бы. А так усё абышлося вельмі хараша. Як многа залежыць ад «галавы»! Ён сам проста надаў бадзёрага тону ўсяму сьвяту. Жаль толькі, што зямля наша і яе народ не навучылі дзеяча роднай мове… Мусіць, ніхто зь іх ні «бэ», ні «мэ» на мове нашай зямлі… Які жаль, які горкі, глыбокі жаль! Што ж, такая наша доля. Ці ня ўмеюць, ці баяцца, і адно, і другое — няхораша. Нейкая студэнтачка толькі зашчабятала, як ластавачка, міла і родна. Адна — на 9 мільёнаў беларусаў… Недзе сьмяяліся з нас літоўцы, аглядаючы гэта праз свае тэлевізары. Мелі з чаго. Жаль, што Рычарда Ніксана ніхто не навучыў сказаць хоць «добры дзень». Ён, напэўна, сказаў бы. Жывем, як зайцы, якіх загналі ў загон і баяцца, каб яны не высунулі носа за «черту оседлости». Нічога, стрываем.

Лістоў ніякіх — ні здалёк, ні зблізку. Аглядаем балеты, ад якіх муж ужо атупеў. Усе яны харошыя, але для мужа — усе на адзін капыл. Я кажу яму, каб зьвярнуў увагу на рукі цудоўнай Маі Плісецкай, а ён зусім не на тое глядзіць і крывіцца. Крыху меней кашляе. Два дні пераважна ляжыць і глядзіць тэлевізар або слухае радыё, а часам гаворыць і адно, і другое — хоць з хаты ўцякай. Дзед мерзьне. Запаліла сяньня ў печцы дрывамі — так, крыху. Вяртаючыся з Гродна дамоў, на пару гадзінаў заехаў да нас др. Кароль. Добра, адумыслова выглядае. Пагутарылі крыху, павячэралі. Адмовіўся начыста ад чаркі. Абяцаў бываць часьцей — бярэ водпуск і будзе ў Гродне, бо сын яго найменшы здае на мэдыцыну. Цудоўны ён бацька і наагул чалавек талковы. Галоўнае — ніякага страху ў яго, хоць у яго!

Півоні мае яшчэ цьвітуць. Адныя асыпаліся, другія толькі зацьвітаюць. Цудоўна беляхціць куст дэўцыі. Хораша перазімавала, але расьце ня дрэўцам, а кустом. Юргіняў сёлета амаль няма ў мяне. Так тут у многіх. Пісалі, праўда, дзеці. Хочуць будаваць дом у Супрасьлі і забіраць нас. Сын зьбіраецца прадаць сваю калекцыю марак, бо адзін пляц каштуе семдзесят тысяч злотых (!). Пляц вялікі — каля трыццаці сотак. Сын мае мора энэргіі, дык няхай выкарыстоўвае яе гдзе трэба, напрыклад, на будоўлі, плянуючы і даглядаючы новую хату. Ці паедзем да іх — ня ведаю. Я таго пераконаньня, што — «арлы не пакідаюць гнёзд»! (З маяго верша.) Але Бог ведае, крыху цяжкавата будзе жыць нам на 64 руб. мужавай пэнсіі. А ён, бедны, ужо моцна падбіты жыцьцём і асабліва апошнімі месяцамі працы ў немагчымых варунках… Што ж, ён тут і ўніжаны, і добра пакрыўджаны.

Вось і ўсе нашы навіны. Цалуем Вас і абнімаем. Усіх-усіх сардэчна вітаем — Вашыя *Геніюшы*.

## 78. МІКОЛУ УЛАШЧЫКУ

*Зэльва, 1974–1975 г.*

Дарагія і шчырапаважаныя! Шлем Вам нашыя найлепшыя сьвяточна-навагоднія прывітаньні і пажаданьні добрага здароўя і ўсякай памыснасьці ў жыцьці.

Часта думаем пра Вас зь любоўю і вялікай удзячнасьцю ў сэрцах. Жаль тых, хто адыходзіць на вечнасьць, а нам працаваць застаецца за сябе і за іх. Жадаем Вам творчых вялікіх сілаў.

З павагаю да Вас усіх — *Геніюшы*.

## 79. ВАСІЛЮ БЫКАВУ

*Зэльва, 1974–1975 г.*

Дарагія і паважаныя! Дасылаем Вам сваі найлепшыя, сьвяточна-навагоднія прывітаньні і пажаданьні шчасьця, посьпехаў і памыснасьці ў жыцьці!

Дзякуй Вам вялікае, Васіль Уладзіміравіч, што наведалі маяго мужа ў больніцы, што не аказаліся абыякавым да нас у горы. Яму ня лепей, але што ўжо Бог дасьць… Калі для Вас гэта ня будзе вялікімі цяжарам, дык прышліце нам ласкава пару «Вершалінскіх раяў». У нас іх няма, а просіць іх Юрка. Вам іх запакуюць на пошце.

Ласкава даруйце нетактоўнасьць маёй просьбы, але я для Вас зрабіла б ня тое нават. Адна бяда не бывае — апэравалі і Міхася. Апэрацыя паважная на калені — вынікі дзю-до. Пачала недамагаць і я, але, беручы пад увагу свой век, лічу гэта нармальным. Цешаць мяне Вашыя посьпехі, зь якімі віншую Вас сяньня і жадаю Вам у будучыні яшчэ яскраўшых!

Ваш век найлепшы для творчасьці, бо за плячыма гады назіраньняў, дык няхай усё ператворыцца ў кніжкі, фільмы і п’есы. Толькі пры сваім вялікім росьце не забывайцеся і пра карэньні… Яшчэ раз дзякуй Вам за водгук у цяжкую хвіліну.

Усяго добрага Надзеждзе Андрэеўне, Вам і сынам!

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 80. РАІСЕ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ

*Зэльва, 26 лютага 1975 г.*

Даражэнькія!

Сардэчна вітаю Вас усіх з наступаючай вясною, са Сьвятам Сакавіка! Як Вам жывецца? Я моцна захварэла і ўсё ня здолею прыйсьці да сябе. Думала, што ня выжыву. Моцна далася. Але, здаецца, папраўляюся.

Учора рабілі рэнтген — дык добры, толькі кроў няважная. З мужам — ня лепей. Яшчэ крыху працуе і ўдзячны, што яго не праганяюць, бо без занятку чуўся б горай, а да фізычнае найменшай працы ён у мяне няздольны.

У дзяцей усё добра. Міхасёвае калена пасьля апэрацыі амаль у норме. Зіма ў нас, але не было амаль сьнегу. Цяпер крыху ёсьць, і прымаразкі. Ці Вы хоць часам мяне ўспамінаеце? У нас пішуць аб Вашых крызысах, дык хочацца ведаць, як Вы там трымаецеся?

Можа, летам прыедуць дзеці і ўнукі, хоць Валя пісала, што хоча ехаць у Баўгарыю. Яна для нас мае заўсягды такія «пілюлі», асабліва ў час хваробы…

Усё яшчэ гавару дрэнна, хрыплю. Хварэю ад пачатку лютага, але пакрысе ўжо хаджу. Лістоў — ні ад кога! А я пра ўсіх памятаю і адчуваю, здаецца, шорах усіх сэрцаў маіх дарагіх суродзічаў. Дык усяго Вам сьветлага і добрага!

Цалуем Вас — *Геніюшы*.

## 81. МІКОЛУ ЕРМАЛОВІЧУ

*Зэльва, 29 студзеня 1976 г.*

Дарагі сябра!

Дзякуй за вестачку. Дзякуй вялікае за сяброўства, якое часам болей патрэбнае чалавеку, чым кусок хлеба. Картка мая да Вас магла ісьці і даўжэй… Вельмі хочацца верыць, што ёсьць яшчэ людзі на Беларусі, дзеля якіх варта выдаць гэту маленькую кніжачку, варта пісаць…

Часам бывае да болі крыўдна, але аб гэтым усім — пры сустрэчы. Моцна здае здароўе ў нас абоіх. Муж яшчэ працуе. Не магу Вам нават апісаць, як ходзіць, бедны, на працу. Заўзяты такі, упарты. Баіцца, што не пражывем на яго пэнсію, а мы — пражывем! Толькі кніжак будзе крыху меней. Вельмі хочацца бачыць Вас. Вы прыедзьце, ня бойцеся. Крытыкаваць усё, што дрэннае, — гэта яшчэ ня значыць крытыкаваць савецкую ўладу! Толькі подлы і нізкі чалавек патурае ўсякаму злу, і вельмі дрэнна гэта адбіваецца на справе.

Ужо кусок зімы — за намі. Маю надзею, што цяпла дачакаемся. Каля мужа цяпер, як ля малога дзіцяці: хворы, змучаны і капрызны. Часам аж закляну, а пасьля ўсё, усё дароўваю. Аб нейкай літаратурнай працы няма нават мовы.

Заўсёды вельмі дзякую Л[юдвіцы] А[нтонаўне] зь Вільні за яе весткі і сардэчнасьць да нас. Зь лістом спазьнілася, бо тыдзень хварэла. Толькі вецер тут родны і свой і зіма — як некалі ў маладосьці. У дзяцей ня ўсё добра. Не хварэйце, не застуджвайцеся, бо Вы — дарагі і патрэбны добрым людзям.

Радыя Вам будзем заўсёды. Юра прыслаў кніжку Ясеніцы «Астатняя з роду» — пра Ганну Ягелёнку. Фальшуюць гісторыю…

Няхай усё ў Вас будзе добра!

Вашыя *Генiюшы*.

## 82. АЛЕСЮ БЕЛАКОЗУ

*Зэльва, 3 лютага 1976 г.*

Дарагі Саша!

Затрымалася з адказам. Ласкава даруйце. Прастыла моцна. Сяньня мне лепш.

Звонку марозік, і прыпомнілася мне, як роўна 41 год назад вязьлі мяне ў белым вэлюме белыя коні па белым сьнезе ў малую цэркаўку ў Воўпе (яе немцы спалілі), гдзе прыгожы малады чалавек, амаль доктар ужо, павёў мяне паважна і ўпэўнена да алтара. Было радасна, бо вокал была вялікая наша сям'я. Сяньня мы тут зусім адныя, шчасьлівыя тым, што хоць яшчэ разам.

Маю многа непрыемнасьцяў, але пісаць аб іх ня хочацца. Лепш Вам падзякую за харошага ліста, а Колі — за такую талковую рэцэнзію на тую добрую кніжку. Галоўнае, Саша, пішу Вам сяньня, бо вельмі жаль мне нашага супольнага друга — Людвіку Антонаўну Войцік. Памёр яе сын. Памёр ноччу з 26 на 27 студзеня ад інфаркту. Апошні час яна часта пісала аб яго хваробе, баялася за яго. Сэрца маці заўсёды прадчувае нядобрае. Учора атрымала кароценькі ліст ад яе. Было ёй балюча, што не дазволілі пахаваць бяз сэкцыі трупа. Парэзалі яго ў больніцы, а назад, дамоў, ужо ня везьлі, бо сьнягі ў іх вялікія. Пахавала яго бюро паховін. Маці не хапіла сілаў быць на пахаваньні. Піша спакойна аб тым, што каб яна памерла, дык яму безь яе было б цяжка, надта цяжка…

Я ўсё гэта ведаю і другі дзень не знаходжу сабе месца — так мне іх абоіх шкада. Ён і жыў толькі для маці. Сам казаў мне пра гэта. Як яна, бедная, усё гэта вытрывае… Цяпер, думаю, яна ў дачкі, гдзе чулы, харошы ўнук. Шмат аб іх можна было б напісаць, аб іх пакутах.

Я Вам, здаецца, пісала, што і сусед наш памёр на другі дзень гэтага году. Памёр у аўтобусе, едучы ў Палангу (Літва) на курорт. Хавалі ўрачыста, бо быў партызанам, пэрсанальным пэнсіянэрам і г. д. Мне давялося памагчы пры вячэры і г. д., хоць я зь ім не размаўляла за жыцьця… Што ж, у горы дапамагчы трэба.

Учора мы глядзелі перадачу пра П. Панчанку. Захопленыя Нілам Г[ілевічам].

Жаль, што ніколі нічога няма зь беларускіх тэатраў.

Вашыя пакуты і мне, як камень, ляглі на сэрца, хоць у параўнаньні з нашымі іх яшчэ можна стрываць. Пакуль што яшчэ жывем, і муж працуе. Вельмі мала каму адчыняем дзьверы.

14 студзеня зьвярнулася да сябраў з «Полымя», каб дапамаглі. Было не стрываць… Адказу няма. Ліста маяго атрымалі толькі 23 студзеня, так было на зваротнай картцы. Горай, што копіі таго ліста згінулі з хаты. Можа, я іх недзе залажыла, хоць гэтага не бывае. Не сказаць, каб я моцна нэрвавалася. Я рада, што больш і больш пазнаю гдзе каго і гдзе што. Усё некалі прыдасца. Усякая подласьць мае гліняныя ногі, і гэта цешыць. Каб людзі столькі моцы і энэргіі скіроўвалі на добрыя чалавечыя справы, куды цікавей было б жыць! Нейкае зацьменьне мазгоў! У рэшце рэшт, гэта дрэнна і добра.

А на двары — мароз! Ёсьць пакуль дровы (хоць летам нам паліва не далі), дык ня мерзьнем. На лета зноў запрашаем дзяцей і ўнукаў. Дзеці купілі дзялку ў Супрасьлі (28 сотак) ля знамянітага некалі манастыра. Хочуць будавацца, садзіць дрэвы, гарадзіць. Заняцьце гэта шляхотнае — бліжэй быць да прыроды. Ёсьць там і рэчка, наагул, пляц — у цэнтры, і месца старое, гістарычнае. Супрасьльскі летапіс — з XI стагодзьдзя. Якая старая наша культура!

Даруйце за сумныя весткі, дружа. Трымайцеся! Ніхто не забароніць нам быць харошымі людзьмі і беларусамі! Толькі не нэрвуйцеся ніколі. Спакойна. Няхай тыя ня сьпяць і нэрвуюцца, хто столькі крыўды людзкой мае на сумленьні…

Бывайце! Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 83. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 14 лютага 1976 г.*

Дарагая Данука!

Усё яшчэ памятаю Твае прачулыя словы навагодняга прывітаньня. Гэта было мне вельмі патрэбна, бо я іначай ужо, горай пачала пра Цябе думаць. Даруй. Спадзяюся, што і Ты маю картку атрымала і зразумела. Думаю пра Цябе, калі мне нялёгка. Я сапраўды часам ня ведаю, чым жыву і як яшчэ трываю. Муж працуе ўжо «на апошнім дыханьні», як гэта кажацца. Даводзіць мне ўсё, што ляжаць удома — гэта яго згуба. Многа гэта каштуе мне здароўя, бо спакойная толькі тады, калі ён удома, хоць, прызнацца, часта мне рве нэрвы… Што ж, «людзі — не ангелы»!..

Забіраюць нам усе пачкі з пошты. Нават лекі. Нават 4 календары ад Юры. Найгорай зь лістамі ад дзяцей. Ліст ад Валі ішоў з 17 сьнежня 1975 г. да 13 студзеня 1976 г.! Нават Алесевы лісты ідуць па тры тыдні. Цяпер, калі падавала паперы дзецям на вызаў, дык мне зноў казалі, чаму не бярэм грамадзянства? Што мы тут бяспраўныя, нават ня маем права на пэнсію. Муж, які працуе тут ужо 20 г., ня мае на яе права!

Кажу: «Таварыш Машэраў так не сказаў бы, вы законаў ня знаеце». А такі начальнічак паспартнага стала, нейкі Саўчык, заяўляе: «Для нас Машэраў — не аўтарытэт, знойдуцца вышэйшыя ад яго». Адным словам, Саўчык рашыў адабраць нам мужаву пэнсію. Кажу: «Мы больш як 8 гадоў жылі на пустой, адной пайцы — ня страшна!»

Адным словам, я вынесла ўражаньне, што можна нас і забіць бяскарна, а ў хату пад замок лазіць — дык ужо «Бог велел»! Напісала я ў «Полымя», прасіла нейкай рады, бо яны хочуць забраць сюды Міхася (тут радзіўся) і наагул усю сям'ю. Указвалі мне, што ў Валі — савецкае грамадзянства. Зь Менску нас паведамілі, што яны вельмі шкадуюць, што Юра быў у Польшчы. «Здесь выше техникума мы ему не разрешили бы окончить…» Вывелі са строю Міхася. Ён захварэў сэрцам. На шчасьце, гэта толькі «нэрвіца». Міхась стаў дрэнна вучыцца, нахапаў двоек. Яго «травяць». Юра не дагледзеў, як падышлі да хлопца. Божа, як усё гэта страшна.

Спадзяюся, што гэтага ліста перададуць Табе ў рукі. Адказу з «Полымя» — ніякага! Дзьве копіі маяго ліста да іх так і згінулі з хаты. З-пад замка. Я напісала ў «Полымя» другі раз, каб хоць вярнулі мне далучаныя, як доказ, лісты — Валі і Алеся. Два тыдні ўжо прайшло, і адказу — ніякага!

Лекі былі высланыя зь Вільні 10 сьнежня 1975 г. Каштавалі 1200 зл., і 100 зл. за тое, што перавязьлі… Галоўнае, што мужу яны патрэбныя, як соль. Горай тое, што пачаліся ў мяне прыступы. Дрэнна з сэрцам. Штораз горай. Наагул, Ты мяне не пазнала б, так моцна я зьмянілася. Вельмі ня хочацца тут паміраць. Нельга ехаць і ў Польшчу, бо даканаюць і Юру, і яго сям'ю. Мне сказалі: «Альбо сын, альбо кантакт зь землякамі за межамі». За ўсё адкажа сын! Адказвае пакуль што няшчасны Міхась. Ён прыяжджаў да нас, маючы ўжо два пашпарты: і польскі, і СССР! Яму ўжо сямнаццаты год!

Нават у гэтым лісьце не магу Табе ўсяго напісаць. Муж яшчэ працуе. Пакуль пэнсіі яму не адабралі. Пэнсію далі яму на загад цэнтральных прафсаюзаў у Маскве, куды мы пісалі. У зэльвенскіх людаедаў на гэта «свае законы». Галоўнае — тое грамадзянства, як быццам з тым грамадзянствам чалавек робіцца лепшы ці горшы. Вось табе і «інтэрнацыяналізм»!

Седзімо тут, як у мяшку. Ніяк не магу зразумець, у чым справа. Жонка гэтага начальніка з паспартнага стала, нейкая Дабрыян, выкладае бел. мову ў зэльвенскай школе. Якая іронія! Наскольні спадлелі нашыя людзі! Наагул, жаночы год быў для мяне проста пеклам! Моцна перанёс гэта і Юра. Яго сюды не пусьцілі. Была Валя зь дзяцьмі. Яна мне забараніла гаварыць зь Міхасём аб нашым мінулым, а пасьля адвезла дзяцей у Гомель. У нас не былі яны і дзесяць дзён. Нам тут зноў напаміналі, каб браць сюды Міхася, а то там згіне…

Божа мой, мусіць, яны пазурэлі. Школа накіравала Міхася ў шпіталь, але Юра сам распазнаў у яго нэрвы, што і пацьвердзілася. Да нас накіроўвалі ўсіх п'яніцаў і падобны розны элемэнт, каб нам падарваць аўтарытэт. Нас папярэдзілі. Аднаго такога тыпа я раз выклікала на шчырасьць, і ён мне сказаў, што яны баяцца, каб зь мяне не было другога Салжаніцына, і хочуць даканаць нас рознымі правакацыямі. Усіх цяпер ганю з хаты! Баюся вельмі Валі, нявесткі…

Найбольшы мой вораг, сусед за сьцяною, памёр 3 студзеня, едучы на курорт у Палангу, у аўтобусе. Давялося мне памагаць зь вячэраю па ім. Нядаўна памёр сын пані Войцік зь Вільні. Аляксей Міхайлавіч яго ведаў. Старушка мае 85 гадоў. Ці перажыве?

Нічога абсалютна не пішу і маю ўражаньне, што нас тут прытруцілі… Адным словам, узяліся, гады, за самае балючае — дзяцей і ўнукаў… Але грамадзянства браць ня думаем, лепей памрэм. І так і так памрэм, бо калі возьмем грамадзянства, дык за год нас тут задушаць «па-добраму»…

А Міхась — як Апалон! 180 см — росту, зграбны, шляхотныя рысы твару, не дурны — і вось што зь ім робяць. Думаю, што калі б мы і ўзялі тое іх грамадзянства, дык не паможам гэтым нікому. Яны ж Геніюшы, а гэтага хопіць, каб іх прасьледаваць.

Ці чытала ты ў В. Гюго «Чалавек сьмеху»? Вось падобнае цяпер хочуць зрабіць з душамі нашых унукаў… Я малюся. Я ўсёй душой веру ў Бога і ў тое, што недзе, можа, яшчэ ёсьць людзі, якія не дадуць згінуць хлопчыкам нашым.

Як у Цябе, Дануся? Цалуем Вас усіх — *Геніюшы*.

Жаль — Аляксей Міхайлавіч быў у Зэльве і да нас не зайшоў. Разумею яго, але сапраўды, акрамя таго грамадзянства, няма ў нас нічога дрэннага з пункту гледжаньня нават самых суровых уладаў. Калі атрымаеш гэтага ліста, дык пашлі мне хоць карткі з кветкамі. *Л.*

## 84. МІКОЛУ ЕРМАЛОВІЧУ

*Зэльва, 24 лютага 1976 г.*

Дарагі сябра!

Дзякуй вялікае за ліста і кніжку. Мелі мы вялікую радасьць. Пішу крыху са спазьненьнем — хварэю і настрой быў надта цяжкі. Дрэнна з сэрцам і хаджу на ўколы, быццам трохі лягчэе. Усё гэта не без прычыны. Кніжка ад п. Ватацы прыйшла, як добры друг у цяжкую пору, ды і ліст ад Вас. Адрасавала я таму так, бо здавалася, што хутчэй і пэўней дойдзе ліст.

Моцна перажываю за мужа, які ўжо ходзіць рэшткамі сілаў і ўсё працуе. Просьбы не памагаюць. У дзяцей ня ўсё добра, але здаровыя. Маразы ў нас, і гэта нядрэнна, бо меней дакучае боль у суставах. Гэты «падарак» я прывезла здалёк… Буду вельмі рада пабачыць Вас. Цешуся, што і зіма мае свой канец, ды пачнуцца кветкі. Напэўна, многа і цікава працуеце, ды хацелася б імя Ваша бачыць у друку. Бачыце, выходзяць жа такія дарагія кніжкі, як «Шлях паэта».

Пра гора Людвікі Антонаўны даведаліся зь яе ліста… Гэта было адной з прычынаў тых маіх сардэчных прыступаў. Надта быў трагічны лёс памершага і ня меней трагічны — беднай яго маці. Зноў пісала Людвіка Антонаўна: крыху крыўдуе на З. Бядулю і т. п. Добра, што крыўдуе, можа, крыху меней будзе думаць пра свой боль. Упарта трымаецца сваёй хаты, і я баюся, што без с.п. Тоніка яны ня змогуць справіцца з працаю (Слаўка — з вучобаю), сваею хатаю і доглядам беднай маці там, на аднасельлі. Баюся ёй пісаць аб гэтым, каб не абразіць, але і ў п. Галіны здароўе няважнае…

Купілі «Голас Радзімы» і аглядалі здымкі, на якія раней толькі карыкатуры былі ў «Вожыку». Што ж, можа што крыху злагаднее? Нешта ж новае дасьць, напэўна, і XXV зьезд. Ня думаю аб варожасьці дзяржаў, хочацца верыць у іх зблiжэньне. А іначай мы тут — як у мяшку. Ніякіх навінаў.

Непакояць Вашыя вочы, ці нельга лячыць іх? Як чуецеся наагул?

З павагаю да Вас — *Генiюшы*.

P. S. Перадайце ласкава мой здымак п. Ватацы разам з падзякаю за кніжку.

## 85. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 9 сакавіка 1976 г.*

Паважаны сябра!

Шчырае дзякуй за памяць! Мы яшчэ жывем і сяк-так трымаемся, хоць часта і паважна хварэем абое. Усялякіх «прыемнасьцяў» маем таксама вышэй галавы. Сябру Ўладзіміра М. бачым даволі часта. Апошні час ён ляжаў у больніцы, бо мае высокі ціск крыві. Гэта ёсьць вельмі харошы і шляхотны чалавек. Думаю, што так жа чэсна ён выконвае сваю працу, і гэта зусім не перашкаджае быць яму сапраўдным Чалавекам. Дапамогі ад яго мы пакуль што не патрабуем, ды і не прывыклі мы выкарыстоўваць сваіх землякоў у асабістых справах. Ды і яны ня ў сілах дапамагчы нам, сабе не пашкодзіўшы, а гэтага ня трэба.

Нейкі дзядзька крыху залажыў нам дах. Спадзяюся, што сёлета і дроў нам дадуць. Летась даставалі збоку. Віншую Вас з новай ганаровай працай пры Таварыстве аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Што ўключыць у гэты звод, не магу Вам параіць. Мы з Вамі — розныя людзі, і напэўна, не аднолькавы ў нас падыход да гэтае справы. Хатку, гдзе я нарадзілася, даўно ўжо спалілі, а тая, гдзе мы жылі, недзе стаіць у Ваўкавыску. Яе перавезьлі як кулацкую ў свой час, і яна перажыла шчасьліва амаль

усіх сваіх гаспадароў. Гумно перавезьлі на гараж, а хату ашалявалі, і ў 60-я гады было там, здаецца, ДЭУ, што сяньня — нават ня ведаю. Гэта на Віленскай вуліцы. Зайшла я туды аднойчы, і мне зрабілася дрэнна. З той пары абмінаю ўспаміны, што раджу і Вам адносна гэтае хаты…

Тое, што ў нас ёсьць аб гісторыі, дык тое лёгка можаце дастаць у любой бібліятэцы, бо старыя нашыя кніжкі ні ў Зэльве, ні ў Празе не захаваліся, на жаль! Не запрашаю Вас да сябе. Мы хворыя і прытым моцна зьняверыліся ў сваіх суродзічах… У іх словы моцна разыходзяцца з чынам, яны болей як двулічныя, а мы не навучылія яшчэ ні лгаць, ні прадаваць, ні баяцца!

Яшчэ раз дзякуй за ўвагу!

З пашанаю — *Л. Генiюш*.

Муж мой Вам кланяецца. *Л. Г.*

## 86. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 5 красавіка 1976 г.*

Паважаны сябра!

Крыху спазьнілася з адказам, за што даруйце. Я зусім не хацела і не зьбіралася Вас абразіць. Я проста, можа, болей думаю пра Вас, чымсьці пра сябе. Каля мяне тут тварылася часам такое недарэчнае хамства (мякка кажучы) і іншыя, нікому не зразумелыя, дзеяньні, што мы сапраўды перасталі верыць людзям, а добрых сяброў пастанавілі перасьцерагаць ад лучнасьці з намі. Напісала ў «Полымя» ў гэтай справе, бо ў другое якое месца пісаць лічыла ніжэй свае дастойнасьці. Стала крыху, быццам, зацішней… Як надоўга?.. Часам думаю: няўжо так спадлелі мае суродзічы, дзеля чаго было так цярпець і змагацца ўсё жыцьцё?

Усё часьцей выплываюць зь мінулага прадчасныя магілы маёй сям’і… Вешаюць тут на мяне ўжо «ўсіх сабак», але я стараюся толькі ізаляваць сябе, сваю мінуласьць і сучаснасьць ад такой рэчаістасьці. Я ня ведаю, як я гаварыла б з Вамі, — так цяжка ўжо верыць людзям. Няхай крыху ўсё ўляжацца. Я покуль што добрай думкі пра Вас.

Ці піша Вам Слава Целеш? Справа ў тым, што паслалі яму пару кніжак на санаторыю да запатрабаваньня. Ці ён іх атрымаў? Доўга няма адказу, ці не пагоршала яму?

Муж робіцца ўсё слабейшы, і я паважна хварэю. Часам гэта аж дзівіць…

Вітайце ад нас Любу і цалуйце дзетак. Спадзяюся, што Вы мяне зразумелі. Калі б ехалі міма нас, дык заскочце. Спэцыяльна ня едзьце!

З павагаю да Вас — *Ларыса Генiюш*.

## 87. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 12 красавіка 1976 г.*

Даражэнькія!

Вельмі ўсьцешылася вестачцы ад Вас. Заўсёды хочацца ведаць, як маецеся, ці здаровыя? А як з Валерыкавым носікам? Хочацца бачыць Віку. Гэта ўжо ня дзеці, а чароўнае юнацтва, і добра хоць, што гэта «юнацтва» не забываецца пра бабусю Марысю ды яе целятка. Дагаварыліся з Табою, што ня будзеш болей аплакваць с.п. дзядулю Яська. Няхай спакойна спачывае ў роднай зямельцы, а добрыя ўнукі прадаўжаюць яго жыцьцё і ўчынкі. Такі ёсьць закон жыцьця, непазьбежнасьць, зь якою трэба гадзіцца.

А вось тое, што Вы «пастарэлі» — гэта мне ня месьціцца ў галаве! Вы, пэўна, пасталелі, але да старасьці далёка, таму будзьце яшчэ бадзёрымі, маладымі і радаснымі. У такім веку бывае самая цікавая, самая зьмястоўная творчасьць! Няхай жыве творчасьць! Усё іншае — гэта малыя эпізоды жыцьця!

Як чуецца бабуся? Спадзяюся, што вясна збудзіць у ёй усе жыцьцядайныя сілы, адвечныя інстынкты сеяць, гадаваць, вырошчваць і пасьля з радасьцю зьбіраць яшчэ адзін блаславенны ўраджай хоць у сябе на гародзе. Глядзеце мне з Эрыкам, каб адчувалі сябе маладымі, за ўсё адказнымі равесьнікамі сваіх нашчадкаў, каб модна і хораша апраналіся і напоўніцу карысталі з усіх дасягненьняў культурнага жыцьця! Духова расьцем мы і вучымся да глыбокае старасьці. У Табе ёсьць мудрасьць нашай зямлі, і ў спалучаньні з сучаснасьцю гэта і цікава і велічна!

Доўга ўчора кашляў мой муж, і кожная атака кашлю адбівалася болем у маім сэрцы… Яшчэ ўсё працуе. Разумее, што на 84 руб. ягонай пэнсіі цяжка будзе пражыць нам на прывычным узроўні… Уяві сабе, як мне з гэтага ўсяго, хоць мае асабіста запатрабаваньні малыя.

Прыйшла карэктура кніжачкі, якую я ўжо адаслала. Пакінулі ўсяго 14 вершаў, і то даволі-такі «абстрыжаных». Пад «мікада»! Нядрэнна, аднак, атрымалася. Рэдактар на грамадзкіх пачатках — Эдзі Агняцьвет! Я аж прысела. Клікалі мяне прыехаць 26 красавіка па грошы, але як я магу дазволіць сабе на падобныя «ваяжы», калі Іван Пятровіч — як тое целятка бяз маткі, бездапаможны!

Паглянем ужо, Данусенька, што будзе. Я рада, што Алесічак будзе мець сваю кніжачку, як і Міхась. Зь Міхасём не найлепей. «Апалону», бачыш, болей цікава займацца конным спортам, чымсьці ўсімі сінусамі і косінусамі. Здаваў цяпер экзамен у школе на права вадзіць машыну. Які рэзультат — дык яшчэ не пісалі.

В. Лучук прыслаў мне «Ленінську молодь», гдзе пераклаў два вершы Агніі Барто (у лютым было яе 70-годзьдзе) і адзін верш з маёй дзіцячай старой кніжкі. Я была ўзрушана памяцьцю харошых сяброў.

А я дык — ужо сапраўды старушка! Сілаў ніякіх няма… На днях папрацавала крыху ў гародчыку і два дні адхварэла… Зараз усё зацьвіце. Будзе шмат туліпанаў, якія вельмі люблю.

У «Беларускім календары» на 1976 г., які выйшаў у Беластоку, ёсьць добрая Юрына казка. Хачу, каб Ты яе абавязкова прачытала. У нас у кніжным паявілася новая кніжка Алеся Барскага «Мой бераг». Яе ўжо няма! Цікавы зборнічак! Хачу, каб Ты яго сабе купіла. Такая там родная Белавежа. Мой Яначка ўчора думаў-думаў, а пасьля «дадумаўся», што я, напэўна, зь яцьвягаў! Наш род, бачыш, прыбыў у Гудзевічы з тых яцьвяжскіх мясьцінаў. Яцьвягі былі надта ўпартыя, ваяўнічыя і адважныя, таму пагінулі, а можа, крыху пасьля асыміляваліся? Сьмяюся зь яго тэорыі, але рада з ацэнкі.

Надта памаленьку ступае вясна, а я ўсё хаджу на фізіётэрапію. Праграваюць мне голаў — ад склерозу. А мне баліць вуха, і галава баліць ад яго, але ніхто мяне нават слухаць ня хоча. Здаецца, стала крыху лепей. І так, каб Ты была мне вечна маладая, як і Твой «праменны сыгналізатар»! Толькі, крый Божа, не насі ніякіх парыкоў! Не мінай нашай хаты па дарозе да мамы! Муж усім рэкамэндуе кніжку А. Карпюка «Сьлед на зямлі». Яе тут многа. Тваёй яшчэ няма ў продажы. Яшчэ раз дзякуй за ліста, Ты недзе таксама — зь яцьвягаў…

Цалуем Вас сардэчна — *Геніушы*.

## 88. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 28 красавіка 1976 г.*

Даражэнькая Дануся!

Запаліла ў печцы, бо халадно. На дварэ — сьняжок з дажджом уперамешку. Муж ледзь папоўз на працу. Пару дзён як мне зусім не хапіла сілаў, і я думала найгоршае. Сяньня зноў на нагах, гаспадару, пішу Табе. Адказу на кніжку, г. зн. зваротнага дагавору, няма пакуль што. А можа, усё маё нявысланае яшчэ валяецца ў Зэльве? І гэта зусім магчыма… Бывае тут рознае.

На стале — каляровыя яечкі і жоўтыя нарцызы. Амаль расьцьвілі і крэмовыя. Поўна фіялак. На сьвяты хораша праглянула сонейка. Было ўрачыста і ціха на вуліцах. Мы, як заўсёды, былі ўдома. Званіла дзецям. Усе панапісвалі лісты, а ні аднаго не атрымалі! Алесік тоненькім галаском казаў: «Бабусенька, я даўно напісаў!» Сам ліста кінуў! І ніхто зь іх, «мужчынаў», не прызнаўся, што Міхась мае паламаную левую руку ў плячы! Увесь у гіпсе. Дрэнна сьпіць з-за болю. Ня сьпіць і дзед, бо баліць унуку… Усё робіць спорт, але што парадзіш?

Ведаю, якая адказная, цяжкая і далёкая ад паэзіі праца настаўніка. Дзіўлюся, што ёсьць у Цябе яшчэ хвіліны натхненьня, і родзяцца выдатныя вершы. Душа яшчэ здольная вырывацца з рамак будзённасьці. Благаславенны паэтычны бунт жывой душы чалавечай! Аднак, ёсьць многа добрага ў Вашай сямейцы і наагул. Трэба ўсё бачыць — і благое, і добрае. І ўсё гэта ёсьць натхненьне, зьмест нашых вершаў. З агню пачуцьцяў іх трэба крычаць, каб запальвалі і захаплялі. У Цябе яны меней эмацыянальныя, болей філязафічныя. Над Тваімі трэба думаць.

Да мамы трэба даць некага на кватэру. Ёй найцяжэй у самотнасьці. Ці няма там якое аграноміхі ці настаўніцы? Пакуль — да лета, да прыезда ўнукаў. Ці ёсьць хто ў Галі? Добра было б, каб Ты яшчэ некага нарадзіла! Падумай над гэтым. Вы ж яшчэ такія маладыя. Назвалі б хлопчыка Яськам, і мама яго гадавала б. Як было б гэта мудра! Гэта зусім ня сьмешна, Дануся! Гэта радасьць была б Вам на пазьнейшыя годы, якую Карпюкі маюць са сваёй Валі, напэўна. Вы ажылі б і адмаладзелі б, а то паробіцеся эгаістамі. Думаю, што і Віка была б ня супраць, а хлопчык — тым больш. Жыць трэба разумна! Жыцьцё і цікавае сваімі труднасьцямі.

Дзеці візаў атрымалі. Думаю, што сёлета і Юру пусьцяць з увагі на хворага бацьку і на нашую старасьць. Даўганогая, танюсенькая Віка, як яна выглядае цяпер? Калі перарасла Цябе, дык высокая, і гэта вельмі добра. Як расьце Валерык? Вялікае шчасьце, што добра вучацца дзеці. Нават уявіць сабе ня можаш, якое гэта шчасьце!

Сьвяточны стол ня быў у нас бедны, хоць ні масла, ні мяса амаль няма! Я панапякала ўсяго, было і людзям, і нам. Муж есьць вельмі мала. Нэрвуе яго, што ўбывае сілаў. Ня хоча здавацца. Ня хоча разумець, што гэта заканамерна. Упрошваю, каб не хадзіў на працу, і можа, мне гэта ўдасца. Зрабіўся капрызны, вельмі чулы на адносіны, і мае перадсьвяточныя клопаты ня цешылі яго, а дзейнічалі яму на нэрвы, бо ня меў з кім пагутарыць.

Надта хочацца, каб Ты нейк заблудзілася да нас. Апошні раз было гэта — як у казцы! Можа, і цяпер каго-небудзь прынясуць да нас наднямонскія вятры? Ах, мы — вечныя летуценьніцы, і добра так! Ці сочыш крыху за сабою? Ці модна апранаешся? На здымках у прэсе выглядаеш цудоўна!

Вітай ад усяго сэрца дарагіх бацькоў мілай Марыны. Сапраўды, Данусенька, і Ты — зь яцьвягаў! За што Табе шчырае дзякуй! Хочацца, каб хоць вясна была сонечнай і харошай. Баюся надта за здароўе дзеда…

Няхай усё ў Вас будзе добра! Цалуем Вас усіх.

*Геніюшы*.

## 89. МІКОЛУ ЕРМАЛОВІЧУ

*Зэльва, 8 траўня 1976 г.*

Дарагі мой дружа!

Засумавала я, прачытаўшы Вашую картку, але спадзяюся, што гэтая недарэчнасьць ня дойдзе да друку! Час ня той! Цяпер болей праўды і аб'ектыўнасьці ў навуцы, і гэта галоўнае! Праўда, карты можна ператасаваць адпаведна, але зьмяніць іх нельга!

Даруйце ласкава за маю хвіліну слабасьці і мімавольны крык болю. Я зноў дароўваю, бо разумею. Веру — будзем жыць і прытым дастойна. У Вас цяпер слаўная падзея: зьезд СБСП. Напэўна, і Вы там будзеце і скажаце людзям сваё разумнае слова.

Мне прыслалі 329 руб. за кніжку. Няшмат, але і гэта, як тут кажуць, — амэрыканскі заробак! Галоўнае — будзе на прыезд унукаў, якіх чакаем летам. Пытаньне — ці пусьцяць сына? Да болі хочацца пабачыць Вас, і калі ў сэрцы засталася хоць іскра адвагі, дык заедзьце да нас па дарозе да сваіх.

Як з вачамі? Ці прымаеце вітаміны? Памятайце адно: толькі чэсны шлях — для чэсных людзей! Так крыўдна… Мы тут па-ранейшаму — самотныя, але ў нас мала сапраўдных сяброў, а натоўп нам непатрэбны. Моцна хварэла. Усё балела галава. Муж па-ранейшаму: кашляе, стогне, наракае, але вытрывала ходзіць на працу і чакае цяпла. Як настрой? Ці спакойныя нэрвы? Веру ў Ваш розум, крыху — у Гэльсынкі ды ў праґрэс чалавецтва.

Муж шле Вам шчырыя прывітаньні. Няхай усё будзе добра!

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 90. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 15 чэрвеня 1976 г.*

Дарагі сябра Міхась!

Дзякуй вялікае за цудоўнае сьвяточнае прывітаньне! Даруйце, што не пісала. Усё хварэем-прыхворваем, усё самыя, адзінокія, і часам няма калі, а то няма і сілаў падумаць, каб напісаць. Думаем часта пра Вас і пра Славу. Ён недзе ўжо не ў санаторыі. Калі б прыехаў дамоў, дык не мінайце нашае хаты.

Мужу запрапанавалі ўжо пакінуць працу. Перажывае крыху. Ён першы дабіўся лекарскага дыплёму з маленькай Зэльвы, ды яшчэ сказаць, зь беднаты, бо мелі паўучастка ўсяго, а з такіх сродкаў мэдыцыны ня кончыш. Давялося пагаладаць і папрацаваць фізычна, і пацярпець, каб застацца беларусам заўсёды і ўсюды. Што ж, здыме са сьцяны абразочак Ф. Скарыны, за які яго ці раз папракалі. Яму ўжо і час адпачываць, але паступілі зь ім нейк груба, ня так, як належыць… Чужыя, варожыя людзі — дык што ад іх хацець?

У мяне паўтараюцца сардэчныя прыпадкі, і вось гэта, да пэўнае меры, прычына маяго маўчаньня. Што добрага ў Вас? Як Люба, як дзеткі? Як жывецца, як працуецца? Напішэце Славе, што мы заўсёды сябры яго, хоць і ня пішам, ды і Вашыя, дарагі Міхасёк!

Можа, у жніўні прыедуць дзеці з унукамі, хоць гэта яшчэ няпэўна. Чакаю на сваю маленькую кніжачку. Спадзяюся, што выйдзе. А можа, і не… За ўспаміны мне так цяжка ўзяцца. Нарадзілася я ў Жлобаўцах, у нашым фальварку, 12 вёрст ад Гудзевіч. Пастараюся Вам усё напісаць. Бывайце здаровыя. А будзе магчымасьць, дык заяжджайце.

*Л. Геніюш*.

Прывітаньні Вашай сямейцы. *Л. Г.*

## 91. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 30 жніўня 1976 г.*

Дарагі сябра Міхась!

За ўсё вялікае дзякуй! Хацелі заехаць да Вас па дарозе ў Гудзевічы, але не давялося нам туды выбрацца. Дзеці і ўнукі ўжо ад'ехалі. Муж — месяц як на пэнсіі, сумуе бяз працы, безь людзей. Мы тут вельмі самотныя. Сябра мой, што гэта Вы надумалі нам паслаць з поўдня? Справа ў тым, што мы ня ведаем, што з гэтай садавінай рабіць, і яна ляжыць, чакае Вашых інструкцыяў. Пашто было рабіць сабе клопаты і кошты? Пішэце хоць хутчэй, што рабіць з гэтым «хруктам»? Недзе думаеце, што ня ведаем паўднёвай раскошы. О, сябра Міхась, мы не вінаватыя, што болей давялося прабыць на поўначы…

Як мне падзякаваць за тэлеграму Славе? Які цяпер ягоны адрас? Як паслаць Вам па сваёй маленькай кніжачцы (за 12 кап.), якая на гэты раз прадаецца і тут у Зэльве. А можа, Вы самыя калі да нас па яе завітаеце? Моцна будзем Вам радыя.

Пакуль што дзякуй Вам вялікае за памяць. Вітайце Славу ад нас, цалуйце Любу!

З павагаю — *Геніушы*.

## 92. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 5 кастрычніка 1976 г.*

Дарагі сябра Міхась!

Дзякуй за кніжачкі і яшчэ больш — за ліста. Мы якраз пахварэлі абое. Муж ляжыць, а я хаджу крыху, наеўшыся розных таблеткаў. Лекар учора казала, што нічога паважнага ў мужа, чым мяне крыху супакоіла. Спадзяемся на тое, што будзем яшчэ жыць, бачыцца зь сябрамі і г. д.

Аб ніякім маім жыцьцярысе цяпер і мовы няма. Ды ці наагул варта яго пісаць? Каторысьці год суседзі даносілі ў абком: «У них стучит машинка…». Дзеля спакою, каб жыць і выздаравець, стараемся ёю не карыстацца. Хіба вазьму сшытак, «наблытаю» Вам усе свае жыцьцёвыя прыгоды почыркам, які трудна і разабраць… Пісаць аб дзяцінстве — гэта акрылець. Пісаць аб рэшце жыцьця — дык можна яшчэ мацней захварэць. Проста памерці! Што ж, сынку, будзем бачыць.

Цяпер у Вас ёсьць усе даныя, каб на мяне загневацца. Справа ў тым, што я не датрымалася слова! Віной усяму мая натура, што ніяк не магу нечага прасіць у далёкіх сяброў. Я ім заўсёды пішу: усё ёсьць, нічога ня трэба ад вас, «беспрацоўных» і г. д. Міхась, я пастараюся пераканаць сваю гордасьць, але пабажыцца на гэта не магу яшчэ… Ну, ня вешайце галавы, нейк яно будзе.

Пакуль што ніякіх вестак ні ад іх, ні ад сына, і толькі начамі дзівосныя сны мучаць хворую голаў. Што да слоў сябра Міколы, дык у паэтаў наагул «обнажённые нервы», асабліва, калі ходзіш між нелюдзяў і абмінаеш розныя капканы. А пасьлізнуцца нат нельга! Мусяе быць адзін, просты, чалавечы шлях, шляхотны і родны. Пішацца прыхваткамі між працаю, клопатамі, хваробамі, і няма нават часу, каб прысесьці, абдумаць плян: цікавы пачатак, самы высокі, напружаны пункт падзеі і эфэктыўны, бадзёры канец. А пасьля толькі прасіць натхненьня ў хмараў, ці ў ветру, ці ў сонца.

Кніжкі Вы купілі вартыя і добрыя. «Адзенне» мы выпісалі і ўжо адаслалі тым, хто прасіў яго. Няхай карыстаюць з кніжкі, не забываюць Бацькаўшчыны. Што да маяго партрэта, дык Слава мае свае клопаты, і гэта лішняя праца для яго. І мне зусім нецікава, калі застанецца па мне зморены і пастарэлы мой твар. Лепш няхай застануцца бадзёрыя вершы!

Яшчэ адна справа, дарагі сябра Міхась: калі б Вы зноў некалі да нас завіталі зь нечым канкрэтным, як качка ці інш., дык ніколі не старайцеся «даць» гэта нам… Паверце, між сябрамі мусяе быць справядлівы разьлік! Гэта ўмацоўвае адносіны між людзьмі. Пенсіі нам зусім хапае на тое, каб пражыць. Ёсьць і славутая жаночая панчоха, зь якое ў меру патрэбы яшчэ дакладаем (модныя цяпер — «безразьмерныя»)… У нас тут суцэльная галеча ў крамах! А зямелька шчодра сыпле людзям бульбу, садавіну, зерне і інш. У добрага гаспадара восень багатая, дык незразумела, чаму бедная яна ў нас?..

Сяньня — даждліва, але крыху цяплей… Перажывалі за Вашае падарожжа ноччу на матацыкле, ці не захварэла з гэтага Ваша мілая спадарожніца? Прыкра было, што нічым Вас не частавалі.

Муж ляжыць. Учора было яму шмат горай, сяньня крыху ўлёгся жудасны кашаль. Ах, Міхась:

Шмат чаго ў душу належыць ўвабраць,
У ёй зьмесьціцца болей, як зерня ў далонях,
Нам чэрпаць з крыніцаў сьвятла і дабра,
Хай у вершах адвечны наш лад загамоніць.
Пісаць пра мінуласьць ня знача — назад,
Пісаць пра сучаснасьць ня знача — наперад.
У жывую паэму трэ ўсё нанізаць,
Зважыць былое і ў заўтра паверыць.
Тварыць — гэта знача кахаць і цярпець,
З крыўдаю лёс свой злучыць назаўсёды,
Ня ўчора пачатак, ня заўтра канец
Падзеям і думам старога народу!

*Л. Г.*

Бывайце, сябра Міхась! Вітайце ад нас Любу, Славу, сябру Міколу і мілую госьцю, што зьмерзла так, бедная, едучы да нас. Няхай усё ў Вас будзе добра.

Вашыя *Геніушы*.

P. S. Сябра Міхась, я пераламлю сябе, я напішу нейк сваім дарагім. Напэўна! З павагай — *Ларыса Геніюш*.

## 93. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 19 кастрычніка 1976 г.*

Данусенька, дарагая!

Учора я напісала Табе. Вялікае дзякуй за памяць і клопаты пра нас. Юра будзе вельмі шчасьлівы. Ягоны тэлефон: 2-44-87. З мужам ня лепей. Ноч была труднай. Дрэнныя аналізы. Гемаглябін добры. Чакаем сяньня ці заўтра кансіліюм. На лёгкім, кажуць, нічога не чутно. Слабы надта. Апэтыту — ніякага. Сяньня крыху чытаў. Лекі тут сякія-такія маем. Думаюць, што да яго хворых бронхаў дабавіўся яшчэ нейкі вірус.

Вельмі я тут адна, але адна я ўсё жыцьцё. Веру ў лепшае. Хочацца, каб дзедзік наш пажыў яшчэ. Горай з Алесікам. За яго баюся. Калі мужу ня будзе лепей, дык буду выклікаць Юру. Адным словам, кожны нэрв у мяне напружаны. Часам думаю, што, можа, гэта віна аднаго абеду, пасьля якога мяне моцна вырвала. Госьця наша той абед адхварэла. Муж, як бачна, з гэтага хворы таксама. Напэўна сказаць не магу, бо зь ежаю я асьцярожная.

Яшчэ раз дзякуй, мілая Данусенька, за ўсё, за ўсё. Паслала табе ўчора наш здымачак. Цалуй дзетак, вітай сваяго мужа і пажадай яму, галоўнае, добрага здароўя. Няхай усё ў Вас будзе добра.

Цалую — *Ларыса Геніюш*.

## 94. МІКОЛУ ЕРМАЛОВІЧУ

*Зэльва, 22 кастрычніка 1976 г.*

Дарагі сябра!

Дзякуй за ліста. Здаецца — быццам нехта падаў мне сяброўскую руку ў нялёгкі час. Ужо 16-тая гадзіна. У хаце цёпла, выветрана. Муж ізноў сьпіць. Толькі што яму зрабілі ўкол. Была цяжкая ноч. Раптоўна памёр мужаў дваюрадны брат, які жыве недалёка ад нас. Шмат старэйшы за Ів[ана] Пятр[овіча]. Учора яшчэ хадзіў у краму і замест хлеба і інш. купіў сабе сваю ўлюбёную бутэлечку… Перад сьмерцю яшчэ глытануў невялікую чарачку, а ноччу — няма чалавека. Інфаркт. А я ўчора яшчэ зь ім гутарыла! Дрэнна гэта вельмі падзейнічала на мужа. Ды наагул тут нам непрыемнасьцяў не бракуе.

Мужу ўсё ня лепшае. Кашляе шмат, і задуха, страшэнная задуха. Калі паклічу, дык лекары прыходзяць, але маладыя яны, мала практычныя. Муж сьпіць. Дыхае роўна. Баюся адыходзіць, бо нэрвуецца, калі мяне няма. Надта мала есьць. Найлепшы лек для яго — добрыя эмоцыі. Выпісала яму часапісы, якія хацеў. Купіла кніжак. Здаецца, выйшаў нейкі альбом зь сяла Неглюбкі. Ён выпісваў яго, але не прыслалі. Таго «Адзеньня» ня вельмі шукайце. Калі няма, дык такой бяды.

У Алеся, як піша сын, яшчэ «шчасьлівы» пералом. Цяпер малы ў больніцы, у гіпсе. Цяжка яму, бо надта жывы, рухавы. Ёсьць там настаўнікі, якія іх вучаць па школьнай праграме. Больніца блізка ад іх дому, дык яны часта Алесіка наведваюць, асабліва Міхась. Ну, а зь дзедзікам, як бачыце, горай. Але я веру, моцна веру, што небясьпека пройдзе!

Усё дрэнныя весткі. Памёр яго калега па Празе — др. Янка Станкевіч, які займаўся пераважна Аль-Кітабамі і бел[арускім] слоўнікам — працай усяго свайго жыцьця. Як пахавалі с.п. Ю. Сергіевіча? Ці хто быў на яго пахаваньні?

Моцна хачу, каб муж паздаровеў! Лепей ужо, каб я… І так, наша пакаленьне вымірае. Каб хоць Вам усім было лягчэй і ясьней.

Бывайце заровыя!

Вашыя *Геніюшы*.

P. S. Пасылаю Вам наш здымачак зь лета, каб паглядзелі на Алесіка. Заўсёды са шчырасьцю да Вас — *Ларыса Геніюш*.

## 95. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 15 лістапада 1976 г.*

Дарагі сябра Міхась!

Ведаю, што Вы — джэнтэльмэн, але ўжо зашмат мне нагаварылі камплімэнтаў! У меру, Міхасёк, у меру! Я да гэтага тут не прывыкла…

І так — муж крыху ўстае. Спадзяюся, што выздаравее. Стаў весялейшы. З гэтага ўсяго мне засталіся сардэчныя прыступы. Хацела сяньня крыху папілаваць дроў, каб цяпер трымацца за сэрца. І то болей пілавалі суседкі мае, бо крыху завалілі мне хлеў нейкай гнілой асінаю, атрыманай як зімовы прыдзел па кніжачцы. Дровы ёсьць —

і гэта радасьць. Толькі покуль што — ніякіх вершаў, ніякіх успамінаў! Яшчэ каб нейк парадзіць сабе з хваробамі.

Умёр той мужаў брат, да якога мяне выклікалі пры Вас. Тады ён быў сам удома, дык падпоўз да вакна і прасіў, каб мяне паклікалі. Так было некалькі разоў, і ўсё было добра. Выклічу хуткую дапамогу, крыху пагавару. На гэты раз прыступ быў ноччу. Сьмерці адагнаць не ўдалося. Так часта ў нас цяпер падобныя выпадкі. Ходзіць чалавек і падае, як муха. На мужа гэта вельмі дрэнна ўплывае. І сяньня хавалі такога чалавека. Усе — сардэчнікі.

Нядаўна я атрымала ліста, гдзе адзін зь сяброў піша: «Нядаўна я наткнуўся на матэр'ялы, якія сьведчаць, што Літва — славянскае племя і прыйшло да нас з Дунаю, дзе яно было разам зь севяранамі (*"сеўрукамі"*). Калі гэта пацьвердзіцца, то ўся наша гісторыя будзе тлумачыцца па-іншаму. Тады стане зразумелым, чаму ў так званай Літоўскай дзяржаве нічога не было літоўскага (у сучасным значэньні гэтага слова), бо ўсё ў ёй было славянскае, у першую чаргу — беларускае: права, мова, культура і г. д. Зараз мне трэба будзе дастаць крыніцы, бо ў мяне толькі ёсьць спасылкі на іх і цытаты зь іх. Але іх будзе цяжка дастаць, бо яны выданы ў канцы XVIII ст. на нямецкай мове. Прыйдзецца ехаць у Маскву ці Ленінград у бібліятэку, бо такіх кніг не высылаюць».

12-я гадзіна ўжо. Поўнач. Ліст сяньня не пайшоў. Прыйшлі людзі наведаць мужа. Пасьля быў у мяне цяжкі сардэчны прступ. Прайшло крыху ад кропляў і валідолу. Баюся, каб не распачалося зноў. Баялася вельмі гэтага, і здаецца, гэта паважная рэч. Ледзь не забылася пра яшчэ аднаго ліста. «Ад Вас кніжкі даходзяць добра, не прападаюць, а як да Вас адгэтуль — будзем бачыць. Сяньня якраз здадзена на пошту застрахованай пасылкай прошаная кніжка — нумізматычны каталёг Уотана. Гэта найнавейшае, 1974 г., выданьне гэтае кніжкі. У ёй манэты гадоў 1850–1920. Калі патрэбныя іншыя нумізматычныя каталёгі прыкладна манетаў гадоў 1750–1850, — іх можна дастаць. Толькі напішэце — вышлю».

Вось запаўняю Вам сваё «пасланьне» выняткамі з чужых лістоў. Будзем цяпер чакаць кніжку. Ці пусьцяць? Мая пачка з дыванам і іншыя, з кнігамі, яшчэ не прыйшлі да іх. Далей пішуць: «Калі толькі ёсьць яшчэ кніжачкі *"Добрай раніцы, Алесь"*, прашу выслаць як найболей, колькі магчыма. Чытаюць і любяць іх і дзеці і дарослыя» і г. д. Сябра Міхась, і гдзе ж мы іх возьмем? Думайце і Вы, калі ласка.

Муж ужо крыху ходзіць па хаце. Забылася Вам падзякаваць за тую прадуктовую падтрымку. Прыдалася моцна. Цяпер у нас няма ні масла, ні алею, аб мясе не кажучы. Бывае яно рэдка — валовыя косьці, пераважна. Муж есьць мала, але падтрымоўваць яго неабходна. Спэцыяльна не прыяжджайце, але калі б некалі завіталі, дык зь нейкім «вараб'ём» хоць бы. Божа, як гэта ўсё лезе на нэрвы…

17 лістапада. І так, абое мы нікуды ня вартыя. Сяджу на валідоле, як кажуць — таблетку пад язык… Сумна нейк з усяго гэтага. Рада, што ўчора ўсё патрэбнае Вам напісала. Застаецца дадаць, што ножка Алесіку зраслася, і ён ужо ходзіць у школу. Гаварыла зь ім, дык казаў, што мае надта многа працы з залегласьцямі ў школе і што на дрэвы больш не палезе.

Вельмі чакаю тае кніжкі, каб зрабіць Вам таксама радасьць. Як бачыце, дарагія сурodзічы радыя нам дапамагчы. Муж ляжыць і чытае. Доўгі час не цікавіла яго нават газэта. Спэцыяльна да нас «коней не ганяйце», але пры нагодзе не мінайце хаты.

Вітайце Вашых матацыклістаў. Харошыя, відно, яны людзі. Ці выздаравеў сябра? Як маецца Любачка? Як дзеткі? На днях заяжджала да нас Данута Б[ічэль], быў лекар з Гродна. Калі б ня гэты кашаль у мужа, дык было б нейк болей надзеі на паправу.

Бывайце! Вітайце ўсіх-усіх.

Вашыя *Геніўшы*.

## 96. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 1 сьнежня 1976 г.*

Дарагая Данутся!

Муж так усьцешыўся тваім прыездам, што проста патрабуе, каб ты зноў да нас наведалася! Прытым з усімі выразкамі з газэтаў аб днях польскай культуры ў БССР, з добрым настроем, з навінамі зь «велькага сьвету» (ня нашага, зэльвенскага) і г. д. Тыя здымкі недзе загінулі. Да сяньня я іх не знайшла. Зусім магчыма, што залажылі ў кніжкі. Ня думай пра іх! Бедныя палякі, ім і самым тая вайна надаела, і напэўна хацелася нечага вечнага, цікавага, стваральнага, бо ж: «Ня ўчора пачатак, ня заўтра канец падзеям і думам старога народу!» Віна ў гэтым сяньняшніх носьбітаў нашай культуры. Няхай крыху варушаць мазгамі.

Муж чакае паэму, якую ты яму абяцала. Ці перадалі Бярозкіну ад мяне прывітаньне? Ці пілі каньяк? М. Хведаровіча мне давялося бачыць. Меў таксама нялёгкую долю, дык дзіва няма, што адыходзіць. Данутся, я ня вельмі хачу, каб ты прыехала! 1 — кошты, 2 — намога, 3 — ня ўсім падабаецца. З коштамі зладзім, намогу перанясеш, бо маладая, а вось апошняе? Ну, глядзі, што парадзіць сябра Эрык.

Дзед сядзіць, гойдаецца ў крэсьле і толькі марыць, каб з табою сустрэцца. Цешыць мяне, што ён і сяньня падуладны жаночым чарам, знача — будзе з бабы дзеўка! Просіць, каб ты дастала яму «Зорны сьпеў» Калесьніка і шмат чаго яшчэ, аб чым не пішу, бо просьбам яго няма канца! Ці няма ў Гродне часам маіх «Казак для Міхаські»? Просяць гэтую кніжку. Цікава мне, што ж пішуць яшчэ пра нас палякі? Яны пэўна хацелі б быць такімі духовымі мэцэнатамі для нас. Колькі герояў і геніяў дала ім наша зямля! Ім, як і іншым, хочацца зноў убіць у нашыя, сяньня больш-менш асьвечаныя, галавы, што пішам мы і гаворым «па-просту»… Нядаўна я гутарыла з адным лекарам, які зь Літвы. Лічыць сябе палякам. Казаў, што раней былі ў іх польскія школы, а цяпер усяго дзьве гадзіны на тыдзень польскае мовы. Што яны там — усе палякі і крыху літоўцаў упеамешку, і ўсе наагул гавораць толькі «па-просту». Божа мой, як усё гэта крыўдна, гэта ж родныя нашыя брацьці, кроў і косьць нашая, а паспрабуй аб гэтым заікніся! Калі яны адчуюць нарэшце, што гэта ёсьць мова Народу?! Калі ім гэта дадзена будзе адчуць?! Так, дарагая, вайна і нават перамога — гэта яшчэ не здабыткі культуры, бо культура — гэта толькі і толькі нацыянальнае выражэньне чалавечага духу! Я моцна над гэтым задумалася.

Мне надта хочацца, каб табе жылося, працавалася, думалася спакойна. Я адхварэю, калі нешта табе зноў будзе прыкрага праз нас! Празь мяне асабліва, дык глядзі з прыездам! Можа, пашлі ўсё поштаю, толькі, Бог крый, не праз тую «птушку», аб якой пішаш! Твой прыезд — гэта лек, пэніцылін для дзеда, дык сама добра мяркуй, як паступіць. Пару дзён, як абоім нам моцна пагоршала. Справа ў тым, што здохлі нашыя цудоўныя коцікі… Іх рвала. Адзін дык пайшоў з хаты, а другі ціхенька пішчаў, уміраючы на нашых вачах. Так мы іх шкадавалі. Кажуць, іх атруціў суседзкі хлапец, але сьведкаў няма на гэта. Адно толькі, што ён на такое здольны. Баімося за Альму. Мне цяпер дык няма як пускаць яе ў хату. Пісала мне Люда, адна наша знаёмая здалёк. Мае пяцёра дзетак, якіх вельмі любіць, і ня супраць, каб радзіць іх яшчэ. Як гэта цудоўна! Ці пачуеш гдзе сяньня такое? Яна, праўда, не працуе, але думаю, што працы ёй хапае! Адзін зь іх толькі хлопчык. А можа, гэта самае вялікае дасягненьне жанчыны — даць народу болей добрых і разумных грамадзян? Бо ўсе іншыя вартасьці значна малеюць у параўнаньні з гэтай. Галоўнае — людзі, а ім падуладна і тэхніка, і ўсё іншае.

Як чуецца сябра Эрык? Як чуецца Янка Брыль? Ня дай Божа яму хварэць, трэба каб моцна стаяў на нагах! Проста думаю пра яго, як пра брата. Дык да

сустрэчы, дарагая! Усё ж мы зь яцьвягаў! Ці ж ня так? Дзед расхварэецца, калі не прыедзеш.

Моцна цалуем Вас — Вашыя *Генюшы*.

P. S. Данусенька, наконт дзетак да цябе не адносіцца, бо ты «нарадзіла» кніжкі — яшчэ які сьлед па табе!

## 97. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 4 сьнежня 1976 г.*

Дарагія Любачка і Міхась!

Крыху мы на Вас гневаемся. Хочам зразумець Вашыя паводзіны, і ніяк не выходзіць. Калі б ведалі, як муж чакаў на Вас, седзячы, захутаны, на ганачку ў крэсьлі. Усё Вас выглядаў. Ня так прадукты, як Вы былі патрэбныя ў гэты дзень. Дарэчы, я, прыгатаваўшы што перакусіць, пайшла Вас шукаць. Вас не было, безумоўна, але стаўся цуд: у крамах — на дзень канстытуцыі недзе! — ляжалі галовы, мяса сьвіное і валовае! У адной краме нават быў гавяжы фарш! Ляжала і нешта як масла, але быў гэта нейкі «костный жир». Замест Вас прынесла яшчэ прадуктаў у халадзільнік з разьлікам на болей «постныя» дні. Абедалі мы самыя, і было нам сумна.

Хацелі сказаць Вам, каб Вы абавязкова прачыталі ўспаміны П. Клімука ў «ЛіМе». Што за інтэлігентны, разумны і чалавечы гэты наш касманаўт! Пад уражаньнем з прачытанага шлю Вам два вершы, яму напісаныя, як звычайна, нігдзе не друкаваныя. Міхась, у другі раз за такія «фокусы» пастаўлю Вас на гарох! У «ЛіМе» абавязкова прачытайце стацьцю Мальдзіса з канфэрэнцыі ЮНЭСКА ў Бэрліне.

Яшчэ адно: я ж Вам не заплаціла за кніжкі! Ня ўсё адразу ўспомніла. Прыкра мне з гэтай прычыны.

Мушу зацяміць, што Вы, сябра Міхась, моцна схуднелі. Ці Вы здаровыя? Жаданая кніжка яшчэ не прыйшла. Горай тое, што да сяньня яны не атрымалі маёй пасылкі, якая ўжо чацьвёрты месяц у дарозе. Калі б загінула, дык паможаце нам яе рэкламаваць. Не дайшлі туды і кніжкі. Раней усё даходзіла за 45 дзён! Жаль было б дывана і цудоўнага ручніка. Надта харошы, складаны геамэтрычны ўзор.

Муж, як бачылі, крыху папраўляецца, лепей есьць, капельку ходзіць. Горай з маім сэрцам і асабліва з галавою. Унучак наш Алесь ужо бегае, як заяц, як піша сын. Ножка добра зраслася.

Другі раз, дзеці, прыяжджайце, каб крыху пабыць, пагутарыць з намі. Усё думаю, што паехалі Вы галодныя, і муж не сказаў Вам усіх сваіх просьбаў і жалю да жыцьця, да непатрэбнае старасьці. Я стараюся дараваць Вам гэта. Можа, дарую. Бывайце здаровыя! Як дзеткі? За ўсё Вам вялікае дзякуй.

З павагай — *Ларыса Генюш*.

Вітайце ад нас паважаных матацыклістаў. А столькі Вам хацелася сказаць. *Л. Г.*

## 98. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 14 сьнежня 1976 г.*

Дарагая Данучя!

Дзякуй вялікі за перасланыя лекі, за кніжку ды за ліста, які не ляцеў да нас, а поўз, на жаль. Ну, Богу дзякаваць, што хоць прыпоўз. Наагул, апошнім часам мы лістоў проста ня бачылі на вочы. Твой быў першы. А муж, нэрвовы і хворы, усё чакаў ад сына весткі,

ад унукаў. На жаль, ад іх ужо даўно нічога няма. Хочацца верыць, што яны там жывыя-здаровыя, і ўсё ў іх добра. Можа, ты там пра іх што чула? З мужам шмат лепей. Калі ён хворы, дык зь ім лягчэй. Не такі тады згрызьлівы, драбнічковы. Я разумею яго інтарэсы: дастаць якую кніжку, сувэнір ці здымак, але жыць гэтым я ніяк не магу! Я маю сваё жыцьцё, свой уласны сьвет і адменныя ад другіх шляхі думаў. Зноў бываюць канфлікты ў нас. Стараюся тушаваць іх, але не магу сьцерпець, калі нехта сябе ўзвышае фактычна безь ніякіх заслугаў…

Сяньня я моцна ўсхваляваная ўчарашнім выступленьнем па тэлебачаньні маскоўскіх паэтаў. Такой Масквы я яшчэ ня ведала. Выступалі са сваіх рускіх пазыцыяў, безумоўна. Выступалі пераважна разумна, натхнёна, палымяна. Гэта было нешта новае, дружнае і прыгожае! Хораша выступаў Салаухін — моцна шчыры і талковы дзядзька. Упершыню давялося чуць мне Булата Акуджаву. Песьні, якія ён выконваў, — сапраўдная паэзія, і голас — нішто. Цікавы і вельмі інтэлігентны парадыст Іваноў. Тэмпэрамэнтна-натхнёны Вазьнясенскі і крыху тэатральны, але таксама цікавы Еўтушэнка. Любяць яны і змагаюцца за сваё словам, і наагул закранаюць шляхотнейшае ў душы чалавечай. Пішуць аб тым, што ведаюць, паважаюць і любяць, і гэта хораша.

За выразкі з газэт вялікае дзякуй. За права пакінуць іх сабе — дзякуй яшчэ раз. Там ёсьць пэрлы, як, напрыклад, цана «русской лошади». Данушя, родная, дзякуй за ўсё! Калі зможаш, дык адведай нас. Божа мой, як хочацца часам бачыць каго з Вас са шчырасьцю і сяброўствам!

Цалую цябе і вітаю ўсіх тваіх хатніх. Паклон ад мужа.

*Ларыса Геніюш.*

## 99. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 12 студзеня 1977 г.*

Даражэнькія Люба, Міхась і дзеткі!

Напэўна, атрымалі ўжо нашую картку і ведаеце, што ў нас тут не найлепей. Маю зламаную ногу ўжо трэці тыдзень. Нейк трымаемся. Дапамагаюць суседзі, бо і муж ня моцна здаровы, як ведаеце. Больш-менш у нас усё добра, бо ня мерзлі яшчэ і не галадалі і нейк трываем.

Што добрага ў Вас? Ужо другі тыдзень, як ляжыць для Вас жаданая кніжка, але, пэўна, яна ня тая, якую Вы хацелі, бо няма на ёй 25 нашых рублёў. Нічога, дарагі Міхасёк, я думаю, што Вы яе зможаце прадаць якім важным нумізматам, і мы з Вамі купім за гэта ў якім Лыскаве ці гдзе будзе геамэтрычны дыван ці нешта падобнае. Кніжка прыйшла ў парадку, але выданьне горшае за нашыя беларускія выданьні. Яна — толькі пра манеты. Урэшце, паглянеце самыя.

У Вас, напэўна, завалы працы, і ня маеце моцна часу. Вялікае дзякуй за «Неглюбскія ручнікі». Жаль, што кніжка была толькі адна. Мая пасылка да Галіны (яна нарадзілася ўжо ў ЗША) дайшла нарэшце! Мелі вялікую радасьць! Ішла надта доўга. І я мела радасьць. Мне заўсёды хочацца, каб нашыя людзі, хоць ня тут народжаныя, мелі хоць нейкае паняцьце аб чароўным мастацтве нашых, ня так даўно зусім непісьменных, а як жа здольных жанчын-беларусак! Вось, як піша Мулявін, і Амэрыку паланіла наша народная беларуская песьня, а не яны — выканаўцы… Хораша піша!

Дык прыедзьце, забірайце сваю тую кніжку. Не пісала Вам, бо не да лістоў мне было. Цяпер крыху скачу, на пяту прыступаючы, дык лягчэй. На мыліцах ніяк не атрымоўвалася.

Усіх Вас сардэчна вітаем. Вітайце ад нас знаёмых.

Вашыя *Геніушы*.

## 100. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 10 лютага 1977 г.*

Дарагая Дануся!

Ты мяне так напалохала прыбыцьцём на мае паховіны «ўсёй літ[аратурнай] Гродзеншчыны», што я пастанавіла пакуль што яшчэ жыць. Справа ў тым, што мы зрабіліся вельмі нетаварыскімі тут, на сваёй зямлі… Даруй ласкава мой апошні ліст. Гэта я падзялілася з табою, каб стрымаць сябе, не напісаць Валянціне. Сяньня быў ад яе другі ліст, такі «деловой», ветлівы і вельмі абыякавы да нас. А можа, ёй проста не дадзена быць чалавекам з душою сапраўднай жанчыны? Разьлік сяньня важней за ўсялякія сантымэнты, якія пакутуюць толькі ў нашага, адыходзячага пакаленьня. Можа, мы замнога хочам? Можа, сапраўды надаела ёй кожны год аглядаць нашыя твары? Паслухай, Дануся, можа, гэта мы эгаісты, бо вымагаем нейкае ўвагі да сябе, калі ў сьвеце тысячы болей цікавых атракцыяў? Нейк абарвалася лучнасьць пакаленьняў. Навукова-тэхнічная рэвалюцыя ператварыла чалавека ў нешта штучнае, самапэўнае. Зусім адарванае ад таямніцы сапраўднага жыцьця зямлі і прыроды, лучнасьць зь якою адчуваем, калі адыходзім. А проста па-бабску ўсё ж цяжка мне згадзіцца з фактам: калі яны едуць да нас, дык толькі з прыкрага абавязку, як відаць зь яе ліста. Гутарка пераважна аб ёй адной.

Я думаю, што маме тваёй добра ў вас нават ужо з тае прычыны, што бачыць вас, наглядае за вамі. Без сваёй сялянскай, карыснай працы ёй сумна, і ты гэта добра разумееш. Не шкадуйце ёй толькі добрага слоўца, і яна ўсё зразумее. Сама выбера шлях, як ёй быць далей. Калі заняможа ўжо, дык другая справа. Што да замка, дык ён нам патрэбны, каб вешаць на хлеў, на склеп, на магазынчык. Псуюцца мае, а іх нідзе не купіш. Адзін маю пазычаны, другі выменяны. Сяньня зноў заходзіла да нас доктар. Не зусім яшчэ добра з мужам. Мне нейк таксама няважна, хоць з нагою можна вытрымаць. Часамі пабольвае. Абапершыся на Зоську ці на палачку, пару разоў была ў Зэльве.

Ты пішаш, што маю сяброў… Сьмешна, Дануся. Я іх ня маю! Можа, хіба толькі тыя, далёкія, якім сяброўства са мною нічым не пагражае. Гэта толькі твае мілыя ілюзіі, Дануся. Глядзі на жыцьцё рэальна. Мой муж непапраўны. Калі прачытаў, што ў цябе непатрэбныя кніжкі (польскія), дык сядзіць і дзяўбе, каб ты яму нешта зь іх прывезла! Накрычала на яго за гэта, але пішу. А тое «Życie Literackie» так і не прыйшло. Сяброўкі далёкія перапрашаюць, што зачаста і замнога пішуць, а мне нават сьвяточных картак ад іх не аддалі… Травяць, як толькі могуць. Устыд мне за такіх людзей…

Масла ў нас ёсьць. Колькі часу ўжо зусім няма кэфіру, але ж ня везьці яго аж з вобласьці! Сяньня Зося прынесла крахмалу і 20 яек. Ёсьць качка, каўбаса (была ў краме). Так што не бядуем зь ежаю пакуль што. Ужо позьні час. Ліст мой пойдзе заўтра. Жаль, што ў цябе так з горлам. Было ў адной жанчыны тут падобнае. Парадзілі піць падагрэты нарзан і яе вылечылі. Папі гэта даўжэйшы час. Што кажуць лекары? А можа, гэта толькі прастуда? Добра, што Эрык падлечыцца крыху. Ты, галоўнае, глядзі свае нэрвы. Хвароба гэта — бяда, а рэшта нічога, ня мае значэньня! Таму разважай спакойна і такжа рэагуй на ўсе, ня так ужо важныя явішчы жыцьця. Трымай маральна Эрыка. Ён хворы, дык можа быць і падражняны. Разумей яго і нейк дароўвай. Ведаю, што гэта цяжка, але што ў нас лёгка? Школе давай тое, што можаш ёй добрасумленна даць. Прасі рады і дапамогі ў сваіх калегаў, калі бачыш, што яны ў сілах табе памагчы. Нэрвы і апошняе здароўе аддаваць нельга нікому!

Якая мілая рэцэнзія была на тваю кніжку ў «Беларусі»! Цудоўна! Маладзец В. Тарас! Калі зможаш, і ня будзе асаблівай сьлізготы, дык прыедзь. Ці мама твая любіць тэлевізар? Я думаю, што яна найболей любіць Віку. Надта міла і мудра ўмее гаварыць Валерык. Бабусі ня будзе сумна зь імі.

Цалуем Вас усіх. Рады будзем, калі цябе ўбачым — твае *Геніюшы*.

## 101. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 21 чэрвеня 1977 г.*

Даражэнькая Дануся!

Разумею тваі клопаты і стараньні аб Эрыку. Я ніколі ня думала, што яму так дрэнна і што хворая печань. Ці ён ужо ўдома? А ці не лепей было б яму, каб — меней лекаў, а болей — радасьці і сонейка?

З прадуктаў у нас ёсьць заўсёды амаль нейкае мяса, з малымі перарывамі — малако і радзей — кэфір. Ёсьць нават цэйлонскі чай! Нейк мы мала цяпер ямо. І ўсё гэта не так актуальна.

Мужу ня лепей, але, Богу дзякаваць, і ня горай. У жніўні чакаем дзяцей і ўнукаў. Я пасьля 30 уколаў коларбоксілаза чуюся шмат лепей. Суседкі мае ўзброіліся пэндзьлямі і цудоўна выбелілі мне хату! Даволі напрацавалася і я. Дадай да гэтага гарод і кветкі ды хворага, капрызнага мужа і хату, дык будзеш мець поўную ўяву, як тут мне ёсьць! Але жыцьцё — не бяз радасьцяў. Учора выпаў сапраўдны дождж — і ўсё ажыло! Нешта заўсёды крыху цьвіце. Было шмат туліпанаў, але ўлезьлі па іх празь сетку ад стараны суседзяў і вылупілі ўсе, шмат — проста з карэньнем…

Найбольшая радасьць — гэта ліст і здымачак ад Алекса, братавага сына зь Лёндана. Нейкім цудам амаль усё разабрала ў лісьце, пісаным па-ангельску! Дваццацігадовы Алекс працуе цяпер у Шэксьпіраўскім каралеўскім тэатры ў Лёндане і мара яго — быць артыстам. Не спадзявалася такой цеплыні, такой сардэчнасьці зь іх боку. Перадусім, вельмі хочуць нам дапамагаць, а ў іх яшчэ Paul — 12 год, Nicolas — 14 год, George — 16 год (паступае ў коледж студыяваць мастацтва), Janina — 18 год (ідзе ва ўнівэрсытэт на права), Robert — 25 год, жанаты ў Аўстраліі, Richard — 27 год, жанаты ўжо ў Англіі, і дарагі Алекс у джынсах на здымачку са сваёю girl-friend таксама ў джынсах.

Мы тут як у сьне! Усё думаем праз іх і гаворым. Быў у нас вялікі род, але вайной амаль загінуў, і бачыш, зноў адрадзіўся! Як дзіўна бывае на сьвеце! Алекс — вельмі прыгожы, сьветлавалосы і сінявокі, відно, што вельмі інтэлігентны. У сьнежні едзе ў Melburn, а стамтуль праз Владивосток хоча махануць да нас. І гэта ў 20 год! Знае добра замежныя мовы, але славянскай — ніводнай! Вось і маем цяпер беларуска-брытанскія гібрыды, якія пакуль што амаль усе накіроўваюцца ў мастацтва! Божа мой, як хораша, што яны ёсьць, што яны жывуць!

Я зноў пра Эрыка. Што кажуць лекары, як і чым раяць яго ратаваць? Зёлкі таксама нельга даваць бяз добрай кансультацыі. Ніякім бабкам ня вер! А кольчыкі купіш сабе яшчэ не адныя, і добра, што пракалола вушы! Бачыць цябе заўсёды вельмі хочам. Прадуктаў ніякіх з сабою не прывозь, толькі калі б былі сасіскі ці сардэлькі, дык вазьмі крыху. Прыяжджай, галоўнае, сама, каб мы маглі цябе пабачыць. А беднасьць, сапраўды, — дрэнная рэч, і ў нас 90 руб. не хапае на месяц… Але не бядуем. Юры там выслалі крыху грошай для нас, бо з пачкамі цяпер немагчыма, а з днём народзінаў ім хочацца мяне павіншаваць, але Юра і Валя ня тыя, што прывязуць нам нешта за гэта… Ну, будзем бачыць! Галоўнае, каб Бог даў здароўе нашым мужам!

Трымайся, Данусенька дарагая, і будзь радая хоць зь дзетак, што здаровыя і добра вучацца. Нашыя «спартсмэны» едуць на троечках…

Сардэчна Вас усіх вітаем і цалуем.

Вашыя *Геніюшы*.

Хутчэй прыяжджай!

## 102. АЛЕСЮ БЕЛАКОЗУ

*Зэльва, 23 чэрвеня 1977 г.*

Даражэнькія!

Адразу адказваю Вам на ліста, бо вельмі мы яго чакалі, непакоіліся, як там і што са страўнікам. Жывем тут адзінока і ніякіх вестак ня маем, а сэрцу неспакойна: як там з Вамі ўсімі? Як бачыце з карткі, якую я Вам паслала ў мінулым лісьце, у Вас — гастрыт. Можа і добра, што пачалі лячыцца травамі, галоўнае — каб хоць крыху сьціхалі болі. Як з нагою, ці Вы прыкульгваеце, ці наагул яшчэ ня можаце хадзіць? Ці хоць усё там як сьлед зажыло? Здаецца мне, што пакуль Вас не пабачу, дык нічому і не паверу! Хто ж будзе памагаць Вам удома, калі Вера паедзе? Застаецеся толькі Вы зь Міхасём. Ці справіцеся самыя?

Мужу зноў стала горай, хадзіць зусім ня можа, болей ляжыць. Часам загарае ў крэсьле на сонейку. Злуецца на мяне, сварыцца, што мяне ня бачыць, а я — то ў гародзе, то ў краме, то прачу, то мыю і т. п. Прыйшлі суседкі, пабялілі цудоўна хату, памаглі папратаць. Учора крыху памалявалі падлогу ў кухні, на болей не хапіла фарбы, якое не дастаць. Пахаладнела сяньня, муж кашляе, а я адказваю на лісты.

На днях атрымала ліста ад Алекса — братавага сына. Сядзелі і плакалі абое. Такі ён рады, шчасьлівы, што знайшоў нас, сваю радню. Дзесяць гадоў, ад разводу, ня бачыў бацькі, які мае другую жонку і дзяцей. І мы пра Алёшу нічога ня ведаем. Гэтае хлапчанё мае адзіны клопат — як і чым нам дапамагчы? Божа, няўжо яшчэ не зьвяліся сваякі, людзі на сьвеце? Наймалодшы зь іх — Павал (12 г.) ходзіць у школу. Мікалай (14 г.) — таксама. Жорж (16 г.) паступае ў спэцыяльны коледж, бо хоча вывучаць мастацтва. Яніна (18 г.) паступае ва ўнівэрсытэт на права. Алекс (20 г.) працуе ў Каралеўскім Шэксьпіраўскім тэатры ў Лёндане і пастанавіў стаць акцёрам. Робэрт (25 г.) жыве з жонкаю Аннай у Аўстраліі ў Мельбурне. Рычард (27 г.) жанаты, жыве ў Англіі.

Пра ўсіх тое сінявокае, сьветлавалосае хлапчанё нам напісала. Хоча прыехаць да нас у сьнежні. Па дарозе з Аўстраліі (паедзе да брата) дамоў хоча параплавам ехаць да Ўладзівастоку, а пасьля праз цэлую Расею — да нас! Гэта такое разумнае і энэргічнае стварэньне, што ад яго ўсяго можна спадзявацца! На здымку такі невысокі, у джынсах, як цяпер усе, стаіць са сваёю гэрл-фрэнд (дзяўчынаю). Крыху падобны на сястру маю Люсеньку. З твару вельмі прыгожы.

А мне хочацца прыпасьці сэрцам да каменнай пліты на дзедавай магіле і ўсё пра ўсіх расказаць сваяму дарагому дзеду Паўлу Францавічу Міклашэвічу. Ці думаў ён калі, купляючы зямлю, што нашчадкі яго апынуцца так далёка? Што ж, добра хоць, што яны ёсьць!

А дзеці і ўнукі прыедуць у жніўні. Званіла ім. Сын паслаў нейкія навуковыя артыкулы, якія мы не атрымалі. Алесь паслаў ліста таксама, і яго мы пакуль што не атрымалі. Муж нэрвуецца, хворы, а я да падобнага даўно прывыкла…

Аб нейкай паэзіі ці друкаваньні няма сяньня і мовы, а крышачку жаль, бо зроблена мала. І так, Сашанька, трымайцеся з усіх сіл, папраўляйцеся! Мару, каб вырвацца да Вас хоць тады, калі нашыя прыедуць і нехта застанецца тут з мужам. Мы моцна радыя з Марынкі! Што піша Коля? Спадзяюся, ён дасьць сабе рады. Усе тут пра Вас пытаюцца. Усяго Вам добрага! Трымайцеся, пішэце! Вашыя *Геніюшы*.

## 103. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 4 кастрычніка 1977 г.*

Дарагая Дануся!

Першае і галоўнае: як Тваё здароўе? Як чуешся пасьля такой цяжкай і неспадзяванай апэрацыі? Я думкамі ўвесь час з Табою. Ні прыехаць, ні кветак нават паслаць ніяк Табе не магла. Я тут была зусім аслабела. У пятніцу запрасілі мяне вымыцца ў ванну, дык ледзь прывялі ў нармальны стан… Нешта ненармальнае, але гэта не цікава.

Крыху забралі здароўя і дзеці і ўнукі. Ня так нешта у іх, як трэба. Валю звольнілі з працы, Юра пісаў, што мае вялікія непрыемнасьці па рабоце. Міхась няважна вучыцца, Алесь непаслушны, махлюе. Яны нядрэнныя, але хацелася б, каб хоць вучыліся добра. Муж па-ранейшаму: хворы, грубы, падражняны. Калі былі дзеці, дык уцякалі ад яго, бо з усімі сварыўся. Даказваў сваю праўату паўвекавой даўнасьці. Цяпер усе яго настроі сыплюцца на маю бедную хворую галаву… Бывае цяжкавата.

Ці паехала Віка? Як уладкавалася? Гдзе цяпер Ты? Як здароўе сябра Эрыка? Крыху было мне прыкра, што нашыя зрабілі такі напад на Вашую хату, і Ты, слабая і хворая, прымала іх абедам. Дарэчы, яны спазьніліся на цягнік на 6.30 і паехалі ў 4.30 раніцай. Толькі адзін Міхась нейк увапхаўся і прыехаў дахаты на час. Перамучыліся, перанэрваваліся.

Міхась у нас моцна напрацаваўся, Валя на гэты раз — таксама. Але ніхто зь іх нават не папытаўсся, як мы тут жывем? Калі я сказала, што адна дзедава пэнсія — крыху малавата, дык Юра сказаў, што баба Юля (маці Валі) жыве на 20 руб., і хапае… Пасьля гэтага болей на гэтую тэму ня гутарылі. Мая праца была — іх накарміць, пацешыць, выправіць у дарогу і хоць крыху нечым абдараваць. Юры шкада. Ён быў няшчыры з намі і відно, што меў нейкі цяжар на сэрцы. Многа еў, сам сабе нешта смажыў, піў чорную каву, чытаў. Відавочна, патрабаваў якой добрай рады, зразуменьня, але дзед да таго, каб зразумець, дапамагчы чалавеку, няздольны, і так пад мае сьлёзы яны і паехалі. Як ім добра ні жылося б, а ўсё ж такі яны нейкія бездапаможныя і блізкія, і шчырыя сябры ім вельмі патрэбныя. Часам здаецца, што мы для іх сьмешна старыя, бо яны дзеці сваяго часу.

Ці павіншавала Ты сябру Брыля з высокай узнагародаю, ну і з датаю, безумоўна? Як Ты, мая харошая, была там адзінокая ў больніцы? Хто акрамя добрага мужа наведваў цябе, дапамагаў? Мне тут дык Валя крыху памагала, калі бачыла, што я аслабела зусім… Я думаю, што ў мяне найгорай гэта з нэрвамі, хоць жыцьцё стала апошні час спакайнейшым. Прыкра толькі тое, што зусім няма лістоў ад сям'і брата, так цудам знойдзенай. Няма лістоў наагул. Ці не баліць болей Табе нічога? Ці не адчуваеш слабасьці? Як табе пішацца? Чым цябе цяпер цешыць харошы Валерык? Ці моцна трымаецца сябра Эрык? Я ўсё баюся, каб зноў не было яму пагана. Чым я магу зрабіць Табе хоць якую маленькую радасьць? Я перад Табою ў вялікім даўгу за тваю мілую ўвагу да нас.

Пішы, дарагая Дануся. Я цяпер пастанавіла крыху ляжаць, каб паправілася здароўе. Вітай мужа, цалуй дзетак. Шчыра цябе цалуем.

Твае *Геніюшы*.

## 104. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 16 студзеня 1978 г.*

Дарагая Дануся!

Не мела хвіліначкі часу, каб Табе напісаць. Напісала спагаданьні Валодзі К[араткевічу], няма ад іх ні слова! Ці Ты нічога ня чула праз с.п. Надзежду Васільеўну? Як яна памерла, гдзе пахавалі? Я, як і Ты, аб гэтай сумнай падзеі даведалася толькі зь «ЛіМа».

Мне асабліва цяжка, бо с.п. Нябожчыца пісала мне амаль да апошняга дня… Адразу памерла тут па-суседзку і мужава братавая. Жонка дваюраднага брата — Тукальская. Проста працавала, хадзіла, а ўночы яе ня стала. Гэта моцна ўсіх нас нейк скалыхнула. Хварэлі мы зноў абое. Цяпер крыху лепей, бо марозік, і тагды нам лягчэй.

Як маецца сябра Эрык? Ці яшчэ ў больніцы? Як чуецеся Вы ўсе? Ад дзяцей і ўнукаў амаль месяц не было вестак. Мужу было з гэтага дрэнна. Лісты, пісаныя 16 і 17 сьнежня, прыйшлі на днях! Няма толькі яшчэ ліста ад Алеся. У іх усё покуль добра. Горай з Іванам Пятровічам: тая сьведамасьць, што здароўя ўжо не паправіць, яго найбольш грызе. Сварлівы ён стаў, часам нясьцерпны. Я ведаю, што хвораму трэба ўсё дараваць, але не заўсёды магу стрымаць сябе. Стараюся, аднак, мужаюся і маўчу, маўчу… Шмат тут іншага, аб якім не напішаш.

Данусенька, калі б Ты нешта даведалася пра Валодзю і с.п. яго маму, дык напішы мне ласкава. З прыемнасьцю слухалі пра нашага Дзяргая. Добры быў вечар! Ці глядзела перадачу ў Лужніках? Даволі падабаліся мне тыя паэты… Нейк даведаліся мы, што ў маяго брата ўжо нарадзіўся ўнук! Назвалі яго Янам. Лісты не даходзяць. Галоўнае тое, што Міклашэвічаў на сьвеце прыбывае. Прашу вельмі, напішы мне хуценька, як там у Тваёй сямейцы. Галоўнае, як з мужам? Бэла Ахмадуліна нейк дзіўна дэклямуе свае вершы. Думаю, што вельмі шчыра. «Я ненавижу в жизни ложь!» — як гэта добра сказана… Напішы аб усім!

Дзед мой, як нікога няма, дык стогне — ня вытрымаць, але як паявіцца якая баба малодшая — дык ажывае! І сьмех, і бяда. Цалую і абнімаю.

*Ларыса Геніюш.*

## 105. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 15 траўня 1978 г.*

Дарагая Дануся!

Дзякуй за вестку. Адчуваецца, што нешта цябе ўсхвалявала. Напэўна — сталічныя, цікавыя сустрэчы. Ці наведала хворага на вантробу? Паздаровеў бы, можа. Ніяк не магу згадзіцца з гэтым, што дарагой яго маці ўжо няма…

Што да сьвербу ў сябра Эрыка, дык яго, напэўна, лечаць і дэрматолягі, хоць гэта, хутчэй, ня скурная хвароба. Я магу парадзіць толькі хатні ратунак ад гэтага — націраць воцатам. Памагае.

А «Белавежу» трэба табе наведаць! Ты зусім добра, густоўна заўсёды апранутая! А калі хочаш быць надта моднай па-польску, дык паглядзі пры нагодзе «Кабачок 13 стульев». Апошні раз усе дамы «Кабачка» так і лёталі ў нейкіх гіпэрмадэрных балахонах бяз формы і густу — гэта мода. Альбо глянь, у якіх звоях матэр'ялу верашчыць Ала Пугачова, і пашый сабе сама (вялікага майстэрства на гэта ня трэба!) падобныя тогі, тунікі і індыйскія сары! Вось тое, што я магу парадзіць табе з Зэльвы.

Адна знаёмая прыехала нядаўна з Чэхаславаччыны, дык казала, што калі хто ў крэмплене і ў лякерках, дык адразу пазнаюць, што ад нас! Яны ж носяць нейкія несуразныя дзеравяшкі і т. п. Дык едзь, у чым маеш, а Юра пастараецца цябе там абуць у што наймоднейшае зь дзерава і лыка, бо «nóżki» ў іх — гэта галоўнае. Справа ў тым, што адна прысутнасьць Твая будзе для іх ужо сьвятам. Апрані льняную летнюю сукеначку зь беларускім узорам, а галоўка ў цябе і так заўсёды ў парадку. Для падарожжа пашый мілы касьцюмчык, а раскошны халацік купіш на месцы. Вось і ўсё! Калі юбілей іх — ня ведаю, але спадзяюся, што Юра табе аб гэтым напіша. Ты — іх сябра, яны Цябе любяць. І таму да «белавежцаў» належыць Табе паехаць!

А ў нас тут — ненармальны май! Усё мерзьне, ад нас зь дзедам пачынаючы! На злосьць усяму красуюцца толькі нарцызы ды безьліч іншае нейкай драбнаты. Гароду ўсё яшчэ няма як садзіць, бо там мокра. Найболей шкада мужа, якому неабходна выходзіць на сонейка.

Учора званіла нашым. Міхась пакуль што трымаецца. Алесік — недзе з экскурсіяю школьнаю ў ГДР. Яшчэ не вярнуўся. Дакумэнты яму вырабілі, як для дарослага, далі 100 марак з сабою, а цэлая працэдура каштавала 3000 зл. А для нас гэта зноў неспакой, бо нашчадак наш залішне быстры і неспакойны, дык каб гдзе не заблудзілася па дарозе хлапчаня тое дарагое.

Мы думалі, што, можа, заглянеш сьвятамі да нас. Чакалі. Нікога ў нас не было, як сама ведаеш, і сьвяты былі болей вэгэтарыянскія (незалежна ад нас), але ўсё, што можна было зрабіць з мукі і маргарыну ды цукру, было зроблена. Данусенька, калі табе ў вандроўках Тваіх па сталіцах трапіцца на вочы ізюм і ванількавы цукар ці якія гарэшкі, дык купі, ласкава, гэтых прыправаў для мяне. У нас тут з гэтым зусім безнадзейна, а мае ўнукі, якіх чакаем, гэта перадусім аматары перакусіць, ды і Юрка з Валяю — таксама. Што ж, нармальна. Спэцыяльна нічога не шукай, але калі б такое трапілася, дык купі.

Яначка яшчэ сьпіць, а ўжо 10 гадзін. Так смачна сьпіць, што мне здаецца, ён здаровее. А я тут над ім — як квактуха. І так, пара канчаць мілую размову. Вельмі хочацца нам убачыць Цябе — мілую, здаровую і хоць крыху бадзёрую. Жадаем добрага здароўя і шчасьця ў Вашу сямейку! Ідзі памаленьку, не аступіся… Яшчэ не зацьвілі туліпаны, але за тыдзень іх будзе многа.

Сардэчна цалуем Вас усіх! Ці карыстаецца Валерык аквалангам? Ці ня ўсе яшчэ забыліся пра нас, каго ты бачыла ў сваіх вандроўках?

Вашыя *Геніушы*.

## 106. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 12 верасьня 1978 г.*

Дарагая Данусю!

Дзякуй за картку. Ці сябра Эрык яшчэ ў больніцы? Як ён чуецца і як з вантробаю? І гдзе ён злапаў тую пнэўманію? Ці хоць акрэп крышачку? Як там сама даеш сабе рады, дарагая? Заўсёды зь цяплынёй у сэрцы пра Вас думаем.

Прабач, што нашыя нарабілі Вам клопату. Ці хто яшчэ быў у Вас разам зь імі? Наконт Міхася, мне здаецца, Ты маеш рацыю. Нам ён тут памог і зусім не адпачыў нават. Пагутарыць зь ім мне так і не ўдалося, бо заўсёды нешта рабіў. Мне здаецца, што Алесь будзе разумнейшы за яго. Алесь — вельмі цікавы хлопец: легкадумны, здаецца, звонку і вельмі зьмястоўны ў сапраўднасьці. Маю ўражаньне, што гасьцям нашым (сыну і нявестцы) было ў нас сумна. А мне было цяжка. Сапраўды цяжка, бо сілаў фізычных у мяне штодзень меней.

Толькі што была лекарка. Ціск дрэнны. На днях лекар з Гродна выпісаў мужу вельмі патрэбны лек. Яго можна дастаць толькі ў адной аптэцы ў Гродна (недзе каля Табачнай фабрыкі). Гэта так зв. мікстура Траскова. Тэлефон аптэкі — 54-3-86. Справа такая, што мы аніяк ня можам дабрацца да Гродна, а мікстура мужу вельмі патрэбная. Пасылаем Табе рэцэпт. Калі б Ты змагла, дык закажы тую мікстуру і пастаў яе абавязкова ў халадзільнік. Аднак, зрабі гэта толькі ў тым выпадку, калі б Ты мела магчымасьць хутка нам яе пераслаць. Мы тут таксама будзем старацца, можа, хто будзе ехаць у Гродна. Толькі нам гэта куды трудней. Паглядзі там, дарагая Данусю, а можа, здарыцца які цуд і нехта ад Вас будзе сюды ехаць. Я нават думала, каб сябра Эрык прыехаў да нас

крыху пасумаваць на які тыдзень. Напэўна, мае яшчэ бюлетэнь. Я тут яго адпаведна дагледзела б, хочацца яго бачыць. Спадзяюся, што ён ужо паправіўся. Не пісала Табе, бо я — «інвалід» амаль. Нават за пяро было цяжка ўзяцца.

Пакуль што Юра пісаў толькі раз. Заехалі яны шчасьліва. Мы іх успамінаем, але нячаста і ня так цёпла, як некалі. Нейк рвуцца кантакты між імі і намі. Прычынай гэтаму, можа, — наш век глыбокі ці трываласьць старых, чалавечных поглядаў на ўсе праявы жыцьця. Не люблю людзей, якія ня маюць зразуменьня да іншых і літасьці ці проста спагаданьня. Не кажучы ўжо аб матэр’яльных справах, да якіх я прывыкла адносіцца вельмі чэсна. Аказалася, што гэта не драбніцы, а такі фактар, празь які цяжка і пераступіць. Дароўваюцца памылкі. Добра прадуманых сьвінстваў дароўваць нельга, асабліва, калі гэта датычыць моцна хворага і старога чалавека.

Табе вялікае дзякуй за мілы візыт. Толькі ніколі ня трэба траціцца людзям, у якіх кожны рубель на ўліку! Ты нам мілая і без цукеркаў!

Нашаму здароўю вельмі не спрыяе пагода, калі так будзе прадаўжацца далей, дык ад гэтых вечных дажджоў зусім занямеюць ногі. Цяжэй дыхаецца і мужу. Цяпер ён моцна кашляе.

Данусенька, калі, паводле Тваіх меркавань, няможна было б купіць гэтай мікстуры, дык ласкава адашлі рэцэпт нам назад. Я далучаю яго да ліста. Гэта мікстура для адкашліваньня, каб лягчэй мужу адыходзіла макрота, бо працэс кашлю яго замучвае.

Канчаю ліста. Прыехала госьця да нас. Сьпяшаюся. Зося здымае бялізну з гары. А ногі маі падгінаюцца са слабасьці. Цалуем Вас усіх.

*Ларыса Геніюш.*

## 107. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 20 верасьня, 1978 г.*

Дарагая Дануся!

Лек муж ужо прымае, яму лягчэй! Дзякуй Табе вялікае за Тваю мудрую апэратыўнасьць і тым добрым людзям, каторыя адразу з аўтобуса гэты лек даставілі нам. Гэта сапраўды дапамога ў пору. Нейк тут трымаемся.

Кузынка прыехала і паехала. Мала тут з намі і пагаварыла, моцна хаваючы свой ня вельмі прыязны дух і да нас, і да Юркі… Была яна тут у бліжэйшых сваіх сваякоў. Модная, у меру хітрая, моцна практычная, як яны там усе, не пазбаўленая аднак нейкай гуманнай патрэбы зрабіць людзям дабро. Ня ўсім, безумоўна. Унясла крыху весялосьці і добрага настрою між нас усіх. Накупляла натуральных вярблюджых коцаў і т. п. і шчасьліва паехала. Ад Юркі быў толькі адзін ліст, але ён пісаў і Вам, таму навіны іх ведаеш.

Каб хоць больніца пайшла сябру Эрыку на карысьць! Магу думаць, колькі маеш клопатаў і заняткаў кожнага дня. Нічога, падобнае, можа, і робіць вартым і цікавым жыцьцё. Богу дзякаваць, энэргіі Табе не пазычаць!

Муж многа сьпіць. Усё засынае, засынае, аж часамі страх. Адкашліваецца яму лягчэй. Нэрвова супакоіўся крыху.

Наша Лапка ў час «сабачага вясельля» сарвалася з ланцуга і пакусала нейкую жанчыну, тэхнічку з суда. Сабак тут круцілася добры дзясятак, і ці гэта была менавіта Лапка, дык трудна сказаць, але за ёю водзіцца такі грэх — цягаць цётак за спадніцы, і таму — пратакол, візыт участковага і г. д. Мы ўжо выклікалі гіцля, каб ён яе забраў, але прыйшоў загад з санчасьці трымаць яе яшчэ пару тыдняў, каб пераканацца, ці не шалёная. Вось яна яшчэ тут існуе. Цэлыя ночы ля хаты — гучны сабачы канцэрт. А днём качаргою разганяю яе «паклоньнікаў».

Дзеда выклікаюць на суботу, і я сьмяюся, што дадуць яму 15 сутак! Безумоўна, давядзецца ісьці мне, дзед «нетранспортабельный». Надта мне шкада было беднай цёткі, але калі я даведалася, што багатая цётка толькі раз на тры дні прапальвала сваім кватарантам пакой у самыя лютыя халады і пачала тапіць толькі пасьля акцябрскіх, і «драла» як магла зь іх грошы, дык падумала, што і Лапка — не такое дурное стварэньне… Зараз панясу ёй крупнічак з малаком (ад учарашняй вячэры) і з болем думаю, што забярэ яе гіцаль… Яе вельмі любяць суседзкія дзеці і часта адвязваюць з ланцуга, каб гуляла зь імі, дык ізноў магла б нарабіць бяды… Жаль, безумоўна. А мілы мой дзед усё сьпіць…

Рада, што той «геній» паступіў вучыцца. Не спадзявалася, хоць асабіста яго ня ведаю. Можа, і будзе з хлопца нейкі толк, хоць на брак рыфмуючых наракаць ня можам, але на брак сапраўдных паэтаў — так! Жаль адышоўшых Пестрака і Астрэйку. Уварвалася сьмерць у нашыя літаратурныя палеткі і косіць бязьлітасна… Баюся, што хутка застанецца адзін Шамякін і «иже с ним»… Хоць бы ён быў крыху вышэйшы, гэта проста для вока, калі ён Вас рэпрэзэнтуе…

Сяньня хачу выкапаць у гародзе бульбу. Бо мокра там і падгніе, а ад дзеда —не адысьці, як ад малога. У нас тут шмат хто хварэе на нogі, на радыкуліт, як ніколі. У мяне ўжо гэта хранічнае. Жыву таблеткамі і рознымі кроплямі. І гдзе тая маладосьць, калі чалавек лётаў, як птушка? Няўжо так было некалі? Ня верыцца… Але наракаць яшчэ няма на што: у хаце цёпла, дзед храпе на белай пасьцелі і «хлеб наш надзённы» ёсьць на стале.

Калі выйдзе Твая кніжка, дык адразу прышлі! Валерык недзе капае бульбу, а Віка? Можа, мастакоў звальняюць з падобнай працы?

Не хаджу цяпер у цэркву, бо і бацюшка моцна хворы на нoгі (як і ўсе!), і мая вера агранічваецца толькі «добрыми делами» і ціхай малітвы пад сіняю стрэхаю неба аб здароўі для ўсіх, аб спакоі душэўным ды добрай пагодзе на заўтра… Ты недзе атэістычна нада мною хахочаш і дзівішся моцна адсталасьці мінулых пакаленьняў, якія здрадзілі Талстога, Купалу і Пушкіна менавіта на гэтай веры…

Цалуем і абнімаем Вас усіх. За ўсё разьлічымся пры сустрэчы. Вазьмі далейшыя лекі! Дзякуй яшчэ раз.

Вашыя *Геніушы*.

## 108. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 23 верасьня 1978 г.*

Дарагая Данусся!

Пішу Табе запар другога ліста. Яшчэ раз дзякую за лякарствы і прашу, калі будзе, купі ласкава далейшае. Зноў горай з мужам. На яго заўсёды моцна дзейнічаюць розныя эмоцыі. У райкоме камісія разьбірала справу Лапкі. Выклікалі мужа, але таму, што яго туды трэба было б везьці на «скорой помощи», а на высокія сходы несьці на насілках, дык мы пастанавілі, што пайду я.

Было дзьве заявы, але, як я пераканалася, віною тут была не Лапка! Бо адну жанчыну пакусала «большая серая собака», а як Ты бачыла, дык Лапка — амаль шчаня. На другую таксама «зарычала и бросилась большая собака». Абедзьвія пабеглі ў наш двор.

На мяне ярасна напаў мясцовы адвакат, нейкі Хмяльніцкі. Ён бязбожна лгаў! Даказваў, што жанчын пакусала «вялікая аўчарка», якую мы трымаем спэцыяльна. Ён пачырванеў у прыступе бешанства і сапраўды «рычаў». На маё шчасьце, адна з членаў камісіі пацьвердзіла мае словы, што той аўчаркі Альмы ўжо няма. Прайшло болей як паўгоду, як яе атруцілі. А я толькі сказала: «Вы, товарищ Хмельницкий, кажется собрались казнить меня вместо собаки, мне к этому не привыкать» і г. д.

Мне стала лёгка на душы, што гэта ня наша Лапка, бо «зарычать» яна ніяк ня можа. Найбольш — запішчаць. І калі гэтую камісію хацелі адлажыць для далейшага дасьледаваньня, я ім проста сказала: «Разве у вас нет дел поважнее?» Тады яны прысудзілі мне штраф 10 руб. (дзясятую частку дзедавай зарплаты), я не пярэчыла.

Другі візыт у падобную камісію з такім «рычаньнем», загадзя наводзіў на мяне жах. Не магу сказаць, што «рычалі» ўсе. Гдзе-хто зь іх захоўваўся тактоўна і аб'ектыўна, бо калі б так пачалі «рычать» усе, дык давялі б там мяне да інфаркту. Аж ледзь не давялі да інфаркту Івана Пятровіча! Мяне доўга не было, і ён, бедны, думаў Бог ведае што! Яшчэ ляжыць і стогне ад сардэчнага прыступу, а я дзялюся з табою ўражаньнямі. Ледзь яго ўчора адкачала.

Пасьля ён шкадаваў дзясятку, але калі пачуў, што я сказала: «Я согласна вам заплатить сколько назначите, моя или не моя это собака», тады засьмяяўся, але папракнуў мяне за маю «панскую натуру». А я так сьпяшалася дахаты, баялася, ці не схапіў яго аднаго прыступ…

Адным словам — яшчэ жывем! Зноў заходзіла да вэтэрынараў, каб тую Лапку забралі. Шкада беднай сабачкі. Што ж, папсавалі нам нэрвы, адарвалі немалую лустачку ад нашага надзённага хлеба, і Бог ведае, што яшчэ прыдумаюць заўтра. Другі юрыст, які быў у той камісіі, два разы зацеміў мне, каб не трымаць сабакі зусім. Ясна…

Пішу табе, і крыху лягчэй на сэрцы. Юры пакуль яшчэ не пісалі і ня ведаю, ці напішам калі… Бачыш, ня хочам, каб і з нашага беднага сына рабілі аружжа супраць нас. Валі доступу ў нашу хату болей ня будзе! Не прывозь, Данусенька, і той дамы з музэя да нас… Нам цяжка сяньня гутарыць зь некім зь беларусаў… Зашмат давялося цярпець тут.

Зноў, калі былі тут нашыя, дык мяне жудасна рвала. Зося ратавала мяне. Пасьля мяне трасло, і нарэшце была высокая тэмпэратура. Юрка доўга быў пры мне, а дзед дзяжурыў да раніцы. Спалохаўся вельмі перабояў у сэрцы. Такое паўтарылася ўжо другі раз. Мы Валі болей ніяк ня можам да нас запрасіць, нават нельга пусьціць яе ў хату… Ці сябра Эрык яшчэ ў больніцы? Як ён чуецца?

Даруй мне за такі нештодзённы ліст, але хачу, каб Ты ведала, як мне тут соладка на «роднай зямлі»… Бедная Лапка дзень і ноч на ланцугу «ожидает казни». Дзесяць брадзячых сабак (закаханых) не даюць ёй спакою і нам таксама. Але куды горай усіх разам сабак бываюць людзі…

Пішы нам, ці абодва лісты атрымала.

Цалуем Вас усіх — *Геніўшы*.

## 109. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 27 верасьня 1978 г.*

Данусенька, родная!

Няхай неба пашле Табе спакой і раўнавагу ў гэтыя дні! Лёсу сваяго не абысьці, не аб'ехаць. Плакала я ўчора ўздрыгам, прачытаўшы тваю маленькую картку. Уся мая любоў, усе мае думкі — з Вамі, дарагія. Богу ведама, хто чаго заслужыў у жыцьці, а паэты растуць зь цярпеньня. Ніколі яго ня можа быць болей, як нашых сілаў. Жадаю табе гэтай сілы творчай і сьветлай, бо жыцьцё ёсьць для каго і ёсьць для чаго. Як зь ім сяганьня? Пацалуй яго ад мяне, перадай яму любоў маю і павагу.

Даруй, што напісала Табе два лісты запар аб «сабачых справах». Але яны былі сапраўды і моцна сабачыя, менавіта… Учора прыдумалі другі зьдзек, болей садыстычны. Пасьля абеду пачалі да нас прыходзіць цёткі ў чорных хустках і шарахацца ў бок, калі ўбачылі Івана Пятровіча. Ім сказалі, што яго ўжо няма… Бабам стала няёмка. Адна

пералагналася і сказала: «Сьвят, сьвят, сьвят Гасподзь Бог» ды ўцякла. Сяньня я пайшла па хлеб у моцна кваяцістай хустцы знарок, а ўсе падыходзяць да мяне і складаюць мне спагаданьні… Нават з рэдакцыі! Ледзьве не вырвалася ў мяне «лягернае слоўца»!

Мала таго, прыйшлі пераканацца з гарсавета, ці ён жывы, бо людзі ўсё звоняць, пытаюцца. Учора суседкі падышлі пад хату, «каб пасьпяваць», але ўбачылі, што ўключаны ў нас тэлевізар, а не запаленыя сьвечкі, і зьніклі! Божа, што робіцца? Пайшла ў аптэку, і яны там ледзь ня плакалі, але прыйшла нейкая цётка, прынесла рэцэпт ад мужа сяньняшняй даты (а яго «ерогліфаў» ні зь якімі ня спутаеш!), і ім адлягло ад сэрца. Сьмех і бяда! На дзеда падобнае вельмі дзейнічае, на мяне — тым больш. Баюся, што зараз яшчэ нехта паявіцца зь вянкамі. Ногі пада мною ўгінаюцца, а душа перапоўненая страхам за Эрыка і Тваім болем, дарагая.

Учора быў ліст з Астрахані — проста з аэрадрома! Гэта наш хворы, дарагі Белакоз, чакаючы на самалёт, дзяліўся ўражаньнямі. Вось вытрымкі зь яго ліста: «Работнікі АН СССР запрасілі мяне на сесію навуковага савета АН СССР і даручылі выступіць з дакладам *"*Роля краязнаўчага музэя ў вёсцы*"*»… Мой даклад гучаў на роднай мове. Ганаруся тым, што хоць увесь час быў страшэнны гармідар, з пачаткам маяго дакладу ўстанавілася мёртвая цішыня. Прысутныя толькі ківалі галовамі і позіркамі выражалі салідарнасьць. Пасьля маяго выступленьня краязнаўцы пачалі атакаваць усіх тых, хто нападаў на патрыятычныя пачынаньні. У мяне зьявілася многа сяброў. А ўсё ж лягчэй жыць, калі адчуваеш, што масы з табою. Рэнэгаты пачалі апраўдвацца, што іх ня так зразумелі, пачалі даказваць, што і яны патрыёты. Многія заяўлялі, што хоць некаторых слоў з маяго даклада яны не зразумелі, але тое, што я хацеў сказаць, дайшло да іх поўнасьцю. Дзясяткі краязнаўцаў паціскалі мне руку, віншавалі з выдатнай прамовай. З гасьцініцы праводзілі мяне ўрачыста, з пажаданьнямі, са шкадаваньнем, што разьяжджаемся ў розныя куткі СССР» і г. д. і т. п. «Баяўся, што тут зьлягу, але трымаюся даволі нядрэнна. Праз гадзіну самалёт на Маскву. Заўтра буду ў хаце». Глядзі, Данусенька, які гэта моцны, цудоўны чалавек, хоць жыцьцё тое вісіць на валасочку!

А дзед сядзіць на ганачку, каб усе, хто прыходзіць са спагаданьнямі, варочаліся сабе назад…

Няхай Юрка Табе з markнымі канвэртамі галавы ня дурыць! Хапае Табе і безь ягоных дурніц. Лек дзеду, калі зможаш, прышлі. Пішы хоць паштовачкі, вельмі-вельмі Цябе прашу! Трымайся! Фарны касьцёл гаворыць сваімі сьценамі, зьмястоўнай, шматвекавой цішынёю, у якой — і боль, і цярпеньні, і крыху надзеі. Як дзеткі? А М. Танк зь Я. Брылём — сябры нядрэнныя! Ці аказаўся Васіль? Хто там пры Табе сяньня?

Гэтак і для дзеда гэтакі абычай — усё ляжыць, чакае, покуль сьмерць пакліча. Усё купі, прыгатуй загадзя, бо заплачашся, разгубішся пасьля… Трымайся, родная мая. Цалуем Вас усіх, абдымаем.

Твае *Геніушы*.

## 110. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 15 кастрычніка 1978 г.*

Дарагая Дануся!

Богу дзякаваць, што сябру Эрыку лепей! Гэта галоўнае. Ён разумны і цярплівы, дык усё будзе добра. Цешуся, што ля яго ёсьць добрыя людзі. Харошае слова і шчырыя адносіны — гэта таксама лекі. Добра, што і той вэнгр завітаў у нашую наднямонскую сталіцу, каб быць пры хворым з дапамогай і шчырасьцю. А твае сокі і інш. — таксама немалаважная рэч. Глядзі, каб не выходзіла за рамкі дазволенага дыетай, але каб было

і разнастайней. Посьпеху табе ў лячэньні тваяго друга, дарагая! Цешыць, што мілая, далікатная Віка «адолела» бульбу ды нават зарабіла, што Валерык разумее важнасьць гэтай жыцьцёвай сытуацыі ў хаце і мужна дастасоўваецца да яе. А ты ўсё, усё вытрымай зь вераю ў тое, што будзе лепей.

Пішу табе сяньня дзеля таго, каб ты нават і ня думала да некага зьвяртацца ў нашай справе! Я сама даволі «граматная» і знайду словы, каб нейк ратавацца, але пакуль што — ці варта? Ты і так ужо ад сэрца «кніжачку падпісала»… Жыцьцё само часам бароніць мяне, калі бывае найгорай. Ды і мне цікава наглядаць падзеі і ўмацоўваць свае погляды і пераконаньні, якія зарадзіліся ўва мне з суровай практыкі жыцьця ўжо даўно. Я рада, што магу табе ўсё сказаць, як нікому. Здаецца тады, што ты думкай пры мне, і мня лягчэй крыху.

Сяньня быў ліст ад кс. Варанецкага з Ружан. Гэта вельмі цікавы, інтэлігентны і такі крыху сучасны ксёндз. Ён цікавіцца і мастацтвам, і архітэктурай, і разумее маю беларускасьць. Кожны год амаль яны нас адведваюць з айцом Станіславам з Брэста. Запавядаюць свой візыт і цяпер. Цешуся вельмі, бо ўносяць упэўненасьць, спакой у маё сэрца. Янка, праўда, трымае сябе часам не зусім дастойна. Ён — страшны цынік, асабліва калі ёсьць нехта з жанчын. Іначай стогне, хэркае, кашляе, зусім зьнемагае, а тут раптам ажывае, і такое ўчора панёс пры стале, што доўга мне будзе «нясмашна» ад гэтага… Калі ён працаваў, дык той цынізм выладоўваўся недзе за дзьвярамі яго кабінэту, а цяпер пераношу ўсё гэта на сваіх плячах. Нейк пісаў у сваёй кнізе П. Клімук, што цяжка быць у космасе ў адной камэры зь неадпаведным чалавекам. Цяжка гэта і ў рэчаістасьці нашай, хатняй. Часам можна зь ім хораша і паважна гаварыць, але вось зноў мяняецца на вачах і робіцца зусім чужым і незайздросным, малым чалавечкам. Хачу нейк ізалявацца ад яго духова, але нэрвы ўжо хворыя, дык заплачу часам, а часам выскачыць з вуснаў і якое моцнае, вострае слова, «благо я лагерник»…

Вось так і жывецца. На днях прыслала мне Людвіка Антонаўна Войцік зь Вільні перадрукаваны номер іх аднаднёўкі з 1913 г. — «Колас беларускай нівы». Як жа наіўна і як жа хораша прытым! Як шчыра і як сьвята! Правапіс зьбліжаны да фанэтыкі тагачаснай гродзенскай мовы. Наіўныя, мілыя вершы. Першыя выказваньні ў справе аховы прыроды! Успамінаецца маладосьць. Ёсьць і натуральныя на той час ноткі антысэмітызму. Хочацца табе гэта перапісаць і выслаць, бо рэч гэтая выйшла ў Гродне. Але, пэўна, мае яе Аляксей Міхайлавіч. Пацікаўся.

Прачытай у «Літ. газете» верш Я. Еўтушэнкі пра Нікарагуа. Мне вельмі спадабаўся. Учора чытала крытыку Клышко на вершы А. Разанава. Ведаю, што ты будзеш бараніць Разанава, а мне такое манэрнічаньне, калі народу патрэбнае разумнае, шчырае, моцнае слова, здаецца дурной непатрэбшчынай. Няма ў нас выбраных для разгадваньня рэбусаў з замыславатых слоў. У нас — народ! Калі ты глядзела вечар Ю. Друнінай нядаўна, дык мне спадабалася яе выказваньне, што ня трэба замыславата і складана пісаць аб простым, а наадварот — трэба складанае падаваць даступна і проста!

Наша паэзія апошніх часоў мне не падабаецца. Брак цікавай думкі і размаху. Абсалютны брак сардэчнага ўздыму і цеплыні чалавечай любові, не кажучы ўжо аб спэцыфічна беларускай любові, што кранае суродзічаў. Прэсныя вершы, быццам нейкі страх у іх за плячыма, ці змалела душа ў народу… А можа, проста мала паэтаў, нягледзячы на іх колькасьць? У Міцкевіча, напрыклад, ня трэба вышукваць пэрлаў, там усё — адны пэрлы.

А на двары — сонейка. Янка выйшаў на ганачак. Дрэвы — цудоўна каляровыя! Дык здароўя і шчасьця жадаю вам у хату. Усяго добрага! Вашыя *Геніюшы*.

P. S. Бываюць хвіліны, калі мне страшна хочацца ў Жлобаўцы ці Гудзевічы. Неадольна. Быццам нехта чакае там на мяне і ўсё кліча, кліча…

## 111. ВАЛЯНЦІНЕ ДЫШЫНЕВІЧ

*Зэльва, 27 красавіка 1979 г.*

Шчырапаважаная Валянціна Нікіфараўна!

На жаль, болей нічога няма ў мяне напісанага пра нашага слаўнага першадрукара. Цяжкая і працяглая хвароба мужа ды яго сьмерць — гэта якраз ня тая атмасфэра, калі нешта можна тварыць…

Знайшла крыху нейкай «даўніны», дык вось пасылаю Вам хоць нешта, для славы старога нашага Полацка. Гэта зь неапрацаванай і закінутай паэмы пра першую нашую асьветніцу. Цяжка тут нешта сказаць, бо яе тагачасныя ідэалы далёка не сугучныя з тымі, якія прапануюцца сяньня.

Дзякуй за пажаданьні мне сілаў. Яны ўжо крыху вяртаюцца біялягічна, але душа баліць па-ранейшаму. Страта была вялікая, і я зусім адна ў гэтым крутым адзінаборстве з горам… Вы крыху «штурханулі» мяне, каб ачуняць і пачаць думаць. Дзякуй Вам.

Застаюся з павагай да Вас — *Ларыса Геніюш.*

## 112. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 25 траўня 1979 г.*

Дарагая Данусяǃ

Вельмі я хачу ведаць, як працуецца сябру Эрыку, як ён чуецца? Дзякуй, што Ты напісала. Часта, вельмі часта думаю пра Вас, але нечаму мне здавалася, што частыя лісты ад мяне могуць не спадабацца. Добра, што сябра Эрык нешта ўсё робіць, але няхай не гаворыць, не ўспамінае пра сьмерць… Няма што згадваць тую несуразнасьць, здольную разбурыць найлепшае. Забарані яму гэта! Няхай жыве і будзе шчасьлівы.

Дарэчы, памятаеш Археоляга? Яму адразу, як вярнуўся ад нас, рабілі апэрацыю на ныркі. Апэрацыя ўдалася, а цяпер у Сьвятланы, ягонай жонкі (яна лекар) — гуз і апэрацыя на печані. Двое дзетак. Проста баюся пытацца, які рэзультат.

Вельмі шкада мілую цётку Яніну. Добра, што мама Твая пры ёй, і што Ты, верная і харошая, завезла ёй сваю любоў і спагаданьні ў хваробе.

«Вялікі вучоны», напэўна, не пазнаў цябе! Ён жа — джэнтэльмэн, прытым чалавек не зусім абыякавы на жаночую прыгажосьць і беларускі талент! Калі ён пазнаў Цябе і не рэагаваў на Тваю прысутнасьць — знача, проста ён «вырадзіўся»… Такія вартасьці ня маюць. Пісала яго асыстэнтка. Ліст быў цёплы і мілы. Успомніла, што трэба ёй адказаць. Спачуваньні многія перасылаюць мне праз трэціх асобаў.

Пісаў учора Белакоз, што В. Караткевіч напісаў яму два лісты нечага добрага пра мяне і прасіў перадаць сваі спачуваньні… Госпадзі, у іх недзе атрафіраваліся ўсе іншыя пачуцьці, акрамя страху ці нейкай перастрахоўкі. Пакуль што ты застаешся «адзіным рыцарам бяз страху і без заганы», які «лепіць» на канверт нават свой адваротны адрас. О, Данусяǃ табе б уладу ў рукі!

На адкрыцьцё выстаўкі мастака Драздовіча прыслалі мне мілае запрашэньне. Жаль, «кот Філімон» не на ўсё сабе цяпер можа дазволіць. Але дазваляю сабе глядзець на сотні цудоўных туліпанаў па ўсім гародчыку, на сьнежную каралеву — белую яблыньку, якую некалі пасадзіла мужу, і сёлета яна адзіная зацьвіла, як ніколі! Людзі слупянелі, гледзячы на яе дасканаласьць. Сонейка грэе мяне з усіх бакоў, і гэта добра.

Што да ўнука нашых супольных дарагіх сяброў. Дык ці толькі не ангіна ў яго? Тут дзеткі доўга тэмпэратураць з гэтай прычыны, а яна ўпарта трымаецца. Магу ўявіць пя-

рэпалах у гэтых чулых і добрых людзей. За каго выдала Іра сваю дачушку, як яна чуецца сама? Ці яна ўсё яшчэ адна? Яна — цікавая жанчына.

Як і Ты, так і рэшта маіх знаёмых просяць і радзяць мне нікуды з хаты ня ехаць. Думаю покуль што над гэтым. Часта бываю на магілцы. Плачу цяпер меней. Пустэча, аднак, вялікая, і запоўніць яе можна толькі творчасьцю, якая спынілася. Крыху я ачуняла, але чытаць мне яшчэ цяжка. Той «Тлумачальны слоўнік», Данусенька, абавязкова вышлі (адзін том), калі будзе зноў у продажы.

Юры паслала вызаў, а калі прыедзе (на пару дзён), дык ня ведаю. Павінен — хутка. Міхасю 1 чэрвеня — 20 гадоў, а ўчора, здаецца, насіла я яго на руках. Перад ад'ездам зь Юраю было так дрэнна, што я ледзь не сканала сама, на яго гледзячы. Што тут толькі рабілася… Ну і ну… Так зрабіць — гэта трэба ня быць чалавекам, ня толькі жанчынаю. «Гжэчна і далікатна»…

Пасадзіла гарод за пару гадзін! Найхутчэй з усіх! Справа ў тым, што ўсе яго садзілі пакрысе, і гэта было так хораша! Нехта ўсё палівае мае памідоры, і такія часам добрыя бываюць нашыя людзі. Добрыя да сьлёз. Ня ўсе, аднак. Залежыць ад іх асьветы і становішча. Два гэтыя фактары анулююць у людзях чалавечае, пакідаючы вонкавы сьлед толькі цывілізацыі.

Я вельмі рада, што кожны дзень прыходзіць з працы сябра Эрык, што ёсьць дарагі гаспадар у хаце. Я вельмі хацела б бачыць яго. Зусім не надаядала б шкадаваньнем ці іншай якой несуразнасьцю. Хацела б паказаць яму ўсе півоні, бо туліпаны дапякаюцца на сонцы. Хацела б проста паглядзець на яго, паразмаўляць.

Аб мілым візыце паважаных сяброў-таварышаў я табе ўжо пісала. Рэзультатаў пакуль што — ніякіх. Учора выступаў А. Вярцінскі па тэлебачаньні. Ён, можа, разумны, але халодны, як айсбэрг. Многа думае, але адчувае мала. Ён табе падабаецца? Я думаю толькі пра творчасьць. Што да І., дык яна інтэрнацыяналістка ва ўсім. І пашто яна памяняла Р., які шалеў за ёю, на нейкага узбэка? Яна ня можа быць ні лепшай, ні горшай. Яна нядольная мяняцца. Нааагул, я яе не люблю. Чаму ў Дамашэвіча другая жонка? Ён быў удавец?

А нашыя «фізыкі» — маладцы! Вось тут ты пацешыла мяне добраю справаю. Мяне паважна клічуць у Аўстралію, але там трэба было б выйсьці замуж (!), каб затрымацца… Гэты варыянт не для мяне. Але з пэўных меркавань і тут мне заставацца нельга. Што ж, тут хоць у хату сваю схаваюся. Па мне не бядуй. Жыву зусім няблага і ня думаю многа аб заўтры. Нейк яно будзе. Цалую і абнімаю.

Ваша *Ларыса*.

У «Маладосьці» пра цябе не чытала. Пайду ў бібліятэку і пагляджу. Не выпісваю цяпер дарагіх часопісаў.

### 113. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 4 чэрвеня 1979 г.*

Дарагая Данусяǃ

Чула, што ў Вас быў дождж. Рада за Вас. У Зэльве выглядаюць яго штодзённа. А ён праходзіць усё стараною. Суха неймаверна і горача. Гароды паліваем. Добраму мужу заношу кветкі. Гутару зь ім. Паявілася нейк у нас даўно забытая Люда. (Памятаеш, з маяго 60-годзьдзя?) Мае сына і мужа. Мужа я ня бачыла. Запрапанавала мне жыць у іх, недалёка ад Менску. Божа мой, якая ў гэтым лёгіка?

Юры даўно ўжо выслала вызаў і да сяньня ня ведаю, ці яго атрымаў. Няма ніякіх лістоў ад іх. Непакоюся, бо характар у яго няроўны, і мала думае, калі нешта робіць.

Часта адчуваю, што сын ён нам, але далёка не прыяцель… Нейк іначай было ў дзядоў нашых.

Ехаць, безумоўна, мне неабходна і з маральных, і з матэр'яльных меркавань, але ў Польшчы хачу быць толькі транзытам… Так абмеркавалі маі сябры, і я ня супраць.

На старасьць патрэбны спакой. Быў у нас А. Жук і нехта тав. Граблеўскі з Гродна (па культуры). Ня маю падстаў, судзячы па іх людзкім абыходжаньні, сумнявацца ў іх шчырасьці. Гутарка была разумнай і добрай. Уражаньні засталіся найлепшыя. Быў і Ю. Голуб. Але да нас зь імі не заходзіў. Дазволена мне друкавацца. Узялі з сабою крыху вершаў і тую «Баладу пра салдата». Бясьпечней стала мне крыху пасьля гэтага візыту, але нічога не зьмянілася.

Здабылася за подзьвіг паправіць сабе зубы. Найвышшы быў час. Прыбягала Зося. Плача, што няма каму ёй пабаранаваць бульбы. Хоча ўміраць. Я бядую, што няма каму прывезьці дроў, але паміраць з гэтага яшчэ ня думаю. Тым больш — зацьвілі півоні. Розныя.

Вельмі спагадаю міламу сябру Эрыку з прычыны таго сьвербу. У нас яго выклікаюць камары і нейкая машкара, як на поўначы. Старайся быць зь ім заўсёды мілай, а што ён нешта ўсё робіць удома, дык відно, спраўляе гэта яму прыемнасьць. Я вельмі хацела б нешта рабіць, але ня робіцца. Нават ня ўмею расплянаваць дня, і так бескарысна і бясьсьледна яны мінаюць. Жыцьцё нейкае прыкрае, як сала бяз хлеба…

Я ўсё чакала вясны, бо думала, што адужае Янічка. Цяпер не чакаю нічога. Не шкадуй, што выкінулі стары ложак. Прыедзеш, дык пагледзімо ў Зэльве. Можа, тут купім. Думаю, што Валерык будзе мець цікавае падарожжа. Як ён фізычна, ці вытрымае? Хацелася б надта на Вас усіх паглядзець. Ты, Дануся, дык «без перамен»! А вось дзеці, напэўна, моцна пасталелі. Цешуся, што яны ў Цябе харошыя.

Ты хоць не клапаціся пра мае матэр'яльныя справы. Гэта покуль што яшчэ ня так актуальна, а там пабачым! Галоўнае, што крыху ўляглісе нэрвы, ня так дакучае сэрца. На пару дзён была згінула мне Лапка. Вось я тады засумавала, што і яна мяне пакінула. Зосін сын знайшоў яе. Цяпер брэша начамі, а ўдзень «прымае сонечныя ванны».

Хацела б быць гэтымі днямі ў Польшчы. Няхай сьвет успомніць пра славянства і ў духоўнай, узьнёслай галіне свайго жыцьця. Гэта нейк акрыляе.

Я буду вельмі чакаць Твайго візыту, бо кожны, хто быў у нас у цяжкую хвіліну, для мяне сяньня асабліва дарагі. Нават тыя людзі, якія ўспамінаюць Яго анэкдоты. За якія я некалі на Яго сварылася, і тыя мне мілыя. Я ўжо забылася, што Ён быў крыху цынік, і толькі памятаю ягоныя мукі і сваю бездапаможнасьць, каб затрымаць яго жыцьцё, якое, сапраўды, зьляцела, як пара з вуснаў — і ўсё! Вельмі нейкая нетрывалая наша чалавечая канструкцыя. Фізычная, думаю.

Аб Р. я наагул невысокай думкі, а такое захаваньне яго адносна О. — мне проста гадкае. У мужчыны мусяе быць і сумленнасьць, і рыцарскасьць да жанчыны, асабліва, калі гэта паэтэса, і калі яна мела падставы лічыць сябе яго жонкаю… Жаль, што яна кахае яго. Толькі магла б абысьціся на гэты раз без узбэка… Мае ж сына. Дарэчы, ці хлопчык зь імі? Не, Р. далёка ня тое, з чаго трэба браць прыклад моладзі. Ці ён яшчэ не жаніўся? А я думала, што гэта яна яго пакінула. Шкада, што не яна… У людзей неспакойнага творчага духу ёсьць узрывы пачуцьцяў, памылкі, якія часта ад іх не залежаць, але вось такога тупога разьліку не разумею. Знача, і талент яго пад знакам запытаньня.

Няхай усё будзе добра ў Вашай мілай і новай хаце. Няхай табе добра ў ёй пішацца, і шчасьліва Вам ў ёй жывецца. Прышлі нам крыху дажджу! Зося вечарамі палівае мае гуркі. Кругом зелена, хораша, але пуста. Жаль, што не было ў нас 12 дзяцей…

Цалую Вас і абнімаю. Са шчырасьцю да Вас — *Ларыса Геніюш.*

## 114. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 3 жніўня 1979 г.*

Дануся!

Шчырае дзякуй за прывітаньні з днём маіх народзінаў. Вельмі шкадую, што на гэты раз Ты не павіншавала мяне асабіста. Сяньня прыйшла кніжка. Грошы вышлю на днях (7-га — пэнсія). Дзякуй вялікае. Ты ж мне таксама не адказвала на ліста болей як месяц, дык і мне няёмка лішне дакучаць Табе сваімі лістамі…

Ці маеш якія клопаты? Дурное маё пытаньне, праўда? Як жа беларускі пісьменьнік ды бяз клопатаў? Як звычайны, нармальны чалавек на зямлі сваіх прадзедаў? На днях жалілася мне адна тэхнічка зь дзетсаду, казала: «Як жа мы працавалі б усе радасна і з ахвотаю, каб толькі нас так ня грызьлі, не муштравалі бяз дай прычыны. Рукі ад гэтага ападаюць».

Перадусім, як здароўе сябра Эрыка, як дзеці? Ці заходзіў да Вас Юра па дарозе дамоў? Паехаў рана 29 ліпеня. У нас быў тыдзень. Лічы, адзін дзень, бо ўсе іншыя дні быў п’яны, грубы, часам несамавіты. Адзін дзень у пору ад’езду толькі гутарыла зь ім. Жах бярэ мяне, калі ўздумаю праз свой дзень народзінаў… Такога яшчэ не было… Болей нічога не хачу гаварыць на гэтую тэму. Балюча надта. Вынік — мой ціск: 195 на 115. Адчувала крыху, як гэта «ўміраецца»… Цяпер — быццам лепш, але бывае розна. Нейк жыву цяпер амаль безь лістоў. Не грашаць асабліваю ўвагаю нашыя суродзічы, а ад шчырых, далёкіх сяброў лісты не даходзяць. Калі найцяжэй, дык бягу на магілку і гутару там са с. п. Мужам — аб чым толькі хачу. Часьцей раюся, чымсьці плачу, хоць, бывае, і плачу.

Доўга падсылалі мне тут розных п’яніцаў — і раненька, і на ноч. Баранілася, зачыняла дзьверы перад носам, выпрошвала не зусім ветліва іх са сваёй асірацелай хаты ў глыбокай жалобе, а вось «мілага» сына ня выпрасіш і ня выкінеш. Жудасна мне прайшоў гэты тыдзень. Не хачу, каб падобнае калі-колек яшчэ паўтарылася ў маім суровым жыцьці. Сэрца ня вытрымае. Падзіўляю «мудрае» плянаваньне зьдзекаў над чалавечымі душамі. Што ж, бывае і сьмешна, ды і мы захоўваем надоўга «ўдзячнасьць» у сваім сэрцы, падзіўляючы нізасьць.

На дзень народзінаў я забараніла людзям усякія падаркі, бо чым змагу рэваншавацца? Папрыносілі найпрыгажэйшыя ў Зэльве ружы! Напяклі мне такіх «цудаў»! А ад усіх парфумаў буду пахнуць, як некалі маі сьледавацелі ў сталінскія часы… Пакуль што «кармлюся» цукеркамі…

Музы пакінулі мяне і падаліся, відаць, да малодшых. А жаль. Спадзяюся, яны яшчэ вернуцца. Пішу покуль што толькі табе і Аляксею Міхайлавічу. У печцы сядзяць булкі. У нядзелю будзе паніхіда (жалобная імша), бо ўжо 8 жніўня — паўгода, як няма с. п. Янačкі. Букеты нашу яму раз ці болей на тыдзень. Крыху далекавата на мае хворыя ногі.

Думкамі я была ўжо разьвіталася з Вамі ўсімі, але суровая рэчаіснасьць затрымала мяне на месцы. Гутару болей з прыродаю, чымсьці зь людзьмі. Хоць тыя, што вакол мяне, добрыя, чулыя і заўсёды памагаюць мне і шкадуюць. Толькі яны ня ведаюць, не разумеюць, як гэта балюча, калі бачыш, як гіне, як замірае на зямлі дзядоў нашых бел. мова. Яны захоўваюць яе падсьвядома.

Унукі не павіншавалі мяне з днём народзінаў. Няхай будзе ім добра… Адна жанчына тры месяцы хавала пудэлка дарагіх цукерак, аж яны «пасівелі», але гэта было так хараша… Такое грэе.

Лапка нарадзіла 7 шчанятак. Я ледзь ня плакала з гора: што зь імі рабіць? Але яны былі такія прыгожыя, што людзі паразьбіралі іх, нават не хапіла… Было весялей зь імі на панадворку, і Лапка, як «мать-героиня», вельмі важнічала.

Ці маеш ужо тэлефон? Юра хацеў мне завесьці тэлефон, але пасьля раздумаў, што будуць яшчэ чаго добрага зьдзекавацца праз тэлефон. Людзі, безумоўна, — не. Вельмі хацела б бачыць Цябе. Юра нічога не купляў. Назад павёз грошы і два чамаданы ўсяго з роднай хаты — ад мілага Дзеда, ад засмучанай бабы. Так, мусіць, і трэба. Нічога не прывёз. Пакінуў тое, чаго не прадаў, але такога і купляць ня хочуць… Нічога! Прыяжджай, ня бойся, будзе Табе яшчэ гарбатка і да гарбаткі.

Цалую Вас усіх і абнімаю.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

Наш слаўны Ул. Караткевіч злажыў свае спагаданьні на рукі сябра Белакоза… Падзіўляю яго «адвагу»… Цалую Вас усіх.

## 115. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 4 жніўня 1979 г.*

Мілая Данупся!

Учора я Табе напісала, падзякавала за кніжку. Картка прыйшла сяньня. Юра быў тут толькі тыдзень. Ніякага леку ні Табе, ні мне не прывёз. Нічагутка не прывёз з таго, што я прасіла. Цэлы чамадан рэчаў і нейкія лекі прывёз для цёшчы ў Гомелі, якія я мусіла запакаваць і адаслаць разам зь ім. Мне пакінуў тое, чаго не прадаў. Грошы, якія меў, павёз назад. Не купляў тут нічога, акрамя бальзаму. Поўныя чамаданы затое павёз з хаты, і я рада, што было чым іх напоўніць… У сыну я моцна расчаравалася. Болей пісаць мне пра гэта проста ня хочацца…

Гэты лек быў, напэўна, патрэбны сябру Эрыку! Які ж жаль, што і гэтай Тваёй просьбы ня споўніў… Гарэлка і грошы — дзьве рэчы, якія яго цікавяць. На гэта ён толькі і рэагуе. Мужчынскага слова ў яго няма. Пісаў сяньня мне адзін сябра з Польшчы і прапанаваў купіць мне і пераслаць якія лекі. Ягоны адрас: Jozef Aleksandrowicz. Польша — Polska, Inowroclaw, 88–100, ul. Ustronie, № 13. Прасі ў яго ад маяго імя. Гэта мой зямляк і цудоўны чалавек і зробіць усё, каб нам дапамагчы. На гэты раз прыслаў мне празь Юрку сьвэтарок, хоць я яму і забараніла падобнае.

8 жніўня — ужо паўгода ад сьмерці с.п. Яначкі. Будзе імша ў цэркві. Шмат не гатавала, але крыху цеста сьпякла. Напішы мне, ласкава, якія там у Цябе клопаты? А галоўнае — як здароўе сябра Эрыка?

Як заехаў Юрка — яшчэ ня ведаю, бо не пісаў. Жаль, што чалавек часам можа скаціцца да ўзроўня нейкага нелюдзя. Разыходзілася, здаецца, пра тое, каб закрыць мне дарогі ў сьвет. Я згадзілася з гэтым! Пабачым, як яно будзе далей. Жаль, што Ты не знайшла хвілінкі, каб прыехаць. Разумею Цябе, але дарэмны гэты вечны страх. Чаго баяцца? Проста сьмех з усяго гэтага.

Заставайцеся з Богам! Каб усе былі здаровыя!

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 116. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 29 жніўня 1979 г.*

Дарагая Данусенька!

Самае галоўнае — гэта «Браткі»! Ура!!! Давялося мне дастаць адну кніжачку. Яна цёплая, мілая, родная, мудрая і вельмі тонкая прытым. Чытаю і перачытваю. Але з аўтографам мне прывязеш сваю. Другое: адзін наш знаёмы зьвярнуўся да мяне з прось-

баю, каб даць яму (яго брату) твой адрас. Данука, даруй ласкава, што зрабіла гэта без тваяго дазволу. Ён доўга мяне пераконваў, што ты зь яго братам — сябры яшчэ са школы. Дарэчы, і ён выхапіў адну тваю кніжку (было ўсяго 3). Недзе запісала прозьвішча гэтага чалавека. Не магу знайсьці — скляроз поўны! Трэцяя справа, бадай самая важная: як і чаму памёр заўчасна паэт Кляўко? Як жаль, як балюча, калі адыходзяць людзі, тым больш паэты, тым больш харошыя паэты. Іх так мала, і таму належыць ім доўга жыць… Напішы мне, ласкава, аб ім, як што ведаеш. У сэрцы маім нейкія хаўтуры па ім адбываюцца. Дзякуй, што мяне зразумела. Мы мусім рэагаваць на рэчы з пункту гледжаньня чалавечнасьці. Іначай зьдзічэем! Нехта сказаў, што культура — гэта нацыянальнае выражэньне чалавечага духу. Вось таму нам і трэба дбаць аб сваёй культуры, бо нашыя продкі захавалі нам яе болей гуманнай…

У мінулым тыдні (24 жніўня) была перадача па тэлебачаньні «Літаратурная Беларусь». Напэўна, гаварылі і пра тваю кніжку. Толькі падобных перадач да нас не дапускаюць, як правіла, як быццам мы — пасынкі нейкія ў нашага рэспубліканскага тэлебачаньня. Нехта дае нам заўсёды Брэст і безумоўна розную прапаганду, але толькі не беларускую культуру ці літаратуру. Нябось, Прокшу (23 жніўня) яны не спынілі! Ці ня ведаеш, Данука, ад каго залежыць такое зашкодніцкае разьмеркаваньне гэтых перадачаў, якіх і так да сораму мала ў нас? Бачыш, ёсьць ужо хлеб і сякая-такая вопратка, але поўнасьцю высокай культуры яшчэ няма, і спыняць, не дапускаць да нас падобныя вартыя перадачы — гэта сапраўды рабіць зашкодніцкую справу. Палесьсе Палесьсем, але нас тут цікавяць справы і культурныя мерапрыемствы ўсёй Рэспублікі! Ці ня можаш ты да каго зьвярнуцца ў гэтай справе?

Сяньня падае крыху дождж. Замест абеду ем грушы і яблыкі. Каб не варыць. Хочацца крыху адказаць на лісты. На шчасьце, ужо скончыліся ўсе слоікі, другіх не дастаць, і я спыніла нарыхтоўку памідораў і інш. Бо і сапраўды, хто іх будзе есьці? Было пару слоў ад Юркі (з 19 жніўня), піша, што ўсё ў іх добра. Ня меў доўга лістоў, нарабіў шуму на пошце і назаўтра атрымаў адразу 15 штук! Здаецца, гэта адзіны мэтад, каб атрымаць вестку, як яе атрымоўваюць усе людзі на нашай плянэце…

А вершы з Брукселі ізноў прыйшлі! Зь іх я даведалася, што я — «сьвет у беларускім акенцы», «агеньчык»:

«Соль матчыных сьлёзаў / на губах маіх чую, / і куды ні пайду, і гдзе ні начую, / аб Ёй ўспамінаю, / аб дзіцячым раю, / гдзе быў шчасьлівы, / а цяпер я сівы, / ды не вінаваты, / але сорам вяртацца дахаты, / якая мне шчасьця паняцьце дала, / і можа б, і сяньня мяне прыняла, / калі б зразумела, / колькі сэрца маё цярпела».

Альбо: «Няма глыбокага каханьня, як мора, / няма высокага каханьня, як неба, / няма гарачага каханьня, як сонца, / няма даўжэйшага каханьня, як вечнасьць, / няма каханьня, як сьвет, прыгожага…» «Нам час жыцьця кароткай прастатой, / рабі ці не рабі падрахаваньні, / не пазваляе на глыбокія, высокія, гарачыя / ды доўгія й прыгожыя каханьні!»

Так куды прасьцей: «Гармонію сьвету узяўшы пад паху, / з жыцьцём, як з суседкай знаёмай жыву, / памацваю сьпераду, памацваю ззаду, / Бог знае зараньня, чаго я хачу!»

Пакуль хопіць! Пастарайся хутчэй напісаць пра Кляўко. Учора была Зельна. Уяві сабе поўную царкву жанчын у розных хустках, а над галовамі — безьліч узьнятых букетаў, каб пасьвянціць… Гэта было так цудоўна! Здавалася — расквечаны казачны луг раскалыхаўся. Мне далі зьверабою, грымотніку, макавак і ўсяго пакрысе. Палажыла ў покуці, таму што і я — «сялянка-жанчына вясковая».

Вось і ўсё, мая родная. Пішы пра сябра Эрыка, пра ўсіх. Спадзяюся цябе ўбачыць. Цалую і абнімаю. Усім кланяюся. Твая *Ларыса Геніюш*.

## 117. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 10 верасьня 1979 г.*

Дарагая Дануся!

Зноў ты адвезла мілага Эрыка на лячэньне. Гэта добра. Я чула, што ў Менску ёсьць добры спэцыяліст ад цэрозу печані. Ён паставіў на ногі амаль безнадзейнага ўжо Валодзю Караткевіча. Ён працуе ў гарадзкой больніцы. Думаю, што да яго трапіў сябра Эрык. Добрага яму здаровячка!

У нас тут — бяда за бядою. У панядзелак памёр сусед (дырэктар музычнай школы) ад інфаркта. Добры быў чалавек. 6 чэрвеня памёр у Гродне пасьля дзьвюх апэрацыяў пляменьнік с.п. Яначкі. Мы былі вельмі дружныя. Ён многа памагаў пры пахаваньні с.п. мужа. Ты, напэўна, памятаеш Іру і Гену? Яна — настаўніца. Тут енк і плач. Засталіся два сыны і новая, цудоўная, амаль уласнымі рукамі збудаваная зь любоўю свая хата. Сям'я ў хату — гаспадар у больніцу. Стуль у Гродна. Пераначаваў першы раз удома — ужо нежывы. Безьліч народу на могілках. Нясьлі на руках, бо блізка могілак хата. Кветак і вянкоў — поўна. Жаль хлопца. Яму ўсяго 50 гадоў. Аказаўся рак горла. Мы тут і наплакаліся, і напрацавалі. Пахавалі каля маці. Цесьненька. Ён быў яе любімы, наймалодшы сын. На сьвеце ўсё крыху несамавіта. Ня ведала, наколькі людзі ў нас моцныя ў сваіх перакананьнях, у сваіх абычаях. Думала раней, што толькі адзінкі. Сумна ўсё і балюча, але жыць трэба. Зноў адбіла мне ахвоту да ежы.

Ці Віка будзе ў старой гаспадыні? Ці будзе ёй добра? Можа, прывезла крыху сваіх кніжак? Пра мяне хоць не забудзься! Да мяне хочуць прыехаць нейкія «сябры», якіх я ня ведаю, зь Менска. «Пакапаць бульбу, зрабіць парадак з дровамі, хатай, гародам»… Не хачу, каб хто ехаў, бо бульбы не садзіла, а дровы ў парадку, парубаныя. Баліць сэрца надта пасьля ўсіх гэтых сьмерцяў… Няхай Бог такое адверне…

Данусенька, родная, спагадаю Табе ад усяго сэрца. Трымайся, мая галубка. Мару, каб Цябе бачыць, але прыедзь толькі тады, калі зможаш. Ня муч сябе, не няволь. Сьмешна кароткае наша жыцьцё, слабое… Пішы пра Эрыка. Чакаць буду вельмі. Цалую і абнімаю.

Твая *Ларыса Геніюш*.

Падала заяву, каб мне паставілі тэлефон, бо то хварэю, то баюся. А вонку пахаладнела.

## 118. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 17 верасьня 1979 г.*

Дарагая Дануся!

Што ні раблю, дык усё пра Вас усіх думаю. І чаму Эрыкаў арганізм не прымае капельніцы? Ці Оля дагледзіць там хворага? Яна ж, напэўна, моцна занятая. Ведаю, што табе неспакойна, і ты, зразумела, хутчэй паедзеш у Мінск, чымсьці ў Зэльву. Даначка, родная, нейк мацуйся, нейк трымайся. Напісала ў Мінск, можа маі знаёмыя дабяруцца да мілага Эрыка, можа, знойдуць таго лекара, які лячыў Валодзю? Спадзяюся на іх. Аднак ня маю яшчэ ад іх адказу.

У кожным выпадку — дарагая кожная гадзіна жыцьця блізкага чалавека. Я ўсё аддала б за тое, каб быў яшчэ ў хаце мой хворы, крыху капрызны, але такі дарагі Яначка. Няма да каго аказацца, і нікога роднага побач.

Пасьля абеду зноў пайду ў амбуляторыю. Прыйшла раз з Зосяю на магілку, села ля яе і палажыла голаў там, гдзе сэрца маяго мужа. Слоўца ад яго не пачула, а вось застудзіла і бок, і ногу. Баліць невыносна. Добра, што Зося сілай адарвала мяне ад той магілкі.

Дзіўлюся Табе, што Ты ў сваёй гордасьці не зьвярнулася беспасярэдне да Валодзі ці хоць да добрага Янкі Б[рыля], каб знайсьці таго лекара. На сяброў ня гневайся, яны ўсе маюць сваі клопаты, запрацаваныя. Ім трэба аб сабе напамінаць. Сяньня ўсе даволі ізаляваныя, часам і ня ведаюць, як чалавеку цяжка побач. А тут усё трэба зрабіць, каб яшчэ пажыў Твой муж. Не наракай, што «пусьціла на сьвет» дзяцей! Яны ў цябе харошыя, а даць жыцьцё, сонца і боль і радасьць — гэта ж так велічна! Богу дзякуй, што Ты не адна. Хоць будзеш моцна занятая, усё ж, хоць слоўца напішы мне пра Эрыка. Кланяйся яму, цалуй яго ад мяне шчыра. Пажадай здаровячка. Ці ня могуць звольніць Віку ад бульбы? У нас тут нейк болей спагадлівыя людзі. У горы кожны выходзіць на спатканьне і сьпяшаецца з дапамогаю.

Адным словам, я чакаю хоць пару слоў ад цябе. Я люблю Вас, Дануся, таму так непакоюся. Ці пляменьнік не дапамагае Табе? Старайся, каб дапамагаў у нечым крыху, бо ў трудныя хвіліны мы губляем голаў. Спадзяюся, што Валера трымаецца мужна, як належыць даросламу дзецюку.

Вось і ўсё, мая родная. Не выплаквай вачэй! У трудны час зьбяры ўсю дабрыню і мужнасьць, бо патрэбная яна Тваёй сямейцы, Маці!

Цалую і абнімаю. Твая *Ларыса Геніюш*.

## 119. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 23 верасьня 1979 г.*

Данусенька мая родная.

Няма ніякае весткі ні ад Цябе, ні ад мінчан, і я моцна непакоюся, як з Эрыкам? Спадзяюся, што яму палепшае ў больніцы, але хачу ведаць напэўна. Харошы і дарагі ён хлапец, і таму так шкада і яго, і Цябе, дарагая, і найболей — мілых Тваіх дзетак.

Учора нечакана наткнулася на «ЛіМ» з 14 верасьня 1979 г. Ён прыходзіць мне рэгулярна, акрамя гэтага нумару, безумоўна. Інтрыгавала мяне, чаму няма гэтай менавіта газэты! У кіёску яе «не было» таксама… Што ж, бывае… Зусім добрая падборка вершаў выйшла, і падабаецца мне, што «па-суседзтве» зь Я. Брылём, які даўно заваяваў усе маі сымпатыі як пісьменьнік і чалавек. А якая харошая стацьця М. Замскага аб музэі! І наша Норачка там успамінаецца, і Саша Я[рашэвіч]. І вось я ніколі не пабачыла б гэтай газэты! Якое ж хамства твораць часам людзі, якім належыць быць крыху прыкладам для іншых!

Але ўсё гэта драбніцы, галоўнае — як з Эрыкам? Думаю пра Вас безупынна. Ад ежы зусім адбіла. Хаджу цяпер на праграваньне, на ўколы. Крыху пэўней ступаю, бо меней дакучае боль. Адарвіся ад усіх клопатаў і бедаў і напішы мне хоць картку аб Эрыку. Гэта важна, бо трэба ратаваць яго як мага. Цяжка было б Табе адной. Ты ня хітрая..

Ну што ж, мая родная, трымайся там! Калі ўбачыш А[ляксея] М[іхайлавіча] ці каго зь іх, дык перадавай ім усім маі шчырыя прывітаньні.

Цалую і абнімаю Вас усіх — Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 120. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 27 верасьня 1979 г.*

Даражэнькія!

Як добра, што Ты напісала. Я вельмі непакоілася і таму ўсё дакучала Табе лістамі. Добра, што сябра Эрык удома і больш-менш здаровы. Будзь да яго асабліва добрай, уважнай, кахаючай і цярплівай, хоць, можа, і будзе капрызны, як і ўсе хворыя. Ад мяне

яго проста абдымі шчыра і пацалуй у лоб. Пасылаю табе ліста ад Сьветы, бо думаю, што так найлепей з’арыентуешся ў справе. Атрымала яго толькі сяньня. Вельмі рада, што міламу Эрыку нічога страшнага не пагражае, але лячыцца трэба!

Я «ўміраю» са сваіх трывожных, страшных сноў і дзеля адсутнасьці ўсякіх вестак ад дзяцей і ўнукаў. Прычыны ня ведаю. Маюць і лекі для мяне, якія я вельмі патрабую, і ніяк іх ня могуць мне выслаць.

Дзякуй за добрыя словы аб падборцы маіх вершаў! Толькі ня ведаю, што мог бы мне даравацць ці не даравацць наш дарагі калега. Цаню і люблю яго, як сваю душу, а ягоныя кніжкі рассылаю па ўсёй плянэце. Не аказваюся да яго, бо і навошта, калі гэта не ідзе яму на здароўе. Каб не было тут, як некалі з нашай Ірынаю К[рэнь].

А тэлефон у мяне, калі будзе, дык недзе пасьля Новага году. Пакуль што штодня хаджу на фізыятэрапію і ўколы. Нягледзячы на іх, чуюся дрэнна, слабею. Нага, праўда, востра балець перастала.

Гатовы ўжо помнік с.п. Яначку, і трэба яго толькі прывезьці з Наваградка. Нейк думаю гэта зрабіць. Задатак дала. Калі будзе стаяць помнік і агароджа, дык будзе мне лягчэй. Бог ведае, колькі мне засталося тут быць…

Знаёмыя клічуць мяне ў Вільню, у Менск, але я хачу быць удома, бо тут мне найцяжэй і найлепей…

Хочацца яшчэ напісаць нешта. Толькі што была Іра — жонка памершага Гены. Прынесла мне сьмятаны, насыпала цукеркаў, а ў самой ногі падкошваюцца з гора… Чулая і харошая яна жанчына.

Адным словам, укладаю і ліста ад Сьветкі. Мяркуй там сама, бо трэба каб загадзя лячыць, дапамагаць, папераджаць хваробу.

Цалую і абнімаю — Твая *Ларыса Геніюш*.

Бачыць цябе хачу вельмі, але прыедзь толькі тады, калі цябе адпусьціць сябра Эрык. Сьвета — таксама лекар.

## 121. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 8 кастрычніка 1979 г.*

Мілая Данута!

Нарэшце — вестка ад цябе! Крыху непакоілася. Добра, што зь сябрам Эрыкам ня так трывожна, што працуе. Я ўсё ж думаю, што ў будучыні кантакт з тым лекарам Вам не пашкодзіць. Ня будзь лішне гордай. А дабярэшся да яго лёгка празь Сьвецінага калегу-лекара. Безумоўна, цяпер трывожыць сябра Эрыка няма патрэбы. Дарэчы, ня думай так скептычна пра маіх сяброў.

Міхася Ч[арняўскага] ты бачыла ў нас у тыя трагічныя хвіліны. Ён ужо вярнуўся з «поля» (археоляг) і будзе цяпер у Менску. На пару тыдняў толькі адскочыць у Трускавец з надзеяю, што які каменьчык з ныркаў яму выжануць. Ад нас ён паехаў 10 лютага, а 15 лютага — ужо лёг на апэрацыю. Выразалі тыя «каменьні», а яны, відавочна, паявіліся зноў.

Пісаў на днях. Запрашаюць Вас з Эрыкам да сябе, калі будзеце ў Менску. А для Вікі ахвотна дапамогуць знайсьці ці інтэрнат, ці кватэру. Як яна там адна цяпер? Як ты яе пакінула? Без кватэры? Ты пры памяці? Ня злуйся! Няхай Віка абавязкова да іх зьвернецца ад маяго імя. Нехта зь сяброў Міхася (калі яго ня будзе ўдома) ёю зоймецца. Так не пакінуць. Адрас: *Мінск, Васьняцова, 13, кв. 28. 220107. Міхась Чарняўскі*. Я ня ведаю болей парадачнага чалавека ад Міхася, а знаю яго шмат-шмат гадоў. Сьвету ведаю мала, але бачу, што і яна ндрэнная. Ёсьць там і другія. Хацела б,

каб ты пагаварыла з Валодзяю, калі ён вернецца зь Піцунды. У травы я лішне ня веру.

Мінулы тыдзень заехаў да нас Алесь Т[раяноўскі]. Быў у Гродна. Гэта першы сябра з нашай творчай інтэлігенцыі, які за гэтыя 8 месяцаў (сяньня якраз) пасьля сьмерці с. п. Яначкі мяне адведаў. Прыехаў з прапановаю, каб рыхтаваць кніжку да друку. Я — ня супраць. Дарэчы, рэдактарам на грам. пачатках прапанаваў цябе. Я сказала, што табе сяньня не да маіх справаў і кніжок… Ён — паважны чалавек, і было цікава зь ім гутарыць. Ведаеш яго — рэдактар са «Зьвязды».

А Бярозкіна вельмі шкада. Паводле маіх меркаваньняў, дык у яго хутчэй «кровоизлияние в мозг»? Ад інфаркту памяці не губляюць! Пачаўся нейкі паморак на творчыя рэзэрвы Беларусі, а іх і так не замнога. Дарэчы, і Міхась Ч[арняўскі] дастаў ужо сыгнальны экзэмпляр сваёй кніжкі пра новы каменны век Панямоньня, хоць прабіць яе (ад 74 г.) было яму нялёгка.

І што там з Тваёю мамаю? Можа, лепш яна да цябе пад’ехала б? У нас тут дык усе капаюць бульбу. Надта ж урадзіла. Недзе і Твая мама мае падобныя клопаты. Не згубі там гдзе маёй кніжкі! І калі Ты мне яе ўжо прывязеш? На ўчора дастала і сьпякла качку, бо чакала Цябе, а Ты і на гэты раз не прыехала.

У Юркі ёсьць для мяне лекі ад рэўматызму. Калі б пераслаў іх на Тваё імя, дык дастаўляй мне іх як хутчэй, бо пабольваюць ногі. Бягу зноў на ўкол.

Ага, пісалі зь Вільні, што мастак Сергіевіч ужо таксама нікога не пазнае на вуліцы. Здаецца, ад склярозы. Не забывайцеся пра мяне! За вершы прыслалі мне 63 руб.

Цалую Вас усіх! Жадаю здароўя і добрага, творчага настрою.

*Ларыса Геніюш.*

## 122. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 11 кастрычніка 1979 г.*

Дарагая Данускя!

Так хутка прыйшоў твой ліст! Дзякуй. Спачатку сябра Эрык — дык зь лекарам тым скантактавацца Вам неабходна, на маю думку. Пашто табе Валодзя? Ён жа ня ведае сам сваёй хваробы! Як піша Сьвета, а яна лекар, дык той чалавек, бадай, найлепшы на ўвесь сьвет знаўца хваробаў вантробы. Спадзяюся, што разьбярэцца і ў гэтым выпадку. Для Валодзі адзін мэтад лячэньня, а тут — болей адпаведны хваробе. Ці гэта будуць лекі, ці адпаведныя травы, дыета, рэжым для такога хворага. Такіх выпадкаў, каб пракансультавацца з падобным лекарам, упускаць нельга! Адрас Сьвятланы маеш, яны Вас запрашаюць вельмі сардэчна (перапрашаюць крыху за цеснату). Бяры свае «Браткі» і мілага мужа, і Сьвета, напэўна, табе паможа знайсьці тое сьвяціла ў лябірынце іншых установаў. Як Вам лепей, дык думай сама.

Цяпер адносна Міхася Ч[арняўскага]. Думаю, што ён можа і ня ведае такой знамянітасьці, як Оля І[патава]. Ён болей з таварыства Норы В[ецер], Юркі Хадыкі, а галоўнае — ён археоляг. Сам пеарежыў вельмі многа і любіць, думаю, найбольш сваю сям’ю і архэалёгію. Калі прыехаў, дык я не прывіталася зь ім, не пазнала, а ён нават не падышоў. Некалі гэта быў такі «мядзьведзь» — моцны, бадзёры, энэргічны, а зрабіўся з яго худзенькі інтэлігент. Ён, едучы да нас, уцёк, даслоўна, з-пад нажа. Балелі яму тыя «каменьні» ў нырках, і трымаўся толькі на таблетках. Ды яшчэ, як сама ведаеш, моцна расстроіўся. Так што і тут памыляешся, Даначка.

Дзякуй, што ахрысьціла — вялікай! Хіба толькі па колькасьці маіх гадоў, а гэта — не асаблівы гонар. Не падабаецца мне гэта з розных меркавань. Куды цікавей быць шэрым,

напрыклад, воўкам і крыху партызаніць у літаратуры. Але і вялікія — ня ўсе дрэнныя, і ня раджу табе ад іх ізаляваццa, бо трэба і іх ушляхотніваць (облагораживать), як і ўсё нашае жыцьцё-навакольле.

Цешуся, што дапаможаш з кніжкай! Цалую Цябе. Я лічу, што выдаць яе трэба. Будзе гэта хоць маленькі ўклад у тое, каб людзі былі — як людзі! Учора бачыла аднаго бацьку: чорны твар ад пабояў роднага сына. Вочы — чырвоныя ад крыві… Страшна. Чаму не бараніліся? — кажу. «Мне 62 гады, а яму 36 — як даў мне, так я і лёг». Міліцыя — з боку сына, у іх свой «разьлік». Якая прорва…

А ўчора зноў шавец адзін паехаў на работу да жонкі, зьбіў там яе да крыві (і як яе не ратавалі?), а пасьля папёр матацыклам дамоў (ледзь не наехаў на людзей) і падпаліў сваю хату, абліўшы бэнзінаю. Тут і гарэлка, і нейкі абсалютны заняпад маралі. Таму хочацца закранаць, варушыць, зьбіраць усё, што ёсьць культураю, і каб яно даходзіла да людзей. У нашым мінулым — ня толькі лапці! У нас глыбокая, цікавая і сапраўдная культура суадносінаў чалавечых. Яна жывая яшчэ!

Нядаўна суседзкія хлапчукі паехалі роварамі мне па карасіну. Дала ім на кіно. Відно, што былі радыя з гэтага, але нешта шапталіся. Пасьля паклалі мне грошы на стол і сказалі, што пражыць за 33 руб. 75 кап. сяньня цяжка, і яны ніколі нічога ад мяне ня возьмуць за сваю дапамогу! Чула? Як гэта хараша! А ў школе іх ганяць. Непаслушныя. Бывае, але — як думаюць, і колькі ў іх чалавечнасьці! Адзін, між іншым, Зосін. Ведаю, што такія бацьку ня ўдараць. Вось таму, думаю, пісаць трэба. Кожны з нас мае ў літаратуры свой шлях. А[ляксей] К[арпюк], напрыклад, мне падабаецца вельмі за сваі цікавыя, актуальныя і вартыя спасьцярогі. Піша, і чытаеш яго, часам, з захапленьнем. Ты, напрыклад, варушыш напластаваньні культуры народу, падкрэсьліваеш гэта і цікава спалучаеш з сучаснасьцю. Ты — з карэньняў і з росту. Добра, што паедзеш да мамы. Можа, забяры яе крыху да сябе, хата ж у цябе — адпаведная.

У нас 14 кастрычніка — якраз 40 дзён пасьля сьмерці Генкі Тукальскага. Зноў будзе плач, у каго, можа, малітва, а ва ўсіх — супольная чарка. Іра, яго жонка, мае многа гора. Яе даканалі, але гэта — лепш пры сустрэчы…

Што датычыць с.п. Яначкі, дык гэта ад мяне не залежыць, што адчуваю брак сябра, глыбокага сучаснага інтэлігента, шчырага беларуса, добрага лекара і спрыяльнага мне чалавека… Я многа страціла зь яго адыходам. Засталася зусім адна. Пэрспэктыва вельмі туманная, і «няма аб што аперціся пяру», душы — тым болей. Пан Алесь казаў, што, можа, набярэцца вершаў хоць на пару аркушаў. Столькі, думаю, будзе ўжо друкаваных недзе. Адным словам, дзьвёх будзем прабіваць дарогу жаночым імкненьням і думкам!

Наконт Вікі, думаю, усё будзе добра, але Твая апека, Твая духовая прысутнасьць і дапамога яшчэ доўга ёй будуць патрэбныя. Усё хаджу на ўколы, але зусім нага балець не перастала, на жаль.

Бедны Бярозкін, ужо ні пра каго не напіша крытычнага артыкула, а жаль… С. п. Яначка яшчэ дапамог бы яму, але не надоўга. Відавочна, ён меў высокі ціск крыві. Я пасьля сьмерці с.п. Мужа і таго плачу дурнога, нікому не патрэбнага, таксама адчуваю пачаткі нейкага склярозу. Нічога ня памятаю часам, аж страх. Часта нэрвуюся. Дарэчы, тыя вершы ад далёкага паэта зьніклі мне з хаты, як камфара… У транзыстара адломана антэна, і папсаваны ўсярэдзіне. Бывае. Але ўсё гэта моцна садзейнічае склярозе. А я — галавой у аблоках, сэрцам — ля сонца, думкамі — вышэй за Клімука з Кавалёнкам. Бедны, невылечны са сваіх беларуска-людзкіх спадзяваньняў паэт…

Тая толькі рэальнасьць прыемная, што ў хаце бывае цёпла, то Ты часам напішаш, то ад людзей пачую, што Юрка ў Беластоку ня п’е… Пішуць яны мне мала. Нецікавыя спасьцярогі аб гэтай «Гісторыі Беларусі» на польскай мове прыслаў мне адзін знаёмы,

добры знаўца гэтае справы, з Польшчы. Выйшла там і анталёгія беларускай паэзіі, гдзе шукаў мяне і не знайшоў.

Чакаю цябе, Дануся. Пакуль што буду зьбіраць тое, што ёсьць пад рукамі і перапісваць. Пан Алесь яшчэ не пісаў. Пабачым, якія будуць яго інструкцыі далей. Дзядзька ён талковы. Гаворыць з пазыцыі сучаснасьці, але дае магчымасьць і крыху думаць. Магла б напісаць Табе сяньня тамы — столькі ў мяне тут падзеяў, але гэта на наступны раз.

Цалую і абнімаю. Вось і ўсё. Кланяйся сябру Эрыку, вітай Байбусаў! (Дарэчы, у нас тут такія ж прозьвішчы.) Пішы мне.

Твая бедная, забытая ўдава — *Ларыса Геніюш*.

Ці гэты ліст хоць да Цябе дойдзе?

## 123. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 20 лістапада 1979 г.*

Данусенька, дарагая!

Дзякуй за ліст і за лекі. Даруй за клопаты, зьвязаныя з маёю асобаю. Добра, што пагутарылі з тым лекарам. Гэта вас, прынамсі, упэўніла ў правільнасьці лячэньня др. Астапенкі. Усё гэта добра, таксама і новае знаёмства з харошымі і шчырымі людзьмі. Што там нарабіла зноў О.? У ёй акрамя нездаровых амбіцыяў — ні любові, ні цеплыні да людзей, ні праўды! У кожным выпадку дзеля мілага, хворага сябра Эрыка ня сьмела рабіць вам прыкрасьць! Божа мой, што ж яна зноў прыдумала?

Учора быў у мяне брат таго ленінградца. Ці ня маю якіх тваіх вершаў на рускай мове? Ён хоча ашчасьлівіць цябе нейкім сюрпрызам. Жадаю табе радасьці з гэтага, але лепш абмяркоўвай зь ім гэтыя справы сама. Пашлі што-небудзь, калі ласка, няхай выдасьць. Казаў, што маеш нешта ў перакладзе Рымы Казаковай. Магчыма, гэта і ў нас ёсьць, але як яго знайсьці ў навале кніжак?

Мілыя выказваньні М. Танка расчулілі мяне, як тыя портачкі ад далёкіх сяброў (тыя портачкі лечаць ад радзікуліта). Харошы ён чалавек, але трэба было сказаць яму, што ем толькі раз у дзень, што ўсе пра мяне забыліся і т. п. Жартую я. Добра, што ўспомніў і што хоць крыху паможа нам у нялёгкай працы. Валодзі дзіўлюся! Казаў жа мне сам пра тыя вершы! Магчыма, іх выкінуў, такую дробязь-непатрэбшчыну. Гэта ўжо іншая справа. Як зь яго здароўем? Ён, бачыш, думаў, што я ў жыцьці безь яго не абыдуся. Казаў мне некалі, што гэта «катарга» — разьбірацца з маімі рукапісамі, з маімі вершамі. Я адказала яму тады, што настолькі шаную сваіх сяброў, што болей падобнай «катаргі» ім не жадаю. Гэта было, калі ён прапанаваў мне рыхтаваць другую кніжку і якраз казаў, што ўжо тыя вершы мае.

Што ж, Дануся, іначай я зрабіць не магла, бо ня ўсё было там шчыра і ясна. Гэта не М. Танк. Шмат было там незразумелага для мяне. Проста рэбусы — не сытуацыі. Уяві: прыяжджаем мы да іх з пакойнай Надзеждай Васільеўнай. Бярэм таксі. У хаце — поўная ілюмінацыя. П. М. сьвяткуе дзень сваіх народзінаў. Поўна гасьцей. «Нованароджаны» падымаецца з ложка Надзежды Васільеўны і са шклянкаю, поўнай гарэлкі, у руках вітае мяне на каленях, абдымаючы мае ногі і г. д. Я зьбянтэжылася, кажу: «Я зусім не Л. Г., я толькі іх сваячка». Тады той дзядзька выпростоўваецца, тыча мне ў нос хвігу і кажа: «На табе хвігу, калі ты не Л. Г». Госпадзе, мала таго, пачаў ганяць мяне па хаце, і я скакала па крэслах і канапах, і ніхто мяне не бараніў! Урэшце я ўбілася між нейкай дамай і мастаком і прыказала ім, каб яны мяне пільнавалі. А сама думала — куды я папала? Нарэшце той П. М. пачаў пяяць соло па-французку, і гэта аднясло яго ў вышэшыя сфэры зямнога нашага быту. З таго часу я нігдзе не бываю, нэрвуюся. Таму баюся: ці вам не зрабіла падобнага экстравагантная О.?

Цяпер я не шукала вершаў, бо хварэла. Нешта нядобрае было са мною. Усё балела — ні сесьці, ні легчы, ледзь розум не памуціўся. Паводле дыягназу Зосі — мяне ўраклі! Трывала гэта роўна суткі. Я адчула смак сьмерці і з гэтага часу нічога ўжо не баюся! Калі б нешта было, дык прышлю табе яшчэ, але трэба ператрасаць старыя шпаргалкі. Чым корміш сябра Эрыка? Ці што прывезла яму зь Менску? Глядзі яго, як можаш! Цешуся, што «дым отечества сладок» нават Пляменьніку. Хочацца, каб Віка дастала абшчэжыцьце без капрызаў розных гаспадынь. Як яна выглядае, як чуецца? Цешуся, што мы будзем прымаць Чарняўскіх у Зэльве. Я ўдзячная ім за дапамогу пры сьмерці с.п. Яначкі. Паўлаву напішы абавязкова! І дай Божа табе цярплівасьці і вытрываласьці з маімі вершамі! Не кляні, Данусенька… Мару аб тым, калі цябе ўбачу. Усіх вас вітаю, і Пляменьніка! Цалую цябе — твая *Ларыса Геніюш*.

P. S. Чытала пра Сынкавіцкую царкву. І мучуся абыякавасьцю «сытых» да спраў нашай архітэктуры. Вершы твае мудрыя і складаныя — зайздрошчу…

## 124. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 29 лістапада 1979 г.*

Дарагая Данусе!

Цешуся, што цёткі б'юць масла і паявіліся кролікі. Ведаю, якая гэта важная справа, калі нехта хворы ёсьць у хаце. Гэта ўжо заспакойвае маю, крыху хворую, душу. А вершы прасейвай! Таму іх і пасылаю. Выбірай лепшае. А пра хату пішу таму, што пра іншае — было б страшна, ды і пра сяньняшнюю маю рэчаіснасьць — не надрукавалі б. «Мы з нашага дзяцінства», — казаў Экзюперы. Меў рацыю. Той верш пра дзеда таксама ня трэба. Ён яго прыніжае. Дзед усю сваю зямлю накупляў на Віленска-Тульскі банк. Усё жыцьцё за яе сплочваў. Гэта быў проста ўспамін…

Прыехаць не магу. Аднаго чалавека ўзялі ў больніцу, дык у яго нават халадзільнік вынесьлі з хаты, аб іншым не гаворачы. То шчасьце, што чалавек памёр. А як я вярнуся, і нічога ня будзе, то як я буду жыць? Тут табе — ня ўсё торбы! Некаму я моцна муляю вочы. Я адчуваю гэта. З Пэгасамі і іншым рабі, як сама знаеш. Шкадую цябе бязьмерна, недзе заядае цябе нудота з гэтага ўсяго. «Апалону» ніяк не вытлумачу мудрых тваіх думак. Гэта ня мае ніякага значэньня (паводле яго) перад тым гонарам, што надрукуюць цябе ў Ленінградзе на дзяржаўнай мове і г. д. Ён ніколі не зразумее таго, як ты праходзіш міма яго брата, свайго шчасьця, якога ён жадае табе, выводзячы твае словы ў вялікі сьвет! Таму я лепш ня буду сустракацца зь ім, бо чаго добрага «Апалонік» пачне цябе яшчэ падцэньваць! Зусім не шкадую, што ты не грузінка. Наадварот! Прагну сустрэчы з табою, бо ўсё ты мне тады раскажаш.

Я сяньня пад уражаньнем імправізацыі далёкага сябра. Ён атрымаў «Браткі». «У бязьмежную гляджу я высь, / Магутны Божа, гдзе Ты? / Кіпцюрамі ў душу думкі ўпляліісь: / Як мне стаць чалавекам? / Чалавекам, дастойным краіны, / Зь якой я ў сьвет пайшоў / Недаросткам хілым… / Ня раз ападаў чаромухі цьвет, / І я зрабіўся другім… / Ды ходу няма… Граніца кругом… / І кружыцца віхрам зямля, / І дні нясуцца, бягуць. / Калі ж вярнуся дахаты я? / Калі ж вярнуся на Беларусь? / Магчыма, я упаду дажджом, / Магчыма, цёплай кропляй крыві, / А ўсё ж упаду на роднай зямлі / І распластаюсь крыжом, / Як Папа Рымскі, / Як жыд ерусалімскі… / Хто забароніць гэта мне? / За зьдзек дзіцячых год заплоціць? / Хто ўваскросіць маму мне, / У роднай хаце пасадзіць на покуць? / Цячэ Нёман, цячэ… / Ад гэтага нам не лягчэй. / Мы швэдзкія маем каменьні… / Ўсе ставілі нас на калені… / Мы сінія маем вазёры, / Ды нейкая сіла нас морыць, / Пра нас ўжо суседзі гавораць… / Пайду на

курган, заплачу! / Душы таты і мамы пабачу… / Людзям за грахі прабачу… / А цяпер хлеб ем жабрачы…»

Я ведаю сілу тугі па Бацькаўшчыне, і мне так цяжка чытаць яго вершы. Крыху думаю — ці ён зусім нармальны? У разуменьні — што ён сапраўдны паэт. Па прафэсіі ён мастак. Душа — як ліра. І навошта мне яшчэ і гэты боль? У яго высокі ціск крыві. Лечыцца. Не магу пакінуць яго. Я шкадую ўсіх нашых суродзічаў — усюды.

…Не хапіла зярнятаў,
Каб усіх накарміць,
Толькі песьняў хапіла,
Каб хтось духам акрэп.
Кажуць, ў песьнях ёсьць сіла,
Кажуць, ў песьнях ёсьць хлеб.

Гдзе ўзяць тае сілы, каб дапамагчы хоць крыху братом сваім далёкім? Мне сяньня тут цяжка. Мне трэба да іх…

Фактычна, падумаўшы, дык навошта я тым мянчанам патрэбная? Гэта яны мне былі патрэбныя, і гэта не эгаізм. Знача — не па дарозе нам. Яны ж — тое, што і я. Яны былі добрымі ў цяжкую хвіліну, і я ім дзякую. І гэта ўсё! Няма найменшай патрэбы іх турбаваць.

Зь цікавасьцю слухала Л. Брэжнева. Маладзец! Трэба праўду казаць людзям, бо чуюць адно, а бачаць другое! Я думаю, што гэтае прызнаньне труднасьцяў, мужнае і шляхотнае, хутчэй абудзіць сумленьне людзей і падыме да працы. Пабачыш!

Мне ня хочацца ўжо слаць табе сваіх вершаў. Ці паправіш «Каложу»? А «Залозкі»? Мне прынесьлі на сяньня 2 пачкі пяльменяў, каб не схуднела… Таўсьцею. Вытрываласьці табе і сілы ў змаганьні з Пэгасамі!

Цалую — твая *Ларыса Геніюш*.

Ну і навошта я табе ў тым Гродне? Што я там буду рабіць? Перашкаджаць табе?

## 125. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 6 сьнежня 1979 г.*

Дарагая Данусь!

Ці мой апошні ліст, пісаны ў панядзелак, 3 сьнежня, быў нармальны? Мне двоіліся вобразы: адно перад ачамі, другое — у думках. Жах… Ноччу — тэмпэратура, нудзіла страшна, але ня рвала. Я разьвіталася з Табою ў думках і таксама прыходзіла мне ў хворую галаў, каб зборнік назваць, напрыклад, «Настоенае на чабары». «З рабра прынямонскіх вярбін» — таксама нядрэнна. Так, «сялянка я» — гэта не паэтычна. Дык будзь хрышчонай мамаю гэтай кніжкі, над якою табе наканавана пацець і нэрвавацца і нейк адпаведна яе ахрысьці.

«Настоенае на чабары», я думаю, нядрэнна, бо гэта мае сувязь і зь сялом, і зь зямлёю, і з тою сілаю, якую дае чабор і ў песьні, і ў настойцы. Ён свой. Твой ліст крыху падняў мяне на ногі (плюс таблеткі), я ляжала гэтыя дні. Цёткі, уключна з Зосяй, забягалі і прыходзілі. Яны тут дадумаліся мяне ня толькі падкармліваць, але і падпойваць! Кажуць, што гэтым зельлем найлепей лечыцца грыпа. Сяньня на ноч, пэўна, паспрабую.

Брыль быў малады і цудоўны. Ніколі не забудуся, як хораша гаварыў пра Дануту Бічэль! Ён крыху ў цябе закаханы, і гэта яму вельмі да твару. Густ у яго — адмысловы! Мяне задзівіў сваёю эрудыцыяй. Вельмі імпануючы багаж ведаў у кожнай галіне літаратуры. Сьціплыя і трапныя заўвагі. Адметныя, сымпатычныя і на высокім узроўні рысы тонкага гумару. Я з насалодай глядзела гэтую перадачу і толькі думала: ці хоць Ты яе бачыш?

Філозафу разам з усімі падаркамі яго мамы дала б пад зад і паслала б яго да нудотных абашыдзаў і іншых генацвалі. Вось там пабыўшы, навучыўся б любіць сваё. Гэта адзіны ратунак на гэтую нікім не прабуджаную душу (калі яна ў яго ёсьць). Адным словам, ня можаш хацець, каб «Запалянкі» Твае нарадзілі адных Данусяў. Гэта была б надта вялікая натуга для натуры.

Што ўспомніла маіх зэльвенскіх Зосяў — дык зусім добра. Толькі ня трэба было пра тое «вядзерца вады», а то чытач падумае, што я зусім тут інвалід, і чаго добрага, забяруць мяне «в старческий дом» для маёй жа выгоды… Добра, што хоць тваё натхненьне не кранула таго «падкармліваньня». На днях гэта быў смачны, невялікі (удома роблены!) торцік. Папрыходзіла болей сяброўак, і мы яго са смакам зьелі. Там былі гарэшкі. Учора Іра прынесла мне 6 яечак, недзе дастала. Сяньня зь вёскі прынесьлі белы хатні сыр (смаката!) і дзьве банкі літровыя — адну са сьмятанаю, другую з тым, што парадзілі мне ад грыпу. Заўтра напішу Табе рэзультаты таго лячэньня альбо ўжо не напішу зусім…

Усё гэта, аб’ектыўна беручы, варта паэмы! Нешта сталася з маімі дзецьмі, і яны перасталі пісаць мне. Недзе ў іх непаладкі зноў. Зь Юркаю жыць цяжка, з Валяй — яшчэ цяжэй. Каб толькі былі здаровыя. Недзе баяцца, каб хоць нічога не прасіла ў іх… На шчасьце, нічога мне ня трэба, толькі б былі як людзі, здаровыя, крыху разумныя, з сумленьнем. Стаіць усё ў вачах Алесік — на рынку… Божа, Божа, як навучыць іх сапраўдным вартасьцям у гэтым жыцьці?! Гэта ж можа стаць прываблівым для Алеся. Гэта лягчэй, чым вучыцца альгебры (ён тут «кульгае»). І гэта ня грэх, але мне на гэта яшчэ няма патрэбы. А што сказаў бы с.п. Іван Пятровіч? Баюся думаць…

Дарэчы, мой паэт з Бэльгіі Міхась Саўко колькі разоў пытаўся ў мяне пра Я. Брыля. Яны, здаецца, суседзі. Я яму напісала, што Брыль — высока і далёка, а я тут — зусім маленькая, каб не пытаўся… Навучылася крыху жыць. Адным словам — шчасьлівага плаваньня гэтай кніжачцы з наднямонскага рабра і ўчэпістай беларускай гліны, прытым настоенай на крапіве, чабары і багуньніку. Хрысьці ўжо яе па-свойму. І зусім я не сялянка на сяньня.

Падзякуй «сильным мира сего» за памяць і зацікаўленьне маленькай маёй асобай. Пісаў сяньня Коля: «Некалі мы марылі пад’есьці хлеба чорнага і міску лішнюю баланды». Пісала яму пра нагрузку для Цябе. Цешыцца вельмі, але і шкадуе Цябе, што многа працы. Пісала, што нехта ў Цябе запытаўся — што ем? «Я б на месцы Данусі адказаў бы так: яна ж не заморская Чайка (некалі — мой псэўданім) і сілкуецца ў нас тут беларускім паветрам уперамешку з бульбай».

Цалую Вас усіх! Філозафу здалёк ківаю галавой. Удачы і цярплівасьці Табе ва ўсіх Тваіх пачынаньнях! Зося чакае, дык нават і не чытаю ліста, але сяньня ў вачах ня двоіцца.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

### 126. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 21 сьнежня 1979 г.*

Данусенька!

Абавязкова трэба ехаць сябру Эрыку. Яго здароўе — гэта галоўнае. Добра, што хоць самі клічуць. Яны, напэўна, ведаюць, што робяць. Я рада, што Твая мама ў вас. Гэтак і «цяплей», і выгодней зь ею. А тое інтэрв’ю зь ею лідзкага журналіста — проста цудоўнае! Вось табе і «Запалянкі»! І Віка прадоўжвае цудоўны і ганаровы шлях. Цешуся, што людзі разумеюць гэта і любяць.

Тут Лідка ўсё шукала, ці няма чаго пра Цябе ў «Гродзенскай праўдзе». Мы вельмі ўсе папалохаліся. Учора зноў выслала Табе ліст. Там і пра кунегу. Я гэтае слова памятаю

яшчэ з Прагі, са слоўніка Некрашэвіча, і ведаю аднаго сябра, які знайшоў гэтае слова ў старых граматах нават. Вось так. Назова кніжкі, безумоўна, цяпер ужо справа Твая.

Дзякуй за мілае запрашэньне, але ўчора, калі было найгорай, я пайшла ў амбулято-рыю зьмераць ціск (наш апарат нехта папсаваў, як і транзыстар). Мяне «зацягнулі» далей, адкрылі паганы, запушчаны бранхіт і хацелі класьці ў бальніцу. Кончылася тым, што я ўдома. Ставяць мне то банкі, то гарчычнікі, прымаю антыбіётыкі, нейкія польскія дарагія таблеткі і запіваю жудаснай міктурай тры разы ў дзень. Толькі што быў Зютак, Лідкін муж, — хворы-хваруткі. А як вы трымаецеся?

Наша «салодкая» суседка па панадворку — чалавек вельмі нячэсны, жудасны. Мне нельга пакінуць хату. Нічога тут няма, але не хачу, каб пературасалі памяткі па с.п. Янач-цы ды маі шмоткі. Гэта людзі, для якіх няма замка, сумленьня, людзкасьці. І партызаншчына іх таксама ня тая, што ў дзеда Талаша, як і партыйнасьць… Я не баюся іх, мне дрэнна ад іх. Гэта — як кара, надзор нада мною. Што ні выдумоўваюць, але я маўчу. Адрыгнецца ім некалі, я ўпэўнена.

Мушу ляжаць. Зося прынесла дроў, торфу. Наконт сваіх лёгкіх я баюся, каб не было што горшае ад бранхіту. Ноч была цяжкая. Але почырк крыху ўжо лепшы. Буду старацца, каб выздаравець…

Ад дзяцей яшчэ ўсё няма вестак. Думаю розна. Можа, сын паехаў куды зь Беластоку? Не магу зразумець. Яму часта падсылаюць людзей, якія «ведаюць» мяне. Такое часамі нагаворвалі на нас з мужам, што хлопец зьверам прыяжджаў дахаты. Я маўчу на гэта і ўсё пакідаю часу і праўдзе. Ты дык уявіць сабе ня можаш, на што толькі здольная ёсьць пэўная парода людзей…

Казько мне ня вельмі падабаўся. Тое Лецечка — нейкае як нерэальнае. Спрабую прачытаць. Але «Чужая бацькаўшчына» — гэта цудоўна! Толькі вельмі часта ўжывае «жаўтлявы і сьлізкі». Дэталі ў яго, як у Гамэра, галоўнае — праўдзівыя, свае штрыхі, і мова гнуткая, як вярбовы прут у яго руках. Маладзец!

Аслабела я моцна за час хваробы. Я ўсё думала, што гэта грып, які пройдзе. Мне вельмі падабаецца, што Я. Брыль так хораша і молада выглядае. Ён вельмі тактоўны. Цешуся, што ў Цябе такія сябры. Ліхіх людзей не ўпускай нават у хату. Няма часу на іх. Прытым яны апаганьваюць нам душы, а ля нас мусіць быць шляхотна і ясна.

Гэтыя месяцы — самы цяжкі пэрыяд жыцьця с.п. Яначкі. Я яго шукаю ачамі, адчуваю патрэбу яго. Часта гляджу на адну яго фатаграфію, гдзе відно проста яго душу…

Ці ня чула, як здароўе Валодзі К[араткевіча]? Хто цяпер даглядае яго, акрамя Валянціны? Можа, сястра?

Пакуль у вас мама, дык старайся прывесьці ў парадак свае школьныя справы. Маму затрымай як найдаўжэй. Няхай адчуе, што Ты — ня толькі мастачка, але і чулая, разумная яе дзяўчынка. Ці на Новы год прыедзе Віка? Хочацца, каб усе вы былі разам як найчасьцей! Гэта патрэбна і нам, і нашчадкам. Пасьля яно дадае сілаў.

Да мяне зьвярнулася мая сястра Ніна, якая з вамі прыяжджала на пахаваньне с.п. Яначкі. Просіць у мяне лекаў: седуксен, цытрамон, экстракт валяр'янкі (у таблетках). Прыслала мне 10 руб. на гэта, але цяпер я тут гэтага не магу дастаць. Калі б нешта Табе ўдалося дастаць з гэтага, дык пазвані Аляксею Міхайлавічу, ён перадасьць Ніне. Гэта для яе маці. Ня гневайся, дарагая, цётка вельмі хворая, і безь седуксену яна ня сьпіць. Даруй мне за гэта, але гдзе я тут вазьму? Цётку шкадую, безумоўна.

Стараюся, каб было і ў мяне, як пры с.п. Яначцы. З хаты нікуды не пайду. Цалую і абнімаю.

*Ларыса Геніюш.*

Іду хутчэй легчы. Ня думаецца нейк сяньня. Але яшчэ не найгорай. Сустрэнемся! *Л.*

## 127. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 24 сьнежня 1979 г.*

Данусенька, мілая!

Вельмі рада, што дапаможаш цётцы! Я так і думала. Даручаю Табе Нінінага ліста. Дзясятку ім не пашлю. Забярэш яе, калі прыедзеш.

Сяньня я крыху выходзіла. Па дровы. Ногі — як з ваты. Учора была «хуткая дапамога». Моцны бранхіт. Ставяць мне — дзень банкі, дзень гарчычнікі. Яшчэ дапісалі лякарства. Ты не прыяжджай пакуль. Сьвятамі будзь дома, каб было сьвяточна, урачыста. Мяне тут добра даглядаюць. Учора аж «замучылі». Злая суседка прынесла ўчора талерку кашы з катлетамі. Соладка ўсьміхалася, ідучы. Назад пайшла злая, як кобра, разам са сваімі катлетамі! Во!

У 8 г. сяньня была ўжо тут Іра з малаком (ад каровы) і зь цёткавым кісяльком. Як бачыш, я дагледжана. Нават Лапка дагледжана. Па дровы хадзіла таму, што неабходна было шырэй глынуць паветра. Чытаю «Суд у слабадзе». Напісана добра! 10 дзён нельга мне ўставаць з ложка. Гэтага зрабіць не магу. Ніяк ня ўлежу.

Цешуся, што Ты выступала перад студэнтамі. Знаходлівасьць Тваю ведаю. Дасі рады перад усімі крытыкамі! Добра, што не дала мой адрас. «Бабы» просяць мяне, каб нічога не рабіла, яны і памыюць, і папрачуць… Любата! Галава баліць меней, болей — слабасьць.

Ад Юркі, безумоўна, ні слова! Я баюся, ці ня меў якіх непрыемнасьцяў? Сама да іх прывыкла, але мне ўжо «Бог велел», а іх — шкада крыху. Вершаў цяпер — ніякіх, бо няма скуль іх узяць, галава бяз думак, астыла сэрца, і хістаюцца ногі. Думаю, усё гэта пройдзе. Добра, што хоць не паклалі ў шпіталь! Толькі не прыяжджай цяпер! Адпачывай, глядзі сямейку, сьвяткуй! Я Табе напішу, калі можна прыехаць.

Толькі што заходзіла Ганулька — Яначкіна медсястра некалі. Выйшла другі раз замуж (першы муж загінуў у аварыі, быў шафёрам). Два месяцы, як нарадзіла дзіцятка, хлопчыка. Шчасьцю іх не было граніц. Адмовілі ныркі, выйшлі з ужытку ад гною… Пусьцілі яе на сьвяты дамоў. Цень зь яе. Жаль. Да мяне прыйшла зь любоўю даўняй і вялікай. Маці першага мужа гадуе тое дзіцятка. Разам зь яго бацькам. Схапляюцца ўночы абое. Можна жыць, поўна шчасьця, а тут Бог ведае, як і што будзе.

Цікава, што яшчэ там Васько напісаў быў? І так выйшла хораша, сардэчна і цёпла. Ён добра цябе пазнаў. Любіць цябе і наш край. Цалую Вас усіх.

*Ларыса Геніюш.*

Мілай маме, дарагому Эрыку, залатому Валерыку, найлепшай Табе і будучаму Сьпінозе — сардэчныя прывітаньні! Зычу яшчэ раз найлепшага! *Л.*

## 128. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 27 сьнежня 1979 г.*

Мілая, дарагая Дануся!

Атрымала Тваю картку сьвяточную. Дзякуй. Узварушвае мяне тое, як думаеш, як клапоцішся аб кнізе. Як будзе, так будзе, дарагая. У безьлічы Тваіх турботаў гэта яшчэ нейкі лішні цяжар. Жаль, што шляхотны і харошы [Алесь] Жук зьмяніў месца працы. Што за прычына? Можа, з гэтай нагоды будзе мець болей часу для творчасьці? Гдзе ён ні быў бы, зь яго ўсюды будзе карысьць. Тып пазытыўны.

Ты мне нічога ня пішаш, ці дастала маяго ліста (улажыла ў яго і Нінін), ці змагла хоць крыху памагчы лекамі маёй цетцы? Гэта важна. Я да нядзелі ня сьмею з хаты.

Мушу ляжаць, але ня здолею. Банкамі і гарчычнікамі крыху пашкодзілі скуру. Аблазіць, чэшацца — ня вытрываць. Аслабла капельку. Не хапае духу. Лекаў больш не прымаю. Учора ставіла банкі Зосі. Зусім хворая.

Была кароценькая картка ад дзяцей і ўнукаў. Сяньня быў ліст, у ім — «Твор аб янычарах». Вельмі філязофскі, а ў канцы: даруй, матуля, што рэдка пішу. Міхась сабе ў Ольштыне купіў пёсіка-таксу. Вучыцца добра. Я многа думаю і крыху пішу.

Вярнулася наша знаёмая здалёк, памятаеш яе. Кажа, што там дзеці зусім не прызнаюць бацькоў. Аддаюць іх у старэчыя дамы… Што кожны хацеў бы на бацькаўшчыну. Аб мінулым канфлікце ня ўспомніла ні словам. Прыехала са шчырасьцю, з прывітаньнямі, з тоненькім летнім халацікам — навошта…

Юрка, аказваецца, усім апавясьціў пра кніжку. Зусюль пытаюцца. А што як ня выйдзе? Даруй мне, мілая Данусенька, але нікому пісаць ня буду. Проста таму, што трэба выздаравець крыху. Разабрацца з тым, што творыцца побач. А 70 гадоў — гэта так многа, што лепш забыцца пра іх. І як я дажыла да такога паважнага веку — не разумею. Каб Табе чаго злога толькі не зрабілі — гэтага я баюся. Адбіваюць, бачыш, нават Зосю… Дзікунства несусьветнае… Дзясятку, якую Ніна прыслала на лекі, аддам Табе пры сустрэчы.

Зь цяжкасьцю прачытала пра Лецечку. Сумная, ажно панурая рэч. Я болей люблю нешта жыцьцесьцьвярджальнае, сільнае духам, гдзе жывуць і іскрацца думкі, хоць памірае цела, як вынік тупога зьдзеку над чалавекам. Гэта, можа, і рэалістычна, але гэта нейк хвора, безнадзейна. Наагул, не люблю дзетдомаў. Тут іх ідэалізуюць, а я ідэалізую сям’ю! Чалавек — моцна складаны і духова-патрабавальны твор, і мне заўсёды здаецца, што абавязак бацькоў — даць сваім дзецям ня толькі цела, жыцьцё, але і пераліць у іх душы найлепшае, што мы маем. Юрка выхаваны ад 12 год бяз дому. Да сяньня адчуваецца гэта. Быццам два чалавекі ў ім. Ён мае жаль да нас за гэта, часам — да інфантыльнасьці.

Што да Вікі, дык людзі не гавораць дарам. Таму зьвярні на гэта ўвагу, каб на душы дзіцяці не засталося плямаў. Іх можна і трэба пазьбегнуць. Можа, у будучыні будзе мець жаль да Цябе, калі не ўсьцеражэш яе ад нейкага лавеласа ўпору. Мужчыны — гэта толькі самцы. У іх — ні веку, ні такту, ні розуму. І гэта зусім натуральна. Жанчыны жывуць любоўю, мужчыны жывуць, галоўнае, для справы сваяго жыцьця, а ўся рэшта — між іншым. Яны ўсё ж — стваральнікі, і тонкасьці ад іх спадзявацца цяжка.

Паводле маяго с.п. Мужа, яны моцна кахаюць, але гэта нічога супольнага ня мае з сэксам. Ён быццам ізаляваны ад пачуцьця, і ім можна карыстацца ўсюды («В минуту жизни трудную…»). А ў жанчыны гэта іначай. Падобны акт валачэ за сабою ўзрыў пачуцьцяў. Як сумна, калі гэта ўсё дарам… Сьцеражы сваю Віку. Яна малая яшчэ ў Цябе. Мусіць, наіўная.

Шмат злога зрабіла мне мая с.п. Мама ў жыцьці. Калісьці Табе напішу. Зусім не лічылася са мною, як з чалавекам. Прыме сватоў, угаворыць мяне, расплаканую, бунтарную, замуж, а калі я, шануючы сьвятую волю бацькоў, згаджуся, дык пераверне мне душу, усё парве, абразіць і выжане чалавека з хаты і скажа, што гэта толькі яна мяне выпрабоўвала. Пасьля ўсіх гнала з хаты, і толькі адзін с.п. Яначка прыпаў ёй да сэрца. Другія плакалі і страляліся, дурэлі. Сапраўды грызьлі зямлю на маіх вачах… Гэта было страшна. Я ўцякла з хаты да дзядзька, і там мяне ўбачыў мой Яначка. Так было трэба. Мяне змушалі прысягаць на крыж, што выйду замуж, вадзілі пад касьцёл і маліліся… Госпадзі… І Яначка плакаў таксама…

Ня ведаю цяпер Вікі. Але сьцеражы яе.

*Ларыса.*

## 129. МІХАІЛУ КАНТАРОВІЧУ

*[1980–1982]*

Паважаны таварыш Кантаровіч!

Ласкава даруйце, што вас турбую, але мушу нейк бараніцца і хачу спачатку зьвярнуцца да вас, як да мясцовага начальства. Справа ў тым, што ля нас узводзяць нейкую будоўлю. Зь вясны паведамілі нас аб гэтым, я паказала плян сваёй забудовы. Выясьнілі, што трэба забраць ад нашага панадворка і будынкаў, і пайшлі. У мінулым месяцы, якраз на дзень маіх нарадзінаў, зьявіўся на маім двары тав. Вярстак, старшыня гарсавету, у суправаджэньні яшчэ некалькіх асоб. Адзін з прысутных зьвярнуў увагу на мае кветкі і сказаў прыблізна так: «Цветы здесь развела, гладиолусы, а людям жить негде, уборную здесь поставим!» І тав. Вярстак загадаў мне падзяліць мой хлеў напалову з А. Канюшэўскай, якая жыве ў другой, дзяржаўнай, палове дому. Дом гэты дастаўся нам у спадчыну ад бацькоў маяго мужа. На гэтым месцы Генюшы пражывалі — вякі. Мне стала да болю крыўдна, бо я ведала, што дзяліць той бедны хлеў тав. Вярстак ня мае права.

Мне прыпомнілася пахаваньне маяго мужа і тое зьдзекаваньне, якое тады нам учынілі. Мы сьцежкі ня бачылі з гора, а тав. Вярстак усё бегаў з блякноцікам і нешта запісваў. А потым свае «нататкі» падаў у суд і ў Райспалком на Івана Рошчанку (інваліда) за тое, што той чалавек нёс крыж. Напісаў, каб аштрафавалі яго на 50 руб. Ён і тав. Сончык, дырэктар Зэльвенскай школы, выклікалі і дакаралі людзей, якія несьлі вянкі. Тав. Карпееў пазрываў у майстэрні па-беларуску напісаныя стужкі на вянках ад мэдыкаў, калегаў мужа, і загадаў іх напісаць па-руску. Калі труну паставілі на машыну, дык яна ніяк не магла скрануцца зь месца. І толькі калі людзі сабраліся несьці труну на руках, машына рушыла зь месца…

Усё гэта прыпомніўшы, я голасна сказала тав. Вярстаку, што я яшчэ ня труп, над якім можна зьдзекавацца і рабіць усё, што захочацца, а жывы чалавек. Мне стала дрэнна. Выклікалі лекара. З той пары ратуюць мяне ўколамі і лекамі. Мне ня лепей. Уборную паставілі з боку суседзяў, але ўпрытык да маяго палісадніка. Там разьмясьцілі і скрыню на сьмецьце. Суседзкі дом густа населены, і заўсёды ля гэтых двух пунктаў стаяць азёры бруду. Яны цяпер будуць выліваццa ў мой гарод, бо стаяць вышэй за мой участак. Я чула, як малаведамы мне рабочы Мікалай Захарчук прасіў іх не рабіць гэтага, бо «залье гарод старой паэтэсе Ларысе Антонаўне…» Чаму ж толькі ў рабочага было сумленьне і чалавечы розум? Пашто так рабіць, калі вакол поўна месца? І жыхары дому ўмольвалі, упрошвалі архітэктара падобнага не рабіць.

Нам забралі гароды, а гэта — адзіная маленькая лапінка зямлі, гдзе магу пасадзіць нешта. Мне засталося нядоўга жыць, таму прашу вас ласкава: не забруджвайце, не забірайце мне апошняе на маім уласным загоне! Я пражыла доўгія гады, я бачыла сьвет, але нідзе ня бачыла, каб зьдзекваліся над памершымі ў час пахаваньня і над старымі.

Яшчэ на адну акалічнасьць хачу зьвярнуць вашу ўвагу. Ці варта зносіць старыя людзкія сядзібы вакол праваслаўнага старога храма? Старыя муры царкоўнай агароджы гармануюць зь ціхімі сядзібамі добрых людзей. З новымі будоўлямі яны будуць вялікім дысанансам. Вы ня зэльвенец, але вы, спадзяюся, адукаваны чалавек і ведаеце вартасьць даўніны для нашчадкаў. Захавайце, не руйнуйце гэтага харошага куточка старое Зэльвы. Такое можа зрабіць толькі барбар. Царква і царкоўны дом — гэта адзіная цэласьць. Чаму ж вы не аддасьце гэтага дома сьвятару і храму? Чаму ня робіце людзям так, як яны просяць? На гэта яны маюць права. Дасягненьні народу — ня толькі стройкі і выпаўненьне плянаў, але і культура, абыходжаньне зь людзьмі, лад і мір у кожным асяродзьдзі.

Я зьвярнуся з гэтым пытаньнем у вышэйшыя ўстановы, але пакуль што зьвяртаю на гэта вашу ўвагу. Можа, вы тут чаго не дагледзелі. Кожны добры начальнік жыве для народу, а ня супраць яго, дык будзьце такім, як тав. Машэраў, які ніколі не абмінаў просьбаў простых людзей. Таксама і я некалі зьвярнулася да яго пасьля сьмерці мужа. Ён дапамог мне, але вы зноў пачынаеце зьдзекавацца нада мною і наноў цешыцеся, што ледзь не давялі мяне да інфаркту… Ня трэба так, тав. Кантаровіч, гэта не па-беларуску.

Загадайце перанесьці тыя аб'екты туды, дзе ім і належыць быць. А мне даруйце, што зьвяртаюся да вас на мове маяго народу. Спадзяюся, што перакладчыка ў Зэльве знойдзеце.

З належнай павагай да вас — *Ларыса Геніюш*.

## 130. МІХАІЛУ КАНТАРОВІЧУ

*[1980–1982]*

Паважаны тав. Кантаровіч!

Нейкая паэтычная інтуіцыя падсказала мне напісаць вам учора ліста. Я сапраўды ня ведала, што мяне чакае. Вярнуўшыся з пошты, я ўбачыла чатырох мужчын на сваім двары і нейкія дошкі. Аказалася, што гэта работнікі ПМК прыйшлі строіць на маім уласным падворку хлеў, а ў палісадніку, аб якім я вам пісала, пэрсанальную ўборную для тав. Канюшэўскай. Знача, у гэтым палісадніку і ўпрытык да яго будуць зьбірацца адходы аж з трох дамоў. Адзін зь іх на шэсьць кватэраў. Гэта ўжо прыдумана вельмі садыстычна і, спадзяюся, ня вамі. Адчуваецца тут ня так ідэя архітэктараў, як тав. Вярстака. Якраз там, дзе яны заплянавалі свой аб'ект, расьце яблынька, хораша зьвісаюць гронкі вінаграду, цьвіце ружа. Там маі белыя лілії і найпрыгажэйшыя туліпаны, там сьцяна маяго хлява…

Я тут зусім адна. Род мой абсалютна вынішчаны ў час апошняй вайны. Браты пагінулі на фронце, а адзіны сын жыве ў Польшчы. Але я ня полька… Наш Гарсавет усім дапамагае. Таму я прашу вашае дапамогі. Нельга сканцэнтраваць уборныя дзевяці кватэраў ля маёй старой, сірочай хаты.У мяне ёсьць тэхнічны пашпарт на гэты малюсенькі ўчастак зямлі.

Калі вы бясьсільныя памагчы мне ў гэтай справе, дайце мне магчымасьць злучыцца з адпаведнымі органамі, каб я, як не савецкая грамадзянка, магла злучыцца з ААН, якая апякуецца такімі людзьмі.

Я ўсё роўна буду старацца аб гэтым, дык лепш дапамажэце мне тут, на месцы. Мне да болі шкада пакідаць маю Беларусь, але я хачу апошнія дні маяго жыцьця пражыць без смуроду — маральнага і рэчаістага, і памерці сваёй натуральнай сьмерцю. Прашу прабачэньня, што вас турбую, але, як бачыце, становішча маё, на мае гады, трагічнае і амаль бязвыхаднае, бо ведаю, што зьдзек над маёю асобаю ня спыніцца.

З належнай павагай да вас — *Ларыса Геніюш*.

## 131. ВАСІЛЮ ЛЮБІНСКАМУ

*[1980–1982]*

Паважаны Васіль Васільевіч!

Даканалі Вы мяне сваімі стройкамі. Кожны дзень нешта новае на ўдовіным маім панадворку. Вы хацелі палову маяго хлява, але гэта зусім немагчыма. Што ж, Вы паставілі на маёй зямлі другі, мала меншы, у якім можна трымаць цэлую сьвінаферму ды нават карову… Жаль, шмат гадоў тая жанчына, А. В. Канюшэўская, нават парасяці не трымае…

Але гэта справа Вашая і яе. Узялі Вы мне кусок тае зямлі, знача, так трэба для Вашае справы. Усё роўна сьметнікам Вашым і ўборнаю давядзецца і мне карыстацца, бо стаяць яны на маім участку. Справа тут іншая. Пашкадуйце крыху хоць маю старасьць, не даводзьце да інфаркту, давяраючы і дазваляючы тав. Канюшэўскай рабіць тут са мною і з Вашымі рабочымі, што толькі захоча. Вы сканцэнтравалі ўсе ўборныя (паводле пляну) і ўсе сьметнікі дзевяці кватэраў ля маёй хаты. Нехта з Вашых меншых начальнікаў з большай чалавечнасьцю і сумленьнем перанёс хоць уборную нашае хаты ў канец маяго двара. Пашкадаваў яблынькі, вінаграду ды старасьці маёй крыху. Дзякуй яму за гэта! А Вашыя рабочыя, мусіць, з тых самых меркаваньняў, загарадзілі нейкаю сеткаю, якая валялася, рэшткі маіх малінаў. Я іх аб гэтым не прасіла. Зрабілі гэта яны самі. Калі я падышла да іх, сетка ўжо стаяла.

Тав. Канюшэўская, убачыўшы агароджу, нарабіла крыку. Яна мне сказала, што сетка яе, што некалі яна плаціла за яе і т. п. Я хацела вярнуць ёй грошы, улічваючы мілыя стараньні харошых Вашых рабочых, але яна іх не ўзяла. Паўтараю яшчэ раз: сетка старая, іржавая і нічога ня вартая. Горай. Гэтая нехарошая жанчына абвініла рабочых, што яны ўзялі ад мяне «пяцёрку» і таму загарадзілі маліны.

Хачу сказаць Вам, што я бываю ўдзячная людзям за іх чалавечнасьць, але такога ніколі не раблю! Гэта ўсё няпраўда! А вось Вашых рабочых за іх бескарысьлівасьць, за тое, што хацелі памагчы адзінокай, старой паэтэсе, я проста падзіўляю. Такія рэдка сустракаюцца ў наш час. Дзякуй ім за гэта вялікае! Шануйце іх, давярайце ім, памагайце ім вучыцца, каб лягчэй ім было ў жыцьці. Асабліва за харошыя, чалавечыя адносіны дзякую Сашы Булаку. Іншых нават ня ведаю.

Жадаю Вам посьпеху і ўдачы ў будаваньні харошых аб’ектаў для людзкага жыльля. Толькі вельмі прашу — агарадзеце мяне ад падобных канфліктаў на час Вашай стройкі сваім партыйным і службовым аўтарытэтам.

*Ларыса Геніюш.*

## 132. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 3 студзеня 1980 г.*

Данnetwork мілая!

Што там з Вамі? Добра, што Ты хоць напісала. Я непакоілася. Прадчувала, што хворыя. Мне ўжо крыху лепей. Мяне тут даглядаюць. Не трывожся.

Быў ліст ад М. Аўрамчыка з «Маладосьці». Просіць біяграфічныя даныя, здымак. Сяньня высылаю. Падборка будзе ў сакавіцкім номеры «Маладосьці».

Хто Цябе і чым расчараваў, маё дзіця? Людзі ёсьць людзі, памыляюцца часамі. Цябе Так лёгка раніць… Не зьвяртай увагі.

Ці пішуць Табе Міхась са Сьветкаю? Зусім ня маю вестак ад іх, ці хоць здаровыя? Ад Юры была картка і тых пару слоў, аб якіх я Табе пісала.

Новы год мы сустракалі ў сваякоў с.п. Яначкі. Ня доўга былі. Іра ў мяне начавала. У некага зь іх будзе і Куцьця, хоць я не хачу адыходзіць з хаты.

Вельмі прашу, пішы мне, як з Эрыкам, як з Вамі? Галоўнае — з Эрыкам. Ці паедзеце ў Мінск? А можа, гэта толькі грып у яго? Божа мой, пашто Ты з тэмпэратураю «лазіш»? Ці ж няма суседзяў схадзіць у краму?

Калі хочаш, я напішу М[аксіму] Т[анку], але баюся, што падумае — прашу нечага… Можа, абыдзецца… Што ўжо Бог дасьць. Добра, што Вітуля прыляцела на Новы год. А тыя чацьвёркі ў Валеры — гэта ж цудоўна! Ты хацела б ад яго адных пяцёрак? Знача — ён у Вас геній! Бабусю не змушай лішне варыць. Абыдзецца. Няхай паглядае на Вас, адпачывае.

Сяньня хачу выйсьці з хаты. Счарнела ўдома. Зноў мяне падкормліваюць і падпойваюць… Хочацца надта бачыць Цябе, але прыедзеш, калі будзе ўсё добра ўдома! Думаю пра Цябе моцна. Прашу, не перажывай за маю кніжку толькі. Дзякуй, што памагла Ніне. Сэдуксэну і тут няма. А пакуль няхай збудуцца Твае словы, і 1980 год будзе добрым для нас, мірным для ўсіх. Бяз страт. Сіла духу часта бывае за кошт фізычнае слабасьці. У Цябе — поўная гармонія. Ты сільная целам, духам — сільнейшая!

Цалую Вас усіх і абдымаю. Будзь лагодная, добрае думкі, якая памагае другім.

Твая *Ларыса Геніюш*.

Напішы хоць слаўцо! Галоўнае — аб здароўі. *Л.*

## 133. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 7 студзеня 1980 г.*

Даражэнькая Дануся!

Пагода цудоўная, у хаце цёпла, настрой сьвяточны. На стале яшчэ сенца пад абрусам, стаіць куцьця… Было два прыборы, але с.п. Гаспадар мой не прыйшоў… Вячэралі ў Ліды.

9 студзеня. Прыйшлі сваякі мужа, перабілі ліста. Іх малыя ўнукі хацелі дапісваць за мяне. Давялося ўсё прыпратаць. Выпілі па чарцы. Была і закуска.

Учора сядзела крыху ля памершай суседкі. Абедзьвія мы любілі кветкі і дзяліліся імі. Сяньня хаваюць. Дай Бог сілы, каб зайсьці на могілкі за яе гробам і адведаць с.п. Янычку. На сьвята ўсё прыходзілі людзі, якім цяжка. Дзяліліся сваім горам, другія — радасьцю. Дом быў — як вулей, толькі ноч — даўгая і сумная, добра, што вельмі сьветлая.

Пісаў Юрка. У іх усё добра. Вельмі ўзварушыў ужо 87-летні Забель (Зыгмунт Абрамовіч): «Мала і рэдка пішу, аднак не магу не паслаць Вам віншаваньня з нагоды Каляд і 1980 году. “Невад” заўсёды ў мяне пад рукою, на століку. Чытаю і цешуся».

Іван Гнацюк, украінскі паэт, прыслаў мне сваю кніжку. Ён ня ведаў аб сьмерці с. п. Янычкі… Табе перадае самыя шчырыя прывітаньні. Ня ведаў, што хворы сябра Эрык. «Тяжко заболило те, що хворий і ї муж»…

Што да маёй кніжкі, дык ня думай пра гэта! Тут яны ўжо такога натварылі ў сьвеце, з аднаго і з другога боку, што гэта больш актуальная справа. І як іх тут пагадзіць, як улагодзіць справу, каб не пачалася трагедыя? Нас ня будуць слухаць, а жаль…

І сапраўды, хоць Ты і выкінула тыя мае словы, але я зноў іх Табе скажу: «Не на карысьць вайна!» — Нікому… Пра кніжку ня думаю. Думаю пра маладых і найлепшых, бо яны гінуць у першую чаргу на вайне… Такім глыбокім болем у сэрцы маім — сьмерць маіх братоў, што пяром закрануць яго цяжка. А гэта ўжо колькі часу мінула… Я многа спадзявалася ад Арганізацыі Аб’яднаных Нацыяў, якая б аб’ядноўвала… Ну, што ж… Ня думай пра маю кніжку, прашу цябе яшчэ раз! Горай са здароўем. Яно не вяртаецца.

Цёткі сваёй не ідэалізую і тую 10-ку вярну ёй. Але ведаеш, што яна сама з Мастаўлян родам — Каліноўская? Проста Кастусёвы нашчадак. Не фантазія гэта! Яна — далёка не ідэал, але ж сапраўды Каліноўская. У жыцьці была бунтарная, непакорная і страшна рашучая. Яна — ня мой друг, але мой род, якому дапамога патрэбная. Ніна пасьвяціла ёй сваё жыцьцё. Гэта па-Міклашэўску. Нам патрэбны і хто болей варты, і хто меней варты.

У тых «Залозках» Ты мяне не зразумела. Там многа слоў. Я малявала лапцюжную долю і чыстыя сэрцы. Шчасьлівых людзей. Шчасьце залежыць ад вышыні нашых

вымаганьняў. Для іх хлеб, сям'я, суседзі, Нёман і род былі радасьцю. І вось сустрэча з патомкамі Гётэ, Канта і Гегеля:

Вось я непісьменны, бяз клясаў і школ,
Хоць помста ў сэрцы лютуе,
Перамагаю свой гнеў і свой боль,
Жыцьцё табе сяньня дарую!

Гэта вышэй за ўсіх Шылераў, Ніцшэ… Якую мець трэба велічную культуру духа! А гэта быў факт! З такога толькі подзе сапраўднае адраджэньне людзкасьці.

Сяньня вёска ня тая. Гінуць велічныя традыцыі. Ідуць п'яныя падросткі. Кураць нялетнія. На днях дзесяцікласьнікі згвалцілі дзесяцікласьніцу. Ледзь пасшываў яе гінэколяг. Такім не ўстыдно ні дзядоў сваіх, ні прадзедаў! Гонар і дастойнасьць недзе страцілі людзі, і гэта вульгарна і згубна для ўсіх.

Мілага, добрага М[аксіма] Т[анка] ня муч! Як хоча, так няхай і робіць. Маю для Цябе цудоўную хустку. Будзе Табе да твару. Ці слаць, ці прыедзеш? Як зрабілі з Эрыкам? Ці езьдзілі? Як грып, ці адчапіўся ад Вас?

Зноў мне баліць бок, пакашліваю. Ногі — як не мае… Што ж, гэта і старасьць. Хворая і Зося, учора вечарам ледзь прыйшла. Але пасядзела, узяла таблетак. Была і сяньня.

Была картка ад Міхася Ч[арняўскага]. Не пісала ім, бо здаецца мне, што гэта непажадана для іх. А кніжку вазьмі з выдавецтва. Няхай не марнуецца там. Ня трэба. Яны жывуць лёзунгамі дня, а тут трэба думаць мудрасьцю будучых пакаленьняў і будучыняй цэлай плянэты! Тэхніка — вялікая рэч, калі не разбурае… Зямля і праца на ёй ніколі не разбурае, а дае жыцьцё.

Віка, бачу, сапраўдны кусок чалавека, ужо нават калі браць пад увагу пачку для тых дзяцей. Але наглядай, каб не зрабіла памылкі, каб добра было ёй. Цалую Цябе сардэчна. Як там мама? Як там «з харошых найлепшы»? Усіх шчыра вітаю.

*Ларыса Геніюш*.

Філёзафа не карай няміласьцю. З такіх сяньня робяць начальнікаў, будучыня перад ім! *Л*.

## 134. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 15 студзеня 1980 г.*

Данусь, мілая «мудрая старушка»!

І скуль Ты менавіта такая ўзялася? Шмат у чым Ты маеш рацыю, але Богу дзякаваць, у Цябе сямейка, мама яшчэ глядзіць тэлевізар у Тваёй хаце (няхай глядзіць, колькі хоча). Таму Табе цяжка мяне зразумець. Не апраўдвай сяброў. Была вясна і лета, і восень. Гэта цяпер толькі пачалася зіма. А ведаеш Ты, што старых людзей не кладуць у Зэльве ў больніцу? Іх усіх высылаюць у больніцы на вёску — у Манцякі, Дзярэчын і інш. Так памерла і мая знаёмая, што хавалі. Папрасілася дахаты і пабыла ў ёй роўна ½ гадзіны… Ёй было 82 гады, а як груба ёй тыя гады вымаўлялі… Калі яшчэ мы былі ўдваіх, дык усё гэта яшчэ не было так цяжка. Таму вось у мяне гэтая пераацэнка вартасьцяў…

Яшчэ адно. Я толькі з Тваіх лістоў дазналася, што рукапіс там ня гіне. Я думала, што гэта толькі замінка, і гэтай рэчы наагул друкаваць ня будуць! Скуль я ведала, што там чарга? Дзякуй, што мне напісала ўсё падрабязна пра гэта. Я думала, што кніжка будзе там валяцца, яе закінуць, як тое, што друкавацца ня будзе. Не хацела, каб яна

там была. Хацела, каб захавалася. А сапраўды, дык я ня вельмі зацікаўлена сяньня ні ў чым. Бачыш, я прывыкла да іншага. Я доўга жыла за мяжою. Мы былі бедныя, дружныя, сьмелыя і ахвярныя. Яшчэ сяньня, праз гады, жыве тая любоў. Адзін сябра з Польшчы аднайшоў мяне праз 34 гады, каб падзякаваць мне за пачку ў нямецкі лягер, якая яму тады амаль выратавала жыцьцё… Я забылася пра тую пачку. Памагалася ўсім, часам слала хоць хлеб і цыбулю ды якую маленькую скварачку. Мы не давалі гінуць адзін другому. За добрае, спагадлівае слова да сябра ніхто не карае! Знача — няма і не было ў мяне тут сяброў, і сяньня я з гэтым згодна.

Чаму Ты пішаш, што рада зь ліста Юркі да мяне? Што тут за «кабала»? На жаль, Юрка — не зусім дасканалы як чалавек. Была б рада, калі б было гэта толькі ў адносінах да нас са с.п. Мужам… Апошнія месяцы жыцьця не пісаў яму с.п. Бацька… Аднак зноў тут законы роду. Я — маці.

Дануся, крый Божа, не прысылай мне ў хату нікога зь «сяброў»! Ты ў дабраце сваёй і гэта можаш зрабіць. Але гэтым Ты зрабіла б мне прыкрасьць і боль. Люблю Твае шчырыя пачуцьці, цаню іх, танных не патрабую! Уваж гэтую маю просьбу і пастарайся мяне зразумець.

Дзякуй Табе вялікае за абразок! Ты магла б нават нічога не пісаць, толькі паслаць мне гэта… Я пра гэта ніколі не забываюся! Цалую Цябе за гэта! Каб Ты болей мяне зразумела, шлю Табе ліста адной жанчыны, якая добра ведае мяне. Людзі пазнаюць сябе ў горы. Жаль, яны аж у Карагандзе. А гэта сапраўды сябры… Толькі яна крыху выдумоўвае, бо «дарагіх» рэчаў я ёй не паслала… Ліста пакінь сабе, толькі напішы мне, ці ён дайшоў.

Дзякуй за «ордэн», які Ты нам зь Нінай М[аццяш] хацела б ахвяраваць. Зычу Табе раздаваць іх некалі, хоць на старасьць, маладым беларускім талентам! Ты ў мяне, наагул, нейкае «чуда»! Падзіўляю Твой розум, «імпрэсарыё». Толькі «капрызуляй» мяне ня кліч, а грамадзкая праца для паэта — ягоныя творы. Я нікому нічога не пісала і не зьбіраюся.

Найцяжэйшае мінае памаленьку. Ужо год. 3 лютага будзе, пэўна, паніхіда ў царкве. Калі айцец Сергій яшчэ зможа. Стары ўжо і хворы. Такі абычай — лепей раней памянуць, чымсьці пазьней. Зраблю абед. Будуць суседзі маі, мужавы сваякі. Будзе скромна. Калі будзе халадно — лепш не прыяжджай. Люблю Цябе, такую «хітрулю», і вечна за Цябе баюся. І скуль Ты ў нас такая «вумная» ўзялася? А наагул, дык Ты — сапраўды маладзец!

Міхась купіў сабе сабачку-таксіка. Прыяжджаў зь ім у Беласток. Лічу, што ні Міхасю, ні Валерыку гэта пакуль што зь пяцёркамі не паможа. Гэта зробіць Вас усіх нэрвовымі. А трэба толькі і толькі глядзець дарагога Эрыка.

Вельмі цешуся, што марозікі. Дыхаецца лягчэй. Недзе згінула грыпа. Яшчэ раз дзякуй за абразок. Многа варты гэты мастак! Такога хацела б убачыць хоць здалёк. Падзякуй яму. Даўно ніхто мне такой радасьці не зрабіў. Ня ўсё мне падабаецца на сьвеце! Ну што ж, тут ня мы раім, ня мы думаем… Пабачым. Я дык аддала б тых паслоў няшчасных, і ўсё стала б на сваё месца… Так у дыпляматыі ня робіцца! Гэта як з Грыбаедавым некалі… Што ж, дай Бог мір людзям! Крыху розуму і дабра каб ім у галаве, не адну выгаду зь людзкога гора.

Цалую Цябе, маму. Усіх шчыра вітаю.

*Ларыса Геніюш.*

Данусенька, мілая, трымайся. Не хварэй. Няхай усё ў Вас будзе добра! Твая Капрызуля.

## 135. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 15 студзеня 1980 г.*

Шаноўная Дануся!

Знача — я не забіраю сваёй кніжкі і вершаў з «Маладосьці» і з «Полымя». Няхай будзе так, як Ты жадаеш. Можа, сапраўды здалі мне крыху нэрвы. Я, напрыклад, не выпісала «Ніву». Юра паведаміў мяне, што яе выпісаў мне. Махляваў, як заўсёды. І летась яе ня выпісаў уміраючаму бацьку… Вельмі перажываў гэта бедны Іван Пятровіч. Галоўнае, што я паслала ім кніжак са сваіх 33 руб. 75 кап. на пяць такіх «Ніваў». Гэта проста нейкі цынізм зь яго боку… Абыякавасьць, як і ў нашых «сяброў», якія маглі хоць у час водпускаў, сьвятаў, канікулаў наведацца хоць на гадзіну, бо ведалі, што мне з усіх найцяжэй… З многіх меркавань найцяжэй…

Паслала Табе ўчора ліста Шуры Ф[урс]. Забылася Табе напісаць, што кожны год яна мне прысылае па 20 руб. на дзень народзінаў, а сама так перажывае, калі я стараюся нечым аддзячыць ёй хоць на Новы год… Яна — «художник», як і твая Віка. Муж яе Антон — проста электрык. Сям'я ў іх вельмі харошая. Яшчэ раз дзякую за абразок юбілейны. Сяньня падобную ялінку прыслаў мне той далёкі сябра. І свой аўтапартрэт. Ён таксама — прызнаны мастак. Столькі пачуцьцяў, столькі тугі па Айчыне ў яго цікавых лістах. Разумею іх усіх і бязьмерна люблю іх.

Калі будзеш пісаць «легенду» (Ты гэтак кажаш!) — маю біяграфію, дык не забудзься ўспомніць, як добра жылося мне на маю пэнсію па с.п. Яначцы… Гэта абавязкова… Не залежыць, Дануся, гдзе хто жыве, але галоўнае, што ён здолеў зрабіць для народу, для чалавецтва. А што я змагла зрабіць тут? Ад пачатку да канца маяго тут існаваньня? Усім было цяжка, але падумай, каму найцяжэй? Я паслухаю Цябе проста дзеля вясковых цётак, сваячак с.п. Мужа, дзеля шафёраў, іх зяцёў і сыноў, якія напілавалі і парубалі мне дровы, паправілі плот, прывезьлі мукі, каб хоць не галадала… Яны ж таксама — народ! Вось я падумала пра іх. Падумала і пра Цябе, і пра Аляксея Міхайлавіча. Болей пра нікога ня хочацца думаць, і Ты са мной згодна! Які дзіўны верш таго сябра «Лучнасьць»:

Прашу злучыць са Сьвіцязяй,  
Што адсьвечвае месяц у вадзе.  
— Што Вы, п'яны?!  
Хацеў бы пагаварыць з Грыцяю,  
Якая бясконца сьніцца мне…  
— А які нумар?!  
Злучыце з папом-спавядальнікам  
Тут… у цемры прападаю я…  
— Такіх больш няма!  
Да якой званіць аптэкі,  
Каб зноў быць маладым і лёгкім?  
— Не разумею!  
Алё… алё… гэта я знову,  
Не пакідайце бяз чулага слова…  
— Нам напляваць!  
(Прыпамінаюцца мне «сябры». — *Л. Г.*)  
Дык злучыце з Радзімай,  
Гдзе маё шчасьце пакінуў.  
— Што Ты, здурэў?!

Сяньня я крыху памыла бялізну, але ня ўлежу, хоць трэба ляжаць, бо зноў горай са здароўем. А можа — крыху і нэрвы. У панядзелак мы даўжэй затрымаліся ў сваякоў (гралі ў карты!). Калі я вярнулася, дык спыніўся гадзіньнік на 10 ½ г. Учора мне доўга цьвердзілі ў майстэрні, што гадзіньнік упаў! Я ім даказвала, што я адна і толькі адна, і калі ён упаў? Духі ходзяць па хаце — сказалі… Галоўнае, што няма той часткі, якая лопнула пры «паданьні» гадзіньніка. Яна будзе толькі ў лютым. Апарат, што мерыць мне ціск, папсаваны таксама… Транзістар з адламанай антэнаю, але гаворыць. Цалую. *Л.*

## 136. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 19 студзеня 1980 г.*

Дарагая Дануся!

Дзякуй за ліст! Прывыкла ўжо гутарыць з Табою. Рада, што Ты ёсьць. Не разыходзіцца аб Мішу. Ён хворы. Я і так яму за многа ўдзячная. Мы ж — адна вялікая сям'я, і няўжо ў нас з «сумленных людзей» адзін толькі Міша? Нядаўна Іра, жонка памершага Гены, якая амаль штодня да мяне заходзіць, прынесла паказаць мне, са школы яшчэ, здымачак Надзі Быкавай. Яны разам вучыліся. Іры прозьвішча было Андрышок. Надзя вельмі мілая на здымку. Іра так хораша яе ўспамінае. Сардэчна вітай яе ад нас абедзьвіх.

Мне ўсё яшчэ прыходзяць спозьненыя сьвяточныя віншаваньні. Сяньня было ад Данчыка, нашага сьпевака за мяжою. Ён пасябраваў аднойчы зь «Песьнярамі» ў час іх гастроляў. Пераняў крыху ад іх рэпэртуар і летась прыслаў мне сваю «кружэлку» (пласьцінку). Успамінаю гэтае віншаваньне таму, што надта арыгінальная паштовачка. Ручное маляваньне. Крыху вось так: на хораша намаляванай зялёнай галінцы, на чырвоных нітачках, намаляваных, вісяць ягадкі. Яны ручна вышытыя чырвоным на грубым тканым палатне і наклееныя на паштоўку. Выглядае гэта вельмі хораша і надта родна…

Атрымала ліста ад аднаго сябра, які таксама год не прыехаў нават паглядзець, ці жыву. Піша: «Учора хадзіў у горад, купіў сабе кніжачку Данауты *"*Браткі*"* і так захапіўся ёю, што пакуль не прачытаў, нічога ў рукі не браў. Цікавы, самабытны стыль, глыбіня думак пераплятаецца з гераічным і такім сваім, родным і блізкім сэрцу куточкам роднага краю, сваіх людзей, прыроды». Гэта ўражаньні простага чалавека аб Тваёй кніжцы.

Учора была ў сваякоў на вячэры (другая куцьця). Ляжала на канапе, да якой прысунулі стол. Было мне дрэнна. Рана збудзіў мяне добры сельскі лекар. У адзіноту маю прынёс мне мілы падарак. Дастаў з партфеля — аўчарачку! Сабачку. Гэта каб я не была зусім адна. Цудоўны, разумны цяпер у мяне сябра. Ня ведаю яшчэ, як яго назаву. Не такі, як Альма, болей чорны. Бог паслаў мне гэтага лекара, бо калі ён выслухаў мой бок, дык загадаў ратавацца. Пачаткі васпаленьня лёгкіх. Колькі дзён я ўжо зусім не магу есьці! Левы бок. Знайшлі мы рандаміцын яшчэ ў леках с.п. Яначкі і іншыя таблеткі. Я зжаўцела і счарнела. Цяпер думаю, каб хоць паправіцца да гадаўшчыны сьмерці Яначкі. Каб хоць змагчы нешта прыгатаваць, бо пэўна, папрыходзяць людзі. Будзе мяне ратаваць тут пераважна Зося, яна нейк умее адарвацца ад сваіх дзьвюх работ. Сабачка мой усё пішчыць адзін на кухні. Хоча да мяне. Так хораша брэша. Мне прысьніўся дзіўны сон, пасьля якога я ўжо ня маю такога вялікага жалю да «сяброў», якім на мяне «напляваць»… Сну апісаць Табе не магу.

Дарэчы, атрымала ліста, ужо не ад Шуры, аб тым забітым «дзецьмі» сябры. Аказалася, што тут была жудасная справа… Дадумайся. Гэта быў чалавек сьмелы і выдатны.

Юрка Г. ня прыйдзе да мяне. Не адважыцца. І пашто Табе ўсюды даваць тыя вершы? Ну што ж, Табе відней, «імпрэсарыё»… А «Ніва» раптам пачала прыходзіць. Учора —

першы номер, сяньня — другі! Відно, была затрымка. Дарма я добра адчытала сваяго сына. На гэты раз ён ня быў вінаваты.

Ты мне нічога ня пішаш пра сваіх. Пакуль халадно, нікуды не адпускай маму! Бачыш, як бывае з намі. Схапіла мяне, і няма ратунку. Старасьць — гэта слабасьць фізычная. Надта многа вітаньняў сьвяточных. Не, я не адна ў сьвеце, я болей самотная тут… Ну што ж, Ты пра мяне не забылася. А памятаеш некалі, калі дапёк мяне па-сваяму Васіль Б[ыкаў]? Ты загневалася на мяне, што я яму рубля за таксі вярнула, зусім не на яго! Памыляешся часам, даражэнькая. За цэлы год ці ня мог хто з Гудзевіч, хоць з вучняў сюды падскочыць? Між намі гэта. Маўчым лепш. Гэта не Шура. І як яе Юрку было б уладкаваць тут вучыцца?

Мушу аддаць выслаць Табе ліста, бо самой — нельга з хаты! Сабачка мая — чуда!

Цалую Вас усіх-усіх.

*Ларыса Геніюш.*

## 137. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 26 студзеня 1980 г.*

Дарагая Дануся!

Як добра, што быў ліст ад Цябе. Я крыху непакоілася, ці хоць Вы здаровыя. Рада, што мама Твая адчувае сябе ў вас няблага.

Пісаў Юра. Пытаўся, ці Ты атрымала матэр’ял. Ліст быў мілы, але, як заўсёды, наракае, што яму бракуе грошай… Я ў іх не прашу нічога.

Сабачку мы назвалі Джэкам, але пасьля аказалася, што гэта сучачка, і яна — Альма. Няхай Валерык не зайздросьціць, бо надта многа клопатаў зь ею. Усюды «лужачкі». Папсавала ўжо чайнік, за шнур сьцягнуўшы яго са стала і т. п. Жыве на кухні, але пішчыць — так хоча ў пакоі. Зусім ня злая, і гэта дрэнна. Трэба яе ўжо нечаму вучыць. Яна не сівая, а болей чарнявая. Вушкі тырчаць. Кармлю і яе, і Лапку. З гэтым крыху бяды. Але я рада хоць таму, што нейкі хоць жывы твор са мною.

Як добра, што той лекар зайшоў тады да нас. Ён мяне і выратаваў. Я ўжо не магла дыхаць. Страшна далася. Цяпер проста не пазнаюць мяне, бо я — жывая! Думаю, хаджу, нават ем. Гэтая хвароба дае мне магчымасьць пазнаць яшчэ болей нашых «бабаў». Не, яны не дадуць загінуць! Якая цудоўна-цікавая, харошая бывае Беларусь у яе народна-крынічных вытоках! Цешуся, што ажыла (каб хоць не ўрачы!). Бок пабольвае. Не скідаю ватняй Лідзінай безрукаўкі (даволі брудненькай). Яна цудоўна грэе хворы бок.

Забягаў рэнтгенатэхнік (удасканалены партрэт Баярскага) сказаць мне, што ў кнігарню прыйшла «Памяць зямлі беларускай» з прадмовай Караткевіча. Купіла, безумоўна. Там ёсьць словы, якія характэрызуюць нас:

Людзям — душа,
Жыцьцё — свайму дому,
Сэрца — жанчыне,
А гонар — нікому!

Той «Баярскі» — родны брат Тваяго калегі зь Ленінграда. Дзівіцца, што не ляціш на ніякія зваблівыя прапановы. Я сказала, што клопатаў у Цябе — вышэй галавы, няма часу… Пацешыў мяне, што мае лёгкія «маладыя», адным словам, не пракураныя, мусіць…

Юрка не атрымаў ніводнага з маіх трох лістоў, адно «Выслоўі». Піша, што многа чытае, працуе, сядзіць у хаце.

Бачу, што дачушка Твая — ужо поўнасьцю сфармаваны, дарослы чалавек, талковы прытым. Пасьвіць яе ня трэба. Цікава, што ў Цябе яшчэ супольнае зь мілым філёзафам?

Ты ж — яго, цётачка, гены. Няўжо Ты пасьвіла кароў? О, малая Данута Бічэль! І я пасьвіла часам. Аднойчы перад Вялікаднем абодва пастухі, як і належала, пайшлі да споведзі. Пасу, малыя брацікі пры мне, гарыць вогнішча, пячэцца на патычку скварка, а я чытаю Э. Канта! Ні халеры не разумею, але чытаю, бо так рашыла, што мушу яго зразумець…

У гэты час прыходзяць аж на поле дзьве настаўніцы — мяне адведаць. Пасьвіць каровы ў той час быў «шокінг», а я горда выставіла Канта наперад, і ў іх вачах стала вышэй за ўсе ўмоўнасьці!

Калі ў нас малацілі, дык мне трэба было коні паганяць, хадзіць да адурэньня вокал. Калі брала кніжку, дык тата сварыўся. Паганяць трэба было роўна, каб не парваўся кулак у малатарні. Вось я і замянілася з авечым пастушком. Зажану далёка, гаўцы наядуцца, палягуць, і я чытаю кніжку. Скончылася дрэнна. Пачалі прыходзіць «памагатыя», і хоць было гэта паэтычна, хараша і зусім нявінна, тата ўсё ж папёр мяне з поля…

Цудам тады траплялі мне ў рукі кніжкі. Талстой, скандынаўская літаратура, Дастаеўскі, чытаючы якога, я мімаволі была злосная, падражнёная, несамавітая. Хацелася бачыць у літаратуры моцных, здаровых духам людзей — прыкладаў. Няхай сабе такія чорна-белыя тыпы, але мусіў быць нехта трывалы, велічны, разумны, просты і сьмелы.

Ноччу мама прыйдзе ў пакой і крычыць — не палі газы! Гасіць лямпу. Шкадуе ня газу, шкадуе мяне. Найболей я любіла Шэксьпіра. Чытала і перачытвала. А побач была жывая культура маіх дзядоў, якую болей адчувала, чымсьці разумела. Я захапілася гэтай стыхіяю і за с.п. Яначку замуж выйшла толькі таму, што ён — беларус. Ён мне адкрыў Купалу, «Дзьве душы» Гарэцкага і інш. Абяцаў жыць са мною толькі для Беларусі, але напачатку забыўся пра гэта. Забыўся пра ўсё (зразумела), і я крыху засумавала без паэзіі вёскі… Гэтая любоў і сум выліліся ў кніжку «Ад родных ніў», гдзе ўпершыню ў жыцьці я магла друкавацца і пісаць, як разумела я, як хацела, пакуль агледзеліся, тады ледзь не пасадзілі мяне… Што ж, мяне пасадзілі — пасьля…

Чаму я Табе ўсё гэта пішу? Мне так хочацца часам у маладосьць, дахаты, каб:

> Душу суцешыць ўспамінам
> Палёў, гдзе цьвілі васількі,
> І тыя ўбачыць мясьціны,
> Кудэмі хадзілі бацькі…

Я ведаю, што Ты гэта разумееш, бо вельмі Ты любіла сваяго тату, я памятаю…

Наконт Ніны Мацяш — дык я не магу думаць пра яе. Мне сэрца абліваецца крывёю… Мушу раз прадумаць усё гэта і на нечым спыніцца. Вось так часамі здараецца, што сонца, прырода, сям’я, Беларусь — усё гэта жыцьцё, такое цудоўнае, што і ня ходзячы можна мець поўную душу радасьці і любові, калі ля цябе ёсьць сапраўдныя людзі. Можа, калі б Ніна хадзіла, яна не спынілася б ля таго харaства, той глыбіні, ля якое яна сяньня. Яна раўнавартасны сябра, і шкадаваць яе нельга! Хадзіць — гэта не заўсёды цікава. Нейкі дагестанскі паэт, можа, Расул, пісаў, каб не папракалі яго, што ляжыць на страсе сваёй хаты. Калі паэт ляжыць, цьвердзіў ён, паэт працуе… Думае, знача — гутарыць зь нечым, каб пасьля стварыць шэдэўр.

Калі мы вярнуліся ў Зэльву, у мяне было многа працы: гарод, дом, сьвіньні, куры. Крыху капрызны быў мой муж. Я часам так думала: вось каб мне забалелі так ногі, і я не магла ўставаць, як я ўсёй душою, усімі сіламі, што ўва мне, аддалася б працы над вершамі. Столькі тады я хацела сказаць. Часам занатоўвала толькі думкі, і то прыхваткамі, а так мне хацелася гэтай працы і разуменьня. Сяньня ня тое. Горычы поўнае сэрца. Старасьць.

Альму выпусьціла на ганак. Накапала на ½ шклянкі гарачага малака 20 крапляў праполісу на сьпірце. Ад усіх хваробаў…

А ўчора таксама замест «Літаратурнай сустрэчы» — улезла палітыка… Як жаль. Усе мы палітычна падкаваныя і нязгорш, а вось культуры шмат каму бракуе… Марозік, сонечна, цудоўна. Баліць яшчэ крыху бок… Буду глядзець «Вячоркі» (12 г. 15 м.). Жаль — уступ не па-беларуску, ня ўмеюць, відно, ужо роднае мовы.

Цалую Вас усіх.

*Ларыса Геніюш.*

Ліста не чытаю, няма часу, можа, з памылкамі. Гатуюся ўжо да 3 лютага. Цалую. *Л.*

## 138. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 30 студзеня 1980 г.*

Мілая Дануся!

Вельмі стамілася, бо многа працы і здароўе падводзіць… Дзіўная рэч. Усе сымптомы — як ад атруты нейкім нэрвовым газам, калі такі ёсьць… Ратуе часамі глыток сьвежага паветра…

Данусенька, і хто ж можа зайздросьціць мілай Ніне? Проста хочацца ўдумацца ў яе жыцьцё і знайсьці яшчэ ў ім крытэрыі сілы нейкай, якая дае ёй магчымасьць думаць, тварыць.

Юры ніякага гадзіньніка не шукай. У навале розных клопатаў і працы таму эгаісту ў галаве толькі яго hobby… Ніколі яшчэ не папытаўся, як Тваё здароўе, як маці, ці хапае Табе на жыцьцё. Падумаў бы хоць пра тое, што сяньня робіцца ў сьвеце і не пакідае абыякавым ніводнага шляхотнага чалавека. Таму нават не спрабуй шукаць недзе таго с…нага гадзіньніка!

Альма — як дзіця! Дароўваю ёй усе «лужачкі». Мне крыху весялей зь ею. Што датычыць нашых з Табою беларускіх натураў і ахвярнасьці адносна мужоў і дзяцей, дык гэта ж цудоўна! Творчасьць, няхай сабе і крыху меншая, з такіх жарол хутчэй прамовіць да сэрцаў людзей, чымсьці нешта «вумнае» і бяздушнае.

Здаецца мне сяньня, што яшчэ болей трэба было глядзець с.п. Яначку, каб толькі быў сяньня хоць лежачы, хоць хворы, але з разумнай, сьветлай галавою — мой друг. Будзь такою, Дануся, якая Ты ёсьць. Не магу ўявіць сабе сваяго с. п. мужа, каб абіраў мне бульбу ці мыў сабе нешта. Гэта не мужчынская справа, і гэта добра. Так! Кухня — мая дзяржава, мой розум і т. п. У хаце я — «міністар фінансаў», і я адказваю за тое, як есьць, расьце і гадуецца мая сямейка! Памагчы крыху мне — гэта другая справа.

А сьвяты крыж Лазара Богшы, кажуць, недзе ў Моргана. Шчыміць душу, калі падумаю, што мог зусім загінуць… Гэта было б нязгодна зь лёсам нашага народу! Не!

Пішу табе сяньня, бо ўсё думаю пра адну справу. 28 студзеня я ў 14.30 уключыла тэлевізар. Захацелася мне пачуць справы. У канцы дыктар кажа: «Небывалае явішча ў Белавежскай пушчы, што на захадзе Савецкага Саюза. Там зубры ходзяць сем’ямі пераважна, а то сабраліся на паляне 110 зуброў». Так іх і паказалі. Што за «веча»? Ім туды прывезьлі мяшкі з бульбаю — такі пачастунак. І што гэта мае значыць? Я моцна задумалася. Ты, напэўна, не магла бачыць гэтага факту.

Данусенька, іду ў Зэльву. Трэба нешта купіць на нядзельку. Баюся клікаць каго… А так мне хацелася б бачыць хоць адзін мой дарагі тварык — Твой, мая родная… Зося чакае. Бягу.

Цалуй Валерку. Усім прывітаньні. Заўсёды каб была Ты судзьдзёю на ўсіх алімпіядах бел. мовы! Хораша! Тэма — адпаведная!

Цалую, абдымаю. Не чытаю ліста…

*Ларыса Геніюш.*

## 139. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 4 лютага 1980 г.*

Дарагая і мілая Данута Бічэль!

Пэўна, Ты не атрымала маяго ліста, гдзе я Табе пісала пра зуброў у Белавежы. Адным словам, вельмі шкадавалі сябры з Баранавіч, што Цябе не пабачылі. Было праз 30 асоб. І як я дала рады — не разумею. Усё было добра, даволі багата, нават як на мае магчымасьці. Сьпявалі і ў хаце маліліся. Было хараша. Я дыхала аднымі таблеткамі, і пасьля тэмпэр. уначы… Сябры былі і на могілках.

Перадаваў Юрка Голуб, што «Маладосьць» патрабуе здымак мой і даныя. Я ім усё гэта выслала на пачатку студзеня заказным! Болей здымка ня маю, на жаль. Ды каб і паслала які, дык і ён застране ў «зэльвенскай цэнзуры», вельмі нясприяльнай да якіх-небудзь праяваў беларускасьці… Міхась Ч[арняўскі] мае такі здымак. Пішу яму сяньня, каб даў, пазычыў яго «Маладосьці». Але ці лісты мае дойдуць?

Тае васпаленьне перайшло ў кашаль, хрыпоту і іншую халеру. Сяньня адпачываю. Альма цяпер у сенях. Крыху зашмат клопатаў зь ею. Юрцы Голубу перадай, што я забываюся пра ўсе крыўды і буду рада, калі яны з жонкаю мяне наведаюць. Падзякуй яму за клопаты і скажы, як выглядае справа са здымкам. Лягчэй мне крыху на душы сяньня, хоць безупынна перад вачыма — бледнае аблічча с.п. Яначкі, які жаласьліва і даверліва просіць у мяне дапамогі… Даначка, якое гора, калі ты няздольны нат дапамагчы…

Спадзяюся, што ў Цябе ўсё больш-менш добра і гладка. Я так Цябе ўчора хацела бачыць… Відавочна, не змагла Ты прыехаць. У Зэльве стагодзьдзямі жыў род Геніушаў, але, бадай, ніколі нікому зь іх не было так цяжка, так небясьпечна жыць на роднай зямлі, як мне сяньня. Мець бы крылы…

Як маецца Твая сямейка? Болей — ніякіх спраў ад нікога. Сьнег падае і тае. Няхай усё ў Цябе будзе добра. Усім прывітаньні.

Твая *Ларыса Геніюш*.

Мне многа тут памагалі чужыя людзі. Іра нагатавала, а я ледзь устала з пасьцелі. Цалую ўсіх. *Л.*

## 140. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 26 лютага 1980 г.*

Даначка, родная!

Кожнае слова ад Цябе — як бальсам (беларускі)! Юрцы Г[олубу] напісала «любоўны ліст». Спадзяюся, што ён яго ўжо атрымаў. Падборка — добрая, «парасткі» харошыя, усё — як трэба! На ўсякі выпадак падзякуй ад мяне яму яшчэ раз. У нас зь ім не «разрадка», а сяброўства на вякі.

Добра, што дастала лекі для Эрыка. Глядзі яго і толькі яго і вязі яго ў Мінск, пакуль ня позна. Ад мяне шчыранька цалуй яго, пажадай найлепшага.

Што там робіцца з «Маладосьцю» — не магу зразумець. Як ведаеш добра сама, дык я ня вельмі зацікаўленая ў тым друкаваньні. Калі б надрукавалі мяне, дык пахварэлі б гдзе-якія зэльвенцы — са злосьці! Шкада мне небаракаў. Тая Валя, якую мы сустрэлі на аўтобуснай, ня слухалася, лазіла, працавала і — нарадзіла 20 лютага дзеўку 800 грам! Божа мой, была я сяньня ў яе. Малое жыве. Пояць яго зь піпеткі штодзьве гадзіны. Пазірае, адкрывае роцік, пацягаецца. Часамі нават — плача. Валя — шчасьлівая. Кахае дзіця як маці. Усе мы верым, што будзе з бабы дзеўка, як казаў с. п. Яначка.

Малыя сабачкі не памерзьлі. Яны — белыя ў рыжыя і чорныя плямы, як цяляты. Іх чацьвёра. Кармлю іх пры дапамозе суседзяў. Там нейкі баль, там закалолі нешта, і ўсё, што застаецца, — сабачкам. Альма — немагчымая. Адзін сябра кінуў у сені «Гродзенскую праўду» з маімі вершамі. Чую — нехта тармошыць газэту. Пакуль я дабегла, Альма «прачытала» на кусочкі маю паэзію! У выніку той сябра (уласнаручна!) змайстраваў скрынку на лісты. Цяпер бясьпечна. На 33 руб. 75 кап. карміцца нам крыху труднавата, але ёсьць бульба. Жаль — марынаваныя гуркі і памідоры сабакам не падыходзяць… Але не бядуй пра нас.

Зь Вільні пішуць. Сяньня атрымала я ліст ад С. М. Новіка. Сам ён нейк яшчэ трымаецца, хоць стэнакардыя яму моцна дакучае, а вось з Хворастам зноў бяда. 8 лютага хуткая дапамога забрала яго ў шпіталь. Ізноў тры дні — у рэанімацыі. На 4-ты дзень палажылі ў кардыялягічнае. Малая, мусіць, надзея, што яго вылечаць. Шкада вельмі чалавека. Гэта добрая, шчырая натура.

Вера Андрэеўна, жонка Тарашкевіча, мела прыкры выпадак — упала і зламала сабе ключыцу (як гэта будзе па-беларуску?). І сапраўды, як жа будзе па-нашаму тая ключыца? Сьвятлана прыслала ліста і газэту з карткаю. Учора запыніў мяне нейкі тып. П'яны быццам. «Вы — Геніюш?» Кажу: «Я. Але я вас ня ведаю». — «Затое вас усе ведаюць», — кажа. Нешта пачаў гаварыць, што ня ўсё пішу так, як трэба. Я як драпанула — дай Бог ногі! Вечарам з хаты не выходжу. Зусім не баюся, але навошта непрыемнасьці…

Дастала я ліста ад нейкай Ялоўчык Л. з Гродна. Яна ведае, гдзе Жлобаўцы, але я ёй не пісала, бо ня ведаю, хто яна? Кажа, што — пісьменьніца, але думае і піша, як і ўсе цяпер, па-руску. Ты часам пра яе ня чула? А можа, замест яе піша мне нейкі мой вораг? В. Цярашчатаву не разглядай як жанчыну, а як дзяячку. Думаю, што Алесю Адамовічу нічога ня грозіць. Абароніцца.

Твой верш цяпер разумею. Ты — філёзаф. Ня дарам Твой пляменьнік пайшоў па Табе. Дарэчы, гдзе ён цяпер? Калі будзе псаваць Эрыку нэрвы, дык укінь яго ў мусарапровод! Сьмяюся, безумоўна, але ня трэба больш яго ў хату. Мама няхай яшчэ пабудзе ў Вас. Меней лекараў — болей Вашай увагі і ласкі. Галоўнае, што «куры ў парадку і кот знайшоўся». Чаму тая «Маладосьць» хацела яшчэ фотаздымкі? Нешта тут незразумелае. Не магу болей гаварыць пра гэта…

Як там той бедны, харошы Максімка? Сьвета марыць, каб легчы ў больніцу, адпачыць, падлячыцца, і адначасна кліча мяне да іх у госьці! Няхай лепш яны да мяне прыяжджаюць. Цалую Вас усіх. Трымайцеся!

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 141. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 28 сакавіка 1980 г.*

Дарагая, мілая, родная Людвіка Антонаўна!

Не пісала Вам, бо ня выйшла мне так, як я думала, як хацела. Ласкава даруйце, але я Ваш ліст (першы раз у жыцьці!) не перапісала, а цалкам паслала Дануце. У яе якраз дэпрэсія, гора. Баіцца за мужа, якога адаслала ў Менск, у больніцу. Піша: «Ларыса Антонаўна! Не суцяшайце. Лепш памерці ў 43 хутка, чым марудна паміраць. Добрую ж паслугу я зрабіла Эрыку, вырваўшы яго з лапаў абласной больніцы і адправіўшы ў Мінск. Ён бы ўжо ня мучыўся». Яна Вам напіша. Адрас Ваш я ёй паслала.

Наконт нашых дарагіх сяброў піша: «Я ўжо дам такое даручэньне ўсім добрым жанчынам у Мінску — іх у мяне дзьве або тры правераных і ўраўнаважаных, спакойных, шчырых беларусак, і дзяўчатам, але толькі ў красавіку, як паеду ў Мінск сама. Цяпер

у Вікі, на жаль, хопіць бацькі». Вось так. Я падганю крыху мілую нашу Данусю. Думаю, што ўсё будзе добра. Я асабіста там амаль нікога добра ня ведаю. Няма Надзежды Васільеўны Караткевіч — і няма лучнасьці ў мяне зь Мінскам… Дануся бедная траціць нэрвы з гора. Гора можа быць страшнае… Яшчэ мне піша, што ёсьць магчымасьць у сяброў дастаць мне без чаргі аднапакаёвую кватэру ў Гродне, каб я падумала. Не! Я застануся тут, гдзе колькі добрых чалавек і кветкі, мае дрэўцы і магіла с.п. Яначкі. Цяжка тут, але гдзе яно лягчэй?

Учора быў ліст ад Алеся Белакоза. Зноў ён у больніцы ў Гродне. Моцна яму пагоршала са здароўем. Шкада мне яго. Моцна. Учора замнога папрацавала, дык сяньня няма ў мяне руху. Цешуся, што ёсьць у Вас цудоўны Ваш хлопец. Што яны дбаюць пра Вас. Дзякую Богу за гэта! Я тут зусім не адна! Як могуць, тут мяне падкормліваюць і нават «падпойваюць» па сваёй мілай наіўнасьці. Адно што я ня п’ю гарэлкі. Нічога ня п’ю, гдзе алкаголь. Не люблю.

Гэты «клопат» аб сябрах, можа, крыху ўстрасяне Данусю. Яна апамятаецца з болі. Эрык, яе муж, моцна мучыцца. Адзін жудасны сьверб скуры ад хворай печані можа даканаць чалавека. У нас былі тыя ж маразы. Збрыдлі. Сяньня таюць ужо залежы сьнегу. Памідораў я не пасеяла. У мяне ня сонечная кватэра. Дзеці пішуць мала. Ад 8 сакавіка не пісалі. Прашу Бога, каб ім было добра…

Пакуль што даю сабе рады. Продкі мае пакінулі мне крыху сілы духу ды сілы фізычнай. А заўтра — што Бог дасьць! Толькі б добра ўсё было зь Белакозам. Патрэбны ён чалавек. Цешуся крыху зь першых праменьняў сонейка! Гатуюся крыху да сьвят, бо ведаю: зноў панаходзіць поўная хата людзей — і старых, і маладых, і малых… Цешуся з гэтага! С.п. Муж не любіў замнога людзей. Любіў асьвечаных, мудрых, цікавых, языкатых, а я люблю добрых. Часамі здаецца, яны «дзірачкі» павыцалоўваюць мне ў твары. Усе беглі і бягуць да мяне, калі гора. Я радзіла ім заўсёды, раджу і сяньня, калі магу. Гэтак было і ў Празе.

Цалую Вас! Сардэчна вітаю ўсіх Вас са сьвятам Вялікадня! Я пастараюся ўсё добра зрабіць. Цалую.

Ваша *Ларыса Геніюш.*

## 142. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 28 сакавіка 1980 г.*

Дануся!

Даруй, але пачалі мы з табой ужо гэтую справу, дык трэба яе прадаўжаць. Гэта шляхотная справа! Няхай гора і боль чужы, які патрабуе дапамогі, улагодзіць крыху Твой уласны… Якія справы ў Мінску? Калі Ты зьбіраешся туды? Жаль, я там нікога ня ведаю з нашых жанчын, акрамя Сьвятланы. Можа, іначай і не зьвярталася б да Цябе… Бачыш — мучыцца там харошы чалавек. Быў бы ён у Зэльве…

Вельмі хачу, каб ты напісала мілай Зосьцы Верас. Супакой яе крыху. У Гродне ў больніцы ляжыць Алесь Белакоз. Ці хто яму там памагае? Ён моцна хворы. Учора быў ліст ад яго. Зь Мінскам трэба крыху падагнаць гэтую справу. Што за карысьць — прыйсьці з дапамогаю ўжо да трупаў?..

Гледзячы, як наш Машэраў нёс труну П. У. Броўкі, я заплакала. Вучыліся б ад яго нашыя новыя «арыстакраты», як быць добрымі, чалавечнымі да людзей… Шкада мне П. У. Броўкі! Так жаль, што лепшыя людзі ад нас адыходзяць. Што ж рабіць, калі нам сяньня страх нават быць добрымі. Устыд мне. Што з усіх матэрыяльных здабычаў, калі сэрца чалавечага няма ў грудзёх? Што з грошай, калі прыстойнасьць згубіў чалавек? Не,

даражэнькая, я не паеду з Зэльвы! Тут побач зь іншымі ёсьць яшчэ і сапраўдныя людзі! Не раві! Законаў жыцьця не перайначыш. Падпарадкавацца трэба і ісьці далей!

Цалую Цябе! Валерку — таксама. Мае сабакі «ещё здравствуют». Удзячна пацалуй ад мяне А. Н. за мілыя клопаты. Нічога, дам рады.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 143. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 4 красавіка 1980 г.*

Даражэнькая!

А вершы Твае — харошыя! Якая Ты маладзец! Добра, што Ты ёсьць. Ці хоць крышачку адпачыла? Ведаю, што баліць Табе ўсё ня меней, як беднаму Эрыку. Павер, што і мне баліць. Юры напісала пра лек адразу. Заказным. Прасіла, каб пераслаў яго на Міхася, Цябе ці на мяне. Чакаю адказу. Як там Віка дасьць з усім рады? Ці Мама яшчэ ў цябе? Даначка, родная, няхай двояцца, трояцца Твае сілы. Пару дзён як стала мне дрэнна з сэрцам. Задышка. Пасьля нядзелькі буду лячыцца. Альму зачыніла ў пусты склеп. Падыходзяць пірагі.

Чаму пакінуў больніцу наш Белакоз? Можа, дыягназу спалохаўся? Як ён пасьмеў не лячыцца? Часамі мне здаецца, што хутка памру, так што будзь сільнай. А людзі нясуць усё… Крычу на іх і цалую. Люблю гэта ачышчаючае душу сьвята. Удумваюся ў яго сутнасьць. Чалавек ёсьць велічная рэч, зь несьмяротнасьці нешта. Зацьвілі белыя падсьнежнікі пад яблыняю. Выглядаюць з-пад сьнегу. Няхай толькі ўсё будзе добра з Эрыкам. Жыцьцё ёсьць мілае, нават калі моцна церпіш. Тады, можа, яшчэ мілейшае. У нас некалі ў цяжкія хвіліны на Поўначы ніхто не хацеў паміраць. Хацелі жыць…

Вясёлых Сьвят Вам, Данусенька! Цалую і абнімаю.

*Ларыса Геніюш*.

Піша Оля Мароз з Украіны. Яе друг, літоўскі скульптар, тыдзень ляжаў у холадзе і голадзе, адзінокі… Божа, як цяжка ў жыцьці. *Л.*

## 144. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 4 красавіка 1980 г.*

Данусенька!

Адрас Зоські Верас: *Вильнюс 49, ул. Архитекту 132, кв. 69, 232049. Луцкевич Галина Антоновна (для мамы).* Так да іх пішацца — на дачку. Зоська Верас называецца Людвіка Антонаўна Войцік. Жыве яна ў лесе з краю Вільні. Пошта цяпер для яе асабіста ходзіць дрэнна. Таму пішам на дочку. Яна — дацэнт Віленскага унівэрсытэту. Выкладае нямецкую мову.

Пішу Табе сяньня другі ліст. Крыху Цябе напалохала. Было дрэнна, і яшчэ не зусім добра. Выклікалі хуткую дапамогу. Зрабілі два ўколы і выпісалі лекаў на 7 руб. 36 кап.! Высокі ціск крыві — 190 на 100. Да гэтага — пагоршала сэрца.

Пяку булкі. Без уколаў я не магла б нічога рабіць. Яшчэ задышка, але жыць можна. Прыехала лекарка, якая лячыла с.п. Мужа. Сьлед ад яе намаляваных губкаў яшчэ на твары. Вось так. Я мыла сяньня падлогі — ледзь-ледзь. Зоська прыйшла і кончыла іх. Мне трэба ляжаць. Заўтра будзе хораша ў цэркві… І як там наш Эрык? Сяньня было колькі лістоў. Ад Юркі — ні слова. Хацелася б як найхутчэй памагчы Міхасю Ч[арняўскаму]. Буду цяпер браць лекі, каб жыць. Ці яшчэ пісаціму — ня ведаю.

Дзяўчынка, якая радзілася (800 гр.) 20 лютага, усё жыве. Папраўляецца. Памятаеш тую Валю? Праводзілі Цябе на аўтобусную? Вось гэта — яе дзяўчынка. Яна ня сьпіць, ня есьць — так любіць гэтае дзіця. У яе арганізм не для мацярынства…

Як жаль, што не прыедзеш да мяне на сьвяты… Ёсьць нават торт. Сьпякла ўчора. Цалую і абнімаю Вас усіх. Wesolych Świąt!

У нас — падае дождж.

Твая *Ларыса Геніюш*.

Белакозу напісала аж два лісты на больніцу. *Л.*

## 145. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 9 красавіка 1980 г.*

Дарагая Данусенька!

Спадзяюся, што адрас Зоські Верас ты ўжо атрымала. Картку Тваю я пераслала сяньня. Дзякуй за цёплыя словы. Яны памагаюць мне жыць, хоць з сэрцам зусім дрэнна. Бяру лекі. Пабачым. Лекарка, якая даглядала апошнія дні с.п. Яначку, абяцала «дацягнуць» мяне да юбілею…

Сяджу ў хаце. Моцна задыхаюся. Перажываю за Эрыка, за тую валавіну, якою трэба яго карміць, шукаю «гэркулес» па знаёмых. Яец і ў нас — ня вельмі, але ў мяне іх поўна! І скуль яны толькі? І няма кім пераслаць табе хоць нешта! Торцікі зьелі! Гасьцей было поўна праз усе дзянькі. Я была рада, хоць і змарылася не на жарты. Сяньня зноў адна будучая мама прынесла і каўбаску, і валачонна. Злуюся на іх.

Была ўчора ў больніцы ў Валі. Назад дайшла з таблеткаю пад языком. Дзяўчо яе ўжо важыць 860 гр. (было страціла да 600 гр.). Ня бачыла я дзіцяці. Разарвалася б сэрца… Была і Раіса, сваячка. Уся апухла. Пераношвае. За гэтымі клопатамі свой боль — у бок. Перадай ад мяне картку, вельмі прашу… Пацалуй абавязкова ад сэрца. Выпі і чарку, калі дадуць.

Альмаю заняўся Сярожка — Зосін 8-клясьнік. Дзякуе Валерыку за мудрыя парады. Недзе дастаў кніжку аб сабаках. Студыюе. У хляве адгарадзіў ёй добрую загараду, каб маі наведвальніцы яе не расьпешчвалі. Купіў ёй падарак: грэбла, як на каня, за 25 кап. Грошы ня ўзяў ні за што! Пайшлі на спацыр. Сусед забраў цудоўныя шчаняткі ў мяшок і павёз. Пусьціць у сяле. Устыдно мне перад Лапкаю… Але ж трэба нейк ліквідаваць гэтую сабачую ферму.

Сяджу і чую, што ёсьць у мяне сэрца. Пабольвае. Зьмянілася я. Цікава, што і мяне агарнула нейкая санлівасьць… Дзіўнае супадзеньне. Данусяя, родная, а якія ж сябры прыедуць з торбачкамі на мой юбілей? Іх жа няма ў мяне! Ты і Аляксей Міхайлавіч — і ўсё! А для Вас дарагіх хопіць, калі і бяз торбачкаў! Для мілых баранавіцкіх — таксама! Не сушы галоўкі, не турбуйся! Бульбы наварым, будзе гурок, накроім сала на скрыгелькі, пасыплем перцам — гэта пад гарэлку. Напячэм усялякіх смачных рэчаў! Усё будзе добра, абы горла. Але — важная справа! Ніякіх толькі падаркаў! Мяне ж абяцалі датрымаць толькі да 70 г., дык навошта ўсё? Я зусім не жартую!

Ад Юры — ні слова! Недзе затрымалі лісты, як звычайна на Каляды і Вялікдзень. Якая тупасьць…

Наконт «кольлі», Вашай мілай Альмы. Баюся, што яна прагрызе ўсе Твае модныя туфелькі і будзе псаваць нэрвы Эрыку. Яму патрэбны спакой, а яна будзе горш за таго філёзафа! Каб толькі Валерык ад яе не адрокся! Мамы не пускай яшчэ ў халодныя Біскупцы. Бульбу садзіць яшчэ рана, кароўкі няма.

Але ж і ўзяло мяне… Ціск крыві меншы, але з сэрцам ня лепей. Спаць, спаць…

Пісала Оля з Моршына, калі да іх прыедзе Эрык? А можа, варта было б пабыць там? Оля зьбіраецца на днях прыехаць. Заедзе, вяртаючыся зь Ленінграду ў Львоў. Кажуць, што Моршын робіць цуды з хворымі на вантробу… Пагутару зь ёю.

Ужо месяц, як нічога няма ад дзяцей… І я маўчу. Разыходзіцца цяпер пра лекі для Міхася Ч[арняўскага]. Можа, ты яму напішы пару слоў? Там робяцца вялікія камэдыі, і каму гэта патрэбна? Коля прыслаў на сьвяты пудэлка цукеркаў. Адным словам, як бачыш, мне тут і горка і соладка…

А жыцьцё бяры, як яно ёсьць. Старайся да апошняга, каб было лёгка і добра. Няхай выплывуць з-пад сэрца ўсе Твае ласкавыя словы для Эрыка. А Ты ж, сама ведаеш, пішаш куды лепей за мяне, і так належыць! Цалую Цябе за гэта! Усіх сардэчна вітаю.

*Ларыса Генію*ш.

Пра мой юбілей нікому не ўспамінай! Нашыя «адважныя» ў штаны яшчэ напусьцяць са страху, дык навошта? Вось Купаву вельмі хачу бачыць. Цалую цябе.

## 146. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 10 красавіка 1980 г.*

Данусенька, дарагая!

Шлю Вам крыху яечак. Ведаю, што спатрэбяцца. Не бурчы! Каўбаска, галоўнае, для Валеры, але і Вам пакрысе. Пісаў Юра вельмі міла, аб леку — ні слова! Я яму зноў напісала сяньня. Мне крыху лепей. Не сумуй… Я лячуся. Як зь мілым Эрыкам? Ніяк не магла дастаць «гэркулесу». Трымайся, родная мая, каб мела сілы і мілую ўсьмешку, калі будзе ўдома Твой муж. Яечкі вязе Табе наша Ірачка.

Я многа думаю пра Цябе. А можа, пашлем Эрыка ў Моршын? Я пагавару з Оляй. Усё Табе напішу. Чакаю яе прыезду. У Моршыне часамі творацца цуды. Ня плач толькі, дарагая, мілая Даначка. Моцненька цалую Цябе і ўсіх-усіх.

Ці перадала Аляксею Нікіфаравічу [Карпюку] маю картку? Пацалуй яго ад мяне і скажы — 100 лет!

Твая *Яцьвяжка*.

## 147. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 16 красавіка 1980 г.*

Мілая Данусяǃ

Нічога ня ведаю: гдзе Эрык, як яго здароўе, як прайшоў вечар нашага супольнага сябра ў Гродне? Бачыла толькі ўсё з экрана тэлевізара. Падабалася мне, як юбіляр упэўнена крочыць па Гродне. Пасылаю Табе паштоўку ад нашай мілай Зоські Верас. Ты ёй зрабіла вялікую радасьць сваім прывітаньнем зь «яе Гродна». Дзякуй Табе!

Прайшлі задушныя дні маленьня за памершых. Была на могілках зь першымі кветачкамі. Пагладзіла крыж і магілку. Сяньня я з паліклінікі і з аптэкі. Прыпісалі мікстуру і ўколы. Вельмі нявыгадна рухацца з хворым сэрцам, таму яго трэба лячыць. Наконт юбілею — я думаю недзе «драпануць», каб Вас не наводзіць на лішнія кошты і нешта яшчэ болей непрыемнае ад коштаў… Мне хопіць Вашых шчырых пачуцьцяў, і гэта — галоўнае.

Я не была на вясельлі, але глядзела, як расьпісваліся маладыя. У нядзелю вечарам зайшлі да мяне Іра, Ліда і Зютак. Пілі гарбату, але нехта пазваніў. У хату ўвайшлі важныя маладыя ў поўнай красе. Былі зь імі старшая дружка і дружбант. Прынесьлі торт і шампанскае. Было ўзварушліва хораша. Такая кранаючая, высокая культура гэтых дзяцей… За пару тыдняў забяруць Сашу ў войска. Будзе біцца аб сэрцы вялікая іх любоў. Дай Бог, перанесла, перамагла ўсе нягоды! Выпісваюць сяньня тую Валю з дачушкай, якая важыць ужо 1 кг! Божа мой, як зь імі будзе далей? Гэта такія харошыя, дарагія дзеці…

Даначка, родная, калі нічога ня ведаю, дык баюся, што, можа, дрэнна… Цалую Вас усіх. Напішы хоць пра Эрыка.

Твая *Ларыса Геніюш*.

Што добрага ў малога Максімкі? Альма ў хляве. Хлопцы ходзяць зь ёю ў лес. Дай Бог, каб у Вас было ўсё добра. Цалую. *Л.*

## 148. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 18 красавіка 1980 г.*

Данусенька мая родная!

Добра, што Эрык у хаце. Нічога ня пішаш пра яго самапачуцьцё. З Моршынам парадзься, падумай, дарагая. На ўсякі выпадак я сьпішуся зь імі наконт восені.

Цешуся, што добра, урачыста ў Гродне і ў Менску прайшоў юбілей нашага сябра. Які ж тут можа быць «другі бок мэдалі» ў гэтага партызана, франтавіка і шчыра партыйнага чалавека? Вось Ты мяне заінтрыгавала… Ці хоць ня меў ён якіх непрыемнасьцяў? Няхай жа будзе яму спакойна і добра!

Зьдзівіла Ты мяне і шчыра пацешыла зь мілай асобаю «хворага, забытага Богам і людзьмі і зусім самотнага» Хвораста! Я думаю: няўжо такі харэограф (няхай бывалы) ня мог пакарыць ніводнага чулага жаночага сэрца на старасьць? Напішы мілай Зосьцы Верас. Супакой яе харошае, беларускае сэрца.

Жаль, што Ты не пасьпела заехаць да Сьветкі. Даўно няма весткі ад іх. Ці хоць усё ў парадку з Максімкаю? Ніколі не мінай іхняе хаты!

Пашлі мне свой верш для А[ляксея] К[арпюка], бо ты ў мяне — галоўка! Чаму мае быць «няпэўная дата» маяго юбілею? Наагул то я супраць яго. З многіх меркавань. Хочацца, каб Вам было спакойна… А няхай сабе чытаюць нашыя лісты, можа, хоць паразумнеюць… Ці і па сьмерці маёй ўсё яшчэ будуць вышукваць, вынюхваць мае лісты і прасьледаваць цень мой па Беларусі? Людзі, якім не дана капля шляхотнасьці, зерне чалавечнасьці. Сорам за гэткіх! Добра, што ёсьць «гэркулес» і інш. Знача — я за Цябе спакойная.

А я хаджу на ўколы. Падымаюся на сходы без задышкі. Па-ранейшаму заўсёды адна, ня лічачы Зосі і нашых сваячак. Ты недзе надта па-вясеньняму апранулася модна, таму і перастыла. Гэта ня страшна. Спадзяюся, што Ты ўжо здаровая.

Ля Зэльвы шафёр з зэльвенскай сельгастэхнікі зьняважыў і задушыў дзяўчо 16 год… Сам недзе зьнік… Знайшлі ў полі машыну, у ёй — труп… Дзічэе народ наш. Замест дбаць пра яго воблік дастойны, пра нейкую культуру хоць крыху, лісты мае да Цябе цэнзуруюць… Адабраў Бог ім ужо і розум, і такт, і меру. З такога не растуць людзі, не шляхотнеюць. Гэта маразм! Уся Зэльва абураная сьмерцю гэтай дзяўчынкі. Яна са Шчучына. Жонка шафёра — сав. настаўніца. У іх двое дзяцей. Зь якой насалодай гляджу на сапраўдных, чэсных і добрых людзей! Другі шафёр забраў маіх шчанятак. Завёз іх на ферму, гдзе дзеткі адразу іх паразьбіралі. Перажываў за іх, а тут — забіць такую дзяўчынку… Розныя людзі! Стала нейк страшна жыць на Беларусі… Культура і антыкультура…

Велікодныя вітаньні ад далёкіх маіх сяброў не прыйшлі. У кожным выпадку не прыйшлі ад самых родных… Адчуваю, як мне бракуе іх цеплыні, чалавечнасьці, шчырасьці. Наагул, лістоў амаль няма. Калі бываюць, дык і тыя — як ананімкі. Мусіць, таму я так шкадую с.п. Яначку, што ён быў ня трус… У змаганьні за чалавечнасьць і беларускасьць страху быць не павінна! Жывем для вечнасьці! Вось так!

Альма мая ў хляве. Сярожка часам гуляе зь ею паводле правілаў Валеркі. Лапка ўцякла з прывязі. Недзе блукае «па пакутах». Баюся, каб каго не ўкусіла. Добра, што ночы

кароткія і хутка мінаюць. Чакаю сяброў на май. Спадзяюся, што на гэты раз агароджу паставім! І помнік. Занесла кветачкі на магілкі. Захацелася мне ехаць далёка! Паспрабую, Дануся! Цяжка мне тут…

Пацямнела нейк неба. Хмары на небасхіле. Дождж, напэўна. Ці мама яшчэ ў Вас? Цалуй ад мяне Эрыка, пажадай яму добрага настрою, ну і здаровячка добрага. А Ты ня кашляй, ня смэркай і трымайся, покуль поўны твой халадзільнік. Цалуй «мудрую» Віку, вітай Валерку.

Твая *Ларыса Геніюш*.

## 149. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 19 красавіка 1980 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Замест працаваць у гародчыку — пішу Вам. Падае дожджык, сыра, круціць ногі. Цешуся зь любові Вашага ўнука да зямлі, зь яго посьпехаў у ягоных цяплярнях, на гародзе, і з Вашай радасьці з такога цудоўнага ўнука. Наш Алесік канчае сёлета 8 клясаў, г. зн. — іх сярэднюю школу. Падаў заяву ў садова-агародніцы тэхнікум. Таксама любіць гэтую справу. Жаль — ніводзін унук не ўпадабаў сабе мэдыцыны…

З Вашым мілым Янкам Маркавічам усё пакуль што ў парадку. Пакінуўшы на час хворага бацька, наведала яго Віка — дачка Данусі. Вось што мне Дануся пра гэтую падзею піша: «Віка схадзіла да Хвораста і знайшла яго здаровым, бадзёрым, поўным дзеяньня, вельмі занятым — яму ўвесь час званілі. На кухні — чысьціня, поўна яды. Ён ёй сказаў: *"Я Вас пачаставаў бы, але сяньня няма маёй гаспадыні"*. То выходзіць, што ён не адзінокі, і па кухні гэта відно, што не мужчына там гаспадарыць. Віка прыйшла да вываду, ды ёй і далі там зразумець, што яе клопатаў не патрабуюць. Але сходзіць і Нора (гэта мастацтвазнавец. — *Л. Г.*), яна мне абацала. Пра Вас ён ня чуў. Зоську Верас ведае. Віка кажа, што ёй самой было вельмі цікава яго слухаць, але ён ня меў на яе часу».

Піша аб гэтым Дануся, вярнуўшыся зь Менску. Факт гэты мяне непамерна цешыць, і спадзяюся, што супакоіць і Вас. Знача — ёсьць яшчэ жаночыя рукі і сэрцы, што дапамагаюць слаўным харэографам і ў сталіцы. Цяпер круг ягоных апякунак пабольшыцца. Спадзяюся, што ўсё будзе добра. Я прынялася паважна лячыць хворае наскрозь сэрца. Ужо лягчэй падымаюся на сходы. Прымаю розныя таблеткі, мікстуру. Лечаць мяне. Аднак адчуваю, што сэрца здало. Нармальна, лічу. Надта мучуся, нешта робячы ў хаце. Да такога я не прывыкла, бо працы фізычнай хапае.

Зусім няма патрэбы Вам памятаць дня маіх народзінаў! У юбілейныя даты гэта не абыходзіцца без непрыемнасьцяў. Фактычна, гэта 27 ліпеня. Дазваляю Вам на гэты раз забыцца пра мой дзень народзінаў, што хачу зрабіць і сама. З пэўных невясёлых меркаваньнь гэта зрабіць неабходна. Іншая справа — ці дадуць мне дажыць да гэтага дня. Дзецям і ўнукам сёлета вызаву не высылаю. Маем тут дачыненьне далёка не з культурнаю элітай чалавечага грамадзтва, на жаль… Ёсьць пэўная, сумная катэгорыя людзей, якая не паважае ні ціхай велічы сьмертнай гадзіны чалавека, ні трагічнага, глыбокага веку адзінокай жанчыны. Лягчэй выслугоўвацца на падобных, бясьсільных адзінках.

Уся душа мая сяньня — далёка за межамі зямлі маіх продкаў. Папярэдзілі мяне ўчора, што ўсе лісты мае перачытваюць. Што ж, у кожнага ладу свая «культура». Ёсьць і спагадлівыя адзінкі. Выпісалі мне дровы, напрыклад. Аб простых» нашых людзях ужо не гавару. Але за ўсіх сякіх і такіх сымпатыгаў я лепш хацела б мець адну аддданую, верную душу. Такое, на жаль, побач ня маю. Сын і ўнукі мае аказаліся не на ўзроўні. Дык лепш ужо гордая адзінота, чымсьці танны які калектыў. Гэта ў справах інтэлектуальна-духовых.

Простая і чэсная мая дарога ідзе празь церні і сяньня. Матэр’яльна — дык далёка не галадаю покуль што, а так — што ўжо Бог дасьць. Часамі моцна адчуваю, як акружае мяне любоў. Я ўдзячная людзям за гэта. Плачу ім тым жа. Муж Данусі будзе ўжо працаваць. Пісала, што мае прадукты для яго, але сама яна прыхварэла. Перастыла недзе. Вашу мілую картку я ёй пераслала. З Новікам-Пеюном, думаю, — так як і з Хворастам! І скуль яны навучыліся прыбядняцца? Цешыць мяне, што зноў аказаўся да Вас наш мілы Забель. Абяцаў, што выберацца на Беларусь. Думаю, што Данусе напіша Вам.

Цалую Вас сардэчна. Вітаю ўсіх Вашых хатніх.

*Ларыса Геніюш.*

## 150. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 17 траўня 1980 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Дзякуй Вам вялікае за прывітаньне з 1-м траўня, за ліст. Нікому не пісала, бо схапіла мяне сэрца. Першы раз у жыцьці выклікалі да мяне хуткую дапамогу. Падлячылі крыху. Апаў ціск, але засталася нейкая непатрэбная слабасьць. А тым часам прывезьлі мне агароджу. 2 траўня, у холад, дзікі вецер і амаль мароз прыехалі тры маіх сябра з Баранавіч, адзін са Слоніма. Бог так даў, што знайшлася машына падкінуць усё на могілкі, знайшоўся горшы і добры цэмэнт і нават памочнікі маім дарагім сябрам. Суседзіназносілі ватовак, каб іх не прадула на горцы, і пачалася праца. Агароджа на дзьве асобы, таму трэба было здымаць грунт. Былі цяжкасьці. Сябры дастасаваліся да гэтага і зрабілі цэмэнтовы падмурак — то крыху вышэй, то крыху ніжэй, паставілі стаўбочкі (пад мрамар), праз якія працягнулі нержавеючыя, бліскучыя трубы.

Помнік сам вельмі скромны, але зроблены са смакам, зь любоўю. Харошы надпіс (я Вам яго пасылала) на мрамарнай плітцы вельмі гарманізуе зь мілай і суровай скромнасьцю помніка і агароджы. Цяпер я спакойная. Стаяць там раньнія нарцызы і тыя малыя сінія кветачкі ад Вас. У нас — халады, прымаразкі. Гародаў яшчэ ня садзім. На магілцы думаю пасадзіць стакроткі і браткі. «Сваё» месца засею траўкаю. Букеты прыгожых кветак будуць там стаяць заўсёды. Цяпер цяжэй, бо зноў нейк выкруціла балючую нагу. Давялося хадзіць на электрамасажы. Крыху прыкульгваю ад болі, калі ніхто ня бачыць.

Сябры працавалі ад душы. Пілі гарэлку — ад душы таксама! Так грэліся! У час холаду і працы нічога ня маю супраць чаркі, якое іначай не люблю. Ноччу — то храплі, то кашлялі, а я іх тут карміла і даглядала, як магла. Калі прыехалі, то нарэзала мяса, былі дранікі. Мяса не кранулі, а дранікі — зьелі да апошняга! Сьмяяліся, што яны тут мае «прымакі». Адзін зь іх зьвязаў мне адумыслова веніка. Я і ня ведала, што прымакі ў нас сьпяць на веніку. Падушкі, бачыце, ім не хапае… Ну, на веніку яны ў мяне ня спалі. Вострыя на працу і на язык, разьвесялілі тут усю нашую кампанію. Было з імі хораша, весела і бясьпечна. Удзячнасьць мая для іх ня мае граніцаў! Плаціла толькі за матэр’ял. Шчасьлівая, што помнік па с. п. Яначку ўжо стаіць. Я захопленая! У параўнаньні з багатымі манумэнтамі на могілках, кажуць, што выглядае найпрыгажэй! У кішэні яшчэ гдзе што засталося, дык хоць не бядуйце, што галадаю. Вытрымаю!

Да мілага п. Слаўкі вялікая просьба — каб даведаўся, ці можна ад Вас высылаць маім далёкім сябрам дываны? Добра так, але хацелася б ім яшчэ хоць нешта выслаць — за іх любоў і мілую апеку нада мною. Ім гэта трэба. Рада, што сябра Хвораст цяпер не адзін. Гэта найлепшы варыянт апекі, але калі наведае іх Віка ці хто іншы, дык няхай дзеліцца зь імі сваімі знаньнямі, гісторыяй жыцьця і ўспамінамі. Жадаю жыць ім шчасьліва і доўга! Скромны крылаты Амур — самы дасканалы лекар на хворыя чалавечыя сэрцы!

Сяньня дождж. Ад дзікага болю ў калене ўзяла эксцэдрын (прыслалі сябры). Ёсьць нейкая мазь, часамі яна памагае. Танная. Уціраць яе ня трэба, пасмараваць толькі. Так я тут і ратуюся ад рэўматызму. Аднойчы ў нас удома прывезьлі з поля зусім зьнямоглага ад рэўматызму пастушка. Мая мама, якая ўсіх лячыла (лекараў амаль не было), загадала мне нацерці таго хлапца воцатам. Хлапец паляжаў і пабег, як і не хварэў! Дасканала лячыла зельлечкам і сухоты горла. Якім — ня ведаю. Умела распазнаць шкарлятыну ці дзіфцірыт і пасылала да далёкага доктара. Лячыла банкамі, кампрэсамі, малінаю і ратавала людзей, як магла. Дзяцей переважна. Сама мела іх 11 — сямёра жывых…

Ведаю, што непакоіцеся аба мне. Ёсьць тут рэчы, якія апраўдваюць Ваш непакой… Нічога! Я дам тут нейк рады, а пасьля ўжо памру. Унук папрасіў вызаў у мяне. Паслала. Рада, што папрасіў. Цалую Вас! Усіх шчыра вітаю.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

Пісалі сябры, што не пахварэлі, заехалі шчасьліва, стаялі ў тамбуры, але чуюцца — як дубы!

## 151. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 17 ліпеня 1980 г.*

Дарагая Данусяǃ

Думаю, што ў Цябе алергія, і гэта пройдзе. А можа, Ты наелася клубнікі ці суніцаў, што таксама выклікае падобнае явішча. Думаю, што Ты ўжо ў форме.

Іра сяньня-заўтра едзе ў Гродна і завязе табе рукапіс. «Залозкі» я выкідаю рашуча і канчаткова. Не хацела б толькі, каб выкінулі «Жлобаўцы», «Я не сьпяшаюся», «Торбачку», «Сані шпарка ляцяць». Урэшці — як сама будзеш уважаць. «Беларусы ад касы» выкінуць трэба. Са скарочаньнямі М[аксіма] Т[анка], зусім слушнымі, я згодная. «Залозкі» я перараблю сама. Напрыклад, «хоць чаркай адной гарэлку пілі і вілкі ня мелі ніводнае, бралі рукамі *кускі кумпякоў*» і г. д. Знача — было *што браць*! Не было толькі сучаснага этыкету: «У лапцях хадзілі, у тканым бяльлі, *кажух* быў заместа *ватоўкі*». Вузкі загон, ніякае асьветы: «Мы дыхалі толькі сваім жаралом, адвечнаю мудрасьцю вёскі». Вёска — у разуменьні народ.

Нешта мы захавалі з часоў «Песьні пра зубра» і з ранейшых яшчэ часоў Эўфрасіньні Полацкай. Нешта пакінулі нам адыходзячыя пакаленьні. Усё гэта зрабіла Міколу Чалавекам зь вялікай літары. Ні француз, ні англічанін з высокімі культурамі не дараваў бы Ёрдану! Са зброяй у руках зь іх кожны забіў бы нягодніка. Якой трэба этыкі высокай, якой павагі да сваёй сутнасьці чалавечай, каб ня быць «як немец». Ёсьць і ў нас нелюдзі, але гэты нявыдуманы факт захапіў мяне, змусіў задумацца. Хто мае права самохаць абарваць людзкое жыцьцё ці скарожыць яго? Жыцьцё даецца раз, і нагароды за гэта, калі яго згубяць, няма! Мёртваму нічога ня трэба. Таму так важна і велічна аддаць яго за свабоду і праўду.

Але гэта — між іншым. Паэмка гэта няважная, але там тыпічна народныя, слоўныя замалёўкі быту, настрою, думаньня. Зрэшты, прашу, уваж і маі заўвагі. «*Кавалерыку аднаму»* — Божа мой, як гэта не па-мояму! Ці ж магла я мецъ *«кавалерыкаў»* і пісаць аб гэтым у тыдзень па сьмерці мужа? Калі пішацца аб «хлопцы адным», знача быў ён варты, каб яго ўспомніць! Гэта частка мінуласьці. Я рада, што змагла гэта выправіць. Альбо — «далонь каля шчакі пагрэў»? Гэта ўжо інтымна і брыдка. «Руку маю на сваім твары грэў» — гэта ў адчаі і горы, калі чалавека ратуеш, грэеш яму хоць руку. Грэць і пагрэць — дзьве вялікія розьніцы. «Пагрэў» — гэта як факт дакананы, ды яшчэ са згодаю. Моўчкі. Гэта дробязна, «мелко», як кажуць расейцы.

Я зноў нэрвовая. Ішла ад знаёмай і нада мною ўчынілі «забаву», быццам я — Сахараў. Ехала грузавая машына — насупраць, проста на мяне. Я павярнула ў другі бок, і яна павярнула на мяне. Я перабегла ў бок іншы, і яна зноў паперла на мяне. Шафёр рагатаў, а я толькі паказала яму пальцамі на скронь — што здурэў. Надышлі людзі. Мне нічога ня сталася. Людзі былі абураныя, казалі, што ён быў п'яны, але гэта ня тое… Вось якія маі тут справы.

Учора прынесьлі мне цудоўныя ружы. Як жа мне бывае цяжка… Калі б я мела крылы… Вершы маі павязе табе Іра, бо болей нікога ня маю. Спадзяюся, што завязе. Калі б не магла, дык будуць чакаць на Цябе тут.

Прыйшла Іра. Я рада, што яна забярэ тыя вершы. Данусенька, даруй мне, што столькі Табе працы з маімі вершамі. Тое, што я выкінула, на ўсялякі выпадак укладаю. Акрамя «Залозкаў», яны не для друку. Жыцьцё зрабіла мяне нэрвовай. Даруй мне і гэта.

Ці прыедзе Міхась — ня ведаю. Чаго паперла Юрку ў Лёндан, — таксама ня маю паняцьця. Нэрвуюся страшна. Валін ліст нейк узбурыў маю думку. Гэтая машына на вуліцы таксама змушае думаць. Альма — у Гродне. Адзін чалавек ведае, гдзе яна. Ня знаю адрасу тых людзей. Яна працуе лекаркай. Дзявочае прозьвішча было Аўсейчык. Муж, здаецца, інжынер з-пад Лунна. Маюць двое дзяцей. Жыве зь імі яе маці. Я чула ноччу, як забіралі сабаку. Балела вельмі сэрца. Баялася выйсьці.

Цалую вас усіх — *Ларыса Геніюш.*

## 152. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 24 ліпеня 1980 г.*

Дануся, родная!

Быў Твой душу пацяшаючы ліст. Не магу паверыць радасьці, што прыедзе Ніна Мацяш! Божа, які жаночы алімпійскі Парнас атрымаўся б у нашай старой хатцы!

Калі замест сябе ізноў падставіш Эдзі Агняцьвет (я думала, што Ты тады — са страху…), будзе мне крыўдна. Папраўкі Твае — цудоўныя! Такія трапныя часамі, што аж дух займае. Сапраўды! Таму падпісвайся сама, і калі Бог ласкава дазволіць мне яшчэ што выдаць, дык Ты і толькі Ты будзеш папраўляць мае граматычныя, моўныя і іншыя памылкі.

Акрамя дарагой Ніны Мацяш, кліч у маю хату ўсіх мілых яцьвягаў. Няхай душа мая ў гэты дзень хоць пачуе беларускую мову, а вочы ўбачаць нашу будучыню. Міхася ўсё яшчэ няма. Усе суседкі прыносяць яечкі. Памагаюць — хто чым можа. Салодкі стол забясьпечаны. Мясны — таксама. Горкі — меней… Але ж мы — за цьвярозасьць! Забясьпечыць «культурны стол» — Твая справа.

Ага, пад кніжкаю падпішыся абавязкова! Прашу вельмі. Казалі мне, што Зэльва перажывае мой юбілей. Такая простая, скромная, ціхая, чалавечая Зэльва. Толькі яна. Нават дзеці… Той сябра, які некалі прывёз Табе туліпаны, прасіў кланяцца Табе нізка. Гэта ён вёз мне зь Мінску цудоўныя ружы. На жаль, асыпаюцца, але ўжо прывезьлі другія. Гдзе хто зьбіраецца іх красьці на гэты дзень. Кажу ім, што нельга… Сьмех.

Працы — поўныя рукі. Ядзя хоча мыць падлогу. Здаецца, сёе-тое напякла. Змарылася. Больш ня буду. Аж сэрца стукоча з радасьці, што Вас убачу. Каб яшчэ археолягі — вось было б ура! Данусенька, можна прыехаць нават у суботу на ноч. Месца хопіць. Хто — у мяне, хто — у Ліды, у Іры, у Ядзі.

«Полымя» ўсё няма. Людзі часта цалуюць на вуліцы. Ці пагода, ці дождж, ці лівень — едзьце! Адсьвяткуем тут разам і мае 70 гадоў, і слаўную Алімпіяду, гдзе таксама змагаюцца беларусы. Няўжо дажыву да сваіх 70 гадоў? 70 разоў мяне пацалуеш.

Бывай. Вітай хатніх. Захапі з сабой Валеру. Чакаю Вас — *Ларыса Геніюш.*

## 153. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 31 ліпеня 1980 г.*

Даражэнькія!

Дзякуй за пару слоў. Яны мне былі вельмі патрэбныя. Толькі я болей непакоілася за Тваю вантробу. Добра, што ня «стогнеш». Знача — Табе лепш. Усім, усім шчырае, вялікае дзякуй за Ваш прыезд, за тое, што засталіся яшчэ крыху з намі. Гэта было хораша, па-роднаму, па-нашаму. Падзякуй ласкава Марыі Міхайлаўне [Пяткевіч] і сябрам — за іх прысутнасьць, за словы добрыя, за пажаданьні. Можа, што было ня так, ці дрэнна спалася — няхай даруюць.

Добра, што шчасьліва даехалі. Як заехала Ніна [Мацяш] зь сястрою? Вельмі чакаю весткі ад іх. Бутэлькі тыя пераставілі ў другое месца, і іх у той жа вечар (плюс другія) асушылі да кроплі. На гэтым 70-годзьдзе ня скончылася. Яно, здаецца, будзе пэвен час прадаўжацца. Я рада. Дораць кніжкі, посуд, духі… Буду за вярсту пахнуць, як рэзеда.

Міхась ад раніцы ў лесе. Прыбегла такая «козачка» каля 8-ай раніцы, а пасьля пад’ехаў на машыне Коля. Недзе зьбіраюць грыбы. Нечаму сэрца мне замірае. Заўтра раніцай хоча ехаць дамоў. Кажа, што мусіць. Нічога супраць ня маю. Сяньня мецъ унука ў хаце болей небясьпечна, як унучку. Учора адразу прыбеглі дзьве. Божа мой, што гэта робіцца… Дзеля нас плакалі, страляліся і труціліся, а тут — усё неяк наадварот. Міхась — спакойны, тактоўны, добры хлопец. Пасьмейваецца. Жартуе. Зрабіў новыя сходкі ў хату. Амаль нігдзе не выходзіць, хіба з бабусяй. Крыху ад’еўся.

Я змучаная бясконцымі вызытамі. Усе захопленыя маімі гасьцямі і гасьцінаю. Найбольш — гасьцямі. Старэю. Шкадую ўсё ж, што Міхась ад’яжджае. Ноччу спакойней спалася.

Учора была тэлеграма ад сакратарыяту БСП. На Зэльву, Ваўкавыскі р-н, вул. Леніна, 16 (трэба ж…). Прыйшла спозьненa — ад Міколы, але ад якога — ня ведаю. Зь Мінску таксама яшчэ ўсё прыходзяць карткі. Божа, як я Вам усім удзячная за гэты харошы-харошы дзень!

Крыху шкадую, што перабіла Пётру, які так дакладна запамятаваў нават тыя «паласатыя штаны» (пад сукенкай), якія былі тады на мне. Я спалохалася, што ён — нагаворыць… А было што нагаварыць, бо мы то зь ім выжылі, а нехта другі? Мароз мне прайшоў па скуры, калі я падумала пра тую «любоў». А яна была. Толькі зь ягонага боку. Калі мяне адвозілі ў штрафны лягер, дык Пётра [Рашэтнік] і яшчэ адзін «закаханы» ўцяклі зь лягеру праз падземныя шахты-шурфы. Мяне ня ўбачылі, а іх абодвух моцна пакаралі. Было хораша, дзіка, праўдзіва…

Ужо амаль вечар. Толькі што вярнуліся з могілак. Душна. Горача. Шкада, што зноў буду зусім адна. Буду баяцца начамі. Міхась трымаў сябе хораша. Быў вельмі тактоўны. Мяне непакоіць пытаньне — што будзе са мною? Валі вызаў яшчэ не прыйшоў. Ня ведаю, ці вярнуўся Юра.

Данусенька, правядзі Міхася да цягніка. Калі б што яму вярнулі, дык забяры тое дамоў. Каб ня выкінулі прадуктаў. Напішаш мне, як яго пасадзіла. Буду непакоіцца. А тая дзеўка сядзіць… За імі не паглядзелі нават Алімпіяды. Проста нашэсьце. Дзяўчо мілае, але ж чужое. І калі я цяпер вас усіх пабачу? Усё прыходзяць мамы з малымі дзяцьмі — хочацца ім пахваліцца. Нічога, растуць дзеткі харошыя. Мамы хворыя, а хлапчаняты — як грыбкі! Яшчэ раз вялікае дзякуй за Ваш мілы прыезд! Падзякуй Пяткевічам і таму сябру, які Вас прывёз. Цалую Цябе моцна, дзякую ад усяго сэрца. Пішы, не забывай. Твае радасьці ёсьць маімі. Цяжкія справы — таксама.

*Ларыса Геніюш.*

## 154. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 5 жніўня 1980 г.*

Данусенька!

Ня ведаю, куды Табе пісаць? Магчыма, Ты са ўсім сваім «дваром» (і з Бонкаю) павандравала ўжо ў бок Біскупцаў і ходзіш там па лісічкі.

Дзякуй, што сустрэла і правяла Міхася. Рада, што смакавалі Табе мае вырабы — паляндвічка. Калі б Ты паставіла да гэтага яшчэ і чарку, дык было б як прадаўжэньне таго дня, калі было мне так добра, так хораша з Вамі.

Пісала Ніна [Мацяш]. Заехалі ліўнем у 12 г. дамоў. Хоча перакладаць паэму Ліны Кастэнкі, якую якраз атрымала. П. Алесь [Траяноўскі] прыслаў сваю кніжку — пераклад з кашубскай мовы. Валя прыслала ўзварушліва мілую картку. Яшчэ ўсё ідуць віншавальнікі. Зьнекуль бярэцца чарка. Частую іх чым магу. Дажджы не сьціхаюць, але душа мая яшчэ не прамокла наскрозь. Чакаю, можа, прыедзе Юра. Валі вызаву яшчэ не далі.

Добра, што паехаў Міхась. Ён не казаў мне ўсяе праўды. Албо маўчаў, альбо ілгаў. Яго тут хацелі пабіць за тое дзяўчо. Ніяк не магу разабрацца — правакацыя гэта ці зьбег выпадкаў? Дзяўчо харошае, талковае і не павінна пайсьці на такое. Магло ўсё скончыцца дрэнна. Бог нас сьцярог яшчэ ў маім горы і ў маёй адзіноце. Ад гэтай вільгаці круціць мне ногі і баліць галава. Яшчэ ня ўсе людзі адбылі належную гасьціну, яшчэ трэба шынкаваць адзін стол. Мяне гэта толькі цешыць, хоць ужо стамілася крыху.

Мне вельмі спадабалася, што Вы начавалі, што хата не адразу стала пустой і сірочай. Шчыра я сумавала, калі ад’ехаў Міхась, але добра зрабіў, што паехаў. Дзяўчо лепшае за яго, бо хоць не махлюе… Дай Бог шчасьлівы шлях таму, што «на чабары настоена», бо гэта дадае крыху сілаў. Пішы мне. Цалую Вас усіх — Ваша *Ларыса*.

## 155. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 16 жніўня 1980 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Пару дзён, як спыніўся дождж, але пахаладнела. Нашыя тут памідоры — дык адна гніль. Гурочкі пакрысе растуць. Міхась заехаў шчасьліва дамоў і застаў там усю сямейку. Пісаў, што яшчэ ў гэтым месяцы прыедзе Юра. Паслала вызаў і Валі з Алесікам.

Я зноў недзе прастыла. Баліць мне вуха і круціць па-ранейшаму ногі. Выбрала ўжо сваю драбноту-цыбулю. Ля хаты паявілася многа гнёздаў мурашак. Ці ня ведаеце якой рады на іх? Вельмі надакучаюць, бо нішчаць пасеянае. Сяньня я крыху адпачываю. Учора ішлі праз цэлы дзень людзі са сваімі справамі па раду, па дапамогу. А мне варта было толькі вымыць голаў, каб адразу прастыць.

Усё яшчэ ўспамінаецца 27 ліпеня. Пагода была добрая, і людзі былі свае. Болей ужо віншаваць мяне не прыходзяць, але дзьверы не зачыняюцца. Мусіць, не змагу заўтра паехаць на могілкі. Гэта далёка, а сілаў маіх — у абрэз. У дзень таго юбілею ня думала многа пра с.п. Мужа. Была адказнасьць перад людзьмі, якія прыехалі. Хацелася, каб усё было добра і, галоўнае, спакойна.

Ніначка Мацяш пачала хварэць у 18 год, яна вучылася ў «Ін’язе». Гэта звязанае з гэнэтыкай. Пачалі адымацца ногі, слабець цягліцы. Яна ня ходзіць, толькі нейк «плыве», апіраючыся рукамі. Мае ўдома каляску, жыве адна ў Белаазёрску і нейк дае сабе рады і зварыць, і спратаць у хаце. Якое ж гэта мілае і мудрае дзяўчо! Сястра (замужняя) прывозіла яе на сваёй «волзе». Таксама ўжо некалькі гадоў як замужам, а дзетак няма. З мужчынскай паловаю роду ў іх усё добра. З жаночай — усё дэфэкты. Кажуць, што гэта па нейкай прабабцы.

Ліст канчаю 17 жніўня. Думала, што прыедуць сяньня ноччу нашыя. На жаль. Была толькі ў мяне знаёмая з унучкаю з цудоўным букетам гладыёлусаў. Вуха яшчэ пабольвае, ногі — як не свае. Болей ляжу, як хаджу. Змушаю сябе нешта есьці.

Ці Вы пасеялі ў сябе тыя званочкі? Ці ўзышлі? Яны расьлі ў гэтым годзе вышэй пояса. Белыя, ліловыя. Летась іх не было. Ці была ў Вас Лёдзя? Яна баялася застацца ў нас пры гасьцях. Як і ўсе… Цалую Вас і абнімаю. Вітайце сваіх.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 156. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 17 жніўня 1980 г.*

Данусенька!

Як маецца сябра Эрык? Ці яму лепей? Дома ён ці ў больніцы? Што сказаў лекар? Ці гэта насьледак яго хваробы, ці проста, можа, што зьеў? Юра меўся прыехаць ля 15 жніўня. Няма пакуль што. Пісаў Міхась, што маюцца прыехаць да іх госьці з Чэхаў.

Што да Міхася, то сама ведаю, што ён выдатны, разумны і харошы хлопец. А што яго хацелі адлупіць і яшчэ абяцаюць зрабіць гэта ў Польшчы, дык гэта таксама ня выдумка! На жаль, «герой» нічога бабе пра гэта не сказаў. Сказалі мне яго сябры і тое дзяўчо. Таго «тыпа» хлопец нават ня бачыў у жыцьці. Усё нек завочна. Людзі раілі мне яго сюды болей ня клікаць. Людзі ведаюць, чым гэта пахне і скуль вецер… Не гавары лепш таго, чаго ня ведаеш.

Была ўчора Іра, тая масквічка. З бабусяю і гладыёлусамі. Гэтая авантура была ня дзеля яе. Яна прыходзіла папрашчацца. Была нейкай сьцішанай, скромнай і, відно, мела да мяне жаль. За Міхася, безумоўна. Калі Міхась, раз на колькі год, прыедзе да бабусі на яе 70-годзьдзе, прытым толькі на тыдзень, дык мусіць болей увагі зьвярнуць: бабусі, магіле дзеда, старой хаце і добрым людзям, чымсьці нейкім танным прыгодам, якіх яму не бракуе і ў Польшчы. Дзяўчо тое нядрэннае, можа, але авантуры тут былі не да месца.

Яшчэ, бачу, Вы там не навучыліся жыць. Крыху выбілася з грошай, дык была рада, што атрымала гдзе-што за «Полымя». Слухаюся Тваёй парады (маю на гэта прычыны) і закрываю дзьверы ў тыя неабжытыя пакоі… Усё драбніцы, але не люблю, калі зь мяне робяць дурня.

Думаю многа пра Цябе і пра Ніну. Ці хоць яна чуецца добра? Куды пойдзеш працаваць? Як даеш рады? Чым корміш мілага Эрыка? Ці прыедзе да Вас на зіму мама? Зайздрошчу Табе — столькі харошых гасьцей у хату! А хто гэта — Крукоўскія? А які Валодзя, можа, Караткевіч? Пісаў Белакоз, віншаваў са спазьненьнем… Перадай ласкава прывітаньні тым выдатным людзям, якія былі тут з Табою. Усяго Вам добрага!

*Ларыса Геніюш.*

## 157. ІРЫНЕ ГАН

*Зэльва, 23 кастрычніка 1980 г.*

Мілая Іра!

Прымі мае шчырыя спачуваньні з прычыны сьмерці твайго дзядулі. Няхай наша зямелька лёгкай яму будзе. Дзякуй табе за ліст і за верш. Яны вельмі добрыя, толькі думай над імі болей, выгладжвай, апрацоўвай. Але галоўнае тое, што крынічыць у іх жыцьцё і яны ў цябе — жывыя.

А Сяргей Сокалаў — гэта сапраўды сокал! Рамантык крыху, і добра так. Толькі ў нас кажуць не «падол», а «прыпол». «З прыполу хмар асенні дождж пасеяў кругом грыбы» і г. д.

Вельмі буду рада сустрэцца з Вамі і шчыра Вас да сябе запрашаю, калі буду жыць… Сталася так, што вельмі дрэнна з маім здароўем. Хацелі мяне пакласці ў больніцу, але я адпрасілася. Абяцала нічога не рабіць, не хадзіць хутка. Напісалі мне шэсць гатункаў лекаў. Хаджу на траякія ўколы. Скалолі мяне, як рэшата, а сэрца баліць, не сціхае. Я маўчу, бо не хачу надта ў больніцу. Холадна там і сумна. Учора быў дождж, а мне так захацелася наведаць мужа. Занесла яму апошнія юргіні, пагутарыла зь ім крыху. Ідучы з могілак, думала пра цябе, і здавалася мне, што я — гэта ты. Так і напісала малы верш — быццам ад твайго сэрца. Ён таксама не апрацаваны. Сырэц. Пасылаю табе яго, Ірачка, канцоўку, безумоўна, прыдумала самавольна. Даруй, ласкава, за гэта. Фантазія паэтаў меж не ведае. Шлю табе яшчэ адзін верш аб нашай жаноцкай «моцы» і ролі ў жыцці. Ці бачыш часамі Лену? Як чуецца тое маё мілае дзяўчо? Забрала мне ўнука! Міхась да бабусі — ні слова! Што ж, я дарую. Добра, што Тваё сэрцайка яшчэ не ў палоне і знайшло час напісаць старэнькай бабусі.

Няхай Вам лёгка, прыемна ды добра вучыцца! Поспеху Вам, любыя ўнукі! Твая сатыра вельмі сугучная маім тут уражанням з жыцьця. Аб гэтым — у лісце наступным.

Цалую цябе.

Між высокімі сумна дамамі —
прага ціхай свабоды ў вачах.
Я пайду не па сала да мамы,
а адчуць позняй восені пах.

Дрэў, бы ў сне, залацістае явішча,
сіняваты туман ля ракі.
Так паважна снуюць па бульбянішчы,
пахіліўшы галовы, гракі.

Сярод поля расьці давялося,
ў жылах — прадзедаў верная кроў.
Хачу чуць, што зайграе мне восень
на нацягнутых струнах вятроў.

Сваё сэрца, скарб бураў ня знаючы,
ўзьлётаў прагнае, як жураўлі,
я аддам толькі ў восень, кахаючы,
сыну вернаму нашай зямлі!

## 158. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 11 сьнежня 1980 г.*

Дарагая Данусенька!

Рада Тваяму слаўцу! Старайся не згінацца духам перад труднасьцямі быту! Ты ёсьць заўсёды Ты. Тое, што У[ладзімір] К[араткевіч] ня кідаецца на вуліцы на калені перад Табою, як некалі, ня знача, што меней па-сяброўску любіць Цябе. Гэта знача, што ён пастарэў. Яму як-ніяк 50 год. Ты выпрацавала ўжо сваю вартасьць, і кожны ведае гэта. Што цяжкі быт — не пярэчу. Карміць хворага чалавека сяньня ня жарты.

Мне прыйшлі 4 нумары залеглай «Нівы». За сьнежань — яшчэ няма. Пішу Табе на вершы, якім я вітала маладую пару. Учора сьвякруха ўжо крыху крыўдавала на нявестку.

Нявестка — закройшчыца ў атэлье. На работу мужу-шафёру пашыла модныя, элегантныя нагавіцы, каб быў акуратны, а ва ўсіх рабочых яго нагавіцах, шырокіх і брыдкіх, павырэзвала зумысьне гузікі, каб нават іх не насіў. Загадала яму не скідаць ніколі шлюбнага пярсьцёнка… Я за тую нявестку!

Зосі памірае маці. Яна часта цяпер начуе ў мяне. Горай тое, што на зьмену хваробы сэрца я моцна прастыла, і кашаль, і горла, і боль ў грудзёх мяне замучваюць. Чаго толькі ні раблю. Сяньня не выходжу з хаты. Вельмі перажываю за сваіх. Ужо і злосьць прайшла. Лістоў — ніякіх! Мы ўсе тут вельмі чакаем на bufferin (ад грыпа, прастуды, маяго рэўматызму). Думаю я, што Юрка якраз яго пераслаў. Відавочна. Яшчэ не атрымалі. Выслалі яго сюды, але не дайшоў. Я ўжо ня ведаю, ці ў мяне прастуда, ці іншая якая бяда. Лячуся хатнімі лекамі. Можа, што зьела, што варта было лепш выкінуць (халва)… Ад таго часу мне і дрэнна.

Грозіць мне яшчэ адно вясельле ў родзе с.п. Яначкі. Я, пэўна, уцяку ці схаваюся. Я проста баюся ўжо падобных імпрэзаў. Вельмі адчуваю брак якога нашага таварыства. Думаю многа. У аўторак Брэст перадаваў нарыс пра Забэйду-Суміцкага. Хлопцы папярэдзілі. Вельмі хораша атрымалася перадача. Чыталі Твой верш. Ці Ты глядзела? Хораша прайшоў і юбілей Макаёнка. Мне вельмі спадабаліся Кузьмін, Матукоўскі (талковыя дзядзькі). Я ня вельмі захопленая творамі Макаёнка, але сяньня яны патрэбныя, відавочна. Ён не Мальер, безумоўна. Цешуся, што Валодзін юбілей хораша адзначыла і «Литер. газета». Вельмі ўзварушыў мяне юбілей Я. Скрыгана. Я пра Яго мала і ведала. Трэба нам цешыцца з гэтага.

Зараз заколюць нешта ў Біскупцах, прышлюць Табе сьвежаніны, і будзе меней клопатаў. Як Твае фізычныя сілы? Здаюць крыху нэрвы, напэўна? Не наракай на жыцьцё, бо маеш усюды многа добрых сяброў.

Пісала Людвіка Антонаўна. Думае, бачыш, ці варта ўжо лячыцца ў яе веку… Накрычала крыху. Цьвірка і Кулакоўскі нешта пыталіся ў яе адносна Я. Купалы, ад імя яго музэя. Не маглі ўжо ёй напісаць у такой справе на родным мове! Зусім расстроілі нашу дарагую дзяячку. Дарэчы, Ты чытала пра яе ў «Голасе Радзімы»?

З прадуктамі я не бядую. У мяне няма апэтыту. Болей бядую, што недзе галодны мой Міхась. Казаў мне, што бывае розна. Як маецца Валера? Вітай ад мяне іх абодвух. Цалую Цябе сардэчна.

Твая старушка — *Ларыса Геніюш.*

### 159. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 12 лютага 1981 г.*

Дарагая Людвіка Антонаўна!

Дзякуй за мілы, цёплы ліст, які прыйшоў вельмі ў пору. 8 лютага не было ў нас сьвятара, які да нас толькі наяжджае з Поразава. Прыходзілі людзі са спагаданьнем. Частавала іх, чым мела. Скромна і хораша прэзэнтуецца помнік і агароджа.

З болем і з разуменьнем чытала Вашыя ўспаміны пра с. п. Сына. Чаму так сталася з Вашым мужам? Як жа Вам цяжка было ўсё перанесьці… Я рада, што бачыла, што пазнала некалі Вашага сп. Сына. Я падзіўляла яго бязьмерную любоў і адданасьць сваёй маці. Пра Вас толькі мы і гаварылі. Толькі ня думайце ўжо пра гэта цяжка і многа. Гэта грэх! Цешцеся і Богу дзякуйце за тое, што ёсьць. За тых, якія пры Вас, за мірны час на зямлі, за павагу людзей да Вас.

Вячаслаў Ц[елеш] і тут быў коратка. Жаль, я знайшла яшчэ пару паштовак, якія маглі б яго зацікавіць. Лічу яго чалавекам салідным. Пішу Вам, трымаючыся за сэрца. Вельмі мне дрэнна. Ці хопіць сілаў…

Быў ліст ад сябра Язэпа [Найдзюка]: «На Юрку Вы ня гневайцеся. Ён мае даволі цяжкія перажываньні. Нейкі псыхапат напаў на яго з нажом і параніў яго. Пасьля ён перажываў дэпрэсію і лечыцца».

10 лютага званіла ім, усе былі ўдома. Дрэнна было чутно ў тэлефоне. Зразумела толькі, што былі тры нажавыя раны. Адна — у вісок. Сын толькі вярнуўся з больніцы. Голас ня той. Надламаны нейкі, прыглушаны. Казаў, што небясьпека мінула, але маральная траўма, відно, засталася вялікая. Я Вас вельмі і вельмі прашу, запытайцеся ў Гайдука, у чым там справа? Я яго ня ведаю. Наагул, я там амаль ня маю знаёмых. Гайдук павінен быць у курсе спраў. Бандыт той на свабодзе, і ўсё гэта моцна сьмярдзіць… Вось гэтага мне толькі бракавала, каб зусім ужо мяне даканаць.

У Зэльве крыху сьцішыліся забойствы. Ранейшыя не раскрытыя. Цешуся, што пры Вас ёсьць харошы Ваш Слаўка. Відавочна, ён вельмі здольны хлапец. Электроніка — вельмі паважная рэч. Як гэта цудоўна, што ён любіць прыроду і ўмее працаваць на зямлі. Калі я званіла сыну, дык усе былі ўдома, і Міхась. Ён дастаў ад школы нагароду за добрыя посьпехі. Вершамі, якія я яму паслала, захоплены. Казаў, што менавіта такія хацеў. Сэрца баліць вострым фізычным болем. Хоць крычы. Мушу трымацца. Зараз павінныя прывезьці газ. Сяньня крыху марозік. Сытуацыя ў Польшчы ня цешыць. Не магу яе зразумець. Каб хоць там кончылася ўсё да вясны, пакуль сеяць…

Люцынка, дачка сябра Язэпа ўжо працуе. Бацька дапамог ёй атрымаць у Беластоку кватэру (2 пакоі). Як і належыць, бабуся гадуе там мілага Марцінку, а Язэпа паклікалі на ранейшую працу, скуль рабочыя пагналі начальніка. Язэп рады, бо патрэбныя грошы, каб неяк крыху абставіць кватэру Люцынцы. Жыцьцё не спыняецца, і так трэба.

Ці купілі нешта з выстаўкі Сергіевіча беларусы? Як гэта цудоўна, што Ваш зяць купіў партрэт сп. Тоніка. Як гэта добра! Цікавіць мяне, колькі партрэт каштаваў? Некалі даўно мы былі ў Вільні са с. п. Мужам. Былі і ў Сергіевіча. Там якраз вісеў вялікі абраз паўстанцаў з Кастусём Каліноўскім. Мастак яго прадаваў. Мы запрапанавалі яму, што зьбярэм адпаведныя грошы зь сяброў у Беларусі і купім гэты абраз для якога з нашых музэяў. Мастак спалохаўся такога. Не згадзіўся… Было нам балюча і дзіўна.

Я радзіла б Вам піць кэфір і есьці шмат кашаў, асабліва грэчневую. Вельмі добра — тварог са сьмятанаю. Як цяпер Вам са страўнікам? Зараз будзе Вашая любімая крапіва, і ўсё наладзіцца. Адным словам — трымайцеся!

Мужу Данусі зрабілі аж тры сорбцыі. Ён — як паранены. Але яму ня лепей. Жаль мне яе. Мае шмат непрыемнасьцяў на працы. Яна вучыць у вячэрняй школе. Яе парадкам «ядзяць»…

Вітайце сваіх. Не забывайцеся пра мяне. Цалую Вас і абнімаю.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 160. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 11 траўня 1981 г.*

Дарагая Данрся!

Пачынаю тыдзень лістом да Цябе. Так шчодра сьвеціць сонейка! Зацьвітаюць туліпаны, а ад нарцысаў (раньнія гатункі) — аж бела! Галоўнае — гэта посьпехі і ўладкаваньне Вікі. Цешуся, што будзе ў Мінску. Куды ж пойдзе Валера? Як чуецца Эрык?

Маі сябры — пішуць! Фатаграфія з помнікам дайшла — і помнік, і паэткі ля яго, добра выглядаюць, а «Вашая Дануся яшчэ зусім рэзвая маладзіца». Па костачках разабралі «Песьню пра зубра», але я зь імі ня згодная ў ацэнцы Я. Семяжона. Перакласьці, падняць з пылу вякоў гэты скарб — то ж подзьвіг.

Вельмі ўдзячная Табе за прысланыя здымкі. Вось каб хоць яшчэ адзін! Узіраюся на ўсе аблічча і ўспамінаю той дзень. Дзіўлюся радасьці на сваім твары — такой шчырай. Сама ня думала. Чакаю абяцанага прыезду мінчан, тады пасьля іх парады ці ўказаньняў буду нешта рабіць. Гэта ж ня так проста. Часамі думаю — а ці ня ўсё роўна? Бо колькі мне засталося жыць. Пашто турбаваць урады? Адным словам, будзе так, як скажа мудры наш Археоляг. Даўгія, харошыя лісты піша толькі сябра Ігар — за сябе і за мілую Лілю, якая здае экзаміны. Яе нават начамі цалуюць музы і родзяцца неблагія радкі. Зь любасьцю ўспамінае свае леташнія раскопкі ў Гродне.

Няма лістоў ад Міхася і Юркі. Ведаючы іх сытуацыю на месцы, непакоюся крыху. Усе сьвяты прыйшлі зь людзьмі і ў руху. Засталіся яшчэ «аэрафлёцкія» цукеркі, катлеты і крыху ўтомы ды шчымлівай адзіноты. Вельмі хочацца зноў пайсьці на могілкі. Проста нейкая сіла цягне мяне туды. Сьняцца нейкія дзіўныя пабожныя сны, і ўсё шукаю зноў чорную хустачку…

Нават па-беларуску шчодрае сонейка не здолее разагнаць неспакой мой і цяжкія думкі. Дзякуй, што хоць крыху пра мяне памятаеш. Што датычыць Літфонду, дык гэта, сапраўды, была б неспадзеўка, але — як яны сабе хочуць. Справа ў тым, што дзяўчаты пакінулі мне цёплыя боцікі, а яны каштуюць…

Але ўсё гэта ня так важна, як старое сэрца са сваім дарэшты сапсаваным мэханізмам. Не магу дачакацца ліста ад Юркі, ці выслаў ён разам зь лекамі і насеньне ды інш. для Зоські Верас? Лекі ўсе ў парадку, а вось з насеньня і інш. болей ён нічога мне не перадаў. Несказана прыкра, бо яна, бедная, хварэе, і лекарскія зёлкі патрэбныя. Сяньня пастараюся пазваніць (33 руб. 75 кап…).

За гэты час, што пішу Табе, пабывала ў мяне безьліч людзей. Зося — што абгараў нехта нашыя соткі, Міхась — ці прынесьці вады? Адна — ці няма лякарства, другая — прынесла молатага перцу і г. д. З кожным трэба пагутарыць. Добра, што хоць маі «кватаранты» пару тыдняў сюды не прыедуць. Гледзячы на здымак, падзіўляла Тваю адвагу, нашую дэмакрацыю і ўсе мілыя твары таго асяродзьдзя, і засьмяялася на ўвесь голас. А хораша!

Рада з таго, што так самастойная і растаропная «малая» Віка. Такі ж будзе і Валера, бо гэта хлопец, які ўмее думаць. Вельмі хочацца бачыць Эрыка. Я нічога б ня мела супраць, каб ён пабыў пару тыдняў у мяне, хоць цяпер, калі ўсе зацьвітае. Праўда, няма ў нас рынку, а ў крамах гуляе вецер. Вярнуўся з поўначы адзін салдацік і казаў, што там сала — 10 руб. за кг, мяса — 8 руб. Трэба паважна брацца людзям за працу, каб хоць нам да такога не дакаціцца. Шмат будзе залежаць ад пагоды.

Знай — тры асобы (пачародна) перарвалі мне ліст да Цябе. Добра, што дапісала — забегла мая Ала: ці не пашыць Вам чаго навесну? Цяжкая зь ёю размова, бо ня хоча разьлічвацца… Бываюць цудоўнымі нашыя людзі. Баліць крыху ў паясьніцы, але вытрымаць можна.

Вітай мілага Эрыка, Віку, Валеру і Бонку. Цябе цалую. Вось гадкоў было б мне крыху меней… Твая *Ларыса Геніюш*.

## 161. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 15 ліпеня 1981 г.*

Дарагая Дануся!

Спадзяюся, што ў Вікі ўсё добра. Напішы мне ласкава пра яе лёс. Як Валера? Як трымаецца дарагі Эрык? Ведаю, што клопатаў з адной толькі кухняй маеш даволі. Аднак мець аб кім клапаціцца — гэта часта і нашае шчасьце. Газэту з «Домам дзяцінства» — маю.

Апошнія лісты ад Міхася і ад Юркі былі ў канцы травеня. Ад таго часу — ні слова… Ды і маі лісты не даходзяць нават да Белакоза, які цяпер у Друзгеніках — лечыцца па курсоўцы. Кватэру знайшоў у 1,5 км ад сталовай і ўсіх працэдураў. Чуецца там — «як негр» (так піша). Адымаецца ўжо яму нага ад бегатні. З пуцёўкамі там іначай, але яны не для нашага брата…

Усе ў мяне просяць экспанаты ў музэй. Нават маё адзеньне… Думаю, што такое лепш рабіць па сьмерці чалавека. Няўжо ўсё пааддаю і буду чакаць сьмерці ў сваіх пустых сьценах, ды яшчэ бяз вопраткі? Жаль, што ніхто зь іх не падумаў, як мне тут жылося ў 70 год, у такім горы, зусім адной, ды нават безь лістоў, бязь вестак ад сына, якога ў белы дзень рэзалі нажом. Ад унука, на якога перанесьлі ўсе мэтады зьдзекаў, якімі мучылі с.п. дзеда. Трэба ж думаць, што чалавек ня камень, ня глыба, і пакуль ён жыве, ён ня толькі носьбіт музэйных экспанатаў, але, у меру магчымасьцяў, яшчэ і творчая адзінка.

Далучаю Табе ліста ад др. Караля. Цяпер дрыжу, што закаханыя ня толькі ў Тваю творчасьць могуць не вярнуць мне Тваёй мілай мордачкі на здымку. Жартую. Можа, падскочыш да нас у гэты дзень? Сушу галаў, чым Вас буду прымаць, але мы ж — беларусы, усё ямо і да ўсяго прывыклі. Прывезьлі мне ў нядзелю брыкет. Ігар Чарняўскі з калегаю замучыліся начыста. Яго мілая Ліля карміла ўсіх і паіла. Мне было вельмі дрэнна.

Цалую Вас сардэчна — *Ларыса Геніюш*.

P. S. Адзін айцец Васілій часам возіць мяне на сёлы, да с.п. Мужа з букетам, і ўсё мне нечым дапамагае ад шчырага сваяго хрысьціянскага сэрца.

## 162. ЗОСЬЦЫ ВЕРАС

*Зэльва, 23 верасьня 1981 г.*

Даражэнькая Людвіка Антонаўна!

Сардэчна вітаю Вас з Днём народзінаў! Няхай будзе Вам радасна ў гэтыя дні і ва ўсе дні Вашага плённага і вартага жыцьця!

Спадзяюся, што вып’еце чарку. Жаль, што бяз нас. Дануся занятая працаю ў школе. Мне няма на каго пакінуць маю «пустэльню». Ды і чуюся няважна. Але ўсім сэрцам мы будзем у гэты слаўны дзень з Вамі.

У нас пасьля пахаладаньня пачалася летняя гарачыня. Учора было +25°. Я зусім была спацеўшы, пакуль зайшла да с.п. Мужа. Надта адтуль з горкі прыгожа выглядае нашае навакольле зь сёламі ды сінімі лясамі. Учора быў ліст ад Міхася. «Ня сытыя, але і не зусім галодныя», — піша мой дарагі ўнук. Сын просіць прыслаць яму папяросаў, нявестка — райстопы, а з Зэльвы нічога пасылаць нельга, дык вось сяджу, трымаю ў руках тыя райстопы і бядую, што Міхась і Алесік галодныя. Я пакуль маю што есьці, нейк Бог дапамагае, ды і людзі не забываюць.

Цяпер хачу Вас задзівіць. Я падпісала ўжо і адаслала ў выдавецтва дагавор на кніжку. Падзея ў маім жыцьці вялікая. Вельмі важна гэта зь меркавань матэр’яльных ды і інш. Дануся прыслала мне копію сваяго ўступнага слова да кніжкі, і я заплакала. Напісала яна вельмі сардэчна, разумна, таксама і дыпляматычна. Але ці так надрукуюць?

Кончыла я ўжо рабіць запасы на зіму. Засталося яшчэ крыху памідораў на ежу. Рэжу памідор на скрыгалікі, дробненька сяку часнык з сольлю і перцам і кожны скрыгалік тонка смарую. Усе гэта ахвотна ядзяць. Непакоюся вельмі за сваіх у Польшчы. Так можна папсаваць і здароўе, і нэрвы.

Маі далёкія сябры нешта перасталі мне пісаць, і думаецца мне, што ўжо ўсе пра мяне забыліся. Як заўсёды, моцна перажываю сваю адзіноту і рада за Вас, што ёсьць пры Вас Вашыя найраднейшыя і дарагія. Яшчэ раз жадаю Вам шчасьцечка, цеплыні і добрага здаровячка ды настрою. Вітайце ад мяне сваіх хатніх. Сардэчна цалую і абнімаю Вас.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 163. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 19 лістапада 1981 г.*

Дарагая Данусенька!

Прыслаў рэдактар маёй кніжкі Яўсееў ліста і просіць, каб надаслаць ім яшчэ якіх 500–600 радкоў. Я нешта тут назьбірала і высылаю. Ці не было ў «Гродненской правде» нечага, што не ўваходзіць у кніжку. Калі так, то можа, ты нешта маеш (апрача маіх апошніх), дык пашлі іх Яўсееву, калі ласка. Гэта важна. Кніжка мае быць у цьвёрдых вокладках і там трэба болей вершаў. Як найхутчэй. Во, дзіва!

Перажываю за Віку. І чаму не пасялілі дзяўчо зь якімі славянкамі? У яе, як у кожнага мастака, вельмі токая натура, і ўсе гэтыя экстраваганцыі еменскія плюс «очаровательныя» негры і той сапраўдны мангол ня вельмі будуць натхняць яе на творчасьць. Манголку няхай яна вучыць, як жыць, але на свой кошт яе ня звучвае. Сама тады будзе жыць упрогаладзь. Ці ёсьць там яшчэ беларусы, акрамя Вікі, ці толькі адны арабы і негры? Чаму яны не на «Ленінскіх гарах»? Руская культура ім жа больш патрэбная, і там іх натхняла б сама Масква. Я і ня ведала, што мы такія шчодрыя для ўсяго сьвету.

Ці Віка яшчэ ня сьпіць на зямлі? А можа, еменка перавандравала на ложак? Адным словам — глядзі сваё дзяўчо, каб не крануў яе які «афрыканскі тэмпэрамэнт» ці мангольскі які абычай! А што яе там натхняе на беларускую творчасьць?

5 лістапада пісаў Белакоз з Саюзу пісьменьнікаў у Менску. Ліст прыйшоў учора. Чалавек дзівіцца, што ў нашым Саюзе пісьменьнікаў не чутно беларускай мовы… Ён едзе цяпер у Рыгу на зьезд працаўнікоў такіх музэяў, як у Гудзевічах. Да мяне зьбіраецца летам. Спадзяюся, што дажыву.

Ад дзяцей і ўнукаў няма ні слова! Зьбіраю ім ужо трэцюю пасылку. У суботу імяніны Міхасіка. Усе тваі заўвагі наконт нашых пісьменьніцкіх сакратароў вельмі слушныя. Таму я хачу быць такою, як ёсьць. Бо для нас галоўнай мусяе быць праца, мужная, мудрая думка і доля зямлі і народу.

Ах, зноў мне ў галаве тыя негры… Некалі чэшка нарадзіла малога негрыка і даказвала маяму мужу, што негр за ёю гнаўся, і гэта зь пярэпалаху. Яначка мой сказаў: «Я пэўны, што негр даганіў вас…».

Я думаю, што Віка — эстэт, і ніхто яе не спакусіць, акрамя беларуса, але ўсё ж няхай лепш ходзяць да іх беларусы, чымсьці негры. Я не расістка, але я чула, што яны ня вельмі нас паважаюць, лічаць сябе «вышэйшаю расай». Ну, хопіць пра іх.

Сьпяшаюся на пошту. Цалую Цябе і абнімаю. Эрыка і Валеру — асобна, Бонку — не абавязкова…

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 164. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 4 лютага 1982 г.*

Данусенька, родная!

Ты здаровая? Як Эрык? З Валерыкам на днях крыху размаўляла. Абяцаў мне, што будзе хадзіць па малако. Быў сяньня ліст ад Валі. Усе маі пачкі атрымалі. Просяць яшчэ, і абавязкова — зажыгалку на газе, бо няма ў іх запалак. Ну і ну… Ад нас нічога высылаць нельга. А як там ад Вас? Што чутно ў гэтай справе?

Ты, можа, загневалася за мой апошні цяжкі ліст? Паэт, мусіць, для таго, каб успрымаў і чужое гора і хоць крыху рэагаваў на непатрэбна суровую рэчаістасьць. Жыцьцё магло б быць болей памяркоўным і лепшым, каб ня тыя «элемэнты», якія моцна тут яго ўскладняюць — на шкоду і людзкім нэрвам, і самой дзяржаве.

Пісалі мне, што памёр у Празе М. Забэйда-Суміцкі. Шкада выдатнага сьпевака, ды і шкада, што косьці на чужыне… Болей нічога пра гэта ня ведаю. Пісаў мілы Забель. Яму, як і Зосьцы Верас, празь некалькі месяцаў 90 год! Слаўная дата. Хоць бы тая кніжка мая выйшла, каб паслаць яму.

Ці глядзела па тэлебачаньні агляд выстаўкі мастацкай, прысьвечанай М. Багдановічу? Вяла перадачу Валя Трыгубовіч. Справа ў тым, што шэдэўры, лепшыя працы беларускіх мастакоў, над якімі яны працавалі па паўгода, на выстаўку нечаму ня трапілі. Які жаль… Яны панесьлі, безумоўна, і матэрыяльныя страты.

Ай[цец] В[асіль] у Маскве. Ён на другім курсе Багаслоўскай акадэміі. Мала іх цяпер бачу. Хвароба болей змусіла думаць пра сябе. Міхась ужо паехаў вучыцца. Будзе яму цяжка, бо III курс вельмі важны. Ён зрабіўся нэрвовы з усяго гэтага. Мне пісаў яшчэ Алесік. Талковы, харошы хлопчык. «Pishu Tobie babusiu w tak straszny czas…» Аж сэрца баліць, калі гэтыя лісты чытаю.

Даведайся, Данусенька, як там з тымі пасылкамі ў Польшчу? Калі шлюць з Гродна, дык ёсьць надзея, што і ад нас дазволяць. Да болі мне шкада палякаў. Каб хоць быў год ураджайны, і мы змаглі ім дапамагчы.

Жадаю здаровечка Вам, памыснасьці і шчасьця ў Вашу хату! Як маецца Віка? Ці ня мерзьне Валера? Ці маеце што есьці? Цалую Вас і абнімаю.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

Юра вельмі многа працуе. Наогул у іх цяпер, здаецца, дысцыпліна.

## 165. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 28 лютага 1982 г.*

Данусенька, мілая!

Дзякуй за вестачку! Посьпеху Табе ў музэйнай дзейнасьці, шчасьця ў жыцьці!

Усе гэтыя падзеі ў Польшчы, інцыдэнт тут на месцы мяне даканалі. Паклікалі мяне ў амбуляторыю. Аказалася, што зусім дрэнна з сэрцам. Зрабілі электракардыяграму, навыпісвалі дарагіх лекаў. Уколаў АТФ няма і ня будзе. Але здаецца, мне крыху ўжо лепей.

Вельмі шкадую Надзею Быкаву, але яна хоць сыноў тут мае. Напісаў Юрка харошага ліста. Ад Валі быў ліст па-зьмяінаму зь ядам. Баіцца, каб я не захацела пераехаць да іх перад сьмерцю. Страхуецца. Бог зь імі. Пакуль што яшчэ гляджу на сонейка. Сяньня — праз хмаркі.

Упаў з драбіны Ай[цец] В[асіль] і паламаў нагу. Нага ў гіпсе, і будзе ляжаць ён так 1,5 месяца. Вельмі бядуе ён і мы ўсе тут.

Іван Гнацюк прывёз мне «Неповторність» Ліны Кастэнка. Вельмі цікавыя і вершы, і думкі. Ці ён Табе расказваў пра трагедыю сваяго жыцьця? Цікавая вельмі справа. На што толькі ні здольныя дрэнныя людзі, каб даканаць харошага чалавека! Галоўнае — таленавітага. Два разы канчаў жыцьцё самагубствам…

Не, гэты сьвет ня мае быць такім, якім ён ёсьць сёньня! Трэба хоць крышачку праўды і чалавечнасьці. Асьцерагайся ліслівых людзей, старайся быць сільнай. Апірайся на сына і на Эрыка, больш ні на кога. Ну і ну…

Гнацюк пакуль што яшчэ не пісаў. Якраз прыехаў на 3-я ўгодкі сьмерці с.п. Яначкі. Былі сябры з Баранавіч. Здаецца, быў задаволены, бо я прымала яго як мага лепей. Як удома? Ці ўсе здаровыя? Калі буду жыць, дык сустрэнемся.

Цалую Вас усіх і абнімаю.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 166. ВАЛЯНЦІНЕ ТРЫГУБОВІЧ

*Зэльва, 15 сакавіка 1982 г.*

Даражэнькая Валя!

За ўсё Вам дзякую: і за газэты, і за гарэшкі, якія мяне вельмі ўзрадавалі, і за тое, што Вы недзе ёсьць і памятаеце пра мяне. Валечка мая, дзіця маё дарагое, і як я не дадумалася, чаму так зьмяніўся Ваш тварык?! Цяпер я ўсё ведаю. Не, ня буду дакараць Вас і на калені Вас не пастаўлю. Ведаю Вас, веру ў Ваш розум, інтэлект і факт, які мае быць, успрымаю як ласку і блаславеньне нябёс! Каб жа Бог даў усё шчасьліва і добра.

Хочацца ціхенька, па-жаночаму пашаптацца крыху з Вамі, злагодзіць сумнівы, калі яны ёсьць, ды падзякаваць за самастойнасьць і за адвагу да самага ўзьнёслага чыну ў жыцьці — даць, стварыць жыцьцё чалавеку! Адным словам — цалую! Нічога, што не паведамілі самі. Я Вас разумею.

У мяне ўжо зацьвітаюць пралесачкі, так хораша і шчодра сьвеціць сонейка, што пачынаю здаровець. Нават славутае зэльвенскае начальства бясьсільнае, каб закрыць гэтае сонейка веснавое і для мяне! Прырода куды больш справядлівая для ўсіх, чымсьці людзі. Лісты з Польшчы даходзяць, і сын аж пішчыць, каб прыехаць у Зэльву. Справа выглядае безнадзейна. Просіць, каб пастаралася гэта зрабіць праз нашае пасольства ў Варшаве. Валечка, ці ня ведаеце Вы прозьвішча нашага там пасла і адрас, на які мне пісаць тую пэтыцыю? Гэта вельмі важна.

Справа ў тым, што захварэла я не на жарты. З сэрцам мне дрэнна. Уколаў тут ніякіх. Лечаць таблеткамі. Тая знамянітая мадам сваімі даносамі даканала тут ужо не адну мяне. Мая натура не пераносіць ілжы і нізасьці, а яна і «иже с нею» — гэта тое, што робіць агіднаю нашую рэчаістасьць. Сьвет патрабуе болей праўды, мужнасьці, чалавечнасьці. На 8 Сакавіка была ў мяне пару дзён Эльза Максімава з дачушкай зь Менску. А потым заехала і Аня Фурс з усімі скарбамі са сваёй экспэдыцыі. Учора паехалі. Яна тут многа мне памагла, але я ўсё роўна моцна стамілася. Цяпер мне патрэбны спакой. Напэўна, Вы мяне разумееце, Валечка, але няхай гэта застаецца між намі…

Гэта вельмі харошыя жанчыны, але мне баліць сэрца за Міхася, які вечна галодны, як воўк (так піша Алесь), усімі сіламі стараецца закончыць з посьпехам гэты з усіх меркавань трудны год сваёй вэтэрынарыі.

А цяпер, Валянціна, напішэце мне, калі ўжо зробіце мяне яшчэ раз бабусяю? Ліля Чарняўская абяцае зрабіць мяне бабусяю ў маі! Я тады, напэўна, выберуся ў Менск, калі крыху ўгамоніцца неспакойнае сэрца. А я гляджу па тэлебачаньні: мордачка ня тая, дыхаеце нейк цяжка. І як я не дадумалася? Адным словам — каб хоць усё было добра. Вельмі хачу быць у курсе спраў. Мне здаецца, што я маю на гэта права? А што кажа на гэта Серж? Яго трэба падрыхтаваць адпаведна. І ў такім стане — яшчэ думаць пра гарэшкі для мяне? Ах, Валя, Валя! Што мне Вам прыслаць? Ну, пагледзімо, а пакуль што прашу — не нэрвавацца, памаленьку хадзіць, часьцей быць на паветры і верыць у найлепшае! Дзіцятка на Беларусі — гэта сяньня ўжо дэфіцыт. Калі так у нас пойдзе далей, дык гэта хутка стане унікумам!

Вось ужо даволі позна. Зноў чужыя людзі мне перашкодзілі даканчыць ліста. Усё пра Вас думаю. Сардэчна пацалуйце ад мяне тату гэтага нашага ненароджанага яшчэ дзіцятка, і няхай добры Бог будзе з Вамі. Адна мая знаёмая чатыры гады ня мела дзяцей, а цяпер нарадзіўся ёй хлопчык. Я пазнаёміла яе з др. Каралём, адумысловым гінэколягам з Баранавіч, і — выйшла з бабы дзеўка! Усе шчасьлівыя, і я ў тым ліку!

Цалую Вас і абнімаю і жадаю найлепшага. Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 167. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 18 сакавіка 1982 г.*

Мілая Данусенька!

Колькі ж Табе можна пісаць, каб атрымаць ад Цябе хоць слаўцо! Каб ведаць, як Вы там гадуецеся, і што новага ды цікавага ў Вашым жыцьці? Як Ты «мысьліш і высказваешся», я зь цікавасьцю прачытала, але вось як Ты там дзейнічаеш на новай пляцоўцы нашай культуры, — паняцьця ня маю. Спадзяюся, што ўсе Вы, уключаючы і п. Бону, зь вясьняным сонейкам крыху акрыялі. Са мною — наадварот. Схапіла мне сэрца і не на жарты. Лечаць кроплямі, таблеткамі. Уколаў няма. Ня ведаю, ці што зь мяне яшчэ будзе. Узяло мяне не на жарты. Нэрвы здаюць таксама. Усё не без прычыны, але пра гэта пры спатканьні.

Пару разоў па пару дзён былі госьці з музэя О. Ц[ерашчатавай]. Было цікава, але здароўю гэта не памагае. Наадварот. Хочацца прыняць людзей, а трымаючыся за сэрца, задыхаючыся, гэта труднавата. Сталася гэта нейк раптам. Адным словам, гляджу яшчэ на сонейка, цешуся зь яго. Юра і ўнукі просяць вызаў. Не даюць нашыя, і што тут рабіць? Міхась прыехаў бы і хоць крышачку мне дапамог у гаспадарцы. Пасылкаў яшчэ не бяруць ад нас, а бедны Міхась там галодны (піша Алесь). Пры такой маме, як у іх, яны заўсёды былі галодныя. Цяпер — тым больш… Усё гэта непакоіць. Што з сэрцам рабіць — паняцьця ня маю. Так яго пакінуць ніяк нельга, другое ўставіць немагчыма… Адным словам, узялі мяне за самае сэрца…

Цяжка быць паэтам, беларускім — тым болей. Аб сьмерці М. Забэйды-Суміцкага Ты, напэўна, ведаеш. Шкада чалавека, які і па сьмерці застаецца на чужыне.

Наш айцец Васіль ляжыць з паламанаю нагою і думае, як мяне завезьці да Дануты Іванаўны… Ён першым зьвярнуў увагу на тое, як Ты «мысьліш і высказваешся»… Верны Жук ля маіх ног. Зося забягае штодня, а я — сэрцам ля Міхася і Алеся, думкамі — ля Вас усіх, а сама чахну ў сваёй пустэльні. Такія паперы…

Цалую Вас усіх і абнімаю (акрамя Боны). *Л.*

Ці атрымаў Аляксей Міхайлавіч мой жыцьцярыс, аб якім прасіў? Напішы.
Данууся, Валя Трыгубовіч чакае дзіцятка! Гэта між намі. А Ты?

## 168. ВАЛЯНЦІНЕ ТРЫГУБОВІЧ

*Зэльва, 3 красавіка 1982 г.*

Даражэнькая Валя!

Як Вашае самапачуцьцё, як здароўе? Галоўнае — як настрой, бо ад яго шмат залежыць. Да глыбіні душы кранулі Вы мяне сваёй велікадушнай шчырасьцю мужнай, разумнай і шляхотнай жанчыны. Малюся тут за Вас ня я адна. Трымайцеся, Бог дасьць — усё будзе добра. Вясьнянае сонейка сустрэне Ваша дзіцятка. Кажуць, што народзіцца яно адразу «з палітраю і пэндзьлем», а мастакі нам патрэбныя, ды добрыя журналісты — таксама! Адным словам — я цешуся. Ліля і Ігар Чарняўскія таксама абяцаюць зрабіць мяне бабусяю ў траўні. Калі б ня хворае сэрца, дык я скакала б з радасьці. Лекаў прыслалі зь Менску і Баранавіч. Рабіць уколы адна добрая душа прыходзіць дахаты. З сэрцам — быццам лепей, але моцна панізіўся ціск (магчыма — ад папаверыну), і з гэтай прычыны баліць галава. Слабею нейк. Учора, у чужых людзей, заліло мяне халодным потам, і я ледзь ня ўпала. Паклалі мяне ў ложак. Але такое бывае рэдка. Мой гародчык выграблены, панадворак — вымецены. Зрабілі гэта хрышчоны сынок і суседзі. Цьвітуць пралесачкі.

Тая клятая «мадам» і «иже с нею» сталі прычынай майго нездароўя. Усё вельмі прадумана, усё вельмі подла… Аднак зрабіла яна мне і «услугу». Каб не яна, дык я ўжо ўзяла б грамадзянства — з увагі на маіх сяброў. Але калі я паглядзела бліжэй на «дастойную» рэпрэзэнтантку і супрацоўніцу «дастойнага» зэльвенскага начальства, дык узяў мяне ня страх, а жах! Няхай велікадушна даруе мне нашае ЦК, якое я шчыра паважаю, але болей за яго паважаю праўду, чэснасьць міжчалавечых адносінаў і іншыя маральныя якасьці людзей, пастаўленых кіраваць грамадзтвам! Даруйце і Вы мне.

Я няпэўная, ці выберуся з гэтага «кампоту», але трымацца буду да апошняга! Толькі што быў ліст ад сына. Выйшаў «Беларускі каляндар», але перасылка яго звычайнаю поштаю каштуе 250 злотых. Падурэлі яны там і з паводзінамі, і з цэнамі. Падобнае ня сьмее быць у сацыялістычных, цесна зьвязаных з намі, дзяржавах, бо адаб’ецца такое і на рублі.

Міхась вучыцца, і ўсе яны апрацоўваюць сваю дзялку (30 сотак у Супрасьлі). Яшчэ я да нашага пасла не зьвярталася. Усё чакаю разумных пастановаў на месцы. Ад нас пакуль што нельга ім высылаць пасылак, нават найпасьнейшых.

Быў кароценькі, але вельмі неспакойны ліст ад Белакоза. Дрэнна са здароўем і нагул… Даканалі недзе, беднага, і яго. І каму гэта на карысьць, і каму гэта ўсё трэба? Нельга ж выкарчоўваць з народу і з чалавецтва вялікія парывы сапраўднай культуры! Крыху мяне закранула і адсутнасьць В. Быкава на пахаваньні жонкі. Такіх вядомых асобаў, як ён, абавязваюць этычныя паводзіны, бо зь іх грамадзтва бярэ прыклад! Бо з каго яно браць будзе прыклад? З падобных «мадам», якую тут ведаюць з 55 году, як злы шэлег?.. Пісаць аб ёй мне ня хочацца.

Я была змушаная зьвярнуцца ў пракуратуру, каб яна і «иже с нею» адхрысьціліся ад маяго імя. У суд я на яе не падала, а было б варта. Што ж, нашыя сілы няроўныя… Усё нелягічна, бо я ня знала, ня ведала яе ў жыцьці. Усё вельмі штучна ў іх атрымліваецца, але ай[цец] В[асіль] кажа: «Насколько любят Вас люди, настолько ненавидит начальство»…

Валечка мілая, даруйце, што ўсё гэта Вам пішу, але толькі Вы зможаце зразумець мяне. Падымаюцца туліпаны. Зараз год, як вы былі ў мяне. Я ўсё яшчэ ем тую фасольку, якую Вы памагалі садзіць. У гутарцы з Вамі мне перастала балець галава. Вельмі хацелася б, каб Вы мне прыслалі адрас М. Купавы. Канвэрт зь яго адрасам — загубіўся. А цяпер глядзеце сябе, даражэнькая. Ці не ацякаюць ногі? Крыху рухайцеся. Ня вельмі многа ешце. Няхай лепш дзіцятка расьце ўжо нарадзіўшыся, бо цяжка будзе радзіць.

Удачы, дзіця маё! Буду рада кожнаму Вашаму слоўцу! Усіх, хто памятае мяне, вітаю! Вас і Сержа моцненька цалую.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 169. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 22 красавіка 1982 г.*

Дарагая Дануся!

Зусім слушна Ты на мяне накрычала, толькі я іначай зрабіць не магла. Гэта было б нячэсна — бачыць такую памылку ва ўласнай кніжцы і не зьвярнуць на яе ўвагі. Я ня ведаю, як гэта робіцца тэхнічна, але я думала, што яны проста дадуць «Баравікі». Чаму ўсюды трэба хітрыць, дурачыць і паступаць іначай, чымсьці думаеш? Гэта супраць маёй натуры, і ты ніколі не вымагай ад мяне падобнага.

Узрушыла мяне моцна Твая ўвага, Твой цёплы клопат аб маім здароўі. Пакуль што канчаюць мне рабіць курс АТФ. Будзем бачыць, які будзе рэзультат. Я болей непакоюся за свой нэрвовы стан. Ёсьць на гэта прычыны. Крыху стамілася перад сьвятамі. На сьвяты стамілася яшчэ болей, бо ўсе чатыры дні было поўна гасьцей. Былі нават дарагія Барадачы зь Менску. Дануся, бачыш, у Табе адчуваецца сапраўдная культура. Маючы столькі ўласнага гора, Ты яшчэ думаеш пра маё здароўе, маё жыцьцё. Дзякуй, Данусенька, вялікае дзякуй. Я яшчэ ня радзілася са сваёю лекаркаю. Мне зноў прывезьлі ўколы АТФ зь Менску.

Учора быў ліст ад Валі. Усе вучацца, працуюць, а яна папераджае мяне, што калі прыедзе хто ад іх, то толькі на коратка, бо шмат працы ў хаце, а «рабочая сіла» сяньня дарагая… Піша, што патрэбны быў бы ім транспарт… Што ж, няхай яго купяць і езьдзяць, здаровыя. Думае толькі пра сябе. Бачыш, зусім-зусім інакшы чалавек, чымсьці Ты. Ня ведаю наагул, ці іх сёлета пусьцяць.

А з кніжкаю ўжо што будзе, тое будзе! Вельмі добрыя Твае вершы ў «Полымі», асабліва маленькі — дачушцы. Калі б ай [цец] В[асіль] ехаў у Гродна, дык папрашу яго, каб узяў. Рэдка яго цяпер бачу, бо і на гэта ёсьць прычыны… Узрушыў мяне вельмі, кажучы: «Малюся, каб усе Вашыя хваробы перайшлі на мяне. Я вытрымаю…» Зьнялі яму гіпс, але крыху кульгае. Усё працуе, усё дзейнічае.

Хаты маёй ня зносяць, толькі кусок хлява і гароды.

Усяго Вам найлепшага.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

Гэтымі днямі нешта народзіць В. Трыгубовіч. У маі нечым пацешыць Ліля Чарняўская. Люблю, калі родзяцца дзеткі. *Л.*

## 170. АЛЯКСАНДРУ КУЗЬМІНУ

*Зэльва, 25 красавіка 1982 г.*

Шчырапаважаны тав. Кузьмін!

Далучаю Вам копію маяго ліста ў ПМК, каб Вы маглі крыху арыентавацца ў маім тут становішчы. Палова нашага дому — дзяржаўная. Вось там і жыве ўжо амаль 20 гадоў побач са мною А. В. Канюшэўская. Многа нам давялося пацярпець ад гэтых людзей. Неяк сорамна было зьвяртацца ў міліцыю, чалавек дароўваў, стараўся забыць крыўды. Ды я і не сварылася зь ёю ніколі. Але цяпер, пад уплывам некага, яна проста нагла на мяне нападае. Жыць стала невыносна.

Я Вам прывяду толькі пару прыкладаў яе дзеяньняў. Падараваў мне калега мужа маленькага шчанючка, каб не было мне так адзінока. Вырасла зь яго прыгожая аўчарка. Днём я трымала яе на прывязі, на ноч брала дахаты. Аднойчы быў рамонт, і аўчарка начавала вонку. Ноччу я чула гоман у суседкі. Было тры гадзіны ночы. Пасьля пачула брэх і візг сваёй сабакі. Я баялася выйсьці, бо ведала, на што здольныя суседзі. Адзін зэльвенец паклікаў нас з сынам і сказаў яму, каб ехаў зь ім па аўчарку, што яна ў Гродне. Я сына не пусьціла, ён гасьціў у мяне тады. Не заявіла і ў міліцыю, хоць суседзкія хлапчукі знайшлі сьляды туфляў Канюшэўскай, і — як упіралася сабака. Яны вельмі шкадавалі сабаку, бо бралі яе з сабою на рэчку і ў лес…

І вось неяк Канюшэўская паехала недзе на цэлы дзень з Іванам Буткевічам, сваім сябрам. Вечарам яны доўга пілі. Назаўтра быў жах па ўсёй Зэльве — Іван Буткевіч зарубаў сына, нявестку і трох унукаў. Сам павесіўся. Сваякі нявесткі казалі, што згінуў кавёр зь яе хаты, калі забівалі… Усе казалі, што ён у Канюшэўскай. Я ня бачыла яго, але жах мяне браў, калі аб гэтым думала… Зразумейце мяне. Якраз цяпер два

гады мінула ад гэтай падзеі. Жонка Буткевіча ўвесь час у Канюшэўскай. Мне і шкада яе, і крыху страх. Сын Канюшэўскай нігдзе не працуе. На днях адседзеў 10 сутак у міліцыі. Казалі мне, што ён грозіць выразаць сваю сям'ю, як Буткевіч, а маці, якую ён лае страшнымі словамі, спаліць… Ён б'е ёй вокны, калі там п'янкі, а яму не даюць гарэлкі. П'янкі там часта — з працаўнікамі гарсавету, які насупраць… Так тут страшна, страшна…

Мой ліст разглядайце як прыватны, і як сільны і добры чалавек, дапамажэце мне, парадзьце, што мне рабіць. Гэта хата продкаў маяго мужа. Інакшай ня маю, але нават тыя рабочыя зьдзіўляліся, як я тут жыву, упрошвалі, каб я ратавалася. Канюшэўская карыстаецца падтрымкаю гарсавету. Яна моцна партыйная, сын быў у партыі таксама, але ці сяньня ў ёй — ня ведаю.

Так што яны могуць тут рабіць са мною, што хочуць. І ратунку ніякага, бо ўсе тут адзін на аднаго падобныя, і нейкая ў іх кругавая парука. Мне найлепей выехаць згэтуль зусім, і я прашу ў гэтым Вашае дапамогі.

*Ларыса Геніюш.*

## 171. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 29 красавіка 1982 г.*

Данусенька, дарагая!

Ня думаю, што Тваі справы ідуць так дрэнна, як Ты пішаш. А будучае не прагназіруй! Яно можа быць самае добрае яшчэ: у нашай працы, у дзецях, ва ўнуках, у справах Бацькаўшчыны. Будучае, на шчасьце, прыходзіць часта адноўленым, якога мы і не чакаем. Ну, бывае і іначай, але ў цябе заўсёды сьветлыя ідэі, а на сьветласьць прыходзіць сьветласьць таксама! Я ўжо хаджу, капаюся ў гародчыку, нешта раблю ў хаце. Гэта не вясна, а 45 уколаў дайшлі нарэшце да маяго сэрца. З хаты цяпер ня варта ехаць, бо па сэрцы цяпер трудна пазнаць яго сапраўдную вартасьць, ды і безьліч гатовых да квітненьня туліпанаў і нарцысаў не дазваляе мне пакінуць іх на ласку-няласку нашай зэльвенскай «культуры».

Як я табе пісала, мест нашых гародаў цяпер — возера! Загаралі ўсё бульдозерамі, каб мы там нічога не садзілі (нам хапіла б на гэта і слова!). Ад мяне бяруць кусок хлява, і то суседчын, дзяржаўны, але з нашага двара. «Стройка» пачнецца на зіму, і загадзя нас ужо палохае кантынгент яе перадавікоў… Але гдзе нам падзецца, калі ўсё тут ня наша… Сябра Васіль не ў настроі. Амаль не паказваецца. Хаты яму не даюць, гароду садзіць няма гдзе, ядзяць поедам і т. п. На могілкі завёз мяне яго сынок. Спраўна водзіць машыну.

Акрамя колькі «мілых» слоў ад Валянціны зноў няма вестак з Польшчы. Трываю. Кніжкі В. Коўтун у нас няма. Няма і «Дня паэзіі — 81». Наагул, дык тут нічога цяпер няма, акрамя Канстанцыі Буйло (двухтомнік). В. К. я не люблю. Абманулася ў ёй аднойчы, як і некалі ў Ірыне К. Любіць кар'еру. На 1 мая запрасілі мяне Белакозы на вясельле сына. Запрасілі запозна, дык пашлю тэлеграму. Адчуваю, што мая прысутнасьць там неабавязковая. Бог зь імі, гэта ж не сваякі. На 1 мая ёсьць кусочак цяляціны. Нешта, можа, сьпяку.

Цалую Вас усіх і абнімаю.

Ваша *Ларыса Геніюш.*

## 172. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 12 траўня 1982 г.*

Дарагая Дануся!

Няма вестак ні ад цябе, ні ад Юры. Непакоюся крыху. Зноў мне выпісалі нейкую мікстуру. Уколы будуць даваць праз месяц. Сэрца — нікуды ня вартае, нэрвы — таксама. Надта злавалася, калі мне парвалі першыя туліпаны. Проста з карэньмі, з цыбулькамі. Усе пазрэзвала. Расьцьвілі ў букетах. Занясла іх у царкву. Паставіла радам дзьве вялікіх сьвечкі — за Расьціслава і Аркадзя. А сама пайшла яшчэ з кветкамі на курган. Даволі лёгка на яго залезла. Цэлы дзень душылі мяне сьлёзы…

Быў парад. Настолькі грандыёзны, што «бралі» нават «рэйхстаг»! Гэта найболей падабалася хлапчанятам. Мне падабаліся дзядзькі ў пасталах. Яны ішлі, як некалі, і засявалі поле. Вайны не магу спакойна бачыць. Люблю, калі сеюць. Люблю таксама добраадносіны зь людзьмі ў любым маштабе. Учора чытала Буйлянку.

Узрушылі мяне дзьве весткі. У Лілі і Ігара [Чарняўскіх]— сынок! 3800 — вагі, 53 см — росту. Нарадзіўся без барады. У Валі Т[рыгубовіч] — сынок! 4 кг. 56 см. Усе шчасьлівыя, але замест дзякаваць Богу п’юць, здаецца, гарэлку. Ігар пісаў, яшчэ ня бачыўшы хлопца: «Ён беленькі і кучаравенькі, як мама». Ці ж ёсьць большая радасьць на сьвеце? Валя ня ведае, як назваць сына — Ян, Яначка, Іван? Ананімны тата хацеў дачушку. Адным словам, буслы прыляцелі ў пору. Дзякуй Богу, што яшчэ яны ў нас зусім не зьвяліся.

На вясельле да Белакозаў на 1 мая ня езьдзіла, бо куды ж з хворым сэрцам?

Ай[ца] В[асіля] мала цяпер і бачу. Усё нэрвуецца дзеля кватэры. Не даюць людзям царкоўнага дома. Тая «мадам», любіміца нашага начальства, зьдзекуецца над ай. В. як хоча. Ён аж пасівеў. І сьмех і бяда, бо гляджу раз з раніцы — бяжыць бедны айцец, і адразу ў туалет… Царкоўны дом і царква — адна цэласьць, і туды некалі сьпяшаліся ўсе: той вады напіцца са студні, той, калі прыперла, дык па сваёй патрэбе. «Мадам» са злосьці засыпала студню. 6 кашоў адных бутэлек туды ўваліла, а туалет проста замкнула. Людзі злыя, як ваўкі. Айцец Васіль сівее, а начальства пацірае рукі, гэткім чынам уводзячы атэізм у чалавечыя душы. Дзіва толькі, што ў сяньняшні час няма для іх больш важных спраў і праблемаў у час, калі ў Маскве склікалі той знамяніты хрысьціянскі зьезд! Людзі, безумоўна, усё разумеюць і робяць сваі вывады.

Некалі панам так ня кланяліся, просячы кусочак зямлі, як сяньня — зэльвенскаму начальству, просячы свае ўласнай хаты, якую пабудавалі бацькі іх уласнымі рукамі. Хадзілі і масава, і групамі, і ў адзіночку. Абівалі парогі. Як негры. Балюча і крыўдна.

Сяньня на зялёнае гольле вецер нейк шуміць і студзіць па-восеньску. Я запаліла ў печцы. Жук набегаўся крыху і цяпер раскашуецца ў цяпле. Як я Табе пісала, дык гароды забралі нам, загаралі іх бульдозерам. Цяпер там амаль возера. Хаты маёй зносіць ня будуць. Адно бяруць кусок хлява і панадворка. Будаваць пачнуць, здаецца, зімою.

Гэта Ты дала вершы ў «Гродзенскую праўду»? Атрымалася зусім добра! Як Твае хатнія і музэйныя справы? Што думае рабіць Валерык? Што новае купілі для Вікі? Такі час, што трэба яе хораша апранаць. Валеру — неабавязкова. Як чуецца Эрык? Нечаму надта мне яго хочацца бачыць. Калі б была якая магчымасьць, дык, можа, прыеду на пару гадзін. Ай[цец] В[асіль] цяпер моцна заняты сваімі справамі. Яму не да мяне.

Архіў М. Забэйды, здаецца, дазволілі забраць у музэй О. Церашчатавай. Вельмі разумна зрабілі.

Сёлета ў мяне будзе безьліч туліпанаў. Варта было б павырываць іх ды пасадзіць там тое-сёе з гародніны, але рука не паднялася… Пачынаюць цьвісьці. Тыя першыя былі раньнія, з Сочы.

З болем думаю, што і сёлета не дазволяць прыехаць Юрцы і ўнукам. І што тут пачаць? Ёсьць у мяне адрас нашага пасольства ў Варшаве, можа, напісаць туды? І што Ты мне парадзіш? Табе там відней. Можа маеш «лішнюю Коўтун» і «Дзень паэзіі — 81»? Да нас амаль нічога не завозяць зь беларускіх навінкаў. Буйлянкаю я не асабліва захоплена, хваліцца надта. Тут трэба, каб людзі хвалілі, а не сам сябе…

Посьпехаў Табе ў кожнай галіне Тваёй дзейнасьці! Цалую Вас усіх. *Л.*

Прачытала «Письма из русского музея» Салаухіна. Уражаньне — цёплае.

Усе сьвяты прайшлі крыху зь людзьмі, з гарэлкаю, з думкамі пра ўнукаў і пра Вас усіх, блізкіх маяму сэрцу. Цалую і абнімаю. *Л.*

## 173. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 20 траўня 1982 г.*

Дарагая Дануся!

Няма доўга ліста ад Цябе. Знача — Ты не атрымала майго апошняга. Сяньня ёсьць нагода напісаць Табе ня з Зэльвы. Як маецеся, як чуецеся? Як Эрык? У нас усюды квітненьне, ад вішняў пачынаючы, канчаючы туліпанамі, якіх — безьліч. З сэрцам зноў пагоршала. Дзіва няма. Цяпер, акрамя несусьветнай хлусьні, насылаюць на мяне розных п'яніцаў. Тыя аж падаюць, ідучы ў маю хату. За імі ідуць дзьве «мадамы». Адна — прадстаўніца зэльвенскай улады. «Ах, какие пьяныя поэты!» Я з плачам уцякаю з хаты да сваякоў. Ліда выклікае на дапамогу другіх сваякоў. П'янага чалавека адводзяць. Назаўтра, раней крыху, паяўляецца другі… Пачынаю сварыцца. Страху — ніякага, бо жыць ужо даўно надаела, але нейк гадка ўсё гэта. Агідна.

Добра, што хоць напісалі Міхась і Юрка. Сюды іх клікаць проста небясьпечна. Тая дзяўчына мелася выходзіць замуж, але цяпер чакае толькі на Міхася! На мяне яны нечаму злосныя. Баюся вельмі за Міхася. Шкадую, што няма Машэрава. Ай[цец] В[асіль] пасівеў. Зь яго цяпер — камок нэрваў. Генеральны пракурор прызнаў царкоўны дом за цэркваю. Мясцовае начальства гэтага — не прызнала! Дазволілі «мадам» засадзіць царкоўную зямлю. Ля храма нельга ставіць туалета. Карысталіся тым, у царкоўным доме. «Мадам» яго закрыла на замок. Студню засыпала, так як за кошт царквы правялі ім некалі воду ў хату… Людзі моцна абураныя. Я не мяшаюся ў гэтыя справы. Ай[ца] В[асіля] бачу рэдка. Учора прыходзіла ягоная жонка, уся зьбедаваная. Сяньня ўсе ў Жыраве.

З хворым сэрцам жартаў няма, але зноў Табе паўтараю — страху ніякага! Не магу толькі сьцяміць, якое бяды яны да мяне так чапляюцца? Я рэдка нават з хаты выходжу, зусім хворы чалавек.

Цалую Вас усіх. Калі баішся, дык не пішы!

*Л.*

## 174. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 29 траўня 1982 г.*

Дарагая Дануся!

Спазьнілася з адказам, бо было мне не да лістоў. Цешуся, што Ты акрыяла крыху на Магілёўшчыне, што будзеш цешчаю. А я ўсё думала, што Віка — дзіця… Вось табе і будзе жонкаю, мамаю, гаспадыняю і мастаком. Радасна ад такой весткі. Карамазава я некалі бачыла, разумны ён хлапец. Добра, што мае машыну. Як чуецца мілы Эрык? Куды направіць свае крылы Валера?

Я ведаю найлепей, як гэта жыць, вечна чакаючы новых подласьцяў, цярпець і плакаць паціху. Даўно не мяшаюся ў справы царквы. Ай[ца] В[асіля] ніколі ня бачу, але ля «мадам» апынуўся нейкі кляты жыд. Некалі ён рабіў на пошце, і я зьвярнулася да яго з пратэстам, што лісты, нават ад Максіма Танка, прыходзяць з абадранымі маркамі. Ён мне кажа: «Ну а што там М. Танк? Я раскулачваў ягонага бацька ў 1939 годзе». Мяне закалаціла, і я аб гэтым напісала тады нашаму Максіму. Вось ён цяпер разам з «мадам» апавясьціў, што кватэру, можа, і дадуць, але ён гэтага «папа» пастараецца з Зэльвы выжыць, царкву — закрыць! Сьвятар вінаваты ў тым, што будучы ў Поразаве, наязджаў у Зэльву і затрымоўваўся ў Л. Г. «Ён зрабіўся такі, як яна!» Беларус! Трэба яго праганяць! Ты чула падобнае? Усю царкоўную зямлю аддалі «мадам». Наўмысна, каб яшчэ раз прыніжыць народ. Папрасіла я ай[ца] В[асіля] і яго сям'ю, каб не заходзілі да мяне ў інтарэсах уласнай бясьпекі. Што яшчэ тут будуць чаўпсьці нада мною — ня ведаю.

Быў Ю. Голуб. Хоча, каб я ехала з зэльвенскімі літаратарамі ў Гродна выступаць па тэлебачаньні. Ніяк не магу гэтага зрабіць у падобных варунках. [...] Лістоў — ніякіх. Пісаў мне толькі М. Ермаловіч. Нейкі Трусаў, які працуе ў Гродне ў музэі атэізму, напаў на яго (езьдзіў аж у Менск) за артыкул у Нёмане. Да артыкула М. Ермаловіча вельмі варожа аднесьліся літоўцы, і гэта было імі інсьпіравана. Ермаловіч сам хворы. Моцна перажывае. Усе свае гістарычныя інфармацыі ён заўсёды бярэ зь першакрыніц, і таму яны праўдзівыя. Вартыя і на карысьць Беларусі. Шкада Ермаловіча.

Дзеці і ўнукі зноў ня пішуць. Няма ніякай весткі і ад Валі Т[рыгубовіч]. Пісала толькі Ліля, што сынок падрос і падобны на тату… Знясуць толькі кусок хлява, але маі туліпаны застануцца. Камісія, калі іх убачыла, ахнула. Ужо перацьвілі, але было іх — сотні. Акрамя дабра, нічога мы з мужам людзям не зрабілі, асабліва тут, у Зэльве, і чаму гэта такое цкаваньне, такое нашэсьце ўсякай набрыдзі на маё імя? Аднойчы прыйшлі па кветкі два кавалеры. Адзін прасіў даць яму букет адных чырвоных туліпанаў. Я нарэзала, але папыталася, як ён называецца? Кажа — Сяргей Сончык… Я зьбялела. Гэта так вырас той хлопчык, якому ты некалі падпісала сваю кніжку… Усё стала перад вачыма, і той данос… Я адышла.

Залпам, адным глытком прачытала Мальдзіса «Беларусь у люстэрку мэмуарнай літаратуры XVIII стагодзьдзя». Раджу Табе прачытаць. І сяньня гэта амаль аналёгія… Пакуль той настаўнік жывы, але, можа, гдзе на курорце. Даведаюся — дык напішу. Апошнім часам яго ня бачу.

Мая Ты дарагая «Паэзія», рада, што разумелі Цябе, што слухалі, што Цябе бачылі. Як Твой настрой сяньня? Зноў выглянула сонейка, і крыху лягчэй. Ноччу быў гром і дождж. Думаю, як тут дажыць, дацярпець свой век? Калі ж будзе канец крыўдам на Беларусі? Апошні мой ліст кінулі Табе ў Гродна. Ці Ты яго атрымала?

Цалую Вас усіх і жадаю найлепшага.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

Калі ёсьць, дык купі мне ў Гродне Мальдзіса і «Дзень паэзіі — 81». *Л.*

## 175. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 1 чэрвеня 1982 г.*

Данусенька, родная!

На днях паслала Табе заказнога ліста, а ў чора атрымала Твой ад 27 траўня. Не грашы на дзяцей, яны ў Цябе лепшыя. Як і ў другіх бацькоў, яны ў Цябе здольныя і харошыя. Разумею твой неспакой адносна мілага Эрыка. Кажаш, ён пахудняў? І як дапамагчы яму і чым? Ад паносу ведаю толькі адзіны лек — конскае шчаўе. Выкапаць з карэньнем,

лісьцямі і запарыць. Сьмешна, але я гэтым лячыла і тых, у якіх панос трываў бяз поправа тры месяцы. Дапамагала. Рэцэпт маёй мамы. Не наракай на жыцьцё, на долю, калі яшчэ птушаняты прылятаюць дамоў.

Сяньня — 23 гады Міхасю! Ніякай магчымасьці яго ўбачыць, ні пазваніць, ні паслаць падарунак ад «найболей у сьвеце каханай бабусі», як піша. І ці наагул калі іх убачу? Бо здароўе вельмі ненадзейнае.

Сама Ты яшчэ маладая, таленавітая, прыгожая і сільная, каб трымаць сваім сэрцам сямейку. Дзякуй Богу за гэта, трывай і рабі ўсё, каб — лягчэй Эрыку, лепей дзецям. Аб сабе забудзься пакуль што. Пакіруй сяньня імі, бо гэта іх час, іх старт. Нічога не ўпусьці і з парады, і з дапамогі. На людзей ня гневайся, яны ўсе вельмі занятыя сваімі справамі, а іх хапае, асабліва балючых і дрэнных. У сэрцы кожнага ёсьць месца і для Цябе, але важней кроўнае, асабістае.

Сяньня ў Зэльве — «Харошкі». Пайду на іх паглядзець. Страпянуся крыху ад шэрасьці, хамства і правакацыяў. Ніхто і да мяне цяпер амаль не заходзіць. У Зосі — вялікі «дзяржаўны» рамонт. Трэба «публіку» і падкарміць, і падпаіць, каб нешта атрымалася. Расьцьвілі чырвоныя півоніі, як заўсягды на дзень народзінаў дарагога ўнука. Паглядаю на іх і ўспамінаю малое дзіцятка, якое расло ля маяго сэрца і прырасло да яго назаўсёды. Таму Богу дзякуй, што бачыш сваіх найдарожшых, што яны ля Цябе. Я толькі Бога прашу, каб спакайней, каб не закранула вайна ўнукаў маіх, як некалі дарагіх Братоў.

Крыху зноў баляць ногі. Гэта бывае заўсёды перад непагодаю. Глядзі, не сумуй, мая Ты чулая, родная і найлепшая. Я веру Табе і ў Цябе. Мы — паэты — крыху падражняныя заўсёды, з напятымі нэрвамі, адчуваем тое, што прыйдзе. Ніколі не абыякавыя ў барацьбе зла з дабром. Гэта ня толькі ў рэлігіі, гэта актуальна ва ўсіх законах. Думаю, што барацьба гэтая будзе вечнай, бо людзі родзяцца недасканалымі, і ня ўсе ўспрымаюць, як натуральнае, мудрыя законы маралі і этыкі, напрыклад. Ад’емнае, хоць у рэзультаце і згубнае, болей іх вабіць. Трэба навучыць людзей любіць харошы сьвет і мірнае навакольле і яшчэ ўдасканальваць яго, а не выкарыстоўваць.

Ня вешай галоўкі таму, бо шмат у нас працы наперадзе. Пасылаю Табе крыху сваіх думак. Часам вырвецца з душы.

Цалую Вас усіх і абнімаю. *Ларыса Геніюш.*

Абсалютна адышла ад усіх грамадзка-царкоўных спраў, а мне ўсё не даюць спакою. Не магу зразумець прычыны такой тактыкі. Твая *Л.*

## 176. ВАЛЯНЦІНЕ ТРЫГУБОВІЧ

*Зэльва, 9 жніўня 1982 г.*

Даражэнькія!

Дзякуй вялікае за прысланыя кніжкі. Цалую Вас, і няхай мне даруе дарагі Яначка, што прыношу клопат ягонай маме. Валечка, ня гневайцеся, што сяньня напішу мала. Сьпяшу паслаць Вам хоць 10 руб. за кніжкі і артыкул, які напісаў у «Гродненской правде» Аляксей Пяткевіч.

6 жніўня ў 18 гадз. 20 мін. перадавалі мяне па Гродзенскім тэлебачаньні. Былі тут Юрка Голуб, Дануся Бічэль-Загнетава зь зяцем. Ну, і апэратар. Хата выйшла зусім прыстойна. Я — меней прыстойна. Такіх бабусяў ужо ня трэба паказваць людзям.

Гладзіолусы мае, на якіх той «дзеяч» хацеў ставіць уборную, вельмі хараша рэпрэзэнтаваліся па тэлебачаньні. Ганак і хата — таксама. Нават Жук туды трапіў. Мяне крыху пакінулі ў спакоі. Згарэў склад збожжа ў «Заготзярне» (300 тон). Не зусім згарэў — залілі вадою, дык ёсьць ім цяпер чым займацца, апрача маёй асобы.

Яшчэ ўсё мяне віншуюць. І сяньня атрымала цудоўныя кветкі і цукеркі, а ўчора — ружы, і так амаль кожны дзень. Лекарка-кардыёляг з Гродна, якая кансультавала с. п. Яначку, нечаму заглянула да мяне. Добра выслухала. Не ўзяла нават грошай за лекі… З сэрцам —крыху лепей.

Людзей частую, чым маю. Ёсьць і чарка. «Голасу Радзімы» не атрымоўвала. Магчыма, не аддавалі. Атрымала на днях — цэлую пачку! Дзякуй вялікае. Пачала газэта зьяўляцца ўжо і ў нас. Не турбуйцеся. Прысылайце толькі калі што вельмі цікавае. З Мальдзісам таксама не турбуйцеся, каб ня скрыўдзіць Яначкі. Пашлеце пасьля. Кніжку з аўтографам лепей Вам цераз каго перадам. Заходзіў В. Мазго з нарачонай і кніжкай.

Цалую і абнімаю Вас. Яначку цалую ў лапанькі.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 177. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 29 жніўня 1982 г.*

Данinformal, мілая!

Цешуся з усіх Тваіх перамогаў. Няхай Табе добра пішацца, і ўсе радасьці і роздумы выліваюцца ў творчасьць. Забылася Табе напісаць наконт Смоліч. Я яе бачыла ў Караткевічаў, жыла яна апошні час у Кіеве пры дзецях. Даўно ўжо памерла. Больш аб іх можа Табе сказаць Валодзя Караткевіч. Смоліч сябравала зь яго мамаю. Была гэта вельмі адукаваная і цікавая жанчына. Аднойчы мы спалі зь ею на адным ложку ў Караткевічаў.

Адносна нашай дарагой Зоські Верас, дык памятай адно: дата 90 г. для яе — сапраўды балючая дата. Вітаючы яе, нейк скрытна абміні 90, але не падкрэсьлівай гэтага! Яна ж куды малодшая і духам, і розумам за тыя 90 год. А як яшчэ яна нам усім патрэбная!

Сяньня я болей ляжу. У цэркві сьвяцілі зельлечка. Гэта было цудоўна. Поўны храм жанчынаў з кветачкамі, з такімі замыславатымі, што ад усяго памагаюць. А самі таксама — як кветкі. У сваіх каляровых хустках, з рукамі, моцна спрацаванымі, і з вачыма — як кусочак неба. Я не выстаяла да канца, нягледзячы на валідол.

На днях быў сябра з Комі АССР. Памятаў яшчэ сякія-такія звароткі з даўніх вершаў. Ледзь не самлела… Каго бярэ мой слаўны Дубенец? Прывітай яго сардэчна ад маяго імя і сэрца. Пажадай ім вялікага, сьветлага шчасьця. Добры ён хлопец.

Віку сама не лячы — нават зёлкамі! Такое каб не пашкодзіла будучаму дзіцятку! Галоўнае цяпер — глядзі Віку.

Цалую Вас усіх і абнімаю.

Ваша *Ларыса Геніюш.*

З такім здароўем, якое маю сяньня, будзе мне нельга паехаць у Вільню.

## 178. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 1 лістапада 1982 г.*

Дарагая Данися!

Вершы (пераклады) я ад Цябе атрымала, а абяцанага ліста няма і сяньня. Нейк доўга яго правяраюць… Як Твае справы? Як мілы Эрык? Як дзеці? Ці ўсё спакойна? У мяне па-ранейшаму. Тая клятая ўборная «красуецца» сярод яблынькаў… Ажно сэрца баліць. Яна ўжо для мяне — як сымбаль зэльвенскага ладу… Звыкаюся.

Быў у мяне сябра Граблеўскі. Доўга гутарылі. Беручы пад увагу велікадушнасьць нашага ЦК, якое, думаю, зла мне не жадае, я абяцала нікуды ня ехаць пакуль што. Зьнываю тут душою, хаджу на ўколы. Здароўе ня лепшае. Сяньня быў ціск 120 на 70. Вельмі нізкі.

Ад Юры і ад унукаў — ні славечка! Пісаў Ф. Янкоўскі. Купіў, прачытаў маю кніжку. За пару дзён зноў пайшоў у кнігарню і за ўсе грошы, якія меў у кішэні, купіў іх 11 штук і ўсе парассылаў людзям. Дзьве — паэтам! Я была ўзрушана яго ўвагаю да настоенага на нашым зельлечку.

Многа не пішу, бо магу толькі біцца — такі мой сяньня настрой. Найгорай са здароўем. Не палохайся толькі. А можа быць, сапраўды мяне тут «аблучылі», як казалі тыя баптысты. Трывожна мне тут, Дануся… А што будзе, калі занемагу? Адно нейкае хлапчанё мне піша, што сто сяброў прыедзе мне пілаваць і сячы дровы — толькі паклічце. Ноччу Жук вартуе мяне. Часамі бывае Зося, але ў яе свае клопаты, радасьці, беды. Як «рамантуюцца» вершы?

Цалую і абнімаю Вас усіх.

Ваша *Ларыса Геніюш.*

А што наш дарагі М. Танк чуў і бачыў у Польшчы — ня ведаю. Ня піша. *Л.*

## 179. ВАЛЯНЦІНЕ ТРЫГУБОВІЧ

*Зэльва, 26 лістапада 1982 г.*

Даражэнькія!

Нарэшце быў ад Вас ліст. Усьцешылася, што хоць усё добра. Вялікае дзякуй за выразкі з газэты. Пра Гудзевічы ў мяне не было. Ня кожны «Голас [Радзімы]» даходзіць сюды.

Богу дзякаваць, што мы зубатыя. Колькі ўжо зубочкаў? Беднае дзіця — амаль усе іх крыху адхварэе. Нічога лёгкага няма ў жыцьці. Нават зуб праразаецца з болем. Др. Спок, пішучы сваі парады для дзяцей, не ўлічыў нашай гукаізаляцыі ў новых дамах, але так ці іначай ён нічога іншага не парадзіў бы. Безумоўна, прывучыць Яся да люляньня — бяда. Калі б так дарослага ягамосьця пакласьці ў нешта і трэсьці, і то галава разбалелася б.

Што да Вашых зубоў, дык трэба было ў час цяжарнасьці прымаць таблеткі вапны. Жаль — ніхто Вас не папярэдзіў. Малы «эгаіст» Ясь забраў Вам шмат вапны з арганізму. Столькі, колькі яму трэба. Вось і бяда з зубамі. Лячыць іх трэба неадкладна — як для здароўя, так і для прыгожага выгляду. Калі б яшчэ раз задумалі зьдзівіць нас якім Кастусём, брацікам Яся, дык адразу ў свой штодзённы рацыён уключайце таблеткі вапны. Пры Вашай сьветлай галаве, энэргіі і адвазе ад Вас яшчэ можна спадзявацца подзьвігаў! Крыху жартую. Падумаўшы, аднак, дык найбольшы ўклад у беларускую скарбонку — гэта пакінуць Беларусі вартых, разумных і верных сыноў. Сяньня гэта — цяжка, але гэта трэба рабіць. Якія б звышракетныя і звышкасьмічныя прамудрасьці ні панавалі на сьвеце, найбольшая зь іх — гэта сеяць хлеб і радзіць спраўных Ясяў!

Шкода Вас крыху, што не дасыпаеце, але нічога дарам не даецца, нават пачатковае выхаваньне Яся. Усё, што робім для іх, — і цяжка, і радасна, таму гэта дорага, міла для нас. Наконт Сержа, напэўна, Вы абдумалі добра. На журфак яго не накіруеце, дык няхай вывучае тое, што любіць. Будзе карысьць. Ці зможа ён пасьля тэхнікума яшчэ пайсьці ў інстытут? Гэта таму, каб Вы далі яму ўсе магчымасьці творчае працы ў гэтай галіне. А што будзе зь Ясем? Вось гэта і цікава ў жыцьці. Бяда толькі, што вёска наша аддае гораду і хлеб, і мяса, і малако, і сваіх сыноў найчасьцей. Жаль — горад ёй іх не вяртае. І што з гэтага атрымаецца? Зямля патрабуе не праграмы, а чулых гаспадароў.

Пагода ў нас — як у мяшку. Але я амаль пакінула браць лекі і нейк трываю. Гуляю на вясельлях. Сапраўды. То — сваякі, то — добрыя суседзі, і нельга адмовіцца. А вясельлі «купеческие» — на сотні асоб. Нешта выкармяць, прыгадуюць на карысьць харчовай праграмы, і — сталы гнуцца. Болей не пайду, бо заўсёды мушу вітаць. Най-

часьцей —вершам, дык баюся, што выйдзе зь мяне на старасьць нейкі трубадур вясельны. Як трафеі — найлепшыя шышкі з караваю.

Валечка мілая, і я тут зусім ізаляваная ад вялікага сьвету, людзі зь якога ўжо начыста пра мяне забыліся. Ня ведаю нават, ці атрымаў Ф. Янкоўскі мой ліст? Паведаміў мяне, што за ўсе грошы, якія меў у кішэні, купіў 11 шт. «На чабары настоена», парассылаў людзям. Дзьве — паэтам. Дык я дзякавала яму за гэта. Калі б хто мяне ганіў, дык ліст прыйшоў бы і туды, і сюды. Такая ўжо мая доля…

Пісаў мне адзін сябра з Польшчы, што там вельмі хораша прайшлі Купалаўскія і Коласаўскія дні. М. Танк выступаў па-польску, А. Мальдзіс — па-беларуску і па-руску. Былі зьмястоўныя артыкулы пра Беларусь у польскай прэсе. Падобныя суседзкія адносіны мне падабаюцца. На днях быў ліст ад Міхася. Стараецца, вучыцца, а бацька з Алесем (малодшы ўнук) гаспадараць на дзялцы. Пасадзілі 100 кустоў розаў. Кролікі гадуюць на сьвяты і т. п. Гэта і выгадна, і спакайней. Палю пакрысе ў печцы, дык у хаце зусім цёпла. А ці цёпла ў Вашай хаце? Ці вывозіце Яся ў лясок? Як з кашлем? Націрайце яму ножанькі і грудкі тарпатынкай.

Часамі людзі прыходзяць са сваёю бядою, цяжкаю, якую толькі можа прыдумаць само жыцьцё… У меру маіх сілаў дапамагаю. Пішэце мне пра ўсе дарагія зубочкі. Усіх, хто яшчэ пра мяне не забыўся, шчыра вітайце.

Вас і дзетак цалую і абнімаю — *Ларыса Геніюш*.

## 180. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 11 сьнежня 1982 г.*

Дарагая Данусенька!

Зьлітуйся, напішы хоць слаўцо, як Табе і што з Табою? Ці атрымала той апошні ліст? Учора вярнулася зь Менску. Паехалі і прыехалі са знаёмымі. Была ў Ольгі Васільеўны [Церашчатавай]. Начавала ў Эльзы [Максімавай]. Там бяда: скарочваюць штаты, пад што пападае і нашая Нора [Вецер]. Яна цяпер хворая на грыпу. Шмат каго бачыла. У музэй прыходзіў і М[аксім] Т[анк], але на коратка. Яго жонка паслала мне цудоўную, вялікую хустку, чорную, у кветкі. Ён — цукеркі і інш. Аглядалі музэй. Фатаграфавалі нас. М[аксім] Т[анк] яшчэ малады, бадзёры. Перадзыгнуў нат праз бар’ер, ідучы да таксі. Так было мне там цёпла на душы, добра, бясьпечна, што ледзь ня з плачам вярнулася дамоў. Туман быў — як малако, ледзь відно было дарогу, але шчасьліва прыехалі. У хаце чакаў мілы Жук і лісты. Валодзя лаяў брыдка мяне праз тэлефон, што ні раней, ні цяпер не знайшла часу, каб да іх заехаць. Валя пасьля трэцяй апэрацыі на горла ў Бараўлянах. Сэрца разрываецца з болю. Была ў яго сястра, дык пагутарыла зь ёю. Валодзя быў не зусім цьвярозы…

Усе Цябе міла і зь любоўю ўспамінаюць. Напішы мне хоць парачку слоў, а калі ня Ты, то хай напіша хоць Эрык ці Валера. Так даўно няма вестачкі…

Менск — цудоўны! Таксі — неімаверна дарага. А[цец] В[асіль] стаяў у чарзе і купіў мне кг каўбасы, качку, крыху фаршу, хлеба менскага. Напрыносілі мне розных упамінкаў.

Удома чакаў ліст ад Міхася. У іх, Богу дзякаваць, усё ў парадку. Я паздаравела ў Менску, хоць выпіла там крыху каньячку, чаго не раблю ніколі. Тут мне зноў горай. Думаю, ці ня лепей мест лекаў піць каньяк? Рыхтуемся тут да вясельля Пеці Тукальскага — маяго хрышчонага. Яно будзе на Каляды.

Зь нецярпеньнем чакаю вестачкі ад Вас. Цалую Вас усіх!

Ваша *Ларыса Геніюш*.

Як маюцца Віка зь Сярожаю. Што робяць там з Тваёю нагою? Хоць адно слаўцо напішэце. Цалую Вас, чакаю вестачкі. *Л.*

## 181. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 18 сьнежня 1982 г.*

Данусенька, дарагая!

Гутарыла я з нашымі мясцовымі хірургамі. Радзяць Табе апэрацыю. Кажуць, што ў Гродне, у «Жалезнадарожнай» бальніцы ёсьць добрыя спэцыялісты ў гэтай справе. Тромб цяжка рассасваецца, і грозіць небясьпека ягонай вандроўкі па арганізьме.

Дарэчы, аб К. Лялько мне пісала і Мая Львовіч з Харкава. Яна і ёй пасьпела зрабіць многа добрага. І што за дзяўчо тая Крыстына? Болей бы нам такіх сапраўдных сэрцаў. А я ўсёй душой пры табе, хоць зноў мне дрэнна. Учора пайшла ў амбуляторыю. Сэрца. Ціск 110 на 60. Скача. Сяньня ўжо пасьля двох уколаў 140 на 80. З радасьці ўсё павытрасала, памыла крыху падлогу.

Ужо вечар. Захацелася пагутарыць з Табою. Праглядаю апошнюю кніжку М. Танка. Некаторыя вершы нагадваюць маладосьць маю, як я з маленькім Юрачкай у Жлобаўцах чытала тыя шчырыя вершы ў «Калосьсі»… Была захоплена імі. У іх быў бунт, а я адчувала патрэбу яго ў тых варунках, у якіх мы тады былі. Хоць былі мы адзінай кампактнай масай, і ўсюды жыла наша родная мова.

Ня ведаю, як і чым аддзячыць за падаркі. Так гэта пакінуць нельга. Што да ўборнай, дык тут кожны начальнік пастулае паводле сваяго інтэлектуальнага ўзроўню. Дзівіцца няма чаму. Калі б у гэтай хатцы жыў сам Я. Купала, яны зрабілі б тое самае. Што для іх знача пытаньне культуры, асабліва беларускай? Гэта ж не «харчовая праграма» ці інш. Гэты «слаўны манумэнт» напамінае мне, з кім я маю дачыненьне і як бывае сяньня на нашай роднай зямлі. Балела за Польшчай, балела за акупацыяй, баліць і сяньня… А калі ж перастане? Пакуль што пакінулі мяне крыху ў спакоі непасрэдна. Кусаюць толькі здалёк. Наагул, Зэльва славіцца «гонением на белорусских поэтов и гонением на христиан»… Так мне сказаў адзін дзед. Я згодная.

Я моцна шкадую Нору. Яна любіць сваю працу і гэтую справу, а любоў — найбольшы стымул для працы. Сапраўды, вельмі загадкавая Эльза, але да мяне яна адносіцца добра. Усю сябе яна аддае музэю, а ўдома — хворае дзяўчо, яе Алеська. Нешта там з галоўкаю ці нэрвамі. Хата ў яе поўная кніжак і пры іх пылу. Сьведчыць гэта аб тым, што ў жыцьці ёсьць куды важнейшыя рэчы, чымсьці гэтыя дробязі, часта сапраўды мяшчанскія. Саша — моцны дубочак. Разумны хлапец і ведае справу. Якраз быў на апэрацыі ягоны бацька. Саша непакоіўся вельмі. Трудна Церашчатавай звольніць тых, якіх ёй прыслалі. Яны ня «фізікі», хоць далёка ім да такога веданьня справы беларускай культуры, якую маюць закаханыя ў ёй энтузіясты. Жаль, такое ня ўлічваецца.

Калектыў у Церашчатавай зладжаны, чэсны, творчы і адданы справе. А гэта галоўнае, каб была аддача, прыбывалі экспанаты, расшыраўся музэй. Яшчэ колькі год — і ня будзе ўжо тых андаракаў, посьцілак, старых абразоў і скульптуры. Самы час падабраць сяньня тое, што належыць захаваць у музэі. Няхай глядзяць патомкі на густ, мастацтва і працавітасьць сваіх продкаў і мілых прабабуляў, чыі чэпчыкі і кашулькі, зробленыя ўласнымі рукамі, — амаль дасканаласьць мастацтва. Музэй зрабіў на мяне вялікае ўражаньне, як і сам, з руінаў памаладзеўшы нейкім цудам, стары наш, даўні рыцар — Менск. А[цец] В[асіль] ня вельмі захапляўся экспанатамі. Бачыў іх раней. У яго былі болей актуальныя справы. Захоплены быў таварыствам.

Сяньня Зося на працы (дзяжурыць ноччу), і я сьплю адна. Верны Жук — каля ног. У панядзелак трэба ісьці далёка на аналіз крыві. Веру людзям, якія робяць мне ўколы. А гэта важна ў маім становішчы. Рыхтуемся да вясельля Пеці. Адкладаць ужо нельга… Іра скупенькая, але ўсё павінна быць, як у людзей. Ратавацімуць сваі паршукі. І што б мы бязь іх рабілі?

Данусенька, родная, напішы хоць пару слоў пра сябе і пра сваіх. Каб я ведала, што з Табою. Дрыжу за вас, і Ты гэта разумееш. Шкадую, што я такая слабая нейкая… Цалую сардэчна вас усіх і жадаю здаровячка.

Ваша *Ларыса Геніюш.*

## 182. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 12 студзеня 1983 г.*

Дарагая Данусенька!

Даўно няма ад Цябе вестачкі. Непакоюся, як вы маецеся, ці здаровыя? Вясельле прайшло багата і гучна. Яшчэ ўсё зьвініць мне ў вушах ад неімаверна піскліва-галоснага-барабаннага, дзікага джазу. Моладзь, старэйшыя і нават дзеці скакалі з насалодаю, з забыцьцём. Гарэлку пілі бязь меры. Закускі было — хоць яшчэ адно вясельле спраўляй. Але вясельле другога хрышчонага адлажылі на весну. Дарылі ўсе шчодра. Мне было ня вельмі добра, але выклікалі хуткую дапамогу, зрабілі пару ўколаў, і я вытрымала. Але вясельляў маю ўжо даволі.

Пісаў Міхасік, прыслаў свой здымачак з вусамі. Пачынае расьці барада! Зусім ня той мой Міхась. Удома ў іх усё добра. Чакаюць вясны, усходаў, кветак і ягадаў на сваёй дзялцы. Дазволілі мне паслаць ім 2 кг цукеркаў. Паслала «малому» Алесіку.

Непакоюся за Тваю ножку, за мілага Эрыка. Прывыкла мець ад Вас весткі. Новы год і сьвяты прайшлі мне ў сем’ях мужавых сваякоў, крыху ўдома. Рада, што ёсьць свая хата, кут родны і дарагі па продках Геніюшаў.

З другой кніжкай будзе цяжэй. Харчовая праграма — рэч не паэтычная. Аб братэрстве з усімі народамі крычаць ня хочацца, бо гэта зразумелая і зусім натуральная справа, а аб сваіх людзях, сваёй краіне і хаце, каб была харошай, ня горшай як іншыя, пісаць сяньня цяжка. Я пішу сэрцам пра тое, што я люблю, а люблю я сваё гняздо, карэньні, зь якіх вырасла душа мая неспакойная.

Напішы мне хоць пару слоў. Сардэчна цалую Вас усіх.

Ваша *Ларыса Геніюш*.

## 183. ДАНУЦЕ БІЧЭЛЬ

*Зэльва, 2 лютага 1983 г.*

Дарагая Данусенька!

Ты, напэўна, у Менску. Перажываю і за Эрыка, і за Тваі ножкі. Што датычыць Эрыка, то толькі ён сам мусяе вырашыць пытаньне апэрацыі. Чалавек прагне палепшаньня здароўя, верыць. А можа, трапіцца цуд? Мэдыцына сяньня даволі сільная ў паважных і складаных пытаньнях. У звычайных хваробах, на жаль, — амаль абыякавая і небескарысная, як часта даводзіцца чуць ад людзей. Я вельмі хачу Цябе бачыць, але я сяньня ажыла крыху толькі пад вечар. Мне штораз слабей і горай, і гэты дзень для мяне быў амаль трагічны. Ледзь вярнулася дамоў з амбуляторыі. Ішла, трымаючыся за плот. Уся мокрая ад поту, ледзь прыйшла да сябе. Здаецца, дазволяць тэлеграмаю выклікаць сына. Лекары справу далі. Другія органы ставяцца да гэтага пытаньня таксама спрыяльна. Нават стараюцца актыўна дапамагчы. Заўтра гэтае пытаньне, спадзяюся, выясьніцца.

Калі прыедзеш, дык мне будзе цяжка Цябе прыняць. Я амаль бездапаможная. Было б мне прыкра. Пару вершаў Алесю Жуку я паслала. Мне радзяць зусім не хадзіць на

ўколы і на лячэньне. Што ўжо Бог дасьць. Лечаць мяне неахвотна… Трэба мне выбрацца недзе з маёй хаты. Зьмяніць атмасфэру. Нешта тут нядобрае. У крыві яшчэ знайшлі цукар, але мала. Высьцерагаюся мучнога, салодкага.

Што да Тваіх новых сяброў, дык Табе відней. Вельмі дзіўлюся І. Крэнь. Як мала ў ёй спагадлівага і чалавечага. Усім сэрцам я пры Вас з Эрыкам. У такія хвіліны зьбяры ўсе сваі сілы, каб вытрывала.

Сяньня здавалася мне, што зусім ужо бяда… Ціск зноў — 100 на 60. У нядзелю быў — 150 на 80. Мераў др. Кароль. Яны ўсе перадаюць Табе прывітаньні.

Пісаў Міхасёк. У яго сэсія. Вельмі хоча ў Зэльву. Піша, што будуць пускаць іх сюды. Непакоіцца вельмі, як даю сабе рады. Алесь і Міхась — абодва — бядуюць над тым, як іх тата сябе не глядзіць, а нішчыць… Балюча чытаць. Хлопцы — разумныя.

Трымайся, Данусенька! Цалуй Эрыка. Усіх вітай.

Твая *Ларыса Геніюш*.

Перадусім цяпер глядзі Эрыка і сябе. Вытрывай! Цалую Цябе, даражэнькая. *Л.*

## 184. МІХАСЮ ВЕРАЦІЛУ

*Зэльва, 8 лютага 1983 г.*

Паважаны сябра!

На некалькі дзён, у сувязі зь цяжкім станам маяго здароўя, прыехаў з Польшчы мой сын. Хоча вельмі Вас бачыць і атрымаць ад Вас тое, што Вы яму абяцалі з гаспадарчага прыладзьдзя. І наагул, ён хацеў бы пабачыць і пагутарыць з Вамі. Стан маяго здароўя вельмі нецікавы. Сын будзе ў Зэльве да 15 лютага. 14 лютага на ноч ад'яжджае. Калі гэта Вам хоць крыху магчыма, дык наведайце нас у гэтыя дні.

З павагай да Вас — *Ларыса Геніюш.*

Прывітаньні ад сына.

## 185. СЯМ'І ПЯТРА МАШЭРАВА

*[Кастрычнік 1980 г.]*

На Вашыя дастойныя рукі складаю вялікі боль і глыбокае спачуваньне з прычыны сьмерці Пётры Міронавіча Машэрава. Ягоную палітычную мудрасьць і чалавечае велікадушша адчуваў увесь наш народ і ў цяжкую хвіліну кожны з нас паасобку. Няхай памяць аб ім будзе вечнай і сьветлай, а ягоная сьмерць цяжка не адаб'ецца на лёсе нашага народу, яго будучыні, яго культуры.

З горкім жаночым плачам і глыбокаю павагаю да Вас — *Ларыса Геніюш*.

*Алесь БЕЛАКОЗ*

# ГЭТА БЫЎ РОД ВОЛАТАЎ

Яшчэ за польскім часам, у 1938-м ці, магчыма, у 1939 годзе, аднойчы летам матуля, яе звалі Вольга Канстанцінава, сказала мне: «Усё недзе бегаеш, а да нашай крамы прыходзіла Міклашова ўнучка Ларыса». (Тады мае бацькі мелі невялічкую краму.)

Я ўжо ведаў, што дачка Міклашэвіча Антона Паўлавіча, Ларыса, заўсёды з усімі размаўляе па-беларуску, што яна піша патрыятычныя вершы. Мая родная сястра Вера вучылася ў беларускай гімназіі і мяне выхавала ў духу глыбокай пашаны да ўсяго роднага, беларускага. Жыла сям’я Антона Міклашэвіча ў Жлобаўцах. Гэта кіламетраў за 10 ад Гудзевічаў. Мне давялося ў дзяцінстве сустракацца з бацькам Ларысы і яе братамі. Хоць мелі яны фальварак, але жылі па-сялянску: працавалі самі, бо на парабкаў ды служанак грошай не мелі. Адны працэнты ад пазыкі, якую атрымалі ў банку, перавышалі гадавы прыбытак гаспадаркі. Такая і маёмасная, і працоўная, і духоўная блізкасць да сялян дала магчымасць Ларысе зведаць і цяжкасці побыту сялян, і шчырасць іх узаемаадносін, і духоўнае багацце старэйшага пакалення, і паважлівыя адносіны моладзі Заходняй Беларусі да бацькоў і старых. Яна ўсё жыццё любіла беларускі народ, а мы, дзеці, былі закаханы ў яе, хоць бачыліся рэдка.

Род Міклашэвічаў шанавалі ў навакольных вёсках, а таму называлі па-простаму, па-сялянску: Міклош, Міклашы. Калі 17 верасня 1939 года Заходняя Беларусь была далучана да Усходняй, бывалі выпадкі, калі сяляне помсцілі мясцовым абшарнікам. Нікому не прыйшла думка, каб пакрыўдзіць ці здзекавацца з Міклашэвічаў, бо іх у нас паважалі і любілі. Гэта былі паны, якія мелі мужыцкія карані.

Павел Францавіч Міклашэвіч, дзед Ларысы, быў з малазямельных сялян. Нарадзіўся ён у 1845 годзе. Працаваў балаголам, бо зямлі меў мала. Балаголамі у нас называлі сялян, якія на сваіх конях перавозілі купецкія тавары. Шляхам цяжкай працы і надзвычайнай беражлівасці яму ўдалося сабраць невялікія грошы і купіць маёнтак Астапкаўшчына, а пазней, прадаўшы яго, ён купіў Гудзевічы. Гэта быў маёнтак памерам 550 гектараў. У Гудзевічах была воласць, царква, пошта, школа. Павел Міклашэвіч, стаўшы ўжо панам, жыў папросту, захаваў сялянскую працавітасць і родную беларускую мову. Быў чалавекам ашчадным, разумным, рухавым. Нават летам уставаў на цямочку, а клаўся спаць ноччу. Парабкі казалі: «Міклош ніколі не спіць».

Гасцінец праз Гудзевічы быў вельмі ажыўлены. Тут за дзень праязджала многа фурманак, а таму на дарозе было шмат конскага гною. Дык вось, бывала, стары Міклош, ідучы па дарозе, не прапусціць ніводнага конскага «яблыка». Часам жартам хтосьці запытае ў яго:

— Што знайшлі, паночку, можа, золата?

— Так, браце, гэта і ёсць золата, толькі не кожны яго бачыць. Занясу на стайню, кіну гэтыя конскія «яблыкі» ў гной. Вясной вывезем на поле — і дадатковая сотня каласоў дасць столькі збожжа, што за адзін раз не ўкосіш. А на дарозе гэты гной не патрэбен.

Здавалася б, дробязь. Падумаеш, сто каласоў лепш вырастуць. А вось так каласок да каласка, жменька да жменькі, сявенька да сявенькі — і малазямельны селянін стаў фальваркоўцам, а пазней — заможным панам. Ён усю сваю энергію, талент і працавітасць накіраваў на ашчаднае збіральніцтва. Меў чатырох сыноў і кожнаму пакінуў па маёнтку.

Гудзевічы дасталіся трэцяму сыну Уладзіміру, Поплава — Рыгору, Сабалеўшчына — Паўлу, а Антону купіў маёнтак Жлобаўцы, каля вёскі Палаўкі, што за кіламетр ад Воўпы. У Гудзевічах 9 жніўня 1910 года нарадзілася Ларыса, дачка Антона Міклашэвіча. Дзяцінства будучая вядомая паэтка правяла ў маёнтку Жлобаўцы.

Павел Францавіч Міклашэвіч быў вельмі ашчадны гаспадар, але ён у пачатку 1920-х гадоў ахвяраваў Гудзевіцкай царкве тры доўгія лавы (па 10 метраў кожная). Дапамагаў сялянам. Гудзевічы абсадзіў бэзам і ліпамі. На сваім фальварку меў шмат будынкаў. Цяпер амаль уся тая забудова і прыгажосць знішчаны.

У ліпені 1944 года немцы спалілі чварак, у якім жылі тры сям'і парабкаў і сям'я пана. А ўсе панскія будынкі (бровар, стайні, аборы, свірны, хлявы, гумны) былі бяздумна разабраны ў 1944–1945 гадах па загадзе мясцовых уладаў. Патрэбы ў тым знішчэнні ніякай не было. На іх месцы засталіся ляжаць вялікія кучы камянёў. Гэтыя будынкі былі зроблены з велізарных камянёў. Таўшчыня некаторых сцен складала амаль метр. Яны пазней вельмі спатрэбіліся б тутэйшаму калгасу. Ад былой велічы ў Гудзевічах захаваліся толькі брама 300-гадовай даўнасці, прыгожы помнік на магіле Паўла Францавіча ды помнік, які паставіў у 1908 годзе на скрыжаванні дарог сам Павел. На помніку выбіты словы:

*Господи, заступи*
*и спаси насъ*
*и наши земли*
*отъ града*
*и всех напастей*

*П. Миклашевичъ. 1908 г.*

Гэты помнік у 1970-х гадах атэісты скінулі ў лужыну, вернікі паставілі яго на старое месца, але актывісты зноў скінулі, ужо на дарогу. У 1985 годзе мы з супрацоўніцай Гудзевіцкага музея Аленай Пятроўнай Хомкай схавалі яго на складзе ў музеі, а ў 1993 годзе з дапамогай майстра Івана Дзямбіцкага зноў паставілі на скрыжаванні дарог у вёсцы Гудзевічы.

Памёр Павел Францавіч 6 жніўня 1929 года. Пахавалі яго на Гудзевіцкім могільніку, каля самага гасцінца. На магіле ўзведзены каменны помнік у выглядзе двух ствалоў дуба з сукамі, з шурпатай карой. На камені выбіты словы:

*Павелъ Францевичъ Миклашевичъ*
*ск. 6 августа 1929 г. на 85 году жизни.*

Ларыса Геніюш часта наведвала магілу дзеда, ганарылася ім. Верш «Гудзевічы» яна заканчвае словамі:

*Гудзевічы! Род мой незабыты!*
*Беларуская мая сям'я!*
*Дождж змывае з надмагільнай пліты*
*Дарагое дзедава імя.*

Дзядзька Ларысы Геніюш, Уладзімір Паўлавіч, у 1930-х гадах гаспадарыў у Гудзевічах. Ён скончыў духоўную семінарыю, але святаром не працаваў, бо быў не згодны з некаторымі догматамі царквы. Быў чалавекам адукаваным, веруючым і добразычлівым. Хоць ён меў нямала зямлі (поле, лес, сенажаць, тарфянікі — усяго каля 180 гектараў), багатым не быў. На яго тарфяніках сяляне капалі сабе торф і нічога за гэта не плацілі. Лес на будаўніцтва для людзей, якія вярнуліся з бежанства пасля Першай сусветнай вайны, аддаваў бясплатна, а некаторым нават дапамагаў вывезці бярвенні на гасцінец. Многія сяляне пасвілі на яго сенажаці кароў, але за карыстанне пашай таксама не плацілі. Салому раздаваў людзям амаль дарам. Калі мой бацька, Мікалай Белакоз, які да 1928 года жыў у Юраўлянах і лічыў Міклашэвічаў блізкімі землякамі, бо яны паходзілі з мястэчка Крынкі, папрасіў у пана дазволу купіць саломы, дык той сказаў: «Бяры са стога колькі павязеш». Бацька папрасіў аднаго мужчыну з вёскі, Андрэя Шайногу, які ўмеў класці вялікія вазы. Той узяў у суседа мажару (фуру), яны запраглі пару коней, паехалі ў поле і забралі

ўвесь стог. Пан вельмі здзівіўся, што змаглі забраць так многа саломы, аднак і за вялікі воз не ўзяў грошай, а бацька за тое запрасіў яго ў госці на суботу і добра пачаставаў.

Уладзімір Міклашэвіч быў вельмі шчодры: жабраку менш злотага не даваў. Ён дажыўся да таго, што за даўгі аддаў апошнюю карову, а яго дзеці не мелі шклянкі малака. Калі ў сакавіку 1940 года два міліцыянты прыйшлі яго арыштоўваць, каб выслаць як абшарніка, то ён не меў нават ботаў. Пайшоў у валёнках без галёшаў, хоць ужо раставаў снег. Яго расстралялі толькі за тое, што меў маёнтак. Людзі яго шкадавалі, бо быў вельмі гасцінны і чулы чалавек. У свой час Уладзімір прарочыў Гудзевічам вялікую славу. Ён сказаў: «Гудзевічы некалі будуць гудзець». Сапраўды, дзякуючы нашаму Гудзевіцкаму музею вёска шырока вядома ў Еўропе і людзі едуць сюды з-за мяжы.

Пра ўмовы працы і жыцця парабкаў ў Гудзевічах расказаў мне Сцяпан, сын парабка Сцяпана Маршалкі. Яго бацька меў у вёсцы Петрашоўцы тры гектары зямлі, а яго маці ў вёсцы Сухінічы — чатыры гектары. Здавалася, быццам і нямала, але Сухінічы далёка і апрацоўваць зямлю там нязручна, а ў Петрашоўцах зямлі малавата. Вось і вырашыў Маршалак Сцяпан аддаць зямлю ў Сухінічах у арэнду, а сам пайшоў парабкаваць да Уладзіміра Міклашэвіча. Умовы былі добрыя. Пан за год плаціў 100 пудоў збожжа і яшчэ 200 злотых. Гэта разам складала на цяперашнія грошы каля 300 долараў. Парабак трымаў карову або нават дзве. Парабкоўскія каровы стаялі ў адным хляве з панскімі, карміліся аднолькавым харчам. Вясной, улетку ды ўвосень іх пасвілі разам з панскімі. Абавязак жонкі парабка быў адзіны: падаіць для сваёй сям'і сваю карову.

Кожны парабак вясной садзіў панскімі коньмі на панскай зямлі каля 0,7 морга (40 або 50 сотак) бульбы для сваёй сям'і. Уся апрацоўка бульбы праводзілася панскімі коньмі і інвентаром бясплатна. Увосень наворвалі і вазілі ў склеп парабка па 6–10 тон бульбы, а таму трымалі па 3–4 свінні. Сям'я парабка магла трымаць неабмежаваную колькасць птаства. Асабліва шмат у Гудзевічах было гусей. Жонка парабка магла хадзіць на падзённую працу на панскае поле ці ў агарод. Плацілі жанчынам у залежнасці ад працы па 1 або 2 злотыя за дзень. Пасля 25 гадоў працы ў пана парабак атрымліваў пенсію або па жаданні парабка 6 гектараў зямлі, каня, воз, барану, плуг, саху. Хату, хлеў ды гумно з панскага лесу будавалі для парабка талакой такія ж парабкі.

Парабак, устаўшы раніцай, карміў сваіх коней, снедаў і а восьмай гадзіне ішоў на працу. У гарачыню стараліся працаваць да 11-й гадзіны, а пасля выходзілі ў поле а шаснаццатай гадзіне. Зімою працы было менш: арфавалі збожжа, рэзалі сечку, вывозілі на поле гной, рамантавалі будынкі. Перад кожным святам парабкі працавалі да абеду. Мой тата быў каталік, працаваў добра, дык пан дазваляў яму святкаваць і каталіцкія святы. За год набіралася больш за дзесятак святаў.

Як былі пад Польшчай, у такіх жа умовах працавалі і парабкі Антона Міклашэвіча. Яны ў яго ніколі не былі пакрыўджаныя. У калгасе стала шмат горш, бо плацілі па 100 грамаў збожжа на працадзень ды капеек па 20 на старыя грошы (выпуску 1961 года).

Добрым словам успамінаюць сяляне Рыгора Міклашэвіча — старэйшага сына Паўла Францавіча. Быў прыгожы, рослы, плячысты. Але з хаты ніколі не выходзіў, бо казалі, што быў хворы на нейкую невылечную хваробу. Кіравала маёнткам яго жонка Грышыха, як яе звалі вяскоўцы. Яны мелі сыноў Лёню і Віталя. Гэта былі вельмі дужыя і баявыя хлопцы. Асабліва Лёнік, які быў ахвочы падужацца са многімі. Любіў пагуляць і ў карты. Калі трэба было сялянам дапамагчы, напрыклад, перад дажджом звезці сена, то ў просьбе не адмаўляў. Калі ў 1939 годзе ў Заходнюю Беларусь прыйшлі бальшавікі, то сама Грышыха і ўся сям'я Лёніка перабраліся ў Польшчу, а Рыгор Міклашэвіч да таго часу ўжо памёр. Віталь нікуды не паехаў. Ён не думаў, што яго арыштуюць, быў вельмі набожным чалавекам і нават словам нікога ніколі не пакрыўдзіў. Яго забралі ноччу, і ніхто не ведае, дзе ён скончыў свой жыццёвы шлях.

Павел Паўлавіч — самы малодшы сын Паўла Францавіча Міклашэвіча. Быў ён вельмі гаспадарлівы. Хоць зямлі меў столькі, як Уладзімір і Рыгор, але жыў значна багацей за іх. Меў 42 пародзістыя каровы. Карміў іх добра. І малака яны давалі шмат. Пабудаваў сваю сыраварню, у якой выраблялі галандскія сыры. Харчавалася сям'я пана разам з парабкамі. Калі жонка зазлуецца на Паўла ды не наварыць страў на полудзень і не дазволіць варыць служанцы, то гаспадар разам з парабкамі прыязджаў да нас у краму. Мая матуля частавала іх смачнаю капустай. Бывалі на стале тут і цяляціна, і свініна, і катлеты. У дадатак Павел купляў каўбасу, селядцы, шпроты. Парабкі тады жартавалі: «Паночку, вы кожны дзень сварыцеся са сваёй паняй. Нам тут вельмі падабаецца». А Павел абяцаў, што будзе прыводзіць іх на абед да Белакоза кожны дзень. Любіў гумар і сам любіў пажартаваць, але толькі да пэўнай мяжы.

Аднойчы Павел Міклашэвіч у нас частаваў войта Антона Сямашку, якога ў вёсках называлі Валенцюком. Зайшоў камендант паліцыі Купчак, надзвычай шкодны чалавек. Нахмурыўся Павел, але і яму наліў кілішак. Аднак калі той сказаў нешта абразлівае пра беларусаў, то Павел схапіў яго за каўнер ды так шпурнуў у дзверы, што яны расчыніліся, а Купчак урэзаўся галавой у бочку з газай. Камендант быў здаровы і дужы, а тут страціў прытомнасць. Пасля гэтага Купчак з Міклашэвічамі абыходзіўся вельмі тактоўна.

Сяляне Паўла паважалі, напэўна, за тую дапамогу, якую ён са сваімі братамі аказваў ім, калі тыя вярнуліся з бежанства на папялішчы. Панічы ў сваім лесе дапамагалі вясковым мужчынам спусціць бярвенні. Калі ў 1938 годзе Павел памёр, то ў апошні шлях яго праводзілі ўсе жыхары навакольных вёсак.

Антон Міклашэвіч (другі сын Паўла Францавіча) жыў у Жлобаўцах. Гэта каля Палавок, якія за два кіламетры ад мястэчка Воўпа. Меў каля 100 гектараў зямлі. Антон быў вельмі дужы, але разам з тым вельмі добры чалавек. Не цярпеў, калі кагосьці крыўдзяць. Аднойчы ў кірмашовы дзень на рынку ў Воўпе гандляры-габрэі абступілі Мікалая, гудзевіцкага селяніна, і хацелі, каб ён прадаў карову за невялікую цану, хоць карова была пародзістая, малочная. Пагражалі, што калі ён не аддасць карову за іх цану, дык можа загарэцца яго хата, утапіцца сын ці павесіцца дачка. Прадавец пачаў прасіць не чапаць яго, але нахабныя купцы прадаўжалі націск на запалоханага селяніна.

Якраз па рынку ішоў Антон. Ён заўсёды быў з трасніковай кульбачкаю, баяўся, калі раптам каго ўдарыць кулаком, дык можа нават забіць чалавека, а вось лёгкаю стусінкаю вялікай шкоды нікому не зробіць. Купцы, захопленыя шантажом, не заўважылі, што каля іх спыніўся пан Міклашэвіч. Яны вырывалі вяроўку з рук Мікалая, совалі яму мізэрныя грошы. Калі Антон зразумеў, што тут адбываецца, то пачаў хрысціць усіх габрэйскіх махляроў сваёю стусінкай. Відаць, пры гэтым прыкладаў немалую сілу, бо ўсіх «купцоў» як ветрам здзьмула, а селянін удзячна казаў: «Ой, паночку, сам Бог паслаў вас сюды. Бачыце, хацелі амаль задарам забраць маю Красулю». Пасля гэтага, як толькі на рынку ў Воўпе або Лунне (туды гудзевіцкія сяляне таксама ездзілі) з'яўляўся пан Антон Міклашэвіч, усе падобныя махляры знікалі.

Антон меў магутны бас. Спяваў у царкоўным хоры. Дзяк Пётр Язэпавіч Жук святамі запрашаў харыстаў на пачастунак. У яго быў вялікі дубовы стол. І вось аднойчы, калі на стале было шмат розных страў, дык Іван Ціхай пажартаваў: «Паночку, ты гэтага стала зубамі не падымеш». Антон нічога не адказаў, але тут жа падняў стол. Усе ахнулі.

Прывяду яшчэ адзін прыклад. Было гэта на Сабалеўшчыне, што належала Паўлу Паўлавічу. Мае дзядзькі па мацеры, Яўген і Кастусь Петрашэвічы, разам з Брыцькам будавалі двухпавярховы «магазын» (свіран для збожжа). Будаўнікі не маглі ўзняць бэльку на мур. Калі выйшаў з хаты Антон, яны папрасілі яго: «Памажыце, паночку, бо ўтрох бэльку не пакладзём». Антон узяў за камель адзін, а тыя тры будаўнікі — за верх бэлькі і ўсцягнулі яе на сцяну.

Неверагодна дужы быў чалавек. Калі ён прыходзіў на вечарынку ці кірмаш, дык боек там не ўзнікала. Калі ж здаралася бойка, дык ён браў тых зухаў, што шчубіліся, за

каўняры і шпурляў у розныя бакі. Пасля гэтага дзецюкі ішлі дамоў або заставаліся на вечарынцы, але болей ужо не петушыліся і за чубы адзін аднаго не бралі.

Уся сям'я Антона жыла па-сялянску. З панамі ён быў панам, а з сялянамі — селянінам: разам з парабкам выкідаў гной з хлявоў, парабак араў адной парай коней, а ён — другой, касіў лепш за ўсіх. У пракосе ішоў першы, а скончыўшы пракос, пачынаў другі.

Аднойчы калі парабкі сабралі з поля камяні і завезлі іх да кучы, то скідалі іх з возу па некалькі штук. На той час ехаў Антон, і ён прапанаваў:

— Хлопцы, падніміце гнаярку, і камяні самі высыплюцца.

— Не падымаецца, — паскардзіўся царабак.

— То дазволь мне паспрабаваць. Можа, мяне паслухае, — сказаў ён.

Антон узяўся за гнаярку, яна лёгка паднялася, і камяні высыпаліся.

Гаварылі людзі з Палаўкоў, што калі Антона ў 1939 годзе арыштавалі і ў Гродне нейкія канваіры захацелі паздзекавацца з пана, то, як толькі яны пачалі яго біць, ён схапіў іх за каўняры і так стукнуў лбамі, што абодва страцілі прытомнасць. Напэўна, тады адразу там жа, у міліцыі, і вырашылі яго лёс. Кажуць, што расстралялі.

Міклашэвічы былі людзі дасціпныя, спагадлівыя і фізічна дужыя. Гэта быў род волатаў, моцных целам і духам. З гэтага роду і вядомая беларуская паэтка Ларыса Геніюш. Чалавечую годнасць, моц духу перадалі Ларысе ў спадчыну яе бацька Антон і дзед Павел, пра якога і цяпер ходзяць легенды.

У 1948 годзе Ларыса Геніюш была арыштавана савецкімі чэкістамі ў Празе. У 1949 годзе яна была асуджана Вярхоўным судом БССР да 25 гадоў лагераў. Пасля вызвалення ў 1956 годзе пасялілася ў мястэчку Зэльва Гродзенскай вобласці, дзе правяла апошнія гады жыцця.

З Ларысы і яе мужа, лекара Янкі Пятровіча Геніюша, якія былі сапраўднымі беларускімі патрыётамі, я стараўся браць прыклад. Калі ў маі 1965 года мяне выклікалі ў Мінск на курсы кіраўнікоў раённых секцый беларускай мовы і літаратуры, дык разам з іншымі настаўнікамі арганізаваў дзве сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі. Такім чынам, лепшыя настаўнікі Беларусі змаглі сустрэцца з 46 паэтамі і празаікамі. Гэта было дрэнна ўспрынята Міністэрствам асветы, і курсы закончылі датэрмінова, дакладней, нас з курсаў прагналі.

Пасля гэтага я пачаў актыўныя дзеянні супраць вынішчэння беларускай мовы. Даў заданне вучням старэйшых класаў, каб яны папрасілі пісьменнікаў напісаць свае меркаванні пра значэнне роднай мовы, каб прыслалі свае творы з пажаданнямі для вучняў Гудзевіцкай школы, чарнавікі твораў пісьменнікаў, фотаздымкі ды іншыя матэрыялы.

Сярод тых, хто адгукнуўся тады на нашы просьбы, былі Ларыса Геніюш, Іван Мележ, Уладзімір Караткевіч, Сяргей Грахоўскі, Ніл Гілевіч, Арсень Ліс, Васіль Быкаў, Мікола Прашковіч, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Аляксей Карпюк, Данута Бічэль-Загнетава, Ніна Тарас, Васіль Вітка, Ян Скрыган, Сцяпан Александровіч і іншыя. Я пачаў ствараць у школе літаратурны музей. Ларыса Геніюш не толькі прыслала для музея лісты, фотаздымкі, рукапісы сваіх вершаў, але і запрасіла прыехаць у Зэльву для сустрэчы.

Мая жонка, Вера Ігнатаўна, і я паехалі да Аляксандра Аляксандравіча Галавача, дырэктара Зэльвенскай школы-інтэрната, нашага сябра, які крыху ведаў Ларысу Геніюш. Спадар Галавач разумеў, што кантакты з паэткай-патрыёткай кантралююцца адпаведнымі органамі, а таму пайшлі на сутонні ўчацвярох, ён з жонкай і мы. Геніюшы нас чакалі. Стол быў засланы саматканым абрусам. Па дыяганалі ляжаў саматканы доўгі і прыгожы пояс. Стол сервіраваны на шэсць асоб.

Нас уразіла вялікая колькасць кніг. Я таксама захапляўся літаратурай і сабраў некалькі тысяч кніг мастацкай і навуковай літаратуры, аднак бібліятэка Геніюшаў у некалькі разоў па колькасці кніг пераўзыходзіла нашу. На сценах віселі партрэты Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і інш. Мне ўжо перад гэтым пашчасціла блізка сустракацца з Арсенем Лісам, Нілам Гілевічам, Максімам Танкам, Іванам Мележам, Сяргеем Грахоўскім, Васілём

Віткам, Янам Скрыганам і іншымі вядомымі людзьмі. Кожны з іх здзіўляў мяне сваёй прастатой, спагадай да нашай задумы, аднак спадарыня Ларыса і яе муж адразу ж літаральна зачаравалі нас сваёй гасціннасцю і энцыклапедычнымі ведамі. І хоць я адразу адчуў, наколькі яны пераўзыходзяць нас сваёй эрудыцыяй, аднак яны так паводзілі сябе, што здавалася, быццам і мы няблага разбіраемся ў літаратуры, мастацтве, культуры і гісторыі Беларусі.

З вуснаў чалавека энцыклапедычных ведаў, спадара Янкі, часта зрываліся выразы: «То вы і гэта чыталі, і яго ведаеце». Янка працаваў лекарам па скураных хваробах і быў вялікім патрыётам Беларусі. Нарадзіўся ён у Зэльве, бацькі яго таксама жылі ў мястэчку.

Гэта быў час, калі Хрушчова змяніў Брэжнеў, які ў многім вяртаўся да традыцый сталінскага рэжыму. Мы гаварылі пра ціск на беларускую мову, пра цкаванне патрыётаў, фальсіфікацыю гісторыі, пра зацуглянасць літаратуры, пра тое, што ў Гудзевічах і наваколлі разбураюцца помнікі мінулага.

У 1966-м ці 1967 годзе ездзілі да Генюшаў Аляксей Пяткевіч і я. Ён папрасіў мяне, каб пазнаёміў яго з таленавітай паэткай. Зноў надзвычай гасцінны прыём і самыя даверлівыя размовы.

Часта Ларыса Генюш бывала ў Гудзевіцкім музеі і ў нашай хаце. Часам здаралася, што Ларыса Антонаўна прывозіла па 10–15 чалавек гасцей. Была яна з Янкам Пятровічам на хрэсьбінах майго малодшага сына Міхася ў 1967 годзе. Праўда, на вяселле старэйшага сына Міколы не прыязджала, а толькі прыслала верш-віншаванне.

Напісала яна аднойчы, што мае падвойны дыван, які выткала ў 1900 годзе яе свякроўка. У канцы ліста запрашала мяне забраць яго.

Гасціннасць Ларысы Антонаўны не мела межаў. Вельмі любіла, калі ў яе хаце былі госці. На дыване, які цяпер красуецца ў музеі, выткана «1900 R». Па сваёй старажытнасці гэты дыван займае другое месца ў нашым музеі і ў Беларусі, бо маем яшчэ падвойны дыван, на якім выткана: «1898».

Не аднойчы я прасіў Ларысу Антонаўну, каб яна падабрала экспанаты для залы, якую я хацеў стварыць пра яе. Пісьменніца адказала:

— Як буду паміраць, то пакіну вам шмат экспанатаў.

Памірала яна ў Гродне ў анкалагічным шпіталі ў 1983 годзе. Мне былі дасланы дзве тэлеграмы, каб ехаў па спадчыну для музея і на пахаванне Ларысы Генюш, але я тады сам ляжаў у шпіталі і лекары мяне не адпусцілі. На жаль, усё, што пакінула для Гудзевічаў пісьменніца-зямлячка, у наш музей не трапіла.

Праўда, Валянціна Генюш (нявестка Ларысы Антонаўны) перадала нашаму музею 169 экспанатаў, у асноўным кнігі і пішучую машынку, на якой паэтка друкавала свае вершы, а таксама партрэты Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча, паяскі, абраз на драўлянай дошцы XIX стагоддзя, бочачкі, збаночкі і шмат іншага.

Часта бываў у Генюшаў Уладзімір Караткевіч. Бываў і адзін, і з матуляй, і з Міколам Прашковічам. Ларыса Антонаўна часам ушчувала яго, як маці, як старэйшы сябра. І ён да Генюшаў ставіўся з вялікай павагай.

Асаблівае месца ў жыцці паэткі займаў Максім Танк. Яна ўдзячна была Яўгену Іванавічу за клопат пра пісьменнікаў, пра яе. Аднак як функцыянеру, чалавеку, які ў партыйнай наменклатуры займаў значную пасаду, Ларыса Генюш яму не давярала. Раілася са мной, ці паслухаць Максіма Танка ды прыняць савецкае грамадзянства. Спадарыня Ларыса згаджалася, што на кампрамісы з рэжымамі ісці нельга, а таму ні грамадзянства, ні членства ў Саюзе пісьменнікаў вырашыла не прымаць.

Памерла яна 7 красавіка 1983 года грамадзянкай БНР і Чэхаславакіі. Цяпер на яе магіле ў Зэльве стаіць помнік, да якога прыходзяць сотні беларусаў і нашых землякоў з замежных краін, каб аддаць даніну павагі мужнай патрыётцы, якая заўсёды была вернай дачкой сваёй Бацькаўшчыны.

*2002*

*Масей СЯДНЁЎ*

# СУСТРЭЧЫ Ў МЕНСКУ І ПРАЗЕ

У Бельску-Падляскім мяне пусцілі з таварнага цягніка ў горад — засталіся там бацька і сястра, і канвой добра ведаў, што нідзе не дзенуся, вярнуся назад. У горадзе тым я хацеў знайсці Беларускі камітэт у надзеі, што ён можа дапамагчы мне ў маёй бядзе і я буду выратаваны ад лагера. У камітэце быў я ветліва прыняты нейкім Жамойдам. Я расказаў яму пра сябе, пра сваё палажэнне, не ўтаіў таксама, што я беларускі паэт, нядаўні вязень сталінскіх лагераў. Усё гэта, аднак, не мела поспеху — камітэт нічым не мог мне дапамагчы. На развітанне Жамойда падараваў мне кніжку вершаў «Ад родных ніў» Ларысы Геніюш, да таго невядомай мне паэтэсы. З гэтай кнігай я і вярнуўся на таварную станцыю, на «свой» транспарт, да бацькі і сястры.

Ужо толькі ў Беластоку ўдалося мне, разам з бацькам і сястрою, уцячы з транспарту. Рэдактар газеты «Новая дарога», паэт Хведар Ільяшэвіч, прыняў мяне карэктарам у сваёй газеце.

У вершах Ларысы Геніюш я не знайшоў нічога асаблівага, яны здаліся мне правінцыяльнымі — недасканалымі як паводле паэтычнага майстэрства, гэтак і сваімі адхіленнямі ад нормаў літаратурнай мовы. Што ж тычыцца матываў патрыятычнага зместу, што дамінавалі ў кнізе, дык яны таксама надта не ўразілі мяне. Я ацэньваў кнігу перш за ўсё з эстэтычнага гледзішча, з гледзішча самой эстэтыкі, якой, як мне здавалася, якраз і не хапала вершам Ларысы Геніюш.

І гэтак яна знікла з поля майго зроку. Яна не існавала для мяне як паэт, аж пакуль я не пазнаёміўся з ёю асабіста. Знаёмства адбылося ў 1944 годзе ў Менску на гэтак званым Другім усебеларускім кангрэсе. На гэты кангрэс я прыехаў з Беластока разам з групай «дэлегатаў» ад Беласточчыны. Я хацеў паглядзець, што гэта за кангрэс, пазнаёміцца з людзьмі, а найболей — пабываць у Менску, у сталіцы, якой я даўно не бачыў і дзе калісьці вучыўся, летуцеў, снаваў планы на будучае і дзе — гэтак неспадзявана — напаткала мяне бяда.

З Геніюш мяне пазнаёміў Хведар Ільяшэвіч, мой апякун і дарадца. Ды сустрэча была кароткай — пад Менскам ужо стаяла Чырвоная Армія, і горад жыў вельмі напружаным жыццём. Трэба было спяшацца пакідаць яго. Спяшалася і Ларыса Геніюш. Не ведаю як, да нас прыстаў паэт Таўлай і паспеў зрабіць калектыўны здымак. На ім фігуравалі Арсеннева, Ільяшэвіч, Пятрок Шыракоў (Тодар Лебяда), я сам і некалькі іншых асобаў, якіх цяпер не магу прыгадаць. Ларыса Геніюш чамусьці не трапіла на гэта фота. Дый не да яго было. У Ларысы Геніюш было столькі рэчаў, што яна не ведала, як з імі быць. Яна папрасіла мяне, ужо знаёмага ёй чалавека, да таго ж без ніякіх рэчаў, узяць у яе цяжкі кажух Кушаля, мужа Арсенневай. Арсеннева, Геніюш і іншыя паважаныя асобы мелі гарантаваныя, ці што, месцы на цягніку, а мне з кажухом давялося браць той цягнік з боем. Складаўся транспарт з нармальных вагонаў і цяплушак з адчыненымі шырока дзвярыма. Чутка пабегла, што гэта апошні цягнік, і ў паніцы кожны, як толькі мог, лез у гэты цягнік. Куды б я ні ткнуўся, у якія б дзверы ні лез, мяне штурхалі ў грудзі назад тыя, хто ўжо дапяў. Праз буфер я пераскочыў на другую, тылавую старану цягніка і, учапіўшыся, стоячы на падножцы, за кастылі, ехаў ужо. Цягнік набіраў хуткасць, і я баяўся, што станцыйныя слупы, міма якіх цягнік імчаўся, расквасяць мне галаву. Я, канешне, кінуў той кажух. Цягнік на нейкім пераездзе затрымаўся, і я ўсё-ткі ўлез у вагон-цяплушку. Адчуваў сваю віну перад Ларысай Геніюш за страчаны кажух. Думаў, будзе крыўдзіцца на мяне, але нечакана з Прагі яна

прыслала мне, яшчэ ў Беласток, віншавальную картку, на якой прыгожая дзяўчынка дае «буські» не менш прыгожаму хлопчыку.

У 1945 годзе мне пашанцавала з Берліна дабрацца да Прагі: хацеў быць хоць у якой, але ў славянскай краіне. Не хацелася прабірацца далей на Захад. Думаў, ад Прагі бліжэй дахаты. Я ўсё не траціў надзеі, што маці жыве, і гатовы быў вярнуцца, каб перака-нацца, ці гэта так. Ларыса Геніюш прывеціла мяне добра, старалася дапамагчы, чым толькі магла. Пазнаёміла мяне з некаторымі беларусамі, што былі тады ў Празе, у тым ліку з Забэйдам-Суміцкім, Янкам Станкевічам, Уладзімірам Сядурам (У. Глыбінным), Жарскім, Русаком і іншымі. Пазнаёміла таксама з адной мілай жанчынай-чэшкай, што працавала ў нейкай дабрачыннай арганізацыі. Гэта была на імя Ружана. Калі Ларыса Геніюш сказала, што я бедны і беспрытульны беларускі паэт, Ружана, замужняя жан-чына, была настолькі міласэрнай, што дала мне нават сваю ашчадную кніжку, з якой дзеля кароткага майго побыту ў Празе я гэтак і не мог скарыстаць. І па сённяшні дзень, пазнаўшы, наколькі жорсткі свет, дзіўлюся, што ўсё ж ёсць у гэтым свеце такія боскія людзі, як тая чэшка Ружана. Але вярнуся да Ларысы Геніюш. У Ларысы Геніюш жыў я, можа, які з тыдзень, пакуль яна не знайшла для мяне пакойчык, памятаю — на вуліцы Бубеннай. Едучы, бывала, стуль да Ларысы Геніюш трамваем, мне падабалася, як кандуктар-кантралёр звяртаўся да пасажыраў са сваім нямецка-чэшскім: «Фаркартэн-яздэнкі просімо». У Ларысы Геніюш была ў Празе нядрэнная кватэра. Яна жыла тады толькі з сынам, непаседлівым, не надта паслухмяным, зацятым дзевяцігадовым Юр-кам. Ён знікаў некуды на цэлы дзень, і маці турбавалася, шукала і не знаходзіла, ён прыходзіў толькі надвечар. Маці пыталася, дзе ён быў. Ён коратка адказваў: «Ездзіў». Юрка любіў ездзіць трамваем, ведаў добра горад, ніколі не блудзіў. Мужа ўдома не было. Я так і не ведаў, дзе ён быў. Разглядаў у ягоным лекарскім кабінеце невялічкую бібліятэчку — у ёй я знаходзіў заходнебеларускія і менскія выданні: часопісы, газеты, кніжкі. Быў Геніюш, наколькі я мог спасцігнуць, чалавекам левага кірунку.

Ларыса Геніюш умела і любіла гатаваць. Стоячы ля пліты, часам сцёбала мяне сваім фартухом, калі я, згаладалы, хапаў што-небудзь з патэльні. Аднойчы, стоячы з ёю ля пліты, я пачаў пісаць алавіком па кафлі — складаў эпіграму на яе. Яна, каб спыніць маю пэцканіну, сур'ёзна загадала мне: «Ідзі ва ўборную і там пэцкай». Я пакрыўдзіўся і цэлы дзень не гаварыў з ёю.

За сталом у яе былі часта госці, абавязкова тады — Забэйда-Суміцкі. Забэйда-Суміцкі быў ужо і тады ў гадох. Юрка, седзячы за сталом насупраць яго, чмыхаў, заціскаў нос, дражніў Забэйду-Суміцкага: «Казёл! Казёл!» У прысутнасці Забэйды-Суміцкага ніхто не важыўся курыць — ведалі, што спявак не церпіць табачнага дыму. Шанаваў горла.

Калі я, бывала, выходзіў з Ларысай Геніюш на вуліцу пагуляць, апынуўшыся на тратуары, яна заўсёды гаварыла: «Масейка, давай пабяжым!» І бегла. Але прабегшы колькі метраў, спынялася, хапалася за сэрца: «Не магу — калоціцца». Але бяжыць зноў. Была яна тады досыць поўнай, задыхалася, нібы не хапала паветра. Прыгадваючы гэта, дзіўлюся цяпер, як яна магла вытрымаць сваю катаргу.

Заставацца ў Празе яна быццам не хацела, збіралася адступаць далей на Захад. Быў вызначаны ўжо дзень і час ад'езду. Гатовыя да ад'езду, мы дамовіліся сустрэцца назаўтра раніцой на вакзале, а калі мы прыйшлі ў вызначаны час на вакзал, яе там не было. Для мяне яна знікла назаўсёды. Але ейны вобраз бачу выразна: паважаная, гато-вая на ўсё, імпульсіўная, прынцыповая і адначасна — спагадная, міласэрная. Ларыса Геніюш — жанчына тыпу рэвалюцыянеркі Цёткі.

Як паэтэсу вялікага калібру, таленавітую, арыгінальную я ацаніў толькі цяпер, угле-дзеў ейную значнасць, прачытаўшы ейны зборнік «Невадам з Нёмана» і асабліва —

некалькі ейных цыклаў выгнанніцкіх вершаў, што пабачылі свет у газеце «Літаратура і мастацтва». Ларыса Геніюш паўстала перада мной на ўсю сваю веліч як паэтэса-грамадзянка. Я не бачу ёй роўнай у нашай жаночай паэзіі. Яна паланіла мяне не толькі сваімі паэтычнымі магчымасцямі, а і не менш сваёй — наперакор усяму — мужнай паставай. Яшчэ з большай зыркасцю вырысавалася гэтая пастава ў ейным унікальным творы-ўспаміне «Споведзь», надрукаваным у часопісе «Маладосць». Перад гэтым творам блякнуць усе дасюлешнія гулагаўскія творы ў нашай мемуарыстыцы, уключна з «ГУЛАГам» самога Салжаніцына. Гэта творы *аблітаратураныя,* і дзеля гэтага яны шмат у чым трацяць сваю аўтэнтычнасць. «Споведзь» Ларысы Геніюш падкупляе сваёй непадробнасцю, маральнай вышынёй і падчас зайздросным бляскам выкладу.

*1990*

*Пятро РАШЭТНІК*

# ПРАЗ ШАХТУ — ДА ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

У 1949 годзе я трапіў у Мінлаг Комі АССР, пасёлак Інта. Працаваў на дрэваапрацоўчым камбінаце (ДАК). Там сустрэў афіцэра БКА Раманчука Сымона. Мы пасябравалі… Неяк у 1950-м Сымон сказаў, што этапам прыбыла ў наш лягер паэтка Ларыса Геніюш.

Жанчын прыгналі на працу на наш ДАК. Сымон Раманчук, карыстаючыся выпадкам, падвёў мяне да Ларысы Геніюш і прадставіў.

У лягеры зьняволеныя аб'ядноўваліся па нацыянальнасьцях, у зямляцтвы. Зразумела, было й беларускае зямляцтва. Мы стараліся трымаць сувязь з усімі беларусамі, таксама й з жаночага лягеру. Перадавалі туды запіскі — «ксівы». Так завязалася перапіска з Ларысай Геніюш. Яна пісала нам свае вершы. Мы атрымоўвалі пасылкі, а яна — не (не было каму слаць, бо Янка Геніюш таксама недзе сядзеў). Таму стараліся неяк дапамагчы, перадаць нейкія харчы са сваіх пасылак…

Пасьля зьняволеных-жанчын зьнялі з ДАКу і перавялі на працу ў тундру. Мы бачылі іх толькі тады, калі іх вадзілі на працу.

Зноў сустрэліся мы вясной 1953 году. Я працаваў на ДАКу, а мой сябра — Мікола Канаш, таксама беларус — на шахце. Працоўныя зоны былі абцягнутыя дротам і ахоўваліся. Ларыса Геніюш знаходзілася ў 4-м жаночым лягерпункце. Мікола даў мне рыштунак і вопратку шахцёра, і мы спусьціліся ў шахту. Па рэйках вузкакалейкі прайшлі кілямэтры два. Па дарозе да нас далучыўся адзін немец. Наверх палезьлі праз вэнтыляцыю — гэта недзе 70 мэтраў.

Выбраліся наверх каля самага жаночага лягеру. Пачалі перакідваць праз дрот запіскі ў лягер. Дзяўчаты кідалі нам свае. Я папрасіў паклікаць Ларысу Геніюш. Яна прыйшла, але добра паразмаўляць нам зь ёй не пашчасьціла. Вартавы на вышцы бачыў нас ад самага пачатку і, вядома, выклікаў ахову.

Дзяўчаты заўважылі, што на падводзе едзе начальнік лягеру з аховай. Яны пачалі крычаць, што, мабыць, за вамі едуць ужо, уцякайце. Мы — у тую дзюрку, пад зямлю, па драбінах. Там унізе — бачым, ідзе інжынэр шахты з салдатамі.

Мікола Канаш працаваў у шахце й кажа: «Падымаймася назад — наверх!» Крыху падняліся, там была старая выпрацоўка. Кінуліся па ёй да самага канца. Схаваліся ў нейкай шчыліне.

Інжынэр падвёў ахову амаль да нашага сховішча, ды чуем, кажа, што далей ісьці небясьпечна, можа заваліць ці будзе выбух, калі далей будзе мэтан… Але тут адзін з аховы пасьвяціў ліхтарыкам у наш бок і заўважыў нашыя ногі: «А ну, вылязайце!»

Мы выйшлі, нас павялі — ахова ззаду. Калі дайшлі да адтуліны, Мікола сеў на прыступкі, падкурчыў ногі й паехаў наніз. Ахова за ім, але не дагнала.

У мяне пытаюць:

— Ты хто?

— Я не шахцёр! — адказваю. А калі спускаесься ў шахту, адмысловая вопратка з нумарам павінна быць. У мяне — спэцоўка, каска, ліхтар і акумулятар. Нумар паляка аднаго — Дамброўскага. Той кажа, што не даваў і ня ведае хто. У мяне пытаюць:

— Хто даў?

— Не скажу.

Пайшлі тады яны глядзець вопратку ў «разьдзявалку». Адна мокрая! Па нумары даведаліся — Канаша. Той ужо пасьпеў пераапрануцца і аддаць запіскі. Прывялі яго. Я ім кажу, што ня быў ён са мной, ды наогул мы не знаёмыя.

Начальнік лягеру:

— Якой хто нацыянальнасьці? Беларусы абодва? Усё ясна!

Далі нам 20 сутак. А калі адседзелі, у мяне зьнялі тры месяцы заліку. Павінен быў вызваліцца вясной, а вызвалілі восеньню…

Пасьля Ларысу Антонаўну адправілі на этап у Абезь. Празь нейкі час вярнулі назад. Якраз памёр Сталін, і нас расканваіравалі. Неяк яна прыйшла да мяне на завод, адразу ж усе беларусы сабраліся разам… Трэба прызнаць — трымалася яна дастойна.

З Інты яе этапам паслалі ў Мардовію, станцыя Поцьма, ад яе прыйшло пару лістоў, а пасьля сьлед згубіўся. Яе мужа з Варкуты таксама прывезьлі ў Мардовію, а адтуль разам іх перавялі некуды яшчэ…

Пасьля вызваленьня Геніюшы прыехалі ў Зэльву. Ларыса Антонаўна стала друкавацца. Пачала перапісвацца з былымі зьняволенымі. Адзін зь іх, Пятро Саўчук, быў сябрам яе мужа. Ён і расказаў мне, што Ларыса Геніюш жыве ў Зэльве, я й паехаў туды…

Жылося ім там цяжка! Янка й Ларыса адразу па вызваленьні адмовіліся ад савецкага грамадзянства, бо ў 1939 годзе жылі ў Чэхаславаччыне. (Янка Геніюш за панскай Польшчай скончыў Праскі ўнівэрсытэт і там застаўся.) Прыязджаў Танк, яе ўгаворваў, яна ж адказала: «Я — грамадзянка БНР!»

Адразу пасьля вайны, калі Геніюшы былі яшчэ ў Чэхаславаччыне, яе брат спрабаваў іх забраць да сябе ў Англію. У Празе да іх прыходзілі людзі з ангельскага пасольства, прапаноўвалі пераехаць у Англію. Але Янка сказаў: «Я сацыяліст» — і не паехаў.

У Зэльве сьлежка за Ларысай Геніюш была страшэнная. Пад выглядам пажарных прыходзілі чэкісты — лазілі па хаце, на гару — нешта забароненае шукалі. Шмат хто зь мястэчка быў завэрбаваны, каб толькі назіраць за Геніюшамі. Калі мы сабраліся на яе 70-я ўгодкі, маёр Хоха сядзеў у суседняй хаце з падслухоўваючым апаратам.

У яе не было пэнсіі. Танк угаворваў Ларысу Антонаўну прыняць грамадзянства Саюзу і атрымоўваць пэнсію… Давалі 35 рублёў — як не грамадзянцы СССР. Мелі яны савецкія пашпарты са штампам «без гражданства». Янка працаваў доктарам-вэнэролягам і рэнтгенолягам, але таксама ўвесь час меў нейкі перасьлед…

Мы, былыя палітвязьні, нас тады яшчэ шмат было, зьбіралі грошы й пасылалі ёй. Пасьля пачалі выдавацца яе кнігі. Ларыса Геніюш пачала атрымоўваць за іх нейкія ганарары, сьмяялася й казала: «Я — капіталістка!»

Калі памёр Янка Геніюш, я даведаўся позна і таму спазьняўся на пахаваньне. Даехаў да Слоніма, а там узяў таксоўку да Зэльвы. Пасьпеў прыехаць і нават нёс труну. Народу тады шмат было. Пасьля Андрэй Вайтовіч са Слоніма зрабіў помнік, а пасьля мы зь ім і Дудкам Іванам з Баранавічаў яго паставілі ды зрабілі агароджу…

Ларысе Геніюш помнік ставілі яе сваякі й сябры. На пахаваньне прыехала многа народу з Горадні з унівэрсытэту, беларускія пісьменьнікі, таксама тыя, з кім ёй давялося адбываць тэрмін у лягерох. Быў міністар Краўчанка, пісьменьнікі Лужанін, Сачанка, Бічэль-Загнетава, Арлоў, шмат іншых вядомых людзей. Але было й шмат «людзей у цывільным», якія круціліся паўсюль, прыслухоўваючыся да размоваў. Нават мёртвая Ларыса Геніюш не давала ім спакою, была для рэжыму небясьпечнай…

Амаль кожны год у дзень яе нараджэньня каля яе магілы зьбіраюцца яе былыя сябры па лягерох, тыя, хто ведаў яе. Адбываецца невялічкі мітынг памяці нашай слаўнай беларускай паэткі і змагаркі за Вольную Бацькаўшчыну.

*2000*

*Аляксандра ФУРС*

# ТРАГІЧНЫ І СВЕТЛЫ ЛЁС

Блізкае знаёмства з Ларысай Геніюш, гэтай шчырай і цудоўнай беларускай, стала для мяне сапраўдным падарункам лёсу. У сваёй «Споведзі» Ларыса Антонаўна па невядомых прычынах не згадвае свой апошні лагер, а менавіта Мардоўскі (п/с 385/6), дзе і я адбывала свой тэрмін. Знаходзілася яна там усяго некалькі месяцаў, якія вызначыліся тым, што адсюль яна выйшла на волю.

Засяроджуся на самым галоўным, а менавіта на тым, што засталося ў маёй памяці як самае дарагое і незабыўнае, — на сваім знаёмстве з паэткай. Неяк напрадвесні 1956 года ў наш лагер з досыць памяркоўным кліматам сталі прыбываць этапы зняволеных з Інты, Варкуты, Нарыльска. Прывозілі знясіленых і хворых жанчын. З адным такім этапам прыбыла і Ларыса Антонаўна. З першых дзён да яе ўзнікла вялікая цікаўнасць як з боку зняволеных, так і з боку лагернага начальства. Яна была непадкупнай, і таму апынулася на цяжкіх работах. Нейкі час працавала нават асенізатарам. Гэтак ёй помсьцілі за тое, што не хацела сябраваць з начальствам. Паэтка ў любых абставінах заставалася сама сабой — велічнай і гордай. Чым больш яе зневажалі, тым большым аўтарытэтам яна карысталася.

Працавала Ларыса Антонаўна на розных работах. То на кухні посуд мыла, то на швейнай фабрыцы гузікі прышывала да армейскіх бушлатаў. Я з ёю разам працавала на фабрыцы. Норма была вялікая, і Ларыса Антонаўна з цяжкасцю яе выконвала, таму я нярэдка забягала да яе ў цэх і дапамагала ёй, пасля чаго мы вярталіся ў зону пазней за ўсіх. У лагеры знаходзілася каля 5 тысяч жанчын рознага ўзросту, і Ларыса Антонаўна для кожнай з іх знаходзіла словы суцяшэння і маральнай падтрымкі.

Скажу шчыра: да мяне Ларыса Антонаўна нейкі час ставілася насцярожана, але хутка яе падазронасць мінула, і мы пасябравалі, часта сустракаліся, каб паразмаўляць. Для гаворкі выходзілі з барака на тэрыторыю зоны, дзе нас не маглі падслухаць «стукачы», якія сачылі за кожным крокам паэткі.

З вялікай цеплынёй і замілаваннем Ларыса Антонаўна ўспамінала гады, пражытыя ў Чэхаславакіі. Умела і пажартаваць: свайго мужа Івана Пятровіча жартам называла «мой сацыяліст». А гэта таму, што напрыканцы Другой сусветнай вайны Іван Пятровіч не пажадаў выехаць на Захад, і яны засталіся жыць у Празе, дзе неўзабаве і былі арыштаваны і сасланы ў Сібір.

З вялікай зацікаўленасцю і разуменнем Ларыса Антонаўна выслухала мой аповед пра моладзь з Пастаўскага і Глыбоцкага педвучылішчаў, якая пасля вайны аб’ядналася ў падпольны Саюз беларускіх патрыётаў з мэтай бараніць ад русіфікацыі нацыянальную школу і культуру. Пасля катаванняў і здзекаў удзельнікі Саюза, у які ўваходзіла і я, былі асуджаны на вялікія тэрміны зняволення. Расказала я таксама Ларысе Антонаўне, што яе вершы мы вывучалі ў час акупацыі ў школе.

Прыгадваецца такі эпізод. Калі ўжо стала вальней з лагерным рэжымам пасля смерці «бацькі народаў» і дазвалялася праводзіць культурныя мерапрыемствы, былая артыстка маскоўскага балета прапанавала мне прыняць удзел у мастацкім гуртку. Я адмовілася: маўляў, не тое месца, не той час. Ларыса Антонаўна мой учынак не ўхваліла. Яна сказала: «Ёсць, Алеська, магчымасць зрабіць добрую справу для людзей, то трэба яе рабіць. Мастацтва патрэбна людзям дзеля таго, каб яны канчаткова не здзічэлі».

І вось пасля шматлікіх рэпетыцый, вядома ж, у вольны ад працы час, павінен адбыцца наш першы канцэрт у мужчынскай зоне лагера № 386/7, дзе знаходзіўся Іван

Пятровіч. Калі ўдзельніцы самадзейнага гуртка, у тым ліку і я, апынуліся на зоне зняволеных мужчын, усе яны, ад старога да маладога, выйшлі з баракаў нас сустракаць. Пасля канцэрта адбыліся танцы. Людзі гуртаваліся па нацыянальнасцях, шукалі сваіх. Нарэшце і я пазнаёмілася з Іванам Пятровічам Геніюшам і перадала яму ад Ларысы Антонаўны ліст і «пасху» — выпечаную ў кубку булачку і яечка, бо якраз на гэты час прыпадаў Вялікдзень. Івана Пятровіча я сустрэла ў асяроддзі пажылых інтэлігентных мужчын.

Неўзабаве павінен быў адбыцца яшчэ адзін канцэрт у мужчынскай зоне. На гэты раз Ларыса Антонаўна перадала мне свае новыя вершы і зварот да зняволеных беларусаў. Дамоўленасць была такая: перадаю пакуначак таму, хто да мяне падыдзе са шкатулкай. Аднак напярэдадні паездкі ў артыстаў зрабілі вобшук, і сам начальнік рэжыму забраў з маёй тумбачкі вершы Ларысы Антонаўны. Канцэрт адмянілі. Я перажываю, што падвяла Ларысу Антонаўну, і чакаю выкліку ў камендатуру. Ларыса Антонаўна таксама занепакоена, але супакойвае мяне, што ўсю віну прыме на сябе.

Ды, дзякаваць Богу, усё скончылася добра, бо ў гэты час распачала сваю дзейнасць камісія Вярхоўнага Савета СССР па разгляду спраў і палітвязняў замежнага паходжання. У хуткім часе Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч былі вызвалены з Мардоўскага лагера і пераехалі ў Зэльву на Беларусь. А неўзабаве і я выйшла на волю.

Яшчэ раз мне было наканавана лёсам сустрэцца з Геніюшамі ў 1970 годзе, на шасцідзесяцігадовым юбілеі паэткі. Я тады ўжо мела сваю сям'ю і жыла ў Карагандзе. За сталом ішла нягучная гамонка, успаміналі няволю. Сярод блізкіх гасцей быў і сын гаспадароў, які выхоўваўся ў Польшчы, — Юрка. У нейкі час Ларыса Антонаўна ўключыла кружэлку з запісам песень Забэйды-Суміцкага, і палілася песня «Зялёны дубочак», якая сагрэла душу, абудзіла надзею, што Беларусь будзе жыць. Дарэчы, гэту кружэлку, падараваную аўтарам, Геніюшы бераглі, як найвялікшы скарб. Дзе ж яна цяпер?

Назаўтра настаў час развітвацца. На аўтастаянку праводзілі Іван Пятровіч і Мікола Прашковіч. Ларыса Актонаўна прыпынілася ля веснічак і благаславіла нас у дарогу. Я азірнулася і ўбачыла, што яна плача. Ніколі такога не здаралася ў няволі.

На аўтастанцыі было шмат людзей, адчувалася, што за намі сочаць. І раптам прагучаў на ўвесь перон вокліч Мікола Прашковіча:«Жыве Беларусь!».

Неўзабаве пасля гэтай падзеі Прашковіч памрэ пры загадкавых абставінах. У хуткім часе памрэ і Іван Пятровіч. Ларыса Антонаўна развітаецца з жыццём 7 красавіка 1983 года. Яе няма, але на небасхіле беларускай паэзіі яе зорка разгараецца ўсё ярчэй і ярчэй.

*1995*

*Васіль СУПРУН*

# ВЕРНЫЯ «КСІВЫ»

Была вясна 1953 года, звычайная лагерная вясна на далёкай Поўначы. Проста пацяплела, ды і на сэрцы крыху заадліжала — нарэшце не стала «бацькі народаў». А колькі незвычайных навін! Але лагер жыў па-ранейшаму, наш гарызонт зусім не прасвечваўся.

…Вечарэла. Зайшоўшы ў штабны шахтбудаўскі барак, я зірнуў у кут, на ніжнія нары, дзе было месца Грыгорыя Кочура — вядомага ўкраінскага літаратара, прафесара. Ён сядзеў з паперкай у руках, відаць, толькі вярнуўся з вячэры. У гомане мітуслівага бушлатнага натоўпу, які вяртаўся з працы, я непрыкметна прашмыгнуў да яго.

— А, прывітанне братам!— як заўсёды ветліва і цёпла сустрэў мяне прафесар.

Да Кочура я забягаў нячаста, калі супадалі змены і хапала сілы. Прыемна было ў гэтых страшэнных умовах нікчэмнага існавання сустрэцца з чалавекам, які валодаў не толькі вялікім багажом ведаў, талентам, але і дзіўнай інтэлігентнасцю. Да беларусаў ён адносіўся шчыра, па-сяброўску. Цікавіўся і быў знаёмы з нашай літаратурай, асабліва цаніў творчасць Максіма Багдановіча і раннія творы Максіма Танка. Зрабіў некалькі цудоўных перакладаў іхніх вершаў.

Вярнуўшыся з працы з-за зоны, брыгадзір непрыкметна перадаў яму «ксіву». Прачытаўшы, ён растлумачыў мне, што гэта запіска з Абезі, з жаночага лагера, які размяшчаўся недзе за 70 кіламетраў ад нашага Інцінскага спецлага № 2. Я здзівіўся. Ніяк не верылася, што ў гэтых асабліва жорсткіх, рэжымных умовах, дзе наогул пісаць забаранялася, а на лісты дамоў даводзіліся нікчэмныя ліміты (адзін у год, а пасля — некалькі), мелася нейкая магчымасць сувязі нават з іншымі лагерамі, тым больш з аддаленай Абеззю. Аказалася, што ўкраінцы праз сваіх землякоў на волі наладзілі такую рызыкоўную таемную пошту. Ведаючы, што ўсё гэта надзвычай небяспечна і складана, я ўсё ж адважыўся папрасіць Грыгорыя Кочура перадаць па сваім канале ў жаночы лагер і маю запісачку з просьбай паведаміць, ці ёсць там беларускі і хто. У лагерах на Поўначы беларусаў аказалася менш, чым украінцаў і літоўцаў, і мы імкнуліся трымацца па магчымасці дружней, і наогул хацелася ведаць аб зямлячках-нявольніцах.

Кочур ветліва згадзіўся дапамагчы. Скручаная маленькай папяросай мая паперка неўзабаве дасягнула Абезі. Праз нейкі час прыйшоў адказ ад невядомай мне Ю. Ліпскай, інтэлігентнай украінкі, якая, чула зразумеўшы просьбу, паведамляла, што ёсць і нашы зямлячкі. Пры гэтым абяцала з часам пазнаёміць з адной з іх, сваёй сяброўкай па прозвішчы Геніюш, якая працуе ў кар'еры за зонай і з якой бачыцца прыходзіцца рэдка.

Мяне ўразіла вядомае з юнацтва прозвішча. Тым больш Ліпская характарызавала сяброўку, як вельмі цікавую асобу, аднак не ведала, ці згодзіцца тая на такое знаёмства. Мне не верылася, што гаворка магла ісці пра аўтарку цудоўнага зборніка вершаў «Ад родных ніў», які глыбока запаў у душу калісьці ў ваенныя гады. Ведаў, што таленавітая паэтка жыве недзе за мяжой і не магла трапіць сюды, на далёкую Поўнач, за калючы дрот, тым больш працаваць у кар'еры. Але час быў такі люты і гвалтоўны, што чакаць можна было ўсяго. Хацелася як мага хутчэй даведацца, аб кім жа згадвае Ю. Ліпская.

Мяне цікавіла толькі Геніюш, але магчымасць сувязі была ў руках украінцаў. Давялося згаджацца з усім, прасіць самога брыгадзіра і тую ж Ліпскую аб сувязі з незнаёмай. А час ішоў. Магчымасць перадачы «ксіваў» была абмежавана і ў любы момант магла абарвацца назаўсёды. Вобшукі («шмоны») праводзіліся па любым даносе і падазрэнні, да таго ж кожны дзень пры прыёме зэкаў канвоем і лагернай аховай рабіліся старанныя вобшукі ўсёй вопраткі вязня, прамацваліся ўсе рубцы, звярталася ўвага на псіхалагічны

стан і паводзіны допытнага. Часта наладжваліся налётныя «шмоны» па бараках, ператрасалася ўсё да драбніц, перачытваўся кожны запіс, нават друкаваны. І ўсё ж людзі рызыкавалі, ведаючы, што кожная такая паперынка, кожная вестачка несла ў цемру лагернага жыцця іскрынку святла і звычайнага чалавечага цяпла, па якім тут некаторыя смуткавалі па дзясятку гадоў, а то і больш.

Чакаў адказу не вельмі доўга. Чарговая мая пісулінка са шчырай просьбай перадаць яе Геніюш пайшла цераз прахадную з чарговым разводам шахтабудаўцаў на аб’екты за зонай. Усё абышлося. Пачыналіся дні хвалюючага чакання. Чакалі і бліжэйшыя сябры, якія ведалі пра ўсё і хваляваліся таксама.

У сваёй запісцы да Геніюш я прасіў адказаць: хто яна? Ці не паэтка, якой мы ганарымся? Прасіў хоць у некалькіх словах даць адказ і паведаміць пра зямлячак. Дні цягнуліся, як ніколі, марудна. Нарэшце «ксіва» ад Ю. Ліпскай, а ў ёй — чаканая вестка. Тонкая паперка, дробна спісаная размашыстым невыразным почыркам, чыталася з несказанай цікавасцю, хоць і марудна. Так, гэта была Ларыса Геніюш. Яна пісала коратка, шчыра, удумліва і алегарычна. У кожным слове — глыбокі сэнс, нейкая душэўная цеплыня і няскораная гордасць. Пыталася, хто адважыўся ў гэтым праклятым людзьмі краі, «дзе дрэмлюць львы і пануюць гіены», успомніць яе, назваць яе імя? Пісала, што вельмі рада вестцы ад беларусаў, але памятае і аб правакацыях, крыху згадвала аб сабе, працы, зямлячках. Вестка была разважліва-стрыманай, пяшчотна-хвалюючай і патрыятычнай. Чулася, што піша шчырая беларуска, страшэнна змучаная ярмом і кайданамі, але не пастаўленая на калені.

Карыстальнікі той рызыкоўнай сувязі строга папярэджваліся, што гэта вельмі сакрэтны і толькі ўкраінскі канал. Запіскі не павінны заклейвацца, змест іх мусіць быць інтымна-сваяцкі і ні ў якім выпадку не палітычны. Наш лагер лічыўся строгарэжымным і ў выпадку правалу страшэнныя расправы пагражалі цэламу ланцугу ўдзельнікаў. Я, ад імя беларускага падпольнага зямляцтва, карыстаўся сярод украінцаў пэўным даверам і цаніў гэта.

У перапісцы нашай было ўсё, нават палітыка, завуаляваная прыкладзенымі вершамі, якія перасылаліся амаль у кожнай «ксіве». Ларыса Геніюш па прыродзе — бунтар. Памятаю, яна выказвала думку, што мы павінны дзеля нейкай славы рызыкаваць сабой, бо ў такіх умовах выжыць 25 гадоў усё роўна ніхто не зможа. Я ж раіў берагчы патрыётаў і падтрымліваць іх духоўна і маральна. Тэма гэтая асабліва востра абмяркоўвалася ў час падрыхтоўкі і правалу калектыўных уцёкаў з суседняга інцінскага лагера, у якім прымаў удзел і яе шчыры сябра С. Раманчук, за расправу над якім пасля балюча дакарала сябе Ларыса Геніюш, чакаючы таксама расправы над сабой, бо была ўведзеная ў курс той справы і духоўна яе падтрымлівала.

Наша перапіска паступова станавілася ўсё больш змястоўнай і шчырай. Праз «ксівы» і цудоўныя вершы паэткі да нас прыходзіла не толькі міжлагерная інфармацыя, але і цяпло, так патрэбнае сэрцам. Духоўная падтрымка ў такіх умовах — надзвычай важная справа. Ларыса Геніюш умела пісаць такія лісты, умела чуць душу, умела зачароўваць. Весткі прыходзілі не часта, бо аддзяляла нас не толькі адлегласць, але і строгі лагерны рэжым.

О, як многа значылі *там* яе весткі, яе вершаваныя радкі! Мы перачытвалі іх па многа разоў, завучвалі, цешыліся яе талентам і сумавалі. Хацелася цягнуцца да яе вышынь, і гэта прыбаўляла сілаў. Прыходзілі ў лагер такія малюсенькія скручаныя кавалачкі спісанай паперы, звычайна, вечарам, калі вярталіся з працы з-за зоны будаўнікі. Таму вечар для нас быў не толькі часам адпачынку пасля цяжкай нявольніцкай працы, але і часам вельмі чаканых завочных сустрэч. Імі жылі мы, у іх адводзілі душу, марылі, тварылі, падтрымлівалі адзін аднаго, верылі і чакалі.

Па нашай дамоўленасці ўсё, што было напісана яе рукою, мусіла быць знішчана, гэтага вымагалі канспірацыя і вельмі частыя шмоны. Але я вершы тыя знішчыць не мог — перапісваў з шыфроўкай асобных словаў і пры любой нагодзе перасылаў на Бацькаўшчыну. Некаторыя вершы выйшлі на волю, зашытыя ў катаржнай ватоўцы. Пад ніжняй прыступкай драўлянай лесвіцы ў лябёдачнай шахты № 5, дзе я працаваў машыністам скрэпернай устаноўкі, засталася частка таемнага архіва, якую я не паспеў адаслаць дамоў. Забраць тыя паперы з закрытай зоны ў час нечаканага этапу не ўдалося.

І ўсё ж, дзякуй Богу, удалося зберагчы нямала вершаў Ларысы Геніюш. Гэта часцінкі яе болю, яе мужнага сэрца, сляды тых страшных дзён няволі.

*1989.*

*Паўліна МЯДЗЁЛКА*

# ТРЫ СЦЕЖКІ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Чытаю «Подых навальніцы» Івана Мележа. Глушак… Глушакі — бацька і сын Яўхім… Чытаю, а на думку ўсплываюць Геніюшы, Ларыса. І да таго прыліпла гэта думка, што і чытаць замінае.

З 1960 года да сённяшняга дня я атрымала ад яе 75 лістоў. Вось першы з іх (у скарачэнні):

«Зэльва, 26 лістапада 1960 г. Паважаная сяброўка! Мы даўжэйшы час жылі ў Празе і вельмі хацелі б з Вамі ўбачыцца. Калі маеце хоць малую магчымасць, дык вельмі шчыра запрашаем Вас да нас у госці… Зробіце нам гэтым вялікую радасць, а думаю, што і самыя не пашкадуеце. Прыехаць можаце на неабмежаваны час… Моцна сціскаем Вашу руку і чакаем! Расцалуем, калі прыедзеце! Ларыса і Янка Геніюшы».

А вось урыўкі з яе апошняга ліста ад 16 красавіка 1969 года:

«Паўлінка, не прыязджайце да нас… Як нам ёсць, так ёсць, але мы баімся ў хату чужых людзей… Як мы ўстанем і што з’ямо, гэта наша справа, а вось чужы чалавек — гэта дысананс у нашым жыцці, і мы будзем адчуваць сябе не ўдома… Гневайся — не гневайся, Паўлінка, як хочаш, але ў кожнага ёсць сваё асяроддзе, свой уклад жыцця, да якога ён прывык. Мы не паддаемся ніякаму перавыхоўванню: дарэмны твае намаганні. У цябе, Паўлінка, свае сябры, у нас свае, якія таксама раяць нам быць самім».

У канцы пісьма папярэджанне: «Калі б ты была ў нас, дык не веру, ці маглі б друкавацца твае ўспаміны».

Дык у чым жа справа? Чаму такі рэзкі паварот у адносінах нашых? Трэба расказаць усё ад самага пачатку.

Атрымаўшы першы ліст у 1960 г., я вельмі была здзіўлена. Хто такія Геніюшы? Першы раз сустракаю гэта прозвішча. «Мы даўжэйшы час жылі ў Празе…» Хто-небудзь з беларускіх стыпендыятаў у Празе? Ведаю, што некаторыя абітурыенты з Віленскай беларускай і Дзвінскай беларускай гімназій выязджалі ў Прагу вучыцца ў Карлавым універсітэце. З віленскіх гімназістаў нікога не ведаю, а калі гэта былы мой вучань з Дзвінскай гімназіі, дык няўжо ж я не ўспомніла б гэта прозвішча?

Я коратка адпісала, папрасіўшы прабачэння за маю старую памяць, бо ніяк не магу ўспомніць, дзе мы сустракаліся, дзе бачыліся. Хутка ў адказ Янка напісаў, што нідзе мы не сустракаліся, нідзе не бачыліся, але ён у Празе ведаў Тамаша Грыба, а ад яго чуў і аба мне.

Пасля гэтага пачала пісаць да мяне ўжо Ларыса. Яна прыехала ў Прагу якраз на пахаванне Тамаша. Пры жыцці яго не ведала, але пасля яго смерці Русак прынёс ёй папку з маімі лістамі да Тамаша, маё фота і срэбны партсігар, які я падаравала Тамашу ў Гродне ў 1919 г. На адваротнай крышцы партсігара быў выгравіраваны надпіс: «Нам не страшна злажыць сваё шчасце на алтар Бацькаўшчыны. Журавінка».

Ларыса пісала, якое вялікае ўражанне на яе зрабілі мае лісты, фота, што нават збіралася напісаць паэму аба мне. Папку з лістамі Русак ёй не пакінуў (у яго застаўся ўвесь архіў Тамаша), але выпрасіла ў яго толькі гэты партсігар на памятку. На жаль, гэты партсігар загінуў у часе іх арышту ў 1945 г. і высылкі ў лагеры на поўнач Расіі. Я не прыдала значэння таму, што, як яна пісала, у Празе выйшаў зборнік яе вершаў. Ці мала паяўляецца вершаплётаў, якія лічаць сябе паэтамі? Але мяне насцярожылі некаторыя весткі з яе лістоў аб сабе. Піша, што дзядзька Захарка вельмі яе любіў і памёр амаль на

яе руках, што гэты дзядзька цярпець не мог недавяркаў… Што ж яны за людзі, гэтыя Геніюшы? Чым яны дыхаюць?

Будучы неяк у Менску, я спыталася ў Рыгора Раманавіча Шырмы, ці ведае ён іх. Ведае, Янка Г. быў у Шырмы. Пры гэтым Рыгор Раманавіч зморшчыўся і адно толькі сказаў: «Думаюць старымі катэгорыямі». Як гэта зразумець? І перш, чымся паехаць да іх пазнаёміцца, я рашыла напісаць перш аб сабе. Сказала ў лісце, што нягледзячы на ўсё тое, што мне прыйшлося перажыць пасля прыезду ў Савецкую Беларусь, я ў душы камуністка, хаця, на жаль, і без партбілета; што амаль з дзіцячых год я, як і Тамаш, перакананая атэістка. З гэтага часу наша перапіска спынілася (ужо не памятаю, хто з нас першы яе перарваў).

З таго часу прайшло некалькі год. І вось у 1968 годзе трапіў мне ў рукі зборнік вершаў Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана», які зрабіў на мяне вялікае ўражанне. Я пабачыла, што яна не нейкі там вершаплёт, а таленавітая паэтэса, з гэтага зборніка павеяла на мяне такім блізкім, родным, узбудзіла такія пачуцці, што я напісала ёй гарачы, сардэчны ліст. У адказ яна зараз жа прыслала мне свой зборнік з надпісам: «Паўліне Мядзёлцы, любай Журавінцы, злажыўшай жыццё сваё і шчасце на алтар Бацькаўшчыны. З вялікай любоўю — Ларыса Геніюш. Зэльва, 20/VI-68».

Зноў пачалася актыўная перапіска, і я пачала рыхтавацца да паездкі ў Зэльву. А тут дайшлі да мяне чуткі, што Еўдакія Лось выступіла ў СП з забойчай крытыкай Ларысы Геніюш, публічна перад сходам рвала на часткі зборнік вершаў і ні то нагамі таптала вырваныя лісткі, ні то паліла іх. Прычыны я не ведала, і яе паводзіны мяне абурылі да глыбіні душы. Тым больш, што аб Еўдакіі Лось я чула толькі самыя дрэнныя водзывы, як аб чалавеку. […]

Што ж тычыцца да яе расправы са зборнікам вершаў Ларысы Геніюш, дык мне вытлумачылі гэта (Танк і Ул. Караткевіч) як звычайную бабскую зайздрасць супраць больш таленавітай паэтэсы, чымся сама Лось.

Аднак прычыны былі і іншыя, аб чым скажу далей. Яшчэ да маёй паездкі ў Зэльву мне расказалі ў Менску аб Ларысе Геніюш як аб чалавеку з няўстойлівым характарам, часта зменлівымі настроямі, у якой «сем пятніц на тыдні», пры гэтым з хваравітай маніяй праследавання. Гэта хвароба нярэдка паяўлялася ў людзей, якія ў часе культу перанеслі цяжкія выпрабаванні. На гэту хваробу і я хварэла нейкі час.

І вось у верасні 1968 г. я ў Зэльве. З лістоў Ларысы я ведала, што яны жывуць без грамадзянства. Янка паказаў мне свой пашпарт, які ім выдалі пасля вызвалення з лагераў у 1956 г. У пашпарце на першай старонцы запісана: «Без гражданства», а ў дужках: «Бывший гражданин Чехословацкой республики». Ларыса расказала, што да іх прыязджалі М. Танк і Я. Брыль. Яны ўмаўлялі іх прыняць савецкае грамадзянства, аб усім дамовіцца з кім трэба, і як толькі атрымаюць грамадзянства, зараз жа Ларысу прымуць у Саюз пісьменнікаў, і яна будзе атрымліваць ад СП пенсію — 100 руб. у месяц.

— Дык у чым жа справа? — пытаю.— Чаму не падаеце заявы аб грамадзянстве?

Выразнага адказу на маё пытанне на гэты раз я не атрымала. А ў наступны вечар, калі я ўжо ляжала ў ложку ў адведзеным мне асобным пакоі, прыйшла Ларыса ў начной кашулі, прысела на маёй пасцелі і пачала расказваць аб сваім жыцці.

Мне цяжка перадаць усю яе гаворку, бо і гаварыла яна неяк бязладна, пераскокваючы з аднае тэмы на другую і зноў варочаючыся да перарванага, а на мяне рабіла такое ўражанне яе апавяданне, што ў маёй галаве ўсё памутнела. Аднак паспрабую аднавіць у памяці хаця б толькі ўрыўкі. Дык вось што яна расказала.

Дзед яе трымаў 18 парабкаў, не памятаю ўжо, колькі меў зямлі, але можна меркаваць па колькасці парабкаў. Бацька ўжо менш меў зямлі на сваім фальварку. Пры Савецкай уладзе бацькі і ўся іх сям’я трапілі на высылку (мабыць, пры раскулачванні), і там

дзесьці загінула частка сям'і. Рэшта пазней апынулася ў Польшчы — сястра і, здаецца, брат. Ларыса ў 1936 г. выехала да мужа ў Прагу, і там яны жылі да 1945 г. Жылося ім там вельмі добра. У той час, як многія з беларускіх эмігрантаў галадалі ў Празе, Геніюшы некаторых падкормлівалі. Падчас захопу фашыстамі Чэхаславакіі немцы прымушалі ўсіх жыхароў Прагі аб'яднацца па нацыянальнай прыналежнасці ў так званую Самапомач. Аб'ядналіся ў Самапомач і беларусы. Аднойчы кіраўнік гэтай арганізацыі сабраў усіх членаў Самапомачы (забылася прозвішча гэтага кіраўніка — ні то Рагуля, ні то Родзька) і запрапанаваў падпісаць падрыхтаваную ўжо хвалебную тэлеграму Гітлеру з выразамі вернападданых пачуццяў. Увесь сход быў ашаломлены гэтай прапановай, і ніхто не падняў рукі за пасылку такой тэлеграмы і ніхто яе не падпісаў. Але гэты кіраўнік без згоды членаў Самапомачы ўсё ж такі паслаў такую тэлеграму, падрабіўшы подпісы тых, якія прысутнічалі на гэтым сходзе.

З часам гэта тэлеграма аказалася ў руках МУС-ГПУ разам з іншымі дакументамі, захопленымі Савецкім камандаваннем у Берліне. Пасля вызвалення ад нямецкіх фашыстаў Чэхаславакіі Савецкія органы патрабавалі ад Чэхаславацкага ўрада выдаць нямецкіх прыслужнікаў. Якісь час Чэхаславацкі ўрад не выдаваў іх, але нарэшце ўступіў намаганням, і Геніюшы былі арыштаваны і пасля следства высланы ў лагеры на поўначы Расіі. У Празе застаўся іх васьмігадовы сын Юрка, які без усякага прытулку бадзяўся па вуліцах Прагі. Даведалася аб беспрытульным хлопчыку польскае пасольства, і па загаду самога Берута польскі пасол вывез яго ў Польшчу і памясціў у дзіцячы прытулак.

У 1956 годзе Геніюшы былі вызвалены з лагераў, але Ларыса не хацела пакінуць лагер да таго часу, пакуль не атрымае дакумента аб поўнай яе рэабілітацыі. Аднак Янка Пятровіч прымусіў яе пакінуць лагер, і яны вярнуліся ў бацькаўскі дом Янкі ў Зэльве. Вось і цяпер Ларыса не хоча прасіць савецкага грамадзянства, пакуль не будзе рэабілітавана. А такой рэабілітацыі не мае. Да таго ж яшчэ адна прычына стрымлівае ад савецкага грамадзянства.

— Мне дзядзька (Захарка) пакінуў тэстамент,— шапнула.

— Які тэстамент? — здзіўлена спытала я, падумаўшы, што якісь капітал ёй завяшчаў.

— Тэстамент, па якому ўладу прэзідэнта БНР перадаў Абрамчыку, а мяне прызначыў генеральным сакратаром БНР.

Я аслупянела ад такой навіны, аж вочы мае палезлі на лоб. Няўжо яна сур'ёзна прыдае гэтаму значэнне і на штосьці спадзяецца? І як гэта можна ў спадчыне перадаваць камусь уладу, як калісь цары і каралі? І называць гэта «народнай рэспублікай»? Хто іх выбіраў? Які народ?

Я так была ашаломлена, што на той раз не змагла ёй выказаць гэтага віхру думак, толькі спытала:

— А тут… аб гэтым ведаюць?

Яна засмяялася неяк ненатуральна.

— Ведаюць! — коратка адказала, і на гэтым наша начная гутарка спынілася. Мне здалося, што яна пашкадавала аб сваім прызнанні.

Праз тыдзень, які я правяла ў Геніюшаў, я старалася зразумець, што яны за людзі, які ў іх светапогляд. Не раз у Ларысы прарывалася поўная нянавісці фраза: «Як я ненавіджу ўсіх гэтых камуністаў!» А то аднойчы, успамінаючы наша завочнае знаёмства ў перапісцы, яна нібы жартам сказала:

— І вось піша мне, што яна камуністка, хоць і беспартыйная. А бадай цябе, бадай!

Абрамчыка, які вывез з сабой у Парыж увесь архіў БНР, расхвалівала як ідэальнага чалавека з крыштальнай душой. Ён, аказваецца, быў у свой час членам Камуністычнай партыі, але расчараваўся ў ёй і выступіў з партыі.

У іх доме, апрача «ЛіМа», беларускай «Нівы» і «Литературной газеты», я не бачыла ніводнай з цэнтральных ці рэспубліканскіх газет. Рэпрадуктар радыёкропкі маўчаў, але ад транзістара старога выпуску Янка Пятровіч у вольны ад службы час не адрываўся, ловячы хвалі замежных перадач «Вольнай Еўропы», «Голасу Амерыкі» і інш., асабліва ўважліва слухаў перадачы беларускіх эмігрантаў за мяжой.

Словам, гэтая пара — людзі адарваныя ад нашай рэчаіснасці, якія прагна ловяць у сваю душу ўсё адмоўнае ў нашым жыцці і не хочуць бачыць дасягненняў савецкага народу, нічога пазітыўнага.

Зменлівасць настрояў Ларысы найбольш выявілася ў адносінах яе да мужа: то яна перада мной жаліцца на яго, кляне, лае, называе яго «лордам», разбэшчаным гультаём, які і пальцам не кране ў дапамозе ёй у хатняй гаспадарцы, то зноў пяшчотна называе яго Яначкам і клапоціцца аб ім, дагаджае яго капрызам. А што да маніі праследавання, дык гэта таксама спраўдзілася: амаль усіх, хто часта бываў у яе доме і прыхільна да яе адносіўся, падазравала, што яны па заданню пэўных органаў сочаць за ёй, і хіба толькі адзін Пашковіч не належаў да «сачкомаў».

І ўсё ж, не зважаючы на ўсё, што мне давялося бачыць і чуць, Ларыса чымсьці прываражыла мяне, прыліпла да душы і сэрца. Цяпер зводдалі мне і самой цяжка сабе вытлумачыць, чым яна ўзяла мяне за душу. Ці то яе паэтычны талент, ці яе тып чыста народны, беларускі, яе прыгожая, чыста народная мова, яе працавітасць, якая не цураецца самай цяжкай, часам бруднай работы, яе парэпаныя рукі ў мазалёх ці часта яе натхнёны позірк кудысьці ў нябачную даль, быццам паверх нашых галоў яна бачыць штосьці велічнае, святое для яе… Не ведаю!

Усёй душой мне хацелася для яе лепшай долі ў жыцці. Страшна падумаць аб яе будучыні! Вісець паміж небам і зямлёй без грамадзянства, без перспектывы на забеспячэнне быту, бо без грамадзянства няведама, ці будзе мець права на пенсію яе Янка (у яе няма ніякіх падстаў на пенсію). А калі нават і атрымае Янка пенсію, дык як пражыць на якіясь 60 руб. у месяц? А калі яна праз сваё ўпорства ці то дурны нейкі прынцып адмаўляецца ад савецкага грамадзянства, якое ёй прапануюць, дык няма чаго і жаліцца на тое, што і друкаваць яе не будуць. Як ты да нас адносішся, так і мы да цябе! Хоча выехаць у Польшчу, у Беласток, да сына? А там што? Лепш будзе? Ніколі!

Пасля майго ад'езду з Зэльвы мы з Ларысай пачалі актыўна перапісвацца. Я імкнулася пераканаць яе, што нам трэба жыць са сваім народам, дзяліць яго радасці і гора, што трэба як найхутчэй прыняць грамадзянства БССР.

Вось што аб ёй піша мне М. Танк у лісце ад 15/XI-68 г.:

«Нейкі трагічны фатум праследуе гэту сям'ю. І калі ў ранейшых яе бедах можна было некага вінаваціць, дык у сённяшніх — шмат у чым вінаваты самі. Саюз пісьменнікаў са згоды дырэктыўных органаў дапамог выдаць зборнік, прапанавалі ёй хутчэй аформіць грамадзянства, прыняць яе ў Саюз і інш. Аб усім гэтым было дамоўлена. І раптам, відаць, даўшы послых розным "добразычліўцам", ад усяго адмаўляецца. Зараз і не знаю, як ёй дапамагчы разабрацца ва ўсёй блытаніне. Баюся, каб не дайшло да той трагедыі, да якой падрыхтоўвае яе Янка — чалавек, які, збіўшыся з дарогі, цягне за сабой і сваю сяброўку ў нешта цяжкае і змрочнае, створанае яго хворым уяўленнем. Добра, што вы з ёю перапісваецеся, стараецеся неяк праясніць цяжкае і сумнае яе жыццё…»

Адмаўляючыся ад прапанаванага ёй грамадзянства і збіраючыся выехаць за межы роднай зямлі, яна піша: «Тут не прынцып, а розум і разлік». Я ёй на гэта: «Відаць, розныя розумы існуюць, і ты лічыш, што толькі твой розум разумнейшы за іншых. А ў разліках памыляюцца нават вялікія вучоныя — будаўнікі касмічных караблёў». Яна піша: «Я хачу адчуваць волю, хоць крыху волі, хоць праз усе мукі… Мне хочацца рэшткі жыцця аддаць народу, але, здаецца, трэба аддаць і сыну». Я ёй пра гэта: «Ствараецца

ўражанне, што сваё Я, сваё асабістае і сямейнае ты ставіш вышэй за свой народ, за яго будучыню. А як жа тады *"*сцежка трэцяя*"*? — *"*Пры дарозе той чабор сцелецца, узышло на ёй волі зелейца. Паліваць яго трэба з ласкаю, нат слязьмі, нат крывёю ўласнаю… ўсё ж пайшоў дзяцюк сцежкай трэцяю…*"* (*"*Тры дарог*"*.) Дзе ж логіка? Па якой ты хочаш ісці, бо ўсе тры дарогі не для цябе? Па нейкай чацвёртай хочаш ісці? На пяры адно, а на справе — іншае? У нашым Будславе шмат было такіх, якія ў час польска-панскай акупацыі лічыліся *"*шчырымі*"*, гарачыя патрыятычныя прамовы гаварылі. А дзе яны цяпер? Паўцякалі ў 1946 г. хто ў Wroclaw, хто ў Zielonu Goru, а хто яшчэ далей на захад. А іх родныя палеткі засеяліся горкім палыном, пякучай крапівой, пустазеллем. Хто іх палоць будзе? Хто ажывіць глебу і засеіць здаровым зеллем? Хто гэта рабіцьме? — Я пытаю ў цябе! А хіба такія Максімы, Міколы, Генадзі, Арсені, Веры, Юлі, Ядзі і інш. — горшыя патрыёты, чымся мы з табой? Ці яны менш кахаюць свой народ, сваю бацькаўшчыну? А паглядзі, якую вялікую справу яны робяць на карысць свайго народу, сярод якога жывуць! А ты хочаш пакінуць свой агарод, свой цудоўны кветнік без паліўкі, без полива. Хай сохне ўсё, хай зарастае пустазеллем! Эх, ты-ы-ы!»

А яна на гэта ўсё: «Толькі сабака ліжа руку *"*бьюшего*"*… я — эўрапейка… Ты мяне *"*заела*"* гэтым грамадзянствам».

І ўрэшце — апошні яе ліст, аб якім гаварыла ў пачатку. На гэтым і скончылася наша перапіска.

*1970*

*Валянціна КОЎТУН*

# «З РАБРА НАДНЯМОНСКІХ ВЯРБІН…»

*Я ніколі не шкадавала жыцьця для Радзімы і хацела б жыць для яе яшчэ вечнасьць, бо надта многа трэба зрабіць.*

Ларыса Геніюш

Згадваць пра Яе — як паглыбляцца ў сканцэнтраваную магму лёсавызначальнага, расчытваць на вечных скрыжалях знакі мінулага, цяперашняга, будучыні. І не толькі знакі жыцця асобных людзей, у тым ліку мяне асабіста, але і значныя вехі агульнай гістарычнай кардыяграмы беларускага народа і дзяржавы. Бо настолькі велічныя для Беларусі сама Асоба, дзейнасць, творчасць Ларысы Геніюш. І асабліва — яе подзвіг жыцця ў краіне-гулагу. Як у сталінскіх канцлагерах, так і ў зэльвенскім закутку. Ларыса Геніюш — жыхарка іншай, прымроенай за кратамі, выбудаванай на падмурку ўласных пакутаў і радасцяў белай краіны, за якую праліта ўжо столькі крыві, якая ўвесь час толькі набліжаецца да незалежнасці, але ніяк гэтай незалежнасці не асягне.

Канец 60 — пачатак 70-х гадоў ужо мінулага стагоддзя пазначыўся ў маім лёсе пераломнымі падзеямі. Асабліва пры імпульсіўным спрыянні Анатоля Вярцінскага і Еўдакіі Лось. Вярцінскі змясціў мае вершы ў «ЛіМе», Еўдакія Лось наведалася да рэктара БДУ з просьбаю перавесці мяне, студэнтку філфака Львоўскага дзяржаўнага універсітэта імя Івана Франко і паэтку-пачаткоўку Валянціну Коўтун, на філалагічны факультэт БДУ імя Леніна. Прафесар філфака Адам Супрун якраз умацоўваў славянскую кафедру і ўключыў у аспіранцкія спісы студэнтку са Львова: па тым часе я няблага валодала ўкраінскай, польскай, чэшскай мовамі… Такім чынам, адбыўся мой, для мяне самой даволі нечаканы, пераезд з еўрапейскага Львова ў сталіцу тагачаснай савецкай Беларусі. Якраз пры заканчэнні чацвёртага курса. Пікантныя падрабязнасці гэтага пераезду апускаю. Аднак за плячыма была львоўская школа высакагоднага нацыяналізму, што праявілася з першых жа крокаў па новых аўдыторыях. Вучылася я з ахвотай, даздавала неабходныя экзамены, жыла нелегальна колькі часу ў інтэрнаце на Паркавай, харчавалася на чатыры капейкі ў дзень (тры — вінегрэт, адна — чай, хлеб — бясплатны). Пасля, дзякуй Богу, атрымала ложак у перанаселеным пакойчыку, пасябравала з літаратурнай моладдзю, усё часцей сустракаючыся з Сяргеем Панізнікам, Жэняй Янішчыц, Алесем Разанавым, старэйшымі — Еўдакіяй Лось, Рыгорам Барадуліным…

Адразу ж пасля пераезду ў Мінск львоўскія апекуны мае — пісьменніца Ірына Вільдэ, паэты Уладзімір Лучук, Аксана Сенатовіч — паведамілі Ларысе Антонаўне Геніюш, што ў Мінску з’явілася маладая паэтка, якой не лішне было б апекавацца… І Геніюш адразу ж адгукнулася…

Як жа шкадую я сёння, што першыя лісты, якія прывозіў мне з Зэльвы малады выкладчык радыёфізічнага факультэта БДУ Тадэвуш Пяркоўскі, сусед Ларысы Антонаўны па зэльвенскай вуліцы, невядома як згінулі ў інтэрнацкай крутаверці. Памятаю толькі, што ў адным з іх Ларыса Антонаўна вельмі высока ацаніла мае літаратурныя набыткі, прадказваючы поспехі. Зрэшты, ліст ад яе быў настолькі пазітыўным, што я проста засаромелася: «Дзякую, што не забыліся пра мяне… Вы — любоў мая, і ліст ад Вас для мяне — радасць… Да слёз хачу пабачыцца з вамі».

І сустрэча — адбылася. Тагачасны БДУ гудзеў ад канфлікту паміж дэканатам і студэнтамі, якія збіралі подпісы за выкладанне прадметаў ва ўніверсітэце на беларускай мове… Я рыхтавалася да дзяржаўных экзаменаў і пад кіраўніцтвам выкладчыцы Кіры Гюлумянц пісала дыпломную па фразеалогіі на матэрыяле польскага перакладу рамана Івана Мележа «Людзі на балоце».

Добра запомніўся камсамольскі сход, на якім прысутнічаў дэкан філфака Аляксей Воўк і іншыя выкладчыкі. Патрабавалася адно: асудзіць Алеся Разанава і Віктара Ярца за самавольны збор подпісаў на карысць беларускамоўнага выкладання. Сход з хітрым і подлым сцэнарыем. Спрабавалі нават прагаласаваць «аднагалосна». Не атрымалася. У пэўнай ступені і з-за мяне, а таксама з-за любімага студэнта Адама Яўгенавіча Супруна, тады выпускніка, а цяпер вядомага лінгвіста Барыса Плотнікава. І вось галасаванне. Строга пытаюць, чаму я не галасую супроць злачынных дзеянняў Разанава і Ярца? Адказ мой, наколькі памятаю, грунтаваўся на тым, што мяне, беларуску, якая здавала ў Львоўскім універсітэце нават філасофію на ўкраінскай мове, дапраўды здзіўляе, а чаму ў БДУ так рэдка гучыць беларускае слова? Аднак найбольш усхвалявала каманду Ваўка мая патрабавальная прапанова не вырашаць лёс хлопцаў завочна, а паклікаць іх на сход. Каб выказаліся. Менавіта гэта якраз і выклікала асаблівую ярасць. Тым болей, што падняўся і Барыс Плотнікаў, які быў шчыра здзіўлены раздзьмутай «справай», грунтоўна распавядаючы, што падчас пражывання ў інтэрнаце на Паркавай і на студэнцкіх будоўлях заўважаў толькі працавітасць і сумленнасць хлопцаў. …

Менавіта пасля гэтага схода і атрымання яшчэ аднаго ліста ад Ларысы Антонаўны мы з Алесем і Віктарам пачалі сустракацца часцей і ўрэшце вырашылі паехаць у Зэльву! Разумелі, што пра такую паездку трэба маўчаць, і ўсё ж… Мы былі такія маладыя, дзёрзкія, неасцярожна-даверлівыя, апантаныя беларушчынай!

У адной са сваіх публікацый Алег Лойка згадваў, па чыёй наводцы пра нашу паездку стала вядома ў дэканаце. Студэнтаў, якія выехалі ў Гародню нібыта з мэтай правесці адпаведную агітацыю за беларускую мову сярод моладзі Гарадзеншчыны, чакалі на пероне нарады ўзброенай міліцыі. Але дарэмна… Да Гродне мы не даехалі. Чаму так сталася — ужо не памятаю, але дружна вырашылі не чакаць раніцы, а сысці з цягніка сярэдначы ў самой Зэльве. Так і зрабілі. Вуліцы гарадка былі амаль неасветленыя, і нашай хадзе дапамагаў толькі пробліск зорак. Упэўнена вяду Алеся Разанава, Віктара Ярца і Льва Барташа да хаты Геніюшаў. Спыняемся. Напэўна — тут. Нехта з хлопцаў пайшоў паглядзець, засмяяўся: «А ў цябе сапраўдная Цётчына інтуіцыя! Прыбылі да гарадскога аддзялення міліцыі!» З жартамі і бясконцамі расказамі пра сваё пайшлі далей, сустракаючы на вуліцы ранішняе праменне. Нарэшце, калі ўжо развіднела, знайшлі. Звонім у дзверы. Аніякага руху. Маўчанне! Стукаем. Доўга чакаем. І раптам дзверы шырока адчыняюцца, і на ганак хутка выходзіць Ларыса Антонаўна. Амаль са слязамі на вачах прызнаецца, што баялася якой правакацыі. Пакуль нарэшце не зразумела, хто ж мы, яе ранішнія госці! А ў хуткім часе пазнаёміліся мы і з гаспадаром гасціннай хаты. Тое, што засталося ў памяці ад той незвычайнай сустрэчы, узнавіць у рэальных абрысах сёння амаль немагчыма. Толькі водбліскі думак, успышкі здагадак і захаплення…

Позна ўвечары мы сядзелі ў мінскім аўтобусе, перапоўненыя пачуццямі. Нас, бедных і галодных, загнаных дэканатам маладых паэтаў цэлы дзень частавала, паіла і карміла сваімі прысмакамі сама Маці Беларусі! Мы ехалі, а ў вушах не аціхаў яе голас. Яцвяжка, як назвала сябе сама Ларыса Антонаўна, увесь час расказвала пра сваіх сяброў і дзейнасць вялікіх адраджэнцаў. Я слухала яе і сама расказвала пра ўсё, што адшукала падчас работы ў архівах. А яна зноў чытала па памяці вершы, распавядала пра свае гулагаўскія гады…

Аўтобус шаргацеў коламі, а ў маіх вушах усё ценіўся і біўся ў акенца памяці, як птушанятка, радок: «З рабра наднямонскіх вярбін…» Ды і ўсе яе вершы ўспрымаліся тады неяк інакш. Да самага Мінску вусны міжволі шапталі: «З рабра наднямонскіх вярбін…» Што сталася з намі, юнымі гасцямі Ларысы Геніюш, пазней — вядома. Віктара Ярца паслалі ў Гомель, Алеся Разанава — у Брэст. Ці не ў той час Ларыса Антонаўна паслала свой абуральны ліст у дэканат філфака БДУ. Перадала ліст (ад 9 лістапада 1967 года) і мне: «Скажэце ім (Разанаву і Ярцу. — *В. К.*), што вельмі іх паважаю, што трэба ісьці наперад, бо адступаць ужо няма куды! Скажэце ім, што гэта цудоўны і зусім ня цяжкі шлях — быць змагаром за правы, за долю свайго народу! Я кажу гэта з практыкі. Я ніколі не шкадавала жыцьця для Радзімы і хацела б жыць для яе яшчэ вечнасьць, бо надта многа трэба зрабіць. У хлопцах мяне захапляе:

Сьмелы голас, шляхотны парыў,
вернасьць Маці, адзінай і роднай.
То Кастусь ад сьвітальнай зары
запаліў юных сэрцаў паходні!»

Доўга афіцыйным уладам не было вядома пра мае паездкі ў Зэльву. Пасля ўсё ж расказалі Кузьме Хромчанку і, пэўна, Алегу Лойку. Хто расказаў — цяпер няважна. Аднак сур'ёзна паўстала пытанне аб маім выключэнні з БДУ. І зноў — провід лёсу. Заступілася за мяне адна з выкладчыц, якая перад тым была на курсах павышэння ў Маскве. Там і сустрэла яна дацэнта ЛДУ імя Івана Франко Т. В. Паляніну, якая пацікавілася маім лёсам. І атрымлівалася, што таварыш А. Воўк хоча выключыць з універсітэта студэнтку, якую Львоў спецыяльна паслаў у Мінск для навучання ў аспірантуры. Ды яшчэ пры садзейнічанні Саюза пісьменнікаў. Пайсці на такое нават А. Воўк не адважыўся. Так што абараніць дыплом мне ўсё ж дазволілі. Аднак усе шляхі ў аспірантуру былі зачыненыя, на экзаменах вышэй тройкі мне ўжо не ставілі, што выклікала подзіў нават у самых «правільных» студэнтаў, якія чулі мае адказы. І ўсё ж — зноў падарунак лёсу.

Прыйшоў новы ліст ад Ларысы Антонаўны, дзе яна не толькі шчыра мяне падтрымала, але нават аддала пад маю апеку сваю любімую пляменніцу Людку, з якой мы, помніцца, сустрэліся ў інтэрнаце на той жа Паркавай. Каб тут жа развітацца — мне прыйшла пара выязджаць на месца працы ў Астравецкі раён. Туды Тадэвуш Пяркоўскі, на жаль, ужо не мог даехаць. Перапіска прыпынілася, аднак ненадоўга. Моцная рука дырыжора майго лёсу — рука Геніюш — зноў зрабіла яшчэ адзін моцны рух. Бо якраз у гэты час я, з'ехаўшы з Гудагая ў Мінск, стала працаваць у «Сельскай газеце» і аднавіла таемнае ліставанне з паэткай. Менавіта тады зэльвенскі «лістаноша» Тадэвуш Пяркоўскі і пазнаёміў мяне са сваім сябрам Георгіем, які пазней стаў маім мужам…

А пасля… Пакаюся, што мацярынскія клопаты адарвалі мяне ад Зэльвы надоўга. Да таго ж у піку намаганням Ваўка і ўсёй зграі, я вырашыла самастойна напісаць і абараніць дысертацыю па паэтыцы беларускай народнай песні. Дысертацыя сапраўды была напісана, абаронена і ўрэшце, пры спрыянні Веры Палтаран, надрукавана асобнай кніжкай пад назваю «Святло народнага слова». А з Зэльвы мне перадаваліся вітанні ўсё тым жа нешматслоўным Тадэвушам.

Я доўгі час не бачылася з Ларысай Геніюш — да сустрэчы на адным з пісьменніцкіх з'ездаў, калі сумна было назіраць, як некаторыя беларускія творцы відавочна пазбягалі легендарнай бунтаркі… Яна радасна і гучна аклікнула мяне, калі я азіралася па баках, шукаючы вольнага месца. Побач з ёй ужо сядзелі Ніна Мацяш і Дануся Бічэль-Загнетава. Знайшлося месца і для мяне. З'езд шумеў аб нечым вельмі важным і абвострана пар-

тыйным… А мы проста сядзелі ў зале, і вясёлы Уладзімір Караткевіч з шырокай усмешкаю на вуснах расказваў нам нейкую гістарычную байку. Гучалі прамовы і ўхвальныя воплескі. А мы слухалі Караткевіча і на тым з’ездзе былі крыху адасобленыя ад усіх. І ўсё ж адчувалі мы сябе ў тым бурлівым літаратурным свеце адным непарушным, незалежным, цэлым.

Можа, таму ў прысвячэннях самых дарагіх мне вершаў заўжды знаходзілася месца для святога імя жанчыны, якая ў маёй уяве неад’емная ад такіх магутных постацяў, як Алаіза Пашкевічанка (Цётка) і Еўфрасіння Полацкая.

І ў ззянні слоў праз год прагоны,
Праз мір і войнаў каламуць,
Бы кветкі, вашыя імёны
На шлях Айчыны пакладуць…

Імя Ларысы Геніюш, вялікай змагаркі за Беларусь, не знікала, не знікне і ніколі не згубіцца ў памяці беларусаў.

*2009*

*Сяргей ПАНІЗНІК*

# «І БУДЗЬЦЕ СЫНАМ…»

*Радзімаю наканавана жыць мне,*
*крывёю сэрца новы спеў пісаць.*

Ларыса Геніюш.
«Скарбы слоў»

21 лістапада 1967 года ў выдавецтве «Беларусь» была падпісана да друку кніга вершаў Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана». Афармляў, цытую анатацыю, «першы паэтычны зборнік таленавітай беларускай паэтэсы Ларысы Геніюш, які выходзіць у Савецкім Саюзе», мастак Уладзімір Басалыга. На грамадскіх асновах яго адрэдагаваў яшчэ адзін Уладзімір — Караткевіч.

А 19 студзеня 1968 года адбылася яго своеасаблівая прэзентацыя — на кватэры «грамадскага рэдактара». На застолле ў гонар Ларысы Антонаўны сабралася многа паклоннікаў і яе таленту, і яе жыццёвага подзвігу. Суседам у той пачостцы яна выбрала мяне: спадзявалася, што будзе менш каля яе алкагольнага смуроду. Я на той час быў ва ўсіх сэнсах пачаткоўцам і не вельмі шчыраваў з напоямі.

У сваіх запісах перачытваю радкі: «З Геніюш учора была і яшчэ адна паважаная асоба — Алеся Ігнатаўна Смоліч. Абедзве нацярпеліся ў сваім жыцці. На вечарыне чыталі вершы, спявалі песні. Запомніліся словы Ларысы Антонаўны, сказаныя пасля аднаго не дужа ўдалага тосту: *"*Старых у барацьбе няма*"*.

На кватэры Уладзіміра Караткевіча спявалі не толькі мы, госці, не толькі сам гаспадар. Усіх уразіла Люба Грынчык, жонка Мікалая Міхайлавіча: яна пад гітару выконвала народныя песні, славутыя гімны Заходняй Беларусі. У той студзеньскі вечар Ларыса Антонаўна, слухаючы пявунню, мне прашаптала: *"*Паглядзі, колькі ў яе твары святога, іконнага…*"*

З бяседы у Караткевіча запомніліся і такія павучанні Геніюш: «Самае лепшае цяпер — працаваць: пісаць моцна, уздзейнічаць на людзей словам. І гэта ўжо барацьба».

Пасля гасціны ў Алеся Траяноўскага Ларыса Антонаўна паехала ў Зэльву. Я падарыў ёй свае «Кастры Купалля». І быў вельмі ўражаны яе нечаканым падарункам. На зборніку «Невадам з Нёмана» прачытаў такі надпіс:

*«О Радзіма, куточак славянскі,*
*каб ад згубы Цябе ўсьцерагчы,*
*сыны верна ля вогнішч купальскіх*
*сваіх продкаў цалуюць мячы!*

*Сяргею Панізьніку — у памяць сустрэчы*
*і ў доказ павагі ад аўтаркі. Зэльва, 1/III.68 года».*

У добразычлівую Зэльву я адважыўся паехаць з Міколам Прашковічам. У сярэдзіне ліпеня 1968 года гасцявалі ў сям'і Геніюшаў два дні: суботу і нядзелю. Сем вершаў Ларысы Антонаўны засталіся зафіксаванымі на магнітафоннай стужцы «Рамантыка». Мы ўселіся ў асобным пакоі, каб ніхто не перашкаджаў. Ларыса Антонаўна, каб не збіцца перад мікрафонам, чытала вершы са сшытка, але экспрэсіўна, з вялікім пачуццём і годнасцю. Трымаць мікрафон мне было прыемна і зайздросна: з такой праймальнай дыкцыяй, з такім выпраменьваннем паэтычнага пачуцця я нікога яшчэ не чуў.

Фатаграфаваў вялікую сям'ю Геніюшаў усіх і паасобку: унукаў Алеся і Міхася, сына Юрку і нявестку Валянціну, дзядзьку Янку з яго прыгожым сабакам. Асабліва ўдаўся

мне здымак Ларысы Антонаўны каля мура даўняй бажніцы. Гэтае фота змяшчалі многія выданні. Ёсць яно і на вокладцы кнігі Ларысы Геніюш «Каб вы ведалі». Міхась Скобла парупіўся назваць імя аўтара здымка. Цяпер усе зэльвенскія фатаграфіі і голас паэткі занесены на кампакт-дыск. Іх не сатрэ час і да 200-годдзя Ларысы Антонаўны.

У згаданай кнізе эпісталярнай спадчыны, укладзенай Міхасём Скоблам, я ўпершыню прачытаў ліст да мяне, напісаны Геніюш 7 жніўня 1968 года. Мікола Прашковіч забыўся перадаць яго мне. А ў допісе Ларыса Антонаўна дзякавала мне за перасланыя фатаграфіі, у постскрыптуме пазначыла: «Буду чакаць ад Вас хоць пару слоў». А як жа я іх мог напісаць, калі пра просьбу даведаўся праз 27 гадоў?

У самым канцы 1968 года я атрымаў ліст з Зэльвы ад тамтэйшай настаўніцы Ніны Лойкі. Яна пісала, што 18 студзеня 1969 года райкам камсамола сумесна з сярэдняй школай рыхтуюцца правесці вечар-агеньчык «Мы, военные журналисты, — обыкновенные бойцы». Паслалі афіцыйнае запрашэнне на адрас начальніка палітаддзела 120-й гвардзейскай дывізіі, дзе я тады служыў карэспандэнтам газеты. Хачу працытаваць і такую прыпіску: «Вы не ўяўляеце, Сяргей, як рыхтуецца да сустрэчы Ларыса Антонаўна. Скажу па сакрэце: у яе поўны падвал каньякоў розных марак».

Згадка пра напоі была для мяне не такой ужо прывабнай. Тым больш я ведаў, як Ларыса Антонаўна з горыччу ўшчувала і Караткевіча, і Прашковіча за празмернае чаркаванне.

Той студзенькі «агеньчык» у Зэльве адбыўся. Згадзіўся паехаць у сцюдзёную дарогу Мікола Прашковіч. На літаратурнай вечарыне ў школе была і Ларыса Геніюш. Але выступіць яе не запрасілі. Відаць, на пачостцы я не ўстрымаўся ад рэзкіх слоў на адрас арганізатараў вечарыны. Мо такая спроба заступніцтва «зрыкашэціла» і на Ларысу Антонаўну. У лісце ад 13 лютага 1969 года настаўніца Ніна Лойка пісала: «З’явілася сёння раніцай да Л. А. Яна сказала, што ўсе мы такія, усе прыкідваемся… Няўжо мы жадаем ёй чаго-небудзь дрэннага? Як даказаць людзям, што ўсё гэта плод недавер’я да людзей наогул?»

Цяжка было жыць Геніюшам у атмасферы нагляду. Гэта спараджала падозру. Але трымаць гнеў на людзей яна не ўмела. У лісце ад 10 сакавіка 1969 года Ніна Лойка піша і ад сябе, і ад імя Ларысы Антонаўны, якая была ў клопаце за мае непярэліўкі ў Менску: «Што ў вас там здарылася? Адгалоскі далятаюць да нас. Многа незразумелых плётак, таму мы адносімся да іх з недаверам. Паколькі мы ведаем цябе і тваю паэзію, у нас няма прычын не давяраць твайму імені. Не парушай вострa гэтай справы, аб гэтым паважна і настойліва цябе просім».

У тыя дні я ўжо ведаў, што мяне збіраюцца адправіць служыць далёка за межы Беларусі. Нерваваўся. А яшчэ маю халасцяцкую асобу пільнавалі розныя хітраватыя сваты.

Але дачытаем ліст Ніны Лойкй: «Іван Пятровіч купіў і ўжо выслаў кніжкі, аб якіх Мікола яго прасіў. Дарэчы, святкавалі мы 8 сакавіка дзень нараджэння Івана Пятровіча. Былі толькі іх сваякі. Стол быў багаты, і я там чулася добра. Пасля пайшлі мы з Юркам Голубам у клуб патанцаваць. З гэтага неспадзяванага госця гаспадыня дому (Л. А.) асаблівай радасці не мела, і я яе разумею. Яна аж захварэла з гэтага ўсяго. Не хоча, каб вы прыязджалі. Я бачу, што яна выключна клапоціцца за цябе, хоча, каб ты меў спакой для працы. Табе яна верыць. Аднак ты прыедзь, калі зможаш. Усе вітаюць цябе сардэчна і чакаюць вестак».

Перажыванні Ларысы Антонаўны за створаную вакол мяне «бучу» далі мне, як ні дзіўна, супакой. Праглядваю запіс у дзённіку ад 13 сакавіка 1969 года: «Ужо і мяне ўплялі ў свае плёткі людзі з *“*вышэйшага сталічнага свету*”*. Каб я яшчэ раз там паказаўся…»

Аднаму з лістоў ад Геніюшаў пашчасціла трапіць у маю паштовую скрынку, бо высылала яго Ніна Лойка з рэдакцыі газеты «Праца»:

*«Зэльва, 28 красавіка 1969 г.*

*Дарагі сябра Сяргей! Дзякуем Вам за кніжку, за памяць. Не пісалі мы Вам, бо лісты ад нас не для ўсіх мілыя, пажаданыя. Нас нейк “ядзяць”, асабліва мяне. Івану Пятровічу, які ўжо ледзь ходзіць, адмовілі ў пенсіі… Толькі дзеці і ўнукі здаровыя, гэта важна. Я прасіла Ніну, каб Вам напісала, і сказала ёй, што пісаць. Мы, Сяргей, не ведалі, што там з Вамі. У мяне тут было такое нервовае становішча, што “сігнал”, каб стараніцца Вас, праўда, невыразны, не канкрэтны, я прыняла як нейкі новы “фокус” сваіх “апекуноў”. Жаль, што Вы не адказалі Ніне адразу. Я мучылася няпэўнасцю, бо сянняшні час крышыць і жалеза. […] Прышліце мне фатаграфію з Масквы, гдзе вы усе з П. М.* (Паўлінай Мядзёлкай. — *С. П.*)».

Я выслаў Ларысе Антонаўне здымак, на якім сфатаграфаваныя Данута Бічэль, Мікола Капыловіч, Паўліна Мядзёлка, Мар’ян Дукса, Жэня Янішчыц, Анатоль Кудравец у сакавіку 1969 года на 5-й Усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў. Гэта Данута Іванаўна парупілася, каб мы змаглі сустрэцца і пагутарыць з купалаўскай Паўлінкай.

А 26 верасня 1969 года мяне адправілі служыць у Цэнтральную групу войскаў. У гарадок Мілавіца-над-Лабай, што за 30 вёрст ад Прагі, прыходзілі да мяне лісты ад Юркі Геніюша. Не на мой вайсковы адрас, а да запатрабавання на мясцовай пошце. Пісаць у Зэльву асцерагаўся. Саслужывец, фатограф з друкарні, прызнаўся, што асабісты прыносілі яму на пераздымкі паперы, патаемна ўзятыя з маёй кватэры. Пісар з палітаддзела крадком перадаў мне перапісаны ім дакумент, у якім начальнік палітаддзела патрабаваў ад Саюза пісьменнікаў у Менску выключыць мяне з СП, бо я «неправильно толковал интернационалисцкую политику», «проявлял элементы, чуждые советской морали национализма и недовольства».

Зусім нядаўна ў сеціве знайшоў водгалас тых падзей ад невядомай мне журналісткі Яны Клусаковай. У тэксце пра мяне ёсць і такі абзац: «У 1970 годзе пры сустрэчы з чэхамі сказаў, што не быў згодны з акупацыяй, а *“pozadal o odpusteni”*. Да сёння шкадую, што просьбу аб прабачэнні за акупацыю іх краіны войскамі Варшаўскай дамовы калабаранты з Нымбурка пераказалі ў штаб ЦГВ.

І ўсё ж, нягледзячы на навіслы «каўпак», я бачыўся з Вацлавам Жыдліцкім, сустракаў разам з ім Караткевіча, наведваў Міхася Іванавіча Забэйду-Суміцкага, вышукваў мясціны побыту ў Празе, Подзебрадах, Карлавых Варах Янкі Купалы, Ларысы Геніюш, беларускіх студэнтаў, якія з ласкі прэзідэнта Масарыка вучыліся ў Чэхіі. На той жа магнітафон «Рамантык» я запісаў і голас дзядзькі Міхася.

У ліпені 1973 года мая сям’я вярнулася на радзіму. Я зноў пачаў служыць ва Уруччы. Не магу сёння дадумацца, якім чынам аказалася ў маім архіве паштоўка з рэпрадукцыяй палатна Пальмы Векіа з Дрэздэнскай галерэі «Сустрэча Іакава з Рахіллю». На адвароце — некалькі радкоў тэкету: *«Зэльва, 1973 г. Хрыстос уваскрос! Сардэчна Вас вітаем са святамі і з мілай сустрэчай! Жадаем Вам шчасця. Геніюшы».*

Напэўна, я падзяліўся радасцю з Юркам аб маім вяртанні з Чэхіі, а ён, будучы ў мамы, сказаў пра гэта, і Ларыса Антонаўна сваёй паштоўкай дабраславіла нашу сустрэчу. У той жа год мне перадалі зборнік Ларысы Геніюш «Казкі для Міхаські» (Мінск: Беларусь, 1972) з такім дарчым надпісам: *«Даражэнькаму Андрэйцы Панізніку з любоўю свае скромныя пяшчоты дзіцячыя шле Ларыса Геніюш».*

Сустрэцца з «Рахіллю», на вялікі жаль, тады не давялося. «Іакава» ва Уруччы намоцна апаясалі. Асобны аддзел ці не год збіраў на мяне кампрамат. Пазней хлопец з друкарні дывізіёнкі пры выпадковай сустрэчы распавёў, як апрацоўвалі асабісты салдат-наборшчыкаў, каб яны нагаварылі на мяне. У асабістаў на «дысідэнта ў капітанскіх пагонах» (загаловак добразычлівага артыкула пра мяне ў газеце «Во славу Родины» за

27 траўня 1992 г.) знайшліся іншыя інфарматары-інтэрпрэтатары, і я быў выключаны з партыі за «связь с националистическими деятелями, пропаганду их в печати, потерю классовой бдительности». На сваёй скуры адчуў той жах, які перажывала Ларыса Антонаўна ад «апекуноў». Яе вобразнае слова «ядзяць» натуралізавалася для мяне ва ўручанскіх казармах і вакол іх. Ад поўнай роспачы ратавала тое, што на рэкамендацыю ЦК КПБ выключыць мяне з Саюза пісьменнікаў пры галасаванні не хапіла галасоў. Зноў успамінаецца анонс пад загалоўкам ужо згаданай газеты «Во славу Родины»: «А поэта в Панизнике так и не убили».

У 1976 годзе Ларыса Антонаўна была запрошана на 7-ы з'езд пісьменнікаў. Бачыліся ў Доме літаратара. Да яе ў прытуленні былі ўсе, акрамя тых, насцярожаных. А гэта ж Ларыса Антонаўна гукала да суайчыннікаў: «Людзі, цясней! Няхай сэрцы не спяць…»

Вясной 1983 года «Маці беларуская» (азначэнне Любові Тарасюк) адышла на вечны спачын. У 1988 годзе мне пашчасціла наведаць Прагу Ларысы Геніюш. З лекцыяў Летняй школы пры Карлавым універсітэце я збягаў у Клеменцінум. Славянская кнігоўня сабрала вялікі беларускі аддзел. Замаўляў «Іскры Скарыны», «Беларускі студэнт», «Беларускі сьцяг», іншыя перыядычныя выданні, кнігі В. Вальтара, У. Жылкі, Н. Арсенневай, А. Салаўя…

Пад шыфрам К-6188 знайшлася кніга Ларысы Геніюш «Ад родных ніў». Неспадзеўкай яе аўтограф: *«За родную песьню, якой славіш нашу Беларусь і заліваеш сонцам з зялёных пакінутых межаў нашы сумныя душы ў чужыне. Незраўнянаму мастаку аўтарка. Прага. 8.IX.42».*

Няцяжка здагадацца, што падарунак адрасаваны Міхасю Забэйду-Суміцкаму. Гэта яму, годам раней, быў прысвечаны верш Геніюш, які пачынаўся словамі: «Ты запеў нам песню аб барох сасновых…». Дарэчы, калі ў 1995 годзе ў менскім Доме дружбы адзначалі памятную дату нараджэння «незраўнянага мастака», я, тады старшыня Таварыства «Беларусь — Чэхія», папрасіў кампазітара Ганну Казлову напісаць песню на словы Л. Геніюш. У выкананні самой аўтаркі песня прагучала на вечарыне, нібы прымiраючы дзве творчыя, не ва ўсім сугучныя асобы.

Падчас вучобы ў Летняй школе я наведаў аддзяленне беларусістыкі Карлавага ўніверсітэта, якое ўзначальваў прафесар Вацлаў Жыдліцкі. Ужо тады ён рабіў першыя захады, каб у Празе паўстаў помнік Францішку Скарыну. Згадвалі мы, што ў 1925, 1927 гадах Прагу (і Карлавы Вары) наведаў Янка Купала.

Помнік першадрукару даўно стаіць на Градчанах. Усцешна, што ёсць людзі, якія турбуюцца, каб імя «ўнучкі Скарыны», як назваў Ларысу Геніюш Рыгор Барадулін, было мемарыялізавана ў Празе. У 1948 годзе Прага без супрацiўлення аддала Геніюш на пакуты. Ёсць нагода павініцца.

У 1992 годзе я наведаў асірацелую для мяне Зэльву. Здавалася, што зусім паніжэлі руіны разбуранага касцёла. Уявіў: калі б я зноў змог бы фатаграфаваць каля тых апусцелых муроў Ларысу Антонаўну, яна аказалася б вышэй усіх нашых занядбанняў, недзе ў паднябессі.

Тым жа летам прыехалі да мяне госці з Львова: Аксана Сенатовіч з мужам Уладзімірам Лучуком. Аказалася, што яны не толькі мае даўнія сябры, але і шчырыя прыяцелі Ларысы Антонаўны, як і Гнацюк Іван з Барыслава.

Львавяне пазычылі ўсе матэрыялы, якія я меў пра Геніюш. Бо і на ўкраінскай зямлі праглі ведаць пра нязломнага зэка № 0–287 як мага больш. Сама Аксана Сенатовіч перапісвалася з Геніюш, разам з Данутай Бічэль была наведніцай яе ўжо апусцелай хаты. У 1988 годзе ў Кіеве выйшаў паэтычны зборнік Аксаны «Чоловік з трояндою», дзе з захаваннем усіх засцярог быў надрукаваны верш «Чаканне ў Зэльве». Ён заканч-

ваецца такімі радкамі: «Стаялі, нібы дзеці, ў скрусе. Пяршыла. І гарчэў камок… Яна аб'явіцца!.. Дануся хавае слёзы ў рукавок».

Яна аб'явілася на маіх зэльвенскіх фотаздымках вясной 1996 года ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Я працаваў там на пасадзе вучонага сакратара і дапамагаў наладзіць фотавыставу да вечарыны ў памяць паэткі «Я пакіну Вам маю любоў…». У музеі зноў трымаў у руках кнігу «Ад родных ніў», на гэты раз факсімільнае выданне.

Не так даўно я напісаў верш «Лагерныя прыдуркі», эпіграфам паслужылі радкі Л. Геніюш з кнігі «Споведзь»: «Малакваліфікаваная, але спрытная ля начальства Люцыя Антонаўна ўмела жыць. Яна была адным з першых лагерных прыдуркаў, як называлі адміністрацыю лагера са зняволеных».

Чаму мяне зачапіла такая згадка? Я быў знаёмы з Люцыяй Антонаўнай Тэтэрэ. Да яе мяне прывяла ў Рызе даследчыца латышска-беларускіх літаратурных сувязяў Мірдза Абала. Люцыя Антонаўна была актыўнай дзеячкай беларускага тэатральнага жыцця ў даваеннай Латвіі. За гэта яе і рэпрэсавалі сталінскія апрычнікі. Не хачу апраўдваць Люцыю Антонаўну перад Ларысай Антонаўнай. Л. Тэтэрэ і ў лагеры заставалася артысткай. Другая справа, што вобраз, створаны Геніюш, аказаўся, на жаль, жывучым. Я закончыў свой верш такімі радкамі: «Хто выжываў у лагерах? Прыдуркі. У лагерных прыдуркаў доўгі век».

Спрытных ля начальства і сёння хоць адбаўляй.

І яшчэ пра адну латвійскую паралель хочацца распавесці. Я не пра рыжскі часопіс «Новы шлях», дзе друкавалася Л. Геніюш. А пра яе псеўданім Лясная Кветка, якім паэтка, што праўда, толькі раз падпісалася. Але ж намнога раней, ажно з 1923 года, маладая беларуская паэтка ў Латвіі Валянціна Казлоўская ставіла пад сваімі публікацыямі подпіс: Лясная Кветка, Кветка. Яна нарадзілася ў Рызе ў 1907 годзе. Пасля сканчэння Беларускіх настаўніцкіх курсаў папрасілася ў Менск. Скончыла медінстытут, выйшла замуж за медыка Масея Шапіру. У снежні 1937 года была арыштаваная, абвінавачаная ў шпіянажы на карысць латвійскай разведкі. Расстраляная 31 сакавіка 1938 года. Стала ляснойкветкай недзе ў падслуцкіх Курапатах.

Ці ведала пра яе Ларыса Геніюш?

*2009*

*Данута БІЧЭЛЬ*

# ПІЛІГРЫМКІ Ў ЗЭЛЬВУ

Такое можна ўбачыць у фантастычных кінафільмах, супергероі якіх рашуча ўваходзяць у празрыстую вадкасць і праз імгненне ўзнікаюць у іншым свеце, у іншым вымярэнні, у іншым часе.

Са мной адбылося нешта падобнае, калі мы з Аляксеем Карпюком і Васілём Быкавым у пазычанай белай «волзе» паехалі ў бок Зэльвы і ўвайшлі на драўляны ганачак драўлянай хаты Геніюшаў. І ўжо вітала нас гаспадыня. Ластаўка. Яна цешылася, што мы наведалі яе, шчабятала…

Запрасіла ветліва за круглы стол, засцілала яго бялюткім льняным абрускам, упрыгожвала паяском з народным арнаментам. І адразу пачала завіхацца — насіць вясковыя сыры, каўбаскі, агурочкі, грыбочкі… Шчабятала і лётала, як маладзенькая. Я выбрала месца, каб усіх бачыць і разглядаць сам пакой. Не дапамагаю такім спрытным гаспадынькам увіхацца ў іх гасцінных памяшканнях, баюся перабіць посуд… Ну, цяпер то я ведаю апраўданне — прытчу пра Марту і Марыю, сёстраў Лазара. Марыя слухала Езуса, ёй не было часу займацца кухняй. Ларысе, як і Марце, займацца кухняй было прыемна.

Размаўлялі Васіль і Янка. Карпюк не парушаў іх дыялогу. Ларыса слухала, між справай, зрэдку ўносіла свае каментары. Добра там было. Было там адчуванне ўзаемнай блізкасці, роднасці, адчуванне прысутнасці Бога паміж намі.

Хаціна тая мела сваё святло і сваё дыханне. Хаціна, сагрэтая свядомасцю, што нарэшце гэтыя двое пасля неспакойных штормаў прыплылі ў сваю ціхую прыстань. Сціплая, камерная, але не халодная і не пустая, а прасторная, абжытая і абагрэтая, — месца, дзе розум і дух маюць сабе лек, утульнасць, супакой і аднаўленне. Хата, абсталяваная, уладкаваная неспакойным розумам і неспакойным сэрцам для змучаных целаў.

Хата на чатыры пакоі, але абжытыя былі два злева, а два справа — так, для розных гасцей, выпадковых патрэбаў і для кніг. Там жа ў шафе знаходзіўся лішні посуд і бутэлькі з алкаголем. Алкаголь ім прывозілі з сабою ўсе сябры, хто іх наведваў, — даніна модзе. Госці там начавалі. Але я начавала звычайна ў гэтых абжытых пакоях, як блізкая, каб і ноччу можна было размаўляць, колькі сэрца патрабавала. Печку ў тых пакоях палілі рэдка, але ў яе прасторным гарлячку трымалі пірагі, калі яны былі, — мусіць, яны не чарсцвелі там і мухі іх не даставалі. Пад тым крайнім пакоем была кладоўка на дровы і на бульбу, аберагала яе з надворку аўчарка Альма, пакуль яе не атруцілі. Пасля ў Ларысы Антонаўны быў сабачка, якога за тры рублі купіў са шкады ўнук Алік, калі гасцяваў у бабулі. Гэты чорны сабачка пасля смерці Ларысы Антонаўны зімаваў у хлеўчыку у бацюшкі, ссівеў ад суму па ёй.

Хата была сялянская, але ў ёй змяшчалася шмат дзіўных прадметаў: Янка збіраў кнігі, люлькі і статуэткі зуброў. На сцяне віселі добрыя старыя пейзажы. Абразок Маці Божай, вышыты ў ГУЛАГу на лапіку прасціны костачкай ад рыбы, падараваны паэтцы на дзень народзінаў, а рамачка была зроблена з мякіша хлеба. Мэбля ўся, можна сказаць, была антыкварнай. Самаробная палічка з дошак, якія трымаліся пакладзеныя на цаглінкі… Калі я са сваёй сям'ёй адзін раз у 1970 годзе адпачывала ў Гаграх, пасля таго на той палічцы красавалася і мая фатаграфія ў купальнічку. Канапка стаяла каля палічкі. Я звычайна начавала на ёй. У супрацьлеглым кутку месцілася зашклёная фабрычная са светлага дрэва шафка, у якой трымаліся кнігі асаблівыя, якімі Янка і Ларыса ганарыліся.

Там жа пасля змясцілі плакат з васількамі, які прывезлі ёй мастакі на дзень народзінаў. І шмат такіх каштоўных не цаной, а памяццю сэрца сувеніраў. Абразы былі амаль у кож-

ным пакоі. У спальні, дзе Ларыса Антонаўна трымала друкарку, стаяў вялікі куфар, у ім ляжала ўсё тое, што звычайна трымаюць у куфры, — посцілкі, прасціны, кашулі, бялізна, добрая калекцыя ручнікоў, паяскоў, абрусаў і андаракаў, — паяскі яна ткала сама з маці настаўніка Пятра Марціноўскага з Дзярэчына, вышывала на сурвэтках птушкаў, васількі і розныя кветкі з натуры. Этажэрка ў спальні была ўпрыгожана сурвэткай з васількамі. Ложак і канапка былі засланыя даматканымі посцілкамі…

Некалькі паяскоў, сурвэтак і ручнікоў з яе святога дому, вышытых яе рукамі, засталося ў музеі Максіма Багдановіча, дзе мы ў 1996 годзе стварылі экспазіцыю літаратуры Гродзеншчыны. Яна сама выбрала іх са сваёй калекцыі яшчэ тады, як я толькі пачала збіраць экспанаты ў музей. У адным пакоі знаходзяцца дакументы, кнігі, аўтографы, фатаграфіі, асабістыя прадметы ўжытку Ларысы і Янкі Геніюшаў, напрыклад, ёсць там старыя медычныя інструменты гінеколага, якімі Янка карыстаўся…

У куфры захоўваліся розныя дарагія памяццю продкаў рэчы. Напрыклад, службовы фрэнч прадзеда Янкі Геніюша, пецярбургскага чыноўніка, і паласатая вопратка з лагера з асабістым нумарам. Яна мне толькі аднойчы паказала гэтыя скарбы. А пасля сама пераслала са зручнай нагодай за мяжу рэліквіі пакутніцкай гісторыі беларусаў… Над двухспальным ложкам красаваўся вельмі прыгожы, вельмі стары дыван, які нейкім цудам у добрых людзей захаваўся ад продкаў. Калі Ларыса засталася без Янкі, у яе пад падушкай начавала сякера, якую падараваў ёй археолаг Міхась Чарняўскі, гэта была лёгкая, спрытная, вострая сякера, удзень гаспадыня яе хавала ў спецыяльны чахол…

Найпрыгажэйшым у хаціне Геніюшаў быў ганачак з разнымі ўзорамі зверху, такі ўтульны і такі цёплы, гасцінны, адчынены заўсёды для добрых людзей. Стаяла там крэсла-качалка для Янкі, але можна было ў ім і мне адпачыць, пакалыхацца. Калі гаспадары пайшлі ў вечнасць, а ганачак яшчэ не разбурылі, у адно цёплае лета я паехала аўтастопам да паэткі на дзень нарадзінаў, пабыла на магілках і пасядзела на тым ганачку, цягнік у Гародню хадзіў пасля поўначы. Я забыла там свой парасон. Праз некалькі дзён патэлефанавала Лідзе Тукальскай, сваячцы Геніюшаў па Янку, яна жыла праз адзін дом, у якім была музычная школа, — парасон ляжаў на ганачку…

Дворык быў вузкі. Насупраць ганачка яны сумелі неяк ускапаць малую градку і яблыньку пасадзіць, яблыкі там смачныя, вялікія, сакаўныя былі. Адразу за домам кветкі цвілі ад снегу да снегу. І хапала кветак на ўсю добрую Зэльву. Да паэткі заходзілі людзі і прасілі ў яе кветак, яна ўкладвала снапкі ці букеты, у залежнасці ад таго, на якія ўрачыстасці прасілі ў яе кветкі. Яна ведала мову кветак, сама стварыла ў Зэльве кветкавую традыцыю.

Гэтак жа да яе звярталіся з просьбай спячы вясельны каравай або торт «Напалеон». Яна часам казала, злёгку з мілым какецтвам, што Зэльва цэніць яе кветкі і печыва, не паэзію…

Усе блізкія і далёкія сваякі імкнуліся запрасіць яе на хрэсьбіны ды вяселлі, асабліва як засталася яна адна без Янанчкі, у святочныя дні можна было яе не знайсці дома. У Зэльве і наваколлі было болей добрых да яе людзей, чым дрэнных. Толькі зло даставала надта балюча і востра.

У доле, далёка ад хаты, наколькі дазваляла адведзеная прастора, стаяла «шпакоўня». А за іхнімі градкамі ў пэўным часе ўлада збудавала грамадскую прыбіральню. Здзекаваліся з іх, як тут умеюць здзекавацца з далікатных паэтак. У лепшай палове хаты іх продкаў жыла недатыкальная асоба. Насупраць іх ганачка наглядала за іх жыццём вялізнае вакно музычнай школы. З другога боку стаяў стары двухпавярховы дом. У адной кватэры таго дому жыла пляменніца Васіля Захаркі Зося, якая дапамагала Ларысе Антонаўне як маладзейшая спраўляцца з бытам. Але жылі там і іншыя людзі. Ахоўваў яе Анёл-ахоўнік, але чарцей вакол хаты віжавала, як гадаўя ў балоце.

Праз дарогу, амаль што насупраць іх дома стаіць царква, у якой маліліся продкі Геніюшаў, у якой малілася Ларыса Антонаўна, у якой адпявалі па смерці іх продкаў Геніюшаў, Янку і Ларысу Геніюшаў. У гэтай царкве знаходзіцца мемарыяльная дошка, прысвечаная паэтцы, на дзядзінцы пастаўлены з дазволу мітрапаліта Філарэта бюст. Гэта падарунак ад Бога яе таленту за малітвы ўдзячнасці, якія яна складала ўсюды, дзе ішла са сваім крыжам, куды яе пасылаў Бог.

У царкве ёсць Евангелле, для якога Ларыса Антонаўна знайшла аксаміту, абшыла вокладку для прыгажосці… У жахлівы савецкі час яна была царкоўным малітоўным чалавекам.

У Геніюшаў я ўбачыла і адчула, што такое Беларусь, наш Край, наш дом, якім прыгожым і цёплым ён быў задуманы Богам і пабудаваны продкамі. А нябёсы гэтага Краю заселеныя душамі продкаў і Богам з усімі святымі. Я ведала дагэтуль толькі вясковую Беларусь, яна таксама была прыгожай, але крыху прасцейшай, бяднейшай, плытчэйшай. А ў сапраўднай Беларусі было глыбокае гераічнае мінулае, і не толькі савецкае, але і нацыянальнае элітнае сучаснае, і бясконцае будучае. Была глыбокая вера ў Бога, дабрыню, любоў і паэзію, і загартавалася гэтая вера ў вогненных і ледзяных печах ГУЛАГаў.

Я прышчапілася да магутнага поля Геніюшаў, яны мяне прынялі. Перш за ўсё прыняла Ларыса Антонаўна. Паэты іначай адчуваюць самоту, чым астатнія людзі. Гэта такое пякучае пачуццё, якое паліць сэрца ўвесь час. Мая самота і яе самота былі ўзаемным дабраслаўленнем і ўзаемнай падтрымкай. Яна была мудрай і дыпламатычнай у адносінах да мяне. Да ўсіх, каго яна хацела прыручыць. Яна была ў той час у Беларусі такая адна. Чуйнік, які адчувае чалавека наскрозь. Называла сябе сэйсмографам. Акумулятарам. Першай генерацыяй. Янка дапаўняў яе, разам яны стваралі магутны гурт. Яны былі палітычнай апазіцыяй у краіне, дзе кіравала адна партыя з вельмі жорсткім статутам. Геніюшы былі нацыянальным адраджэннем, духоўнай сілай, былі народным фронтам, салідарнасцю, прытулкам для пакрыўджаных, нацыянальным універсітэтам і «Тайнаю вячэрай» на падабенства Езуса і Яго Апосталаў, былі нацыянальнай святыняй. І былі яны простымі, мілымі, немаладымі, стомленымі людзьмі, якія заслужылі і мелі права чакаць апекі і павагі ад духоўных дзяцей і ўнукаў. Іх розуму, мудрасці, адвагі, шляхетнасці і сілы духу хапала на ўсю жывую Беларусь, якая не хацела жыць па чужым маральным кодэксе будаўнікоў камунізму, а хацела жыць па дзесяці Божых запаведзях.

Сяброўства, як малітва, патрабуе ачышчэння, патрабуе паглыблення ў спакойны ўзаемны давер, патрабуе стрыманасці мімалётных эмоцый і вытрымкі, патрабуе пастаяннага ўнутранага выбару, цярпення, прабачэння, увагі, шкады, адвагі, любові. Наша сяброўства будавалася на вельмі няўстойлівых, далікатных складніках. Розны ўзрост і літаратурны досвед. Розны сацыяльны статус. Яна пісала ў вершах, што яна сялянка, але на самай справе была са шляхетнай сям'і, у якой кніга паважалася, як хлеб, у якой дзяцей выхоўвала нянька, аб чым яна ўспамінае ў вершах. Яна чэрпала ў сялянскай культуры ўсё высакароднае, і найперш прыгожыя словы, з якіх снавала і ткала льняное прадзіва сваіх вершаў…

Увесь час наша сяброўства спрабавалі разбурыць канторы, абкамы і зайздроснікі. Але мацавалася яно вялікай узаемнай патрэбай. Ларыса казала, што пасля Прагі ёй найлепей было б жыць на хутары.

Я не тое што ў еўрапейскай сталіцы, — ніколі не жыла нават у Менску. Выбрала на жыццё Гародню, у якую ў мой час пераязджалі з розных савецкіх прастораў цэлымі прадпрыемствамі, каб умацоўваць небяспечныя межы з Польшчай, якую Расея пажырала ўсе стагоддзі пры ўсіх рэжымах, але зубы ў Расеі ламаліся на Польшчы. Тут можна было вытрымаць вясковым з навакольных вёсак, якія гэтак жа пераязджалі сваімі кланамі, як з Расеі заводамі. Любімы выраз Алеся Чобата — «вёска авансавала». Мяне

тут спіхвалі набок усе, каму я траплялася на дарозе, а нават калі не траплялася, знаходзілі спосаб, каб дацягнуцца да мяне…

Нягледзячы на ўсё, мы ліставаліся, у лістах былі шчырыя. І я ездзіла да яе так часта, як магла. Мой тата мяне папярэджваў, што гэтыя «пілігрымкі» дабром не скончацца. Тата размаўляў са мною, як з малою, не хацеў ужываць мовы палітыкаў. Ён мне казаў, што гэтая паэтка, да якой я еду, адносіцца да мяне дрэнна. Цяпер то я разумею, аб чым мне хацеў сказаць мой мудры тата, але не знайшоў адпаведных словаў: Ларыса Антонаўна адносілася да мяне як да духовай дачкі, але не як да роднай. Родных дзяцей бацькі аберагаюць ад небяспекі. Духовых дзяцей духовыя бацькі рыхтуюць на змаганне. Ува мне, вясковай наіўнаце, савецкія школы ўсё ж сумелі падарваць такую неацэнную каштоўнасць, як роднасць, сям'я… Я не цаніла таго, што мне даў Бог… Мая мама не ўмела пісаць вершаў і не магла мне даць параду, як сябе паводзіць у тых літаратурных асяродках, што з гэтымі вершамі рабіць. Мама мяне натхняла невідочнай, бескарыслівай, бязмежнай любоўю. Гэтага мне было мала чамусьці.

Калі я прыязджала ў Зэльву, Ларыса Антонаўна звычайна пякла печыва ў такой адмысловай дапатопнай электрычнай духовачцы. Як я ўжо сказала раней, яна была майстрыцай па печыве і караваях, але я ў яе гэтаму майстэрству не вучылася. Я прыязджала да яе не вучыцца пячы, а па натхненне…

Печыва пяклося. Яна разгортвала свой сшытачак і чытала новыя вершы. Яна была з тых шчаслівых паэтаў, якія не ведаюць такога стану, калі не пішуцца вершы. У святых вобразах яе вершаў блытаўся лагічны сэнс, на гэтых алагічных спалучэннях будаваўся вобраз, арытмічныя непрычэсаныя радкі яна сцягвала невідочнымі клямрамі, дасканаліла, углыблялася ў думку і стварала цуд.

У лагеры яна прывыкла ўкладаць верш поўнасцю ў галаве і пасля запісваць толькі на чыстае… Класікаў стварае прырода. Яна была праслана да нас Богам як класік. Першая ў вялікай сям'і. Прыгажэйшая ва ўсёй Заходняй Беларусі. Разумная, і мела добрае сэрца.

Што да мяне, то яна дала мне столькі, колькі змагла, за ўсё, што я атрымала ад яе, нашу ў сэрцы вялікую ўдзячнасць памяці пра яе, успамінаючы яе род у сваіх малітвах. Калі гаварыць мудрымі святымі словамі, то да месца тут радкі з ліста апостала Паўла да навернутага ім у турме сябра Філімона: «Каб не казаў потым, што ты ў большай ступені вінаваты мне сябе самога» (18–19). Я ёй была вінавата сябе самую ў найбольшай ступені…

Яна стварыла гераічныя гістарычныя паэмы пра Рагнеду і Усяслава. Яна эмацыйна выказала палітычную дэкларацыю незалежнасці і пасля ўзмацніла яе неймавернымі пакутамі за Беларусь:

*Нам не страшны сібірскі больш холад,*
*нам не страшны маскаль альбо лях,*
*чужы серп нам не трэба і молат, —*
*мы разгорнем крывіцкі наш сцяг!*

Спачатку яна гэта ўклала, а пасля прайшла праз сібірскі холад. А калі памірала ў гродзенскай анкалогіі, як ёй ускрывалі некалькі разоў тое самае месца, дзе была зроблена аперацыя, яна прызналася, што фізічны боль, які яна цяпер трывае, яшчэ страшнейшы за боль здзекаў у ГУЛАГах.

І я ўсё сустракаю таго страшнага спецыяліста, які выканаў заданне д'яблаў і да гэтага часу ходзіць на працу, мае доступ да жыццяў нявінных ахвяраў.

Яна стварыла прыгожую паэму «Куфар», якую дапоўніла мноствам прыгожых вершаў пра талент і мужнасць народа, які жыве з працы сваіх рук… А куфар, які яна

збірала ў пасаг роднай доньцы Беларусі, быў заўсёды поўным, як і поўным быў келіх гаркаты, да якога дазваляла дакрануцца і глынуць блізкім сябрам, а сама выпіла яго да дна.

Яна ўвесь свой час пражыла з Богам у сэрцы і малілася за ўсю Беларусь. Яна ведала, які гэта цяжар — рэалізаваць сваё прызначэнне, а разам з тым уздымаць усё вялізнае, што дадзена было несці ёй, каб зменшыць цяжар другіх. Яна заўсёды памятала, што Васіль Захарка перад смерцю перадаў тэстамэнт ёй.

Стваральны талент яна добра праяўляла на сваіх днях народзінаў. Ведала, што ў культуры беларусаў, як іншых еўрапейцаў і хрысціянаў, святкуюць толькі дні святых апекуноў, толькі імяніны. Але рабіла тут, што магла, улічвала моц гэтых бальшавікоў. Ёй жа трэба было збіраць нацыянальныя эліты, дні народзінаў былі добрай прычынай іх збіраць і яднаць у сям'ю за сваім сямейным сталом. Гэта было свята ўслаўлення сяброўскасці. Не збірала яна па спісах, а прымала ўсіх, хто меў адвагу прыехаць. Прабачала яна правіны слабым, туліла іх да сэрца, а народзіны якраз былі нагодай для ўзаемнага прабачэння. Яна ўсіх хацела адагрэць і ўзняць да вышыні і чысціні людскага, выцягнуць з калгасных фермаў, якія запаланілі Беларусь. Усаджвала яна так, што ўсім было цёпла і цікава паміж сабой у сумоўі, але ніякіх картак з прозвішчамі — такога хамства не дазваляла сабе і сваім сябрам ніколі! З'язджаліся да яе эліты стану — гісторыкі, мастакі, моладзь, былыя вязні, лекары… Аднойчы яна падаравала вялікую кашміроўку, адну на чатырох: Вользе Церашчатавай, Вользе Дзёмкінай, Ганне Фурс і Норы Вецер, — разрэзала хусту на чатыры роўныя часткі, як злучыла іх той каляровай хусцінай! Я тыя часы таксама прыбіралася ў яе хусткі, так яны мяне саграваліі і аберагалі! Дзякуй Богу, я іх занасіла ўсе, да дзірачак.

Калі яна засталася без Янкі, свядомая моладзь з розных куткоў Беларусі, пераважна студэнты, прыязджалі летам пад Зэльву, стаўлялі намёты ў нейкім ціхім месцы каля таго штучнага возера-вадастою і прыходзілі на яе сядзібу папрацаваць — яны рабілі розны дробны рамонт, пілавалі і рубалі дровы, нейкі тыдзень былі пры ёй… Яна называла іх «мае ўнукі». Так што, святая традыцыя ездзіць да паэткі пачалася пры яе жыцці. Яе ўнукі яшчэ маладыя і актыўна ўдзельнічаюць у палітыцы і літаратуры, у сумным жыцці Краю, але некаторыя выехалі за мяжу…

Ларыса Антонаўна любіла ўсіх пісьменнікаў як маці, нават слабых і дрэнных, нават графаманаў. Увесну 1981 года яе запрасілі на пісьменніцкі з'езд, яна папрасіла мяне быць у Менску з ёю. Мы ехалі начным цягніком. Я ўзяла білет у купэ і неяк скамбінавала, каб пакінулі адно месца пры мне ёй. Але яна ўзяла білет у агульны вагон і пераходзіць у купэ не захацела. Нейкі пратэст мучыў яе, што ўсё не па-людску, што не так павінна быць, не з такой непавагай, не з такімі здабыткамі ехаць ёй у сталіцу на з'езд. Яна гэтую паездку ўспрымала як сваю ціхую паразу. Я шанавала тады свой знешні выгляд, але перайшла да яе ў агульны вагон. Не спаўшы ночы, мы пайшлі на з'езд, які адбываўся ў Палацы прафсаюзаў.

Там было строга. Тэлеграму, падпісаную Нілам Гілевічам, кантралёр за запрашэнне не прыняў. Але Бог прыслаў Валю Трыгубовіч у нацыянальным строі, Валя размаўляла з Ларысай Антонаўнай, якая хацела ўжо вяртацца дадому… Я знайшла сакратара Анатоля Жалязоўскага, атрымала бланк запрашэння…

На з'ездзе яна адчувала сябе добра, сярод сваіх дзяцей, сярод паэтаў, мастакоў і знаёмых. Начавала яна ў Ірыны Крэнь, а я пайшла да дачкі Вікі, якая ў той час вучылася ў мастацкай вучэльні. Схадзілі мы ў госці ў майстроўню Аляксея Марачкіна…

На тым з'ездзе найцікавейшая падзея была, калі ў перапынку Максім Танк прынёс Ларысе Геніюш з буфета прыгаршчы цукерак. Калі б я гэтага не ўбачыла, то не ўбачыла б нічога!

Максім Танк уважліва апекаваўся ёю і яе паэзіяй, усе публікацыі і кнігі Ларысы Геніюш з'яўляліся дзякуючы яму. І ганарары ёй налічвалі такія ж, як яму, Максіму Танку, — прызнанаму класіку і лаўрэату… Яна ж прысвяціла яму такі прыгожы верш:

*Сустрэнемся на вузкай пеpакладзіне,*
*з двух берагоў паважныя прыйдзем…*
*усё, што не даткана, не дапрадзена,*
*я пакажу табе ў святочны дзень…*
*Я запяю табе пра дзіва дзіўнае,*
*якая ў Нёмне глыбіня,*
*як ноччу месячнай на воды сінія*
*выводзіць дзеўчына паіць каня…*
*А конь не слухае, а конь бянтэжыцца,*
*рве цуглі срэбныя, не стрымаць…*
*З каменняў Нёмнавых аж іскры крэшуцца,*
*аж сэрца цешыцца з таго каня…*

Магчыма, гэта толькі на мае струны такім болем кладзецца гэты зусім не сумны верш, у якім ствараецца вобраз нацыянальнага герба Пагоні праз мілосную прыгоду дваіх, — колькі я чытаю яго, столькі лью слёзы…

Яшчэ я прыгадаю свае смуткі з пахавання Ларысы Антонаўны. Памерла яна 7 красавіка на досвітку ў гродзенскай анкалогіі…

Прыехалі па яе з Зэльвы сваякі. Калі прывезлі яе ў труне дадому, на дзвярах вісеў замок, апячатаны, не яе замок. Зэльвенскія сваякі той замок зламалі ломам. У доме ўсе шафы, тумбачкі, дзверы ў пакоі таксама былі апячатаны. Гэтыя пячаці парушалі па ходу — калі трэба быў посуд ці іншае што. «Гаспадары» ад улады пры гаспадыні, пакуль яна ляжала ў труне, праяўляць свае правы не асмельваліся. Хавалі яе 10 красавіка. У сына Юркі былі праблемы прыехаць з жонкай і ўнукамі з Беластоку. Але яны прыехалі на чацвёрты дзень. Прыехала яе сястра з Ялты. Пісьменнікаў на пахаванні вялікай паэткі было мала. Былі Мальдзіс, Іпатава, Арлоў і Мудроў, быў Аляксей Пяткевіч… Магчыма, пра некага я забыла…

Мне на могілках слова не давалі, ды я і не прасіла, не мела сілы выступаць. Я плакала… Я была ўвесь час пры Міколе Канашу, тым яе духоўным сыне, які захаваў у памяці і пасля прывёз і прадыктаваў ёй ужо ў сярэдзіне 70-х у Зэльве яе лагерныя вершы.

У Аляксея Карпюка на такую цырымонію — адпяваць і правесці некага да могілак — не хапала часу і цярпення, такі ўжо ён быў… Людзей на яе пахаванні было некалькі тысяч — ад царквы да могілак — такі быў даўгі ланцуг. У царкву яшчэ не ўсе тады заходзілі, людзі далучаліся па дарозе.

У Зэльве было меней людзей, чым у пахавальнай працэсіі за яе трунoй, з'ехаліся з усіх мястэчак і вёсак… А аўтобусаў навокал не было ніякіх, так што людзі дабіраліся сваімі спосабамі, як хто мог. Міліцыі ў форме ўвогуле не было відаць, яны былі пераапранутыя ў цывільнае.

Бацюшка Васіль прыгожа яе адпяваў, пеўчыя спявалі нават на сумнай вячэры, якая была апошняй вячэрай у яе гасціннай хаце. «Паэткі прыгожыя нават у труне» — гэта яе словы, і яна была прыгожай у труне.

Пахавалі яе каля Янкі. На магіле Янкі яна паставіла сціплы помнік, які пашкодзіла навальніца, ён трэснуў пры яе жыцці. Сябры паэткі, яе духоўныя нашчадкі, збіралі пакрысе сродкі, каб зрабіць помнік на дзвюх іх магілах у выглядзе разгорнутай кнігі або скамянелага сэрца, і яго стварыў скульптар Алесь Шатэрнік.

Ніл Гілевіч здолеў з бюджэту Саюза пісьменнікаў выдабыць грошы, якіх нарэшце хапіла. Надпіс на помнік выбіралі мы з археолагам Мішам Чарняўскім. Паколькі навокал гойсалі бальшавікі, каб зноў «бура» не пашкодзіла глыбу чорнага мармуру, мы ўзялі чыстую і прыгожую дэкларацыю з яе верша:

*З беларускай учэпістай гліны*
*і з рабрын прынямонскіх вярбін…*
*Я галінка ля белага тыну*
*занядбаных, забытых святынь…*

Далей у вершы ідуць радкі: «Маё сэрца з зямлёю зраслося…». Але на помніку адна страфа… І добра, што верш гэты састарэў: усе святыні ў Беларусі адноўленыя, ці амаль усе, і пабудавана шмат новых, і запоўненыя яны, аб чым найболей марыла паэтка. Яна вельмі хацела, каб мы маліліся…

Пасля яе смерці пачалася валтузня са спадчынай. Здаецца, наступіў час усяму груганню супакоіцца, але па інерцыі змаганне з ёю працягвалася. Частку яе збораў, калекцый і маёмасці Юрка змог перавезці праз мытню. Лісты і рукапісы перадаў у Акадэмію навук. Кнігу Максіма Багдановіча «Вянок», на якой Ларыса Антонаўна паставіла свой аўтограф, затрымала на мытні мастацтвазнаўца Марына Загідуліна, ведаючы, што Ларыса Антонаўна ахвяравала яе ў Максімаў музей у Гродне. Яна там і знаходзілася ў сталай экспазіцыі.

Некаторыя прадметы этнаграфіі змаглі закупіць Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей і Музей рэлігіі, але афармлялі яны гэта ўсё не як прадметы Ларысы Геніюш, а як адмысловыя этнаграфічныя калекцыі.

Мне асабіста спецыяльным рашэннем Зэльвенскага сельсавета афіцыйна было забаронена з’яўляцца ў Зэльве. Але мы з мастаком і рэстаўратарам Валодзем Кіслым паехалі туды і пасля ўсяго «разгрому» збіралі на тым дарагім нам месцы дарагія нашым сэрцам кубачкі, талерачкі, збаночкі, на гарышчы знайшлі партфель доктара з яго унікальнымі старасвецкімі медычнымі інструментамі, выцягнулі з кладоўкі стол, але надта паедзены жучкамі, таўкачыкі розныя, лапаткі драўляныя… Шмат мы там назбіралі… Яно ў Максімавым музеі было занесена ў асноўны фонд і экспанавалася… Большую частку кніг Геніюшаў зэльвенскія бальшавікі спалілі ў тым святым лесе, дзе яна збірала вершы і баравічкі.

*О, Беларусь, мой Край стары і слаўны,*
*мой горды лёт, мой сэрца кожны стук!*
*Я волі не вымольвала ў тыранаў,*
*дачка твая, я са змагань і з мук.*

Класік тым адрозніваецца ад простага паэта, што вершы класіка ўсе кладуцца на цытаты.

Думаю, што ў Зэльву будуць ладзіцца экуменічныя пілігрымкі вернікамі яе паэзіі ўсіх святых канфесій і ўсіх палітычных поглядаў. Думаю, што месца яе спачыну будзе тым месцам, дзе пакуль што раз’яднаная нянавісцю, бедамі і правінамі Беларусь злучыцца ў адзін паспаліты народ… Думаю, што моладзь будзе хадзіць да яе магілы пешкі, магчыма, не такія вялікія адлегласці, як да Маці Божай у Будслаў, а вызначыцца Крыжовы Шлях Паэзіі са станцыямі яе пакутаў — ад Жлобаўцаў да Зэльвы, сімвалічна — праз Прагу, Сібір, Менск, дзе яе цягаў за валасы нечалавек Цанава, праз святыя Жыровічы, праз Вострую Браму… вакол таго зэльвенскага штучна створанага нявіннага вадастою ці на хвойных здзічэлых пагорках.

*2008*

*Алесь ТРАЯНОЎСКІ*

# ЦВІЛІ ЮРГІНІ КАЛЯ ХАТЫ

Стынь і вецер, мокрае лісце пад нагамі. І цемра. У гэткі восеньскі час цёмна ў нашых гарадах і гарадках, дык што ўжо тут казаць пра мястэчка! Шэрыя стрэхі і шэрыя сцены хат, здаецца, яшчэ больш згушчаюць каламазную непрагляднасць. Добра, што хоць вокны цэдзяць праз фіранкі сякое-такое святло. Дык дзе ж тая вуліца, дзе той дом?

І ўсё-ткі знайшоў. Стаю на ганку, шукаю гузіка званка. А як жа знойдзеш яго ў цемры? Стукаю ў дзверы. За імі пачуліся крокі, запалілася святло, бразнула засаўка.

— Заходзьце, — сказаў мне высокі мужчына і паказаў на дзверы ў хату.

Ой-ёй, як цёпла ў пакоі пасля імжыстае вуліцы. І не толькі ад напаленай грубкі, а і ад лагоднасці гаспадыні — паўнаватай, рухавай і гэтак добра знаёмай па здымку з кнігі «Ад родных ніў».

— Праходзьце, праходзьце, — падахвоціла яна мяне, калі я нерашуча спыніўся каля парога.

Я назваў сябе, сказаў, што не ўстрымаўся, каб не заехаць хоць на часінку па дарозе з Гродне дамоў.

— Скідайце паліто, — яна паказала мне на вешалку і падсунула крэсла да грубкі. — Абагрэйцеся з дарогі, а я тым часам прыгатую штосьці да вячэры. Не, не, куды вам ехаць, на ноч гледзячы. Ды і надвор’е ж якое!

І сапраўды, цеплыня, утульнасць не падахвочвалі пускацца зноў у дарогу. Дастаў з торбы свае «гасцінцы» — грампласцінкі з запісамі песень акадэмічнай капэлы і народнага хору. Іван Пятровіч, гаспадар дому, адразу захапіўся імі, паставіў перад сабою і доўга любаваўся маляўнічымі абкладкамі.

За сталом, калі размова зайшла пра творчасць Ларысы Антонаўны, яна пацікавілася, якім чынам я ведаю яе вершы, бо яны, апрача невялікае нізкі ў «Полымі», не выдаваліся ў Беларусі? Праўда, не выдаваліся, але я маю зборнік «Ад родных ніў», які падараваў мне Янка Шутовіч у Вільні. Размова зацягнулася за поўнач. Вось табе і тыя гадзіна-дзве, на якія меў намер завітаць у хату.

На другі дзень развітаўся з гаспадарамі толькі ў поўдзень. Ларыса Антонаўна чытала мне свае новыя вершы. Уперамежку з імі расказвала пра пражытае. А яно было жахлівае. Не хацелася верыць, ды перада мною быў чалавек, які прайшоў праз усе кругі канцлагернага пекла (цяпер бы я сказаў — гулагаўскага). Адкуль жа было ў яе столькі сілы, у яе — жанчыны, створанай Богам, каб яе кахалі, шанавалі, каб яна раджала дзяцей, гадавала іх, цешылася імі, каб яна працягвала род чалавечы? І якія ж вылюдкі былі тыя, хто мясіў сваімі падкаванымі чобатамі ўсё гэта ў бруд, хто кідаў на здзек і глум жаноцкую годнасць, хто намагаўся вытруціць з няшчасных душ усе людскае, высакароднае! І якую ж моц душы трэба было мець слабай па прыродзе жанчыне, каб супрацьстаяць гэтаму, каб зберагчы чалавечнасць, веру ў людзей, веру ў перамогу дабра над злом!

Ды гэтая перамога дабра над злом была, ой, як не блізкая. Нават тут, у Зэльве, зло плішчылася праз дзверы і вокны, было ў пастаянным наступе. Памятаю, як турбавалася і як радавалася Ларыса Антонаўна, калі выходзіла яе кніжка «Невадам з Нёмана». «Разведайце, калі ласка, нешта аб маёй кнізе. Мела яна выйсці на 3500 вершаваных радкоў (такі, прынамсі, кантракт). Ці не скарацілі яшчэ?» — пісала яна мне. Кніжку выдалі, і няблага. Адрэдагаваў яе Уладзімір Караткевіч. Была добрая, зычлівая рэцэнзія Адама Мальдзіса. Але адначасна вось тут заатакавала і зло. Пасыпаліся злосныя інсінуацыі,

слоўцы са сталінскіх часоў. Але ўсіх перасягнула ў гэтым цкаванні адна асоба, якая без каліва сораму хвалілася, што хоць кніга і добрая, ды ўсё ж яна спаліла яе. Яшчэ адзін новаз'яўлены Герастрат — у спадніцы!

Ларыса Антонаўна заўжды была рада гасцям. У гэткі час яна як бы маладзела, весялела. Адразу пачынала завіхацца, рупіцца, каб як найлепш прыняць людзей, частаваць іх. Усё спорылася ў яе руках. Неяк уранку давялося бачыць, як яна гатавала сняданак на кухні. Пякла блінцы. Вось гэта было сапраўднае майстэрства! Блінец як бы сам падскокваў з патэльні, перакульваўся і зноў клаўся на патэльню ўжо другім бокам. З радасцю сустракала яна гасцей і з прытоеным смуткам праводзіла. Але ці ўсе ж аддзячвалі дабрынёю за дабрыню, шчырасцю за шчырасць?

Аднойчы пры размове я недвухсэнсоўна акінуў позіркам сцены і куты хаты. Ларыса Антонаўна ўсё зразумела.

— Ат, — махнула рукою яна. — Мы ўжо не зважаем на гэта. Прызвычаіліся…

— Да іх «всевидящего глаза», да іх «всевидящих ушей», — пажартаваў я.

Я і сам ужо стаў заўважаць, што варта было мне толькі завітаць сюды, як услед за мною адразу наведваліся ў хату то адна знаёмая гаспадароў, то другая. І ў кожнай была нейкая неадкладная патрэба. Ці не для візуальнай падстрахоўкі «ушей», каб чаго не праваронiць?

А мо гэта ўжо гіпербалізацыя дзейнасці ўсім вядомае ўстановы, усёахапляльнай дзейнасці яе інфарматараў? Можа, перабольшванне ў нашым уяўленні? Можа, нечаканыя візіты тых знаёмых і суседзяў — усяго толькі збег акалічнасцяў? Хто тут разбярэцца. Дзесяцігоддзямі мы пра многае гаварылі толькі шэптам, а лепш за ўсё лічылі прамаўчаць, не давяралі сваіх думак нават сябрам. Змрочная рэчаіснасць прывучыла нас да гэтага. А ўсеўладцам было і на руку — няхай баяцца адзін аднаго, няхай не вераць адзін аднаму, няхай ваўкамі глядзяць адзін на аднаго і трымаюць язык за зубамі. Вось тады будзе і «единодушие», і «всенародная поддержка», і «всеобщее одобрение» іхняга валадарства. Ну а на нязгодных, «сомневающихся» ў слушнасці іхняе «генеральной линии», пра якіх «настукаюць» няштатныя даносчыкі, знойдзецца ўправа. Вось тады можна жыць спакойна ў «традиционно спокойной республике». Спакойна, як сярод глухіх і нямых.

І ўсё ж я заўжды пры нагодзе наведваўся ў старую хату Геніюшаў. А хата і сапраўды была старая ўжо. Ларысе Антонаўне даводзілася рабіць шмат намогаў, каб хоць крыху трымаць яе ў належным стане. «Я чуюся блага, усё працую фізычна. У гэтай старой, гнілой хаце няма познатку з мае работы, — пісала яна ў адным з лістоў да мяне. — Не магу нічога іншага рабіць, калі непарадак у гэтай хаце. Трэба вокны, падрубы, падбіць столь і г. д., а тут цяжка самой гэта зрабіць… Я вельмі стамілася, хочацца падумаць, пісаць, паехаць куды…»

А куды ж паехаць? Да сына ў Беласток? Не так проста было ёй дамагчыся візы. У Мінск? У Мінску рабілася ўсё, каб яна не прыязджала сюды. Нават ганарар за кніжку паслалі поштаю, маўляў навошта ж турбавацца, ехаць па яго. А на самай справе — каб як найменей было ў яе сустрэч з сябрамі, знаёмымі.

Але аднойчы мы вырашылі зрабіць паездку. У родныя мясціны Ларысы Антонаўны. Перад гэтым Геніюшам прывезлі пару самазвалаў торфу. Трэба было яго ўпарадкаваць, пакуль неба было яснае. Якраз як на тое ўкаціў у двор свой матацыкл Пятро Марціноўскі — настаўнік Дзярэчынскай школы. Малады, дужы чалавек. Нібыта сам пан Бог паслаў яго сюды ў гэты час. Вось мы ўдвух (Іван Пятровіч у рахубу не ішоў — стары, слабы) і сталі насіць торф у сховішча пад хатаю. Для двух здаровых мужчын гэта была не бог ведае якая работа. Ларыса Антонаўна ўсё бедавала, прыгаворвала:

— Ой, цяжка вам, хлопцы! Толькі хоць не кляніце гэтага торфу а то кепска гарэць будзе!

— А калі я буду клясці: «Каб ён згарэў!», — адказаў я жартам.

— Во, дык каб толькі ў печы!

Упарадкавалі той торф, але самі былі як негры ці качагары ў пекле. Дзе толькі не было густога, агіднага пылу — у валасах, вушах, за каўнярамі, на спінах пад сарочкамі. Добра яшчэ, што Ларыса Антонаўна дала нам перад работаю нейкія старыя сарочкі і нагавіцы Івана Пятровіча. Вось бы тут прыдалася лазня, нават без гарачай вады. Але яе не было. Мыліся каля хаты, плюхалі адзін на аднаго вадою. Сяк-так абмыліся. Былі задаволеныя з работы, яшчэ болей была задаволеная гаспадыня. Падавала нам ручнікі і прыспешвала:

— За стол, хлопцы! А то закуска астыне, а гарэлка — перагрэецца.

Вядома, да гарэлкі не дакрануліся. Бо наперадзе была дарога. Пятро Марціноўскі асядлаў свайго «жалезнага каня», Ларысу Антонаўну пасадзілі ў каляску, а я прымасціўся на задняе сядло, і з ветрыкам паімчалі мы ў сінюю далячынь. А першаю ў гэтай сіняй далячыні была вёска Палаўкі. О, колькі шуму-гаму нарабілі мы сваім прыездам. З усяе вёскі беглі кабеты, каб пабачыцца з «нашай Лоркаю», як казалі яны. Талакою сабралі стол, за якім засядзеліся да паўночы. Былі ўспаміны, была весялосць, быў і ціхі смутак пры размове. А назаўтра мы сталі хадзіць па хатах: ледзь не кожная жанчына запрашала нас, каб паказаць сваё майстэрства — самаробныя «дываны»-посцілкі, якія вельмі любіла Ларыса Антонаўна. Дарэчы, у яе хаце ўсе ложкі былі засланы гэткімі ж цудоўнымі ўзорамі народнага ткацтва. І гэта рабіла хату яшчэ больш утульнай, неяк па-сялянску абжытай.

А побач з Палаўкамі — Жлобаўцы. Колішняя сядзіба бацькоў Ларысы Антонаўны. Ад яе засталася толькі назва, бо самой сядзібы няма — толькі рэшткі падмурка, ганак, каля яго вялікі бэзавы куст.

Нішто, здаецца, не робіць гэткага гнятлівага настрою, як руіны. Руіны людскога жытла, руіны святыняў, руіны замкаў, руіны нашай мінуласці. А імі, гэтымі руінамі, поўніцца наша зямля. Ды яшчэ трэба дадаць руіны чалавечых лёсаў, руіны чалавечага духу. Руіны заўжды зарастаюць пустазеллем — чартапалохам, быльнягом, палыном. І калі яшчэ можна ўзняць з руін сядзібы, святыні, замкі, дык што рабіць з руінамі чалавечых душаў? Яны амаль не паддаюцца аднаўленню, мала гэтага — яны сваёй ланцуговай рэакцыяй руйнуюць яшчэ ўцалелыя душы іншых, сыплюць у іх насенне атрутнага пустазелля — маральнай спустошанасці, нацыянальнага нігілізму, рэнегацтва. Насенне гэтае цэлымі дзесяцігоддзямі культывавалася, адсартоўвалася, пялегавалася ягонымі сейбітамі. Яго ўсяляк усхвалялі, называлі высакароднымі і ўзнёслымі словамі. Каб зрабіць увесь край наш суцэльнай руінай духоўнасці, свядомасці, чалавечай годнасці. І сёння мы бачым пачварны, забойчы плён гэтых «сейбітаў».

А тады мы моўчкі стаялі на руінах сядзібы, дзе прайшло маленства і юнацтва Ларысы Антонаўны. Маркотна маўчала яна, маўчаў Пятро Марціноўскі. «Сяло не спіць, гарацъ агні здалёк, за імі дом мой, там ніхто не свеціць…» — прыгадаліся мне словы з яе верша. Настрой гэтага верша неяк міжволі павёў мяне да ганка, дзе я стаў чытаць па памяці другі верш: «Нішто так не міла». Ларыса Антонаўна ўважліва слухала, а калі скончыў, заплакала і ціха сказала: «Дзякуй». А вакол квітнела і зелянела лета, і гэта неяк расцерушыла маркотнасць. Ларыса Антонаўна ажывілася, стала расказваць пра колішняе жыццё на сядзібе, пра звычаі, якія былі тут заведзены.

І зноў у дарогу — у Гудзевічы. У адным месцы папрасіла спыніцца, каб мы пабачылі забытыя ўсімі старасвецкія могілкі. Але ж і сапраўды — старасвецкія. Камяні паўрасталі ў зямлю, абымшэлі, ад магіл — ані знаку. Казала, што калісьці на адным з камянёў

яшчэ бачыла ледзь прыкметны візарунак крыжа, але мы ўжо не маглі знайсці яго. І тут вось тыя самыя руіны мінуўшчыны.

Вечарэла, калі мы, запыленыя і здарожаныя, пад'ехалі да хаты настаўніка Алеся Белакоза. Гасцінны гаспадар выбег насустрач нам. Зноў да паўночы гамонка, а часам і спрэчкі. З Ларысай Антонаўнай час ніколі не доўжыўся. І толькі на трэці дзень адвячоркам мы вярталіся ў Зэльву.

Мінаў год за годам. Не стала Івана Пятровіча. Яшчэ задоўга да смерці ён з горыччу пісаў мне: «Вось я і дапрацаваўся… Здаецца, больш ужо не буду магчы працаваць — зусім аслабеў, а горш яшчэ тое, што мне тут, з ведамых Вам прычынаў, адмовілі прыняць заяву аб афармленні на пенсію… Вы казалі, што ў СССР права на пенсію належыць усім працоўным, незалежна ад таго, якое грамадзянства яны маюць. Прашу Вас вельмі яшчэ раз даведацца і напісаць мне, як гэтая справа сапраўды выглядае і на якія загады ці параграфы я маю і мушу паклікацца».

У Міністэрстве сацзабеспячэння мне растлумачылі, што чалавек без грамадзянства, калі ён працаваў у СССР, мае права на пенсію. Далі азнаёміцца з адпаведнымі законамі. І ўрэшце, нягледзячы на ўпартасць раённых чыноўнікаў, Івану Пятровічу была прызначана невялікая пенсія. Але якой цаною? Тузаннем нерваў, абіваннем парогаў у розных «инстанциях».

Ларыса Антонаўна пасля смерці Івана Пятровіча засталася ў старой хаце адна. Адна са сваімі думкамі, журботаю, успамінамі, з самотнасцю ў доўгія восеньскія і зімовыя вечары. І толькі сіла волі, нязломнасць душы дазвалялі ёй брацца за пяро, з-пад яго выходзілі радок за радком, верш за вершам. Складала іх у шуфляду. На выданне кніжкі надзея была слабая.

…Зноў (які ўжо раз!) знаёмыя вуліцы Зэльвы, знаёмая хата. Як і раней, тут красавалі юргіні — любімыя кветкі гаспадыні. Але дзверы на замку. З-пад ганка вылез стары сабака, неахвотна гаўкнуў пару разоў і палез назад у сваё логва. Я памкнуўся ўжо ісці, калі ўбачыў Ларысу Антонаўну. Яна адчыніла веснічкі, зайшла ў двор. Ішла да ганка, натужна прыглядалася да мяне. Я ступіў насустрач ёй.

— Не пазнаяце, пані Ларыса?

— О, сябра Алесь! А я іду і думаю, хто ж гэта? Прабачце, што не пазнала адразу, недабачваю ўжо. У Ружанах была, вось вярнулася.

І на гэты раз думаў: заеду на пару гадзін. Але ж дзе там! Даўнавата не бачыліся, было пра што пагаманіць. А калі схамянуўся, што даўно ўжо час збірацца ў дарогу, Ларыса Антонаўна ўгаварыла застацца. Пазней ужо, калі мы павячэралі, яна прызналася:

— Як добра, сябра Алесь, што вы засталіся. Я хоць адну ноч пасплю спакойна, не буду баяцца.

— А чаго ж вы баіцеся, пані Ларыса?

— Ходзяць тут па двары нейкія, грукаюць у дзверы, часам гыркаюць: «Эй, поэтесса, ты еще жива!» або яшчэ што абразлівае. Калачуся ад страху вось на ўсялякі выпадак і гэта трымаю пад ложкам, — яна дастала з-пад ложка і паказала мне сякеру.

О, Божа міласэрны! Колькі ж яшчэ мярзотнікаў на свеце, з дашчэнту зруйнаванымі душамі, азвярэлых да ўсяго, што не гэткае бруднае, нікчэмнае, п'янае, як яны самі! Не, яны не адчуваюць свае ганьбы, сораму не ведаюць, літасці ці проста звычайнай чалавечай прыстойнасці, як не адчуваюць усяго гэтага і тыя, хто нацкоўваў іх на бездапаможную, слабую, старую і самотную жанчыну. Яна вельмі верыла ў Бога, але Бог чамусьці маўчаў, не заступаўся ні раней, ні цяпер, як бы выпрабоўваў яе сілы крыжам, які яна несла цярпліва, з годнасцю і да канца.

У шуфлядзе быў ладны стос вершаў. Яна чытала мне іх увечары і назаўтра ранкам.

— Трэба вам укладаць зборнік, пані Ларыса, — параіў ёй.

— А хто ж яго надрукуе? — скрушна паківала галавою Ларыса Антонаўна. Не забывалася пра астракізм, які вялі на працягу многіх гадоў чыноўнікі ад ідэалогіі ў адносінах да яе. Але я ведаў крыху, што сёе-тое змянілася, што ў жалезабетонных ідэйных прынцыпах дзе-нідзе штосьці трэснула, сям-там з'явіліся новыя людзі, якія глядзяць на ўсё разважней. Хоць і пэўнасці цалкам не было.

— Трэба рыхтаваць кніжку, спадзявацца на лепшае.

Ларыса Антонаўна неяк пажвавела, твар яе засвяціўся надзеяй. Сталі яшчэ раз праглядаць напісанае, у адзін стосік адкладалі для кніжкі, у другі — тое, без чаго можна было абысціся. Потым спынілі гэты занятак — праца не на нейкія там гадзіны, і не на дзень. Падаў ёй думку, каб папрасіла Дануту Бічэль дапамагчы ва ўкладанні кніжкі, а калі згодзіцца, каб і адрэдагавала, дзе трэба. Праўда, Ларыса Антонаўна крыху сумелася: у Дануты ж і сваёй працы хапае, а тут давядзецца ўторкнуцца са сваёй просьбаю. Няёмка неяк… А мне думалася, што Данута зразумее, дапаможа, паспрыяе.

Кніжка потым выйшла з прыгожаю назваю: «На чабары настоена». Не ведаю толькі, хто прыдумаў яе: ці сама Ларыса Антонаўна, ці Данута, якая напісала і вельмі харошую прадмову да зборніка.

Я развітаўся з Ларысаю Антонаўнаю — гаспадыняю гасціннай хаты. Я не ведаў, не адчуваў тады, што развітаемся назаўжды. Яна правяла мяне да веснічак. Зноў самотная засталася ў старой хаце, каля якое гэтак прыгожа цвілі юргіні. Азірнуўся на яе ссутуленую постаць, на хату, на кветкі, і балюча зашчымела сэрца.

*1990*

*Зянон ПАЗНЯК*

# ТАМ, ДАЛЁКА, ДЗЕ СПАЧЫВАЕ ДУША

У 60-х гадах я шмат чуў ад сяброў пра Ларысу Геніюш. Гэта былі мае студэнцкія гады. Мы, як маглі, тады змагаліся за беларушчыну. Мяне пачалі цягаць у КГБ, выключаць з інстытуту. Тады гэта было як забойства ў пустыні. Вакол — абсалютна варожае асяродзьдзе, атупелае, сэрвільнае і запалоханае.

Памятаю, у гэты час, здаецца, Мікола Прашковіч, перадаў мне верш ад Ларысы Геніюш — «Зубры» — і сказаў, што яна прысьвяціла і дасылае яго мне. Гэты лісток зь вершам, напісаны яе рукой, недзе ляжыць у маіх паперах тае пары.

А пачалося ўсё з панурага жарту. Жыць тады ў Беларусі было невыносна. Ішла хваля шалёнай русіфікацыі. На кожным кроку які-небудзь рускі чыноўнік ці нават буфетчыца, пачуўшы беларускую мову, стараліся, як кажуць, плюнуць у твар, зьняважыць, засьведчыць сваю адданасьць «парціі і правіцельству»: «На каком эта вы языке разгаварываеце?», «Пачэму не гаварыце па-чэлавечэскі?» і г. д. Я ведаў, што ў часы генацыду, у 30-х, было горай. На беларускую філялёгію, літаратуру, пэдагогіку быў недабор студэнтаў. Баяліся паступаць. Калі хто нёс беларускую кніжку ў руцэ, то загалоўкам унутар, да сябе, каб ня бачылі, што беларуская. Нацыю вынішчалі.

У 60-х, за хрушчоўшчынай і пазьней — за брэжнеўшчынай, кожны дзень прыходзілася нейкага ставіць на месца. Гэта было існаваньне ва ўнутранай эміграцыі ў акупаванай краіне. Псыхалягічна невыносная штодзённасьць.

Аднойчы адна «дробнакіруючая» асоба ў кабінэце гэтак давяла мяне сваім нахабным крыкам «разгаварываць па-чэлавечэскі», што я шчыльна падышоў да яе і, гледзячы ў вочы, ціха сказаў ледзяным голасам: «Зараз зарэжу».

Заразаць я яе не зьбіраўся (дый не было чым). Самае горшае, калі б яна сябе неразумна паводзіла, — ткнуў бы носам у яе піровжнае з крэмам, якое яна акурат жавала, гартаючы паперкі.

Але асоба зьбялела, неяк скурожылася, як трус пад позіркам удава, і, заікаючыся ад страху, пачала тлумачыць, што пажартавала, ды прасіць прабачэньня. Выпадкова я пра гэтае недарэчнае здарэньне расказаў Прашковічу, а Прашковіч — Ларысе Геніюш. Потым казаў, што яна сьмяялася да сьлёз: гэтак я насьмяшыў яе сваім розыгрышам.

Да 1978 году я ніколі ня бачыўся з Ларысай Геніюш. Але заўсёды адчуваў яе прысутнасьць. Гэта была нібы мая неўсьвядомленая душа: я ведаў, што яна ёсьць, і быў спакойны.

У канцы 70-х я стаў адчуваць трывогу. У гэты час Міхась Чарняўскі кажа мне, што моцна захварэў муж Ларысы Антонаўны Янка Геніюш і што ёй пацяжэла. Я вырашыў паехаць у Зэльву да Ларысы Геніюш упершыню ў жыцьці.

Паколькі Ларыса Антонаўна мяне ніколі ня бачыла, ехаць трэба было з тым, каго яна хаця ж бы трохі ведала. Нядаўна ў яе гасьцявала з групай аматараў беларушчыны мастацтвазнаўца Элеанора Вецер. Зь ёй я і паехаў.

Гэта было зімой. Калі прыехалі аўтобусам, ужо вечарэла, і нас ніхто ня бачыў.

— Хто там? — пачуўся звонкі голас.

— Свае, Ларыса Антонаўна, — кажу, — Пазьняк прыехаў. Хвіліну было поўнае маўчаньне. Потым рашуча бразнула засаўка і дзьверы адчыніліся. На парозе стаяла пажылая жанчына з прыгожым абліччам і цёмна-сінімі вачыма і ўважліва-падазрона ўзіралася на мяне. Я моўчкі ўсьміхаўся і глядзеў на Ларысу Антонаўну.

— Дык вось вы які, — нарэшце сказала яна прыемным голасам. — А вы часам не Іваноў, а?

— Не, — кажу, — не Іваноў.

— Ну, то добра. А вы хто будзеце? — перавяла яна погляд на Элеанору Іванаўну. (Усё зразумела з Вашымі «гасьцямі», — падумаў я.)

Увайшлі ў хату, і адразу завязалася даверлівая размова. Ні я, ні Ларыса Антонаўна не хавалі сваёй радасьці з нагоды сустрэчы. Толькі раз-пораз яна быццам спыняла сябе і ўважліва ўзіралася на мяне, нібы я — гэта не я. У душы яе ішло змаганьне: «Як добра, — кажа, — што вы прыехалі». І праз хвіліну — ізноў жарцікам: «Дык сьцьвярджаеце, што не Іваноў, га?»

Тады я, моцна ўздыхнуўшы, палез у кішэню і гэтак кажу: «Калі цьвяроза разважаць, то добраму Іванову зрабіць сабе які-небудзь шпіёнскі пашпарт — раз плюнуць, камар носу не падточыць. От паглядзіце, як я зрабіў».

— А ну, ну, паглядзім, на што вы здатны, — сказала, усьміхаючыся, Ларыса Антонаўна і пачала ўважліва вывучаць мой пашпарт. Нават фатаграфію зьверыла, нібы жартам, зірнуўшы на мяне, як на памежным кантролі. А потым:

— Файна, — кажа, — нічога ня скажаш, добры пашпарт.

— Дрэнна толькі, што савецкі, — дадаю я. — Але скора будзе пашпарт БНР.

— Ой, ці скора?

— Скора! Скора будзе! Мы яшчэ ім пакажам, дзе ракі зімуюць, — заўважаю я гэтак спакойна.

Ларыса Антонаўна паказвае пальцам уверх.

— Там толькі Бог, — кажу. — Яны тут, — і паказваю рукой на падлогу.

— Ну, то туды ім і дарога, — сьмяецца Ларыса Антонаўна. Потым мы размаўлялі доўга, сур’ёзна, дапазна.

Ні адна жанчына не зрабіла на мяне такога моцнага ўражаньня, як Ларыса Геніюш. У ёй было нешта магнэтычнае — упэўненае і здаровае. Я адчуваў у ёй блізкую прыроду. Калі мы размаўлялі, у нас усё супадала. Рэакцыя ў яе была шчырая і адкрытая. Ніякіх «другіх плянаў» (як кажуць у тэатры). Гаварылі душа з душой.

Ужо позна ноччу, калі ўсе спалі, яна шэптам расказвала мне пра Прагу, прэзыдэнта Захарку і паказвала дакуманты Рады БНР.

— Во, ніхто не здагадваецца, што яны ў мяне ёсьць. Вазьмеце, хто ведае, тут ненадзейна.

Я тады не забраў іх. Па-першае, небясьпечна: за яе домам назіралі. Я таксама быў у «іх», што называецца, «у воку». Па-другое, нельга было злоўжываць яе шчырасьцю і эмацыйным станам. Ларыса Антонаўна, як і многія беларускія жанчыны, жыла сэрцам. (І потым, аддаўшы дакуманты, магла раздумацца і затрывожыцца.) Яшчэ ёсьць час, думаў я, хай умацуецца ў сваім рашэньні.

Я памыліўся. Часу ўжо амаль не засталося. Дакладней, трохі было, але я думаў, што яго больш.

Неўзабаве памёр яе муж, Янка Пятровіч Геніюш. Разам зь сябрамі я быў на пахаваньні цягам двух дзён, побач з Ларысай Антонаўнай.

Трэці раз я сустрэўся з Ларысай Геніюш, калі яна памерла. Цела яе ляжала ў труне спакойнае. У цішыні была яе душа. Я адчуваў яе прысутнасьць, але ня бачыў.

Я ўсьвядоміў, як недаравальна спазьніўся, і моўчкі, павольна, як у сьне, фатаграфаваў яе дом безь яе: пакоі, сьцены гэтай яе старасьвецкай мястэчковай хаты з абразамі і фатаграфіямі ў рамачках, стол, за якім яна пісала, вакно, затулены белай фіранкай прыпечак, печ, дзе яна варыла страву, дзьверы, клямку, за якую браліся яе рукі, парог, які яна пераступіла навечна…

*2000*

*Юрка ГОЛУБ*

# «УСЁ ПАВІННА БЫЦЬ ШЛЯХОТНА…»

Падумаць толькі, неўзабаве будзе паўвека таму імгненню, якое ашаламіла, а можа, абліскавічыла падлетка родам з-пад Зэльвы. Наглядаючы за каровіным статкам, адгарнуў ён наўздагад, відаць, найлепшы на тыя шасцідзясятыя гады бібліятэчны часопіс «Полымя». А там…

Усю ноч аж да ранка
пад напевы трысця,
ловіць хваляй Зальвянка
адгалосы жыцця…

Божа мілы! Вось яна, Зальвянка, побач, месцамі з забалочанымі берагамі, вірлівая, вербалозная, але каб заплыла ў нявызнаную паэзію — неверагодна! Бо яна, родная рака, «ўмее слёзы уцерці, знае гоечы лек. Злучыць вусны і сэрцы, злучыць рукі навек». Аказваецца, вершы можна пісаць пра тое, што перад вачыма, што акаляе і галубіць. А хто ж іх стварае? Перад вершамі стаяла раптоўнае і выразнае імя — Ларыса Геніюш. А пад вершамі хуткапіс — каго б вы думалі? — акадэміка і аўтара школьнай «Пасылкі» Пятра Глебкі.

*Пасля некалькіх гадоў прабывання па-за межамі Беларусі Ларыса Геніюш зноў вярнулася ў родныя мясціны і жыве цяпер у Зэльве. Цяжкія выпрабаванні жыцця, што выпалі на яе долю, не заглушылі таленту паэтэсы. Яна піша новыя вершы, частка якіх друкуецца ніжэй. А поруч з імі падаецца і некалькі даўніх вершаў, якія таксама невядомы нашаму шырокаму чытачу.*

У вельмі сціслым пасляслоўі нешта было нібы прыхавана, заштрыхавана, не прачытвалася празрыста. Так і стракацела ўваччу:

*…па-за межамі Беларусі…*
*…цяжкія выпрабаванні жыцця…*
*…вярнулася ў родныя мясціны…*
*…піша новыя вершы…*

Каюся перад сабою, так і не ўдалося ўзнавіць праз часавую смугу хаця б у якіх-кольвек істотных дэталях і штрыхах першую сустрэчу з Ларысай Антонаўнай. Але ўсё ж адна істотная ўзгадка ўсплывае ў памяці. Навальнічным надвячоркам у Зэльвенскую бальніцу са свайго хутара прынёс я кубачак ягад малодшаму брату, якога аперавалі на апендыцыт. Яскрава запомнілася: мяне, здарожанага, абсыпанага першымі кроплямі дажджу нейкім глыбокім патаемным поглядам у бальнічным калідорчыку агледзела незнаёмка ў белым халаце. Мабыць, у яе маўчанні, а галоўнае, у нібы магічных вачах былі невымернасць спагады, збалелая крынічнасць. Той жанчынай, як узнавіла памяць, была… санітарка Ларыса Геніюш. А за душой у яе былі бездань бяды, безліч выпрабаванняў.

У першай палове 60-х гадоў спачатку на запрашэнне Ларысы Антонаўны, а пасля ўжо без дазволу гаспадыні наведваўся я ў хату Ларысы і Янкі Геніюшаў, што і цяпер трывае на вуліцы Савецкай амаль насупраць царквы ў Зэльве. Калі-нікалі і з уласнымі шкалярскімі спробамі ў рыфмаванні, каб пачуць, не схлушу, станоўчы водгук аб іх, а потым, каб паслухаць творы апальнай паэткі, якія яна чытала, здаецца, з амбарнай кнігі, прынамсі, з выгляду даволі самавітай. Тут, у пабеленым рупнай гаспадыняй пакоі, або на панадворку, у квяцістым гародчыку пачуў з вуснаў Ларысы Геніюш ці не цалкам будучыя старонкі яе шчымлівай «Споведзі», якая выйдзе толькі ў 1993 годзе

пасля адыходу аўтаркі ў іншы свет. Тут, на сядзібе Геніюшаў, упершыню пабачыў і пазнаёміўся з яе гасцямі — Уладзімірам Караткевічам, Аляксеем Пяткевічам, Арсенам Лісам, Паўлінай Мядзёлкай, Міколам Прашковічам, іншымі асобамі, так бы мовіць, рашуча знакавымі.

А ў чэрвені 1965 года на выпускным вечары ў Зэльвенскай СШ Геніюшы блаславілі мяне на сталічны ўніверсітэцкі шлях «Санетамі» Шэкспіра ў перакладзе Уладзіміра Дубоўкі з купалаўскімі радкамі ў дадатак:

К свабодзе, роўнасці і знанню
Мы працярэбім сабе след
І будзе ўнукаў панаванне
Там, дзе сягоння плача дзед.

Ён і сёння ў мяне захоўваецца, гэты томік, пад вокладкамі якога б'юцца сэрцы чатырох класікаў літаратуры. Сусветнай!

Сталіца, акрамя ўсяго, падаравала юнаку-студэнту Белдзяржуніверсітэта і лісты Ларысы Антонаўны Геніюш. Над тымі яе лістамі нанова яскрава і выразна бачыцца воблік іх аўтаркі — парывісты, лятучы і непаўторны. Вось яна, Ларыса Антонаўна Геніюш, у засяроджаным задуменні ідзе па Зэльве ў блізкую царкву («Ах, якая ж я была лёгкая на хаду ў маладосці!»). Вось яна пяшчотна кладзе на гасцінны абрус доўгі, на ўвесь стол, саматканы пояс («Усё павінна быць шляхотна»). Ці зноў грацыёзна і непадробна паводзіць плячом і чытае:

Хай славіцца наш беларускі род,
душой з вясны і воляю са сталі,
каб з гнёздаў нам не пеўнікі на плот,
а горда арляняты вылятталі!

Вось яны, маўклівыя канверты, напоўненыя думкамі паэткі-празорцы, яе захапленнем і смуткам, надзеямі і спагадай. Яны знаходзілі свайго адрасата ў віры студэнцкага жыцця (1965–1970), калі ён са сваімі равеснікамі і сябрамі быў пад бацькоўскай апекай Алега Лойкі ва ўніверсітэцкім літаб'яднані «Узлёт» і асцярожна і спакусліва дакранаўся да мастацкага слова.

І тады было зразумела, а цяпер, з гадамі, тым больш, што Ларыса Антонаўна шчодра выдавала паэту-пачаткоўцу ў тых пасланнях авансы. Не шкадавала маладым эпітэтаў, выдадзеных, як бы тое далікатна сказаць, навырост. Але галоўнае, відавочна, было ў тым, што ў тых лістах Ларыса Геніюш ужо тады нам бачылася асобай, якая магла з належным на тое чынам сказаць пра сябе: «Ваша: паэтка, змагар, вязень і друг». І не паведаміць, а мужна і недэкларацыйна сцвердзіць: «Дух мой не знае палону…»

А яшчэ — і тое адразу кідаецца ў вока — Ларыса Геніюш мела эмацыйную, разлічаную на вялікі запас трывучасці натуру. Не толькі ў паэтычных радках, але і вакол сябе яна нязмушана і зайздросна молада стварала прыгажосць. І нездарма на пісьмовы юнацкі запыт, ці цвітуць у яе гародчыку ружы, з непрыхаванай радасцю адказвала: «А як жа!»

У адным з лістоў 1967 года я атрымаў ад яе гэткі наказ: «Трымайся на ўзроўні высокіх і вартых жыцця інтарэсаў. Не разменьвайся на дробную манету… Няхай кожны дзень твайго жыцця адмеціць добры чын для людскасці і для Радзімы. Уцякай ад усялякага багна. Ларыса Геніюш».

Яе воблік не зацьмяць ветравеі часу, яе слова не загасне.

*2010*

*Уладзімір МАЗГО*

# ЛІСТЫ ВЕЧНАГА ДРЭВА

Перабіраючы неяк сяброўскую пошту, я спыніўся на гэтым незвычайным канверце, ледзь кранутым слядамі часу. «Мінск, Галоўпаштамт, да запатрабавання…», акуратным, амаль каліграфічным почыркам выведзена на ім. Замест адваротнага адрасу — неразборлівы подпіс і індэкс Зэльвы…

Дык гэта ж — апошні даляцеўшы да мяне ліст з дрэва жыцця Ларысы Геніюш. Некалькі папярэдніх лістоў, на вялікі жаль, згубіліся ці то ў студэнцкіх, ці то ў салдацкіх вандроўках.

З невыказным хваляваннем разгортваю пісьмо і чытаю…

*Зэльва, 12.12.78 г.*

*Добры дзень, Валодзя!*

*Вялікае дзякуй за прысланую кніжку і за ліста. Афармленьне кніжкі вельмі сугучнае гістарычным творам нашага мудрага У. Караткевіча. Кніжка* (гаворка ідзе пра кнігу Ул. Караткевіча «З вякоў мінулых». — *У. М.*) *— вялікі здабытак для нашай літаратуры, і шкада толькі, што такі малы яе тыраж. Усё гэта друкавалася, і вось добра, што цяпер сабрана разам. Мы ў даўгу перад тысячагадовымі нашым народам і наогул перад гісторыяй нашай зямлі. Нейк бярэм яе пераважна з той пары, калі ўсё наша роднае, хітрасьцю і сілком, загналі пад саламяныя стрэхі, спадзеючыся, што там і зачэзьнем. Дарагія, вытрывалыя нашы дзяды, якія празь вякі пранесьлі пад шэраю сьвіткаю і да сяньняшніх дзён захавалі мову народу!*

*Належыць нам цяпер добра скалыхнуць мінуласьць, каб засьвяцілася ўсімі колерамі колішняга жыцьця нашых продкаў. Вось за гэта і вялікае дзякуй нашаму Караткевічу. Кніжка аформлена зь вялікім смакам, любоўю і інтэлігенцыяй. Тонкі, выдатны мастак!*

*А ў нас сумна. Пагоршала мужу. Маразы дрэнна на яго падзеялі. Аслабеў моцна, пухнуць ногі і не сьціхае кашаль. Я цяпер ведаю толькі адно: свае абавязкі перад хворым. Мала чытаю, нічога амаль не пішу. Дзякуй маладым нашым літаратарам за прывітаньні. Я жадаю ім пачэснага посьпеху ў творчых і дастойных іх пачынаньнях! На Вас адказнасьць за моўнае адкрыцьцё і захаваньне аблічча нашага народа, а можа, і за яго існаваньне… Хацелі б мы Вас бачыць, Валодзя, і ня толькі таму, каб разьлічыцца за кніжку, але пісаць Вам, на жаль, я не змагу. Не аб сабе думаю ў гэтым выпадку. Калі мне будзе нядрэнна і я буду патрабаваць шляхотнай апоры ў цяжкую хвіліну, дык я паклічу некага з Вас, забыўшыся на тых усіх, што прыходзілі ў наш дом ня дзеля творчага сяброўства і дапамогі.*

*Сёньня, дарэчы, была цяжкая ноч, але цяпер хворы мой хораша і спакойна сьпіць. Гэта добра, якраз. Мяркую, як захаваць да вясны хоць, а там, што Бог дасьць. Жыцьцё — моцна складаная штука, і важна стрываць там, гдзе найцяжэй. Вось усё пакуль што, бо галава вінецца ад бяссоньня.*

*З найлепшымі пажаданьнямі да Вас усіх і зь вялікай удзячнасьцю да Вас асабіста — Ларыса Геніюш.*

Ліст напісаны напярэдадні Новага года, і да яго прыкладзена віншавальная паштоўка наступнага зместу: «З Новым годам, браты, яшчэ вецер заводзіць, ён адзін калядуе ля

сьцішаных хат, дык са шчасьцем, з праменнаю доляй, суродзічы!!! Усяго Вам сьветлага і, наогул, жаданага і найлепшага ў жыцьці. Ваша Ларыса Геніюш».

Сам лёс наканаваў мне сустрэчу з паэтэсай. Нарадзіўся я ў Зэльве. І нават першыя мае гады прайшлі не далей, як пад суседнім дахам…

Наша сям'я тады якраз атрымала кватэру ў двухпавярховым драўляным доме № 5 па вуліцы Савецкай. А побач, у сёмым доме, жылі Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч Геніюшы. Праўда, ад тых часоў у мяне засталося некалькі дзіцячых фотакартак, адна з якіх, дарэчы, захавала воблік суседняй хаты. Але потым я разам з бацькамі пераехаў у Кемераўскую вобласць, а вярнуўшыся пазней на радзіму, жыў у вёсцы Бярэжкі, што на беразе Зальвянкі і побач з Зэльвай.

Аднойчы, яшчэ школьнікам, наведаў раённую паліклініку. Прыём у адным з кабінетаў вёў Іван Пятровіч Геніюш. Лекар уважліва прачытаў маё прозвішча і перапытаў: ці не той, што друкуецца ў раёнцы. Я прызнаўся. Так завязалася цікавая і нязмушаная гаворка. Даведаўшыся, што я да ўсяго — прыхільнік творчасці Ларысы Геніюш, муж паэтэсы нечакана запрасіў да сябе ў госці…

І вось праз колькі дзён, заміраючы ад хвалявання, я стаяў на прыступках адкрытай веранды. Ці то рука, ці то сэрца нясмела пастукалася у дзверы. Націснуў на кнопку званка і праз нейкую хвілю пачуў бадзёрыя крокі. Адчыніла сама гаспадыня…

Мяне гасцінна сустрэла хата паэтэсы. Левая палова — з двух пакояў: гасцёўня і спальня гаспадароў. Правая — уласная бібліятэка. Пасярэдзіне — кухня…

Для мяне — тагачаснага школьніка — раскрыўся сапраўдны Храм літаратуры. Гадзіны шчырай размовы пралятали хвілінамі. Ларыса Антонаўна аказалася надзіва цікавым субяседнікам. Дакладней, гаварыла болей яна, а я ўважліва слухаў і адказваў на шматлікія пытанні.

Трэба адзначыць, што гаспадыня ніколі не забывалася пачаставаць госця сваімі прысмакамі і печывам, гарбатаю ці кавай. Тэматычны дыяпазон нашай гаворкі ахопліваў даволі шырокія сферы жыцця: гісторыю і літаратуру, мінуўшчыну і будучыню… Мы чыталі ўслых «Жураўлінае вясло» Уладзіміра Лісіцына, урыўкі з «Вока тайфуна» Уладзіміра Караткевіча, абменьваліся сваімі ўражаннямі пра кніжныя навінкі і новыя публікацыі.

Ларыса Антонаўна дзялілася набалелым, цікавілася маімі вершамі. А калі чытала свае рукапісныя творы, то, здаецца, святлела з твару, нібы ўсе крыўды і цяжкасці адступалі, а лёд недаверу раставаў пад крыніцамі жыцця, выпакутаванага ёю…

У той час Ларыса Геніюш шмат пісала, але амаль што не друкавалася. «А хто ж мяне надрукуе, — спавядалася неяк яна, — калі многія баяцца вымаўляць нат маё імя…» І тут, нібы працягваючы набалелую тэму, зусім нечакана для мяне, — не то жартам, не то ўсур'ёз, — прапанавала: «А давайце, Валодзя, надрукуем мае вершы пад вашым іменем…»

Я разгублена залыпаў вачыма. Але, адчуўшы нарэшце неабходную раўнавагу, шчыра прызнаўся: «Але ж — пад любым прозвішчам — адразу бачна, што гэта Вашы творы. Бо ніхто так не напіша, як Вы».

Здаецца, адказ мой задаволіў Ларысу Антонаўну, і яна больш не выпрабоўвала мяне падобнымі «экзаменамі»…

У адным з вершаў Ларыса Антонаўна пісала: «Мая мова, як шчасьце на вуснах, хваляваньня гарачы прыбой, можа быць, на чужой засьмяюся, ўсё ж заплачу з тугі на сваёй». І гэта не проста прызнанне, гэта споведзь збалелай душы. Мова заўсёды была для яе як паветра…

Помніцца, калі я стаў першакурснікам Белдзяржуніверсітэта, знакамітая зямлячка падарыла мне сваю толькі што выдадзеную кнігу «Добрай раніцы, Алесь». І, як сяброўскі

наказ, падпісала: *«Калі зрушыць падмурак, аснову, рухне храм, што стрываў мячы, калі нам забяруць нашу мову, стануць прусамі крывічы. Таму, таленавіты хлопча, кахай і беражы нашу беларускую мову! Добрай і шчасьлівай дарогі ў жыцьцё Уладзіміру Маз-го жадае аўтарка. Зэльва, 16.10.76 г».*

А калі з'явіўся мой верш «Родная мова», ды яшчэ ў першай кнізе, Ларыса Антонаўна была вельмі расчулена і не менш здзіўлена: няўжо надрукавалі з прысвячэннем — Ёй.

Сёння гэтае разважанне падасца, бадай, дзіўным. Артыкулы пра жыццё і творчасць паэтэсы і яе творы публікуюцца ад «ЛіМа» да «Літаратурной газеты». Ёй прысвячаюць вершы і тэлеперадачы. А тады — яе акружала зона маўчання…

*1994*

*Вячка ЦЕЛЕШ*

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ПАРТРЭТА

Маё знаёмства з Ларысай Антонаўнай Геніюш прыпала на той час, калі я, амаль пятнадцаць гадоў таму пакінуўшы бацькоўскі дом на Ваўкавышчыне, жыў у Латвіі, а мая беларушчына, нацыянальная самасвядомасць ува мне толькі пачыналі абуджацца дзякуючы маім сустрэчам са свядомымі беларусамі.

Быў 1973 год. Я, студэнт 3-га курса Латвійскай акадэміі мастацтваў, у чэрвені і ліпені праводзіў летнюю пленэрную практыку ў пасёлку Краснасельскім.Тут, на вуліцы Савецкай, у доме № 63, жылі мае бацька і маці. У Краснасельскай школе я вучыўся на рускай мове. Беларускі дух у пасёлку не лунаў, бо на цэментны завод пасля вайны наехала шмат людзей з усяго Савецкага Саюза. Але дома мае бацькі размаўлялі па-беларуску. У тым жа Краснасельскім жыў і да сёння жыве мой сябар школьных гадоў Міхась Вераціла — апантаны калекцыянер, краязнаўца, паэт і мастак. Мяне яго захапленні таксама прываблівалі. Менавіта ён у 60-я гады прыахвоціў мяне да збірання старых беларускіх паштовак.

У пачатку 70-х гадоў у Краснасельскі на раскопкі крэмнездабыўчых шахтаў эпохі неаліту прыехаў археолаг Міхась Чарняўскі. Гэты чалавек быў не толькі добрым навукоўцам, але і свядомым беларусам, патрыётам нашай Бацькаўшчыны. Менавіта ён паўплываў на свядомасць Міхася Верацілы, які пасля сустрэчаў з Чарняўскім пачаў пісаць лісты мне ў Рыгу на роднай мове. Менавіта Міхась Чарняўскі праз майго краснасельскага сябра і ўва мне запаліў агеньчык любові да роднай мовы і нацыянальнай культуры.

Праз Чарняўскага Міхась Вераціла пазнаёміўся з Ларысай Геніюш, а ўжо праз яго з цудоўнай паэткай, вялікай патрыёткай і змагаркай за беларушчыну пазнаёміўся і я.

Дык вось, падчас маёй пленэрнай практыкі ў Краснасельскім Міхась Вераціла прапанаваў з’ездзіць у Зэльву да Ларысы Геніюш. Ён да гэтага ўжо ў яе пабываў і нават атрымаў аўтограф на кніжцы «Невадам з Нёмана». Паказаў мне гэты зборнічак, трохі расказаў пра жыццё і цяжкі лёс паэткі. Я з радасцю згадзіўся на паездку. Узяў з сабой альбом і аловак, маючы намер намаляваць партрэт паэткі.

І вось мы з Міхасём на аўтобусе з Ваўкавыска прыехалі ў Зэльву. Хутка адшукалі старую драўляную хату з ганачкам. Дзверы адчыніла гаспадыня, ласкава запрасіла ў хату. Міхась мяне прадставіў паэтцы, я расказаў ёй пра сябе.

Што кідалася ў вочы ў той хаце? Драўляны ложак з высокімі белымі падушкамі, засланы даматканай посцілкай, круглы стол з белым настольнікам, на падлозе — даматканыя каляровыя посцілкі. На сценах — кніжныя паліцы і фотапартрэты Цёткі і Максіма Багдановіча. Пазней падобную хатнюю абстаноўку я сустракаў у людзей таго ж пакалення — у Зоські Верас і Сяргея Новіка-Пеюна.

Трошкі пагаварыўшы, Міхась вырашыў падпладзіць страху, бо Ларыса Антонаўна скардзілася, што падчас дажджу яна працякае. А я папрасіў паэтку пасядзець трохі на ганачку, дзе было больш святла. Яна ахвотна згадзілася, і я прыкладна гадзіну маляваў алоўкам яе партрэт. Ларыса Антонаўна спакойна сядзела, расказвала пра сваё жыццё, пра бацькоў, рэпрэсаваных савецкай уладай, чытала свае вершы.

Калі партрэт быў скончаны, на абед з паліклінікі прыйшоў муж паэткі Іван Пятровіч Геніюш — высокі, прыемны, інтэлігентны мужчына. Ларыса Антонаўна накрыла стол, мы разам паабедалі, потым мы з Міхасём пабеглі на аўтобусны прыпынак.

Ад’ехаў я тады ў Рыгу з вялікім багажом малюнкаў і жывапісных эцюдаў, зробленых у Краснасельскім і яго наваколлі, сярод іх быў і накід партрэта Ларысы Геніюш.

У ім, як мне здаецца, я змог адлюстраваць характар паэткі, яе нязломлены савецкімі лагерамі беларускі дух. Пасля тае памятнае сустрэчы ў Зэльве мне захацелася напісаць яе жывапісны партрэт, падтрымліваць з ёю сувязь.

Ужо з Рыгі я напісаў Міхасю Верацілу, каб ён мне прыслаў адрас Ларысы Геніюш. Атрымаўшы адрас, адразу напісаў у Зэльву. Перад Новым, 1974-м годам я атрымаў ад Геніюш паштоўку з рэпрадукцыяй карціны мастака XVI стагоддзя Людовіка Карачы «Святое сямейства пад пальмамі». Відаць, навагоднюю беларускую паштоўку яна ў Зэльве не знайшла.

Другая сустрэча з паэткай, калі я не памыляюся, адбылася ў 1974 годзе. На жаль, я нідзе гэта не занатаваў. Я прыязджаў да сваіх бацькоў і наведаў Геніюшаў, зрабіў там алоўкам накіды для задуманага жывапіснага партрэта Ларысы Антонаўны. Тыя накіды засталіся недзе на гарышчы бацькоўскага дома.

А напачатку 1976 года Ларыса Геніюш напісала мне вялікі ліст, у якім расказала пра многія падзеі са свайго жыцця. Я ў сваім лісце напісаў ёй, што я знаходжуся ў санаторыі Тэрвэтэ, шмат малюю, нягледзячы на заснежаную зямлю, якую патроху падагравае вясновае сонца, выходжу з эцюднікам на пейзажы, што хацеў бы прыехаць у Зэльву і намаляваць жывапісныя партрэты яе і Івана Пятровіча.

Ларыса Геніюш у адказ паведаміла, што яны з Іванам Пятровічам вельмі хацелі б мяне бачыць, але не трэба маляваць іх партрэты. Я добра разумеў яе адказ, бо тут ужо гаварыла натура жанчыны, якой не 18 і не 30 гадоў (тады Ларысе Антонаўне ішоў 66-ы год). Тады ж яна даслала мне сваю дзіцячую кніжку «Добрай раніцы, Алесь» — з надпісам маім сыну і дачцэ, якім было па сем гадкоў.

У 1977, 1978 і 1979 гадах я быў заняты пабудовай сваёй майстэрні на гарышчы старога дома ў цэнтры Рыгі, якая потым стане «Беларускай хаткай» — месцам прытулку і сустрэчаў беларусаў з Бацькаўшчыны. Былі розныя сямейныя клопаты, праца ў бібліятэках і архівах над гісторыяй беларускіх паштовак. Усё гэта трохі перашкаджала ў кантактаванні з сябрамі на Радзіме, у тым ліку і з Ларысай Геніюш.

У 1979 годзе памёр Іван Пятровіч Геніюш, пра што я даведаўся значна пазней. Пасля навагодніх святаў 1980 года я атрымаў ад паэткі віншавальную паштоўку, дзе яна паведаміла пра гадавіну па мужу і прасіла, калі буду ў бацькоў, не абмінаць яе хаты. На жаль, прыехаць ў Зэльву тады я не змог.

Толькі 3 лютага 1981 года я наведаў Ларысу Антонаўну. Яна ужо трошкі адышла ад свайго гора. Партрэт тады я не маляваў, бо не хапала часу. Я актыўна працаваў над гісторыяй беларускіх і рыжскіх паштовак, друкаваў пра іх матэрыялы ў беларускай і латышскай прэсе. Шукаў пра іх звесткі ў бібліятэках і сямейных архівах.

Пры сустрэчы з паэткай я адразу папрасіў паказаць яе сямейны альбом — можа, у ім нешта знойдзецца. На маё шчасце, сёе-тое знайшлося. Ларыса Геніюш паказала мне вельмі цікавую беларускую паштоўку, якую я бачыў упершыню. На ёй — чорна-белы графічны малюнак беларускай жанчыны, якая на плячах, босая, праз церні нясе цяжкі крыж з надпісам «Беларусь». Яе бізуном паганяе польскі пан, трымаючы ланцуг, на які навязана жанчына. На паштоўцы ёсць манаграма мастака, якую, на жаль, я пакуль не расшыфраваў. Геніюш не ведала гісторыі паштоўкі, на ёй быў толькі надпіс атрамантам — «Берлін, 1922 год». Пазней у адным зборы я знайшоў паштоўку з гэтай жа серыі з малюнкам таго ж мастака, на якім расеец і паляк раздзіраюць карту Беларусі.

Тады ж Ларыса Антонаўна расказала мне, што ў 1942 годзе Беларускі камітэт самапомачы ў Празе выдаў серыю паштовак са здымкамі Яна Булгака. У альбоме іх не было, але пасля непрацяглых пошукаў паштоўкі знайшліся. Я іх у калекцыі не меў, таму адразу перапісаў інфармацыю пра ўсе 12 паштовак. Пазней я даведаўся, што ў зборы Геніюшаў не хапала яшчэ трох паштовак. Паводле інфармацыі Кастуся Езавітава,

пражскім камітэтам было выдадзена 15 паштовак. Ларыса Антонаўна дазволіла ўзяць з сабой у Рыгу паштоўкі з рэпрадукцыямі працаў Пётры Сергіевіча, Пётры Міравовіча ды малюнак жанчыны з крыжам. У Рызе я зрабіў фотакопіі, а арыгіналы па пошце адаслаў у Зэльву. Браць з сабой паштоўкі, выдадзеныя Беларускай самапомаччу, а потым перасылаць іх па пошце было небяспечна: Ларыса Антонаўна сказала, што яе карэспандэнцыя правяраецца.

У траўні 1981 года я атрымаў ад паэткі ліст, дзе яна паведамляла, што пасля майго ад'езду знайшла яшчэ дзве паштовыя карткі з рэпрадукцыямі карцін Язэпа Драздовіча «Пажар гарадзішча» і Пётры Сергіевіча «Жыццё», і калі я такіх не маю, то можа выслаць. Такіх паштовак у мяне не было, але я пра іх ужо меў інфармацыю і бачыў іх у прыватных і дзяржаўных зборах, таму не стаў абцяжарваць Ларысу Геніюш празмерным клопатам.

У лютым 1981 года ў Зэльве адбылася наша апошняя сустрэча. А ў 1983 годзе, даведаўшыся пра смерць паэткі, я адчуў віну перад ёю. Ларыса Геніюш ведала ад мяне, што я зрэдку займаюся экслібрысамі, і хацела, каб я зрабіў ёй экслібрыс. І падказвала, што ёй на ім хацелася б бачыць: маладую дзяўчыну ў беларускім строі з калаўроткам ці з кудзеляй за прасніцай. Я абяцаў усё зрабіць. Нават зрабіў першы накід. Але экслібрыс так і застаўся недаробленым.

Сваю віну я вырашыў кампенсаваць праз трыдццаць гадоў, напісаўшы партрэт Ларысы Геніюш. Хоць прайшло шмат часу, аднак яшчэ добра памяталіся рысы твару паэткі, застаўся мой малюнак, накіды яе фігуры, але гэтага было мала. Патрэбныя былі фотаздымкі, з якімі дапамагла мне нявестка Ларысы Антонаўны Валянціна Геніюш, якая жыве ў Беластоку. Яна адразу адгукнулася на маю просьбу і прыслала мне 5 здымкаў.

Партрэт я закончыў у 2004 годзе. Зрабіў яго фотаздымак і паслаў у Беласток. Валянціна напісала пра сваё ўражанне: «Добра выглядае партрэт Ларысы Антонаўны — маёй мамы-свякрові. Памыслова абсаджаны: той ганачак, кветкі мальвы, а ў тле калаўротак. Партрэт атрымаўся».

Каб партрэт Ларысы Геніюш не застаўся ў Латвіі, я вырашыў падараваць яго ў Гудзевіцкі краязнаўчы музей, які заснаваў вялікі беларускі патрыёт Алесь Белакоз. Ён з радасцю згадзіўся і прасіў, каб я прывёз партрэт сам ці перадаў праз Аляксея Пяткевіча — прафесара Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. На жаль, да гэтай пары я не змог адвезці партрэт у Гудзевічы, і ён пакуль знаходзіцца ў офісе Латвійскага таварыства беларускай культуры «Світанак». Хачу хоць на 100-годдзе паэткі прывезці яе партрэт у Беларусь. Ён неаднаразова экспанаваўся на розных мастацкіх выставах у Рызе.

*2010*

*Мікола КУПАВА*

# ЭКСЛІБРЫС З КАСЦЁЛАМ

Такое светлае імя. Рамантычная, гераічная постаць, трагічны лёс. Паэтка яркага таленту, гады дзяцінства і ранняй маладосці якой прайшлі ў маёнтку Жлобаўцы. Маёнтак гэты мне ўяўляецца самым маляўнічым кутком Беларусі. Напэўна, гэткі вобраз склаўся пасля прачытання паэзіі і прозы Ларысы Геніюш.

Я пазнаёміўся з ёю даволі позна. Хоць на працягу ўсіх 70-х гадоў я даволі часта чуў пра яе і чытаў яе зборнік «Невадам з Нёмана». У нашым гурце мастакоў, літаратараў, навукоўцаў ды журналістаў, які базаваўся ў майстэрні Яўгена Куліка, на гэтак званым Паддашку, пра Ларысу Геніюш заўсёды гаварылі з асаблівай цеплынёй. Гаварылі Данута Бічэль, Здзіслаў Сіцька, Міхась Чарняўскі, якія даволі часта ездзілі ў Зэльву.

Штогод на дзень народзінаў пісьменніцы мы кагосьці збіралі ў дарогу з падарункамі для яе. Асабліва запомніўся 1980 год, калі Ларысе Антонаўне спаўнялася 70 гадоў. Мы тады набылі прыгожы драўляны, інкруставаны куфэрак і склалі ў яго ўсе нашы падарункі для юбіляркі.

Наша асабістая сустрэча адбылася, здаецца, у 1981 годзе. У Палацы прафсаюзаў праходзіў чарговы з’езд Саюза пісьменнікаў Беларусі. І мы, мастакі, прыйшлі паслухаць, што мяркуюць і аб чым гавораць нашыя пісьменнікі. На з’ездзе мы і пазнаёміліся. Сустрэча запомнілася найперш словамі Ларысы Геніюш: «Вы ж не думайце, што так будзе вечна. Гэтая сістэма хутка абрынецца. А вы гатовыя да такіх падзеяў? Ці ёсць у вас чалавек на кіраўніка краіны? Каго вы вылучыце?» Спачатку мы проста зніякавелі, але потым смела адказалі: «Вядома, ёсць такі чалавек у нашым асяроддзі — Зянон!» — «Ну што ж, хлопцы, добра! Я падтрымліваю ваш выбар!» Вось так, за 10 гадоў да краху Савецкай імперыі Ларыса Геніюш прадбачыла яе бясслаўны канец.

Дарэчы, нехта сфатаграфаваў нас падчас гэтай размовы. Здымак надрукаваны ў зборніку эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш «Каб вы ведалі» (2005). На ім — Ларыса Геніюш, Аляксей Марачкін, Валянціна Трыгубовіч і аўтар гэтых радкоў,

Неўзабаве Данута Бічэль перадала мне просьбу пісьменніцы зрабіць кніжны знак для яе бібліятэкі. Я адразу ўзяўся за працу. Хутка знайшлася кампазіцыя экслібрыса: у крузе закампанаваў сімвалічны вобраз літвінкі ў намітцы (абагульнены вобраз і Радзімы, і Зэльвы, і самой Ларысы Геніюш). Унізе — кніга з пяром, абапал беларускія кветкі — канюшына і рамонкі. Уверсе я паказаў краявід Зэльвы, і дамінантай тут быў мясцовы касцёл, які імкнуўся ў неба.

Мне не раз задавалі пытанне, чаму я не паказаў праваслаўную царкву, а ў цэнтры экслібрыса паставіў каталіцкую бажніцу. Ларыса Геніюш была ж праваслаўнаю. Адказваю. Архітэктура зэльвенскай праваслаўнай царквы не нясе ў сабе ані каліва нацыянальнага вобраза, характару. А касьцёл зэльвенскі падкрэслівае якраз ліцвінскую адметнасць. Ва ўсякім разе, не разбурае вобразную сістэму экслібрыса. Калі б у Зэльве была царква, як у Сынкавічах ці Супраслі, то я, вядома ж, без развагаў паставіў бы яе ў сваю кампазіцыю.

Ларыса Геніюш ухваліла эскіз экслібрыса. А сам экслібрыс Данута Бічэль ёй паказвала ўжо ў гарадзенскім шпіталі. Я паспеў яго зрабіць, і пісьменніца яго бачыла. Гэта для мяне асабліва важна.

На жаль, хутка Ларысы Геніюш не стала. Са скрухай, але і з лёгкай душой, што яна ўхваліла маю працу, я аддрукаваў наклад экслібрыса і перадаў Дануце для выкарыстання ў бібліятэцы Геніюшаў. Спадзяюся, ён спатрэбіцца ў будучым музеі Ларысы Геніюш, для яе адноўленага кнігазбору.

Я ніколі не быў у доме Ларысы Геніюш пры яе жыцці. Трапіў у Зэльву толькі ў 2000 годзе і пакланіўся і дому, і вокнам, і дзвярам, якія бачылі доўгі час дарагую постаць Ларысы Геніюш, нашай славутай пісьменніцы і патрыёткі.

*2010*

*Аляксей ГАЛАСКОК*

# ПОБАЧ З БІБЛІЯЙ

Ларысу Геніюш я ведаў з маленства, а калі дакладней — з 1956 года. Вярнуўшыся з лагера ў Зэльву, Геніюшы рабілі рамонт у сваёй хаце, і Ларыса Антонаўна прыйшла да майго бацькі з просьбай дапамагчы. А бацька мой працаваў маляром. Да Геніюшаў ён хадзіў пасля працы, вечарамі. За сваю працу ён грошай з іх не ўзяў, кажучы, што з бедных грошы браць — грэх. Так узнікла сяброўства, якое цягнулася да апошніх дзён паэткі.

Я часта заходзіў да Ларысы Антонаўны, чытаў ёй свае пераважна рускамоўныя на той час вершы. Гаспадыня частавала мяне сваім печывам, да якога заўсёды была гарбата. Ахвотна чытала мне свае новыя вершы. Чытала ціхім голасам і ўсё глядзела мне ў вочы. Праўду кажучы, сэнс верша «Зубры» я тады не зразумеў. Гэты верш яна мне чытала некалькі разоў, а потым сказала наўпрост, што зубры — гэта беларусы.

Памятаю, як натхнёна ёю чыталіся і іншыя вершы: «Мая мова», «На магілах не сеюць пшаніцы», «Арлы не пакідаюць гнёзд». Гэтыя вершы Ларыса Антонаўна таксама чытала мне па некалькі разоў, робячы націск на тых радках, дзе гучала любоў да Беларусі, да роднага народу, да матчынай мовы.

Памятаю, паэтку вельмі ўразіў палёт амерыканскіх астранаўтаў на Месяц. Быў у яе пра гэта верш, якога я не сустракаў у друку.

Прадказвала, што прыйдзе час — і я пачну абавязкова пісаць па-беларуску. Прызнацца, мне тады ў гэта не надта верылася. А яе словы — спраўдзіліся.

Расказвала пра мінулую вайну, пра тое, у якой трагічнай сітуацыі апынуліся на той вайне беларусы. Я тады з ёю не згаджаўся, спрачаўся. А як я мог згадзіцца? На той час я быў маладым, заідэалагізаваным савецкім афіцэрам. Жыццё маё склалася так, што я 25 гадоў адслужыў у войску далёка ад Бацькаўшчыны, адвык ад роднай мовы.

Падчас кожнага прыезду ў Зэльву я стараўся забегчы да Ларысы Антонаўны. Яна распытвала пра жыццё, пра сям'ю. Калі даведалася, што дачушку мы з жонкай назвалі Алесяй, была вельмі задаволеная. Праўда, заўважыла: «Адно дзіця — гэта мала. Беларусаў павінна быць многа!» Праз пэўны час нарадзіўся ў нас сын Іван. Калі я, шчаслівы бацька, падзяліўся навіной з Ларысай Антонаўнай, яна мяне далікатна паправіла: «Добра, што назвалі Янкам».

Каля хаты Ларысы Геніюш улетку заўсёды цвілі кветкі. Мне асабліва падабаліся яе вяргіні, а сама паэтка вельмі любіла пралескі. Як расказвала мне Ірына Восіпаўна Васілеўка — былая рэдактарка зэльвенскай раёнкі, у апошнія дні Ларысе Антонаўне прынеслі пралескі ў бальніцу. Яна ўсцешылася і дарыла іх сваім хворым суседзям.

На жаль, я не змог праводзіць паэтку ў апошні шлях — служыў на той час далёка. Шторазу, калі прыязджаю ў Зэльву, наведваю яе магілку. Іду да свайго бацькі, а потым — да Геніюшаў.

У маёй сястры Ганны Пятроўны Галаскок захаваліся рукапісы вершаў Ларысы Геніюш, якія яна ёй прысвяціла ў 1957 годзе. Іх чатыры: «Роднае», «Глядзі», «Розная доля» і «Беларуская зямля». Памятаю, што верш «Роднае» пачынаўся радкамі:

*Прыгожа расцеш, быццам тая вярбінка*
*Пад сонца праменьмі ў зялёнай дуброве.*
*Ты верш у мяне папрасіла, дзяўчынка,*
*На роднай, каханай напісаны мове.*

На цвінтары зэльвенскай царквы Ларысе Геніюш усталяваны помнік. Яна быццам вітае людзей, якія ідуць у царкву. А мне пашчасціла сустракацца з ёю жывою, слухаць яе вершы. Кніга Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана» з яе аўтографам стаіць у нас дома на паліцы — побач з Біблія́й.

*2009*

*Алесь БЕЛАКОЗ*

# ПАДВОЙНЫЯ ДЫВАНЫ

У 1981 годзе Ларыса Геніюш у лісце прапанавала мне прыехаць у Зэльву. Там яна ахвяруе Гудзевіцкаму музею гарадзенскі падвойны дыван. Прызнаюся, раней я не чуў, ды, відаць, і іншыя музейшчыкі, не надта шмат ведаў пра такія дываны.

Забягаючы наперад, прыгадаю, як у 1989 годзе я пахваліўся з трыбуны абласной нарады работнікаў культуры, што мы маем вельмі багатую і старажытную калекцыю падвойных дываноў, якая складаецца з 13 экспанатаў. Намеснік дырэктара аднаго з маскоўскіх музеяў у сваім выступленні насміхалася:

— Какая же это коллекция, в которой только 13 диванов?!

Яна нават не зразумела, пра што ідзе размова, але з выглядам знаўцы крытыкавала мяне. Як пазней выявілася, яна ніколі не бачыла падвойных дываноў і не чула пра іх. Самыя значныя еўрапейскія музеі маюць толькі па адным, па два такія каштоўныя экспанаты.

Паехаў я да Геніюшаў, каб забраць унікальны дыван. Мы ў Геніюшаў і Геніюшы ў нас бывалі часта, хоць да Зэльвы ад Гудзевічаў каля 70 кіламетраў. Прыехаў пасля абеду. Ларыса Антонаўна і спадар Янка запрасілі пераначаваць. Гасцяваць у Геніюшаў заўсёды было вельмі цікава: яны былі надзвычай дасведчаныя людзі. Шмат карыснага, патрэбнага для настаўніка можна было ад іх даведацца. З імі было лёгка і прыемна: Іван Пятровіч Геніюш — чалавек-энцыклапедыя, умеў маральна падтрымаць слухача. Ён бясконца здзіўляўся:

— То вы і Арсена Ліса ведаеце? Кажаце, сустракаліся з ім? Вы знаёмы з Васілём Быкавым, нават перапісваецеся з ім?

І так бясконца. З гэтымі людзьмі кожны адчуваў сябе чалавекам. Калі я назаўтра пачаў збірацца дахаты, то Ларыса Антонаўна катэгарычна запратэставала:

— Нікуды мы вас не пусцім: цяпер вакацыі, то пабудзьце ў нас яшчэ хоць дзянёк.

Пабыць у іх хацелася, але ж у хаце шмат спраў. Чакаю, калі Ларыса Антонаўна аддасць музею падвойны дыван.

Прагутарылі да абеду, аднак пра дыван — ні слова.

Хоць з цяжкасцю, але я вырваўся ад гэтых гасцінных людзей.

Праз некалькі дзён ліст: «Ой, я забылася аддаць вам падвойны дыван, але вы прыязджайце зноў, то ўжо абавязкова аддам».

А тут Міхась Забэйда-Суміцкі лістоўна папрасіў, каб я з’ездзіў у Шэйпічы Зеляневіцкага сельсавета ды паглядзеў, ці на магіле ягонай маці стаіць помнік. Падумаў я, што адразу заб’ю двух зайцаў: забяру дыван і выканаю просьбу Міхася Іванавіча.

Чацвёртага ліпеня я быў у Зэльве. Зноў запрашэнне пераначаваць. Пятага ліпеня дзень прайшоў вельмі цікава, бо Ларыса Антонаўна апавядала пра Прагу, пра арышт, пра сустрэчу з Цанавам, пра савецкія канцлагеры. Шостага ліпеня пачаў збірацца ў Шэйпічы, а гасцінная гаспадыня:

— Што вы, што вы! Як можна! Заўтра імяніны Янкі, а вас не будзе. Не пушчу.

Удалося вырвацца, але Ларыса Антонаўна зазлавала.

Праз некалькі дзён атрымліваю ліст: «Я зноў забылася аддаць вам гарадзенскі падвойны дыван. Прыязджайце, цяпер дакладна атрымаеце».

«Не, — пішу я, — больш я па дыван да вас не паеду, бо вы яго ўсё роўна не аддасце».

На тым жа тыдні Ларыса Антонаўна прывезла дыван ў Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей, а праз некалькі месяцаў апісала нам яго гісторыю:

«Гэты дыван прынесла ў пасаг свайму свёкру Пятру Станіслававічу Геніюшу ягоная маладая жонка Эмілія Палубінская. Паходзіла яна з маёнтка Бабра, што на Сакольшчыне. Сяння гэтая частка беларускай зямлі належыць да Польшчы. Бацькі Эміліі Палубінскай

былі людзьмі багатымі. Была ў яе нават у маленстве гувернантка. Аднойчы завітаў да іх прыгожы юнак Пётра Геніюш. Служыў ён, як у той час казалі, гарадавым. Маладыя пакахаліся, але Пётра Геніюш быў з вельмі беднай сям'і. Меў ён усяго каля чатырох гектараў і не быў адпаведнай параю для багатай шляхцянкі. Я добра не ведаю, як гэта адбылося, але малады Геніюш украў тое дзяўчо, прывёз у Зэльву, дзе яны і пажаніліся. Мелі яны ўсяго аднаго сына, гэта быў мой будучы муж Янка Геніюш. Бацькі выракліся прыгожай Эмільцы, і яна вандравала са сваім мужам, дзе яму прызначалі працу. Доўгі час працаваў ён у Крынках, дзе і нарадзіўся мой муж.

Гэтага дывана з 1900 года меў мой муж як беларускі студэнт у Празе. Стыпендыя была малая, і вось аднойчы мой муж панёс свайго дывана ў ламбард. Моцна былі патрэбныя грошы. Яму далі за гэты дыван болей, як некалі давалі за залаты гадзіннік. Чэхі пазналі, што гэта тканая рукамі рэч вельмі вартасная ў паняцці сапраўды інтэлігентных і разумных людзей. Дывана гэтага, старога ўжо, муж прывёз дамоў. Пасля вайны памерла ягоная харошая маці і самотна дажываў свой век стары тата. Нас не было. Уміраючы, пераказаў ён сваю скромную маёмасць нейкаму Архімовічу з Зэльвы з тым, што ён нам усё верне альбо, калі б мы не вярнуліся дадому, аддасць нашаму сыну Юрку.

У 1956 годзе мы вярнуліся дамоў. Архімовіч пры дапамозе нячэсных людзей забраў нашу хату і прыкладаў стаpанні, каб выжыць нас з Зэльвы. У зэльвенскай міліцыі быў спісак усёй нашай маёмасці, але мы баяліся яго патрабаваць. Стары дыван у Архімовічаў валяўся, як ануча. Яны забралі ўсе рэчы, нават маю шлюбную сукенку і валян, якія тут засталіся. Забралі мае рукапісы і вельмі вартасныя, унікальныя беларускія кніжкі. Адну з іх, "Шляхам жыцця" Янкі Купалы, выданую ў Пецярбургу у 1913 годзе, вярнуў нам М. Голуб, настаўнік Зэльвенскай школы. Архімовічы аддалі нам пару старых місак, з якіх кормяць сабак. Мы бачылі ў іх свой посуд, але, рады, што жывыя нарэшце вярнуліся дамоў, махнулі на ўсё рукою. Дарэчы, на кніжцы "Шляхам жыцця" быў надпіс "Даражэнькаму татачцы. Вялікдзень, 1924 год" і подпіс мужа.

Пры дапамозе Менскай пракуратуры, да якое я звярнулася, знайшоўся тэстамент, якім Пётр Геніюш пакідае Архімовічу хату і ўсе рэчы да павароту дамоў сына, нявесткі ці ўнука. Адна толькі маладзенькая камсамолачка-адвакат чэсна даламагла нам, застрашаным і зняважаным сям'ёй Архімовічаў, перабрацца ў сваю хату, гдзе я і сяння жыву. Архімовічы паехалі ў Польшчу, а патоптаны імі дыван трапіў у Ваш музей».

З тае пары я пачаў шукаць падобных дываноў. У 1982 годзе летам паехаў у Індурскую царкву. Бачу — святар рыхтуе фарбы. Ён з сынам збіраўся за пяць тысяч рублёў памаляваць царкву. Банкі і вёдры з фарбаю стаяць на падвойным дыване. Кажу яму, што гэты дыван — вялікая каштоўнасць, што я яму прывязу старую пасцілку, на якой можна будзе ставіць банкі. Урэшце, фарбу можна ставіць на газеты ці на плёнку. А святар заладзіў:

— Скончу маляваць — аддам дыван: я хачу ставіць фарбу менавіта на яго. Дыван царкоўны, што захачу, тое з ім і зраблю.

Праз некалькі тыдняў я папрасіў нашага мясцовага святара, каб дапамог мне ўгаварыць індурскага бацюшку не псаваць каштоўнае рэчы

Прыехалі. Прашу: «Можа, цяпер аддасце нам той падвойны дыван».

— Не дам, бо яго выкінуў. Я ім пэндзлі з фарбай выціраў.

— То куды вы яго выкінулі? Мы адчысцім фарбу.

— Я яго спаліў, — радасна паведаміў святар.

Цудоўны помнік ткацтва XIX стагоддзя, доказ таленавітасці нашых жанчын, беззваротна загублены для Беларусі.

Божа! Калі мы будзем мець святароў-патрыётаў, якія б дбалі пра нашу культуру, пра наш народ, пра яго мінуўшчыну і будучыню?

Вельмі зычліва сустрэў мяне святар у Масалянах. Ён у 1987 г. перадаў нашаму музею саматканы падвойны ходнік пачатку XX стагоддзя памерам 520 × 115 см.

А самым старажытным і прыгожым на беларуска-польскай выставе падвойных дываноў быў наш дыван, на якім вытканы год: *1898.* Там таксама былі паказаныя падвойны дыван мінулага стагоддзя (не датаваны) і дыван 1926 года з сюжэтным малюнкам. Святар з Гудзевічаў Сень Мікалай Васілевіч ахвяраваў Гудзевіцкаму музею падвойны ходнік. Памеры яго 615 × 105 см. Хоць па ім хадзілі ў царкве 55 гадоў, аднак стан яго даволі добры. На ім выткана: *«Пр. Гудев.* церкви *1932».* Вага ходніка 6 кг 480 г.

У 1990 годзе мы, супрацоўнікі Гудзевіцкага музея, вырашылі, што падвойныя дываны трэба вучыцца ткаць нам самім. Умела іх ткаць толькі Райская Ядвіга Аўгустынаўна з Адэльска, але яна была ўжо немаладая.

У Беларусі можа знікнуць падвойнае ткацтва. Праўда, той-сёй з даследчыкаў беларускай этнаграфіі спрабаваў ткаць падвойныя дываны. Часам нешта атрымлівалася, але ні на выставах, ні ў музеях я не бачыў падвойных дываноў, вытканых у нашы дні. На менскай выставе прысутнічалі жанчыны, якія сцвярджалі, што ўмеюць ткаць падвойныя дываны. Але калі я пачаў дапытвацца ў іх, дзе яны бяруць берда для падвойных дываноў, як робяць нічальніцы, то прызналіся, што яны не толькі не ткалі падвойных дываноў, але нават не бачылі, як гэта робіцца.

У 1989 годзе нам удалося купіць падвойныя кросны. Паставілі перад сабой мэту навучыцца ткаць падвойныя дываны. Вясной 1990 года загітаваў я нашых назіральніцаў, і паехалі мы ў Адэльск да Райскай. Ядвіга Аўгустынаўна сустрэла нас насцярожана і заявіла, што яшчэ ніхто ў яе не навучыўся ткаць падвойныя даваны і мы не навучымся.

Мы ёй далі немалую суму грошай, аднак яна тлумачыць нічога не схацела:

— Глядзіце, як я тку, і вучыцеся.

Паглядзелі жанчыны, але навучыцца не здолелі. Тады я звярнуўся да самай спрактыкаванай ткачыхі Улановіч Соні Аляксандраўны і прапанаваў павучыцца тканню падвойных дываноў.

— Я не здолею, — адмовілася яна.

Не ўдалося ўгаварыць Рыбалку Ніну Міхайлаўну. Дзякуй Богу, што згадзілася ткаць мая жонка Белакоз Вера Ігнатаўна.

Паткала крыху, памылілася. Адаткала. Справа пайшла шпарчэй. Зноў памылілася. Праз хвілін 20 ткала даволі добра.

Едучы дахаты, пытаюся:

— Ці здолееш наснаваць на нашых кроснах падвойны дыван?

— Здолею, — упэўнена адказала Вера Ігнатаўна.

І праўда, праз некалькі тыдняў наснавала першы дыван і выткала. Спачатку было нямала памылак, але паступова тканне наладжвалася. Гэта таму, што ўжо з 1969 года Вера Ігнатаўна вяла ў школе ткацкі гурток, у якім вучыла дзяцей ткаць паясы, гальштукі, а пазней пайшлі падвойныя дываны. Ахвяравала два дываны Вера Ігнатаўна Гарадзенскаму дзяржаўнаму гісторыка-археалагічнаму музею, адзін падвойны дыван — Мастоўскаму музею «Лес і чалавек», выткала шмат такіх дываноў Гудзевіцкаму дзяржаўнаму літаратурна-краязнаўчаму музею, навучыла падвойнаму ткацтву многіх сваіх вучаніц і супрацоўніц нашага музея: Клімуць Вольгу, Станеўскую Людмілу, Басінскую Кацярыну, Сівук Кацярыну. Цяпер яны самі ткуць ручнікі, посцілкі, сурвэткі, падвойныя дываны, абрусы, паясы, фартухі і інш.

Падвойнае ткацтва ў Беларусі не знікла: у Гудзевічах яго прадоўжылі і пашырылі. Выпускніца Гудзевіцкай СШ Камінская Марына вучыць дзетак падвойнаму і звычайнаму ткацтву ў Гродзенскім абласным палацы дзіцячай і юнацкай творчасці, ткацкія гурткі вядуць і іншыя вучаніцы Веры Ігнатаўны.

Гродзенскі падвойны дыван Ларысы Геніюш даў добры пачатак самай багатай у свеце калекцыі падвойных дываноў, якая цяпер налічвае 19 адзінак асноўнага фонду Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея.

*1996*

*Аляксей МАРАЧКІН*

# ПАКУТНІЦА І СВЯТАЯ

Неяк адчуваеш сябе не зусім… не сказаць, каб няўтульна… І не таму, што ты не гатовы, і думкі мрояцца, наплываюць адна на адну. Хочацца сказаць нешта важнае, шчырае, як прызнанне. Як на споведзі… не зусім… Каб жа вось гэтак проста ўзяць асадку і пісаць, успамінаючы пра Яе. Быць рэхам Яе Вялікасці і, калі хочаце, Святасці.

Хто Яна для цябе, для ўсіх нас, беларусаў? Перачытаўшы паэтычную спадчыну Ларысы Геніюш, хочацца памаўчаць у вялікім роздуме. Яна нязгаснай паходняй сваёй душы запальвала душы і сэрцы іншых, патрабуючы ад іх таго самага гарэння. Яна патрабавала ад сяброў быць свабоднымі. Яна прагнула свабоды і тады, калі стаяла перад нібыта ўсемагутным, а насамрэч нікчэмным Цанавам, і тады, калі з Усходу ішла бальшавіцкая навала, а з Захаду — нашэсце нашчадкаў Тэўтонскага ордэна.

І ці суразмерныя сёння мае перажыванні, мой лёс, маё жыццё пры сённяшнім рэжыме з тым, што перажыла Ларыса, перанесла на сваіх жаночых плячах… Так, і сёння несвабода сціскае грудзі і не дае вальней уздыхнуць. Паэтка Ларыса Геніюш зведала краты і прыніжэнне сталінскага ГУЛАГу. Ды не скарылася… Яе дух вольнай птушкай лунаў у прасторы часу, разрываў заржавелыя краты, напаўняў усіх нас нязломнай энергіяй.

Гады праносяцца міма з усё большай хуткасцю. І вось ужо на календары 100-годдзе з дня Яе нараджэння. Няма з намі Ларысы Геніюш фізічна. Сёння Яна жыве ў іншым вымярэнні — вымярэнні нашай беларускай існасці. Сімвалічна, што Год Ларысы Геніюш пазначаны яшчэ адной слаўнай датай — 600-годдзя перамогі пад Грунвальдам. Згадваеш пра гэта і думаеш: ці не Ларыса Геніюш ёсць сапраўдны рыцар сумлення і свабоды на нашым беларускім учарашня-сённяшнім грунвальдзе. Дзе яны, хто яны, нашыя рыцары? Мо тыя шчытаносцы ў непрабівальных шлемах з дубінкамі ў руках, што кідаюцца на бяззбройных мірных людзей, выкручваюць рукі маладзёнам і топчуць на плошчы Каліноўскага нашыя штандары? Рыцары — ды не тыя. Гэта рыцары гвалту і несвабоды, карнікі ў новым абліччы. А можа, калі-небудзь і да іх дойдзе свабодная, палымяная паэзія Ларысы Геніюш? Ці — безнадзейна спадзявацца? Калі галовамі раструшчваць цагліны, там наўрад ці знойдзецца месца для высокадухоўнай паэзіі.

Паўтаруся, Ларыса Геніюш — сапраўдны рыцар сумлення і свабоды. Наша пакутніца. Наша святая. Наша Жана д'Арк. Паэтка, кананізаваная намі пры яе жыцці. Чытаем, перачытваем Ёю напісанае. Пісала пра сябе, пра Радзіму, а значыць — пра нас: «На гэтай зямельцы ўсе мы не госці. Усе мы чыесьці, усе мы кагосьці». Яна жывіла нас, творцаў, асаблівай энергетыкай супраціву. Каб мы маглі супрацьстаяць цемрашальству, падману і фальшу. Гэтым жывём і сёння.

Памятаю, у 1981 годзе на VIII з'ездзе пісьменнікаў Беларусі ў мяне адбылася першая сустрэча з Ларысай. Паэтка была запрошаная ў Менск самім Максімам Танкам. У тыя ж дні я ласкава запрасіў Яе ў майстэрню, каб паказаць свае творы. Са мной тады былі Мікола Купава і Яўген Кулік. Ларыса радая была нашай сустрэчы. Пачуваліся — як у роднай сямейцы. І гаварылі, гаварылі… А потым у руках Яе, нібы з цудоўнага куфра, з'явіўся аркуш паперы з толькі што напісаным вершам:

*Твары родныя, беларускія,*
*Як дубы, стаяць дзецюкі.*
*Скуль, вусатыя і бязвусыя,*
*Апынуліся мастакі?*
*З дзіўнай радасцю я іх убачыла,*
*Росным лугам зрабіўся зал,*

*Мільганула ў сэрцы спадчына,*
*Што жыве на іх абразах.*
*Недзе словы мае падзеліся,*
*Спраў сур'ёзных будзённы працяг,*
*Толькі думы шчасцем кудзеляцца,*
*Бо іх рукі ў маіх руках…*

Памятаю, у сваім нататніку я тады зрабіў некалькі накідаў тушшу. Папраўдзе быў паланёны Ейным вобразам, жывым нязгасным агеньчыкам іскрыстых вачэй Ларысы. У свае немаладыя гады Яна была такая гаваркая, энергічная.

Пазней я намаляваў палатно «Ваша Ларыса Геніюш». Фотаздымак паэткі трапіў да мяне ад мастака Уладзіміра Крукоўскага. На ім — маладая, прыгожая, шляхотная Ларыса ў модным капялюшыку. Твор, на мой погляд, атрымаўся. Праўда, у друку ўсчалася палеміка, што на тым здымку, з якога пісалася карціна, — не Ларыса Геніюш, а Палута Бадунова. Думаю, што гэта не так. Ёсць партрэт Палуты Бадуновай, зроблены з натуры Язэпам Драздовічам, які абсалютна разыходзіцца з тым вобразам, які намаляваў я.

З маім партрэтам Ларысы Геніюш адбылася яшчэ адна гісторыя. Пасля таго як я паказаў твор на выставе, тагачасны дырэктар Музея сучаснага мастацтва Васіль Шаранговіч загарэўся праз экспертны савет Міністэрства культуры набыць партрэт. Ды нічога з таго не выйшла. У Міністэрстве культуры мяне доўга ўпрошвалі замяніць партрэт на іншае палатно. Чыноўнікі, якія і да сёння сядзяць у міністэрскіх кабінетах, даводзілі мне, што Ларыса Геніюш — не тая асоба, якой будзе адведзена месца ў Музеі сучаснага мастацтва. Гаворка пра непадабенства вобраза не ішла. Натуральна, я не прыняў прапанову чыноўнікаў ад культуры.

У чэрвені 1981 года мы з сябрамі наведалі Зэльву. Ларыса, як дбайная гаспадыня, сустрэла бадзяг-мастакоў на парозе свайго дому. Гэта была незабыўная сустрэча — з гасцінным пачастункам, з размовамі пра нашае жыццё, пра нашую будучыню.

Вячаслаў Дубінка як прафесійны здымач фіксаваў нашую сустрэчу на плёнку. Светлай памяці Віктар Шматаў хваляваўся, каб гэтыя фота пасля, не дай Божа, не трапілі на вочы ягонаму начальству: «Я ж, хлопцы, у Акадэміі навук працую, на адказнай пасадзе. Хто яго ведае, як гэта мяне адгукнецца…». Уладзімір Басалыга, аўтар мастацкага афармлення зборніка Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана», з гэтага толькі жартаваў: «Не хвалюйся, Віктар, у Канторы Глыбокага Бурэння ўжо ёсць твае фотаздымкі». І яны, і Пётра Свентахоўскі, і Міхась Чарняўскі, і мая жонка Ірынка — усе мы пачуваліся ў хаце Ларысы ўтульна, як у сябе дома.

Ужо на развітанне Ларыса даверліва распачала гаворку пра тое, што Яе даўно хвалюе, не дае спакою. Некаторыя Ейныя сябры раяць вызначыцца са статусам пражывання ў Савецкай Беларусі — прыняць грамадзянства БССР. «Сама я ўжо даўно вырашыла. А што вы, хлопцы, на гэта скажаце?»

А што мы тады маглі сказаць? Ларыса для нас была сімвалам нязломнасці і сумлення. Сімвалам беларускасці. У сэрцы Яе жыла Беларусь, але не савецкая, не бальшавіцкая. Прыняўшы савецкае грамадзянства, Яна нібыта змiралася са злом, з нячыстаю сілаю. З гэткім паразуменнем мы і развіталіся.

Пазней, калі Ларысы ўжо не было сярод нас, па ініцыятыве старшыні клуба «Спадчына» Анатоля Белага на цвінтары Зэльвенскай царквы быў усталяваны помнік Ларысе Геніюш, зроблены скульптарам Міхасём Іньковым На адкрыцці помніка было шмат менчукоў і зэльвенцаў. Мясцовыя чыноўнікі распачалі кампанію супраць помніка, нават збіраліся яго дэмантаваць. Не атрымалася. Аднак адышоўшая ў вечнасць Ларыса і сёння не дае ім спакою. Цень Цанавы і сёння жыве ў іхніх спустошаных душах. Ды прыйдзе час, і пакутніца Ларыса, паэтка з Божай ласкі, зойме месца ў почаце праваслаўных святых Беларусі. Яна гэтага заслужыла.

*2010*

*Валерый ПАЛІКАРПАЎ*

# І ДУХУ МАГУТНЫЯ ЧАРЫ…

Праз маё жыццё прайшло і праходзіць шмат людзей. Адны прамільгнулі ледзь заўважна, ад другіх засталіся агіда і вялікае жаданне хутчэй забыць іх, а вось некаторыя постаці да апошніх дзён маіх будуць узорам грамадзянскай мужнасці і высакароднасці чалавека.

На пачатку 70-х гадоў я працаваў у Баранавіцкім краязнаўчым музеі. Аднойчы трапіла мне ў рукі кніжачка Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана». Аўтара я не ведаў, кнігу набыў праз імя Уладзіміра Караткевіча, які адрэдагаваў яе. Ужо тады я моцна захапляўся Караткевічам і збіраў усё, да чаго кранался ягонае пяро. У кнізе маю ўвагу прыцягнула паэма «Куфар». Прачытаў яе некалькі разоў запар — і ахнуў: гэта насамрэч выдатны паэтычны даведнік па беларускім ткацтве і народным адзенні!

У студзені 1971 года адбылася першая этнаграфічная экспедыцыя па Баранавіцкім раёне. У ёй узялі ўдзел запрошаныя з Мінску вядомыя спецыялісты, мастакі-этнографы Міхась Раманюк і Яўген Кулік. Мінчане ведалі паэму «Куфар», і дарогаю мы смакавалі кожны радок з яе — я прадбачліва захапіў кнігу з сабою.

— А ведаеце што? — заўважыў Міхась Раманюк, — Ларыса Геніюш — не толькі выдатная наша паэтка, а яшчэ і выдатная ткалля, яна ведае ўсе тонкасці рамяства, узоры і колеры свайго Панямоння, мясцовыя звычаі і асаблівасці побыту мясцовых беларусаў.

Здабыткі падчас нашай вандроўкі былі, але такога поўнага «куфра», як у паэме, мы так і не знайшлі. Вайна, ліхалецце зрабілі сваю чорную справу — знішчылі шмат культурных каштоўнасцяў. Пазней Ларыса Геніюш напіша верш, як прысуд: «У сёлах даўно не прадуць…».

Асабістае маё знаёмства з Ларысай Антонаўнай адбылося 9 траўня 1971 года. Сабраліся тады паехаць у Зэльву з невялічкай грамадкай баранавіцкіх паэтаў Здзіслаў Сіцька і я. Заініцыяваў паездку Пётра Яўхімавіч Саўчук, ён асабіста ведаў Геніюшаў, ліставаўся з імі, таксама правёў доўгія гады ў сталінскіх лагерах.

З'явіліся мы ў Зэльве нечакана, без папярэдняй дамовы. Я потым даведаўся чаму: хата паэткі была пад пільным наглядам. Нягледзячы на амаль «шляхецкі літоўскі наезд», гаспадары вельмі ветліва сустрэлі нас. Мяне ўразіла невялічкая старасвецкая хатка, утульная, поўная кніг і дабрыні. Ларыса Антонаўна была вельмі падобная на маю маму. Мне пашчасціла зрабіць некалькі хатніх здымкаў, на якіх гаспадыня ў фартушку — адкрытая і простая ў зносінах.

Але як яна змянілася, калі пачала чытаць са сшытачка свае вершы! Памаладзелі вочы, падужэў голас, мяккая і лагодная хатняя гаспадыня з прыгожым сялянскім тварам пераўвасобілася ў палымянага інтэлігента-грамадзяніна! Яе вершы зачаравалі нас усіх. Мне і сёння ўспамінаюцца пачутыя тады радкі пра беларускую мову: «Мілагучнасцю любых нам слоў, быццам музыкай душы, чаруеш».

Бог даў Ларысе Геніюш вялікі дар — магію слова. Паэтка прайшла праз пакуты і няволю і змагла захаваць веліч духа, прыгажосць і красамоўнасць думкі.

Чатыры гадзіны ў гасцях праляцелі хутка. Ларыса Антонаўна надпісала мне «Невадам з Нёмана», падаравала сваю фотакартку з такім надпісам: «З беларускай я створана гліны і з рабра наднямонскіх вярбін, я — галінка ля белага тыну напалову забытых святынь (нашых)».

У маім рукапісным альманаху «Сустрэчы» паэтка пакінула аўтограф верша «Адзін перад злыднем сагнецца…».

Калі развітваліся, шчыра запрашала ў госці — на яблыкі ўвосень ці на Новы год. Але змаглі паўтарыць вандроўку мы толькі роўна праз год — 9 траўня 1972 года.

Хоць я пісаў лісты Ларысе Геніюш, пасылаў нейкія кнігі, усё ж ехаць без Саўчука (ён працаваў начным дзяжурным аптэкарам) мы не адважваліся. Ведалі, што Пётра быў самым жаданым і чаканым госцем.

І зноў усё паўтарылася: гасцінны стол, песні «Песняроў» з кружэлкі, а галоўнае — мы пачулі новыя вершы нашай славутай чараўніцы. Ларыса Антонаўна падпісала мне на памяць здымкі, якія я рабіў год таму, напісала ў альбом верш «Хоць душа твая гордая ў ранах…».

Іван Пятровіч Геніюш скардзіўся на тое, што сыну Юрку (ён жыў у Беластоку) не давалі савецкай візы, бо ён неяк з Зэльвы самавольна паехаў у Мінск, чым парушыў пэўныя правілы. Я паабяцаў зрабіць Юрку запрашэнне на часовы ўезд у СССР. І атрымаў яго 28 верасня 1972 года.

Але перад гэтым здарылася шмат падзей, якія крута змянілі мой лёс. Мяне выклікалі на размову ў КДБ і пацікавіліся, якія адносіны я маю «з унутранымі эмігрантамі Геніюшамі»? Я адказаў, што ў Зэльве жыве не «эмігрантка», а найвыдатнейшая беларуская паэтка. «Нам всё ясно», — пачуў у адказ. Потым маю справу вынеслі на бюро гаркама КПБ, дзе я атрымаў вымову з занясеннем ва ўліковую картку і мусіў звольніцца з музея. Камусьці ў Брэсце маё пакаранне здалося занадта мяккім, і ўжо на бюро абкама сам першы сакратар Мікуліч «аднагалосна» выключыў мяне з шэрагаў КПСС.

Прыкладна ў першых днях кастрычніка 1972 года вечаровым цягнікам я прыехаў у Зэльву. У цемры знайшоў хату Геніюшаў (царква была арыенцірам) і паказаў Ларысе Антонаўне запрашэнне для Юркі. Коратка расказаў і пра сваё становішча. Паэтка паспачувала, а наконт запрашэння сказала: «Пакуль не пасылай, пачакаем да лепшых часоў». Мы развіталіся, і я пайшоў у ноч, спадзеючыся спыніць на шашы спадарожную машыну.

Калі ж яны настануць — тыя лепшыя часы для беларусаў у Беларусі?

*2010*

*Міхась ГЕНІЮШ*

# «З БАБУЛЯЙ Я ЛІСТАВАЎСЯ ДА АПОШНІХ ЯЕ ДЗЁН»

*Зэльвенскую хату сваёй знакамітай бабулі ён памятае да драбніцаў, як і яе жыцьцёвыя наказы. Гэта для яго яна напісала цэлую кніжку дзіцячых вершаў пад назвай «Казкі для Міхаські». Ад Зэльвы да Беластока ня так і далёка, але за савецкім часам паміж імі пралягала амаль непераадольная мяжа… У Год Ларысы Геніюш мы гутарым зь яе ўнукам Міхасём Геніюшам, які жыве ў Беластоку.*

**Міхась Скобла:** Міхась, наколькі я ведаю, ты нарадзіўся ў Зэльве. Якім табе запомнілася гэтае мястэчка?

**Міхась Геніюш:** «Зэльва з маіх дзіцячых часоў — гэта самае шчасьлівае месца, якое я памятаю. Я жыў там да чацьвёртага году свайго жыцьця. Памятаецца, што там было вельмі прыемна, што атачалі мяне вельмі добрыя людзі. Заўсёды, калі мне кепска ў жыцьці, я вяртаюся сваімі думкамі да тых даўніх ужо часоў. Часамі здараецца, калі я сплю, мне сьніцца, што я хаджу па зэльвенскай хаце, у якой правёў свае дзіцячыя гады, і сустракаю там усіх самых блізкіх мне людзей, якіх ужо няма сярод жывых».

**М. С.:** Што ў той хаце кідалася ў вочы, што знаходзілася на самым відным месцы?

**М. Г.:** На самым відным месцы ў той хаце былі кніжкі. Але самае памятнае для мяне — гэта Ларыса Геніюш, якая напаўняла хату сваёй дабрынёй. Хата была вельмі ўтульная і вельмі цёплая. Кніжкі там былі на ўсіх сьценках ва ўсіх пакоях, яны стаялі на паліцах — ад падлогі да столі, ляжалі на сталах, на крэслах і нават на падлозе — кніжак было ўсюды поўна. На сьценах віселі абразы Кастуся Каліноўскага, Францішка Скарыны і старыя дываны. На покуці ў пакоі, дзе спала мая бабуля, вісеў сьвяты абраз. Уся хата была напоўненая добрым духам маёй бабулі, там была добрая атмасфэра, там добра спалася, добра думалася, там можна было добра працаваць. У пакоі, дзе жыла бабуля, стаяла пішучая машынка, каля якой заўсёды ляжаў стосік паперы, і заўсёды аркуш паперы быў укручаны ў машынку, і на ім віднеўся распачаты верш або ліст. Мая бабуля была вельмі добрай кухаркай, і таму ўсюды было прыхавана вельмі многа розных смакоцьцяў, якія я любіў. І калі мне прыходзіла ў галаву штосьці зьесьці ці нечым паласавацца, яна заўсёды вычароўвала невядома адкуль той ласунак. Прызнаюся, я любіў розныя прысмакі, якіх па тым часе цяжка было купіць у крамах. Нават ня ведаю, адкуль Ларыса Антонаўна даставала, напрыклад, згушчанае малако ці сухую вяндліну, смаку якой я не магу забыцца да гэтага часу. Я ў маленстве яе настолькі палюбіў, што і цяпер, будучы дарослым чалавекам, шукаю такую вяндліну, прашу людзей на вёсках, каб зрабілі мне такую.

**М. С.:** Сёньня зэльвенская хата Ларысы Геніюш належыць беларускай дзяржаве і знаходзіцца ў даволі занядбаным стане, хоць у ёй і жывуць людзі. Як хата трапіла ў дзяржаўную ўласнасьць?

**М. Г.:** Пасьля сьмерці Ларысы Антонаўны, калі праз пэўны час трэба было вырашаць справы зь яе спадчынай, мы тры-чатыры гады не маглі нічога зрабіць зь яе хатай. Яна стаяла неабаграваваная, зацякала страха. Хата псавалася і зь сярэдзіны ад сырога паветра — трэба было ёю займацца. Мы хацелі перадаць хату зацікаўленым людзям у тым выглядзе, у якім яна засталася пасьля бабулі, каб зь яе ў будучыні можна было зрабіць музэй. На жаль, тады не знайшоўся ніхто, хто схацеў бы гэтым заняц-

ца. Прыходзілі людзі — адзін хацеў крэсла, другі — стол, трэці — пішучую машынку. Так і паразьбіралі ўсё па адной рэчы. А ў нас заканчваліся дазволы на перабываньне ў Беларусі (тады даваўся гэтак званы вызаў на 30 сутак), і мы не маглі доўгі час сядзець у Зэльве. Мы наогул ня ведалі, ці зможам больш туды прыехаць. Згадай, які быў час — пасля ваеннага становішча ў Польшчы. І беларускія ўлады на ўсё гэта глядзелі па-рознаму. Каб наогул захаваць хату, мы вымушаныя былі прадаць яе зэльвенскім уладам, бо толькі яны на той час былі ў гэтай хаце зацікаўленыя.

**М. С.:** Як часта табе даводзілася бываць у Зэльве?

**М. Г.:** У Зэльву мы езьдзілі раз на два гады, ня ведаю, чаму не штогод. Памятаю, што я заўсёды вельмі-вельмі чакаў на гэтую паездку, таму што Ларыса Антонаўна перадавала мне вельмі многа добрай энэргіі. Яна вяла перапіску са мною да апошніх сваіх дзён. Я, ужо будучы студэнтам, працягваў атрымліваць ад яе лісты і адказваць на іх. У мяне зь ёй была інтэлектуальная сувязь, яна вучыла мяне жыць, быць прыстойным чалавекам, каб я не забываўся на тое, хто я ёсьць. Да гэтай пары памятаю пачутую ад бабулі максыму, якую чуў таксама і ад дзеда. Яна гучала прыкладна так: «Любіце праўду, шукайце праўду і змагайцеся за праўду». Ларыса Антонаўна вучыла мяне, што праўда — гэта самая важная рэч на сьвеце, што я павінен памятаць, хто я, кім былі мае дзяды. Калі я быў яшчэ школьнікам, яна нам з братам дазваляла ўсё, акрамя аднаго: мы не павінны былі на паважныя тэмы думаць непаважна. У справах беларускасьці і агульначалавечых каштоўнасьцяў яна заўсёды скіроўвала нас на той самы шлях, які сама выбрала і лічыла правільным. І мы павінны былі сьледаваць за ёй. Памятаю, як у Зэльве я перажыў сваё першае каханьне. Была там адна дзяўчына… І я папрасіў Ларысу Антонаўну, каб яна напісала мне верш пра каханьне. Яна ўсьміхнулася і сказала, што прышле ў лісьце. І праўда, неўзабаве я атрымаў ліст, у якім быў верш пра каханьне, але гэта быў верш пра каханьне да Беларусі. У тым лісце бабуля яшчэ напісала, што Беларусь — гэта як самая любімая дзяўчына.

**М. С.:** Як табе сёньня бачыцца — ці разумелі зэльвенцы, хто жыве поруч зь імі?

**М. Г.:** Я думаю, што разумелі. Калі я хадзіў з Ларысай Антонаўнай па Зэльве, усе яе віншавалі, усе зь ёй віталіся, усе ведалі, хто яна. Можа, не ўсьведамлялі дакладна, але ўсе разумелі, што яна — вялікі чалавек, і тое, што яна рабіла, было вельмі важна таксама і для зэльвенцаў. Мне так здаецца.

**М. С.:** Ці закранала бабуля ў размовах з унукам тэмы свайго мінулага жыцьця? Ці ўспамінала ГУЛАГ?

**М. Г.:** Думаю, перажытае бабуляй было настолькі трагічным, што яна пра яго не хацела расказваць. Згадкі пра мінулае вельмі моцна яе нэрвавалі. Я бачыў часам, у які неспакойны стан яна ўваходзіла, калі я часам гаварыў ня тое слова — слова, якое нагадвала ёй пра мінулае, тое, з чым ёй давялося сутыкнуцца раней у жыцьці. Я бачыў, што яна тады вельмі моцна перажывала. Бабуля расказвала пра нешта істотнае, пра што мы павінны былі ведаць, але не расказвала пра тыя рэчы, на якія сама хацела забыцца.

**М. С.:** Ня кожны ўнук мае напісаную для яго кніжку. Ты, відаць, ганарыўся «Казкамі для Міхаські»?

**М. Г.:** Я быў тады малы і яшчэ не разумеў, што і ў казках для дзяцей можна сказаць пра важныя рэчы. Відаць, так думаў ня толькі я, і таму дзіцячую кніжку выдаць было лягчэй, чым кнігу для дарослых. Калі я выяжджаў з Зэльвы ў іншыя гарады, напрыклад у Гомель, у Рыгу, Ларыса Антонаўна заўсёды прасіла мяне, каб я пашукаў яе

кніжак, можа, удасца дзе-небудзь набыць. Памятаю, як, будучы ў Гомелі, я шукаў па кнігарнях «Казкі для Міхаські», а іх нідзе не было. Потым ехаў у аўтобусе і раптам праз вакно ўбачыў, што ў кіёску за шклом мільганулі тыя «Казкі…». Я выйшаў з аўтобуса на наступным прыпынку, пехатой вярнуўся назад і купіў усе бабуліны кніжкі, якія былі ў кіёску. Прадавачка зьдзівілася: нашто мне столькі аднолькавых кніжак? І я пахваліўся, што гэта кніга маёй бабулі, і што яна напісаная для мяне. Тады прадавачка папрасіла мяне пакінуць ёй адзін асобнік.

**М. С.:** Хто з наведнікаў зэльвенскай хаты Геніюшаў табе асабліва запомніўся?

**М. Г.:** Прызнацца, людзей такіх было вельмі многа. Калі надыходзіў дзень нараджэньня Ларысы Геніюш, ён праводзіўся два дні, бо за дзень не ўпраўляліся. Але і пасьля гэтых двух дзён прыяжджалі людзі, і з ранку да вечара хата была поўная. У хаце стаялі доўгія лавы — чалавек на трыццаць — сорак. На дзень нараджэньня прыяжджалі знакамітыя пісьменьнікі, прычым ня толькі беларускія, але і ўкраінскія. Іх было так многа, што я ўсіх сёньня і не згадаю. Памятаю Васіля Быкава, Дануту Бічэль-Загнетаву, Аляксея Пяткевіча, Пятра Рашэтніка, Аксану Сенатовіч з Украіны. Памятаю Ўладзімера Караткевіча, я зь ім пазнаёміўся якраз у Зэльве. Потым я паехаў да яго ў Менск, быў у ягонай хаце. Мы тады пра многае hutaryli, і запомнілася яшчэ, што я вельмі спадабаўся яго маме. Яна падаравала мне такі рог у выглядзе мядзьведзя. Гэты рог захаваўся ў мяне да сёньня.

**М. С.:** Сёньня ёсьць толькі адзін дзяржаўны музэй у Беларусі, дзе ў агульнай экспазыцыі ўшанаваная постаць Ларысы Геніюш, — у Гудзевічах на Мастоўшчыне. А дзе ў будучыні павінен быць яе «пэрсанальны» музэй?

**М. Г.:** Думаю, Ларыса Геніюш заслугоўвае на тое, каб мець асобны музэй, прысьвечаны толькі ёй. Музэй у Гудзевічах добры, але ён — агульны, шматтэмавы. А Зэльва — гэта Зэльва. Там ёсьць і царква, і помнік, пастаўлены каля царквы. Зэльва — гэта месца, дзе Ларыса Геніюш пражыла апошнія гады жыцьця, дзе яна напісала вельмі многа добрых вершаў. Таму думаю, што яе музэй павінен быць менавіта ў Зэльве. У сувязі з музэем прыгадалася адна гісторыя. Калі прадавалі хату, мы ня ведалі, што рабіць са старым абразом, які вісеў у хаце. Ён каштоўны тым, што гэта — абраз Ларысы Геніюш, перад якім яна малілася. Мы тады ўсёй сям’ёй думалі, што музэй будзе ў Гудзевічах, і перадалі абраз у Гудзевічы. Там меўся быць пакой, прысьвечаны Ларысе Геніюш, і той абраз павінен быў вісець там на сьцяне. На жаль, потым я даведаўся, што абраз не знаходзіцца ў экспазыцыі, ён схаваны ў фондах, яго людзі ня бачаць. А яшчэ пры жыцьці бабуля вельмі хацела, каб ён вісеў у зэльвенскай царкве. Я спрабаваў забраць абраз з Гудзевіцкага музэя, але гэта мне не ўдалося. Я напісаў некалькі лістоў у розныя ўстановы ў Беларусі, каб яны дапамаглі мне ажыцьцявіць апошнюю волю нябожчыцы. Вельмі хочацца, каб гэты абраз неяк перадаць з музэя ў зэльвенскую царкву. Месца сьвятога абраза не ў музэі, а ў храме.

**М. С.:** Мне нярэдка даводзіцца чуць, як людзі ў Беларусі чытаюць вершы Ларысы Геніюш на памяць. А ці памятае бабуліны творы ўнук?

**М. Г.:** У бабулінай хаце на сьцяне, насупраць майго ложка, вісеў тканы дыванок з выявай зубра. І найчасьцей я чуў ад яе вось гэты верш: «Непрыгожыя, барадатыя, / з нетраў пушчы ідуць зубры, / на плячох — вехі-грывы кудлатыя, / і цяжкія нясуць гарбы… / Сваёй пушчаю крочаць, стройныя, / цёмна-бурыя, як дымы, / неабласканыя, неасвоеныя, / першабытныя так, як мы.

**М. С.:** Неардынарнай асобай быў і муж Ларысы Геніюш — Іван Пятровіч. Што ты можаш сказаць пра дзеда?

**М. Г.:** Скажу, можа быць, нечаканую для цябе рэч. Вялікую беларускую патрыётку зрабіў з Ларысы Антонаўны яе муж — Янка Геніюш. Гэта ён ад пачатку быў вялікім беларускім патрыётам. Гэта ня ўсе ведаюць. Аднойчы маці дзеда Янкі напісала да яго ліст па-польску. А ён хацеў, каб яна пісала яму па-беларуску! І што? Перастаў ёй адпісваць, пакрыўдзіўся на яе. Тая вялікая беларуская сіла, якую мела Ларыса Геніюш, была ў ёй таксама і ад Янкі Геніюша. Ня толькі прозьвішча яна ад яго атрымала. Дзед мне запомніўся як вельмі інтэлектуальны чалавек. У мяне зь ім былі вельмі добрыя адносіны. Ён вучыў мяне, што ў жыцьці найперш трэба быць прыстойным чалавекам, ісьці простай дарогай, якая вядзе да праўды. Я ад дзеда атрымаў вельмі многа кніг з надпісамі. Усе вартасныя беларускія кнігі, якія выходзілі ў Беларусі, я атрымліваў ад дзеда да канца яго жыцьця. Я вельмі цяжка перажыў яго сьмерць. Бабуля — таксама. І для яе ён застаўся незаменным. Дзед заўсёды заставаўся як бы ў цені бабулі, але гэта быў вялікі беларус.

**М. С.:** Як даўно ты быў у Беларусі і ці плянуеш прыехаць у Зэльву 9 жніўня — на стагодзьдзе бабулі?

**М. Г.:** Апошні раз я быў у Зэльве вельмі даўно — каля пятнаццаці гадоў таму. Я вельмі хачу прыехаць на стагодзьдзе, буду вельмі рады, калі так атрымаецца. Я таксама вельмі рады, што ў Беларусі высока цэняць Ларысу Геніюш як паэтку і патрыётку, якой давялося многае перажыць у жыцьці, якая ахвяравала сваёй сям’ёй, сваімі блізкімі, сваім сынам — дзеля Беларусі. Думаю, што яна ўсім сваім жыцьцём заслужыла, каб пра яе памяталі. Вершы Ларысы Геніюш — гэта ня проста словы, гэта тое, што беларусы павінны мець у сваіх сэрцах і душах.

*2010*

*Ірына ГАН*

# «КАЛІ ЗЕРНЕМ НАЛЬЕЦЦА КАЛОССЕ…»

Зэльва. Надвячорак. Нізкі падворачак. Маленькі ганак, з двух бакоў якога — вяргіні. Стукаем у дзверы. Адтуль голас: «Хто там?» — «Гэта мы, Ларыса Антонаўна…» Ляснула засаўка. Ларыса Антонаўна адчыніла дзверы. Яна была засяроджаная і сумная. Мне запомніліся найбольш яе вочы: яна не глядзела, а дапытліва ўглядалася, нібы з першага погляду хацела вызначыць, хто мы і з чым.

«Дзяўчаткі мае!» — захвалявалася яна. Дзверы расчыніліся ва ўсю шыр і стукнулі аб сцяну. — «Заходзьце, заходзьце!»

Ларыса Антонаўна вяла нас праз прасторную кухню ў свой кабінет. З нашым з'яўленнем яна прасвятлела, выпрасталіся маршчынкі на ілбе, загарэліся вочы. Здаецца, яна нешта гатавала, бо была ў прыгожым фартушку. Хата пахла хлебам і нейкім мяккім водарам траў. І хоць я тут была ўпершыню, мне было гасцінна і ўтульна. Ларыса Антонаўна цікавілася маёй вучобай, распытвала пра ўніверсітэт, пра маіх бацькоў. Яна сядзела насупраць у сваім высокім старым крэсле і, як мне здалося, трохі хвалявалася.

— А вершы ты мае чытала? — раптам спытала Геніюш. Мне было сорамна ёй сказаць, што я хоць і закончыла сярэднюю школу ў Зэльвенскім раёне і правучылася пяць гадоў ва ўніверсітэце (закончыла ў 1984-м), ніколі не чула ад выкладчыкаў яе імені. З сорамам і болем я сказала ёй, што вершаў не чытала. Яна неяк адразу асунулася, пазмрачнела, потым моўчкі падышла да шафы, выцягнула ніжнюю шуфлядку і пачала там нешта шукаць. Дастала маленькую ў светлай вокладцы кніжку і ўздыхнула:

— Іх у мяне ўсяго дзве.

Гэта быў яе зборнічак «Невадам з Нёмана».

Узяла на стале аловак і падпісала: «Іры Ган — парастку маладому, харошаму ад аўтаркі. Зэльва, жнівень, 1980 г».. А на развітанне пацалавала мяне і прасіла цяпер прыходзіць да яе.

Я несла ў руках скарб — яе кнігу. У гэтую ноч на адным дыханні ўвабрала вершы ў сябе. Я была зачараваная сілаю радка, трапным словам паэткі. Памятаю, дома чытала паэму «Куфар» сваёй бабулі.

— А-я-яй, — дзівілася тая. —Усё як ёсць: і як прадзём, і снуем, і тчэм.

Бабуля мая ў той вечар павесялела і ўвесь час мармытала пад нос: «Так і ёсць. Гэтак, гэтак…» І прасіла пачытаць яшчэ.

Я прыходзіла да Ларысы Геніюш. Можа, не вельмі часта. Бачыла, як хвалявалі яе гэтыя сустрэчы. Ларыса Антонаўна садзіла мяне насупраць і вылівала мне свой боль — вершы. Чытала вельмі пранікнёна, здавалася, сэрца даставала з грудзей. Вочы яе гарэлі агнём, твар быў напружаны. Правай рукой дырыжыравала ў такт вершаў. Я слухала і ведала: гэта тое галоўнае і светлае, што павінна адбыцца ў маім жыцці. Тут я навучылася па-сапраўднаму слухаць, любіць і разумець паэзію.

Аднойчы я спытала ў Ларысы Антонаўны, чаму яе прозвішча пішуць Геніюш, а не так, як падпісвае вершы яна сама: без «і». Твар яе засмуціўся: «Скарожылі…» І больш нічога пра гэта не прамовіла.

Ларыса Антонаўна любіла, калі я чытала ёй свае вершы. Яна вельмі ўважліва слухала і тут жа давала ацэнку. Памятаю, чытала ёй новы верш. Паэтка прыціснула мяне да грудзей, пасля трымала за плечы і ўглядалася ў вочы. Тады і сказала мне: «Ну што ж, я магу спакойна паміраць».

Я памятаю яе як чалавека надзвычай чулай душы. Клапоцячыся пра тое, ці паспяваем мы, студэнты, раніцай перад лекцыямі што-небудзь перакусіць, яна вучыла мяне грэць гарбату з вечара і трымаць яе ў тэрмасе да снядання. Гэтай парадаю карыстаюся і цяпер. Памятаю, як яна дарыла мне духі, цукеркі, шакалад — ніколі не выпускала з пустымі рукамі. Не дзіва — я ж ёй унучка. «Няхай Вам лёгка, прыемна ды добра вучыцца! Поспеху Вам, любыя ўнукі!» — пісала Геніюш у адным з лістоў. Дарэчы, з гэтым пісьмом яна даслала верш, які прысвяціла мне. Я ёй вельмі часта скардзілася на тое, што сумую па вёсцы, што цяжка мне ў горадзе. Памятаю, чытала ёй неяк свой «упадніцкі» верш наконт таго, што найлепей мне ў сваёй вёсачцы, і нікуды не хочацца ехаць:

Так сядзела б у куточку пад ліпай,
І чакала б калодзежны звон.
І не зваў бы мяне і не клікаў
Паравозны гудок-барытон…

Геніюш вельмі абуралася такім матывам: «Трэба любіць усю зямлю, дзе ты нарадзілася, а не толькі сваю вёску, бо чыя ж гэтая зямля — адвеку наша. І рукі нельга складваць».

І праўда, хутка зірнула я на свет іншымі вачамі.

*2003*

*Алесь ЖУК*

# АДНА Ў БЕЛАЙ ХАЦЕ

Пра Ларысу Геніюш я ўпершыню пачуў ад Юркі Голуба, з якім мы былі аднакурснікамі. У той час кантактаваць з Ларысай Антонаўнай, асабліва моладзі, было непажадана. Людзі з органаў цікавіліся тымі, хто наведваў яе. А нацыянальна настроеная моладзь цягнулася да яе. І наведвала. Тую, што была сакратаром эмігранцкага ўрада БНР, тую, што друкавалася ў перыядычных выданнях таго часу, выдала сваю першую кнігу «Ад родных ніў» у Празе ў 1942 годзе. Тую, што ў 1948-м была арыштавана, вывезеная ў Мінск і асуджана на 25 гадоў лагераў, так і не рэабілітаваная ў 1956-м камісіяй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Камісія толькі скараціла тэрмін да 8 гадоў, практычна проста выпусціла на волю, пакінуўшы абвінавачванне ў сіле. «Няўдзячная» Геніюш, выйшаўшы на свабоду, не прыняла савецкага падданства, хаця і засталася жыць на радзіме, у Зэльве…

Для ўлады Ларыса Геніюш «как была, так и осталась националисткой», адным з тых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, віна якой была толькі ў тым, што любіла сваю Радзіму, свой народ, жадала яму «свайго пачэснага пасаду між народамі». Колькі светлых галоў заплаціла за гэтае імкненне жыццём, колькі талентаў так і прапала, зачахла ад свае незапатрабаванасці!

Ларыса Геніюш была адной з тых, хто не зламаўся, хто выстаяў да канца, хто верыў у тое, што зробленае імі не прападзе марна. Ларыса Антонаўна дасягнула свайго, няхай і пасля смерці. Напісанае ёю надрукавана, выдадзена, імя яе ўвайшло ў кагорту тых слаўных, кім ганарыцца Беларусь.

Але праз што даводзілася прайсці, якія хвіліны адчаю былі пераадоленыя, гаворыць і пісьмо Ларысы Геніюш на імя Пятра Міронавіча Машэрава. Наўрад ці трэба каментаваць гэты дакумент — сведчанне перажытага болю і адчаю, асабістай годнасці і вялікай чалавечай мужнасці.

На пісьме штэмпель групы рэгістрацыі пісем ЦК КПБ і няма ніякіх рэзалюцый. Але калі меркаваць па тым заданні, якое я атрымаў ад сакратара па ідэалогіі А. Т. Кузьміна, Машэраў пісьмо прачытаў. Аляксандр Трыфанавіч выклікаў мяне да сябе, сказаў, што па пісьме Ларысы Антонаўны мне трэба з'ездзіць у Зэльву, правесці гутарку з мясцовым кіраўніцтвам аб іх адносінах да паэтэсы, рэкамендаваць ім не перашкаджаць, а нават і спрыяць таму, каб Ларыса Антонаўна магла выступаць перад людзьмі, чытаць вершы. І яшчэ — каб ніякіх дзеянняў супроць Ларысы Геніюш не праводзілася. Калі што — звязвацца з сектарам мастацкай літаратуры ЦК.

Праз дзень я быў у Зэльве, дзе адбылася непрыемная для першага сакратара райкама партыі гаворка, але аспрэчваць указанні «таго дома» было не прынята.

Самае памятнае з тае камандзіроўкі — сустрэча і знаёмства з Ларысай Геніюш. Па дарозе ад райкама да хаты Ларысы Антонаўны я заўважыў, што прыстаўлены да мяне інструктар абкама Іван Граблеўскі нервуецца. На маё пытанне, у чым справа, ён неахвотна патлумачыў, што Ларыса Антонаўна такая жанчына, што можам атрымаць ад варот паварот. Відаць, адчуваў нейкі грэх за сабою.

Запомнілася яшчэ брудная пасля зімы, няўтульная красавіцкая вуліца, просты вясковы плот, варотцы. Першым пра нас даў знаць сабака, які з'явіўся з-за хаты. Вуліца была пустая. Людзі з вокнаў назіралі за белай абкамаўскай «волгай» і за людзьмі, якія з яе выйшлі. Неўзабаве дзверы сянец адчыніліся, да нас падышла жанчына. Гэта была

суседка Ларысы Антонаўны, якая дапамагала ёй па гаспадарцы. Мы назваліся, жанчына вярнулася ў хату, і адтуль хутка выйшла сама Ларыса Антонаўна, нечакана моцная, па-мужчынску шырокая ў плячах, у лёгкай летняй сукенцы. Яна адчыніла варотцы, запрасіла заходзіць у хату, распрануцца і садзіцца за стол, сказала суседцы, каб прыгатавала чай.

Маю інфармацыю пра наведванне райкама выслухала стрымана, зрэдку злёгку ківаючы галавой ні то ў знак удзячнасці, ні то што норавы і павадкі сваіх чыноўнікаў ведае лепш за нас. Але з твару пасвятлела, узялася засцілаць стол, як было заведзена ў яе, вышываным прыгожым поясам, паставіла талерачкі з печывам — сухарыкамі, дамашнім пячэннем, на што была вялікая майстрыца. І зусім нечакана на стале з'явіліся кілішкі і тое, што ў іх наліваюць. І пытанне:

— Ці пры выкананні начальства не п'е?

Давялося аджартавацца, што якое ж гэта начальства, калі яно не п'е. А потым гаворка за чаем, нязмушаная, але і неабавязковая, як і звычайна паміж людзьмі раней не знаёмымі, роспыты пра Мінск. Да сваіх праблем Ларыса Антонаўна не вярталася, не скардзілася, толькі мімаходзь заўважыла, што яшчэ халаднавата на дварэ, а брыкет ніяк не могуць прывезці. Іван Станіслававіч адразу ж запэўніў яе, што брыкет будзе, папрасіў Ларысу Антонаўну на будучае запісаць ягоны тэлефон. Ларыса Антонаўна тэлефон запісала, але ўсміхнулася і паддзела:

— Вось бачыце, варта інструктару ЦК загаварыць па-беларуску, дык і абкам, аказваецца, умее.

Я нагадаў Ларысе Антонаўне пра вершы: у маё даручэнне ўваходзіла ўзяць вершы Ларысы Геніюш для надрукавання ў рэспубліканскіх выданнях. На нейкае імгненне яна быццам задумалася, потым падышла, здаецца, да шафы, вярнулася з папкай і нечакана прапанавала:

— А хочаце, я пачытаю вам свае вершы?

Чытала яна стоячы перад сталом і адначасна раскладвала лісткі ў два стосікі са словамі: «Гэта можна. Гэта ня пойдзе».

Чытаць Ларыса Антонаўна ўмела, пачуццё меры, як і разуменне сваёй годнасці, былі ўласцівы ёй арганічна. І чытку яна не зацягнула. Паклала адабраныя лісткі ў папку, падала мне са словамі:

— Перадайце Максіму. Паклон яму ад мяне. І скажыце, няхай сам распарадзіцца.

Мне не трэба было тлумачыць, што Максім — гэта Максім Танк. Забягаючы наперад скажу, што Яўген Максімавіч распарадзіўся: у летніх нумарах «Полымя» і «ЛіМа» 1979 года былі надрукаваныя падборкі вершаў Ларысы Геніюш, а ў 1982-м была выдадзена і кніга паэтэсы «На чабары настоена», другая пасля «Невадам з Нёмана» 1967 года.

Правяла нас Ларыса Антонаўна да варотцаў, і, калі я азірнуўся з машыны ад'язджаючы, здалося, што яна злёгку кіўнула галавой на развітанне. Падумалася, як цяжка і адзінока ёй у вялікай хаце з пабеленымі сценамі, разлічанай на вялікую сям'ю, жыць адной пасля смерці мужа, і як, мабыць, часта яна глядзіць на сцяну, дзе вісіць у рамачцы невялікая аматарская фатаграфія, з якое глядзяць на яе такія маладыя Данута Бічэль-Загнетава, Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк… І яшчэ падумалася, што залішне зацятыя барацьбіты з нацыяналізмам наўрад ці перастануць рабіць ёй дробныя паскудствы, але на вялікія наўрад ці адважацца.

*2007*

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ*

# ВАНДРОЎКІ ДА ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Дзённікі я пачаў весці з 1962 года. Нерэгулярна. Урыўкамі. Цэнзуруючы самога сябе. Час не спрыяў пісанню дзённікаў, як і ліставанню. Таму няма запісу, калі ж я першы раз трапіў у Зэльву. Ды і пра наступныя сустрэчы з Ларысай Геніюш узгадваю, пераглядаючы палявыя археалагічныя запісы, — калі ёсць звесткі пра разведкі або раскопкі на Зальвянцы, значыць, у той час я зазіраў і да Геніюшаў.

Гэта было, здаецца, у 1964 годзе. Я толькі што вярнуўся з войска і ірваўся ў археалагічную экспедыцыю. Перад паездкай на Гарадзеншчыну, ведаючы пра мой намер зазірнуць у Зэльву, Мікола Прашковіч даў мне «рэкамендацыйны ліст». І вось я на вуліцы Савецкай, каля дома № 7. На дварышчы, поўным кветак, мяне сустрэў сабака. Не вельмі вялікі, але з добрым голасам. Не люблю сабак у чужых дварах з дзяцінства — пару разоў добра малога пакусалі. Таму стаю перад высокім ганкам, чакаючы, можа хто з гаспадароў выйдзе. Адчыніліся дзверы і паказалася паўнаватая прыгожая жанчына з уважлівымі і, як падалося, насцярожанымі вачыма. Я прывітаўся і назваўся. А затым працягнуў ліст: «Гэта вам, Ларыса Антонаўна, ад Міколы Прашковіча». Гэта было як пароль. «Заходзьце, сябра Міхась, у хату».

Пазней Мікола Канаш расказваў мне ў Жлобіне, як ён першы раз сустрэўся з Ларысай Геніюш. Зайшоў у хату і сказаў: «Я — Мікола Канаш». «А як вы пацвердзіце гэта?» Тады Мікола напісаў беларускай лацініцай у куце аркуша паперы ŽB (Жыве Беларусь). Так пазначалі свае таемныя пасланні беларускія вязні ў канцлагерах Інты.

Неўзабаве з працы вярнуўся Іван Пятровіч Геніюш — вельмі інтэлігентнага выгляду, сухарлявы з твару мужчына. Заводзіць размову пра кніжныя навінкі, паказвае сваю бібліятэку — вялікі пакой, шчыльна застаўлены паліцамі з кнігамі. Шкадуе кнігазбору, які прапаў у Празе.

Гэта быў вечар успамінаў. Пра дзядоў і бацькоў, пра Жлобаўцы, Ваўкавыск і Прагу. Пра гады зняволення амаль не размаўлялі — забалючая была тэма. Ну і зразумела — роспыты пра Менск, пра знаёмых, пра Караткевіча. Вячэра была вельмі смачная — гаспадыня цудоўна гатавала.

Ранкам я выправіўся ў далейшую археалагічную вандроўку. Запомнілася з той першай сустрэчы, і з пазнейшых таксама, што паэтка выкарыстоўвала зварот «сябра». «Спадара» я не памятаю з яе вуснаў. Можа, так было заведзена ў пражскім беларускім асяроддзі?

…Лета 1968 года. Праводжу раскопкі на стаянках каменнага веку каля Навасёлак, у зоне затаплення будучага зэльвенскага вадасховішча. У атрадзе маецца УАЗік, таму начаваць прыязджаем ў гатэль райцэнтра. Са мною Святлана, з якой я толькі што жаніўся. Святлана — мянчанка, з рускамоўнай сям'і, і пакуль што недасканала размаўляе па-нашаму, хоць стараецца. Дома размаўляе ўжо даволі нармальна, а пры чужых губляецца, саромеецца магчымых моўных памылак. Трэба ж маладую жонку прадставіць Ларысе Антонаўне, а я ўсё адцягваю паход на Савецкую вуліцу, бо хвалююся, як гэтае знаёмства пройдзе.

І вось ідзем. Для Святланы гэта быў адзін з сур'ёзных экзаменаў жыцця. Яна вельмі хвалявалася, была напружаная. Да гэтага часу ўспамінае, як яе сцвярджальнае «да» Ларыса Антонаўна цвёрда папраўіла: «Не *"да"*, а так». Але жанчыны адразу паразумеліся, у іх знайшлося шмат агульных тэмаў для размовы. Да сумоўя далучаўся і Іван Пятровіч, бо Святлана таксама была лекаркай.

Падчас тае сустрэчы Ларыса Антонаўна паказала нам і багацці свайго легендарнага куфра. А калі рыхтавала стол для пачастунку, па белым настольніку паслала вышываны

сакральнымі знакамі ручнік. Такі ў яе быў звычай. Глыбока веруючая хрысціянка, яна ў сваёй падсвядомасці была і язычніцай.

Позна вечарам вярталіся ў гатэль, жонка несла падарунак ад Ларысы Антонаўны — срэбны пярсцёнак з бурштынам. Асабліва прыязныя адносіны паміж Святланай і Ларысай Антонаўнай усталяваліся, калі абвастрылася хвароба Івана Пятровіча. Жонка дапамагала Геніюшам медычнымі парадамі, лекамі. У нашым сямейным архіве лістоў Ларысы Антонаўны да яе не менш, чым да мяне.

Геніюшаў вельмі цікавілі мае археалагічныя даследаванні. Яны заўсёды распытвалі пра новыя знаходкі. Самі няблага ведалі навакольныя старажытнасці. Падказалі мне звесткі пра гарадзішча каля недалёкай вёскі Горна і курганны могільнік побач.

Ларыса Антонаўна ўмела радавацца жыццю. Любіла расказваць вясёлыя або камічныя гісторыі. Аднойчы гаворыць: «Напісала мне Паўліна Мядзёлка, як у яе гасцяваў Валодзя Караткевіч. Выпіў усю наліўку, спаіў ката і з’ехаў». І весела смяецца, мусіць, уяўляючы таго п’янага мядзёлкаўскага ката.

Гэта было, магчыма, у 1966 годзе. Яна ўжо ведала пра Зянона Пазняка, з маіх слоў і, можа, ад каго яшчэ. Неяк прачытала мне свой новы верш «Зубры». Чытала, як заўсёды, узнёсла і хараша. І сказала, што гэты верш яна прысвяціла «сябру Зянону». І перадала мне аркуш паперы з надрукаваным вершам і прысвячальным надпісам. У зборніку «Невадам з Нёмана» (1967), дзе апублікаваныя «Зубры», гэтага прысвячэння няма. І не дзіўна. Прысвячэнне М. Т. (Максіму Танку) праходзіла, Уладзіміру Караткевічу — цэнзура яшчэ прапускала, а Зянону Пазняку, які ўжо быў на воку спецслужбаў, — ніколі.

Грамадскі рэдактар «Невадам з Нёмана» Уладзімір Караткевіч неяк прызнаўся: каб падмануць цэнзуру, ён некаторыя паслялагерныя патрыятычныя вершы Ларысы Геніюш наўмысна датаваў ваеннымі гадамі, быццам яны пісаліся не пад маскоўска-камуністычнай акупацыяй, а пад гітлераўскай. Гэтае прызнанне варта ўдакладніць даследчыкам яе творчасці.

Пару разоў, калі я трапляў у Зэльву на Савецкую, 7, у хату Геніюшаў забягала суседка — пазычыць ці запалак, ці солі, з нейкай крываватай усмешкай і вельмі пільным позіркам. «У яе заўсёды канчаюцца запалкі, калі ў мяне госці», — жартавала Ларыса Антонаўна.

Пасля разгрому Акадэмічнага асяродка ў пачатку 1974 года мае сувязі з Ларысай Антонаўнай на пару гадоў прыпыніліся. Адзін з нашых сяброў, якому яна вельмі давярала, не вытрымаў допытаў і «раскалоўся». І ўвогуле, функцыянеры з вядомага ведамства вельмі цікавіліся нашымі дачыненнямі з Геніюш і Караткевічам. Надта ўжо ім карцела зрабіць з нашага нефармальнага руху падземную нацыяналістычную арганізацыю з адпаведнымі лідэрамі. І ў тыя часы, ва ўмовах татальнага сачэння, было нават небяспечна захоўваць сувязі з Зэльвай. Ларыса Антонаўна цяжка перажывала ўсё гэта, хоць і была ранейшым вопытам прывучаная да такіх падзей. Пачувалася асабліва адзінокай і здраджанай. Як пазней прызнавалася, толькі Данута Бічэль яе не пакінула. Да Дануты яна заўсёды адносілася як да любімай дачкі і сяброўкі.

Калі мяне вярнулі на працу ў Акадэмію навук, сувязі з Зэльвай аднавіліся. Асабліва, калі моцна захварэў Іван Пятровіч.

Недзе ў самым пачатку 1979 года Максім Танк прапанаваў Ларысе Геніюш, мусіць, ужо не ўпершыню, уступіць у Саюз пісьменнікаў БССР. Яўген Іванавіч падключыў да гэтай справы і мяне. Грэшны, я нават згадзіўся таксама пагаварыць з ёй на гэтую тэму. Тым больш, што меркаваўся яе будучы пераезд у Менск. Але за гэта трэба было заплаціць прыняццем савецкага грамадзянства… Я не ўгаворваў Ларысу Антонаўну, а толькі перадаў прапанову напісаць адпаведную заяву. Бо сам не ведаў, як ёй лепш паступіць. Чыста па чалавечы, то ў Менску ёй было б значна лягчэй: цёплая кватэра, творчае асяроддзе, аднадумцы, непараўнальна лепшая медычная дапамога. Але яна гэта ўспрымала як здраду ідэалам БНР, як капітуляцыю.

5 лютага 1979 года яна вельмі эмацыйна адказала мне ў лісце: «Я не напішу ніякай заявы! Я не магу! Калі нехта жыве для сваяго народу, кахае яго і дыхае ім (хоць і “расьпінаюць” за гэта), дык пryме ўсе труднасьці і не разьлічвае на фонды! Нам хапае на хлеб! Зямля нас пryме і бяз почасьцяў, а людзям, якія выкапаюць дол і правядуць на могілкі, яшчэ ў нас хопіць на закуску й чарку, як тут у нас водзіцца адвеку. …Я ўступлю ў Саюз, гдзе Купала і Багдановіч, бо мне ўжо туды дарога! Вось гэта ўсё!»

З палявога археалагічнага дзённіка за 1980 год:

*22 жніўня.* З дачкой Алесяй і Вераціламі (Міхасём і Любай) прыехалі ў Зэльву. Паабедалі ў мясцовай сталоўцы, каб не рабіць клопату Ларысе Антонаўне. Наш шафёр Росцік паставіў машыну каля самай брамкі. Ідзем дварышчам. Высокі ганак. У сенцах пуста. Стукаемся ў наступныя дзверы. «Заходзьце!» Сустракаюць нас Ларыса Антонаўна і сын Юрка. Перш-наперш стаў дзякаваць Юрку за лекі, якія той пераслаў мне праз польскіх турыстаў яшчэ вясной, а я, свінтус, да гэтага часу не сабраўся напісаць яму ліст, каб падзякаваць.

А Ларыса Антонаўна прытворна разгневаная: «Міхаська, а чаму мяне не віншуеш, ах ты, нягоднік? На дні нараджэння чаму не быў?» А дзень нараджэння (70 гадоў) яна святкавала 27 ліпеня. Тады я быў далёка адсюль, прывязаны да ленінградскіх археолагаў. Таму і не змог прыехаць. Я няўмела чмокаю Ларысу Антонаўну ў шчаку. Дорым дробныя прэзенты — па плітцы шакаладу. «Вы мне шакаладку — як дзяўчынцы. Мне толькі пан Алесь [Траяноўскі] заўсёды прывозіць шакаладку».

Ларыса Антонаўна вясёлая. Пэўна, што прыехаў Юрка. Юрка — цвярозы і добра выглядае. Чалавек! На пахаванні бацькі ён мне не вельмі спадабаўся, быў прыкметна пад мухай.

Вераціны разгортваюць свой падарунак — дыванок з Пагоняй. «Ах, як цудоўна! Мне хочацца стаць перад Ёю на калені», — вочы Ларысы Антонаўны засвяціліся, і твар натхнёны.

Мы аднекваліся, але на стале з’яўляюцца гарбата, печыва, каўбаса і пляшка беларускага крупніку. Крупнік — адмысловы. Я спакушаюся на пару кілішкаў. Затым запісваю рэцэпт. Звычайная размова. Пра сем’і, пра здароўе. Міхась напамінае пра альбом для аўтографаў, які ён падараваў раней. Паэтка павінна ў ім запісваць вершы. І я заахвочваю: пішыце, гэта для гісторыі.

Ларыса Антонаўна збегала на вуліцу і прывяла Росціка, каб пакарміць. Паказвае фотаздымкі. Маладая гімназістка. Затым — у Празе. Вельмі прыгожая. І пазнейшыя. Каля магілы Крэчэўскага, з ягонай жонкай. Вялікі помнік з Пагоняй. Ківае галавой: «Усе фотаздымкі вось у гэтай валізцы».

Заседзеліся. Сонца на захадзе. Развітваемся на вуліцы. «Ухажораў» з камяніцы насупраць не бачна. У Ларысы Антонаўны былі цудоўныя адносіны ці не з большасцю зэльвенцаў. Але ёй не хапала ў мястэчку інтэлектуальнага асяроддзя. Аднойчы яна горка паскардзілася на гэта.

Адной, пасля смерці мужа, ёй было да жудасці адзінока і цяжка. І страшна зімовымі доўгімі начамі. Лісты яе гэтага часу драпежылі душу.

Аднойчы яна паказала мне прыладу, якой збіралася бараніцца ад небяспекі. Гэта была цяжкая рабочая сякера з груваcткім тапарышчам. Я дастаў з заплечніка і падараваў ёй сваю палявую сякерку з пластыкавай рукаяткай, лёгкую і зручную, з лязом — як брытва. Шкада, калі тая сякерка прапала. Гэта быў бы вельмі красамоўны экспанат у будучым музеі Паэткі ў Зэльве, на вуліцы імя Ларысы Геніюш, 7.

У красавіку 1981 года Ларыса Геніюш была запрошаная на з’езд пісьменнікаў БССР. Ад гатэля яна адмовілася і прыпынілася ў нас дома. Быў такі эпізод: у абедзенны перапынак Ларыса Антонаўна засталася ў памяшканні пры канферэнцзалі. Здзіўленаму

Максіму Танку патлумачыла, што не хоча ісці абедаць, бо мае праблемы са страўнікам. Тады Яўген Іванавіч пайшоў у буфет, вярнуўся адтуль з вялізным пакункам дарагіх цукерак і паклаў яго ёй у прыпол. Гэтым учынкам Ларыса Антонаўна была вельмі ўражаная, аб чым з захапленнем вечарам расказвала маёй Святлане. А ў тым, што не пайшла абедаць, была маленькая жаночая хітрасць. Яна думала, што засціпла апранутая ў параўнанні з іншымі паэткамі.

І ўвогуле, паміж Ларысай Геніюш і Максімам Танкам існавалі вельмі цёплыя і светлыя адносіны. Яны высока ацэньвалі творчасць адзін другога. Пры сустрэчы са мною, мы ж землякі і нават нейкія далёкія сваякі ці не па кудзелі, Яўген Іванавіч заўсёды цікавіўся жыццём і здароўем Ларысы Антонаўны. Калі яе моцна прыціскалі хваробы або зэльвенскае начальства, я па ўласнай ініцыятыве ішоў да Максіма Танка, і той заўсёды стараўся дапамагчы. І часам наракаў як чалавек савецкага менталітэту: «Каб не ўпартасць яе мужа Івана Пятровіча, яны даўно ўжо былі б у Мінску, а яна — у нашым Саюзе пісьменнікаў».

Падчас адной з сустрэчаў я папрасіў спадарыню Ларысу, каб запісала ўсё, што памятала, што перажыла. Яна ж, насцярожана азірнуўшыся па баках, намякнула, што тое-сёе робіцца. Як аказалася, і без маіх напамінкаў, калі яшчэ жывы быў муж Іван Пятровіч, асобныя часткі ўспамінаў, а можа і ўсе, былі напісаны.

Сярэдзінай лета 1982 года я праводзіў археалагічныя раскопкі ў Беліцы на Лідчыне. Наша невялікая група навукоўцаў з акадэмічнага Інстытута гісторыі размяшчалася ў колішняй прыкасцельнай плябаніі, ператворанай ў школьную майстэрню. На раскопкі ж хадзілі на нёманскі бераг у бок Зблянаў або за мост на левабярэжжа пад Нясілавічы.

Нарэшце першапачатковы план раскопак быў выкананы, і настаў перапынак у рабоце. Я даручыў лабарантам апрацоўку здабытых знаходак. Сам жа, захапіўшы заплечнік, пакінуў лагер, папярэдзіўшы, што на дзень-два выпраўляюся ў разведку па Моўчадзі.

Маршрутных аўтобусаў тымі часамі было шмат. З перасадкай ў Слоніме якраз у абед я быў ужо ў Зэльве, у Ларысы Антонаўны. Не памятаю, якая была асаблівая патрэба ў гэтай паездцы. Можа, хацеў павіншаваць з будучым днём нараджэння, бо ў хуткім часе трэба было пераязджаць на раскопкі ажно пад Віцебск.

Былі звычайныя роспыты: як здароўе, як справы, што новага на беларускай ніве? Пры размове Ларыса Антонаўна раптам прыклала палец да вуснаў і паказала на столь — адтуль маглі падслухоўваць. Затым моўчкі вынесла з суседняга пакоя папку і сцішана сказала: «Рабіце з гэтым, што хочаце. Я вам давяраю, Міхаська». Я развязаў тасёмкі, разгарнуў папку, і страпянулася сэрца: «Благаславенны родны дом, гдзе бацькі і ўся дарагая сям'я. Благаславенны маленькі кусочак роднай, бацькавай зямлі на вялізнай плянэце, які называўся Жлобаўцы…».

І чаму менавіта тым летам яна перадала мне рукапіс з успамінамі? Можа, прадчувала блізкі канец зямнога існавання? Ёй пачала ўжо з'яўляцца чорная жанчына — вястунка бяды ў бацькоўскім родзе Міклашэвічаў…

Я страшэнна расхваляваўся. Рукапіс быў надрукаваны на яе партатыўнай друкарцы, і выглядала, што гэта быў першы экзэмпляр.

— Гэта адзіны экзэмпляр? — шэптам запытаўся я.

Аўтарка кіўнула галавой, хоць неяк і няпэўна.

Мне стала не да гасцявання. Трэба было тэрмінова выбрацца з Зэльвы, трапіць ў Менск, зрабіць копіі, а арыгінал надзейна схаваць. Ларыса Антонаўна зразумела мой стан і не стала затрымліваць.

Я схаваў папку пад кашулю, нацягнуў на плечы штурмоўку і развітаўся з гаспадыняй. Не стаў выходзіць з двара на вуліцу, бо адразу трапіў бы пад вокны камяніцы праз дарогу, дзе ўладкавалася раённае КДБ. Сцежкай каля сцяны прайшоў на задворак, перабраўся

праз пару платоў, праз нейкія агурэчнікі і нарэшце трапіў на суседнюю вуліцу. Адтуль прайшоў да касцёла, далей — у поле ўжо за Зэльву, нейкімі лагчынамі дабраўся да лесу і там толькі крыху супакоіўся. Пагоні за мной ніякай не было.

Сёння, калі прайшло столькі гадоў, гэтыя мае аматарскія партызанскія практыкаванні выклікаюць усмешку ў самога. Але такі быў тады час, час ціхай рэабілітацыі Сталіна. І такая вялізная адказнасць легла на мае плечы — не даць загінуць гэтаму тэксту.

Прайшоў пару кіламетраў лесам у бок Ваўкавыска і асцярожна выбраўся на шашу. Прагаласаваў. Спыніўся грузавік, і шафёр прапанаваў залазіць ў кузаў. А там былі розныя скрынкі, бочкі, дошкі і вясёлая кампанія грузчыкаў ў зялёных штурмоўках. І я цалкам па выглядзе і колеры ўпісаўся ў іх калектыў, асабліва калі не адмовіўся ад глытка «чарніла».

Праязджаючы праз Зэльву, я на ўсялякі выпадак прыгнуўся і доўга перашнуроўваў кеды. За мостам праз Зальвянку стала лягчэй на сэрцы, хоць і насцярожана пазіраў на кожны легкавік, які нас абганяў. Грузавік ішоў толькі да Слоніма. У горадзе я без прыгодаў дабраўся на лідскую дарогу і зноў пачаў чакаць спадарожную машыну. На гэты раз мяне падабраў вялізны зялёны грузавік з будай. На ім аднекуль вярталіся ракетчыкі з базы, што прыхоўвалася ў наднёманскім лесе каля Нясілавіч. О, цяпер я быў нібы пад абаронай вайскоўцаў і пачуваўся амаль цалкам спакойна.

Перад Нясілавічамі машына-буда зварочвала ўлева ў лес. А я зноў застаўся на шашы. Затым сеў у маршрутны аўтобус і хвілін праз дзесяць быў у нашым лагеры. Падчас вячэры паведаміў чальцам археалагічнага атрада, што заўтра засыпаем раскоп і вяртаемся ў Менск. А ўстанем рана, каб управіцца, таму трэба класціся спаць раней. Ледзь дачакаўся, калі ўсе ўлягуцца, сам жа забраўся ў суседні пакой, уключыў святло і праседзеў да раніцы над машынапісам.

Нараніцу адзін з нашых супрацоўнікаў запытаўся: «Вы, Міхась Міхайлавіч, мабыць, нешта цікавае чыталі, што не спалі цэлую ноч?»

Гэты хлопец звычайна зашмат пытаўся, таму я яму асабліва не давяраў. Сказаў, што пасля кавы была бяссонніца, таму прыводзіў у парадак запісы ў палявым дзённіку.

У Менск мы прыехалі назаўтра ўночы. Літаральна з парога я працягнуў сваёй Святлане папку і ціха сказаў: «Схавай гэта, але вельмі добра». Жонка была другім пасля мяне чытачом машынапісу. Трэцім — Зянон Пазняк. А схованку Святлана выбрала ў так званым цешчыным пакоі — кладоўцы ў спальні, пад бялізнай на ніжняй паліцы. Гэта, як на цяперашні розум, любімае месца пошукаў злодзеяў і «хлопцаў у цывільным».

Экспедыцыя была незакончаная, і мне трэба было ехаць на Віцебшчыну. Першае, што зрабіў, — перафатаграфаваў успаміны ў двух экзэмплярах. Набралася некалькі дзясяткаў катушак праяўленай фотастужкі. Затым я аддрукаваў тэкст на фотапаперы. А самі стужкі схаваў, адзін камплект дома сярод мноства іншых стужак з археалагічнымі матэрыяламі, а другі — на працы, у скрынцы з калекцыямі. А тых скрынак ў мяне было да паўтысячы, таму схоў быў надзейны.

Але што было рабіць з машынапісам далей? Такая важная для нашага Адраджэння і для беларускай літаратуры рэч не павінна была вечна ляжаць на паліцы пад бялізнай. Недзе цеплілася думка памножыць успаміны для распаўсюду на Бацькаўшчыне. Але гэта было зрабіць складана, калі нават пішучыя машынкі былі на ўліку ў КДБ. Канешне, успаміны Геніюш надрукавала б нашая эміграцыя. Але зноў жа — як перадаць?

Неўзабаве ў наш Інстытут гісторыі прыехала ў навуковую камандзіроўку археолаг з Нью-Ёрка, дачка дарэвалюцыйнага настаўніка з Дуброўны, які ў Першую сусветную ваяваў афіцэрам, у грамадзянскую быў у Дзянікіна, а затым — «естественно, у Врангеля». Паводле біяграфіі яна была падыходзячай асобай для выканання нашай задумы. Зянон нават зрабіў адмысловую кампактную фотастужку. Але насцярожыла тое, што яе вельмі ж дэманстратыўна пасвілі…. Ці не пастка гэта на даверлівых нацыяналістаў?

Але і добра, што не ўдалося перадаць тэкст успамінаў на Захад. Пачалася перабудова, і адкрыліся новыя магчымасці і на Бацькаўшчыне…

Восенню 1989 года я перадрукаваў успаміны Геніюш на добрай пішучай машынцы. А потым занёс тэкст у рэдакцыю «Маладосці», дзе раней друкаваў такую-сякую сваю пісаніну і быў добра знаёмы і з рэдактарам, і з супрацоўнікамі. Адбылася нарада ў вузкім коле, на якой прысутнічалі галоўны рэдактар Анатоль Грачанікаў, Янка Сіпакоў і, зразумела, я. Грачанікаў без ваганняў вырашыў: «Друкуем! Неадкладна! І вялікімі часткамі, каб "наверсе" не паспелі агледзецца і не спынілі публікацыю». А мяне і фотакарэспандэнта Валянціна Ждановіча накіравалі на Гарадзеншчыну — нарабіць фотаздымкаў для публікацыі. Мы сфатаграфавалі мясціны паэткі ў Зэльве, Жлобаўцах і Воўпе. Нават знайшлі па падказцы краязнаўцаў яе бацькоўскі дом, перавезены ў Ваўкавыск і прыстасаваны пад нейкую савецкую ўстанову. Сустрэлі ў наваколлі Жлобаўцаў і людзей, якія яшчэ памяталі Міклашэвічаў і сябравалі з імі.

Рыхтаваў да друку тэкст успамінаў Янка Сіпакоў. Ён жа і прыдумаў агульную назву для твора — «Споведзь». Мне назва падалася не зусім адпаведнай, але я не пярэчыў, бо нарэшце надарылася магчымасць, каб успаміны Ларысы Антонаўны трапілі да чытача! А назва — гэта другараднае… Пазней мне і іншыя казалі пра няўдаласць назвы. Бо «Споведзь» — гэта спавяданне за нейкія правіны, з чаканнем прабачэнняў. А Ларыса Геніюш не мела правінаў перад Беларуссю. Наадварот, усё яе жыццё, дзейнасць і творчасць былі дзеля Беларусі, дзеля яе спадзяванага адраджэння і вызвалення з-пад маскоўска-камуністычнай акупацыі.

І вось я трымаю ў руках першы нумар «Маладосці» за 1990 год. Нарэшце ўспаміны Геніюш выйшлі з падзем’я ў белы свет! А потым — другі нумар. І так — ажно да шостага. Надрукавалі цалкам, і ніхто нам не перашкодзіў. Партыйным цэнзарам і наглядчыкам было не да нябожчыкаў. З жывымі не спраўляліся.

А потым быў пераклад на расейскую мову і надрукаванне «Споведзі» ў «Немане» і «Дружбе народов». І амаль адразу ж за падрыхтоўку асобнага выдання ўзялося выдавецтва «Мастацкая літаратура». Праца вялася ў рэдакцыі крытыкі і літаратуразнаўства, якую ўзначальвала светлай памяці Вера Сямёнаўна Палтаран — глыбокі знаўца літаратуры і шчырая беларуска. Рэдактарам выдання была па-добраму ўедлівая і дакладная Зінаіда Канстанцінаўна Пазняк, якая, жартуючы, удакладняла, што не знаходзіцца ў сваяцтве з Зянонам Станіслававічам.

Ларыса Антонаўна пісала на адным дыханні і не любіла асабліва сябе правіць. Такое было ў паэзіі і ва ўспамінах таксама. Па гэтай прычыне ў тэксце «Споведзі» часам здараліся розначытанні — у прозвішчах, у словах. Рэдактар была схільная пераважна пакідаць усё без зменаў, як стылёвую асаблівасць аўтара, адзначыўшы розначытанні ў каментарах.

Маёй задачай было напісаць прадмову да выдання і скласці каментары. З каментарамі ўзніклі пэўныя цяжкасці. Тэкст Ларысы Антонаўны ўтрымліваў даволі шмат дыялектызмаў, паланізмаў, германізмаў, украінізмаў, чэшскіх слоў. Іх трэба было дакладна перакласці, растлумачыць. Памятаю, асабліва збянтэжыў мяне выраз «чэхі жануць немцаў вуліцамі». Спачатку падумалася самае пачварнае: жануць — гэта значыць рэжуць. Доўга капаўся ў розных слоўніках, пакуль не знайшоў, што ў заходнебеларускіх дыялектах «жануць» азнача «гоняць».

Маладосцеўскі варыянт быў самы аўтэнтычны. З яго не выпала, здаецца, ніводнага слова. Пры падрыхтоўцы да асобнага выдання «Споведзі» я набраўся смеласці і ў некалькіх месцах выступіў як цэнзар. Справа ў тым, што пасля першай публікацыі я атрымаў некалькі лістоў былых вязняў канцлагераў, якія не пагаджаліся з ацэнкай аўтаркай некаторых асобаў і падзей. Найбольш гэта датычыла спробы Раманчука падняць паўстанне ў канцлагеры. Ла-

рыса Антонаўна рамантызавала Раманчука як беззаганнага рыцара, які загінуў за ідэю свабоды. Больш разважлівыя палітзэкі лічылі, што праз безнадзейную авантуру Раманчука і яго аднадумцаў было расстраляна многа цудоўных беларускіх хлопцаў. Яны казалі, што задачай беларусаў у тых нялюдскіх умовах было выжыць і вярнуцца, каб будаваць Бацькаўшчыну. Тыя, што так казалі, у вачах Ларысы Антонаўны былі баязліўцамі і здраднікамі.

Успаміны з негатыўнымі ацэнкамі некаторых былых лагернікаў былі напісаныя да смерці мужа. Калі не стала Івана Пятровіча, некаторыя з гэтых «здраднікаў» шчыра заапекаваліся паэткай — рабілі і ставілі надмагілле па Івану Пятровічу, рамантавалі хату, забяспечвалі палівам, дапамагалі як маглі. І Ларыса Антонаўна з глыбокай удзячнасцю распавядала мне пра іхнія стаpанні. Улічваючы гэта, а таксама заўвагі былых лагернікаў, я зняў з адмоўнага шэрагу пару прозвішчаў або схаваў іх пад ініцыяламі. І тут хачу працытаваць сябе з каментароў да «Споведзі»: «Магчыма, Ларыса Антонаўна каго і без асаблівых падстаў залічыла да стукачоў. Але жывыя і нябожчыкі няхай прабачаць яе за лішнюю падазронасць, бо і сапраўды паўжыцця яна была шчыльна акружаная даносчыкамі і правакатарамі».

Аднойчы мне патэлефанаваў Янка Брыль і сказаў, што ведаў некаторых дзяўчат, якія былі ў канцлагеры з Геніюш. А таксама ён паведаміў, што сяброўка стукачкі-сукамерніцы спадарыні Ларысы па менскай турме цяпер — жонка аднаго нашага пісьменніка. Я патэлефанаваў ёй і распавёў пра гэтыя месцы ў «Споведзі». Жанчына вельмі засмуцілася: «Няўжо яна была такая і ў турме?» А затым пачала прасіць мяне, каб я не паглыбляўся ў гэтую тэму, бо ў той жанчыны, якая ўжо памерла, засталіся вельмі харошыя свядомыя сыны. Я шчыра паабяцаў не паглыбляцца.

Калі б хто з маладых даследчыкаў узяўся за разгорнутыя каментары да «Споведзі», магла б атрымацца вельмі патрэбная праца, своеасаблівая энцыклапедыя нацыянальных спадзяванняў і пакут.

«Споведзь» абрываецца напярэдадні перасылкі Ларысы Геніюш у мардоўскія канцлагеры. А неўзабаве прыйшло і вызваленне. Жыццё «на волі» знайшло адлюстраванне ў некалькіх тысячах лістоў да сяброў, прыяцеляў і знаёмых. Вось вам і «Споведзь-2».

…Гэта было нешта з год пасля смерці Ларысы Антонаўны. Па сваіх археалагічных справах я быў на Гарадзеншчыне і завярнуў у Зэльву. Папытаўся, дзе прадаюць кветкі, але імі ў крамах не гандлявалі. Адышоўся крыху ад камяніцаў цэнтра і на адным з агародаў пры ладным драўляным дамку ўгледзеў мноства кветак. І гаспадыня была тут жа. Папрасіў прадаць мне кветак. Яна пагадзілася і нарэзала вялізны букет. «Колькі вам заплаціць?» — «А нікольки, — адказала гаспадыня, — Бачу, што вы сабраліся да нашай Ларысы, а яна была хроснай маці маёй дачкі. Яна для паловы зэльвенскіх дзетак была хроснай маці».

Вось і новыя зэльвенскія могілкі на высокай гары з прыгожым выглядам на вадасховішча. Вось яшчэ даволі свежая магіла Паэткі — пад крыжам, побач з магілай мужа. На магіле старыя і новыя кветкі. Свежы букецік васількоў з бела-чырвона-белай стужкай. Кладу і я кветкі, падараваныя зэльвенскай гаспадыняй. Аглядаюся навокал і бачу, што з-за далейшых надмагілляў за мной цікуюць некалькі тыпаў. «Божа, *яны* і тут, каб сачыць, хто прыходзіць на яе магілу!» Іду на выхад з могілак, а маладзёны ўздоўж агароджы спяшаюцца мне напярэймы. Гляджу на іх з нянавісцю. Падыходзяць бліжэй, і пярэдні кажа: «Спадар Міхась, а мы вас спачатку і не пазналі. Мы — студэнты з Тэатральна-мастацкага інстытута. Вандруем па Беларусі. Вось прыйшлі і да Ларысы Геніюш».

*2010*

*Міхась ВЕРАЦІЛА*

# ЯК ПІСАЛАСЯ «СПОВЕДЗЬ»

*Пра мяне нельга пісаць неаб'ектыўна…*

Ларыса Геніюш

Згас у Зэльве род маіх сяброў — Геніушаў. Памерлі ўсе.

Геніуш. Так падпісваўся сам Іван Пятровіч, так падпісваўся Юрка — сын яго (Jerzy Geniusz). А ў лісце да мяне ад 16 снежня 1980 года ён нават прадубліраваў сваё прозвішча па-руску — Гениуш Георгий Иванович. Так было напісана і на першым помніку Івану Пятровічу (пастаўлены яшчэ пры жыцці паэткі), так было напісана і на драўляным крыжы Ларысе Антонаўне. Землякі пахавалі яе як жонку Геніуша, а была яна ўжо Геніюш — жонка Гістарычнай Славы Беларусі.

Геніуш — Геніюш. Адкуль такая несугучнасць? У лацінскім слове «genius» старажытныя рымляне бачылі ўвасабленне духа-заступніка, духа-абаронцы. Малявалі яго з вазай, з рогам багацця, часам — з алтаром ля ног. Наш сучаснік даўно згубіў міфалагічнасць гэтага вобраза, для яго гэта толькі чалавек з надзвычайнымі здольнасцямі — геній. А ў польскай мове літаральна — геніуш. Але калі чыста граматычна, па-беларуску, то трэба, каб было як у чатырохрадкоўі самой Ларысы Антонаўны: «Калі лёс мяне злы прыгнятае, / І нясцерпны боль на душы, / Я заўсёды у сэрца пытаю: / Што зрабілі б мае Генюшы?».

Нават сама Ларыса Антонаўна, калі падпісвала ліст ад сябе, пісала — Ларыса Геніюш, а калі ад сям'і — Геніуш. Напрыклад: «Не забывайцеся пра нас. Вашыя Л. і Я. Геніушы. 6.12.1973 г»., «З павагай да Вас — Геніушы. 23.1.1974 г»..

І яшчэ адзін доказ: «Прыгадала, як некалі, выйшаўшы замуж за сваяго мужа доктара Янку Геніуша, я запыталася: *"А гдзе ж ты нарадзіўся?"* — *"Гдзе? У Крынках!"*»

Аднойчы ў Зэльве, у хаце Геніушаў, зайшла размова пра гэтую несугучнасць. Ларыса Антонаўна сказала, што адбылося гэта падчас падрыхтоўкі да друку яе вершаў. Нехта нешта пераблытаў, і ўрэшце атрымалася новае прозвішча — Геніюш. Адразу пасля размовы я не запісаў яе, а сёння, калі мінула без малога 25 год, ніякімі намаганнямі памяці я не магу аднавіць змест той гутаркі. Ці гэта адбылося яшчэ ў Празе, падчас выпуску зборніка «Ад родных ніў», ці ўжо ў Менску, калі выходзіла кніга «Невадам з Нёмана», — невядома.

Тады Ларыса Антонаўна пасміхалася, маўляў, так мне зрабілі псеўданім. А таму словазлучэнне «Ларыса Геніюш» трэба лічыць як літаратурны псеўданім Ларысы Антонаўны Геніуш (Міклашэвіч).

Дзякуючы маёй звычцы пісаць лісты з чарнавікоў сёння мы можам прасачыць увесь працэс пачатку напісання Ларысай Геніюш «Споведзі». Прасачыць, вядома, не па літарах, а з вядомай доляй фантазіі, здагадлівасці, дамалёўваючы сваім уяўленнем дэталі. Лягчэй за ўсё гэта здолеюць зрабіць тыя, хто асабіста быў знаёмы з Ларысай Антонаўнай, сябраваў ці хоць раз паразмаўляў з ёю.

Пазнаёміўся я з Ларысай Антонаўнай і атрымаў яе першы аўтограф на кніжцы «Невадам з Нёмана» восенню 1972 года. Час — не з лепшых! За дзесяць гадоў знаёмства я многа разоў пабываў у гасціннай хаце Геніушаў: і адзін, і з жонкай Любай, і з сябрамі. Каб падрамантаваць дзіравы дах, пафатаграфаваць гаспадыню, пакуль Вячка Целеш маляваў яе партрэт, завезці альбом, чаканку ці кніжкі, проста пагутарыць, пазнаёміцца з сынам, павіншаваць з выхадам новай кніжачкі, скласці кампанію археолагу Міхасю Чарняўскаму…

Дарэчы, калі мы 25 верасня 1980 г. прыехалі з Чарняўскім, Ларыса Антонаўна частавала нас сваім крупнікам. Не крупяным супам, як называюць яго на Ваўкавышчыне,

а старажытным хмельным напоем. Пакаштаваўшы, запыталіся пра рэцэпт. І вось яго запіс: «Бярэм кубак вады і паўкубка спірту. У каструльку дадаем карыцы, гвазьдзікі, мушкатовай галкі (мускатнага арэха. — *М. В.),* крышку душыстага перцу, лыжку мёду. Усё гэта варыць хвілін дзесяць, каб закіпела добра. А тады памаленьку ўліць рэштку сьпірту і вады… Агонь маленькі, каб не загарэлася. Тады — гарачы піць. Альбо паразьліваць у бутэлькі і чакаць, пакуль прыедзе Міхась Чарняўскі».

Колькасць аўтографаў паэткі ў маёй калекцыі пераваліла за шэсцьдзесят, палова з іх — эпісталярная спадчына Ларысы Геніюш. Вось яна для нас сёння і ўяўляе найбольшую цікавасць. Дапамагаць тут, і вельмі грунтоўна, будуць чарнавікі маіх лістоў да Ларысы Антонаўны. Не ўсе яны захаваліся (бо гэта ж не аўтографы «ўнучкі Скарыны»), але дзякаваць Богу і на гэтым.

Перад тым як паехаць па першы аўтограф, я добра падрыхтаваўся — перачытаў кніжку «Невадам з Нёмана», падлічыў, што паэтка толькі на год малодшая ад нябожчыка майго бацькі, і — намаляваў сабе яе партрэт. Паводле яго, пажылая поўная жанчына сядзіць сабе ў крэсле-качалцы на балконе, недзе на другім (прывілеяваным) паверсе, захутаўшы ногі пледам, пагойдваецца і выдумляе вершы.

З гэтага прагнозу спраўдзілася толькі першае — «пажылая і поўная», астатняе… Успомніўся аповед дзядзькі Язэпа Таранцея з Ізабеліна, што Ларыса Геніюш яшчэ з тых — першых, дзе Зоська Верас, Наталля Арсеннева, што яна вярнулася нядаўна з Поўначы, з лагера, куды яе загналі Саветы адразу пасля вайны, што ў старой печы іхняга дома замураваны пласцінкі з голасам сусветна вядомага тэнара Міхала Забэйды-Суміцкага, што яна — былая сакратарка БНР… Адным словам — цэлая энцыклапедыя.

А што мы — выпускнікі савецкай сярэдняй школы сярэдзіны 50-х — ведалі пра Зоську Верас? Ці пра Наталлю Арсенневу? Я не кажу ўжо пра БНР… Гэта ўсё для нас было цёмнай ноччу. У нас не было яшчэ нават сапраўднага падручніка «Гісторыя Беларусі», і мы вывучалі гісторыю сваёй Бацькаўшчыны па «Гісторыі СССР», дзе было толькі тое, «што патрэбна»… А так хацелася ведаць усё! Не ведаю, як каму, а мне — вельмі…

Я ўжо не першы год пісаў вершы, а ў гэтай справе таксама павінен быць свой падручнік, але сакрэты вершаскладання мне прыйшлося вывучаць па кніжцы «Teoria literatury polskej» без пачатку і канца, але з цудоўнымі прыкладамі і санета, і трыялета, і секстыны, і тэрцыны, і актавы… І калі ў хрэстаматыі беларускай літаратуры я сустрэў прыгожыя трыялеты Максіма Багдановіча (на рускай мове), я ўспрыняў іх як старых знаёмых. Прынамсі, добра ведаў, што гэта такое і з чым яго ядуць. А тут, зусім недалёка — у Зэльве, жыве Паэтка…

І ўжо ў наступны прыезд я паспрабаваў «адкрыць» гэтую энцыклапедыю і нешта прачытаць, невядомае мне. І — атрымаў першую пстрычку ў нос. Ларыса Антонаўна насцярожылася, падціснула губы і перавяла гутарку на іншую тэму. Я разгубіўся. Няўжо маё пытанне было нетактычным, няўжо яно абразіла гонар гаспадыні? Але ж не. Звычайнае, на гістарычную тэму пытанне, адказу на якое няма ні ў адной сучаснай кніжцы… І зададзена яно было з чыстай цікаўнасці, без усякага «падвоху», ад чыстага сэрца…

Я не ведаў, што для Ларысы Антонаўны тады не было пытанняў «ад чыстага сэрца», тым больш ад незнаёмых людзей. Ва ўсіх пытаннях, ці амаль ва ўсіх, яна бачыла «падвох», шпіянаж, допыт, імкненне нашкодзіць ёй. Я не ведаў яшчэ, праз якія кругі пекла яна прайшла… Гэта яшчэ больш распаліла маю цікаўнасць, але і дало зразумець, што з наскоку тут нічога не даведаешся. І я пачаў хітраваць. Перастаў надакучваць адведзінамі, але пачаў часцей пісаць лісты: «Кожнае слова, якое напісала Ваша рука, я берагу як каштоўныя перлы беларускай літаратуры. Няхай ведаюць нашчадкі нашыя праўду пра лепшых людзей Беларусі» (15 жніўня 1973 г.).

Аднойчы Ларыса Антонаўна паскардзілася, што працякае дах, вада сцякае на ганак, гніе падлога, а дапамагчы ім, старым, няма каму… У наступны выхадны я прыехаў — з жонкай Любай, з бляшанымі рыштокамі, сваім інструментам і нават цвікамі. Недзе праз гадзіну мы з гэтай работай справіліся. Ларыса Антонаўна запрасіла нас за стол, крыху выпіла сама (Іван Пятровіч адмовіўся) і тады запыталася, колькі нам заплаціць за работу. Мы дружна адказалі, што зрабілі гэтую дробязь не дзеля грошай, а як нашым добрым новым знаёмым. Тады гаспадыня выйшла ў другі пакой і праз хвіліну вынесла падарунак для Любы — летні, яснага жоўтага колеру касцюм — спадніцу і блузку. Люба засаромелася, пачала адмаўляцца, але не змагла. (Паэтка добра ведала душы людзей і «націснула» на сваё, жаночае, беспамылкова.) Касцюм быў як на Любу, ды яшчэ і польскі…

А вось план яшчэ аднаго майго ліста ад 17 лістапада 1973 г.: «Каб прыслала тэкст легенды пра першы герб Гродна (алень з крыжам на галаве); каб прыслала некалькі вершаў для перакладу на рускую мову (мо «Зубры» ці інш.); запытаць, ці піша ўспаміны, калі не, дык параіць, каб пачала пісаць пра ўсіх, з кім сустракалася, была знаёмая (пра Забэйду-Суміцкага, пра прэзідэнта БНР Васіля Захарку)».

Памятаю, атрымаў з Зэльвы бандэроль з кніжкамі, аўтографамі… У лісце Ларыса Антонаўна дзеліцца са мною сваімі сямейнымі праблемамі — «слабасцю» Юркі… Адразу адпісаў:

«Вашыя каштоўныя радкі поўняць асобную папку, і ганаруся я імі і знаёмствам з Вамі больш, чым з кім другім. І яшчэ: маю намер пазнаёміць рускага чытача з таленавітай беларускай паэтэсай, якая стаіць ля вытокаў беларускай літаратуры, палымяна любіць свой родны край і, нягледзячы на свае гады, — *"*бодрая молодая современница*"*. Адным словам, хачу перакласці на рускую мову некалькі Вашых вершаў. Не ведаю яшчэ дакладна, што перакладу са старых вершаў (але *"*Куфар*"* — напэўна), а з новых хацеў бы, каб Вы прыслалі мне *"*Зуброў*"* і яшчэ што-небудзь.

А што Вы пішаце цяпер? Ці працуеце над успамінамі? Мне страшэнна хочацца прачытаць пра вялікіх беларусаў і не беларусаў. Пішыце пра ўсіх, з кім былі знаёмы, з кім сустракаліся… Пра Забэйду-Суміцкага, пра прэзідэнта БНР Захарку, магчыма, пра Масарыка, Пілсудзкага, пра Быкава, Дануту Бічэль, Карпюка, Караткевіча. Вобраз кожнай гістарычнай асобы каштоўны для нас, а яшчэ больш — для нашчадкаў. Яны захочуць дакладней ведаць, якім быў Сталін, Гітлер, Пілсудзкі, асобы ўрада БНР і амаль непрыкметныя людзі з народу — гэта аб'ектыўны партрэт нашай Эпохі. А з плынню часу ён будзе рабіцца ўсё больш каштоўным. Мы ж жывём для Будучага, для нашчадкаў. А Вам ёсць, аб чым успомніць: ад назіральнікаў турмы да прэзідэнтаў рэспублікі! Пішыце.

Мне, напрыклад, вельмі хочацца ведаць, як выглядаў наш продак з неаліту? Якімі фарбамі і якімі ўзорамі ён размалёўваў свой твар і цела перад бойкай з чужынцамі? Каго любіў, каго баяўся? Што і колькі еў беларускі мужык 100 гадоў назад? Аб чым ён марыў? Ці магу я сёння здзейсніць яго мары? А мо яны засталіся недасягальнымі і для мяне? Пішыце, я дапамагу Вам захаваць напісанае» (26 лістапада 1973 г.).

І ўжо праз дзесяць дзён атрымліваю такі ліст: «Дарагі сябра Міхась! Вялікае дзякуй за ліста, які мяне крыху зьдзівіў. Я проста так пранялася хваробай (мужа. — *М. В.),* неспакойнасьцю нашага існаваньня, што абсалютна забылася пра мінулае. Ня трэба, па-маяму, кранаць яго. Гэта ўсё надта балюча, надта балюча. Са мною тварылі такое, за што цяпер многім устыдно, і таму я ніколі не забываюся пра сваё мінулае, але ніколі яго не кранаю. Пакідаю гэта дасьледчыкам пасьля свае сьмерці. Няхай яно так і будзе. Хочучы мець такія рэчы, як мае ўспаміны, Вы бярэце на сябе непасільнае, і таму я болей думаю пра Вас, як Вы сам пра сябе. Пра мяне нельга пісаць неаб'ектыўна, і таму гэта сёньня неактуальна» (06.12.1973 г.).

Вось табе і на! Няўжо ў нечым перабраў, напалохаў? Можа, не трэба так спяшацца? А раптам стане запозна? Не для сябе ж стараюся!.. Адказваю: «Вялікае дзякуй

Вам за ліст, мне так прыемна, што Вы дзеліцеся са мною сваімі думкамі, сваім болем і радасцю. Вы — людзі дзівоснага лёсу, вялікага розуму і такога чулага сэрца. А ведаеце, аб чым я сяды-тады думаю? Можа, Вы занадта патрабавальны да ўсіх гэтых шэрых людзішак? Можа, самі Вы прыдумалі палову тых страхаў і прыгод вакол сябе?» (Я мог так пісаць, бо не ведаў яшчэ пра ГУЛАГ, не чытаў А. Салжаніцына, Варлама Шаламава…) «Мне здаецца, людзі так блізка глядзяць уперад, так абыякава адносяцца да бліжняга, да акружаючых, што, напэўна, не змогуць прыдумаць нічога такога, што б пашкодзіла Вам у жыцці. Паспрабуйце ўявіць, што Вы маеце толькі тры класы szkoly powszechnej, і, можа, Вам стане лягчэй.

Расслабцеся, Вы скручаны ў тугую спружыну, Вы ўзведзены, як курок дубальтоўкі (прабачце за дзікае параўнанне), — гэта адбірае багата энергіі, гэта спустошвае Вашу душу. Накіруйце гэту энергію на вершы, на прозу, на ўспаміны. Паверце людзям. Паверце мне. Можа, я дурань, можа, стану яшчэ дурнейшым, можа, нараблю мноства памылак, але ніколі-ніколі я не буду юдам. Я ніколі не выракуся роднае зямлі, роднае мовы, ніколі не зраблю нічога кепскага людзям, якія любяць Беларусь і дбаюць пра яе. Ганьба тым, хто спекулюе на лёсе маёй радзімы. Вельмі мала засталося людзей, якія перажылі столькі, як Вы. Хай гаючы сок Радзімы ўвалье новыя сілы ў Вашыя жылы, хай зоры асвецяць сцежкі памяці Вашай, хай геній Скарыны водзіць пяром яго ўнучкі, каб у жыцці двух людзей, як у люстэрку, адлюстроўваўся лёс цэлага беларускага народа.

Дзякуй Богу, як ні душаць Быкава, а ўсё роўна пераклалі яго *"Абеліск"* і на рускую мову. Вось так, я лічу, кропля за кропляй, пылінка за пылінкай трэба нястомна ўзводзіць сцены будучага будынка вялікай годнасці і гонару Беларуса. Пішыце, Ларыса Антонаўна, пішыце ўдваіх, у чатыры рукі з Іванам Пятровічам. Той, хто можа пісаць, — павінен пісаць. З ведаў старэйшага пакалення складаюцца нашыя веды. А Івану Пятровічу гэта праца над мемуарамі, магчыма, заменіць працу ў бальніцы, дзе яму цяжка ўжо працаваць… Ці захавалася яшчэ хата, дзе нарадзіліся Вы, Ларыса Антонаўна?» (13.01.1974 г.).

Я, здаецца, усё разлічыў правільна: пачне пісаць пра хату, усплыве дзяцінства, маладосць — самыя прыемныя гады ў жыцці ці не кожнага чалавека. А там…

«Хатку, дзе я нарадзілася, даўно спалілі, а тая, гдзе мы жылі, недзе стаіць у Ваўкавыску. Яе перавезьлі як кулацкую ў свой час, і яна перажыла шчасьліва амаль усіх сваіх гаспадароў. Гумно перавезьлі на гараж, а хату ашалявалі, і ў 60-я гады было там, здаецца, ДЭУ, што сяньня — нават ня ведаю. Гэта на Віленскай вуліцы. Зайшла я туды аднойчы, і мне зрабілася дрэнна. З той пары абмінаю ўспаміны, што раджу і Вам адносна гэтай хаты…» (09.03.1976 г.).

Ізноў атрымаўся нейкі збой. Разлік — правільны, але, відаць, падход — абухаваты. А можа, проста яшчэ адна праверка?.. Час ідзе, а я ўсё тапчуся на адным месцы. Ніяк не магу скрануць гэты воз. А як хочацца даведацца пра тое, аб чым маўчаць савецкія падручнікі! А недзе ж, увогуле, захоўваюцца архівы ўрада БНР, Дзяржаўная пячатка. Няўжо гэтая жанчына здольная чытаць думкі суразмоўцы і тэксты між радкамі?

«Калі б ехалі міма нас, дык заскочце. Спецыяльна не едзьце!» (05.04.1976 г.).

Разумею: ад варот — паварот. Але чаму? Недавер моцна абражае кожнага сумленнага чалавека. Але ж не для сябе стараюся! Прыйдзецца ізноў усё пачынаць спачатку… І я пішу ў Зэльву, што прыехаць не змагу. Многа работы. Раблю афармленне класаў у Воўпенскай СШ. Зрабіў ужо кабінеты рускай і нямецкай моў, наступны — беларускай мовы. У беларускі кабінет хачу даць стэнд з пісьменнікамі-землякамі з пазапраграмнага чытання. Тут павінны быць: Быкаў, Геніюш, Карпюк, Данута, Вольга Іпатава і яшчэ хто-небудзь з маладых. Пакуль падбіраю матэрыял. А сам ізноў бяруся за сваё:

«Караткевіч піша, што Вы нарадзіліся ў Гудзевічах, але я памятаю, з нашай размовы, што гэта не так. Мілая Ларыса Антонаўна, напішыце мне сваю аўтабіяграфію больш дакладней, чым у кніжцы *"Невадам з Нёмана"*, і хоць на пару лісткоў. Вельмі прашу Вас…

Я хачу быць аб’ектыўным у гісторыі, каб не быць смешным. Я разлічваў на падтрымку, на дапамогу з Вашага боку, таму і пытаў пра хату, у якой Вы нарадзіліся, жылі, бо пра гэта мне ніхто ўжо не раскажа, акрамя Вас, бо людзі маіх г.жзадоў амаль не ведаюць Вас, а малодшыя?.. Але калі і Вы не можаце (а чытаць трэ было — «не хочаце») дапамагчы мне, дык хай робяць нашую гісторыю прыбышы і прыблуды. Прабачце на благім слове!

Слава (Вячка Целеш. — *М. В.*) Вашыя дзве кніжкі атрымаў. Вельмі задаволены. Пісаў тыдні два ўжо. Вельмі турбуецца за Вас, за Вашае здароўе, раіць мне берагчы Вас, захоўваць кожны радок, напісаны Вашай рукою, імкнецца адведаць Вас, але ў санаторыі ён будзе, здаецца, да чэрвеня. Здароўе яго ідзе на папраўку. Але абставіны яго трудныя. Учора адаслаў яму 60 рублёў — грошы невялікія, але падтрымка» (11.04.1976 г.).

Адказ з Зэльвы: «Напішу тое, аб чым просіце, па сьвятах. Даруйце, што Вас палічыла такім, як усе *“*вялікія нашы інтэлігенты*”*. Аб Вас нічога дрэннага не чула… Хочацца Вас бачыць і пагутарыць крыху аб усім. Толькі помачы ад мяне ўжо не чакайце. Старасьць і хвароба зрабілі сваё. Даглядаю мужа. Але што змагу, што захавала памяць, тое яшчэ пакіну для Вас» (21.04.1976 г.).

Ну, дзякаваць Богу, скранулася… Значыць, падумаў, Ларыса Антонаўна баіцца пісаць сама, вырашыла, напэўна, дыктаваць. Трэба ехаць. Ізноў былі сустрэчы. Ізноў былі лісты. Тое, што, відаць, Ларыса Антонаўна не асмельвалася даверыць паперы, абгаворвалі пры сустрэчы. Я не пярычыў, баяўся ізноў спалохаць удачу. Але прасіў на Празе не спыняцца, пісаць аб усім. Тым летам мы вазілі дзяцей на поўдзень, у Крым. Наведалі апошні прытулак Максіма Багдановіча. Ларысе Антонаўне з Крыма не пісалі, але дасылалі паўднёвыя далікатэсы, пра якія нават пытала: «Што рабіць з гэтым *“*хруктам*”*»? І апраўдвалася: «О, сябра Міхась, мы не вінаватыя, што болей давялося прабыць на поўначы…» Па вяртанні на Бацькаўшчыну наведаліся і ў Зэльву. А потым зноў паляцелі лісты: «Дарагая Ларыса Антонаўна! Кожная сустрэча з Вамі — гэта падзея ў маім жыцці. Ужо каторы дзень я зноў і зноў варочаюся ў думках да нашай размовы. Як казаў Мікалай (Мікалай Равянок, жыхар Краснасельскага) пасля першай сустрэчы: *“*Что произошло? Ничего не произошло. А я всё думаю и думаю об этой замечательной женщине. Это глыба, глыба таланта, но очень сложный и противоречивый характер…*”* Ларыса Антонаўна, ці пасунулася справа з напісаннем Вашай аўтабіяграфіі?» (25.09.1976 г.)

Напісанне ўспамінаў ішло поўным ходам. Але, як спрактыкаваны канспіратар, Ларыса Антонаўна разумела, што размовы нашыя пры сустрэчах застаюцца таямніцай, а перарваныя размовы ў лістах аб «аўтабіяграфіі» могуць насцярожыць «сышчыкаў», і яна час ад часу звяртала маю ўвагу на гэта:

«Аб ніякім маім жыццярысе цяпер і мовы няма. Ды ці наагул варта яго пісаць? Каторысьці год суседзі даносілі ў абком: *“*у них стучит машинка…*”* Дзеля спакою жыцця і каб выздаравець, стараемся ею не карыстацца. Хіба вазьму сшытак і *“*наблытаю*”* Вам усе свае жыццёвыя прыгоды почыркам, які трудна і разабраць… Пісаць аб дзяцінстве — гэта акрылець. Пісаць аб рэшце жыцця, дык, можа, яшчэ мацней захварэць. Проста памёрці! Што ж, сынку, будзем бачыць. Пішацца прыхваткамі між працаю, клопатамі, хваробамі, і няма нават часу, каб прысесьці абдумаць плян: цікавы пачатак, самы высокі, напружаны пункт падзеі і эфэктыўны, бадзёры канец. А пасьля толькі прасіць натхнення ў хмараў, ці ў ветру, ці ў сонца» (5.10.1976 г). І для адводу вачэй прыводзіцца новы верш: «Ах, Міхась:

*Шмат чаго ў душу належыць ўвабраць,*
*Ў ёй зьмесьціцца болей, як зерня ў далонях,*
*Нам чэрпаць з крыніцаў сьвятла і дабра,*
*Хай ў вершах адвечны наш лад загамоніць.*

*Пісаць пра мінуласьць ня знача — назад,*
*Пісаць пра сучаснасьць ня знача — наперад.*
*Ў жывую паэму трэ ўсё нанізаць,*
*Узважыць былое і ў заўтра паверыць.*

*Тварыць — гэта знача: кахаць і цярпець,*
*З праўдаю лёс свой злучыць назаўсёды.*
*Ня ўчора пачатак, ня заўтра — канец*
*Падзеям і думам старога Народу!*»

11 лістапада 1976 г. я пішу ў Зэльву: «Дарагая Ларыса Антонаўна! Сардэчнае Вам дзякуй за ліст, за цудоўны верш. Я шчаслівейшы з беларусаў! Я маю 8 ненадрукаваных нідзе Вашых вершаў, 10 лістоў, 11 канвертаў, 4 паштоўкі, тры апошнія Вашыя кніжкі з аўтографамі (толькі першай няма, першую, відаць, мала хто на Беларусі мае). Акрамя гэтага — аўтограф на вершы ў зборніку *"*Дзень паэзіі — 1967*"*. А ўсяго — 36 аўтографаў. Гэта цэлая старонка ў біяграфіі і творчай дзейнасці адной з самых першых беларускіх паэтэс! Але мне і гэтага мала. Здаецца, каб мог, дык сабраў бы ўсе лісты і лісточкі, якія кранула Ваша рука, мілая Ларыса Антонаўна.

Як там пасоўваецца напісанне аўтабіяграфіі? Дальбог, я не атрымаў ніводнай старонкі. Магчыма, яшчэ да Новага года прывязу Вам паглядзець альбом на Вашыя аўтографы. Вокладку ўжо выпаліў дробным дывановым узорам, нарэзаў лісткоў тоўстай паперы. Засталося ўсё сабраць, замацаваць, пакрыць лакам, дарабіць зашчапкі, накшталт тых, што былі на старажытных кніжках. Хочацца хутчэй скончыць гэтую работу, але стрымліваюць словы Каралёва (таго, што запусціў Гагарына ў космас). А ён казаў: *"*Калі ты зрабіў хутка, але блага, дык людзі забудуць, што ты зрабіў хутка, але доўга будуць помніць, што ты зрабіў блага. А калі ты зрабіў памалу, але добра, дык людзі хутка забудуць, што ты зрабіў памалу, але доўга будуць помніць, што ты зрабіў добра*"*. Тым больш у справе гэтага альбома, калі я зраблю кепска, дык людзі могуць кепска падумаць пра Вас. Але ж, дасць Бог, усё будзе добра».

Я неяк падсвядома адчуваў, што жыццё Ларысы Антонаўны коціцца долу. Чатыры аднолькавыя аўтографы чатырох радкоў з пачатку паэмы «Куфар» я ўзяў у яе за тры месяцы да смерці. Я задумваў зрабіць арыгінальны сувенір: паэму Л. Геніюш «Куфар», складзеную цалкам з аўтографаў паклоннікаў творчасці Ларысы Антонаўны. Тыраж сувеніра — чатыры асобнікі. Размеркаваць іх па латарэі…

І вось раптам з Менска прыходзіць страшная тэлеграма: «Субботу Зельве похороны. Света». Мы з жонкаю тэрмінова выехалі ў Зэльву.

Труна стаяла ў спальні, галавою на поўдзень ці паўднёвы ўсход. На галаве Ларысы Антонаўны была павязана прыгожая цёмная, з бліскучым люрэксам хустка — падарунак Максіма Танка. Вакол было многа людзей, але запомніліся толькі Адам Мальдзіс, Валера Шаблюк і Уладзімір Арлоў… Фатаграфавалі… Я выходжу ў гасьцёўню — мяне просяць падпісаць дзве жалобныя стужкі на вянкі.

9 красавіка пахаванне не адбылося — чакалі сына з Польшчы. Прыехаў Юрка. 10 красавіка мы з ім стаім увесь час побач у царкве, пакуль адпяваюць Ларысу Антонаўну.

А думкі цяжкія, адчайныя: Уладзімір Караткевіч, Міхась Ткачоў, Ларыса Геніюш… За што? За якія грахі такія дарагія ахвяры прыносіць мая Бацькаўшчына? А тут — страта: і Паэтка, і яе Спадчына… Не шкада агромістай бібліятэкі, этнаграфічных скарбаў, шкада непаўторнага: ненадрукаваных вершаў і ўспамінаў… Дзе яны ляжаць? Юрка таксама маўчыць — значыць, і ён нічога не ведае… Дух Ларысы Антонаўны тут, я ведаю, ён недзе побач, можа, лётае над намі. Ён, напэўна, крычыць нешта і мне, але я не чую

яго і не бачу… Дзе ж успаміны?.. І ні ў кога не запытаеш!.. А я ж дакладна ведаю: яны ёсць, але дзе? А раптам трапяць у варожыя рукі…

Яшчэ перад ад’ездам у Гародню на аперацыю, у самым пачатку лютага, яна пісала: «На некалькі дзён, у сувязі з цяжкім станам маяго здароўя, прыехаў з Польшчы мой сын. Хоча в[ельмі] Вас бачыць» (8.2.1983 г.).

Напэўна, гутарка будзе пра ўспаміны, — падумалася адразу. Я прыехаў. Ларыса Антонаўна сядзела на тахце, сашчапіўшы рукі на каленях, сумная. Яна ўжо, відаць, прадчувала канец. Я стараўся супакоіць яе, падбадзёрыць. Яна паківала галавою: «Нічога, Міхаська, я Вам нешта пакіну». Я ізноў падумаў пра ўспаміны, але проста пабаяўся папрасіць гэтае «нешта» цяпер, адразу. Я ўжо некалькі разоў быў так блізка ад таго «нешта», і заўсёды яно раптоўна знікала.

…У царкве чую ззаду шэпт кабет: «Каторы сын, меншы?» — «Не, той, што злева, вышэйшы…» Значыць, мяне палічылі за сына. Што ж тут дзіўнага, яна і сама называла мяне дарагім сябрам і Міхаськам (як унука), і сынам. («Што ж, сынку, будзем бачыць».) А цяпер — дзе будзем бачыць? Што?.. Ах, Ларыса Антонаўна, Ларыса Антонаўна…

Труну падымаюць і выносяць з царквы. Гэта ўжо ў апошні шлях. Іду за труною, як родзіч, як блізкі… Адна вуліца, другая. Пераходзім шашу Ваўкавыск — Слонім. Спыніліся. Мяняюцца мужчыны ля труны. Падстаўляю і я сваё плячо… Такая мажная была кабета, думаю, а зусім няцяжка… І ад гэтага моманту і да самага жоўтага долу я нікому ўжо не саступіў месца пад левым плечуком Ларысы Антонаўны. Усё спадзяваўся пачуць яе шэпт… дзе ўспаміны… Не пачуў…

Недавер моцна абражае кожнага сумленнага чалавека. Некалькі год я падштурхоўваў Ларысу Антонаўну да напісання гэтых успамінаў. Дзесяць год я чакаў іх — і не дачакаўся… Кінуўшы тры традыцыйныя, беларускія, развітальныя жмені пяску на труну, я не пайшоў ужо на хаўтуры, а адразу ад’ехаў дадому. Было чорна і пуста на душы…

А ўспаміны былі ўжо далёка і ў надзейных руках. Памятаеце, як Ларыса Антонаўна частавала нас крупнікам? Як дыктавала рацэпт? «…І чакаць, пакуль прыедзе Міхась Чарняўскі». Не Міхась Вераціла, нават не Міхасі, а менавіта — Чарняўскі. Яна ўжо тады беспамылкова адчула больш цэльную, больш моцную, непахісную, апантаную натуру Міхася Чарняўскага.

Можа, спачатку на нейкае імгненне я і адчуў сябе нейкім недаацэненым. Але гэта было толькі імгненне, імгненне сардэчнае, пачуццёвае — эгаістычнае. Недавер моцна абражае кожнага сумленнага чалавека. Але тут я не адчуў ні абразы, ні зайздрасці. Бо заўсёды (з 1963 года) лічыў сябе на добрую галаву ніжэй Міхася Чарняўскага. Я не дацягваю да яго ўзроўню ні ведамі, ні эрудыцыяй, ні здольнасцямі, ні сілай духу — адным словам, нічым. Я толькі стараўся быць падобным на Уладзіміра Караткевіча, на Адама Мальдзіса, на Міхася Ткачова, на Міхася Чарняўскага… І ганаруся, што да сённяшняга дня застаюся яго сябрам. І шчыра ўдзячны яму за тое, што ён увесь час «цягнуў мяне наверх».

Ларыса Антонаўна Геніюш перажыла свайго мужа Янку амаль на чатыры гады і памерла ў Гродна 7 красавіка 1983 года ў 8 гадзін раніцы пасля дзвюх аперацый, ад занесенай інфекцыі. Пахаванне адбылося ў Зэльве 10 красавіка ў 16 гадзін на Новых могілках, там, дзе і Іван Пятровіч. Цяпер яны ізноў побач, ізноў разам. Толькі сына няма з імі. Юрка памёр 20 лістапада 1985 г. і пахаваны ў Беластоку на праваслаўных могілках. Круг дантавага пекла Геніюшаў замкнуўся…

*1999*

*Максім ТАНК*

# З ДЗЁННІКАЎ

26.10.1966. Атрымаў пісьмо ад Ларысы Геніюш, якая прайшла праз усе найстрашнейшыя пакуты нашага часу, з годнасцю пранёсшы званне чалавека і паэта. Прапанавалі мы ёй аформіць сваё грамадзянства, уступіць у СП. Баіцца, каб яе, як савецкую падданую, зноў не арыштавалі і не саслалі. Не знаю, як ёй дапамагчы выйсці з самаізаляцыі і хвараблівай насцярожанасці.

28.06.1968. Вечар, вецер, Нарач. Атрымаў пошту. Вельмі цяжкі ліст ад Ларысы Геніюш.

19.09.1968. П. Мядзёлка была ў Ларысы Геніюш. Дома ў яе кожны дзень — кірмаш. Поўна нейкіх людзей. Шум, гам. Не ведае, што рабіць: ці прымаць савецкае грамадзянства, ці ехаць — па прапанове СП — адпачываць у Крым. Пісаць дома не можа, бо муж яе цэлымі днямі слухае ўсе «галасы», а потым каменціруе.

21.10. 1968. Трывожнае пісьмо прыйшло ад П. Мядзёлкі. Піша пра Геніюшаў, якія так заблыталіся ў сваіх комплексах, жыццёвых супярэчнасцях, што думаюць пакончыць самагубствам. Не знаю, як ім памагчы. Усё, што ім прапануе СП, адкідаюць з глупейшымі агаворкамі. Яшчэ трэба будзе аб усім гэтым параіцца ў ЦК і наведаць іх, перагаварыць з мясцовымі кіраўнікамі, якія не ведаюць, з кім маюць дачыненне і ствараюць навакол іх атмасферу насцярожанасці, падазронасці, сачэння за кожным іх крокам.

31.01.1979. Званілі У. Караткевіч і М. Чарняўскі, што вельмі цяжка хворы муж Л. Геніюш. Гаварыў з А. Л. Петрашкевічам пра Л. Геніюш. Трэба будзе пад'ехаць да яе, аказаць дапамогу ў цяжкім становішчы, у якім яна зараз апынулася.

15.12.1979. Прачытаў у рукапісе вершы Ларысы Геніюш. Адабраў каля двух дзясяткаў для «Полымя». Можа, як удасца правесці іх праз усе рагаткі і надрукаваць. А ўсе іншыя патрабуюць яшчэ пэўнай дапрацоўкі. І гэта трэба зрабіць, каб хутчэй выдаць яе новы зборнік. Вершы Л. Геніюш — не толькі выдатныя. Яны спалучаюць у сабе спрадвечны боль народа і боль чалавека, з годнасцю прайшоўшага праз усе пякельныя выпрабаванні жыцця, чаго ў нашы часы не ўдавалася нат многім святым.

03.04.1980. У ліпені спаўняецца 70 год Л. Геніюш. Здаецца, у восьмым нумары «Полымя» ідзе падборка яе вершаў.

15.4.1981. [На з'ездзе СП БССР] бачыў Ларысу Геніюш. Дамовіліся з Данутай Бічэль, што яна падрыхтуе для «Полымя» новую падборку яе вершаў.

07.09.1982. У апошнім сваім пісьме Ларыса Геніюш піша пра свае бясконцыя канфлікты з раённымі кіраўнікамі і аб сваім цяжкім стане здароўя. Хоча, каб усе кнігі яе перадалі яе ўнукам. Шкада, што зараз, у сувязі з ваенным становішчам у Польшчы, да яе не зможа прыехаць сын. Добра, што з друку выйшаў яе зборнік.

13.09.1982. Быў у ЦК па справе Ларысы Геніюш. Аж не верыцца, што пасля ўсіх яе пакут знаходзяцца людзі, якія так стараюцца ў яе жыцці ўсё ўскладніць.

10.12.1982. У А[кадэміі] н[авук], у Музеі старажытнага мастацтва, сустрэў Ларысу Геніюш. Выглядае бадзёра. Усім цікавіцца, пра ўсё гаворыць з мілым жаночым захапленнем. С. В. Марцалеў пазнаёміў нас з надзвычай цікавымі экспанатамі, ад якіх сапраўды цяжка было адарвацца.

28.02.1983. Званіў А. Карпюк. Цяжка хворая Ларыса Геніюш. Ляжыць зараз у гродзенскай бальніцы. Спрабую сазваніцца з яе ўрачом І. М. Бабко. Можа, трэба прыслаць якія лекі?

10.03.1983. Сёння ўдалося сазваніцца з Ларысай Геніюш. Баюся, каб не закончылася гэтая аперацыя трагічна, бо і гады не маладыя, і хвароба цяжкая. Казала, што апякуюцца ёю і лечаць выдатныя дактары. А аперыраваць будзе вядомы спецыяліст — прафесар Астроўскі. Ну, дай Божа, каб усё было добра…

12.03.1983. Чакаю званка з Гродна. А. Карпюк абяцаў паведаміць аб стане здароўя Ларысы Геніюш. У «ЛіМе» надрукавана падборка яе выдатных вершаў.

14.03.1983. З Гродна — невясёлыя звесткі. Ларыса Геніюш — цяжка хворая. Рак. Метастазы яшчэ не пайшлі, але амаль ніякай надзеі на выздараўленне.

17.03.1983.Трэба сёння сазваніцца з А. Карпюком ці з Д. Бічэль-Загнетавай і даведацца, што чуваць у Ларысы Геніюш. Яна — казалі — вельмі рада была, што ў «ЛіМе» з'явілася падборка яе вершаў.

08.04.1983. Толькі што пазваніў С. Законнікаў: памерла Ларыса Геніюш. Памерла, ці згарэла як свечка прад алтаром сваёй Радзімы.

11.04.1983. Ад Н. Л. Сняжковай даведаўся аб апошніх падзеях у Зэльве. На пахаванні Л. Геніюш ад СП былі А. Мальдзіс, Д. Бічэль-Загнетава, В. Іпатава. Шмат было народу… Найлепшым для яе помнікам будзе выданне яе твораў, аб чым трэба будзе ўсім нам паклапаціцца.

22.03.1990. Чытаю «Споведзь» Ларысы Геніюш — адзін з самых трагічных чалавечых дакументаў, у якім непарыўна зліты біяграфія паэтэсы з лёсам нашага народа. Гэты твор пакідае большае ўражанне, як «Архіпелаг ГУЛАГ» Салжаніцына, бо ўсё, пра што яна піша, перажыта ёю, а да ўсяго яшчэ — у кожным слове чуеш біццё няскоранага і самаахвярнага сэрца. «Споведзь» Л. Геніюш — твор велізарнай выбуховай сілы.

*Аляксей ПЯТКЕВІЧ*

# ПАЭТКА З ТРАГІЧНАЙ ЛЕГЕНДЫ

У аблічча Ларысы Геніюш было штосьці высакародна-прыгожае, нават артыстычнае. Па-сялянску мажная, прысадзістая постаць яе рухалася лёгка і зграбна. Уражвалі нязвыклыя інтанацыі голасу, позірк, жэсты. Напачатку мне здавалася, што гэтая немаладая жанчына, што прайшла праз доўгія і пакутлівыя выпрабаванні, няспынна какетнічае, выстаўляецца, так ці інакш грае ролю моднай паэткі, якая ўсім падабаецца. Але з цягам часу пераканаўся, што гэта былі натуральныя паводзіны. Натхнёнасць і адухоўленасць, самапавага, нацыянальная годнасць, маральная вышыня жыцця, пачуццё хрысціянскай справядлівасці і вера ў прыгажосць свайго народу… Усё гэта Ларыса Геніюш не толькі пранесла праз савецкія канцлагеры, а ўмацавала ў сэрцы як каштоўнасці, без якіх не ўяўляла існавання.

Непрывычнай падавалася манера яе маўлення — вытанчаная, трохі чуллівая, напоўненая шматлікімі эмацыянальнымі акцэнтамі, нібыта яна не гутарку вяла, а чытала вершы. Вельмі ж абвостранай была душэўная рэакцыя, вельмі высокай была цана хараства для паэткі, каб яна магла выказвацца звычайнай, будзённай фразай. Ну, а калі ўжо чытала вершы — як правіла, нягучна, пераходзячы часам на шэпт, але з моцнымі меладычнымі націскамі, ажывала ўся яе істота, праменіліся бляскам вочы, святлеў твар. Манера чытання была больш спеўная, чым рытарычная, нават вельмі спеўная. З энергічным бляскам вачэй і спеўнымі тонамі чытання добра стасаваліся скупыя, спецыфічна жаночыя, але артыстычна выразныя жэсты рукі і пляча. І таксама нахіл галавы. Не толькі падчас чытання вершаў, а і ў гаворцы з суразмоўцам Ларыса Геніюш неяк асабліва высакачола трымала галаву. Гэтак і прайшла па жыцці, з узнятай галавою.

Я не бачыў яе душэўна прыгнечанаю, засмучанаю. Хаця ў вершах пераважалі элегічныя ноты. У размовах паэтка была заўсёды бадзёраю, жваваю. Нават калі ўспамінала лагерныя нягоды ці вяла гаворку пра тыя ці іншыя прыкрасці, што чыніліся ёй у Зэльве, рабіла гэта з гумарам, адчуваннем сваёй маральнай перавагі над крыўдзіцелямі. Яна заўсёды жыла на вышыні, ніжэй было ўсё дробязнае, часовае, балючае. І гэта давала ёй магчымасць бачыць мудрым і пяшчотным зрокам будучую Беларусь, вольную, незалежную.

Мы пазнаёміліся недзе ў 1965-м. Тады на кафедры літаратуры Гарадзенскага педінстытута, дзе я працаваў, складаўся краязнаўчы зборнік пра літаратурнае жыццё Гарадзеншчыны. Я рыхтаваў агляднЫ матэрыял і, натуральна, не мог абмінуць Ларысу Геніюш, пра якую тады ведаў мала. Забягаючы наперад, скажу, што рыхтаваны зборнік пад назваю «Наднёманскія былі» ў 1968 годзе выйшаў у выдавецтве «Беларусь». Аднак тэкст пра Геніюш цэнзура з майго артыкула выкасавала, прычым пасля таго як я ўжо вычытаў карэктуру.

Дапамог тады сустрэцца з Ларысай Антонаўнай мой сябар, настаўнік з вёскі Гудзевічы Мастоўскага раёна Алесь Белакоз, вядомы сёння краязнавец і грамадскі дзеяч, з якім мы і прыехалі ў Зэльву. Цікавая дэталь. Калі ішлі да хаты Геніюшаў, мне кінулася ў вочы шыльдачка з назваю вуліцы «Советская». Я сказаў Белакозу штосьці пра несумяшчальнасць назвы са знакамітаю жыхаркаю вуліцы. Белакоз адказаў: «Нічога. Будзе некалі вуліца Ларысы Геніюш». Мы зірнулі адзін на аднаго і ўсміхнуліся: надта ж жаданаю, але і малаверагоднаю ўяўлялася ў той час гэткая замена назвы. Зрэшты, «Советской» вуліца называецца і сёння.

Жылі Геніюшы ў старым драўляным доме, які належаў яшчэ свёкру паэткі. Ларыса пераехала ў Зэльву з родных Жлобаўцаў у 1935-м, калі выйшла замуж за Янку Геніюша, студэнта Пражскага ўніверсітэта. Вярнуўшыся з канцлагера ў 1956 годзе, муж з жонкаю змаглі атрымаць толькі палову дома, тую, што была далей ад вуліцы. У другой палове,

ад вуліцы, жыла суседка, якой КДБ было даверана ажыццяўляць нагляд за Геніюшамі (усе пра гэта ведалі). Яна старанна рэгістравала ўсіх наведнікаў геніюшаўскай хаты. У хату вяла падпертая дзвюма драўлянымі прыступкамі ганку, традыцыйная для нашых мястэчковых дамоў веранда, адкрытая, незашклёная, з лаўкамі ля кожнай з трох сценак. На верандзе неаднойчы мы сядзелі з Ларысай Антонаўнай ціхімі летнімі вечарамі, тут добра было размаўляць напаўголасу пра многае, чаго ў лістах не напішаш. Насупраць веранды — рукою падаць — праз вузкі двор за плотам-штыкетнікам цягнуўся агарод, ад вуліцы і ўніз, да канца сядзібы. Самае пачэснае месца на ім займалі кветкі, якія гаспадыня не проста клапатліва вырошчвала, як гэта робіць ці не кожная беларуская жанчына, якая мае пры хаце кавалак зямлі. Ларыса Антонаўна любіла кветкі захоплена, самааддана і даглядала іх, разводзіла як сапраўдны кветкавод. Кожны, зазірнуўшы ў агарод, не мог не ўразіцца разнастайнасцю гатункаў, багаццем колераў. Запомніліся мальвы, астры, півоні і асабліва вяргіні, дзівосныя раскошай кветкавай шапкі, каляровымі адценнямі ружовых, чырвоных, жоўтых тонаў.

З веранды госць трапляў у прасторныя сенцы і праз дзверы, што былі насупраць уваходу з двара, — на кухню. Яшчэ адны дзверы, якія знаходзіліся злева, вялі з сенцаў у «светлыя» пакоі. У гэтыя два пакоі-святліцы можна было трапіць і з кухні. Яшчэ адны кухонныя дзверы вялі ў прахадны пакой, цалкам застаўлены стэлажамі з кнігамі. На іх стаялі пераважна выданні 50–70-х гадоў, Іван Пятровіч Геніюш набываў амаль усе беларускія кнігі, якія траплялі ў зэльвенскую, неблагую па тым часе кнігарню. З гэтага пакоя быў праход у спальню. Такім чынам, Геніюшы займалі чатыры невялічкія пакоі з кухняю, хаця жылі пераважна ў двух «светлых». У першым ад кухні пры сценах месціліся яшчэ два стэлажы з кнігамі, сярод якіх былі і рэдкія, віленскія выданні. Віселі і стаялі па паліцах фотаздымкі ў рамках, іншыя сямейныя рэліквіі. Іх было шмат, яны нават перагружалі інтэр’ер, надавалі яму пэўную музейнасць. Другі «светлы» пакой, што выходзіў вокнамі ў двор, лічыўся сямейным. Тут віселі абразы. Мэбля ў хаце была даўняя, відаць, яшчэ даваенная, што надавала жытлу асаблівую ўтульнасць. У кніжным пакоі падлогу засцілаў самаробны падвойны дыван (Алесь Белакоз усё прыкідваў, як яго забраць у Гудзевіцкі музей). У спальні ля аднаго з ложкаў ляжала вялікая белая аўчына, на якую так прыемна было ступаць босымі нагамі. Ладзячы стол для гасцей, Ларыса Антонаўна заўсёды паўзверх абруса клала па дыяганалі нацыянальны тканы пояс.

Гасцям у гэтай хаце былі заўсёды шчыра радыя. Тым больш, што жылі Геніюшы ў Зэльве пад пільным наглядам КДБ, і мясцовыя ідэалагічныя службы рабілі ўсё магчымае, каб ізаляваць іх ад людзей, атэстуючы паэтку і яе мужа на розных сходах і нарадах па самай нізкай грамадскай і маральнай шкале. Яно і не дзіўна. Выпушчаныя з канцлагера, Геніюшы, тым не менш, не былі рэабілітаваныя, не прымалі савецкага грамадзянства, размаўлялі толькі па-беларуску, ліставаліся з замежжам і ўвогуле трымаліся падкрэслена незалежна. Таму за імі ўважліва сачылі, падсылалі ў хату розных правакатараў, каб хоць як ускладніць жыццё гэтых непакорных заходнебеларускіх інтэлігентаў. Натуральна, што ў такіх умовах Ларыса Антонаўна, натура вельмі эмацыянальная, ставілася да людзей, якія пераступалі іх парог, калі не падазрона, то, прынамсі, насцярожана. Прыходзілі ж нярэдка людзі зусім незнаёмыя: хацелася проста пабачыць слынную апальную паэтку і выказаць ёй словы падтрымкі. Наносілі візіты і партыйныя функцыянеры розных рангаў, каб пераканаць Ларысу Антонаўну, што ёй неабходна змяніць адносіны да савецкай улады і прыняць грамадзянства СССР.

Домік у Зэльве клікаў да сябе і многіх сяброў, якія не баяліся трапіць у лік палітычна падазроных для тагачаснага рэжыму. Тут сустракаў я Зянона Пазняка, Міхася Чарняўскага, Алега Трусава, Уладзіміра Арлова. З асаблівай прыхільнасцю прымала Ларыса Геніюш паэтку з Горадні Дануту Бічэль, літаратуразнаўцу з Акадэміі навук Міколу Прашковіча,

згаданага ўжо Алеся Белакоза. Прашковіч, праўда, з другой паловы 70-х гадоў у Зэльве, здаецца, не бываў. Вясною 1974 года ён і яшчэ грамадка навукоўцаў — Міхась Чарняўскі, Алесь Каўрус, Сцяпан Міско, Валянцін Рабкевіч і аўтар гэтых радкоў — былі рэпрэсаваныя. За што? Фармальна за папулярызацыю артыкула ўкраінскага даследчыка У. Дзюбы «Интернационализм или русификация?». Фактычна ж — за гэтак званы беларускі нацыяналізм (якога, калі прызнацца шчыра, нам усім да гэтай пары бракуе). Усе пяцёра былі знятыя са сваіх пасадаў і пазбаўленыя магчымасці друкавацца. З Прашковічам абышліся асабліва жорстка. Яму, кандыдату філалагічных навук, аднаму з самых дасведчаных спецыялістаў у галіне старажытнай беларускай культуры, дазволілі ўладкавацца на такую працу, якая матэрыяльна забяспечвала хіба толькі хлеб і ваду. І так — да яго трагічнай гібелі ў 1983-м. Бесчалавечная сістэма зводзіла з ім рахункі, думаецца, і за сяброўскія адносіны з Ларысай Геніюш.

Калі мы з Алесем Белакозам прыйшлі, былі прынятыя вельмі сардэчна. Ларыса Антонаўна пасадзіла за стол. Распавяла мне пра свой лёс, пераказала патрэбныя факты біяграфіі. Шмат чытала вершаў. Чытала і падчас пазнейшых сустрэч. Як вядома, яе вельмі мала друкавалі. А пісала Л. Геніюш шмат, часцей экспромтам, не надта дбаючы пра тэхнічную апрацоўку. Вершы нараджаліся на адным дыханні, такімі і занатоўваліся. Увогуле, паэзія была для яе самым надзейным спосабам чалавечага і нацыянальнага самавыяўлення і самасцвярджэння. Можна нават сказаць, што была найлепшым спосабам жыцця. Таму так патрэбны быў ёй чытач ці слухач.

Пасля сустрэчаў з паэткай я па маладой дурноце нічога не запісваў, спадзеючыся на памяць. Але тады, падчас візіту з Белакозам, мяне асабліва ўразіў адзін верш Геніюш, страфу з якога я занёс у блакнот.

…І хоць долю другія вершаць,
Ды з-пад тоўшчы чужой кары
Б'юць з крыніцаў гарачыя вершы,
Настоеныя па чабары.

Я сказаў аўтарцы пра сваё ўражанне, і мы крыху пагаварылі пра самабытнасць беларускай паэзіі. Пазней апошні радок верша даў назву кнізе «На чабары настоена» (1982), якую паэтка падаравала з надпісам: «Самым вартым і маяму сэрцу дарагім Беларусам — сямейцы Пяткевічаў. Аўтарка. 25.VII.1982 г. Зэльва».

У 1967 годзе выйшаў з друку зборнік паэзіі Л. Геніюш «Невадам з Нёмана». Гэта была падзея. Я папрасіў Ларысу Антонаўну выступіць перад студэнтамі філалагічнага факультэта Гарадзенскага педінстытута. Яна з радасцю згадзілася. Была прызначаная дата сустрэчы. Перад гэтым адбылося смешнае і адначасна прыемнае здарэнне. Студэнты, каб найлепш прывітаць шаноўную госцю, пайшлі пашукаць кветак. Кветкавай крамы ў Горадні тады не было. Хлопцы ішлі ўскраіннаю вуліцаю міма драўляных дамоў і заглядвалі ў двары. І раптам бачаць: насустрач ідзе жанчына з вялікім букетам у руках. Студэнты — да яе. На дзіва, жанчына не толькі не абурылася на іх просьбу, а ветліва заўсміхалася, загаварыла: «А мае ж вы міленькія, вы так хораша размаўляеце па-беларуску і самі вы такія харошыя… Вазьміце ўсе кветкі, калі яны вам патрэбныя, вазьміце, калі ласка». Хлопцы, вядома, не адмовіліся і, спешна падзякаваўшы, подбегам кінуліся назад. На факультэце сталі дружна хваліцца сваёй удачай. І раптам адчыняюцца дзверы аўдыторыі і ўваходзіць тая самая жанчына. Нямая сцэна. Ларыса Геніюш адразу ж пазнала на стале свой букет кветак. Але тут жа пасыпаліся воклічы здзіўлення, жарты, смех. Усё гэта паспрыяла ўзаемнаму даверу, і вечарына прайшла паспяхова. Паэтка з уздымам чытала свае творы, адказвала на пытанні, давала аўтографы. Пасля сустрэчы, калі зайшлі да нас дамоў, зрабіла надпіс на тытуле зборніка: «Дарагому А. Пяткевічу і яго сямейцы са шчырасцю і любоўю. Ларыса Геніюш. 26.IV.68 г. Гродна».

А назаўтра мяне выклікалі ў абкам КПБ (хаця я не быў сябрам партыі), і сакратар па ідэалогіі доўга ўшчуваў мяне за непрадуманасць, палітычную няспеласць гэтай акцыі. Я настойліва пярэчыў, спасылаючыся на факт выхаду кніжкі, але аргумент гэты на чыноўніка не дзейнічаў. Хутка я і сам пераканаўся, што з'яўленне зборніка «Невадам з Нёмана» не змяніла да лепшага апальнага становішча паэткі. Таталітарная сістэма не магла прыняць нацыянальна-патрыятычнай годнасці Геніюш, не гаворачы ўжо пра яе нежаданне стаць у стройныя шэрагі савецкіх грамадзянаў. Вершы выдатнай паэткі з'яўляліся ў перыёдыцы гады ў рады. І нават другая яе кніга савецкага часу «На чабары настоена» не прынесла аўтарцы паслаблення палітычнага ціску. У колах жа нацыянальнай інтэлігенцыі аўтарытэт Л. Геніюш быў вельмі высокім, яе імя станавілася знакам нацыянальнай волі. Ды, здаецца, гэта не надта цешыла паэтку.

Летам 1982 года, неўзабаве пасля выхаду зборніка «На чабары настоена», мы стаялі ў двары Геніюшаў, і Ларыса Антонаўна распавядала, як сардэчна яе сустракалі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», як ягоны дырэктар Міхась Дубянецкі раіў ёй неадкладна рыхтаваць новы зборнік і абяцаў сваю падтрымку. Я таксама стараўся давесці паэтцы, што трэба прыслухацца да гэтай парады, што творы яе патрэбны людзям і літаратуры. Ларыса Антонаўна згодна ківала галавою, але позірк яе блукаў дзесьці далёка, нібы ведала яна нешта такое, чаго іншыя не маглі ведаць. І ў гэтым згодным ківанні зусім не адчувалася пэўнасці. Відаць, сумнявалася паэтка, ці варта друкавацца, застаючыся паняволенай на бацькоўскай зямлі.

Кніга «На чабары настоена», як і папярэдняя, была сустрэта глухім маўчаннем прэсы. У 1968-м здолеў прарвацца з рэцэнзіяй толькі Адам Мальдзіс у «Звяздзе». Цяпер пашэнціла мне, а крыху пазней выступіў Алесь Пісьмянкоў у «ЛіМе». Мой водгук у «Гродненской правде» (07.08.1982) з'явіўся дзякуючы Юрку Голубу, які працаваў у рэдакцыі абласной газеты. Рэцэнзія на зборнік Геніюш выклікала яўнае раздражненне гарадзенскай наменклатуры. Яно вылілася ў помсту аўтару, знешне дробязную і смешную, але паказальную для правінцыйных партыйных нораваў. Напярэдадні распрацоўваўся план агульнагарадской вечарыны з нагоды 100-гадовых угодкаў Якуба Коласа, і я быў афіцыйна зацверджаны дакладчыкам. Пасля з'яўлення рэцэнзіі даведваюся, што дакладчыкам будзе іншы чалавек. Больш за тое, усе сябры Саюза пісьменнікаў, якія жылі ў Горадні, атрымалі пісьмовыя запрашэнні ў прэзідыум. Я ж не атрымаў. Перад вечарынаю Аляксей Карпюк, які быў тады сакратаром абласнога аддзялення СП і які любіў ва ўсім парадак, зайшоў да загадчыка ідэалагічнага аддзела гаркама КПБ, каб высветліць сітуацыю. Але — дарэмна. На вечарыне мае калегі па пісьменніцкім цэху сядзелі на сцэне, я — у зале, сярод слухачоў. Хоць гэтак, ды пакарала мяне партыя.

Прыгадваецца яшчэ адзін эпізод з кветкамі. Мне нярэдка даводзілася выязджаць у раённыя цэнтры і выступаць перад настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры. Паездкі такія былі прыемнымі, бо заўсёды сустракаў былых сваіх студэнтаў. І ўвогуле вясковыя настаўнікі, што выкладалі беларускую мову і літаратуру, былі найлепшымі слухачамі, з якімі заўсёды добра разумеўся. На занятках мы, як правіла, уздымалі вострыя пытанні грамадска-палітычнага жыцця, становішча беларускай нацыі, нацыянальнай школы, роднай мовы. І настаўнікі дружна мяне падтрымлівалі. І вось недзе ў другой палове 70-х трапіў у Зэльву. Прыехаў раніцаю і пайшоў адразу ў школу, дзе меліся сабрацца настаўнікі. Праз нейкі час у класе, дзе вяду заняткі, адчыняюцца дзверы, і ўплывае спачатку агромісты букет кветак, а затым, шырока ўсміхаючыся, — Ларыса Антонаўна. Яна сціпла прысаджваецца на задняй парце ля дзвярэй. Я спешна заканчваю лекцыю і гавару, што зараз будзем знаёміцца са знакамітаю зямлячкаю, паэткай. Запрашаю Геніюш прайсці наперад. Яна адмаўляецца. У класе, натуральна, узнікае шум — усе збіраюць свае прылады пісьма, складваюць сумкі, партфелі, перамаўляюцца. У гэтай мітусні,

заўважаю, некаторыя цішком выслізгваюць за дзверы. За імі, з жахам бачу, настаўнікі, дакладней, настаўніцы (мужчынаў, здаецца, не было), угнуўшы галовы, хаваючы вочы, хутка пакідаюць клас. Застаецца невялікая грамадка самых смелых. Ларыса Антонаўна аддае мне кветкі, а я, стараючыся захаваць бадзёрасць, не ведаю, што з імі рабіць.

Было гэта ў пару брэжнеўшчыны, людзі баяліся ідэалагічнага праследу. Аднак і тыя, хто меў уладу, баяліся Геніюшаў, нават памерлых. Калі хавалі Івана Пятровіча і труну з целам перанеслі для адпявання ў царкву, у яе нахлынуў вялікі натоўп, што займаў усю вуліцу ля хаты. Мы з Міхасём Чарняўскім паволі праходжваліся па ходніку насупраць царквы. Раптам аднекуль вынырнуў і падскочыў да нас вёрткі малады чалавек: «У нас есть сведения, что готовится манифестация… Чтобы никаких политических выступлений, никаких речей!.». І знік гэтак жа непрыкметна, як і з’явіўся.

Янка Геніюш таксама быў бяльмом на воку ў служкаў рэжыму. Чалавек featuresразнабаковых духоўных інтарэсаў, выпускнік медфака Карлавага ўніверсітэта ў Празе, ён цікавіўся палітыкай, мастацтвам, літаратурай, якую добра ведаў. Быў заўзятым бібліяфілам. Пасля канцлагера працаваў у Зэльвенскай паліклініцы і размаўляў толькі па-беларуску. У мяне дагэтуль захаваўся бланк рэцэпта лекара-дэрматолага, выпісанага Іванам Пятровічам па-беларуску. Нягледзячы на супраціў у раёне, доктар Геніюш усё ж выпусціў гэты свой бланк у Зэльве ў 1968 годзе.

Ларыса Геніюш любіла быць з людзьмі, цаніла таварыства, кампапіі. Свае круглыя даты (у 1970 і 1980 гг.) адзначала ў хаце ў шырокім коле сяброў. У іх лік траплялі, між іншым, і тыя, хто не быў духоўна блізкі гаспадыні, але ўмеў на яе ўздзейнічаць, найперш беларускай гаворкай. Сама яна прыкладала шмат энергіі і вынаходлівасці, каб аб’яднаць усіх разам за сталом, зацікавіць, уразіць рэдкімі стравамі ўласнай вытворчасці. Чаго варты быў адзін толькі крупнік, даўні беларускі напой (як не прыгадаць тут «Пінскую шляхту»), кампанентамі якога былі мёд, карыца, яшчэ нешта.

Ведаючы гасціннасць і зычлівасць Ларысы Антонаўны, мы стараліся, у сваю чаргу, як найлепш прывітаць і яе. Да 60-годдзя вырашылі падараваць кніжкі ўсіх гарадзенцаў з аўтографамі. Каб было куды пакласці ладны стос, Васіль Быкаў купіў невялікі драўляны куфэрак, інкруставаны саломкаю ў нацыянальным стылі. Замовіў металёвую пласцінку, якая мацавалася знутры на паўкруглым веку. Але ў Горадні не знайшлося майстра, які мог выгравіраваць віншавальны тэкст на пласцінцы. І мы з жонкаю ездзілі ў Друскенікі, дзе тамтэйшы гравёр вывеў: «Дарагой Ларысе Антонаўне ў дзень 60-годдзя ад сяброў з Горадні». Павезлі куфэрак, прыгожы настольнік, кветкі (вялікія белыя і чырвоныя гладыёлусы ў збанку з вадою жонка трымала на каленях аж да Зэльвы). Ехалі аўтобусам разам з Данутай Бічэль, быў прыўзняты настрой. Калі ў хаце Ларысы Антонаўны расклалі падарункі, то атрымалася кампазіцыя ў жанры нацюрморту, цэнтрам якой сталі кветкі, складзеныя ў бела-чырвона-белым спалучэнні. Ларыса Геніюш была гэтым вельмі ўсцешана. Каньяк, які прывезлі, абяцала хаваць, як памятку, 10 гадоў. І сапраўды, на 70-годдзе ўрачыста выставіла яго на стол. На адных і другіх угодках паводзілася вельмі стрымана, даючы магчымасць выгаварыцца іншым. І толькі ў канцы бяседы шмат чытала. Гасцей было многа. Асабліва ў 1980 годзе, калі «светлы» пакой ад кухні быў вызвалены ад мэблі і цалкам запоўнены запрошанымі. Я на просьбу Ларысы Антонаўны вёў рэй у застоллі і, шмат каго не ведаючы, карыстаўся такой формулай: «Паважанае спадарства, панове, таварышы, сябры!» Запомнілася з той гасціны Ніна Мацяш — сваёй інтэлігентнасцю, цеплынёю ў адносінах з людзьмі. Вельмі хораша праспявала яна з сястрою (на два галасы) папулярную пазней песню «Калыханка маме». Сярод прысутных вылучаліся мужчыны, якія прайшлі разам з Геніюшамі лагерную галгофу. Яны трымаліся разам, натуральнай была іх беларуская гаворка. Кідалася ў вочы іх асаблівая жыццястойкасць, непрыхаваная годнасць. У гэтым яны не адрозніваліся ад Ларысы Антонаўны, да

якой ставіліся па-прыяцельску і разам з тым вельмі сардэчна. Усхвалявала гасцей, а некаторых крыху і спалохала, як відаць было, песня пра беларуса-вязня «Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай…», якую яны выканалі, дружна падняўшыся за сталом. Гэтая папулярная заходнебеларуская песня-гімн гучала ў іх па-баявому, задушэўна, пранікнёна.

І тварам збялелым прыпаўшы да кратаў,
Ён зорку шукае у небе начным,
Каб думкі занесла да роднае хаты,
Каб кліч перадала ўсім браццям сваім.

Памятаецца, на тых угодках чытала Ларыса Антонаўна вялікі ўрывак са сваіх мемуараў — пра час вайны, пра паездку ў Менск, на Другі Усебеларускі кангрэс.

Раптоўна і неяк загадкава адышла яна з жыцця. Прычым загадкавасць гэтая мае злавеснае адценне. Нечакана выявілася захворванне «абадочнай кішкі». Накіравалі ў Горадню, у абласную бальніцу, потым у загарадны анкалагічны стацыянар Лабна. Быў канец лютага 1983 года. Мы з жонкаю прыехалі наведаць хворую. Ларысы Антонаўны не было — вазілі ў горад на рэнтген. Калі нарэшце вярнулася, яе чакаў абед, і перамовіцца не было калі. Геніюш выглядала, як заўсёды, энергічнаю, гаваркою. Пра сваю нядужасць выказалася скептычна: маўляў, нічога сур'ёзнага. Затое ахвотна дзялілася ўражаннямі пра суседзяў-супалатнікаў, увогуле пра бытаванне ў закінутым у глушы, па-свойму ўтульным колішнім маёнткавым доме, цяпер панылым, населеным людзьмі ў шэрых бальнічных халатах. Жыва паблісківаючы вачыма, распавядала, як чытае ў палаце вершы, як добра іх прымаюць, і гэта дапамагае людзям бавіць час. Я папрасіў у паэткі аўтограф для дачкі — падаў зборнік «На чабары настоена». Прыткнуўшыся бокам ля стала, тут жа, у цесным вестыбюлі, яна зрабіла надпіс: «Дарагой Марыначцы Загідулінай-Пяткевіч і яе сыну Аляксею. Люты 1983 г. Ларыса Геніюш». Мабыць, гэта быў апошні аўтограф…

Неўзабаве яе вярнулі ў абласную бальніцу. Мы зноў спаткаліся. Ларыса Антонаўна зусім не выглядала хвораю. Тым больш займала нейкі непалатны пакой (не было месцаў) і апранутая была яшчэ ў сваё, хатняе. Трымала ў руках кніжку, якую чытала перад маім прыходам.

Пазней я наведваў яе шмат разоў. Зрэшты, наведвальнікаў у Ларысы Антонаўны было нямала. Найбольш клопатаў праяўляла яе стрыечная сястра, супрацоўніца Гарадзенскага ўніверсітэта Ніна Паўлаўна Міклашэвіч, якая штодзень прыносіла перадачы, у тым ліку абавязковы свежы курыны булён. Сябры, наколькі ведаю, не ўмешваліся ў ход лекавання, даверачы такому высокаму аўтарытэту, як акадэмік Юры Астроўскі — ён ведаў лекараў і апекаваўся хвораю. Прыкладна праз месяц знаходжання ў бальніцы зрабілі Ларысе Антонаўне аперацыю. Прайшла яна, відаць, паспяхова, бо хворая хутка папраўлялася, весялела. 3 красавіка, на каталіцкі Вялікдзень, за чатыры дні да смерці, у бальніцы была мая жонка — прынесла «свянцонага». Святочны пачастунак падняў настрой усім у палаце, у тым ліку і Ларысе Антонаўне, якая пачувалася добра. І вось неўзабаве (праз тыдзень пасля аперацыі!) яе літаральна схапілі і адправілі на новую аперацыю, пасля якой яна хутка памерла. Навошта была патрэбная тая паўторная аперацыя? На гэтае пытанне ніхто, здаецца, не змог даць уцямнага адказу.

Памятаю, я прымчаўся ў бальніцу і застаў ля ложка хворай Ніну Паўлаўну, яшчэ кагосьці. Ларыса Антонаўна была ў прытомнасці, але не магла размаўляць, не прымала ежы, толькі зрэдку прасіла піць. Не глядзела па баках, толькі, лежачы на спіне, цяжка, з глухім стогнам дыхала. Учарнелы, спакутаваны, аблíты потам твар, глыбока запалыя вочы не абяцалі нічога добрага. Неўзабаве я зноў прыбег у бальніцу, дзе сын паэткі Юрка сказаў, што не варта заходзіць, бо маці без памяці. Мы моўчкі пасядзелі тады ў альтанцы ля бальнічнага корпуса, не ведаючы, як жа быць далей.

Юрка вырас на чужыне, без бацькоў і быў наравістым, малакіраваным. Але маці моцна любіў, яе маральную ўладу над сабою адчуваў заўсёды. Пэўна, і пісаць пачаў не без яе ўздзеяння, раскрыўшыся паступова як здольны празаік. Мы нярэдка сустракаліся ў Зэльве, куды ён прыязджаў то адзін, то з сям'ёю, і я ведаў, якое гора валіцца на яго…

Пасля мы з Юркам Голубам і ягонай жонкай везлі на машыне ў бальніцу труну. Перакладалі ў моргу цела ў надта ж прасторную, як здавалася, дамавіну. Калацілася сэрца і ніяк не магло прыняць таго страшнага і недарэчнага факта, што ў труне — Ларыса Антонаўна Геніюш.

Хаваць яе выйшла ўся Зэльва. Людзі запоўнілі прылеглыя да хаты вуліцы. Вось яна, думалася, сапраўдная любоў землякоў да свае паэткі. Менчукоў было некалькі чалавек. З пісьменьнікаў — Вольга Іпатава і Адам Мальдзіс. Ён і выступіў першым на могілках. Гаварыў пра грамадзянскае значэнне творчасці Ларысы Геніюш, шырыню яе зацікаўленняў, глыбокую народнасць яе паэзіі. Затым я сказаў пра тое, што нацыянальна-патрыятычны кірунак быў галоўнай лініяй творчага жыцця паэткі. Уладзімір Арлоў (ён прыехаў з Полацка) прачытаў верш Сержука Сокалава-Воюша. Слова над магілаю меў таксама святар зэльвенскай царквы айцец Васіль, які быў у добрых сяброўскіх адносінах з памерлаю, які адзначыў яе высокую чалавечнасць, хрысціянскую маральнасць яе натуры.

Разышліся людзі з могілкаў. Раз'ехаліся мы ўсе дамоў… У мяне засталося адчуванне, быццам Зэльва з той пары асірацела. Я, прынамсі, там ужо амаль не быў. Аднойчы толькі, трапіўшы з Аляксеем Карпюком па нейкіх справах у мястэчка, мы зайшлі ў знаёмую хату. Яна не была зачыненая. З сенцаў адразу скіраваліся налева, у «светлы» пакой. Там сядзелі і чакалі кагосьці нявестка паэткі Валянціна і яе ўнукі Міхась і Алесь. Для іх напісала бабуля свае дзіцячыя кніжкі «Казкі для Міхаські» (1972) і «Добрай раніцы, Алесь» (1976). Мы тады пастаялі, перакінуліся словамі. У хаце было пуста. Яна выглядала нежывою, хаця некаторыя рэчы яшчэ заставаліся. Мы хутка выйшлі.

Лёс хаты, як і яе гаспадароў, таксама драматычны. Яна перабудаваная, у ёй жывуць чужыя людзі. Зразумела, што ва ўсіх падобных стратах вінаваты савецкі і сённяшні рэжымы, што нішчаць пад корань усё беларускае. У сям'і Геніюшаў усе маральна не сумяшчаліся з сістэмай таталітарызму і заўчасна пайшлі з жыцця. У 1979-м памёр Іван Пятровіч Геніюш. На чатыры гады перажыла яго Ларыса Антонаўна. А праз два гады, зноў жа раптоўна і загадкава, пакінуў гэты свет адзіны іх сын Юрка, вядомы ў Беластоку дзіцячы лекар і беларускі пісьменнік-патрыёт. Сёння цяжка вышукваць канкрэтныя прычыны гэтых смерцяў. Аднак іх дзіўная паслядоўнасць выглядае трагічна прадвызначанаю, амаль запраграмаванаю.

Сёння ўсе яны, і перш за ўсё Ларыса Антонаўна з яе боскім паэтычным дарам, пайшлі ў легенду. Працяг гэтай легенды — яе вершы і паэмы, якія чакаюць свайго даследчыка. Дакладней сказаць, яны чакаюць найперш свайго збіральніка, укладальніка. Аўтарка ў свой час, не маючы надзей на публікацыю твораў, аддавала рукапісы (машынапісы) многім з сяброў. Аддавала, каб захавалі да лепшага часу. Дзе яны цяпер — тыя яе вершы? Хто ведае… Хаця многае ўжо надрукаванае.

У мяне зберагліся машынапісы некаторых твораў Ларысы Геніюш. Частку з іх, надрукаваных на стандартных аркушах, паэтка перадала мне ў другой палове 60-х гадоў. Некаторыя я вярнуў па яе просьбе, выбраўшы лепшае, калі рыхтаваўся зборнік «На чабары настоена». Яшчэ некалькі дзесяткаў вершаў, надрукаваных на вузкіх папяровых палосках ці на тоненькай нестандартнай паперы і падпісаных яе рукою, былі перададзеныя мне ў 1971–1977 гадах.

Магілы Ларысы Антонаўны і Івана Пятровіча ў Зэльве заўсёды дагледжаныя.

*2005*

*Здзіслаў СІЦЬКА*

# КУФАР ЗАСТАЎСЯ НЯПОЎНЫМ…

Нячаста я наведваўся ў гасцінную хату Геніюшаў, толькі пяць разоў. Але то былі светлыя і шчаслівыя дні.

Памятаю 9 траўня 1971 года. Мы, сябры літаб'яднання пры Баранавіцкай газеце «Знамя коммунизма», прыехалі ў Зэльву, каб пазнаёміцца з аўтаркай зборніка вершаў «Невадам з Нёмана», які так уразіў мяне шчырай любоўю да Радзімы. Вельмі блізкай была мне і пашана паэткі да сялянскай працы, гонар за плён працавітых продкаў. Я чытаў і перачытваў паэму «Куфар»: бачыў у гэтым творы і скарбы, створаныя рукамі нашых бабуляў і маці, і паэтычны скарб Ларысы Геніюш. Асобна трэба пісаць пра выяўлены ў гэтым творы талент аўтаркі. Так раней мяне ўражваў і захапляў толькі Якуб Колас сваёй паэмай «Новая зямля».

Пасля вітання, знаёмства і кароткай гутаркі Ларыса Антонаўна пайшла рыхтаваць нам пачастунак, а Іван Пятровіч пачаў паказваць сваю бібліятэку. У яго было шмат кніжак, якія я не толькі не чытаў, але пра якія нават не чуў. Наогул, пакоі іх старой хаты нагадвалі музей. І кожная рэч мела сваю гісторыю. Запомніўся ўнікальны саматканы кілім. То быў сапраўды знакаміты ўзор народнага ткацтва, відаць, вытканы такімі ж майстрамі, што стваралі і славутыя карэліцкія шпалеры, якія і цяпер аздабляюць музеі Польшчы, пакоі каралеўскага замка на Вавелі. Пра свой кілім Ларыса Антонаўна гаварыла як пра скарб. Калі яны з мужам, тады яшчэ студэнтам, жылі ў Празе, то гэты кілім не аднойчы выручаў іх. Пад заклад гэтай унікальнай рэчы ахвотна пазычалі грошы.

З таго пражскага жыцця застаўся здымак: па вуліцы ідуць маладыя Ларыса і Янка і вядуць за рукі малога Юрку. Сфатаграфаваліся на памяць, а не ведалі, што скора ўсіх разлучаць. Іван Пятровіч расказаў, што сын Юрка, як і бацька — доктар, жыве ў Беластоку, мае двух сыноў, прыязджае да бацькоў.

Кожны, хто хоць раз пабываў у гасціннай хаце Геніюшаў, што на вуліцы Савецкай у Зэльве, не забудзе ніколі, як вітала сваіх чаканых і нечаканых гасцей гаспадыня, як шчыра, па-беларуску, частавала хатнім смакоццем і чытала вершы. Мне запомніўся верш «Баравікі».

*З прыполу хмар асенні дождж пасеяў*
*Грыбы, грыбы… Вось забірай дарма.*
*У бор прыбегла з кошыкам надзеяў.*
*Шукаю шчырых, а такіх няма.*

*Кругом паганкі, дробязь, мухаморы,*
*Не злічыш пачарнелых савякоў,*
*Размяклых ад расы і не ў гуморы,*
*Што апусцілі капялюш далоў.*

*Шукаю шчырых, баравых, харошых,*
*Хоць сонейка ўжо падышло ўгару*
*І мой яшчэ зусім не поўны кошык.*
*Шукаю шчырых. Іншых не бяру.*

Чытала верш Ларыса Антонаўна пранікнёна, як толькі, відаць, можна чытаць верш, калі ён напісаны шчыра, як крык душы. Мяне захапіў паэтычны вобраз верша,

геніяльнасць яго відаць ужо ў першым радку. Як радавалася паэтка кожнаму «праўдзіваму», бо ў апошнія гады яе жыцця «праўдзівікі» траплялiся так рэдка: толькo за наведванне Геніюшаў шмат каго з яе гасцей пасля чакалі пагрозы, спагнанні і нават звальненні з працы. Ларыса Антонаўна папярэджвала пра магчымыя непрыемнасці і ніколі ні на каго не крыўдавала, калі «праўдзівікі» пасля аднаго-двух заездаў у Зэльву знікалі на гады. Папярэджвала яна і нас. Яе перасцярога спраўдзілася: я і мой сябра вымушаны былі шукаць новае месца працы. Але я ўдзячны лёсу, бо той дзень у Зэльве змяніў мяне, маё далейшае жыццё.

Я не пісаў вершаў, таму Ларыса Геніюш не магла стаць маім паэтычным настаўнікам. Але яе асоба, яе дух, яе шчырае, адданае Маці-Беларусі сэрца сталі ўзорам, прыкладам назаўсёды. Праз год мы з сябрамі прыехалі зноў, і з таго часу я думаў і гаварыў пра паэтку як пра свайго духоўнага настаўніка, хоць бачыліся мы пасля толькі два разы. Я прыязджаў на пахаванне светлай памяці Івана Пятровіча. Як тады галасіла, як убівалася Ларыса Антонаўна! У той дзень ўпершыню ў жыцці яна не зважала на людзей у хаце. Плачучы, выціраючы слёзы, усё прыгаворвала: «Яначка, мой Яначка…»

Быў яшчэ адзін незабыўны дзень — 70-годдзе Ларысы Антонаўны. Тады ў Зэльву не змагло прыехаць шмат яе шчырых сяброў, аднадумцаў, прыхільнікаў яе таленту: яны не маглі падстаўляць сябе пад пераслед, пад звальненне з працы — «яшчэ куфры няпоўныя ў нас». Менавіта гэтым радком з вядомага верша Ларысы Геніюш заканчвалася вітальная «Грамата», якую я ад імя менчукоў прывёз у Зэльву: «Хай працуецца Вам, няхай пішацца — яшчэ куфры няпоўныя ў нас!».

У агародчыку каля хаты цвілі кветкі, шмат кветак было і ў пакоях: белыя і чырвоныя ружы, гладыёлусы. Шчаслівая гаспадыня сустракала гасцей з Гродне, з Баранавіч, прыехала Ніна Мацяш з Белаазёрска, прыйшлі зэльвенскія сваякі. Як мне ўяўляецца, найболей яна ўзрадавалася падарунку безыменных менчукоў — напісанай прыгожым, арыгінальным пісьмом «Грамаце» і кошыку цукерак. Удзячная Ларыса Антонаўна паслала менчукам ёю самою прыгатаваны старажытны наш ліцвінскі напой крупнік, аўтографы на старонках часопіса «Полымя», дзе было надрукавана дзевяць яе вершаў. Апошні ў падборцы — «Я не спяшаюся» — уяўляецца мне яе запаветам:

*Я не спяшаюся. Нібы той дзед з сявенькай,*
*што рассявае ў полі збажыну,*
*ступаю роўна, сею памаленьку,*
*бо як пасею, так я і пажну.*

*І хоць вятры не раз тут заголосяць*
*і застракоча на сцяблінках град,*
*прыйдзе пара — і нівы закалосяць,*
*паставіць жнівень дзесяткі у рад.*

З першымі цёплымі днямі красавіка 1983 года ў Менск прыляцела сумная вестка пра хваробу Ларысы Антонаўны і неабходную аперацыю. Зважаючы на ўзрост паэткі, на стаўленне да яе і яе творчасці ўладаў, прадчувалася бяда. Закрадвалася трывога, што Беларусь можа страціць сваю ці не самую адданую, шчырую дачку, якая праз вялікую любоў да Радзімы сталася падчаркай, што праўда, не бацькаўскага краю.

На Бацькаўшчыне любілі і памяталі Ларысу Геніюш — «нашу Лорку». Трэба ведаць гэты край — Заходнюю Беларусь. Не была выключэннем і Зэльва, мястэчка, вядомае ў XVIII стагоддзі ледзь не ўсёй Еўропе праз знакамітыя кірмашы, куды прыязджалі не толькі купцы. У недалёкім Дзярэчыне слаўныя Сапегі стварылі ўнікальны асяродак культуры. Невыпадкова Зэльвеншчына сталася калыскай некалькіх паэтаў. Любілі

паэтку зэльвенцы, але Ларыса Антонаўна за жыццё сваё не мела магчымасці спазнаць гэтыя пачуцці землякоў. Яна магла пераканацца не адзін раз толькі ў адданасці сваякоў і сяброў.

Любоў зэльвенцаў выразна праявілася 10 красавіка 1983 года. Тады правесці ў апошні шлях паэтку Ларысу Геніюш прыйшлі сотні людзей: такіх пахавінаў Зэльва яшчэ не бачыла. Тады стала відавочна, што, адгарадзіўшы ад людзей фізічна, улады не маглі раздзяліць паэтку і яе чытачоў, найперш зэльвенцаў. Непарыўная духоўная лучнасць захоўвалася. Дзеля гэтай духоўнай еднасці, як выявілася, дастаткова было чытаць вершы з кнігі «Невадам з Нёмана», цудоўныя вершы, напісаныя ўнукам і надрукаваныя ў зборніках «Казкі для Міхаські» і «Добрай раніцы, Алесь». А шмат каму дастаткова было толькі ведаць, што тут, у Зэльве, у старой хаце каля царквы жыве Ларыса Геніюш — адна з тых беларускіх жанчынаў, пра каго ў свой час напісаў Леапольд Родзевіч: «Хто душой і шчырым сэрцам, хто так родны край кахае, пекным чынам, цёплым словам хто ў бядзе нас суцяшае? Хто надзея, гордасць наша, праўды нашай каляіна?».

У Панямонні, краі паэтаў, любілі выразнае слова, любілі і паважалі паэтаў. Калісьці слухаць іх выступленні прыходзілі сотні людзей, да іх голасу прыслухоўваліся. Таму і было знішчана столькі таленавітых майстроў слова, таму паэтка Ларыса Геніюш жыла ў Зэльве пасля вяртання са сталінскага ГУЛАГу ізалявана. Але моц яе паэзіі, яе духоўны подзвіг нябачна, як цяпло ад агменю, разыходзіліся навокал.

І вось надышоў гэты чорны дзень — 7 красавіка 1983 года. Ларыса Антонаўна памерла. 9 красавіка я паехаў у Зэльву на развітанне. У хаце Геніюшаў застаў сына Юрку з жонкай Валяй, некалькіх сяброў з Менску. Ужо ў той дзень прыходзіла шмат людзей, але ніхто і не ўяўляў, што сапраўдныя пачуцці зэльвенцаў праявяцца заўтра. Тады, дамовіўшыся з сябрамі, што я буду здымаць пахаванне Ларысы Геніюш, мусіў паехаць дадому, каб захапіць яшчэ адзін фотаапарат: трэба было падстрахавацца перад такімі адказнымі здымкамі. 10 красавіка я прымчаўся ў Зэльву, калі труну ўжо выносілі з царквы.

Мяне ўразіла, што сабралася столькі людзей: была запруджана натоўпам уся шырокая вуліца — ад плоту да плоту. Я пачаў шукаць вачыма знаёмых, але каго там можна было ўгледзець.

Вось натоўп расступіўся і наперад вынеслі века труны, а пасля і дамавіну. Труну з целам паэткі няслі на плячах маладыя незнаёмыя мужчыны. Тут жа бачу мужчынаў сталага веку — даўніх сяброў сям'і Геніюшаў, з якімі яны здружыліся за гады ГУЛАГу. А з царквы ўсё яшчэ выходзяць людзі: старыя і маладыя, жанчыны і мужчыны, дзеці.

Я і цяпер не пытаюся ў сябе: чаму на пахаванне апальнай паэткі сабралася столькі людзей? Як пазней казалі: у Зэльве яшчэ не было такіх пахаванняў. Тады я не думаў пра гэта. Трэба было фатаграфаваць, каб захаваць для родных і сяброў гэтае сведчанне выразнай пашаны і любові зэльвенцаў да Ларысы Антонаўны. А колькі б яшчэ людзей пайшло за труною паэткі, каб не было некалькіх іншых фатографаў, што здымалі жалобную працэсію…

Так, жыццё ў Зэльве было працягам ссылкі Геніюшаў, але гэтае выгнанне на Бацькаўшчыну наблізіла іх да роднага народа. Геніюшы былі неабходныя найперш зэльвенцам, і тыя былі ўдзячны гэтай сям'і. Так думаю я цяпер, разглядаючы старыя фатаграфіі — сведчанне пашаны і любові.

Вось мужчыны з трунай спыніліся каля хаты Геніюшаў, асіроцелай хаты. Тут пісаліся вершы, лісты сябрам, чытачам… Кароткая хвіліна… Міжволі гляджу на пусты панадворак: гаспадыня выбралася ў сваю апошнюю дарогу…

Машына з раскрытымі бартамі рушыла пустою. Труну з целам паэткі нясуць на плячах. Панясуць да самай магілы — доўгі, каля двух кіламетраў, шлях да высокай гары, што ўзвышаецца над мястэчкам, над наваколлем. Мяняюцца маладыя і сталыя мужчыны, зэльвенцы і менчукі, слонімцы і новапалачане. Трое мужчынаў — я лічу і сябе — увіхаюцца з фотаапаратамі каля гурмы людзей. Ніхто не хавае твару…

Мяне асабліва ўзрушваюць, здзіўляюць дзеці — дзяўчаткі, што ішлі паперадзе жалобнай працэсіі і неслі кветкі. Не баяліся ж, пэўна, іх бацькі, ні яны, што будуць заўтра ў школе пытацца, чаму панясьлі кветкі апальнай паэтцы, паклічуць да дырэктара. Не баяліся! Чаму?

Аддаць апошнюю пашану можна было і ў царкве, і каля царквы. Але зэльвенцы паказалі, што Ларыса Геніюш не была ім чужою, што яна стала ім роднай, роднай паводле духу.

Сям'я Геніюшаў зраднілася са шмат якімі сем'ямі местачкоўцаў, з Зэльвы нявестка Валя. За труною ідуць крэўныя і сваякі па мужу. Ідуць і парадзёныя: колькіх зэльвенскіх жанчынаў лячыў Іван Пятровіч, доктар Геніюш. Я быў на пахаванні Івана Пятровіча і бачыў, колькі кветак прынеслі зэльвенскія жанчыны, удзячныя яму за тое, што вылечыў іх, што праз добрыя рукі Івана Пятровіча прыйшлі ў іх хаты самыя жаданыя кветкі — дзеткі. Упэўнены, што сярод тых дзяўчатак, што ішлі наперадзе, былі і тыя «хросніцы» Івана Пятровіча.

Жалобная працэсія выходзіць з мястэчка і кіруецца да могілак. Там, на высокай гары, побач з магілай Івана Пятровіча ўжо выкапаны дол. Каторы раз разлучаныя, там яны будуць разам, поруч, як і ў апошнія гады зямнога жыцця.

Вось яна, гэтая гара, дзе пахавана столькі надзей, няспраўджаных мараў, талентаў, дабрыні. У той дзень сюды прынеслі жанчыну, якой трэба было яшчэ доўга прасці і ткаць, каб напаўняць куфар, які цяпер застанецца напоўным…

Мужчыны з труной ужо каля магілы, а далёка ўнізе ідуць і ідуць людзі, каб кінуць тры жменькі жвіру, калі гара прыме яшчэ адну дачку Беларусі. Што ж, дзякуй Богу, яна не легла ў чужую, вечна мёрзлую зямлю. Не мела б тады наша Радзіма вялікай паэткі. Божай воляй яна выжыла ў жудасных умовах, нават мужчыны бралі з яе прыклад, вучыліся нязломнасці духу, вернасці Беларусі, за дарагое імя якой шмат хто «захлынуўся крывёю».

Апошнія хвіліны развітання. Хрысціянскі абрад спаўняе айцец Васіль, спаведнік Ларысы Антонаўны. Апошні раз цалуе матчыны рукі сын Юрка…

Бывай, дарагая Ларыса Антонаўна! Цябе не забудуць тыя, хто цяпер кідае ў дол тры жменькі жвіру, і тыя, хто, не могучы прыехаць, заплакаў удалечыні, і тыя, хто яшчэ не ведаў, што цяпер у Зэльве хаваюць Ларысу Геніюш.

Ужо насыпаны грудок. Жанчыны ставяць вазоны, слоікі з кветкамі. Пристаўляюць да крыжа, да грудка вянкі. Вока выхопвае надпіс на адным: «Ад Уладзіміра Караткевіча».

Не забудзем! Не забылі. Узняўся над магіламі Геніюшаў агульны помнік: супольна ж яны служылі людзям і Радзіме. Штогод, ужо не ў гасцінную хату і яшчэ не ў музей, а толькі да магілы Геніюшаў прыязджаюць сябры і аматары паэзіі.

*1983, 2010*

*Уладзімір АРЛОЎ*

# АПЭРАЦЫЯ «ПРУСАКІ»

Яшчэ й цяпер у зімовую раніцу, у тыя колькі хвілінаў сьцішанага існаваньня паміж яваю й сном, я магу зьнячэўку ўсьцешана падумаць: перад Калядамі паеду да Бабулі.

Так мы называлі яе між сабою ў гаворках, у лістах і ў тэлефонных перамовах — зь любасьцю, а таксама (уважаючы на «товарища майора») з асьцярогаю. Зрэшты, мяркую, «товарищ майор» цудоўна ведаў, што Бабуля — гэта Ларыса Антонаўна Геніюш.

Мо калі-небудзь я напішу пра ўсё гэта больш падрабязна. Пра тое, як мы зь Сержуком Сокалавым грэліся пасьля марознае дарогі ля печкі, і Бабуля, што кагадзе ўзрадавана называла нас «сакалянятамі і арлянятамі», раптам нядобра бліснула вачыма: «А хто вас, хлопчыкі, да мяне прыслаў?». Напішу пра бандэролькі зь лекамі для ейнага хворага сэрца, якія па два месяцы ішлі з Наваполацку ў Зэльву. Пра тое, як пасадзіўшы нас за шчодры стол, яна падымала кілішак са сваім улюбёным цытрынавым лікёрам і, зьвяртаючыся непасрэдна да электраразэткі, казала: «Выпьем за нашего дорогого Леонида Ильича!». Пра тое, як праз колькі хвілінаў пасьля прыезду гасьцей у хаце неадменна зьяўлялася ўвішная мэдсястрычка, якая рабіла Ларысе Антонаўне ўколы тых самых (дай Бог!) лекаў і якую ў гэты дзень ужо марна чакалі ўсе астатнія зэльвенскія хворыя, бо мэдсястрычка добра разумела, які адказны ўчастак работы даручылі ёй таварышы.

Калі-небудзь я, відаць, напішу, як зьневажалі яе зэльвенскія настаўнікі. Як яна дасылала лісты Машэраву і якія атрымлівала адказы. Як угаворвалі яе прымаць савецкае грамадзянства, а яна ўпарта хацела заставацца грамадзянкаю Беларускае Народнае Рэспублікі. Як, пахаваўшы мужа, яна жыла са сваім сабачкам Жуком у абторканай мікрафонамі і абкружанай сьцяной падазронасьці й нянавісьці хаце. «Ні адзін народ так не прыніжаў сваіх паэтаў, сваіх жанчын», — напісала яна ва ўспамінах.

Калі-небудзь я распавяду, кім была яна для нас у тыя гады.

Сёньня ж найперш прыгадваецца іншае: складзеныя на грудзях васковыя рукі, увачавідкі сьсівелы ад гора Жук ля труны з гаспадыняю, твары Зянона Пазьняка, мастака Яўгена Куліка, гісторыка Міхася Чарняўскага, які за год да гэтага, шмат чым рызыкуючы, вывез з Зэльвы Бабуліну «Споведзь», што цяпер друкуе часопіс «Маладосць»…

У краіне незалежнай, дэмакратычнай і культурнай разьвітаньне з адной з найталенавіцейшых яе паэтак сталася б днямі народнага смутку. У нас, на Беларусі, гэтая журботная падзея прайшла непрыкметна, бо амаль ніхто проста ня ведаў ні пра паэтку, ні пра яе сьмерць, а калі б і ведаў, дык большасьці ўсё адно было б «да ліхтара». Ну, а што тычыцца беларускай інтэлігенцыі, дык яе ў тыя красавіцкія і, дарэчы, выхадныя дні апанавала пошасьць раптоўных хваробаў, сумеры якой можна параўнаць хіба што з колькасьцю тэрміновых камандзіровак, маршруты якіх пралеглі дужа далёка ад Зэльвы.

Тым часам там, дзе трэба, выпісвалі камандзіроўкі менавіта ў Зэльву. І ўсё-ткі на кожнага, хто прыехаў хаваць Паэтку, прыпала, здаецца, ня больш чым па двое падсуседзяў. Далібог, гэта былі неблагія суадносіны, і няхай выбачаюць тыя, каго я не ўзгадаю.

З Наваполацку прыехаў інжынер Вінцэсь Мудроў, зь Менску — археолягі Ігар Чарняўскі й Валеры Шаблюк, а таксама дырэктар акадэмічнага Музэю старажытнай беларускае культуры Вольга Церашчатава з каляжанкамі. Вянок ад Саюзу пісьменьнікаў Беларусі прывезьлі Вольга Іпатава й Адам Мальдзіс. З Горадні прыехала Данута Бічэль зь сябрамі, з Жлобіна — былы лягернік Мікола Канаш, якога мы зь Вінцэсем (даруйце нам, Мікола Імполевіч) прынялі ў цягніку за чалавека з канторы.

Сапраўдныя ж людзі ў цывільным прыбылі на машынах зь менскімі, гарадзенскімі й берасьцейскімі нумарамі. Яны нястомна шпацыравалі па вуліцы, хадзілі пад вокнамі, згуртаваным натоўпам стаялі падчас адпяваньня нябожчыцы ў царкве, перапісвалі зьвесткі аб прыежджых у зэльвенскім гатэльчыку. Ня ведаю, чаго ў падсуседзкіх позірках было болей: удзячнасьці да нас, «недобитых националистов», што неяк пацьвярджалі неабходнасьць іхнага існаваньня й дапамагалі атрымліваць новыя званьні й ўзнагароды, гэтае ўдзячнасьці, або прыкрасьці, што «главная националистка» і тут нашкодзіла — памерла акурат так, каб у іх прапалі выхадныя.

Далікатнасьць падсуседзяў ня ведала межаў. Калі сын Ларысы Антонаўны, беластоцкі літаратар Юрка Геніюш прыцішана чытаў мне зь сябрамі на ганку верш «Чаму я чорны, мама?», двое ў цывільным падышлі да яго амаль усутыч і сталі за плячыма. Хацелі закруціць «выкормышу» рукі й кінуць у «варанок»? У аднаго зь іхных калегаў, нястомнага фатографа з партрэтным аб’ектывам, Вольга Іпатава запыталася, які орган друку ён прадстаўляе, і той замест адказу шчоўкнуў і яе.

Цікава, як называлася ў іх тая апэрацыя? «Крыж»? Ці мо якая-небудзь «Незабудка»? Ці «Прусакі», як назваў бы яе я сам? Але як бы яна ні называлася, увесь плян ейным кіраўнікам выканаць не ўдалося: спробы ўгаварыць ці змусіць везьці труну й вялікі драўляны крыж на машыне былі марныя. Увесь няблізкі шлях да зэльвенскіх могілкаў труну несьлі на руках. Сьледам ішла ўся Зэльва. Бел-чырвона-белых сьцягоў не было. Да іх мы тады яшчэ не дарасьлі.

Над сьвежаю магілай я прачытаў напісаны на сьмерць верш Сержука Сокалава, які яшчэ не пісаў песень і ня меў у прозьвішчы ваярскага прыдомку, але Воюшам ужо быў.

Гучала лера мілагучным ранкам,
Каб сьпевам вольнай Бацькаўшчыны стаць,
Каб Вашы песьні вечная Зальвянка
Магла вякамі голасна пяяць.

Нясьмелы вецер сьлёзы нам астудзіць,
І зубы сьцяць шчэ прыйдзецца ня раз,
Каб голасна сказаць на поўны грудзі:
Над памяцьцю ня мае ўлады час.

Пасьля нягод, чужыны, пературсак,
Пасьля таго, пра што маўчаць гады,
Вы здолелі між іншых беларусак
Застацца Беларускай назаўжды.

*2001*

*Вольга ІПАТАВА*

# НЕ ВЫКРАСЛІЦЬ З ГІСТОРЫІ…

Уначы прысніўся сон — павінна ехаць у далёкую дарогу на новай машыне. І хачу, і баюся — ехаць умею, але ж хаця б як паспытаць у справе тую машыну…

А раніцай, недзе ў 11, пазванілі з Саюза пісьменнікаў: «Памерла Ларыса Геніюш, мы тут рашылі… найлепшыя кандыдатуры для афіцыйнай дэлегацыі ад Саюза — Вы і Мальдзіс… Ці згодныя?» — «Зразумела, я і так бы паехала хаваць Ларысу Антонаўну». — «Ну вось і добра. Білеты будуць у Мальдзіса».

Зніякавелая, села пасля размовы. Ларыса Антонаўна, такая вясёлая, гаваркая! Усё збіралася да яе ў Зэльву. Сабралася…

Вечарам, у цягніку, дазналася: ноччу ў Зэльве не спыняемся, едзем далей, у Гродна. «Як — у Гродна? Чаму!?» Адам Язэпавіч дыпламатычна прамаўчаў. Раніцай высветлілася — спачатку едзем у абкам партыі для «накачкі».

Нас прыняў намеснік загадчыка аддзела прапаганды. «Обстановка сложная, товарищи, скрывать не стану. Дело в том, что Гениюш хоронить будут по православному обряду. Ваша задача — этого не допустить. Из Польши приезжает не только сын покойной, но и невестка — активный член *"*Солидарности*"*. Возможны антисоветскне выступления».

Не вытрымала: «Як вы сабе ўяўляеце — не дапусціць пахавання са святаром? Мы што — павінны яго ў шыю выштурхоўваць і ўслед свечкі выкідаць?!»

Акрысіўся: «Вы не понимаете важности момента, товарищ (запнуўся) Ипатова! Она же (з націскам) связана з эмиграцией! Оттуда за каждой мелочью следить будут, а тут — религиозный обряд, поп!»

І — палілося, палілося… Выскачыла адтуль чырвоная. І пасля смерці не пакінуць Ларысу Антонаўну ў спакоі! Мала, што ў апошні час адабралі зямлю, дзе паэтка вырошчвала півоні, і зрабілі на тых сотках грамадскі туалет, проста пад хатай! ''Мала, што на ёй пазараблялі сабе павышэнні зэльвенскія кэдэбісты, якія няўхільна сачылі за кожным яе крокам і за кожным госьцем! Бывала, прыедзеш да яе, а праз пяць хвілін бяжыць нехта з суседзяў — то запалкі пазычаць ім спатрэбілася, то соль…

Мальдзіс мяне суцяшаў. Яму даводзілася горай: я не была партыйкай (адбілася ад усіх прапановаў), а ён мусіў лічыцца са сваім партбілетам. Нешта ім паабяцаў, мабыць, але, як высветлілася, не збіраўся гэтага выконваць.

Кажу яму: «Адам Язэпавіч, я не камуністка і выконваць іх вар'яцкія рашэнні не абавязана. А вы — як?»

Мудры Мальдзіс пацiснуў плячыма: «Яно само ўсё вырашыцца».

З Гродна мы павінны былі ехаць у Зэльву «рафікам». Разам з Юркам, сынам Ларысы Антонаўны, і нявесткай Валяй, якія раніцай ужо прыехалі з Польшчы. Юрка, пільна ўгледзеўшыся ў кожнага, нібыта нас маглі падмяніць, супакоіўся: «Маці вас паважала, Волечка. Добра, што начальства з Саюза не прыехала. Я б ім паказаў — нічога для яе не зрабілі! Баяліся за свае…» Тут ён вылаяўся, і стала бачна, які ён нервовы і ўзрушаны.

Мы супакойвалі яго ўсю дарогу — казалі, што кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў не аднойчы звярталася ў Гродзенскі абкам партыі з просьбамі дапамагчы Ларысе Антонаўне, але там толькі рабілі выгляд, што слухаюць, а то і папракалі Саюз пісьменнікаў за кожны яе радок, за кожны ліст, які яна адсылала сваім сябрам за мяжой.

Сітуацыя была простая: «ім», беларускаму вышэйшаму, а за ім і мясцоваму начальству, патрэбная была яе пакорлівасць. Яна ж не толькі не скаралася, але ва ўсіх сваіх лістах за мяжу, якія, вядома ж, няўхільна правяралі, апісвала ўсе здзекі з беларускага, усё іхняе нахабства і самаўпраўства. Таму, натуральна, мясцовае начальства гатовае было яе згрызці жыўцом, а паколькі прайшлі тыя часы, калі можна было адправіць яе ў Сібір, яны «шчыравалі» тут, у Зэльве…

Мёртвая, яна была для іх таксама страшная: невядома, што адбудзецца на пахаванні, яны могуць і «паляцець» з цёплых месцейкаў, калі вышэйшае начальства захоча «пагуляць у дэмакратыю», асабліва перад палякамі. Вось чаму, калі мы прыехалі нарэшце ў Зэльву і панеслі вянок з надпісам «Ад Саюза беларускімх пісьменнікаў» у хату, адразу пабачылі, што тут усё, што называецца, «напагатове»; дужыя маладыя хлопцы ў аднолькавых плашчах віднеліся паўсюдна, а к вечару, калі ўсе добра прытаміліся, можна было пабачыць яшчэ пару галоў, якія час ад часу асцярожна вытыркаліся ў вокнах суседняй музычнай школы.

Можна было падумаць, што адбываецца не пахаванне, а падрыхтоўка да ўзброенага паўстання. Але ўся зброя ў навакольных людзей была адна — свечкі ў руках.

Мясцовыя жанчыны расказалі, што апошнія гады жыцця Ларыса Антонаўна сябравала з мясцовым святаром (здаецца, гэта быў айцец Васіль). Ён і кіраваў цяпер усім — дзе капаць магілу, калі пачынаць адпяванне. Спачатку не хацеў і слухаць, што будзе яшчэ і грамадзянская паніхіда, ды яшчэ перад адпяваннем. Дамаўляліся з ім усю ноч праз Юрку. Мальдзіс даводзіў, што грамадзянская паніхіда павінна абавязкова адбыцца: трэба ж сказаць пра Ларысу Антонаўну і як пра грамадскага дзеяча, і як пра пісьменніцу, гэта паспрыяе ў будучым стварэнню яе музея, гэта дапаможа пры выданні кніжак…

Перамовы былі складанымі, ішлі цяжка. Я ўспамінала свой сон — гэтае пахаванне, гэтая дарога была сапраўды незвычайнаю… Ішла ноч, Юрка час ад часу прыходзіў да нас у гасцініцу ўсё больш узбуджаны — зноў і зноў кляў савецкую ўладу, плакаў, успамінаў розныя эпізоды са свайго і матчынага жыцця. І ўвесь час паўтараў: «Што яна ім зрабіла? За што? За тое, што так любіла Беларусь?»

Гэтая красавіцкая ноч запомнілася назаўсёды. Трапятанне свечак над мёртвым тварам Ларысы Антонаўны, доўгія цені па сценах, дзе віселі фотакарткі мужа і сына, самотныя твары жанчын, што сядзелі ля труны… І радкі з яе вершаў, што ўсплывалі ў памяці, — тыя радкі, што яна чытала тут, у гэтым пакоі…

Раніцай прыехалі навукоўцы — Міхась Чарняўскі, Вольга Церашчатава, іншыя. Прыехалі Данута Бічэль-Загнетава, Уладзімір Арлоў… Народу з Мінска і Гродна ўвогуле было няшмат: прысутнасць на пахаванні магла прынесці непрыемнасць. Нездарма ж так адкрыта, проста нахабна фатаграфавалі нас малойцы ў плашчах. Я наўмысна спыталася ў аднаго з іх: «А вы з якой газеты?» Зірнуў на мяне з такой пагардай, маўляў, хутка даведаешся, з якой…

Адпяванне ў царкве доўжылася ці не чатыры гадзіны. Мальдзіс у царкве не быў — камуніст, афіцыйная асоба. Я заходзіла туды, але, стаміўшыся, зноў вярталася на вуліцу ў халодны красавіцкі дзень, узгадвала сваё першае знаёмства з Ларысай Антонаўнай, калі мы прыехалі да яе ўчатырох: Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў, Данута Бічэль-Загнетава і я, маладая паэтка, выхаваная ў жорсткай ідэалагічнай сістэме дзіцячага дома. Памятаю, як мяне напачатку проста шакавалі адкрытыя выказванні Івана Пятровіча пра савецкую ўладу і камунізм (Ларыса Антонаўна была больш дыпламатычная ці проста занятая клопатамі гаспадыні — як лепей пачаставаць дарагіх

гасцей). Аднак той першы візіт як праламаў нешта ў маёй свядомасці, бо гродзенскія пісьменнікі не тое каб асцерагаліся пры мне гаварыць болей чым трэба, але, мабыць, больш ашчаджалі, ведаючы, як лёгка паламаць маладое дрэўца. Каб не давяралі, то не ўзялі б з сабой да Геніюш…

Узгадвала я і той надта цяжкі для мяне эпізод, калі праз некалькі гадоў, калі я перабралася ў Мінск, мне перадалі нібыта сказаныя ёю словы, ці не маю я нейкага дачынення да разгрому інтэлігенцыі ў Акадэміі навук (у сэнсе ці я не сэксотка, якая магла перадаваць каму трэба нейкія іхнія выказванні). Тады якраз выгналі з працы Міхася Чарняўскага, Міколу Прашковіча і іншых навукоўцаў. Памятаю, што я нейкі тыдзень пасля таго хадзіла як атручаная, мяне трэсла як у ліхаманцы, і я не прыдумала нічога лепшага, як паехаць да Геніюш і ўсё высветліць самой.

І я прыехала да яе, і з ганку выпаліла ўсё, аб чым перадумала за гэты тыдзень, і канешне, расплакалася і патрабавала (о, так, патрабавала, каб яна нечым пацвердзіла, калі ўжо так сказала, сваё меркаванне і свае словы!).

Ларыса Антонаўна абняла, пасадзіла мяне за стол, паставіла пачастунак (дасюль памятаю смак яе марынаваных баравічкоў) і стала мне расказваць пра эпізоды яе лагернага жыцця, калі не ведаеш, каму можна даверыцца і калі кожнае тваё слова перадаюць па інстанцыях, скажаючы яго…

«Можа я і сказала нешта такое, што хлопцы прынялі як сумненне ў табе, але ж і ты магла аказацца такой жа, як тыя, у лагеры».

І якімі дробязнымі здаліся мне мае перажыванні! А чаму і не, чаму яна не магла падумаць і пра маю прычаснасць да подлых даносчыкаў, якія рабілі сабе кар'еру на крыві і пакутах іншых?!

На развітанне яна прачытала мне толькі што складзены верш пра баравікі і пра давер, які заканчваўся так: «Шукаю шчырых, іншых не бяру», і падарыла хустку, якую ёй прыслалі з-за мяжы — ліловую, з белымі і ружовымі кветкамі. Яна доўга была ў мяне, пакуль яе не ўкралі ў тым жа гродзенскім цягніку. А верш быў запісаны пазней Сяргеем Панізнікам, і дзякуючы яму можна і цяпер слухаць незабыўны, лірычна-ўзнёслы голас Ларысы Антонаўны…

…Я ўзгадвала паездкі да яе, яе словы, аповеды, якія яна —дзякуй ёй, знайшла час і сілы! — запісала ў сваёй «Споведзі». Душа мая перапаўнялася болем за яе лёс, за час, у якім ёй выпала жыць і памерці. Ніхто з кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў не асмеліўся прыехаць на паховіны вялікай беларускай паэткі, ніхто не сказаў аб ёй ніводнага развітальнага слова ў друку! І як жа баяцца яе, мёртвай!

…Царква, хата Ларысы Антонаўны і райкам партыі былі амаль побач. І калі скончылася адпяванне ў царкве і труну яе панеслі на могілкі, можна было бачыць, як хутка, амаль панічна, схаваліся мясцовыя кіраўнікі ў памяшканні, каб, Божа крый, не быць на вуліцы ў той момант, калі труну праносілі міма — гэта ж значыла б, што яны пры гэтым прысутнічалі…

Затое тыя, у плашчах, прысутнічалі да канца. Яны былі на могілках і тады, калі праходзіла грамадзянская паніхіда, дзе выступалі Мальдзіс і Уладзімір Арлоў (я сказала колькі слоў на памінках, у хаце, пасля пахавання), і тады, калі над магілкай спявалі жанчыны з царкоўнага хору, і тады, калі разыходзіліся з пахавання.

Народу было шмат — амаль уся Зэльва. Халодны і ветраны дзень быў затое сонечным — іскрыліся каменьчыкі ў пяску, якім засыпалі труну, блішчэла рыза на святары, нават слёзы на вачах у людзей здаваліся светлымі кроплямі. А яны, гэтыя слёзы, былі — нягледзячы на тое, што сістэма, здавалася, дасягнула свайго: жытло Паэткі, яе

імя і дзейнасць былі пад своеасаблівым табу, як зачумленыя, аднак магутная яе паэзія, яе пакутніцкае жыццё ўжо тады рабіліся легендай, нездарма ж так шматлюдна было на пахаванні.

Калі мы вярнуліся ў гасцініцу, дзяржурная расчулена сказала: «Вось ужо не чакалі, што дазволяць пахаваць яе па-людску…» Мы з Адамам Язэпавічам пераглянуліся — яны ж гэтага не дазвалялі…

…А музей Ларысы Геніюш у Зэльве так і не адкрыты. Тыя, хто ганьбіў яе пры жыцці, хто зарабляў на ёй званні і павышэнні, ні ад званняў, ні ад персанальных пенсій не адмаўляліся. І, мабыць, па-ранейшаму люта ненавідзяць яе. За тое, што яе вершы ўжо цяпер становяцца класікай. За тое, што яе імя ўжо не выкрасліш, як раней, са зборнікаў і ўвогуле не выкрасліш з гісторыі Беларусі. За тое, што нічым ужо не ўджаліш яе болей — бо яна, нягледзячы на свой тытанічны дух, усё ж была жанчынай, і сэрца яе было чуйным і пяшчотным.

*1993*

*Пятро РАШЭТНІК*

# АРХІВЫ І ПОМНІК

Яшчэ ў лягеры Ларыса Геніюш нам расказвала, што яна — сакратарка Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Была яна сакратаркай яшчэ пры жыцьці Васіля Захаркі. Казала, што перахоўвала пячатку БНР, якую Захарка перадаў пасьля Абрамчыку.

Яшчэ ішла вайна, як да Геніюш у Прагу прыяжджаў агент Цанавы. Яшчэ фронт быў далёка. Гэты агент пачаў ёй пагражаць: «Аддайце архівы!» Яна тады выклікала з Бэрліну Абрамчыка і той адвёз архіў, спакаваны ў два чамаданы, у Парыж, дзе ён жыў да вайны. Абрамчык быў аграномам па адукацыі, скончыў Праскі ўнівэрсытэт. У вайну ён працаваў у Бэрліне, супрацоўнічаў з газэтай «Раніца». Пасьля Абрамчык перадаў гэтыя архівы Вінцэнту Жук-Грышкевічу, а той — Сажычу. І цяпер яны ў яго знаходзяцца. Гэта я ведаю дакладна, бо як Сажыч прыяжджаў на Беларусь, дык прывозіў з сабой частку архіву. Ён хацеў гэтыя дакумэнты перадаць уладам, але як зайшоў у Савет Міністраў, дзе верхаводзіў Кебіч, дык убачыў, што там няма каму іх перадаваць. Па-беларуску ва ўрадзе ніхто не гаварыў. І ён павёз архіў назад.

Чаму Сажыч хацеў перадаць архіў? Якраз гэта зрабілі ўкраінцы, ну і ён вырашыў усё аддаць на Бацькаўшчыну. Ён заяжджаў у Баранавічы да свайго пляменьніка, і гэта ўсё распавядаў. Сажыча я ведаю з часоў вайны, калі ён вёў у нас у сэмінарыі вайсковую справу, а пасьля перайшоў у самаахову, скончыў афіцэрскую школу. Ён жа быў польскі падхарунжы, бо ў палякаў быў такі закон: як хлопец атрымаў сярэднюю асьвету, яму надаюць рангу «падхарунжы плютуновы».

Ужо пасьля заканчэньня вайны, калі Геніюшы яшчэ жылі ў Празе, да іх прыходзіў прадстаўнік ангельскага пасольства і прапаноўваў: «Мы вас пераправім у Англію». Але Янка Геніюш быў супраць: «Я — сацыяліст, я — лекар, яны нас не зачэпяць». А гэты англічанін гаворыць так: «Каму Англія дапамагае, таму і Бог дапамагае. Давайце я вас пераківу на Захад!» Гэта мне Ларыса распавядала. І Геніюшы засталіся там, а ў 1948 годзе Цанава загадаў іх забраць у Менск.

Калі Ларыса Антонаўна стала жыць у Зэльве, я пра гэта даведаўся і паехаў да яе. І пасьля я часта езьдзіў. І яна ў Баранавічы прыяжджала з мужам да аднаго сябра… У Зэльву прыяжджаў да яе з Польшчы сын Юрка. Ён рос адзін, у цёткі. У 1948 годзе з Прагі яго пераправілі ў Польшчу праз польскі кансулят. Чэкісты пыталіся: «Дзе ён? Дзе ён?» А Ларыса кажа: «Вы яго не дастанеце!» Ну, каб хацелі, знайшлі б. Але навошта ім быў 12-гадовы юнак?! Юрка працаваў на Беласточчыне лекарам-пэдыятрам.

Два браты Ларысы ваявалі ў польскай арміі Андэрса. Адзін загінуў пад Монтэ-Касіна, а другі жыў пасьля вайны ў Англіі. Ён прыяжджаў да Ларысы, а Юрка езьдзіў у Англію, да дзядзькі. Юрка многа піў, страшна піў. Піў ён нават, калі прыяжджаў сюды, да маці. Аднойчы Ларыса прыслала мне ліст, дзе прасіла, каб прыехаў, бо «Юрка хоча з табой пагаварыць». Я агароджу рабіў і помнік ставіў на магіле Янкі Геніюша. Дык Юрка мне падарыў кашулю з выявай тыгра. Куды ж я яе апрану?!. Ларысы дома не было — яна была дзесьці на базары. Юрка пайшоў мяне праважаць на вакзал. Ісьці да станцыі ад Зэльвы трэба было кілямэтры два. Па дарозе назад ён напіўся, а я паехаў дахаты ў цягніку і ня мог падумаць, што так станецца. Потым Ларыса прысылае мне ліст і піша: «Навошта ты яго напаіў?!» А я ёй пасьля кажу: «А я пры чым? Я ж яго не паіў…» І дзе ён там мог напіцца, бо па дарозе не было піўных?.. У Юркі былі два сыны — Міхась і Алесь. Ларыса напісала дзьве дзіцячыя кніжкі: «Казкі для Міхаські» і «Добрай раніцы, Алесь».

Калі адзначалі 70-годзьдзе Ларысы, я там быў. Казалі, што ў суседнім доме сядзеў маёр КДБ Хоха з падслухоўваючай апаратурай. Ларыса адна такая была на ўсю Зэльву, усю яе перапіску правяралі. А перапіска ў яе была вялікая. Я ў яе бачыў лісты з Аўстраліі і нават з Ганконгу.

Так здарылася, што я ня быў на яе пахаваньні. Мне не паведамілі. Званілі, але недазваніліся…

Як прыйшоў час ставіць Ларысе помнік, я паехаў у Горадню. Якраз тады адпачываў у санаторыі ў Росі, каля Ваўкавыску, ды вырашыў пазваніць Бічэль-Загнетавай, каб дамовіцца пра сустрэчу. А ў нас, былых лягерных сяброў Ларысы, былі сабраныя грошы ёй на помнік. Яна мне сказала, каб я прыходзіў у музэй. Паехаў я ў Горадню, знайшоў той музэй, а аказалася, што ў іх у нядзелю выходны дзень. Паглядзеў я на замок і пайшоў званіць Дануце з аўтамату. Яна дала мне свой адрас.

Калі я прыйшоў да яе, дык Данута была нейкая напалоханая. Аказалася, што да іх у гэтай кватэры жыў гішпанец, а калі рамантавалі падлогу, знайшлі падслухоўваючую апаратуру. Я сказаў Дануце: «Мы чулі, што вы зьбіраеце грошы на помнік Ларысе Антонаўне». Яна гаворыць: «Сабіраем». Я кажу: «Мы хацелі б прыняць удзел у гэтым». «Хто?» — пытаецца яна. «Хлопцы з Інты», — адказваю. «Не! Мы тут, беларуская інтэлігенцыя, сабіраем. З вамі лучыцца ня хочам таму, што вы ўсе ў турме сядзелі!» — гэта словы Бічэль-Загнетавай. Я гавару: «Дык яна таксама сядзела! Дык яна нам большая сяброўка, чым вам!» А яна на гэта адказвае: «Не, мы — літаратары, і толькі». Раз так, я за шапку сваю і ў дзьверы. Бічэль-Загнетава мне наўздагон: «Вы, напэўна, абразіліся?» Я кажу: «Не, нічога. Я ад вас гэтага не чакаў!»

Быў я на адкрыцьці гэтага помніка, ужо другога, бо першы помнік (Янку Геніюшу) прывёз Андрэй Вайтовіч са Слоніму. А куды яны яго, гэты помнік, падзелі, я ня ведаю. Можа, закапалі?.. Данута прыехала з Горадні зь нейкім маладым хлопцам. Я яе ўбачыў і падышоў, павітаўся. Яна адказала, але зрабіла выгляд, што мяне не пазнала. Ну, тады я павярнуўся і пайшоў.

*2000*

*Адам МАЛЬДЗІС*

# ДАЛІКАТНАЕ ЗАДАННЕ

Першы раз я пабачыўся з Ларысай Геніюш дзесьці ў сярэдзіне студзеня 1968 года. Тады яна прыехала да Уладзіміра Караткевіча і нейкі час жыла ў яго нядаўна заселенай двухпакаёвай кватэры (з павешанай «перагародкай») па вуліцы Веры Харужай, 26. Гэта было зусім побач з маім жытлом (Чарвякова, 18), і мы часта абменьваліся па-суседску візітамі. Раз ці два Караткевіч з маці і Ларыса Антонаўна прыходзілі да нас дамоў, жонка частавала іх вясковымі стравамі, потым бачыліся ў Ірыны Крэнь на вуліцы Якуба Коласа. Па просьбе Максіма Танка Валодзя тады памагаў паэтэсе рыхтаваць да друку («пазбаўляць ад падводных мінаў») тэкст яе першага ў БССР вepisode вершаванага зборніка «Невадам з Нёмана» (на назве, здаецца, спыніўся таксама сам Танк, у якога з Геніюш былі даверлівыя адносіны, чым паэтэса ганарылася). Мне цікава было бачыць, як адзін «крамольнік» залагоджвае тэкст для другой «крамольніцы».

І вось неяк тады ў Валодзі быў «хлапешнік», прысвечаны пярэдадню дня нараджэння акадэмічнага тэатразнаўца Сцяпана Міско (такое ў кватэры «клясыка» часта здаралася). Застолле вечарам сабралася гучнае. Але гучней за ўсіх паводзіў сябе сам віноўнік урачыстасці, які раздаваў усім хвігі. Яго панібрацкая фраза «Ты добрая дзеўка, Ларыса!» прывяла мяне ў жах. Але, здаецца, звычную і не да такога паэтэсу яна не дужа шакавала. Памятаецца яшчэ, што за сталом вялася крытычная гаворка пра тагачасны стан беларускага тэатра і ўвогуле пра тое, ёсць ён ці няма, на што Геніюш, падводзячы рысу спрэчкам, сказала:

— Для мяне няма слова «няма», для мяне існуе слова «будзе»!

І вось кніжка «Невадам з Нёмана» даволі хутка выйшла з друку і хутка раскуплялася. І якраз, як на тое, у рэспубліцы пачалося абмеркаванне пастановы ЦК КПБ аб развіцці грамадскіх навук. Дакацілася хваля і да нашага Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, у якім я тады працаваў, больш таго, быў сакратаром партыйнай арганізацыі. У той сітуацыі першы савецкі зборнік «ярой антисоветчицы», якая да таго ж прайшла праз кабінет Цанавы, не мог быць незаўважаны. Наш «грэшны» інстытут правярала спецыяльная камісія на чале з інструктарам ЦК КПБ Жанай Сінельнікавай. На спецыяльным партсходзе яна нібыта лёгенька папракнула літаратуразнаўцаў, што засяроджваюцца яны на другасным, неістотным матэрыяле: не паспела Ларыса Геніюш, паэтэса з сумнiўным мінулым, скласці кнігу, як загадчык сектара дакастрычніцкай літаратуры Юльян Пшыркоў напісаў да гэтай кніжкі хвалебную прадмову, супрацоўнік таго ж сектара Адам Мальдзіс — станоўчую рэцэнзію для «Звязды», а другі супрацоўнік, Мікола Прашковіч, падаў заяўку на цэлую кніжку пра гэтую «нацыяналістку». Дасталося і начальству, дырэктару Васілю Барысенку.

І вось — вынік праверкі: абмеркаванне работы Інстытута літаратуры на бюро ЦК КПБ. З дакладам аб выхаваўчай рабоце ў ім выступаў не дырэктар, а сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Іван Шамякін. Тон яго быў прыхільны: у кожнай рабоце можна знайсці і станоўчае, і недахопы. Памяркоўна вёў пасяджэнне і Пётр Міронавіч Машэраў. «Бомба» ўзарвалася толькі тады, калі галоўны ідэолаг рэспублікі сакратар ЦК КПБ Станіслаў Антонавіч Пілатовіч паставіў пытанне рубам:

— О какой воспитательной работе в Институте литературы может идти речь, если сам секретарь парторганизации Мальдис написал хвалебную рецензию на сборник оголтелой националистки Ларисы Гениюш?!

На гэта я, набраўшыся смеласці, запярэчыў, што кніга выйшла не за мяжой, а ў савецкім выдавецтве, і рэцэнзію я надрукаваў не ў «Нью-Ёрк таймс», а ў органе ЦК КПБ газеце «Звязда». Маўляў, я цвёрда быў перакананы, што, уключаючы такую таленавітую паэтэсу ў наш літаратурны працэс, раблю добрую справу, пазбаўляю аргументаў нашых заакіянскіх недругаў…

Тут Станіслаў Антонавіч, пачырванеўшы ад такога майго нахабства, кінуўся канчаткова знішчаць мяне, але Пётр Міронавіч яму нешта ціха шапнуў, і бой скончыўся для мяне адносна памысна. Я застаўся ў тым жа інстытуце і на той жа пасадзе, толькі з партыйнага старшынёўства быў пераведзены ў прафсаюзнае. Шкада мне было, што за ўсю гісторыю ў «Звяздзе» паплаціўся месцам Віктар Карамазаў, загадчык аддзела газеты, з якім я дамаўляўся наконт друкавання рэцэнзіі (чыя была ініцыятыва, дальбог, не помню).

З таго часу з лёгкай рукі Уладзіміра Караткевіча ў кулуарах мяне сталі называць «мечаносцам Ларысы Геніюш». Мусіць, па гэтай прычыне, а можа, і па іншай, Максім Танк, з якім мы былі ўжо добра знаёмыя, праз які месяц спыніў мяне ў Саюзе пісьменнікаў і сказаў:

— Усе нападкі зэльвенскага, ды і мінскага, начальства спыніліся б, калі б Геніюш стала членам нашага саюза. Тады мы маглі б і ўступацца за яе. У цябе, здаецца, склаліся з ёй неблагія стасункі? Пад'ехаў бы ты на сваю Гродзеншчыну, у Зэльву, а можа, і ў Гродна, каб з Карпюком памазгаваць. Угаварыў бы ты яе і асабліва яе ўпартага Івана Пятровіча… Ці ёсць табе на каго з начальства абаперція ў Зэльве, каб растлумачыць, што вайна за шматок агарода ці размяшчэнне прыбіральні не робіць гонару мужчынам, асабліва калі яны пры ўладзе?

— Нікога няма. Толькі рэдактар зэльвенскай газеты Іосіф Багіна. Калісьці, як я працаваў сакратаром радашкавіцкай раёнкі, ён быў селькорам, а потым мы пісалі яму характарыстыку для паступлення на аддзяленне журналістыкі…

— Вось за яго і трымайся. Да вышэйшага начальства з ім схадзі. Растлумач, што не ў нашых інтарэсах ворага з яе рабіць. А камандзіроўку на колькі дзён выпішам.

І вось 1 чэрвеня 1968 года я ўпершыню пераступіў парог старой, але ўтульнай драўлянай хаты Геніюшаў. Абед пачаўся са спрэчкі, як нам цяпер пісаць: Вільня ці Вільнюс? Я запярэчыў гаспадару, што ў залежнасці ад часу, пра які ідзе гаворка. Калі да восені 1939 года, то, зразумела, Вільня, калі ж пазней, то, безумоўна, Вільнюс як сталіца Літвы. Так робіцца ў нашай энцыклапедыі, іншых аўтарытэтных крыніцах. Іван Пятровіч катэгарычна не пагаджаўся са мной.

— Калі б гэта ад мяне залежала, — абвясціў ён, — то я аддаў бы літоўцам нават Навагрудак. Лепш усё захоўвалася б.

Відаць, гэта быў працяг нейкай сямейнай спрэчкі, бо Ларыса Антонаўна раптам умяшалася з нечаканага боку:

— Беларусі трэба быць асабліва пільнай да заходніх яе межаў. Бо потым можа быць позна… Вазьміце вы Зэльвеншчыну. Каталіцкае духавенства гаворыць, што тут жывуць адны палякі.

— Наколькі мне вядома, — уставіў я свае тры грошы, — масавага перасялення на тэрыторыю Гродзеншчыны з польскага боку не было. Асаднікаў мы не прымаем у разлік, бо потым амаль усіх іх вывезлі на ўсход. Тады застаюцца тут толькі нашчадкі таго мільёна ўніятаў, якія адмовіліся прыняць праваслаўе і, наперакор уладам, сталі католікамі. А ўніяты ж — бясспрэчныя беларусы, бо з праваслаўных.

Да ўступлення Ларысы Антонаўны ў Саюз пісьменнікаў Іван Пятровіч аднёсся таксама скептычна:

— Перш трэба, каб нас рэабілітавалі. А паколькі мы былі грамадзянамі Чэхаславакіі, то гэта сёння пад сілу толькі самому Дубчаку. А да яго — далёка!

Гаспадыня ў гэты час маўчала, пра нешта напружана раздумвала.

Вечарам з Іосіфам Багінам раздумвалі і мы, якім чынам распачаць разбурэнне той сцяны непатрэбнага супрацьстаяння, якая ўсё расла і расла паміж зэльвенскімі ўладамі і сям'ёй Геніюшаў ды некаторых іх суседзяў. І прыйшлі да вываду, што заўтра, у нядзельны дзень, добра было б на калгасным свяце песні і працы, якое мелася адбыцца ў старадаўнім парку, далучыць паэтэсу да мясцовай супольнасці.

Назаўтра Іван Пятровіч катэгарычна адмовіўся пайсці з намі. Ларыса Антонаўна вырашыла ісці адна. Да нас далучыўся яшчэ фатограф з раёнкі (на жаль, не запісаў яго прозвішча). Людзі на свяце аднесліся з цікавасцю і прыхільнасцю да нашага з'яўлення. А гасцінны мясцовы брыгадзір (зноў прозвішча не памятаю) прапанаваў пад'ехаць у поле, каб паглядзець, як каласіцца жыта. Ніва ўразіла паэтэсу сваімі памерамі і дагледжанасцю, і яна некалькі разоў паўтарыла:

— Не горш, як у майго дзеда!

Перад самым вечарам, як мне здалося, мая далікатная місія завяршылася поспехам. Ларыса Антонаўна згадзілася напісаць заяву аб прыёме ў Саюз пісьменнікаў. Але Іван Пятровіч усё даказваў нам, што гэта скончыцца нічым. І, як потым аказалася, меў рацыю.

У панядзелак, перад ад'ездам у Гродна, я разам з Іосіфам Іванавічам Багінам нанёс, як мы жартавалі, візіт ветлівасці ў райкам партыі. Там знайшлі разуменне таго, што дрэнны, нейтральны мір лепш, чым добрая вайна. Казалі пра тое, што не ўсё ад іх залежыць.

А ў Гродне найперш мы ўдваіх з Васілём Быкавым, якога я застаў у рэдакцыі абласной газеты, накіраваліся ў «домік Ажэшкі», да Аляксея Карпюка. Але таго ў сядзібе гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў не аказалася. Месцаў у гасцініцах таксама не было. І Васіль Уладзіміравіч запрасіў мяне начаваць да сябе дамоў. Настрой у яго быў кепскі: толькі што піянеры выканалі дадзеную каманду біць яму вокны. Таму гаспадыня пабаялася начаваць дома, і мы прагаварылі ледзь не да поўначы. Васіль Уладзіміравіч таксама пагаджаўся, што Ларысе Антонаўне лепш быць у Саюзе.

Але назаўтра Аляксей Карпюк ахаладзіў мой запал:

— А вы там у Мінску падумалі, ці будзем мы мець права прыняць яе, неграмадзянку Беларусі, у Саюз беларускіх пісьменнікаў?! А з чэшскім грамадзянствам цяпер усё складана. Іван Пятровіч разважаў наконт гэтага лагічна. Аднак наўрад ці Дубчак пратрымаецца. А без яго хто возьмецца?

Аляксей Карпюк нібы ў ваду глядзеў. Неўзабаве ў Чэхію былі ўведзены савецкія войскі. Мая дыпламатычная місія скончылася нічым.

Другая мая паездка ў Зэльву адбылася вясной 1983 года. Вечарам 7 красавіка пазваніў мне з Гродна Аляксей Пяткевіч і паведаміў, што памерла Ларыса Геніюш. Я тут жа перазваніў Нілу Гілевічу, які тады ўзначальваў Саюз пісьменнікаў. А назаўтра ён, параіўшыся ў ЦК з Сяргеем Законнікавым, папрасіў мяне паехаць на пахаванне разам з Вольгай Іпатавай. Вечарам мы сабраліся ў дарогу з вянком ад Саюза. Білеты ўзялі, натуральна, да Зэльвы.

І вось толькі мы дзесьці за Стоўбцамі ўлегліся спаць, як нас разбудзіла праваднíца вагона і сказала, што мы не павінны сыходзіць у Зэльве, а павінны ехаць да канца — да Гродна. На пероне нас, маўляў, будуць чакаць людзі з абкама партыі. Якім чынам гэтая інфармацыя трапіла ў цягнік і дакладна ў наш вагон, даводзіцца толькі здагадвацца.

У Гродне нас сапраўды сустрэлі на пероне незнаёмыя людзі і адвезлі ў гатэль «Беларусь». Туды, у мой нумар, неўзабаве завітаў намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі абкама Дзмітрый Сцяпанавіч Аляшкевіч, знаёмы мне яшчэ па Астраўцу, дзе ён працаваў сакратаром райкама (потым, дарэчы, добры арганізатар краязнаўства ў вобласці). Ён паведаміў, што мы павінны ў гасцініцы, а потым на пероне чакаць цягніка з Беластока, якім прыедзе з жонкай сын Ларысы Антонаўны Юрка Геніюш, таксама пісьменнік. Далей, у Зэльву, мы паедзем разам, а па дарозе нам трэба, ні болей ні меней, пераканаць сына, што сям'я павінна адмовіцца ад… царкоўнага пахавання нябожчыцы. На гэта мы, не ўдаючыся ў спрэчкі па сутнасці, дружна адказалі, што такое нерэальна.

У шэсць гадзін вечара мы сустрэлі на пероне чыгуначнага вакзала Юрку Геніюша і яго жонку. У дарогу разам з намі сабраліся Данута Бічэль і Аляксей Пяткевіч. У суседнім вагоне ехаў Аляксей Карпюк са сваёй нязменнай пакручастай палкай. Пры неабходнасці яна перакідвалася праз плячо, а на канец яе вешаліся сеткі-пакункі, што выклікала агульную ўвагу прахожых.

У цягніку я падсеў да Юркі Геніюша і, маючы на тое паўнамоцтва, сказаў, што аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР гатовы закупіць у яго, спадкаемцы, рукапісы і найбольш рэдкія кнігі Ларысы Антонаўны, бо вывезці іх у Польшчу ўсё роўна не дазволяць. Пасля доўгіх роспытаў і разважанняў ён згадзіўся. Дамовіліся, што ў Зэльву пасля пахавання выедзе загадчыца аддзела акадэмічнай бібліятэкі ініцыятыўная Лідзія Збралевіч.

Пасядзеўшы ў Зэльве каля труны якіх гадзіны з дзве, мы з Вольгай Іпатавай пайшлі ў гасцініцу. Заглянулі ў нумар да Юркі Геніюша — і замест ранейшага адноснага супакаення засталі вэрхал. Юрка ўжо добра падвыпіў і цяпер пагражаў усім, а найперш Аляксею Карпюку, на якога нехта паспеў ужо нагаварыць розных плётак, што заўтра на пахаванні ён «урэжа ўсю праўду-матку». Данута Бічэль таксама была нечым расстроеная. Я заўважыў, што некаму вельмі залежала не тым, каб нас усіх перасварыць, і ён гэтага часова дамогся.

Назаўтра выдаўся сонечны дзень. На выхадзе я даведаўся, што Карпюк не вытрымаў... 

Назаўтра выдаўся сонечны дзень. На выхадзе я даведаўся, што Карпюк не выцерпеў напружання і са сваім вузялком на кіёчку пашыбаваў у бок вакзала. Большасць збіралася пайсці ў царкву на адпяванне. Да мяне ж, як толькі паспеў выйсці на вуліцу, падбег хлопец (і як толькі ён мяне вылічыў?) і сказаў, што мяне чакае ў райвыканкаме «галоўны». Старшынёй выканаўчай улады аказаўся мой знаёмы па Астравецкай школе Павел Падворны, які папрасіў мяне пералічыць, хто ж будзе выступаць на могілках. Я адказаў, што канчаткова яшчэ невядома. Але запэўніў, што людзі тут сабраліся сур'ёзныя, і ніякіх «эксцэсаў» не павінна быць. Што ж датычыцца паплечнікаў Ларысы Антонаўны па лагерах, якія даволі дружна з'ехаліся, то за іх нам цяжка ручацца, але паспрабую ім сказаць, што рэзкія выказванні наўрад ці будуць садзейнічаць далейшаму набліжэнню пісьменніцы да чытачоў.

Адпяванне ў царкве працягвалася гадзін з пяць («па вышэйшым разрадзе», як сказаў бацюшка). Труну на могілкі несла моладзь на руках. На пахаванні выступілі ад Саюза пісьменнікаў — я, ад Гродзенскага аддзялення — Аляксей Пяткевіч, ад літаратурнай моладзі — Уладзімір Арлоў, які паспеў прыехаць з Полацка, яшчэ нехта. Усе імкнуліся гаварыць пра паэтычнае майстэрства Ларысы Антонаўны, пра яе служэнне знаёмым, землякам, радзіме і менш пра пакуты. Бацюшка ў сваёй прамове даў высокую ацэнку творчасці нябожчыцы («произведения ее будут жить вечно») і адначасова паказытаў нервы атэістам, якія адышлі крыху ўбок («среди тех, кто отступил назад, мало найдется людей с такой кристальной душой»).

За жалобным сталом у хаце выступілі Вольга Іпатава, загадчыца Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР Вольга Церашчатава, якая прывезла з Мінска вянок ад Уладзіміра Караткевіча (сам ён, здаецца, хварэў), паэты Юрка Голуб і Данута Бічэль, Ігар Чарняўскі. Юрка Геніюш падзякаваў сваякам і ўсім прысутным. І, здаецца, застаўся задаволены тым, як прайшло пахаванне. Акадэмічнаму музею ён падараваў пярсцёнак сваёй маці.

Вярталіся мы ў Мінск з пачуццём выкананага абавязку. Павел Падворны таксама застаўся задаволены, што абышлося без «эксцэсаў» і даў нам машыну, каб мы паспелі ў Баранавічах на электрычку.

Аднак назаўтра з самай раніцы раздаўся трывожны званок з Зэльвы. Аказваецца, мэр горада Анатоль Станіслававіч Вярстак вырашыў выявіць усю крамолу ў доме Геніюшаў самастойна. Заявіўся туды з цэлым штатам машыністак і натарыусаў, якія спешна пачалі складаць вопісы ўсіх кніг і рукапісаў, нават танных савецкіх зборнічкаў і брашурак. Юрка Геніюш абурана бегаў па хаце і пагражаў, што зараз усё спаліць. А мэр адбіваўся: «Посмотрите, здесь на снимке люди в царских погонах! Какая контра везде по углам попрятана!»

Пачуўшы пра ўсё гэта, я ліхаманкава пачаў кеміць, што ж рабіць. Ламалася задума вырataваць архіў паэтэсы! Пазваніў у Саюз пісьменнікаў, у дырэкцыю Інстытута літаратуры — там таксама разгубіліся ад такога нахабства. Тады раптам прыйшло ў галаву: трэба паведаміць нашаму сумленню Алесю Адамовічу — ён сябруе з сакратаром ЦК па ідэалогіі Аляксандрам Трыфанавічам Кузьміным! Толькі той у стане даць дзейсную каманду ў Зэльву. Адначасова праз прэзідэнта АН БССР Мікалая Барысевіча, таксама сябра Адамовіча, паднялі на ногі акадэмічную бібліятэку і гараж. Неўзабаве нас ужо чакаў маленькі аўтобус, а ў ім — Лідзія Збралевіч. Па рашэнні дырэкцыі інстытута каманду ўзначаліў Уладзімір Гніламёдаў.

І вось мы заходзім у пачарнелую ад часу і дажджоў хату Геніюшаў. Работа — у поўным разгары: скрупулёзна апісваюцца мінскія зборнічкі апошніх гадоў выдання, якія маюць цікавасць толькі для раённай ці сельскіх бібліятэк. Затое на падлозе валяюцца рукапісы і здымкі, бо як іх апісваць — не ведаюць, сардэчныя. Анатоль Станіслававіч, пабачыўшы чужынцаў, скамандаваў:

— А ну, вон отсюда, здесь совершается серьезное разоблачение!

У адказ на гэта я, стрымліваючы сябе, спакойненька кажу яму:

— Перш чым мы выйдзем, пазваніце, калі ласачка, свайму першаму сакратару райкама партыі. Яму ўжо паступіла ўказанне ад сакратара ЦК. Спецыяльна для вас, шаноўнейшы!

Нешта ў маёй інтанацыі ўсё ж прымусіла яго набраць нумар першага. Спачатку кіпеў, потым пачаў згодна ківаць галавой. Урэшце прамармытаў:

— Все, девчата, пошли по свом местам. Оказывается, они тоже советские, только с высшим заданием.

Праз якую хвіліну месца Анатоля Верстака заняла Лідзія Збралевіч. Мы ўсе ёй дружна дапамагалі. Да нас далучылася кваліфікаваная работніца Гродзенскага абласнога музея Таццяна Маліноўская. І нават супакоены і задаволены сумай дамовы Юрка Геніюш. Але за дзень усё роўна не справіліся. Пайшлі ў гасцініцу.

Дзяжурная, якая ўжо ведала аб нашым прыездзе і пазнала мяне, неяк так лісліўненька спытала:

— Што, золатца вярнуліся шукаць?!

— Але, золата.

— І многа яго па ёй засталося? У царскіх рублях, мусіць?

— Не, у рукапісах, папяровых лістах, значыць. З паэзіяй, вершыкамі, па-простаму кажучы.

— І вы… Вы ўсе гурмам дзеля таго ехалі? Ой, цемніце нешта.

Але мы нічога не цемнілі, бо сапраўды прыехалі дзеля рукапісаў і рэдкіх кніг. Яны ўмясціліся ў сямі мяхах, пазначаных па вуглах лакавымі, ужо райвыканкамаўскімі, а не пасялковымі пячаткамі. На выездзе нас спыніў грозны міліцыянер, кінуўся правяраць нелегальны груз. Але я ўпэўнена сунуў яму пад нос членскі білет Саюза пісьменнікаў. На ім буйнымі літарамі красавалася: СССР. І дадаў:

— Со спецзадания возвращаемся. Торопимся.

У той жа дзень мяхі былі згружаны ў сховішча акадэмічнай бібліятэкі. Для карыстання даследчыкаў. Праўда, толькі з адной умовай, на якую Юрка Геніюш, як спадчыннік, меў права:

— Там ёсць і асабістае. І не толькі мамы, але і іншых людзей, з якімі яна перапісвалася. Таму доступ да рукапісаў абумоўліваю згодай рады з трох чалавек: Алега Лойкі, Арсена Ліса і Адама Мальдзіса. Тэрмінам на 25 гадоў.

Сёння гэты тэрмін ужо скончыўся. І народ даследчыцкі мае права карыстацца рукапісамі Ларысы Геніюш без аніякіх перашкод. Зрэшты, значная частка іх ужо апублікавана.

*2010*

*Рыгор БАРАДУЛІН*

# УНУЧКА ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ, альбо ЗЭК № 0-287

Гордая, няскораная, панавітая. Гэта Ларыса, дачка Антона, Геніюш. У жыцці, як і ў паэзіі, важна, чым спадкаемцам, чым спадчыннікам адчувае і лічыць сябе чалавек, творца. Геніюш адчувала сябе крывінкай крывіцкага роду, нашчадніцай вялікага Адраджэнца, што быў са слаўнага места Полацкага. У вершы «Бывай» у 1942 годзе паэтка пісала:

За прыязні даўняй адзнакі,  
за кожнага нашага сына —  
прымі сёння, Прага, падзяку  
ад ўнучкі Францішка Скарыны!

У 70-я гады, калі ездзілі мы з Уладзімірам Караткевічам у Зэльву да апальнай паэткі, чуў я роспаведзь Ларысы Антонаўны і пра Васіля Захарку, і пра архіў БНР, і пра пячатку, якую перадаў ёй прэзідэнт, а яна яе пацалавала. Распавядала (толькі не ў хаце, бо там і сапраўды сцены вушы мелі), як ад’язджала з Мінска, як паляваў за ёй і сябрамі яе энкавэдыст. Але ўсё казалася паўшэптам, падтэкстам, з азіраннем. Не ўсё тады і ўспрымалася. Цяпер, калі прачытаў «Споведзь», якую Геніюш пісала з поўнай магчымасцю зноў наведаць «архіпелаг ГУЛАГ», зразумеў, што чуў частку нашае гісторыі з першых вуснаў. Прыкра, што ўжо ў нашыя дні выходзяць матэрыялы пра Ларысу Геніюш, дзе ёй навязваецца вітанне фюрэра; у адносінах да Васіля Захаркі прымяняецца марксісцка-ленінскі, каб не казаць іншы, метад знявагі: слова «прэзідэнт» бярэцца ў двукоссе. Гэтак жа можа здарыцца пры наборы, што слова «даследчык» набяруць як «дасьетчык». А дасье амаль на ўсіх мае пэўная арганізацыя і публікацыі давярае толькі сваім людзям.

Не варта, скажам, укладаючы зборнік паэткі, уключаць у яго вершы, што пісаліся як пэўны імгненны водгук, і ў той жа час не ўключаць вершаў біблейскага характару (маю на ўвазе кнігу паэзіі «Белы сон», дзе яўна вылузваецца, напрыклад, верш «Уладзіміру Кавалёнку» і інш.). Верш «Цішыня, я крыху ў задуменні…» мае ўнізе тлумачэнне: «VIII з’езду пісьменнікаў Беларусі, 1981». Верш лірычны, не традыцыйна-савецкі, што абавязкова з вітаннямі і клічнікамі.

На VIII з’ездзе пісьменнікаў апошні раз бачыў я Ларысу Геніюш. Праходзіла гэтае традыцыйна-алілуйнае мерапрыемства з абавязковым сядзеннем кіраўнікоў партыі і ўрада, прытым нехта з іх чытаў прывітанне, аддрукаванае на беларускай мове (хоць у ЦК не было ніводнае машынкі з беларускім шрыфтам), чытаў з такім вымаўленнем, што было бачна, як мучыцца гаварыць на гэтай непатрэбнай партыі мове. Праходзіў з’езд у Палацы прафсаюзаў. Нясмела зайшла Ларыса Антонаўна ў залу, шукаючы месца недзе ў апошніх радах. Я прапанаваў сесці побач. Адразу спыталася, ці не баюся, што яна можа мне папсаваць рэпутацыю, бо не дэлегатка з’езда, без савецкага грамадзянства. Мне было прыемна чуць ад яе не традыцыйнае таварыш, а наскае, беларускае — сябра. Сказала, што паслала мой зборнік вершаў туды, да сваіх сяброў. Тады гэтае «туды» яшчэ аддавала халадком.

У перапынку збегаў я да адказнага сакратара СП (у тыя часіны гэтыя дзве літары азначалі Саюз пісьменнікаў, цяпер ужо — сумеснае прадпрыемства), якога пазней

называлі «кілбасным сакратаром», бо ў СП з’явіўся прадвеснік светлай будучыні — стол заказаў, дзе песнярам у адпаведнасці са становішчам выдавалі харчы. «Кілбасны сакратар» даў загад дзяўчаткам, якія вялі ўлік і ўсе фармальнасці прадпрыемства, выдаць паэтцы Ларысе Геніюш папку, дзе была ціснена памятка пра важную вяху ў развіцці роднае літаратуры, а ў папцы — ручка, блакноцік і справаздачна-накіроўчыя матэрыялы. Прынёс я гэты падарунак ад дружнай сям’і літаратараў і ўручыў Ларысе Антонаўне. Міхась Чарняўскі сфатаграфаваў нас з Ларысай Геніюш, Дануту Бічэль-Загнетаву і мяне.

Спадчына Ларысы Геніюш павінна быць выдадзена поўна і ашчадна. Да гэтае святой і неабходнай нашым душам справы мусяць прычыніцца людзі без ідэалагічных шораў, без жадання пакрасавацца на балючай памяці пакутніцы. Бо атрымлівалася так, што і пры яе жыцці кнігі выходзілі як бы без аўтаркі. Установа, якая апякала паэтку ўсё жыццё, якая мучыла яе фізічна і маральна, выдавала давераным і правераным літаратурным кіраўнікам творы непаслухмянай неграмадзянкі савецкай імперыі, а тыя даручалі паэтам, што стаялі на падхватах, рэдагаваць і ўкладаць зборнік. Дзякуй Богу, што хоць грамадскім рэдактарам «Невадам з Нёмана» быў Уладзімір Караткевіч.

Ларыса Геніюш, толькі ўжо ў савецкім варыянце, паўтарыла лёс Тараса Шаўчэнкі. Ён некалі сказаў: «Украіна не мае сваіх пакутнікаў, дык я ім буду». Нашая пакутніца паўтарыла: «Няхай вернасць мая й любоў мая будуць дастойныя мукаў Тваіх некальківяковых, мая Беларусь! Галінка з Тваяго дрэва, пясчынка з палёў Тваіх, нясу Табе рэшткі жыцця майго й маё сэрца… І так нічога ў мяне няма, нават лісінай норкі, а ў перспектыве сэрца, распятае на заінелых дратох Поўначы за Беларусь… Няхай на маёй асобе спыняцца ўсе пакуты народу нашага».

Яшчэ вольная, яшчэ не гулагаўка, пісала паэтка ў 1943 годзе: «Ёсць такое казачнае слова, / вырванае з рэбраў: Беларусь». Гэта як з рабра Адама Бог стварыў Еву. Казачнае слова не вырвалі з сэрца савецкія паслугачы смерці, ламаючы рэбры, спрабуючы зламаць бунтоўны дух паэткі. Недарэмна адзін сябра казаў: «Што робіце, пані Ларыса, ды ўрэшце я вас ужо не шкадую, я шкадую бальшавікоў, што ім рабіць з вамі? Дзве магчымасці: альбо даць вам высокае становішча, альбо забіць адразу — бедныя бальшавікі!» «Бедныя» бальшавікі не забілі адразу, смакуючы кары і здзекі, забівалі паволі, планамерна, каб балючэй было, каб невыносней.

Цяпер — пра почыркі. Почырк — своеасаблівая кардыяграма душы паэта.

Купалаў. Нецярплівы, імпульсовы, як яшчэ не дакутыя на кавадле, гарачыя яшчэ падковы. Такое ўражанне, што кірыліца для рукі прарока — не спаконвечная. Так і думаецца, што пачынаў з лацініцы.

Коласаў. Самавіты, грунтоўна-разважлівы, гаспадарскі. Кожная літара выпісана да канца, па іх можна ў школе вучыцца пісаць. Цяжка ўявіць, як, напрыклад, выглядала б у яго лацінка.

Багдановічаў. Імпэтны, летуценны, небаўзлётны. Рука анёла нацыі, кніжніка і хутка, і ўпэўнена можа пісаць і кірыліцай, і лацініцай, перапісаць у арыгінале Верлена і ўрывак з летапісу крывіцкага.

Геніюшаўскі. Не ведаю далагернага, вольнага. Ведаю з тых аўтографаў, што маю, паслялагерны. Надрыўны, зрывісты, упэўнены. Рука пакутніцы трымала ручку пасля лома і кайла. Відаць, лацініца лепей бы слухалася спрацаваную на гаспадарцы руку, чымся кірыліца. Пісаць даводзілася замерзлымі пальцамі (так і назвала адзін са сваіх вершаў).

Загадка Багдановіча. Яе паспрабаваў адгадаць наш таленавіты Міхась Стральцоў. Ёсць і загадка Геніюш. Адкуль нязломнасць, адкуль утрапёная, апантаная, шалёная любоў да ўсяго беларускага? Нават пра маленькага хлопчыка кажа яна — Беларусянятка, абавязкова з вялікай літары. Тым самым, як падлётку, жадае яму размаху ў крылах і вышыні ў палётах.

Вядома ж, яна не была саветызаванай ні думкамі, ні словам і выстаяла супраць саветызацыі. Вядома ж, мела характар, які не цярпеў ніякага прымусу, прыгнёту. Прынцып бярэзіны: чым ніжэй хочуць прыгнуць, тым мацней ударыць у адказ, тым імклівей у неба выпрастаецца. Вядома ж, адчувала сябе ўнучкай Францішка Скарыны, аднадуміцай Ефрасінні Полацкай і сястрой Кастуся Каліноўскага.

Можна доўга меркаваць, угадваць, але загадка Геніюш — гэта загадка беларускай паэзіі, менавіта беларускай, бо толькі ёй даводзіцца на ўціск адказваць выбухам.

*1992*

*Валянціна ТРЫГУБОВІЧ*

# «ПРАЦЯГВАЮ ГУТАРЫЦЬ ЗЬ СЯБРАМІ…»

Мне самой ня верыцца, што гэтаму магнітафоннаму запісу ўжо амаль трыццаць гадоў… Бо голас Ларысы Антонаўны гучыць натуральна і сьвежа, а памяць адразу ўзнаўляе абставіны нашай першай сустрэчы; і сьціскаецца маё сэрца шкадаваньнем, што было тых сустрэчаў мала, што не запісала яе голасу больш, што не распытала пра тое і гэтае, што па маладой легкадумнасьці не ўсьвядоміла тады напоўніцу, зь якой унікальнай асобай зьвёў лёс. У мітусьні сямейных пераездаў магнітафонная касэта на доўгія гады патанула ў нейкай скрыні. Але, дзякуй Богу, зьберагласся, і сучасная тэхніка дала магчымасьць «расчытаць» яе і памножыць.

Знаёмства маё з Ларысай Геніюш адбылося ў 1981 годзе на зьездзе пісьменьнікаў. Ён праходзіў у менскім Палацы прафсаюзаў. Я была там як карэспандэнт газэты «Голас Радзімы», а паэтку запрасіў на зьезд тэлеграмаю нехта з сакратароў Саюзу пісьменьнікаў, здаецца — Ніл Гілевіч. (Па тым часе гэта быў сьмелы крок, бо хоць паэтку зрэдку і друкавалі, але ні сябрам Саюзу пісьменьнікаў, ні нават грамадзянкай БССР/СССР яна не была.)

У перапынку, калі ўсе пачалі гуртавацца па інтарэсах, і я ўжо прымервалася, да каго падысьці, каб узяць інтэрвію, бо трэба ж пра зьезд нейкую публікацыю для газэты падрыхтаваць, бачу, што мне махае рукою Фёдар Янкоўскі — слынны мовазнаўца і пісьменьнік, якога «Голас Радзімы» ахвотна друкаваў. «Хадзіце сюды, я хачу вас пазнаёміць…» І падводзіць мяне да відочна немаладой жанчыны з праніклівымі вачыма і шчырай усьмешкай. Размовы не атрымалася, бо маю новую знаёмую адразу «скралі» Данута Бічэль і Валянціна Коўтун, яшчэ той-сёй падышоў павітацца, мастакі Мікола Купава і Аляксей Марачкін засыпалі паэтку пытаньнямі. А Валянцін Ждановіч з часопіса «Маладосьць» хадзіў усьлед з фотакамэрай…

Што я тады магла ведаць пра Ларысу Геніюш?! Пра яе ўсе гаварылі вельмі абачліва і агульнымі словамі. Жыве ў Зэльве, была па вайне асуджаная за беларускасьць, пасьля лягеру не рэабілітаваная, працягвае пісаць вершы. Але ж у «Голасе Радзімы» друкаваліся на той час і Сяргей Грахоўскі, і Станіслаў Шушкевіч — таксама былыя вязьні сталінскіх лягераў. Чаму б мне не напісаць пра зэльвенскую паэтку?! Унь зь якой пашанай павітаўся зь ёю Уладзімір Караткевіч… І я з наіўнай верай у свабоду журналісцкага выбару сказала Ларысе Антонаўне, што хацела б узяць у яе інтэрвію для газэты. «Прыяжджайце ў Зэльву. Спакойна пагаворым».

Зусім інакшай была рэакцыя майго начальства. Як магла я без папярэдняга ўзгадненьня паабяцаць інтэрвію такой асобе?! Яна — актыўная нацыяналістка і не прымае савецкай улады, яе сябры за мяжой — нашы ідэалягічныя праціўнікі, яна падтрымлівае зь імі кантакты. Будзе лепш, калі я забуду і пра гэтую тэму, і пра свае абяцаньні прыехаць.

Але гэтыя засьцярогі толькі падагрэлі маю цікаўнасьць. Пагрозьлівы беларускі нацыяналізм, які няўцямнай страшнай сілай уплываў на мае працоўныя будні, раптам набыў выразнае аблічча. І гэта была прыемная, камунікабэльная жанчына, эмацыйная і разважлівая адначасова. Я прагла зь ёю сустрэцца і паспрабаваць зразумець, у чым яе сіла і чаму яе так баяцца.

Выхаваная савецкай школай і ўсім тагачасным ладам, я была, як гэта разумею сёньня, бясконца далёкая ад рэальнага жыцьця, ня ведала гісторыі сваёй зямлі і народу не тое што тысячагадовай даўніны, але і апошніх, савецкіх дзесяцігодзьдзяў. Пачутае да таго часу ад сяброў — мастакоў і літаратараў — пра Пагоню, бел-чырвона-белы сьцяг

і беларускіх дзеячаў пачатку XX стагодзьдзя было дробным кавалкам шматколернай мазаікі іншага сьвету, які не супадаў з афіцыйным, але інтрыгаваў і прыцягваў. Я мусіла паехаць у Зэльву! Дый мае сябры, якіх пазьней назавуць суполкай «На паддашку», падтрымлівалі гэтае імкненьне. Хоць нічога пэўнага падказаць не маглі.

Тады я паслала Ларысе Антонаўне паштоўку. Маўляў, запрасіце мяне ў госьці пісьмова, спасылаючыся на зьездаўскую размову. Яна адразу напісала. Вось з гэтым лістом я зноў пайшла да галоўнага рэдактара, і мне выпісалі камандзіроўку ў Зэльву (вядома, выказаўшы цэлы сьпіс новых засьцярогаў і парадаў). Дасюль ня ведаю, чаму ўсё ж мяне паслалі. Можа, для дэманстрацыі савецкай свабоды слова? Бо Ларыса Геніюш магла напісаць сябрам на Захад, што маладую журналістку, якой яна паабяцала даць інтэрвію, да яе не пусьцілі…

Быў травень, самы цудоўны месяц для падарожжаў па Беларусі. Я ехала аўтобусам, краявіды лашчылі вока, а я ўсё спрабавала сфармуляваць пытаньні, на якія хацела атрымаць адказы. Потым, вядома, яны ўсе вылецелі з галавы, бо нашы гутаркі з Ларысай Антонаўнай былі мала падобныя на дзяжурнае інтэрвію. Я зайшла на яе ганак з букетам гвазьдзікоў — белых і чырвоных, прывезеных зь Менску ў адмысловым цэляфанавым пакеце. І гэта было як знак, як пароль, як сыгнал да адкрытасьці…

Мы проста гаварылі. Дакладней — гаварыла яна, распавядала пра сваё жыцьцё, пра людзей, зь якімі зводзіў лёс. А я слухала, зрэдку перапытвала. Я ня ўсё разумела, пераважную большасьць імёнаў чула ўпершыню ў жыцьці, мала што занатавала ў блякнот, бо сфармаваная да таго часу ў галаве журналісцкая самацэнзура на нейкай хвіліне нашай сустрэчы выразна дала знаць: напісаць пра гэта ты ня зможаш… Дый мы гаварылі ня дзеля газэтнай публікацыі! Мы проста разам бавілі час — з узаемнай прыемнасьцю.

Нейкую суседку адвялі ў паліклініку — Ларыса Антонаўна яе без чаргі «прапіхнула» на прыём да лекара. (Перад выхадам з хаты апранулася ў крампленавую сукенку, тады вельмі модную. «Сябры з-за мяжы прыслалі. Некалі ў Празе шмат каму зь іх я дапамагала».) Мы гатавалі разам ежу — і яна распавядала пра колішнія норавы і рэцэпты. Дагэтуль памятаю, што яйкі, якіх на Вялікдзень людзі прыносілі неймаверную колькасьць, у сям'і Міклашэвічаў клалі ў вядро з разьведзенай вапнай. І яны захоўваліся сьвежымі нават у сьпёку. Мы зь ёю садзілі фасолю на градках, папярэдне падрыхтаваных кімсьці зь яе зэльвенскіх прыхільніц. А кветнікам, натуральна, любаваліся не адзін раз. Якраз цьвілі туліпаны…

За няпоўныя два дні колькі ўсяго было перагаворана! Спантанна, бессыстэмна. Быццам мы зматалі клубок зь нітак рознай даўжыні, і я праз усё далейшае жыцьцё потым старанна яго старалася разматаць, каб зьвязаць тыя кавалкі ў адну доўгую нітку яе жыцьця і творчасьці. Праз гады, чытаючы апублікаваную «Споведзь», я радасна пазнавала тыя фрагмэнты тэксту, зь якімі ўпершыню пазнаёмілася ў Зэльве, у старасьвецкім доме на вуліцы Савецкай. Пра допыт Цанавы, напрыклад. Яшчэ больш знаёмых факталягічных ды інтанацыйных драбніцаў сустрэла ў лістах Ларысы Антонаўны да сяброў у замежжы, якія выпала сёлета рыхтаваць да друку. І была ўзрушана яе цёплымі словамі пра мой побыт у Зэльве.

Як шкадую, што не занатавала тады нашых размоваў! Здавалася, наперадзе — вечнасць, сустрэчаў будзе яшчэ шмат. Лавіну атрыманых ведаў трэба было перш неяк упарадкаваць, асэнсаваць. І было адчуваньне, што ня ўсё з пачутага можна адкрыта пераказваць у Менску. Вось нават і цяпер я ня ведаю, ці засталіся дзе-небудзь пісьмовыя сьведчаньні пра тое, што князь Сьвятаполк-Мірскі, які меў нямецкае грамадзянства і, падобна, сям'ю ў Нямеччыне, па вызваленьні зь лягеру зрабіў ёй прапанову пабрацца шлюбам, каб выехаць зь ім за мяжу. Такім чынам хацеў уратаваць паэтку. Але яна адмовілася, бо ня здольная была пакінуць свайго Івана Пятровіча. А князь Базыль, даю-

чы потым у вольным сьвеце інтэрвію пра свае лягерныя гады і сустрэтых на расейскай Поўначы слынных беларусаў, імёнаў не называў, баючыся зашкодзіць гэтым людзям. (Інфармацыйную паездку Базыля Сьвятаполка-Мірскага па Эўропе ў 1957 годзе асьвятляла газэта «Бацькаўшчына», і распавядаў мне пра яго сёлета спадар Янка Запруднік, адзін з тых, хто гутарыў тады з князем. Але імя паэткі ў іх размове не гучала.)

Ларыса Антонаўна, пэўна, бачыла маю агаломшанасьць пачутым, бо неяк пасярод размовы раптам спынілася і прапанавала мне пасядзець у шэзьлёнгу на двары. А каб не нудзілася, дала пагартаць сваю першую кнігу — «Ад родных ніў». Я пачала яе чытаць, ужо ведаючы пра «раскіданае гняздо» сям'і Міклашэвічаў, пра вайну і Прагу, пра мужа і сына Ларысы Антонаўны, пра Інту і Абезь…

І зьведала новы выбух эмоцый: такія простыя, шчымліва шчырыя вершы, а іх аўтарку — у лягер?! Як такое можа быць?! Чаму? І як удалося ёй зьберагчы на гэтым пакутным шляху прагу жыцьця, трываласьць веры, душэўную цеплыню? Ня ведаю, колькі я прасядзела ў двары — з мокрымі вачыма і мінорным настроем. Але прыйшла Ларыса Антонаўна, весела сказала, што так доўга загараць шкодна, склала шэзьлёнг, забрала кніжку — і мы пайшлі пячы бісквіт, які яна намерылася празь мяне перадаць у Менск мастаку Яўгену Куліку — гаспадару майстэрні «На паддашку».

Яўген, трэба сказаць, быў вельмі калярытнай асобай. Памятаю, калі мы пасьля зьезду праводзілі Ларысу Антонаўну на чыгуначны вакзал (было холадна, ліхтары адбіваліся ў лужах, яна была ў лёгкім плашчыку), і мастакі навыперадкі стараліся распавесьці ёй нешта сваё, такое важнае і разумнае, Яўген раптам гучна сказаў: «Мне можна вас пацалаваць?» Сытуацыя неяк адразу з хадульна-параднай ператварылася ў цёплую, чалавечую. А празь нейкі час у «Гродненской правде» быў апублікаваны верш Ларысы Антонаўны з гэткім рэфрэнам — пра пацалунак.

У час зэльвенскай сустрэчы я атрымала, так бы мовіць, і першыя парады па канспірацыі. Распавядаючы пра сваё жыцьцё, паказваючы мне атрыманыя з усіх куткоў сьвету лісты («вось гэта ад Галіны Тумаш з Амэрыкі, а гэта нехта зь Менску бяз подпісу павіншаваў…»), Ларыса Антонаўна жыва цікавілася маімі менскімі сябрамі. І пад канец сустрэчы выказала просьбу: абмеркаваць зь імі важнае для яе пытаньне і даслаць ёй высновы. Ці пісаць ёй заяву наконт прыняцьця савецкага грамадзянства ці не пісаць? Яна ў роздуме. Той-сёй зь яе блізкіх сяброў, маўляў, раіць ёй гэта зрабіць, бо тады яе прымуць у Саюз пісьменьнікаў і Літфонд зможа фінансава яе падтрымліваць, зьменшыцца або й зусім здымецца нагляд спэцслужбаў за ёю. Стамілася яна адзінокай сасною стаяць пры дарозе. Разам з тым яна бачыць, што падрастаюць маладыя аднадумцы. Можа, яна ім больш патрэбная такая, нязломная? Але, каб мае лісты не «згубіліся» на пошце, мушу пісаць не пра грамадзянства, а пра парады лекараў — раяць яны ці не раяць ехаць ёй адпачываць на поўдзень, у Сочы…

Забягаючы наперад, скажу, што менскі «кансыліюм» выказаўся супраць пісаньня заявы. «На паддашку» Ларысу Геніюш успрымалі як сымбаль, як сьцяг, як узор служэньня Беларусі. Захапляліся ёю і імкнуліся ёй насьледаваць хоць у чым. І з часавай адлегласьці, ведаючы пра паэтку сёньня значна больш, чым ведала пры яе жыцьці, я перакананa, што не было ў яе сумненьняў наконт пісаньня тае заявы. Проста яна такім чынам выпрабоўвала людзей, правярала іх гатовасьць да служэньня Бацькаўшчыне. Гэта быў свайго роду тэст.

Вось тады і ўзьнікла раптам у нас ідэя запісаць паэтычнае пасланьне гэтым сябрам на магнітафон. Я ўзяла яго з сабою ў камандзіроўку, каб занатоўваць пытаньні-адказы, аднак дзеля гэтага, так атрымалася, ён не прыдаўся. А вось начытаць вершы Ларыса Антонаўна пагадзілася адразу. І гэта былі адны зь лепшых гадзінаў нашага спатканьня! Уявіце, позьні вечар, амаль ноч, дзьверы зачыненыя, і ніхто сваім прыходам не будзе

перабіваць нашай гаворкі, як гэта ня раз надаралася ўдзень. Па ўсім ложку раскіданы паперы — рукапісныя і машынапісныя. Ларыса Антонаўна выбірае верш на свой густ, я ўключаю магнітафон — і дрыжу ад хваляваньня і напружаньня. Яна так прыгожа, так эмацыйна чытае! Адчуваецца, што ёй моцна не стае свабоды публічнага выказваньня, аўдыторыі, здольнай слухаць і чуць. Яна стала б кумірам натоўпу, пусьці яе чытаць на стадыён. Узмахам рукі (як крылом чайкі — адразу выскоквае ў сьвядомасьці параўнаньне) яна адкідае ўверх пасму сівых валасоў, а голас гучыць молада, бадзёра, яна ўся нібы сьвеціцца знутры. Ёй вельмі падабаецца наш занятак. Мы робім паўзу, каб праверыць якасьць гучаньня, і калі зноў магнітафон уключаецца на запіс, яна ўсхвалявана гаворыць: «Працягваем гутарыць зь сябрамі».

Па маім вяртаньні ў Менск тая паўгадзінная стужка нейкі час хадзіла па руках, цяпер яна перапісаная і памножаная без купюр ці дадаткаў. У яе, спадзяюся, будзе значна больш слухачоў, чым было іх у 1981 годзе.

Сустрэцца з Ларысай Антонаўнай мне больш не давялося. Але мы перапісваліся да яе апошніх дзён. Мая публікацыя ў «Голасе Радзімы» зьявілася толькі ў жніўні, там былі зьмешчаныя і некалькі вершаў Ларысы Геніюш. А ў маім тэксьце адзін абзац быў дапісаны рэдактарам (на шчасьце, даволі далікатна).

Паэтка адгукнулася на гэтую публікацыю: «Маіх знаёмых зьдзівіла ня так ваша стацьця, як сам факт яе надрукаваньня. [...] Цікава, ці будуць водгукі на ваш артыкул аб маёй асобе? Многа хто будзе рад з вашых прыхільных да мяне слоў». (Ліст ад 29 жніўня 1981 году.)

Гэтых «прыхільных слоў» з гадамі ўсё большае. І я не стамляюся дзякаваць Богу, што Ён паставіў некалі на маім жыцьцёвым шляху такую абаяльную, таленавітую і нязломную ў сваіх перакананьнях жанчыну — паэтку і змагарку Ларысу Геніюш.

*2010*

# «ТАКІХ ЛЮДЗЕЙ БОГ СЕЕ НЯЧАСТА...»

## ЛІСТЫ ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

24 жніўня 65 г.
Уладзівасток.

Дарагія Ларыса Антонаўна
і Іван Пятровіч!

Магчыма, Вы ўжо і адказалі ў Мінск на мой папярэдні да Вас ліст. Але маці была ў Кіеве, зараз у Оршы, а я – аж унь куды мяне занесла, на Прымор'е, ва Уладзівасток. Ужо тры тыдні тут, днямі еду па краю, а ў канцы верасня буду збірацца дадому, у Мінск. Так што і не ведаю, ці варта будзе Вам пісаць сюды. Тыдзень ліст будзе ісці да Зэльвы, тыдзень – назад, пакуль Вы збярэцеся напісаць, – глядзіце, словам. Мой тутэйшы адрас: Владивосток – 9, до востребования, мне.

Працуем мы тут у рэдакцыі „Баявой вахты", газеты флота, дапамагаем ім нічога не рабіць. За тры тыдні праверыў пару матар'ялаў, надрукаваў верш ды напісаў артыкул, нарыс аб адным тут падводніку (не ў чэшскім, вядома, сэнсе гэтага слова, а ў рускім).

А для сябе зрабіў шмат. Перапраравіў раман у адпаведнасці з заўвагамі Лужаніна (у большасці месцаў, там, дзе разумеў ягоную рацыю для іншых), напісаў трэці варыянт сцэнара.

Заўтра ўсё гэта дашлю авіяпоштай у Мінск. Хай там разбіраюцца. Пакуль прыеду – глядзіш сёе-тое і вырашыцца.

Ларыса Антонаўна, даражэнькая, які ж гэта ў Вас быў настрой такі страшны?! Не трэба гэтага. Спадзяюся, ён ужо мінуў, а калі не – вельмі балюча.

Разумею цяжкасць усяго перажытага, і тое, што жыццё біла і б'е, ды яшчэ і не шкадуючы. Але Вас я ў тым лісце не пазнаў. Пагана ўсім, хто вышэй за ўсё цэніць самастойнасць думкі і сваю, асобную сцяжыну. У розных маштабах пагана, але ўсім. Але ж Вы больш за іншых так званых мужчын білі сваю сцежку і з самага пачатку ведалі, што гэта такое і чаго можна чакаць.

Ну добра Рыгору Барадуліну. У яго іншай дарогі няма. Як нарадзіўся на вёсцы ў адной мове, так і памрэ. Бо інакшай проста не можа, фізічна няздольны. А Вы ж з тым жа поспехам маглі пісаць па-польску: gente albarutenus, natione polonus, мелі б і поспех і, можа, любоў. А я мог бы куды з большым поспехам у жыцці, з грашыма і славай, пісаць па-руску, або, падвучыўшы трошкі, таксама па польску. Мы маглі б гэта зрабіць, мелі-б зараз статысячныя тыражы, дачы, рознае там лаўрэацтва, дзяржаўнае ці там (якая там у Польшчы

## 1. ПЯТРО ГЕНІУШ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*20 сентября 1952 г.*

Дорогая, милая моя деточка!

Письмо Твое от 1 сентября 1952 г. получил сегодня и спешу Тебе с ответом. Напрасно Ты думаеш, что я про Вас всех забыл. Нет, я не забыл и каждый день утром и вечером Вас всех поминаю в своей молитве и отдаю Вас всех воле Всевышнего, так как я лично Вам помоч ничем не могу. Моя жизнь пускай будет мне одному извесна. Видно, так Богу угодно. Ни я и не Вы одни, а много людей разбросано по всему земному шару и не знают друг про друга, как кто живет. От старческого сердца советую Тебе с терпением перенести все то, что Бог дает человеку, на то Его воля, видно, мы у Бога на это заслужили, а поэтому должны с терпением все переносить, но знай, что Бог больше имет, чем раздал.

Вот все, что я могу Тебе написать и посоветовать, и если будеш жить по моему совету, то Твоя печаль в радость исполнится. Крепись и мужайся и не забывай Бога, и Он Тебя не забудет и печаль Твою в радость превратит. Я всегда со всем мирусь, что посылает Бог. Он отнял у меня силы и здоровье, приковал меня к кровати, и уже более года, как я один так все переношу, будучи окружон со всех сторон врагами и за все Его благодару и буду Его благодарить до последних дней своей жизни. Да будет Его воля надо мною.

Ты не имееш понятия, как люди живут в нашей местности, за куском хлеба ездят за десятки верст, многие разлучены от мужа и детей, а все таки живут и за все благодарят Бога. Ох как мне тяжело писать Тебе такие письма, но Ты меня заставила. Я думал, что мое моление для Тебя будет легче переносить. Дни и часы моей жизни сосчитаны и не знаю, придется ли мне больше писать Тебе, но знай, что о дне моей смерти получиш телеграму и по смерти не поминай меня лихом. Довольно прожил, 85 лет, время умирать. Если Тебе будет суждено быть в нашей месности, то от людей подробно узнаеш про всю мою жизнь, написать Тебе сам не могу. На этом кончаю писать про себя.

Янак очень редко пишет, но как видно, мирится са своей жизнью, пишет, что пока жив и здоров, и как Тебе извесно, что он не любит много писать, а больше всего открытку. Про своего любимца Юрачку никаких сведений не имею. Да пускай его Бог хранит от всех бед. Никого из Твоих знакомых на местах нет, все разехались по земному шару, кто за хлебом, а кто и по другим причинам. Только я один решил умереть на месте. Лабовичи тоже разехались в разные стороны и все отдельно, кто куда. Миклашевичей и Васильчуков тоже ни одной души нет, и где они, я не знаю.

На этом кончаю, может быть, и последнее мое Тебе письмо, силы окончательно ослабли. И так, дорогая и милая моя деточка, отдаю Вас всех в руки Всевышнего и со слезами на глазах прошу Его, чтобы Он хранил Вас всех от бед и Вашу печаль превратил в радость. Да будет благословение Господне на Вас всех всегда. Ныне и присно и вовеки веков. Аминь.

Вас всех любящий до гроба отец *Петр Гениуш*.

Не забывайте меня в своих молитвах.

## 2. ВУЧКА ДРАГА — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*12 августа 1956 г.*

Милая Лариса А.!

Вашу откритку и посилку сегодня получила. Большой Вам спасибо за Ваше внимание. К нам всем особенно ко мне. Мы все были тронуты до глубины души. Я конечно всех наших девочек угостила, конфетам и печением, а также Ану Петровну. Лариса

милая, я Вам должна сказать скоробное известие: Василий Иванович Мирский лежит перед смерти. Врачи ему придлагают ампутировать ногу выше колена, он не соглашается, как будет дальше не знаю?

Его кузена, Набокова, теперь со мной в месте, бедная, несчастная и бес помощная старушка. Она сегодня мне жаловалась, что ничем не может помочь своему кузену. Я решила кое-что ему послать из того, что у меня есть, что мне Бог послал и хорошие люди. Лариса дорогая, я знаю, что это для Вас будет большой удар, но мне кажется, что я обязана Вам сообщить.

Прошу извинения за то, что так кротко пишу, поверите, что у нас никого не была марки ни конверта. Теперь получила я от Вас 10 рублей и сразу купила марки и напишу и Вам и Леону.

Обстановка у нас ужасная. Осталось еще нас 26 политзаключени, а 1700 убеицев и воров. Честно Вам говорю, что бывает такие минуты, что не хотется больше жить на этом не справедливом свете.

Как Ваши дела? Пишет ли Юручка? Лариса милая то что мы тепер переживаем этого еще не переживали за вес наш срок. Алиса совсем упала духом. Леон пишет по прежнему каждей день. Я ему отвечаю раз в 10 дней. Лариса у меня нет больше сил. Тепер я совсем одна, даже и Дора уехала на 3 Л/О. Тепер у этих люди, которые комиссия оставила, большие срока. Здесь только тепер несколько монашок. Остальные все бандити.

Лариса друг мой если когда нибудь овобождусь, обезательно зайду к Вам, конечно если Вы разрешите? Еще раз блогадарю за все Ваше хорошее для меня и нашего брата.

За косинку крепко Вас целую, все мне за ее завидуют, особельно Катя.

Привет Ивану Петрович. Вас еще раз благодарю и крепко целую, Ваш друг *Драга*.

P. S. Василий Иванович не может сам ни писать ни кушать… Привет Вам от Алисы и Ани Петровны.

## 3. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Гродна, 22 жніўня 1960 г.*

Ларыса Антонаўна!

Вось я ўжо еду ў Маскву, а нічога Вам не зрабіў. Не ведаю, ці прыехаў Юрка? Нарада наша перанесена на канец кастрычніка. Абяцалі мяне вызваць на яе з Масквы. Калі гэта будзе так, абавязкова прыеду па Вас, як дамаўляліся. Мелася быць у верасні, але 23–24-га прыедуць у Гродна малдаўскія пісьменнікі з нашымі, і давялося перакласці на кастрычнік.

Што новага ў Вас з сынам? Пішыце мне на Маскву.

Прывітанне Івану Пятровічу і Валі!

Мой адрас: г. Москва, ул. Добролюбова, 9-11, к-та 180, Карпюк Алексей Никифорович.

Будзьце здаровы.

*Аляксей.*

## 4. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*19 кастрычніка 1960 г.*

Прывітанне, дарагая Ларыса!

Вялікі Вам дзякуй за памяць. Вы самі не ўяўляеце, як прыемна тут атрымаць пісьмо ад сяброў і знаёмых.

На жаль, Вы чамусьці не пішаце, што з Юрыкам? Чаму ён прыедзе толькі на Новы год? Чаму не раней? Як Ваш унук, як нявестка. Як пажывае Іван Пятровіч?

Пра Васілька. Да яго мы ўсе вельмі добра адносіліся, і ў трагедыі найбольш вінаваты ён сам: не сцярог сябе! Верш Ваш добры, але атрымаў я яго запозна. Быў бы ён раней, мы абавязкова надрукавалі б яго ў тых нумарах газет, у якіх друкавалі іншыя вершы, якія прысвячаліся смерці Васілька. Цяпер з ім пачакаем да юбілею Міхася.

З тону Вашага пісьма я адчуў Ваш настрой і маральныя пакуты, але пацяшаць мне Вас няёмка: Вы — чалавек бывалы і загартаваны, і ўсякія непаладкі не надта Вас даканаюць.

Наконт Вашага абяцання прысылаць мне вершы магу сказаць Вам толькі наступнае: Вы мне гэта гаворыце з 1957 г., а абяцанага чакаюць толькі тры гады… Гэта так сабе. А наагул — прысылайце, буду вельмі рады!

Пішу Вам на лекцыі і хаваюся, каб выкладчык мяне не злавіў: сяды-тады гляджу на яго «разумнымі» вачыма, вось чаму пісьмо маё атрымліваецца адрыўкамі. Даруйце мне, спозненаму студэнту!

У канцы гэтага месяца мелася адбыцца ў Гродне нарада пісьменнікаў, пра якую ў нас была мова. Але ж цяпер, відаць, не час: Васілька няма, мяне — таксама, і нараду адклалі. Выберам другі час больш удала.

Паеду дахаты чысла 27 кастрычніка і буду да 10 лістапада. Калі буду ў Вашых краях, то ўбачымся абавязкова. А хутчэй за ўсё ўбачымся пасля Новага года, калі ў мяне 1,5 месяца канікул (з 28 снежня да 10 лютага 1961 г.).

Такім чынам, Ларыса, духам не падайце! Порах трымайце сухім і час ад часу пускайце яго ў дзеянне! Адным словам — нос дагары!

Прывітанне Івану Пятровічу: я памятаю, што вінаваты яму за кніжку Еўтушэнкі!

Прывітанні Валі і ўнуку!

Ваш *Аляксей*.

## 5. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*21 лістапада 1960 г.*

Прывітанне, Ларыса!

Быў я ў гродзенскага начальства, паказваў ім Ваша пісьмо, яны пры мне званілі ў Зэльвенскі райком, і там сказалі, што наківаюць кляўзнікам, каб пакінулі Геніюш у спакоі. Пакінулі? Напішыце!

Ваш верш «На сьмерць Васілька» аддаў у «Гродзенскую праўду», меліся даць на 13 лістапада, але не ўлез у падборку, Колас абяцаў даць калі-небудзь іншым разам. Праўда, яго абяцанне часамі — адмова. Адным словам, вершу Вашаму не пашанцавала. Пішыце больш, іншыя, магчыма, будуць больш шчаслівыя.

Штосьці Вы мне анічога не напісалі пра Юру, нічога — пра нявестку, унука, пра Івана Пятровіча. Я не адпісаў адразу, як прыехаў у Гродна, але думаю, што Вы не надта пакрыўдзіліся і даруеце маскоўскаму студэнту, жыццё якога праходзіць у тралейбусах, на лекцыях, у метро, у інтэрнаце.

Бывайце здаровы! Пішыце. Ваш *Аляксей Карпюк*.

## 6. АЛЕГ ЛОЙКА — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 19 лютага 1962 г.*

Добры дзень, добрага здароўя, паважаныя Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Ужо споры кавалак часу, як атрымаў Ваш ліст, шаноўнейшы Іван Пятровіч, і даруйце мне, што адразу не сабраўся з адказам, а цяпер, і сабраўшыся, не на ўсе Вашы пытанні змагу адказаць. Абнадзеіць Вас, напрыклад, з дэрматалогіяй і хірургіяй магу вельмі няпэўна. Та-

варыша свайго я бачыў, гаварыў на гэты конт, але дабыць іх яму — вельмі цяжка. У кнігарні дэмакратычнай кнігі я дагэтуль так яшчэ і не быў. Кожны дзень выбіраюся, і ўсё з-за розных нечаканых паваротаў не даходжу да яе. А статуэткі я і сам, як кажуць, лаўлю. Як толькі штонебудзь людскае выплыве дзе, дык не забуду, што і Вы пра іх марыце.

Чэшскі таварыш вось-вось павінен паехаць у Вільнюс, якімі будуць яго далейшыя планы — не ведаю.

Вы пытаеце мяне аб здароўі. Дык вось, яно мяне вельмі і вельмі падвяло ў Новым годзе. Я ж сапраўды выбіраўся са Слоніма да Вас: першы тыдзень выпісваў свае задумы, пахвалюся, з поспехам, бо напісаў цэлых паўтара дзесятка вершаў; на другі тыдзень планіраваў паездкі. Яшчэ не скончыўся і першы тыдзень, як мяне, каб яго маланка, прыгалубіў гэты грып-азіятчык. Я злёг, і — ні з месца. Адпусціла тэмпература — тут злягла цешча. Добра, што майму бацьку ўдалося дастаць нам таксі, і мы, трое хворых (Паўлік перад самым Новым годам захварэў на свінку), дабіраліся да Мінска. Хварэлі грыпам усе — жонка, дзеці. У цешчы і дачкі грып даў ускладненні на лёгкія. Тонечку яшчэ дасюль ходзяць колюць. Так што ўсё гэта нявесела.

У астатнім у мяне — праца. Пішу для «Маладосці» аб рамантычным у паэзіі. Упрытык узяўся за акадэмічную тэму — беларуска-польскія сувязі ў XIX ст. За мной і за яшчэ адным таварышам гэтую тэму ў Маскве ўжо зацвердзілі, зацвердзілі і нашы тэзісы. Цяпер трэба тэрмінова пісаць самую работу. Гэта, калі пашанцуе, стане білетам на Славісцкі кангрэс 1963 года ў Сафіі.

Будзеце ізноў у Мінску, ці Вы, Іван Пятровіч, ці Ларыса Антонаўна, абавязкова заходзьце да нас, будзеце заўсёды жаданымі госцьмі.

Калі буду цяпер у Слоніме — не ведаю. Але думаю, што буду ў лепшы для сябе час, і ўжо не міну вашай гасціннасці.

Да добрай сустрэчы ў Мінску ці Зэльве!

З заўсёднай павагай, са шчырым прывітаннем — Ваш *Алег Лойка*.

## 7. ТОДАР ЛЕБЯДА — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*9 красавіка 1962 г.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Вельмі шкадую, што не маю магчымасці наведаць Вас па дарозе з Гродна, бо спяшаюся на працу. У Гродна цікавіўся грампласцінкамі, заходзіў у шмат якія магазіны, але там нічога цікавага для Вас не знайшоў. Ноты ж «Слонімскага вальса» і «Слонімскай лірычнай» вышлю Вам у бліжэйшыя дні.

Яшчэ раз дзякую Ларысе Антонаўне за яе падарунак — папараць. Доктара Астроўскага не мог наведаць, бо не хапала часу. Шчыра запрашаю Вас наведаць мяне ў Альбярціне ў зручны для Вас час.

*П. Шырокаў*.

## 8. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Гродна, 5 лістапада 1962 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Вельмі няёмка, што Вы прымаеце нас заўсёды так сардэчна, а я Вас і Івана Пятровіча — на хаду, няўважліва, негасцінна. Пад Новы год атрымаем новую кватэру, і тады мы з Інай Анатольеўнай рэабілітуем сябе, будзем Вас сустракаць як трэба. Але самае галоўнае ў маім пісьме не гэта.

Ад'ехаліся мы ўчора ад Зэльвы, і першы раз мне зрабілася так непрыемна. На самой справе, кніжкі мае выходзяць па ўсяму Саюзу, я сам маю ўсё, што хацеў, а заяўляюся да людзей з вельмі складаным жыццёвым шляхам, ад каторых часова адвярнулася фартуна, і іграю з імі нейкага багадзецеля: наабяцаю, нагавару, нахвалюся, каб праз гадзіну аб усім забыць і ўспомніць зноў пры выпадку. А тым часам жыццё не стаіць на месцы, і час няўмольна дабаўляе маршчын і апусташае адных і…

Бліжэй да справы. Учора хтосьці падаў ідэю: выдаць Ваш зборнік. З жахам цяпер я бачу, што кніжку можна было выдаць ужо даўно. Мы спатыкаліся апошні час некалькі разоў, і мне, балдзе, не прыйшло ў галаву прымусіць Вас здаць зборнік у выдавецтва.

Мае парады. Трэба неадкладна ўзяць Вам кніжку, напісаць заяву і гэтыя дзве рэчы выслаць па адрасу: г. Мінск, праспект Леніна, Дом друку, Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Аддзел мастацкай літаратуры, старэйшаму рэдактару Алесю Бажко.

Вам дарагія вершы, якія друкаваліся ў «Раніцы». Калі вельмі хочаце іх уключыць, дык трэба іх знайсці. Неадкладна высылайце пісьмы сябрам, няхай шукаюць. І самі не зявайце. Я званіў сёння ў Гродзенскі архіў — «Раніцы» там няма. Я Вам шчыра раю: кіньце сваіх парасят на два-тры дні на суседак, за гэты час чорт іх не возьме (вядома — парасят, а не суседак), і едзем з намі ў Мінск. Іван Пятровіч пабудзе за Вас на Коласаўскіх памінках, а Вы пакапаецеся ў архівах і дабярэцеся да зборніка, што Вам дарагое. У Мінску самі не ведаеце, куды і да каго звяртацца, а Вам трэба дайсці да спецфондаў. Мы з Васілём [Быкавым] сколькі зможам, будзем дапамагаць. Зноў такая аказія трапіцца не хутка.

Такім чынам, рыхтуйцеся з Іванам Пятровічам у дарогу, нам амаль нічога не будзе каштаваць Вас падкінуць. 9 лістапада ў 12 гадзін я пазваню ў аптэку, і Вы скажаце свае меркаванні. Магчыма, прыдумаеце лепшы варыянт. Калі згодны з маім праектам, то я яшчэ паспею пазваніць Броўцы і забраніраваць для гродзенцаў месца дадаткова.

Між іншым, маіх «Партызан» Вы ўпарта ігнарыруеце. Ладна. Але Васілёву «Трэцюю ракету» зараз жа прачытайце. Гэта — найлепшая мастацкая кніжка пра вайну ў савецкай літаратуры, яна ўжо нават выдана на пяці замежных мовах, а напісаў яе наш зямляк, братка-беларус.

А яшчэ павінен Вам сказаць, што Вы няўважлівая. Мая Іна Анатольеўна напісала некалькі… вершаў! Так, так. І дурыла мне галаву два месяцы, каб ехаць у Зэльву. Тыдзень збіралася і ехала да Вас, як да рымскага папы, каб пахваліцца. Некалькі разоў збіралася Вам прадэманстраваць свой талент, але Вы яе не зразумелі, эх!.. Павезла з Зэльвы ў Ваўкавыск вучнёўскі сшытачак з жоўтай вокладкай не адкрыўшы, толькі моцна памяла, нібы тая цётка, што вяла з кірмаша непраданую карову.

— Ну, чаго ты хочаш ад яе? — супакойваў я жонку па дарозе. — Ларыса — паэт, гэта не тое што наш брат празаік-псіхолаг, які адразу здагадаўся б, што да чаго, а не саваў бы вянок цыбулі!..

Вось так. Шчырае прывітанне з выпадку свята, моцна цісну Вашу «растерянную» руку, а таксама руку няўтомнага і вечна жывога Івана Пятровіча.

Ваш *Аляксей Карпюк*.

P. S. Вы пішаце вельмі неразборлівыя пісьмы. Хацеў Вам на гэта звярнуць увагу, ды ўбачыў, што і сам пішу — нібы прафесар медыцыны рэцэпт, і таму друкую на машынцы.

## 9. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*16 лістапада 1962 г.*

Ларыса Антонаўна!

Высылаю Вам жончын верш без яе дазволу, але вернецца са школы, і я ёй скажу пра гэта. Яшчэ пасылаю «Василия Тёркина на том свете». Ён напісаны ў 1955 г., і для таго часу гэта было здорава. Пару вершыкаў — Барыса Слуцкага.

Усе гэтыя рукапісы прашу мне вярнуць, калі прачытаеце. А цяпер вышліце мне неадкладна тое, пра што казалі па тэлефоне: вершы Пастэрнака, Ахмадулінай і г. д. Абяцаю Вам вярнуць іх зараз жа, як толькі прагледзім мы з Інай.

З прывітаннем — *Аляксей Карпюк*.

## 10. МІКОЛА ПРАШКОВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*8 траўня 1963 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Толькі ўчора атрымаў я 4 нумар «Полымя» і, калі пачаў знаёміцца са зместам, адразу ўбачыў Ваша імя. Гэта мяне вельмі ўсцешыла, проста нельга перадаць, наколькі я быў задаволены, што Вы зноў прыйшлі ў нашу літаратуру. Не думайце, што раней мы пра Вас як паэта нічога не ведалі і не чыталі Вашых твораў. Цяпер жа тым больш для нас, маладой беларускай інтэлігенцыі, радасць, што Вы зноў пачнеце актыўна супрацоўнічаць у друку, а будзем спадзявацца, што ў хуткім часе дачакаемся і зборніка Вашых вершаў.

Я не ведаю, ці дойдзе мой ліст да Вас, бо толькі ведаю, што жывеце Вы ў Зэльве. Буду на гэта спадзявацца. З якой радасцю і асалодай я чытаў Вашы вершы ў «Полымі»! Не думайце, што гэта красамоўства, гэта сапраўды так. І мне захацелася напісаць Вам, шчыра падзякаваць за гэтыя цудоўныя вершы. Прабачце, калі гэта, магчыма, не зусім тактоўна.

Я — аспірант па старажытнай беларускай літаратуры, з Мінска мяне паслалі вучыцца ў Ленінград, тут я ўжо другі год, спадзяюся, што ў хуткім часе вярнуся на Радзіму. Выпісваю і чытаю нашы часопісы, радуюся новым добрым творам нашых пісьменнікаў — як старэйшага пакалення, так і моладзі, такім, як: «Людзі на балоце», апавяданням М. Стральцова, Б. Сачанкі, І. Чыгрынава, В. Быкава і другіх, вершам і прозе Караткевіча, асабліва вершу «Паўлюк Багрым», які я вывучыў на памяць і пастаянна паўтараю пра сябе.

Спадзяюся, што Ваша добрае імя зойме пачэснае месца сярод нашых лепшых пісьменнікаў і паэтаў.

Дарагая Ларыса Антонаўна! Прабачце яшчэ раз, што патурбаваў Вас сваім доўгім і сумбурным пісьмом. Я даўно чакаў, калі з’явіцца Ваша імя ў друку, чакаў і не верыў гэтаму, спадзяваўся і зноў пераставаў верыць, што буду чытаць Вашы новыя вершы. І таму радасць для мяне была вельмі неспадзяванай.

У заключэнне жадаю Вам вялікіх поспехаў у працы і шчасця, і перш за ўсё вялікіх творчых поспехаў. Буду з нецярплівасцю чакаць Вашых новых вершаў.

Ленінград, В-151, вул. Шаўчэнкі, д. 25, п. 69.

*Прашковіч Мікола.*

## 11. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*[7 ліпеня 1963 г.]*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Шмат за што давядзецца мне прасіць у Вас прабачэння. І за доўгае маўчанне, і за тое, што не паехаў у Свіслач, і яшчэ шмат за што. Вось ужо дваццаць дзён, як мы вярнуліся са сваёй паездкі, сто разоў можна было напісаць. І, даю Вам слова гонару, відаць, не было і дня, у які я не думаў бы пра Вас, не хацеў бы азвацца. А тлумачыцца ўсё вельмі проста. Заўтра ў дзве гадзіны вырашаецца лёс рамана. Будуць абмяркоўваць на секцыі Саюза. Гэтыя апошнія дні даліся мне ў знакі, можаце мне паверыць. Шмат з кім давялося гаварыць. Кідаць у такі момант усё — было б неразумна. Магчыма, я ўсё ж прыехаў бы (нават дамовіўся ўжо), але тут прыйшла тэлеграма ад маці. І я паехаў у Воршу, прабыў там тры дні, у сім-тым дапамог, а потым перавёз маці ў Мінск. Настрой усе гэтыя дні быў проста абрыдлівы, і мне не хацелася пісаць ліста, міжвольна псаваць настрой харошым людзям.

Таму што, — хочаце — верце, хочаце — не, — а я за кароткія гадзіны нашай сустрэчы палюбіў Вас. Палюбіў не таму, што занадта ўжо добра зведаў, а проста таму, што мне стала лягчэй жыць. Такія нябачныя павуцінкі цягнуцца ад сэрца да сэрца людскога! Часта мы іх проста не заўважаем, а яны ёсць, яны існуюць, вяжуць людзей непрыкметна моцнымі повязямі. І хаця гэтых людзей нямнога, свет ужо не здаецца такім пустым і некуды знікае адчуванне поўнай сваёй непатрэбнасці ў ім і для яго. А такое, на жаль, — амаль звыклы стан для людзей нашага лёсу.

Ну вось, «растлумачыўся ў каханні» (як пісаў адзін знаўца нашай мовы). Цяпер, па ягоных жа словах, застаецца толькі з'есці пэндзаль вінаграду з асобай жаночай падлогі. Так вось і жывем.

А відаць, што ўсё ж недарэмна жывем. Ніштo не знікае з таго, чаму нельга знікнуць. Сярод гэтай сваёй калатэчы вельмі часта ўспамінаю Ваш вячэрні гарадок, гарбатыя вулачкі, засень ліп, цудоўны Ваш дом, вершы, усё, аб чым гаварылі, і Вашы, Ларыса Антонаўна, словы, пэўна, не забуду, тыя некалькі сказаў, якімі мы абмяняліся на гародзе. Усё застаецца так, як гаварылі. Нязменна. І назаўсёды.

І таму хай не будзе ў Вас прыкрага ўражання ад апошняй гадзіны нашай сустрэчы. Не думайце, што мне нешта абрыдла, нешта не спадабалася. Мне было проста фізічна балюча. Я ўжо не мог больш ані хвіліны заставацца самотным сярод людскога непаразумення.

Улічыце, яны абодва сапраўдныя, вельмі сапраўдныя. Чыстыя, добрыя, таленавітыя, не прадажнікі, не кар'ерысты, любяць Беларусь (а на гэта патрэбна неабыякая мужнасць), галаву аддадуць за сябра, ніколі не будуць ні ўладарамі над бліжнім, ні рабамі яго. І ўсё ж Вы не зразумееце іх, а яны — Вас. Спрэчка ставала непатрэбнай, цяжкай, амаль невыноснай для мяне. Яны вынеслі з Вашага дома самыя лепшыя ўражанні пра Вас (я кажу праўду, я наагул не хлушу без крайняй на тое неабходнасці), хацелі б яшчэ сустрэцца некалі, і ўсё адно мне было цяжка.

Пры сустрэчы мы яшчэ пагаворым аб гэтым. А пакуль тое, скажу толькі, што мне заўсёды кроіла сэрца нейкая недарэчная прамежкавасць нашага народу: «народ-межеумок» (сказалі б расіяне). Заўсёды ён за кагосьці. І амаль ніколі ён не бывае сам за сябе. Чатырнаццаць год, як я зразумеў гэта, і ўсё стала для мяне адной вечнай крыніцай пакутаў. І яшчэ, трохі шчасця, падфарбаванага горкім гонарам. Таму што мне нічога і нікога не трэба, акрамя гэтых людзей, якім я непатрэбен і якім непатрэбна іх імя.

У іншых ёсць цяжар забабонаў, цяжар велічы, цяжар непатрэбных ідэй. У іншых ёсць пракорі, памагатыя, святыя, дзяржаўнасць, гісторыя, літаратура. У нас няма нічога, акрамя магіл. Дык вось, за гэтыя магілы…

І таму я бяднейшы за апошняга жабрака і, адначасова, самы багаты. Бо я магу дазволіць сабе раскошу любіць усіх, хто не падлюга. Што ж, мы з Янкам розныя — я яго люблю, бо ён пнецца над гэтым маім занядбаным родным словам. Што з таго, што, напэўна, і мы з Вамі розныя — я люблю Вас, бо Вы любіце Маці.

Вось чаму мне было цяжка. Ніколі ні да чаго не даводзяць спрэчкі, пакуль пераважная большасць людзей не асэнсавала, што яны ёсць. Наадварот, гэта шкодзіць, гэта пракладае непатрэбныя рубяжы.

Пакуль гэтага самаасэнсавання няма — нам трэба проста, горда і самотна рабіць сваю справу, не зважаючы ані на якія пляўкі, поўхі, страты. Відаць, пры такім становішчы біць будуць з усіх бакоў. Што ж, і гэта набытак. Такім, па-мойму, яшчэ ніхто не мог пахваліцца. Калі вытрымаем — значыць, тытаны, і не памрэм. Калі не вытрымаем — туды нам і дарога, шэлег нам кошт і смецце нам магіла. І іншага мы не варты. І хай яны тады здыхаюць, такія ўладары думак і такі народ, не пераводзяць дарма хлеб. Таму што кожны купляе права на жыццё маральнай стойкасцю, веліччу душы, у якую ніхто не мае магчымасці запусціць лапы.

Відаць, лёс любіць нас, калі быў нам такі гонар: быць адным супраць усіх. А калі так, то ўступае ў правы дэвіз Давыда Гарадзенскага: «Нас мала, не чакайце літасці».

Ну добра. Нагаварыў. Пасылаю Вам верш, скончаны сёння. У яго адзіная вартасць: свежаспечаны. Калі можна, перапішыце і дашліце мне, Ларыса Антонаўна, «Неіснуючаму». Вельмі буду ўдзячны. Калі магчымасці не будзе — сам перапішу пры сустрэчы.

Ну вось. Не крыўдуйце на мяне, калі ласка. Часам, можа, успамінайце, як я Вас. Дабром. Пішыце, як справы ў Вас, як Зэльва, як пажываюць Вашы кветкі і той Цэрбер (імя, на жаль, забыў), які ўсё хадзіў вакол нас. Мяркую, што ён меў на ўвазе мяне, хаця потым прымірыўся. Моцна цісну Вашы добрыя рукі.

Ваш *Уладзімір*.

## 12. ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*11 кастрычніка 1963 г.*

Шаноўная Ларыса Антонаўна!

Не ведаю, як Вам дзякаваць за верш, які Вы прыслалі мне, такога я яшчэ ніколі не чытаў і мне нават крыху няёмка, асабліва калі ўлічыць прысвячэнне. Праўда, я думаў, што Вы прышлеце што-небудзь, каб надрукаваць у газеце, можа што з лірыкі, тым больш што рыхтуецца чарговая літаратурная старонка, і Ваш верш рэдакцыя надрукавала б з ахвотай. Ну, але гэта Ваша асабістая справа.

У мяне ўсё па-ранейшаму: працую ў рэдакцыі, часам езджу ў Мінск, чытаю, пісаць пакуль што не бяруся. Нядаўна (якраз калі Данута ездзіла да Вас у Зэльву) прыязджалі ў Гродна літоўцы — два паэты і празаік, і з імі нашыя беларусы: М. Ткачоў, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін. Я гутарыў з Ткачовым адносна Вас (ён — сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі), ён зацікавіўся і сказаў, што даможацца, каб Вас аформілі ў Саюз, Дануту, між іншым, таксама. Так што будзем спадзявацца, хоць гэта ўрэшце нічога ні добрага, ні благога не азначае, звычайная фармальнасць.

Аляксей [Карпюк], мабыць, ужо з месяц сядзіць у Маскве, рыхтуе да выдання сваю кніжку на рускай мове, так што цяпер тут, у Гродні, і мне сумнавата, няма з кім і словам абмовіцца. Дануту бачу рэдка, калі-нікалі заходзіць у рэдакцыю, але ў яе свае справы,

свае клопаты і шчасце — адваявала яна з войска свайго мужа. Вы гэта ўжо ведаеце. Наконт яго работы нічога не магу паведаміць, бо не ведаю. А як Іван Пятровіч? Мусіць, ужо вярнуўся з далёкага падарожжа і поўны ўражанняў?

Жадаю Вам, Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч, добрага здароўя, не хварэць і быць у бадзёрым настроі. Калі-небудзь мы наведаемся да Вас.

З павагаю да Вас — *Васіль*.

Прывітанні шчырыя ад жонкі і ад Іны Анатольеўны.

## 13. ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*[Лістапад 1963 г.]*

Шаноўная Ларыса Антонаўна!

Толькі што з Мінску, у які ездзіў па справах свайго твора. У Гродна адтуль заўжды вяртаешся, як да ціхага берага пасля цяжкога плавання. Давялося шмат папрацаваць, што-колечы перарабіць, каб аповесць усё ж убачыла свет. Абяцаюць надрукаваць у № 1 «Маладосці». А як яно абернецца ў канцы — пабачым.

Аляксей [Карпюк] недзе ў Каралішчавічах пад Мінскам, будзе, відаць, пісаць сцэнарый па сваёй «Дануце». Я не адгаворваў яго — хай паспытае кінахлеба, я ўжо ведаю яго на смак, дык не дужа ахвотна іду. Хоць таксама запрашаюць. Валодзя Караткевіч заканчвае раман пра К. Каліноўскага (цяпер таксама ў Каралішчавічах), хлопец абязгрошаў, відаць, Вы ўжо ведаеце, што яго раман папярэдні рассыпалі пасля набору ў выдавецтве. У «Полымі» бачыў яго два падрыхтаваныя да друку апавяданні, адно з якіх прысвячаецца Янку Брылю, а другое — Ул. Калесніку. Кажуць, апавяданні неблагія. Пачытаем, напэўна, хутка.

Ці чыталі Вы новы раман А. Адамовіча, які надрукаваны ў 7–8 нумарах «Дружбы народов»? Я чытаў нядаўна і мне спадабаўся. Добрая рэч, напісана таленавіта, без прыкрас, без няпраўды. У Мінску яшчэ ўсё хваляць раман І. Шамякіна, што нядаўна закончыўся друкавацца ў «Полымі», і новы раман Я. Брыля, які неўзабаве будзе друкавацца ў «Полымі». На Ленінскую прэмію вылучаны ад Беларусі раман Івана Мележа «Людзі на балоце». Дарэчы, ён ужо напісаў і другую кніжку, таксама, кажуць, вельмі цікавую.

Вось такія мінскія справы. А ў Гродна, здаецца мне, няма анічагуткі цікавага. Ліпее-канчаецца неблагая восень. Хутка зіма. Трошкі сумна. Трэба б працаваць, але нешта не ляжыць душа.

Як Вы маецеся? Можа, праслалі б які верш у нашу абласную газету?

З павагаю і шанаваннем — *В. Быкаў*.

P. S. Прывітанне Івану Пятровічу. Пішыце.

## 14. ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*14 снежня 1963 г.*

Паважаная Ларыса Антонаўна!

Нядаўна прыехаў з Мінска, дзе прабыў тыдзень у Каралішчавічах на семінары кінадраматургаў. Мінская студыя збіраецца зрабіць карціну па новай аповесці, ну і просіць мяне напісаць сцэнарый. Відаць, так і зраблю, хоць першы блін («Ракета») атрымаўся не дужа ўдалы і дагэтуль яго ўсе лаюць у Маскве амаль на кожным вялікім мерапрыемстве, а таксама ў газетах. Кажуць, што атрымаўся пацыфізм і камернасць; мне ж недахопы фільма (а іх багата) здаюцца ў іншым. Ну, але ліха з імі. Можа, што-

небудзь лепшае атрымаецца з новай аповесці, усё ж тут прыбыло вопыту ў мяне, не ведаю, як вырашыцца справа з рэжысёрам, бо пакуль ёсць дзве кандыдатуры — стары і малады, і абодва хочуць атрымаць мой сцэнарый.

Аповесць у «Маладосці», яшчэ не вырашылася, — яшчэ не чытала цэнзура. У Маскве таксама нічога не атрымліваецца, рэдактар «Дружбы народов» аповесць вярнуў, кажа — няправільна асветлены даваенны час жыцця ў Беларусі, час культу. Тое ж самае зрабілі ў выдавецтве ў Мінску — у такім стане, як я напісаў, выдаваць не будуць, патрабуюць перапрацоўкі; я ж перарабляць не буду. Вось такія справы.

У Караліщчавічах быў разам з Валодзем Караткевічам. Ён дапісвае раман (здаецца, будзе добры раман пра К. Каліноўскага і паўстанне), мы гаварылі пра Вас, і ён шле Вам і Івану Пятровічу свой нізкі паклон. Хлопец ён харошы, хоць трошкі несабраны памаладому. Ну, але гэта не так важна.

У нас тут усё па-старому і без цікавага. Аляксей [Карпюк] нешта піша (не гаворыць — што), Данута гадуе дачку, піша мала цяпер, я ўсё ніяк не магу прабіцца з тым, што ўжо напісаў. Разам з гэтым пасылаю Вам пісьмо, што прыслаў да нас у рэдакцыю, відаць, Ваш стары знаёмы.

Ну, вось і ўсё. Калі, можа, будзеце ў Гродна, — калі ласка, да мяне ў хату. Гэта адносіцца да Вас таксама, як і да Івана Пятровіча. А пакуль што пішыце. Можа быць, прышлеце што з лірыкі для газеты? Вядома, надрукуем. Так што глядзіце.

З паклонам і прывітаннем — *Васіль*.

## 15. ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*22 снежня 1963 г.*

Шаноўная Ларыса Антонаўна!

Атрымаў пазаўчора Ваш апошні (ад 17 снежня) ліст і вось адказваю. Перш за ўсё хачу павініцца за некаторае ўмаўчанне па двух пытаннях, але ж, далібог, то не мая віна. Справа ў тым, што як я ні біўся, так дагэтуль не змог разабраць увесь тэкст верша, які Вы мне прыслалі, — «Белую вежу». Такі трудны Ваш почырк, што як ты ні біся, з некаторымі словамі нічога не атрымліваецца. У звычайным лісце гэта прасцей — некаторыя словы можна ўгадаць па сэнсу, у вершы гэта не так. З выгляду Ваш почырк здаецца выразным, а як пачнеш чытаць, адразу спатыкаешся. Каб упэўніцца, ці так я ўсё зразумеў, я перадрукаваў яго на машынцы і разам з гэтым [лістом] пасылаю Вам. Прачытайце, папраўце, калі ласка, што не так, і прышліце мне. Здаецца, мы зможам надрукаваць яго, з Вашай згоды, вядома.

Другое пытанне — аб маім да Вас прыездзе — проста ў той час не было вырашана. Цяпер стала вядома, што прыехаць мне будзе неяк, бо ў канцы гэтага месяца збіраецца прыехаць у Гродна адзін мой сябра з Балгарыі, аб чым ён і паведаміў днямі ў сваім лісце, хоць збіраўся прыехаць трошкі раней. Гэта балгарскі літаратуразнаўца, вучоны, з якім мы некалькі год перапісваліся. Вось такія мае справы на гэты конт.

З іншых — усё клопаты пра аповесць. Заўтра-паслязаўтра еду ў Мінск, у «Маладосць», як аказалася, справа пачынае разладжвацца і там, чаму дапамог наш паважаны і народны Міхась Лынькоў. Трэба неяк уладжваць, нешта перарабляць. З Масквы пакуль няма нічога пэўнага. Во ўжо давядзецца намучыцца, пакуль надрукуеш, хай яго возьме ліха. А тут яшчэ нешта няможацца, прыхварэў нечым, для грыпу трохі даўгавата цягнецца…

Наконт майго да Вас прыезду — не ведаю, што і паабяцаць. Калі-небудзь у Новым годзе, калі спіхну з сябе выдавецкія клопаты. Але ж кінаклопаты!.. Яны таксама не меншыя.

Нядаўна размаўлялі пра Вас з Аляксеем [Карпюком], ён прасіў слаць Вам прывітанне і не крыўдаваць на яго.

На тым заканчваю кароценькае сваё пасланне. Жадаю Вам і Івану Пятровічу добрага здароўя і бадзёрасці духу. Усё ж жыццё, яно — рознае.

З прывітаннем — *Васіль*.

P. S. Ларыса Антонаўна, а верш не затрымлівайце вельмі.

## 16. ЮЛЬЯН СЕРГІЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Ленькаўшчына, 23 снежня 1963 г.*

Даражэнькая Ларыса!

Я так моцна ўсхваляваны Вашым пісьмом, што не магу як належыць сабраць і сфармаваць думкі, каб напісаць да Вас прыгажэй, складней, але ж Вы ўсё гэта разумееце і будзеце выбачаць за маю разгубленасць, бо, прызнацца, і я лепш цаню як гутарку, так і пісанне без пышнасці, але найлепш проста, як гэта сэрца дыктуе.

Вы ўгадалі. Прайшоў і я такі ж жудасны шлях і адбыў тое ўсё, што мне надзялілі (10 год), апроч таго пасля звальнення дамоў вярнуцца было забаронена. Быў на ссылцы ў Карагандзе. Працаваў на будове шахтаў. У 1955 годзе вясной да мяне прыехала жонка і таксама ўладзілася на работу. У 1957 годзе пасля адмены такога закону мне, як і многім іншым, было дазволена вярнуцца дамоў. Дома маёй жонкай на хутары была пабудавана маленькая хатка. Аднак калгас заставіў нас перасяліцца ў вёску. Перасяляючыся, нам удалося пабудаваць новую, большую хату, у якой і жывем мы з жонкай і працуем у калгасе на звычайных сельскагаспадарчых палявых работах. Дзяцей у нас няма, бо прычыніліся гэтаму пастаянныя доўгагадовыя разлукі.

Пра жудасці мінулага пісаць не буду. Лепш не ўспамінаць, каб не прыснілася, але можна прыпомніць тое, што хоць і рэдка, але сустракаліся асабіста са мной адзінкі з нашага ранейшага асяроддзя. У турме ў Мінску коратка, а ў Воршы на перасылцы даўжэй быў са мной былы пастаянны дэпутат у Польскім Сэйме, беларускі важнейшы дзеяч Фабіян Ярэміч. Былі сыны Антона Луцкевіча — Лявон і Юрка. Сустракаліся і некаторыя берлінскія сябры — Новік Кузьма з Беларускага прадстаўніцтва і Барткевіч з Аддзела беларускай прапаганды пры Ostministerium.

Не буду прыпамінаць незнаёмыя Вам імёны, але варта прыпомніць аднаго старэйшага беларускага пісьменніка з Усходняй Беларусі, які за нацыянальныя ўхілы ў сваёй аповесці «Антон Залескі» Быў высланы ў Казахстан. У часе вайны быў узяты ў армію, з якой быў суджаны на 25 гадоў зняволення. Пісьменніка звалі Сымон Хурсік. У 20-я гады ён жыў і тварыў у Мінску, быў у блізкіх адносінах з Янкам Купалам, Якубам Коласам, М. Чаротам, Бядулем і многімі іншымі. Сённяшняга Петруся Броўку ён прывёз Полацка ў Мінск яшчэ маладым хлапцом. Расказваў шмат цікавых эпізодаў з жыцця беларускіх пісьменнікаў з часоў росквіту, а нарэшце — бязлітаснага ўдару па беларускіх культурна-прасветных і навуковых сілах, якіх збаяліся тагачасныя маскоўскія ўладары. Якія дарогі і далейшы лёс спатканых мною асобаў — не ведаю.

У пачатку 50-х гадоў, здаецца, у Омску казаў мне адзін з быўшых беларускіх настаўнікаў, што чуў ад свайго сябра, а той — ад свайго, быццам у нейкім жаночым лагеры бачылі беларускую пяснярку Ларысу Геніюш. Расказвалі, што стойка трымалася сваіх пераконанняў. Быццам прыпанавалі ёй свабоду за тое, каб змяніла погляды і пачала пісаць хвалебныя гімны «вялікаму і прамудраму», які тады яшчэ жыў, аднак Ларыса Геніюш адкінула такія прапановы. Яшчэ, казаў мне той сябра, Ларыса Геніюш напісала верш «Я з вамі ў няволі», які распаўсюджваўся сярод зняволеных беларусаў.

Было гэта вельмі далёкае рэха аб Вас, і я не ведаў: верыць ці не верыць? Безумоўна, мне не хацелася верыць, што Вы з Прагі трапілі ў такія лабірынты, аднак можна было думаць і так, бо спатыкаўся я ў няволі з Пятром Бакачом, які таксама жыў у Празе.

У пачатку вясны мне давялося пачуць з радыё пра Забэйду-Суміцкага і даведацца, што ў палавіне мая будзе ён выступаць у Мінску. Так і было. Выпадкова мне ўдалося чуць і гутарку з ім, напачатку якой гучала знаёмая мне «Калыханка», ён расказаў пра беларускую народную песню, пра сваё жыццё. Радыё слухаць, асабліва вясной і летам, мне няма часу, і трэба дзякаваць шчасліваму выпадку. Мне так хацелася напісаць у радыёрэдакцыю просьбу, каб даведацца адрас Забэйды, але недахоп часу не даў мне гэтага выканаць.

Да мяне даходзілі слухі, што Ларыса Геніюш жыве і піша, але я не верыў, пакуль не пабачыў Ваша імя ў газеце. Пасля гэтага ў мяне прапала ахвота шукаць Забэйду (ад якога хацеў даведацца і пра Вас). Можа, гэта і няправільна, але прычыніўся да гэтага наступны факт. Яшчэ ў пачатку 1955 года, знаходзячыся ў далёкай Карагандзе, я сустрэўся з адным сябрам, якому з дому прысылалі беларускія кнігі і журнал «Маладосць». Чытаючы «Маладосць», я даведаўся, што ў рэдакцыйнай калегіі ёсць Янка Брыль. Я ўзрадаваўся, што ёсць магчымасць з ім звязацца, і не чакаючы напісаў пісьмо ў «Маладосць».

Мне адказалі, што Я. Брыль працуе ў Доме творчасці ў Каралішчавічах і пасля прыезду ў Мінск мой адрас будзе яму пададзены. Прайшло шмат часу, а надзея мая была дарэмнай. 5 верасня 1956 года я атрымаў пісьмо ад свайго сябра з дому, які быў на пахаванні Якуба Коласа. Ён там бачыўся з Янкам Брылём і гутарыў з ім аба мне. Вось урывак з пісьма: «Я перадаў яму ад цябе прывітанне. Ён падзякаваў і сказаў, што яму перадалі тваё пісьмо і твой адрас, але ён не ведаў, за што ты сядзеў, і таму не адпісаў. Ён сказаў даслоўна: “Тут, бачыце, справа клапатлівая, і дзеля гэтага прыйшлося паступіць водлуг прыказкі "табачок вместе, а кушать врозь". Калі прысутныя пацікавіліся, аб кім мы гаворым, ён выясніў, што ты пры Польшчы друкаваўся ў беларускіх часопісах і быў з ім разам у нямецкім палоне, а цяпер знаходзішся пасля адбыцця кары ў Карагандзе. За што цябе судзілі — ён не ведае, але прыпускае, "ці не ўблытаўся ён у супрацоўніцтва ў ‘Раніцы’ (Пятро Бітэль)…"”»

Беручы пад увагу, што ў Нямеччыне мы з ім жылі як брат з братам і я фінансіраваў яго нелегальную паездку на Беларусь (ён уцёк дамоў, як толькі немцы занялі нашу зямлю), мне стала балюча і крыўдна. А таму не пісаў я больш нікуды падобных пісем. Думаў, што і Вы (прашу выбачыць) будзеце для мяне недаступнай. Аднак, на шчасце, я памыліўся, і мне хочацца пра многае Вам расказаць, нібы паспавядацца, каб нарэшце скінуць з сэрца камень.

У гэтым сэнсе я адзін-адзінокі, ніхто мяне не разумее, нават самыя блізкія, у чым трагедыя майго жыцця. Справа ў тым, што мая жонка — звычайная вясковая баба, з якой аб чым-небудзь такім, што знаходзіцца па-за яе вельмі вузкім кругавідам, не пагаворыш. Ды і не дзіва — яна зусім непісьменная і мае глыбокае перакананне, што галоўнае маё няшчасце (а разам і яе) у тым, што я з малых гадоў падружыў з кнігай і паперамі. Ну ведаеце… кіну лепш пра гэта.

Хачу застанавіцца над Вашым сказам: «Я не падыходжу ў іх кампанію, у мяне свой нораў, свае погляды, думкі, свае святасці і свая праўда». Аб гэтым вельмі многа хацелася б гаварыць. Закрану крыху паэзію. Пакінем усякія хвалебныя гімны і новыя касмічныя фантазіі, бо гэта не творчасць паэта, а прадукцыя падпявалы. Кранем тое, што падслухана з шэлестаў-шумаў родных прастораў. Узяць хоць бы песню пра лён, якую я нядаўна чуў з прыёмніка. Ужо састарэла і Купалава: «А мой пранік лясь ды лясь

па гліняным па таку». Бо хто цяпер адбівае лён пранікам? Але, відаць, ніколі не састарэе Ваша зваротка пра лён:

Свежы лён мой напіўся расы,
нібы з воблакаў сіні напіўся.
Буду ткаць ручнікі, паясы
для таго, хто мне ўночы прысніўся.

Усё голаснае, крыклівае, шумнае прагучыць, але не кране сэрца так, як гэтыя Вашыя чатыры радкі. Хто толькі радзіўся паэтам, у таго ў душы ёсць тыя струны, якія адзавуцца рэхам на Вашыя песні. А ўсё таму, што яны пакліканы да жыцця не шуканнем новых формаў і жанраў, але тым, аб чым Вы некалі самі прызналіся: «Хацелася сказаць ім нешта сваё, нешта роднае»…

Я высока цаню Вас за асаблівасць характару ў тым, што Вы не хочаце даваць чытаць свае вершы, але калі ў Вас бываюць знамянітасці і просяць Вас прыняць удзел у беларускай літаратуры, дык трэба застанавіцца над гэтым. Бо што там лішне выдумляць, скажу проста — нашым чытачам патрэбныя Вашыя вершы! Вы сумуеце аб тым, што гіне беларуская культура, што паніжаецца мова, але хто найбольш яе паніжае? Няхай аб гэтым скажа такі эпізод. Прыходзіць у бібліятэку хлопец, па-святочнаму адзеты, а там загадчыца таксама прыгожа, па-святочнаму выглядае. Дык вось і мовы нейкай святочнай той хлопец шукае і просіць кнігу Гогаля «Тарас Картошка». Такая ўжо ў беларусапрасцяка натура, трэба кожнаму дагадзіць — сляды падняволення…

Зрэшты, перарву аб гэтым, бо ніколі не скончыш. Крыху яшчэ аб сабе. Вярнуўшыся з Берліна дамоў (жнівень 1943 г.), я перажыў удома забойства сястры і пажар — у выніку сутычкі немцаў з партызанамі. Заграбіўшы ўсё, немцы забралі і мяне, каб, адвёзшы ў лес, расстраляць. Мне ўдалося ўцячы. У выніку ў мяне нічога не засталося з даўнейшых кніг, а была досыць лічная бібліятэка. Загінулі ўсе мае рукапісы і, чаго найбольш шкода, Ваша кніга «Ад родных ніў».

Пісаць штосьці хацелася б, але няма часу — я штодзённа заняты фізічнай цяжкай працай, пасля якой вечарам морыць на сон. Маю ў рукапісе аднаўленую ў памяці паэмку «Касцёл і шляхта» — абразкі з праўдзівасці. Пасылаў некалькі вершаў у раённую газецінку, але там яны загінулі, як камень у вадзе. Няйнакш ведаюць там пра маё мінулае і баяцца мяне, як і Янка Брыль…

Ну, няхай будзе ўсё. Прывет Вашаму мужу.

З пашанай — той самы *Юлік*.

## 17. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*[1963 г.]*

Дарагая, паважаная і мілая Ларыса Антонаўна!

Яшчэ раз прабачце за ўсё і не гневайцеся на мяне. Таму што менш за ўсё мне хацелася б сапсаваць адносіны з Вамі. Вы цудоўная і Вас нездарма ўсе любяць. І менавіта таму я проста не магу пісаць Вам кароткіх — абы адпісацца — лістоў. Тых, чытаючы якія, чалавек не можа адвязацца ад упэўненасці, што карэспандэнт увесь час думае аб нечым іншым і галоўны яго клопат зусім не ліст — як то належыць рабіць кожнаму гжэчнаму чалавеку, — а нейкія свае клопаты і непрыемнасці. Вось гэтыя свае клопаты і непрыемнасці я Вам зараз і распавем, калі не будзе сумна.

Галоўнае — барацьба за раман, якая скончылася нядаўна поўным паражэннем. Далі мне добра, але, як бачыце, жывы і нават бадзёры.

Карэктура была ўжо ў маіх руках, калі раптам адбыліся вядомыя Вам падзеі. А дзеянне раману (не таго, абсечанага для часопіса, які Вы чыталі) — у мастацкім асяроддзі, і шмат ёсць разважанняў наконт таго, што мастацтва — не заказ і не гульня ў бірулькі, а сумленне зямлі. І ад многіх старонак так і патыхае «расколінай між пакаленнямі». Я, канешне, не такі дурань, каб лічыць, што людзі майго пакалення ўсе святыя ды божыя, а людзі старэйшых пакаленняў — чорт ведае што. Настаўніка майго, акадэміка Бялецкага, я ні на якога бобіка-пагодка не змяняю. Лічу, што сярод майго пакалення месца Брыля апошніх год, і Ваша, і шмат яшчэ якіх добрых людзей. Харошыя людзі не маюць узросту, але тут пытанне хутчэй працэнтовае. І ў гэтым не наша заслуга, што сярод нас больш людзей, якія ненавідзяць ханжаства. Проста нас менш страшылі, а тыя, у значнай частцы, людзі спалоханага інтэлекту. Ведаю я і слабасці равеснікаў. Яны не загартаваныя. Стукнулі па іх і гатова, лапкі ўгору. Адразу каяцца. Вазнясенскі, сволач Бялюцін (галава той студыі «незалежных»), Еўтушэнка, некаторыя з нашых хлопцаў. А два старэйшыя, Някрасаў і Эрэнбург — малайцы, пляваць яны на ўсё хацелі з высокай званіцы. Словам, людзі ёсць людзі.

Дык вось, узяліся за мяне ўсур'ёз. Абмяркоўвалі ў выдавецтве (яшчэ да падзеяў) — прабілі. Пасля падзей я зразумеў: справа мая дрэнная. Кніга пайшла ў цэнзуру і потым некалькі месяцаў была невядома дзе. Рэдактары ўрэшце далі яе ў Саюз. Там абмеркавалі і ўхвалілі, калі я некаторыя месцы выкіну. Давялося выкінуць. Потым, на прэзідыюме, гаварылі аб гэтым абмеркаванні, сказалі, што вось, пасля апрацоўкі (і перарабіць жа даводзілася няшмат) кнігу трэба выдаваць.

І — наплявалі на ўсю тую думку Саюза. Карэктура пайшла па руках. У цэнзуру — і там падкінулі, у міністэрства культуры, туды, сюды. Паўсюль. Некалькі месяцаў ніхто не казаў, у чым яе «заганы». І ўсе чыста адмовіліся шчыра адказаць, што ў ёй такога «заганнага». Рэдактары нашы і дырэктар выдавецтва (ёсць такі Матузаў, чалавек з самым першапачатковым інтэлектам, дыстрофіяй сумлення і гіпертрафаваным гонарам) зразумелі, што тут поўны абшар для іхніх домыслаў… і пачалося.

Прыпісалі мне, галоўным чынам, абстрактны гуманізм. Усе выкінутыя мной месцы таксама аднавілі і, грунтуючыся на іх, абвінавацілі ва ўсіх смяротных грахах. Гуманізм ім перашкаджае. Больш за ўсё.

Зубоў (устаўных) у таго Матузава, бы ў дыназаўра, трыста штук, а непазычаных мазгоў таксама, як у дыназаўра, з напарстак. Ды і іншыя недалёка ад яго пайшлі. Сказалі, што без карэннай перапрацоўкі друкаваць раман не будуць. Вельмі яны хацелі, каб я перапрацаваў, і спадзяваліся, відаць, што я на гэта пайду. Прызнаюся, мелі грунт. Таму што я чалавек удзячны, і калі Саюз даў мне патрабаванні памяркоўныя і невялікія, я на праўленні падзякаваў ім (як людзі паставіліся, акрамя пана яснавяльможнага гетмана кароннага Тараса Хадкевіча), хаця і сказаў адначасова, што калі лаяць, дык усіх, бо няведама яшчэ, хто заслугоўвае крытыкі: я ці Паслядовіч, «памфлет» якога — ганебная з'ява, данос, што стаіць па-за літаратурай. Толькі пасля зразумеў, калі ўся тая цягамоціна са мною адбылася, што прыніжае нават цень кампрамісу, што «праваслаўнаму належыць паміраць за адзіную літару аз». Цяпер такім і стану, хаця здыхаць буду. Навучылі. Ну дык вось. Сядзелі яны і чакалі. Я спакойна ўзяў са стала той пратакол (іначай нельга было, гэта быў першы за ўсе месяцы дакумент аб тым, чаго яны хацелі), склаў яго і пайшоў прэч.

— Это не для вас предназначено!!! — Матуз гарлае, а ў самога на храпе малінавая чырвань.

— Ведаю. Але мне гэта прыдасца.

— Вярніце!

— І не падумаю.

— То што, вы і перапрацоўваць не будзеце? — гэта Бажко, кум катынскі.

— Нашто? Кнігу псаваць?

Слова за словам — я ім і рэкнуў. Лаяцца не люблю, але тут такога маскаля загнуў — зялёныя сталі. І пайшоў.

Тут мяне ўгаворваць пачалі. А я разоў дваццаць да сакратара ЦК па прапагандзе званіў. Што ж, са свайго пункту гледжання ён рацыю мае: кнігу не чытаў і чытаць яе ў яго няма часу, а загадваць, не чытаючы, — якое ж ён права мае? Атрымаецца дыктатура, націск на выдавецтва. А так рабіць — нельга. Гэта мне ягоны намеснік растлумачыў у трубку. Усё ж сказалі, што трэба яшчэ адно абмеркаванне: работнікі выдавецтва і Саюзу. І тут я даведаўся, што ўсё гэта толькі балбатня і непатрэбны здзек, бо набор «Леанідаў» рассыпалі. Я, канешне, ад абмеркавання адмовіўся.

І вось так два гады жыцця пайшлі попелам, карэктуры не аддаюць (я схаваў, што праўда, адзін экземпляр), — усё дробныя прывязкі, якіх было тысячы, а яны, відаць, разлічваюць, што я нервавацца буду, — кніга ў перакладзе не выйдзе, бо ёсць іхняе вета. Будзе выдавацца толькі «Дзікае паляванне караля Стаха», даўняя аповесць, стылізаваная пад XIX стагоддзе. Як выйдзе — дашлю.

А я смяюся. Бо для разумнага чалавека ясна: калі ўжо нешта так пільна патрабавала індзейскіх скокаў над рассыпаным наборам, то аніяк не раман.

Ну ды д’ябал з імі. Горш тое, што забарона будучай кнігі прымусіць мяне падрабляць артыкуламі, дробнымі апавяданнямі, тэкстамі дакументальных фільмаў замест таго, каб канчаць «Каласы». Біўся ў цісках, а тут — як назнарок — сцэнар на студыі ціснуць, п’еса ляжыць у асабіста зацікаўленых і вышэйпамянёных вельмі занятых людзей, і яны яе тры месяцы як чытаюць. А тут яшчэ пракраўся бухгалтар студыі і падмануў некалькі чалавек такой падвойнай бухгалтэрыяй, што мне, напрыклад, суд, абяліўшы да канца, так і не здолеў скінуць усёй «запазычанай» сумы, з якой я і капейкі не меў у руках.

І мне давялося працаваць, як ніколі ў жыцці, каб выбрацца з пасткі. І цяпер — выбіраюся. Скора стане лягчэй, а там і зусім лёгка. І застанецца мне адно: працаваць, жыць сціпла, ведаць, чаго можна чакаць ад жыцця. Бо доўгі час яно, жыццё, як назнарок, брала мяне на змор. А можа, і не назнарок. Ды толькі я не дамся, як не даўся дагэтуль. Я чалавек не спешчаны, мне ад яго, ад жыцця, дач і машын не трэба. На хлеб з кавай зараблю. А ўрэшце, добра ўжо тое, што мне цяпер ніхто не прапануе, як шматлікім іншым, рабіць тое, што мне не падабаецца.

Вось і ўся мая гісторыя, досыць стандартная і досыць сярэдняя. Цяпер Вы ведаеце, у чым корань майго маўчання. І давайце пагаворым пра нешта больш прывабнае. Скажам, пра Вашае жыццё, пра «Неіснуючаму». Які верш, які цудоўны верш! Я часта яго чытаю і думаю пра Вас і сябе, і ўсіх. І ў такія хвіліны яшчэ больш радуюся, што вось, сустрэліся мы.

Я цяпер сяджу ў Каралішчавічах, тут семінар кінадраматургаў. Уласна, ніякі не семінар, а проста кіно задыхаецца без сцэнараў. Зрабілі-такі добрую справу. Ну вось некалькі чалавек і засадзілі сюды, у мур’ю: пішыце, хлопцы. Буду тут да чысла 10-га. Я, прызнаюся, радуюся, бо гэта месяц працы. Дык вось, я тут канчаю сваё «Сонца». Гэта гісторыя жыцця адной жанчыны, якая ішла, нягледзячы ні на што, і перамагла ўладу жаху. Калі пішу яго, часта згадваю Вас. А верш гэты — чакайце — яшчэ ў хрэстаматыях юнакі і дзяўчаты чытаць будуць. А можа, і без іх, проста для сябе будуць любіць.

І не трэба перажываць, што пра Кастуся гаварылі чужыя, абыякавыя людзі. Чорт з імі. Гэта — накіп, шум, нявартага вялікага ценю брэх. І ўсё.

Ну вось. Сяджу тут. За акном амаль зусім цёмна. Толькі на светлаватым небе цені ялін. Сёння вольны дзень, кансультант мой паехаў, і вось я ўпершыню за шматлікія тыдні атрымаў магчымасць гаманіць з Вамі.

Дасылаю Вам два вершы, якія будуць у рамане, у «Каласах». Адзін — верш героя, другі — эпіграф да апошняй часткі, «Груганнё».

Наконт лагераў і ўсяго такога — Вы маеце рацыю. Гэта — язва, хто б гэта ні рабіў. І ніякія вышэйшыя меркаванні апраўдаць такога не могуць, наадварот, драты канчаткова кампраметуюць кожны ўрад і паказваюць, што ад яго больш няма чаго чакаць. У часы Дыяклетыяна першым хрысціянам не было патрэбы ні ў доказнай інквізіцыі, ні ў «молаце вядзьмарак», ні ў Нікейскім саборы. А калі ўсё гэта пачалося — царква загінула, сама сабе падпісала прысуд. Тут ужо нічога не зробіш, не дапаможа нават канфедэрацыя ўсіх адзінаверных рэлігій, — будызм, юдаізм, хрысціянства і магаметанства — аб якой зараз многа гавораць. І так паўсюль.

Як Вы пішаце? Што пішацца? Калі ласка, Ларыса Антонаўна, пішыце, родная, не давайце дробязям жыцця загасіць Ваш добры агонь.

А я свой раман скора скончу. І зноў будзе бойка. Ды гэта ўсё нічога. Абыдзецца. Перажывем.

Ну вось і ўсё. Пішыце, калі будзе час. Не гневайцеся. Жадаю Вам усяго добрага.

Ваш *Уладзімір*.

P. S. Прывітанне Тарзану. Пацісніце яму лапу. Моцна.

## 18. ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*13 студзеня 1964 г.*

Шаноўная Ларыса Антонаўна!

Вы задалі мне шмат пытанняў, і таму пастараюся на ўсе адказаць паслядоўна.

Пачну з [Юльяна] Сергіевіча. Баюся вельмі, што я яму грунтоўна нічым дапамагчы не магу ў яго вельмі зразумелым жаданні друкавацца. Не зважаючы ўжо на іншыя акалічнасці, перашкодай да таго з'яўляецца яго жыхарства, як відаць з адраса, у Мінскай вобласці. У нас у газеце такі парадак, што друкуюць толькі жыхароў сваёй вобласці. Гэта незалежна ад жанру — хоць артыкул, хоць верш. Жыхароў з другіх гарадоў і другіх абласцей друкуюць у выключных выпадках. Відаць, лепей за што іншае яму трэба параіць паслаць што-колечы з сваіх твораў у рэспубліканскі друк — у «Вожык», «Мінскую праўду», «Беларусь», у маладзёжныя газеты, а можа, і ў «Полымя». Астатняе будзе залежаць ад якасці твораў, іх тэмы. Вось гэтым, мабыць, я толькі і магу дапамагчы яму.

Цяпер пра Васілька. Я ведаў яго ў апошнія гады ягонага жыцця. Уражанні мае аб ім добрыя. Ён быў добры чалавек, вельмі сардэчны, абыходлівы, з 49-га ці 50-га г. працаваў у Гродне ў рэдакцыі. Творчасць жа яго, праўда, змізарнела пасля вайны, вершы сталі рытарычныя і нецікавыя, ды ён і сам ведаў гэта, і глядзеў на іх толькі як на заробак. Сям'я ў яго была не дужа малая, другую жонку ўзяў з дочкамі. Да таго ж любіў чарку ўзяць, і нават вельмі. Наогул, жыццё яго было паламанае, ён усё хацеў у Мінск да сяброў, але туды яго чамусьці не ўзялі.

Калі Сергіевіч хоча падрабязней даведацца аб ім, дык няхай пашукае ў бібліятэцы кнігу Ул. Калесніка «Пісьменнік і час», выдадзеную ў мінулым годзе. Там вельмі добра, мне здаецца, напісана пра Васілька, Засіма, Салагуба і іншых. Сын яго Лёнік ужо скончыў Вышэйшую партыйную школу ў Мінску і недзе працуе ў рэдакцыі раённай газеты. У Гродне жыве жонка Міхася Мар'я і з ёй іхні малодшы сынок Ярык. Ходзіць у сёмы клас, здаецца.

Цяпер пра сябе. Аповесць усё ж выходзіць у № 1 «Маладосці». Два дні як прыехаў з Мінска. Ледзьве не зарэзалі зусім. Давялося ахвяраваць што-колечы. Выйдзе —

пачытаеце і пакрытыкуеце, крытыкаваць там ёсць за што. І па маёй віне, і насуперак мне. Нічога не зробіш — інакш нельга. Што датычыць мовы, дык я і сам ведаю свой грэх, але гэта грэх не толькі мой, гэта — выхаванне. У часы Вашай маладосці беларуская мова вельмі шмат узяла ад польскай, у гады нашай і цяпер — ад рускай. Таму зусім натуральна, што Вам здаюцца ненатуральнымі мае стыль і лексіка, а мне — Вашы. Ненатуральна, бо непрывычна, але, мусіць, гэта не значыць, што няправільна.

Да таго ж улічыце маю тэму — тэму вайны, арміі, дзе беларуская мова наогул не мела аніякага ўжытку. Відаць, каб я пісаў пра вёску, пра сялян, змяніліся б і мова, і стыль. Гэта элементарна. Хоць, зрэшты, на крытыку я не крыўджуся. Верш Ваш я ўрэшце разабраў з Вашай дапамогай і са спазненнем дзякую.

Шкада, так атрымалася, што Івана Пятровіча мне не давялося прыняць як мае быць, не было маёй гаспадыні, ды трохі перашкодзілі захмялелыя хлопцы. Да таго ж я быў з дарогі, недаспаны, і гаворка наша не была грунтоўнай. За што і прашу ў І. П. прабачэння. Жонка мая дзякуе Вам за прывітанне і шле сваё.

З павагай — *Васіль*.

## 19. ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*7 лютага 1964 г.*

Добры дзень, паважаная Ларыса Антонаўна, добры дзень, шаноўны Іван Пятровіч!

Трошкі Вы зачакаліся, відаць, майго пісьма, а для мяне ўвесь гэты час быў дужа гарачы. Дзесяць дзён — з 21-га да 30-га — праседзеў у Маскве, рэдагавалі маю «Баладу», заціснуўшы ў кулаку нервы, крэмсаў тое, што сам напісаў, перайначваў, перарабляў, змякчаў і закругляў. Інакш нельга было. Праўда, думаю, што сапсаваў не вельмі, даводзілася шмат працаваць над мовай (у гэты раз — над рускай). Мова — вельмі працаёмкая рэч, у гэтым пераконваюся ўжо даўно, таму ахвотна пагаджаюся з Вамі, Ларыса Антонаўна, наконт канкрэтных хібаў маёй аповесці. Іх хапае. У апраўданне сябе хачу толькі заўважыць, што апроч аўтара ў творы яшчэ пакідае свой след рэдактар (таму ў нас кажуць: што ні рэдактар — то стыль; яно і сапраўды — не аўтар вызначае стыль кнігі ў сэнсе мовы, а рэдактар). Па-другое, у нас на Беларусі ў кожнай вёсцы свая гаворка, вось тут і разбярыся.

Са здзіўленнем прачытаў у Вашым лісце пра плёткі, якія ходзяць у Зэльве аб маёй асобе. Здаецца, у Гродна такіх яшчэ няма. У гэтым сэнсе прыярытэт за правінцыяй. Цікава толькі, хто гэта [раз]носіць такую лухту? Відаць, Вы ўжо прачыталі Брыля і маю аповесць. Пра Брыля дык магу паведаміць, што было абмеркаванне ў Інстытуце літаратуры, паставіліся нядрэнна. Выдавецтва ж, наадварот — бракуе. Наконт маёй «Балады» пакуль маўчаць, не ведаю, што скажа першы. У Маскве то стаўленне амаль скрозь адмоўнае — не той герой, не тыя размовы. Гэта самая цяжкая мая аповесць у сэнсе выдання, я проста ўжо знясілеў. Іншыя даліся лягчэй, а я не лічу яе горшай за хоць бы і «Ракету».

Пра Валодзю [Караткевіча] нічога пакуль не чуў. У нас тут цяпер У. Калеснік з Брэста. Перадаваў Вам прывітанне. Аляксей [Карпюк] і Данута [Бічэль] памалу пішуць. Данута трошкі хныча з прычыны розных непаладак. Але нічога. Я, пакуль не вырашацца ўсе выдавецкія пытанні-справы, нічога не магу пісаць. Чакаю вясны.

Ларыса Антонаўна, Вы пытаецеся, што ёсць вартага з кніг. Нямнога сам цяпер чытаю, але раю Вам «Самый далёкий берег» С. Злобіна ў № 2–3 «Молодой гвардии» за 1963 г. Далей — аповесць А. Асіпенкі ў № 11–12 «Маладосці» (63 г.), праўда, сам не

чытаў, але што-колечы чуў. Далей — аповесць у № 1 «Юности» (64 г.) хваляць. У № 1 «Иностранной литературы» надрукавана некалькі апавяданняў Ф. Кафкі і артыкул пра яго. Калі цікавіцеся — прачытайце.

Больш вартага, здаецца, у апошні час нічога і няма. На тым бывайце здаровы. Пішыце.

Ваш — *Васіль*.

Прывітанне ад маёй жонкі.

## 20. ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*2 сакавіка 1964 г.*

Паважаная Ларыса Антонаўна!

Дзякую за Ваш ліст, які я атрымаў якраз перад ад'ездам у Мінск. Дзякую і за добрыя словы аб Іване, якія мяне вельмі ўсцешылі, бо я дужа, прызнацца, сумняваўся наконт таго, як Вы да ўсяго паставіцеся. Яшчэ было неяк трывожна пасля Вашага ад'езду з Гродна, цяпер, пасля Вашага ліста, трывога гэта неяк змарнела.

Быў у Мінску, бачыў Валодзю [Караткевіча], Барадуліна, Стральцова і, вядома, Георгія-братушку з Сафіі, вельмі вартага хлопца. (Дарэчы, там жа, у Георгія, пазнаёміўся з адным чэхам, але ён мне не спадабаўся.) Валодзя гаротны, сядзіць без грошай, многа працуе (казаў, па 10 г. у суткі), напісаў ужо 800 старонак свайго рамана. Каліноўскім ён проста трызніць, шмат гаворыць аб ім. Я думаю, хай дае яму Бог удачы, самай вялікай пасля ўсіх гэтулькіх шматлікіх няўдач, перажытых ужо.

Я ездзіў на кінастудыю, выклікалі на рэдакцыйную калегію. Хочуць ставіць фільм па «Баладзе», ужо ёсць рэжысёр, напісаў я і сцэнарый, хоць яшчэ не ўсё добра ў ім. Я думаю — няхай робяць, характар Івана мне таксама даспадобы, хоць я і не меў на ўвазе стварыць вобраз святога, без страху і дакору рыцара. Гэта просты хлопец, які пражыў нялюдскае жыццё (25 год), але які захаваў у сабе ўсё самае высакароднае, хоць яно ў яго і не ляжыць на плячах, і не блішчыць. У рускім варыянце (які, дарэчы, будзе друкавацца ў «Огоньку» з № 12) што-колечы давялося прырэзаць, зняць, некаторыя рэчы яны знялі самі. Балюча гэта для аўтара і крыўдна, але нічога не зробіш.

Паважаная Ларыса Антонаўна! Дзякуй вам за запрашэнне да Сергіевіча, але, мусіць, пакуль што не збяруся. Вельмі ўжо шмат турбот кіно і літаратурных, ды і на службе запусціў мнагавата. Хіба што па цёпламу, улетку. Ну, але гэта далёка.

На тым і ўсё маё кароценькае пісьмо. Шанаванне Вам ад усёй маёй сям'і. Шчырае прывітанне Івану Пятровічу. Як яму спадабаліся «Балада» і «Птушкі [без гнёздаў]»?

Пішыце. З павагай — *Васіль*.

## 21. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*13 красавіка 1964 г., Чалябінск*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Напэўна, Вы адкуль-ужо-адкуль, а з Чалябінска ліста ад мяне не чакалі. А між тым, я так доўга і не мог пісаць, бо справы пагналі сюды. Думаў быў спачатку яшчэ з Мінска напісаць ліст, але так здарылася, што спачатку вымушаны быў ехаць у Вільню, а потым — сюды.

Справа ў тым, што ўрэшце, здаецца, дазволілі прыступіць да напісання рэжысёрскага сцэнарыя па майму «Сонцу». Дабіліся гэтага людзі, што прыехалі на кінапленум

у Мінск: М. І. Ром і іншыя. Дальбог, столькі зрабілі, што самому было трохі нязручна. І, дзіўна, гарой стаялі, галоўным чынам, яўрэі. Што, здаецца, я для іх? А яны паставілі сябе ў сто разоў лепей, чым нашы браткі-беларусы, якім тут бы і ваяваць. Лепей, чым уся гэтая навалач, усе гэтыя Л. і Г., што сваю бяздарнасць узводзяць у абсалют, а на ўсіх астатніх плююць. Ну вось, тут і пачалося. Рэжысёр мой выявіўся трохі лайдаком і большасць работы захацеў перакласці на мае плечы, хаця тут яму і карты ў рукі, і дапамагчы яму ў рэжысёрскай рабоце я аніяк не магу. Зноў палез з пераработкай. А мне раман пісаць трэба. Я зразумеў, што спакою ён мне не дасць, і ўцёк.

Дарэчы, ён мне заявіў, што перапрацоўваць, нібыта, трэба таму, што ўсе ў кінаглаўку супраць сцэнарыя. І толькі потым, у Маскве, я даведаўся, што большасць людзей — за, асабліва пасля таго, як чалавек, што кіруе гэтай справай, Куніцын, прачытаў сцэнарый і ўхваліў яго, так што цяпер і іншыя могуць выяўляць сваю пр-рынцыповасць. Нашто спатрэбілася рэжысёру гэтая несумленная гульня — я так і не зразумеў.

І вось я напісаў яму ўсё гэта. Сказаў, каб ён мяне не шукаў, каб працаваў без гультайства. А я вярнуся — выпраўлю тое, што ён ужо зрабіў, і дапамагу там, дзе ў яго аніяк не атрымліваецца. А напісаўшы, узяў ды ўцёк.

Спачатку паехаў у Вільню. Хадзіў па вулках, рыўся ў старых справах і кнігах. Праседзеў нават некалькі гадзін на Гедымінавай гары, назіраючы, як сядае сонца ў канцы сакавіка, нешта каля дваццаць другога, дня страты. Блукаў па касцёлах, штурхаўся па музеях, чытаў «Шляхціца Завальню» Яна Баршчэўскага — незаконна забытага нашага таленту, чорт ведае па якой прычыне выштурхнутага з літаратуры ў дваццатыя гады. І так дагэтуль і не вернутага, хутчэй за ўсё таму, што кніга, выдадзеная 110 год назад, нават у Мінску ёсць не ў поўным выглядзе, а ў Вільні — адзін экземпляр. Вырашыў, што вось скончу і, бог дасць, выдам раман, а потым пастараюся павесці бойку за рэабілітацыю. Сапраўдны дэмакрат, беларускі Гофман у сумесі з Гогалем. Чароўная казачнасць і фантастыка, цвёрдае разуменне сябе як беларуса, а зямлі сваёй — як Беларусі, аб чым сам ён паўсюль гаворыць. То ці не задоўга не аднаўляюць чалавека ў правах, ці не празмерна мучаюць нас і пэцкаюць ягоную памяць. Такое ўжо свінства. Чалавек напісаў некалі верш, у якім паказаў рабунак мужыкамі маёнтка пры Напалеоне. І вось дэмакрата выставілі чорт ведае чым… Дзяржавін для «пиитического восторга» папрасіў, каб павесілі некалькіх пугачоўцаў, — яго вывучаюць у школе. Грыбаедаў называў горцаў Каўказа самымі апошнімі мянушкамі і апраўдваў нашэсце — ён геній. А тут — верш… Хопіць ужо. Нельга, відаць, пступацца і залатнікам свайго.

Потым я паехаў у Чалябінск, і тут ужо скора тры тыдні, як сяджу і працую гадзін па дзесяць у дзень. Напісаў вельмі многа, трэба напісаць яшчэ больш. Сёння ледзь-ледзь выбраў хвіліну, каб урэшце напісаць Вам аб сваім жыцці. Не крыўдуйце, дарагія мае, што часам цягну з адказам. Самі разумееце, каб не справа — я ніколі не дазволіў бы сабе гэтага. Ды і справа ледзь не самая важлівая, якую я за свае трыццаць тры гады рабіў. Трэба мне скончыць. А там ужо будзе гады два-тры больш-менш спакойных. Ёсць у мяне на зборнік вершаў і на зборнік — апавяданняў. То вось складу дзве кніжкі ды буду ездзіць паўсюль, ды новыя вершы пісаць, ды без спеху збіраць матар'ялы на другі раман, на наступныя трыццаць год беларускай гісторыі. Ужо і назва ёсць — «Візантыя маўчыць». А адным з галоўных герояў будзе Яўхім Грынявіцкі, што, памятаючы гісторыю паўстання, кінуў бомбу ў цара. Паглядзім, што з гэтага атрымаецца. Можа яшчэ і з «Каласамі» нічога не будзе.

Буду ў Мінску, відаць, пасля 21-га красавіка. Пасяджу дзён дзесяць, уладкую ўсе справы. Можа, удасца аповесць праштурхнуць у «Маладосць», то забяспечуся да канца рамана. А там паеду, пэўна, у Рагачоў ды зноў месяцы з два нікуды не буду вылазіць.

Забыў Вам перад ад’ездам даслаць кнігі, якія купіў для Вас. То ўжо з Мінска дашлю. Маці таксама тут. Дачакаемся, пакуль прыедзе муж сястры, — і на радзіму. Маці дасылае Вам прывет самы сардэчны і цёплы і просіць прабачэння, што не адказала на ліст. Тут работы даволі многа, то яна адкажа ўжо з дому.

А як у Вас? Як жыццё? Як працуе і што робіць Іван Пятровіч? Ці пішаце Вы? Ці ўзяліся за вялікую справу? Пішыце, дарагая Ларыса Антонаўна. Гэта вельмі патрэбна і Вам, каб прайсці зноў пуцявінамі, і нам, і ўсім добрым людзям, харошым сябрам.

Мілая Ларыса Антонаўна! Шчырае, вялікае Вам дзякуй за цудоўныя вершы. І за «Сутонне», і за такі харошы і такі добры для мяне «Падае снег». Ён прыйшоў якраз у вельмі цяжкую для мяне хвіліну і моцна падтрымаў, прымусіў хоць трохі паверыць, што ёсць людзі, якія не вельмі нізкай думкі пра мяне.

Зрабіў ужо шмат. Зараз герой мой ужо дарослы і разумны мужчына. Нават у сустрэчы з Шаўчэнкам сім-тым дапамог яму. А з ім разам разумнею і я, калі гэта толькі магчыма: такому дурню ды паразумнець. Пішыце. Жадаю Вашаму добраму дому светлых дзён.

Ваш *Уладзімір Караткевіч*.

Найлепшы з усіх пацалункаў зямных той, якім нас цалуе Муза.

## 22. ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*18 красавіка 1964 г.*

Шаноўная Ларыса Антонаўна!

Я зноў затрымаўся з адказам на Ваша пісьмо, зноў клопату па самыя вушы — з кіно і з поваду публікацыі аповесці ў «Огоньке». З кіно нелады наконт сцэнарыя, некалькі разоў ездзіў у Мінск, удзельнічаў у розных абмеркаваннях. «Огонёк» шмат што выкінуў з аповесці, дык я ўжо не рад і такой ласцы іх. У выдавецтве ў Мінску, здаецца, аповесць пойдзе, быццам бы здалі ў набор. Але як там будзе ўрэшце — яшчэ невядома.

Настала вясна, прыгрэла сонца, гэта заўжды паднімае настрой, і з’яўляецца цікавасць да прыроды, да жыцця, аддзеленага ад чалавека. Даводзіцца калі-нікалі выступаць перад чытачамі, школьнікамі, пераважна тут, у Гродні. На раён яшчэ не адважваліся сунуцца. Аляксей [Карпюк] улёг у працу, піша нешта новае, я ж пакуль што за новае не бяруся. Данута [Бічэль] чакае новае кніжкі вершаў, але кніжка тая нешта вельмі марудна выдаецца ў Мінску.

Ці чыталі Вы нядаўна ў «ЛіМе» рэцэнзію на Брылёў раман, якую надрукаваў Я. Герцовіч? У Мінску я гутарыў з многімі, адносіны да «Птушак [без гнёздаў]» вельмі розныя: адны хваляць, другія ганяць, трэція — і так і сяк. Згоды, як гэта было ў адносінах да Мележа, няма ніякай. Я ўжо не ведаю, што гавораць пра маю аповесць, у вочы ніхто нічога не хоча сказаць, а ў друку яшчэ не было ні радка. Чытачам жа, як я гэта магу меркаваць, быццам падабаецца.

Што ў Вас новага? Як здароўе? Ці напісалі Вы, Ларыса Антонаўна, які новы верш? Можа б, надрукавалі што ў «Гродненской правде»?

Запытайце, калі ласка, у Івана Пятровіча, што з часопісаў я абяцаў яму паслаць у Зэльву? Я зусім забыўся за гэтай калатнечай, за што прашу прабачэння.

На тым усяго Вам найлепшага, добрага настрою і здароўя.

Ваш *Васіль*.

## 23. ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*3 траўня 1964 г.*

Шаноўныя Ларыса і Янка Геніюш!

Хоць са спазненнем, віншую Вас са Святам, якое Вы святкуеце, жадаю Вам абоім добрага здароўя і сонечнай вясны.

А я толькі ўчора прыехаў з Масквы, куды ездзіў па выдавецкіх справах, здаецца, цяпер нешта атрымаецца з маім вельмі няўдалым апавяданнем, якое абышло амаль што ўсе часопісы і цяпер прыбілася ў «Юность». Абяцаюць надрукаваць у № 7, для таго зрабіў сякія-такія папраўкі-ўступкі. Бог з імі! Галоўнае засталося, а каб яго давесці да чытача, відаць, трэба ў чым-колечы і ўступіць.

А як Вы жывяце? Мы тут з Аляксеем [Карпюком] гутарылі наконт той аднаактоўкі ў «Вожыку», ён якраз прыехаў з Мінска і казаў, што Вы напісалі туды пісьмо. Ці варта гэта, сапраўды? З разумных людзей ніхто гэтага Прокшу ўсур'ёз не прымае, а дурным хіба што ўваб'еш у іх галовы?

Мы тут збіраемся правесці чарговы сход нашага літаб'яднання, збяруцца хлопцы, абмяркуем вершы. Аляксей кажа, што варта запрасіць Вас, Ларыса Антонаўна, няхай бы Вы пазнаёміліся з нашымі маладымі хлопцамі і дзяўчатамі, паслухалі і прынялі ўдзел у абмеркаванні. А мо нават і зрабілі б агляд вершаў каго-небудзь з беларусаў. Ваш аўтарытэт і вопыт быў бы для іх карысны. Як Вы самі на гэта гледзіцё? А то, можа, прыехалі б напярэдадні? Час я паведамлю пазней, пазваню па тэлефоне або напішу.

Быў праездам у Мінску, але мала каго бачыў. Брыль у Кіславодску перапрацоўвае раман, Валодзя [Караткевіч], кажуць, ужо скончыў свой, хваляць людзі. Астатняе ўсё ідзе, як і ішло раней.

На тым канчаю свой кароткі лісток, бывайце здаровы.

Са шчырасцю — *Васіль*.

## 24. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*19 ліпеня 1964 г.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Пішу Вам ліст з дарогі, спыніўшыся разам з экспедыцыяй на пару дзён у Рагачове. Скарыстаўся магчымасцю на якую гадзіну адкінуць усе іншыя справы і адказаць. Не ведаю, дзе буду заўтра, праз дзесяць дзён і праз месяц. Чакаюць мяне два месяцы на колах, так што пішыце лепей за ўсё на Мінск, а можа, і на Рагачоў. У Мінск я рана ці позна траплю, у Рагачоў думаю яшчэ заехаць і трохі адпачыць, а можа, мне і перашлюць ліста. Так што пішыце і не крыўдуйце, што, магчыма, я не адразу адкажу.

Напэўна, пісаў ужо Вам аб апошняй працы. Ездзім на «казле» з аператарам Анатолем Забалоцкім і здымаем на плёнку розныя раслінныя дзівосы. Былі на Наваградчыне (Валеўка, Свіцязь, Міцкевічаў дуб у Варончы, альтанка Марылі ў Туганавічах, алея Храбтовіча пад Шчорсамі, дуб Гражыны ў Шчорсах, таполя Напалеона па дарозе з Любчы на Наваградак, дубы ў Белавежы).

Фільм умоўна завецца «Дрэвы, манументы нашы…», што дае намёк на словы Адама «джэвы, помнікі нашэ, іле кожен рок вас пожэра…». Будзе ў ім дзве часткі паэтыкі і філасофіі наконт дрэў і іх схожасці з людзьмі. Мяркую, павінна атрымацца цікава, тым больш, што аператар — выключны.

Ездзілі потым на Ушачы — Полацак, на азёры ды на лясы. А зусім нядаўна пачалі новы рэйд: Бабруйск — Мазыр — Лельчыцы — Данілевічы, у палескую глуш. Здымалі

цар-дуб, або яшчэ «дуб Крывашапкі», гэтакае маленькае, усяго метраў на сорак, сімпатычнае дрэўца. Зусім маладзенькае, прыблізна год на тысячу з беларускім «гакам». Толькі трошачкі яно старэйшае за Маскву, Берлін, Нью-Ёрк, Рыгу, Францыю як дзяржаву, Расію як дзяржаву… Словам, лухта.

У Данілевічах, ля якіх расце гэты зялёны дубочак, былі якраз на Пятра і Паўла. Тамтэйшыя казакі-палешукі так напетрапаўліліся, што глядзець было люба.

Не зважаючы на дары Вакха, якіх кожны хлебтануў аж трохі зашмат, — было сапраўды прыемна. Былі ўсе людзі ў дзедаўскіх, літаральна музейных строях: вышываныя (жывога месца няма) кужэльныя сарочкі, шнуроўкі-кабаты, клятчатыя ці проста чыпаватыя, у розныя колеры, андаракі і спадніцы з хвандамі. Мужыкі ў вышываных кашулях. Песні свае.

Упершыню бачыў усё гэта так суцэльна, без выняткаў. А ў хатах і посцілкі, і рушнікі, і ўсё, што Вам толькі будзе пажадана. Нават блохі ў адрыне — і тыя свае. Сапраўды, было вельмі прыемна. Тым больш, што гэта не аперэтачныя пейзажы, а — заўсёды так. Знікае, аднак, і гэта. Нястрымна.

Не хачу я, Ларыса Антонаўна, абражаць Вашу веру; ведаю, што яна Вам — неабходная; нікога ў сваю веру (то бок праўда чалавечых пачуццяў, думак, любові) не збіраўся перавёртваць (у кожнага яна свая, вера), але падумайце, ці можна ўсхваляць вышэйшую істоту, калі яна ёсць, за тое, што рабілі, робяць і будуць рабіць з намі, ёлупамі святымі ды божымі. Не магу я такому верыць і не буду ніколі. Дазваляеш такое з харошымі святымі па пакутах, дабрыні і працавітасці людзьмі — не спадзяваючыся нінавошта, акрамя пагарды з боку тых адзінак, якія сярод гэтага народа не хочуць быць проста авечкамі. Вось Вам і маё credo. А калі я ўсё ж-такі траплю ў пекла — спадзяюся, Вы за мяне памоліцеся, калі мы да таго часу яшчэ раз не пасварымся.

Дарэмна Вы гэта зрабілі з папярэднім Вашым лістом. Дагэтуль мне гэта цяжка — ну ды бог з Вамі. Я — чалавек дарослы, сам за свае ўчынкі адказваю. Сустрэнемся калі-небудзь — раскажу Вам сёе-тое, каб Вы не ўздумалі ніколі больш паўтараць такі недарэчны ўчынак. І потым, гэта ж дрэнна зразуметая дастаеўшчына, «самому пострадать за всех». Сябры ёсць сябры.

І потым, Вы ў сім-тым сказалі няпраўду. Вы не проста «адганялі сяброў і мяне». Вы на самай справе трохі думалі пра мяне дрэннае. Гэта адчувалася. Я ж не глухі сэрцам. Ну, до. А то я ўжо нешта сёння разбурчэўся, як старая цёшча, «чапяла гэткая, ці ведаеце вы ўжо».

Паколькі я павінен яшчэ ездзіць «па дрэвах» у канцы лета, а потым восенню, калі яны з жоўтай лістотай і зусім без яе — маці ў Кіеве ў сваякоў. Ліста Вашага я ёй даслаў. Пэўна, яна адкажа, хаця не ведаю, ці разбярэ асобныя словы (звычайна, я — ужо звыклы — перакладаю ёй два-тры нечытэльныя месцы). Але гэта нічога. Яна Вас любіць, так што ўсё добра зразумее сям-там нават без слоў.

Дык значыць, усё па-ранейшаму? Ну вось і добра.

Даў у «Полымя» толькі першую палову «Каласоў». Так, магчыма, менш скароцяць. «Маладосць», здаецца, з вераснёўскага нумара пачне друкаваць у трох нумарах «Дзікае паляванне караля Стаха». Таксама нічога сабе. Хаця некаторыя месцы і пэнкнулі. Шкада, што не здолею пакуль прыехаць да Вас, убачыць усіх, патрымаць за лапэты Міхаську. Гэтыя два гады нягод зрабілі так, што мушу шалёна працаваць, каб выдраць хвост з пасткі. А І[ван] П[ятровіч] дарэмна казаў так Юрку. Дальбог. Мяркуючы па тым, што Вы распавялі мне, — ён выключны. Думаю, мы сустрэнемся з ім яшчэ. А да Вас я таксама прыеду, крыху пазней.

Ну вось і ўсё. Хлопцы цягнуць здымаць кісцянёўскія дрэвы, і ліст дапісаны.

Цалую Вас усіх — *Уладзімір*.

## 25. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*15 верасня 1964 г., Рагачоў.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Як Вы ведаеце, усё лета матляўся па розных мясцінах, здымаючы старыя дрэвы. Паездка мая зацягнулася, і я не трапіў у Мінск на большы тэрмін, чым можна было меркаваць. Урэшце асеў у Рагачове і толькі быў сабраўся даслаць Вам пазачарговы ліст, як выклікаў мяне ў Мінск аператар Толік Забалоцкі: нешта не ладзілася ў яго з мантажом. Прыязджаю, а мне падносяць прыемны сюрпрыз: аператара выклікаюць у Кішынёў, паказваць там ягоную карціну «Цераз могілкі». Я, канешне, толькі рукамі развёў. Любата! Сцягнуць чалавека з месца, выклікаць, а самому паехаць. Забалоцкаму таксама непрыемна: едзем, кажа, са мной. Грошай, кажу, няма. За гэта, кажа, не непакойся. Я падумаў-падумаў. Не ўсё ж я — сябрам. Трэба часам, каб і яны — мне. Ды ўзяў і паляцеў з ім самалётам у Малдавію. І не шкадую. Чароўныя прадгор'і, вінаграднікі, кранутыя першымі мазкамі восені, белыя хаты з чарапянымі дахамі, звезеныя з дарог на могілкі крыжы самай незвычайнай народнай работы.

Прабылі там з аператарам тры дні. «Могілкі» нашы спадабаліся. «Беларусьфільм» хвалілі, магчыма, нават і занадта. Але ў сім-тым мелі рацыю. Вайна, сапраўды, ледзь не ў першым беларускім фільме паказана з набліжэннем да арыгіналу. І, галоўнае, ёсць некаторае пранікненне ў сам вобраз Беларусі. Дзіўна, бо акторы пераважна з боку. Думаецца мне, гэта зрабіў аператар. Сам ён алтаец, з Абакана, але дзяды ягоныя былі высланы з Беларусі пасля Каліноўшчыны. І магчыма, падсвядомая памяць і яшчэ свежае вока, якое адразу хапае ўсё адметнае і незвычайнае, і дапамагалі яму зрабіць гэта. Фільм збольшага добры, хаця і жорсткі. Кінутая зямля, разораная ўсімі, каму не лень, разбітыя капліцы, знявечаныя распяцці на раздарожжах і, уласна кажучы, супраць вялікай машыны — шчанюк-хлапчынка, атручаны нянавісцю (урэшце — законнай), але яшчэ і рознай лухтою, ды стары чалавек, ды сухотнік механік, ды ягоны юродзівы сухарукі сын. Вось і ўсё. І, тым не менш, ясна: такія маглі. Без усялякіх там загадаў, якія часта толькі перашкаджалі. І не менш ясна другое: якія людзі гінулі без усялякай надзеі на лепшае! Для тых, хто думае, — горды, але і надзвычай сумны фільм. Ёсць і лухта, але галоўнае не ў гэтым.

Ну, аб гэтым досыць. Вярнуўшыся ў Мінск, атрымаў Вашага ліста, а адказваю ўжо з Рагачова, пасля таго, як у Мінску папрацаваў з Анатолем над «дубамі». Паехаў сюды з намерам пасядзець хаця месяц спакойна і папрацаваць. Ды, відаць, нічога з гэтага не атрымаецца.

Застудзіўся трохі на паляванні. Лазіў за вадзяной курачкай (спан'ель, сукін сын, з сухога не падае, мазгоў не хапае, каб скеміць, што сухое — астравок пасярэдзіне Дняпровага старыка). Але гэта лухта, бо даводзілася ў жыцці і ледзяной вады пакаштаваць. Горш другое. Гадзінай пазней пачалася страшэнная навальніца. Я паспеў схавацца ў дашчаным доміку вартаўніка ля быдлячага загону. Узрадаваўся, што сухі. Маланкі білі вакол так, што сядзеў, бы ў шатры. І ліло, ліло, ліло: навальніца ішла без перапынку. Зразумеў, што не пераседжу і пайшоў пад дажджом чатыры кіламетры да чаўна, а пасля чаўном гадзіну дадому. Змокнуў, вядома, але добра зрабіў, што пайшоў. Бо зліва перайшла ў арабінавую ноч, такую, якую мне рэдка даводзілася бачыць. Маланкі аж ліловыя, штохвілінна па дзесяць.

Ну і, словам, трэці дзень нешта круціць, і галава — як біч на цапільні. А я амаль ніколі не хварэю і, як кожнаму такому, мне звычайная нежыць цяжэйшая, чым іншаму двухбаковае запаленне лёгкіх. Настрой дрэнны, так бы на ўсіх і гыркаў, усё (і ў тым ліку Рагачоў) абрыдла. І, галоўнае, не працуецца, хоць ты галаву аб стол разбі. З дзядзькам палаяўся.

Калі яшчэ дзень не пройдзе — паеду адсюль у Мінск і распачну там звычайны, асенне-зімовы сезон работы. Буду працаваць са злосці, як вол. Са злосці, бо і яшчэ адно лета цягнуў лямку неабавязковых спраў замест таго, каб сядзець з пачатку чэрвеня на адным месцы, кожны дзень рэгулярна шэсць гадзін працаваць, а астатні час загараць, лавіць рыбу, збіраць грыбы і не думаць ні аб асфальце, ні аб студыі, ні аб газетах, ні аб зубаскальстве ў рэдакцыях.

І рыбу я, вядома, лавіў, і ўсё. Але так мала гэтага было, што лета прамільгнула, як на кінаплёнцы.

Але гэта, відаць, ад стану. Грэх сказаць, паездзіў-такі. І ўсё ж нешта засталося недаробленым, незавершаным, бы ў сне, а вось ужо і восень, і дажджы, а потым — зіма. Тут, у Рагачове, мая мама. Я ёй пераслаў Ваш ліст, і вось цяпер толькі, пры сустрэчы, перачытаў ёй яго, бо яна сёе-тое не зразумела. Цяпер яна едзе на пару дзён у Оршу і адтуль або з Мінска адкажа Вам вялікім лістом. Яна дзякуе Вам за запрашэнні і ад усяго сэрца шкадуе, што не магла гэтым летам з іх скарыстацца. І я шкадую, за сябе. Таксама. Але нічога. Убачымся. Напішыце толькі, калі Вы паедзеце ў Польшчу, каб я ведаў, калі мне можна будзе выбрацца да Вас. Размяркую свае планы, выкраю некалькі дзён ды й махну.

Туліпаны маці Вам шукае. Цяпер вось у Оршы зойдзе да пары кветкароў і спытае ў іх. Бо, вядома, у прыватных гандляроў на рынку ніколі нічога такога не купіш. Ім абы прадаць: «белыя, любка, белыя… і бэзавыя-бэзавыя». А ў дзяржаўных таксама не заўсёды ёсць. Я паспрабую яшчэ ў Мінску зайсці ў Батанічны сад. Словам, як ёсць, то будзе.

А як справы ў Вас? Як здароўе ўсіх? Як працуецца? Дзякуй Вам, Ларыса Антонаўна, за вершы. Чым я аддзякую за іх? Не майстра я пісаць codeвершаваныя лісты. Вось, хіба, калі напішацца добры-добры верш… Але і яго нешта пакуль не магу напісаць. Усё забірае чортаў раман. Усе чыста сілы. І хто яго будзе чытаць, калі ў ім у канчатковым выглядзе будзе не менш, як тры тысячы старонак на машынцы? А зараз час доўгіх кніг часова прайшоў: у людзей няма часу. Раман — чатырыста старонак і ніякіх гваздоў. Суцяшае мяне толькі тое, што інакш не мог. Трэба было адной кнігай сказаць усё аб цэлай зямлі. Бо хто ведае, магчыма, болей і не паспею. Ніхто не ведае, колькі ў яго ёсць дзён, і я толькі цяпер пачынаю разумець гэта — кожную кнігу трэба пісаць так, нібы гэта твая лепшая і апошняя.

А вершы, сапраўды, цудоўныя. І яны застануцца, я ў гэтым упэўнены. І ў нас будзе яшчэ адна дзівосная постаць, зусім непадобная на многіх, каго цяпер чытаюць.

З верасня мне, здаецца, будзе трохі лягчэй. Пасля двох год маўчання трохі загавару. У нумары дзявятым «Маладосці» пачнецца друкаванне «Дзікага палявання караля Стаха». Яны расцягнулі яго на чатыры нумары, і я гэтым задаволены, бо некалькі месяцаў можна будзе не думаць аб заробках і пісаць, і яшчэ аддам частку даўгоў. У верасні ж «Беларусь» друкуе апавяданне «Сіняя-сіняя…», бадай першае, што мне падабаецца. А сюжэт, як памятаеце, падказалі мне Вы. Ва ўсялякім разе — зерне сюжэта.

У «Полымі» з першай кнігай рамана яшчэ не справіліся. Але Пташнікаў казаў, што ў наступным годзе будуць даваць. Праўда, памеры занадта вялікія для часопіса, і давядзецца скарачаць на трэць. Добра. Проста некаторыя раздзелы перакажу ў двох-трох радках, пецітам, а самае важлівае пакіну.

Ну вось і ўсе мае справы. Буду канчаць ліст. Жадаю ўсяго самага-самага найлепшага.

Ваш *Уладзімір Караткевіч*.

## 26. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*13 лютага 1965 г., Каралішчавічы.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Урэшце я трохі адбіўся ад спраў, якія насядалі з усіх бакоў, і магу напісаць Вам пару слоў. Кінуў у Мінску ўсе штодзённыя справы, якія аніяк не пераробіш, уцёк у Каралішчавічы і тут засеў. Зняў з машынкі чатыры экземпляры рамана (першая палова) і вычытаў іх — 750 × 4 = 3000 старонак. Скараціў для «Полымя» 1500 старонак, напалову. Вычытаў для выдавецтва чатыры экземпляры. Ды яшчэ давядзецца другую палову здымаць з машынкі і вычытваць. А прамой сваёй работы амаль нічога не зрабіў — хіба што артыкул аб Скарыне для ВОКСа ды яшчэ рознай драбязы. Так вось і праходзяць дні і месяцы — што ж, таксама справа.

Ды сумленне заела, тым больш, што маці даведалася з ліста, што так дрэнна здарылася з Вашай, Ларыса Антонаўна, рукой. Дзякуй богу, што ўсё гэта ўжо, як кажуць, мінула, і Вы зноў адчуваеце сябе нармальна.

Сяджу вось, пішу, а за вокнамі ў лесе з ялінамі робіцца дзіўнае. Шмат дзён былі вялікія снегапады — і ціха. А сёння мароз нібы зусім памёр, вялізныя падушкі на дрэвах пачалі падтайваць, ды яшчэ ўзняўся вецер, ходзіць па вершалінах, шуміць. І вось пачаўся снегапад. Падушкамі. Пластамі. Камякамі. Увесь час. Нібыта тысячы вавёрак ходзяць па галлі.

Вавёркі то ёсць. Сёньня наш сабака Дазор заспеў адну пад самым маім акном. Тая стаілася, а ён кідаўся на дрэва, грыз ствол і брахаў цэлую гадзіну. Але нават калі яны ёсць — не адрозніш, дзе вавёрка прайшла, а дзе вецер скінуў снег.

Як там у Вас? Што новага чуваць? Ці баліць яшчэ рука? Ці дапамагаюць Івану Пятровічу суседзі? Ці нешта новае напісалі? Усё ж даслалі б Вы мне пару вершаў з тых, што нейтральныя, ды недзе б я іх уладкаваў. Самі разумееце, часам трэба падаваць голас — маўляў, жывем.

Часта ўспамінаю апошняе маё наведванне. Добра было. Ехаў я ад Вас. Ноч. Рэдкія агеньчыкі хутароў. Да слёз раптам стала балюча ў ідыёцкім гэтым аўтобусе сярод ночы, сярод гэтага зімняга сіроцтва. Няхай яго чорт на той лёс, што судзіў мне нарадзіцца тут і любіць гэтую зямлю.

Не ведаю, ці прыедзем мы на дзень нараджэння. Калі не, то загадзя віншую дарагога Івана Пятровіча і жадаю яму пражыць яшчэ сто год, быць здаровым, дачакацца вялікай радасці і шчасця. Калі ж на дзень нараджэння не прыедзем (мяне могуць накіраваць у Маскву па справах), то ўжо на Вялікдзень, ці абое, ці я адзін, пастараемся быць.

А за вокнамі снег і снег, і надвор'е такое соннае ад шуму, што галава дурэе і, відаць, давядзецца адкласці пісанне лістоў да вечара, калі ўвогуле працуецца лягчэй. Вось толькі Вам напішу… Вядома, лек тут просты: стаць на лыжы. Ды тэмпература — 0. Ды бог з ёй, усё ж паспрабую. А калі ўжо не атрымаецца, то тады проста пехатою прайдуся.

Жыццё тут плыве манатонна. Каб не чарнавая работа, каб пісаць, — было б весела. А так — суцэльная лухта, хаця і патрэбная, бо такія хвасты нецікавай работы цягнуліся за мной, што цяпер аж на сэрцы лягчэй стала, калі іх дабіваю.

На гэтым, відаць, скончу. Прабачце, што пасля такога доўгага маўчання так мала пішу, але проста нічога ў маім каралішчавіцкім жыцці, пакуль тое, не адбываецца. Вось напішаце — завяжам узаемную размову, а магчыма, і спрэчку, то тут ужо зусім іншая справа пойдзе. Пішыце мне. Бывайце шчаслівыя.

Ваш *Уладзімір*.

## 27. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*3 красавіка 1965 г.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Пішу Вам некалькі слоў і загадзя прашу прабачэння, што няладна ў нас атрымалася з днём нараджэння Івана Пятровіча. Але спачатку праца, а потым іншыя справы выбілі мяне з каляіны. І вось цяпер адвёз маці да сястры сюды ў Чалябінск ды й сам вырашыў пасядзець тут трохі, папрацаваць. У Мінску часам амаль немагчыма. Выклікаюць туды, выклікаюць сюды, цягнуць у трэцяе месца, завальваюцца сябры і знаёмыя. Так гэта ўсё абрыдае — вочы б не бачылі. І вось я аж узрадаваўся цішыні. Сяджу і працую. Наўрад ці Вы паспееце адказаць мне сюды (адрас: Чалябінск 15, дом 16, кв. 4, Кучкоўскай (для мяне) — вуліцы няма), ды й не варта Вам так спяшацца. У Мінску буду 26-га, тады напішу яшчэ, а там, бліжэй да вясны, магчыма, і заеду.

Пішу тут гістарычную аповесць (пачатак XVI стагоддзя) — «Хрыстос прызямліўся ў Гродне». Не думайце па назве, што сабраўся блюзнерыць. Я хаця і не веру, але далёкі ад зубаскальства. Проста сумная гісторыя аб тым, як з веры робяць золата, як імем веры (не толькі ў багоў) шматуюць на кавалкі гонар маленькага чалавека і вялікага народу, як усё можна перавярнуць на сваю карысць, калі гэтага патрабуе і без таго поўная каліта. Ну і аб фанатызме, даносах, вядзьмарскіх працэсах і паляваннях на ведзьмаў. Узяўся за гэта нечакана і спадзяюся скора скончыць, а там узяцца за заканчэнне «Каласоў».

А грунт сюжэту — у «Кроніцы Белай Русі» Мацея Стрыйкоўскага: «… і на початку панованя того Жыкгімонта Першого был нейкий… который з лёгкости якой умыслил, або рачей з роспочы і імя і зверхность Хріста господа собе пріпісал і прівлащал».

Вось, значыцца, якія ў мяне справы. Як у Вас справы з рукой і ўвогуле здароўе? Што Іван Пятровіч і работа ягоная? Што робіце і ці пішаце?

Ну яго да шыцікаў, прыезд у школу. Прыеду я лепей адзін ці з Прашковічам да Вас і проста так. А калі ўжо трэба выступіць, то там і дамовімся. Бо з гэтымі тыпамі кашы проста так не зварыш.

Ларыса Антонаўна, я ведаю, вельмі Вам балюча за Юрася. Але трэба ўзяць сябе ў рукі, каб потым узяць і яго. Думаю, гэта ад ягонай, няхай сабе і адноснай, маладосці. Прыйдзе час — пасур’ёзнее. Жыць бы Вам хаця непадалёку адзін ад аднаго. І няўжо нічога нельга зрабіць для дзіцяці? Не ведаю, што тут можна зрабіць, як дапамагчы, калі чалавек, пакуль тое, не хоча дапамагаць самому сабе?! Верце толькі ў адно: усё абыдзецца. А Юрку, магчыма, трэ было б угаварыць (магчыма, Івану Пятровічу), каб паспрабаваў узяць сябе ў рукі ці падлячыцца.

Ведаю, не мне даваць парады, асабліва з той маёй рэпутацыяй у Вашых вачах, аб якой паклапаціліся нашы агульныя сябры. «Паклапаціліся» таму, што я — хачу п’ю, а хачу — і не п’ю месяцамі («я свою п’ю, а не кров людскую» — як казаў Шаўчэнка), ды й п’яны нават не вылаяўся ні разу пры жанчынах. Але ўсё ж Вы паслухайце мяне. Паспрабуйце пагаварыць з сынам вельмі сур’ёзна. І не скаргамі з дакорамі, а як сябра… А Данусі [Бічэль], калі прывядзе лёс убачыцца, скажыце, што каб я быў такі, як яна думае, то… Ды, словам, ладна: праца мая гаворыць за мяне.

Калі прыеду — прывязу штосьці новае. А пакуль моцна Вас усіх цалую і ціcну руку і жадаю самага-самага лепшага.

Ваш *Уладзімір*.

## 28. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*17 ліпеня 1965 г., Рагачоў.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Перш за ўсё дазвольце папрасіць прабачэння за доўгае маўчанне (работы, халера на яе, было зашмат: другі варыянт сцэнара пра ілжэ-Хрыста (1519 г.), артыкулы і іншая дробязь, карэктура палымянская «Каласоў», падрыхтоўка рамана ў выдавецтве) і яшчэ за тое, што не прыехалі. Справа ў тым, што да 28-га мы аніяк не маглі. А тут яшчэ трэба было ўладкаваць маці на лекаванне (чысла 30-га яе чакаў у Кіеве лекар), а мне трэба было сустракаць латышскага сябра, што быў з дэлегацыяй. Словам, не атрымалася. І гэтым летам наўрад ці атрымаецца. Не паспеў скончыць вельмі тэрміновай работы, як учора пазваніў Генадзь Кляўко і сказаў, што яго, мяне і Рыгора Барадуліна забіраюць на жнівень і верасень у вайскоўцы, на Ціхаакіянскі флот, на перападрыхтоўку. Абалванімся — і пайшлі. Заўтра еду ў Мінск, а там праз пару дзён ляцім ва Ўладзівасток.

Мне і сумна, што на пачатку жніўня не паспеў заехаць і што самы ўлюбёны мой час на Беларусі пройдзе без мяне, і ў той жа час трохі нават радасна. Новыя месцы, акіян, які ўбачу ўпершыню ў жыцці, караблі, на якія нас дашлюць. Магчыма, Курыльскія астравы або Камчатка з іхнімі вулканамі і пагрознымі берагамі. Сам бы і яшчэ сто год не сабраўся туды з’ездзіць. Да таго ж муштры, якую я ненавіджу, не будзе, а будзе праца ў газеце, праца карэспандэнцкая.

Вярнуся — давяду да ладу раман, падрыхтую яго да асобнага выдання (калі яно будзе, а то з маім шчасцем я ўсё баюся: не сурочыць бы), а там можна будзе падумаць і аб тым, каб завітаць да Вас.

Не крыўдуйце, дарагія, мы яшчэ не адзін раз сустрэнемся з Вамі.

І яшчэ шкадую, што не будзе мяне тут залатой восенню, падчас палявання. Паплавы бязмежныя, рудаватыя, бо атаву пакасілі, над галавою неба без хмурынкі, паветра такое празрыстае — за дзесяць вёрст кожную былку відаць. А ты ідзеш са стрэльбай, а сабака перад табой гойсае, а ты ўвесь час у напружанні: чакаеш, што вось вырвецца з лазовага куста нехта або прарэжа сінь краншнэп. Нічога не ведаю лепей. Ну, можа там нехта зводзіць на нейкае небывалае паляванне — тады і ўсё будзе добра.

Шкада, што Вы чыталі «Каласы». Знявечаныя яны ў часопісе, скарочаныя амаль напалову. І калі яны ўсё ж пакідаюць нейкае ўражанне, то не «дзякуючы», а «насуперак». Усё скарочана: і манастыр, і 1-ая сустрэча з Кастусём, і многае-многае.

Пішыце на Мінск, калі будзе час, а магчыма, я напішу і з Усходу. Не абяцаю напэўна, бо часу там, вядома, людзям не даюць многа.

Данусі перадайце мае прывітанні і пажаданні самыя лепшыя, самыя светлыя. Так вось яно і ідзе ў жыцці, што рэдка сонца бліснe. Разумею я яе становішча і вельмі спачуваю, але не магу зразумець залежнасці. Нікому ў жыцці не даў бы кіраваць сабою і сваёй перапіскай, ды й жонцы даў бы поўную свабоду ў гэтым сэнсе (гэтага Вы, вядома, ёй не пішыце): давер за давер. О божа мой, божа, як гэта ўсё яшчэ ў нас, беларусаў, цяжка! Народ, створаны для будучыні, па словах Смоліча, і вось — на табе.

А я часта ўспамінаю Данцю і Каложу, і Нёман. І гераіню «Хрыста» стараўся зрабіць трохі падобнай да яе. Ці ёсць ужо нашчадак? Калі ёсць — напішыце і ад мяне, што няхай кожны крок гэтай «Лады або Светавіда» будзе благаслаўлёны. Пісаць не буду — нашто лішне пасяляць звады, хай сабе і неабгрунтаваныя.

А «гаспадароў» пашліце Вы да д’ябла. Мы — гаспадары, а тым больш самім сабе. Дзякуй Вам вялікае за веру ў мае сціплыя сілы, і за Вашу любоў, часцей за ўсё незаслужаную мною.

Л. А., мне нязручна першаму пісаць Юрку. Проста таму, што хлопцу (як я думаю) дзеля гэтага будзе няёмка і атрымаецца, што Вы мне пісалі пра гэта. Зручней нам з ім будзе, калі ён напіша, а я адкажу вялікім лістом, ці не так?.. Вось скончу падрыхтоўку 1-ай кнігі, аповесць аб Хрысце-Братчыку, а там сяду канчаць «Каласы».

Вершы Вашы — дзіва. І яны застануцца. Бо ў іх сапраўдныя боль і любоў. Пішыце далей, родная. І дасылайце. Будзе ў парадку.

Цалую Вас усіх — Ваш *Уладзімір*.

## 29. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*24 жніўня 1965 г., Уладзівасток.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Магчыма, Вы ўжо і адказалі ў Мінск на мой папярэдні да Вас ліст. Але маці была ў Кіеве, зараз у Оршы, а я — аж унь куды мяне занесла, на Прымор’е, ва Ўладзівасток. Ужо тры тыдні тут, днямі еду па краі, а ў канцы верасня буду збірацца дадому, у Мінск. Так што і не ведаю, ці варта будзе Вам пісаць сюды. Тыдзень ліст будзе ісці да Зэльвы, тыдзень — назад, пакуль Вы збярэцеся напісаць, — глядзіце, словам. Мой тутэйшы адрас: Владивосток-9, до востребования, мне.

Працуем мы тут у рэдакцыі «Баявой вахты», газеты флоту, дапамагаем ім нічога не рабіць. За тры тыдні праверыў пару матар’ялаў, надрукаваў верш ды напісаў артыкул, нарыс аб адным тут падводніку (не ў чэшскім, вядома, сэнсе гэтага слова, а ў рускім).

А для сябе зрабіў шмат. Пераправіў раман у адпаведнасці з заўвагамі Лужаніна (у большасці месцаў, там, дзе разумеў ягоную рацыю для іншых), напісаў трэці варыянт сцэнара.

Заўтра ўсё гэта дашлю авіяпоштай у Мінск. Хай там разбіраюцца. Пакуль прыеду — глядзіш, сёе-тое і вырашыцца.

Ларыса Антонаўна, даражэнькая, які ж гэта ў Вас быў настрой такі страшны?! Не трэба гэтага. Спадзяюся, ён ужо мінуў, а калі не — вельмі балюча. Разумею цяжкасць усяго перажытага і тое, што жыццё біла і б’е, ды яшчэ і не шкадуючы. Але Вас я ў тым лісце не пазнаў. Пагана ўсім, хто вышэй за ўсё цэніць самастойнасць думкі і сваю, асобную сцяжыну. У розных маштабах пагана, але ўсім. Але ж Вы больш за іншых так званых мужчын білі сваю сцежку і з самага пачатку ведалі, што гэта такое і чаго можна чакаць. Ну, добра Рыгору Барадуліну. У яго іншай дарогі няма. Як нарадзіўся на вёсцы ў адной мове, так і памрэ. Бо іначай проста не можа, фізічна няздольны. А Вы з тым жа поспехам маглі пісаць па-польску: gente albarutenus, natione polonus, мелі б і поспех і, можа, любоў. А я мог бы з куды большым поспехам у жыцці, з грашыма і славай, пісаць па-руску або, падвучыўшыся трошкі, таксама па-польску. Мы маглі б гэта зрабіць, мелі б зараз стотысячныя тыражы, дачы, рознае там лаўрэацтва, дзяржаўныя (ці якія там у Польшчы?) прэміі. Але мы гэтага не зрабілі. Мы свядома пайшлі на больш цяжкі шлях. Мы ведалі. І таму — не трэба.

Скажу толькі: нават проста дзеля таго, каб быць беларускім пісьменнікам, патрэбна мужнасць. То, будзьце ласкавыя, заўсёды памятайце пра тую мужнасць. І прабачце, дарагая, прабачце мне.

Восенню, магчыма, убачымся. Я таксама нешта не магу болей пісаць. Пасля, у другім лісце, напішу аб Уладзівастоку, аб краі, калі гэта цікавіць. Днямі паеду па розных тут мясцінах, а пазней, у верасні, пастараюся схадзіць некуды на Камчатку ці на Сахалін. Трэба бачыць і гэта.

Ну вось усё. Цалую Вас. Ці паехаў І[ван] П[ятровіч] у Маскву?

Ваш сябра *Уладзімір*.

## 30. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*14 верасня 1965 г., Уладзівасток.*

Дарагія мае Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Вось сёння пасля доўгага перарыву прыйшоў з работы (тыдні два не хадзіў) і сеў за лісты, якіх набралася процьма. Напісаў ужо восем і вось пішу дзявяты. Я заўсёды пад канец тыя пішу, якія хочацца не так сабе, не скарачаючы, а думаючы пісаць, гаварыць з чалавекам, якому пішаш, а не «жывы-здаровы».

Як шкада, што не было мяне ў Мінску. Жылі б у маёй хаце, я б перайшоў куды, у мяне такіх месцаў сто. Склікаў бы ўсіх сапраўдных сяброў, Міколу [Прашковіча], Арсена [Ліса]. А на Мінск злаваць не трэба. Ведаю, што цяжка, але гэта ўсё адно, што чэху злаваць на прыгожы, маленькі, чысценькі Канстанц. Не ён вінен, што Гусу ў ім давялося кепска. Іншыя людзі, абставіны — іншыя і адносіны.

Арсен — малайчына. Ён дзівосна харошы чалавек. І я рад, што мы сышліся ў поглядах і на яго.

Радуюся, што і на душы ў Вас спакайней. Не трэба так, як было, дарагая.

А адносіны свінскія да нас многіх палякаў — рэч не новая. Прызнацца, шмат у чым самі далі падставы. Малюскавасцю.

А вось што з сэрцам — гэта ўжо горш. Сачыць за сабою трэба.

Пішу, а за вакном ноч і адбіткі агнёў у заліве. Толькі што вярнуліся з вялікага падарожжа. Ездзілі з апаратарам тутэйшай студыі тэлебачання. Шмат знялі. Пастараемся зляпіць з адзнятага фільм для Беларусі аб Прымор’і.

Былі ў Цецюха-прыстані. Скалы — як прасы і труны, вялікі страшны прыбой, прыліў, горы зеленаватай вады, плеці марской капусты.

Наведалі шмат мястэчак, гаварылі і з мясцовымі беларусамі, нашчадкамі перасяленцаў. Збольшага памятаюць, хто яны. На часопісы нашы — 2000 падпісчыкаў (г. зн. сем’яў). Лазілі па скалах, пілі з крыніц, бачылі розную зверыну і птушак, хадзілі па тайзе, па лясных пасеках, па баштанах, пераходзілі па бярвеннях рэкі, бачылі матылёў з далонь. Хадзіў я па сцежках, глядзеў на старажытныя гарадзішчы Бахайскага царства. Усё дзівосна, прыгожа, велічна. І ўсё не сваё. Нават кветкі не пахнуць. Нават матылі здаюцца хутчэй нараджэннем фантазіі, чым нечым рэальным.

Рыгор [Барадулін] і Генадзь [Кляўко] перадаюць Вам прывітанне. Рыгор любіць і помніць Вас. Яны зараз дрыхнуць, чэрці.

Перадавайце прывітанне чорнаму гладыёлусу і шляхотнаму пану Тарзану.

Дзякуй яшчэ раз за ўсё тое добрае, што гаворыце мне. Няварты, але пастараюся хаця трохі заслужыць.

Думаю, што гэтай восенню сустрэнемся.

Данусі неяк напішыце, каб сын быў варты вялікага цёзкі, каб на ўвесь век быў шчаслівы разам з усімі нашымі людзьмі, ды каб яна жыла-цвіла, каб талентам усё больш і больш вызначалася.

Цалую Вас абоіх — Ваш *Уладзімір*.

P. S. Пісаць сюды, можа, ужо і не трэба. Чысла 25-га, у горшым выпадку, 30-га, пастараюся вырвацца. Хачу дамоў. Вельмі хачу.

## 31. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Гродна, 3 лістапада 1965 г.*

Прывітанне, Ларыса Антонаўна!

Справа са стажам І[вана] П[ятровіча] вельмі ясная: замежны стаж для такіх, хто мае замежную практыку, зацвярджаецца толькі ў Міністэрстве, будзь-то Геніушу, будзь-то каму другому. Вам трэба напісаць туды і папрасіць, каб яго зацвердзілі.

Да Вас галоўны ўрач у Зэльве не прыдзіраецца, гэта Вам усё здаецца, — я праверыў дакладна.

Грамадзянства трэба Вам даўно прыняць. Прыехаць на свята не магу — завельмі я чалавек заняты. Перадайце прывітанне Караткевічу, Белакозу і выпіце за мяне чарку.

14 лістапада ў 14 гадзін у Ружанах адбудзецца сустрэча Гродзенскага аддзялення СП БССР з Брэсцкім літаб'яднаннем. Паедзем туды мы аўтобусам, можам забраць і Вас па дарозе, калі паедзеце (дайце знаць абавязкова — ці заязджаць). Вернемся з Ружан у той самы дзень вечарам.

У канцы лістапада будзе абласная нарада творчай інтэлігенцыі (2 дні), рыхтуйцеся к прыезду ў Гродна (між іншым, ці ў Ружанах, ці ў Гродне — пагаворым падрабязней). Будучы ў Гродне, маглі б ужо неяк наведаць Іну Анатольеўну. Ды і я з Мінска вярнуўся б раніцой, а Вы адправіліся б у Зэльву ў абед, трэ было б пабачыцца. Адным словам, няма чаго Вам (усім нам) вешаць нос: glowe do góry!

Прывітанне Івану Пятровічу.

*Аляксей.*

## 32. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*4 лістапада 1965 г.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Урэшце сабраўся напісаць Вам ліст. Пішу з Рагачова, дзе буду сядзець чысла да 15-га гэтага месяца. Так што адказваць Вы ўжо будзеце мне на Мінск. Чаму з Рагачова? Таму што святы цягнуцца два дні, а сяброў — сотня, не менш. Ды калі кожны надумае выпіць са мною чарку, ды калі пакрыўдзіцца, што я яе з ім не вып'ю, ды калі я не захачу яго пакрыўдзіць, а вырашу самаахвярна пакрыўдзіць сябе, ды калі ўлічыць, што чарка — 75 грам… Пачакайце, нескладаны матэматычны разлік… 3 літры 750 грамаў на дзень. Мнагавата нават для продка з XVI або XVII стагоддзя. А ўжо для слабога нашчадка зусім садухі. Збірай рэчы і кіруйся да Абрама на піва… А тут дзядзька паклікаў.

Сяджу тут разам з мамай, і абое займаемся тым, што пішам лісты: маці ў сваім пакоі, я — у сваім. З раніцы быў дождж, і гэта сапсула нам з дзядзькам усё паляванне. А вось цяпер узышло сонца, на дратах — нізкі кропель, дахі блішчаць, голыя дрэвы аж купаюцца ў промнях. Так добра было б зараз ісці іржышчамі. Сонца, паветра вострае, на межах сухі палын, у лесе да ног ліпне лістота. Нічога, заўтра, пэўна, сходзім. І не заб'ем, вядома, нічога, ды й не хочацца, але хадзіць — гэта дзіва.

Маці перадае Вам прывітанні і найлепшыя пажаданні.

Ну вось мы й вярнуліся з Усходу. У апошнія дні хадзілі з малым рыбацкім сейнерам, шкарлупінкай на восем чалавек экіпажу, на ловы ў мора. І лавілі. Ды яшчэ як. Цягнеш з мора сець. Спачатку ў ёй рэдкая рыба, вялізныя крабы з клюшнямі даўжынёй

і таўшчынёй у руку, васьміногі. А пасля над вадой з'яўляецца сіняя грона, выплывае, робіцца мехам (а памер ягоны — з пакой). Выцягнулі, распусцілі дно, і лінуў паток. А пасля стаіш і сартуеш тую рыбу: камбалу да камбалы, мінтая да мінтая, марскога сабаку да марскога сабакі. Кідаеш краба на спіну, адцягваеш з жывата шчыток. Ёсць ікра — значыць, самка, хапаеш яе за клюшню — і ў мора. Тут ужо толькі не сунь пальца ў клешчы, бо цiснуць яны з сілаю ў 80 атмасфер. Ну, а калі ікры няма — ты яго, галубочка, у асобны загон.

Перамазюкаліся, стаміліся, наглыталіся свежага паветра, нагайдала нас. Але затое не елі чатыры разы на дзень, а жэрлі, ды яшчэ вечарам аднясем штук восем крабаў у кацельную, зварым, прыцягнем, гарачых, у кубрык і лупім іх так, што аж зубы скрогаюць і за вушамі пішчыць.

Ехалі з Усходу сем дзён. Выехалі — зелена было. Дарогаю бачылі і стракатую восень, і залатую восень, і снег. І зноў восень ва ўсіх градацыях, і зноў амаль некранутую золатам беларускую зелень.

Паездкаю задаволены. Хачу паехаць туды яшчэ раз, толькі не ваеннаабавязаным, а на свой кошт і ні ад каго не залежаць. Вось тады ўжо і хадзіць буду па тайзе, і па скалах лазіць, і па моры плаваць — колькі хачу і куды хачу.

Дзякуй Вам, Ларыса Антонаўна, за верш, які перадаў мне М[ікола Прашковіч]. Сапраўдны верш, але не варты я яго. Пакуль не варты. Перадаў мне яго М. на абмеркаванні, якое было ў акадэміі. Уласна, ніякае гэта было не абмеркаванне, а суцэльная хвала і слава, аж не па сабе. Ну і не абышлося без эксцэсаў.

Былі маладыя і сярэднія, і старыя (накшталт Паўліны Мядзёлкі), і зусім старыя, але маладыя душою (як Язэп Сушынскі, які пачынаў з Эпімахам-Шыпілам). Усё было добра. Неяк раскажу.

А як у Вас? Як здароўе? Справы? Я чуў ад Карпюка, што з І[ванам] П[ятровічам] нялады. Калі гэта так — чаму не пішаце ў Саюз? І, урэшце, дашліце Вы туды сваю заяву, мы з Грышкам дамо рэкамендацыі. Можаце нічога не друкаваць, што супраць сумлення, але, прынамсі, будзеце хаця цвёрда стаяць на нагах супраць раённай сволачы.

Вось так. Прывітанне Данусі, як будзеце пісаць. Прывітанне хаце і ліпам. І прывітанне Тарзану, які так дасціпна ўвайшоў у літаратуру. Жадаю ўсяго-ўсяго самага добрага.

Ваш *Уладзімір*.

## 33. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*12 снежня 1965 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Вось і вырашыліся ўсе Вашы клопаты. Дзякуй богу. Гаварыў мне т. Ульяновіч, што быў у Вас. Такім чынам, цяпер Вы маеце падтрымку з усіх бакоў. Пры першым выпадку да Вас загляну.

Прывітанне вялікамучаніку Івану Пятровічу.

Я ўсё ў раз'ездах. Вось і зараз збіраюся ў Мінск, Маскву і т. д.

Ваш *Аляксей Карпюк*.

## 34. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*29 студзеня 1966 г., Рагачоў.*

Даражэнькая Ларыса Антонаўна, мілы Іван Пятровіч!

Адказваю, урэшце. У Мінску літаральна задыхаўся. Лужанін напісаў рэцэнзію на «Каласы» ў 72 старонкі, ну вось і давялося, у чым быў згодзен, правіць, скарачаць, дапісваць.

Трэба, каб кніга выйшла, хай сабе і пры стратах (вядома, мінімальных), але выйшла. Акрамя таго, каб не выкінулі з плана на 67 год, трэба было, як шукальніку золата, адзначыць слупамі ўчастак. Каб іншы не заняў, а таму збіў «балванку» зборніка і здаў. Буду яго дапісваць яшчэ, правіць, браць адтуль горшыя рэчы і даваць лепшыя. Але месца заняў.

Яшчэ трэба было пакутваць са сцэнарыем. Яшчэ напісаў з Мальдзісам эсэ «Каліноўшчына ў Мінску» для зборніка, прысвечанага 900-годдзю гораду. Яшчэ напісаў эсэ для французскага часопіса «Эрон», 18 старонак аб гісторыі беларускай літаратуры ад Кірылы Тураўскага да нашых дзён. Атрымалася нішто сабе.

І вось трохі расправіўся, работа засталася, збольшага творчая і, значыцца, прыемная, ды ўцёк у Рагачоў. І тут буду тры тыдні, так што адказвайце сюды, а лепей (пакуль ліст дойдзе, пакуль зберацеся, пакуль вершы перапішаце ды дашлеце) на Мінск.

Справа з Вашымі вершамі «абстаіць» так. Я гаварыў аб іх з Брылём, Рыгорам, яшчэ хлопцамі. Усе яны радуюцца і ўсе яны дапамогуць. Таму адбярыце дзясяткі два сваіх вершаў, папраўце, перапішыце вельмі разборліва, пастарайцеся ўжо. Дасылайце ў Мінск. Там мы з Рыгорам пасядзім, трохі, можа, сям-там заменім парадак слоў, перадрукуем, і — адзін экземпляр Вам, а другі — падзелім ды ў «Полымя» і «Маладосць», а то і ў «Беларусь». Вершы (можа, нават 25) адбірайце патрыятычныя, гістарычныя, лірыку прыроды і г. д. Вядома, каб не дражніць гусей, ды сумленныя і чыстыя. І мы гэта ўсё абавязкова зробім.

Самі разумееце, з усіх меркаванняў гэта лепей. І тое, што гэта будзе добра для Зэльвы і вас абоіх, — гэта справа дзясятая. Мы проста не маем права выкрасліць з гісторыі паэзіі адну з найлепшых нашых паэтэс. А дагэтуль так яно, практычна, і было. Ведалі вас сотні тры знаўцаў і аматараў-чытачоў тут. А трэба, каб ведалі тысячы, а не толькі чулі. Каб кнігу трымалі ў руках, а сапраўднае глыбокае веданне і ўсё астатняе — з часам прыкладзецца.

І вось так штукі тры падборкі вялікія надрукуем, а там возьмеце першую кнігу ды іх, і выдадзім зборнік. Перавыдаць ранейшае трэба, таму што нават я да знаёмства з Вамі толькі адзін раз трымаў пражскае выданне ў руках.

А там і ў Саюз. І гэта патрэбна. Для будучых кніг. Ніхто, вядома, не прымушае вечна сядзець у пен-клубе, можна і зусім не хадзіць, але ўсё ж гэта людзі, у значнай сваёй частцы, аднаго сумлення, мовы, ідэй, аднаго служэння.

Так што прабачце за вымушанае доўгае маўчанне, збірайце хутчэй вершы й дасылайце мне. Месяцы за два, з сённяшняга дня, я Вам гэта зраблю. А паспееце даслаць у Рагачоў — тым лепей. Я тут да 18 лютага.

А тое, што Вы «развучыліся добра пісаць», то гэта, прабачце, лухта.

За тое, што затрымаўся, — прабачце яшчэ раз. Трэ было падрыхтаваць глебу, дагаварыцца і ўвогуле зрабіць усё напэўна. Мяркую, што да лета мы ўбачымся. Магчыма, я і тыя праўленыя вершы сам завязу да Вас ды мы й раскінем над імі мазгамі, як яно лепей зрабіць, каб па-Вашаму яно было.

Рыгор сядзіць ва Ўшачах і піша. Яно і лепей, бо там таксама цішыня, маці, заснежаныя лясы і азёры. Ну і, вядома, вершы.

А можа, і Вы прыедзеце. П’ес добрых у купалаўцаў зараз няма, прынамсі, сваіх. Але знойдзем неблагія. Сяброў у Вас тут многа. А наконт таго, што «хто даў главе маёй ваду,

а ачасем маім крыніцу слёз…», — то гэта нельга на ўвесь век. Рана ці позна, а крыніцы высыхаюць, калі не стаяць над імі жывыя дрэвы. Ды й плакаць не варта сто год. Трэба памятаць, тады яно будзе ўсё добра, а лепшага і продкі памёрлыя не чакалі і не хацелі ад нас.

«Чарапаху» сваю, на жаль, згубіў сярод папер. Але вось знайду й дашлю Вам.

Як там Данута? Не выпадае мне ёй пісаць, але Вы перадайце ёй найлепшыя прывітанні. Ахвяраваў тут Вам адзін верш, але дасылаць пакуль не буду. Можа, не надрукуюць, то будзе кепска. Тады дашлю яго Вам, а ахвярую новы і пастаўлю ў кнігу.

Тое, што Данута лаяла мяне за грахі і асабліва ў Маскве на курсах, — у гэтым яна мае рацыю. А крыніцы — што ж… Мог быць Аляксей К[арпюк], які вельмі няўхвальна да гэтага ставіўся, магла быць Лось. Але што ім мне калоць вочы ўсім гэтым?!

Я не Ілля-прарок і, падобна, як адзін польскі герой, люблю чытаць жыццяпісы святых з канца: прыемна бачыць, як у людскіх душах з'яўляецца ўсё больш чалавечага, як і ў іхнім жыцці. Акрамя таго, быў я тады малады і дурны, а вакол на курсах і паўсюль дзяўчаты з Каўказа і іншых мясцінаў — страшэнна цікава. Урэшце, дальбог, з дзвюма толькі гараджанкамі-тубылкамі быў знаёмы. І пасля — ну хай мяне пярун шасне на божае нараджэнне — не ведаў я тады, што яна так кепска да гэтага паставіцца, бо і ўвогуле яе, на вялікі свой жаль, не ведаў. Растлумачце Вы добрым людзям, што ва ўсіх цывілізаваных краінах закон адваротнай сілы не мае, што не ўжываю я слоў «гэта мая справа» (хаця і меў поўнае права ўжыць), што я даўно выправіўся і цяпер харошы, і што ўвогуле я, у параўнанні з іншымі, залаты і крыштальны, у што, вядома, цяжка паверыць.

А лепей нічога не кажыце і перадайце Вы ёй, харошаму чалавеку, прывітанне, а дзеткам — пажаданне расці вялікімі і разумнымі. Чалавек, калі ў яго ёсць уменне аналізаваць сябе, сам разумее, што «годзе яму дурэць», ды не заўсёды разуменне нараджае ўчынак. Наконт кітайцаў і іх «павагі» — не маеце рацыі. Народ гэта харошы, але кожны народ можна сапсуць шавінізмам і іншым такім. Асабліва калі працавіты і здольны просты кітаец пабойваецца, каб не пазбавілі яго кавалка хлеба, а то і самога жыцця. У гэтым сэнсе ўсе іхнія дурныя, як дарога, функцыянеры не лепшыя за польскіх асаднікаў. Адно, шануючы панства, дзярмо.

Перарваў трохі ліст і схадзіў у горад, бо ў бліжэйшай крамцы нічога з таго, што трэба, не было. У цэнтры купіў папярос і харошае кавы, вярнуўся, дапісваю. Ніколі тут не п'ю, добра калі пару чарак за месяц. Але працую так, што без кавы не абыдзецца.

Ну, што яшчэ? Напісаў сябру Толіку ў Маскву, каб дастаў часопіс і для Вас. Калі будзе — прывязу. Трэба пашукаць і яшчэ сякія-такія патрэбныя Вам кнігі, але гэта, мабыць, ужо тады, калі вясною паедзем на студыйным «казле» здымаць старажытныя будынкі. У розных там Карэлічах можна дастаць такія кнігі, якія ў сталіцы і не панюхаеш.

На Міколу [Прашковіча] і тое, што ён ляпнуў, — плюньце. Ён гэта жартам. Яго за другое лупіць трэба, увогуле за язык, як, дарэчы, многіх другіх, якія не ведаюць, дзе можна гаварыць, а дзе трэба і маўчаць. А гэта акрамя шкоды, для справы нічога не дае. Што ж датычыцца таго, хто на каго падобны, — гэта здаўна было тэмай для языкатых і не варта на гэта звяртаць увагу.

З Аўрамчыкам я гаварыў, і даўно, але цяпер не ведаю, як яно там склалася. Напішу яшчэ. А калі ўсё ж Панчанка не захоча — на «Маладосці» не былінны камень стаў, ёсць і далей дарога.

Бадай што ўсё. Як у Вас справы, здароўе, праца? Івана Пятровіча цалуйце. І дасылайце вершы.

Пацісніце лапу Тарзану, аўтару цікавых «запісак». Быць яму разам з «Катом Мурам» у пантэоне славы.

Цалую Вас — *Уладзімір*.

## 35. МАКСІМ ТАНК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 16 сакавіка 1966 г.*

Паважаная Ларыса Антонаўна!

Прашу даравáць мне, грэшнаму, за позні адказ на Ваша трывожнае пісьмо. Не змог Вам адпісаць раней, бо некалькі месяцаў праляжаў хворы — дома і ў розных бальніцах, ды, прызнацца, хочацца дачакацца вынікаў у справе, пра якую Вы пісалі. Зараз, як мне паведамілі, усё ўладкавалася, і спадзяюся, Вы сябе адчуваеце лепш.

Мне вельмі хацелася б пабачыцца з Вамі, каб наша завочнае знаёмства, якое расцягнулася на столькі год, стала асабістым і яшчэ больш сяброўскім і творчым. Можа, гэтай восенню нам удасца пабываць на Гродзеншчыне, наведаць Вашу Зэльву і сустрэцца з Вамі. Дужа хацелася б, каб усё тое цяжкае, што Вы перажылі, назаўсёды адышло ў мінулае і Вы са спакойным сэрцам маглі заняцца сваёй любімай і запаветнай справай — паэзіяй.

А можа, Вы калі заглянеце ў Мінск? Прашу не абмінаць і майго сціплага прыпынку, дзе Вас заўсёды будуць рады па-сяброўску сустрэць.

З сардэчным прывітаннем — *Максім Танк*.

## 36. МАКСІМ ТАНК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Нарач, 15 красавіка 1966 г.*

Паважаная Ларыса Геніюш!

Зноў прашу прабачэння за спознены адказ, бо лісты на маю Нарач з Мінска, відаць, вязуць на валах, і я ўсю карэспандэнцыю атрымліваю толькі на 7–10 дзень. Дужа Вам удзячны за Ваш ліст і верш, які мяне да глыбіні ўсхваляваў. У ім столькі шчырага пачуцця, горкай праўды і суровага хараства, што рэдка калі ўдаецца каму такі сплаў паэзіі. Я рад быў пачуць ад Вас крыху весялейшую звестку аб здароўі Вашага сына і што ў Вас растуць ужо харошыя ўнукі. Хай растуць і гадуюцца на радасць усіх добрых людзей!

Што да Вашай паездкі ў Польшчу, дык, на жаль, атрымалася так, як я і прадбачыў. Прычына — яшчур, а не нейкія там анкеты. Толькі Вы не перайма йцеся. Думаю, што крыху пазней, пры дапамозе Саюза пісьменнікаў, мы гэту справу вырашым, і Вы ў любы час зможаце наведаць і сына, і ўнукаў.

Аб характары нашага маэстра не бяруся судзіць, бо Вы, напэўна, яго знаеце лепш. Прыкра толькі, што ў цяжкія хвіліны жыцця блізкія людзі становяцца чужымі.

На Гродзеншчыну я збіраўся прыехаць да пачатку кастрычніка, але зараз усе мае планы перакрэсліў пленум Саюза пісьменнікаў СССР, на які трэба будзе ехаць у Грузію. У кожным выпадку, вярнуўшыся з пленума, я пастараюся вырвацца на пару дзён з Мінска і пабываць у Вас, і наведаць яшчэ некаторых сябров, з якімі ўжо шмат год не бачыўся. Толькі Вы не ўздумайце лішне клапаціцца — мяняць кветкі, паліць у печы, каб было цяплей у хаце, — бо мы з Вамі старыя знаёмыя, хоць сустракацца будзем упершыню.

З надзеяй на хуткую сустрэчу, з глыбокай пашанай — *Максім Танк*.

## 37. ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*31 кастрычніка 1966 г.*

Шаноўная Ларыса Антонаўна, шаноўны Іван Пятровіч!

Даўно збіраюся напісаць Вам, ды ўсё няма як за справамі і рознай драбязой, якія адбіраюць увагу і час. Не памятаю ўжо, калі мы бачыліся, мусіць, вельмі даўно, і набралася многа чутак, у якіх шмат незразумелага. Мне што-колечы гаварылі Данута [Бічэль] і Аляксей [Карпюк], але я не магу сабе ўсё гэта выразна ўявіць, проста, мне здаецца, нешта задужа перакручана і перабольшана, як гэта ў падобных выпадках і бывае. Зноў жа Аляксей з уласцівай яму прамалінейнасцю мог ляпнуць нешта непрыемнае і абуральнае, можа, і не са злосці нават, а так, для «красного словца». Што датычыць мяне, дык мне здаецца, я нічым ніколі не крыўдзіў Вас і не меў нічога такога ў думках. І я, і мая жонка былі і застаемся самых добрых да Вас абоіх адносін, просім паверыць у абсалютную шчырасць гэтых слоў.

Мусіць, Вы маеце інфармацыю аб нашых тутэйшых літаратурных справах, чытаеце нашыя публікацыі ўсіх гатункаў, можна б да іх дадаць каментар, толькі не тут, вядома. З іншага — шмат клопату і непрыемнасцей і зусім мала плёну, якога хацелася б. А часам і проста па-чалавечы бывае кепска, ды нічога зрабіць нельга, апроч як трываць, нічога не чакаючы. Такі лёс літарацкі, і тут суцяшае толькі тая акалічнасць, што некалі было горш. Цяжкая гэта ноша — літаратура, але аднойчы ўзяўшы яе на плечы, мусіць, ужо давядзецца ісці з ёй да канца. Дарога гэта — чыгунка-аднапутка, паязды па якой ідуць толькі ў адным кірунку і ніводзін назад не вяртаецца.

На тым жадаю Вам як найлепшага здароўя і душэўнае бадзёрасці.

Са шчырасцю — *Васіль*.

## 38. МАКСІМ ТАНК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 5 лістапада 1966 г.*

Паважаная Ларыса Антонаўна!

Я дужа рад, што пабываў у Вашым гасцінным доме і сустрэўся з Вамі, і што мы хоць пару гадзін пагаварылі аб справах, якія нас усіх даўно хвалююць. Я ўпэўнены, што ў нас будзе яшчэ шмат такіх сяброўскіх сустрэч.

Сардэчна дзякую Вам за пісьмо, якое прывёз няўрымслівы Уладзімір [Караткевіч], і за вершы. Мы іх чыталі ў рэдакцыі, і ўсім яны вельмі спадабаліся. Плануем даць іх у другім нумары «Полымя», бо першы — ужо здалі ў друкарню. Пастараемся даць як найбольш.

Учора гаварыў пра Ваш зборнік у Камітэце па друку. Тав. Канавалаў абяцаў выдаць яго ў харошым мастацкім афармленні.

Што да злосці, прызнаюся Вам шчыра, няма яе ў мяне і не было. Было, хутчэй, крыху сумна і горка. Ды ўсё гэта мінула! Я думаю, што і выдавецтва пагодзіцца, каб рэдактарам Вашага зборніка быў Ул. Караткевіч. Знойдзем і харошага аўтара, каб напісаў кароткую, але вартую вершаў прадмову.

Са здароўем чуўся б лепш, каб не грамадскія нагрузкі, якім і канца не відаць. Можа, збіраецеся прыехаць у Мінск? Усе будзем рады Вас бачыць і вітаць у нашай пісьменніцкай сям'і.

Сардэчныя прывітанні Вам і Вашаму грознаму мужу.

З глыбокай пашанай — *Максім Танк*.

## 39. МАКСІМ ТАНК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 13 лістапада 1966 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Сёння атрымаў я Ваша харошае пісьмо, якое абвергла старую практыку, што 13-ты дзень — нішчымны і што нічога ў гэты дзень не варта пачынаць рабіць. І хоць Вы ўсё пагражаеце насварыцца на мяне, мне захацелася хутчэй Вам адпісаць.

Дома — поўна гасцей-сваякоў. Крычыць тэлевізар, скуліць унук… Я прысеў у зацішным кутку і ніхто не здагадваецца, што я гавару з Вамі.

І так, справу прыезду ў Мінск — адкладзём на лепшы час, калі і ў нас закончацца бясконцыя нарады і пасяджэнні, а ў Вас — усе будуць здаровы і лепшы будзе настрой.

Усе прысвечаныя Уладзімірам Вашы вершы перадрукоўвае машыністка. Вялікая падборка, як я пісаў ужо, з'явіцца ў другім нумары «Полымя», які праз пару тыдняў будзем здаваць у набор. Што да вершаў, якія я меў шчасце атрымаць ад Вас, дык Вы — адзіная іх гаспадыня. Са свайго боку, буду толькі ўдзячны Вам, калі адзін які з гэтых вершаў будзе змешчаны ў Вашым цудоўным зборніку. Зразумела, што ў «Полымі», дзе я яшчэ рэдактарствую, даваць не варта.

Дужа шкада, што муж Ваш прыхварэў. Перадайце яму ад мяне пажаданне хутчэй паправіцца і самае шчырае прывітанне.

Харашо, што Вы пабывалі на сваёй радзіме. Нават з Вашай кароткай рэляцыі бачу, якая гэта была цікавая паездка, колькі было ў Вас хвалюючых сустрэч са знаёмымі, з землякамі і сваякамі. Ды і расказ пра Вашага бацьку варт добрага пяра ці пэндзля. Падобным асілкам быў і мой дзед. Вечная памяць ім! Я ніколі не змагу забыць падобных людзей. І адчуваю сябе перад імі быццам вінаватым. А ў чым? — і сам не знаю.

Мне здаецца, што ў райком дарэмна Вы не схадзілі. Сакратар у Вас — талковы і сімпатычны чалавек. Я з ім пазнаёміўся, калі мы з Бажко Алесем былі ў Вашым рэгіёне. А галоўнае — не бойцеся людзей і не думайце, што кожны, хто звяртаецца да Вас, замышляе нешта дрэннае.

Шчыра жадаю Вам усяго найлепшага у Вашым асабістым і творчым жыцці.

З надзеяй на сустрэчу ў Мінску, з глыбокай пашанай — *Максім Танк*.

## 40. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Гродна, 24 снежня 1966 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Учора быў у Танка, і ён мне расказаў многа харошага пра Вас. Вельмі хваліў Вашы вершы, паэмы (я іх не чытаў) і радаваўся з усім танкаўскім энтузіязмам, што мы маем у Вашай асобе вялікага паэта. Таксама гаварыў, дзе ўжо ён паспеў пабываць, што зрабіў, каб ваша кніжка і Ваша імя заняло належнае месца ў БССР.

Ад шчырага сэрца віншуем Вас з Быкавым, а я ўздыхаю з палёгкай: о, нарэшце!..

Вам сяброўская парада: неадкладна купіце сабе друкавальную машынку і ўсе свае пісьмы і творы высылайце толькі надрукаваныя: вельмі неразборліва пішаце. Калі няма іх у Зэльве, скажыце нам, пашукаем тут.

З Новым годам! Прывітанне Івану Пятровічу.

Моцна цісну Вашу руку — *Аляксей Карпюк*.

## 41. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Гродна, 18 лютага 1967 г.*

Дарагая Ларыса!

Я з вялікай радасцю, гонарам і асалодай прачытаў Ваш верш пра зуброў. Так трымаць, Ларыса Геніюш, няхай ведаюць нашых!

Вы ў сваім пісьме задалі столькі пытанняў, што трэба пісаць кніжку, каб на іх адказаць. Таму я буду хітры, адказваю коратка.

З альбомам — кепска, бо вельмі многа бюракратаў, і жывуць яны, як тыя чэрві, — клубкамі (словы К. Крапівы).

Што ў Польшчу браць? Тое можна, што было можна ў мінулым годзе. Знайдзіце суседку, якая ездзіла, яна Вам расталкуе. З шубамі будзьце асцярожныя, іх не вельмі вывезеш.

У Гродне можна купіць і гадзіннік, і транзістар — абы грошы. Поезд з Гродна на Кузніцу адпраўляецца а 16.45, а ў таможню ўпускаюць а 14.30.

За граніцу Вас выпусцім, калі нам з Польшчы што прывязяце, зразумела?.. Але ўсё гэта глупства. Цяпер галоўнае, каб у Вас выйшла добрая кніжка, каб яна прынесла славу літаратуры Гродзеншчыны.

Прывітанне Івану Антонавічу (так у тэксце. — *М. С.*) — каб ён больш не хварэў.

P. S. Вы пішаце, што М[аксім] Т[анк] — добры. А я што казаў?! Трэба слухаць людзей вопытных.

## 42. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*27 лютага 1967 г.*

Ларыса Антонаўна!

З Вашага ганарара па «Полымі» (№ 2) вылічылі 36 р. — за бяздзетнасць. Калі ласка, зайдзіце ў домаўпраўленне, вазьміце даведку і вышліце па адрасу: г. Мінск, праспект Леніна, Дом друку, бухгалтэрыі выдавецтва «Полымя». Грошы яны вернуць.

Я ў захапленні ад Вашага «Куфра». Вось гэта рэч нацыянальная — здорава!

Прывітанне І[вану] П[ятровічу].

*Аляксей Карпюк*.

## 43. ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*2 сакавіка 1967 г.*

Шаноўная Ларыса Антонаўна!

Толькі што дабраўся да № 2 «Полымя» і прачытаў Вашую падборку. Адразу хочацца сказаць Вам: надта ж добра. Добра па настроі, па думках, па інтанацыях. Усё харошае. Вельмі прыемная паэмка — народная, сялянская, самабытная. Цяпер усё гэта забытае (амаль), але ў ім — наша даўгавяковая гісторыя, быт, у ім мы самі. Ну, і, вядома ж, найлепшыя, мабыць, «Зубры». Гэта проста цудоўна. Таму дзякуй Вам, дарагая Ларыса Геніюш, за сапраўдную паэтычную асалоду, якую Вы далі. Я рады за Вас і ганаруся Вашай «залатой» паэтычнай нітачкай. Дай Вам Бог багата ў Вашым куфры.

А мы тут патроху гаруем-жывем, пішацца кепска, усё чакаем немаведама чаго — вясны, цяпла хіба. Думаецца, тады будзе лепш. Іван Пятровіч абяцаў зайсці перад

выездам з Гродні, ды не зайшоў нешта, можа, скрыўдаваў чаго — не ведаю. Але не трэба крыўдаваць. На мяне і так у гэты час шмат крыўд.

Яшчэ хачу паведаміць Вам прыемную навіну: часопіс «Нёман» мае намер надрукаваць Вас у перакладзе на рускую. Пераклады заказалі В. Чэкіну (ён з Гродні, Іван Пятровіч павінен яго памятаць — некалі разам абедалі). Ён з натхненнем узяўся за працу. Падрадкоўнікі яму зрабіў я. Перакладзе — прышле Вам на аўтарызацыю.

Вось і ўсё. Пішыце. Жывіце. Не тужыце. Як-небудзь, як-колечы. Усё і абыдзецца. Са шчырасцю да Вас абодвух — *Васіль Б.*

P. S. Сёння Аляксей К[арпюк] хадзіў у абком і гутарыў з Міцкевічам наконт Вашай паездкі. Сказалі: усё будзе добра, паедзеце. Так што рыхтуйцеся.

*В. Б.*

## 44. МАКСІМ ТАНК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 24 красавіка 1967 г.*

Паважаная Ларыса Антонаўна!

Атрымаў Ваша пісьмо, калі па радыё перадавалі трагічную звестку аб смерці касманаўта Камарова Уладзіміра. Цяжка ўявіць, якое гора сустрэла яго жонку, дзяцей, якой жалобай акрыла мільёны людзей ва ўсім свеце… Думаў сёння паслаць віншавальныя першамайскія паштоўкі сябрам, але прапаў усякі настрой пісаць абабітыя «dorecznosciowe» словы.

Двойчы прачытаў Ваша, як заўсёды, цікавае пісьмо. Дзякую ад імя ўсіх маіх жанчын за моды і за цікавую кнігу Яна Віткевіча, з якой пачынаю знаёміцца. Бянтэжыць мяне толькі надпіс на гэтай кнізе — «Вялікаму…». Божа, не дай мне ў гэтым мітуслівым жыцці згубіць рэшткі пачуцця гумару!

Я дужа рад, што Вам удалося павандраваць па знаёмых дарогах-шляхах маладосці, пагасціць у сяброў і ў сына, пацешыцца ўнукамі. Мой Максімка — маленькі яшчэ, але і ён ужо гуляе са мною ў хованкі.

А Склубоўскі пакрыўдзіўся на мяне, бо я напісаў у сваіх успамінах, што ён, будучы рэдактарам «Нашай Волі» (1936 г.), «баяўся, як чорт крыжа, мець справу з падполлем». Нічога ў гэтым крыўднага для яго не было, бо многія тады баяліся звязваць свой лёс з рэвалюцыйным рухам. Я нават быў напісаў яму пра гэта, але пасля, даведаўшыся ад сваіх сяброў, што ён у гады вайны не зусім добразычліва да іх адносіўся, нічога яму не адказаў. А за дзённікі, дзе я і яго ўспамінаю, няма ніякай падставы яму крыўдзіцца. А Побаля я крыху знаю. Харошы і культурны чалавек, энтузіяст сваёй справы, вучоны-энцыклапедыст.

У Мінску — розныя вечары, сустрэчы, пасяджэнні. Думаў, што сесія Вярхоўнага Савета мяне вызваліць ад абавязкаў старшыні, але спадзяванні мае не апраўдаліся. Трэба рыхтавацца да з’езду пісьменнікаў, потым — 900-годдзе Мінска, потым…

Калі мінуць усе юбілеі, зімой хачу пад’ехаць у Вільню, каб пакапацца ў архівах. Жадаю Вам пасля такой цяжкай паездкі добра адпачыць на берагах маляўнічай Зальвянкі. Я, калі ехаў у Гродна, на хвіліну спыніўся ў Вашым пасёлку, паслухаў жаўрукоў, якія ў Вас пачалі спяваць на добрых пару тыдняў раней, як у Мінску.

З сардэчным прывітаннем — *Максім Танк.*

## 45. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Гродна, 25 красавіка 1967 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Мы вельмі рады, што на Вас такое ўражанне пакінула паездка ў Польшчу. Яшчэ ведайце, што ў чэрвені за Бераставіцай будзе-такі ў ПНР грандыёзны мітынг. З нашай вобласці паедзе туды 6 тысяч чалавек. Пісьменнікі з жонкамі (пісьменніцы і паэтэсы — з мужыкамі) паедзем на адным аўтобусе. Для гэтага патрэбен будзе толькі звычайны пашпарт. Старайцеся да таго часу мець савецкі пашпарт, абавязкова забярэм абоіх Вас.

Будзеце ў Гродне, абавязкова заходзьце. Я маю ехаць у Мінск недзе на 5–7 мая з дзяўчатамі (Данутай [Бічэль] і Вольгай [Іпатавай]) — выступаць па тэлебачанню, запрашаем прыняць удзел у выступленні і Вас!

Дзякуй за інфармацыі пра Панасюка і іншыя: я ім дам, халера на іх!.. (рэдактару «Гродзенскай праўды» і радыё…).

Прывітанне Ів. Пятровічу.

Ваш *Аляксей Карпюк*.

## 46. МАКСІМ ТАНК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 29 красавіка 1967 г.*

Паважаная Ларыса Антонаўна!

Недзе ў дарозе размінуліся нашы лісты. Некалькі раз прачытаў я Вашы вершы — старонкі цяжкой і складанай біяграфіі. З боку формы, Вы, пэўна, і самі бачыце, яны патрабуюць пэўнай дапрацоўкі, хоць зараз іх перарабляць, скарачаць шкада, бо яны ўжо сталі дакументамі свайго часу, сведкамі перажытага.

Думаю, калі мінуць пленумы, з’езды, дэкады, нам удасца сустрэцца ў Мінску. Дужа хацелася б паказаць Вам сваіх унукаў, пазнаёміць Вас з сябрамі, пасядзець за бяседным сталом. Шчыра дзякую за фота Міхаську і яго бацькам. А калі дадаць да гэтага фота Вашы лісты, дык мне здаецца, я ўжо даўно з Вамі знаёмы.

Калі я ехаў праз Зэльву, Вас тады ўжо, здаецца, не было дома. Ды і ехаў я не на сваім кані, таму і не змог, хоць на хвіліну, забегчы да Вас.

Гэтымі днямі ў бацькоў была мая сястра Людміла. Стары крыху чуецца лепш. Толькі не гоіцца ў яго збітая нага і не спадае пухліна. Паціху тупае па хаце, па дворышчы. Мама даглядае гаспадарку — курэй і цюцьку. Хутка да іх пад’едзе мой брат, які працуе на Трактарным заводзе. Шкада, што я ніяк не магу ў бліжэйшы час пабываць у сваёй Пількаўшчыне. Вярнуўшыся з Масквы, трэба будзе засесці за даклад, чорт пабраў бы яго! Пісьменнікі павінны пісаць, а на балтаць языком.

На Склубоўскага я не злую. Гэта ён на мяне крыўдуе. Бачыўся сёння з Карпюком і Быкавым. Можа, сапраўды, як яны прапануюць, варта Вам перабрацца ў Гродна?

Сардэчнае прывітанне ад маёй Любоў Андрэеўны Вам і Івану Пятровічу, жадаем шмат здароўя і ўсяго найлепшага ў жыцці. Нешта пачаў крычаць унук у ванне. Відаць, крыўдзяць яго нашы жанчыны — мыючы. Трэба ісці ратаваць яго.

Поўнач хутка. Добрай ночы Вам.

*Максім Танк.*

## 47. ЯНКА КАЗЕКА — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*7 траўня 1967 г.*

Паважаная Ларыса Антонаўна!

Наша выдавецтва выпусціла дзве кнігі аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў: «Пяцьдзесят чатыры дарогі» і «Пра час і пра сябе» — і прыступіла да падрыхтоўкі трэцяй кнігі аўтабіяграфій.

Я прашу Вас прыняць удзел у гэтай кнізе і напісаць для яе аўтабіяграфію старонак на 5–6 машынапісу. Калі напішацца крыху больш, — таксама не бяда. Хочацца толькі, каб гэта была перш за ўсё творчая біяграфія. Вядома, факты асабістага жыцця складуць яе змест, але добра было б, каб чытач мог знайсці і думкі пра літаратуру, цікавыя факты творчай біяграфіі.

Усім, хто запрошаны для ўдзелу ў кнізе, я паведаміў, што рукапіс трэба прыслаць у выдавецтва не пазней кастрычніка месяца.

Паведамце, калі ласка, ці згодны Вы ўдзельнічаць у гэтай кнізе.

З глыбокай павагай — *І. Казека*.

## 48. АЛЕСЬ ТРАЯНОЎСКІ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 11 чэрвеня 1967 г.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Прабачце, што доўга не пісаў Вам. Розныя будзённыя жыццёвыя справы адымаюць столькі часу, што іншы раз няма калі ўзяцца за пяро і выканаць свой прыватны карэспандэнцкі доўг. Але сёння ўсё ж вырашыў напісаць і ў першую чаргу адказаць на тыя пытанні, якія хвалююць Івана Пятровіча.

Быў я ў Міністэрстве сацыяльнага забеспячэння БССР. І вось што там дазнаўся. Паміж СССР і Чэхаславакіяй ёсць пагадненне аб пенсійным забеспячэнні. Гэта значыць, што гады працы ў Чэхаславакіі (у тым ліку і асобам, якія не маюць грамадзянства) залічваюцца ў агульны стаж работы. Трэба толькі мець пацвярджальныя дакументы. Што датычыць ваеннага часу і работы ў Беларусі, то тут справа, відаць, будзе іншай — могуць і не залічыць у стаж. Пэўнага нічога не магу сказаць і пра 1948–1956 гг., бо не ведаю, ці рэабілітаваны Вы. Калі — так, то яны будуць уключаны ў агульны стаж работы. Адным словам, патрэбна 25 гадоў работы. Магчыма, у бліжэйшы час буду ў камандзіроўцы паблізу Зэльвы, то заеду да Вас, і ўсё высветлім на месцы.

«Рэчаньку» дастану для Вас, партрэты Цёткі, Каліноўскага і Скарыны — таксама. Папрашу каго з хлопцаў, каб зрабілі рэпрадукцыі.

У мяне ўсё пакуль без істотных змен. Працую, зрэдку выязджаю ў камандзіроўкі.

Пішыце, калі ласка, што новага ў Вас, як паездка Ларысы Антонаўны да Юркі? Якія ўражанні адтуль? Жадаю Вам усяго найлепшага. Да пабачэння.

Шчыра Ваш — *Алесь*.

## 49. МАКСІМ ТАНК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 12 чэрвеня 1967 г.*

Паважаная Ларыса Антонаўна!

Зноў — каторы ўжо раз! — прабачаюся, што не змог раней адказаць на Ваша пісьмо. Толькі сёння праводзілі нашых сяброў-узбекаў, з якімі за час дэкады па-сапраўднаму падружылі.

І так, біяграфію сваю пішыце. Відаць, асноўнымі вехамі павінны быць тыя падзеі, якія на бездарожжах Вашага жыцця дапамаглі Вам сябе знайсці, не сагнуцца пад цяжарам нягод і ў сваім сэрцы захаваць самы дарагі скарб — вобраз Радзімы.

Добра, што Вы пабывалі ў Гродна і ў нашых гродзенцаў. А Міхаська Ваш — дасціпны і цудоўны хлопчык. І мы зараз цешымся сваім унукам. Любоў Андрэеўна паехала з ім на Нарач. Усё ніяк не магу сабрацца наведаць іх. Не паспеем адну імпрэзу перахварэць, — з'яўляецца другая.

Усе з нецярпеннем чакаем выхаду Вашага зборніка. Трэба, каб хлопцы напісалі на яго рэцэнзіі. Мо заўтра буду ў выдавецтве і даведаюся, як абстаяць справы з афармленнем, з тыражом.

Пра ўсе іншыя справы, якія Вы закранаеце ў пісьме, думаю, пагаворым пры нашай сустрэчы. Вось толькі не ведаю, калі Вы збіраецеся наведаць Мінск і які час быў бы для Вас самы лепшы. Мы калісьці збіраемся запрасіць Вас у Дом творчасці, але зараз там ідзе рамонт. Трэба было б Вам з мужам паехаць некуды (у Крым, на Каўказ) — падлячыцца, адпачыць у чалавечых умовах, паглядзець на гэтыя цудоўныя мясціны.

Перадайце свайму мужу сардэчнае прывітанне. Жадаю Вам і яму здароўя, здароўя і здароўя.

*Максім Танк*.

## 50. ЮЛЬЯН СЕРГІЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Ленькаўшчына, 25 чэрвеня 1967 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Даўно ўжо спынілася між намі перапіска, быццам парваліся раптам струны, на якіх спявалася далёка недапетая песня. Чаму так сталася? Я не ведаю, памятаю толькі, што на апошняе маё пісьмо да Вас не было адказу. Я некалькі разоў намерваўся аднавіць перапіску, але нешта стрымлівала мяне. Ёсць людзі, якія маюць жаданне спатыкацца (хоць і рэдка), але ад перапіскі ўстрымліваюцца. А ёсць людзі, якія мне адкрыта гаварылі, што пісаць такія пісьмы, якія пішу я, не рэкамедуецца: у іх няма ніякай асцярожнасці, яны занадта адкрытыя і шчырыя.

Наша перапіска іменна такой і была. Таму штось нядобрае адчувалася ў тым спыненні, якое працягваецца да сённяшняга дня.

Тымчасам прайшлі цэлыя гады. У жыцці маім амаль нічога не змянілася, жыву я ў глушы, у такім калгасе, які, праўда, не апошні па дастатках, але, відаць, першы па нагрузках работы, якая часамі бывае не пад сілу. Такое становішча змушае мяне аставацца на скрыпучых калёсах адсталасці, аднак калі-нікалі атрымліваю вестачку ад добрых сяброў і даведваюся што-небудзь і пра Вас.

У канцы сакавіка я некалькі дзён ляжаў у бальніцы ў Маладзечне. Там мяне наведаў адзін з лепшых сяброў, прынёс літаратуру. Я ўжо ведаў, што ў «Полымі» (1967, № 2) друкаваліся Вашы вершы, але нідзе па кіёсках не мог купіць таго нумару. Былі № №1 і 3, але таго, які мяне цікавіў, я так і не дастаў. Вярнуўшыся дамоў, я застаў непарадкі ў сувязі з неспрыяючай вясной (падышла ў склеп вада, што пагражала бульбе). Розныя непаладкі каля дому, работа на полі, гіпертанічная хвароба — усё гэта засланіла сабой лепшыя пачуцці. Аднак жаданне пазнаёміцца з Вашай навейшай творчасцю мяне не пакідала.

Так і не знайшоўшы патрэбнага «Полымя», я звярнуўся да аднае асобы ў Вільні, якая з'яўляецца настаўніцай і бібліятэкаркай. І вось дзякуючы ёй мне толькі што прынесла паштальёнка бандэроль з № 2 «Полымя». Нарэшце перада мною — знаёмае, мілае, роднае, як вуснаў любімых цяпло:

Лейцы коням вальней пусці,
не спыняй іх задорны бег.
Дай адчуць мне яшчэ ў жыцці
і свабоду, і ўзлёт, і снег.

Як жа прыемна адчуць неацэнны скарб — беларускую народную душу, чытаючы паэму «Куфар»! Як жа прыемна адчуць, што «яшчэ скрыні няпоўныя ў нас» і што там — прыгажосць, ад чаго мацней б’ецца сэрца!

Прыпомніўшы, што не магу ды і не раблю намаганняў выпутацца з адсталасці, мне ўсё ж хочацца ў меру магчымасці ўтрымліваць сувязь з тым, што мяне вабіць і кліча да роднай прыгажосці. Мне казалі, што Ваша кніга «Невадам з Нёмана» рыхтуецца да выдання. Гэта для мяне вялікая радасць, словы «для мяне» трэба разумець мнагазначна.

Пра сябе, пра бытавыя ўмовы я тут пісаць не буду, пакіну гэта для далейшай перапіскі, калі яна ўзновіцца. Калі ж атрымаю ад Вас пісьмо, дык, не зважаючы на работы летняга часу, буду адказваць — хоць па некалькі радкоў у дзень.

Тымчасам моцна абдымаю Вас, Ларыса Антонаўна, як самую мілейшую красу роднай літаратурнай нівы, жадаю найлепшага творчага настрою, каб ніколі не ржавела Ваша пяро.

З пашанай — *Юл. Сергіевіч.*

## 51. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*25 верасня 1967 г., Мінск*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Сёння ў мяне два святы і абодва праз Вас. Па-першае, атрымаў Вашага ліста. Я амаль нікому не пішу. Увогуле, рэдка пішу. І таму, вядома, рэдка атрымліваю лісты. А атрымліваць люблю. Сакратара завесці, ці што?

Ну, і яшчэ: прачытаў толькі што Вашу аўтабіяграфію. Заўтра павінен буду аддаць яе Міколу, каб друкаваў etc.

Работа выключная. Па напалу і страсці, па стрыманасці інтанацыі, за якою, аднак, усё тая самая непрымірымасць. Толькі адно павінен сказаць: сёе-тое не пройдзе і не трэба крыўдаваць на Міколу [Прашковіча], калі яму давядзецца трохі адрэдагаваць і заэзопіць (ну й слова! слова-пачвара!). Што зробіш, тры бічы нашага стану: цэнзура, мова і нацыянальная палітыка, фінансавы ціск. Усе іх ведаюць спаўна. Вось фінансы (але ж Вы заробіце тысячы тры, мабыць, так што на некаторы час хопіць).

А вось і астатняе. Я не кажу пра некаторыя моўныя архаізмы, яны законныя. Але наўрад ці можна сказаць «розніцу між богам і клірам». Гэта занадта ў лоб. Усе мы гэтую розніцу бачым. У поўным варыянце майго «Хрыста» Вы яе таксама ўбачыце. Але рабіць гэта трэба глыбінна, каб дурань не дапёр, а разумны, падумаўшы, усё зразумеў. А так гэта наўрад ці дазволяць. Хіба толькі пакінуць адны гэтыя словы, без тлумачэння. Тады ідыёты падумаюць пра іх у пераносным сэнсе.

Не пусцяць, мабыць, заразы, і расправы над сям’ёй (а як шкада, як чартоўскі шкада!), і загадаў «грузінскіх пастухоў», і следчых розных нацый. Але гэта нічога, трэба паспрабаваць сказаць ускосна, і мы гэта паспрабуем зрабіць.

Але ўжо што зусім не пасуе ды й непатрэбна — гэта сказы накшталт «душа мая раненая і гордая», «вельмі сумная і гордая». Усё гэта ясна з самога жыцця: і раненасць, і гордасць, якой дай нам бог адну на 2/3 Саюза. Разумееце, гэта занадта проза паэта. У вершах Вашых — як гэта цудоўна! Бо там патрэбная ўзнёсласць. А тут гэта трохі наіў, бо сам жанр патрабуе скупасці. Пакуты і гордасць — усё відаць і так.

І яшчэ: адразу відаць, як Вы разрываліся, думаючы, каб выказаць усё. І каб гэта, выказанае, дайшло да людзей. І атрымалася дваістасць.

Час для сапраўднай Вашай біяграфіі яшчэ не прыйшоў. І Вы яе пішыце. Без скідак. З усёй жорсткасцю і праўдай і да сябе, і да іншых, і да жыцця. Пішыце ў разліку на недалёкую будучыню. І тады гісторыя з закатаваным хлопцам і тым, што было потым з жандарамі, вырасце ў вялікае абагульненне. А пакуль хай будзе так. Людзі павінны ведаць аб жыцці свайго паэта. Ведаць шмат, найбольш фактаў. І хай самі робяць «вынікі».

Ну, вось так. Але ўсё гэта, напісанае, дужа добрая рэч. Я рад.

Сёння здаў наборшчыкам першую з дзвюх кніг рамана. Скарочаную, пакрэмзаную, але ўсё ж кнігу. А значыцца, усё больш-менш добра.

А прыехаць — мы прыедзем толькі ў сярэдзіне кастрычніка, або ў пачатку (як будзе Ваша карэктура), так што слоікі ўжо Вам патрэбныя будуць на наступны год хіба. Усё патрэбнае пастараемся знайсці. Вось толькі з крышкамі цяжкавата. Але мама паспрабуе дастаць іх у Оршы, цераз пляменніцу.

Вось Вам прыблізны план нашай кватэры. Прыязджайце да нас, калі ласка. Вось, бадай, і ўсё. Маё найлепшае прывітанне Івану Пятровічу.

Цалую Вас усіх крэпка — Ваш *Валодзя*.

## 52. ЯНКА КАЗЕКА — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*12 кастрычніка 1967 г.*

Глыбокапаважаная Ларыса Антонаўна!

Атрымаў я Ваша занепакоенае пісьмо. Думаю, Вам не трэба перабольшваць справу. Бачыўся я з Прашковічам і ад яго даведаўся, што ён аўтабіяграфію перадаў А. Бажко. Я схадзіў да яго і забраў рукапіс. Прашковіч сёе-тое паправіў у рукапісе, месцамі скараціў. Я аддаў рукапіс перадрукаваць на машынцы і на перадрукаваным экземпляры зраблю свае праўкі, а потым прышлю Вам абодва экземпляры: і Ваш, і з маімі заўвагамі. Гэта каб Вы бачылі, што паправіў Прашковіч, і што, на думку маю, трэба будзе зрабіць. Заўтра ці ў панядзелак зайду да машыніскі, бо ў суботу яна мае выходны дзень.

Увогуле, Вы тады пабачыце, як лепш будзе падрыхтаваць рукапіс да друку.

Таму прашу Вас не турбавацца асабліва.

З глыбокай павагай да Вас — *Я. Казека.*

## 53. ЯНКА КАЗЕКА — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*18 кастрычніка 1967 г.*

Глыбокапаважаная Ларыса Антонаўна!

У панядзелак я забраў ад машыніскі Вашыя сшыткі і перадрукаваны тэкст. Почырк Ваш не вельмі лёгка чытаць; яна і я нават не ўсё змаглі разабраць. У сшытках папраўкі і выкрэсліванні зробленыя Прашковічам. Аддрукавана толькі тое, што ён пакінуў. А я на друкаваным экземпляры паспрабаваў зрабіць так, як, мне здаецца, лепш будзе да друку. Карацей кажучы, «рэдагаваў» тэкст.

Аўтабіяграфія зрабіла на мяне добрае ўражанне, напісана цікава, змястоўна і можа ў такім выглядзе пайсці да друку. За выключэннем апошніх дзвюх старонак. Проста ніхто не дазволіць друкаваць іх у такім выглядзе.

Я разумею Вашы пачуцці, боль, крыўду, разумею, што такое не забываецца. Але папрашу пра гэта сказаць як-небудзь інакш. Можна вельмі коратка, накшталт, скажам, такога: «Нялітасцівы быў лёс і да мяне: яшчэ нямала давялося зведаць крыўднага і гор-

кага». І далей пра сваё сучаснае жыццё ў Зэльве. Пра тое, што пішаце, што хвалюе Вас як паэтэсу. Ёсць жа многа добрага ў тым, што адбываецца ў наш час.

Дарэчы, я чытаў Вашы вершы (тады я яшчэ працаваў у выдавецтве), і там ёсць шмат жыццесцвярджальнага, вера ў жыццё і людзей. Думаю, што і самі Вы жывяце не толькі ўспамінамі пра старую альшыну над Ваўпянкай. А то вельмі змрочная атрымалася ў Вас канцоўка, бязрадасная, безнадзейная.

Узважце, калі ласка, гэтыя мае меркаванні. А адкладваць на наступную кнігу аўтабіяграфію не варта.

Буду чакаць ад Вас канчатковы тэкст. Прашу таксама не лічыць мае папраўкі нечым катэгарычным і абавязковым. Я сям-там выкрэсліваў паўторы, аднастайныя моманты, шукаў большай сцісласці ў падачы фактаў. Хацелася, каб было лепш.

З глыбокай павагай да Вас — Я. Казека

P. S. Па-мойму, варта памяняць і назву: трошкі яна прэтэнцыёзная.

## 54. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Гродна, 17 лістапада 1967 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Мне Іна гаварыла, што Вы званілі. Мая думка па гэтаму пытанню наступная. Вы надта сябе абкрадваеце, не прымаючы ўдзелу ў самым працэсе выдання сваёй кніжкі. Гэта ж вельмі прыемна — правіць карэктуру, выкідваць нешта, устаўляць, лаяцца з рэдактарам… Ведаю з вопыту, што гэта заўсёды карысна. Нешта ў апошнюю хвіліну падправіш, нешта выкрасліш, а ў цябе тады ўзнікае такі эмацыянальны ўздым, што адразу бярэшся за другую кніжку. Яшчэ раз кажу: самі сабе шкодзіце.

Учора я быў у выдавецтве. Якраз Валодзя [Караткевіч] прынёс Вашы гранкі (ці аркушы, я не скеміў). Я нават іх патрымаў у руках, палістаў, пабачыў, што там каля 200 стар. і фота. Чытаць не было ўмоваў, ды мяне ніхто і не ўпаважняў да гэтага. Адным словам, варта Вам з’ездзіць у Мінск і пачытаць усё самой. Умовы цяпер у Вас ёсць.

24-га г. м. будзе прэзідыум у Саюзе пісьменнікаў, нас з Быкавым выклікаюць на яго. Прыедзем мы, як заўсёды, на дзень раней. Прыязджайце і Вы ў гэты час, будзем Вас вучыць, як сябе паводзіць з рэдактарамі. Пазваніце нам перад гэтым, то мы закажам Вам нумар у гасцініцы, каб Вы маглі ноч пасядзець над тэкстам. У Вас ёсць там радня, я ведаю, але кватэра сваякоў для такой мэты — месца не адпаведнае, да іх добра толькі хадзіць у госці!

Прывітанне Івану Пятровічу!

Ваш *Аляксей Карпюк*.

## 55. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Гродна, 30 лістапада 1967 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Вельмі мне прыемна, што кніжка Вам прыйшлася да сэрца. Віншуем! Цяпер, калі атрымаеце ганарар, бярыце торбу грошай і прыязджайце ў Гродна яе замочваць (захапіце і сваю машынку — уставім бел. літары!).

Вася сёння выязджае ў Рыгу на тыдзень — 90 лет Упіту. Я 4-га еду ў Алма-Ату і Душанбе, вярнуся 15-га.

Прывітанне Ів. Пятровічу!

Ваш Аляксей Карпюк.

P. S. У Данусі [Бічэль], здаецца, усё наладзілася — дзякуй богаві.

## 56. ВАСІЛЬ СУПРУН — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Слонім, 24 студзеня 1968 г.*

Мілая, даражэнькая Ларыса Антонаўна!

Ад шчырага сэрца віншую, віншую і цешуся, соты раз пералістваю і не верыцца, што ў сваёй хаце ва ўвесь голас чую Вас. Сёння выпадкова заглянуў у кнігарню і… ледзь не сеў ад радасці. Нарэшце, нарэшце купіў дзве кніжкі. Усяго было на полцы пяць. Тры пакуль заставіў, не знаю, ці ўтрымаюся, каб не купіць астатніх. Хацелася б, каб і другія маглі прачытаць. Варта.

Наогул — цудоўна, выдатна, праўдзіва і шчыра, велічна і мужна, магутна і на злосць часу. Віншую. Хваляванні не знаюць граніц, і я рад. Даўно не адчуваў падобнай радасці і трыумфу. Цешуся за Вас. Цалую шчыра, шчыра. Даруйце за гэта.

Даруйце і за тое, што маю менш сіл. Змушаны пакінуць Бацькаўшчыну. Месца стала мала. Праз пару дзён адлятаю ў вырай. Рад, што са мной будзе кніжка. Так, будзе…

Не ўспамінайце кепска. Час — найлепшы доктар, мяркую, што раны зажывуць. Да сустрэчы пад сінім небам! Не варта пісаць, ліст не застане мяне тут. Жадаю самага найлепшага здароўя, шчасця і творчых вяршынь. Самыя шчырыя прывітанні і найлепшыя пажаданні Івану Пятровічу.

З пашанай — Ваш *В. Супрун.*

P. S. Пасля напішу падробней. Не знаю, як усё зложыцца.

## 57. МАКСІМ ТАНК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 27 студзеня 1968 г.*

Паважаная Ларыса Антонаўна!

Сёння атрымаў Ваша харошае пісьмо, за якое Вам шчыра дзякую. Сёння ж Вам і адпісваю, бо ў нядзелю паеду ў Маскву на дзяжурства, дзе прабуду цэлы месяц. Я дужа рад, што Вы наведалі і нашу сям'ю, і сваіх сяброў у Мінску, пазнаёміліся з Марыяй Канстанцінаўнай, жонкай Таўлая і другімі цікавымі людзьмі, пахадзілі крыху па вуліцах Мінска. Спадзяюся, што наступным разам у Вас будзе больш часу, каб пабываць у тэатрах, у музеях.

Паводзіны Караткевіча мне здаюцца — скандальнымі. Колькі ў ім фанабэрыстасці, пазёрства, акторства! Баюся, каб гэтае п'янае балота не ўсмактала яго ў сябе і не пахавала яго таленту. Добра, што Вы адмовіліся даручаць яму рэдагаваць наступны свой зборнік. Знойдзем харошага рэдактара.

Прысылайце вершы! Калі трэба будзе нешта паправіць, усё узгоднім з Вамі. Беражыце сваю свабоду, як Вы берaглі яе ўсё жыццё. Я разумею сяброўскія адносіны, але не залежнасць ад каго б там ні было. А вучыць Вас, Ларыса Антонаўна, не трэба. Вы, дзякуй Богу, маеце глыбокі і трэзвы розум, калі за некалькі дзён змаглі разабрацца самастойна ў людзях.

Сёння я гаварыў з Бажко. Ён абяцаў пастарацца, каб пры першай магчымасці пераслаць налічаны Вам ганарар. Грошы пакладзіце ў зберкасу, каб была ў Вас свая капейка, каб былі Вы незалежнымі ні ад чыёй ласкі.

Бачыце, як небяспечна дазваляць некаму даваць сабе парады! Болей пастараюся не надужываць Вашым даверам. А партрэт мастацтваведа — забойчы. Вы ў трох-чатырох радках змаглі намаляваць незабыўны вобраз гэтай сустрэчы, паказаўшы вельмі непрывабны свет некаторых нашых «геніяў». А верш, які Вы ім прачыталі, — прыгожы і моцны.

Жадаю Вам пасля бурнага падарожжа добра адпачыць, супакоіцца і напісаць шмат харошых вершаў. Сардэчнае прывітанне Вам і Івану Пятровічу ад Любоў Андрэеўны, ад усёй нашай сям'і, якая шчыра Вас палюбіла і часта Вас успамінае добрым словам.

З глыбокай пашанай — *Максім Танк.*

## 58. ІЛЛЯ ГУРСКІ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*21 лютага 1968 г.*

Паважаная Ларыса Антонаўна!

Прэзідыумам ССП БССР пастаўлена пытанне ў адпаведных органах аб Забэйдзе-Суміцкім. Аб рэзультаце Вам будзе паведамлена.

З прывітаннем *Ілья Гурскі*.

## 59. МАКСІМ ТАНК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 29 лютага 1968 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Шчыра дзякуем за Ваша пісьмо і за цудоўны верш, якія мы атрымалі ў гэтую цяжкую для ўсёй нашай сям'і хвіліну. З Масквы мы з Любоў Андрэеўнай паспелі толькі прыехаць на пахаванне нашага старэнькага таты. Ён — казала сястра Людміла — вельмі мяне чакаў, хацеў нешта сказаць. Так мне і не ўдалося развітацца з чалавекам, якому я ўсім абавязаны, перад якім я быў і застаўся ў неаплатным даўгу. Пахавалі яго на Слабадскім могільніку, побач з дзедам, бабкаю, дзядзькамі, побач з магіламі маіх землякоў, спаленых фашыстамі. Хату, якая калісьці гула, як вулей, забілі, асірацелую, і пакінулі новым гаспадарам — вятрам ды жудаснай цішыні. Маму, хворую, прывезлі ў Мінск. Усё не можа ачуняць. Хворая, слабенькая. Стала — як цень.

Трэба будзе неяк далей жыць і працаваць. У нядзелю зноў еду на сваё дзяжурства ў Маскву. Набліжаюцца юбілеі — вялікія і малыя, набліжаюцца розныя нарады, пасяджэнні.

Я дужа рад, што Вы пазнаёміліся з маім харошым другам А. Вялюгіным. Гэта надзвычай цікавы і разумны чалавек, мастак слова — выдатны. Адна ў яго хіба — любіць выпіць. Каб не гэта праклятае зелле, якое яго часта падводзіць, не было б яму і цаны. Добра, што ў Вас мінула злосць і на Уладзіміра [Караткевіча]. Ён, напэўна, і сам зразумее, што ў адносінах да Вас трымаў сябе дрэнна. У кожным выпадку, Вы цяпер будзеце больш самастойна арыентавацца ў нашым літаратурным асяроддзі, у якім ёсць, як і ўсюды, розныя людзі.

Я чуў ад А. Бажко, што выдавецтва запланавала Вашу кніжку па дзіцячай рэдакцыі. Добра. Па гэтай рэдакцыі кнігі выдаюцца вялікімі тыражамі, і Вы адразу загаворыце з дзесяткамі тысяч сваіх чытачоў — самых цудоўных і самых удзячных.

Справа Забэйды выглядае так: ён сам павінен звярнуцца з просьбай да нашага пасольства ў Празе, якое звернецца з адпаведнымі дакументамі да нашага Урада. Сёння я гаварыў на гэту тэму з Рыгорам Раманавічам [Шырмам], які, здаецца, гэтымі днямі збіраецца ехаць на некалькі дзён па сваіх справах у Прагу, дзе, напэўна, будзе бачыць і Забэйду.

Сёння з маёй Пількаўшчыны вярнуўся брат Федзя. Да позняй ночы ўспаміналі тату. Сястра расказвала, што ў той дзень, калі ён паміраў, сабака выў, лёгшы пад свіран, нічога не еў. А ў агарод — наляцела шмат курапатак. Адну стрэльбу падарылі суседу, другую (харошую двухстволку, якую калісьці купіў тату) — брату.

Хвароба і смерць змянілі тату, аж цяжка было пазнаць. У труну паклалі кветкі, шапку, бо дарога, у якую ён адправіўся, — бясконцая.

Выбачайце за мой сумбурны ліст. Віншую Вас з надыходзячым Міжнародным жаночым днём. Жадаю шмат здлароўя, шчасця, харошых вершаў. Яшчэ раз дзякую за Вашы гаючыя словы і спачуванні ў нашым горы.

Прывітанне Вам ад Любоў Андрэеўны.

*Максім Танк.*

## 60. ЮЛЬЯН ПШЫРКОЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 3 сакавіка 1968 г.*

Глыбокапаважаная Ларыса Антонаўна!

Не крыўдзіцеся, што адказваю на Ваш ліст з такім спазненнем. Я быў вельмі заняты тэрміновай і неадкладнай справай — вычытваў разам з аўтарамі карэктуру першага тома «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры», а потым пісаў рэцэнзію на зборнік апавяданняў Вісарыёна Гарбука. Гэта пісьменнік надзвычай трагічнага лёсу. На яго долю выпала сірочае маленства, цяжкая маладосць і сапраўды трагічная сталасць. У вайну ён прайшоў цярністымі дарогамі адступлення і гераічных перамог, а ў 1960 годзе цяжкая хвароба на 14 год прыкавала яго да ложка. Толькі ў 1960 годзе (так у тэксце. — *М. С.*) бедалага так-сяк пачаў рухацца, вярнуўся ў дамашнія ўмовы жыцця і заняўся паэтычнай (так у тэксце. — *М. С.*) дзейнасцю. Вось я і рашыў напісаць пра яго, трэба маральна падтрымаць чалавека, ён гэтага заслугоўвае.

Дзякую за цёплы сардэчны ліст. Дарэмна Вы так хваліце прадмову да зборніка. Справа, на мой погляд, у тым, пра што пішаш. Па вялікаму звону і малым малаточкам ударыш — гук вялікі, а па маленькаму чыгуннаму званочку хоць агромністым малатком бі, — усё роўна гуку вялікага не будзе.

Зборнік не заляжаўся на кніжных паліцах. На сходзе ў Саюзе пісьменнікаў вельмі высокую ацэнку Вашай паэзіі далі паэт М. Лужанін і крытык Р. Бярозкін. Гэта вельмі добра. Так што дарэмна Вы хваляваліся. Сапраўдную паэзію чытач заўсёды зразумее і не будзе да яе абыякавым.

Жадаю Вам добрага здароўя, новага творчага натхнення, вялікіх творчых поспехаў і ўсяго самага найлепшага.

З глыбокай павагай і пашанай — *Юльян Пшыркоў.*

## 61. МІКОЛА ПРАШКОВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*11 сакавіка 1968 г.*

Добры дзень, дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Выслаў першы варыянт майго артыкула пра кнігу «Невадам з Нёмана». Відаць, пра яго гаварыць зусім няварта, бо ў рэдакцыі ён не спадабаўся, далі перапрацаваць, скарацiўшы на 12–13 старонак. Так што з артыкула атрымаецца толькі невялічкая рэцэнзія.

Асноўныя дзве заўвагі. Першая — лепш па тэмах, але не дзяліць на перыяды. Другое — больш увагі на мастацкую асаблівасць вершаў.

Што датычыцца першай заўвагі, то яна справядлівая ў адносінах да кніг, творы якіх пісаліся на працягу некалькіх год (сучасныя зборнікі). Мне думаецца, што ўсё ж пры разглядзе нельга ставіць побач творы, якія падзяляе перыяд у 30 год, і гаварыць пра іх аднымі і тымі ж словамі, бо і адрэзак вельмі вялікі, і жыццё аўтара перацярпела за гэты час столькі змен.

Што да другой заўвагі, то зноў жа яны правы, калі ідзе гутарка пра зборнікі наогул. Тут жа я на мастацкі бок мала звяртаў увагі, і то выйшла 25 старонак. За кошт чаго прыйдзецца звяртаць увагу на мастацкі бок? Я думаю, што важней, відаць, паказаць сёння Вашую кнігу ў такім плане, як я і зрабіў.

Між іншым, яшчэ хочуць, каб паказаў хоць крыху сувязь Вашай паэзіі з паэзіяй Купалы і Багдановіча (відаць, пад уражаннем слоў Лужаніна). З Купалам — можна зрабіць, параўнаць, напрыклад, «Яна і я» і «Куфар» і г. д. З Багдановічам, шчыра кажучы, я не бачу непасрэднай сувязі, здаецца, і манера пісьма, і падыход да фактаў у вас розныя. Не ведаю, як удасца ўсё зрабіць, адно ведаю, што гэта будзе горш, бо ламаецца ўся мая задума. А мо і сапраўды, напісана так дрэнна, не ведаю…

Кніг Вашых больш у продажы няма, калі дзе і можна знайсці, то дзе-небудзь у райцэнтры. Валодзю [Караткевіча] даўно не бачыў, ведаю ад Адама [Мальдзіса], што з ім цяпер Валя, а як і што — хто яго ведае. Заходзіць туды часта не хочацца, бо калі б зайшоў ды проста пасядзеў, то нічога, а калі вечна… то гэта непрыемна і Надзеждзе Васільеўне ды і самому не зусім зручна.

Адносна Забэйды. Казалі мне, што Шырма на днях паехаў у Прагу, што ў Мінску была гутарка адносна яго пераезду. Трэба, каб ён сам звярнуўся з просьбай даць грамадзянства, пра што і будзе з ім гаварыць Шырма.

Маленькая просьба да Івана Пятровіча. Калісьці я яму даваў маленькую брашурку нейкага Канстанцінава пра беларусаў. Мне даўно праз яе ў Бібліятэцы АН БССР не даюць ніводнай кнігі, бо яна за мною лічыцца, а восенню праходзіла перарэгістрацыя чытачоў і ўсё трэба было здаць. Калі яшчэ не згубілася, то як-небудзь вышліце. Вось пакуль што ўсё. Навінаў асаблівых няма. У наступным лісце напішу больш.

*Мікола*.

## 62. АЛЕСЬ ТРАЯНОЎСКІ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*13 сакавіка 1968 г.*

Дарагія сябры, Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Прабачце, што доўга не пісаў Вам. То не было часу, то настрой кепскі быў, да ўсяго яшчэ прыхварэў крыху быў. Вось гэтак і адкладваў з дня на дзень.

Вельмі добра, што сарочка падышла Івану Пятровічу. А то я турбаваўся — ці не малая будзе. Думаў перадаць яе праз Юрку, але ён перад ад'ездам не зайшоў. Давялося — поштай.

Паслаў лужычанам зборнік «Невадам з Нёмана», зрабіў падрадкоўнікі некалькіх вершаў. Так ім лягчэй будзе перакласці. Адказу, праўда, яшчэ не атрымаў, але думаю, што павінны надрукаваць.

Як сенсацыю, магу паведаміць: Сцяпан Міско ажаніўся! Зусім нечакана для ўсіх нас, ды, відаць, і для сябе. Выбраў мастачку, але я яе не бачыў, бо на вяселлі не быў. Меў запрашэнне, аднак адчуваў сябе кепска і не пайшоў. Дык вось, хопіць яму гойсаць ды тлуміць дзеўкам галовы — адбегаўся. А хто наступны? Мо Валодзя [Караткевіч]. Бо неяк бачыў яго на вуліцы з той брэсцкай дзяўчынаю — прыязджала зноў да яго.

Сёння, перабіраючы свае паперы, наткнуўся на пісьмы — старыя, дваццацігадовай даўнасці. Яны, калі чытаў іх, прагучалі для мяне дакорам за легкадумную маладосць. Аўтаркі гэтых пісьмаў жывуць цяпер, гадуюць дзетак, нават выгадавалі ўжо (прашу прабачэння — яны маюць мужоў, і гэта іх дзеткі). Эх, доля мая кавалерская! Але не трачу надзеі — што каму наканавана, таго і канём не аб'едзеш. А пісьмы ўзяў ды парваў, каб не вярэдзілі душу больш. Што прамінула — таго не вернеш.

На гэтым тыдні ў нашай газеце павінна быць надрукавана рэцэнзія Адама Мальдзіса на кнігу «Невадам з Нёмана». Сачыце за газетай, пачытаеце.

Адчуваю сябе не надта добра, асабліва калі вып'ю чарку. З-за гэтага пачаў пазбягаць кампаній, стараюся выкруціцца ад запрашэнняў на імяніны, наваселлі і г. д. Бачу, як цяжка жыць у грамадстве і быць незалежным ад яго (асабліва, калі грамадства п'е). На ўсе запэўненні, што нельга піць, рэагаванне адно — пі! Быццам свядома, раней часу гоняць у магілу — лезь! Усё ж баранюся, як магу. Лепшы свет гэты, відаць.

Вось такія навіны ў мяне. Пішыце, што добрага, новага ў Вас. Жадаю ўсяго найлепшага.

Шчыра Ваш — *Алесь*.

## 63. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 4 красавіка 1968 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Пішу з Мінска. Фінансавыя справы Вашы выглядаюць так. Усяго ў Вас было — 3591 радок. Па 1 рублю — 3391 рубель. Мінус пераходны налог — 351 руб, заставалася атрымаць 3200 руб. чыстымі.

Вы ўжо атрымалі: у чэрвені — 300 руб. (мінус налог), у жніўні — 448 (мінус налог), у студзені — 300 руб. А ўсяго Вам выплацілі 1048 руб. (з налогам і паштовымі расходамі ці не — глядзіце самі).

У Вас застаецца чыстых на рукі атрымаць (вылічваць могуць толькі за паштовую перасылку) — 2189 руб. 82 кап. Такім чынам, Вы — мільянер!

У лютым і сакавіку не было грошай і нікому не плацілі. Цяпер грошы чакаюць 8–10 красавіка. Я з бухгалтарам дамовіўся, што яна на гэты раз Вам выдасць каля 1000 руб. (палову). Больш яны не могуць.

За гэтай сумай раю Вам з'ездзіць самой у Мінск. Перасылку зацягнуць, і атрымаеце позна. Яшчэ вылічаць за паштовыя расходы 2 %, а гэта — 20 рублёў!

Я дамовіўся з Бажко, што Вы яму 8 красавіка пазвоніце на работу ці на кватэру, ён падыдзе ў бухгалтэрыю і скажа, калі прыехаць дакладна. Тэл. Бажко: служб.: 627-25, кв.: 33-600.

Яшчэ Ваша дзіцячая кніжка рыхтуецца на 69 г. На 70 г. — зноў зборнік дзіцячы.

Гаварыў Танк — спрабаваў Вас прапанаваць у Маскве на рускай мове, але Вы — не грамадзянка СССР. Зноў тое самае… Скончыце Вы да ліхой матары з гэтым хвастом, адкіньце капрызы, нікога Вы не правучыце і не напалохаеце, шкодзіце сабе і нам. Вязіце заадно і Танку заяву на грамадзянства. Рэабілітацыю і грамадзянства ў далейшым вядзіце толькі праз Танка: ён наш кіраўнік, і яму гэта зручна.

Прыязджайце ў Гродна для размовы. Абавязкова.

З прывітаннем — Ваш *Аляксей Карпюк*.

## 64. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Гродна, 12 траўня 1968 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Дзякуй Вам за віншаванне. Нічога, яшчэ паваюем — ёсць порах у парахаўніцах!

Ваш *Аляксей Карпюк*.

## 65. АЛЯКСЕЙ КАРПЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Гродна, 29 траўня 1968 г.*

Вам трэба абавязкова сюды прыехаць для размовы. Якая б пільная работа ў Вас ні была, кідайце ўсё і прыязджайце. Я буду дома (хворы).

З прывітаннем — *А. Карпюк.*

## 66. ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*8 лістапада 1968 г.*

Шаноўная Ларыса Антонаўна!

Я быў проста расчулены Вашым пісьмом, такім мілым, разумным, як заўсёды, спагадлівым і таварыскім. Што рабіць, цяжка жыць на гэтым свеце, асабліва калі звяжашся з гэтай праклятай літаратурай. Нікому яна ў Расіі не ўпрыгожвала жыцця, а многім і стала прычынай іх дачаснага зыходу «в мир иной». Што ж датычыць мяне, дык талент мой не Бог ведае які, я сам выдатна разумею гэта, але проста не хочацца хлусіць, ашукваць людзей дзеля адной толькі асабістай выгоды, як гэта робяць скрозь. Многага мне ад жыцця ня трэба, а ў літаратуры хацелася б сказаць пяток нясказаных слоў праўды і — годзе. Астатнія хай скажуць іншыя.

Дарагая Ларыса Антонаўна! Я ніколі не сумняваўся ў Вашае шчырасці і беззаганнасці ў дачыненні да Беларусі, памятаю ўсе нашы гутаркі і вельмі перажываю за тыя несправядлівасці, якія Вы пазналі ў жыцці. Але што можна зрабіць у такі час? Адно — трываць і спадзявацца. Лёс, як звычайна, бывае кручаны, ніхто з нас не ведае, што кожнаму наканавана ў жыцці, але важна, каб яно было пражыта па праўдзе, сумленна перад сабою, як і перад Богам. У гэтым, мабыць, і ўвесь яго сэнс. Просты, але дужа трудны.

Дзякуй Вам за Вашую ўвагу.

Магчыма, калі завітаем у Зэльву, а пакуль што вельмі жадаю Вам і Івану Пятровічу як мага лепшага здароўя і душэўнае вольнасці.

З павагай і шанаваннем — *Васіль.*

P. S. На пленуме Я. Брыль вельмі хораша гаварыў пра Ваш «Куфар», прыемна было слухаць. Апладзіравалі крыху.

## 67. ВІСАРЫЁН ГАРБУК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Пяцігорск, 8 чэрвеня 1969 г.*

Паважаная Ларыса Антонаўна!

Надарыўся зручны выпадак сказаць Вам, што я чытаў паэму «Куфар» у «Полымі», і яна да слёз усхвалявала мяне. Яна мне здалася сімфоніяй у самым лепшым выкананні, якая застаўляе адгукацца ўсе лепшыя пачуцці, абуджае даўно забытае. Той, хто быў выхаваны беларускай маці, добра зразумее ўсю танальнасць Вашых шчырых і светлых радкоў.

З таго часу я сачу за Вашай творчасцю, якая радуе мяне. Жадаю Вам здароўя, ажыццяўлення ўсіх задум! Кветак, сонца і шчырых чулых сяброў на Вашы жыццёвыя сцежкі-дарожкі!

І застаецца яшчэ тут у лісце падзякаваць Пятру Мікалаевічу [Марціноўскаму] за тое, што ён наведаў мяне і расказаў пра Вас, чым і падштурхнуў мяне зрабіць тое, што даўно мне рупіла.

Усяго добрага — *Вісарыён Гарбук.*

## 68. МІКОЛА УЛАШЧЫК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*6 лютага 1970 г.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Выбачайце, што пішу з такім спазненнем. Новы год распачаўся няўдала. З канца мінулага года ўсё хварэю. Здаецца, зараз адышоў. Са спазненнем вітаю Вас з Новым годам. Прымаючы пад увагу жыццёвую практыку, выказваю толькі пажаданне, каб ён не быў горшым, чым мінулы.

У мінулым годзе скончыў працу, прысвечаную публікацыям крыніц па гісторыі Беларусі. Паколькі праца (нечакана для мяне) вырасла за межы дазволенага, давядзецца летапісы, статуты, мемуары, дзённікі і штосьці яшчэ не ўключаць у свой агляд. Адклаў гэта на другую частку. Кнігу павінны былі абмяркоўваць 3 лютага, але па розных прычынах адклалі на канец месяца.

У гэтым годзе павінен падрыхтаваць да друку том летапісаў (ці хронік), пісаных на мове, якую я аніяк не магу ўцяміць — беларуская ці ўкраінская? Для XVII ст. разабрацца ў гэтым, ды яшчэ не філолагу, вельмі цяжка. Цяжка таксама дайсці — карыстаўся аўтар хронікі Стрыйкоўскім ці, наадварот, Стрыйкоўскі пісаў сваю хроніку на падставе падобных матэрыялаў?

У мінулым годзе былі з жонкаю ў Пушчы — Свіслачы — Гродне. Раней ездзіў у Пушчу з сынам, які вырас у Маскве і не ведае свае Бацькаўшчыны.

## 69. ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 14 сакавіка 1971 г.*

Дзень добры, дарагая Ларыса Антонаўна!

Мне вельмі прыемна было атрымаць ад Вас такую цудоўную памяць — і гэта ў тыя дні, якія да астатку запоўнены мітуснёй і трывогамі паміж сабой і днямі, паміж сваім лёсам і сваёй душою!

Драму ж свайго светаўспрымання бачу ў тым, што я — лірык. Але калі б я не была ім, я, магчыма, не напісала б ні аднаго верша з тых, якім зараз наша інтэлігентная крытыка надае некаторае значэнне. Але ў днях, поўных смутку і нейкага светлага ўваскрашэння, я як бы народжаная нанова ў тым сэнсе, што магу адчуваць, што пісаць магу, што пазнаю свет асобна, па частках — так ясна!

Здавалася б, на першы погляд, самыя дробязныя дэталі выклікаюць у мяне расчараванне і неспакой, не даюць цэласнага адказу на мае сімпатыі і добразычлівасць. Днямі ў аднаго паважанага літ. таварыша мне давялося звярнуць увагу на адну карціну. Сярод падараваных лялек яго двухмесячнай дачцэ я не знайшла сваёй, светлавалосай, у лёгкім блакітным плацці. Не ведаю, можа, сорамна яе было саджаць паміж тымі замежнымі з пер’ямі і г. д.? Так, гэта дэталь, якой не варта было прыдаваць асаблівага значэння ў тым сэнсе, што ў кожнага чалавека і свой чалавечы густ. Але было такое адчуванне, быццам і мне сюды не трэба заглядваць, хоць запрашэнні самыя «настойлівыя».

Магчыма, я пішу Вам зусім не тое, што трэба, але адчуваю кожным нервам, што Вы ўсё можаце зразумець. 19 сакавіка ў нас размеркаванне. Лёс як бы вырашаны, але я не маю спакою. Жаданне доўга, ціха і многа думаць, думаць вольна і небяспечна — напалову абрываецца. Можа, гэта ўсё толькі часова, але цяпер трывожна і сумна. Пра ўсё падрабязней — як-небудзь пры сустрэчы!

Напісалася некалькі добрых рэчаў — гэта маё адзінае супакаенне перад тымі людзьмі, якіх я люблю і паважаю.

Вельмі прашу прабачыць за гэты нечаканы ліст, за ўсе думкі, што размясціліся ў беспарадку на гэтым лісточку.

Усяго Вам найлепшага! З усёй прыязнасцю — Ваша *Жэня Янішчыц*.

P. S. Маё прывітанне Вашаму светламу дому і Дануце Іванаўне [Бічэль].

## 70. РАІСА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*13 чэрвеня 1971 г.*

Дарагая Ларыса!

Праўда, што ўжо вельмі даўно Вам не пісала. Апошні ліст ад Вас атрымала 28 траўня. Шчыра за яго дзякую. Мы, асабліва я, здаровыя. Дзякую за думкі й памяць.

У палове травеня езьдзіла на адкрыцьцё Бібліятэкі й Музэю Францішка Скарыны ў Лёндане. Было надта ўрачыста, хораша й радасна. Маю кніжыцу з апісаньнем гісторыі, выгляду й таго, што ёсьць у бібліятэцы й музэі. Кніжыца напісаная па-ангельску англічанінам, што шмат душы й працы ўлажыў у бібліятэку. Ці выслаць яе Ю[рку]?

Там ёсьць «Ад родных ніў» і «Невадам зь Нёмана». Няма ўсіх нумароў «Помнікаў Беларусі». Ёсьць № 4, няма напэўна № 1 і 3. Вось каб іх дастаць. Я маю № 4. Ёсьць слуцкія й горадзенскія паясы. Ёсьць шмат чаго цікавага.

Была я на лекцыі беларусаведнага курсу на ўнівэрсытэце ў Лёндане — аб вайсковасьці Вялікага Княства Літоўскага XVI стагодзьдзя. Чытаў яе прафэсар, рэч зразумелая, па-ангельску. Гэта ўжо 7-мы год, як Англа-Беларускае таварыства гэтыя курсы арганізуе.

У красавіку ў Канадзе пры ўнівер. Кінгстану адбылася беларусаведная канфэрэнцыя. На ёй быў і бацька Галіны. Цяпер горад Таронта арганізуе так званы Караван, які будзе рэпрэзэнтаваць 40 народаў сьвету. Будзе й Менск. Павільён Менску арганізуе моладзь.

Рагнеду сфатаграфую яшчэ раз і вышлю. У нас толькі пару дзён як пачалося цяпло. Тут няма цяпла: або холад, або гарачыня, духата. Гарод мой у гэтым годзе недагледжаны. Абое лятаем у аблоках, а на зямлі расьце само, як хоча. Напісала б шмат, але тады будзе яшчэ болей Kindergarten і болей непаразуменьняў.

Шчыра дзякуем за кнігі. Найлепшыя пажаданьні здароўя й усяго найлепшага Вам і доктару Янку ад нас абоіх.

Цалую — Ваша *Раіса*.

## 71. УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*17 чэрвеня 1972 г., Мінск.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Карыстаюся выпадкам, каб напісаць Вам некалькі слоў. І ўвогуле не крыўдуйце, што дужа рэдка пішу. Я калісьці думаў, што з гадамі ў мяне будзе менней работы, а яе ўсё болей і болей. За гэты год пераклаў вершам п’есу Карыма «У ноч зацьмення месяца» — для Купалаўцаў (гэты Карым не башкір, а ледзь не Шэкспір, так гэта здорава), якія хутка яе выпусцяць, адрэдагаваў адзін зборнік, напісаў сцэнар пад назвай «Апавяданні з каталажкі», напісаў сцэнар пра Беларусь для палякаў (і вымушаны буду ездзіць з імі ледзь не месяц), напісаў артыкул пра Калесніка, чытаю карэктуры «Хрыста» і аўтарызую пераклад «Каласоў» на рускую мову. Акрамя таго — тысячагоддзе (1100 год) Віцебска, і мяне віцябляне прыцягнулі да падрыхтоўкі святкаваньня тысячастагоддзя. Гэта не кажучы пра больш дробныя справы.

Грошы на «Зорку» выдаткуйце смела. Гэта анталогія беларускіх вершаў пра каханне. З пачатку нашай паэзіі да нашых дзён. Кніга яшчэ ў карэктуры. Ваша там «Была ў дзеда дудка…» і яшчэ, здаецца, пара вершаў. Так што вось. А як наконт яшчэ адной кнігі? Падумайце, складзіце, перадрукуйце. А я заяву падам.

С. ганіце ў шыю ў наступны раз проста ад парога. Гадкі чалавек. На Вальку злуецца, бо не ўключыла ў «Звод» ягоных артыкулаў. А яны былі проста непрыдатныя для друку. Дануту не надта шкадуйце. Яна з тых, што ачомаюцца. А калі пабойваецца — тым горш для яе.

Мама, можа, і прыедзе, але не ведаю. Слабая стала. Танк здаровы і нічога з ім не робіцца. «Рай» і мне даспадобы.

Зараз вычытваю «Каласы». Трэба напісаць яшчэ адзін сцэнар і сесці за «Гады вандраванняў» (чарнаморскія рыбакі, пошукі помнікаў па Беларусі, беларускія звераловы і змеяловы і г. д.). А там — канчаць раман.

Ну вось і ўсё. Цалую Вас. Жадаю шчасця.

Ваш *Уладзімір*.

## 72. ЗЫГМУНТ АБРАМОВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Злотаў, 1 студзеня 1973 г.*

«… усё ж мілей за ўсіх была
сівая бабулька…»

Паважаная Ларыса Антонаўна!

У невялікім горадзе Заходняй Польшчы ёсць кватэра, а ў ёй — асабістая бібліятэка. У блізкім кутку між часта патрэбнымі кніжкамі схаваўся хітра, аднак так, каб было магчыма хутка знайсці, томік вершаў — «Ларыса Геніюш. Невадам з Нёмана».

У 1968 г. прыслала мне кніжку Вашу мая верная сяброўка Люда-Зоська Верас, мілая «сівая бабулька» — паводле Вашых слоў.

З сённяшняй поштай я атрымаў ад Людмілы Антонаўны святочныя пажаданні і Ваш верш — на яе 80-годдзе. Я, адначаснік Люды, лічу сваім прыемным абавязкам падзякаваць Вам за мілыя, добрыя, поўныя праўды словы. Запрацавала наша Зоська на гэта — самаадданым, часта гаротным жыццём, якое прысвяціла найлепшым ідэалам і сваёй Бацькаўшчыне-Беларусі.

Пасылаючы кніжку, Люда не шкадавала часу, каб зацікавіць мяне творамі таленавітай беларускай паэтэсы. Карыстаюся з гэтай аказіі, каб сказаць Вам, што спадабаліся мне, надта спадабаліся злоўленыя ў тым залатым, серабрыстым Нёмане глыбокія па зместу словы. Вершы Вашы, як кажуць расейцы, «доходчивы» і шчырыя.

Гэта ўсё ад незнаёмага дзеда, а калі захочацца Вам крыху аб ім ведаць — адсылаю Вас да красавіковага «Полымя» і да маіх «Няходжаных сцежак» і да аднаго з апошніх сшыткаў «Маладосці» з часткай успамінаў Зоські Верас і цёплымі словамі мілага Зянона Пазняка аб Зосьцы.

Калісь у сумны час сумны пясняр напісаў сумныя словы: «Перайшло, мінула, што калісь было, у курганох заснула, зеллем парасло…» Памыліўся вялікі паэт. Яшчэ жыве Зоська Верас, недзе ў кутку, пасля таго, як вылез з кургана, прытуліўся і я…

А Вашым абавязкам: «Ўсё, што цешыць, і ўсё, што баліць, / на палотны узорам раскінуць: / Хвалі, краскі, калоссе, палі — / ўсю красу наймілейшай Краіны!». Выбачайце за нечаканы хаос гэтай пісулькі з Польшчы.

Яшчэ раз шчыры дзякуй, найлепшыя пажаданні Вам і Вашым блізкім ад старога чалавека. У гэтага чалавека «тётя Маша», якая ў гасцініцы «Мінск» рабіла парадкі ў маім

апартаменце, спыталася: «Вы же иностранец? К вам приходят белорусские учёные и молодёжь: с одними вы говорите по-польски, с другими — по-русски, а с некоторыми — по-белорусски. Откуда же вы, иностранец?» Я адказаў: «Да, я иностранец из Слуцка». Тётя Маша, пэўна, падумала, што стары звар'яцеў.

А я зусім проста — natione polonus, gente rutenus. І ўсё ясна.

Бывайце здаровыя, пішыце. Вы патрэбны, каб не было курганоў…

З шчырай пашанай — *Зыгмунт Абрамовіч (Антось Забель)*.

## 73. ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

Велясніца, 24 студзеня 1973 г.

Мілая Ларыса Антонаўна, дзень добры!

Шчыра былі ўзрадаваны, калі атрымалі такі цудоўны падарунак, як кніжку! Вялікае-вялікае дзякуй! Вершы нам вельмі спадабаліся, думаю, што Андрэйка неўзабаве будзе іх на памяць чытаць. А асаблівая падзяка — за ліст. Такіх лістоў рэдка ад каго атрымліваю, бо і перапіска напалову неяк сама па сабе абарвалася, ды і не кожнаму даверыш сваю душу (бо даводзілася паплаціцца за шчырасць).

Сапраўды, неяк дзіўна атрымалася, што я ў нейкай меры паўтараю калі не лёс, дык Вашы сцежкі. Колькі разоў мы ўспаміналі т а м, што недзе тут некалі жыла Ларыса Антонаўна. А што датычыцца М[іхася] З[абэйды], то ён бедаваў пра адзінотнасць і журбу. Тое, што Вы напісалі, — для мяне не адкрыццё. Гэтым якраз пацвярджаецца і мая думка — загадкавы і дзіўны чалавек, многа ён расказваў пра свае выступленні, вучобу, але, як мне заўсёды здавалася, многа і хаваў у сабе. Гэта ўжо ўрэшце яго справа, яго тайна. Атрымоўвалася толькі, што кожны раз мы гаварылі пра адно і тое ж. Іншы раз думалася, што дзядзька ўжо стары, што пра многае і нельга ўжо помніць, але праз хвіліну-другую я бачыла ў яго вачах такі патаемны агеньчык, што ўсё станавілася ясна. Усяго, канешне, не напішаш. Гэта асобная гаворка.

Уразілі мяне адносіны і Ю. Г. Паверце, дарагая Ларыса Антонаўна, нічога ў нас з ім не было такога, што можна было б аддаць на смех. Клянуся сваёй чэсцю! Я не была аб ім высокай думкі ніколі, думала проста, што ён добры хлопец, што ён можа зразумець, адчуць больш, чым хто іншы. Хацелася адчуваць плячо таварыша. Здаецца, і я яму нічога благога не зрабіла. Проста не магу зразумець. Аднойчы ён па тэлефоне размаўляў са мною, дык на І. нагаворваў. Мяне, помню, гэта збянтэжыла. Хлопец, а рознымі плёткамі пачаў займацца!

Можа, зараз ён навучыўся, бо, кажуць, ажаніўся. Хай яму заўсёды будзе шчасна! Я нікому не жадаю бяды.

Як Вы маецеся, як Ваша здароўе? Бо мы з Андрэйкам ужо паспелі пабываць у бальніцы. І ўсё гэты пракляты gripus! У Андрэйкі была тэмпература 38. Зараз нічога, праходзіць. Не дай толькі бог у бальніцу пападаць. Колькі я там наглядзелася, напераджывалася! Бедныя дзеткі! Толькі зараз па-сапраўднаму цэніш і працу, і хваляванні Маці.

Нядаўна важылі Андрэйку — 5 кг 600 г. Смяемся часта, але і часта плачам. Калі ўжо мы вырасцем? Хочацца, каб хутчэй пралятаў месяц за месяцам, каб вырасці як маламу.

А як Ваша здароўе, як працуецца? Моцна абдымаем Вас і цалуем з мужам — Вашы *Жэня* і *Андрэйка*.

P. S. Прывітанне ад бацькоў.

## 74. ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*26 лютага 1973 г.*

Добры дзень, мілая Ларыса Антонаўна!

Якраз Ваш лісток атрымалі з Андрэйкам у бальніцы, з якой ужо і выпісаліся. Нічога такога страшнага з малым не было — паднялася тэмпература 37 і залажыла носік. Прыйшла патранажная сястра і сказала, што лячыць дома небяспечна, каб не схапіць запалення. Вось мы і адправіліся з ім у бальніцу. Намучыліся, бо якія ж там умовы: маленькі ложак — толькі для Андрэйкі, а ў самім аддзяленні — ні халадзільніка, ні газпліты, каб захаваць малако ці падагрэць, калі няма электрычнасці (а гэта часта здаралася). Цяпер мы дома і радуемся гэтаму. Праўда, у бальніцы я пахудзела, бо такая натура — калі пападу ў бяду — ні есці, ні піць не хочацца, а яшчэ перажываеш за кожную крэсачку на тэрмометры! Зараз пакрысе прыходжу ў сябе.

Хочацца, каб хутчэй настала цяпло і адышлі ўсе гэтыя хворасці. Бо трэба ж у канцы красавіка і ў дарогу збірацца — віза ў мяне толькі да 4-га мая. А дома летам пабыць страх як хочацца — як-ніяк свежае паветра, і рака, і малачко сваё, і прыволле — побач поле і лес. Катала б Андрэйку ў калясцы і вучыла б прыслухоўвацца да прыроды! Але нічога не паробіш. Трэба ехаць, і Сярожку там аднаму цяжка, і ад таты адвыкнуць можам (жартую). Адным словам, трэба быць разам. Для яго гэта важна і з другога боку.

Шкада, вельмі шкада, што Вы з Данусяю [Бічэль] не прыедзеце да нас (праўда, зараз не даехалі б — развезла дарогу ў адным месцы). Надта хочацца ўбачыцца і пагасцяваць. Рыжскі бальзам таксама ёсць і ў нас, а пірагі, не такія і тоўстыя ўжо, думаю, што Вам спадабаліся б. Але дзесьці ў канцы жніўня ў Сяргея водпуск, і мы прыедзем, магчыма, тады і сустрэнемся.

Дзядзька прыслаў ліст з Прагі, дзякуе за мёд, які я перадавала Сяргеем. Піша, што надта слабы, але збіраецца жыць доўга. На здароўе — хай сабе жыве. Цікава, што з усіх размоў ён ніколі не гаварыў пра Вас, толькі — пра свой поспех, пра тое, як ён любіць песню. Наогул, нікога не ўспамінаў. Няўжо ў яго і сяброў сапраўдных не было? Зараз крыху праясняецца яго становішча.

Як Ваша здароўечка і як здароўе Вашага мужа? Як жыве Данусі? Перадайце ёй прывітанне ад нас.

Выйшла кніжка паэзіі «Перекрёстки» — на рускай мове ў Маскве. Гэта агульны паэтычны зборнік 11-ці аўтараў. Там і мае вершы. Калі дастану, надашлю і Вам.

Моцна цалуем Вас і адбымаем. Вашы *Жэня* і *Андрэйка*.

## 75. ЗЫГМУНТ АБРАМОВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Злотаў, люты 1973 г.*

Мілая наша пясняράчка!

Гэтымі днямі я атрымаў пісульку ад Люды-Зоські, і яна піша, што Вы — мілы, далёкі прыяцель — да мяне напісалі. Аднак жа дагэтуль ліст Ваш да мяне не дацягнуўся. А Люда ўспамінае, між іншым, што Вы хацелі б з маёй скромнай асобай пагутарыць. Дык я, адчуваючы, што гэта Вам будзе хоць крыху прыемна, пішу першы. Мо ў міжчасе прыйдзе вестка і ад Вас.

Мне здаецца (можа — памыляюся), што ва ўсіх вынятках з Вашых таленавітых вершаў (тут я ніколі не раблю абмылак) адчуваюцца нейкія тайны, глыбокі сум, а нат жах у адносінах да штодзённага жыцця. Пакаленне, да якога Вы належыце, — людзі

трудных, крыху «збянтэжаных» лёсаў, а Вашы жыццёпісы, на жаль, надта рэдка патрапяць гэта выясніць, а людзі (у шырокім беручы маштабе) — зразумець.

У Вас у «Невадам з Нёмана» ідзе нейкая, як кажуць, расейцы, «пераклічка» між Вамі і адносінамі да Вас, якія хіба датычаць выпаўнення Вашых ідэалаў маладосці. Вам здаецца, што ўсё ў мінулым, а гэта — жыццёвая няпраўда.

Вы безумоўна патрэбны Вашай Бацькаўшчыне. Вы — здольны чалавек, якіх Бог сее не надта часта. І ў гэтым вартасць Вашага лёсу і зялёнае святло ў будучыню.

І другая, менш важная, тэма. У мяне ёсць Ваша кніга. Будзьце ласкавы, калі я варт гэтага, напішэце на карталюшцы некалькі слоў. Я падклею ў кніжку — лепш будзе адгукацца яе прыгожы змест. Калі я гасцяваў на запрошанне Беларускага тэатральнага аб’яднання і Акадэміі, мне надавалі шмат твораў з надпісамі.

Адзін астаўся назаўсёды ў маім старым сэрцы: «Дарагому пану Зыгмунту з пашанай і падзякай за тое, што Ён сярод нас і з намі. Аркадзь Ліс» (Так у тэксце. — *М. С.*).

Пакуль канчаю. Ужо глыбокая ночка, я працую і пішу, калі надыходзіць вечар, калі канчаецца гуллівы дзень.

Выбачайце за змест і хаос гэтага ліста. Гэта — заўвагі старога і непрактычнага чалавека.

І не рабі, даражэнькая, з сябе бабульку.

З пашанай і прыязню — *Зыгмунт Абрамовіч*.

## 76. ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Велясніца, 12 сакавіка 1973 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Атрымала Ваша віншаванне, за якое шчыра ўдзячна. На Ваш ліст яшчэ да свята я дала адказ. А хіба ж не атрымалі ліста? Тады ва ўсім вінавата пошта. Я, напрыклад, яшчэ сягоння атрымала некалькі віншавальных паштовак са Святам 8-ае сакавіка.

Патроху гадуемся. З кожным днём наш малы становіцца цікаўным, пачынае разумець жэсты некаторыя, рухі. Сёння важылі — 7 кг 300 г. 14 сакавіка яму ўжо будзе чатыры месячыкі. Каб толькі хвароба не чаплялася, дык усё было б добра.

Ужо чуецца ў паветры вясна, і нейк на сэрцы лягчэй і весялей пасля ўсяго — і грыпу, і бальніц. Вясна на мяне заўсёды добра ўплывае. Асабліва прадвесне, калі пачынае раставаць снег, а ў небе — галасы птушак. У гэты час хочацца ісці і ісці ўдаль, удыхаць паветра, спяваць, складаць радкі. Відаць, яшчэ рамантыка не пакінула мяне назаўсёды. І гэта добра.

Маэстра скардзіцца на сэрца. Помню, сядзелі мы разам у нейкім кафэ, дык успамінаў, колькі яму наскладалі за жыццё вершаў. Я сказала, што мне запомніўся верш Л[арысы] А[нтонаўны], дык ён неяк загадкава паглядзеў на мяне і хацеў штосьці сказаць ці расказаць, але ў гэты час да нас падышлі В. Жыдліцкі з сябрам, і гаворка абарвалася. Даў ён для перадрукоўкі два ці тры вершы Н. Арсенневай. Не ведаю, што будзе рабіць з імі Сярожа, бо я ўсё старанна перадрукавала, а матэрыялы вярнулі назад — маэстра.

Застаецца зусім нямнога, як мы ўжо будзем збірацца ў дарогу. Мама ўжо зараз сумуе і амаль не адыходзіць ад унучка. А я напалову прыжылася тут, у вёсцы. Таксама шкада расставацца. Але такі наш цыганскі лёс — з месца на месца.

Як маецеся Вы, як здароўе Ваша і Вашага мужа?

Моцна абдымаем і цалуем Вас — *Жэня* і *Андрэйка*.

## 77. ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*19 сакавіка 1973 г.*

Дзянёк добры, дарагая Ларыса Антонаўна!

Атрымала Вашых два лісты, амаль адзін за адным — і была вельмі ўзрадавана: на гэты раз пошта працавала добра!

Ці пісаў Вам Сярожа, што ў сябра Жыдліцкага быў інфаркт і ён два месяцы ляжаў у бальніцы? Шкада, вельмі шкада гэтага чалавека! Наколькі я яго ведаю — чысты, шчыры і прыязны чалавек! А як размаўляе на беларускай мове! Так сакавіта, так чыста, так мілагучна, што «некаторыя беларусы» маглі б яму пазайздросціць. І гэта, на жаль, вялікая праўда. Не так даўно (летам) мы мелі ад яго прафесарскі рэферат пра беларускую літаратуру (кароткі, сціслы, але змястоўны агляд нашае літаратуры). І за гэта яму вялікае дзякуй.

Неяк пры сустрэчы (летам) казаў нам, што ў ВНУ — трывожна, раздзяляюць на нейкія «групы» супрацоўнікаў, вось і ён як быццам папаў у групу J (ёсць яшчэ дзве групы L і B). Група J — група «падазроных, нявывераных» людзей. Можа, гэта і пашкодзіла яму. Бо, здаецца ж, былі і даносы на яго, што ён цесна звязаны з савецкай літаратурай, прапагандуе яе.

Хачу Вам сказаць і тое, што пасля «падзей 1968», калі Сярожа званіў яму на кватэру, то не адказвалі. І ў гэтым, як цяпер відавочна, нельга было яго вініць, ён быў запалоханы вышэйшымі органамі, і яму было цяжка ў такім асяроддзі не толькі працаваць, але і жыць. Таму на нейкі час і ў нашым СП адбылася мітусня: забаранілі дасылку часопісаў «Маладосць» і «Полымя» і газеты «ЛіМ» у Прагу. Толькі нядаўна, здаецца, ён ізноў пачаў іх атрымліваць.

Не так даўно ў яго перакладзе ў Чэхаславакіі выйшла «Дзікае паляванне караля Стаха» Ул. Караткевіча. А нядаўна Вацлаў здаў у выдавецтва «Дануту» Карпюка. Цяпер ізноў перажывае. Пытаецца пра лёс аўтара. Я, на жаль, нічога дакладнага не ведаю пра Карпюка, нешта чула праз дзесятыя вушы і тое, што быццам бы яго выключылі з СП. Ці ж праўда гэта, Ларыса Антонаўна? Калі што ведаеце, дык напішыце. Бо Вацлаў баіцца, чакае звестак. Баіцца і таму, што пасля гэтага яму могуць забараніць выдаваць пераклады нашых харошых і цікавых, таленавітых пісьменнікаў надалей. Маё ўражанне пра пана Вацлава — самае харошае. Нястомны папулярызатар нашае літаратуры і сапраўдны чалавек!

А мы вось з Андрэйкам памаленьку гадуемся. Падрастае, становіцца цікаўным і забаўным наш хлопчык. Цяпер, калі стаў большанькім, усе ідуць да яго, усім хочацца ўзяць яго на рукі. Прыйшла сёння суседка (а ёй 40 гадоў) і пытаецца, дзе Андрэйка? Мы кажам — спіць. А яна гаворыць, што хацела вельмі пазабаўляцца з ім. Вядома, маме будзе вельмі цяжка расставацца з унучкам. Бо калі захварэў Андрэйка і 2 разы былі папалі ў бальніцу (за 20 км!), то яна прыязджала, дабіралася кожны дзень да нас і ўсё непакоілася, перажывала! Галоўнае, што крыху падрасце ў цёплай хаце, а там ужо не так будзе страшна. Ведаю, што Сярожы там сумна аднаму і цяжка, і можа, ужо крыўдуе нават, што я не збіраюся. Сабрацца то не штука, але зараз — самая рocквась, гразь, мяняецца надвор'е. А я ж хачу толькі лепшага — зберагчы здароўе нашага сына. Чакаў больш — прачакае і менш. Думаю, што ў наступным месяцы самы раз будзе збірацца ў дарогу.

А што Г.? Няўжо ён здольны на такія выпады? Калісьці, яшчэ ва ўніверсітэце, на 2–3 курсах усё захапляўся Вамі і многа і хораша мог расказваць мне пра Вас. Таму я таксама думаю, што на *такое* ён ідзе не ад сябе, ды прытым калі яшчэ па-ранейшаму любіць чарку… Наогул, у апошнія дні студэнцтва ён мне стаў падабацца менш як таварыш — мог нагаварыць, наплясці абы што і ўсё — ад сваёй яршыстасці, задзірыстасці, гордасці нейкай. І асабліва ў той момант, калі выпіўшы быў. Ды Бог з ім! Можа ўсё-такі адумаецца?

Цяпер, напэўна, такая мода пайшла — грызціся. Бо пісала мне сяброўка з Мінску, што Вярба, Баравікова, Іпатава (усе тры працуюць у «ЛіМе») таксама не ладзяць паміж сабой. Няма, скажу, у нас сапраўднай інтэлігентнасці, не ўмеем мы яшчэ падчас выбіраць сабе сяброў і высока цаніць дружбу, хаваць тайну, быць шчырымі не толькі на словах… Таму ўсё так і атрымліваецца.

Я ўжо ўявіла, дарагая Ларыса Антонаўна, як прыгожа Вы будзеце выглядаць у сукенцы і як элегантна — у касцюме! Так і трэба — ніколі не старэць ні душой, ні целам! Я ўсё больш і больш пачынаю любіць Вас і як сялянку, і як інтэлігентку вышэйшага класу!

Ці выпісалі Данусінага Валерыка з бальніцы? Боткіна ў такім узросце не страшна, вылечваецца хутка, толькі трэба і пасля бальніцы некаторы час прытрымлівацца ўмоў дыеты. Гэта вельмі і вельмі важна!

Мілая Ларыса Антонаўна, даруйце мне, але, чытаючы Вашы пісьмы, дзе Вы называлі на «Вы», я і не заўважыла. Чыталася як «ты». Даруйце мне гэта і называйце адгэтуль толькі на «ты», бо мне аж сорамна стала, калі Вы напісалі, што непрыкметна перайшлі на «ты». Як я, бессаромніца, дагэтуль дазваляла сабе такое? Не крыўдуйце, калі ласка, на мяне, бо гэта было проста ўпушчэнне з майго боку.

Пішыце, як здароўе, як вясна дзейнічае на Вас, што новага? Вялікае прывітанне Вашаму мужу. Здаецца, яго завуць Ян Пятровіч? Даруйце, калі назвала няправільна, і напішыце дакладна.

Моцна абдымаем і цалуем Вас — з прыязнасцю Вашы *Панізнічкі*.

А зараз — верш:

Журба напалову забыта.
Як хораша цешыцца днём!
Аставім высокае жыта,
Высокую гору мінём.

Абыдзем вячыстую кручу.
Так лепей — па гладкай шашы…
Але ці нагам не балюча?
Але ці лягчэй на душы?

Напэўна, спрабуем дарэмна
З вышынямі сэрцы разняць —
Гамоняць высокія дрэвы,
Высокія зоры шумяць!

І тут, у зялёнай дуброве,
Дзе кожнае дрэўца — радня,
Скажы мне высокае слова
На прысмерку юнага дня.

## 78. ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Велясніца, 16 красавіка 1973 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Вы ўжо, напэўна, зачакаліся ліста? Даруйце мне, калі ласка, што раней ніяк не выпадала напісаць — яшчэ раз (і гэта перад ад’ездам) папалі з Андрэйкам у бальніцу. Нічога страшнага не было — расслабленне жалудачка, але бальніца ёсць бальніцай, так што і я за тыя дзянькі нацярпелася: там я не магу лыжкі ў рот узяць. Зараз усё добра. Малы

смяецца, куляецца нават (калі пакладзем высока) і нават спрабуе ўставаць. Магчыма, да году і на ножкі пойдзе, калі так далей будзе развівацца.

Прыслаў Сярожа тэлеграму. Пісаў, што ў канцы гэтага месяца прыедзе за намі. Мы ўжо патроху пачынаем збірацца ў дарогу, а мама сумуе і кажа: «Як я буду жыць без вас, без Андрэйкі?» Калі мы былі ў бальніцы і яна прыязджала да нас, то гаварыла, што месца ў доме не могуць знайсці без Андрэйкі. А зараз ад’язджаем на доўгі час, і яна бяспынна маркоціцца, уздыхае, не выпускае з рук малога.

Настрой вясновы, напісалася колькі нядрэнных вершаў, а гэта заўсёды ўздымае, абнадзейвае, дае штуршок для будучых адкрыццяў.

І ўсё-такі неяк сумна робіцца, што хутка паедзем, суседзі ўжо прывыклі да нас і кажуць, што быццам так і трэба, каб я жыла ў бацькоў.

А як Ваша здароўечка, Яна Пятровіча?

Моцна абдымаем і цалуем — Вашы *Панізнічкі*.

P. S. Паклон ад бацькоў.

## 79. ВАЦЛАЎ ПАНУЦЭВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Чыкага, 13 траўня 1973 г.*

Вельмі дарагая Ларыса Геніюш!

Будучы ў нас, сп. Нікан апавядаў аб сваёй сустрэчы з Вамі. Мы адчувалі, што Вы [як быццам] сустракаецеся з намі. Чыталі мы Вашы цудоўныя вершы і раней, чытаем і цяпер, і наважыліся паслаць Вам ад сэрца сьціплы падарак. Нашы жанчыны хутка вышлюць Вам цераз афіцыйныя савецка-амэрыканскія культурна-гандлёвыя дачыненьні пасылку з тэкстылем. Вы ні капейкі не заплаціце, усе кошты пакрыем мы тут. Гэта — наша сямейная сымпатыя да Вас як нашай беларускай паэткі. У будучыні таксама хацелі б Вам перадаваць свае пачуцці сымпатыі.

Наша беларуская калёнія ў Чыкага наогул вялікая — дзясяткі тысячаў старэйшай эміграцыі, аднак абсалютна нясьведамыя нацыянальна. Хто яшчэ жыве — жыве старымі царскімі паняцьцямі. Іх дзеці і ўнукі — ужо амэрыканізаваныя, і яны парвалі дачыненьні з сваім нацыянальным коранем. Навейшая эміграцыя таксама ўрастае ў амэрыканскую зямлю, і наглядаецца падобны працэс. Віна ўсяму — малы працэнт нацыянальна сьведамых. Гэткі працэс, аднак, характэрны для ўсіх народаў, выхадцы якіх тут асяляюцца. Часамі ў роздуме становіцца дзіўна: тут няма ніякага прымусу, ніякай амэрыканскай нацыянальнай палітыкі (наадварот, маладыя амэрыканцы бушуюць за штурханьнем цёмных сіл супраць ЗША, паляць і ганьбяць нацыянальны сьцяг, называюць урадавыя органы самымі бруднымі словамі). А дзеці эмігрантаў аж пішчаць — амэрыканізуюцца.

Гэта няпростая праблема, яе нельга вульгарызаваць з таго ці іншага боку. Можна патлумачыць сьлёганам «загніваньне капіталізму», але гэта пустая фраза, далёкая ад сапраўднасьці. «Загніваюць» і іншыя сыстэмы. Людзтва як быццам шукае новага выхаду з сучаснага імпасу. Але няма вялікіх прарокаў, вялікіх ратаўнікоў. Усё таўчэцца ў традыцыйнай ступе на даўно пераканы лад. Таму — такі сьляпы бунт, людзтва б’ецца, як зьвер у зачыненай клетцы.

Замнога ёсьць featureзнакаляровых шарлятанаў, якія маняцца збавіць чалавецтва. Іхнія лякарствы нават у мэдыцыне і навуцы аказаліся блефам. Тое, што яны лічылі лекам, аказалася атрутай. Псэўданавука затруціла ўсю нашу плянэту. Шарлятаны і палітычныя гангстэры абманулі ўсё людзтва дзеля сваіх скурных інтарэсаў. У гэтым сэнсе цяперашні бунт маладога пакаленьня мае сваю вымогу. Але гэта працэс адбываецца сьлепа і можа прынесьці вялікія няшчасьці.

Думаю, што гэтыя думкі могуць быць карысныя для Вас як беларускай паэтэсы. Мы тут у Чыкага маем такую невялікую групу, якая расцэньвае сусьветныя падзеі ў новым сьвятле. Паэт — душа эпохі, а не складальнік вершаў.

Буду вельмі ўдзячны, калі Вы адгукнецеся на наш голас, голас нашай нацыі, якая заўсёды цераз сваю інтэлігенцыю была перадавой у Эўропе.

З глыбокай пашанай — Вацлаў Пануцэвіч.

## 80. МАЦЕЙ ЮЗАФ КАНАНОВІЧ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Лодзь, 6 студзеня 1977 г.*

Шаноўная пані!

Сардэчна дзякую за мілы ліст і святочныя пажаданні, прысланыя мне з Зэльвы, у якой я даўней быў некалькі разоў, калі ехаў у Дзярэчын і Дубраўку.

Прашу прабачыць мне за такі спознены адказ на ліст, але я доўга, упарта, да шчаслівага выніку шукаў мінулагодні нумар «Życia Literackiego», аб якім пані прасіла.

Думаю, што з таго нарыса Махейка пані няшмат даведаецца пра тэму, якая яе цікавіць. Калі мне ўдасца здабыць кнігу, дзе тэма мовы Ягайлы і Сонькі тлумачыцца больш шырока, — прышлю яе пані.

Прашу прыняць, хоць спознена, найлепшыя пажаданні ўсякага дабрабыту з нагоды святаў і Новага 1977 года.

Адначасна высылаю нумар «Życia Literackiego».

Далучаю віншаванні — *Юзаф Мацей Кананові*ч.

## 81. ЯЗЭП НАЙДЗЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Інаўроцлаў, 5 снежня 1978 г.*

Высокапаважаная і дарагая пані Ларыса!

Зьліжаюцца Каляды. У гэты час я заўсёды ўспамінаю 1944 год, калі я, чорнарабочы, працаваў у Грэйсфальдзе, жыў у халодным бараку і часта адчуваў голад. І вось тады Вы прыслалі мне харчовую пасылку, разам зь ёю — некалькі сьвечак. Колькі радасьці тады я перажыў, цяжка цяпер расказаць, але гэты факт астаўся мне ў памяці назаўсёды. За гэтую пасылку я буду Вам удзячны да канца свайго жыцьця. Між іншым, сьвечкі я мог даўжэй перахоўваць і абмяняць іх з таварышамі па нядолі — палякамі. Яны былі больш зарадныя ў здабычы харчаваньня, а сьвечкі былі ім патрэбныя пры гульні ў карты, калі выключалі ў бараках электрычнае асьвятленьне. У сувязі з гэтым Вашая пасылка служыла мне помаччу ў харчаваньні праз даўжэйшы час. Вялікае дзякуй Вам за гэта.

Я ня мог да Вас хутчэй напісаць. Склалася на гэта многа прычынаў, аб якіх цяжка пісаць. Але вось у гэтым годзе я меў шчасьце пазнаць Вашага сына Юрку і ягоную сямейку, і мы падружылі. Сёлета я ўжо два разы наведаў іх і палюбіў. Адведвае іх таксама мая дачка Люцына, каторая жыве і працуе ў Беластоку. Апрача таго, я даведаўся, што Вы ведзяце перапіску з маім братам Чаславам. Дзеля таго адважваюся і я да Вас напісаць.

Ад 7 чэрвеня 1945 г. я жыву ў Інаўроцлаве, тут працаваў 33 гады і 4 месяцы, а цяпер ужо пэнсіянер, ці, як у нас кажуць, — эмэрыт. Эмэрыткай ёсьць таксама і мая жонка — другая, бо першая даўно памерла. Дзеці зь першага жаніцтва пражываюць у Вільні і даволі часта адведваюць нас. Да іх у Вільню езьдзіць Люцына і раз была там жонка. Жывецца нам даволі добра, не наракаем.

Нас вельмі цікавіць Вашае здароўе, а таксама — здароўе Вашага мужа, ды як Вам жывецца? Будзем вельмі ўдзячныя, калі Вы напішаце да нас. Можа, гэта будзе пачаткам часьцейшай карэспандэнцыі.

З нагоды надыходзячых Каляд і Новага году перасылаем Вам і Вашаму мужу найшчырэйшыя прывітаньні і найлепшыя пажаданьні добрага здароўя, многа шчасьця, радасьці і ўсяго найлепшага!

Шчыра адданы і ўдзячны — *Язэп Александровіч* з жонкай і дачкой.

## 82. ЯЗЭП НАЙДЗЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Інаўроцлаў, 12 чэрвеня 1979 г.*

Мілая і дарагая Ларыса!

Веру, што Вам цяжка і сумна. Калі б Вы аб гэтым нават не ўспаміналі ў сваім лісьце, дык гэта ёсьць вычуваным з усяго ягонага зьместу. Я Вас добра разумею і ад шчырага сэрца Вам спачуваю. Я ў сваім жыцьці гэтаксама ня раз вельмі цяжка перажываў адзіноцтва. Асабліва цяжка і безнадзейна было ў першых гадох пасьля вайны, калі я знайшоўся ў Інаўроцлаве. Ня раз хацелася, каб якая-небудзь заблуканая куля трапіла ды забіла. Я быў недалёкі самагубства. Стрымлівала мяне ад гэтага імкненьне памагчы сваім найбліжэйшым, якіх я пакінуў у роднай старонцы, а таксама думка аб тым, што, можа, я яшчэ патрэбны, што яшчэ ўдасца нешта добрае зрабіць. І я ў меру магчымасьці памагаў сваім, многа працаваў, часта па 12–16 гадзінаў, удзень і ўначы. Праўда, я не збагацеў і не атрымаў нагароды, але пакінуў па сабе сьлед. Шкада толькі, што ня ў роднай старонцы.

Вы маеце яшчэ большую прынуку да жыцьця і працы, бо маеце вялікі творчы талент. Вашыя творы ўзбагачаюць беларускую літаратуру, цешаць маладых і старых, а часамі змушаюць і да сьлёзаў. Вось месяц таму, 12 траўня, мне скончылася 70 гадоў жыцьця. Я ў гэты дзень узяў Ваш зборнік «Невадам зь Нёмана», да якога вельмі часта заглядаю, і некалькі разоў прачытаў верш «Дзед». Пасьля я пачаў чытаць гэты верш голасна — для жонкі, аднак не дачытаў да канца, бо нешта сьціснула за горла, вочы заліліся сьлёзамі.

Вось да чаго даводзяць Вашыя вершы. Іхняя паэзія, прыгажосьць, любоў да чалавека, любоў да роднага беларускага народу, роднага краю, да беларускай прыроды выклікаюць вялікія сардэчныя перажываньні, за якія будзе Вам удзячная моладзь, старэйшыя людзі, усе беларусы. Дык пішыце як найболей, апявайце сваю Бацькаўшчыну, пішыце аб сваіх цяжкіх перажываньнях, аб долі і нядолі, аб харастве беларускай прыроды, каб асталася па Вас найпрыгажэйшая спадчына.

З увагі на тое, што Вы думкамі затрымліваецеся над маімі радамі, я пазволю сабе яшчэ адну раду, а менавіта: добра было б, каб вы прыехалі ў Польшчу да сына і да нас на адзін месяц і тут пабылі, а пасьля пастанавілі, ці пераяжджаць сюды назаўсёды, ці аставацца ў Зэльве на Бацькаўшчыне.

Адносна Вашага Юркі я мушу сказаць, што ў яго ўдома я быў толькі два разы, а мая дачка бывала часьцей. Мы ня бачылі яго ня толькі п’яным, але нават і падпітым. Мне здаецца, што зь ягоным налогам да гарэлкі справа не выглядае трагічна. Можа, збор старадаўніх іконаў і цэнных кніжак стварае вельмі пазытыўную ацэну. Мы меркавалі паехаць у Беласток у траўні, але гэта нам не ўдалося, а цяпер думаем паехаць на пачатку ліпеня. Я, безумоўна, будучы ў Беластоку, адведаю яго і буду старацца шырэй пагаварыць аб усіх справах, якія Вас цікавяць.

Вельмі цешымся, што пра Вас думаюць і Вам памагаюць суседзі, што адведвае Вас моладзь. Нашыя людзі добрыя, працавітыя, шкада толькі, што пад узглядам нацыяналь-

ным мала яшчэ сьвядомыя ды ня маюць такога патрыятызму, як, напрыклад, палякі. Яны заўсёды праяўляюць вялікі патрыятызм, любоў да ўсяго свайго, стойкасьць, сьмеласьць ды ўмеюць з сабою гаварыць, спатыкацца, нават — веруючыя з камуністамі і камуністы — з веруючымі, доказам чаго ёсьць хоць бы адведзіны Папы Рымскага, якога ўсе прымалі вельмі ўрачыста ў гэтым месяцы.

Вельмі добра, што Вы маеце гарод, кветкі і прыгожую яблыньку. Мы гэтаксама маем маленькі гародчык, праўда, ня ўласны, а пры школе, дырэктарам каторай была мая жонка. І хоць яна цяпер пэнсіянэрка, але з гародчыка карыстаем і цешымся кожнай краскай, а таксама ўсім, што нам удаецца пасадзіць і сабраць. Але цяпер вялікая суша і гарачыня, дык трэба кожны дзень паліваць. Пэўна, і Вы маеце гэткі ж клопат.

Перасылаем Вам сардэчныя і найлепшыя пажаданні ды просім не забываць пра нас. Вашы пісьмы заўсёды высока цэнім.

Шчыра адданыя Вам — *Язэп* з жонкай і дачкой.

## 83. ЯЗЭП НАЙДЗЮК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Інаўроцлаў, 18 кастрычніка 1979 г.*

Наймілейшая і дарагая Ларыса!

Сапраўды не хапае мне слоў, каб належна Вам падзякаваць за мілае, цікавае пісьмо, за цэнную кніжку С. Александровіча «Такая тут зямля», за друкі пра старадаўнія замкі і цэрквы на Беларусі, за «Літаратуру і мастацтва» з Вашымі вершамі. За ўсё ад шчырага сэрца вельмі горача Вам дзякую.

Вашыя вершы, выдрукаваныя ў «ЛіМе», — гэта не звычайная прыгожая паэзія, а гімны на чэсьць прыгажосьці беларускай прыроды, маладосьці, на чэсьць роднага краю, слаўных ягоных сыноў ды агульналюдзкіх найлепшых ідэалаў — ідэалаў дабра. Такая іменна патрыятычная і агульналюдзкая літаратура нам патрэбная. Яна будзе заўсёды актуальнай. Чытаючы яе, хочацца жыць. А зацемка на іх аб прысьвячэньні маёй скромнай асобе — гэта вялікі скарб для мяне, які буду зь вялікай пашанай хаваць ды цешыцца ім да канца жыцьця.

Вельмі добра, што рэдакцыя «ЛіМа» надрукавала іх. Належыцца ёй вялікая падзяка. Відаць, ёсьць там добрыя людзі. Яшчэ больш будзем цешыцца, калі яны прычыняцца да выданьня Вашага новага зборніка вершаў. Гэта будзе вялікае здарэньне. А Вам жадаю толькі аднаго — спрыяй Божа!

Вельмі цешуся, што Вы ўжо пастараліся прыгатовіць помнік Вашаму дарагому мужу. Хай будзе яму вечная памяць. Цешуся таксама, што моладзь у Вас расьце добрая і што заслужыла яна ад Вас на пахвалу.

Вельмі прыемна, што Вашы адносіны з сынавой уладкаваліся згодна. Мне здаецца, што і адносіны з сынам уложацца добра. Ён вельмі мілы, вялікі патрыёт і дае свой важкі ўклад у грамадзкія справы. Ягоны збор старых іконаў, якія маглі б загінуць, гэта народны скарб.

Я добра ведаю, што Вам у адзіноцтве, ды яшчэ з малой пэнсіяй, жывецца цяжка. Мне, бяз жонкі ўжо 4 тыдні, гэтаксама вельмі прыкра. Але я дайшоў да пераканаsucceeded ньня, што найлепшы лек ад адзіноцтва — праца, бесперарыўнае заняцьце добрымі справамі. Я стараюся быць занятым — чытаю, крыху пішу, хаджу на розныя культурныя спатыканьні, і гэта дае палёгку. Трэба жыць. Вы яшчэ можаце многа добрага зрабіць, займаючыся творчай літаратурнай работай — для дабра нашага народу.

Між іншым, да сваіх успамінаў я ўзяў за эпіграф зваротку з Вашага верша, надрукаванага ў зборніку «Невадам зь Нёмана»: «Вечна пакутная, вечна гаротная, / сьцятая —

зноў адрастаеш з камля, / вечна жывучая і несьмяротная, / ты, беларуская наша Зямля!».

Жонка мая не захопленая пабыўкай на чужыне і піша, што ня вытрымае 5 тыдняў. Дык спадзяюся, што можа вярнуцца ў найбліжэйшыя дні. Маё адзіноцтва разьвесяліла крыху два тыдні таму Люцынка, якая адведала мяне і была тры дні. Яна ізноў прыедзе ў будучым тыдні і думаю, што прывязе патрэбныя Вам лекі.

Яшчэ раз шчыра Вам дзякую за пісьмо і ўсе друкі і прашу не забывацца пра мяне. Перасылаю Вам шчырыя прывітаньні і найлепшыя пажаданьні. Моцнага здароўя і добрых настрояў!

Шчыра адданы Вам — *Язэп*.

## 84. НІНА МАЦЯШ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Белаазёрск, 31 ліпеня 1980 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

З глыбокай цеплынёй сардэчнай увесь час помню нашу сустрэчу, Вашу шчырую, адкрытую паставу, горды ўскід галавы — ад чаго Вы робіцеся такой маладой! «Ларыса Антонаўна, Вы — як ранне!» Цудоўна і надзвычай дакладна сказала наша Данусенька!

Даехалі мы добра. Праўда, усю дарогу, пачынаючы ад Ваўкавыска, ліў пролівень. Мы ажно спыняліся, каб перачакаць трошкі, немагчыма было рухацца. Але каля дванаццаці былі ўжо ўдома.

Учора атрымала ад украінскага прыяцеля «Марусю Чурай» Ліны Кастэнкі — гістарычны раман у вершах. Дзівосная рэч! Загарэлася перакласці. Праца не на адзін год, відаць. І невядома, ці патраплю пераствары́ць належна. Але рупіць узяцца за працу. Толькі вельмі ж ужо шмат часу забірае неабходнасць гатаваць сабе абеды ды прыбіраць потым: гэтым прыходзіцца займацца ўласнаручна.

Лена ўжо ў Шчучыне, паехала ў аўторак. Вельмі ўдзячна ёй за тое, што яна прывезла мяне да Вас.

Зычу Вам добрага здароўя, дарагая Ларыса Антонаўна!

Цалую Вас сардэчна — *Ніна*.

## 85. НІНА МАЦЯШ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Белаазёрск, 1 верасня 1980 г.*

Мілая Ларыса Антонаўна!

Усё выбірала вальнейшую хвіліну, каб напісаць Вам і шмат, і талкова. А мушу зноў рабіць гэта похапкам: зусім нечакана (я прасіла на канец кастрычніка) далі пуцёўку ў Сакі, у той жа, ёмкі для мяне, санаторый, дзе была я вясною. Еду 6 верасня, і спраў цяпер многа, так што вельмі прашу прабачыць мне гэты лісток-карацельку.

З Ленай бачылася 16 жніўня на вяселлі нашай пляменніцы. Нічога яна мне не гаварыла пра доктара — ды й часу не было для такіх размоў. Яна працуе ўжо, настаўнічае.

А я вось падрыхтавала канчаткова зборнік вершаў «Келіх макавы» — павязу 6-га сама, запланаваны на 82-гі.

Здароўя Вам, слаўная і помная мною, мілая Ларыса Антонаўна!

Вярнуся ў канцы кастрычніка. Абнімаю — *Ніна*.

## 86. ЯНКА БРЫЛЬ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*26 студзеня 1981 г.*

Паважаная Ларыса Антонаўна!

Толькі сёння магу адказаць на Ваша пісьмо: некалькі дзён хварэў, не выходзіў з дому.

У беларускае аддзяленне Упраўлення па ахове аўтарскіх правоў паступаюць на Ваша імя сякія-такія грошы — за выкананне Вашых вершаў з эстрады, як сказаў мне па тэлефоне адзін з работнікаў упраўлення. Вам трэба было зарэгістравацца ва ўпраўленні, як і кожнаму, каму там належыцца нейкі ганарар, — справа вельмі простая. Неакуратны работнік упраўлення, пасылаючы Вам анкету, не напісаў зваротнага адрасу. Яны Вам днямі напішуць. Анкету я перадаў па назначэнню.

Жадаю Вам усяго добрага!

*Янка Брыль.*

## 87. НІНА МАЦЯШ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Белаазёрск, 4 кастрычніка 1981 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Зычу Вам добрага дня ў Вашай хаце і сёння, і потым — потым! Я жыву зараз даволі напружана, бо шмат работы. Вось атрымала на подпіс дагавор на выданне паэзіі (4 аркушы) В. Шымборскай — польскай паэтэсы. Тры аркушы ў мяне ўжо гатовы, а 700 радкоў яшчэ трэба перакласці. Але пакуль перакладаю з украінскай, таксама ў зборнік — Ліны Кастэнкі. І чакаю пуцёўку ў Друскенікі — дзеля масажу. Трэба ж хоць трошкі падтрымліваць здароўе.

Страшна думаць пра наступнасць. Гады, на жаль, не прыбаўляюць фізічных сіл. А я жыву адна ў кватэры, і памагаць няма каму, і ніводнай душы няма, каб можна было спадзявацца, што яна возьме на сябе гэту страшна цяжкую чару — жыць са мной і памагаць мне. Вось і малю ўсіх багоў, якія ёсць яшчэ нада мною, каб не адбіралі яны ў мяне апошніх кропель здароўя, каб я магла хоць у кватэры самастойна спраўляцца, як цяпер спраўляюся.

Вершы не пішуцца і мне, бо душа не на Алімпе, а ў прорве нейкай. Можа, выкараскаецца?.. Гаю сябе чужой паэзіяй.

Бывайце здаровы, дарагая, не сумуйце ж!

Цалую Вас — *Ніна.*

## 88. МАКСІМ ТАНК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 15 красавіка [1982 г.]*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Да глыбіні душы нас узрушыла і засмуціла звестка аб Вашай цяжкай хваробе. Думаю, калі крыху справімся са сваімі неадкладнымі справамі, нехта з нас пастараецца наведаць Вас. А зараз буду раіцца і прасіць, каб Вам аказалі дапамогу нашы медыкі, бо, напэўна, у Зэльве няма найбольш дзейсных і неабходных для Вас лекаў.

Копіі Вашых заяў ці пасланняў, якія Вы пісалі мясцовым кіраўнікам, я перадаў у ЦК. Прыкра, што ў наш час яшчэ сустракаюцца людзі на адказных месцах, якія не разумеюць элементарных рэчаў і замест таго, каб аказаць людзям дапамогу ў іх бядзе і горы, ствараюць столькі лішніх непрыемнасцяў і непатрэбных клапот.

Калі зможаце, пішыце і не губляйце надзеі на лепшае. Зараз я чартоўскі заняты рознымі сустрэчамі, выступленнямі, пленумамі, нарадамі… Нават няма калі лячыцца, хоць здароўе — ніжэй усякай крытыкі. Вясной праляжаў з сэрцам два месяцы ў Маскве. А зараз глытаю розныя пілюлі.

Ці атрымліваеце Вы «ЛіМ», «Полымя», «Маладосць»? Можа, іх Вам выпісаць? Пішыце. Ад усіх непамыслот уцякайце ў цудоўную краіну сваёй паэзіі. Самыя сардэчныя Вам прывітанні ад усёй нашай сям'і і самыя найлепшыя пажаданні.

*Максім Танк.*

## 89. НІНА МАЦЯШ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Белаазёрск, 28 чэрвеня 1982 г.*

Любая Ларыса Антонаўна!

Дзякуй Вам за шчыра спачувальную размову са мной — дзякуй вялікі за ліст Ваш. Я ўдома, і нікуды, пэўна, не падзенуся, не паеду — бо душа мая не гатовая да з'яўлення на людзях. Хоць часам нават і адказвае ўсмешкай на людскую ўсмешку… А нездароўя таксама прыбавілася. Аслабела яшчэ больш, яшчэ мацней стала балець сэрца. Што паробіш? Якія тут могуць быць лекі?

Ці атрымалі Вы кнігу? У нашай кнігарні яе яшчэ няма. А што да выдавецтва, дык яно сапраўды напачатку разлічваецца з аўтарам, а кнігу прысланць часам нават забывае. Гэтак са мною было. Так што пакуль не перажывайце, усё яшчэ будзе, як належыць. І з раднёй — усё наладзіцца!..

Ад Данусі [Бічэль] даўно не маю вестак. Ды й сама не пішу. Хай бы адлегла ад сэрца трошкі… Спрабую перакладаць: выбранае Сэнт-Экзюперы ў плане 83-га, трэба ўжо здаваць кнігу, а яна яшчэ не зробленая.

Мацуйцеся, даражэнькая, і Вы.

Цалую Вас — *Ніна*.

## 90. МАКСІМ ТАНК — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Мінск, 7 верасня 1982 г.*

Дарагая Ларыса Антонаўна!

Перадусім прашу дараваць, што не змог раней адказаць на Ваша трывожнае пісьмо і шчыра падзякаваць за зборнік «На чабары настоена», бо толькі што вярнуўся са сваёй Нарачы, дзе «адпачываў», бо на дачы быў такі гармідар, як у Ноевым каўчэзе.

Я вельмі рады, што Вы падарылі сваім сябрам і чытачам свой чарговы, новы зборнік вершаў — вершаў хвалюючых і шчырых, сярод якіх ёсць такія цудоўныя ўзоры лірыкі, як «Жаўрук», «Чысціня», «Унуку», «Зямля мая», «Два рэхі», «Развітальна заплакала восень», «Цягнуцца ў неба таполі», «Дом дзяцінства», «Нада мною століь», «У песнях ёсць хлеб», «Дзе блудзяць сны», «На сонечных гонях» і іншыя. І хоць на многіх вершах ляжыць водсвет ідэалізаванай мінуўшчыны, але гэта водсвет беззваротна мінуўшай маладосці, па якой кожны з нас сумуе, якой бы яна ні была.

Трэба было б Вам канчаткова аформіць свае юрыдычныя справы, справы пісьменніцкія. Трэба было б Вам паехаць некуды, каб крыху адпачыць і паправіць сваё здароўе, і паглядзець на свет і на тое, што робіцца за межамі Зэльвы. Давайце яшчэ раз падумаем аб усіх гэтых справах жыццёвых, а яны — і творчыя. Спадзяюся, што крыху паспакайнее ў нашых суседзяў, Вы зможаце сустрэцца і з сынам, і з унукамі.

Пішыце. Не замыкайцеся ў ракушцы сваёй сціпласці і самотнасці, бо ў Вас шмат сяброў. І прысылайце свае новыя творы.

Пра сябе гаварыць не буду. Чуюся — як заезджаны стары конь. Няма калі ні лячыцца, ні пісаць. А гэты год такі багаты на юбілеі, на пасяджэнні, пленумы, што няма калі нат сабрацца з думкамі, сур'ёзна папрацаваць над нейкімі новымі творамі. Відаць, канец года, калі не падвядзе здароўе, буду ў розных камандзіроўках.

Яшчэ раз віншую Вас з выхадам новага зборніка. Жадаю Вам шмат здароўя і добрага творчага настрою.

Шчырае Вам прывітанне ад Любоў Андрэеўны, ад усёй нашай сям'і, якая папоўнілася ў гэтым годзе ўнучкай Кацяй. Закалыханая бурканнем галубоў, здаецца, спіць на балконе. А каб не разбудзіць, усе стараемся хадзіць цішэй. Вось каб дзеду такая апека, пісаў бы вершы. А то — званкі, званкі, званкі…

З надзеяй на сяброўскую сустрэчу — *Максім Танк.*

## 91. ФЁДАР ЯНКОЎСКІ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*24 кастрычніка 1982 г.*

Дзень добры! Дзень добры!

Рады быў, купіўшы чытаць і прачытаць «На чабары настоена». Дні праз тры пайшоў у кнігарню і купіў на ўсе грошы, якія меў у кішэні, — 11 кніг. Падумаў: 11? Нейкі няўдалы лік. Але ўспомніў: у мамы маёй было 11 дзетак! І купіў 11 кніг. І паслаў людцам. Дзве — паэтам!..

Прачытаў і кожны дзянёк вяртаюся. Набралася мнагавата значкоў маіх (гэта не азіятчына!) на палях.

Здароўя Вам! Вітанне Вам! Новых мілых творчых трывог Вам, дарагая Ларыса Геніюш!

Шчыра — Ваш *Ф. Янкоўскі.*

## 92. НІНА МАЦЯШ — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*Белаазёрск, 24 снежня 1982 г.*

Родненькая Ларыса Антонаўна!

Малю Вас, не бярыце ў крыўду маё маўчанне!.. Глыбозны дзякуй Вам за Вашу паэзію, «на чабары настоеную», — так хораша пазнаваць у радках Вас, Ваш горды, мужны, сціплы і непакорны характар! Чытаю зборнічак, адкладваю і зноў звяртаюся да гэтай чыстай крыніцы: яна чакала мяне з Расіі, з Разані, куды я ездзіла на лячэнне магнітамі, і скуль толькі месяц як вярнулася.

А тут неадкладныя спрвы навярнуліся, і дагэтуль яшчэ падступаюць: рыхтую да выдання свае пераклады твораў Сэнт-Экзюперы.

Ад шчырага сэрца вітаю Вас, віншую з Новым годам, зычу моцнага здароўя, і каб усё ў Вашай хаце і ў душы Вашай ішло самым добрым чынам — Вам на ўцеху, нам — на гордасць!

Цалую Вас ласкава і ўдзячна — *Ніна*.

P. S. Высылаю Вам друкаваную ў «ЛіМе» рэцэнзію на Ваш зборнік — можа, каму пашлеце, хай парадуюцца за Вас і па-за межамі роднай нам Беларусі!

*Францішка СОКАЛАВА*

# ЛАРЫСА ГЕНІЮШ І ПРАГА

Чэхаславацкая Рэспубліка, якая ўзнікла ў выніку распаду Аўстра-Венгерскай імперыі пасля Першай сусветнай вайны, прапанавала сваю велікадушную дапамогу палітычным уцекачам з Савецкай Расіі, Украіны, Беларусі і іншых краін, якія адышлі да Саветаў пасля грамадзянскай вайны. Дапамога, ініцыяваная ў першую чаргу прэзідэнтам Т. Масарыкам, была накіравана на падтрымку інтэлігенцыі і вучобу студэнтаў, якія дома не маглі студыяваць, праследаваліся па палітычных матывах. Гэта датычылася і прадстаўнікоў беларускай меншасці ў тагачаснай Польшчы.

Адным з беларускіх студэнтаў, які знаходзіўся ў Празе з 1922 года, быў палітычны ўцякач Ян Геніюш. Ён атрымліваў дапамогу ад розных фундацый, а пазней таксама і ад сваіх родзічаў, што жылі на Гродзеншчыне. З гэтых мясцін паходзіла і яго жонка Ларыса з дому Міклашэвічаў, якая прыехала да мужа ў Прагу з сынам Юркам у канцы 1937 года. Яны былі беларусімі патрыётамі.

Геніюшы далучыліся да грамадскага жыцця беларускай эміграцыі. Ларыса стала сакратаркай прэзідэнта БНР Васіля Захаркі, а пазней клапацілася пра яго архіў (так званы архіў Крачэўскага — Захаркі). Была таксама скарбнікам пражскай філіі Беларускага камітэта самапомачы (у час вайны немцы дазволілі існаванне падобных непалітычных суполак узаемадапамогі таксама рускім і ўкраінскім эмігрантам). Ёсць дастаткова доказаў, што палітычны запавет В. Захаркі, надыктаваны ім перад смерцю Л. Геніюш, перадрукоўвала на машынцы сястра Лесі Украінкі пані Косач-Шыманоўская, якая была суседкай Геніюшаў. Дом, дзе яны жылі, зваўся «Кашпарак» і знаходзіцца ў пражскім раёне Нуслі.

Пасля смерці прэзідэнта В. Захаркі, у красавіку 1943 года, Л. Геніюш разам з новым прэзідэнтам Рады БНР Міколам Абрамчыкам выбралі з архіва найбольш каштоўныя дакументы, якія Абрамчык павінен быў адвезці ў Парыж. Тут у справу ўмяшаўся Іван Ермачэнка, загадкавы палітык, які таксама эміграваў у Прагу. У 1941–1943 гадах ён кіраваў Камітэтам самапомачы ў Мінску, быў дарадцам гаўляйтэра Беларусі Вільгельма Кубэ. Ермачэнка прымусіў Л. Геніюш у прысутнасці супрацоўнікаў гестапа аддаць ключ ад архіва Захаркі ў яго кватэры ў Модржанах. (Ермачэнка перавёз архіў у сваю кватэру ў Празе, а потым перадаў яго ў Рускі архіў на часовае захаванне.)

З дакументаў, знойдзеных Ганнай Сурмач у Рускім замежным гістарычным архіве ў Маскве, вынікае, што Кубэ зацікавіўся архівам Крачэўскага — Захаркі. Ужо 10 чэрвеня 1943 года беларускі архіў быў праз паверанага мінскага генеральнага камісара Рыхеля перададзены ў Рускі архіў ў Празе. Спадарыня Сурмач знайшла ў Маскве, куды трапіў пасля вайны Рускі пражскі архіў, зроблены Ермачэнкам вопіс дакументаў, складзены пры гэтай перадачы. Дасюль лёс гэтых дакументаў невядомы[1].

У сваіх мемуарах «Споведзь» (Мінск, 1990) сама Ларыса Геніюш піша, што ў 1949 годзе ў час допыту ва ўсемагутнага шэфа беларускага КДБ Цанавы ад яе дамагаліся аднаго: дзе архіў? Гэта была адна з прычын яе арышту. У сваёй кнізе пісьменніца згадвае, што следчы паказаў ёй паперы Беларускага камітэта (самапомачы?), якія, верагодна, у Мінск прывёз Ермачэнка. Як меркавала Ларыса Антонаўна, Ермачэнка быў двайным агентам — нямецкім і савецкім. Матэрыялы пра яго дзейнасць пад канец вайны і адразу пасля яе знаходзяцца ў Празе ў Дзяржаўным цэнтральным архіве і архіве Міністэрства ўнутраных спраў.

Калі ў 1944 годзе Цэнтральная беларуская рада з Мінска запрасіла пяцярых ці чатырох сяброў Пражскага камітэта самапомачы на Другі Усебеларускі кангрэс (27. 6.1944),

то ў гэтую небяспечную дарогу, насустрач нямецкай арміі, што адыходзіла, выправіліся толькі двое: Ларыса Геніюш і Васіль Русак, былы ўдзельнік Слуцкага збройнага чыну. Л. Геніюш прыехала на другі дзень пасля завяршэння кангрэса, які зноў, як і ў 1918 годзе, абвясціў беларускую незалежнасць. Усе запрошаныя на кангрэс дорага за гэта заплацілі пасля вайны. В. Русак жыццём — ён быў схоплены ўжо ў маі 1945-га; муж і жонка Геніюшы — дваццаццю пяццю гадамі лагераў; М. Забэйда-Суміцкі — вялізным грашовым штрафам. Грашовы штраф атрымаў (паводле «малога» Бенешавага дэкрэта) і неіснуючы Міхал Геніюш (у стужцы тэлетайпа, што захавалася ў Дзяржаўным цэнтральным архіве, прозвішча Забэйды-Суміцкага было спалучана з прозвішчам Геніюш).

Пасля вайны супрацоўнікі СМЕРШа двойчы спрабавалі схапіць Ларысу Геніюш. У час другой беспаспяховай спробы за паэтку заступіліся чэшскія грамадзяне, якія запатрабавалі прысутнасці чэшскай паліцыі. Пасля гэтага Геніюшы пачалі дамагацца чэхаславацкага грамадзянства, якое яны атрымалі ў 1947 годзе.

Дата высылкі Геніюшаў з ЧССР — 27 ліпеня 1948 года. Перад гэтым яны былі пазбаўлены чэхаславацкага грамадзянства, перададзены органам МУС і асуджаны. Вызваліліся ў 1956 годзе. Іх сын Юрка, які ў час зняволення бацькоў заставаўся ў Польшчы, жыў спачатку ў сваякоў у Вроцлаве, а пазней у дзіцячым доме. Хаця ён знаходзіўся пад пастаянным наглядам і псіхалагічным ціскам, здолеў набыць прафесію медыка, але найбольш сябе прысвячаў літаратурнай працы. Сваю маці перажыў толькі на два гады.

Успомніць людзей, якія былі ў Чэхіі знаёмымі і прыяцелямі Ларысы Геніюш,— складаная задача, якая патрабуе працы галоўным чынам у замежных архівах. Вышэй была ўспомнена пані Косач-Шыманоўская. Назаву яшчэ Ганну Цескаву, чэшскую перакладчыцу і арганізатарку дапамогі рускім эмігрантам, архімандрыта Ісаакія Віградава (1895–1981) — інтэлігентнага і паважанага чалавека, які надзвычай прыязна ставіўся да беларусаў. Ён правёў абрад пахавання прэзідэнта В. Захаркі. Ларыса Геніюш хадзіла да яго на споведзь. У 1945 годзе ён быў схоплены і асуджаны Саветамі. Пасля двух гадоў лагераў праз заступніцтва патрыярха Алексія ён атрымаў магчымасць служыць святаром у Сярэдняй Азіі. Згадаю славіста Францішка Ціхага (псеўданім Броман; 1886–1968), які прысвяціў сябе мовам і літаратурам амаль усіх славянскіх народаў. Найбольшыя заслугі ён мае ў вывучэнні літаратуры карпацкіх русінаў і іх асветы. Цікавіўся таксама беларушчынай (напісаў па гэтай тэме даследаванне), перакладаў Купалу, іншых паэтаў, а магчыма, таксама і Ларысу Геніюш, якая яго пра гэта прасіла.

У Літаратурным архіве Музея нацыянальнага пісьменства (на Страгаве, дэпазітарый Старыя Грады) нам удалося знайсці толькі адзін дакумент пра іх стасункі. Гэта ліст Ларысы Антонаўны, адасланы з Зэльвы 11 снежня 1966 года, з якога вынікае, што паэтка з Францішкам Ціхім былі добра знаёмыя[2]. Тут выказана спачуванне ў адказ на паведамленне пра смерць жонкі Ф. Ціхага. У гэтым жа допісе Л. Геніюш дзякуе за дасланыя пераклады вершаў іншых аўтараў і выказвае пажаданне, каб і яе творы былі перакладзены. У спадчыне Ф. Ціхага нам, аднак, ніякіх вершаў Л. Геніюш знайсці не ўдалося.

Што да высокапастаўленых немцаў, з якімі Л. Геніюш сустракалася ў час вайны і якія памагалі ёй і чэхам, то ў Дзяржаўным цэнтральным архіве нам удалося знайсці дакументы[3], якія сведчаць, што доктар медыцыны Вільгельм Піпер захаваў жыццё некальким вязням з турмы Панкрац. Пазней Піпер быў абвінавачаны ў ваенных злачынствах, але за гэта нясе адказнасць іншы Піпер — доктар юрыспрудэнцыі, прэзідэнт нямецкага земскага суда ў Празе[4]. Доктар медыцыны Піпер быў выпушчаны на волю ў сакавіку 1946 года. Што да загадчыцы сацыяльнага аддзела Ганны Нот, якая прыехала ў Прагу пад канец вайны з Лодзі, то мы маем звесткі ад прафесара Смуэла Кракоўскага, былога

загадчыка архіва ў Яд Вашэм (Ерусалім), што імя гэтай жанчыны няма ў спісе ваенных злачынцаў Лодзі.

У пражскіх архівах мы не знайшлі пасляваенных лістоў Л. Геніюш прэзідэнту Бенешу, аднак тое, што яны дайшлі, было пацверджана ў пратаколе архіва Канцылярыі Прэзідэнта Рэспублікі за 1945 год[5]. Пакуль не знайшлося пацвярджэння, што дайшоў ліст, які яна паслала прэзідэнту Бенешу пасля Мюнхенскай змовы.

Матэрыялы, знойдзеныя ў пражскіх архівах, адпавядаюць таму, пра што піша Л. Геніюш у сваіх успамінах,— аж да дэталяў, якіх яна не ведала. Напрыклад, пра тое, як яны былі пазбаўлены чэхаславацкага грамадзянства і высланы ў СССР. У Дзяржаўным цэнтральным архіве, у матэрыялах акцыі дапамогі рускай эміграцыі ёсць дакументы пра побыт і вучобу Яна Геніюша. Там ёсць, напрыклад, пашпарт Беларускай Народнай Рэспублікі, выдадзены Я. Геніюшу ў Каўнасе ў 1922 годзе, чэхаславацкая віза з датай 15 красавіка 1922 года, некаторыя дакументы, што датычаць яго вучобы ў Карлавым універсітэце: заявы на выдзяленне дапамогі і стыпендыі, накіраваныя ў Камітэт прызначэння стыпендый рускім і ўкраінскім студэнтам. У ДЦА, у матэрыялах прэзідыума паліцыі[6] ёсць дзве анкеты, запоўненыя, праўдападобна, у часы так званай Другой рэспублікі, перад нападам Германіі на Польшчу. Польшча ў той час патрабавала вяртання сваіх грамадзян. У анкеце паведамляецца, што Я. Геніюш у Чэхіі вучыцца на юрыдычным факультэце Свабоднага ўкраінскага універсітэта. Анкеты запоўнены рукой Л. Геніюш. У ДЦА захоўваецца і тэлетайпнае паведамленне ад 20 чэрвеня 1944 года, адрасаванае з Мінска дзяржаўнаму міністру К. Г. Франку, пра запрашэнне на Усебеларускі кангрэс, які адбудзецца 27 чэрвеня 1944 года[7].

У архіве ўпраўлення паліцыі знаходзяцца розныя пасведчанні, пашпарты і пасляваенныя дакументы Геніюшаў, якія датычацца атрымання чэхаславацкага грамадзянства[8]. Яшчэ тут знаходзяцца матэрыялы з Міністэрства ўнутраных спраў і дзяржбяспекі, якія сведчаць, што адразу пасля лютага 1948 года (камуністычнага перавароту) гэтыя органы спешна выконвалі загад Масквы пра выдачу Геніюшаў як ваенных злачынцаў у Савецкі Саюз і ў сувязі з гэтым шукалі любую падставу, каб пазбавіць іх чэхаславацкага грамадзянства. У архіве Міністэрства ўнутраных спраў таксама ёсць дакумент пра зняволенне Геніюшаў органамі Дзяржбяспекі. 5 сакавіка 1948 года ўначы яны былі схоплены дома, у Вімпэрку[9].

Цікава, што яшчэ 2 чэрвеня 1948 года Земскі суд у Празе адказаў на скаргу Геніюшаў наконт іх арышту такім рашэннем: у выпадку, калі гэтыя людзі з'яўляюцца чэхаславацкімі грамадзянамі і не зрабілі канкрэтных парушэнняў чэхаславацкіх законаў, іх зняволенне проціпраўнае (адказ акружнога суда ў Піску ад 4 чэрвеня 1948 года Міністэрству ўнутраных спраў[10]). У непадпісанай копіі рашэння гарсавета (Акружнога народнага камітэта) у Прахаціцах пра высылку Геніюшаў з тэрыторыі Чэхаславакіі ад 7 ліпеня 1948 года гаворыцца, што 1 красавіка 1948 года яны былі пазбаўлены чэхаславацкага грамадзянства[11]. У іншым дакуменце ад 9 ліпеня 1948 года абласная ўправа СТБ (дзяржбяспекі) у Піску паведамляе цэнтральнай пражскай управе, што Геніюшы з турмы ў Піску былі пераведзены ў тамтэйшы адміністрацыйны ізалятар СТБ. 7 ліпеня 1948 года паводле рашэння Акружнога народнага камітэта ў Прахаціцах Геніюшы былі высланы, а 8 ліпеня былі эскартаваны пісецкай міліцыяй і перададзены цэнтральнай управе СТБ у Празе[12].

У сталічным архіве Прагі знаходзяцца дакументы, якія датычацца так званых малых Бенешавых дэкрэтаў, паводле якіх пасля вайны грамадзяне караліся за супрацоўніцтва з немцамі, за грамадскія беспарадкі[13] і г. д. Паводле «малога» дэкрэта ў суд былі выкліканы ўсе запрошаныя на Усебеларускі кангрэс. У той час (восень 1948 года) з іх у Празе заставаўся толькі М. Забэйда-Суміцкі. Геніюшы былі даўно за мяжой, а на

іх адрас працягвалі прыходзіць новыя і новыя позвы, у тым ліку і на імя неіснуючага Міхала. Апошняя позва прыйшла Генюшам у 1950 года, калі грашовыя штрафы былі ўсім зменшаны або дараваны.

У архіве Л. Геніюш у Мінску (аддзел рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі) ёсць ліст Ларысы Антонаўны Міколу Прашковічу ад 24 верасня 1969 года. Гэты ліст публікуе Міхась Скобла ў кнізе Л. Геніюш «Выбраныя творы»[14]. Там згадваецца, што Юрка Геніюш па дарозе ў Балгарыю спыняўся ў Празе, наведаў там знаёмых. Даведаўся, што ў 1963 годзе ўсе іх знаёмыя ў Празе мелі «візіты», верагодна, з Мінска. Усе тыя візіцёры вельмі добра былі інфармаваны пра ўсіх прыяцеляў сям'і і забралі ў іх усе дакументы, вершы і асобныя рэчы, што належалі Л. Геніюш. Паколькі выдавалі на іх квітанцыі, ясна, што візіт насіў афіцыйны характар.

Ці быў нехта з чэшскага боку прыцягнуты да вызначэння кола сяброў Геніюшаў? Пакуль застаецца спадзявацца, што нейкія згадкі знойдуцца ў спадчыне Л. Геніюш. Магчыма, дапамаглі б пошукі ў польскіх, беларускіх і рускіх архівах. Пакуль нам не ўдалося даведацца, у каго рэчы Геніюшаў былі канфіскаваны. Магчыма, у пана Крываноскі, апекуна малога Юркі, які мусіў перадаваць адабраныя дакументы Я. Геніюша Міністэрству ўнутраных спраў? Ці ў прафесара Шпачэка, старшыні Саюза амерыканска-чэшскага сяброўства? Або ў медыка Карла Вотрубы? Або ў сям'і Сіраполкавых? Невядома.

А цяпер хачу выказаць некалькі думак, якія датычацца пражскай літаратурнай творчасці Л. Геніюш і яе стасункаў з чэшскай культурай.

Хаця Л. Геніюш пісала вершы ўжо ў Ваўкавыскай гімназіі, больш сур'ёзна пачала яна займацца творчасцю пасля замуства. Найбольш інтэнсіўна — у Празе, калі была разлучана з радзімай. Тут яна стала вядомай паэткай, якая хутка набыла папулярнасць у шырокім коле беларусаў. Дэбютавала яна ў 1940 годзе ў беларускай эмігранцкай газеце «Раніца» вершам «Беларуска». І ў час вайны працягвала пасылаць у гэтую газету свае вершы, якія рэзка кантраставалі з яе зместам. У Празе паэтка выдала сваю першую кнігу «Ад родных ніў», прысвечаную братам і сёстрам на чужыне. Сваімі вершамі аб Празе — у нас амаль невядомымі — узбагаціла чэхаў. У Празе нарадзіўся і другі зборнік вершаў 1945–1948 гадоў, выдадзены ў 1992-м у Лондане Беларускай бібліятэкай імя Ф. Скарыны. Астатнія вершы, напісаныя ў пражскі перыяд, згубіліся, былі ўкрадзены або пакінутыя чэшскім прыяцелям, якія іх захоўвалі.

«Унучка Францішка Скарыны» (як Геніюш сама сябе называла ў адным вершы) у Празе пачувалася добра, не адчувала моўнага бар'еру. Гаварыць па-чэшску яна навучылася. Чытала па-чэшску Біблію, паколькі беларускага перакладу не мела. Евангелле яна мела па-беларуску. Ужо пасля двух гадоў побыту ў Празе па-чэшску запаўняла анкеты (вышэй памянёныя апытальнікі). Яны запоўнены пісьменна, толькі з нязначнымі памылкамі ў дыякрытычных знаках.

Уплыў чэшскай паэзіі ў вершах паэткі не заўважаецца (а, напрыклад, ва Уладзіміра Жылкі заўважаўся ўплыў Іржы Волкера). Аднак яна сачыла за чэшскай літаратурай часоў вайны (у лісце М. Танку ад 22 кастрычніка 1966 года цытуе Ф. Грубіна, Я. Сейферта, С. К. Нэймана[15]). У лісце А. Мальдзісу ад 17 сакавіка 1981 года паэтка прапануе перавезці астанкі Максіма Багдановіча на Радзіму па прыкладзе таго, як гэта зрабілі чэхі, перавёзшы прах свайго вялікага паэта Карла Гынка Махі з Літамерыц у Прагу ў 1939 годзе. Л. Геніюш сама была сведкай гэтай нацыянальнай падзеі. Пры ёй праходзілі таксама два Усесакольскія злёты — дзясяты, перадваенны, які стаў антынацысцкай маніфестацыяй, і пасляваенны, адзінаццаты, ужо пры камуністычнай уладзе, калі яна ў вязніцы сустракалася са зняволенымі чэшскімі патрыётамі.

Дома, у Беларусі, пасля вяртання з лагера, Л. Геніюш фармавала свядомасць маладых суайчыннікаў, якім распавядала пра дэмакратыю ў Чэхаславакіі і стаўленне чэхаў

да роднай мовы. Гэта не азначае, што чэхаў і Чэхію яна ідэалізавала, наадварот, паэтка згадвае ў сваіх мемуарах і пра непрывабныя факты — напрыклад, перасьледаванне немцаў пасля вайны.

Ларыса Геніюш пражыла жыццё чалавека, які апынуўся паміж двума камянямі жорнаў. Але ў яе жыцці заўсёды галоўным заставаліся любоў да свайго народа і спачуванне яго бедам. Гэтае народнае прыніжэнне і бяду яна ўзяла на сябе і засталася верная сваім патрыятычным перакананням аж да смерці. Да смерці яна зведвала здзекі і перасьледаванне, але не здалася, адмовілася служыць сталінскай прапагандзе — так, як перад гэтым і гітлераўскай. Яе жыццёвая пазіцыя, яе цудоўныя вершы заўсёды будуць мець удзячнага чытача як на радзіме, так і ў нас, у Празе.

[1] Гл.:Сурмач Г. Беларускі замежны архіў // International Conference Russian, Ukranian and Belorussian Emigration between the World Wars in Czechoslovakia: Results and Perspectives of Contemporary Research. Holding of the Slavonic Library and Prague Archives». Prague, August 14-5. 1995. Proceedings. Prague, 1995. P. 85–90.

[2] Ціхі Ф. Архіў, карэспандэнцыя, IICH 15, G-Je.

[3] Цэнтральны дзяржаўны архіў Чэхіі (ЦДА), 109-12-9-102.

[4] ЦДА, 316-125-4/94-113.

[5] Архіў Канцылярыі Прэзідэнта Чэхіі, пратакол 1945 г.: № 1740. I775.

[6] ЦДА. Архіў управы паліцыі, G 310/1.

[7] Фонд прэзідыума паліцыі, 225, № 110–5-69.

[8] ЦДА. Архіў ўправы паліцыі, G 310/1.

[9] Архіў Міністэрства ўнутраных спраў Чэхіі, 305-141-1.

[10] ЦДА. Міністэрства ўнутраных спраў Чэхіі, A461/1045.

[11] Архіў Міністэрства ўнутраных спраў Чэхіі, 305-141-1.

[12] Тамсама.

[13] Сталічны архіў Прагі, 36-11384.

[14] Гл.:Геніюш Л. Выбраныя творы / укл. прадмова і каментар М. Скоблы. Мінск, 2000. С. 511.

[15] Гл.:Геніюш Л. Выбраныя творы. С. 511.

*Мікола ПРАШКОВІЧ*

# ШЛЯХ ПАЭТА

Кожны паэт, калі ён не перапявае іншых, заўсёды знойдзе сваю дарогу і да сэрца чытачоў і наогул у «вялікую» літаратуру. Нават тады знойдзе, калі лёс будзе да яго асабліва няласкавы, калі на яго жыццёвым і творчым шляху будуць толькі адны вострыя камяні, а з бакоў — калючы кустарнік. Але каб паэт да канца застаўся паэтам, не растраціў свой талент, раскрыў сябе ва ўсіх гранях, яму трэба яшчэ адна якасць — чалавечнасць, шчырасць, замілаванасць да роднага краю, любоў да свайго народа.

Гісторыя ведае шмат прыкладаў, калі лёс быў вельмі жорсткі да паэтаў, але, нягледзячы на гэта, яны змаглі сказаць вялікую праўду свайму народу і чалавецтву і заваяваць пачэснае месца ў роднай культуры. Прыгадаем лёс вялікага Кабзара, польскіх паэтаў-выгнаннікаў Міцкевіча і Славацкага, трагедыю М. Цвятаевай. Нарэшце, хто з нас не ведае і не захапляецца творамі Мусы Джаліля, вязня нямецкага канцлагера, які, здавалася б, у самых неспрыяльных умовах пісаў творы, поўныя пафасу, жыццесцвярджальнасці, веры ў перамогу над фашызмам.

Асабліва «не шанцавала» пісьменнікам. Цяжкі сацыяльны і нацыянальны прыгнёт прыводзіў да таго, што найбольш здольныя сыны народа аддавалі свой талет суседзям. Тых жа «ўпартых», што не паддаваліся «выхаванню», чакаў цяжкі лёс. Няма патрэбы сёння гаварыць, чым скончылася жыццё Паўлюка Багрыма, амаль аднагодка Шаўчэнкі, які ў іншых умовах мог бы стаць гонарам нацыі. Вельмі рана згарэў у агні змагання за свабоду Беларусі Адам Гурыновіч, у хвіліну адчаю паднёс да скроняў пісталет Сяргей Палуян. І нават тым, хто памёр «сваёй смерцю», прыходзілася не раз піць палыновую настойку: Дунін-Марцінкевіч і Вярыга-Дарэўскі, Багушэвіч і Ядвігін Ш., Цётка і Багдановіч, Купала і Колас, Бядуля і Сваяк… І ўсё ж літаратура развівалася, хаця і вельмі павольна, з вялікімі мастацкімі выдаткамі. І сёння яна багатая, як ніколі. Многія пісьменнікі вядомы не толькі ў межах Савецкага Саюза, але і ва ўсёй Еўропе і нават ва ўсім свеце.

Адны з беларускіх пісьменнікаў працуюць на роднай ніве ўжо дзесяцігоддзі, другія — толькі пачынаюць свой шлях. Я ў сваім артыкуле хачу расказаць пра паэтэсу Ларысу Геніюш — чалавека з вялікім жыццёвым вопытам і надзвычай цяжкім лёсам. Пафасная, напоўненая патрыятычным зместам лірыка Ларысы Геніюш адразу паставіла яе ў лік лепшых паэтаў, паэтаў са сваім творчым почыркам. Паэтэса яшчэ не стала шырока вядомай, але яе творчасць дае падставу з усёй сур'ёзнасцю ацаніць кнігу «Невадам з Нёмана», што нядаўна выйшла ў выдавецтве «Беларусь». (На першым зборніку Ларысы Геніюш «Ад родных ніў», што выйшаў у 1942 г. у Празе пры падтрымцы чэшскіх патрыётаў, я спецыяльна спыняцца не буду, бо амаль усе вершы адтуль увайшлі ў новы яе зборнік.)

Перш чым пачаць разгляд паэзіі Ларысы Геніюш, хочацца адзначыць, што ў кнізе змешчаны грунтоўны артыкул пра яе творчасць Ю. С. Пшыркова. Хочацца таксама сказаць цёплае слова пра мастака Ул. Басалыгу, які так прыгожа, з тонкім густам змог кнігу аформіць.

Шлях у літаратуру Ларысы Геніюш быў надзвычай складаны, жыццёвы лёс яе да неверагоднасці цяжкі. Нарадзілася паэтэса ў 1910 г. на Ваўкавышчыне ў заможнай сялянскай сям'і, скончыла Ваўкавыскую гімназію, далей жа вучыцца, нягледзячы на тое што былі пэўныя сродкі, стала немагчыма. Польскія ўлады рабілі ўсё, каб закрыць беларускай моладзі на «крэсах усходніх» шлях да навукі, прынізіць яе чалавечую і нацыянальную годнасць. Цяжкае жыццё працоўных мас былой Заходняй Беларусі параджала

адпор акупантам. БСРГ, пасля ТБШ — гэта найбольш значныя легальныя нацыянальныя арганізацыі, якія дзейнічалі ў пэўны час на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Праўда, разабрацца ў той палітычнай сітуацыі, што склалася на «крэсах усходніх», было не так проста. Дзясяткі партый і партыйных груповак, газет і часопісаў, пачынаючы ад выданняў КПЗБ і заканчваючы клерыкальнымі.

Ларыса Геніюш не належала ні да якой палітычнай партыі. Яна ў дзяцінстве не адчувала той нястачы, якую адчувала сялянская бедната. Тым не менш яе шлях вельмі рана перакрыжаваўся са шляхамі перадавых свядомых барацьбітоў за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне працоўных. Ларыса Геніюш яшчэ ў дзяцінстве адчула ўсю цяжкасць нацыянальнага нераўнапраўя, калі атручвалася свядомасць народа, аплёўваліся яго звычаі і мова. І шмат пазней у сваім аўтабіяграфічным вершы «Маці» яна прыгадае:

Знаеш, мама, ў школе ўсё па-польску,
Каб прымелі — душу узялі б.
Гавары мне мовай родных вёсак,
Сонечнай пакрыўджанай зямлі.

У вершы «Гудзевічы» яна паўтарае:

А у школе? Ў школе ўсё па-польску,
Не «адзін», а «едэн», «пенць» — не «пяць»,
«буль» — не «боль» і «бэндзе весь» — не «вёска», —
Вучыць пані дзетак размаўляць.

У такой абстаноўцы праходзілі дзіцячыя і юнацкія гады паэтэсы, а гэта, безумоўна, наклала моцны адбітак на яе светапогляд.

Горыч і боль за свой пакрыўджаны і зняважаны народ вылiваўся ў вершах, якія паэтэса пачала пісаць у юнацкім узросце. Праўда, яна іх спачатку нікому не паказвала і ў заходнебеларускай прэсе друкаваць не асмельвалася. Вершы ляжалі, чакалі свайго часу, а сама паэтэса напярэдадні вайны жыла ўжо далёка ад радзімы, у чэшскай Празе.

У Прагу Ларыса Антонаўна трапіла ў сярэдзіне трыццатых гадоў. К гэтаму часу закончыў у Празе медыцынскі факультэт яе муж Іван Пятровіч Геніюш. На роднай зямлі польскія ўлады для спецыяліста, у якім мелі патрэбу тысячы людзей, не знайшлі месца. І калі яму прапанавалі працу ў Празе, то нічога не заставалася рабіць, як згадзіцца. Так Іван Пятровіч, а разам з ім і Ларыса Антонаўна пераехалі жыць у Прагу. Пісаць вершы Ларыса Антонаўна працягвала і ў чэшскай Празе, але па-ранейшаму іх не друкавалі. І толькі калі грымнулі залпы Айчыннай вайны, калі родная Беларусь была акупіравана ворагам, паэтэса загаварыла ў друку.

Умоўна ўвесь творчы шлях Ларысы Геніюш можна падзяліць на тры перыяды. Першы перыяд — гэта канец 30 — пачатак 40-х гадоў, да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Другі перыяд — вельмі непрацяглы — творчасць перыяду Айчыннай вайны. І нарэшце, трэці перыяд — гэта творы апошняга дзесяцігоддзя, калі яна зноў жыве ў Зэльве. Кожны з гэтых перыядаў мае свае характэрныя асаблівасці, не толькі перадае душэўны настрой аўтара, але і характэрызуе атмасферу грамадскага і культурнага жыцця ў краіне. І ў той жа час увесь зборнік, нягледзячы на тое што творы пісаліся ў розны час і з вялікімі перарывамі, вельмі кампактны: яго аб’ядноўвае, цэментуе адзіная думка — любоў да роднай зямлі, сваёй мовы, шчырасць і непасрэднасць у выказванні, высокае паэтычнае майстэрства.

Тэматычна ўвесь зборнік вельмі шматгранны. Зразумела, што Ларысу Геніюш увесь час турбаваў лёс беларускай жанчыны, жаночая доля. Паэтызацыя яе працы — адна

з цэнтральных тэм. «Лён», «За прасніцай», «Навучыла маці», «Дываны», «Бабулька», «Жнівом», «Мой лён і сны», «Над празорай крыніцай» і інш. — ва ўсіх іх жаночая доля ў цэнтры ўвагі, ва ўсіх іх доля жанчыны-маці і доля Беларусі цесна пераплецены між сабой.

У творчасці Ларысы Геніюш ёсць адна вельмі зайздросная рыса, якая робіць яе вершы непаўторнымі, самабытнымі. З аднаго боку, яна ўмее выкарыстоўваць традыцыйныя фальклорныя тэмы і рытміку народных песняў і ўсё гэта напаўняць надзённым зместам. З другога боку, мала хто ў беларускай паэзіі можа спаборнічаць з ёю як аўтарам пейзажнай лірыкі. Прычым прырода і чалавек знаходзяцца ўвесь час у цесным узаемадзеянні. Прырода ў творах Ларысы Геніюш не проста фон, на якім адбываецца дзеянне. Прырода жыве разам з чалавекам: думае, спачувае герою, абураецца ўчынкамі ворагаў. Цікавы ў гэтых адносінах верш «Мой лён і сны». Пабудаваны на народных матывах, з шырокім выкарыстаннем пейзажных замалёвак, гэты ранні твор гаворыць аб вялікім майстэрстве паэтэсы, яе ўменні знітаваць у адзінае цэлае як інтымныя перажыванні гераіні, так і патрыятычныя матывы радзімы, шчодра выкарыстаўшы фальклорныя традыцыі, даўшы каларытныя замалёўкі роднага пейзажу. Прачытаем пачатак верша, удумаемся ў яго сэнс, услухаемся ў рытміку:

Кволы лён мой напіўся расы —
быццам з воблакаў сіні наліўся.
Буду ткаць дываны, паясы
для таго, хто мне ўночы прысніўся…
Будзе кужаль за снег той бялей,
пояс ўзорны, як межанька наша;
пазірацімуць людзі ў сяле,
калі мілы яго падпаяша!..

Спачатку — як быццам традыцыйная тэма, і мы чакаем, што яна будзе традыцыйна вырашана: дзяўчына вытча прыгожы пояс, гэты пояс падаруе каханаму, патрадыцыйнаму абое застануцца задаволенымі. Але паэтэса робіць нечаканы паварот, верш паступова расшырае свае рамкі, робіцца ўсё больш значымым і ідэйна важкім, бо калі маці гаворыць гераіні, што трэба ткаць зрэб’е ці сукно, то ў той у душы іншыя жаданні.

А мне хочацца толькі вясну
ды палі свае родныя ткаці.
Вельмі шэрае тое сукно, —
я ж хачу ткаць вясёлкі і краскі:
аснаваць так прадно за прадном,
каб дыван быў — як родная казка!

У лірычную тэму кахання неспадзявана ўрываецца патрыятычная тэма замілаванасці да роднай прыроды, жаданне перадаць яе непаўторную прыгажосць. Лірычная тэма не знікае, яна ўвесь час прысутнічае, але яна адступае на задні план, у той жа час патрыятычная тэма выступае ўсё больш яскрава. Заключныя ж радкі верша гучаць магутным акордам, у іх вылілася ўсё тое, што хвалюе гераіню.

Ўсё, што цешыць, і ўсё, што баліць,
на палотны узорам раскіну:
хвалі, краскі, калоссе, палі —
ўсю красу наймілейшай Краіны!..

Верш пачынаецца лірычнай замалёўкай, думамі гераіні, і чытаць яго пачатак хочацца спакойна, нават запаволена. Чым жа далей разгортваецца дзеянне, тым усё больш на месца гэтай запаволенасці прыходзіць пафаснасць. І хаця памер верша застаецца той жа, паэтэса так умее падаць пейзажныя малюнкі, ужыць такія мастацкія сродкі, што твор прымае баявы публіцыстычны характар.

І ў іншых вершах з гэтага цыкла паэтэса нідзе не паўтараецца — як у вырашэнні тэмы, так і ў выкарыстанні мастацкіх сродкаў. У кожным з іх яна ўмее знайсці тыя штрыхі, якія, здаецца, падыходзяць менавіта для гэтага верша. Так, у вершы «Лён» станоўчы ідэал гераіні сцвярджаецца праз адмаўленне. Тонка перадае Ларыса Геніюш роздумы сваёй гераіні ў вершах «За прасніцай», «Дываны» і інш. Гераіня прыпамінае вясну, радасць кахання, марыць пра тое, як будзе ткаць тонкі кужаль, «сонейка — Родны край». Ціхай радасцю, цеплынёй і шчасцем жыцця сагрэты верш «Бабулька». Праўда, гаворачы пра ціхую старасць гераіні, паэтэса не забывае і яе цяжкую маладосць.

Раскажы, колькі дзён ты на тыдзень
бегла пану прыгон адрабляць
ды ўставаць, пакуль сонейка ўзыдзе,
покуль росы ўбяруць сенажаць.

Вельмі своеасаблівыя і чыста пейзажныя вершы Ларысы Геніюш, іх не зблытаеш ні з якімі іншымі, у паэтэсы свой творчы почырк, сваё ўменне апяваць прыроду роднага краю. «Вячэрняя містэрыя», «Ноч», «На начлезе», «Нехта ноччу», «Сыплецца лісце», «Зімою», «Вясна» і інш. — вершы, дзе спалучаецца тонкі лірызм з высокай грамадзянскасцю, адметнае бачанне прыроды і ўменне апець яе прыгажосць. Прырода ў яе дыхае, гаворыць, жыве.

То тонкі вэлюм свой развесілі русалкі,
каб вольна рытмам лебядзіных цел
прыйсці кружыцца, праляцець маланкай,
аж покуль птушкі не празвоняць дзень.

Пакуль аж вецер зораў не патушыць,
расою не зазвоніць лісце лебяды,
з рук месяц пусціць распяяну душу,
ноч ногі мокрыя не выцягне з вады.

Сотні вершаў многіх паэтаў мы чыталі пра ноч. Тэма, здаецца, ужо такая збітая, што цяжка не пайсці па пратоптанай дарозе, знайсці нешта сваё. І тым не менш, як бачым, паэтэса знайшла, яе «Ноч» — менавіта яе, з уласным бачаннем свету, не падобная ні на адну з іншых «Начэй». Падобнае ўменне спалучыць у адзінае цэлае прыроду і чалавека, некалькімі радкамі перадаць настрой лірычнага героя наглядаюцца і ў вершы «На начлезе».

Нарадзіўшыся і правёўшы дзіцячыя і юнацкія гады на Нёмане, паэтэса на ўсё жыццё палюбіла яго, бо сам Нёман — гэта сімвал велічы нашага народа, як у рускіх Волга, у палякаў Вісла, ва ўкраінцаў Дняпро (не выпадковая і назва зборніка). Яшчэ ў 1939 г. з'явіўся яе гімн Нёману, гімн роднай зямлі, вера ў яе шчасце, апяванне яе прыгажосці. Нёман «грудзі Краіне чароўна абвіў», заўсёды быў абаронай ад заваёўнікаў, заўсёды дапамагаў народу — такім паказвае яго паэтэса. Яна зусім лагічна параўноўвае жыццё ракі з жыццём народа, гаворыць пра бессмяротнасць таго і другога:

Як дні, безупынна імклівы твой бег;
жыццё — твае звонкія хвалі,

народнаю песняй калышам цябе,
як колісь дзяды калыхалі.

Такое апяванне роднай ракі, падкрэслена патрыятычная тэматыка былі абумоўлены канкрэтнымі гістарычнымі прычынамі, бо становішча Заходняй Беларусі ў другой палове 30-х гадоў было асабліва цяжкім. Нацыянальных школ не існавала, нацыянальнай інтэлігенцыі не было нідзе дарогі (была адкрыта дарога толькі рэнегатам, што выракаліся сваёй мовы і народнасці і зрабіліся вернымі халуямі польскіх абшарнікаў). Паэтэса верыла ў светлае будучае народа, хаця шляхоў да яго і не бачыла, бо многае здавалася ёй незразумелым і ў Савецкай Беларусі. Таму побач з вершамі аптымістычнымі, бадзёрымі ў яе творах ужо напярэдадні вайны з'яўляюцца матывы смутку, разгубленасці. Яно і зразумела. Спачатку гітлераўская Германія захапіла Чэхаславакію, потым напала на Польшчу. Чорная хмара гатова была рынуцца далей на ўсход. Паэтэса гэта адчувала, яна ўжо мела магчымасць убачыць у Празе «новы парадак», які прынеслі з сабою фашысцкія акупанты, бачыла, як балюча перажывалі чэхі сваю няволю. І матывы смутку асабліва адчувальныя ў вершы «Сыплюцца слёзы»:

Сыплюцца слёзы з бялявай бярозы,
вецер тужліва гучыць.
Цёмныя хмары ўсё бураю грозяць,
бурай страшной уначы.

Але нельга думаць, што матывы смутку і тугі поўнасцю заваявалі сэрца паэтэсы. Яна марыць пра сапраўдную волю, сапраўдную свабоду. Варта прыгадаць з гэтага выпадку яе чатырохрадкоўе:

Воля — не тое, што рукі развяжуць,
зменяць на большую клетку малую.
Воля — не тое, што «вольны ты» — скажуць.
Воля, то воля, якую адчую.

Патрыятычная тэматыка, прага да свабоды займае ў даваеннай творчасці Ларысы Геніюш цэнтральнае месца. Варта прыгадаць хаця б такія яе вершы, як «Краіна», «Ужо даволі», «Маё сэрца», «Беларуска», «Не веру», «Уздымам сэрц нашых шуміць Белавежа», «Краю мой», «На чужыне» і інш. З іх добра відаць любоў паэтэсы да радзімы, яе адносіны да польскага акупацыйнага рэжыму на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Глыбокая вера ў неўміручасць народа, у яго светлае будучае, у тое, што ніколі ніякімі сродкамі народ нельга прымусіць адмовіцца ад сваёй мовы — такая галоўная думка гэтых вершаў. Патрыятызм у спалучэнні з арыгінальным талентам робяць яе вершы аднымі з лепшых у паэзіі Заходняй Беларусі 30-х гадоў. Менавіта ў тыя часы яе паэзія больш за ўсё сугучна паэзіі Максіма Танка, чые зборнікі «На этапах», «Журавінавы цвет» і «Пад мачтай» карысталіся шырокай папулярнасцю сярод працоўных. Варта прыгадаць хаця б такія яго вершы, як «І песні і сонца…», «Вільня», «Сфінкс», «Ціха ў порце», «Хто пачуў тваю песню жалезную…», «Свіцязь», «Адказ» і інш. Яны пераклікаюцца тэматычна і ў пэўнай ступені ідэйна з многімі вершамі Ларысы Геніюш. Безумоўна, я не хачу іх поўнасцю атаясамліваць. Паэты жылі ў розным асяроддзі, іх светапогляд фармаваўся таксама пад уплывам розных сіл, і гэта не магло не адбіцца на творчасці. Я гавару толькі пра асноўныя тэндэнцыі іх творчасці таго часу — любові да роднага краю і роднай мовы, веры ў светлае будучае паднявольнага народу Заходняй Беларусі.

З патрыятычных вершаў ранняй творчасці Ларысы Геніюш асабліва цікавы «Уздымам сэрц нашых шуміць Белавежа». Ён напісаны ў 1941 г., напярэдадні Айчыннай

вайны. У ім сум па радзіме (з акупіраванай немцамі Прагі паэтэса не магла вярнуцца ў вызваленую Заходнюю Беларусь) цесна пераплятаецца з верай, што гісторыю народа нельга закрэсліць, нельга зацьміць яго былую славу і веліч (тут, бадай, Ларыса Геніюш больш за ўсё мела на ўвазе растоптаную фашысцкімі ботамі, але няскораную Чэхаславакію). Прыгадваючы родную Беларусь, яна гаворыць:

Там нашыя песні, там наша багацце,
там жытняе мора, магілы дзядоў,
і родныя хаты, і людзі — як брацці,
і казкі, і слава мінулых часоў.

Нічога, што позна у свет мы выходзім,
нічога, што ўчора пакінулі плуг, —
нам крыўду стагоддзяў ліхіх нагародзіць
гарачым уздымам акрылены дух.

«Славе мінулых гадоў» прысвечаны і верш «Дзяды» — адзін з самых значных у творчасці Ларысы Геніюш. Менавіта ў гэтым вершы паэтэсе больш за ўсё ўдалося пранікнуць у дух беларускай гісторыі, у нацыянальны характар беларусаў. Працавітымі і дужымі, адважнымі і непакорнымі, гасціннымі з сябрамі і вясёлымі за чашай віна, гордымі сваёй свабодай — такімі паўстаюць нашыя продкі — «дзяды» з верша Ларысы Геніюш. Яны ўвесь час даражылі сваёй свабодай, змагаліся за яе, «аж покуль вораг хітры не асіліў вялікі род з-над Нёмана-ракі». Свой верш паэтэса лагічна заканчвае паказам таго становішча, якое склалася на землях «ля Нёмана» пад уладай Польшчы. Да сваіх зняволеных нашчадкаў звяртаюцца тыя свабодалюбівыя волаты, што спяць у сівых курганах:

Мы край грудзьмі сваімі баранілі,
каб ўнук ў няволі, ў сораме заціх?
Каб нашы землі, нашы пушчы, рэкі
чужак сваёй краінай называў
ды слаўна племя мучыў сёння здзекам
і нават мове волі не даваў?

Верш «Дзяды» з’яўляецца адкрытым пратэстам супроць польскага акупацыйнага рэжыму, заклікам да змагання.

З такой гордай, свабодалюбівай душой сустрэла Ларыса Геніюш Вялікую Айчынную вайну, якая з’явілася суровым выпрабаваннем для нашага народа. Многія раёны рэспублікі былі разграблены і спалены, сотні тысяч жыхароў загінулі або былі вывезены на работу ў Германію. Зразумела, Ларыса Геніюш, як і іншыя паэты, не магла не адклікнуцца на гэта. Не магла прайсці міма трагедыі свайго народа. Праўда, як вядома, умовы жыцця ў яе былі іншыя, яна не магла адкрыта заклікаць да барацьбы. У беларускіх газетах, што выходзілі ў Мінску, маглі з’явіцца толькі больш або менш бяскрыўдныя вершы, напісаныя або перад вайной, або ў час вайны. Ідэйна гэтыя вершы не мелі нічога агульнага з напрамкам газет, наадварот, сваім вастрыём яны накіраваны супроць. Але, думаецца, Ларыса Геніюш зрабіла правільна, што друкавала ў той час свае вершы. Газеты траплялі ў рукі не толькі ворагаў, іх чыталі і сумленныя савецкія людзі, што засталіся на акупіраванай тэрыторыі. І, думаецца, многіх узрушылі яе пранікнёныя, цёплыя радкі пра свой край і народ, аплакванне яго цяжкай долі і, нягледзячы на ўсё, веры ў светлы заўтрашні дзень.

Зразумела таксама, што не ўсе яе вершы перыяду вайны маглі быць надрукаваны. Некаторыя з іх знаходзіліся ў Чэхіі ў рукапісах ажно да 1957 г. І толькі ў 1957 г., калі

паэтэса вярнулася ў Зэльву, гэтыя вершы ёй чэшскія сябры прыслалі з Прагі. Адным з іх з'яўляецца верш «Як хмарны дзень». Ім Ларыса Геніюш адгукнулася на пачатак вайны, калі над Нёманам і Бугам палілася першая кроў. Верш напісаны 22 чэрвеня 1941 г., як кажуць, адным дыханнем. Хочацца прывесці яго поўнасцю:

Як хмарны дзень — так сэрца маё сёння…
Дождж з непагодных сыплецца вачэй…
Таму, што гэта Край мой любы стогне,
кроў ў воды Нёмну жыламі цячэ.

Не счырванела зорана каліна,
не мак цвіце, а Край наш, Край ў агні! —
бы сцеле сонца яркім кармазынам,
заходзячы за грывы спелых ніў.

Уціш мяне, што гэта не пажары,
што не сяло, не лес стары гарыць!
Наш Край злажыў даволі ўжо ахвяраў,
каб выпесціць і ўбачыць свет зары!..

Думаецца, каментарыі лішнія, верш сам гаворыць за сябе. З болем у душы, з трывогай за народ, з нянавісцю да фашысцкіх захопнікаў сустрэла Ларыса Геніюш Вялікую Айчынную вайну.

Пераважнае месца ў яе творчасці 1941–1943 гадоў займае так званая пейзажная лірыка. Асноўны мастацкі прыём, якім карыстаецца паэтэса, — алегорыя, бо ў той суровы страшны час нельга было, жывучы ў Празе, адкрыта заклікаць да змагання ў творах, што прызначаліся да друку. Алегорыяй жа можна было сказаць многа. І вораг не разумеў яе, а свой чалавек, звычайны чытач разумеў алегарычныя параўнанні, разумеў настрой паэтэсы.

Праўда, трэба адзначыць і той факт, што ў вершах Ларысы Геніюш перыяду Айчыннай вайны ўзмацняюцца ноты суму, журбы. Вельмі цяжкі быў час, у вельмі складаных умовах яна жыла, і гэта не магло не адбіцца на яе творчасці. Але гэтая журба нідзе не пераходзіць у адчай, расчараванне, заўсёды ў кантэксце адчуваецца вера ў будучае. Характэрнымі вершамі-алегорыямі з'яўляюцца «Вышыла восень», «На шаўковых лугах», «Пакінь, пакінь, вецер», «Танцуе дождж», «Залатая сонца калясніца» і інш. Знешне — гэта лірычныя пейзажныя замалёўкі, журботныя па свайму настрою. У кожным жа з іх паэтэса праз алегарычныя вобразы выказвае свае адносіны да тых сіл, што нясуць з сабою ноч і разбурэнні:

Калісь герой-сонца адвострыць праменні
і стане з марозам траскучым у бой,
крыштальнага лёду цвярдыя каменні,
сплывуць невясёла мутною вадой, —

заяўляе яна ў вершы «Вышыла сонца» (1941). Часамі боль прарываецца наверх, тады вершы гучаць нават надрыўна. Напрыклад, «На шаўковых лугах», па якіх гуляла каса смерці, заканчваецца такімі радкамі:

Быццам смоўж, дні ў чужыне ляніва паўзуць,
туга ў сэрцы нейк коле, як голкі…
але колісь да ніў сэрца зноў занясу —
застануцца пакуты ў ім толькі.

Але побач можна было прачытаць і такія радкі:

Паволі ўсё гіне. Ноч наступае.
За ценем без шолаху сунецца цень…
Ды ноч міне скора. Па ёй рассвітае
ясны, скупаны у чырвані дзень.

Дзень прыйдзе разам з сонцам-свабодай — такая думка верша.

У некаторых жа вершах таго часу сімпатыі аўтара выказаны надзвычай прама і недвухсэнсоўна. Так верш «Братам палонным» поўны спагады, цеплыні да палонных, у ім нават скрыты заклік — вырывацца са свайго безнадзейна цяжкага становішча і змагацца (а як абыходзіліся фашысты з палоннымі — агульнавядома).

Ці табе не шкода песняў,
 што вясной
білі ў хвалі напрадвесні,
 бы вяслом?
Ці не рвешся ты душою —
 адкажы!
Ці табе начамі сэрца
 не дрыжыць?..

Выкарыстоўваючы народную песенную рытміку, паэтэса стварыла высокамастацкі твор, напоўнены жалем за лёс савецкіх людзей, што трапілі ў рукі фашыстаў, скрытым пратэстам супроць іх зверстваў:

Калі хочаш любіць,
калі хочаш здабыць
беларускае сэрца дзяўчыны, —
дык жа мусіш устаць,
памагчы разарваць
кайданы наймілейшай Краіне!

З такім заклікам звяртаецца Ларыса Геніюш да юнака. Яна паказвае ў творы той цяжкі час, калі «за кратамі цень», калі «ўсюды вораг, усюды татарын». Трэба было мець мужнае сэрца і вялікую любоў да свайго народа, каб кінуць гэтым вершам, па сутнасці, выклік нямецкім захопнікам (а верш быў надрукаваны ў першым зборніку), бо пра якога «татарына» ідзе ў ім гутарка, здагадацца зусім не цяжка. Гэты верш, зноў жа, напісаны пад уплывам народнай песеннай рытмікі ў форме звароту аўтара да дзяўчыны і адказу дзяўчыны. Частыя паўторы аднаго і таго ж слова ў пачатку радка надаюць усяму вершу напружанне, кожнае наступнае чатырохрадкоўе нібыта ўзмацняе папярэдняе, канкрэтызуе яго.

Высокім грамадзянскім пафасам, любоўю да роднай зямлі прасякнуты вершы «Думы мае, думы…», «О краіна…», «Хата», «Старажытная сага». Іх можна з поўнай падставай паставіць у лік лепшых патрыятычных твораў, напісаных у час Айчыннай вайны. У гэтых творах — і мужны заклік змагацца з ворагам, і аплакванне крыві і пажарышчаў, і пякучы душэўны боль. Асабліва яскрава гэтыя рысы выявіліся ў вершы «Думы мае, думы…»:

Калі восень лісце ясна залаціла,
жураўлі вам слалі воклікі з гары, —
вы на свежых сумна плакалі магілах,
што насыпаў у краі вораг без пары, —

звяртаецца паэтэса да сваіх дум. Ёй цяжка ў далёкай Празе, таксама пакрытай магіламі лепшых сыноў чэшскага народа. Пра сапраўдныя падзеі на фронце, пра размах партызанскай барацьбы на тэрыторыі Беларусі Ларыса Геніюш не заўсёды магла дакладна ведаць. Ілжывыя фашысцкія весткі з газет часамі спараджалі яшчэ большы сум і трывогу.

Думы мае думы, раненыя крыллі!
Выраслі вы ў путах там пад стогн братоў…
Не мая віна ў тым, што калі вас вылью, —
ля каліны белай чырванее кроў.

Такія радкі маглі «выліцца» ў хвіліны цяжкіх роздумаў над лёсам свайго краю. Падобны матыў і ў вершы «О краіна…». У вершы «Хата» паэтэса заклікае моладзь заўсёды быць верный роднай зямлі і народу.

Хай не забудзе сваёй Беларусі,
хай не зрачэцца радзімага краю, —

такое яе пажаданне. У «Старажытнай сазе» Ларыса Геніюш паказвае безыменнага героя, што заўсёды верны сваёй радзіме.

Шчасце колісь, як птах адляціць,
нат каханне згарыць, як лучына, —
сонцам толькі не згасне ў жыцці
несмяротнае слова — Айчына!

Паэтэса апявае такога героя, захапляецца яго мужнасцю і стойкасцю, яна ў ім бачыць свой ідэал чалавека і грамадзяніна. Знарочыстая архаізацыя тэмы, калі герой бароніць радзіму мечам і адзявае панцыр, надаюць твору драматычны характар.

Бадай што самым значным па сваёй маштабнасці, уменню пранікнуць у дух гісторыі народа з’яўляецца верш «Усяслаў Полацкі» (1941). Вядома, што ў цяжкія часы выпрабаванняў, калі ідзе справа аб жыцці нацыі, яе песняры заўсёды звяртаюцца да гераічнага мінулага, каб на прыкладзе далёкіх і блізкіх продкаў вучыць сваіх сучаснікаў мужнасці і патрыятызму, веры ў перамогу над цёмнымі сіламі захопнікаў. І хаця беларуская гісторыя яшчэ не стала ў нас аб’ектам адлюстравання ў літаратуры, усё ж многія нашы пісьменнікі ўславілі гераічныя старонкі мінулага. Асабліва прыцягвала гэтая тэма Купалу і Багдановіча (няскончаная паэма Купалы пра Рагнеду «Гарыслава»). Гераічнае мінулае, барацьба за свабоду натхнялі нашых паэтаў і ў гады Айчыннай вайны (успомнім творы Танка і Броўкі). Не засталася ўбаку ад такога захаплення і Ларыса Геніюш. У той час яна напісала паэму пра гордую, свабодалюбівую полацкую князёўну Рагнеду, якая ніколі не магла прымірыцца з няволяй роднага горада. Паэма пакуль што няскончана, асобныя ўрыўкі з яе друкаваліся ў час вайны. Князь Усяслаў Полацкі, што ўвайшоў у гісторыю пад імем Чарадзея, быў унукам Рагнеды. Пры ім Полацкае княства было асабліва моцным. І хаця Кіеў увесь час хацеў падпарадкаваць сваёй уладзе свабодалюбівых палачан, гэтыя яго патугі былі дарэмнымі — Полацк заставаўся свабодным.

Своеасаблівая кампазіцыя твора. Паэтэса, здавалася б, спакойна расказвае пра Усяслава Чарадзея, пра той вядомы ў гісторыі факт, калі кіеўляне выбралі яго сваім князем. Для Усяслава ж:

Мілейшы той Полацкі край дарагі
і пушчы з жывіцай пахучай…

Князь увесь час думае пра родную зямлю, родны горад, ён сэрцам чуе радзіму і пры першай мажлівасці тайком пакідае Кіеў і вяртаецца дадому, каб зноў узначаліць барацьбу палачан за сваю свабоду. Своеасаблівым апафеозам у гонар роднай зямлі з’яўляюцца заключныя строфы верша:

Вялікае сэрца мець трэба ў грудзях
і духу магутныя чары,
каб чуць, як у полацкіх гордых мурах
у звон святой Зофіі ўдараць.
Агнём палымяным трэ край свой кахаць,
трэ вырасці з нівaў, загонаў,
каб славу, багацце — ўсё кінуць, аддаць
за кліч свайго роднага звона…

Верш гэты напісаны ў 1941 г. І калі б ён у свой час стаў даступным для шырокіх мас, то яго грамадскі рэзанас быў бы асабліва вялікім. Іншы характар носіць верш 1943 г. «Блукаю сёння па родным краю…», які найбольш поўна характарызуе як адносіны аўтара да роднай зямлі, так і душэўныя пакуты ў мінуты цяжкіх роздумаў:

Блукаю сёння па родным краю
збалелым ценем.
Хачу быць кропляй, што перапаўняе
чару цярпення.
Хачу быць словам, што напраўляе
на шлях сапраўдны,
сілай, якая перамагае
ў баі за праўду.

Нагадаем, што ў канцы 1942-га — летам 1943 года быў пераломны момант у вайне, перыяд бітвы на Волзе і Курскай дузе. Паэтэса з Прагі ўважліва сачыла за гэтымі падзеямі і адклікалася на іх то вершамі, у якіх выражана ўпэўненасць у перамогу, то часамі трывожнымі роздумамі над будучым. У цэлым яе творчасць перыяду Айчыннай вайны — гэта высокапатрыятычная лірыка, у якой, як і ў творчасці Танка, Панчанкі, іншых нашых паэтаў, выражана вялікая любоў да роднага краю і вера ў перамогу над ворагам.

Пасля 1943 г. у творчасці Ларысы Геніюш па незалежных ад яе прычынах быў доўгі перапынак. І толькі ў 1956 г. яна зноў напісала першы верш. Пра што ж піша Ларыса Геніюш пасля доўгага вымушанага маўчання? Ці змагла яна захаваць свой талент, каб быць на ўзроўні сённяшніх дасягненняў беларускай паэзіі?

На ўсе гэтыя пытанні можна даць толькі адзіны адказ: голас Ларысы Геніюш і сёння гучыць моцна, упэўнена, тэматыка яе твораў разнастайная, паэтычныя вартасці яе твораў высокія. Сёння Ларыса Геніюш піша пра тое, пра што можа пісаць чалавек, які шмат перажыў і шмат перадумаў, якому ёсць што сказаць маладому пакаленню. Значная частка яе вершаў апошняга часу — гэта пейзажныя замалёўкі з лірычнымі роздумамі («Вымыў дождджык вербам косы над ракою…», «Неба сягоння цвіло, быццам мак…», «Едзем ноччу, а снег — як дым…», «Дзень яшчэ дагарэць не паспеў…», «Іду адна, а прада мною ноч…», «Сутонне шаўковую нітку прадзе…», «Такая цішыня, што лісце не шапоча…» і інш.). Па-ранейшаму паэтэса звяртаецца да айчыннай гісторыі («Звычайны дзень, шляхі і раздарожжы…», «Скарына»), задумваецца над будучым радзімы і мовы («Добры дзень, дарагая, харошая…», «Іншы бохан ляжыць пад абрусам…», «Зубры», «Маці мая сялянская», «Мая мова», «Не бярозаю і не калінаю»), прыгадвае сваё

дзяцінства («Маці», «Гудзевічы»), віншуе заваёўнікаў космасу («Зямля») і г. д. І да якой бы тэмы яна ні звярталася, усюды ўмее сказаць сваё слова. Возьмем для прыкладу адзін з лірычных вершаў, прывядзем яго поўнасцю:

Едзем ноччу, а снег — як дым,
проста пер'ямі з крылаў хмар.
Не тулі кажухом сваім,
я люблю, калі вецер у твар.
Лейцы коням вальней пусці,
не спыняй іх задорны бег.
Дай адчуць яшчэ раз у жыцці
і свабоду, і ўзлёт, і снег.

Сум па страчанай маладосці, праведзенай далёка ад радзімы, прага свабоды, жаданне заўсёды сустракаць усе цяжкасці «твар у твар» — такі сэнс верша. Паэтэса змагла перадаць яскрава, адчувальна скупымі радкамі і тугу па страчаным, і імкненне ў сучасны момант жыць паўнакроўным жыццём чалавека і грамадзяніна, і веру ў светлае будучае народа. Наогул, для лірычнай паэзіі Ларысы Геніюш характэрны глыбокая эмацыянальнасць, шчырасць у выказванні пачуццяў, цеснае спалучэнне лірычнага «я» са светам прыроды. Лірычная гераіня яе вершаў не проста захапляецца прыгажосцю прыроды. Звычайна з'явы прыроды і пейзажныя замалёўкі выклікаюць у душы паэтэсы цэлую гаму складаных пачуццяў, перажыванняў, прырода жыве разам з гераіняй; у большасці выпадкаў «перажыванні» прыроды сугучны перажыванням паэтэсы. Так ноч і густы туман нараджаюць у яе душы перажыванні пра мінулае:

А росы, росы сыплюцца ля ног,
З вачэй ці з траў, я і сама не знаю…

«Цішыня, што лісце не шапоча», калі «маўчаць палі, лясы, гаі заціхлі», нараджаюць у душы паэтэсы роздумы пра нашых далёкіх прашчураў, пра іх звычаі і традыцыі, перад вачыма чытача нібыта паўстае родная гісторыя, дзе:

…славяць продкі маладую Ладу
ды шлюць Ярыле песні ў час вячэрні
на мове роднай…

Тонкая пейзажная акварэль пра тое, як «сонца ткала дываны», як «вецер пражу сонечную рваў», нагадвае паэтэсе пра яе абавязак «зноў палотны ткаць», якіх «у жыцці яшчэ… не даткала». Здавалася б — звычайны малюнак, а ён гаворыць паэту пра яго абавязак да канца служыць песняй свайму народу. І наколькі гэта ўсё зроблена тонка, наколькі адна думка лагічна выцякае з другой!

Асобна варта спыніцца на тых вершах, дзе паэтэса звяртаецца да гісторыі, або піша пра сучаснае і будучае радзімы. Напрыклад, захапляе сваёю непасрэднасцю і шчырасцю верш пра Скарыну, дзе павага да нашага вялікага продка спалучаецца з павагай да гісторыі роднай краіны. Вялікая эмацыянальная сіла закладзена ў вершы «Зубры». У творы Белавежская пушча асацыіруецца з Беларуссю. Як нішчылі барадатых насельнікаў пушчы, так і цяжкая гісторыя беларускага народа, — сцвярджае паэтэса. Так пасля вайны засталіся толькі лічаныя адзінкі зуброў, як і загінуў кожны чацвёрты беларус.

Ўсе прыходзілі, усе іх нішчылі, —
ад чужынца дабра не пачуць,

а яны грамадою нялічанай
страпянуцца і зноў жывуць.
Калі пушча цвіце пралескамі,
плешча сонца вясной з гары, —
беларускія, белавежскія,
з новай сілай равуць зубры.

Паглыбленае пранікненне ў родную гісторыю, выражэнне пры дапамозе складаных асацыяцый патрыятычных пачуццяў характэрны для вершаў «Іншы бохан ляжыць пад абрусам…», «Маці мая сялянская», «Не бярозаю і не калінаю». Так, у вершы «Маці мая сялянская» Ларыса Геніюш увасабляе ў вобразе маці Беларусь, паказвае яе шчырасць і дабрату, славу і багацце:

Не хачу я чужое мачыхі
аглядаць на слядах тваіх! —

звяртаецца яна да Беларусі.

Ты мой шлях круты,
ты мой боль святы,
Беларусь мая,
мой алтар.

Гэта свайго роду малітва, малітва-зварот, клятва заўсёды быць вернай радзіме, ніколі не зрабіцца «иваном, не помнящим родства». Кароткі, напружаны радок верша надае яму эмацыянальнасць, вялікую сілу ўздзеяння. У больш традыцыйным плане напісаны верш «Не бярозаю і не калінаю», што ўяўляе таксама споведзь паэтэсы перад сваёй зямлёй.

Старажыць, засланяць безбаронную,
ад чужацкіх разгулаў спыняць
і удар, ў яе сэрца скіраваны,
трапяткім сваім сэрцам прыняць, —

хоча яна, калі цяжка прыйдзецца радзіме. Запамінаецца верш «Мая мова» з яго радкамі:

Можа быць, на чужой засмяюся,
ўсё ж заплачу з тугі на сваёй.

Гэты верш па праву стаіць побач з вершамі Танка, Панчанкі, Барадуліна і іншых нашых паэтаў пра сваю мову.

Цёпла і шчыра напісаны вершы «Маці» і «Гудзевічы» (вельмі блізка да іх і верш 1943 г. «Бацька мой»). У гэтых творах паэтэса прыгадвае сваё дзяцінства, здзекі над нацыянальнымі пачуццямі, якія ёй давялося перажыць. Светлай тугою вее ад гэтых вершаў, у якіх паэтэса гаворыць і пра шчаслівыя дні дзяцінства, і пра першыя выпрабаванні, першы цяжар чалавечай подласці, які лёг на яе тады яшчэ зусім маладыя плечы.

Заканчваецца зборнік паэмай «Куфар». У ёй Ларыса Геніюш яшчэ раз звяртаецца да сваёй любімай тэмы пачатку творчасці — жыцця і працы жанчыны-сялянкі. У паэме непарыўна звязаны, знітаваны лірычны і эпічны пачатак. Ларыса Геніюш, апавядаючы аб тым багацці ў куфры, што набыты руплівымі рукамі сялянкі, увесь час перарывае апавяданне лірычнымі роздумамі над яе жыццём, любуецца яе работай. Лёс безымяннай бабулі, гераіні паэмы «Куфар», — гэта тыповы лёс беларускай жанчыны-сялянкі, ці то гэта будзе на Нёмне, ці над Сожам, ці над Бугам. Усюды ў аднолькавых умовах жыла бе-

ларуская жанчына, таленавітая і працавітая, шчырая ў сваіх пачуццях, тонка адчуваючая прыгажосць роднага краю. У творы апавядаецца пра тое, што было дарага паэтэсе ў часы яе дзяцінства, што сёння складае частку яе светлых успамінаў. Але, безумоўна, сэнс твору многа шырэйшы. Гэта панегірык беларускай жанчыне-працаўніцы, яе светлай галаве і таленавітым рукам, яе шчырасці ў працы і вернасці ў каханні.

Творчы шлях Ларысы Геніюш быў з вялікімі перапынкамі. І калі сёння паглядзець, хто з папярэдніх нашых паэтаў ёй самы блізкі, то адразу прыгадваецца няўрымслівая Цётка з яе высокім патрыятычным пафасам, з яе апяваннем жанчыны і яе працы. Творчасць Ларысы Геніюш і творчасць Цёткі сутыкаюцца між сабою многімі гранямі, але гэта ўжо тэма спецыяльнага даследавання. Хочацца сказаць і пра тое, што некаторыя нашы маладыя паэты таксама знаходзяцца пад пэўным уздзеяннем паэзіі Ларысы Геніюш, пераклікаюцца з ёю сваімі творамі, што ў значнай ступені дапамагае іх росту. Так, думаецца, ёсць значная заслуга Ларысы Геніюш у тым, што сёння мы ўжо можам гаварыць як пра сталага майстра паэтычнага слова пра нашу таленавітую маладую паэтэсу Дануту Бічэль.

Творчасць Ларысы Геніюш дасягнула свайго росквіту. У выдавецтве ляжыць яе кніга дзіцячых вершаў, паэтэса рыхтуе новы зборнік паэзіі. Усё гэта радуе, бо цёплы, шчыры голас Ларысы Геніюш адразу заваяваў сабе многіх і многіх паклоннікаў. І сёння ўжо цяжка ўявіць нашу паэзію без светлага, шматграннага таленту Ларысы Геніюш.

*1967*

*Сцяпан ГАЎРУСЁЎ*

# ВЫДАВЕЦКАЯ РЭЦЭНЗІЯ
## на рукапіс зборніка вершаў Ларысы Геніюш «На чабары настоена»

Ларыса Геніюш — паэтэса своеасаблівая. Своеасаблівасць яе заключаецца ў паэтызацыі народных абрадаў, вераванняў, промыслаў. Возьмем, напрыклад, ткацтва. Наша пакаленне яшчэ памятае кросны, памятае, як ткалі ў шэсцьдзесят чатыры і ў сто нітоў. Якія дзівосныя ўзоры высноўваў яблыневы чаўначок! А што за строі ўхітраліся вымудрыць вясковыя ткаллі! Яны ўкладвалі ў справу ўсё душу. Гэта — незаменны набытак нацыянальнай культуры. Нездарма неўміручыя «Слуцкія ткачыхі» Максіма Багдановіча так свежа і прачула гучаць і сёння. Цяпер гэта ўсё адышло ў нябыт. І нашы дзеці і ўнукі толькі ў музеях змогуць пазнаёміцца з узорамі майстэрства натхнёных ткачых, з прыладамі ткацтва.

Узор пяе на ўлонні пражы белай,
Шнурок з квадратаў роўненька бяжыць.
Як вылічыць, як аснаваць сумела
Ты свой дыван, каб так заваражыць?
Так далікатна, анідзе памылкі,
На бель асновы колерам лягло.
Так ад калыскі да самой магілкі
Жыццё людское выткана было.

Ткацтва для паэтэсы — як сімвал злітнасці з родным народам, як напамін аб перажытым. Не трэба думаць, што гэта толькі настальгія па мінулым. У вершы «Вецер схапіў асеннюю пражу» (зноў той жа матыў!) паэтэса фармулюю сваё грамадзянскае крэда:

Хто не адчуе святога імкнення
Быць разам у сцюжу, дзе ўсе,
Сарве яго вецер, як прут без карэння,
І ў невараць дзесь панясе.

Паэтэса, наогул стрыманая ў выяўленні эмоцый, бывае абсалютна бескампраміснай, калі гаворка заходзіць аб кардынальных праблемах сучаснасці.

Нараджаць нам, не забіваць.
Тут мужчыны — дубы, мы — лозы.
Усё ж гатовы мы львіцамі стаць,
Калі нішчаць нам зямлю і гнёзды.

Для паэтэсы ўласцівая шырокая гама пачуццяў. Па-маладому ўзнёсла, празрыста, прыўзнята святочна выпісаны ёю, напрыклад, пейзажы роднай Беларусі:

Сонейка.
Клёкат бусліхі.
Грабельніцы — на сенажаць.
З хаты выходжу паціху,
Каб раніцы не спужаць.

Стаю на парозе.
Смяюся.
На шкле заламаўся прамень.

Галёкае з ніў Беларусі
нованароджаны дзень.

Гэта не ідылія, а паўната светаадчування. Сапраўды, дзе, як не ў еднасці з роднай прыродай, з харастом навакольнага свету, да чалавека прыходзіць усведамленне велічы і непаўторнасці радзімы? І ў паэтэсы шмат такіх вершаў. Зіма і лета, вясна і восень, сонечны ранак і дажджлівы вечар — усё знаходзіць у яе сэрцы ўдзячны водгук. Столькі прастору ў радках верша «Завея»! Напісаны ў лепшых традыцыях беларускай пейзажнафіласофскай лірыкі, ён адразу западае ў памяць, каб надоўга застацца нашым духоўным набыткам. З вышыні пражытага і пеpажытага паэтэса глядзіць на маладое пакаленне без зайздрасці, але з добрым захапленнем. Яна яскрава разумее непазбежнасць гістарычных зрухаў і ў словах ясных і пераканаўчых гаворыць пра гэта. Вось чаму з такой катэгарычнасцю, як даўно і ўсебакова ўзважанае, паэтэса заяўляе ў наступнай мініяцюрцы:

Хай славіцца наш беларускі род —
душой з вясны і воляю са сталі,
каб з гнёздаў нам не пеўнікі на плот,
а горда арляняты вылятталі!

Узоры пранікнёнасці і дакладнасці ў выяўленні пачуцця можна прыводзіць яшчэ і яшчэ — так многа іх у кнізе Ларысы Геніюш. Думаецца, працытаваных вершаў дастаткова, каб пераканацца ў гэтым. Але нельга ўстрымацца ад спакусы і не прывесці хоць бы гэтыя дзве страфы з верша «Дом дзяцінства»:

Пахне свежа бор сасновы,
Каля ног чабор.
Расспяваўся дзень ліпнёвы,
Бы пчаліны хор.
Ходзяць там «буслэ» паволі,
Зелена кругом.
Мой пакінуты між поля,
Мой вясковы дом.

Аднак нельга не спыніцца на тым, што выклікае пярэчанне, як гістарычны анахранізм. Мы не можам згадзіцца, каб у літаратуры паэтызаваліся рэлігійныя матывы пад якім бы ні было выглядам. Выпішам некаторыя радкі: «Каго палюбілі аднойчы *багі*, сіла таго — адзінота», «каго палюбілі аднойчы *багі*, са статкам той не сальецца» («Зубр-адзінец»); «можа, Барбара *бога* ўпрасіла, каб даў для Міколы цярплівасць і сілу» (стар. 208); «куфар пасажны на возе павезлі, поўны бялюткіх сувояў, *божы абраз* у руках панеслі ў мужаву хату за маладою» (стар. 204); «у вёсцы не горш, чым у пана, каптан мужчыны *ў царкву* апранулі» (стар. 205); «гнёзды кладзе ды з буслямі клякоча, сыпле зярняты з далоняў *тварца*» («Веснавое»); «Зрэдзь урываецца зло на парог, хітра прыкінецца, што не сярдуе, ды замаўкае, бо ў покуце *бог*, вечны і мудры, які нас вартуе» («Вечар жыцця»).

Ці трэба тлумачыць, што рэлігія столькі стагоддзяў была рассаднікам цемрашальства, пасобнікам «власть имущих» для прыніжэння працоўнага чалавека. Дык няўжо цяпер, калі рэвалюцыяй адкрыты перад людзьмі зіхатлівыя далячыні, мы апусцімся да паэтызацыі царкоўных атрыбутаў?! Гэта трэба выпальваць калёным жалезам!

За выключэннем адзначаных прынцыповых недахопаў, кніга атрымаецца надзвычай цікавай. Хацелася б параіць аўтару разбіць яе на тры-чатыры тэматычныя раздзелы. Думаецца, што чытачы будуць рады сустрэчы з арыгінальнай і каларытнай паэтэсай.

*8 сакавіка 1980 г.*

# ГАВОРАЦЬ ДАКУМЕНТЫ

## З АРХІВАЎ НЬЮ-ЁРКА І ПРАГІ

Dostavil se

jméno Larysa G e n i u š o v á roz. Miklaszewiczová

povolání v domácnosti nar. 27.7.1910 v Žlobovce

okr. Grodno přísl. okr.

dřívější domovská přísl. sporná /přijela z Polska/

státní příslušnost bez dřívější polská

národnost běloruské dřívější běloruské

bytem Praha VII., Heřmanova 1128/7

žádá o vydání prozatimního potvrzení totožnosti ve smyslu výnosu min. vnitra ze dne 28. III. 1946,

čj. II-1130-20/12-45-40-V/b-3,

důvod legitimování

toto potvrzení platí pouze do 19.1.1947 za účelem povolení pobytu

Popis osoby:

postava vyšší silná

vlasy kaštanové

oči šedomodré

nos norm.

ústa souměrná

vousy ./.

zuby zdravé

zvl. znamení žádné



Poznámka

Doklady Křestní list faráře pravoslavské fary městyse Volpa /kněz kanovník Jan Skalski/ z 13.11.1922 č.214, konskr. list ze dne 9.4.1942, oddací list far. úřadu Volpa okres Grodno ze dne 16.2.1935 bez č.j., cizin. pas čís. F 1915/41 ze dne 20.12.1941 Oberlandratu Praha se současným povolením pobytu resp. hlášením dle ciz. předpisů. potvrzenou kopií žádosti ze dne 17.6.46 na Min. vnitra o čsl. st. obč

Svědci [illegible] Jiří [illegible] SNB [illegible] č. leg. 503, bytem Praha XIX - Zelená 943/7 - Vlad. [illegible] čl. SNB [illegible] č. leg. 550 - Praha XVI [illegible] 8/120

Podpis svědků:

[illegible] Jiří

Vlad. [illegible]

(14)

podpis referenta.

# [ТАСТАМЕНТ ВАСІЛЯ ЗАХАРКІ]

Старшыня Рады
Беларускай Народнай Рэспублікі
6 сакавіка 1943 г.
№ 546
Прага

Іх міласьці гр[амадзяніну]
інж[ынеру] Міколе Абрамчыку
і гр[амадзянцы] Ларысе Геніюш

Будучы доўга і моцна хворым, што можа прынясьці хутчэй кепскі, чым добры, канец майму жыцьцю, я гэтым перадаю вам, пане інжынер, становішча Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Гэтым жа самым назначаю на становішча сакратара Прэзыдыюму Рады БНР Ларысу Антонаўну Геніюш.

Усе абавязкі, ляжаўшыя раней на мне, згодна з пастановай пленуму Рады БНР, ускладаюцца цяпер на вас, пане інжынер, і на грамадзянку Геніюш.

Прашу выконваць іх у духу беларускай дзяржаўнай незалежнасьці і яе непадзельнасьці.

Знаючы вас як патрыётаў беларускага народу, маю надзею, што вы цьвёрда пойдзеце тым шляхам, які указаны Актам 25 сакавіка 1918 г.

Само сабой разумеецца, што ўсе архівы Рады БНР і дакуманты пераходзяць таксама да вас.

Старшыня Рады БНР В. Захарка.

# ЗНАХОДКІ Ў ПРАЖСКІХ АРХІВАХ

Мінула ўжо дзесяць гадоў з таго часу, як я ў пражскай Славянскай бібліятэцы рыхтавала матэрыялы да 90-годдзя Ларысы Геніюш. Тады, у ліпені 2000 г., у Славянскай бібліятэцы пры Чэшскай нацыянальнай бібліятэцы мы зладзілі адмысловую юбілейную выставу. У яе адкрыцці, а потым і ва ўрачыстай вечарыне ўзялі ўдзел сябры суполкі «Скарына», супрацоўнікі Славянскай бібліятэкі, чэшскія славісты, студэнты і беларусы, якія жывуць у Празе. Здаецца, быў і прадстаўнік беларускай амбасады. Чытаў свой верш Сяржук Сокалаў-Воюш. Я выступіла з рэфератам, які пасля, у снежні 2000 г., чытала ў Менску на ІІІ Міжнародным кангрэсе беларусістаў.

У арганізацыі тае выставы нам шмат дапамагалі беларускія сябры. І суполка «Скарына», і нашы шматлікія дабрадзеі з Прагі і Менску, перадусім Міхась Скобла, зрабілі ўсё магчымае, каб імпрэза атрымалася цікавай. Без іхняй шляхотнай падтрымкі нічога зрабіць не ўдалося б, паколькі ў мяне амаль нічога не было. Фотаздымкі, кнігі, кансультацыі… Я здзіўлялася натхненню сяброў. Яно, здаецца, перадалося і мне.

Я засяродзілася на тэме «Ларыса Геніюш і Прага», але часам была вымушана яе абмежаваць, бо матэрыялаў знаходзілася вельмі многа, я чытала ўсё, што траплялася на вочы. Напрыклад, мне хацелася ўпэўніцца сябе ў тым, што тыя немцы, пра якіх Ларыса Геніюш пісала ў сваіх мемуарах, не з'яўляліся ваеннымі злачынцамі…

Архіўныя матэрыялы я вывучала цягам усяго 2000 году. Найперш займалася пошукамі ў Нацыянальным архіве. Многія дакументы былі тады паказаныя на выставе ў Славянскай бібліятэцы. На жаль, з-за вымушанай паспешлівасці я нарабіла памылак у шыфрах і назвах фондаў. Я таксама працавала ў Архіве дзяржбяспекі, у архіве пры Канцылярыі Прэзідэнта. Там натрапіла на два запісы ў пратаколе, якія сведчылі, што ў 1945 г. Канцылярыя атрымала, а пасля знішчыла два лісты Ларысы Геніюш прэзідэнту Эдуарду Бэнэшу. Знайшоўся таксама ліст прафесару Францішку Ціхаму. Памятаю, у пошуках перакладаў вершаў Л. Геніюш на чэшскую мову, я прасядзела двое сутак у Літаратурным архіве, дзе перагледзела амаль 20 скрыняў з дакументамі! А знайшла толькі адзін ліст Ларысы Геніюш. Ніякіх перакладаў, на жаль, не адшукалася (хаця натрапіліся пераклады Ф. Ціхага з другіх беларускіх паэтаў). У сталічным архіве Прагі ёсць цікавыя дакументы, пра якія ідзе гаворка ў змешчаным у альманаху маім артыкуле «Ларыса Геніюш і Прага».

Чэшскі даследчык Уладзімір Быстроў таксама працаваў з матэрыяламі Геніюшаў і сёе-тое апублікаваў у 2003 г. У тым ліку — ліст Ларысы Геніюш да амбасадара ЗША Лорэнса Стайнгарда, напісаны ў канцы 1945 г. На маю думку, у нашых архівах захоўваецца яшчэ нямала цікавых матэрыялаў, датычных лёсу Ларысы Геніюш. А пакуль увазе чытачоў альманаха «Асоба і час» прапануюцца 12 дакументаў, якія праліваюць святло на адзін з самых драматычных эпізодаў у яе паваенным жыцці.

Думала, што з увагі на стан свайго здароўя, архіўнымі пошукамі заняцца больш не змагу. Але цяпер бачу, што мушу яшчэ сёлета папрацаваць. Бо — хто іншы?

*Францішка СОКАЛАВА,* Прага

## 1. [ХАДАЙНІЦТВА ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ АБ АТРЫМАННІ ПАСВЕДЧАННЯ АСОБЫ]

Імя *Ларыса Геніуш, народж. Міклашэвіч*

Прафесія *хатняя гаспадыня, нар. 27.07.1910 г. у Жлобаўцах, вобл. Гродна*

Папярэдняе грамадзянства *спрэчнае* (прыехала з Польшчы)

Апошняе грамадзянства *без* раней *польскае*

Нацыянальнасць *беларуска*

Жыве *Прага, VII, вул. Гежманова, 1128/7*

Хадайнічае аб атрыманні часовага пасведчання асобы паводле рашэння Міністэрства замежных справаў ад 28.3.1946 г., № II-1130-20/12-45-40-V/b-3.

Прычына *атрыманне грамадзянства*

Выдадзенае пасведчанне сапраўднае толькі да 19.1.1947 г. з мэтай пражывання.

Апісанне асобы:
фігура *вельмі высокая*
валасы *каштанавыя*
вочы *шэра-блакітныя*
нос *звычайны*
зубы *здаровыя*
асаблівыя прыкметы *няма*

Дакументы: пасведчанне аб хросце, выдадзенае святаром праваслаўнай царквы мястэчка Волпа Янам Скальскім ад 13.11.1922 № 214, выпіс ад 9.04.1942: пасведчанне аб шлюбе царкоўнай управы Волпа, вобл. Гродна, ад 16.02.1935 г. — без нумара; замежны пашпарт № F1915/41 ад 20.12.1941 г. Oberlandratu Praha з адначасовым дазволам на пражыццё ў Рэспубліцы згодна з інструкцыяй аб замежніках; завераная копія хадайніцтва перад Міністэрствам замежных справаў аб чэхаславацкім грамадзянстве ад 17.06.1946 г.

Паказанні і подпісы сведкаў. Подпіс рэферэнта.

## 2. [ПАСТАНОВА АБ НАДАННІ ГРАМАДЗЯНСТВА ЯНКУ І ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШАМ]

АБЛАСНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАМІТЭТ У ПРАЗЕ

*Прага* *1 ліпеня 1947 г.*

**Натуралізацыйны ліст**

Абласны нацыянальны камітэт у Празе сваім рашэннем ад 27 ліпеня 1947 г. прадаставаўляе пану магістру ўніверсітэта доктару Івану Геніюшу, які нарадзіўся 24 лютага 1902 г. у Крынках (Гродзенская акруга, на той час Расія) і які не меў грамадзянства да цяперашняга часу, *чэхаславацкае дзяржаўнае грамадзянства*.

Гэтым самым чэхаславацкае грамадзянства таксама атрымліваюць яго жонка Ларыса, у дзявоцтве Міклашэвіч, якая нарадзілася 27 ліпеня 1910 г. у Жлобаўцах (на той час Расія), і іх непаўналетні сын Іржы, які нарадзіўся 21 кастрычніка 1935 г. у Зэльве (на той час Польшча).

| | |
|---|---|
| Старшыня: | Л. Копржыва |
| За гарадскога галаву: | (подпіс). |
| Гарадская рада: | (подпіс). |

## 3. СЛУЖБОВАЯ ЗАПІСКА [МІНІСТЭРСТВА ЎНУТРАНЫХ СПРАВАЎ ЧЭХАСЛАВАКІІ]

У замежны аддзел даставіла Ларыса Геніюш, у дзявоцтве Міклашэвіч, хатняя гаспадыня, нар. 27.07.1910 г., Жлобаўцы, вобл. Гродна, без грамадзянства, замужам, жыве ў Празе-VII, № 1120, Гежманова, 7, і паведаміла, што ёю было атрымана чэхаславацкае грамадзянства — месцажыхарства Прага.

Як дакумент ёю было прад'яўлена пасведчанне аб натуралізацыі і атрыманні чэхаславацкага грамадзянства мужам — м-рам універсітэта, д-рам Іванам Геніюшам, нар. 24.02.1902, Крынкі, вобл. Гродна, ад Абласнога нацыянальнага камітэта ў Празе ад 01.07.1947 № 1-3а-26448/2 ад 1946 г.

Што значыць, і яна сама, і яе непаўнагадовы сын Іржы, нар. 21.10.1935 г., Зэльва, атрымоўваюць чэхаславацкае дзяржаўнае грамадзянства.

Муж прыняў дзяржаўную прысягу 04.07.1947 г. у Пражскім магістраце.

Пры гэтых абставінах у яе было забранае часовае пасведчанне асобы, выдадзенае Камітэтам дзяржбяспекі ў Празе ад 16.07.1946 г. № 440-II/4, якое дадаецца да папераў і застаецца на захаванні ў замежным архіве.

Для куратара архіва прыкладаецца копія № 175722/47-Г-310-8.

У рэгістрацыйных паперах замежнікаў адзначана.

Захаваць!

17.07.1947 г.

## 4. [АТРЫМАННЕ ЛАРЫСАЙ ГЕНІЮШ ПАСВЕДЧАННЯ АСОБЫ]

УПРАВА ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ Ў ПРАЗЕ.
АДДЗЕЛ 2 — ВЫДАЧА ГРАМАДЗЯНСКІХ ПАСВЕДЧАННЯЎ АСОБЫ

*Аформлена 19 ліпеня 1947 г.*
*Запісана пад № 1106*

Імя і прозвішча: *Ларыса Геніюш, у дзявоцтве Міклашэвіч*
Прафесія: *хатняя гаспадыня*
Дзень, месяц, год і месца нараджэння: *27 ліпеня 1910 г., Жлобаўцы, вобл. Гродна, Польшча*
Месцажыхарства: *Прага*
Сямейнае становішча: *замужам*
Нацыянальнасць: *беларуска*
Адрас: *Прага, Гежманова 1120, Голешовіцэ 7*
Бацькі: *Антанін і Аляксандра Манютава*

Апісанне асобы:
рост *сярэдні, 169 см*
валасы *цёмна-русыя*
вочы *шэра-блакітныя*
нос *тупы*
вусны *сіметрычныя*
зубы *здаровыя*
асаблівыя прыкметы *няма*

Грамадзянскае пасведчанне асобы атрымала 29 ліпеня 1947 г.

Пры мне: *Геніюшова Ларыса*

На дакуменцэ рэзалюцыя ад рукі: *Дэпартавана з ЧСР, № 145236/48. 27.06.1948 г.*

## 5. [АТРЫМАННЕ ЯНКАМ ГЕНІЮШАМ ПАСВЕДЧАННЯ АСОБЫ]

УПРАВА ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ Ў ПРАЗЕ.
АДДЗЕЛ 2 — ВЫДАЧА ГРАМАДЗЯНСКІХ ПАСВЕДЧАННЯЎ АСОБЫ

*Афармлена 12 ліпеня 1947 г.*
*Запісана пад № 1106*

Імя і прозвішча *Іван Геніуш*
прафесія *практыкуючы лекар*
дзень, месяц, год і месца нараджэння *24.02.1902 г., Крынкі, вобл. Гродна, Польшча*
месцажыхарства *Прага*
сямейнае становішча *жанаты*
нацыянальнасць *беларус*
адрас *Прага, Гежманова 1120/7*
бацькі *Пятро і Эмілія, народжаная Палубінская*

Знешні выгляд асобы:
рост *178 см*
валасы *з сівізной*
вочы *шэра-блакітныя*
нос *прамы*
вусны *сіметрычныя*
зубы *устаўныя*
асаблівыя прыкметы *няма*

Грамадзянскае пасведчанне асобы атрымаў 16 ліпеня 1947 г.

Пры мне: *Геніюш Іван*

На дакуменце рэзалюцыя ад рукі: *Дэпартаваны з ЧСР, № 145236/48. 27.06.1948 г.*

## 6. МЕМАРАНДУМ [САВЕЦКІХ УЛАДАЎ АБ ВЫДАЧЫ АЛЯКСАНДРА КАЛОШЫ, ЯНКІ І ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШАЎ]

Савецкія ўлады патрабуюць ад чэхаславацкіх уладаў выдання трох ваенных злачынцаў:

1) Аляксандра Міхайлавіча Калошы, нар. 1905 г., беларус, жыве ў Чэхаславакіі. Актыўна ўдзельнічаў у працы беларускіх антысавецкіх арганізацыяў у 1940–1942 гг. Калоша быў намеснікам кіраўніка пражскага аддзела «Беларускага прадстаўніцтва» ў Германіі. У 1944 г. звярнуўся да немцаў з заклікам пра дапамогу ў супраціве Савецкай Арміі. У красавіку 1945 г. перад забраннем савецкімі войскамі Берліна Калоша ўцёк на тэрыторыю Чэхаславакіі і цяпер знаходзіцца ў Клатаўскай вобласці, раёне Нірска, населены пункт Худэнін, № 29;

2) Івана Пятровіча Геніюша, нар. 1902 г., беларус, па прафесіі лекар, таксама прымаў удзел у працы антысавецкіх нацыяналістычных груповак у Чэхаславакіі. У 1942 г. Геніюш актыўна выступаў супраць Савецкай арміі і савецкіх партызанаў на тэрыторыі Беларусі, занятай немцамі. У цяперашні час жыве ў Чэхаславакіі, у Празе 7, вул. Гежманова, 7;

3) Ларысы Антонаўны Геніюш, нар. 1910 г., беларуска, актыўная ўдзельніца антысавецкіх нацыяналістычных арганізацыяў. У 1942 г. Л. А. Геніюш была старшынёй пражскага аддзела «Беларускага камітэта падтрымкі». У цяперашні час распаўсюджвае розныя антысавецкія ідэі, у сваіх артыкулах і вершах паклёпнічае на Савецкі Саюз. Жыве ў Празе 7, Гежманова,7.

*Прага, 10 лютага 1948 г.*

## 7. [АРЫШТ ЛАРЫСЫ І ЯНКІ ГЕНІЮШАЎ]

КАМІТЭТ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ
ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ ЎНУТРАНЫХ СПРАВАЎ У ПРАЗЕ

На запатрабаванне (фанаграма), адрасаванае абласному КДБ у Піску ад 05.03.1948 г. 05.03.1948 г. абласным КДБ у Прахаціцах былі затрыманыя магістр універсітэта доктар Іван Геніуш, нар. 21 лютага 1902 г. у Крынках, і Ларыса Геніюш, у дзявоцтве Міклашэвіч, нар. 27 ліпеня 1910 г. у Жлобаўцах, вобл. Гродна, з мэтай іх выдання савецкім уладам.

Вышэйназваныя 11 сакавіка 1948 г. былі папярэдне змешчаныя ў вязніцу згодна з арт. 175 п. 2 Крымінальнага кодэкса да вынясення рашэння. Адначасова быў накіраваны запыт у Міністэрства юстыцыі.

Прашу мясцовы камітэт паведаміць, ці павінныя затрыманыя знаходзіцца пад вартай і надалей, ці яны могуць быць вызваленыя.

Абласны суд у Піску, аддзел 7.

*15 траўня 1948 г.*

*Д-р Міраслаў Тэйкал.*

## 8. [СКАСАВАННЕ ЧЭХАСЛАВАЦКАГА ГРАМАДЗЯНСТВА ЯНКІ І ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШАЎ]

АБЛАСНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАМІТЭТ БЯСПЕКІ Ў ПІСКУ

*№ 12.877/48-Г-278*

*Пісэк, 8 ліпеня 1948 г.*

Прадмет: М-р універсітэта д-р Іван Геніуш, грамадзянін СССР, вяртанне грмадзянскага пасведчання асобы.

Управа нацыянальнай бяспекі (замежны аддзел)

*Прага*

На падставе пастановы Міністэрства ўнутраных справаў № А-4617-19/3-48-5/1 ад 1 красавіка 1948 г. было ануляванае чэхаславацкае дзяржаўнае грамадзянства магістра ўніверсітэта доктара Івана Геніюша, нар. 24 лютага 1902 г. у Крынках, вобл. Гродна, апошняе месца жыхарства: Вімперк, вобл. Страконіца, грамадз. СССР, і яго жонкі Ларысы, у дзявоцтве Міклашэвіч, нар. 27 ліпеня 1910 г. у Жлабкове (так у тэксце. — *М. С.*), вобл. Гродна.

Абласны Нацыянальны камітэт у Прахаціцах рашэннем суда ад 7 ліпеня 1948 г. № 5900/48-Ге/24 падвергнуў выгнанню д-ра Івана Геніюша і яго жонку Ларысу з тэрыторыі ўсёй ЧСР назаўжды з адначасовай забаронай вяртання ў ЧСР.

У д-ра Івана Геніуша былі забраныя ўсе дакументы, якія сведчылі пра дзяржаўнае грамадзянства ЧСР. Сярод іншых дакументаў таксама было забранае грамадзянскае пасведчанне асобы, выдадзенае д-ру Геніушу мясцовымі ўладамі пад № 1014 ад 12.07.1947 г.

Забраныя грамадзянскае пасведчанне асобы і другія дакументы адпраўленыя ў мясцовы камітэт як бязмэтавыя і належачыя Вам.

Старшыня камітэта: (подпіс).

## 9. [ВЫСВЯТЛЕННЕ ПРАЦЭДУРЫ АТРЫМАННЯ АЛЯКСАНДРАМ КАЛОШАМ, ЯНКАМ І ЛАРЫСАЙ ГЕНІЮШАМІ ЧЭХАСЛАВАЦКАГА ГРАМАДЗЯНСТВА]

КАМІТЭТ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ

*Прага, 4 сакавіка 1948 г.*

Зусім сакрэтна!

*Пражскі Град*

А. М. Калоша і І. П. Геніюш з жонкай, ваенныя злачынцы — выданне.

*Дадатак:*

Камітэт дзяржаўнай бяспекі дасылае ў дадатку копію мемарандума, дасланага Міністэрствам замежных справаў пад № 30.461/VI-3/48 ад 16.02.1948 г. у МЗС. Згодна з тэлефонным пацверджаннем з Абласнога нацыянальнага камітэта ў Празе усім патрабаваным ваенным злачынцам да гэтага часу ўжо выдана чэхаславацкае грамадзянства: А. М. Калошу пад № I/3a-2029/2/47 ад 27.06.1947 г., і мужу і жонцы Геніюшам пад № 1/3а-26448/2, а таксама 46 ад 27.06.1947 г.

Паколькі вышэйназваныя як чэхаславацкія грамадзяне не могуць быць выдадзеныя чужым уладам для пакарання, МЗС запатрабавала лістом № 37.847/VI-3/48 ад 27.02.1948 г., каб тэрмінова была правераная магчымасць адклікання пастановы, якою ім было нададзенае чэхаславацкае грамадзянства.

На распараджэнне Кабінета першага міністра Камітэт дзяржаўнай бяспекі дасылае запыт МЗС дзеля далейшага спакойнага разгляду справаў пра тое, як вырашалася пытанне аб наданні дзяржаўнага грамадзянства вышэйназваным асобам, і, галоўнае, ці было гэтае мясцовае рашэнне адмененае.

Старшыня д-р Гора.

## 10. АРЫШТ [ЯНКІ І ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШАЎ]

АБЛАСНЫ СУД У ПІСКУ — МІНІСТЭРСТВУ ЗАМЕЖНЫХ СПРАВАЎ У ПРАЗЕ

Магістр універсітэта, доктар Іван Геніуш, нар. 24.02.1902, Крынкі, вобл. Гродна, прыехаў у Прагу, практыкуючы лекар у Вімперку, вул. Бэнэша, 161, і Ларыса Геніушова, у дзявоцтве Міклашэвіч, нар. 27.07.1910 г. у Жлабоўцы (так у тэксце. — *М. С.*), вобл. Гродна, жонка лекара, жыве ў Вімперку, вул. Бэнэша, 161, былі арыштаваныя 5 сакавіка 1948 г. аддзелам Абласнога камітэта дзяржбяспекі ў Прахаціцах на аснове фанаграмы Абласнога камітэта дзяржбяспекі ў Піску ад 5 сакавіка 1948 г., у якой паведамлялася, што савецкія ўлады патрабуюць выдання ваеннага злачынцы д-ра Івана Пятровіча Геніуша і ягонай жонкі Ларысы Антонаўны Геніуш, якія жылі перад гэтым у Празе VII, вул. Гержманова, 7.

Д-р Іван Геніуш павінен быў актыўна ўдзельнічаць у дзейнасці антысавецкіх нацыяналістычных арганізацый у Чэхаславацкай Рэспубліцы, у 1942 г. актыўна выступаў супраць савецкай арміі і савецкіх партызанаў на тэрыторыі Беларусі, занятай немцамі.

Ларыса Геніуш павінна была стаць актыўнай удзельніцай антысавецкіх арганізацый, а ў 1942 г. павінна была стаць старшынёй Пражскага аддзялення Беларускага камітэта па падтрымцы.

Фанаграма заканчваецца тым, што Камітэт дзяржбяспекі пры Міністэрстве замежных справаў у Празе патрабуе, каб вышэйназваныя былі тэрмінова арыштаваныя і дапытаныя ў справе сваёй дзейнасці ў гады вайны.

Судовы следчы рашэннем ад 11 сакавіка 1948 г. № 151/48 паведамляе аб арышце названых асобаў згодна з арт. 175, 59 Крымінальнага кодэксу.

Д-р Геніуш падчас допыту перад судом паведаміў, што атрымаў чэхаславацкае грамадзянства ад Абласнога нацыянальнага камітэта ў Празе, і на падставе пасведчання аб грамадзянстве яму Камітэтам дзяржбяспекі ў Празе было выдадзенае грамадзянскае пасведчанне асобы № 1014 ад 12 ліпеня 1947 г.

У сувязі з абскарджваннем вышэйназваных асобаў свайго арышту Абласны суд у Празе рашэннем ад 2 чэрвеня 1948 г. паведаміў, што ў выпадку, калі названыя асобы з'яўляюцца грамадзянамі Чэхаславакіі, іх арышт і ўтрыманне пад вартай па чэхаславацкіх законах з'яўляюцца неправамоцнымі.

Таму просім як найхутчэй высветліць, ці з'яўляюцца д-р Іван Геніуш і Ларыса Геніуш чэхаславацкімі грамадзянамі і кім было выдадзенае пасведчанне аб іхнім чэхаславацкім дзяржаўным грамадзянстве.

Абласны суд у Піску, 4 чэрвеня 1948 г. Подпіс.

## 11. СЛУЖБОВАЯ ЗАПІСКА [МІНІСТЭРСТВА ЎНУТРАНЫХ СПРАВАЎ ЧЭХАСЛАВАКІІ]

*Прага, 8 чэрвеня 1948 г.*

Д-р Кудрна паведаміў па тэлефоне, што савецкае прадстаўніцтва патрабуе выдання наступных асобаў:

Аляксандра Міхайлавіча Калошы, нар. у 1905 г. у Беларусі;

Івана Пятровіча Геніуша, нар. у 1902 г. у Беларусі;

Ларысы Антонаўны Геніушовай, нар. у 1910 г.

Усе названыя асобы працавалі супраць СССР, незаконна ім удалося атрымаць чэхаславацкае грамадзянства. Іх дэпартацыя на дадзены момант затрымліваецца менавіта з той прычыны, што яны атрымалі чэхаславацкае грамадзянства, а чэхаславацкіх грамадзянаў мы не можам выдаць СССР. Неабходна тэрмінова высветліць, у якім стане на сёння знаходзіцца пытанне аб прызнанні незаконнасці атрымання імі чэхаславацкага грамадзянства. Справаздачу аб выніках гэтай справы ўжо сёння належыць падаць д-ру Кудрну.

## 12. [ДЭПАРТАЦЫЯ ЯНКІ І ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ З ТЭРЫТОРЫІ ЧЭХАСЛАВАКІІ]

АБЛАСНЫ КАМІТЭТ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ Ў ПІСКУ

*Пісэк, 9 ліпеня 1948 г.*

Прадмет: д-р Геніуш Іван Пятровіч і яго жонка Ларыса Геніуш, грам. СССР — дэпартацыя.

*Адказ на ліст № 351811948-12 ад 22.06.1948 г.*

КАМІТЭТ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ ПРЫ МЗС

*Прага VII, праспект Караля Іржы VII, № 69*

Паведамляю, што д-р Іван Пятровіч Геніуш, нар. 24.02.1902 г. у Крынках, вобл. Гродна, і яго жонка Ларыса Геніуш, у дзявоцтве Міклашэвіч, нар. 27.07.1910 г. у Жлабкаве (так у тэксце. — *М. С.*), вобл. Гродна — СССР, апошняе месцажыхарства Вімперк, вобл. Прахаціцы, на падставе вышэйназванага ліста 03.07.1948 г. былі пераведзеныя з-пад турэмнага нагляду пад адміністрацыйную адказнасць у Піску Абласным камітэтам бяспекі.

Па рашэнні Абласнога нацыянальнага камітэта ў Прахаціцах № 5900/48-Ге-24 ад 07.07.1948 г. вышэйназваныя дэпартаваныя з усёй тэрыторыі ЧСР, 08.07.1948 г. адпраўленыя пад канвоем са станцыі Пісэк і перададзеныя Абласному нацыянальнаму камітэту ў Празе. Копія загада аб дэпартацыі дадаецца.

Натуралізацыйнае пасведчанне (копія № 151/48 і № 478/48) аб атрыманні чэхаславацкага грамадзянства д-ра Геніуша, перададзенае, паводле яго словаў, Юзафу Кржываноску ў Празе VII, вул. Канапіштцка, 790, які, у сваю чаргу, аддаў яго д-ру Паланскаму. Усе дакументы, якія пацвярджаюць чэхаславацкае грамадзянства д-ра Геніуша і яго жонкі, былі сканфіскаваныя і адасланыя ва ўстановы, якія іх выдалі.

Старшыня камітэта: (подпіс).

# СЛОВА РАЗВІТАННЯ

7 красавіка 1983 г. на 73-м годзе жыцця памерла беларуская паэтэса Ларыса Антонаўна Геніюш.

Першыя вершы Ларысы Геніюш былі напісаны яшчэ да вайны і прысвечаны заходнебеларускай рэчаіснасці. У іх выказаны пратэст супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, вера ў тое, што нарэшце ўзыдзе «волі зелейка», якое трэба палiваць не толькі слязьмі, але і «крывёю ўласнаю». Лірычны герой праграмнага верша «Тры дарогі» (1937) свядома выбірае шлях служэння свайму народу, сваёй бацькаўшчыне.

У перадваенныя гады і ў час Другой сусветнай вайны Ларыса Геніюш жыла ў Празе. Там жа ўбачыў свет яе першы паэтычны зборнік «Ад родных ніў». У ім паэтэса не раз вяртаецца ў думках на сваю радзіму, смуткуе, што яе народ стогне ў фашысцкай няволі. Яна верыла ў сілу, у неўміручасць «войнамі спаленай, недругам знішчанай» роднай зямлі.

З сярэдзіны 50-х гадоў Ларыса Геніюш жыла на роднай Гродзеншчыне, у Зэльве. З друку выходзяць яе зборнікі «Невадам з Нёмана» (1967), «На чабары настоена» (1982), кніжкі для дзяцей. З кожным годам яе лірыка станавілася ўсё святлейшай, усё больш аптымістычнай. З жыццёвай мудрасцю азіралася паэтэса на пройдзенае, з надзеяй углядалася ў будучыню.

Ты ж цвіці, цвіці, мой краю,
макам на мяжы!
Я табе аддам, што маю, —
іншай радасці не знаю —
без цябе не жыць! —

звярталася Ларыса Геніюш да бацькаўшчыны ў вершы «Дзявочыя думкі».

Ларыса Геніюш жыла радасцямі і клопатамі народа. Яна «любіць зямлю сваю бязмерна, як толькі ўмеюць жаўрукі», радуецца, што «з металу і з пушчы выходзяць зубры на гасцінец асфальтавы мінскі». Паэтэса патрабуе, каб людзі берaглі, нібы маці, зямлю ў цвіценні, заклікае змагацца за мір — каб «вайна суровая ніколі маладосць у полі» больш не зжала.

Побач з постацямі мінулага, Ефрасінняй Полацкай, Кастусём Каліноўскім, яна паэтызуе сваіх сучаснікаў — земляробаў, будаўнікоў, праслаўляе подзвіг Пятра Клімука, які «на гонар і радасць роднага краю» ўзляцеў у космас. Многія творы Ларысы Геніюш прысвечаны хараству беларускай прыроды, «спеўнай, летняй, жніўнай» Беларусі. Апошнія вершы паэтэсы, бадай ці не самыя спелыя, убачылі свет у газеце «Літаратура і мастацтва» літаральна за месяц да яе смерці.

Свой талент Ларыса Геніюш аддала служэнню беларускай паэзіі, услаўленню сваёй радзімы, стваральнай працы яе людзей.

*Максім Танк, Данута Бічэль-Загнетава,*
*Юрка Голуб, Вольга Іпатава,*
*Уладзімір Караткевіч, Адам Мальдзіс,*
*Аляксей Пяткевіч.*

# КАМЕНТАР

Біяграфічны альманах, прысвечаны адной асобе, у Беларусі выдаецца ўпершыню. Невыпадкова гэтай асобай стала Ларыса Геніюш (1910–1983) — чалавек унікальнага жыццёвага лёсу, выдатная паэтка і мемуарыстка, чый стогадовы юбілей адзначаецца ў 2010 годзе.

Тэксты Л. Геніюш публікуюцца ў альманаху з нязначнымі стылёвымі і граматычнымі папраўкамі, дарэформавым правапісам, якога (што праўда, не заўсёды паслядоўна) прытрымлівалася паэтка. Вершы, якія ў газеце «Раніца» друкаваліся беларускай лацінкай, пераведзены на кірылічны шрыфт. Лексіка пакінутая без зменаў.

Тэксты другіх аўтараў (раздзел *«Такіх людзей Бог сее нячаста...»*) друкуюцца правапісам арыгіналаў без рэдактарскага ўмяшання. Успаміны пра Л. Геніюш са згоды мемуарыстаў прайшлі рэдактарскую апрацоўку, некаторыя публікуюцца ў скарочаным выглядзе.

Купюры, зробленыя ў лістах з этычных меркаванняў, пазначаныя шматкроп'ямі ў квадратных дужках — [...]. У гэткіх жа квадратных дужках раскрываюцца ініцыялы і скарочаныя імёны, у прыналежнасці якіх укладальнік не сумняваецца. Напрыклад: С[яргей] П[анізнік], Рыгор [Барадулін]. Загалоўкі тэкстаў у квадратных дужках належаць укладальніку.

## «СВАЯ ТУГА, СВАЕ ШЛЯХІ Ў КРЫЛАТЫХ...»
## ТВОРЫ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

*Хай угору* (с. 15). Упершыню — газ. «Раніца», 1941, 30 лістапада.

*Каб была я птушкай* (с. 15). Упершыню — газ. «Раніца», 1942, 18 кастрычніка.

*Над азёрамі* (с. 16). Упершыню — газ. «Раніца», 1942, 10 ліпеня.

*Восень* (с. 16). Упершыню — газ. «Раніца», 1942, 15 лістапада.

*Наша жыцьцё* (с. 17). Упершыню — газ. «Раніца», 1943, 24 кастрычніка.

*Радзіме* (с. 18). Упершыню — газ. «Новая дарога», 1943, 26 снежня.

*Вясьняны подзьмух* (с. 18), *Наша душа* (с. 20). Упершыню — газ. «Раніца», 1944, 30 красавіка.

*Адвечны гай (с. 19)*. Упершыню — газ. «Беларускі работнік», 1944, 14 траўня.

*На парозе Бацькаўшчыны* (с. 21). Упершыню — газ. «Раніца», 1944, 2 ліпеня.

*Вецер гойдае* (с. 22). Упершыню — час. «Наперад», 1953, № 26; пад псеўданімам *Лясная Кветка*.

*Чужынец* (с. 23). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 62, арк. 2).

*Быццам з гробу, вяртаюся з поўначы...* (с. 23). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 34, арк. 2).

*Верны Нёман, легендай авеяны...* (с. 24). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 49, арк. 24).

*Гляджу на край* (с. 24). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 33, арк. 1).

*Размова* (с. 24). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з прыватнага архіва Р. Барадуліна. Подпіс — аўтограф: *«Ваша “гонарная дачка” — Ларыса Геніюш».*

*Уладзіміру Караткевічу* (с. 25). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 19, арк. 2).

*Міколу Ермаловічу* (с. 25). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 140, арк. 11).

*Баба Вольга* (с. 26). Цалкам друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 197). Частка тэксту (да словаў: *«Тады паадрывалі тыя партызаны ім голавы, папрывязвалі да сёдлаў і паперліся ў лес»*) была апублікаваная У. Ягоўдзікам у час. «Полымя», 1992, № 12.

*Дыван з сям’і Геніушаў* (с. 30). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 198). *Геніюш Пятро* (?—1952) — бацька Я. Геніюша; паштовы служачы. *Геніюш Янка* (1902–1979) — муж паэткі, медык па адукацыі, выпускнік Карлавага ўніверсітэта ў Празе. У 1948 г. разам з жонкай быў незаконна пазбаўлены чэхаславацкага грамадзянства, вывезены ў СССР і асуджаны Вярхоўным Судом Беларусі на 25 гадоў няволі. Быў датэрмінова вызвалены (але не рэабілітаваны) і жыў разам з жонкай у бацькавай хаце ў Зэльве, на вул. Савецкай, 7а. *Геніюш Юрка* (1935–1985) — сын паэткі, беларускі пісьменнік, медык па адукацыі. Жыў у Беластоку, пісаў вершы і прозу. *Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей* быў заснаваны настаўнікам А. Белакозам у в. Гудзевічы Мастоўскага раёна ў 1968 г.; з 1990 г. набыў статус дзяржаўнага.

*[Бежанства і вяртаньне на радзіму]* (с. 31). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 192). *Міклашэвіч Павел* (1845–1929) — дзед паэткі; з сялянаў, пазней стаў абшарнікам, валодаў вялікімі надзеламі зямлі. Жыў і пахаваны ў Гудзевічах.

*Дзень нарадзінаў* (с. 34). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 197). *Адзначалі толькі татавыя імяніны*...— бацька паэткі, Антон Паўлавіч Міклашэвіч, нарадзіўся ў 1882 г. у мястэчку Крынкі на Беласточчыне. Быў арыштаваны 21 кастрычніка 1939 г., абвінавачваўся ў антысавецкай дзейнасці (арт. 74 Крымінальнага кодэкса БССР). Паводле пастановы асобнай нарады пры НКУС СССР ад 22 сакавіка 1941 г. быў асуджаны на 5 гадоў лагера. Быў амніставаны як польскі грамадзянін і накіроўваўся для пражывання ў г. Бійск Алтайскага краю. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 14 снежня 1989 г. пракуратурай Гродзенскай вобласці. *Маміныя — на Юр’я*... — маці паэткі, *Аляксандра Міклашэвіч* (з *Манютаў*; 1890—?) у 1939 г. пасля раскулачвання была вывезеная ў Казахстан, дзе і памерла. *Готвальд Клемент* (1896–1953) — дзяржаўны і палітычны дзеяч Чэхаславакіі, з 1945 г. старшыня Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Чэхаславакіі, з 1948 г. прэзідэнт Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі. *Сталін Іосіф* (сапр. *Джугашвілі*; 1879–1953) — савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч, арганізатар масавых рэпрэсій у СССР.

*Ціхі куточак* (с. 36). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 201).

## **ЛІСТЫ З ЗЭЛЬВЫ**
## З ЭПІСТАЛЯРНАЙ СПАДЧЫНЫ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

1. *Янку Генію́шу* (с. 43). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 231). Ліст адрасаваны ў санаторый Лётцы пад Віцебскам. *Канюшэўскія* — сям'я, якая жыла ў другой палове дома Геніюшаў. *Валя — Валянціна Геніюш* (сапр. *Зелянко*) — нявестка Л. Геніюш, жонка Ю. Геніюша. *Юрка — Юрка Геніюш* (1935–1985) — беларускі пісьменнік, медык па адукацыі, сын Л. Геніюш. Жыў у Беластоку, пісаў вершы і прозу.

2. *Міколу Прашковічу* (с. 44). Усе апублікаваныя ў альманаху лісты Л. Геніюш, адрасаваныя М. Прашковічу, друкуюцца ўпершыню паводле копіяў аўтографаў, перададзеных укладальніку светлай памяці Ірынай Крэнь. Арыгіналы лістоў перададзеныя ёю ж у Музей Максіма Багдановіча (Гродна). *Прашковіч Мікола* (1932–1983) — літаратуразнавец, крытык, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1965). Быў звольнены з Інстытута літаратуры Акадэміі навук па абвінавачанні ў беларускім нацыяналізме. *Нават Валодзя аб гэтым ня ведае...* — маецца на ўвазе Уладзімір Караткевіч. *Ціхаміраў Міхаіл Мікалаевіч* (1893–1965) — расійскі гісторык; даследаваў «Друцкае Евангелле» і Полацкае княства. *«Птушкі і гнёзды»* — раман Янкі Брыля. *Гарэцкая Галіна* (1921–2006) — дачка Максіма Гарэцкага, жыла ў Ленінградзе. *Ці ёсьць у яе яшчэ «Антон»...*— маецца на ўвазе драма М. Гарэцкага «Антон» (асобнае выданне — 1919).

3. *Міколу Прашковічу* (с. 45). *Скрыган Ян* (1905–1992) — пісьменнік. *Азгур Заір* (1908–1995) — скульптар, народны мастак Беларусі (1944).

5. *Міколу Прашковічу* (с. 46). *Чарняўскі Міхась* (нар. 1938) — археолаг, пісьменнік, грамадскі дзеяч, публікатар мемуараў Л. Геніюш «Споведзь» (1990). *Ліс Арсень* (нар. 1934) — пісьменнік, фальклярыст, доктар філалагічных навук. *Пшыркоў Юльян* (1912–1980) — літаратуразнавец, аўтар прадмовы да зб. Л. Геніюш «Невадам з Нёмана». *Сушынскі Язэп* (1885–1967) — мовазнавец, супрацоўнік Інбелкульта, палітычны і грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў Беларускай народнай партыі сацыялістаў. Удзельнік І Усебеларускага кангрэса. Двойчы арыштоўваўся — у 1930 і 1935 гадах. *Бічэль Данута* (нар. 1938) — пісьменніца; сябравала з Л. Геніюш, напісала прадмову да зб. «На чабары настоена». *Траяноўскі Алесь* (1925–2005) — журналіст, паэт і перакладчык; сябраваў з Л. і І. Геніюшамі.

7. *Міколу Прашковічу* (с. 47). *Краўцова Роза* — зэльвенская прыяцелька Л. Геніюш.

8. *Міколу Прашковічу* (с. 48) *Аб неабдуманых словах сябры Эрыка...*— маецца на ўвазе *Загнетаў Эрык* (1937–1983) — кінаінжынер, муж Д. Бічэль. *Хачу падзякаваць сябру Зянону...* — маецца на ўвазе *Пазняк Зянон* (нар. 1944) — палітычны і грамадскі дзеяч, археолаг, мастацтвазнавец.

10. *Міколу Прашковічу* (с. 49). *Майхровіч Сцяпан* (1908–1981) — літаратуразнавец і крытык.

11. *Міколу Прашковічу* (с. 49). *Яновіч Сакрат* (нар. 1936) — пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч; жыве ў мястэчку Крынкі на Беласточчыне.

12. *Міколу Прашковічу* (с. 50). *Здаецца, незадоўга — еду!* — маецца на ўвазе паездка Л. Геніюш у Польшчу, да сына. *Усё думаю пра Мальдзісаў...* — паэтка мае на ўвазе сям'ю *Адама Мальдзіса* (нар. 1932) — літаратуразнаўца, празаіка, доктара філалагічных навук (1987).

13. *Міколу Прашковічу* (с. 51). *Карпюк Аляксей* (1920–1992) — пісьменнік і грамадскі дзеяч, у 1978–1992 гг. узначальваў Гродзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. *Пра Зізанія — добра!* — маецца на ўвазе артыкул М. Прашковіча «Ля вытокаў нашай культуры: да 370-годдзя выхаду ў свет граматыкі і буквара Лаўрэнція Зізанія» («Літаратура і мастацтва», 1967, 21 лютага).

14. *Міколу Прашковічу* (с. 51). *Белакоз Алесь* (нар. 1928) — краязнавец, педагог, мемуарыст; заснавальнік Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея (1965).

15. *Міколу Прашковічу* (с. 52). *Марціноўскі Пятро* (1932–2006) — настаўнік, краязнавец, аўтар кнігі ўспамінаў пра Л. Геніюш «Наша Лорка» (Слонім, 2002). Жыў у мястэчку Дзярэчын на Зэльвеншчыне. *Рэмарк Эрых Марыя* (1898–1970) — нямецкі пісьменнік. *Хэмінгуэй Эрнэст Мілер* (1899–1961) — амерыканскі пісьменнік; жыў у Францыі і на Кубе. *Краўцоў Мікола* (1949–2000) — фізік, у 1967 г. вучыўся ў БДУ. *Грынчык Люба* — жонка літаратуразнаўцы Міколы Грынчыка (1923–1999). *Сенатовіч Аксана* (нар. 1941) — украінская паэтка, жонка паэта У. Лучука, які перакладаў вершы Л. Геніюш.

16. *Зосьцы Верас* (с. 53). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва З. Верас (БДАМЛіМ, ф. 318, воп. 1, спр. 42). *Верас Зоська* (сапр. *Сівіцкая Людвіка*; 1892–1991) — пісьменніца і грамадска-культурная дзяячка; жыла ў Вільні. *Шышэя Кастусь* (1922–2004) — сябра Беларускай незалежніцкай партыі; у 1944 г. быў дэсантаваны на вызваленую Саветамі тэрыторыю для арганізацыі беларускай нацыянальнай партызанкі; арыштаваны НКУС, пасля вызвалення жыў у Вільні. *Багдановіч Глеб* (1913—?) — палітычны і вайсковы дзеяч, выпускнік Віленскай беларускай гімназіі і медыцынскага факультэта Віленскага ўніверсітэта. Падчас Другой сусветнай вайны быў сябрам Беларускай незалежніцкай партыі, служыў у Беларускай краёвай абароне, у паваенны час працаваў лекарам на Беласточчыне. У 1949 г. — арыштаваны і дэпартаваны ў СССР, дзе быў асуджаны; пасля вызвалення жыў у Рудзенску на Міншчыне. *Мартынчык (Марцінчык) Мікалай* (1901–1980) — удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі. Рэдагаваў часопіс «Студэнцкая думка», быў намеснікам старшыні Галоўнай управы Таварыства беларускай школы. Арыштоўваўся польскімі (1927, 1930) і савецкімі (1948) уладамі; пасля вызвалення жыў у Гродне. *Кісялёў Генадзь* (1931–2008) — гісторык і літаратуразнавец, доктар філалагічных навук *Клімовіч Адольф* (1900–1970) — грамадскі дзеяч, журналіст, выдавец; жыў у Вільні. *Акрамя... пані Марысі...* — відаць, маецца на ўвазе *Марыя Шутовіч* — сястра Янкі Шутовіча (1904–1973). *Сергіевіч Пётра* (1900–1984) — мастак; жыў у Вільні. *У Сочы апынуўся нехта Муха-Міхалоўскі...* — маецца на ўвазе *Георгій Муха-Міхноўскі* (1905—?), выпускнік Сельскагаспадарчага інстытута ў Празе, дзеяч КПЗБ, аўтар успамінаў «Пути-дороги» (1973).

17. *Зосьцы Верас* (с. 54). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва З. Верас (БДАМЛіМ, ф. 318, воп. 1, спр. 42). *Ці Вы атрымалі маяго ліста аб маім знаёмстве з др. Галубянкай-Бучынскай...* — згаданы ліст апублікаваны ў выд.: Геніюш Л. Каб вы ведалі. — Мінск, 2005, с. 169. *Пані Смоліч заяжджае ў Менск...* — *Смоліч Алеся* (?—1989) — педагог, аўтар беларускіх падручнікаў; жонка Аркадзя Смоліча (1891–1938) — народнага сакратара, намесніка старшыні Рады народных міністраў БНР.

18. *Зосьцы Верас* (с. 55). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва З. Верас (БДАМЛіМ, ф. 318, воп. 1, спр. 42). *Mówią tylko po polsku (польск.)* — размаўляюць толькі папольску. *Ластаўка Пятро* — паэт, дзеяч культурна-асветнага руху ў Заходняй Беларусі; жыў у Варшаве. *Станкевіч Адам* (1891–1949) — рэлігійны і палітычны дзеяч, гісторык і публіцыст. «*Лашэнюкас*» (літ. *lašiniukai*) — сала; *«жамайцішка донос»* (літ. *žemaitiška duona*) — жамойцкі хлеб. *Кароль Усевалад* (1919–1984) — актывіст Беларускай незалежніцкай партыі, па прафесіі лекар; у 1946 г. быў арыштаваны, пасля вяртання з ГУЛАГу жыў у Баранавічах.

19. *Зосьцы Верас* (с. 56). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва З. Верас (БДАМЛіМ, ф. 318, воп. 1, спр. 42). *Казека Янка* (нар. 1915) — крытык, літаратуразнавец, укладальнік зборнікаў пісьменніцкіх аўтабіяграфій, у адным з іх меркаваў надрукаваць жыццяпіс Л. Геніюш «Сто ранаў у сэрца». *Бажко Алесь* (нар. 1918) — пісьменнік. *Тумаш Вітаўт* (1910–1998) — гісторык і навуковец; быў бургамістрам Мінска (1941), рэдагаваў газету «Раніца» (1943). Эміграваўшы ў ЗША, узначальваў Беларускі інстытут навукі і мастацтва (Нью-Ёрк), рэдагаваў часопіс «Запісы», газету «Беларус». *Леўчык Гальяш* (сапр. *Ляўковіч Ілля*; 1880–1944) — беларускі паэт і бібліяфіл.

20. *Міколу Прашковічу* (с. 57). *Татур Мікола* (1919–2001) — пісьменнік; быў дырэктарам Літфонда Саюза пісьменнікаў (1966–1970).

21. *Зосьцы Верас* (с. 60). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва З. Верас (БДАМЛіМ, ф. 318, воп. 1, спр. 42). *Славік...— Луцкевіч Вячаслаў*, унук З. Верас. *Бычкоўскі Адам* — сустаршыня (разам з ксяндзом Ф. Грынкевічам) Гродзенскага гуртка беларускай моладзі (1909–1913), сябры якога ладзілі выязныя спектаклі, чыталі лекцыі, арганізавалі хор і аркестр. Пазней А. Бычкоўскі вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта, удзельнічаў у тамтэйшым беларускім руху.

22. *Зосьцы Верас* (с. 59). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва З. Верас (БДАМЛіМ, ф. 318, воп. 1, спр. 42). *Вітан-Дубейкаўскі Лявон* (1869 ці 1869–1940) — архітэктар, педагог, паэт; выпускнік Акадэміі архітэктуры ў Парыжы (1909). *Голуб Юрка* (нар. 1947) — паэт, родам з вёскі Горна, што непадалёк ад Зэльвы.

23. *Алесю Белакозу* (с. 60). Усе апублікаваныя ў альманаху лісты Л. Геніюш, адрасаваныя А. Белакозу, друкуюцца ўпершыню паводле копіяў, перададзеных ім укладальніку. *Багіна Іосіф* (нар. 1940) — журналіст, у 1960-я гг. намеснік рэдактара зэльвенскай раённай газеты «Праца», потым — галоўны рэдактар «Гродненской правды». *Коўтун Валянціна* (нар. 1946) — пісьменніца і грамадская дзеячка. *Міхасічак* — сын А. Белакоза.

24. *Міколу Прашковічу* (с. 61). *Мікалай Прусевіч* — лекар, працаваў у Зэльвенскай бальніцы. *Вялюгін Анатоль* (1923–1994) — беларускі паэт і кінасцэнарыст. *Караткевіч Надзея* (1893–1977) — маці У. Караткевіча, перапісвалася з Л. Геніюш. *Лучук* (сапр. *Сенатовіч*) *Аксана*; нар 1941) — украінская паэтка, жонка паэта У. Лучука. *Лучук Уладзімір* (нар. 1934) — украінскі паэт і перакладчык вершаў Л. Геніюш на ўкраінскую мову. *Гнацюк Іван* — украінскі паэт і перакладчык; ліставаўся з Л. Геніюш.

25. *Міколу Прашковічу* (с. 63). *Семашкевіч Рыгор* (1945–1982) — паэт, празаік, літаратуразнавец, крытык. *Міско Сцяпан* (нар. 1930) — тэатразнавец. *Іпатава Вольга* (нар. 1945) — пісьменніца і грамадская дзяячка, старшыня Саюза пісьменнікаў (1998–2002).

26. *Міколу Прашковічу* (с.63). *Крэнь Ірына* (1929–2005) — літаратуразнавец, даследчык гісторыі беларускага школьніцтва ў Заходняй Беларусі. Працавала настаўніцай, малодшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце літаратуры, рэдактарам у выдавецтвах. *Сіняўскі Андрэй Данатавіч* (1925–1997) і *Даніэль Юлій Маркавіч* (1925–1988) — расійскія пісьменнікі-дысідэнты, асуджаныя ў 1966 г. за друк сваіх мастацкіх твораў па-за мяжой Савецкага Саюза. *Мядзёлка Паўліна* (1893–1974) — мемуарыстка і грамадская дзяячка. *Лойка Ніна* (нар. 1947) — настаўніца, пляменніца пісьменніка Алега Лойкі; у 1969 г. — студэнтка філфака БДУ. *Янішчыц Яўгенія* (1948–1988) — паэтка; была замужам за паэтам С. Панізнікам, ліставалася з Л. Геніюш. *Юрка нічога аб Алесю і Віктару «ня ведаў»...* — маюцца на ўвазе паэты *Алесь Разанаў* (нар. 1947) і *Віктар Ярац* (нар. 1948), якія былі адлічаныя з філфака БДУ як «нацыяналісты» і мусілі давучвацца адпаведна ў Брэсцкім і Гомельскім педінстытутах.

27. *Алесю Белакозу* (с. 65). *Лойка Алег* (1931–2008) — паэт, празаік, літаратуразнавец; член-карэспандэнт НАН Беларусі (1989), доктар філалагічных навук (1969).

28. *Міколу Прашковічу* (с. 65). *У Вільні выйшла па-расейску кніжка аб Кітабах…* — маецца на ўвазе выд.: Антонович А. К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом. — Вильнюс, 1968. *Цыгельніцкая Фаіна* (1906–1988) — дзеяч КПЗБ, пазней — на партыйнай працы. *Шолам-Алейхем* (сапр. *Шолам Нохімавіч Рабіновіч*; 1859–1916) — класік габрэйскай літаратуры.

29. *Алесю Белакозу* (с. 66). *Зінаідзе Львоўне перадайце ад мяне…* — маецца на ўвазе настаўніца Гудзевіцкай сярэдняй школы *Зінаіда Баламут*; Л. Геніюш спынялася ў яе падчас прыезду ў Гудзевічы.

30. *Міколу Прашковічу* (с. 67). *Бібіла Юлія* (1897–1974) — бібліёграф; ліставалася з Л. Геніюш. *Выдрукаванае Бядуліхай…* — маюцца на ўвазе апублікаваныя *Марыяй Плаўнік*, жонкай беларускага пісьменніка Змітрака Бядулі (1886–1941), ягоныя ўспаміны пра М. Багдановіча, дзе непрыглядна паказвалася маці З. Верас («Нёман», 1968, № 3).

31. *Зосьцы Верас* (с. 68). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва З. Верас (БДАМЛіМ, ф. 318, воп. 1, спр. 43). *Бачыла Юлю Бібіла з профілем Екацярыны Вялікай…*— маецца на ўвазе імператрыца ўсерасійская *Кацярына II* (1729–1796).

34. *Міколу Прашковічу* (с. 72). *Глебка Пятро* (1905–1969) — паэт, мовазнавец, акадэмік АН Беларусі (1957). *Валя ўжо няхай застаецца… — Ватковіч Валянціна* (у першым шлюбе *Нікіціна*; 1934–1983) — гісторык, будучая жонка У. Караткевіча (пабраліся шлюбам у 1971 г.). *Янкоўскі Фёдар* (1918–1989) — беларускі мовазнавец і пісьменнік, доктар філалагічных навук (1970).

35. *Людміле Бакуновіч* (с. 72). Усе лісты Л. Геніюш, адрасаваныя Людміле і Уладзіміру Бакуновічам, друкуюцца ўпершыню паводле машынапісаў, перададзеных укладальніку Валянцінай Трыгубовіч. *Бакуновіч* (сапр. — *Войтанка*) *Людміла* нарадзілася ў 1938 г. у Міры на Гарадзеншчыне. Разам з бацькамі пакінула Беларусь у 1944 г., вучылася на медыцынскім факультэце Лювенскага ўніверсітэта, з 1963 г. — у ЗША. Закончыла Ўэйнскі універсітэт (1981), працавала настаўніцай біялогіі і хіміі. Сябра Рады БНР (з 2008).

37. *Уладзіміру Бакуновічу* (с. 74). *Бакуновіч Уладзімір* (1926–1992) — эканаміст, муж Людмілы Бакуновіч. З 1944 г. — на эміграцыі, вучыўся ў Лювенскім ўніверсітэце, з 1963 г. жыў у ЗША — спачатку ў Нью-Джэрзі, потым у Дэтройце (штат Мічыган).

39. *Алесю Белакозу* (с. 75). *Буйло Канстанцыя* (1893–1986) — беларуская паэтка; жыла ў Маскве. *Петрашэвіч Яўген* (нар. 1930) — музычны педагог і кампазітар, аўтар зб. «Беларускі вясёлкавы край» (2010); жыве ў Гродне. *Насута Іван* (нар. 1929 г. — паэт-песеннік; жыве ў Гродне. *Той чалавек гатоў нам усё аддаць…* — маецца на ўвазе *Восіп Таранцей*, калекцыянер і бібліяфіл, які жыў у вёсцы Ізабелін на Зэльвеншчыне.

40. *Людміле і Уладзіміру Бакуновічам* (с. 77). *Удаве і сыну памершага мае шчырыя спачуваньні…* — Л. Геніюш выказвае спачуванне *Ніне* і *Альгерду Абрамчыкам*, удаве і сыну Старшыні Рады БНР *Міколы Абрамчыка*, які 29 траўня 1970 г. памёр у Парыжы. *Кенгурыя* — маецца на ўвазе Аўстралія. *Darling* (англ.) — дарагая.

41. *Зосьцы Верас* (с. 77). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва З. Верас (БДАМЛіМ, ф. 318, воп. 1, спр. 44). *Найдзюк Часлаў* — юрыст, журналіст; выпускнік Віленскай беларускай гімназіі, сябра Беларускага студэнцкага саюза пры Віленскім універсітэце, Беларускай народнай самапомачы. Брат гісторыка і культурнага дзеяча Язэпа Найдзюка. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Каліфорніі (ЗША).

42. *Людміле і Уладзіміру Бакуновічам* (с. 78). *Дзякую за здымачак мілай Ларысы — маяго «помнічка»…* — маецца на ўвазе пляменніца Уладзіміра Бакуновіча, названая *Ларысай* у го-

нар паэткі. *Я ўжо ведала аб гэтай сьмерці…* — гаворка ідзе пра смерць архіепіскапа БАПЦ *Васіля* (свецкае імя — *Уладзімір Тамашчык*), які раптоўна памёр 9 чэрвеня 1970 г.

43. *Людміле Бакуновіч* (с. 79). *Перажываем… за маленькага Расьціслава… — Расціслаў Войтанка*, пляменнік Л. Бакуновіч. *Нікан Мікола* (1908–1999) — беларускі грамадскі дзеяч і педагог. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны быў арыштаваны НКУС і высланы ў Варкуту. Служыў у арміі генерала Андэрса (1942–1944), з 1952 г. жыў у Аўстраліі.

44. *Дануце Бічэль* (с. 80). Усе апублікаваныя ў альманаху лісты Л. Геніюш, адрасаваныя Д. Бічэль, друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў, якія зберагаюцца ў гродзенскім Музеі Максіма Багдановіча. *«Сага аб Фарсайтах»* — мастацкі фільм, зняты паводле аднайменнага рамана англійскага пісьменніка Джона Голсуорсі. *Ці хутка выйдзе Міколава кніжка пра Скарыну…* — маецца на ўвазе кніга М. Прашковіча «Францішак Скарына — беларускі першадрукар» (1970). *Загнетава Віка* (замужам *Ільіна*; нар. 1960) — мастачка, дачка Д. Бічэль. *Жаль яго мамы, добрай бабы Казі… — Казіміра Грамакоўская* (1903–1993) — свякроў Д. Бічэль. *Толькі што атрымала тэлеграму… аб сьмерці сябра Адольфа Клімовіча…* — А. Клімовіч памёр 24 лістапада 1970 г. у Вільні; Л. Геніюш выязджала на яго пахаванне.

45. *Зосьцы Верас* (с. 80). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва З. Верас (БДАМЛіМ, ф. 318, воп. 1, спр. 44). *Нейкі грамадзянін Кратовіч…* — асобу *Кратовіча* ўкладальніку высветліць не ўдалося. *Клімовіч Вераніка* (сапр. *Шутовіч*; 1912–1974) — жонка А. Клімовіча.

46. *Зосьцы Верас* (с. 81). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва З. Верас (БДАМЛіМ, ф. 318, воп. 1, спр. 44). *Ці ёсьць там папрок адносна Вас і Шнаркевічаў…* — *Шнаркевіч Надзея* (1897–1974) — настаўніца, супрацоўніца галоўнай управы Таварыства беларускай школы, рэдактар часопіса «Жаночая справа»; *Шнаркевіч Язэп* (?—1981) — настаўнік, выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі. *De mortius aut bene, aut nihil* (лац.) — пра памерлых або добра, або нічога.

47. *Людміле Бакуновіч* (с. 81). *Выслала Вам… 4-ы нумар «Помнікаў…»* — гаворка ідзе пра квартальнік «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», які выходзіў у Мінску ў 1970–1989 гг. *Анечка* — дачка Людмілы і Уладзіміра Бакуновічаў; нар. у 1970 г., трагічна загінула ў 2007 г. *Рая мне напісала… — Раіса Жук-Грышкевіч* (сапр. *Жукоўская*; 1919–2008) — актывістка жаночага руху на эміграцыі. З 1949 г. жыла ў Канадзе, дзе заснавала Задзіночанне беларускіх жанчын. Закончыла Філіпс Універсітэт у Марбургу (1948) і Таронцкі ўніверсітэт (1954) па спецыяльнасці «дантыстыка». Жонка старшыні Рады БНР В. Жука-Грышкевіча. Аўтарка кнігі «Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча» (Таронта, 1993).

48. *Валерыю Палікарпаву* (с. 82). Усе апублікаваныя ў альманаху лісты Л. Геніюш, адрасаваныя В. Палікарпаву, друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў, перададзеных ім укладальніку. *Палікарпаў Валерый* (нар. 1941) — музейны работнік і бібліяфіл; жыве ў Баранавічах. *Кандзінскі Васіль Васільевіч* (1866–1944) — расійскі мастак-авангардыст, адзін з заснавальнікаў абстрактнага мастацтва.

49. *Валерыю Палікарпаву* (с. 83). *Болей шкада мне маэстра…* — маецца на ўвазе *Міхась Забэйда-Суміцкі* (1900–1981) — беларускі спявак, які жыў у Празе. *Усіх родзічаў дарагога Галубка…* — гаворка ідзе пра зяця У. Галубка, мастака Яўгена Ціхановіча, з якім В. Палікарпаў быў у прыяцельскіх адносінах.

50. *Валерыю Палікарпаву* (с. 83). *Мулявін Уладзімір* (1941–2003) — спявак і кампазітар, заснавальнік ансамбля «Песняры». Народны артыст Беларусі (1979), народны артыст СССР (1990).

51. *Валерыю Палікарпаву* (с. 84). *Саўчук Пётра* (1920–1996) — фармацэўт, сулагернік Я. Геніюша; жыў у Баранавічах.

52. *Валерыю Палікарпаву* (с. 84). *Аб кніжцы Дробава (у апрацоўцы Караткевіча)...* — гаворка ідзе пра выд.: Дробаў Л. Беларускія мастакі XIX стагоддзя. — Мінск, 1971. *«Сьпявайце, хлопцы, сьпявайце»...* — радок з верша Генадзя Бураўкіна «Вяртанне песні».

54. *Валерыю Палікарпаву* (с. 85). *Яшкін Валерый* — саліст ансамбля «Песняры». *Хацелася б бачыць «Партрэт дачкі» Станюты*… — маецца на ўвазе партрэт актрысы Стафаніі Станюты, створаны яе бацькам, мастаком *Міхалам Станютам* (1881–1974). *Бялоў Васіль Іванавіч* (нар. 1932) — расійскі пісьменнік. *«Аэрапорт»* — раман канадскага пісьменніка Артура Хейлі.

55. *Данупе Бічэль* (с. 87). *«Доля»* — зб. Д. Бічэль-Загнетавай; выйшаў у 1972 г. *Не ўспамінай мне таго майго «шэдэўру»...* — маецца на ўвазе верш Л. Геніюш *«Хмель»,* напісаны па просьбе В. Быкава і апублікаваны ў газ. «Гродненская правда» за 2 снежня 1972 г.. *Не рэабілітуй мне В. В. ... — Васіля Уладзіміравіча Быкава*, які ўгаварыў Л. Геніюш вершам «паўдзельнічаць» у антыалкагольнай кампаніі.

56. *Васілю Быкаву* (с. 87). Усе апублікаваныя ў альманаху лісты Л. Геніюш, адрасаваныя В. Быкаву, друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў, якія зберагаюцца ў сына пісьменніка Васіля. *Быкава Надзея* (дзявоч. *Кулагіна*; 1923–1982) — першая жонка В. Быкава.

57. *Данупе Бічэль* (с. 88). *Усё чытае «Хрыста» памаленьку…* — гаворка ідзе пра раман У. Караткевіча *«Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Паўстоўскі Канстанцін Георгіевіч* (1892–1968) — расійскі пісьменнік. *Валерка* (нар. 1965) — сын Д. Бічэль і Э. Загнетава.

58. *Данупе Бічэль* (с. 88). *Адзін сябра, чэх… — Жыдліцкі Вацлаў* (1931–2002), чэшскі літаратуразнавец і перакладчык, доктар філалагічных навук (1967); пераклаў на чэшскую мову творы Я. Брыля, В. Быкава, У. Караткевіча і інш. *Вярба Вера* (сапр. *Сакалова Гертруда*; нар. 1942) — паэтка, аўтарка вядомай песні «Ручнікі» (кампазітар М. Пятрэнка). *Баравікова Раіса* (нар. 1947) — паэтка, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» (з 2004). *Жэня з Андрэйкам у красавіку ўжо едуць да таты…* — гаворка ідзе пра паэтку *Яўгенію Янішчыц* (1948–1988), якая маецца ехаць у Прагу да мужа Сяргея Панізніка, які там служыў у войску.

59. *Данупе Бічэль* (с. 89). *Корбут Вольга* (нар. 1955) — беларуская гімнастка, чэмпіёнка Алімпійскіх гульняў (1972, 1976). *Ніксан Рычард* (1913–1994) — прэзідэнт ЗША (1969–1974).

60. *Данупе Бічэль* (с. 90). *Каруза Энрыка* (1873–1921) — італьянскі спявак (тэнар). *Падабаецца мне, як Б[ондараў] у «Літ [ературной] газете хораша напісаў пра Васіля… —* маецца на ўвазе артыкул Ю. Бондарава «Человек, война, подвиг» («Литературная газета», 14 сакавіка 1973 г.). *Міколачка надаслаў мне ўчора 10 «Казкаў» і 2 «Беласточчыны»…* — гаворка ідзе пра дзіцячы зб. Л. Геніюш «Казкі для Міхаські» (1972) і альманах «Літаратурная Беласточчына» (Мінск, 1973).

61. *Данупе Бічэль* (с. 90). *Бітэль Пятро* (1912–1991) — паэт і перакладчык; жыў у вёсцы Вішнева на Валожыншчыне. Паходзіў з мястэчка Радунь колішняга Лідскага павета (цяпер — Воранаўскі раён).

62. *Данупе Бічэль* (с. 91). *Пікасо Пабла* (1881–1973) — французскі мастак іспанскага паходжання, прадстаўнік авангардызму і адзін з заснавальнікаў кубізму. *Вось мой дзед… — Павел Міклашэвіч* (1845–1929), дзед Л. Геніюш па бацькаўскай лініі; паходзіў з сялянаў, пазней стаў абшарнікам, валодаў вялікімі надзеламі зямлі. Жыў і пахаваны ў Гудзевічах.

65. *Дануце Бічэль* (с. 93). *А калі Табе пасьпеў напісаць В. Ш. ...* — маецца на ўвазе мастацтвазнаўца *Віктар Шматаў* (нар. 1936).

66. *Міхасю Верацілу* (с. 94). Усе апублікаваныя ў альманаху лісты Л. Геніюш, адрасаваныя М. Верацілу, друкуюцца ўпершыню паводле копіяў аўтографаў, перададзеных укладальніку. *Вераціла Міхась* (нар. 1937) — калекцыянер, краязнавец, паэт і мастак; аўтар паэтычнага зб. «Спакуса» (Ваўкавыск, 1993). Жыве ў пасёлку Краснасельскі на Ваўкавышчыне. *Ваш Несьцерка...* — карціна на фанеры ў тэхніцы выпальвання, падараваная М. Верацілам паэтцы. *Як маецца Слава... — Целеш Вячаслаў* (нар. 1938), беларускі мастак і філакартыст, аўтар альбома «Гарады Беларусі на старых паштоўках» (1998); жыве ў Рызе. *Прывітаньні ад нас для Любы... — Любоў Вераціла* (дзявоч. *Уткіна;* нар. 1941), жонка М. Вераціла.

67. *Алесю Белакозу* (с. 95). *Недзе Вера на мяне злуецца... — Вера Белакоз*, настаўніца, жонка А. Белакоза.

68. *Дануце Бічэль* (с. 96). *Жаль, жаль беднай «мамы біскупцкай»...* — гаворка пра *Марыю Бічэль* (1909–1997), маці Д. Бічэль. *Але ж там Рэня, ды і Галя... — Рэня Супрэн* (нар. 1929), сястра Д. Бічэль; *Галіна Ліхарад* (нар. 1950) — дачка Рэні. *А як маецца дзед Ясься... — Ян Бічэль* (1898–1975), бацька Д. Бічэль.

69. *Дануце Бічэль* (с. 97). *Нядзведскі Уладзіслаў* (1929–1973) — паэт; працаваў у рэдакцыі часопіса «Маладосць», у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

70. *Дануце Бічэль* (с. 99). *Вярцінскі Анатоль* (нар. 1931) — паэт і грамадскі дзеяч; быў галоўным рэдактарам тыднёвіка «Літаратура і мастацтва», дэпутатам Вярхоўнага Савета XII склікання.

77. *Зосьцы Верас* (с. 103). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва З. Верас (БДАМЛіМ, ф. 318, воп. 1, спр. 45). *Машэраў Пётр* (1918–1980) — партыйны і дзяржаўны дзеяч, першы сакратар ЦК КПБ (1964–1980). *Плісецкая Мая Міхайлаўна* (нар. 1925) — расійская балерына, народная артыстка СССР, Герой Сацыялістычнай Працы.

78. *Міколу Улашчыку* (с. 104). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва М. Улашчыка (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 44, воп. 1, спр. 889). *Улашчык Мікола* (1906–1986) — беларускі гісторык, археолаг, доктар гістарычных навук (1964); жыў у Маскве.

79. *Васілю Быкаву* (с. 105). *«Вершалінскі рай»* — раман Аляксея Карпюка.

80. *Раісе Жук-Грышкевіч* (с. 105). Усе апублікаваныя ў альманаху лісты Л. Геніюш, адрасаваныя Р. Жук-Грышкевіч, друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў, якія захоўваюцца ў архіве Вольгі Іпатавай (Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры).

81. *Міколу Ермаловічу* (с. 105). Усе апублікаваныя ў альманаху лісты Л. Геніюш, адрасаваныя М. Ермаловічу, друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў з архіва ўкладальніка. *Ермаловіч Мікола* (1921–2000) — гісторык, літаратуразнавец; аўтар кніг «Па слядах аднаго міфа» (1989), «Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды» (1990), «Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд» (1994). *Ганна Ягелонка* (1523–1596) — жонка караля Рэчы Паспалітай Стафана Баторыя, дачка Жыгімонта І Старога і Боны.

82. *Алесю Белакозу* (с. 106). *Панчанка Пімен* (1917–1995) — народны паэт Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1981) і Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1968). *Гілевіч Ніл* (нар. 1931) — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, фальклрыст, грамадскі дзеяч; лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1980), адзін з заснавальнікаў і першы старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны; народны паэт Беларусі (1991).

83. *Дануце Бічэль* (с. 107). *Салжаніцын Аляксандр Ісаевіч* (1918–2008) — расійскі пісьменнік, палітвязень, аўтар рамана «Архіпелаг ГУЛАГ»; быў высланы з СССР, доўгі час жыў у ЗША. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1970). *Гюго Віктор Мары* (1802–1885) — французскі пісьменнік.

84. *Міколу Ермаловічу* (с. 109). *Кніжка ад п. Ватацы прыйшла…* — відаць, маецца на ўвазе «Шлях паэта: зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча» (Мінск, 1975), складзены бібліёграфам *Нінай Ватацы* (1908–1997). *Без с.п. Тоніка яны ня змогуць справіцца…* — гаворка пра *Антона Шантыра* (1919–1976), сына Зоські Верас і Фабіяна Шантыра (1887–1920). *У п. Галіны здароўе няважнае…* — маецца на ўвазе *Галіна Войцік,* дачка З. Верас і Антона Войціка (1898–1948).

85. *Міхасю Вераціл*у (с. 109). *Сябру Ўладзіміра М. бачым даволі часта…* — маецца на ўвазе *Уладзімір Міхайлоўскі*, родам з Краснасельскага, жыў у Зэльве.

87. *Дануце Бічэль* (с. 110). *Агняцвет Эдзі* (сапр. *Каган*; 1913–2001) — беларуская дзіцячая паэтка і перакладчыца. *Барто Агнія Львоўна* (1906–1981) — расійская дзіцячая пісьменніца. *Барскі Алесь* (сапр. *Баршчэўскі*; нар. 1930) — беларускі паэт родам з Беласточчыны, жыве ў Варшаве; доўгі час узначальваў Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы, загадваў кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. *«Праменны сыгналізатар»* — маецца на ўвазе муж Д. Бічэль Эрык Загнетаў, які на той час працаваў у «Гроднаэнерга».

88. *Дануце Бічэль* (с. 112). *Вітай ад усяго сэрца дарагіх бацькоў мілай Марыны… — Марына Пяткевіч* (замужам *Загідуліна*; нар. 1965), дачка літаратуразнаўцы *Аляксея Пяткевіча* (нар. 1931) і настаўніцы *Марыі Пяткевіч* (з *Шумскіх*; нар. 1930).

91. *Міхасю Вераціл*у (с. 114). *Што рабіць з гэтым «хруктам»…* — М. Вераціла даслаў Л. Геніюш з Крыма пасылку з салодкім міндалём.

92. *Міхасю Вераціл*у (с. 114). *Што да слоў сябра Міколы… — Равянок Мікалай* (1937–1985), аўтамеханік з Краснасельскага, які на сваім матацыкле вазіў М. і Л. Верацілаў у Зэльву. *Ваша мілая спадарожніца… — Марыя Равянок*, жонка Міколы.

94. *Міколу Ермаловічу* (с. 116). *Станкевіч Янка* (1891–1976) — мовазнавец, гісторык, педагог; аўтар «Беларуска-расійскага (Вялікалітоўска-расійскага) слоўніка» (Нью-Ёрк, 1990). *Сергіевіч Юльян* (1910–1976) — самадзейны мастак і паэт, які пачынаў друкавацца разам з Л. Геніюш у берлінскай «Раніцы» ў 1940–1943 гг. Жыў у вёсцы Ленкаўшчына Маладзечанскага раёна, ліставаўся з паэткай.

96. *Дануце Бічэль* (с. 118). *Бярозкін Рыгор* (1918–1981) — крытык і перакладчык. *Хведаровіч Мікола* (1904–1981) — паэт і перакладчык; быў арыштаваны ў 1938 г., у няволі і на высылцы правёў 18 гадоў. *Калеснік Уладзімір* (1922–1994) — беларускі крытык і літаратуразнавец, даследчык заходнебеларускай літаратуры; яго зб. літаратурных партрэтаў і нарысаў *«Зорны спеў»* выйшаў у 1975 г. *Брыль Янка* (1917–2006) — народны пісьменнік Беларусі (1981), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

97. *Міхасю Вераціл*у (с. 119). *Клімук Пятро* (нар. 1942) — касманаўт, двойчы Герой Савецкага Саюза; прыслаў у Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей кнігу Л. Геніюш «Невадам з Нёмана» са сваім дарчым надпісам, што служыла своеасаблівай ахоўнай граматай для музея.

98. *Дануце Бічэль* (с. 119). *Салаухін Уладзімір Аляксеевіч* (1924–1997) — расійскі празаік і публіцыст. *Акуджава Булат Шалвавіч* (1924–1997) — расійскі пісьменнік і бард. *Іваноў Аляксандр Аляксандравіч* (нар. 1936) — расійскі паэт-парадыст. *Вазнясенскі Андрэй Андрэе-*

*віч* (1933–2010) — расійскі паэт і мастак. *Еўтушэнка Яўгеній Аляксандравіч* (нар. 1933) — расійскі пісьменнік і рэжысёр, укладальнік фундаментальнай паэтычнай анталогіі «Строфы века» (1995).

99. *Міхасю Верацілу* (с. 120). *Мая пасылка да Галіны…* — відаць, гаворка ідзе пра *Галіну Тумаш*, дачку Вітаўта Тумаша.

100. *Дануце Бічэль* (с. 121). *Абапершыся на Зоську…* — гаворка пра *Зосю Марцінчык* (сапр. *Каліноўская*) — зэльвенскую прыяцельку і суседку Л. Геніюш. Паэтка падаравала ёй кнігу «На чабары настоена» з надпісам: «Дарагой маёй Зосі Марцінчык, што пры мне з дапамогаю. Зэльва, 1982 г».. *Тарас Валянцін* (1930–2009) — паэт і перакладчык; Л. Геніюш мае на ўвазе яго рэцэнзію на зб. Д. Бічэль «Ты — гэта ты» («З-пад вечнага карэння» // «Беларусь», 1977, № 1).

102. *Алесю Белакозу* (с. 123). *Мы моцна радыя з Марынкі! Што піша Коля…* — гаворка ідзе пра дачку і сына Алеся і Веры Белакозаў.

104. *Дануце Бічэль* (с. 124). *Дзяргай Сяргей* (1907–1980) — паэт; перад вайной быў рэпрэсаваны, жыў на высылцы ў Казахстане. *Ахмадуліна Бэла Ахатаўна* (нар. 1937) — расійская паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.

105. *Дануце Бічэль* (с. 125). *А «Белавежу» трэба табе наведаць…* — гаворка ідзе пра згуртаванне беластоцкіх літаратараў *«Белавежа»*. *Пугачова Ала Барысаўна* (нар. 1949) — расійская эстрадная спявачка, народная артыстка СССР.

107. *Дануце Бічэль* (с. 127). *Пестрак Пілін* (1903–1978) — беларускі паэт і дзеяч КПЗБ. *Астрэйка Анатоль* (1911–1978) — паэт, аўтар вядомай «Песні пра Нёман» (музыка Н. Сакалоўскага). *Шамякін Іван* (1921–2005) — народны пісьменнік Беларусі (1972), Герой Сацыялістычнай Працы (1981), аўтар папулярных раманаў на тэмы савецкай сучаснасці.

110. *Дануце Бічэль* (с. 130). *Варанецкі Міхал* (1908–1998) — каталіцкі святар; у 1949 г. асуджаны за антысавецкую дзейнасць да 25 гадоў няволі; быў вызвалены ў 1956-м, служыў ксяндзом у Поразаве, Косаве, Слоніме, быў генеральным вікарыем Гродзенскай дыяцэзіі (з 1996). *Клышка Анатоль* (нар. 1935) — крытык, перакладчык, педагог, аўтар буквара. *Друніна Юля Ўладзіміраўна* (1925–1991) — расійская паэтка. *Міцкевіч Адам* (1798–1855) — польскі паэт беларускага паходжання.

111. *Валянціне Дышыневіч* (с. 132). *Дышыневіч Валянціна* (1930–2005) — бібліёграф, мастацтвазнаўца; працавала ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР.

112. *Дануце Бічэль* (с. 132). *Дарэчы, памятаеш Археоляга…* — маецца на ўвазе М. Чарняўскі. *Вельмі шкада мілую цётку Яніну…* — гаворка пра *Яніну Міхаловіч*, цётку Д. Бічэль. *«Вялікі вучоны»…* — магчыма, маецца на ўвазе *Юры Астроўскі* (1925–1992), біяхімік, акадэмік АН Беларусі, дырэктар Інстытута біяхіміі АН Беларусі. *Дамашэвіч Уладзімір* (нар. 1928) — празаік і публіцыст.

113. *Дануце Бічэль* (с. 133). *Жук Алесь* (нар. 1947) — празаік; у 1979 г. — інструктар сектара літаратуры ЦК КПБ. *Граблеўскі Іван* (1936–1994) — журналіст, краязнавец; працаваў галоўным рэдактарам Гродзенскага абласнога тэлебачання, загадчыкам сектара друку, радыё і тэлебачання Гродзенскага абкама КПБ (1979–1982).

115. *Дануце Бічэль* (с. 136). *Пісаў сяньня мне адзін сябра з Польшчы…* — маецца на ўвазе *Язэп Найдзюк* (1909–1984) — дзеяч беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі, рэдактар часопіса «Шлях моладзі». У 1943 г. выдаў у акупаваным Мінску падручнік па гісторыі «Беларусь учора і сяння». З 1944 г. жыў у Польшчы пад прозвішчам *Александровіч*.

116. *Дануце Бічэль* (с. 136). *«Браткі»* — паэтычны зб. Д. Бічэль, выйшаў у 1979 г. *Кляўко Генадзь* (1932–1979) — паэт; быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». *Прокша Леанід* (1912–1994) — беларускі пісьменнік; выпускнік Ваенна-палітычнай акадэміі (1955), працаваў у часопісе «Камуніст Беларусі», рэдагаваў газету «Голас Радзімы», дзе друкаваў свае памфлеты пра дзеячаў беларускай эміграцыі. *А вершы з Брукселі ізноў прыйшлі…* — гаворка ідзе пра творы мастака і паэта *Міхася Саўкі*, які жыў у Брuселі і ліставаўся з Л. Геніюш.

119. *Дануце Бічэль* (с. 139). *Замскі Міхась* — журналіст, працаваў у рэдакцыі «ЛіМа». *І наша Норачка там успамінаецца…* — *Элеанора Вецер* (нар. 1933) — гісторык; працавала ў Дзяржаўным мастацкім музеі, потым у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. *Ярашэвіч Аляксандр* (нар. 1940) — фізік, выпускнік фізфака БДУ, даследчык сакральнага мастацтва; працаваў у Інстытуце ядзернай энергетыкі Акадэміі навук, у акадэмічным Музеі старажытнабеларускага мастацтва.

122. *Дануце Бічэль* (с. 141). *Хадыка Юры* (нар. 1938) — фізік, мастацтвазнавец, грамадскі і палітычны дзеяч, доктар фізіка-матэматычных навук. Адзін са стваральнікаў Музея старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук і грамадскага руху «Беларускі народны фронт». *Іра, яго жонка, мае многа гора…* — *Ірына Тукальская* (нар. 1933) — настаўніца, прыяцелька Л. Геніюш; выкладала фізічную культуру ў зэльвенскай СШ № 2. *Кавалёнак Уладзімір* (нар. 1942) — касманаўт, двойчы Герой Савецкага Саюза.

123. *Дануце Бічэль* (с. 143). *Упэўніла ў правільнасьці лячэньня др. Астапенкі…* — лекар *Уладзіслаў Астапенка* працаваў у мінскай клінічнай больніцы № 9, пазней быў міністрам аховы здароўя. *Казакова Рыма Фёдараўна* (1932–2007) — расійская паэтка, перакладчыца беларускай паэзіі. *«И дым Отечества нам сладок и приятен»* — радок расійскага паэта Гаўрылы Дзяржавіна, выкарыстаны Аляксандрам Грыбаедавым у камедыі «Гора ад розуму». *Паўлаў Уладзімір* (нар. 1935) — паэт і празаік, у 1979 г. загадчык рэдакцыі паэзіі выдавецтва «Мастацкая літаратура».

124. *Дануце Бічэль* (с. 144). *Сэнт-Экзюпэры Антуан дэ* (1900–1944) — французскі пісьменнік. *Я сяньня пад уражаньнем імправізацыі далёкага сябра…* — відаць, маецца на ўвазе мастак і паэт *Міхась Саўка*, які жыў у Брuселі. *Брэжнеў Леанід Ільіч* (1906–1982) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, чацвёрачы Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы; генеральны сакратар ЦК КПСС (1964–1982).

125. *Дануце Бічэль* (с. 145). *«Запалянкі»* — паэтычны зб. Д. Бічэль, выйшаў у 1967 г. *Пісаў сяньня Коля…* — маецца на ўвазе *Канаш Мікола* (1926–2006), сябра Саюза беларускай моладзі. У 1944 г., будучы навучэнцам Пастаўскай беларускай гімназіі, быў змабілізаваны ў савецкае войска, арыштаваны і высланы ў Інту, дзе застаўся жыць пасля вызвалення; на радзіму вярнуўся толькі ў 1973 г. *Чайка* — псеўданім Л. Геніюш, пад якім яна друкавалася ў газеце «Раніца» ў 1940 г.

126. *Дануце Бічэль* (с. 146). *Тут Лідка ўсё шукала…* — *Ліда Тукальская*, была замужам за стрыечным братам Янкі Геніша Язэпам Тукальскім (1925–1996). *Са слоўніка Некрашэвіча…* — маецца на ўвазе «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча, які выйшаў у 1925 г. *Талаш Васіль* (1844–1946) — удзельнік беларускага партызанскага руху, герой аповесці Якуба Коласа «Дрыгва». *Казько Віктар* (нар. 1940) — пісьменнік і публіцыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. *Лецечка Колька* — герой аповесці В. Казько «Суд у Слабадзе». *«Чужая Бацькаўшчына»* — раман Вячаслава Адамчыка.

127. *Дануце Бічэль* (с. 148). *«Суд у Слабадзе»* — аповесць Віктара Казько.

128. *Дануце Бічэль* (с. 148). *«Твор аб янычарах»* — верш у прозе Юркі Геніюша *«Янычары»* (гл. зб. «Маці і сын». — Беласток, 1992, с. 70). *«В минуту жизни трудную…»* — радок з верша Міхаіла Лермантава «Малітва».

129. *Міхаілу Кантаровічу* (с. 150). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 749). *Кантаровіч Міхаіл* (нар. 1945) — першы сакратар Зэльвенскага райкама КПБ (1979–1990). *Вярстак Анатоль* (нар. 1934) — старшыня выканкама Зэльвенскага пасялковага савета дэпутатаў (1971–1985). *Карпееў Анатоль* (нар. 1943) — на той час інструктар Зэльвенскага райкама, пазней намеснік старшыні Зэльвенскага райвыканкама.

131. *Васілю Любінскаму* (с. 151). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 749). *Любінскі Васіль* — начальнік Зэльвенскага ПМК (перасоўна-механізаванай калоны).

132. *Дануце Бічэль* (с. 152). *Аўрамчык Мікола* (нар. 1920) — беларускі паэт; у 1953–1980 гг. загадваў аддзелам паэзіі часопіса «Маладосць».

133. *Дануце Бічэль* (с. 153). *Абрамовіч Зыгмунт* (сцэнічны псеўданім *Антон Забель*; 1892–1988) — актор тэатра Ігната Буйніцкага; жыў у Злотаве (Польшча). *«Невад» заўсёды ў мяне пад рукою…»* — маецца на ўвазе паэтычны зб. Л. Геніюш *«Невадам з Нёмана»* (1967). *У тых «Залозках» Ты мяне не зразумела…* — гаворка ідзе пра паэму Л. Геніюш *«У вёсцы Залозкі над Нёманам»*.

134. *Дануце Бічэль* (с. 154). *Мацяш Ніна* (1943–2008) — беларуская паэтка і перакладчыца. *Грыбаедаў Аляксандр Сяргеевіч* (1795–1829) — расійскі паэт, драматург і дыпламат; загінуў у Персіі.

135. *Дануце Бічэль* (с. 156). *Фурс-Умпіровіч Аляксандра* — удзельніца студэнцкай падпольнай арганізацыі Саюз беларускіх патрыётаў (Пастаўская педнавучальня). У 1948 г. ваенным трыбуналам МУС была асуджаная на 25 гадоў няволі, у лягеры № 385/6 (Мардовія) пазнаёмілася з Л. Геніюш. Вызвалілася ў 1956 г., разам з мужам, сябрам СБП Антонам Фурсам, працяглы час жыла ў Казахстане, цяпер — у Паставах. *Які дзіўны верш таго сябра…* — маецца на ўвазе мастак і паэт Міхась Саўка, які жыў у Бруселі.

136. *Дануце Бічэль* (с. 157). *Андрусішын Багдан* (сцэнічнае імя *Данчык*; нар. 1958) — беларускі спявак і журналіст, нарадзіўся і жыў у Нью-Ёрку; цяпер — супрацоўнік радыё «Свабода».

137. *Дануце Бічэль* (с. 158). *Кант Імануіл* (1724–1804) — нямецкі філосаф. S*hocking* (англ.) — які шакуе. *Нейкі дагестанскі паэт, можа, Расул… — Гамзатаў Расул* (1923–2003), аварскі паэт, народны паэт Дагестана, Герой Сацыялістычнай Працы.

140. *Дануце Бічэль* (с. 161). *Новік-Пяюн Сяргей* (1906–1994) — паэт і кампазітар, прайшоў праз савецкія, польскія і нямецкія турмы. *Хвораст Янка* (1902–1983) — балетмайстар, збіральнік харэаграфічнага фальклору. *Ялоўчык Лідзія* (1911–1999) — пісьменніца, педагог. *Церашчатава Вольга* (1926–1992) — мастацтвазнавец, першы дырэктар Музея старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук Беларусі. *Адамовіч Алесь* (1926–1994) — празаік, кінадраматург, публіцыст і грамадскі дзеяч.

142. *Дануце Бічэль* (с. 163). *Броўка Пятрусь* (1905–1980) — народны паэт Беларусі (1962), акадэмік АН Беларусі, лаўрэат Сталінскай прэміі (1947), Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Быў старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі (1948–1967), галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» (1967–1980).

145. *Дануце Бічэль* (с. 165). *Купава Мікола* (нар. 1946) — беларускі мастак-графік і грамадскі дзеяч.

147. *Дануце Бічэль* (с. 166). *Як прайшоў вечар нашага супольнага сябра…* — маецца на ўвазе юбілейная вечарына *Аляксея Карпюка*.

151. *Дануце Бічэль* (с. 170). *Мікола, Ёрдан* — героі паэмы Л. Геніюш «З вёскі Залозкі над Нёманам». *Сахараў Андрэй Дзмітрыевіч* (1921–1989) — расійскі фізік і грамадскі дзеяч, тройчы Герой Сацыялістычнай Працы, Лаурэат Нобелеўскай прэміі міра. За публікацыю на Захадзе артыкула «Разважанні аб прагрэсе, мірным суіснаванні і інтэлектуальнай свабодзе» (1968) праследаваўся савецкімі ўладамі.

153. *Дануце Бічэль* (с. 172). *Рашэтнік Пётра* (1926–2008) — удзельнік беларускага незалежніцкага руху, сябра Саюза беларускай моладзі. У 1948 г. быў арыштаваны і асуджаны на 25 гадоў няволі; пасля вызвалення жыў у Баранавічах.

154. *Дануце Бічэль* (с. 173). *Кастэнка Ліна* (нар. 1930) — паэтка, класік украінскай літаратуры.

156. *Дануце Бічэль* (с. 174). *А хто гэта — Крукоўскія…* — маецца на ўвазе сям'я мастака-графіка *Уладзіміра Крукоўскага* (нар. 1937).

157. *Ірыне Ган* (с. 174). Друкуецца паводле тыднёвіка «Літаратура і мастацтва», 2003, 12 снежня, дзе апублікаваны ўпершыню. *Ган Ірына* (замужам *Войтка*; нар. 1961) — паэтка; настаўнічала на Зэльвеншчыне; цяпер працуе загадчыцай дзіцячага садка ў Слоніме. *Сокалаў-Воюш Сяргей* (нар. 1957) — паэт, празаік, бард.

158. *Дануце Бічэль* (с. 175). *Макаёнак Андрэй* (1920–1982) — драматург, народны пісьменнік Беларусі (1977). *Кузьмін Аляксандр* (1918–2003) — другі сакратар ЦК КПБ (1971–1986). *Матукоўскі Мікалай* (1929–2001) — драматург і публіцыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1988). *Цвірка Кастусь* (нар. 1934) — паэт, празаік, перакладчык, выдавец. *Кулакоўскі Аляксей* (1913–1986) — празаік; працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы.

159. *Зосьцы Верас* (с. 176). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва З. Верас (БДАМЛіМ, ф. 318, воп. 1, спр. 47). *Гайдук Мікола* (1933–1998) — пісьменнік; працаваў намеснікам галоўнага рэдактара тыднёвіка «Ніва» (Беласток).

160. *Дануце Бічэль* (с. 177). *Семяжон Язэп* (1914–1990) — беларускі перакладчык. *Піша толькі сябра Ігар — за сябе і за мілую Лілю…* — *Ігар Чарняўскі* (нар. 1955) — беларускі гісторык і археолаг; з 1991 г. — намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў Беларусі. *Ліля Чарняўская* (з *Гілевічаў*; нар. 1959) — жонка І. Чарняўскага, супрацоўнік «Белінфармарэстаўрацыі».

161. *Дануце Бічэль* (с. 178). *Адзін айцец Васілій часам возіць мяне на сёлы…* — *Чыкіда Васіль* (1938–2000) — святар, настаяцель зэльвенскай Свята-Троіцкай царквы.

163. *Дануце Бічэль* (с. 180). *Яўсееў Рыгор* (1942–2005) — беларускі паэт, супрацоўнік выдавецтва «Мастацкая літаратура». *Чаму яны не на «Ленінскіх гарах»…* — маецца на ўвазе: чаму яны вучацца не ў Маскве?

164. *Дануце Бічэль* (с. 180). *Трыгубовіч Валянціна* (нар. 1947) — журналістка і грамадская дзяячка, у 1970–1983 гг. супрацоўніца газеты «Голас Радзімы».

166. *Валянціне Трыгубовіч* (с. 182). Усе апублікаваныя ў альманаху лісты Л. Геніюш, адрасаваныя В. Трыгубовіч, друкуюцца ўпершыню паводле копіяў аўтографаў, перададзеных

укладальніку. *Максімава Эльза* — фізік, выпускніца Ленінградскага політэхнічнага інстытута, даследчык беларускага сакральнага мастацтва; працавала ў Музеі старажытнабеларускага мастацтва Акадэміі навук. *Фурс Ганна* — супрацоўніца Беларускага тэлебачання. *Серж* — сын В. Трыгубовіч.

169. *Дануце Бічэль* (с. 184). *«Баравікі»* — верш Л. Геніюш.

172. *Дануце Бічэль* (с. 187). Брат паэткі *Расціслаў Міклашэвіч* (1918–1945) загінуў на фронце і пахаваны ў братняй магіле ў Амальенфэльдзе паблізу г. Барнім (Нямеччына). Брат паэткі *Аркадзь Міклашэвіч* (1921–1944) загінуў на фронце, пахаваны ў братняй магіле ў г. Ларэта паблізу Рыма.

173. *Дануце Бічэль* (с. 188). *Жырава* (*Жыровічы*) — вёска ў Слонімскім раёне, дзе размешчаныя праваслаўны манастыр і Мінская духоўная семінарыя.

174. *Дануце Бічэль* (с. 188). *Карамазаў Віктар* (нар. 1934) — пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Кастуся Каліноўскага (1992). *Трусаў Ігар* (нар. 1956) — гісторык і культуролаг; працаваў у Рэспубліканскім музеі гісторыі рэлігіі (Гродна).

175. *Дануце Бічэль* (с. 189). *«Харошкі»* — дзяржаўны харэаграфічны ансамбль.

176. *Валянціне Трыгубовіч* (с. 190). *Яначка* — сын В. Трыгубовіч. *Мазго Уладзімір* (нар. 1959) — паэт; нарадзіўся ў Зэльве, жыў у суседнім з Геніюшамі доме.

177. *Дануце Бічэль* (с. 191). *Каго бярэ мой слаўны Дубенец…* — маецца на ўвазе мастак *Уладзімір Кіслы* (нар. 1957), родам з вёскі Дубна Мастоўскага раёна.

179. *Валянціне Трыгубовіч* (с. 192). *Спок Бенджамін Маклейн* (1903–1998) — амерыканскі педыятр і педагог.

181. *Дануце Бічэль* (с. 194). *Лялько Хрысціна* (нар. 1956) — беларуская пісьменніца, рэдактарка часопіса «Наша вера». *Львовіч Мая* (нар. 1933) — беларуская і ўкраінская паэтка; жыве ў Харкаве.

183. *Дануце Бічэль* (с. 195). *Пару вершаў Алесю Жуку я паслала… — А. Жук* на той час быў галоўным рэдактарам тыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

185.*Сям'і Пятра Машэрава* (с. 196). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 238).

## **І ДУХУ МАГУТНЫЯ ЧАРЫ…**
## УСПАМІНЫ ПРА ЛАРЫСУ ГЕНІЮШ

*Алесь Белакоз. Гэта быў род волатаў* (с. 199). Упершыню — «Беларускі гістарычны часопіс», 2003, № 6. *Белакоз Алесь* (нар. 1928) — краязнавец, музеязнавец, педагог. Пасля заканчэння Гродзенскага педагагічнага інстытута (1958) працаваў у Гудзевіцкай СШ на Мастоўшчыне, дзе ў 1965 г. заснаваў літаратурна-краязнаўчы музей, быў яго першым дырэктарам. Аўтар кнігі «Каб жыла Беларусь» (2003). Жыве ў Гудзевічах.

*Масей Сяднёў. Сустрэчы ў Менску і Празе* (с. 205). Упершыню ў кн.: Сяднёў М. Масеева кніга: успаміны, старонкі дзённіка, эсэ. — Мінск, 1994. *Сяднёў Масей* (1915–2001) — паэт, празаік, перакладчык. Студэнтам Мінскага педагагічнага інстытута ў 1936 г. быў арыштаваны, пяць гадоў адбыў у ГУЛАГу. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у ЗША, працаваў у Індыянскім універсітэце, на радыё «Свабода». Аўтар кніг «Ля ціхай брамы» (1955),«І той дзень надышоў» (1987), «А часу больш, чым вечнасць» (1989) ды інш. Жыў у г. Глен-Коў (ЗША).

*Пятро Рашэтнік. Праз шахту — да Ларысы Геніюш* (с. 208). Упершыню — газ. «Наша Ніва», 2000, 7 лютага. *Рашэтнік Пётра* (1926–2008) — удзельнік беларускага незалежніцкага руху, сябра Саюза беларускай моладзі. У 1948 г. быў арыштаваны і асуджаны на 25 гадоў няволі; пасля вызвалення ў 1956 г. жыў у Баранавічах.

*Аляксандра Фурс. Трагічны і светлы лёс* (с. 210). Упершыню — газ. «Наша слова», 1995, № 33–34. *Фурс-Умпіровіч Аляксандра* — удзельніца студэнцкай падпольнай арганізацыі Саюз беларускіх патрыётаў (Пастаўская педнавучальня). У 1948 г. ваенным трыбуналам МУС была асуджаная на 25 гадоў няволі, у лагеры № 385/6 (Мардовія) пазнаёмілася з Л. Геніюш. Вызвалілася ў 1956 г., разам з мужам, сябрам СБП Антонам Фурсам, працяглы час жыла ў Казахстане, цяпер — у Паставах.

*Васіль Супрун. Верныя «ксівы»* (с. 212). Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1989, 3 лютага. *Супрун Васіль* (1926–2007) — паэт, краязнавец, археолаг. Пасля заканчэння Мінскага педагагічнага інстытута (1969) настаўнічаў на Слонімшчыне. У 1947 г. быў арыштаваны за прыналежнасць да антысавецкай арганізацыі «Чайка», адбываў зняволенне ў Варкуце і Інце; пасля вызвалення жыў у Слоніме. Аўтар кніг «Жыць для Беларусі» (1998), «За смугою часу» (1994), «Дзеі над Шчарай» (2000) ды інш.

*Паўліна Мядзёлка. Тры сцежкі Ларысы Геніюш* (с. 215). Упершыню — час. «Полымя», 1993, № 5. *Мядзёлка Паўліна* (1893–1974) — педагог, тэатральная акторка. Удзельніца Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, арганізатарка драматычных гурткоў у Гродне, Дзвінску, Горках, Будславе. Аўтарка кнігі ўспамінаў «Сцежкамі жыцця» (1974). Жыла ў Будславе.

*Валянціна Коўтун. «З рабра наднямонскіх вярбін…»* (с. 220). Друкуецца ўпершыню; успаміны напісаны адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Коўтун Валянціна* (нар. 1946) — паэтка, празаік, перакладчыца. Вучылася ў Львоўскім і Беларускім дзяржаўным універсітэтах. Настаўнічала, працавала ў выдавецтве «Юнацтва», рэдакцыі часопіса «Полымя». Аўтарка кніг «На ўзлёце дня» (1977), «Метраном» (1985), «Крыж міласэрнасці» (1988) ды інш. Жыве ў Мінску.

*Сяргей Панізнік. «І будзьце сынам…»* (с. 224). Друкуецца ўпершыню; успаміны напісаны адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Панізнік Сяргей* (нар. 1942) — паэт, перакладчык. Пасля заканчэння Львоўскай ваенна-палітычнай навучальні служыў у Савецкай Арміі, адкуль быў звольнены за «антысавецкую дзейнасць». Працаваў у рэдакцыі газеты «Вячэрні Мінск», у выдавецтве «Юнацтва», у Літаратурным музеі Я. Купалы. Аўтар кніг «Кастры Купалля» (1967), «Стырно» (1989), «Сустрэча роднасных сусветаў» (1997) ды інш. Жыве ў Мінску.

*Данута Бічэль. Пілігрымкі ў Зэльву* (с. 229). Упершыню ў кн.: Бічэль Д. Хадзі на мой голас. Гродна — Уроцлаў, 2008. *Бічэль Данута* (нар. 1937) — паэтка, празаік, перакладчыца. Закончыла Гродзенскі педагагічны інстытут (1962). Настаўнічала, працавала дырэктарам Музея М. Багдановіча ў Гродне. Аўтарка кніг «Дзе ходзяць басаном» (1983, Дзяржаўная прэмія Беларусі), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990) ды інш. Жыве ў Гродне.

*Алесь Траяноўскі. Цвілі юргіні каля хаты* (с. 236). Упершыню ў кн.: Траяноўскі А. Дні як лукі: вершы, успаміны, пераклады. Мінск, 2006. *Траяноўскі Алесь* (1925–2005) — журналіст, паэт і перакладчык. Удзельнік Другой сусветнай вайны. Закончыў (завочна) Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут (1959), працаваў у рэдакцыях газеты «Звязда», часопіса «Мастацтва Беларусі». Укладальнік і перакладчык паэтычных анталогій «Там, дзе Шпрэвя шуміць» (з сербалужыцкай, 1969), «За даляглядам край Сталемаў» (з кашубскай; 1980), «Імем няўмольным Свабоды» (з украінскай; 2002). Жыў у Мінску.

*Зянон Пазняк. Там, далёка, дзе спачывае душа* (с. 241). Упершыню — час. «Беларускія ведамасці», 2000, № 5. *Пазняк Зянон* (нар. 1944) — палітык, мастацтвазнавец, паэт. Закончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1967). Працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, адкуль быў звольнены за «нацыяналістычную дзейнасць», у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускага народнага фронту «Адраджэнне», лідэр апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. У 1996 г. быў вымушаны з’ехаць за мяжу; жыве ў Варшаве. Аўтар кніг «Рэха даўняга часу» (1985), «Курапаты» (1994), «Глёрыя Патрыя» (2000) ды інш.

*Юрка Голуб. «Усё павінна быць шляхотна…»* (с. 243). Друкуецца ўпершыню; успаміны напісаны адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Голуб Юрка* (нар. 1947) — паэт, перакладчык. Пасля заканчэння філфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970) працаваў на Гродзенскай абласной студыі тэлебачання, у рэдакцыі газеты «Гродненская правда». Аўтар кніг «Гром на зялёнае голле» (1969), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджом» (2001) ды інш. Жыве ў Гродне.

*Уладзімір Мазго. Лісты вечнага дрэва* (с. 245). Упершыню — газ. «Праца», 1994, 9 жніўня. *Мазго Уладзімір* (нар. 1959) — паэт, перакладчык. Пасля заканчэння філфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1985) працаваў на Беларускім тэлебачанні, у выдавецтве «Юнацтва», у рэдакцыі часопіса «Вясёлка», цяпер — у рэдакцыі часопіса «Полымя». Аўтар кніг «Пад спеў крыніц» (1982), «Суседзі па Сусвеце» (1994), «Анёл нябесны» (2007) ды інш. Жыве ў Мінску.

*Вячка Целеш. Гісторыя аднаго партрэта* (с. 248). Друкуецца ўпершыню; успаміны напісаны адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Целеш Вячка* (нар. 1938) — мастак, краязнавец, філакартыст. Закончыў Латвійскую акадэмію мастацтваў (1975), працаваў у Рызе выкладчыкам, быў дырэктарам тамтэйшай беларускай школы. Старшыня мастацкай суполкі «Маю гонар». Аўтар-укладальнік альбомаў «Мінск на старых паштоўках» (1984), «Рыга на старых паштоўках» (1991), «Гарады Беларусі на старых паштоўках» (2001). Жыве ў Рызе.

*Мікола Купава. Экслібрыс з касцёлам* (с. 251). Друкуецца ўпершыню; успаміны напісаны адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Купава Мікола* (нар. 1946) — мастак. Пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (1976) працаваў у Мінскай мастацкай навучальні, у рэдакцыі часопіса «Маладосць». Адзін з арганізатараў суполкі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў. Жыве ў Мінску.

*Аляксей Галаскок. Побач з Бібліяй* (с. 253). Друкуецца ўпершыню; успаміны напісаны адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Галаскок Аляксей* (нар. 1949) — вайсковец, падпалкоўнік у адстаўцы. Аўтар паэтычных кніг «Я шчаслівы», «Суд над сарокай» ды інш. Жыве ў Ганцавічах.

*Алесь Белакоз. Падвойныя дываны* (с. 254). Упершыню ў кн.: Белакоз А. Каб жыла Беларусь (2003).

*Аляксей Марачкін. Пакутніца і святая* (с. 257). Друкуецца ўпершыню; успаміны напісаны адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Марачкін Аляксей* (нар. 1940) — мастак. Закончыў мастацка-графічнае аддзяленне Віцебскага педагагічнага інстытута і аддзяленне жывапісу Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Настаўнічаў у школе, выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў. Адзін з арганізатараў і першы кіраўнік суполкі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў. Жыве ў Мінску.

*Валерый Палікарпаў. І духу магутныя чары…* (с. 259). Друкуецца ўпершыню; успаміны напісаны адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Палікарпаў Валерый* (нар. 1941) — музейны работнік і бібліяфіл; жыве ў Баранавічах.

*Міхась Генюш: «З бабуляй я ліставаўся да апошніх яе дзён»* (с. 261). Інтэрв'ю прагучала ў перадачы «Вольная студыя» радыё «Свабода» 21 лютага 2010 г. *Генюш Міхась* (нар. 1959) — унук Л. Генюш, па прафесіі лекар-ветэрынар. Жыве ў Беластоку.

*Ірына Ган. «Калі зернем нальецца калоссе…»* (с. 265). Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 2003, 12 снежня. *Ган Ірына* (замужам *Войтка*; нар. 1961) — паэтка. Пасля заканчэння філфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1984) настаўнічала на Зэльвеншчыне, цяпер — загадчыца дзіцячага садка. Аўтарка кнігі «Спасціжэнне» (2003). Жыве ў Слоніме.

*Алесь Жук. Адна ў белай хаце* (с. 267). Упершыню — газ. «Новы час», 2007, 31 снежня. *Жук Алесь* (нар. 1947) — празаік, перакладчык. Пасля заканчэння філфака Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсітэта (1970) працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», у апараце ЦК КПБ, галоўным рэдактарам тыднёвіка «Літаратура і мастацтва», часопіса «Нёман». Аўтар кніг «Паляванне на апошняга жураўля» (1982), «Праклятая любоў» (1991), «Вечаровае сонца» (2006) ды інш.

*Міхась Чарняўскі. Вандроўкі да Ларысы Генюш* (с. 269). Друкуецца ўпершыню; успаміны напісаны адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Чарняўскі Міхась* (нар. 1938) — археолаг, пісьменнік. Закончыў Мінскі педагагічны інстытут (1960). Працаваў у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Беларусі, цяпер выкладае ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Доктар гістарычных навук. Аўтар кніг «Страла Расамахі» (1985), «Правадыр крылатых вершнікаў: Ян Кароль Хадкевіч» (1998), «Як пошуг маланкі: Расціслаў Лапіцкі» (2008). Жыве ў Мінску.

*Міхась Вераціла. Як пісалася «Споведзь»* (с. 276). Упершыню — час. «Маладосць», 1999, № 9. *Вераціла Міхась* (нар. 1937) — калекцыянер, краязнавец, паэт і мастак. Аўтар кнігі «Спакуса» (1993). Жыве ў пасёлку Краснасельскі на Ваўкавышчыне.

*Максім Танк. З дзённікаў* (с. 283). Друкуецца паводле газ. «Ніва», 1996, 10 лістапада. *Танк Максім* (сапр. *Яўген Скурко*; 1912–1995) — паэт, перакладчык, публіцыст. Узначальваў Саюз пісьменнікаў Беларусі, быў старшынёй Вярхоўнага Савета БССР. Народны паэт Беларусі (1968), Герой Сацыялістычнай Працы (1974), лаўрэат Ленінскай прэміі (1978) і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1966). Аўтар кніг «На этапах» (1936), «Лісткі календара» (1970), «Збор калосся» (1989) ды інш. Жыў у Мінску.

*Аляксей Пяткевіч. Паэтка з трагічнай легенды* (с. 285). Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2005, № 14. *Пяткевіч Аляксей* (нар. 1931) — літаратуразнавец, краязнавец. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1954) працуе на кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. Аўтар кніг «Літаратурная Гарадзеншчына» (1996), «Людзі культуры Гарадзеншчыны» (2000), «Маршруты кніжнага слова» (2002) ды інш. Жыве ў Гродне.

*Здзіслаў Сіцька. Куфар застаўся няпоўным…* (с. 292). Друкуецца ўпершыню; успаміны напісаны адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Сіцька Здзіслаў* (нар. 1934) — гісторык, журналіст. Закончыў журфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм», у Дзяржаўным камітэце Беларусі па кінематаграфіі, у рэдакцыі газеты «Наша слова». Аўтар кніг «Чалавек, які збіраў камяні: Ігнат Дамейка» (2005), «Утроп Літвы» (2009). Жыве ў Мінску.

*Уладзімір Арлоў. Апэрацыя «Прусакі»* (с. 296). Упершыню — газ. «Пагоня», 2001, 18 студзеня. *Арлоў Уладзімір* (нар. 1953) — празаік, паэт. Пасля заканчэння гістфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1975) працаваў настаўнікам, журналістам, рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура». Аўтар кніг «Добры дзень, мая Шыпшына» (1986), «Дзень, калі ўпала страла» (1988), «Там, за дзвярыма» (1991) ды інш. Жыве ў Мінску.

*Вольга Іпатава. Не выкрасліць з гісторыі…* (с. 298). Упершыню — газ. «Культура», 1993, 3 жніўня. *Іпатава Вольга* (нар. 1945) — празаік, паэтка, перакладчыца. Закончыла філфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1967). Настаўнічала, працавала ў апараце Гродзенскага гаркама камсамола, на Беларускім тэлебачанні, галоўным рэдактарам тыднёвіка «Культура». Узначальвала Саюз пісьменнікаў. Аўтарка кніг «За морам Хвалынскім» (1989), «Альгердава дзіда» (2002), «Знак Вялікага Магістра» (2009) ды інш.

*Пятро Рашэтнік. Архівы і помнік* (с. 302). Упершыню — газ. «Наша Ніва», 2000, 7 лютага.

*Адам Мальдзіс. Далікатнае заданне* (с. 304). Друкуецца ўпершыню; успаміны напісаны адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Мальдзіс Адам* (нар. 1932) — культуролаг, літаратуразнавец, празаік. Доктар філалагічных навук (1987), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1980). Закончыў філфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1956). Працаваў у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі, быў дырэктарам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Аўтар кніг «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя» (1982), «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча» (1990), «Белорусские сокровища за рубежом» (2009) ды інш. Жыве ў Мінску.

*Рыгор Барадулін. Унучка Францішка Скарыны, альбо Зэк 0-287* (с. 310). Упершыню — часопіс «Беларусь», 1992, № 9. *Барадулін Рыгор* (нар. 1935) — паэт, перакладчык, эсэіст. Выпускнік філфака БДУ. Працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», узначальваў Беларускі ПЭН-Цэнтр. Народны паэт Беларусі. Аўтар кніг «Вечалле» (1980), «Евангелле ад Мамы» (1995), «Халодная памяць вады» (2010) ды інш.

*Валянціна Трыгубовіч. «Працягваю гутарыць зь сябрамі…»* (с. 313). Друкуецца ўпершыню; успаміны напісаны адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Трыгубовіч Валянціна* (нар. 1947) — мастацтвазнаўца, журналістка, грамадская дзеячка; у 1970–1983 гг. супрацоўніца газеты «Голас Радзімы». Уваходзіла ў сойм Беларускага народнага фронту, узначальвала Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Беларуская перспектыва».

## «ТАКІХ ЛЮДЗЕЙ БОГ СЕЕ НЯЧАСТА…»
## ЛІСТЫ ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

1. *Пятро Геніуш — Ларысе Геніюш* (с. 319). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 337). *Пятро Станіслававіч Геніюш* (?—1952) — свёкар Л. Геніюш, бацька Янкі Геніюша.

2. *Вучка Драга — Ларысе Геніюш* (с. 319). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 320). Асобу *Вучкі Драгі* ўкладальніку высветліць не ўдалося. Магчыма, гэта адна са шматлікіх югаславак, якія трапілі ў савецкія канцлагеры пасля Другой сусветнай вайны. *Святаполк-Мірскі Васіль* (1905–1974) быў арыштаваны савецкімі спецслужбамі ў Вене ў 1945 г., самалётам дастаўлены ў Маскву, правёў год у вязніцах Ляфортава і на Лубянцы, атрымаў 20 гадоў лагераў. У Пячорлагу сустракаўся з Л. Геніюш. Пасля вызвалення ў 1955-м выехаў у Нямеччыну і першым зняпраўдзіў інфармацыю, быццам паэтка загінула ў ГУЛАГу.

3. *Аляксей Карпюк — Ларысе Геніюш* (с. 320). Усе змешчаныя ў альманаху лісты А. Карпюка друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 408).

4. *Аляксей Карпюк — Ларысе Геніюш* (с. 320). *Васілёк Міхась* (сапр. *Касцевіч*; 1905–1960) — беларускі паэт. Падчас Другой сусветнай вайны жыў на акупаванай тэрыторыі, падпольна ўдзельнічаў у антыфашысцкім руху.

5. *Аляксей Карпюк — Ларысе Геніюш* (с. 321). *Колас Андрэй* — тагачасны рэдактар газ. «Гродненская правда»; пазней пераехаў у Мінск, рэдагаваў «Сельскую газету».

6. *Алег Лойка — Ларысе Геніюш* (с. 321). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 452). *Лойка Павел* (нар. 1958) — гісторык, выкладчык БДУ. *Лойка Антаніна* (замужам *Шалемава*; нар. 1953) — літаратуразнавец, выкладала ў БДУ, цяпер — у Расійскім універсітэце дружбы народаў.

7. *Тодар Лебяда — Ларысе Геніюш* (с. 322). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 328). *Тодар Лебяда (*сапр. *Пятро Шырокаў*; 1914–1970) — беларускі паэт і драматург. Падчас Другой сусветнай вайны жыў у Віцебску, рэдагаваў газету «Беларускае слова». У 1947 г. быў асуджаны савецкім ваенным трыбуналам на 25 гадоў няволі; вызваліўся ў 1956 г. *Астроўскі Юрый* (1925–1992) — беларускі біяхімік, акадэмік НАН Беларусі; з 1959 г. працаваў у Гродзенскім медінстытуце, з 1985 г. ачольваў Інстытут біяхіміі.

8. *Аляксей Карпюк — Ларысе Геніюш* (с. 322). *Карпюк Іна* (1929–2009) — педагог, жонка А. Карпюка; настаўнічала ў гродзенскай СШ № 12, выкладала на кафедры педагогікі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. *«Раніца»* — беларуская газета, якая выдавалася ў Берліне (1939–1945); на яе старонках 28 красавіка 1940 г. адбыўся літаратурны дэбют Л. Геніюш.

9. *Аляксей Карпюк — Ларысе Геніюш* (с. 324). *«Василий Тёркин на том свете»* — паэма Аляксандра Твардоўскага. *Слуцкі Барыс Абрамавіч* (1919–1986) — расійскі паэт. *Пастарнак Барыс Леанідавіч* (1890–1960) — расійскі паэт і празаік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі.

10. *Мікола Прашковіч — Ларысе Геніюш* (с. 324). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 535). *Прашковіч Мікола* (1932–1983) — літаратуразнавец, крытык, перакладчык. Кандыдат філалогіі (1965). У 1974 г. быў звольнены з Інстытута літаратуры Акадэміі навук па абвінавачванні ў беларускім нацыяналізме. *«Людзі на балоце»* — раман Івана Мележа. *Стральцоў Міхась* (1937–1987) — паэт, празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (пасмяротна). *Сачанка Барыс* (1936–1995) — празаік, публіцыст, даследчык літаратуры. *Чыгрынаў Іван* (1934–1996) — празаік, народны пісьменнік Беларусі (1994).

11. *Уладзімір Караткевіч — Ларысе Геніюш* (с. 325). Усе змешчаныя ў альманаху лісты У. Караткевіча да Л. Геніюш друкуюцца паводле час. «Дзеяслоў», 2004, № 13, дзе апублікаваны ўпершыню. Аўтографы зберагаюцца ў архіве Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 405). *Яны абодва сапраўдныя…* — маюцца на ўвазе *Янка Брыль* і *Уладзімір Калеснік*; пісьменнікі ўтрох 20 чэрвеня 1963 г. заязджалі да Л. Геніюш у Зэльву падчас падарожжа па Заходняй Беларусі. *Давыд Гарадзенскі* (каля 1283–1326) — палкаводзец і дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, староста гарадзенскі. *«Неіснуючаму»* (дакладная назва — *«Неіснуючы»*) — верш Л. Геніюш, пазней друкаваўся без назвы *(«З каменьчыкаў імя не выкладаю…»)*.

12. *Васіль Быкаў — Ларысе Геніюш* (с. 326). Усе змешчаныя ў альманаху лісты В. Быкава да Л. Геніюш друкуюцца паводле час. «Дзеяслоў», 2004, № 9, дзе апублікаваны ўпершыню. Аўтографы зберагаюцца ў архіве Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 299). *Ткачоў Мікола* (1918–1979) — празаік; працаваў у апараце Саюза пісьменнікаў, узначальваў выдавецтва «Мастацкая літаратура». *Бураўкін Генадзь* (нар. 1936) — паэт, грамадскі і дзяржаўны дзеяч; узначальваў Дзяржаўны камітэт па тэлебачанні і радыёвяшчанні, быў спецыяльным прадстаўніком Беларусі пры ААН.

13. *Васіль Быкаў — Ларысе Геніюш* (с. 327). *Ці чыталі Вы новы раман А. Адамовіча…* — маецца на ўвазе раман *«Сыновья уходят в бой»* («Дружба народов», 1963, № 7–8).

14. *Васіль Быкаў — Ларысе Геніюш* (с. 327). *Прышлеце што з лірыкі для газеты…* — В. Быкаў на той час працаваў у рэдакцыі «Гродненской правды».

15. *Васіль Быкаў — Ларысе Геніюш* (с. 328). *Збіраецца прыехаць у Гродна адзін мой сябра з Балгарыі…* — відаць, пісьменнік і перакладчык *Найдан Вылчаў Станеў* (нар. 1927). *Лынькоў Міхась* (1899–1975) — празаік і грамадскі дзеяч, народны пісьменнік Беларусі (1962).

16. *Юльян Сергіевіч — Ларысе Геніюш* (с. 329). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 559). *Сергіевіч Юльян* (1910–1976) — самадзейны мастак і паэт, які пачынаў друкавацца разам з Л. Геніюш на старонках берлінскай газеты «Раніца» ў 1940–1943 гг. Жыў у вёсцы Ленкаўшчына Маладзечанскага раёна. *Ярэміч Фабіян* (1891–1958) — грамадскі і палітычны дзеяч, віцэ-старшыня Беларускага пасольскага клуба ў польскім Сейме. Падчас Другой сусветнай вайны быў бургамістрам Барысава, за што быў асуджаны; пасля вызвалення жыў у Вільні. *Луцкевіч Антон* (1884–1942) — палітычны і грамадскі дзеяч, гісторык і літаратурны крытык. *Луцкевіч Лявон* (1922–1997) — малодшы сын Антона Луцкевіча; каля дзесяці гадоў правёў у ГУЛАГу. *Луцкевіч Юрка* (1920–1992) — старэйшы сын Антона Луцкевіча, па прафесіі электратэхнік. *Хурсік Сымон* (1902–1972) — празаік, вязень ГУЛАГа; пасля Другой сусветнай вайны жыў у Казахстане. *Чарот Міхась* (сапр. *Кудзелька*; 1896–1937) — паэт, драматург, грамадскі дзеяч; быў асуджаны за «нацдэмаўскую дзейнасць» і расстраляны. *Бакач Пётра* (1910—?) — грамадска-культурны дзеяч, выпускнік Карлавага ўніверсітэта, аўтар падручніка нямецкай мовы для беларусаў (выд. у 1941 г.). Сябра Беларускай Цэнтральнай Рады. У 1945 г. арыштаваны савецкімі органамі дзяржбяспекі; далейшы лёс невядомы.

17. *Уладзімір Караткевіч — Ларысе Геніюш* (с. 331). *Някрасаў Віктар Платонавіч* (1911–1987) — расійскі пісьменнік. *Эрэнбург Ілья Рыгоравіч* (1891–1967) — расійскі пісьменнік і грамадскі дзеяч. *Матузаў Захар* — тагачасны дырэктар выдавецтва «Беларусь». *Хадкевіч Тарас* (1912–1975) — празаік; працаваў у апараце Саюза пісьменнікаў Беларусі. *Паслядовіч Макар* (1906–1984) — празаік; У. Караткевіч, відаць, мае на ўвазе ягоны памфлет «Як распалася наша суполка» («Літаратура і мастацтва», 1963, 9 красавіка). *Набор «Леанідаў» рассыпалі…* — маецца на ўвазе раман У. Караткевіча «*Леаніды не вернуцца да зямлі»*; выйшаў толькі ў 1982 г. пад назвай *«Нельга забыць»*. *Дыяклетыян* — старажытнарымскі імператар, пераследаваў хрысціянаў.

18. *Васіль Быкаў — Ларысе Геніюш* (с. 334). *Засім Мікола* (1908–1957) — заходнебеларускі паэт. *Салагуб Алесь* (1906–1934) — паэт; нелегальна перайшоў мяжу з Заходняй Беларусі ў БССР і быў расстраляны як «польскі шпіён».

19. *Васіль Быкаў — Ларысе Геніюш* (с. 335). *Злобін Сцяпан Паўлавіч* (1903–1965) — расійскі пісьменнік. *Асіпенка Алесь* (1919–1994) — празаік. *Кафка Франц* (1883–1924) — аўстрыйскі пісьменнік.

20. *Васіль Быкаў — Ларысе Геніюш* (с. 336). *Дзякую і за добрыя словы аб Іване…* — маецца на ўвазе *Іван Цярэшка*, герой аповесці «Альпійская балада». *Георгій-братушка з Сафіі…* — балгарскі літаратуразнаўца *Георгій Вылчаў*.

21. *Уладзімір Караткевіч — Ларысе Геніюш* (с. 336). *Рэжысёрскі сцэнарый па майму «Сонцу»…* — мастацкі фільм *«Гневное солнце палящее»* так і не быў зняты. *Ром Міхаіл Ільіч* (1901–1971) — расійскі кінарэжысёр, народны артыст СССР (1950). *Баршчэўскі Ян* (1796–1851) — беларуска-польскі пісьменнік, аўтар вядомай кнігі «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (1844–1846). *Гофман Эрнст Тэадор Амадэй* (1776–1822) — нямецкі пісьменнік, кампазітар і мастак. *Дзяржавін Гаўрыла Раманавіч* (1743–1816) — расійскі паэт і дзяржаўны дзеяч.

22. *Васіль Быкаў — Ларысе Геніюш* (с. 338). *Герцовіч Якаў* (1909–1976) — літаратурны крытык.

23. *Васіль Быкаў — Ларысе Геніюш* (с. 339). *Мы тут з Аляксеем [Карпюком] гутарылі наконт той аднаактоўкі ў «Вожыку»…* — гаворка ідзе пра п'есу Л. Прокшы *«На задворках»* («Вожык», 1964, № 6), дзе абразліва гаворыцца пра беларускую эміграцыю.

25. *Уладзімір Караткевіч — Ларысе Геніюш* (с. 341). *Пташнікаў Іван* (нар. 1932) — празаік, на той час — загадчык аддзела прозы часопіса «Полымя».

26. *Уладзімір Караткевіч — Ларысе Геніюш* (с. 343). *ВОКС* — Всесоюзное общество культурной связи с заграницей.

27. *Уладзімір Караткевіч — Ларысе Геніюш* (с. 344). *Стрыйкоўскі Мацей* (1547 — каля 1590) — польскі гісторык, храніст і паэт. *Жыгімонт І Стары* (1467–1548) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага і кароль Польшчы, пры якім быў уведзены ў дзеянне Статут ВКЛ.

29. *Уладзімір Караткевіч — Ларысе Геніюш* (с. 346). *У адпаведнасці з заўвагамі Лужаніна…* — Максім Лужанін пісаў выдавецкую рэцэнзію на рукапіс рамана «Каласы пад сярпом тваім» (гл.: Лужанін М. Трое: аповесці, апавяданні, эсэ. — Мінск, 1989). *Gente albarutenus, natione polonus* (лац.) — родам беларус, нацыянальнасцю паляк.

30. *Уладзімір Караткевіч — Ларысе Геніюш* (с. 347). *Гус Ян* (1371–1415) — чэшскі мысляр і пісьменнік, нацыянальны герой Чэхіі; быў спалены на вогнішчы ў Канстанцы як ерэтык паводле рашэння царкоўнага сабору.

31. *Аляксей Карпюк — Ларысе Геніюш* (с. 348). *Glowe do gury!* (польск.) — галаву ўгору!

32. *Уладзімір Караткевіч — Ларысе Геніюш* (с. 342). *Эпімах-Шыпіла Браніслаў* (1859–1934) — мовазнавец, даследчык літаратуры, правадзейны сябра Інбелкульта.

33. *Аляксей Карпюк — Ларысе Геніюш* (с. 349). *Аляксандр Ульяновіч* — на той час трэці сакратар Гродзенскага абкама КПБ.

34. *Уладзімір Караткевіч — Ларысе Геніюш* (с. 350). *Кірыла Тураўскі* (каля 1113 — пасля 1190) — беларускі багаслоў і пісьменнік. *Кот Мур* — галоўны персанаж рамана Э. Т. Гофмана «Жыццёвыя перакананні Ката Мура». *«Чарапаху» сваю, на жаль, згубіў…* — верш У. Караткевіча *«Бахайская чарапаха»*.

35. *Максім Танк — Ларысе Геніюш* (с. 352). Усе змешчаныя ў альманаху лісты М. Танка друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 580).

38. *Максім Танк — Ларысе Геніюш* (с. 353). *Канавалаў Рыгор* (1912–1979) — старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў па друку (1963–1973).

41. *Аляксей Карпюк — Ларысе Геніюш* (с. 355). *Кандрат Крапіва* (сапр. *Атраховіч*; 1896–1991) — байкапісец, драматург, народны пісьменнік Беларусі (1956).

43. *Васіль Быкаў — Ларысе Геніюш* (с. 355). *Валянцін Чэкін* — гродзенскі паэт і перакладчык; свае пераклады дасылаў на аўтарызацыю Л. Геніюш. Яе адказ гл.: Геніюш Л. Каб вы ведалі: з эпісталярнай спадчыны (1945–1983). — Мінск, 2005, с. 182. *Міцкевіч Уладзімір* (1920—?) — на той час першы сакратар Гродзенскага абкама КПБ.

44. *Максім Танк — Ларысе Геніюш* (с. 356). *Dorecznosciowe* (польск.) — прынагоднае. *Дзякую… за цікавую кнігу Яна Віткевіча…* — магчыма, маецца на ўвазе *Ян Віткевіч* (1808–

1839) — падарожнік і дыпламат; сябраваў з філаматам Тамашом Занам. *В. Склубоўскі* — студэнт Віленскага ўніверсітэта, быў афіцыйным рэдактарам газеты «Наша воля», якую фактычна рэдагавалі сябры КПЗБ С. Малько і Т. Будкевіч. *Побаль Леанід* (нар. 1924) — археолаг, доктар гістарычных навук (1978).

45. *Аляксей Карпюк — Ларысе Геніюш* (с. 357). Магчыма, маецца на ўвазе журналіст і публіцыст *Мікола Панасюк* (нар. 1947).

47. *Янка Казека — Ларысе Геніюш* (с. 358). Змешчаныя ў альманаху лісты Я. Казекі друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 392). *Казека Янка* (нар. 1915) — крытык, літаратуразнавец, укладальнік зборнікаў пісьменніцкіх аўтабіяграфій.

48. *Алесь Траяноўскі — Ларысе Геніюш* (с. 358). Змешчаныя ў альманаху лісты А. Траяноўскага друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 586).

53. *Янка Казека — Ларысе Геніюш* (с. 361). *А адкладваць на наступную кнігу аўтабіяграфію не варта...* — напісаная па замове Я. Казекі аўтабіяграфія Л. Геніюш пры жыцці паэткі апублікаваная не была.

55. *Аляксей Карпюк — Ларысе Геніюш* (с. 362). *Упіт Андрэй* (1877–1970) — латышскі пісьменнік і грамадскі дзеяч, Герой Сацыялістычнай Працы, народны пісьменнік Латвійскай ССР (1967).

56. *Васіль Супрун — Ларысе Геніюш* (с. 363). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 573).

57. *Максім Танк — Ларысе Геніюш* (с. 363). *Таўлай Валянцін* (1914–1947) — паэт, дзеяч беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі.

58. *Ілья Гурскі — Ларысе Геніюш* (с. 364). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 356). *Гурскі Ілья* (1899–1972) — празаік, драматург; на той час супрацоўнік апарата Саюза пісьменнікаў.

59. *Максім Танк — Ларысе Геніюш* (с. 364). *Шырма Рыгор* (1892–1978) — беларускі харавы дырыжор, фалькларыст і грамадскі дзеяч, народны артыст СССР.

60. *Юльян Пшыркоў — Ларысе Геніюш* (с. 365). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 538). *Пшыркоў Юльян* (1912–1980) — беларускі літаратуразнавец, аўтар прадмовы да зб. Л. Геніюш «Невадам з Нёмана». *Гарбук Вісарыён* (1913–1986) — празаік; у 1936 г. быў арыштаваны, адбываў зняволенне на Калыме; пасля вызвалення жыў у Пяцігорску.

61. *Мікола Прашковіч — Ларысе Геніюш* (с. 365). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 535). *Канстанцінаў Фёдар* (1915–1991) — філосаф, публіцыст; відаць, маецца на ўвазе яго брашура «Аб паходжанні беларускага народа» (1946).

67. *Вісарыён Гарбук — Ларысе Геніюш* (с. 368). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 332). *Марціноўскі Пятро* (1932–2006) — настаўнік, краязнавец; жыў у мястэчку Дзярэчын на Зэльвеншчыне.

68. *Мікола Улашчык — Ларысе Геніюш* (с. 369). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 598). *Улашчык Мікола* (1906–1986) — беларускі гісторык, археолаг, доктар гістарычных навук (1964); жыў у Маскве.

69. *Яўгенія Янішчыц — Ларысе Геніюш* (с. 369). Змешчаныя ў альманаху лісты Я. Янішчыц друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 640). *Янішчыц Яўгенія* (1948–1988) — беларуская паэтка; на той час жонка паэта С. Панізніка.

70. *Раіса Жук-Грышкевіч — Ларысе Геніюш* (с. 370). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу, перададзенага ўкладальніку Янкам Запруднікам. *На ёй быў і бацька Галіны…* — маецца на ўвазе *Вітаўт Тумаш* (1910–1998) — гісторык, публіцыст, грамадскі дзеяч, адзін з рэдактараў газеты «Раніца». Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Нямеччыне і ЗША, займаўся пераважна скарыназнаўствам. *Kindergarten* (ням.) — дзіцячы садок.

71. *Уладзімір Караткевіч — Ларысе Геніюш* (с. 370). *Карым Мустай* (нар. 1919) — народны паэт Башкірыі (1963), Герой Сацыялістычнай Працы (1979). *Грошы на «Зорку» выдаткуйце смела…* — гаворка ідзе пра зборнік лірыкі *«Зорка Венера»* (1972).

72. *Зыгмунт Абрамовіч — Ларысе Геніюш* (с. 371). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 267). *Абрамовіч Зыгмунт* (сцэнічны псеўданім *Антон Забель*; 1892–1988) — актор тэатра Ігната Буйніцкага; пазней жыў у Злотаве (Польшча). *«Усё ж мілей за ўсіх была сівая бабулька…»* — эпіграфам да ліста паслужыў радок з верша Л. Геніюш «Дзед». *«Перайшло, мінула, што калісь было…»* — радкі з верша Я. Купалы «З мінуўшых дзён». *Natione polonus, gente rutenus* (лац.) — нацыянальнасцю паляк, родам русін.

73. *Яўгенія Янішчыц — Ларысе Геніюш* (с. 372). *Андрэйка* — сын Я. Янішчыц і С. Панізніка.

74. *Яўгенія Янішчыц — Ларысе Геніюш* (с. 373). *Трэба ехаць, і Сярожку там аднаму цяжка…* — С. Панізнік тады служыў у Савецкай арміі ў Чэхаславакіі.

76. *Яўгенія Янішчыц — Ларысе Геніюш* (с. 374). *Маэстра скардзіцца на сэрца…* — гаворка ідзе пра М. Забэйду-Суміцкага. *Арсеннева Наталля* (1903–1997) — паэтка. Выпускніца Віленскай беларускай гімназіі. У 1940–1941 гг. знаходзілася ў высылцы ў Казахстане, пазней жыла ў Мінску, працавала ў «Беларускай газеце». У 1944 г. пакінула Беларусь, жыла ў ЗША.

79. *Вацлаў Пануцэвіч — Ларысе Геніюш* (с. 377). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 521). *Пануцэвіч Вацлаў* (1910–1991) — дзеяч беларускай эміграцыі, гісторык, рэдактар часопіса «Беларуская царква»; жыў у Чыкага (ЗША). *Нікан Мікола* (1908–1999) — актывіст беларускага руху ў Аўстраліі. Падчас Другой сусветнай вайны служыў у арміі генерала Андэрса, пасля дэмабілізацыі жыў у Вялікай Брытаніі, з 1952 г. — у Аўстраліі.

80. *Мацей Юзаф Канановіч — Ларысе Геніюш* (с. 378). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 397). *Канановіч Мацей Юзаф* (1912–1986) — польскі пісьменнік, перакладчык беларускай паэзіі; яго продкі паходзілі з Гродзеншчыны.

81. *Язэп Найдзюк — Ларысе Геніюш* (с. 378). Змешчаныя ў альманаху лісты Я. Найдзюка друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 270). *Найдзюк Язэп* (1909–1984) — гісторык і грамадскі дзеяч, адзін з аўтараў кнігі «Беларусь учора і сяння» (1943); пасля вайны жыў у Польшчы пад прозвішчам *Александровіч*.

83. *Язэп Найдзюк — Ларысе Геніюш* (с. 380). *Александровіч Сцяпан* (1921–1986) — літаратуразнавец, доктар філалагічных навук (1972).

84. *Ніна Мацяш — Ларысе Геніюш* (с. 381). Змешчаныя ў альманаху лісты Н. Мацяш друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 484). *Лена ўжо ў Шчучыне…* — гаворка пра сястру Н. Мацяш.

86. *Янка Брыль — Ларысе Геніюш* (с. 382). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 291).

87. *Ніна Мацяш — Ларысе Геніюш* (с. 382). *Шымборска Віслава* (нар. 1923) — польская паэтка, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1996). Зборнік перакладаў Н. Мацяш «Свет варты вяртання» выйшаў у 1991 г.

91. *Фёдар Янкоўскі — Ніне Мацяш* (с. 384). Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 641).

92. *Ніна Мацяш — Ларысе Геніюш* (с. 384). *Высылаю Вам друкаваную ў «ЛіМе» рэцэнзію…* — маецца на ўвазе рэцэнзія Алеся Пісьмянкова на зб. «На чабары настоена» («Літаратура і мастацтва», 1982, 3 снежня).

## ШЛЯХІ І РАЗДАРОЖЖЫ
ДАСЛЕДАВАННІ І КРЫТЫЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

*Францішка Сокалава. Ларыса Геніюш і Прага* (с. 387). Упершыню ў выд.: «Беларуская дыяспара як пасрэдніца ў дыялогу цывілізацый: матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў (май 2000 г.)». — Мінск, 2001. *Сокалава Францішка* (нар. 1937) — супрацоўніца Славянскай бібліятэкі (Прага), перакладчыца беларускай паэзіі, скарыназнаўца. Закончыла філалагічны факультэт Карлавага ўніверсітэта па спецыяльнасці «руская, іспанская і чэшская мовы». Сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, ганаровы доктар Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта (2000). Пераклала на чэшскую мову творы ўкраінскага мысляра Р. Скаварады, рускага філосафа У. Салаўёва, зборнік вершаў М. Цвятаевай «Básník a car» (1992), кнігу выбранай паэзіі Рыгора Барадуліна «Źít!» (2006).

*Мікола Прашковіч. Шлях паэта* (с. 392). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 763). *Прашковіч Мікола* (1932–1983) — літаратуразнавец, крытык, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1965). Аўтар кнігі «Францішак Скарына — беларускі першадрукар» (1970). У 1974 г. быў звольнены з Інстытута літаратуры Акадэміі навук па абвінавачанні ў беларускім нацыяналізме. Працаваў грузчыкам у гастраноме, карэктарам газеты «Вячэрні Мінск». Апошнія гады жыў у роднай вёсцы Гарадзішча Бярэзінскага раёна, дзе трагічна загінуў пры пажары.

*Сцяпан Гаўрусёў. Выдавецкая рэцэнзія на рукапіс зборніка Л. Геніюш «На чабары настоена»* (с. 405). Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з архіва Л. Геніюш (ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, спр. 765). *Гаўрусёў Сцяпан* (1931–1988) — паэт, перакладчык, крытык. Пасля заканчэння Мінскай педагагічнай навучальні працаваў у рэдакцыі газеты «Звязда», у выдавецтве «Беларусь». Аўтар кніг «Паходныя кастры» (1955), «Крона» (1981), «Званы нябёс» (1988) ды інш.

## ГАВОРАЦЬ ДАКУМЕНТЫ
З АРХІВАЎ НЬЮ-ЁРКА І ПРАГІ

*[Тастамент Васіля Захаркі]* (с. 409). Друкуецца паводле копіі, перададзенай укладальніку сп. Я. Запруднікам. Арыгінал зберагаецца ў архіве Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку.

*Францішка Сокалава. Знаходкі ў пражскіх архівах* (с. 410). Прадмова напісаная адмыслова для альманаха «Асоба і час». *Уладзімір Быстроў… сёе-тое апублікаваў у 2003 г.* — маецца на ўвазе кніга: Bystrov V. Unosy Československých občanů do Sovetskeho Svazu v letech 1945–1955. Praga, 2003. Усе дакументы з пражскіх архіваў публікуюцца ў альманаху ў перакладзе на беларускую мову Алены Вострыкавай.

1. *[Хадайніцтва Ларысы Геніюш аб атрыманні пасведчання асобы]* (с. 411). Друкуецца ўпершыню паводле арыгінала, які зберагаецца ў Нацыянальным архіве Чэхіі (дырэкцыя паліцыі); 1941–1950; Г/310/1.

2. *[Пастанова аб наданні грамадзянства Янку і Ларысе Геніюшам]* (с. 411). Упершыню ў выд.: Геніюш Л. Выбраныя творы / укладанне, прадмова і каментар М. Скоблы. Мінск, 2000, с. 578. Арыгінал зберагаецца ў Нацыянальным архіве Чэхіі (дырэкцыя Міністэрства ўнутраных спраў, дзяржбяспека); 305-141-1.

3. *Службовая запіска [Міністэрства ўнутраных спраў Чэхаславакіі]* (с. 412). Друкуецца ўпершыню паводле арыгінала, які зберагаецца ў Нацыянальным архіве Чэхіі (дырэкцыя Міністэрства ўнутраных спраў); А 4617-1045.

4. *[Атрыманне Ларысай Геніюш пасведчання асобы]* (с. 412). Упершыню ў выд.: Геніюш Л. Выбраныя творы / укладанне, прадмова і каментар М. Скоблы. Мінск, 2000, с. 579. Арыгінал зберагаецца ў Нацыянальным архіве (дырэкцыя паліцыі); Г/310/1.

5. *[Атрыманне Янкам Геніюшам пасведчання асобы]* (с. 413). Друкуецца ўпершыню паводле арыгінала, які зберагаецца ў Нацыянальным архіве Чэхіі (дырэкцыя паліцыі); Г/310/8.

6. *Мемарандум [савецкіх уладаў аб выдачы Аляксандра Калошы, Янкі і Ларысы Геніюшаў]* (с. 413). Упершыню ў выд.: Геніюш Л. Выбраныя творы / укладанне, прадмова і каментар М. Скоблы. Мінск, 2000, с. 580. Арыгінал зберагаецца ў Нацыянальным архіве Чэхіі (дырэкцыя Міністэрства ўнутраных спраў); А 4617/1045.

7. *[Арышт Ларысы і Янкі Геніюшаў]* (с. 414). Друкуецца ўпершыню паводле арыгінала, які зберагаецца ў Нацыянальным архіве Чэхіі (дырэкцыя паліцыі); 1941–50, Г/310–1).

8. *[Скасаванне чэхаславацкага грамадзянства Янкі і Ларысы Геніюшаў]* (с. 414). Друкуецца ўпершыню паводле арыгінала, які зберагаецца ў Нацыянальным архіве Чэхіі (дырэкцыя паліцыі); 1941–50, Г/310–1).

9. *[Высвятленне працэдуры атрымання Аляксандрам Калошам, Янкам і Ларысай Геніюшамі чэхаславацкага грамадзянства]* (с. 415). Друкуецца ўпершыню паводле арыгінала, які зберагаецца ў Нацыянальным архіве Чэхіі (дырэкцыя прэзыдыума Міністэрства ўнутраных спраў); 1948, 225–1554–3.

10. *Арышт [Янкі і Ларысы Геніюшаў]* (с. 415). Друкуецца ўпершыню паводле арыгінала, які зберагаецца ў Нацыянальным архіве Чэхіі (дырэкцыя Міністэрства ўнутраных спраў, дзяржбяспека); 305–141–1.

11. *Службовая запіска [Міністэрства ўнутраных спраў Чэхаславакіі]* (с. 416). Друкуецца ўпершыню паводле арыгінала, які зберагаецца ў Нацыянальным архіве Чэхіі (дырэкцыя Міністэрства ўнутраных спраў, дзяржбяспека); 305-141-1.

12. *[Дэпартацыя Янкі і Ларысы Геніюш з тэрыторыі Чэхаславакіі]* (с. 416). Друкуецца ўпершыню паводле арыгінала, які зберагаецца ў Нацыянальным архіве Чэхіі (дырэкцыя Міністэрства ўнутраных спраў, дзяржбяспека); А 4617/1045.

*Слова развітання* (с. 418). Друкуецца паводле газ. «Літаратура і мастацтва», 1983, 15 красавіка.

# ЗМЕСТ



## «СВАЯ ТУГА, СВАЕ ШЛЯХІ Ў КРЫЛАТЫХ...»
## Творы Ларысы Геніюш



## ЛІСТЫ З ЗЭЛЬВЫ
## З эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш

## І ДУХУ МАГУТНЫЯ ЧАРЫ…
## Успаміны пра Ларысу Геніюш



## «ТАКІХ ЛЮДЗЕЙ БОГ СЕЕ НЯЧАСТА…»
## Лісты Ларысе Геніюш

## ШЛЯХІ І РАЗДАРОЖЖЫ
### Даследаванні і крытычныя матэрыялы



## ГАВОРАЦЬ ДАКУМЕНТЫ
### З архіваў Нью-Ёрка і Прагі

